АКАДЕМИЯ НАУК СССР

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ, ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

---

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1985

# ПРАДМОВА

Выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», якое з'яўляецца часткай Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР,— канкрэтнае ажыццяўленне палажэнняў Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР аб ахове помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей, закона СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» і адпаведнага Закона Беларускай ССР. «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — афіцыйны дакумент, які ўключае помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад дзяржаўную ахову.

Прапануемы чытачу том Збору помнікаў гісторыі і культуры Віцебскай вобласці складзены на аснове навуковага абследавання помнікаў, вывучэння першакрыніц і літаратуры аб часе, падзеях і людзях, якім яны прысвечаны.

Помнікі гісторыі і культуры Віцебскай вобласці — неад'емная частка культурнай спадчыны нашай краіны. Своеасаблівасць помнікаў вобласці звязана з яе геаграфічным размяшчэннем і гістарычнымі падзеямі, што тут адбываліся. Тэрыторыя Віцебшчыны неаднаразова была арэнай ваенных, палітычных і рэлігійных сутыкненняў. Мноствам падзей абумоўлена вялікая колькасць помнікаў, што іх увекавечваюць.

У том уключаны толькі нерухомыя помнікі, у іх ліку:

помнікі археалогіі — рэшткі старажытных пасяленняў, стаянкі, гарадзішчы, селішчы і гарады, старажытныя помнікі працоўнай дзейнасці чалавека, могільнікі, надмагільныя і рытуальныя збудаванні;

помнікі гісторыі — помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці людзей розных гістарычных фармацый, памятныя месцы і помнікі, звязаныя з дзяржаўным будаўніцтвам, з адлюстраваннем класавай барацьбы і барацьбы за незалежнасць, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, з абаронай сацыялістычнай Айчыны, з развіццём навукі, культуры, мастацтва;

помнікі архітэктуры — горадабудаўнічае мастацтва, жыллёвая, грамадзянская і культавая архітэктура, помнікі ваенна-абарончага дойлідства, прамысловай архітэктуры, інжынернага і садова-паркавага мастацтва, архітэктурныя манументы;

помнікі манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — манументальная скульптура, манументальны жывапіс, творы дэкаратыўнага мастацтва.

У выданне ўключаны ўсе ўцалелыя помнікі архітэктуры з часоў старажытнасці да сярэдзіны 19 ст., найбольш характэрныя для 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст. і даваеннага савецкага перыяду (1917—41 гг.), найлепшыя архітэктурныя збудаванні пасляваеннага часу (1950—80-я гг.), якія адлюстроўваюць дасягненні савецкай архітэктуры ў прамысловым, жыллёвым, грамадзянскім і сучасным сельскім будаўніцтве. У выданне не ўключаны помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва, якія не захаваліся. Яны разглядаюцца толькі пры агульнай характарыстыцы развіцця культуры вобласці, горада ці пэўнага архітэктурнага комплексу.

Кожнаму помніку прысвечаны артыкул, у якім дадзена характарыстыка яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Многія артыкулы праілюстраваны фотаздымкамі, чарцяжамі, схемамі, картамі. Том мае паказальнікі — імянны, геаграфічны, храналагічны, а таксама пералік бібліятэк, музеяў і архіваў вобласці з кароткім апісаннем іх фондаў.

Сістэматызацыя помнікаў у томе праведзена паводле тэрытарыяльнага прынцыпу — матэрыял размяшчаецца па раёнах (у алфавітным парадку іх назваў). Як самастойная тэрытарыяльная адзінка вылучаецца абласны цэнтр, звесткі пра які змешчаны ў пачатку тома. Унутры раёна першымі разглядаюцца матэрыялы пра адміністрацыйны цэнтр, а потым — пра помнікі іншых населеных пунктаў (у алфавітным парадку). Артыкулы пра помнікі аднаго населенага пункта падаюцца ў алфавітным парадку.

Даты, якія адносяцца да гісторыі дарэвалюцыйнай Расіі, да лютага 1917 г. даюцца звычайна ў

старым стылі; з 27 лютага (12 сакавіка) 1917 г. і да прыняцця новага стылю з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца ў двух стылях — старым і новым (апошні даецца ў дужках). Даты пачынаючы з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца па новым каляндарным стылі.

Том падрыхтаваны сектарам Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Навуковае апісанне помнікаў археалогіі зроблена Аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Шэраг артыкулаў напісаны аўтарамі іншых навуковых устаноў і ўстаноў культуры. У падрыхтоўцы да выдання тома, дапаўненні і ўдакладненні звестак пра помнікі і навуковым рэдагаванні матэрыялаў прымалі ўдзел супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выказваюць глыбокую ўдзячнасць партыйным і савецкім органам Віцебскай вобласці, актывістам Таварыства аховы помнікаў, а таксама прадстаўнікам навуковай грамадскасці рэспублікі за дапамогу кансультацыямі, парадамі і рэцэнзаваннем рукапісаў.




**УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 8 ЛЮТАГА 1967 г. ЗА АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У ПАРТЫЗАНСКІМ РУХУ, МУЖНАСЦЬ І ГЕРАІЗМ, ПРАЯЎЛЕНЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ Ў БАРАЦЬБЕ З НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ Ў ПЕРЫЯД ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, І ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ Ў АДНАЎЛЕННІ І РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ, ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ССР УЗНАГАРОДЖАНА ОРДЭНАМ ЛЕНІНА.**

# ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Раёны**

АРШАНСКІ
БЕШАНКОВІЦКІ
БРАСЛАЎСКІ
ВЕРХНЯДЗВІНСКІ
ВІЦЕБСКІ
ГАРАДОЦКІ
ГЛЫБОЦКІ
ДОКШЫЦКІ
ДУБРОВЕНСКІ
ЛЕПЕЛЬСКІ
ЛЁЗНЕНСКІ
МІЁРСКІ
ПАСТАЎСКІ
ПОЛАЦКІ
РАСОНСКІ
СЕННЕНСКІ
ТАЛАЧЫНСКІ
УШАЦКІ
ЧАШНІЦКІ
ШАРКОЎШЧЫНСКІ
ШУМІЛІНСКІ



Рыга
Рэзекне
Новасакольнікі
Вялікія Лукі
27°
28°
29°
30°
31°
56°
55°
54°
ЛАТВІЙСКАЯ ССР
ПСКОЎСКАЯ ВОБЛ.
ЛІТОЎСКАЯ ССР
МІНСКАЯ ВОБЛ.
МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛ.
СМАЛЕНСКАЯ ВОБЛ.
ДАЎГАЎПІЛС
КРАСЛАВА
ІЛУКСТЭ
ЗАРАСАЙ
Турмантас
ДУКШТАС
Паневежыс
Швянчоняляй
Лынтупы
Мелагенай
Аглана
Дагда
Шпогі
Вабале
Малінаўка
Ізвалта
Індра
НЕВЕЛЬ
Аляксандрава
Парэчча
Успенскае
Сіверст
Ловец
Арцёмава
Шаркаўшчына
Усвяты
Усмынь
ВЕЛІЖ
Бялява
Панізоўе
Каспля
РУДНЯ
Смаленск
Любавічы
Асвея
Сенькава
Чапаеўскі
Юхавічы
Расоны
Гарбачова
Забор'е
Сар'я
Кахановічы
Марачкова
Бігосава
ВЕРХНЯДЗВІНСК
Клясціцы
Бірузова
Дворышча
Гурычына
Краснаполле
Янкавічы
Езярышча
Гуркі
Марчанкі
Газьба
Халамер'е
Мяжа
Хмяльнікі
Друя
Плюсы
Дрыса
Дрысвяты
Сілене
Мяжаны
Браслаў
Зарачча
Слабодка
Перабродзе
Шайтарава
Адамова
Беркавічы
Азіна
Зялёнка
Палата
Мал. Сітна
Труды
Пралетарск
Бычыха
Вярэчча
Стадолішча
Канашы
Заполле
Опса
Ахрэмаўцы
МІЁРЫ
Туркова
ДЗІСНА
Баравуха 1-я
НАВАПОЛАЦК
ПОЛАЦК
Экімань
Саланік
Равічы
Гараны
Суражы
Вайханы
ГАРАДОК
Пальмінка
Суран
Далёкія
Ідолта
Цяцеркі
Дворнае Сяло
Новы Пагост
Мікалаева
Астроўшчына
Завуцце
Рудня
Ветрына
Заазер'е
Мішневічы
Прудзінікі
Курына
Задуброўе
Відзы
Едзы
Більдзюгі
Ручай
Германавічы
Язна
Нача
Обаль
Сіроціна
Шуміліна
Пестуніца
Мазалава
Руба
Казяны
Шаркоўшчына
Буйкі
Шкунцікі
Станіслававa
Лужкі
Карасі
Прazarокі
Вароничы
Бабынічы
Тамаўл
Лявонава
Мікіціха
Глыбачка
Мікалаева
Дабея
Язвіна
Лётцы
ВІЦЕБСК
Вароны
Янавічы
Вымна
Кавалі
Бельки
Курaполле
Казлоўшчына
Узрэчча
Залессе
Вязкі
Лутава-Сяльцо
Вяркуды
Ула
Ярэва
Варапаева
Палессе
ПАСТАВЫ
Юнкі
Дварчаны
Мягуны
Камаі
Савічы
Узгора
ГЛЫБОКАЕ
Азерцы
Псуя
Ушачы
Крывое Сяло
Астроўна
Ноўка
Акцябрская
Веляшковічы
Стасева
Яськаўшчына
Карабы 2-я
Ваўкі
Дунілавічы
Абруб
Падсвілле
Кублічы
Селішча
Галубічы
Вял. Дольцы
Жары
Мосар
Суша
Сокарава
Бешанковічы
Сорж
Пліса
Замасточча
Крынкі
Лёзна
Кругелішчына
Порплішча
Валказата
Сотцы
Тумілавічы
ДОКШЫЦЫ
Паралф'янава
Крупилі
Бягомль
Бярозкі
Вераліна
Заазер'е
Пышна
Стаі
ЛЕПЕЛЬ
Чашнікі
Акцябрскі
Іванск
Баброва
Верхоўе
Рубеж
Вярхоўе
Ходцы
Машканы
Белая Ліпа
Шапечына
Багушэўск
Бабінавічы
Дабрамыслі
Белы Бор
Запрудзе
Сянно
Студёнка
Алексінічы
Клюкаўка
Асінторф
Рэдзькі
Слабада
Домжарыцы
Лукомль
Нов. Зара
Латыгаль
Красналукі
НОВАЛУКОМЛЬ
Чарэя
Ульянавічы
Нямойта
Стар. Беліца
Какоўчына
Расна
Межава
Стайкі
Высокае
Арэхаўск
Валаўкі
Мал. Савіна
ДУБРОЎНА
Пігалева
Абольцы
Валосава
Алёнавічы
Задроўе
Забалацце
Смаляны
ОРША
Крапіўна
Зарубы
Баева
Дабрынь
Кляны
Панізоўе
Баравуха
БАРАНЬ
Вусце
Зубава
Белева
Азерцы
Плоскае
ТАЛАЧЫН
Ноханава
Воўкавічы
Жукнева
Сава
Макараўка
Якаўлевічы
ГОРКІ
Нарач
Свір
Мядзел
Дзягілі
Будслаў
Даўгінава
Жары
Задор'е
Мсціж
Майсееўшчына
Янаушчына
Абчуга
Халопенічы
Бродаўка
Зачыстце
Ігрушка
Бобр
Крупкі
Лошніца
Нача
БАРЫСАЎ
Слівін
Выдрыца
Цяцерына
Чарнаручча
Шапялевічы
Дзмітравічы
Зялёны Бор
Ланькава
Палыкавічы 1-я
Заходы
Карроўчына
Слаўнае
Круглае
Копысь
Тройца
ШКЛОЎ
Гарадзішча
Аўсянка
Дрыбін
Крычаў
Магілёў
Дзвіна
Дзісна
Ула
Дняпро
Бярэзіна
воз. Нарач
воз. Мядзел
воз. Лукомскае
воз. Асвейскае
НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
па колькасці жыхароў
ад 100 000 да 500 000
ад 50 000 да 100 000
ад 10 000 да 50 000
менш за 10 000
па адміністрацыйнаму значэнню
ВІЦЕБСК цэнтр вобласці
цэнтры раёнаў
цэнтры сельскіх Саветаў
па тыпу паселішча
ДАЎГАЎПІЛС Горад рэспубліканскага падпарадкавання
ПОЛАЦК Горад абласнога падпарадкавання
БРАСЛАЎ Гарады раённага падпарадкавання
Ушачы Пасёлкі гарадскога тыпу
Палата Сельскія населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
саюзных рэспублік
абласцей
раёнаў
ШЛЯХІ ЗНОСІН
Чыгункі
Бязрэйкавыя дарогі
агульнадзяржаўнага значэння
іншыя
МАШТАБ км 15 0 15 30 45 км

# УВОДЗІНЫ

Віцебская вобласць размешчана на поўначы Беларускай ССР у сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны і вярхоўі Дняпра. На ўсходзе мяжуе са Смаленскай, на поўначы — з Пскоўскай абласцямі РСФСР, на паўночным захадзе — з Латвійскай, на захадзе — з Літоўскай ССР, на паўднёвым захадзе — з Гродзенскай, на поўдні — з Мінскай і Магілёўскай абласцямі БССР. Утворана 15.1.1938 г. Плошча 40,1 тыс. км². Насельніцтва 1394,7 тыс. чалавек (1984 г.). Цэнтр вобласці — г. Віцебск. Уключае: 21 раён — Аршанскі, Бешанковіцкі, Браслаўскі, Верхнядзвінскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Дубровенскі, Лепельскі, Лёзненскі, Міёрскі, Пастаўскі, Полацкі, Расонскі, Сенненскі, Талачынскі, Ушацкі, Чашніцкі, Шаркоўшчынскі, Шумілінскі; 19 гарадоў, у т. л. 5 абласнога падпарадкавання — Віцебск, Лепель, Навапалацк, Орша, Полацк; 24 гарадскія і 2 рабочыя пасёлкі.

Тры чвэрці тэрыторыі вобласці займаюць азёрна- і водна-ледавіковыя нізіны і ўзгорыстыя раўніны з пласкахвалістым марэнным рэльефам, ускладненым марэннымі астанцамі, дзюнамі, азёрнымі катлавінамі. У цэнтральнай частцы і на захадзе вобласці Полацкая, на паўночным усходзе Суражская і на ўсходзе Лучоская нізіны. На поўдні ў вярхоўях Бярэзіны і Віліі — Верхнебярэзінская нізіна і паўночна-ўсходняя частка Нарачана-Вілейскай нізіны з затарфаванымі катлавінамі і ўчасткамі марэнных град. Уздоўж паўднёвай мяжы вобласці з захаду на ўсход цягнуцца Свянцянскія грады, Кубліцкае і Лукомскае ўзвышшы, Чашніцкая раўніна, Аршанскае і заходняя частка Смаленскага ўзвышшаў. На ўсходзе вобласці ўзгорыста-марэннае Віцебскае ўзвышша (з найвышэйшым пунктам вобласці 295 м — гарой Горшава), на паўночным захадзе ад яго — Гарадоцкае. Уздоўж паўночна-заходняй і паўночнай граніц вобласці цягнуцца невысокія марэнныя Браслаўская і Асвейская грады, а таксама Нешчардаўскае ўзвышша.

Рэкі належаць да басейнаў Балтыйскага (Заходняя Дзвіна з прытокамі) і Чорнага (Дняпро з прытокамі) мораў. Галоўная суднаходная артэрыя вобласці Заходняя Дзвіна мае прытокі Усвяча, Лужасянка, Обаль, Сосніца, Палата, Дрыса, Сар'янка (справа), Каспля, Лучоса, Уша, Ушача, Дзісна, Друйка (злева). У межах вобласці суднаходны Дняпро. На тэрыторыі Віцебшчыны бяруць пачатак яго прытокі р. Бярэзіна і Друць, а таксама р. Ловаць (упадае ў воз. Ільмень). Па колькасці і плошчы азёр (каля 2,8 тыс.; пераважна ледавіковага паходжання) вобласць займае 1-е месца ў рэспубліцы; з іх найбольшыя Асвейскае, Лукомскае, Дрывяты, Нешчарда, Снуды, Езярышчы, Лісна, Богінскае, Струста.

Лясы займаюць 34 % тэрыторыі. Найбольш лясоў на поўначы Полацкай нізіны і паўднёвым захадзе вобласці, у вярхоўі Бярэзіны. На тэрыторыі вобласці — Бярэзінскі біясферны запаведнік.

Археалагічныя знаходкі сведчаць, што тэрыторыя вобласці заселена чалавекам у эпоху мезаліту (9 — 5-е тысячагоддзі да н. э.). Гэты перыяд характарызаваўся распаўсюджаннем лука і стрэл, прылад працы, якімі секлі, паяўленнем мікралітаў (дробных крамянёвых прылад працы), развіццём рыбалоўства, драбленнем абшчын і складваннем плямён. З выкарыстаннем лука і стрэл пашырылася індывідуальнае паляванне пры захаванні загоннага. Характэрныя помнікі таго часу — стаянкі, размешчаныя пераважна на высокіх тэрасах карэнных берагоў вялікіх рэк і шматлікіх азёр (Крумплева і Пятроўцы Полацкага р-на, Надазер'е Глыбоцкага р-на і інш.). Некаторыя з іх адносяцца да нёманскай мезалітычнай культуры. Пры раскопках знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл вербалістай формы, скрабкі, разцы, нажападобныя пласціны, мікралітычныя ўкладышы да састаўных прылад працы і зброі. Асноўным заняткам насельніцтва было паляванне, вялікае значэнне мелі рыбалоўства і збіральніцтва. Мезалітычныя плямёны, што засялялі поўнач Беларусі, складаліся з некалькіх мацярынскіх абшчын, аб'яднаных паміж сабой кроўнымі сувязямі. Развіццё гаспадаркі і новых форм грамадскай арганізацыі (станаўленне плямён, умацаванне парнай сям'і) падрыхтавалі пераход да эпохі неаліту.

Новы каменны век (неаліт) на тэрыторыі Віцебшчыны пачаўся ў 4-м тысячагоддзі да н. э. Для яго характэрна паяўленне глінянага ляпнога посуду, авалоданне ў канцы эпохі навыкамі жывёла-

гадоўлі і земляробства. Спрыяльны клімат, вынаходства новых і ўдасканаленне старых прылад працы, паяўленне земляробства і жывёлагадоўлі прывялі да павелічэння сродкаў існавання і росту насельніцтва. У неаліце тэрыторыю вобласці насялялі плямёны нарвенскай культуры (мясцовы варыянт; ніжнія пласты стаянак Галоўск Сенненскага р-на, Асавец Бешанковіцкага р-на). Яны выраблялі вастрадонны гліняны (з дамешкамі тоўчаных ракавін у цесце) ляпны посуд, прылады працы з рогу, крэменю і косці. У сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. з паўднёвай Прыбалтыкі на тэрыторыю Віцебшчыны праніклі плямёны культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі, адметная адзнака якой — выраб таўстасценных яйцападобных гаршкоў, арнаментаваных глыбокімі ямкамі і адбіткамі шыраказубага грэбеня. Найбольш вядомыя помнікі гэтай культуры — стаянкі на беразе воз. Бярэшча (Лепельскі р-н) і на р. Свольна (Верхнядзвінскі р-н).

У 1-й палавіне 2-га тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі вобласці пачаўся бронзавы век. Галоўным яго зместам было развіццё жывёлагадоўлі і земляробства, пашырэнне абмену, паступовая замена мацярынска-родавых адносін патрыярхальнымі. Адсутнасць на тэрыторыі Беларусі старажытных цэнтраў металургіі абумовіла выкарыстанне тут больш працяглы час каменных прылад працы, апрацоўка якіх дасягнула высокай дасканаласці (шліфаваныя сякеры, кінжалы, наканечнікі коп'яў і інш.). У гэты перыяд на тэрыторыю паўночнай Беларусі пранікл плямёны культуры шнуравой керамікі, якія сяліліся абапал водных шляхоў. Іх уплыў на мясцовае неалітычнае насельніцтва прасочваецца па кераміцы з верхніх пластоў паселішчаў Галоўск 1, 2, 3 (Сенненскі р-н) і Асавец 2 (Бешанковіцкі р-н). Посуд побач з неалітычнымі прыкметамі (вастрадоннасць, порыстасць сценак, арнаментацыя) набыў прыкметы, характэрныя для бронзавага веку (пласкадоннасць, арнаменты ў выглядзе адбітка шнура і наразных ліній). Насельніцтва карысталася касцянымі, рагавымі і крамянёвымі прыладамі працы і зброяй (наканечнікі стрэл і дроцікаў, нажы, кінжалы, долаты, цёслы, сякеры, гарпуны, рыбалоўныя кручкі і інш.), вырабляла ўпрыгожанні і прадметы мастацтва — падвескі з бурштыну і зубоў жывёл, касцяныя пласцінкі, фігуркі жывёл, птушак і людзей. Знаходкі ў верхніх пластах паселішчаў Галоўск і Асавец (матыкі, семя лёну, косці свойскіх жывёл) сведчаць аб развіцці земляробства і жывёлагадоўлі. У бронзавым веку тут склалася своеасаблівая паўночнабеларуская культура, заснаваная на мясцовых неалітычных традыцыях.

Развіццё жывёлагадоўлі і земляробства прывяло да павышэння прадукцыйнасці працы, утварэння лішкаў прадуктаў. Вылучаліся абшчыны, якія мелі лепшыя землі і выганы, запасы збожжа і большыя статкі жывёлы. Абшчыны, што жылі ў месцах пакладаў крэменю, пачалі збываць яго ў абмен на розныя рэчы і прадукты. У найбольш выгадным становішчы былі плямёны, якія насялялі басейны рэк, што служылі менавымі шляхамі. У родавых абшчынах узнікла маёмасная няроўнасць, паявіліся бедныя і багатыя сем'і, родавая арыстакратыя. Асноўныя крыніцы вытворчасці прадуктаў сканцэнтраваліся ў руках мужчын; да іх перайшло і першынство ў грамадскіх адносінах — склаўся патрыярхальна-родавы лад.

У 7 ст. да н. э. на тэрыторыі Віцебшчыны пачаўся жалезны век. Металургія жалеза, ляднае земляробства забяспечылі рэгулярнае атрыманне прыбавачнага прадукту, што паскорыла працэс распаду першабытнаабшчынных адносін.

У 1-й палавіне 1-га тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі паўночнай Беларусі ўтварылася культура ўсходне-балцкіх плямён, якая атрымала назву днепра-дзвінскай. Асноўным тыпам яе паселішчаў былі ўмацаваныя пасяленні — гарадзішчы, якія размяшчаліся на ледавіковых астанцах — узгорках (Замошша, Гаравыя, Дзявічкі Полацкага р-на, Пруднікі, Панізова Міёрскага р-на) і на мысах карэнных берагоў рэк і азёр (Паддубнікі Міёрскага р-на, Бораўна Лепельскага р-на). Час узнікнення культуры (8—7 стагоддзі да н. э.) вызначаецца знаходкамі на гарадзішчах касцяных вырабаў (шпілек), зробленых паводле бронзавых узораў, а канец яе (4 — пачатак 5 ст. н. э.) — па комплексу жалезных рэчаў. Храналагічна культура падзяляецца на 3 перыяды. На раннім этапе (8—7 стагоддзі да н. э. — 5 ст. да н. э.) насельніцтва не ўмацоўвала паселішчаў, будавала падоўжаныя наземныя жытлы слупавой канструкцыі памерам 2,5—3×7—8 м. Яно вырабляла прылады працы і зброю з косці, рогу і каменю, ляпны гладкасценны слоікападобны і слабапрафіляваны посуд, займалася жывёлагадоўляй, паляваннем і рыбалоўствам. Земляробства мела дапаможны характар (Замошша Полацкага р-на, Урагава Верхнядзвінскага р-на). На сярэднім этапе (4 ст. да н. э. — 1 ст. н. э.) насельніцтва ўмацоўвала паселішчы кальцавымі і дугападобнымі валамі, будавала наземныя жытлы слупавой канструкцыі з асобнымі памяшканнямі і агнішчамі ў цэнтры. Разам з касцянымі прыладамі працы ўжываліся жалезныя, вырабляўся ляпны слоікападобны і слабапрафіляваны посуд з арнаментам пераважна ў выглядзе пракрэсленых косых ліній. Асноўным заняткам плямён стала жывёлагадоўля (Паддубнікі Міёрскага р-на). На познім этапе (1 ст. н. э. — пачатак 5 ст. н. э.) пляцоўкі і схілы гарадзішчаў умацоўваліся складанай сістэмай валоў з драўлянымі канструкцыямі і равоў, будаваліся невялікія наземныя жытлы чатырохвугольнай формы, пашырыліся жалезныя прылады працы і зброя. Сярод слабапрафіляванага посуду паявіліся гаршкі з падоўжанай формай венчыка. Вядучымі галінамі гаспадаркі сталі ляднае земляробства і жывёлагадоўля.

На тэрыторыі паўднёвых і часткова заходніх раёнаў вобласці з 7 ст. да н. э. жылі ўсходне-балцкія плямёны культуры штрыхаванай керамікі, якія мелі агульныя з днепра-дзвінскімі плямёнамі рысы гаспадаркі і матэрыяльнай культуры. У першы перыяд (7—5 стагоддзі да н. э.) насельніцтва будавала адкрытыя паселішчы на нізкіх месцах па берагах рэк і азёр. Больш позні паселішчы, што адносяцца да трох апошніх стагоддзяў да н. э., размяшчаліся на добра ахаваных прыроднымі ўмовамі месцах і дадаткова абгароджваліся па краі пляцовак драўлянай сцяной (гарадзішча Аўгустова Лепельскага р-на). Жалезныя прылады працы ў плямён культуры штрыхаванай керамікі паявіліся ў 5—3 стагоддзях да н. э. і спачатку нязначна ўплывалі на гаспадарчую дзейнасць. Асноўным заняткам насельніцтва былі рыбалоўства і паляванне, а земляробства і жывёлагадоўля мелі другараднае значэнне. У апошні перыяд (1—5 стагоддзі н. э.), у сувязі з шырокім укараненнем у вытворчасць жалезных прылад, павялічылася прадукцыйнасць працы ў лядным земляробстве і рамястве, а жывёлагадоўля і земляробства ператварыліся ў найважнейшую крыніцу існавання плямён; узніклі новыя, добра ўмацаваныя для таго часу гарадзішчы (Куляшы Лепельскага р-на, Старое Запонне Докшыцкага р-на).

Да 5—6 стагоддзяў плямёны днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур знаходзіліся на апошняй стадыі развітога патрыярхальна-родавага ладу. У далейшым пачаўся распад патрыярхальнасямейнай абшчыны і зараджэнне тэрытарыяльнай сельскай абшчыны. Адным з праяўленняў гэтага працэсу быў пераход ад умацаваных паселішчаў (гарадзішчаў) да адкрытых і паяўленне невялікіх жытлаў на адну сям'ю.

У 6—8 стагоддзях тэрыторыю Віцебшчыны насялялі ўсходне-балцкія плямёны культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Асноўны тып іх пасяленняў — адкрытыя паселішчы, толькі частка гарадзішчаў выкарыстоўвалася як сховішчы. Жытлы будаваліся наземныя, аднакамерныя, разлічаныя на адну сям'ю. Характэрныя помнікі гэтага часу — селішчы (Варганы Докшыцкага р-на, Заронава, Старое Сяло, Лужасна Віцебскага р-на), гарадзішчы-сховішчы (Жаўнерава Віцебскага р-на, Новы Болецк Гарадоцкага р-на), бескурганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення, доўгія, падоўжаныя і круглыя курганы (Янкавічы, Рудня Расонскага р-на, Дарахі Гарадоцкага р-на).

У 2-й палавіне 1-га тысячагоддзя на тэрыторыю Віцебшчыны пранікаюць славянскія плямёны крывічоў, якія да канца 1-га тысячагоддзя асімілявалі мясцовае балцкае насельніцтва. Толькі на захадзе вобласці (беларуска-літоўска-латышскае памежжа) жыло змешанае славяна-балцкае насельніцтва. Характэрнымі племяннымі адзнакамі, якія даюць магчымасць удакладніць граніцу рассялення крывічоў, з'яўляюцца бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. Археалагічныя помнікі — гарадзішчы, селішчы, доўгія і круглыя курганы з пахавальным абрадам на раннім этапе трупаспалення, на познім — трупапалажэння.



*Барысаў камень каля былой вёскі Накоўнікі Верхнядзвінскага раёна.*

У 7—9 стагоддзях у сацыяльных адносінах крывічы — саюз плямён, у рамках якога фарміраваліся класы, дзяржаўнасць («княжанне»), народнасць. «Аповесць мінулых часоў» называе крывічоў, што жылі на сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны, палачанамі. Яны стварылі адно з ранніх тэрытарыяльна-палітычных аб'яднанняў з цэнтрам у Полацку.

Пераход ад першабытнаабшчыннага ладу да феадальнага ў плямён, якія засялялі тэрыторыю Беларусі, адбываўся ў 6—9 стагоддзях. З развіццём прадукцыйных сіл на змену ляднаму прыйшло ворнае земляробства. Узнікла адасобленая гаспадарка малой сям'і, развівалася прыватная ўласнасць, што прывяло да стварэння сельскай тэрытарыяльнай абшчыны, у аснове якой ляжалі эканамічныя сувязі. Узмацнілася маёмаснае расслаенне насельніцтва, усталёўвалася феадальная ўласнасць на зямлю. Рамяство аддзялілася ад сельскай гаспадаркі. Познія гарадзішчы ўяўлялі сабой умацаваныя сядзібы феадалаў — «грады».

У 2-й палавіне 9 ст. тэрыторыя Віцебшчыны ўвайшла ў склад старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. У яе межах сваяцкія ўсходне-славянскія плямёны складаліся ў адзіную старажытнарускую народнасць, што было абумоўлена іх аднолькавымі эканамічнымі сувязямі, этнічнай, тэрытарыяльнай, палітычнай, культурнай і моўнай агульнасцю. Гэтаму спрыяла і прыняцце ў 988—989 гг. хрысціянства.

У 10 ст. ўтварылася Полацкае княства, якое займала тэрыторыю сучасных Віцебскай, паўночныя часткі Мінскай і Магілёўскай абласцей. Зручнае геаграфічнае становішча ў басейнах Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, Нёмана садзейнічала развіццю самастойнай эканомікі і культуры Полацкай зям-

лі, устанаўленню яе шырокіх гандлёвых сувязей з шэрагам краін Захаду і Усходу і з Паўднёвай Руссю. Паглыбленне грамадскага падзелу працы абумовіла ўзнікненне і хуткае развіццё гарадоў. «Аповесць мінулых часоў» упершыню ўпамінае Полацк пад 862 годам, з 2-й палавіны 10 ст. вядомы Віцебск. Паводле пісьмовых крыніц, існавалі гарады: Копысь (1059 г.), Браслаў (1065 г.), Орша (1067 г.), Друцк (1078 г.), Лукомль (1078 г.). Гарады, дзе канцэнтраваліся рамёствы і гандаль, сталі цэнтрамі эканомікі і культуры. У Полацку ў 10—13 стагоддзях былі пашыраны кавальскае, гарбарнае, шавецкае, ювелірнае і інш. рамёствы, у Копысі ў 12 ст.— касцярэзнае рамяство.

Улада ў Полацкім княстве належала самастойнай княжацкай дынастыі — Рагвалодавічам. Найвышэйшай магутнасці княства дасягнула ў 2-й палавіне 11 ст. пры Усяславе Брачыславічу [1044—1101 гг.], яно стала галоўным канкурэнтам Кіева, ваявала ў 1065 г. з Псковам, у 1066 г. з Ноўгарадам, у 1078 г. з Смаленскам. Пасля смерці Усяслава з Полацкага княства вылучыліся ўдзельныя княствы: у 1-й палавіне 12 ст. Ізяслаўскае і Мінскае, у 2-й палавіне 12 ст. Друцкае, Віцебскае, Лагожскае і інш. Палітычнае жыццё княства ў гэты час характарызавалася барацьбой баярскіх групоўвак, зменай князёў, выступленнямі гараджан. Вялікае палітычнае значэнне набыло полацкае веча, дзейнасць якога феадальная знаць накіроўвала ў сваіх інтарэсах.

Феадальныя міжусобіцы і палітычную раздробленасць заходніх зямель Русі імкнуліся выкарыстаць нямецкія феадалы, якія ў канцы 12 — пачатку 13 ст. прыступілі да планамернага заваявання Прыбалтыкі. У 1201 г. яны пабудавалі ў вусці Заходняй Дзвіны крэпасць Рыгу, заснавалі рыцарскі ордэн, які з 1237 г. атрымаў назву Лівонскага. Палачане разам з суседнімі прыбалтыйскімі народамі вялі цяжкую барацьбу супраць нямецкіх рыцараў, што нападалі на размешчаныя ў ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны залежныя ад Полацка гарады-замкі Герцыке і Кукенойс, а ў 1-й палавіне 13 ст. захапілі іх. Палачане ўдзельнічалі ў разгроме наўгародскімі дружынамі шведскіх захопнікаў на Няве ў 1240 г., у 1242 г. ў бітве на Чудскім возеры, дзе рускія войскі на чале з Аляксандрам Неўскім разграмілі войскі Лівонскага ордэна.

У Полацкім княстве высокага ўзроўню дасягнула культура. Развіваліся пісьменнасць, архітэктура, прыкладное мастацтва, жывапіс. У Полацку пры Спаса-Праабражэнскім манастыры дзейнічала школа, створаны першы на Беларусі літаратурны біяграфічны твор «Жыціе Ефрасінні Полацкай» і першы гістарычны твор — Полацкі летапіс, прысвечаны, як мяркуюць даследчыкі, гісторыі Полацкай зямлі. У 13 ст. створана Аршанскае, у 13—14 стагоддзях Полацкае, у 1-й палавіне 14 ст. Друцкае евангеллі. Знойдзеная ў 1959 г. ў Віцебску берасцяная грамата 13—14 стагоддзяў сведчыць пра пашырэнне пісьменнасці і сярод гандлёва-рамесніцкага насельніцтва гарадоў.

З сярэдзіны 13 ст. Полацкая і Віцебская землі знаходзіліся пад уплывам Літвы. У 1-й чвэрці 14 ст. яны ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага (Полацк у 1307 г., Віцебск у 1320 г.), дзе захавалі прывілеяванае, у параўнанні з іншымі беларускімі землямі, дзяржаўна-прававое становішча. Вярхоўная ўлада ставіла тут сваіх васалаў — князёў, але гарантавала тэрытарыяльную непадзельнасць, недатыкальнасць уладанняў беларускіх феадалаў і мяшчан, іх правы і прывілеі. У 1390-я г. ўдзельныя княствы на беларускіх землях ліквідаваны, у т. л. Полацкае і Віцебскае, функцыі цэнтральнай улады перададзены намеснікам вялікага князя. Адначасова ўстаўныя граматы вялікага князя замацоўвалі пэўную аўтаномію Полацкай і Віцебскай зямель, палітычны, сацыяльны і прававы парадак, які склаўся тут раней. Пацвярджальныя граматы, якія захоўвалі або пашыралі прывілеі, Полацкая і Віцебская землі неаднаразова атрымлівалі ў 15, 16, 17 стагоддзях.

Пагроза агрэсіі Тэўтонскага ордэна прымусіла Вялікае княства Літоўскае ў 1385 г. заключыць саюз з Польшчай — Крэўскую унію. Яна разам з Віленска-Радамскай уніяй 1401 г. адыграла важную ролю ў падрыхтоўцы разгрому крыжакоў у час Грунвальдскай бітвы 1410 г. Але паводле ўмоў Крэўскай уніі Вялікае княства Літоўскае трацiла сваю дзяржаўную самастойнасць, што выклікала незадаволенасць феадалаў. Супраць вялікага князя Ягайлы, каранаванага на польскі трон, у 1386 г. выступіў князь Андрэй Альгердавіч (Полацкі) з саюзнікам смаленскім князем Станіславам Іванавічам. Іх войскі занялі Полацк, Дрысу, Друю, Лукомль, асадзілі Віцебск, Оршу, Мсціслаў, аднак пацярпелі паражэнне. У 1432—39 гг. ішла дынастычная барацьба (так званае паўстанне Свідрыгайлы) паміж вялікімі князямі літоўскімі Свідрыгайлам, пры якім павялічыўся палітычны ўплыў у дзяржаве праваслаўных беларускіх, рускіх і ўкраінскіх феадалаў, і стаўленікам літоўскіх і польскіх феадалаў Жыгімонтам Кейстутавічам. Свідрыгайла ў час паўстання апіраўся на праваслаўных феадалаў і гараджан Полацкай, Віцебскай і іншых зямель. Кароль Ягайла і вялікі князь Жыгімонт, каб звузіць сацыяльную базу паўстання, вымушаны былі прывілеямі 1432 і 1434 гг. пашырыць маёмасныя і асабістыя правы праваслаўных феадалаў. У 1436 г. Жыгімонт пасля доўгай асады авалодаў Полацкам і Віцебскам.

У 1504 г. на тэрыторыі сучаснай вобласці створаны Полацкае (найбольшыя населеныя пункты — Асвея, Бешанковічы, Ветрына, Глыбокае, Дзісна, Кублічы, Лепель, Лукомль, Себеж, Ула, Ушачы, Чашнікі), у 1506 г.— Віцебскае (Віцебскі і Аршанскі паветы) ваяводствы. Прадстаўнікамі цэнтральнай улады тут былі ваяводы і старосты, якія прыносілі прысягу мясцовым феадалам.

З 14 ст. наглядаўся рост гарадоў, асновай іх эканамічнага жыцця былі рамёствы і гандаль. Полацк і Віцебск заставаліся буйнейшымі гарадамі на Беларусі. Рысы гандлёва-рамесных цэнтраў набылі Орша і Копысь. Віды развітых у гарадах рамёстваў можна прасачыць на прыкладзе Полацка. У канцы 15—16 стагоддзяў тут працавалі залатары (ювеліры), рымары, сёдзельнікі, рукавічнікі, кавалі, сырамятнікі, шаўцы, ганчары, сталяры, піваварьі, краўцы, слесары, кажамякі, цеслі, муляры, драгалі, скрыннікі, рэзнікі і інш. У горадзе будавалі і рамантавалі гандлёвыя судны. Больш рэгулярнымі сталі знешнія гандлёвыя сувязі. Для іх пашырэння важнае значэнне мелі дагаворы Полацка з Рыгай (1330, 1338, 1399, 1405—06 гг.), Вялікага княства Літоўскага з Цвер'ю (1427 г.), Ноўгарадам (1431, 1440 гг.), Псковам (1440 г.). Сталы характар набываў гандаль з Польшчай і іншымі краінамі Еўропы.

Развіццю рамёстваў, гандлю, фарміраванню мяшчанскага саслоўя ў гарадах садзейнічала магдэбургскае права. У 1498 г. яго атрымаў Полацк, 1500 г. — Браслаў (няпоўнае), 1569 г. — Дзісна, 1576 г. — Сураж, 1577 г. — Ула, 1597 г. — Віцебск, 1620 г. — Орша, Копысь і інш. У гэтых гарадах створаны выбарныя органы самакіравання — магістраты, жыхары вызваляліся ад феадальных павіннасцей, ад суда і ўлады ваяводаў і старостаў. Вядучую ролю ў эканамічным і грамадска-палітычным жыцці гарадоў адыгрывалі феадальна-купецкія вярхі, вышэйшае духавенства.

Большасць насельніцтва Віцебшчыны складала феадальна-залежнае сялянства. Паводле прававога становішча ў 14—16 стагоддзях яно падзялялася на асабіста залежнае ад феадалаў (людзей «непахожых» і тых, якія мелі фармальнае права пакінуць феадала (людзей «пахожых»). Галоўнымі формамі феадальнай рэнты на Віцебшчыне былі натуральны аброк (чацвёрты сноп) ці паншчына (2 дні на тыдзень), у 17 ст. пераважала грашовая рэнта. На вялікакняжацкіх землях, падзеленых з канца 16 ст. на староствы і эканоміі, жылі так званыя дзяржаўныя сяляне, якія выконвалі павіннасці на карысць вялікага князя, падпарадкоўваліся арандатарам і феадальнай адміністрацыі. Працэс запрыгоньвання сялян у Вялікім княстве Літоўскім, пачаты Прывілеем 1447 г., паскорыўся з 2-й палавіны 16 ст. Каб павялічыць даходнасць феадальных маёнткаў, прымацаваць сялян да зямлі, была ажыццёўлена аграрная рэформа, так званая валочная памера, якая праводзілася паводле закона 1557 г. — «Уставы на валокі». Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 гг. і асабліва 1588 г. юрыдычна замацавалі прыгоннае права. Да сярэдзіны 17 ст. сяляне канчаткова трапілі ў асабістую залежнасць ад феадалаў. Аднак вялікакняжацкая ўлада і феадалы на ўсходзе Беларусі ў Падзвінскіх і Падняпроўскіх землях абмяжоўвалі ўвядзенне новых павіннасцей. Правядзенне аграр-






*Выявы гербаў Полацка (злева) і Віцебска паводле прывілеяў на магдэбургскае права і пячатак на дакументах 16—18 стагоддзяў.*





*Гербавыя знакі Віцебска (злева) і Оршы. 1781 г.*

най рэформы тут пачалося пазней, чым на захадзе Беларусі, і з некаторымі ўступкамі на карысць сялян. Гэта было абумоўлена масавымі ўцёкамі сялян з парубежных валасцей на тэрыторыю Расіі, дзе прыгоннае права было афармлена толькі ў 1649 г.

У час Лівонскай вайны 1558—83 гг., якую Руская дзяржава вяла супраць Лівоніі, Вялікага княства Літоўскага, Польшчы і Швецыі за выхад да Балтыйскага мора, тэрыторыя Віцебшчыны стала арэнай ваенных дзеянняў. У 1562 г. рускія войскі наступалі ў напрамку Оршы і Віцебска. У выніку асады 31.1—15.2.1563 г. яны ўзялі Полацк, частка гараджан якога перайшла на бок рускіх. У 1564 г. ў баях на р. Ула і каля Оршы войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з Радзівілам Рыжым разбілі рускія войскі. Але на працягу 1566—68 гг. рускія ўмацавалі свае пазіцыі ў раёне Полацка, пабудавалі тут крэпасці Сушу, Сокал, Сітна, Красны, Казьян, Усвят, Туроўлю.

Міжусобныя войны, абвастрэнне ўнутрыкласавых супярэчнасцей, рост антыфеадальных выступленняў і няўдачы ў Лівонскай вайне значна аслабілі Вялікае княства Літоўскае. Гэта выкарысталі



*Полацк. З гравюры 16 ст.*

польскія феадалы і каталіцкае духавенства. У 1569 г. яны дамагліся заключэння уніі (у Любліне), паводле якой Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую з адзіным выбарным каралём, сеймам і агульнай знешняй палітыкай.

11.8.1579 г. войскі караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя асадзілі Полацк, а 30.8.1579 г. захапілі яго. У 1580 г. ад мястэчка Чашнікі яны пачалі паход на рускія землі. У 1581 г. войскі Баторыя з раёна Дзісны праз Полацк і атрад Радзівіла з Віцебска рушылі пад Пскоў, дзе злучыліся. Гераічная 5-месячная абарона Пскова прымусіла Баторыя заключыць перамір'е з Іванам IV Грозным, паводле якога тэрыторыя Віцебшчыны, у т. л. Полацк, асталіся ў Вялікім княстве Літоўскім.

Паводле Люблінскай уніі 1569 г. Вялікае княства Літоўскае фармальна захавала свае органы ўлады, войска і заканадаўства, аднак трапіла ў залежнае становішча. Усталяваўся жорсткі нацыянальна-рэлігійны прыгнёт, які асабліва ўзмацніўся пасля заключэння Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. Феадальны ўціск, наступленне каталіцкай царквы прывялі ў 1-й палавіне 17 ст. да шэрагу народных паўстанняў, буйнейшым з якіх было паўстанне гараджан Віцебска ў 1623 г. супраць уніяцкага засілля.

У руска-польскую вайну 1632—34 гг. з набліжэннем да Полацка рускага атрада насельніцтва адмовілася будаваць абарончыя ўмацаванні, забіла некаторых службовых асоб і далучылася да рускіх войск, якія 13.6.1633 г. авалодалі Полацкам, але не змаглі ўзяць Верхні замак і вымушаны былі адступіць. Разам з войскамі горад пакінулі многія жыхары.

У час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг., якая вялася супраць феадальна-прыгонніцкага, нацыянальнага і рэлігійнага ўціску, за ўз'яднанне з Расіяй, пасланыя Б. Хмяльніцкім на Беларусь казацкія загоны да Віцебшчыны не дайшлі. Сялянскае паўстанне ахапіла ў чэрвені 1649 г. толькі Аршанскі павет. Аднак, баючыся пашырэння паўстання, полацкія, віцебскія, аршанскія феадалы сфарміравалі павятовыя шляхецкія апалчэнні, якія жорстка расправіліся з непакорным насельніцтвам. У пошуках ратунку ад расправы феадалаў і шляхты ў 1650-я г. масавым стала перасяленне сялян і гараджан з Полацкага, Віцебскага і іншых пагранічных паветаў на тэрыторыю Рускай дзяржавы.

Барацьба народных мас не спынялася і пазней. Сяляне адмаўляліся выконваць паншчыну, уцякалі ў Расію, на Украіну. У 1681 г. жыхары Полацка выступілі супраць уніяцкага мітрапаліта Жыхоўскага. У 1701 г. ў Дубровенскім графстве адбыліся ўзброеныя выступленні сялян.

Шматгадовыя войны (руска-польская 1654—67 гг., шведска-польская 1655—60 гг., Паўночная 1700—21 гг.), голад і эпідэміі прывялі да разрухі і цяжкіх людскіх страт. У пастанове сейма 1661 г. пра становішча ў Аршанскім і Браслаўскім паветах запісана: «ушчэнт разбураны і спалены». Занепалі гарады. Асабліва спустошаны былі Віцебск і Орша. Толькі ў 2-й палавіне 18 ст. пачаўся прыкметны ўздым гаспадаркі.

У працэсе фарміравання беларускай народнасці ў 14—16 стагоддзях культура беларускага народа набыла самабытны характар, нацыянальную своеасаблівасць. У Вялікім княстве Літоўскім да канца 17 ст. беларуская мова была дзяржаўнай. На ёй вялося справаводства ва ўстановах, пісаліся статуты, летапісы і хронікі, свецкія і царкоўныя творы. Сярод выдатных дзеячоў культуры таго часу былі і выхадцы з Віцебшчыны: беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, вучоны, асветнік Францыск Скарына, пісьменнік, публіцыст, грамадскі і царкоўны дзеяч Сімяон Полацкі. Прадаўжальнік гуманістычных, культурна-асветніцкіх і патрыятычных традыцый Ф. Скарыны і С. Буднага радыкальна-рэфармацыйны дзеяч і кнігавыдавец Васіль Цяпінскі ў сваім маёнтку Цяпіна (Чашніцкі раён) заснаваў друкарню, дзе каля 1580 г. выдаў перакладзенае ім на беларускую мову «Евангелле» са сваёй прадмовай. З павышэннем цікавасці да

лёсу простага чалавека звязана ўзнікненне твораў мемуарнага жанру. Каля яго вытокаў знаходзіцца перапіска — так званыя «Допісы» («Лісты», 1572—74 гг.) аршанскага старосты (1567—87 гг.) Ф. Кміты-Чарнабыльскага з дзяржаўнымі асобамі Вялікага княства Літоўскага. У 1630 г. беларускі кнігадрукар і асветнік Спірыдон Собаль заснаваў пад Оршай Куцеінскую друкарню, у якой выдадзена каля 20 тамоў навучальна-асветніцкай, у т. л. «Буквар» С. Собаля, царкоўна-палемічнай і свецкай літаратуры. Значную ролю ў культурным жыцці адыграў рэфармацыйны рух. У 16—18 стагоддзях у Віцебску, Полацку, Оршы і іншых гарадах існавалі нацыянальна-рэлігійныя арганізацыі беларускага праваслаўнага насельніцтва — брацтвы, якія выступалі супраць акаталічвання і паланізацыі беларускага насельніцтва, за захаванне беларускай мовы і культуры, стваралі школы, друкарні. Развіваліся дойлідства, прыкладное і тэатральнае мастацтва. У Віцебску, Полацку, Дуброўне дзейнічалі прыгонныя тэатры. Далейшае развіццё атрымала вусная народная творчасць. Узмацненне нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту ў 2-й палавіне 17—18 ст. суправаджалася закрыццём брацкіх школ, друкарняў, знішчэннем выданняў на беларускай мове. Але рэакцыя не змагла спыніць развіццё культуры народа.

Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) паўночна-ўсходняя частка Віцебшчыны — Віцебскае і Полацкае ваяводствы з гарадамі Віцебск, Гарадок, Дрыса, Орша, Полацк (правабярэжная частка) — увайшла ў склад Расійскай імперыі. Астатняя тэрыторыя — часткі Полацкага на левым беразе Заходняй Дзвіны і Віцебскага ваяводстваў і Браслаўскі павет — уз'яднана з Расіяй у выніку 2-га (1793 г.) і 3-га (1795 г.) падзелаў Рэчы Паспалітай. Уз'яднанне з Расіяй мела для працоўных Віцебшчыны, як і для ўсяго беларускага народа, прагрэсіўнае значэнне. Яно адпавядала інтарэсам шырокіх мас, іх спрадвечнаму імкненню аб'яднацца з родным па паходжанню, мове, культуры і гістарычным мінулым рускім народам, садзейнічала эканамічнаму, грамадска-палітычнаму і культурнаму развіццю. Утвораныя на тэрыторыі Віцебшчыны правінцыі Полацкая і Віцебская ў 1772 г. былі ўключаны ў Пскоўскую, Аршанская — у Магілёўскую губерні. У 1776 г. з беларускіх і латгальскіх паветаў Пскоўскай губерні ўтворана Полацкая



*«Чарцёж» Віцебска 1664 г.*



*Міхайлаўская царква. З «Чарцяжа» Віцебска 1664 г.*

губерня (з 1778 г. называлася намесніцтвам), а ў 1796 г. Полацкае і Магілёўскае намесніцтвы аб'яднаны ў Беларускую губерню з цэнтрам у Віцебску. З увядзеннем у Расіі новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларуская губерня 13.3.1802 г. падзелена на Магілёўскую і Віцебскую губерні. Да пачатку 20 ст. Віцебская губерня ўключала асноўную частку сучаснай тэрыторыі вобласці акрамя Аршанскага і Сенненскага паветаў (Магілёўская губерня), Браслаўшчыны (Ковенская губерня). На ўз'яднанай тэрыторыі рускія ўлады правялі шэраг мерапрыемстваў з мэтай далучэння яе да агульнарасійскай гаспадарчай сістэмы. Уведзены агульнадзяржаўныя грашовая сістэма, меры і вага; збор дзяржаўных падаткаў перададзены казне; на беларускія гарады, што мелі магдэбургскае права, і мястэчкі — цэнтры паветаў — пашыраліся льготы, вызначаныя Даравальнай граматай гарадам 1785 г. Аднак становішча асноўнай масы насельніцтва Віцебшчыны — прыгоннага сялянства — фактычна не палепшылася. Памешчыкам, якія прысягнулі рускаму ўраду, пакідаліся маёнткі і прыгонныя. Яны атрымалі тыя ж правы, што і рускія дваране паводле Даравальнай граматы дваранству 1785 г. З мэтай насаджэння землеўладання рускага дваранства на ўз'яднанай беларускай тэрыторыі рускім памешчыкам раздаваліся былыя старосцінскія і канфіскаваныя маёнткі, каралеўскія землі, царкоўныя ўладанні. У сувязі з раздачай рускім памешчыкам старосцінскіх маёнткаў і пераводам сялян на паншчыну ўся Віцебшчына ў 1770-я г. была ахоплена сялянскімі хваляваннямі. Зыходзячы з палітычных меркаванняў і гаспадарчай неабходнасці (збяднеласць сялянскай гаспадаркі) у 1772 г. рускі ўрад на паўгода вызваліў насельніцтва ўсходняй часткі Беларусі ад дзяржаўных падаткаў, а з 1797 г. істотна зменшыў на 10 гадоў падушную подаць з сялян усёй уз'яднанай тэрыторыі. Гэтыя мерапрыемствы садзейнічалі развіццю сельскай гаспадаркі, прамысловасці, росту гарадоў і іх насельніцтва. У Віцебску да канца 18 ст. колькасць жыхароў павялічылася з 5,5 тыс. да 10,3 тыс. У 1797 г. пачалося будаўніцтва Бярэзінскага канала, які злучаў басейны Дняпра і Заходняй Дзвіны, пракладваліся паштовыя дарогі.

Важныя пераўтварэнні адбыліся ў культурным жыцці. У 1789 г. адкрыты народныя вучылішчы ў Віцебску, Полацку, Оршы, Копысі, у якіх навучальны працэс ажыццяўляўся на падставе новага школьнага статута 1786 г. з выкладаннем рускай мовы, рускай гісторыі і геаграфіі. Пры народных вучылішчах за кошт прыказаў грамадскай апекі ствараліся бібліятэкі. Пры калегіумах у Полацку, Забелах і інш. у 2-й палавіне 18 ст. дзейнічалі школьныя тэатры. Былі адкрыты новыя друкарні, распаўсюджваліся рускія выданні. На культурнае жыццё беларускага народа дабратворна ўплывала перадавая дэмакратычная руская культура.



*Дуброўна ў канцы 18 ст. З акварэлі М. Іванова.*

У Айчынную вайну 1812 г. французскія войскі сустрэлі на тэрыторыі Віцебшчыны ўпартае супраціўленне. Жорсткія баі адбыліся каля Астроўна, Кукавячына, Віцебска, Клясціц, Баяршчыны і Галоўчыц, на р. Свольна і ў іншых месцах. У раёне Полацка корпус П. Х. Вітгенштэйна скаваў дзеянні напалеонаўскіх войск пад камандаваннем Н. Ш. Удзіно і Г. Сен-Сіра. Жыхары гарадоў і вёсак дапамагалі рускай арміі — давалі падводы, праваднікоў, збіралі і дастаўлялі камандаванню звесткі пра ворага, хавалі ад французаў харчы і маёмасць, ішлі ў лясы. Улетку 1812 г. ў многіх паветах Віцебскай губерні ўзніклі партызанскія атрады, якія наносілі акупантам значныя страты. Партызанскі рух набыў такі размах, што напярэдадні Барадзінскай бітвы Напалеон вымушаны быў накіраваць 10 тыс. салдат на дапамогу 12-тысячнаму гарнізону Віцебска. Моцны партызанскі атрад дзейнічаў у в. Варонкі Дрысенскага павета. Партызанскі атрад в. Жарцы Полацкага павета пад кіраўніцтвам Максіма Маркава ўдзельнічаў у 2 бітвах за Полацк, 22 чалавекі гэтага атрада ўзнагароджаны крыжамі за мужнасць у баях. Жыхар Полацка І. Ц. Цімафееў, які па ўласнай ініцыятыве 3 месяцы збіраў і дастаўляў у корпус П. Х. Вітгенштэйна звесткі пра варожыя войскі на Полаччыне, быў узнагароджаны сярэбраным медалём на аннескай стужцы. Медалём узнагароджана і сялянка в. Пагіршчына Полацкага павета разведчыца Фядора Міронава.

У выніку ваенных дзеянняў многія гарады і вёскі Віцебшчыны ляжалі ў руінах, матэрыяльныя страты склалі каля 30 млн. руб., скарацілася колькасць насельніцтва. Паводле рэвізіі 1811 г. ў губерні было 352,4 тыс., а ў 1816 — 315,4 тыс. чалавек.

Да сярэдзіны 19 ст. ва ўмовах крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы сельская гаспадарка прыйшла ў заняпад. У канцы 1850-х гг. у параўнанні з 1840-і гг. пасевы збожжавых у Віцебскай губерні скараціліся на 11,3 %, бульбы — на 50 %, знізілася ўраджайнасць. Прыгонніцтва, голад і галеча выклікалі рэзкае абвастрэнне класавай барацьбы ў вёсцы. Сялянскі рух у краіне з кожным годам прымаў усё больш вострыя формы. Рэвалюцыйная сітуацыя канца 1850-х — пачатку 1860-х гг. вымусіла царызм адмяніць прыгоннае права. Сялянская рэформа 1861 г. на Беларусі праводзілася на аснове агульнага і 2 мясцовых палажэнняў. У 8 з 12 паветаў Віцебскай губерні палажэнні давалі права памешчыкам адразаць у сялян зямлю, калі дарэформенны надзел быў большы за вышэйшую норму і калі ў памешчыка заставалася менш за $^1/_3$ прыдатнай зямлі. Напярэдадні рэформы і пры складанні ўстаўных грамат памешчыкі адабралі ў сялян амаль усе лепшыя землі.

Ва ўмовах рэвалюцыйнай сітуацыі ў Расіі пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863—64 гг., што ахапіла Польшчу, Беларусь, Літву і



*Куцеінскі Богаяўленскі манастыр у Оршы. З малюнка Д. Струкава. 19 ст.*

Правабярэжную Украіну. Адным з арганізатараў і кіраўнікоў узброенага выступлення на Віцебшчыне быў ураджэнец в. Кублічы Ушацкага р-на А. І. Вярыга-Дарэўскі (памёр у ссылцы). Паўстанцкія атрады, сфарміраваныя І. М. Будзіловічам



*Стары Віцебск. З гравюры С. Б. Юдовіна. 1927 г.*



*Віцебск. Драўляны мост цераз р. Віцьба. З акварэлі Ю. Пешкі. Пачатак 19 ст.*

(расстраляны ў Оршы), О. М. Грабніцкім (памёр па дарозе на катаргу), К. А. Жаброўскім (расстраляны ў Барысаве), Б. Кульчыцкім і інш., дзейнічалі ў Аршанскім, Дзісенскім, Дрысенскім, Лепельскім, Полацкім, Сенненскім паветах, пад Бешанковічамі. Паўстанне было жорстка задушана. Але яно прымусіла царскія ўлады пайсці на пэўныя ўступкі і правесці рэформу 1861 г. на тэрыторыі Беларусі, у т. л. на Віцебшчыне, на больш выгадных для сялян умовах.

Пасля адмены прыгоннага права развіццё капіталізму на Беларусі, у т. л. на Віцебшчыне, значна паскорылася, асабліва ў 1880—90-я гг. Павялічвалася вытворчасць прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі, развіваліся транспарт, гандаль, раслі гарады. У 2-й палавіне 1860 — пачатку 1870-х гг. па тэрыторыі вобласці пракладзены Рыга-Арлоўская і Маскоўска-Брэсцкая, у 1902 г. — Пецярбургска-Адэская чыгункі, пабудаваны шклозавод у Віцебскім павеце (1861 г.), фабрыкі тытунёвая (1883 г.), ільнопрадзільная «Дзвіна» (1900 г.), акулярная і кардонная ў Віцебску, папяровая ў Лепельскім павеце (1886 г.), драцяна-цвіковы завод у Барані (1873 г.), шэраг прадпрыемстваў у Оршы, Копысі, Полацку.

На рубяжы 19—20 стагоддзяў капіталізм у Расіі ўступіў у стадыю імперыялізму. У эканоміцы Віцебскай губерні адбываліся тыя ж працэсы, што і ў іншых раёнах краіны: канцэнтрацыя прамысловасці, манапалізацыя, узмацненне ролі банкаў і зрастанне банкаўскага капіталу з прамысловым, высокая канцэнтрацыя зямельнай уласнасці ў руках буйных памешчыкаў і малазямелле асноўнай масы сялян, рэзкае пагоршанне становішча працоўных. У пачатку 20 ст. ў Віцебску створаны акцыянернае таварыства для гандлю і экспарту лёну, адкрылі свае аддзяленні Руска-Азіяцкі і Злучаны агульнарасійскі банкі. Да ліку найбуйнейшых акцыянерных прадпрыемстваў належалі: ільнопрадзільная фабрыка «Дзвіна» Руска-Бельгійскага акцыянернага таварыства з асноўным капіталам 2 млн. бельгійскіх франкаў; трамвай і электрастанцыя Бельгійскага акцыянернага таварыства з капіталам у 1,5 млн. франкаў, піваварны завод акцыянернага таварыства «Левенбрэй». У 1905 г. ў Копысі створаны сіндыкат кафельных заводчыкаў, у 1906 г. ў Оршы — сіндыкат піваварных заводчыкаў Паўночна-Заходняга краю. У Віцебскай губерні ў пачатку 20 ст. некалькі дзесяткаў буйнейшых памешчыкаў валодалі 31,3 % зямель, што знаходзіліся ў прыватнай уласнасці, мелі па 500 і больш дзесяцін зямлі.

На Віцебшчыне, як і на ўсёй Беларусі, была развіта саматужна-рамесніцкая вытворчасць. Тут працавалі невялікія льнопрадзільныя, запалкавыя, шкляныя, металаапрацоўчыя, мылаварныя, тытунёвыя, шарсцяныя, вінакурныя, гарбарныя, мукамольныя і іншыя фабрыкі і заводы.

З развіццём капіталізму абвастралася класавая барацьба. Значныя выступленні рабочых адбыліся на Віцебшчыне. Да 20.5.1864 г. ў Дрысенскім павеце з будаўніцтва Дынабургска-Віцебскага ўчастка Рыга-Арлоўскай чыгункі ўцяклі 150 чалавек, каля ста ў знак пратэсту супраць цяжкіх умоў працы і жыцця не выйшлі на работы; хваляванні на гэтых работах адбыліся і ўлетку 1865 г. Народніцтва, якое пачало фарміравацца на буржуазна-дэмакратычным этапе вызваленчай барацьбы ў Расіі ў 2-й палавіне 19 ст., ахапіла і Віцебшчыну.



*Вуліца ў Віцебску. З малюнка Ю. М. Пэна. 1890-я гады.*

У 1-й палавіне 1870-х гг. у Віцебску ўзнік народніцкі гурток вучнёўскай моладзі, у якім пад выглядам самаадукацыі вывучалася рэвалюцыйная літаратура, у 1880-я гг. існаваў гурток афіцэраў-народавольцаў. Вядомым удзельнікам народніцкага руху быў ураджэнец Віцебска. А. В. Бонч-Асмалоўскі.

Першыя марксісцкія гурткі ў Віцебску створаны ў 1892—93 гг., пазней — у Оршы, Копысі, Полацку. З восені 1897 г. ў Віцебску дзейнічаў сацыял-дэмакратычны камітэт, які аб'ядноўваў каля 25 гурткоў, у 1899 г. налічваў 600 членаў. Камітэт разгарнуў масавую агітацыю сярод рабочых, пад яго кіраўніцтвам эканамічная барацьба спалучалася з палітычнай. Камітэт меў нелегальную друкарню, выдаў некалькі адозваў. 17—18.11.1899 г. паліцыя выявіла ў горадзе выданні з працамі У. І. Леніна «Новы фабрычны закон» і «Тлумачэнне закона аб штрафах, спаганяемых з рабочых на фабрыках і заводах» з адбіткамі штэмпеля камітэта. Выступленні працоўных Віцебшчыны ў 1890-я гг. набывалі ўсё больш арганізаваны характар. У ліпені 1897 г. ў выніку забастоўкі на Віцебскай шчотачнай фабрыцы рабочы дзень быў скарочаны з 16 да 12 гадзін. У красавіку 1898 г. рабочыя гэтай фабрыкі зноў правялі забастоўку з патрабаваннем 10-гадзіннага рабочага дня. У 1898—1900 гг. стачкі адбыліся на тытунёвай фабрыцы і ў шавецкіх майстэрнях Віцебска, на іншых прадпрыемствах губерні. 18.6.1899 г. ў Віцебску адбылася адна з першых у Расіі палітычная дэманстрацыя, у 1900 г. праведзена ўсеагульная першамайская стачка пад лозунгам звяржэння самадзяржаўя і ўстанаўлення дэмакратычнай рэспублікі.

Вялікі ўплыў на пашырэнне рэвалюцыйнай барацьбы працоўных Віцебшчыны зрабіла ленінская «Искра», якая дастаўлялася ў многія населеныя пункты губерні. У 1900 г., выконваючы заданне У. І. Леніна па стварэнні пунктаў транспарціроўкі з-за мяжы нелегальнай палітычнай літаратуры, у Полацку жыў прафесіянальны рэвалюцыянер, агент «Искры» І. В. Бабушкін.

У 1903—05 гг. у Віцебску, Оршы, Гарадку, Копысі, Дзісне, Дуброўне, Крынках, Лядах, Полацку, Талачыне і іншых населеных пунктах утвораны арганізацыі РСДРП. Найбуйнейшая з іх — Віцебская арганізацыя РСДРП у 1905 г. мела каля 650 членаў, групы на льнопрадзільнай фабрыцы «Дзвіна», кардонна-папяровай фабрыцы, у цагельнях, чыгуначных майстэрнях. Для кіраўніцтва рэвалюцыйным рухам сялян і салдат пры ёй былі створаны сялянская (75 членаў і 200 спачуваючых), акруговая і ваенна-рэвалюцыйная арганізацыі РСДРП.

У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. бальшавікі Віцебшчыны ўзначальвалі масавыя выступленні працоўных. У адказ на расстрэл рабочых царскімі войскамі 9.1.1905 г. ў Пецярбургу Віцебская арганізацыя РСДРП выпусціла лістоўку, дзе выкрывала



*Орша. Мост цераз Днявро. 19 ст.*

злачынства царызму, 12 студзеня правяла ў Віцебску ўсеагульную забастоўку, у якой удзельнічала больш за 1000 чалавек, 26—31 студзеня — стачкі пратэсту друкароў, рабочых ільнопрадзільнай, табачнай фабрык і іншых прадпрыемстваў, у маі — чэрвені арганізавала 5 сходаў і 9 мітынгаў, у верасні — байкот Булыгінскай думы. 15—16 студзеня палітычная забастоўка адбылася ў Полацку. Працоўныя Віцебска ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы, 20- і 40-тысячныя дэманстрацыі пратэсту супраць забойства паліцыяй рабочых — удзельнікаў мітынгу 18 кастрычніка ў Віцебску. Для кіраўніцтва рэвалюцыйнай барацьбой быў створаны Віцебскі кааліцыйны камітэт (з бальшавікоў, меншавікоў і бундаўцаў), які выконваў некаторыя функцыі Савета рабочых дэпутатаў. У час Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. ў Маскве палітычныя забастоўкі чыгуначнікаў і рабочых прадпрыемстваў адбыліся і ў Віцебску, але ва ўзброенае паўстанне яны не перараслі з прычыны меншавіцка-бундаўскай перавагі ў кааліцыйным камітэце. Значныя рэвалюцыйныя падзеі адбыліся ў Оршы, Копысі, Полацку, Талачыне. У паветах Віцебскай губерні зарэгістравана каля 450 буйных сялянскіх выступленняў. Мелі месца хваляванні сярод салдат. Бальшавікі Віцебска не спынілі работы і ў гады рэакцыі. Актыўную дзейнасць яны разгарнулі з пачат-



*Віцебск. Заходняя Дзвіна. З акварэлі Ю. Пешкі. Пачатак 19 ст.*



*Пахаванне ахвяр расстрэлу мітынгу рабочых у Віцебску ў кастрычніку 1905 г. З карціны П. М. Явіча.*

ку 1908 г. ў Віцебску, Бешанковічах, Полацку, Чашніках і інш. У Оршы работу па аднаўленню партыйнай арганізацыі вёў адзін з саратнікаў У. І. Леніна П. М. Лепяшынскі. У 1912 г. бальшавікі правялі на Віцебшчыне збор сродкаў у фонд газеты «Правда».

Пад уплывам Рэвалюцыі 1905—07 гг. абудзілася нацыянальная самасвядомасць беларускага народа, імкненне да роднай мовы, культуры. Улады вымушаны былі прыняць меры да паляпшэння народнай адукацыі. У 1910 г. ў Віцебску адкрыты першы на Беларусі настаўніцкі інстытут. У 1913 г. ў губерні было 1520 пачатковых школ (74 032 вучні), 3 гімназіі (1105 чалавек), Полацкая настаўніцкая семінарыя (64 чалавекі), духоўная семінарыя (103 чалавекі), кадэцкі корпус (401 чалавек), рэальнае вучылішча, Зачарнянская сельскагаспадарчая школа (34 чалавекі), прыватная мастацкая школа пры майстэрні мастака Ю. Пэна, музей, 11 бібліятэк і 10 чытальняў. У 1911 г. па ініцыятыве Віцебскай вучонай архіўнай камісіі адкрыта другая ў горадзе вышэйшая навучальная ўстанова — Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута (з 1918 г. Віцебскі археалагічны інстытут). Выдаваліся газеты: «Витебские губернские ведомости» (1838—1917 гг.), «Витебский голос» (1905—1907 гг.), «Витебская социал-демократическая газета» (1917 г.) і інш.

У 1-ю сусветную вайну тэрыторыя вобласці апынулася ў зоне ваенных дзеянняў, яе гаспадарцы былі нанесены велізарныя страты. На пачатак 1918 г. колькасць цэнзавых прадпрыемстваў зменшылася больш як на 60 %, рабочых на іх — на 1/3. Пасяўныя плошчы скараціліся на 13 %, а пагалоўе жывёлы толькі за 1914—16 гг. на 23,3 %. Надзвычай пагоршала матэрыяльнае становішча працоўных. У гады вайны адбыліся буйныя стачкі рабочых ільнопрадзільнай фабрыкі «Дзвіна», чыгуначнікаў, масавыя выступленні сялянства.

Пра перамогу Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Петраградзе стала вядома ў Віцебску і Полацку 1(14).3.1917 г. На вуліцы Віцебска і іншых гарадоў выйшлі дэманстранты, рабочыя абяззброілі жандараў і гарадавых, узялі пад кантроль дзяржаўныя ўстановы, ліквідавалі царскую адміністрацыю, вызвалілі з турмаў палітычных вязняў. Па прыкладу пралетарыяту Петраграда і Масквы рабочыя стварылі органы новай улады — Саветы. Аршанскі і Віцебскі Саветы рабочых дэпутатаў утвораны 8(21) сакавіка, Полацкі — 15 (28) сакавіка, Докшыцкі — 9 (22) красавіка. У Саветах Віцебшчыны большасць месцаў мелі меншавікі, эсэры і бундаўцы. Хаця бальшавікі Віцебшчыны памылкова ўвайшлі ў аб'яднаныя арганізацыі РСДРП, яны засталіся на ленінскіх пазіцыях. Бальшавікі сталі на чале барацьбы рабочага класа за далейшае развіццё рэвалюцыі. У 1917 г. ў Віцебску, Полацку, Оршы і іншых населеных пунктах адбыліся мнагалюдныя першамайскія дэманстрацыі і мітынгі. 18.6(1.7).1917 г. ў Віцебску праведзена антываенная маніфестацыя з удзелам больш за 10 тыс. рабочых і салдат. Каб забяспечыць кіраўніцтва масамі, бальшавікі Віцебска летам 1917 г. выйшлі з «аб'яднанкі» і разам з «міжраёнцамі» і меншавікамі-інтэрнацыяналістамі 2(15)ліпеня ўтварылі самастойную арганізацыю, якая трымала сувязь з ЦК РСДРП(б), стаяла на бальшавіцкіх пазіцыях і пасля VI з'езду РСДРП(б) (1917 г.) стала называцца бальшавіцкай. У канцы чэрвеня 1917 г. аформіліся Полацкая, 12(25) ліпеня — Аршанская, у 1-й палавіне ліпеня — Гарадоцкая бальшавіцкія арганізацыі.

Вялікую работу праводзілі бальшавікі сярод сялян Віцебшчыны. Яны стваралі Саветы сялянскіх дэпутатаў, зямельныя камітэты, растлумачвалі аграрную праграму РСДРП(б). Пад уздзеяннем бальшавіцкай агітацыі сяляне Аршанскага, Дрысенскага, Лепельскага, Сенненскага і іншых паветаў захоплівалі памешчыцкія землі, дзялілі сенажаці і пасевы, секлі лес. 11—17(24—30).6.1917 г. праходзіў Віцебскі губернскі сялянскі з'езд, на якім рэвалюцыйна настроеныя дэлегаты рашуча патрабавалі перадаць сялянам усю зямлю ў бясплатнае карыстанне: па пытанні аб зямлі з'езд прыняў бальшавіцкую рэзалюцыю. 28 чэрвеня (11 ліпеня) адбылося аб'яднанне Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў з Саветам сялянскіх дэпутатаў. У ліпені — жніўні працягвалася актывізацыя барацьбы працоўных: баставалі рабочыя Оршы, Віцебска і іншых гарадоў і мястэчак, пачасціліся сялянскія выступленні. У верасні 1917 г. ў Віцебску баставалі рабочыя трамвайнага парка, тытунёвай фабрыкі, электрастанцыі. Чыгуначнікі Віцебска, Оршы, Полацка ўдзельнічалі ва Усерасійскай забастоўцы чыгуначнікаў, аб'яўленай 21 верасня (4 кастрычніка).

Працоўныя Віцебшчыны пад кіраўніцтвам бальшавікоў прынялі ўдзел у разгроме контррэвалюцыйнага мяцяжу генерала Карнілава. Пры Віцебскім Савеце для барацьбы з карнілаўшчынай было створана ваенна-рэвалюцыйнае бюро, у баявую гатоўнасць прыведзены чырвонагвардзейскія атрады і мясцовы гарнізон, якія занялі пошту, тэлефон, тэлеграф, узялі пад кантроль чыгуначны вузел і камендатуру. Пры Аршанскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў дзейнічала бюро па барацьбе з карнілаўшчынай. У Оршы барацьбу з мяцежнікамі вялі 3 тыс. ўзброеных рабочых і салдат. Аршанскі рэўком чыгуначнікаў і рэвалюцыйныя салдаты 1-й брыгады Каўказскай дывізіі на чале з С. М. Будзённым раззброілі 5 эшалонаў «дзікай» дывізіі, накіраванай Карнілавым на задушэнне рэвалюцыі ў Петраградзе, спынілі падвоз прадуктаў у Магілёў, дзе знаходзілася Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага, была сарвана спроба Стаўкі звязацца з Масквой па прамому проваду. Падначаленая Аршанскаму Савету каманда матацыклістаў (складалася амаль поўнасцю з бальшавікоў) несла службу сувязі і разведкі на ўчастку ад Оршы да Магілёва. Пасля разгрому карнілаўшчыны ўплыў бальшавікоў на масы вырас. На вераснёўскіх перавыбарах бальшавікі атрымалі большасць месцаў у Саветах Гарадка, Друі, папоўніліся бальшавіцкія фракцыі Аршанскага, Віцебскага, Полацкага і іншых Саветаў. 1—3(14—16).10.1917 г. адбылася 1-я Віцебская губернская канферэнцыя бальшавікоў, якая аформіла партыйную арганізацыю Віцебскай губерні (больш за 3 тыс. членаў партыі).

* * *

Архітэктура і выяўленчае мастацтва Віцебшчыны — значная частка культурнай спадчыны Беларусі. На Віцебшчыне ўзніклі самабытныя архітэктурна-мастацкія школы і стылёвыя кірункі, якія ўплывалі на развіццё мастацкай культуры Беларусі. Менавіта на Віцебшчыне паявіліся першыя на тэрыторыі Беларусі гарады. Гэты край адыграў пэўную ролю ў фарміраванні і гісторыі першай усходне-славянскай дзяржавы — Кіеўскай Русі. У 9—13 стагоддзях гарады ўзнікалі па асноўных водных шляхах, з якіх галоўным быў шлях «з варагаў у грэкі» па Заходняй Дзвіне і Дняпры. Першым з беларускіх гарадоў заснаваны Полацк, які ў летапісах упамінаецца пад 862 г. У 9 ст. ўзнік Лукомль, у 10 ст. заснаваны Віцебск, у 11 ст. існавалі Браслаў, Друцк, Копысь, Орша і іншыя.

Пачатковым ядром горада звычайна быў умацаваны дзядзінец, побач з якім фарміраваліся гандлёва-рамесніцкія пасады. Буйныя гарады мелі некалькі ўмацаваннняў. Найбольш старажытнае, размешчанае на гары, называлася Верхнім замкам. Пасад, які з часам таксама набыў замкавыя ўмацаванні, ператвараўся ў Ніжні замак. У Полацку і Віцебску, якія развіваліся найбольш інтэнсіўна, гарадскія пасады выходзілі за межы замкавых умацаванняў, утвараючы вакольны горад. У іншых гарадах пасады былі неўмацаванымі. Абарончая сістэма старажытных гарадоў уключала земляныя валы, равы, драўляныя сцены тыпу астрога або гарадзьбы. У Верхнім замку звычайна будавалі галоўны гарадскі храм (Сафійскі сабор у Полацку, Міхайлаўская царква ў Віцебску). Вузкія вуліцы гарадоў масцілі бярвеннямі па лагах. Жылая забудова была выключна драўлянай, шчыльнай. Двары, абнесеныя частаколам, уключалі зрубныя жылыя дамы паўзямлянкавага або наземнага тыпаў (1- і 2-камерныя) і гаспадарчыя пабудовы вянковай або слупавой канструкцыі. Абарончымі фарпостамі гарадоў з'яўляліся манастыры, якія будавалі на важнейшых магістральных напрамках (Барысаглебскі і Спаса-Ефрасінеўскі манастыры ў Полацку).



*Археалагічныя раскопкі Верхняга замка ў Віцебску. 1978 г.*

З Полацкам звязана ўзнікненне на тэрыторыі Беларусі манументальнай архітэктуры. Тут у сярэдзіне 11 ст. пабудаваны першы мураваны храм — Сафійскі сабор, які па архітэктуры быў блізкі да аднайменных сабораў Кіева і Ноўгарада, працягваў візантыйскія традыцыі дойлідства.

У 12 ст., у перыяд найвышэйшага эканамічнага і палітычнага ўздыму Полацкага княства, сфарміравалася самастойная Полацкая школа дойлідства. Для яе характэрна выкарыстанне плінфы з тэхнікай муроўкі «са схаваным радам», пры якой стваралася двухколерная гама паверхні сцяны. Арыгінальным прыёмам муроўкі з чаргаваннем слаёў плінфы і вапняковых квадраў вылучалася Благавешчанская царква ў Віцебску. У пабудовах Полацкай школы дойлідства наглядаўся адыход ад візантыйскіх крыжова-купальных шматнефавых структур з некалькімі апсідамі. Будынкі ў плане звычайна выцягнуты па падоўжнай восі, бакавыя нефы больш вузкія. Дамінавала сярэдняя



*Крыж Ефрасінні Полацкай. 1161 г.*

апсіда, бакавыя апсіды часцей за ўсё размяшчаліся ў тоўшчы сцен. Асноўныя тыпы храмаў — аднанефавы бясслупавы з апсідай і нартэксам (Пятніцкая царква Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра) і трохнефавы 4- ці 6-слупавы з трыма выступаючымі апсідамі або са схаванымі ў тоўшчы алтарных сцен бакавымі апсідамі (Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, Благавешчанская царква ў Віцебску, Барысаглебская царква Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра і інш.). Некаторыя храмы мелі вонкавыя абходныя галерэі, якія ўзбагачалі іх кампазіцыю. Мастацкі эфект дасягаўся выразнай кампаноўкай простых і лаканічных аб'ёмаў. Фасады ўпрыгожвалі паўкалонкі, пілястры, какошнікі і інш. элементы. Жывапіс і скульптуру выкарыстоўвалі пераважна ў аздабленні інтэр'ера. Характэрнай асаблівасцю полацкай школы дойлідства 12 ст. з'яўлялася распрацоўка храма цэнтрычнай вежападобнай кампазіцыі, што дасягалася размяшчэннем падкупальнага квадрата не над усходняй, а над заходняй парай слупоў, пастаноўкай барабана цэнтральнага купала на ступеньчатыя аркі. Гэты прыём шырока выкарыстоўваў полацкі дойлід Іаан. Найбольш дасканалае вырашэнне ён атрымаў у Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царкве — выдатным помніку старажытнарускай архітэктуры 12 ст. Адзначаны прыём пазней быў пашыраны ў рускай архітэктуры, у шатровых храмах 15—16 стагоддзяў. Полацкая школа дойлідства, што склалася на аснове творчай перапрацоўкі антычнай архітэктуры Візантыі, атрымала ў 12 ст. выразныя нацыянальныя рысы, мела самастойны творчы почырк. Яна зрабіла вялікі ўплыў на развіццё старажытнарускай архітэктуры. Разам з тым полацкая школа дойлідства развівалася ў агульным рэчышчы культуры старажытнай Русі, ва ўзаемасувязі з іншымі школамі. Найбольш цесныя кантакты былі з Кіеўскай, Смаленскай і Наўгародскай школамі дойлідства.

Манументальна-дэкаратыўнае мастацтва Віцебшчыны ў старажытнарускі перыяд фарміравалася ў рэчышчы агульнай славянска-візантыйскай культурнай традыцыі. Пра гэта сведчаць фрагменты фрэсак 11 ст. ў Полацкім Сафійскім саборы — кампазіцыя «Еўхарысцція» і арнаментальныя размалёўкі. З паглыбленнем працэсу феадальнай раздробленасці на Полацкай зямлі складвалася самабытная школа жывапісу, для якой характэрна ўмоўна-плоскасная трактоўка фігур. У гэты перыяд створаны фрэскі храма-пахавальні ў Спаскім манастыры (канец 11 — пачатак 12 ст.), храмаў Барысаглебскага манастыра ў Бельчыцах (1-я палавіна 12 ст.), у Благавешчанскай царкве Віцебска (пачатак 12 ст.), храма Верхняга замка Полацка (сярэдзіна 12 ст.).

Фрэскі Пятніцкай і Троіцкай цэркваў у Бельчыцах, даследаваныя ў 1920-я г. М. М. Шчакаціхіным і І. М. Хозеравым, далі падставу меркаваць аб падабенстве полацкіх фрэсак з кіеўскімі і наўгародскімі. Фрэскі Пятніцкай царквы выкананы на сюжэты евангельскага цыкла: на паўночным баку — «Стрэчанне» і «Распяцце», на паўднёвым — «Зняцце з крыжа». Ніжні ярус займалі фігуры святых. На заходнім баку перадалтарных слупоў знаходзіліся выявы князёў Барыса і Глеба, выкананыя ў лінейна-графічнай манеры. Пра размалёўку Барысаглебскай царквы ў Бельчыцах вядома, што яна складалася з выяў фігур святых і разнастайных арнаментальных узораў. На падставе фрагментаў фрэсак з Бельчыц можна зра-

біць вывад, што полацкія майстры пераасэнсоўвалі візантыйска-кіеўскую спадчыну, адначасова ўносілі свой уклад у распрацоўку іканаграфіі. Раскрытыя ў полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царкве 8 фрагментаў фрэсак сведчаць пра высокае і самабытнае мастацтва полацкіх жывапісцаў.

Шэдэўрам старажытнарускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з'яўляецца крыж, створаны полацкім ювелірам Лазарам Богшам у 1161 г. па заказу князёўны Прадславы (Ефрасінні Полацкай) для Спаса-Ефрасіннеўскай царквы (вывезены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну). Некаторыя даследчыкі лічаць, што майстэрства Богшы не мела сабе роўных у старажытнарускім эмальерным мастацтве.

З пачатку 14 ст. землі Віцебшчыны ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, у 16 ст. — Рэчы Паспалітай. Для архітэктуры і выяўленчага мастацтва гэтага перыяду характэрна, з аднаго боку, захаванне старажытнарускіх традыцый і іх развіццё ў новых гістарычных умовах, з другога — пашырэнне творчага ўплыву мастацтва Заходняй Еўропы.

У 14—16 стагоддзях на тэрыторыі Віцебшчыны найбольш буйнымі гарадамі аставаліся Полацк, Віцебск і Орша. Раслі старыя гарады, якія знаходзіліся на скрыжаванні водных і сухапутных гандлёвых шляхоў і фарміраваліся вакол старажытных замкаў (Браслаў, Гарадок, Дуброўна, Лепель, Чашнікі, Дзісна). У 2-й палавіне 15—16 ст. ўзніклі новыя гарады і мястэчкі (Паставы, Глыбокае, Міёры, Друя і інш.). Горадабудаўніцтва 14—16 стагоддзяў падпарадкавана пераважна задачам абароны і гандлю. Гарады найчасцей фарміраваліся вакол замкаў. Іх планіровачную вось звычайна стваралі гандлёвыя шляхі, што разыходзіліся ў радыяльным напрамку ад замка ці гандлёвай плошчы. У некаторых гарадах (Полацк, Віцебск, Орша і інш.), апрача замка, абарончыя ўмацаванні набылі таксама пасады.

У 2-й палавіне 15 і ў 16 ст. з ростам гарадоў развіваліся і набывалі рэгулярную планіроўку вулічная сетка і рынечная плошча. Прыкладам рэканструкцыі паводле адзінага генеральнага плана з'яўляецца Дзісна, якая з сярэдзіны 16 ст. мела рэгулярную сетку вуліц, звязаных з замкам адзінай сістэмай абарончых умацаванняў. Пасля атрымання гарадамі магдэбургскага права побач з замкамі ўзнікалі новыя адміністрацыйныя цэнтры — ратушы, якія ўзводзіліся звычайна на рынечных плошчах (Віцебск, Дзісна). Часта ратушы аб'ядноўвалі з гандлёвымі радамі, у выніку ўтваралася адзіная манументальная пабудова.

Жылая забудова ў гарадах Віцебшчыны была пераважна драўлянай. Дамы будавалі вянковай канструкцыі, часам каркасныя або фахверкавыя так званага «прускага муру», дзе выкарыстоўвалі дрэва і цэглу, ці глінабітныя. Традыцыйныя тыпы народнага жылля — 2- і 3-камерныя дамы (хата+



*Медны крыж з раскопак Верхняга замка ў Віцебску. 15—16 стагоддзі.*

+сенцы, або хата+сенцы+камора). Жылыя будынкі ставілі падрубамі на зямлю, часам яны мелі ніжні, гаспадарчы паверх — падклець. Жыллё заможных гараджан і знаці адрознівалася больш развітай сістэмай планіроўкі, уключала залу, шэраг жылых і гаспадарчых памяшканняў. Манументальная мураваная архітэктура ў гэты перыяд развівалася пад уплывам традыцый мясцовага мураванага і драўлянага дойлідства, а таксама заходнееўрапейскай грамадзянскай і культавай архітэктуры. Асвойваліся тэхнічныя і мастацкія прыёмы стыляў готыкі і рэнесансу. Для абарончага будаўніцтва характэрным было спалучэнне мураваных і драўляных канструкцый (умацаванні Полацка, Оршы, Віцебска, Браслава, Іказні). Сцены мелі ўнутраныя баявыя галерэі і вежы (квадратныя, васьміграйныя, радзей — круглыя), якія ставіліся ў найбольш важных пунктах абароны. Уезды ўмацоўвалі вежы-брамы. Выкарыстоўваліся валы і абводныя равы.

Драўляная абарончая архітэктура Віцебшчыны была блізкая да драўляных умацаванняў рускіх гарадоў і манастыроў. Адзіным уцалелым помнікам абарончай мураванай архітэктуры на Віцеб-



*Віцебская Благавешчанская царква. Здымак 1950-х гадоў.*

шчыне з'яўляецца 3—4-павярховы замак «Белы Ковель» у в. Смаляны Аршанскага р-на, пабудаваны ў 1-й палавіне 17 ст. Помнік характэрны для таго часу — феадальны замак-рэзідэнцыя. У кампазіцыі замка, арнаментальным дэкоры вежаў і сцен выявіліся рысы нідэрландскага рэнесансу. Гэта не выпадкова. На Беларусі ў 16—17 стагоддзях працавала шмат фартыфікатараў, архітэктараў і мастакоў, якіх беларускія магнаты запрашалі з Галандыі.

Замкавае мураванае будаўніцтва мела вялікае значэнне для развіцця ўсяго манументальнага дойлідства. У ім асвойваліся новыя прыёмы муроўанай архітэктуры, выпрацоўваліся архітэктурна-мастацкія традыцыі. Элементы абарончай архітэктуры выкарыстоўваліся і ў культавым будаўніцтве. Прыкладам з'яўляецца касцёл пачатку 17 ст. ў в. Камаі Пастаўскага р-на. У яго архітэктуры прасочваюцца матывы рэнесансу, прыёмы готыкі. Прыёмы і элементы архітэктуры рэнесансу выкарыстоўваліся і пазней (царква Троіцы 1-й палавіны 17 ст. ў в. Белая Царква Чашніцкага р-на, дэкор інтэр'ера Троіцкага касцёла сярэдзіны 17 ст. ў г. п. Друя Браслаўскага р-на, царква і жылы корпус Куцеінскага Богаяўленскага мужчынскага манастыра 1-й палавіны 17 ст. ў Оршы).

Асноўным мастацкім кірункам у архітэктуры Віцебшчыны ў 17 і 18 стагоддзях стала барока, пашыранае на ўсёй Беларусі. У 2-й палавіне 18 ст. ў манументальную архітэктуру пранікл асобныя рысы стылю ракако. Для горадабудаўніцтва 18 ст. характэрна паступовае страчванне функцый абароны, захаванне старых кампазіцыйных прынцыпаў, стварэнне ў цэнтрах гарадоў вялікіх ансамбляў культавых, адміністрацыйных, гандлёвых і жылых будынкаў. Гарады набывалі выразныя сілуэты, у якіх асноўную ролю адыгрывалі званіцы храмаў і вежы ратуш. Вузлавымі пунктамі ў гарадской планіроўцы станавіліся кляштары.

У гэты час рэканструяваліся старыя і ствараліся новыя плошчы з дынамічнай арганізацыяй прасторы (адміністрацыйная і гандлёвая плошчы ў Віцебску, плошча перад езуіцкім калегіумам у Полацку, цэнтральныя плошчы ў Паставах і Глыбокім). Асабліва цікавы ансамбль плошчы ў Паставах, створаны ў 2-й палавіне 18 ст. па ініцыятыве магната А. Тызенгаўза пры ўдзеле архітэктара Дж. Сака. Гэта быў першы на Беларусі пабудаваны па адзінай задуме гарадскі ансамбль у стылі барока. Тут выкарыстана тыповае праектаванне і эканамічнае спалучэнне розных матэрыялаў і канструкцый. Разам з палацам Тызенгаўза, узведзеным непадалёку ад гарадскога цэнтра, у Паставах быў пабудаваны 21 мураваны будынак.

У 17—18 стагоддзях у гарадах узводзілася шмат грамадзянскіх пабудоў: гандлёвыя рады (Паставы), аўстэрыі (Глыбокае), корчмы, гасціныя дамы, цэхавыя і купецкія дамы, шпіталі, школы і інш. Жылое будаўніцтва заставалася пераважна драўляным. Дамы небагатых мяшчан складаліся з 2 памяшканняў і ставіліся галоўным фасадам на вуліцу. У дамах гандляроў на фасадах часта рабіліся крытыя аркадныя галерэі-падчэні. Дамы заможных гараджан звычайна будавалі ў глыбіні ўчастка; яны мелі свабодную планіроўку і маляўнічы сілуэт. Мураваныя дамы афармлялі ў стылі барока («Дом Пятра I» у Полацку, забудова цэнтральнай плошчы ў Паставах).

Палацава-замкавая архітэктура ў 18 ст. таксама страчвала абарончы характар. Пашырылася будаўніцтва сядзібна-палацавых комплексаў з раскрытай і свабоднай архітэктурна-прасторавай арганізацыяй, у кампазіцыю іх нярэдка ўключаліся і рэгулярныя паркі. У гэтых ансамблях выразна прасочваюцца стылі барока і ракако (сядзіба ў в. Лявонпаль Міёрскага, парк «Бяльмонты» ў в. Ахрэмаўцы Браслаўскага р-наў і інш.). У сядзібных дамах і палацах склалася анфіладная планіроўка з вылучэннем у цэнтры парадная групы памяшканняў, сярод якіх галоўнае месца займала круглая або авальная ў плане зала. Узбагацілася пластыка фасадаў і інтэр'ераў будынкаў.

У развіцці стылявых прынцыпаў барока ў манументальнай архітэктуры 17—18 стагоддзяў значная роля належала культавым будынкам. Для ўзвядзення іх нярэдка запрашалі архітэктараў з-за мяжы, пераважна з Паўночнай Італіі. У будаўніцтва ўключаліся мясцовыя майстры, якія ўносілі ў архітэктуру стылю барока самабытныя рысы, мастацкія і тэхнічныя традыцыі, выпрацаваныя ў будаўнічых цэхах Віцебшчыны. У культавых будынках найбольш адпрацоўваліся кампазіцыйныя прынцыпы, асвойваліся выяўленчыя магчымасці новай мастацкай сістэмы, якая, развіваючыся пад уплывам заходнееўрапейскай архі-

тэктуры, убірала ў сябе мясцовыя мастацкія традыцыі. Стыль барока атрымаў у архітэктуры Віцебшчыны, як і на ўсёй Беларусі, арыгінальную, адметную ад заходнееўрапейскіх узораў, трактоўку: павышанае адчуванне цэласнай масы, лаканічнасць аб'ёмнай і сілуэтнай будовы, мяккасць у трактоўцы дэкору.

Стыль барока на кожным этапе свайго развіцця меў канкрэтныя асаблівасці. У ранні перыяд (1-я палавіна 17 ст.) вялікі ўплыў на яго зрабілі мясцовыя готыка, рэнесанс, а таксама мураваная абарончая архітэктура. Помнікі гэтага перыяду: Троіцкая царква ў в. Белая Царква Чашніцкага р-на, кляштар бернардзінцаў у г. п. Друя Браслаўскага р-на. У час росквіту стылю (2-я палавіна 17 — пач. 18 ст.) адпрацоўваліся яго шматгранныя выяўленчыя магчымасці, шліфавалася майстэрства архітэктараў і будаўнікоў. Лепшыя помнікі позняга барока сярэдзіны і 2-й палавіны 18 ст.: ратуша ў Віцебску, забудова цэнтральнай плошчы ў Паставах, Міхайлаўскі касцёл у в. Лужкі Шаркоўшчынскага р-на. З сярэдзіны 18 ст. на Беларусі і ў Літве фарміраваўся асаблівы і самабытны стыль так званага віленскага барока. Для яго характэрны маляўнічая трактоўка ордэрных форм, стромкія выцягнутыя прапорцыі і багатыя сілуэтныя кампазіцыі. Першай пабудовай у стылі віленскага барока быў касцёл кармеліцкага кляштара ў Глыбокім (1735 г.). Лепшымі яго ўзорамі з'яўляюцца манастыр базыльян сярэдзіны 18 ст. ў в. Беразвечча пад Глыбокім, Сафійскі сабор у Полацку (перабудова 1738—50 гг.).

У архітэктуры праваслаўных манастыроў і храмаў 17 ст. развіццё стылю барока мела свае асаблівасці, выкліканыя моцным уплывам традыцый мясцовага дойлідства. У мураваных цэрквах выкарыстоўваліся аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя, блізкая да храмаў Расіі 16 ст., прыёмы мясцовай архітэктуры рэнесансу. Блізкія да рускай архітэктуры былі ярусныя і шматгаловыя драўляныя цэрквы (Ільінская царква, Троіцкая царква Маркава манастыра ў Віцебску, сабор Богаяўленскага манастыра ў Оршы і інш.; не зберагліся). У 18 ст. стыль барока пашырыўся і на драўляную архітэктуру (царква Спаса і Крыжаўзвіжання ў Смалянах Аршанскага р-на, Троіцкая царква ў в. Лявонпаль Міёрскага р-на).

Манументальна-дэкаратыўнае мастацтва Віцебшчыны 17—18 стагоддзяў развівалася ў адзіным з архітэктурай стылі барока. Для манументальных размалёвак характэрны свабодная манера пісьма, ускладненыя рытмы кампазіцыі, імкненне да перадачы аб'ёмаў і прасторы (размалёўкі храмаў Куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў Оршы, 1639 г., Троіцкай царквы Маркава манастыра ў Віцебску, 1691 г.; не збераглася). У гэтых размалёўках былі шматфігурныя кампазіцыі з драматызаваным сюжэтам; біблейскія персанажы апрануты ў адзенне мясцовай шляхты і гараджан. Побач з евангельскімі выкарыстоўваліся і гістарычныя сюжэты. Збераглася размалёўка ў барабане купала Богаяўленскай царквы ў Полацку і ў Камайскім касцёле (Пастаўскі р-н). Была пашырана пазалочаная аб'ёмна-скразная «флемская» разьба па дрэве («беларуская рэзь»), якой афармлялі іканастасы, алтары і хоры (касцёл у в. Камаі Пастаўскага р-на, касцёл у в. Валкалата і царква ў в. Порплішча Докшыцкага р-на), а таксама афармленне алтароў і амбонаў у тэхніцы стука (Сафійскі сабор у Полацку, касцёл кляштара бернардзінцаў у Друі, касцёлы ў вёсках Германавічы і Лужкі Шаркоўшчынскага р-на).

У 16—17 стагоддзях майстры Копысі выраблялі каляровую кафлю, аздобленую ўзорамі зброю, ювелірныя рэчы з серабра; майстры Віцебска, Оршы і Дуброўна славіліся ўзорыста-аб'ёмнай разьбой па дрэве, полацкія ўмельцы — чаканкай па серабру і інш. У 17 ст. некаторыя таленавітыя майстры з Віцебшчыны пераехалі ў Расію, працавалі ў Сярэбранай палаце і палаце разьбярных і сталярных спраў Маскоўскага Крамля. Майстэрствам славіліся рэзчык з Віцебска Іван Дракула, сярэбранік з Полацка Іван Андрэеў, ювелір з Копысі Максім Сямёнаў, сталяр з Дуброўны Герасім Акулаў. Найбольш славуты быў «старац Арсень» з Оршы — кіраўнік беларускіх разьбяроў Аружэйнай палаты Маскоўскага Крамля.

З 2-й палавіны 18 ст. ў архітэктуры пашыраўся новы стыль — класіцызм. Уз'яднанне беларускіх зямель з Расіяй супала з разгортваннем планіровачных работ у Расіі ў 2-й палавіне 18 ст., што выклікала перапланіроўку і беларускіх гарадоў. Першыя праекты ўпарадкавання планіроўкі распрацаваны і зацверджаны ў 1778 г., у т. л. забудовы Віцебска, Полацка (правабярэжная частка), Оршы, Гарадка, Дрысы (Верхнядзвінска) і Сянно. Да 1800 г. распрацаваны план забудовы Дзісны, у 1835 г.— Лепеля.

Прынцыпы рэгулярнай планіроўкі найбольш паслядоўна ажыццяўляліся ў праектах невялікіх гарадоў (Дрыса, Гарадок). У такіх буйных гарадах, як Віцебск і Полацк, даводзілася лічыцца з характэрнымі для гэтых месц прыроднымі ўмовамі і капітальна забудаванымі цэнтрамі. Гэтыя гарады мелі па некалькі праектных планаў. Найбольш удалымі аказаліся планы, распрацаваныя на месцы губернскімі архітэктарамі.

Пры перапланіроўцы асаблівая ўвага аддавалася рэканструкцыі гарадскіх цэнтраў. Яны набывалі буйнамаштабны прасторавы характар. Галоўнымі кампанентамі забудовы станавіліся новыя адміністрацыйныя і грамадскія будынкі (урадавых установ, губернскіх і павятовых праўленняў, дваранскіх сходаў). Такі ансамбль у канцы 18 ст. створаны ў Полацку на былой Корпуснай плошчы. У ансамблі цэнтра Віцебска вылучаўся помнік класіцызму — палац губернатара. Уся забудова гарадоў падпарадкоўвалася ідэі адзінага ансамбля.

Прыкладам з'яўляецца забудова Полацка канца 18 ст., у якой жыллёвыя і грамадскія будынкі мелі аднолькавы характар: аднастайныя фасады паўтараліся з нязначнымі варыяцыямі. Больш хуткаму ажыццяўленню рэгулярнай ансамблевай забудовы з канца 18 ст. садзейнічалі тыпавыя («узорныя») праекты. У плане гэтыя будынкі былі прамавугольныя, радзей П-падобнай формы, выразна вылучаўся кампазіцыйны цэнтр — лесвічная клетка і вестыбюль. Пластыка фасадаў вызначалася прастатой і яснасцю форм (будынкі адміністрацыйных устаноў у Оршы, Гарадку, Сянно).

Прынцыпы рэгулярнай планіроўкі зрабілі вялікі ўплыў на архітэктуру сядзібных комплексаў, якая звычайна падпарадкоўвалася рэльефу мясцовасці. Былую барочную схему падковападобнай планава-прасторавай арганізацыі сядзібнага дома паступова выцесніла франтальная кампазіцыя, у якой цэнтральны корпус і бакавыя флігелі выцягваліся ў адну лінію, утвараючы суцэльны фронт забудовы. Галоўным элементам архітэктуры сядзібнага дома стаў манументальны 4-, 6-, 8-калонны порцік, які афармляў цэнтральны ўваход у будынак і часам аб'ядноўваў ніжні і верхні паверхі (сядзібы ў в. Дзедзіна Міёрскага, г. п. Обаль Шумілінскага р-наў). У паркавым будаўніцтве замест строгіх геаметрычных рэгулярных партэраў паявіліся пейзажныя, т. зв. «англійскія» сады і паркі сэ звілістымі алеямі, маляўнічымі вадаёмамі і астраўкамі, каналамі і масткамі (парк у г. п. Асвея Верхнядзвінскага р-на).

Культавае дойлідства Віцебшчыны з канца 18 ст. таксама развівалася пад уплывам рускага класіцызму (Успенскі сабор у Віцебску, не захаваўся). Уздзеянне гэтага стылю выявілася ў некаторых барочных касцёлах у выглядзе больш стрыманых форм, спрашчэння архітэктурных дэталей (касцёлы ў вёсках Дунілавічы і Лучай Пастаўскага р-на). У 1-й палавіне 19 ст. фарміравалася спецыфічная для класіцызму аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя касцёлаў, якая набыла форму прамавугольнага ў плане аб'ёму, завершанага двухсхільным дахам і аформленага на галоўным фасадзе порцікам (касцёлы ў вёсках Мосар і Мамаі Глыбоцкага р-на). Для архітэктуры цэркваў характэрна вылучэнне ў кампазіцыі масіўнага купала, якім перакрывалася галоўнае храмавае памяшканне, а таксама аб'ёму званіцы над прытворам (царква ў Верхнядзвінску). Адным з асноўных архітэктурных элементаў у большасці збудаванняў станавіўся порцік. Да сярэдзіны 19 ст. праекты рэгулярнай планіроўкі гарадоў Віцебшчыны былі ў асноўным ажыццёўлены.

З будаўніцтвам у 2-й палавіне 19 ст. чыгуначных ліній Масква — Брэст, Рыга — Арол важнымі элементамі гарадскога плана сталі будынкі вакзалаў, прывакзальныя плошчы і вуліцы, што звязвалі вакзал з цэнтрам горада (Віцебск, Полацк, Орша). Новыя ўскраінныя раёны з ломанымі вузкімі вуліцамі, аднапавярховай драўлянай забудовай складваліся стыхійна. Жылыя кварталы забудоўваліся вельмі шчыльна. У цэнтры будавалі шматпавярховыя дамы. На ўскраінах разам з індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, архітэктура якіх адлюстравала традыцыі мясцовага народнага дойлідства, узводзіліся жылыя будынкі для некалькіх сем'яў; некаторыя з іх мелі мураваны ніжні і драўляны верхні паверхі.

У 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. разгортваецца прамысловае будаўніцтва (ільнопрадзільная фабрыка «Дзвіна» ў Віцебску, спіртзаводы ў в. Старая Беліца Сенненскага і в. Станіславова Дубровенскага р-наў і інш.).

У гэты час архітэктура перажывала надзвычай складаны і супярэчлівы перыяд свайго развіцця. У пошуках новых сродкаў выразнасці фарміраваліся асобныя стылістычныя кірункі: несапраўдная готыка, псеўдарускі і псеўдавізантыйскі стылі, неабарока, неакласіцызм, «мадэрн» і інш. Яны ў значнай меры адлюстроўвалі заняпад і супярэчлівасць буржуазнай культуры. Асабліва ярка гэта выявілася ў эклектычным адраджэнні мінулых архітэктурных стыляў. Станоўчым у архітэктуры 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст. было імкненне да фарміравання новага архітэктурнага вобразу, якасна новыя адносіны да прасторы, пластыка разнастайных аб'ёмаў, расшырэнне магчымасцей выкарыстання будаўнічай тэхнікі. Індывідуалізацыя архітэктурнага вобраза забудовы часам прыводзіла да дэкаратыўнага аздаблення фасадаў. У выніку дэкор «накладваўся» на канструкцыю будынка і не заўсёды адпавядаў яго архітэктурна-прасторавай кампазіцыі. На Віцебшчыне былі найбольш пашыраны эклектычныя плыні — несапраўдная готыка і неакласіцызм (сядзіба ў г. п. Расоны, касцёл у г. п. Відзы Браслаўскага р-на і інш.). Шырока выкарыстоўваліся і традыцыйныя прыёмы народнага дойлідства (касцёл у г. п. Відзы). Новае прызнанне атрымалі мясцовыя будаўнічыя матэрыялы: дрэва, прыродны камень. Вялікая ўвага звярталася на сувязь архітэктуры з навакольным асяроддзем (гаспадарчы комплекс сядзібы ў в. Дзіўная Шаркоўшчынскага р-на, званіца і агароджа касцёла ў в. Мосар Глыбоцкага р-на, вадзяны млын у в. Зарачча Браслаўскага р-на). Пашырэнне стылю «мадэрн» у канцы 19 — пачатку 20 ст. вызначыла рашучы разрыў з пераймaннем стыляў мінулага. На Віцебшчыне архітэктура стылю «мадэрн» зрабіла значны ўплыў на розныя тыпы будынкаў (земляробчая школа ў в. Лужасна Віцебскага р-на, сядзіба ў в. Межава Аршанскага р-на, царква ў г. п. Шаркоўшчына).

У вёсках Віцебшчыны 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст. пашыраны сядзібы вяночнага тыпу: жылыя і гаспадарчыя будынкі былі звязаны паміж сабой і ўтваралі чатырохвугольнік. Хаты і гаспадарчыя пабудовы, што выходзілі тарцамі да вулі-

цы, злучаліся агароджай з варотамі і форткай. Нярэдка агароджы аб'ядноўвалі некалькі пабудоў па фронту вуліцы. У сельскім жыллі быў пашыраны тып трохкамернага дома (хата+сенцы+хлеў ці камора). З ростам таварнай вытворчасці павялічвалася колькасць крам. Працягваючы традыцыю шматфункцыянальнага сельскага жылля, драўляныя гандлёвыя і складскія памяшканні звычайна размяшчаліся ў адным аб'ёме з жылым домам (в. Лявонпаль Міёрскага р-на).

Манументальна-дэкаратыўнае мастацтва на Віцебшчыне з пачатку 19 ст. развівалася пераважна ў стылі класіцызму. У гэтым стылі выкананы размалёўкі Праабражэнскай царквы ў Чашніках, у касцёлах у вёсках Лучай Пастаўскага і Мосар Глыбоцкага р-наў. У сюжэтах твораў пераважала алегарычнасць і гераізацыя гістарычных падзей, асабліва пасля Айчыннай вайны 1812 г. Так, у царкве г. Сянно, пабудаванай у пачатку 19 ст. (не зберaглася), былі пастаўлены скульптуры «Аляксандр Неўскі», «Дзмітрый Данскі», створаныя мясцовым народным майстрам Карпам з Ульянавіч. У Віцебскай Петрапаўлаўскай царкве знаходзіліся алегарычныя скульптуры «Вера», «Цярпенне», «Справядлівасць» і інш. Эстэтыцы класіцызму з яго гарманічнай строгасцю форм і прапорцый падпарадкоўваліся мастацкія рамёствы ў гарадах і мястэчках.

У афіцыйным манументальным мастацтве пераважаў «імперскі» класіцызм з грувасткімі формамі, абцяжаранымі сімваламі царскай дзяржавы (арламі) і воінскімі атрыбутамі. У гэтым стылі выкананы помнік (1829 г., Пецярбург), устаноўлены ў в. Сівошына Расонскага р-на на месцы гібелі героя Айчыннай вайны 1812 г. генерала Я. П. Кульнева. У 1850 г. ў Полацку адкрыты помнік героям Полацкіх бітваў 5—6 жніўня і 7—8 кастрычніка 1812 г. (скульпт. М. Мікешын; не захаваўся). Для манументальна-дэкаратыўнага мастацтва канца 19 — пачатку 20 ст. характэрна панаванне псеўдарускага стылю (мазаіка на будынку пазямельна-сялянскага банка ў Віцебску, выкананая ў майстэрні Фраловых паводле праекта К. Тарасава). Адначасова працягвалася і класіцыстычная традыцыя — помнік героям Айчыннай вайны 1812 г., устаноўлены ў Віцебску ў 1912 г. (паводле праекта А. Фаміна).

У сувязі з ростам прамысловай вытворчасці прадметаў побыту старадаўнія мастацкія рамёствы ў пачатку 20 ст. прыходзяць у заняпад, некаторыя трансфарміраваліся ў прамысловую вытворчасць мастацкіх вырабаў. Так адбылося з мастацкай апрацоўкай метала. Цікавым помнікам мастацкай коўкі з'яўляюцца дзверы касцёла ў в. Слабодка Браслаўскага р-на. Найбольшае развіццё набыла прамысловая вытворчасць мастацкай архітэктурнай керамікі. У Віцебску дзейнічалі 2 кафельныя заводы. Такія прадпрыемствы былі і ў іншых гарадах і мястэчках Віцебшчыны. Асабліва славілася Копыская кафля. У 1874 г. ў Копысі пачаў працаваць кафельны завод. У канцы 19 ст. там працаваў майстар Ахонька Чорцікаў, у пачатку 20 ст.— майстры Верамееў і Чабатароў. З канца 19 ст. вядомы традыцыйныя цэнтры рамёстваў па вытворчасці гліняных цацак (г. Дуброўна), ганчарнага бытавога посуду (вёскі Гарадок, Бабінавічы Лёзненскага р-на), пляцення з лазы (вёскі Азернікі Верхнядзвінскага р-на), ткацтва (г. Верхнядзвінск).

Складаным быў у 19 — пачатку 20 ст. працэс развіцця беларускай літаратуры. З Віцебшчынай звязаны імёны беларускіх пісьменнікаў Я. Баршчэўскага, А. Вярыгі-Дарэўскага, Я. Журбы, Ф. Тапчэўскага, Я. Вуля (сапраўднае Э. М. Карафа-Корбут), польскіх паэтаў Т. Заблоцкага, Ф. Князьніна, беларускага і польскага паэта, мастака і кнігавыдаўца А. Рыпінскага і інш. Працяглы час на Віцебшчыне жылі і тварылі жывапісцы І. Хруцкі, С. Заранка, І. Рэпін, Ю. Пэн, скульптар Г. Дмахоўскі і інш. Яркую старонку ў гісторыю беларускага тэатра пачатку 20 ст. ўпісала Першая беларуская трупа, якую стварыў і ўзначальваў ураджэнец в. Палевачы Глыбоцкага р-на акцёр і рэжысёр І. Буйніцкі. Вывучэнне гісторыі, быту і культуры Віцебшчыны звязана з імёнамі М. Я. Нікіфароўскага, А. П. Сапунова, А. М. Семянтоўскага і іншых.



*Гарадскі пасёлак Відзы. Агульны выгляд.*

* * *

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва — эру пераходу ад капіталізму да сацыялізма і камунізма. У выніку рэвалюцыі ў Расіі скінута ўлада памешчыкаў і буржуазіі, устаноўлена дыктатура пралетарыяту, створана Савецкая сацыялістычная дзяржава. Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі была замацавана дэкрэтамі і пастановамі II Усерасійскага з'езда Саветаў [25—27.10(7—9.11).1917 г.], на якім былі і дэлегаты Аршанскага, Віцебскага, Гарадоцкага, Дзісенскага, Друйскага, Полацкага Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Рабочыя і сяляне Віцебшчыны з радасцю віталі першыя дэкрэты Савецкай улады. Віцебскі губернскі камітэт РСДРП(б) на сумесным пасяджэнні з прадстаўнікамі рэвалюцыйнага пралетарыяту і вайсковых часцей 27.10(9.11). 1917 г. стварыў Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які ў той жа дзень узяў пад свой кантроль пошту, тэлеграф, чыгуначны вузел, распусціў згодніцкі і назначыў выбары ў новы Савет. Утвораны ў Оршы ВРК на чале з бальшавіком І. Г. Дзмітрыевым распусціў контррэвалюцыйны «камітэт ратавання рэвалюцыі». 12(25) лістапада надзвычайны сход прадстаўнікоў сялянскіх таварыстваў Аршанскага павета выбраў Часовае бюро па сялянскіх справах, якое стала аддзелам ВРК, прыняў рэзалюцыю аб прызнанні і падтрымцы СНК і ажыццяўленні Дэкрэта аб зямлі. Савецкая ўлада на Віцебшчыне была ўстаноўлена ў канцы кастрычніка — лістападзе: у Докшыцах 26.10(8.11), Оршы 28.10(10.11), Лепелі 31.10(13.11), Гарадку 8(21).11, Дрысе 15(28).11, Полацку 18.11(1.12), Сянно 26.11(9.12) 1917 г.

11—16 (24—29).12.1917 г. Надзвычайны з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў Віцебскай губерні заканадаўча замацаваў устанаўленне ў губерні Савецкай улады, выбраў губернскі Савет рабочых, салдацкіх, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў, заявіў аб поўнай падтрымцы Дэкрэтаў II з'езда Саветаў. Пачаліся сацыялістычныя пераўтварэнні, нацыяналізацыя фабрык і заводаў, устаноўлены рабочы кантроль за дзейнасцю прадпрыемстваў, памешчыцкая зямля канфіскавана і бясплатна перададзена ў карыстанне сялянам. У канцы 1917 г.— пачатку 1918 г. створаны першыя калектыўныя гаспадаркі па сумеснай апрацоўцы зямлі ў Аршанскім, Віцебскім, Гарадоцкім і Лепельскім паветах. Адной з першых у студзені 1918 г. была арганізавана камуна ў маёнтку Бярозна Гарадоцкага павета.

18.2.1918 г. войскі кайзераўскай Германіі, парушыўшы ўмовы перамір'я, пачалі наступленне і захапілі большую частку Віцебшчыны — да лініі Полацк — Сянно — Орша. У акупіраваных гарадах і вёсках былі ліквідаваны ўсе рэвалюцыйныя заваёвы, адноўлена прыватная ўласнасць на зямлю, фабрыкі і заводы. Савецкая ўлада захавалася ў Віцебскім, Гарадоцкім, частках Аршанскага, Лепельскага, Полацкага і Сенненскага паветаў. Гэта тэрыторыя ў красавіку 1918 г. ўвайшла ў Заходнюю вобласць. Працоўныя Віцебшчыны актыўна сталі на абарону заваёў Кастрычніка. Да 1.5.1918 г. рабочыя Віцебска арганізавалі 6 чырвонагвардзейскіх палкоў (каля 5 тыс. байцоў). У верасні — снежні 1918 г. тэрыторыя вобласці вызвалена ад германскіх захопнікаў і з утварэннем 1.1.1919 г. Беларускай ССР уключана ў яе склад.

Вясной 1919 г. на Беларусь уварваліся войскі буржуазнай Польшчы, якія ў красавіку захапілі заходнюю частку Віцебшчыны. У акупіраваных раёнах разгарнуўся партызанскі рух. Вялікае значэнне для мабілізацыі працоўных Віцебшчыны на адпор інтэрвентам мела знаходжанне ў 1918 г. на Беларусі агітпоезда імя У. І. Леніна, у 1919 г. агітацыйна-інструктарскага поезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на чале са старшынёй ВЦВК М. І. Калініным, які наведаў Віцебск, Оршу і вёскі Віцебскага і Аршанскага паветаў, выступаў перад працоўнымі на сходах і мітынгах.

У ліпені 1920 г. акупіраваныя раёны Віцебшчыны вызвалены Чырвонай Арміяй. Увосень частка іх зноў захоплена і паводле Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. ў складзе заходніх зямель Беларусі далучана да буржуазнай Польшчы. Працоўныя Браслаўскага, Глыбоцкага, Докшыцкага, Міёрскага, Пастаўскага і Шаркоўшчынскага раёнаў амаль 20 гадоў змагаліся пад кіраўніцтвам КПЗБ за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з БССР.

Цэнтральная і ўсходняя часткі Віцебшчыны, якія з 1919 г. ўваходзілі ў склад РСФСР, паводле пастановы Прэзідыума ЦВК СССР ад 7.3.1924 г. далучаны да БССР. Уведзены новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел: акругі, раёны, сельсаветы.

Пасля Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі працоўныя Віцебшчыны накіравалі ўсе сілы на ліквідацыю разрухі, адраджэнне гаспадаркі і ажыццяўленне сацыялістычных пераўтварэнняў у эканоміцы. Пачатая летам 1918 г. нацыяналізацыя прадпрыемстваў завяршылася ў 1920 г. У 1921 г. ў сувязі з перабудовай кіравання прамысловасцю буйныя прадпрыемствы, а таксама добра абсталяваныя сярэднія і дробныя, якія маглі даваць прыбытак, уключаны ў сацыялістычны сектар і падпарадкаваны саўнаргасам. Віцебскаму губсаўнаргасу падначалена 85 прадпрыемстваў з 267 існуючых. Астатнія перадаваліся ў іншыя ведамствы, здаваліся ў арэнду або падлягалі кансервацыі. У жніўні 1921 г. аднавілі работу льнопрадзільныя фабрыкі «Дзвіна» і ў Высачанах. Да канца 1923 г. на прадпрыемствах гарбарнай, паліграфічнай, шчацінна-шчотачнай прамысловасці Віцебскага губсаўнаргаса дасягнуты даваенны ўзровень прадукцыйнасці працы.

Ажыццяўленне ленінскага Дэкрэта аб зямлі праводзілася ва ўмовах вострай класавай барацьбы. У тых паветах Віцебшчыны, якія не былі акупіраваны, канфіскацыя і падзел памешчыцкіх зямель завершаны да пачатку 1919 г. Вялікую ролю ў правядзенні сацыялістычных пераўтварэнняў на вёсцы адыгралі камітэты беднаты, якія ствараліся з чэрвеня 1918 г. і на працягу 1919 г. зліліся з Саветамі. У 1919 г. ў Віцебскай губерні, паводле няпоўных звестак, налічваліся 72 саўгасы, існавалі камуны. Пры падтрымцы Савецкай дзяржавы да канца 1924 г. сельская гаспадарка Віцебшчыны была ў асноўным адноўлена.

За гады 1-й і 2-й пяцігодак на Віцебшчыне пабудаваны: першая ў рэспубліцы БелДРЭС, торфапрадпрыемства «Асінторф», льнокамбінат і мясакамбінат у Оршы, фабрыкі швейная «Сцяг індустрыялізацыі», абутковая «Чырвоны Кастрычнік» і панчошна-трыкатажная «КІМ» у Віцебску, мясакамбінат у Полацку; рэканструяваны віцебскія льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна», станкабудаўнічыя заводы імя С. М. Кірава і імя Камінтэрна, Дубровенская ткацкая фабрыка, аршанскі завод «Чырвоны барацьбіт» і дзесяткі іншых прадпрыемстваў. На 1940 г. аб'ём прамысловай прадукцыі вобласці перавысіў узровень 1913 г. ў 12, а металаапрацоўчай — у 40 разоў. Рэканструяваны транспарт, пабудаваны новыя чыгуначныя лініі Орша — Лепель і Орша — Камунары, новы суднаходны ўчастак на Дняпры Орша — Дуброўна.

Развівалася сацыяльна-культурнае і жыллёвае будаўніцтва. Найбольш хутка забудоўваўся Віцебск, які з 1938 г. стаў абласным цэнтрам. Адначасова з шырокім будаўніцтвам малапавярховых пачалося ўзвядзенне шматпавярховых жылых дамоў. Па-новаму вырашалася функцыянальная арганізацыя і планіроўка жылля ў Віцебску (у дамах камунальнага тыпу па вул. Горкага і Суворава), Полацку (у дамах па вул. Гогаля, Камсамольскай, Свярдлова, Талстога) і Оршы. Разгарнулася будаўніцтва дзіцячых устаноў і школ, магазінаў, кінатэатраў, бальніц. Прыкладам новага тыпу грамадскіх будынкаў стаў Віцебскі клуб металістаў. У 1936—39 гг. для Віцебска, Оршы і Полацка распрацаваны планы сацыялістычнай рэканструкцыі, якія прадугледжвалі іх развіццё як буйных індустрыяльных і культурных цэнтраў БССР.

Індустрыялізацыя стварыла неабходную матэрыяльную базу для пераводу сельскай гаспадаркі на новую, сацыялістычную аснову. Да 1.3.1930 г. ў Віцебскай акрузе было створана 338 калгасаў. Бешанковіцкі, Гарадоцкі, Лепельскі, Талачынскі і Сенненскі р-ны да 1.1.1932 г. сталі раёнамі суцэльнай калектывізацыі. У 1930 г. створаны першыя машынна-трактарныя станцыі — Асвейская і Ветрынская. У 1940 г. калгасы абслугоўвалі 62 МТС. Сельская гаспадарка спецыялізавалася на льнаводстве і жывёлагадоўлі. Сацыялістычны сектар у сельскай гаспадарцы Віцебшчыны заняў вядучае месца.

Кастрычніцкая рэвалюцыя разняволіла духоўныя сілы беларускага народа, дала яму магчымасць развіваць сваю культуру, нацыянальную па форме, сацыялістычную па змесце. Адначасова з вялікімі пераўтварэннямі ў эканоміцы Віцебшчыны тут ажыццяўлялася культурная рэвалюцыя. Асаблівая ўвага аддавалася народнай асвеце. У канцы 1918 г. — пачатку 1919 г. ў Віцебскай губерні праведзены перапіс дзяцей школьнага ўзросту. Да ліпеня 1919 г. з 13 668 зарэгістраваных дзяцей школу наведвалі толькі 8423. Барацьба з непісьменнасцю стала адной з найважнейшых задач. Да 1920—21 навучальнага года ў губерні адкрыта 300 новых школ, створаны дзесяткі школ і гурткоў ліквідацыі непісьменнасці. У 1926 г. амаль 56 % насельніцтва Віцебшчыны было пісьменным. У 1926 г. ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову аб увядзенні абавязковага пачатковага навучання. Ліквідацыя непісьменнасці на Беларусі ў асноўным завершана да сярэдзіны 1930-х гадоў.

На Віцебшчыне дзейнічалі хаты-чытальні, клубы, бібліятэкі, музеі. У 1918 г. на базе калекцый краязнаўцаў заснаваны Віцебскі губернскі музей, які ў 1924 г. аб'яднаны з царкоўна-археалагічным музеем, музеем Віцебскай вучонай архіўнай камісіі і прыватным музеем В. П. Федаровіча. У 1940 г. ў вобласці было 770 клубных устаноў, з іх 318 хат-чытальняў. Рыхтаваліся кадры савецкай народнай інтэлігенцыі. 1.10.1918 г. ў Віцебску заснаваны педагагічны (на базе настаўніцкага інстытута), у 1924 г. — ветэрынарны, у 1934 г. — медыцынскі інстытуты; у 1936 г. створаны настаўніцкія інстытуты ў Віцебску і Оршы; у 1920 г. заснаваны станкаінструментальны тэхнікум у Віцебску.

У 1923 г. на Беларусі ўтворана літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», вакол якога згрупаваліся пралетарскія пісьменнікі. Філіялы «Маладняка» ўзніклі таксама ў Віцебску, Оршы, Полацку. Яны выпускалі альманахі і зборнікі твораў: «Пачатак» (1926 г.) і «Світанне» (1927 г.) — Віцебск, «Наддзвінне» (1926 г.), «Росквіт» (1927 г.) і «Зарніцы» (1928 г.) — Полацк. Віцебшчына — радзіма многіх пісьменнікаў. Адсюль у 1920-я гг. ў літаратуру прыйшлі У. Дубоўка, П. Броўка, М. Лынькоў, М. Зарэцкі, Т. Кляшторны, А. Дубровіч, у 1930-я гг. — Т. Хадкевіч, А. Жаўрук, Р. Жалязняк, А. Гейнэ, С. Ракіта і інш.; на Віцебшчыне пачаў літаратурную дзейнасць Э. Самуйлёнак.

Велізарныя змены адбываліся ў мастацкім жыцці Віцебшчыны. У 1918—21 гг. адкрыты мастацкія школы і студыі ў Віцебску, Оршы, Полацку, Гарадку. Адзіным на той час цэнтрам падрыхтоўкі мастацкіх кадраў на Беларусі была створаная ў 1918 г. ў Віцебску Народная мастацкая школа, пераўтвораная ў 1923 г. ў мастацкі тэхнікум, у 1939 г.— у вучылішча. Тут працавалі М. Дабу-

жынскі, В. Волкаў, М. Керзін, Ю. Пэн, С. Юдовін, Ф. Фогт, пачыналі творчую дзейнасць многія беларускія мастакі. Ажыццяўляючы ленінскі план манументальнай прапаганды, віцебскія мастакі і скульптары стварылі шэраг помнікаў выдатным дзеячам рэвалюцыйнага руху і перадавой культуры мінулага. 1.5.1919 г. ў Віцебску быў адкрыты помнік-бюст К. Маркса (скульптар А. Матвееў).

Для падрыхтоўкі акцёраў у верасні 1921 г. ў Маскве была адкрыта Беларуская драматычная студыя, з выпускнікоў якой у 1926 г. ў Віцебску створаны Другі беларускі дзяржаўны тэатр (цяпер — Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа). У 1923—24 гг. у Віцебску працаваў першы юнацкі губернскі паказальны тэатр, у 1931—34 гг.— тэатр рабочай моладзі. Дзейнічалі Полацкі (1936—41 гг.) і Лепельскі (1938—41 гг.) калгасна-саўгасныя тэатры. У развіцці тэатральнага мастацтва на Віцебшчыне значную ролю адыгралі народныя артысты СССР А. Ільінскі, П. Малчанаў, народныя артысты БССР М. Бялінская, Р. Кашэльнікава, А. Радзялоўская, К. Саннікаў, С. Станюта, Ц. Сяргейчык і інш.

Адзін з першых на Беларусі сімфанічных аркестраў і народная кансерваторыя арганізаваны ў Віцебску ў 1918 г. А. Л. Бяссмертным. Сярод стваральнікаў беларускай кінематаграфіі быў палачанін Ю. В. Тарыч. Заснаваны ў 1922 г. на базе народнай кансерваторыі Віцебскі музычны тэхнікум падрыхтаваў многіх выканаўцаў, стаў цэнтрам музычнага жыцця Віцебшчыны.

Пасля нападу фашысцкай Германіі на Польшчу, паводле распараджэння Урада СССР Чырвоная Армія перайшла 17.9.1939 г. савецка-польскую граніцу і ўзяла пад абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Заходняя частка сучаснай Віцебшчыны была ўз'яднана з БССР. 4.12.1939 г. створана Вілейская вобл. Браслаўскі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Міёрскі, Пастаўскі, Шаркоўшчынскі раёны ўвайшлі ў яе склад.

Напад гітлераўскай Германіі на СССР перапыніў мірную стваральную працу савецкага народа, у т. л. і Віцебшчыны. 22.6.1941 г. Віцебскі абком КП(б)Б правёў тэрміновую нараду кіруючых партыйных, савецкіх і камсамольскіх работнікаў вобласці, на якой абмяркоўваліся пытанні аб перабудове работы ўсіх партыйных, савецкіх, гаспадарчых і грамадскіх органаў і арганізацый у адпаведнасці з задачамі ваеннага часу. У вобласці арганізавана прайшла мабілізацыя ў Чырвоную Армію. За кароткі час праведзена эвакуацыя на ўсход насельніцтва, дзяржаўнай, калгасна-кааператыўнай і іншай маёмасці. З Віцебска эвакуіравана абсталяванне заводаў станкабудаўнічых імя С. М. Кірава і імя Камінтэрна, іголкавага, гарбарнага імя М. А. Еўсцігнеева, фабрык акулярнай, ільнопрадзільнай «Дзвіна», панчошна-трыкатажнай «КІМ» і швейнай «Сцяг індустрыялізацыі», Аршанскага льнокамбіната, БелДРЭС і іншых прадпрыемстваў, больш за тысячу металаапрацоўчых станкоў. Былі сфарміраваны Віцебскае народнае апалчэнне, знішчальныя батальёны, дружыны мясцовай проціпаветранай абароны, ствараліся абарончыя рубяжы. Паводле рашэння бюро абкома КП(б)Б ва ўсіх раёнах вобласці былі пакінуты арганізатары падполля і партызанскага руху, толькі ў Віцебску — 60 чалавек.

У пачатку ліпеня на тэрыторыі вобласці разгарнуліся жорсткія баі войск Чырвонай Арміі ў складзе 22-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант П. А. Ершакоў), 20-й арміі (генерал-лейтэнант П. А. Курачкін), 19-й арміі (генерал-лейтэнант І. С. Конеў) Заходняга фронту і апалчэнцаў супраць намнога большых па колькасці нямецкіх войск. Выключна цяжкімі былі баі на аршанскім, полацкім і віцебскім напрамках. На аршанскім напрамку ворага стрымлівала 1-я Маскоўская мотастралковая дывізія (палкоўнік Я. Р. Крэйзер), якая разам з іншымі часцямі савецкіх войск затрымала наступленне праціўніка на 2 сутак у раёне Крупкі — Талачын; 8—9 ліпеня Талачын двойчы пераходзіў з рук у рукі. На полацкім напрамку з 5 ліпеня абарону трымалі часці 22-й арміі, якія нанеслі значныя страты 57-му матарызаванаму і 23-му армейскаму карпусам праціўніка. 6—10 ліпеня савецкія войскі 20-й арміі сіламі 5-га (генерал-маёр І. П. Аляксеенка) і 7-га (генерал-маёр В. І. Вінаградаў) механізаваных карпусоў нанеслі контрудар на лепельскім і сененскім напрамках па войсках 3-й танкавай групы ворага. Савецкія войскі выйшлі ў раён г. Сянно, дзе разгарнуліся найбольш упартыя баі, у т. л. і танкавыя (з абодвух бакоў удзельнічала больш за 1,5 тыс. танкаў), прасунуліся на 30—40 км, разграмілі 2 нямецкія матарызаваныя палкі. Толькі ўвод у дзеянне рэзерваў праціўніка вымусіў савецкія войскі спыніць наступленне і 10 ліпеня адыйсці ў раён Оршы. У баях пад Віцебскам выключны гераізм і мужнасць праявілі байцы 153-й стралковай дывізіі (палкоўнік М. А. Гаген), якая з 5 да 11 ліпеня абараняла горад, потым каля месяца вяла баі ў акружэнні, прарвала яго і злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. У абароне горада разам з войскамі ўдзельнічалі батальёны народнага апалчэння. 10 ліпеня 220-я мотастралковая дывізія 19-й арміі двойчы выбівала праціўніка з усходняй часткі Віцебска. 11 ліпеня ворагу ўдалося авалодаць горадам. 14.7.1941 г. каля Оршы ўпершыню была выкарыстана батарэя рэактыўных мінамётаў «кацюш» (камандзір капітан І. А. Флёраў), якая нанесла ўдар па аршанскім чыгуначным вузле і па пераправе ворага цераз Дняпро і Аршыцу.

У ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акупіравалі Віцебскую вобл. Гітлераўцы ўстанавілі жорсткі акупацыйны рэжым. Масавы крывавы тэрор, тактыка спаленай зямлі былі галоўнымі сродкамі ўстанаўлення і падтрымання так званага «новага парадку». У канцэнтрацыйных лагерах і

турмах, у час спецыяльных карных аперацый супраць партызан і насельніцтва акупанты загубілі на тэрыторыі вобласці каля 560 тыс. савецкіх грамадзян. Толькі за першыя 3 месяцы гітлераўцы знішчылі ў Віцебску больш за 20 тыс. чалавек, а за ўвесь час акупацыі — каля 140 тысяч. На Віцебшчыне загінуў кожны трэці жыхар.

Барацьбой насельніцтва вобласці супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, камуністычным падполлем і партызанскім рухам кіравалі Віцебскі (8.3.1942 г.— ліпень 1944 г.), у заходніх раёнах Вілейскі (май 1943 г.— ліпень 1944 г.) падпольныя абкомы КП(б)Б. Сакратарамі Віцебскага падпольнага абкома былі І. А. Стулаў, Я. А. Жылянін, І. Б. Пазнякоў, М. І. Пліс. Друкаваны орган абкома — газета «Віцебскі рабочы» (рэдактары В. Е. Самуцін, з мая 1943 г. А. С. Крушынскі). Абком кіраваў дзейнасцю падпольных Віцебскага гаркома (сакратар В. Р. Кудзінаў) і 20 райкомаў КП(б)Б, якія аб'ядноўвалі 198 пярвічных партыйных арганізацый, 3800 камуністаў; падпольных абкома, гаркома і 20 райкомаў ЛКСМБ, якія аб'ядноўвалі 814 тэрытарыяльных, 523 пярвічныя арганізацыі партызанскіх фарміраванняў, больш за 12 тыс. камсамольцаў. Сакратары Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б — І. Ф. Клімаў, А. А. Манахаў. На сучаснай тэрыторыі Віцебскай вобласці Вілейскі падпольны абком КП(б)Б кіраваў дзейнасцю Браслаўскага, Відзскага, Глыбоцкага, Дзісенскага, Докшыцкага, Дунілавіцкага, Міёрскага, Пастаўскага, Пліскага, Шаркоўшчынскага падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ. Друкаваны орган — «Сялянская газета» (рэдактары А. Ц. Васілеўскі, з кастрычніка 1943 г. М. П. Петухоў).

Першы ў вобласці партызанскі атрад створаны ў Суражскім р-не 9.7.1941 г. Яго сфарміраваў і ўзначаліў стары бальшавік, партызан Грамадзянскай вайны М. П. Шмыроў. На канец жніўня атрад налічваў 90 байцоў. У гэтым жа раёне з пачатку акупацыі дзейнічаў атрад пад камандаваннем Д. Ф. Райцава. У ліпені 1941 г. пачалі дзейнічаць атрад, створаны калгаснікамі сельгасарцелі «Чырвоная Зорка» Чашніцкага р-на, і атрад (80 чалавек), арганізаваны Расонскім райкомам КП(б)Б. На канец 1941 г. партызанскія атрады, падпольныя партыйныя, камсамольскія і антыфашысцкія арганізацыі дзейнічалі на ўсёй Віцебшчыне.

З ліпеня 1941 г. да чэрвеня 1944 г. дзейнічала Віцебскае камуністычнае падполле, якое да лета 1943 г. налічвала больш за 60 груп, больш за 1000 членаў. У верасні 1942 г. адну з груп падполля стварыла і ўзначаліла В. З. Харужая.

У Оршу з савецкага тылу прыбыла і з лістапада 1941 г. дзейнічала група К. С. Заслонава, якую разам з ім узначальвалі А. Я. Андрэеў, С. І. Чэбрыкаў, П. В. Шурмін. Пад іх кіраўніцтвам аршанскія падпольшчыкі да лютага 1942 г. пусцілі пад адхон 6 варожых эшалонаў, вывелі са строю больш за 170 паравозаў, водазабеспячэнне чыгуначнага вузла, дызель-маторную электрастанцыю, знішчылі больш за 400 гітлераўцаў. У жніўні 1941 г. створана камсамольска-маладзёжнае падполле на «Асінторфе», якое ўзначаліў С. П. Шмуглеўскі. Усяго ў Оршы і раёне было каля 70 падпольных груп, больш за 820 падпольшчыкаў.

З ліпеня 1941 г. да верасня 1942 г. пад кіраўніцтвам Расонскага падпольнага райкома КП(б)Б (1-ы сакратар В. Я. Лапенка) і штаба цэнтральнай групы Расонскай арганізацыі на чале з П. М. Машэравым дзейнічала камуністычнае падполле ў Расонскім раёне. Яно аб'ядноўвала Гарбачэва-Мурагоўскую, Заборскую, Межаўскую, Расонскую, Сакалішчанскую, Сельніцкую арганізацыі (больш за 130 чалавек). Арганізацыі камуністычнага, камсамольска-маладзёжнага і антыфашысцкага падполля дзейнічалі таксама ў Асвеі, Браславе, Відзах, Глыбокім, Дзісне, Лепелі, Паставах, Полацку, Суражы, Ушачах, Чашніках, на чыгуначных станцыях Дрэтунь, Обаль, на аэрадроме ў Балбасаве, у многіх вёсках вобласці.

Зімой 1942 г., з набліжэннем да Віцебшчыны войск Калінінскага фронту і ўтварэннем разрыву нямецкай абароны паміж Веліжам і Усвятамі (так званыя «Віцебскія вароты»), актывізавалася дзейнасць народных мсціўцаў. З вясны пачалі стварацца партызанскія брыгады. 8.4.1942 г. арганізавана 1-я Беларуская партызанская брыгада на базе атрадаў М. П. Шмырова (Бацькі Міная), А. П. Дзіка, Д. Ф. Райцава, М. Ф. Біруліна (камандзіры брыгады М. П. Шмыроў, Я. З. Захараў). З сярэдзіны 1942 г. дзейнічалі брыгады 1-я імя К. С. Заслонава (камандзіры К. С. Заслонаў, Л. І. Сяліцкі, Б. К. Іваноў), «Аляксея» (з мая 1944 г. імя А. Ф. Данукалава; камандзіры А. Ф. Данукалаў, В. А. Блахін), 2-я Беларуская імя П. К. Панамарэнкі (камандзіры М. І. Дзячкоў, Я. Н. Барсукоў, М. Ф. Сафронаў), Расонская імя І. В. Сталіна (камандзір Р. А. Ахоцін), Асвейская імя М. В. Фрунзе (камандзіры І. К. Захараў, М. М. Кузьмін), Чашніцкая («Дубава»; камандзір Ф. Ф. Дуброўскі), імя В. І. Чапаева (камандзір У. В. Мельнікаў), Сіроцінская (з лютага 1943 г. імя Ф. Э. Дзяржынскага, з чэрвеня 1943 г. імя С. М. Кароткіна; камандзіры С. М. Кароткін, П. А. Хомчанка, У. М. Талаквадзе) і інш. Усяго на тэрыторыі вобласці (у межах даваеннага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу) змагаліся з ворагам 36 партызанскіх брыгад, 2 палкі, 9 асобна дзейных атрадаў.

Партызаны Віцебшчыны нанеслі ворагу вялізарныя страты. Увосень 1942 г. ў час Сталінградскай бітвы партызаны ўзарвалі чыгуначны мост цераз р. Дрыса, рух паяздоў на чыгунцы Полацк — Дрыса быў спынены на 16 сутак. Яны прымалі ўдзел ва ўсіх этапах «рэйкавай вайны». Толькі ў час 1-га этапа (3—15.8.1943 г.) перабіта 18 429 рэек. Напярэдадні Беларускай аперацыі



*Партызаны вядуць бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі каля Лепеля.*

1944 г. 22 тыс. партызан вывелі са строю амаль усе транспартныя магістралі і дэзарганізавалі ваенныя перавозкі праціўніка па тэрыторыі вобласці. За 3 гады барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў партызаны і падпольшчыкі Віцебшчыны знішчылі больш за 113 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў, 151 танк, пусцілі пад адхон 1147 эшалонаў, збілі 77 самалётаў.

Народныя мсціўцы ў верасні 1942 г. вызвалілі ад акупантаў Асвейскі і Расонскі р-ны, большую частку Ветрынскага, Полацкага, 7 сельсаветаў Сіроцінскага, паўночна-заходнюю частку Суражскага, усходнюю — Гарадоцкага, паўночную — Лёзненскага, паўднёва-ўсходнюю — Сенненскага, паўднёва-заходнюю — Багушэўскага, паўночна-заходнюю — Талачынскага, паўночна-ўсходнюю — Мехаўскага р-наў. Былі вызвалены раённыя цэнтры Бягомль, Расоны, Ушачы. Да канца 1943 г. пад кантролем партызан знаходзілася больш за $^2/_3$, цалкам вызвалена каля $^1/_4$ тэрыторыі вобласці. Толькі Расонска-Асвейская партызанская зона вясной 1943 г. займала плошчу 5 тыс. км$^2$. Тэрыторыя Полацка-Лепельскай партызанскай зоны складала больш за 3,2 тыс. км$^2$, уключала Ушацкі, большую частку Ветрынскага, Пліскага, частку Бешанковіцкага, Бягомльскага, Лепельскага і Полацкага р-наў, каля 1220 населеных пунктаў. На гэтай тэрыторыі была адноўлена Савецкая ўлада, выдаваліся газеты, працавалі радыёвузлы, бальніцы, школы. Партызаны стварылі ў населеных пунктах баявыя заслоны, не давалі акупантам рабаваць і паліць вёскі, знішчаць або вывозіць на катаржныя работы жыхароў, дапамагалі ім выйсці за лінію фронту. Партызаны Расонскай брыгады імя І. В. Сталіна вывелі за лінію фронту 5,5 тыс., 1-я і 2-я Дрысенскія і Асвейская брыгады — больш за 4 тыс. чалавек.

Вялікія партызанскія сілы стваралі нямецкім войскам пагрозу з тылу. Каб ліквідаваць яе, нямецка-фашысцкія акупанты зімой і вясной 1944 г. правялі супраць беларускіх партызан шэраг буйных карных аперацый. Самай вялікай была аперацыя супраць партызан Полацка-Лепельскай зоны, якую з восені 1943 г. абаранялі 16 партызанскіх брыгад (17,5 тыс. чалавек). З снежня 1943 г. кіраўніцтва і каардынацыю іх дзеянняў ажыццяўляла аператыўная група ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху (кіраўнік камандзір злучэння У. Е. Лабанок).

Таленавітымі партызанскімі камандзірамі і арганізатарамі ўсенароднай барацьбы супраць акупантаў праявілі сябе А. Ф. Данукалаў, Ф. Ф. Дуброўскі, К. С. Заслонаў, І. К. Захараў, У. Е. Лабанок, Ф. Р. Маркаў, П. М. Машэраў, М. С. Пруднікаў, П. М. Раманаў, М. П. Шмыроў, удастоеныя звання Героя Савецкага Саюза. За самаадданую барацьбу з ворагам гэтага звання ўдастоены таксама П. А. Галецкі, В. А. Квіцінскі, Т. С. Марыненка, Г. І. Маслоўская, М. Ф. Сільніцкі, Н. В. Траян, У. А. Хамчаноўскі, В. З. Харужая.

На франтах Айчыннай вайны ў Чырвонай Арміі змагаліся дзесяткі тысяч ураджэнцаў Віцебшчыны. За гераізм і мужнасць больш як 120 з іх прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Сярод іх генерал-лейтэнант Ф. А. Асташэнка, генерал-маёр Л. М. Даватар, лётчыкі А. К. Гаравец, Я. В. Васілеўскі, П. В. Кандрацьеў, У. А. Тышэвіч, сапёры А. Я. Казлоў, С. А. Пашкевіч, І. П. Собалеў, снайпер Л. У. Буткевіч, медсястра З. М. Тусналобава-Марчанка.

У перамогу над ворагам зрабілі ўклад віцябчане, эвакуіраваныя на ўсход краіны. Ужо з верасня 1941 г. эвакуіраваныя віцебскі станкабудаўнічы завод імя Камінтэрна, фабрыкі «КІМ», «Сцяг індустрыялізацыі», імя К. Цэткін, іголкавы завод давалі прадукцыю, неабходную фронту. За выкананне заданняў ваеннага камандавання па франтавых перавозках званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена машыністу М. А. Макараву, які ў 1941—43 гг. прымаў удзел у забеспячэнні ваенных аперацый пад Масквою, Сталінградам, Курскам, Віцебскам і інш.

Вызваленне вобласці пачалося ў 1943 г., калі ў выніку летняй і асенняй наступальных аперацый часці Чырвонай Арміі выйшлі на подступы да Віцебска і Оршы. У кастрычніку — снежні войскі Калінінскага (з 20.10.1943 г. 1-ы Прыбалтыйскі, камандуючыя генералы арміі А. І. Яроменка, з 19.11.1943 г. І. Х. Баграмян) і Заходняга (генерал арміі В. Д. Сакалоўскі) франтоў, наступаючы на Віцебскім напрамку, вызвалілі 8.10.1943 г. Лёзна — першы з раённых цэнтраў вобласці; былі вызвалены раённыя цэнтры Езярышча, Гарадок, Сураж. У выніку наступлення ў пачатку 1944 г. савецкія войскі перарэзалі шашу Віцебск — Орша.

Заключным этапам у вызваленні Віцебшчыны стаў чэрвень 1944 г. У час Віцебска-Аршанскай аперацыі (23—27 чэрвеня) войскі 1-га Прыбалтыйскага (генерал арміі І. Х. Баграмян) і 3-га Беларускага (генерал арміі І. Д. Чарняхоўскі) франтоў у складзе армій 43-й (генерал-лейтэнант

А. П. Белабародаў), 6-й гвардзейскай (генерал-лейтэнант І. М. Чысцякоў), 39-й (генерал-лейтэнант І. І. Люднікаў), 5-й (генерал-лейтэнант М. І. Крылоў), 31-й (генерал-лейтэнант В. В. Глаголеў), 5-й гвардзейскай танкавай (маршал бранятанкавых войск П. А. Ротмістраў) пры падтрымцы паветраных армій 3-й (генерал-лейтэнант М. П. Папівін) і 1-й (генерал-лейтэнант М. М. Громаў) разграмілі віцебскую і багушэўска-аршанскую групоўкі ворага. Толькі ў Віцебскім «катле» нямецкае камандаванне страціла каля 35 тыс. салдат і афіцэраў. Было вызвалена больш за 700 населеных пунктаў, у т. л. Віцебск (26.6.1944 г., 43-я і 39-я арміі). Актыўны ўдзел у баях за вызваленне вобласці прымалі партызаны. За гераізм, праяўлены ў баях за Віцебшчыну, 238 савецкім воінам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў Гарадоцкай, Віцебска-Аршанскай, Полацкай аперацыях, нададзены ганаровыя найменні: «Гарадоцкіх» (12 часцям і злучэнням), «Віцебскіх» (62), «Аршанскіх» (41), «Полацкіх» (31).

Вызваленая ад нямецка-фашысцкіх акупантаў Віцебшчына ляжала ў руінах. За час акупацыі колькасць насельніцтва скарацілася ў 2,7 раза. Толькі ў Полацку і Полацкай вобл. (паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу 1944 г.) гітлераўцы загубілі больш за 157 тыс. савецкіх ваеннапалонных, больш за 105,2 тыс. савецкіх грамадзян, у т. л. 6223 дзяцей. На катаржныя работы ў Германію з Полацка і вобласці вывезена 52,6 тыс. чалавек. Захопнікі прычынілі надзвычай вялікія страты гаспадарцы і культуры. У Полацкай вобл. фашысты знішчылі ўсе прамысловыя прадпрыемствы, у Віцебскай вобл. (паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу 1944 г.) поўнасцю разбураны 4852 будынкі прамыслова-вытворчага прызначэння, 18 электрастанцый, узарваны 892 масты, знішчана ці пашкоджана 1076 школ, 205 бальніц і амбулаторый, 378 дзіцячых устаноў, 1130 будынкаў тэатраў, кіно, клубаў.

Нямецка-фашысцкія акупанты амаль поўнасцю знішчылі гарады Віцебск, Полацк, Оршу, Дзісну, зруйнавалі Багушэўск, Докшыцы, Дунілавічы, Асвею, Плісу, Расоны, зрабілі вялікія разбурэнні ў Відзах, Гарадку, Дрысе, Міёрах, Ушачах, Шаркоўшчыне і многіх іншых населеных пунктах, узарвалі і спалілі ўсе чыгуначныя масты, станцыйныя і пуцявыя збудаванні. Акупанты разрабавалі маёмасць калгасаў і саўгасаў, МТС вобласці, спалілі тысячы вёсак. У Асвейскім, Бягомльскім, Дубровенскім, Мехаўскім, Расонскім раёнах не асталося ніводнага ўцалелага населенага пункта. У Суражскім раёне з 346 вёсак уцалелі толькі 5. Абрабаванае захопнікамі насельніцтва не мела прадуктаў харчавання, адзення, абутку, жылля.

Пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх акупантаў працоўныя Віцебшчыны пачалі аднаўляць свае гарады і вёскі, заводы і фабрыкі, саўгасы і калгасы. На дапамогу ім прыйшлі брацкія народы СССР, Віцебшчына атрымала станкі, механізмы, трактары, аўтамашыны, камбайны, абсталяванне для бальніц, школ, дзіцячых дамоў. Дзяржава выдзеліла крэдыты і будаўнічыя матэрыялы. Ужо ў 1945 г. пачаў дзейнічаць першы энергаагрэгат БелДРЭС, распачата будаўніцтва буйной электрастанцыі ў Віцебску. За гады 1-й пасляваеннай пяцігодкі ўзняты з руін і пабудаваны станкабудаўнічыя заводы, дывановы камбінат, фабрыкі швейная «Сцяг індустрыялізацыі», панчошна-трыкатажная «КІМ», дрэваапрацоўчы камбінат у Віцебску, ільнокамбінат і станкабудаўнічы завод «Чырвоны барацьбіт» у Оршы і інш. Намаганнямі працоўных вобласці даваенны ўзровень прамысловай вытворчасці быў перасягнуты да 1950 г.

Вельмі цяжкім было становішча ў сельскай гаспадарцы. Многія спаленыя вёскі не адрадзіліся — не было жыхароў. З дапамогай дзяржавы, усіх братніх народаў СССР сельская гаспадарка Віцебшчыны стала аднаўляцца. У 1944—45 гг. былі адноўлены калгасы, але пасяўныя плошчы ў калгасах і саўгасах у 1945 г. ў параўнанні з даваеннымі склалі толькі 48,6 %. За гады 1-й пасляваеннай пяцігодкі сельскагаспадарчая вытворчасць вобласці наблізілася да даваеннага ўзроўню. Да 1950 г.



*Вулічныя баі ў Віцебску. 26 чэрвеня 1944 г.*



*Бой за вызваленне Полацка. Ліпень 1944 г.*

завершана калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў заходніх раёнах вобласці.

За пасляваенныя пяцігодкі Віцебшчына стала высокаіндустрыяльным краем. Тут развіваюцца тэкстыльна-трыкатажная, станкабудаўнічая, нафтахімічная, паліўная, харчовая і інш. галіны прамысловасці. Агульнасаюзнае значэнне маюць нафтаперапрацоўчая і нафтахімічная прамысловасць. У Наваполацку дзейнічае адзін з буйнейшых у Еўропе нафтаперапрацоўчы завод. Высакаякасную прадукцыю даюць вытворчае аб'яднанне «Палімір» і Полацкі завод шкловалакна. У Новалукомлі створана самая магутная на Беларусі ДРЭС. Аршанскі льнокамбінат і фабрыка «Дняпро», 21 ільнозавод, Віцебскі шаўковы камбінат і іншыя выпускаюць значную частку агульнарэспубліканскай вытворчасці льняных і шаўковых тканін. Станкабудаўнічыя заводы Віцебска і Оршы даюць амаль палавіну выпускаемых у рэспубліцы станкоў. Працуюць прадпрыемствы прамысловасці будаўнічых матэрыялаў і па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны. Віцебскія станкі экспартуюцца ў 20 краін свету, а прадукцыя Віцебскай вобл. — у 60 краін.

Сельская гаспадарка большасці раёнаў Віцебскай вобл. спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі і інтэнсіўным ільнаводстве.

За актыўны ўдзел у партызанскім руху, мужнасць і гераізм працоўных Віцебшчыны, праяўленыя ў Вялікую Айчынную вайну, за поспехі ў аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі Віцебская вобл. у 1967 г. ўзнагароджана ордэнам Леніна.

Змянілася культурнае аблічча Віцебшчыны. У 1984 г. ў вобласці 5 вышэйшых навучальных устаноў: ветэрынарны імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, медыцынскі, педагагічны імя С. М. Кірава, тэхналагічны лёгкай прамысловасці інстытуты ў Віцебску, політэхнічны ў Наваполацку. У Віцебску працуе Аддзяленне Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР. Колькасць студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў у параўнанні з 1940 г. павялічылася больш чым у 3 разы і склала 43,5 тыс. На 1.1.1984 г. на Віцебшчыне дзейнічалі 24 сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, 1077 агульнаадукацыйных школ, 761 дзіцячае дашкольнае, 158 бальнічных устаноў, 1229 бібліятэк, 1062 клубныя установы, 1200 кінаўстановак, 11 музеяў (Віцебскі абласны, Лепельскі, Наваполацкі, Пастаўскі і Полацкі краязнаўчыя, Обальскі камсамольскай славы, Бягомльскі і Ушацкі народнай славы, Расонскі музей баявой садружнасці — філіял Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, музей К. С. Заслонава ў Оршы, музей П. М. Шмырова ў Віцебску). Выдаецца 29 газет, у т. л. абласная — «Віцебскі рабочы». У Віцебску працуе адзін з вядучых творчых калектываў рэспублікі — Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, у вобласці — шэраг народных калектываў. Росквіту культуры і мастацтва Віцебшчыны садзейнічаюць інтэнсіўны абмен духоўнымі каштоўнасцямі і ўзаемнае ўзбагачэнне культур усіх абласцей БССР, а таксама рэспублік шматнацыянальнай Савецкай дзяржавы.

У пасляваенны час у праектных арганізацыях рэспублікі распрацаваны генеральныя планы аднаўлення і рэканструкцыі ўсіх гарадоў вобласці. Для найбольш буйных гарадоў (Віцебск, Полацк, Орша) генеральныя планы карэкціраваліся з улікам іх росту. У аснову планаў пакладзены: выразнае функцыянальнае заніраванне тэрыторый, арганізацыя зручных транспартных сувязей паміж прамысловымі, жылымі раёнамі і зонамі адпачынку, стварэнне сістэмы культурна-бытавога абслугоўвання, вызначэнне магчымасцей далейшага развіцця.

За пасляваенныя гады Віцебск значна вырас і стаў важным прамысловым, адміністрацыйным і культурным цэнтрам БССР. У ім створаны буйныя прамысловыя раёны (Маркаўшчына, Усходні прамысловы вузел і інш.), рэканструяваны жылыя раёны, сфарміраваны развіты грамадскі цэнтр (ву-



*Наваполацк. Агульны выгляд.*

ліцы Кірава, Леніна з плошчамі Леніна, Свабоды, Перамогі). Асаблівая ўвага аддаецца вырашэнню транспартнай праблемы, ствараюцца кальцавыя магістралі, якія звязваюць жылыя і прамысловыя раёны. Для зон адпачынку ў горадзе рэканструююцца і добраўпарадкоўваюцца ўзбярэжжы рэк Заходняя Дзвіна і Віцьба, парк Мазурына, за горадам выкарыстоўваюцца лесапаркі па берагах Заходняй Дзвіны і Лучосы.

Сённяшні Полацк — буйны прамысловы і культурны цэнтр Беларусі. Пры яго забудове ствараюцца сучасныя горадабудаўнічыя ансамблі, адначасова захоўваецца гістарычны цэнтр горада. Зберагліся унікальныя помнікі старажытнарускай архітэктуры — Спаса-Ефрасіннеўская царква і Сафійскі сабор. Сучасная вул. Леніна — самая старадаўняя ў горадзе, на ёй знаходзяцца помнікі гісторыі і архітэктуры 18—19 стагоддзяў. Новае жыллёвае будаўніцтва вядзецца на праспектах К. Маркса і П. Броўкі.

Орша — адзін з найбуйнейшых чыгуначных вузлоў краіны. Тут пабудаваны вялікія прамысловыя прадпрыемствы, ствараюцца новыя жылыя раёны. Заканчваецца рэканструкцыя цэнтра Оршы — вул. Леніна, Камсамольскай, Міру, дзе ўзведзены будынкі для адміністрацыйных і культурна-асветных устаноў. Радыяльная сістэма планіроўкі, якая гістарычна склалася, дапаўняецца кальцавымі магістралямі, што звязваюць раёны горада і забяспечваюць разгрузку цэнтра ад унутрыгарадскіх і транзітных патокаў транспарту.

Для горадабудаўніцтва вобласці характэрна стварэнне новых гарадоў, звязаных з паяўленнем буйных прамысловых аб'ектаў. Так, у 1958 г. ў сувязі з будаўніцтвам буйнейшага ў краіне нафтаперапрацоўчага завода ўзнік горад нафтавікоў — Наваполацк; у ходзе будаўніцтва з 1964 г. Дзяржаўнай раённай электрастанцыі вырас горад энергетыкаў — Новалукомль. Новыя гарады фарміруюцца з улікам прагрэсіўных прынцыпаў архітэктуры і горадабудаўніцтва, у іх ствараецца ўсё



*Полацк. Праспект К. Маркса.*

неабходнае для жыцця, працы і адпачынку жыхароў.

Значныя змены адбываюцца ў малых гарадах і пасёлках гарадскога тыпу вобласці. Вядуцца работы па добраўпарадкаванню вулічнай сеткі, рэканструкцыі старых кварталаў, па стварэнню поўнага комплексу культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва, будуюцца шматпавярховыя жылыя дамы. Адначасова ў раённых цэнтрах захоўваецца і індывідуальная забудова з прысядзібнымі ўчасткамі і садамі. Сучасныя драўляныя жылыя дамы, у дэкаратыўным афармленні якіх выкарыстоўваюцца традыцыі народнага дойлідства, ствараюць маляўнічую панараму забудовы. Побач з рэканструкцыяй старых кварталаў ажыццяўляецца комплексная забудова свабодных тэрыторый, дзе ствараюцца новыя жылыя раёны з поўным інжынерным добраўпарадкаваннем і комплексам культурна-бытавых устаноў. Напрыклад, у Верхнядзвінску пры ўездзе ў горад з боку Полацка новы мікрараён забудоўваецца 3—5-павярховымі мураванымі жылымі дамамі. У г. Міёры фарміруецца мікрараён у раёне вуліц Камуністычнай і Дзяржынскага, у г. Глыбокае — на вул. Леніна. У некаторых малых гарадах ствараюцца новыя вучэбныя комплексы. На паўднёвай ускраіне Гарадка будуецца комплекс тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі, дзе вучэбныя, вытворчыя і жылыя будынкі ствараюць адзіны ансамбль. Асаблівасцю сучаснай рэканструкцыі малых гарадоў з'яўляецца фарміраванне адміністрацыйных і грамадскіх цэнтраў. Развіццё іх ідзе 2 шляхамі: рэканструкцыя старога і стварэнне новага. Так, у Міёрах на



*Панарама забудовы левабярэжнай часткі Віцебска.*



*Цэнтральная сядзіба саўгаса «Сялюты». Вёска Сакольнікі Віцебскага раёна.*

скрыжаванні вуліц Кірава і Камуністычнай размешчаны будынкі райкома партыі, райвыканкома, Дома культуры і інш.; плошча Свабоды — стары цэнтр горада — фарміруецца як гандлёвая зона. Тут узведзены 5-павярховыя жылыя дамы з магазінамі. У г. Дуброўна грамадскі цэнтр развіваецца кампактна, гарадская плошча падзелена скверам на 2 часткі — адміністрацыйна-грамадскую і гандлёвую. Цікавы прасторава развіты грамадскі цэнтр фарміруецца ў г. п. Расоны. Ён уключае адміністрацыйную з Домам Саветаў і культурна-відовішчную з Домам культуры зоны, якія шырокім зялёным калідорам злучаюцца з гандлёвай зонай і мемарыяльным паркам на вул. Савецкай. У кампазіцыі цэнтраў многіх гарадоў важнае месца займае Дом Саветаў, у якім размяшчаюцца адміністрацыйныя і гаспадарчыя ўстановы. Гэта сучасны грамадскі будынак, у вырашэнні якога выкарыстоўваюцца новыя будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы з улікам мясцовых умоў.

Большасць гарадоў вобласці размешчана на маляўнічай мясцовасці, каля рэк ці азёр. Іх наваколле з'яўляецца зонай адпачынку насельніцтва. Там ствараюцца водна-спартыўныя комплексы. У Гарадку такі комплекс паблізу воз. Лугавое, у Верхнядзвінску — каля р. Дрыса і інш. У паўночнай частцы вобласці, на Браслаўскіх азёрах, развіваецца курортная зона рэспубліканскага значэння.

Пры рэканструкцыі гарадоў захоўваюцца помнікі гісторыі і архітэктуры, улічваецца сувязь іх з сучаснай забудовай. У Віцебскай вобласці вылучаны 3 гарады (Віцебск, Полацк і Орша), у якіх ахоўваюцца гісторыка-архітэктурныя зоны як помнікі горадабудаўнічай культуры, архітэктуры і гісторыі. Гарады Браслаў, Глыбокае, Паставы, дзе захаваліся выдатныя помнікі архітэктуры, уключаны ў турысцкія маршруты.

Значныя змены адбыліся ў забудове сельскіх населеных пунктаў. Замест маленькіх вёсак узнікаюць новыя пасёлкі — цэнтры ўзбуйненых гаспадарак (цэнтральная сядзіба саўгаса «Сялюты» Віцебскага р-на), дзе комплексна вырашаюцца праблемы арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, архітэктуры, будаўніцтва і добраўпарадкавання.

У апошнія дзесяцігоддзі на Віцебшчыне вялікае развіццё атрымала манументальнае мастацтва, што сведчыць аб імкненні народа ўвекавечыць памяць барацьбітоў за Савецкую ўладу, герояў Вялікай Айчыннай вайны, якія ў жорсткай барацьбе адстаялі заваёвы Кастрычніка. У гарадах і многіх вёсках, на месцах жорсткіх баёў, дыслакацыі партызанскіх злучэнняў, спаленых разам з жыхарамі населеных пунктаў, лагераў смерці, на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, ахвяр фашызму пастаўлены помнікі, насыпаны курганы, устаноўлены мемарыяльныя дошкі. Устаноўлены помнікі Героям Савецкага Саюза: А. К. Гараўцу (1973 г., скульпт. С. Адашкевіч) і Т. С. Марыненцы ў Полацку, Л. М. Даватару ў в. Хоціна Бешанковіцкага р-на (1961 г., скульпт. А. Глебаў), М. П. Шмырову ў Віцебску (1969 г., скульпт. З. Азгур). Адзін з лепшых помнікаў — помнік Герою Савецкага Саюза К. С. Заслонаву, пастаўлены ў Оршы на яго магіле каля чыгуначнага вакзала (1955 г., скульпт. С. Селіханаў).

Размах сацыялістычнага будаўніцтва, няспынны рост духоўных і мастацка-эстэтычных патрэб народа, а таксама выдатныя юбілеі — 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, 20- і 30-годдзе вызвалення вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 1000-годдзе Віцебска — садзейнічалі шырокаму развіццю манументальнага мастацтва на Віцебшчыне. Помнікі У. І. Леніну ўстаноўлены ў 1956 г. на плошчы Леніна ў Віцебску (скульпт. Г. Арапаў і М. Алешчанка, арх. П. Юрчанка), у 1970 г. ў г. Лепелі (скульпт. І. Глебаў, Б. Івонцьеў, арх. Ю. Казакоў). Сярод манументальных помнікаў дзеячам нацыянальнай культуры вылучаецца велічны манумент Ф. Скарыне, пастаўлены ў 1974 г. ў Полацку (скульпт. А. Глебаў, І. Глебаў, А. Заспіцкі, арх. В. Марокін); помнік заснавальніку беларускага прафесійнага тэатра І. Ц. Буйніцкаму ў 1975 г. ў в. Празарокі Глыбоцкага р-на (скульпт. І. Міско, арх. М. Бурдзін).

Па ініцыятыве ЦК ЛКСМ Беларусі ў 1960-я г. скульптарамі і архітэктарамі выканана серыя помнікаў героям-камсамольцам, якія ўстаноўлены на месцах дзеяння камсамольскіх падпольных арганізацый — у г. п. Обаль (1967 г., скульпт. Я. Печкін), рабочым пасёлку Асінторф (1967 г., скульпт. Г. Мурамцаў, арх. В. Занковіч, Л. Левін). На Смаленскай плошчы ў Віцебску пастаўлены абеліск падпольшчыкам Віцебска (1968 г., скульпт. А. Паўлючук, арх. А. Бельскі).

На цэнтральных магістралях вобласці мемарыяльнымі знакамі адзначаны месцы жыцця і дзейнасці герояў Вялікай Айчыннай вайны. На шашы Лепель — Ула, каля павароту на в. Хоціна, уста-

ноўлена стэла Герою Савецкага Саюза Л. М. Даватару (1965 г., скульпт. М. Рыжанкоў, арх. В. Занковіч і Л. Левін), на скрыжаванні дарог Мінск — Масква і Орша — Віцебск — помнік Герою Савецкага Саюза К. С. Заслонаву (1965 г., скульпт. Г. Мурамцаў, арх. В. Занковіч, Л. Левін).

У помніках апошніх дзесяцігоддзяў праяўляецца тэндэнцыя зліцця архітэктурных і скульптурных форм у адзіным ансамблі, у мемарыяльных збудаваннях павялічваецца роля архітэктуры. Мастакі часта адмаўляюцца ад класічных аднафігурных кампазіцый, ствараюць архітэктурна-скульптурныя комплексы: «Кацюша» ў Оршы (1966 г., арх. Ю. Градаў, В. Занковіч і Л. Левін) — у памяць першага бою легендарнай батарэі рэактыўных мінамётаў; «Прарыў» непадалёку ад в. Паперына Ушацкага р-на — у гонар Полацка-Лепельскай бітвы партызанскіх брыгад з фашысцкімі карнікамі (1974 г., скульпт. А. Анікейчык, арх. Ю. Градаў і Л. Левін); помнік воінам-вызваліцелям, партызанам і падпольшчыкам — на пл. Перамогі ў Віцебску (1974 г., скульпт. Б. Маркаў і Я. Печкін, арх. Ю. Шпіт); манумент у гонар гераічнай абароны вышыні імя Ціхмянава ў Лёзненскім р-не (1972 г., скульпт. А. Тарасян, арх. З. Озерава); мемарыяльныя комплексы Рыленкі каля г. Дуброўна (1973 г., скульпт. М. Рыжанкоў і М. Ткачук) і «Праклён фашызму» ў Докшыцкім р-не ў памяць аб спаленай фашыстамі в. Шунеўка (1983 г., скульпт. А. Анікейчык, арх. Л. Левін, Ю. Градаў). Развіваецца і традыцыйны тып помніка-бюста. У 1980 г. ў Віцебску адкрыты помнік вядомаму партыйнаму і дзяржаўнаму дзеячу, Герою Савецкага Саюза і Герою Сацыялістычнай Працы П. М. Машэраву (скульпт. З. Азгур, арх. Ю. Казакоў), у Полацку — герою Грамадзянскай вайны, военачальніку У. М. Азіну (1979 г., скульпт. С. Вакар, арх. Ю. Казакоў). Сграфіта, мазаіка, разьба па дрэве і інкруставаныя пано, вітражы ўпрыгожваюць палацы культуры і кінатэатры, кафэ і гасцініцы, будынкі фабрык і заводаў Віцебшчыны.

Гісторыя станаўлення і развіцця архітэктуры і мастацтва Віцебскай вобл. ў савецкі час — яскравы прыклад трыумфу ленінскай нацыянальнай палітыкі ў нашай краіне, росквіту нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры беларускага народа.

*Літ.:* Ленін У. І. Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню.— Тв., т. 20 (Полн. собр. соч., т. 24); яго ж. Аб пралетарскай культуры.— Тв., т. 31 (Полн. собр. соч., т. 41); Абезгауз З. Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века.— Мн., 1971; Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в.— Мн., 1978; Аблова Р. Т. Это было в Белоруссии.— М., 1957; Акты, документы и материалы для истории 1812 года. Т. 3.— СПб., 1912; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Северной Белоруссии.— М., 1966; яго ж. По Западной Двине и Днепру в Белоруссии.— М., 1974; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Антонович В. Б. Очерки истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. В. 1.— Киев, 1878; Артеменко И. И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы.— М., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 148); Археалогія, нумізматыка і геральдыка Беларусі.— Мн., 1979; Архитектура Советской Белоруссии.— М., 1973; Баркоўскі С. 1 Мая на Беларусі.— 3 выд.— Мн., 1932; Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Без-Корнилович М. О. Витебская губерния.— СПб., 1852; яго ж. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Беларускія старажытнасці.— Мн., 1972; Белоруссия в Союзе Советских Республик.— Мн., 1972; Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1.— Мн., 1983; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Белорусская ССР: Административно-территориальное деление на 1 января 1981 года.— 6 изд.— Мн., 1981; Библиотечное дело в БССР: Документы и материалы. 1918—1941.— Мн., 1978; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; яго ж. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг.— Мн., 1983; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; яго ж. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1962—72; Бруноў М. І. Беларуская архітэктура XI—XII ст.— У кн.: Зборнік артыкулаў. Этнаграфія. Антрапалогія. Псіхалогія, псіхатэхніка і навуковая арганізацыя працы. Гісторыя мастацтва. Мн., 1928; Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933; Брюханов А. И. В штабе партизанского движения.— Мн., 1980; БССР: Эканоміка-статыстычны даведнік.— Мн., 1931; Бяляўцаў У. І., У. І. Ленін і Беларусь.— Мн., 1972; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте: Воспоминания активных участников Октябрьской революции.— Мн., 1957; В борьбе и труде: Участие женщин Белоруссии в революционном движении, социалистическом и коммунистическом строительстве.— 2 изд.— Мн., 1977; В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В памяти народной: Путеводитель по местам борьбы за установление Советской власти в Белоруссии, за честь, свободу и независимость социалистической родины.— Мн., 1969; Великая Октябрьская социалистическая революция: Хроника событий. Т. 1—4.— М., 1957—61; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Великая Отечественная война Советского Союза. 1941—1945. Краткая история.— 2 изд.— М., 1970; Витебская губерния: Историко-географический и статистический обзор. В. 1.— Витебск, 1890; Витебская область: Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1974; Витебская старина/Сост. А. П. Сапунов. Т. 1, 4, 5 — Витебск, 1883—88; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; яго ж. Жилищное строительство в Белорусской ССР.— Мн., 1980; Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; Воранава А. І. Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг.— Мн., 1960; Восстановление народного хозяйства БССР (1921—1925 гг.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1981; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Гаўрыс І. Вобразнае мастацтва ў г. Віцебску.— У кн.: Віцебшчына. Віцебск, 1928, т. 2; Герман К. К. Двадцатипятитысячники Белоруссии.— Мн., 1971; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1968—69; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1965—66; Глыбовский В. И. 1812-ый год в Витебской губернии.— Витебск, 1910; Гневко В. Г. Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября (март 1917 — март 1918 гг.).— Мн., 1973; Греков Б. Д. Киевская Русь.— [6 изд.].— М., 1953; Гречкин Г. Борьба за установление Советской власти в Витебской губернии.— Витебск, 1958; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (Социально-экономическое исследование истории городов).— Мн., 1975; яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.).— Мн., 1979; Грушевский А. С. Города Великого княжества Литовского в XIV—XVI вв. Старина и борьба за старину.— Киев, 1918; Данилевич В. Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия.— Киев, 1896; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2.— Могилев, 1884; Добровольский В. К. Витебская губерния в Отечественную войну. — Витебск, 1912; Довнар-Запольский М. В. Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия.— Киев, 1891; яго ж. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1.— Киев, 1901; яго ж. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI веке.— Киев, 1905; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 1—4.— Мн., 1936—54.— Назва т. 1: Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах; т. 2: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі; Древности Белоруссии.— Мн., 1966; Древности Белоруссии.— Мн., 1969; Древности Белоруссии и Литвы: [Сб. статей].— Мн., 1982; Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974; яго ж. Живопись Советской Белоруссии (1917—1975 гг.).— Мн., 1979; Дубін-

скі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1; Дудкоў Д. А. Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерні.— Мн., 1931; яго ж. Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў 2-й палове XIX і пачатку XX стагоддзя.— Мн., 1932; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Елатомцева И. М. Монументальная летопись эпохи.— Мн., 1969; яе ж. Очерки по истории белорусской советской станковой скульптуры.— Мн., 1974; Ермаловіч М. І. Дарагое беларусам імя.— Мн., 1970; Ешин С. З. Развитие культуры в БССР за годы Советской власти.— Мн., 1970; Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Жилянин Я. А., Позняков И. Б., Лузгин В. И. Без линии фронта.— 2 изд.— Мн., 1979; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Загорульский Э. М. Археология Белоруссии.— Мн., 1965; яго ж. Древняя история Белоруссии: Очерки этнической истории и материальной культуры (до IX в.).— Мн., 1977; Залескі А. І. Дарогамі партызанскай Беларусі.— Мн., 1974; Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— Мн., 1973; Зборнік лістовак усенароднай партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944 гг.).— Мн., 1952; Зельтен Н. А. Архитектура и планировка малых городов Белоруссии.— Мн., 1968; Ивашненко И. Е. Промышленность БССР в восстановительный период 1921—1925 гг.— Мн., 1971; Игнатенко А. П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв.— Мн., 1963; яго ж. Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII—XVIII в.).— Мн., 1974; Игнатенко И. М. Беднейшее крестьянство — союзник пролетариата в борьбе за победу Октябрьской революции в Белоруссии (1917—1918 гг.).— Мн., 1962; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы): (Сб. воспоминаний).— Мн., 1961; Индустриализация Белорусской ССР (1926—1941 гг.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1975; Искусство Советской Белоруссии.— М.; Л., 1940; История белорусской дооктябрьской литературы.— Мн., 1977; История белорусской советской литературы.— Мн., 1977; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 1—6.— М., 1960—65; История гражданской войны в СССР. Т. 1—5.— М., 1938—60; Итоги Всесоюзной переписи населения 1970 года. Т. 1—2.— М., 1972; Казаков Н. П. Когда гнев обжигает сердца.—2 изд.— М., 1965; Казицкий А. Солдаты Дзержинского.—У кн.: Чекисты рассказывают. М., 1979, кн. 4; Каленчук Д. М. Витебская губерния.— Витебск, 1908; Калечиц Е. Г. Первоначальное заселение территории Белоруссии.— Мн., 1984; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Каменская Н. В. Первые социалистические преобразования в Белоруссии (25 окт. 1917 — июль 1919 г.).— Мн., 1957; яе ж. Белорусский народ в борьбе за Советскую власть. (1919—1920 гг.).— Мн., 1963; Каравацкий А. З. Маршрутами мужества.— Мн., 1978; Каспаровіч М. І. Віцебская архітэктура ў гістарычнай перспектыве.— У кн.: Віцебшчына. Віцебск, 1925, т. 1; Кацер М. С. Белорусская архитектура: Исторический очерк.— Мн., 1956; яго ж. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода: Очерки.— Мн., 1969; яго ж. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.).— Мн., 1972; Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв.: [Сб. статей].— Мн., 1982; Кісялёў Г. В. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; яго ж. З думай пра Беларусь: Даследаванні і знаходкі з гісторыі беларускай літаратуры і рэвалюцыйнага руху другой паловы XIX стагоддзя.— Мн., 1966; Киселев Т. Я. Советская Белоруссия.— М., 1982; Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Козловский П. Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в.— Мн., 1974; яго ж. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в.— Мн., 1969; Комитеты бедноты Белоруссии: Сб. документов и материалов.— Мн., 1958; Комсомол — нашей доблестной партии сын: Из истории Ленинского Коммунистического Союза Молодежи Белоруссии.— Мн., 1960; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962; Короткевич В. Б. Памятники истории и культуры.— Мн., 1978; Красавицкий П. М. Памятники церковной старины Полоцко-Витебского края и их охранение.— У кн.: Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1911, кн. 1; Красная быль: Большевики в Витебске.— Витебск, 1923; Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— Мн., 1983; Красовский Н. И. Высшая школа Советской Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1972; Краўчанка І. С. Работа Кампартыі Беларусі ў тылу ворага (1941—1944 гг.).— Мн., 1959; яго ж. Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.— Мн., 1950; Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 году.— Мн., 1947; Круталевич В. А. Административно-территориальное устройство БССР.— Мн., 1966; яго ж. Рождение Белорусской Советской Республики: (Провозглашение республики. Развертывание национально-государственного строительства. Ноябрь 1918 — февраль 1919 г.).— Мн., 1979; Кузняев А. А. На пути к Октябрю: Из истории партийного строительства в Белоруссии 1884—1917 гг.— Мн., 1970; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981; Левко О. Н. Витебские изразцы XIV—XVIII вв.— Мн., 1981; Липило П. П. КПБ — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.— Мн., 1959; Липинский Л. П. Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии.— Мн., 1978; Липинский Л. П., Лукьянов Е. П. Крестьянское движение в Белоруссии в период между двумя революциями (июнь 1907 — февраль 1917 гг.).— Мн., 1964; іх жа. Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900—1907 гг.).— Мн., 1968; Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; яго ж. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; Лочмель И. Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов.— М., 1940; Лукьянов Е. П. Крестьянское движение в Белоруссии накануне Великой Октябрьской социалистической революции.— Мн., 1958; Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно.— 2 изд.— М., 1915; Люди Нарочанского края: Воспоминания участников революционной борьбы и Великой Отечественной войны.— Мн., 1975; Ляўданскі А. М. Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; яго ж. Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе.— Там жа; яго ж. Археалагічныя доследы ў БССР пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Ляўданскі А. М., Палікарповіч К. М. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг.— У кн.: Запіскі Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1936, кн. 5; Маланьин К. А. Разгром врага в Белоруссии (1944 год).— М., 1961; Мальдзіс А. І. Таямніцы старажытных сховішчаў.— Мн., 1974; Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века.— М., 1974; Мандрик И. А. В суровые дни.— Мн., 1974; Марцелев С. В. Печать Советской Белоруссии: (Исторический очерк).— Мн., 1967; яго ж. На путях строительства социализма: Печать Белоруссии в 1926—1937 гг.— Мн., 1972; яго ж. К духовному расцвету.— Мн., 1974; яго ж. Художественная культура Белоруссии на современном этапе.— Мн., 1978; яго ж. Печать Белоруссии в период развитого социализма.— Мн., 1982; Мастацтва Савецкай Беларусі: Зб. дакументаў і матэрыялаў Т. 1 (1917—1941 гг.) — Мн., 1976; Машеров П. М. Избранные речи и статьи.— Мн., 1982; Мелешко В. И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.).— Мн., 1975; яго ж. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII — XVIII в.— Мн., 1982; Мелишкевич В. У. Русско-белорусские культурные связи второй половины XIX века.— Мн., 1984; Мельничук С. М. Витебская область.— Мн., 1962; Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978; Народное образование в БССР: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1979—80; Народное хозяйство Белорусской ССР в 1982 г.: Статистический ежегодник.— Мн., 1983; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984; Непокоренная Белоруссия.— М., 1963; Николаев В. Н., Щербаков А. Д. Когда смерть не страшна.— М., 1958; Новиков И. Г. Лицом к опасности.— Мн., 1974; Олехнович Г. И. Трудящиеся Белоруссии — фронту.— Мн., 1972; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 2 (1921—1966).— Мн., 1967; Очерки истории Ленинского комсомола Белоруссии.— Мн., 1975; Очерки истории пионерской организации Белоруссии.— Мн., 1975; Очерки истории профсоюзов Белоруссии (1905—1969 гг.).— Мн., 1970; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2.— Мн., 1970—72; Очерки развития профессионально-технического образования в БССР.— Мн., 1973; Павлов Я. С. Народная война в тылу интервентов и белогвардейцев: (Руководство РКП(б) подпольной и партизанской борьбой в годы вооруженной иностранной интервенции и гражданской войны).— Мн., 1983; Панамарэнка П. К. Партызанскі рух у Вялікай Айчыннай вайне.— [М.], 1943; Панютич В. П. Из истории формирования пролетариата Белоруссии 1861—1914 гг.— Мн., 1969; Партийное подполье: Деятельность подпольных партийных органов и организаций на оккупированной советской территории в годы Великой Отечественной войны.— М., 1983. Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974; Петриков П. Т. Организация и деятельность революционных комитетов на территории Белоруссии в 1920 году.— Мн., 1962; Пионеры-герои.— Мн., 1972; Письма трудящихся Белоруссии В. И. Ленину. 1917—1924.— 3 изд.— Мн., 1980; Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв.: (Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития).— М., 1961; Плотников Ю. В. В сражениях за Белоруссию.— Мн., 1982; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983; Подвиги их бессмертны: О подпольной борьбе советских людей в захваченных фашистскими оккупантами городах и селах Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1978; Подготовка сплошной коллективизации сельского хозяйства Бело-

русской ССР.— Мн., 1976; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Поликарпович К. М. Палеолит Верхнего Поднепровья.— Мн., 1968; Полное собрание русских летописей. Т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца...— М., 1975; Полоцко-Витебская старина. Кн. 1—3.— Витебск, 1911—16; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973; Пономаренко П. К. Непокоренные: (Всенародная борьба в тылу фашистских захватчиков в Великую Отечественную войну).— М., 1975; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.] — Мн., 1965; Прохоренко Е. Н., Рыжиков В. Т. Грозно шумела пуща.— Мн., 1977; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1957; Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г.— июль 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1961; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966; Романов А. На земле непокоренной.— Мн., 1962; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Русско-белорусские связи: Сб. документов (1570—1667 гг.).— Мн., 1963; Рыбаков Б. А. Русские датированные надписи XI—XIV веков.— М., 1964; яго ж. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв.— М., 1982; Самбук С. М. Революционные народники Белоруссии (70-е — начало 80-х годов XIX в.).— Мн., 1972; Сапунов А. П. Река Западная Двина: Историко-географический обзор.— Витебск, 1893; яго ж. Памятники времен древних и новейших в Витебской губернии.— Витебск, 1903; яго ж. Белоруссия и белорусы.— Витебск, 1910; Сардаров А. С. История и архитектура дорог Белоруссии.— Мн., 1978; Сахута Е. М. Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии.— Мн., 1982; Свірыдаў С. А. Праз полымя: Нарысы, партызанскія былі.— Мн., 1981; Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья.— М., 1970; яго ж. Восточные славяне в VI—XIII вв.— М., 1982; Сементовский А. М. Витебск и уездные города Витебской губернии.— СПб., 1864; Славяне накануне образования Киевской Руси.— М., 1963.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 108); Солодков Т. Е. Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907—1917 гг.).— Мн., 1967; Солошенко В. И. Из истории распространения марксизма в Белоруссии (1883—1904 гг.).— Мн., 1963; Социалистические преобразования в экономике Белоруссии в 1917—1920 гг.— Мн., 1966; Статистический справочник состояния народного хозяйства и культуры Белорусской ССР к началу Великой Отечественной войны.— М., 1943; Страницы героической истории: К 50-летию Краснознаменного Белорусского военного округа.— Мн., 1968; Судебный процесс по делу о злодеяниях, совершенных немецко-фашистскими захватчиками в Белорусской ССР (15—29 января 1946 года).— Мн., 1947; Тихомиров М. Н. Древнерусские города.— 2 изд.— М., 1956; Тихоненков И. М. Новые памятники каменного века Северной Белоруссии.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967; Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977; яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; Третьяков П. Н. Восточнославянские племена.— 2 изд.— М., 1953; яго ж. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге.— М.; Л., 1966; яго ж. По следам древних славянских племен.— Л., 1982; Труды Витебской ученой архивной комиссии. Кн. 1.— Витебск, 1910; Тябут Д. В. Сквозь огонь: Записки комбрига.— 3 изд.— Мн., 1979; яго ж. На освобожденной земле: Записки секретаря райкома партии.— Мн., 1982; 1905 год на Аршанщчыне.— Орша, 1926; Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода.— М., 1973; Усе раёны БССР.— Мн., 1933; Факторович А. А. Крах аграрной политики немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии.— Мн., 1979; Федотов М. Н. Разведка ведет поиск.— Мн., 1976; Филимонов А. А. Главная сила и опора Советской власти.— [2 изд.] — Мн., 1982; Фих Б. М. Аграрная революция в Белоруссии (1917—1920 гг.).— Мн., 1966; Хацкевич А. Ф., Крючок Р. Р. Становление партизанского движения в Белоруссии и дружба народов СССР.— Мн., 1980; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1—3.— Мн., 1962—80; Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; яго ж. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; яго ж. Архитектурные памятники Белоруссии.— Мн., 1982; Чарняўская Т. І. Архітэктура Віцебска: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1980; Чепко В. В. Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века.— Мн., 1966; яе ж. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в.— Мн., 1972; яе ж. Города Белоруссии в первой половине XIX века: (Экономическое развитие).— Мн., 1981; Чистяков И. М. Служим Отчизне.— Мн., 1982; Шабуня К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг.— Мн., 1962; Шамаль А. А. В сарьянских лесах.— Мн., 1973; Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971; Шмуглевский С. П. Рядовые подполья.— Мн., 1971; Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. В. 2.— Мн., 1971; яго ж. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; яго ж. Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX—XIII вв.).— Мн., 1975; Штыхов Г. В., Лысенко П. Ф. Древнейшие города Белоруссии.— Мн., 1966; Шубин Г. А. Из истории всенародной борьбы против немецко-фашистских оккупантов в западных областях Белоруссии (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Волгоград, 1972; Шчакаціхін М. М. Матэрыялы да гісторыі беларускага малярства XVIII сталецця.— У кн.: Віцебшчына. Віцебск, 1925—28, т. 1—2; яго ж. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1.— Мн., 1928; Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900—1917.— Мн., 1963; Экономика Советской Белоруссии. 1917—1967.— Мн., 1967; Экономическая география Белоруссии.— 3 изд.— Мн., 1982; Якубовский Н. А. Помощь советского тыла партизанам.— Мн., 1973; Яфрэмава О. І. Барацьба за перамогу марксісцкіх ідэй у рабочым руху Беларусі (1907—1914 гг.).— Мн., 1962; Короткина Н. Ф., Цлаф С. Г., В. И. Ленин о Белоруссии: Библиогр. указатель.— Мн., 1970; Сакольчик А. А. Дооктябрьская книга на русском языке о Белоруссии (1768—1917 гг.). Библиогр. указатель.— 2 изд.— Мн., 1976; Крэканэ М. Г., Сакольчык А. А. Бібліяграфія па гісторыі Беларусі: Феадалізм і капіталізм.— Мн., 1969; Голиков К. И., Николаевский М. А., Фаустова З. Д. Первая русская революция 1905—1907 гг.: Аннотированный указатель литературы.— М., 1965; Баханькова В., Сасноўская Д. Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): Бібліягр. паказальнік.— Мн., 1970—76; Баханькова В. У. Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): (Бібліягр. паказальнік) 1981.— Мн., 1982; Чыгірова Р. М., Ляўко Э. І. Беларуская ССР у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): Бібліягр. паказальнік літаратуры (1941—1971 гг.) — Мн., 1980; Генина Д. Н. Витебск в десяти веках: Библиогр. указатель литературы.— Витебск, 1975.

*У. В. Алісейчык, С. Г. Багласаў, У. Дз. Будзько, В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч, Г. П. Лебедзеў, Э. М. Савіцкі, Т. І. Чарняўская.*






Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

## І. ВІЦЕБСК

Горад, цэнтр Віцебскай вобл. Размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы рэспублікі, на ўзвышаных берагах р. Заходняя Дзвіна пры ўпадзенні ў яе рэк Віцьба і Лучоса. Порт, вузел чыгуначных і шашэйных дарог (напрамкі на Маскву, Ленінград, Оршу, Полацк). Аэрапорт. Насельніцтва 330,1 тыс. чал. (1.1.1984 г.). Падзяляецца на 3 раёны: Кастрычніцкі, Першамайскі, Чыгуначны.

Віцебск (летапісны Видбеск, Видебск, Витепеск, Витьбеск) як паселішча крывічоў існаваў з 9 ст., у 2-й палавіне 10 ст. стаў цэнтрам рамяства і гандлю. Назву атрымаў ад р. Віцьба. Умацаваны цэнтр Віцебска — гарадзішча, ці Замкавая гара,— пазней разрослася, заняў усё ўзвышша і атрымаў назву Верхняга замка. Суседнія паселішчы ператварыліся ў пасад — Ніжні замак. Паводле рукапісу Міхаіла Панцырнага (1760 г.), Віцебск заснаваны ў 974 г. У старажытнарускіх летапісах упамінаецца пад 1021 г. як уладанне полацкага князя Брачыслава Ізяславіча. Пасля 1101 г. стаў цэнтрам удзельнага Віцебскага княства. У сярэдзіне 12 ст. тут правілі полацкія князі Васількавічы, у 1160—70-я гады — смаленскі князь Давыд Расціслававіч. З 1180 г. віцебскім князем стаў Брачыслаў Васількавіч. Аляксандр Неўскі, жанаты з яго дачкою, неаднаразова наведваў горад, у 1245 г. ўдзельнічаў у абароне Віцебска ад літоўскіх феадалаў. У пачатку 14 ст. ў Віцебску княжыў Яраслаў Васілевіч, з 1320 г. літоўскі князь Альгерд, які ажаніўся з Марыяй, дачкою Яраслава. У 12—13 стагоддзях цэнтр на гандлёвым шляху па Заходняй Дзвіне. З 1320 г. ў складзе Вялікага княства Літоўскага, карыстаўся пэўнай аўтаноміяй. Развіваліся рамёствы, пашыраліся гандлёвыя сувязі з Масквой, Ноўгарадам, Псковам, Смаленскам, Цвер'ю. Жыхары Віцебска ўдзельнічалі ў будаўніцтве Крамля ў Маскве. Да 13—14 стагоддзяў адносіцца берасцяная грамата, знойдзеная ў 1959 г. пры рэканструкцыі плошчы Свабоды. У Віцебску княжылі сыны Альгерда — Андрэй, Ягайла, Свідрыгайла. У канцы 14 — пачатку 15 ст. горад пацярпеў вялікія страты ў выніку міжусобіц Свідрыгайлы і Вітаўта. Дружыннікі з Віцебска прымалі ўдзел у Грунвальдскай бітве 1410 г. Прывілей 1441 г. называе Віцебск сярод 15 буйнейшых гарадоў Вялікага княства Літоўскага. У 1503 г. і 1509 г. горад атрымаў прывілеі, якія вызначалі ўнутраны лад і адносіны да велікакняжацкай улады. З 1506 г. цэнтр Віцебскага ваяводства, гербам ваяводства была так званая «пагоня»: на чырвоным фоне выява конніка са шчытом і ўзнятым над галавой мячом. У 1597 г. Віцебск атрымаў магдэбургскае права і герб: на блакітным фоне выява галавы Спаса, пад ёй акрываўлены меч.

Узмацненне сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту пасля Люблінскай уніі 1569 г., паводле якой Польшча і Вялікае княства Літоўскае аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, і асабліва пасля Брэсцкай уніі 1596 г., неаднаразова выклікала ў Віцебску паўстанні. За ўдзел насельніцтва ў паўстанні 1623 г., калі быў забіты уніяцкі архіепіскап Іасафат Кунцэвіч, горад пазбаўлены магдэбургскага права, прывілеяў на бязмытны (бяспошлінны) гандаль і падпарадкаваны ваяводзе. У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. Віцебск быў заняты рускімі войскамі (1654 г.), але па Андрусаўскім перамір'і 1667 г. зноў адышоў да Рэчы Паспалітай. У 17 ст. быў значным гандлёвым і рамесніцкім цэнтрам, у ім налічвалася больш за 1 тыс. дамоў, меліся дрэва- і металаапрацоўчая, гарбарная, ганчарная, кафельная,васкабойная, мылаварная вытворчасць, апрацоўка футра, мёда- і піваварэнне. У 1-й палавіне 18 ст. ў выніку Паўночнай вайны 1700—21 гг. і ўзмацнення феадальнага прыгнёту Віцебск занепаў.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Віцебск быў уз'яднаны з Расіяй. Пачатовы горад Пскоўскай, з 1776 г. Полацкай губерняў, з 1796 г. цэнтр Беларускай, з 1802 г. Віцебскай губерняў. У 1781 г. гораду зацверджаны новы герб: на чырвоным з сярэбранымі палосамі фоне выява «пагоні».

У 2-й палавіне 18 ст. Віцебск стаў другім па велічыні (пасля Магілёва) горадам Беларусі. У 1772 г. ў ім было 3083, у 1785 г. — 10 501 жыхар. За чвэрць стагоддзя колькасць дамоў вырасла на 87,5 %. Такое хуткае развіццё звязана з уключэннем Віцебска ў сістэму агульнарасійскага рынку і пашырэннем гандлёвых сувязей. Горад быў цэнтрам рамесніцкай вытворчасці па апрацоўцы скуры, металу, дрэва, вырабу рэчаў з пянькі і гліны. У 1789 г. адкрыта некалькі чатырох- і двухкласных народных вучылішчаў, у 1804 г. — гімназія.

У час Айчыннай вайны 1812 г. з 16 ліпеня да 26 кастрычніка акупіраваны французскімі войскамі. Гарадская гаспадарка была разбурана, насельніцтва скарацілася больш як напалавіну. Толькі ў канцы 1-й чвэрці 19 ст. колькасць насельніцтва дасягнула даваеннага ўзроўню.

З часам паскаралася агульнае развіццё Віцебска, пашыралася яго тэрыторыя, умацоўваліся эканамічныя сувязі з рускімі, украінскімі і прыбалтыйскімі гарадамі. У большых маштабах вялося будаўніцтва дарог, мастоў, мураваных будынкаў. У 1866 г. праз горад пракладзена Рыга-Арлоўская чыгунка. Потым чыгуначныя лініі злучылі Віцебск з Пецярбургам, Масквой, Брэстам і Кіевам. У канцы 19 ст. працавалі чыгуначныя і ліцейныя майстэрні, тытунёвая, акулярная і кардонная фабрыкі, кафляны і шкляны заводы, прадпрыемствы па вытворчасці карабельнага каната, скуры, воску, ганчарных і іншых вырабаў; узнікла капіталістычная вытворчасць: у 1894 г. бельгійскія акцыянерныя таварыствы праклалі водаправод, у 1898 г. — першую на Беларусі трамвайную лінію, у 1899—1900 гг. пабудавалі льнопрадзільную фабрыку «Дзвіна». У 1897 г. пабудавана электрастанцыя (250 кВт). Паводле перапісу 1897 г. ў Віцебску 65 871 жыхар (з іх 49,1 % пісьменных), каля 2800 дамоў, 102 прадпрыемствы, каля 1,5 тыс. рабочых і 5 тыс. рамеснікаў, 31 навучальная ўстанова, 3 друкарні, 2 бальніцы на 145 ложкаў. У 1893—1919 гг. існаваў царкоўнаархеалагічны музей, у 1909—19 гг. — гісторыка-археалагічны музей Віцебскай вучонай архіўнай камісіі.

Першыя марксісцкія гурткі ў Віцебску ўзніклі ў 1892—93 гг., многія іх члены ўвайшлі ў сацыял-дэмакратычны камітэт, створаны ў 1897 г. У чэрвені 1899 г. ў Віцебску пад уплывам сацыял-дэмакратычнай агітацыі праведзена адна з першых у Расіі палітычная дэманстрацыя ў сувязі з забойствам паліцыяй членаў рабочых гурткоў. У 1897—1901 гг. адбылося шмат эканамічных забастовак рабочых. У 1900 г. была праведзена майская ўсеагульная палітычная стачка з заклікам да звяржэння самадзяржаўя і ўстанаўлення дэмакратычнай рэспублікі. У канцы 1903 г. створана Віцебская арганізацыя РСДРП, якая кіравала палітычнымі выступленнямі рабочых. Арганізацыя мела свае групы на шэрагу прадпрыемстваў. Пры ёй была створана сялянская сацыялдэмакратычная арганізацыя. У час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі і Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. рэвалюцыйнай барацьбой працоўных Віцебска кіраваў кааліцыйны камітэт. У кастрычніку адбыліся 6-дзённая ўсеагульная палітычная забастоўка, 20- і 40-тысячныя дэманстрацыі, у снежні — забастоўка рабочых чыгуначнай станцыі і прамысловых прадпрыемстваў. У 1909 г. вялікую стачку правялі рабочыя фабрыкі «Дзвіна».

У 1913 г. Віцебск — найбольш значны прамысловы цэнтр Беларусі (109 тыс. жыхароў, 45 фабрык і заводаў) з высокім узроўнем канцэнтрацыі прамысловасці: на 6 прадпрыемствах працавала больш як па 100 рабочых (1,2 тыс. на фабрыцы «Дзвіна», 125 на фабрыцы шкляных вырабаў). Развіццё прамысловасці выклікала



I. *Агульны выгляд горада з Успенскай гары. Здымак пачатку 20 ст.*

рост рабочага класа. У горадзе налічвалася каля 8 тыс. рабочых, амаль 40 % з іх былі заняты на прадпрыемствах тэкстыльнай прамысловасці, каля 20 % складалі металісты. Сярод рабочых, асабліва ў час 1-й сусветнай вайны, было шмат жанчын, дзяцей і падлеткаў (амаль 60 % агульнай колькасці рабочых на канец 1916 г.). Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі ў горадзе было 2 гімназіі (мужчынская і жаночая), 3 вучылішчы (прыходскае, павятовае двухкласнае і аднакласнае), духоўная семінарыя, настаўніцкі інстытут (1910—18 гг.), 5 бібліятэк, чытальня. Пры майстэрні Ю. Пэна ў 1892 г. была адкрыта прыватная мастацкая школа.

У сакавіку 1917 г. ў Віцебску ўзніклі Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 1—3(14—16).10.1917 г. адбылася першая губернская канферэнцыя бальшавікоў. Савецкая ўлада ўстаноўлена 27.10(9.11).1917 г. На мітынгах у Віцебску 11—12.6.1919 г. выступаў М. І. Калінін. У 1918 г. адкрыўся педагагічны інстытут (з 1935 носіць імя С. М. Кірава), у чэрвені 1919 г.— краязнаўчы музей. У 1921 г. заснаваны вышэйшы сельскагаспадарчы тэхнікум (пераўтвораны ў 1924 г. ў ветэрынарны інстытут імя Кастрычніцкай рэвалюцыі), у 1934 г.— бальніца-медінстытут (у 1938 г. перайменаваны ў медінстытут).

З 1924 г. Віцебск — цэнтр раёна, у 1924—30 гг.— цэнтр акругі, з 15.1.1938 г.— цэнтр Віцебскай вобл., з

I. *Від на старую забудову горада з боку р. Віцьба.*

27.9.1938 г.— горад абласнога падпарадкавання.

За гады даваенных пяцігодак Віцебск стаў буйным прамысловым і культурным цэнтрам. Паявіліся новыя галіны прамысловасці — станкабудаўнічая, абутковая, трыкатажная, мэблевая, развіваліся тэкстыльная, швейная і харчовая. У 1938 г. горад даваў 28 % прамысловай прадукцыі, канцэнтраваў 30 % прамысловых рабочых Беларусі. У 1940 г. працавала 209 прадпрыемстваў (каля 31 тыс. рабочых); пражывала 180 тыс. чалавек. Вялося жыллёвае і камунальнае будаўніцтва. У горадзе было 3 ВНУ, 15 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, 42 агульнаадукацыйныя школы, 2 навукова-даследчыя ўстановы, 53 дзіцячыя сады, 29 ясляў, 40 бібліятэк, 18 клубаў, 3 кінатэатры, цырк, драматычны тэатр, архіў, 11 бальніц, 11 амбулаторый і паліклінік, прафілакторыі і іншыя ўстановы аховы здароўя.

У гады Вялікай Айчыннай вайны з 11.7.1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, разбураны больш як на 90 %. Гітлераўцы загубілі ў горадзе 62 тыс. мірных жыхароў і 76 тыс. ваеннапалонных. Пасля выгнання акупантаў у Віцебску было 118 жыхароў. На тэрыторыі вобласці дзейнічалі падпольныя абком, гарком і райкомы КП(б)Б, абком, гарком і райкомы ЛКСМБ, камуністычнае падполле. Вызвалены войскамі 43-й арміі (генерал-лейтэнант А. П. Белабародаў) 1-га Прыбалтыйскага фронту і 39-й арміі (генерал-лейтэнант І. І. Люднікаў) 3-га Беларускага фронту ў ходзе Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944 г. 62 вайсковым злучэнням і часцям, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Віцебскіх».

Адраджэнне горада адбывалася хуткімі тэмпамі. У 1946 г. першую прадукцыю выпусцілі станкабудаўнічыя заводы імя Камінтэрна, імя С. М. Кірава, у 1947 г.— домабудаўнічы і дывановы камбінаты. У тым жа годзе пушчаны трамвай. Пачалі працаваць мэблевая фабрыка, дрэваапрацоўчы камбінат (1948 г.). У 1953 г. ўведзены ў дзеянне завод электравымяральных прылад, у 1954 г.— першая чарга Віцебскай ЦЭЦ, у 1955 г.— шаўкаткацкая фабрыка.

Архітэктурна-планіровачная структура Віцебска традыцыйная для старажытнарускага горадабудаўніцтва. Асновай горада быў умацаваны драўляны замак (дзядзінец) у сутоку рэк Віцьба і Заходняя Дзвіна, да яго прылягаў выцягнуты з захаду на ўсход вакольны горад (пасад), які займаў тэрыторыю ўтрая большую, чым замак. У 13—14 стагоддзях пасад меў развітую планіроўку і забудову. Да 13 ст. сфарміраваўся Верхні замак (былы дзядзінец, у 14 ст. яго драўляныя сцены і вежы замянілі на мураваныя), у 14 ст.— Ніжні (былы вакольны горад), у канцы 16 — пачатку 17 ст.— Узгорскі замак. Кожны замак меў замкнёную планіровачную структуру са сваім кампазіцыйным цэнтрам, у той жа час усе 3 замкі былі цесна звязаны паміж сабой. Умацаванні замкаў уяўлялі сабой драўляныя сцены (больш як 3 км даўжынёй, 4,5—7,5 м вышынёй, 5,5 м таўшчынёй) і вежы — глухія або праезныя. Сярод збудаванняў вылучаліся гасціны двор для іншаземных купцоў, Благавешчанская царква (12 ст., асталіся руіны), драўляныя цэрквы Святадухаўская, Успенская, Васкрасенская, Увядзенская (14—15 стагоддзі), Троіцкая царква Маркава манастыра, Ільінская, Мікалаеўская, Міхайлаўская, Спаса-Праабражэнская, Сімяонаўская (17 ст., усе не збергліся).

На тэрыторыі Узгорскага замка з 17 ст. знаходзіўся грамадскі, адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр горада — плошча з ратушай і гасціным дваром (драўляная ратуша, пабудаваная ў 16 ст., не збераглася; у 1775 г. пастаўлена мураваная ратуша). Абапал яе размяшчаліся гандлёвыя рады (18 ст.). Кампазіцыю плошчы завяршалі з захаду Васкрасенская царква (1772 г., не захавалася), з усходу кляштар бернардзінцаў (1737—55 гг., не захаваўся). На тэрыторыі Верхняга замка знаходзіліся двор ваяводы, будынак прыказа, двор Горскага, турма, на тэрыторыі Ніжняга замка — Аляксееўскі манастыр (1654 г.), комплекс езуіцкага калегіума (будаўніцтва завершана ў 1799 г.), дамы Шапкіна і Агінскага (усе не збергліся). Горад развіваўся ўздоўж Заходняй Дзвіны па абодвух яе берагах: галоўная — левабярэжная (усходняя) частка фарміравалася на ўзгоркавым рэльефе, правабярэжная (заходняя) развівалася на больш раўнінным рэльефе.



I. *Від Віцебска. З акварэлі Ю. Пешкі. 1-я палавіна 19 ст.*



I. *Від Віцебска. З акварэлі Ю. Пешкі. 1-я палавіна 19 ст.*



I. *Троіцкая царква Маркава манастыра. Малюнак і план.*



I. *Аляксееўскі манастыр. З «Чарцяжа» Віцебска 1664 г.*



I. *Рыначная плошча. З гравюры 1-й палавіны 19 ст.*



І. *Забудова правабярэжнай часткі горада.*

Пасля ўз'яднання з Расіяй разгарнуліся работы па ўрэгуляванню планіровачнай структуры горада. Галоўнай задачай было стварэнне рэгулярнай сістэмы гарадскіх вуліц. У левабярэжнай частцы горада вызначаліся 2 узаемна перпендыкулярныя дыяметры — сучасныя вуліцы Леніна і Фрунзе, якія сталі асновай планіровачнай структуры. Захаваліся планіроўка і забудова 17—19 стагоддзяў у межах сучасных вуліц Суворава, Талстога, Політэхнічнай, Я. Купалы. Помнікамі архітэктуры з'яўляюцца палац губернатара (пабудаваны да 1772 г.), манастырскі корпус былога базыльянскага манастыра (1743—85 гг.), жылыя дамы гэтага перыяду. Пры будаўніцтве чыгуначнага вакзала (1866 г.) пракладзена магістраль, перпендыкулярная Заходняй Дзвіне (цяпер вул. Кірава). У 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. ўзведзены грамадскія будынкі: акруговы суд (1883 г.), мужчынская гімназія (1880 г., не захавалася), жаночае епархіяльнае вучылішча (1902 г.), пазямельна-сялянскі банк (1917 г.). Сярод прамысловых будынкаў вызначаліся льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна», кузня Грынберга і інш. У цэнтральнай частцы горада (цяпер вул. Савецкая) у 1912 г. пастаўлены помнік у гонар герояў Айчыннай вайны 1812 г.

Першы генплан рэканструкцыі Віцебска, распрацаваны ў 1937—38 гг., вызначыў перспектывы развіцця горада, улічваючы яго гістарычныя і прыродныя асаблівасці. У даваенныя пяцігодкі рэканструяваны старыя і пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы: станкабудаўнічыя заводы імя С. М. Кірава і імя Камінтэрна, абутковыя фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік» і «Прагрэс», швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», буйнейшая ў краіне панчошна-трыкатажная фабрыка імя КІМ і інш. Разгарнулася шырокае жыллёвае будаўніцтва ў цэнтры горада і на ўскраінах. Характэрная ў гэтых адносінах забудова раёна Маркаўшчына — колішняй вёсачкі, вядомай старадаўнім манастыром (на тэрыторыі манастыра захавалася Казанская царква канца 18 — пачатку 19 ст.). За гады даваенных пяцігодак Маркаўшчына ператварылася ў адзін з буйнейшых раёнаў Віцебска. Тут пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы, добраўпарадкаванае жыллё.

У 1920—30-я гады прыкладамі грамадскіх збудаванняў новага тыпу з'явіліся клуб металістаў (1932 г.), Дом спецыялістаў (1932—35 гг.); у цэнтральнай частцы горада пабудаваны шматпавярховыя жылыя дамы камунальнага тыпу (захаваліся па вуліцах Горкага і Суворава).

Паводле генпланаў 1946—47 гг. і 1966 г. рэканструяваны 2 асноўныя магістралі горада — вул. Леніна (з аднайменнай плошчай) і вул. Кірава. Асноўныя будынкі па вул. Леніна: комплекс жылых дамоў (1955—57 гг.) і будбанк; на пл. Леніна — Палац культуры. На вул. Кірава пабудаваны новы чыгуначны вакзал, гасцініца «Дзвіна», пяціпавярховыя жылыя дамы, мост цераз Заходнюю Дзвіну. Першы раён буйнапанельнай забудовы — пр. Фрунзе. У 1964—70 гг. тут створаны прамысловы вузел. Інтэнсіўна забудоўваюцца мікрараёны, якія прылягаюць да Маскоўскага пр. і па вул. імя газеты «Праўда». Сярод грамадскіх збудаванняў 1970-х гадоў вылучаюцца кінатэатр «Беларусь», гасцініца «Віцебск», будынак педагагічнага



І. *Панарама горада з боку вуліцы Леніна.*



І. *Вуліца Леніна.*

інстытута. У 1973 г. пабудаваны мост цераз Віцьбу. У 1974 г. закончана фарміраванне ансамбля пл. Перамогі — новага грамадскага цэнтра горада.

Паводле генплана 1975 г., распрацаванага ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, Віцебск падзяляецца на 5 планіровачных раёнаў: Цэнтральны (гістарычны цэнтр горада), Паўночны (паміж рэкамі Заходняя Дзвіна і Віцьба), Паўднёвы (паміж рэкамі Лучоса і Заходняя Дзвіна), Заходні (паміж р. Заходняя Дзвіна і чыгункай), Усходні (паміж р. Лучоса і Маскоўскім пр.). Сярод забудовы вылучаюцца 9- і 16-павярховыя жылыя дамы на пл. Перамогі, комплекс жылых дамоў на Маскоўскім пр.. 10-павярховы дом з рэстаранам «Аўрора» па вул. Леніна. У 1982 г. ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва распрацаваны новы генеральны план горада.



І. *Панарама забудовы мікрараёна па вуліцы імя газеты «Праўда».*

Сучасны Віцебск — горад з высокаразвітай прамысловасцю, дае каля $^1/_3$ прамысловай прадукцыі вобласці. Асноўныя галіны прамысловасці: машынабудаванне і металаапрацоўка (заводы станкабудаўнічыя імя С. М. Кірава і імя Камінтэрна, заточных станкоў, маторарамонтны, трактарных запасных частак — філіял Мінскага трактарнага завода, інструментальны); прыладабудаванне (заводы электравымяральных прылад, гадзіннікавых дэталей, тэлевізійны, рамбыттэхніка, вытворчыя аб'яднанні «Маналіт», «Эвістар»); лёгкая (камбінаты дывановы, шаўковых тканін, футравы, фабрыкі швейная «Сцяг індустрыялізацыі», панчошна-трыкатажная імя КІМ, тэкстыльная, нятканых матэрыялаў, абутковая «Чырвоны Кастрычнік», мастацкіх вырабаў); дрэваапрацоўчая (мэблевая фабрыка, дрэваапрацоўчы камбінат); будматэрыялаў і будаўніцтва (заводы зборнага жалезабетону, жалезабетонных вырабаў і жалезабетонных канструкцый, аб'ёмна-блочнага домабудавання, буйнапанельнага домабудавання, камбінаты будаўнічых матэрыялаў і домабудаўнічы); харчовая (мясакамбінат, камбінаты малочны і хлебапрадуктаў, заводы алейнаэкстракцыйны, кансервавы, лікёрагарэлачны, рыбазавод, макаронная фабрыка і інш.).

Віцебск — буйны цэнтр навукі і культуры рэспублікі. Працуе (з 1975 г.) Аддзяленне Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР. У 1983/84 навуч. г. ў горадзе шэраг вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў: педагагічны, медыцынскі, ветэрынарны інстытуты, тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці, вячэрні агульнатэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, індустрыяльны, політэхнічны, станкаінструментальны, тэхналагічны, індустрыяльна-педагагічны тэхнікумы, электратэхнікум сувязі, музычнае, медыцынскае, культурна-асветнае вучылішчы, а таксама 10 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, 38 агульнаадукацыйных школ усіх відаў. На 1.1.




І. *Маскоўскі праспект.*



І. *Жылы дом на плошчы Перамогі.*

1984 г. ў Віцебску 115 дашкольных устаноў, 158 масавых бібліятэк (з прафсаюзнымі), 7 кінатэатраў, 20 клубных устаноў, 26 кінаўстановак, Дом культуры, 5 Палацаў культуры, 2 музеі (абласны краязнаўчы і мемарыяльны М. П. Шмырова), Беларускі драматычны тэатр імя Я. Коласа. Ёсць батанічны сад. Працуюць абласное радыёвяшчанне, студыя тэлебачання, абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў БССР, Саюза журналістаў БССР, Саюза мастакоў БССР, абласное літаб'яднанне. Выдаюцца газеты абласная «Віцебскі рабочы» і раённая «Ленінская праўда».

У горадзе 15 бальнічных, 36 урачэбных амбулаторна-паліклінічных устаноў, у т. л. 7 дыспансераў, 62 фельчарскія пункты аховы здароўя, 4 санітарна-эпідэміялагічныя станцыі, 20 аптэк, Дом санітарнай асветы.



I. *Куток парку культуры і адпачынку імя М. В. Фрунзе.*

Вуліцы і плошчы Віцебска ўпрыгожваюць помнікі архітэктуры і манументальнага мастацтва. Сярод іх помнікі: У. І. Леніну; С. М. Кіраву; Герою Савецкага Саюза і Герою Сацыялістычнай Працы П. М. Машэраву; Герою Савецкага Саюза У. І. Свідзінскаму; савецкім воінам-вызваліцелям, партызанам і падпольшчыкам; на месцы пакарання смерцю савецкіх патрыётаў у час Вялікай Айчыннай вайны; на ўшанаванне памяці тых, хто загінуў у лагеры смерці; віцебскім падпольшчыкам; на магілках савецкіх воінаў-вызваліцеляў Віцебшчыны і іншыя.

1. *Выгляд на Кіраўскі мост цераз р. Заходняя Дзвіна і вуліцу Кірава.*

Зоны адпачынку: гарадскія — паркі культуры і адпачынку імя М. В. Фрунзе, імя 30-годдзя ВЛКСМ, «Мазурына» імя Савецкай Арміі; загарадныя — «Цёплы лес» на р. Заходняя Дзвіна, «Лучоса» на р. Лучоса; лесапаркавыя — «Барвін перавоз» на р. Заходняя Дзвіна, «Лосвіда» на воз. Лосвіда, «Вароны» на азёрах Вароны, Палонскае, Берніцкае.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Витебская губерния: Историко-географический и статистический обзор. В. 1.— Витебск, 1890; Сементовский А. М. Витебск и уездные города Витебской губернии.— СПб., 1864; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и сёла Белорусской ССР.— Мн., 1959; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Абезгауз З. Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века.— Мн., 1971; Экономика Белоруссии в эпоху империализма.— Мн., 1963; Гневко В. Г. Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября.— Мн., 1973; Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974; Короткевич В. Б. Памятники истории Витебска.— Мн., 1975; Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Чарняўская Т. І. Архітэктура Віцебска.— Мн., 1980; Нікіцін Г. Віцебск.— Мн., 1959; Витебск.— Мн., 1974. *А. П. Белязо, Т. І. Чарняўская.*

**1. АНСАМБЛЬ ВУЛІЦЫ КІРАВА** (архіт., гіст.). Створаны нанава ў 1947—58 гг. [арх. В. Гусеў (кіраўнік), А. Данілава, В. Данілаў]. Вуліца і яе працяг з'яўляюцца важным гарадскім дыяметрам, перпендыкулярным вул. Леніна і р. Заходняя Дзвіна — галоўным кампазіцыйным восям у структуры горада.

Вуліца цягнецца ад Заходняй Дзвіны да Вакзальнай плошчы. Перад Кіраўскім мостам яе завяршаюць вежавыя аб'ёмы будынкаў гасцініцы «Дзвіна» і інтэрната электратэхнікума сувязі. Яны адыгрываюць важную ролю ў сілуэце горада. На перакрыжаванні з вул. Леніна фарміруецца новая Цэнтральная пл. У забудове пераважаюць 4- і 5-павярховыя жылыя дамы з поштай, магазінамі, рэстаранам, сталовай і іншымі прадпрыемствамі культурна-бытавога абслугоўвання на першых паверхах. Кампазіцыя вуліцы заснавана на стылявым адзінстве пластычнага вырашэння фасадаў з выкарыстаннем элементаў класічнай спадчыны. Цэласны характар забудове надаюць прыкладна аднолькавыя працягласць і вышыня будынкаў, падабенства гарызантальных і вертыкальных чляненняў (карнізы, цягі, пілястры і інш.), адзіны характар азелянення. Фасадныя плоскасці ўзбагачаюць балконы, эркеры і іншыя архітэктурныя элементы. Пры будаўніцтве жылых дамоў выкарыстаны 2- і 3-кватэрныя секцыі.

Цэнтрам кампазіцыі Вакзальнай плошчы з'яўляецца **будынак чыгуначнага вакзала**, які замыкае перспектыву бульвара. Пабудаваны ў 1866 г., калі праз горад была пракладзена Рыга-Арлоўская чыгунка. У гады Вялікай Айчыннай вайны пашкоджаны, у 1949 г. пабудаваны новы вакзал (арх. Б. Мезенцаў). Выцягнуты ў плане будынак размешчаны ўздоўж чыгуначных пуцей. Складаецца з трох аб'ёмаў: цэнтральнага і 2 бакавых. Галоўны фасад цэнтральнага корпуса вылучаны 3 шырокімі аконнымі арачнымі праёмамі, якія расчлянёны вертыкальнымі перамычкамі, дэкаратыўнымі карынфскімі калонкамі і дэкарыраваны ляпнымі прамавугольнымі нішамі, барэльефамі. У корпусе — галоўны вестыбюль, касы, кіёскі для абслугоўвання пасажыраў, бакавая лесвіца, якая вядзе на 2-і паверх, адкуль праз мост ажыццяўляецца выхад на перон. У бакавых крылах размешчаны залы чакання, рэстаран, службовыя памяшканні. У інтэр'еры выкарыстаны мармур, ляпныя дэталі і кесаніраваныя плафоны. Будынак вакзала — прыклад класічнага кірунку ў савецкай архітэктуры. У 1965 г. ў памяць аб выступленні М. І. Калініна 12.6.1919 г. на мітынгу чыгуначнікаў і ў 1966 г. ў гонар 100-годдзя чыгуначнага вузла на будынку вакзала ўстаноўлены 2 мемарыяльныя дошкі.

Ансамбль вул. Кірава — помнік горадабудаўніцтва 1950-х гадоў.

*А. А. Воінаў, В. Б. Караткевіч.*



1. *Схема планіроўкі вуліцы Кірава.*

**2. БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА** (гіст., архіт.). Вул. Замкавая, 1, на левым беразе р. Заходняя Дзвіна. Створаны з выпускнікоў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Адкрыўся ў Віцебску 21.11.1926 г. як Беларускі другі дзяржаўны тэатр (БДТ-2), 21.12.1944 г. прысвоена імя



1. *Фрагмент забудовы вуліцы Кірава.*

Я. Коласа. У 1976 г. ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, у 1977 г. прысвоена званне акадэмічнага.

У трупе тэатра працавалі народныя артысты СССР А. К. Ільінскі, П. С. Малчанаў, народныя артысты БССР М. С. Бялінская, Я. К. Глебаўская, М. П. Звездачотаў, А. П. Радзялоўская, Ц. М. Сяргейчык, заслужаная артыстка БССР А. І. Лагоўская. У складзе трупы (1984 г.): народны артыст СССР Ф. І. Шмакаў, народныя артысты БССР З. І. Канапелька, У. А. Куляшоў, Г. П. Маркіна, І. А. Матусевіч, А. М. Трус, А. Р. Шэлег, заслужаныя артысты БССР С. А. Акружная, Г. С. Дубаў, Т. А. Кокштыс, А. Ф. Мельдзюкова, Л. І. Пісарава, Б. І. Сяўко, М. П. Цішачкін, Т. Р. Шашкіна, Я. П. Шыпіла; заслужаны дзеяч культуры БССР Г. Б. Асвяцінскі, заслужаны работнік культуры БССР Я. Г. Буракоў. Галоўны рэжысёр В. Я. Мазынскі (з 1977 г.), галоўны мастак А. А. Салаўёў (з 1977 г.).

У 1958 г. пабудаваны новы прамавугольны ў плане мураваны будынак тэатра (арх. А. Максімаў, І. Рыскіна). Галоўны фасад вырашаны ў выглядзе 8-калоннага дарычнага порціка, які завяршаецца трохвугольным франтонам з дэкаратыўным рэльефам. Бакавыя фасады аздоблены пілястрамі, ляпнымі ўстаўкамі, рустам. Тарцовы фасад вырашаны ў выглядзе 4-калоннага дарычнага порціка. У цэнтры размешчана трох'ярусная глядзельная зала на 758 месцаў з партэрам і 2 балконамі, па баках — службовыя памяшканні і рэкрыяцыйны калідор. У вестыбюле білетныя касы і шырокая лесвіца, што вядзе ў фае.

Будынак тэатра разам з вышынным аб'ёмам гасцініцы «Віцебск» стварае выразную панараму забудовы. Невялікая тэатральная плошча перад галоўным фасадам тэатра аднačасова з'яўляецца і транспартнай развязкай пры ўездзе на Кіраўскі мост.

*В. М. Баскова, Т. І. Чарняўская.*

**3. БЛАГАВЕШЧАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). На левым беразе Заходняй Дзвіны, паміж вуліцамі Замкавай і Калініна, на месцы былога рамесніцка-гандлёвага пасада Ніжняга замка. Пабудавана ў сярэдзіне 12 ст., некалькі разоў перабудавана, асталіся руіны. У 1977 г. па праекце спецыялізаваных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР праведзена кансервацыя рэштак царквы (архіт. С. А. Друшчыц).

Царква — выцягнуты ў плане прамавугольнік з вялікай паўкруглай сярэдняй апсідай, якая выступала наперад (вузкія бакавыя апсіды, неакрэсленыя знадворку, размяшчаліся ў тоўшчы сцяны). Бакавыя фасады раўнамерна падзяляліся плоскімі лапаткамі на 4 амаль аднолькавыя прасценкі. Зверху сцены мелі паўкруглае завяршэнне — закамары, на якія клаўся дах. З паўднёвага, паўночнага і заходняга бакоў размяшчаліся 3 уваходы, каля іх, верагодна, існавалі невялікія прытворы. Будынак меў высокі цокаль. Царква падзялялася на 3 падоўжныя нефы 6 слупамі, якія ў плане мелі форму крыжа. Сярэдні неф быў намнога шырэйшы за бакавыя. У заходняй частцы храма знаходзіліся хоры, на іх вёў ход у тоўшчы сцяны. Сцены будынка складзены гарызантальнымі радамі з часаных блокаў жаўтаватага вапняковага каменю, паміж якімі пракладзены па 1—4 рады тонкіх цаглін-плінфаў. Дадаткова сцены змацоўвалі гарызантальна пакладзеныя 2 рады бярвенняў. Пры раскопках у 1964 г. (кіраўнік Г. В. Штыхаў) і ў 1968 г. (кіраўнік М. К. Каргер) выяўлена, што мур сцен амаль на метр у зямлі, падмурак прарэзвае культурны пласт 9—11 стагоддзяў. Падмурак запоўнены галькай, не змацаванай растворам.

Царква была багата ўпрыгожана фрэскамі. Размалёўка пакрывала ўсю плоскасць сцен. Зберагліся выява анёла і геаметрычны дэкор 12 ст. вакол праёмаў і ўздоўж сцяны каля падлогі. Геаметрычны дэкор размяшчаўся вертыкальна ці па дыяганалі, меў выгляд ланцужкоў з трохвугольнікаў ці ступеньчатых пірамід. Колеравая гама карычнева-чырвоная, ружова-жоўтая, зялёна-блакітная з мяккімі пераходамі. Уцалелая на партале невялікая выява воіна [14 ст. (?), графіці], зверху і знізу яе размешчаны старажытнаславянскія літары, захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі. Выяўлены шэраг плінфаў з клеймамі. Найбольш старажытны малюнак царквы, што дайшоў да нас, адносіцца да 1664 г. На ім царква мела адзін купал на барабане. Побач знаходзілася мураваная званіца. На малюнку 19 ст. ў царквы вялікі васьміграння драўляны купал.

Царква — помнік старажытнарускай архітэктуры.




1. *Будынак чыгуначнага вакзала.*



1. *Будынак чыгуначнага вакзала. План 1-га паверха.*



2. *Будынак Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.*



2. *Будынак Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. План 1-га паверха.*

*Літ.:* Павлинов А. М. Древние храмы Витебска и Полоцка.— Труды IX Археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1; Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1.— Мн., 1928; Штыхов Г. В. Археологические раскопки в Витебске.— У кн.: Материалы IX конференции молодых ученых: Вопросы истории. Мн., 1965, в. 2; Каргер М. К. Раскопки руин церкви Благовещения в Витебске.— У кн.: Археологические открытия 1968 года. М., 1969; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; История русского искусства. Т. 1.— М., 1953; Всеобщая история архитектуры. Т. 3.— Л.; М., 1966.

*Г. В. Штыхаў, В. В. Церашчатава.*

**4. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. 3-я Полацкая, на Новасямёнаўскіх могілках. Пахаваны ўдзельнікі падпольнай камсамольскай групы (дзейнічала з канца 1941 г. да верасня 1942 г.) Л. Дз. Бярозкіна (кіраўнік), Я. Я. Ваўчок, М. У. Вараб'ёў, М. І. Захараў, В. Д. Карняшонак, якія 22.9.1942 г. былі павешаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1971 г. пастаўлена надмагільная пліта.

**5. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На грамадзянскіх могілках пас. Лучоса. Пахаваны 86 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**6. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Ленінградскай. Пахаваны 29 воінаў і партызан, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні г. Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**7. БУДЫНАК, У ЯКІМ БЫЎ СТВОРАНЫ ВАЕННА-РЭВАЛЮЦЫЙНЫ КАМІТЭТ** (гіст., архіт.). Вул. Леніна, 32. Тут, у будынку былога акруговага суда, у 1917 г. створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт (ВРК). 25.10(7.11). 1917 г. працоўныя Віцебска даведаліся пра перамогу ўзброенага паўстання ў Петраградзе. На вуліцах горада адбыліся мітынгі і дэманстрацыі, працоўныя патрабавалі вызвалення палітычных зняволеных, перавыбараў Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў 27.10(9.11).1917 г. на сумесным пасяджэнні камітэта Віцебскай арганізацыі РСДРП(б) з прадстаўнікамі вайсковых часцей гарнізона і рэвалюцыйнага пралетарыяту быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. У яго ўвайшлі бальшавікі А. Дрызуль, Каралёў, Ф. Я. Осіс, Б. Д. Пінсан, П. Пятроў і інш. Першым рэвалюцыйным актам ВРК было прызначэнне новага каменданта горада і начальніка гарнізона. Ім стаў бальшавік С. М. Крылоў. Па распараджэнню ВРК была арганізавана ўзброеная ахова пошты, тэлеграфа, чыгуначнай станцыі, узяты пад кантроль дзяржаўныя ўстановы, куды прызначылі палітычных камісараў, уведзена цэнзура над усім друкам. З 30.10(12.11). 1917 г. пачала выдавацца газета «Известия Военно-революционного комитета города Витебска», неўзабаве перайменаваная ў «Известия Витебского революционного Совета солдатских и рабочих депутатов». Вялікую ўвагу ВРК аддаваў стварэнню Чырвонай гвардыі Віцебска. Першы атрад Чырвонай гвардыі быў сфарміраваны з 50 чыгуначнікаў. Чырвонагвардзей-



3. *Благавешчанская царква пасля кансервацыі.*



3. *Благавешчанская царква. Фрагмент муроўкі сцяны (12 ст.).*

4 Зак. 3873

скія атрады ўстанавілі пастаянны кантроль за прасоўваннем войск па чыгунцы. Толькі з 28.10(10.11) да 7(20).11.1917 г. было разброена каля 20 тыс. салдат і казакоў, якіх контррэвалюцыйная стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага і штаб Заходняга фронту накіроўвалі ў рэвалюцыйны Петраград. У сваёй дзейнасці ВРК апіраўся на падтрымку рабочых і рэвалюцыйных салдат горада. Па рашэнню ВРК у лістападзе 1917 г. адбыліся перавыбары Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, у якіх перамогу атрымалі бальшавікі. Пераход улады да рэвалюцыйнага Савета адыграў важную ролю ва ўстанаўленні Савецкай улады на ўсёй тэрыторыі Віцебскай губерні. Пасля выбрання Савета Ваенна-рэвалюцыйны камітэт спыніў сваю дзейнасць.

У 1959 г. ў гонар ВРК на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Будынак былога акруговага суда ўзведзены з цэглы ў 1883 г. (арх. І. Камінскі, інж. М. Карчэўскі). Цяпер тут размешчаны Віцебскі абком ЛКСМБ.

Мураваны П-падобны ў плане будынак выходзіць галоўным фасадам на пл. Свабоды. Цэнтральная частка двухпавярховага асноўнага аб'ёму падкрэслена рызалітам і выдзелена па вертыкалі 3-м паверхам. Архітэктурна-мастацкае вырашэнне фасадаў грунтуецца на традыцыйнай для класіцызму сіметрычнасці кампазіцыі. Пластыку фасадаў стварае рытм пілястраў і аконных праёмаў з ліштвамі. Будынак унутры добра распланаваны: шмат кабінетаў, залаў пасяджэнняў і службовых пакояў аб'яднаны размешчаным у цэнтры калідорам.

Прыклад грамадзянскай архітэктуры канца 19 ст.

*Літ.:* Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— 2 изд.— Мн., 1968; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; В памяти народной.— Мн., 1969; Красная быль: Большевики в Витебске.— Витебск, 1923; Чернатов В. М. Использование старой застройки при реконструкции Витебска.— Строительство и архитектура Белоруссии, 1973, № 1; Очерки истории Витебского окружного суда (1883—1893) /Сост. В. А. Шенинг.— Витебск, 1894.

*В. Б. Караткевіч, В. М. Чарнатаў.*

**8. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Вул. Савецкая, на Успенскай горцы. Пахаваны 15 савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у т. л. Героі Савецкага Саюза Іван Пракопавіч Сівакоў, Мінай Піліпавіч Шмыроў, Іван Іванавіч Янушкоўскі.

І. П. Сівакоў нарадзіўся 15.6. 1901 г. ў с. Іванаўка Краснагвардзейскага р-на Арэнбургскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1919 г. У Чырвонай Арміі з 1919 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны і ліквідацыі бандытызму ў Дагестане і Кабардзіна-Балкарыі. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Заходнім, Паўночна-Заходнім, Сталінградскім, Данскім, Варонежскім і 1-м Прыбалтыйскім франтах. Вызначыўся ў Віцебска-Аршанскай аперацыі. 23.6.1944 г. 71-я гвардзейская стралковая дывізія 23-га стралковага корпуса пад камандаваннем генерал-маёра І. П. Сівакова прарвала моцную абарону ворага на тэрыторыі Сіроцінскага р-на, вызваліла г. п. Шуміліна, чыгуначную станцыю Сіроціна, перарэзала шашу і чыгунку Полацк — Віцебск, 24.6.1944 г. фарсіравала Заходнюю Дзвіну, 25.6.1944 г. вызваліла г. п. Бешанковічы, што садзейнічала акружэнню і знішчэнню віцебскай групоўкі праціўніка. У час гэтай аперацыі дывізія прайшла з баямі 148 км, прымала ўдзел у вызваленні 255 населеных пунктаў, знішчыла і ўзяла ў палон больш як 3600 варожых салдат і афіцэраў. І. П. Сівакоў загінуў 20.7. 1944 г. пры вызваленні Літвы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

І. І. Янушкоўскі нарадзіўся 2.5.1915 г. ў в. Пыжы Лёзненскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1932 г. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, Ленінградскім, 2-м Украінскім франтах. Удзельнічаў у абароне Ста-



8. *Вайсковыя могілкі.*



7. *Будынак былога акруговага суда, у якім быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт.*



7. *Будынак былога акруговага суда. План 1-га паверха.*



9. *Вайсковыя могілкі.*

лінграда. Камандзір 254-га мінамётнага палка 27-й мінамётнай Ленінградскай брыгады маёр І. І. Янушкоўскі вызначыўся ў баях на тэрыторыі Румыніі. 18.9.1944 г. з групай салдат і афіцэраў уступіў у бой супраць роты аўтаматчыкаў. Савецкія воіны адкінулі ворага, выратавалі штаб і сцяг палка. І. І. Янушкоўскі асабіста знішчыў каля 20 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Урна з прахам І. І. Янушкоўскага захавана ў Віцебску.

У 1956 г. на могілках устаноўлены 2 скульптуры воінаў. На магілах — надмагільныя пліты. Гл. таксама артыкул № 43 «Магіла Шмырова Міная Піліпавіча».

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**9. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На вул. Цітова. Пахаваны 95 савецкіх воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях за вызваленне г. Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. ўстаноўлены 80 надмагілляў і мемарыяльная пліта.

**10. ВЕРХНІ ЗАМАК** (археал.). Мясцовая назва Горні. Дзядзінец старажытнага Віцебска. Размяшчаўся на левым беразе р. Віцьба пры яе ўпадзенні ў Заходнюю Дзвіну. Гэтая тэрыторыя абмываецца з поўначы Віцьбай, з захаду — Заходняй Дзвіной, з поўдня абмежавана рэчышчам былога Заручаўскага ручая. Ва ўсходняй частцы дзядзінца ўзвышалася Замкавая гара (Ламіха) плошчай каля 1 га, на якой было, як мяркуюць, першапачатковае гарадзішча старажытнага Віцебска. Замкавая гара вышынёй 15 м амаль уся зрыта ў канцы 19 ст. На невялікай уцалелай плошчы ў 1928 г. А. М. Ляўданскі праводзіў раскопкі. Культурны пласт да 1 м. Знойдзены ляпная кераміка, што пацвярджае існаванне тут старажытнага паселішча днепра-дзвінскай культуры і культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі), а таксама ганчарны посуд 10—12 стагоддзяў. На мысе пры ўпадзенні Віцьбы ў Заходнюю Дзвіну існавала другое паселішча. У 12—13 стагоддзях у дзядзінец уключаны абодва паселішчы, яго тэрыторыя склала 4 га. З 14 ст. ён стаў называцца Верхнім замкам, з паўднёвага і ўсходняга бакоў да яго прымыкаў Ніжні замак.



10. *Дом Горскага. З «Чарцяжа» Віцебска 1664 г.*

М. Стрыйкоўскі ў «Хроніцы» паведамляў, што ў 14 ст. «Альгерд умацаваў Верхні замак мураванаю сцяной і вежамі і ўпрыгожыў гэты замак палатамі». Тут знаходзілася старажытная драўляная на каменным падмурку царква архангела Міхаіла. Верхні замак быў пашкоджаны ў час аблогі Віцебска ў 1396 г. войскамі Вітаўта.

У 2-й палавіне 16 ст. замкі былі адбудаваны. Вось якое апісанне іх пакінуў камендант Віцебска польскі гісторык А. Гваньіні: «У Віцебску ёсць два вельмі прасторныя і, дзякуючы свайму зручнаму месцазнаходжанню, вельмі ўмацаваныя замкі, адзін з іх размешчаны на раўніне і памерам роўны гораду, называецца Ніжнім замкам; другі — Верхні замак, знаходзіцца на даволі высокім пагорку. Абодва гэтыя замкі ўмацаваны вежамі і сценамі, якія пабудаваны з дубу і напоўнены зямлёю ды каменнем». У час аблогі Віцебска ў 1654 г. рускімі войскамі замкі былі пашкоджаны. Цар Аляксей Міхайлавіч загадаў аднавіць іх. У 1664 г. быў зроблены іх «Чарцёж».

Верхні замак меў 6 драўляных вежаў (Шарамеццеў круглік, Веставая, Танкова, Бабарыкін круглік, Храпавіцкая, Цёмныя вароты) і мураваныя палаты, што ўваходзілі ў сістэму абарончых збудаванняў. Тут знаходзіліся двор ваяводы, будынак прыказа, двор Горскага з паднятым на высокае падклецце домам, турма, абгароджаная парканам, калодзеж.

Археалагічныя раскопкі на Верхнім замку праводзілі Г. В. Штыхаў (1975 г.), В. М. Ляўко (1976 г.), М. А. Ткачоў (1977—78 гг.), У. Л. Калядзінскі (1979—80 гг.). М. А. Ткачоў даследаваў больш за 700 м² плошчы. Культурны пласт ад 6,5 да 11 м. Выяўлена 7 ярусаў маставых, каля 100 жылых і гаспадарчых пабудоў 12—17 стагоддзяў. Знойдзена шмат прылад працы, рэчаў бытавога прызначэння, зробленых з жалеза, дрэва, косці, упрыгожанняў з каляровых металаў, шкляныя бранзалеты, скураны абутак, гліняны посуд, кафля.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сапунов А. П. Река Западная Двина.— Витебск, 1893; яго ж. Витебская старина. Т. 1.— Витебск, 1883; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.— М., 1966; Краснянскі В. «Чарцёж» месца Віцебска 1664 г. як дакументальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва.— Мн., 1928; Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933; Никифоровский Н. Я. Странички из недавней старины города Витебска.— Витебск, 1899; Ткачев М. А., Колединский Л. В. Итоги археологического изучения Витебска в 1976—1980 гг.— У кн.: Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. *Г. В. Штыхаў.*

**11. ГАСЦІНІЦА «ВІЦЕБСК»** (архіт.). Вул. Замкавая, 3. Пабудавана ў 1973 г. (арх. В. Данілаў, З. Даўгяла, інж. І. Баравая).

Будынак дванаццаціпавярховы, на 500 месцаў. З'яўляецца дамінантай цэнтра горада. Архітэктура вырашана ў буйнамаштабных формах, разлічаных на ўспрыманне з далёкай адлегласці. У аснове будынка манолітныя



11. *Гасцініца «Віцебск».*



11. *Гасцініца «Віцебск». План 1-га паверха.*



**11.** *Гасцініца «Віцебск». Фрагмент пано «Старажытны Віцебск».*

жалезабетонныя рамы на 4 паверхі. На галоўным фасадзе шырокія палосы аконных праёмаў рытмічна чаргуюцца з палосамі прасценкаў і аб'яднаны вертыкальнымі рэбрамі на вышыню 3—12-га паверхаў. На 1-м паверсе шырокія зашклёныя праёмы. Сцены 1-га і 2-га паверхаў выкананы з бетонных блокаў і цэглы, сцены 3—12-га паверхаў з цэглы. Дзесяць паверхаў маюць аднатыпную планіроўку: уздоўж калідораў размешчаны камфартабельныя нумары, у цэнтры — хол, звязаны з ліфтамі. На 1-м паверсе адміністрацыйныя памяшканні, на 2-м — рэстаран, кабінеты бытавога абслугоўвання. У вестыбюлі керамічнае пано «Старажытны Віцебск».

Будынак — прыклад савецкай архітэктуры 1970-х гадоў. *Т. І. Чарняўская.*

**12. ГУБЕРНАТАРСКІ ПАЛАЦ** (архіт., гіст.). Вул. Савецкая, 18. Пабудаваны да 1772 г. на высокім левым беразе Заходняй Дзвіны. Складаецца з асноўнага (паўночнага) трохпавярховага прамавугольнага ў плане корпуса і двухпавярховага П-падобнага ў плане корпуса( пабудаваны ў 1811 г.), які прылягае да асноўнага і ўтварае ўнутраны двор з уездам з боку плошчы. Асноўны корпус галоўным фасадам выходзіць на невялікую плошчу з абеліскам у гонар герояў Айчыннай вайны 1812 г. Цэнтр фасада вылучаны рызалітам з 4 паўкалонамі. Бакавы фасад, арыентаваны на Заходнюю Дзвіну, аздоблены чатырохкалонным порцікам. Такі ж порцік замыкае галоўны фасад двухпавярховага корпуса. Вокны прамавугольныя. Фасады аздоблены рустам, завершаны развітым карнізам і атыкамі. На 1-м паверсе асноўнага корпуса ў цэнтры размяшчаўся парадны вестыбюль з лесвіцай і пакоі слуг, на 2-м — прыёмная, гасціная і кабінет губернатара, 3-і адводзіўся пад жыллё. У двухпавярховым корпусе на 1-м паверсе былі службовыя пакоі праўлення і канцылярыі губернатара, на 2-м — сталовая, прыстасаваная для канцэртаў і спектакляў (у 1845—47 гг. тут былі паказаны балеты М. Піёна). У тарцовай частцы — царква. Будынак некалькі разоў перарабляўся, пачатковая планіроўка зменена.

Палац — помнік архітэктуры класіцызму.

Палац быў рэзідэнцыяй генерал-губернатараў і губернатараў. У 1853—54 гг. віцебскім віцэ-губернатарам быў



12 *Былы палац губернатара.*



**12.** *Былы палац губернатара. План 1-га паверха.*

рускі пісьменнік І. І. Лажэчнікаў, які ў гэты час напісаў аповесць «Уся бяда ад сораму». У 1812 г. палац — штаб-кватэра Напалеона. У 1917 г. тут размяшчаўся камітэт Віцебскай арганізацыі РСДРП(б), Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які абвясціў Савецкую ўладу ў горадзе і губерні. Пасля ўстанаўлення Савецкай улады ў будынку размяшчаўся Віцебскі губвыканкам. У 1919 г. тут на пасяджэнні губвыканкома выступаў М. І. Калінін. У 1959 г. ў памяць аб гэтых падзеях на будынку ўстаноўлены 3 мемарыяльныя дошкі. Цяпер тут размешчана адміністрацыйная ўстанова.

*Літ.:* Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Яцкевіч І., М. І. Калінін у Савецкай Беларусі.— Мн., 1970; Сапунов А. П. Губернаторский дворец в Витебске.— Витебск, 1901.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*



14. *Дом, у якім знаходзіўся Віцебскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, адбылася 1-я канферэнцыя бальшавікоў.*

**13. ДОМ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ** (архіт., гіст.). Вул. 1-я імя Даватара, 14/9. Пабудаваны ў 1932—35 гг. (арх. С. Прэзьма) як жылы дом для вядучых спецыялістаў горада. Дамы такога тыпу ствараліся па спецыяльных праектах, якія прадугледжвалі павелічэнне плошчы пакояў, паляпшэнне абсталявання бытавых памяшканняў.

У кампазіцыі будынка выкарыстаны прыём вылучэння вуглавой пяціпавярховай часткі, якая кантрастуе з падоўжаным чатырохпавярховым аб'ёмам. Выразнасць фасадаў дасягнута рытмічнай групоўкай аконных праёмаў, балконаў з глухімі агароджамі, увядзеннем у пластыку лоджый і эркераў, вылучэннем вертыкальнага зашклення лесвічных клетак. Перакрыцце бэлечнае. Дом складаецца з секцый, на лесвічную пляцоўку выходзяць 2 кватэры (трох- і чатырохпакаёвая). Пакоі маюць добрыя прапорцыі, убудаванае абсталяванне. У доме 50 кватэр. У вуглавых секцыях дома — магазін.



13. *Дом спецыялістаў.*

Дом спецыялістаў — помнік архітэктуры 1930-х гадоў — перыяду сацыялістычнай рэканструкцыі гарадоў, характэрны прыклад жылых дамоў магістральнага тыпу.

У час Віцебска-Аршанскай аперацыі пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 26.6.1944 г. капітан 881-га стралковага палка 158-й стралковай дывізіі Дз. В. Мясаедаў узняў на Доме спецыялістаў чырвоны сцяг. У 1959 г. ў гонар гэтай падзеі на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969. *А. А. Воінаў, М. К. Кошалеў.*

**14. ДОМ, У ЯКІМ ЗНАХОДЗІЎСЯ ВІЦЕБСКІ САВЕТ РАБОЧЫХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ, АДБЫЛАСЯ 1-я КАНФЕРЭНЦЫЯ БАЛЬШАВІКОЎ** (гіст.). Вул. Пушкіна, 2. Тут знаходзіўся Віцебскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, праходзіла 1-я губернская партыйная канферэнцыя.

Аб звяржэнні самадзяржаўя стала вядома ў Віцебску 1(14).3.1917 г. Рабочыя горада і салдаты гарнізона пачалі ствараць органы рэвалюцыйнай улады — Саветы. З 4(17) па 8(21).3.1917 г. на фабрыках і заводах, чыгунцы, ва ўстановах прайшлі выбары ў Савет рабочых дэпутатаў. Было выбрана 300 дэлегатаў ад 18 тыс. рабочых і служачых. 8(21).3. 1917 г. на ўстаноўчым сходзе Віцебскага Савета рабочых дэпутатаў выбраны выканаўчы камітэт. У яго склад увайшлі 2 бальшавікі — В. Я. Чунчын і Аболін, 2 меншавікі, 3 эсеры і 1 бундавец. У спецыяльным звароце «Да ўсіх рабочых горада Віцебска» выканком адзначыў, што бліжэйшай задачай Савета з'яўляецца арганізацыя барацьбы за ўвядзенне васьмігадзіннага рабочага дня, стварэнне рабочых арганізацый, барацьба з беспрацоўем. 5(18).3.1917 г. дэлегаты ад вайсковых часцей і падраздзяленняў гарнізона выбралі Савет салдацкіх дэпутатаў. У маі 1917 г. Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў зліліся ў адзіны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Нягледзячы на тое, што большасць дэпутатаў у Савеце склалі меншавікі і бундаўцы, пад уплывам рэвалюцыйных выступленняў віцебскага пралетарыяту Савет стварыў народную міліцыю, увёў на многіх прадпрыемствах васьмігадзінны рабочы дзень; было створана каля 20 прафесійных саюзаў. Значны ўплыў на работу Савета зрабіла фракцыя бальшавікоў, арганізаваная ў Савеце да канца чэрвеня 1917 г. Бальшавікі ўзначалілі барацьбу з карнілаўшчынай, пры Савеце было створана ваенна-рэвалюцыйнае бюро, вайсковыя часці гарнізона разам з чырвонагвардзейскімі атрадамі разбройвалі эшалоны карнілаўцаў, арыштоўвалі прыхільнікаў мяцяжу. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі 11(24).11.1917 г. выбраны рэвалюцыйны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў на чале з бальшавіком Каралёвым.

У верасні 1917 г. адбыўся сход Віцебскай арганізацыі бальшавікоў, на якім было вырашана склікаць 1-ю губернскую партыйную канферэнцыю. Канферэнцыя адбылася 1—3(14—16).10.1917 г. У яе рабоце ўдзельнічалі 30 дэлегатаў, у т. л. прадстаўнікі бальшавіцкіх арганізацый Полацкага, Гарадоцкага, Невельска-



13. *Дом спецыялістаў. План 1-га паверха.*



15. *Дом, у якім размяшчаліся Віцебскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт і гарком РКСМ, адбыўся першы ў горадзе камсамольскі сход.*

га, Веліжскага паветаў. Былі абмеркаваны пытанні: аб бягучым моманце, аб выбарах ва Устаноўчы сход, даклады з месцаў. Канферэнцыя аформіла партыйную арганізацыю бальшавікоў губерні (больш за 3 тыс. членаў). Быў створаны губком, у які ўвайшоў 21 чалавек. Канферэнцыя вызначыла праграму барацьбы па мабілізацыі працоўных горада на ажыццяўленне сацыялістычнай рэвалюцыі.

У 1959 г. ў памяць аб гэтых падзеях на доме ўстаноўлены 2 мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Красная быль: Большевики в Витебске.— Витебск, 1923; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Великий Октябрь — торжество идей марксизма-ленинизма: Материалы научной конференции, состоявшейся в Институте истории партии при ЦК КПБ в сентябре 1967 года.— Мн., 1970. *В. Б. Караткевіч.*

**15. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЛІСЯ ВІЦЕБСКІ ВРК І ГАРКОМ РКСМ, АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ Ў ГОРАДЗЕ КАМСАМОЛЬСКІ СХОД** (гіст.). Вул. Маякоўскага, 1/38. Тут з 10 па 14 (з 23 па 27) лістапада 1917 г. размяшчаўся Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Гл. артыкул № 7 «Будынак, у якім быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт».

У гэтым доме 13.11.1918 г. адбыўся сход моладзі Віцебска, які прайшоў пад кіраўніцтвам камуністаў і дэлегатаў I з'езда Расійскага Камуністычнага Саюза Моладзі (РКСМ). На ім былі абмеркаваны рашэнні I з'езда РКСМ, намечаны задачы гарадской камсамольскай арганізацыі: стварэнне камсамольскай арганізацыі ў Віцебскай губерні, адкрыццё клубаў і бібліятэк, арганізацыя ваеннай падрыхтоўкі моладзі. Каля 100 удзельнікаў сходу ўступілі ў рады РКСМ. Пасля сходу група камсамольцаў была паслана ў Полацк, Гарадок, Дрысу, Сураж, дзе яны дапамаглі партыйным камітэтам стварыць камсамольскія арганізацыі. Да пачатку 1919 г. ў губерні было створана 18 камсамольскіх арганізацый. У Віцебску ў лістападзе 1918 г. ўзніклі камсамольскія ячэйкі на фабрыцы «Дзвіна», у прафшколе гарбароў. У снежні 1918 г. ў будынку, дзе праходзіў сход, знаходзіўся Віцебскі гарком РКСМ.

У 1965 г. ў гонар Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта і ў 1979 г. ў памяць аб першым сходзе камсамольцаў Віцебшчыны на будынку ўстаноўлены 2 мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Очерки истории Ленинского комсомола Белоруссии.— Мн., 1975.
*В. М. Баскова.*



16. *Дывановы камбінат імя 50-годдзя БССР.*

**16. ДЫВАНОВЫ КАМБІНАТ** імя 50-годдзя БССР (да 1946 г. ільнопрадзільная фабрыка «Дзвіна»; гіст.). Вул. Горкага, 75.

Ільнопрадзільная фабрыка «Дзвіна», пабудаваная ў 1899—1900 гг. бельгійскім акцыянерным таварыствам, была буйнейшым прадпрыемствам горада. У 1905 г. на ёй працавала 900 рабочых, у 1910 — 1054, у 1913 г.— 1200 рабочых.

У канцы 1904 г. на фабрыцы створана сацыял-дэмакратычная група «Дзвіна». 21.1(3.2).1905 г. адбылася забастоўка (удзельнічала 180 чалавек) пратэсту супраць расстрэлу мірнай дэманстрацыі рабочых у Пецярбургу. Кіраўнікі забастоўкі былі высланы за межы Віцебскага павета. 30 ліпеня 1909 г. забаставала каля 1000 рабочых фабрыкі. Яны патрабавалі звальнення тэхнічнага дырэктара, змяншэння аб'ёму работ і павелічэння заработнай платы. Забастоўка была задушана (5 жніўня), многія рабочыя прыгавораны да катаргі і ссылкі. 4 лістапада 1913 г. 1400 рабочых прынялі ўдзел у забастоўцы супраць пераходу ад падзённай на менш выгадную аплату працы. Толькі пасля павелічэння расцэнак забастоўка была спынена. 14.5.1914 г. забаставалі малалетнія рабочыя ватэрнага аддзялення, яны патрабавалі павелічэння заработнай платы. У чэрвені 1916 г. на фабрыцы адбылася буйная забастоўка, якая была падтрымана на іншых прадпрыемствах. Рабочыя дамагаліся павелічэння зарплаты і спынілі забастоўку толькі пасля задавальнення іх патрабаванняў. 31.10(13.11).1917 г. трохтысячны мітынг рабочых і работніц фабрыкі, жыхароў рабочага прадмесця Маркаўшчына вітаў Кастрычніцкую рэвалюцыю, выказаў давер і падтрымку Савету Народных Камісараў і створанаму ў горадзе Ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту.

У гады даваенных пяцігодак рэканструявана: адрамантаваны ўсе цэхі, устаноўлена новае абсталяванне, добраўпарадкавана тэрыторыя. Пабудаваны шматпавярховыя жылыя дамы, дзіцячыя ўстановы. У Вялікую Айчынную вайну абсталяванне эвакуіравана ў г. Бійск.

Пасля вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў замест былой ільнопрадзільнай фабрыкі створаны дывановы камбінат, які дае прадукцыю з 1947 г. У 1958—61 гг. рэканструяваны і пашыраны. Асноўная прадукцыя: дываны аксмінстэрскія, жакардавыя і дывановыя дарожкі. У 1960 г. камбінат першым у рэспубліцы атрымаў званне «Прадпрыемства камуністычнай працы». У 1966 г. яму прысвоена званне



17. *Будынак былога жаночага епархіяльнага вучылішча. Галоўны фасад.*



17. *Будынак былога жаночага епархіяльнага вучылішча. План 1-га паверха.*

«Прадпрыемства высокай культуры вытворчасці», у 1968 г.— імя 50-годдзя БССР. Пры камбінаце 2 бібліятэкі, паліклініка, пункт аховы здароўя, спартыўны комплекс з 2 плавальнымі басейнамі, піянерлагер, 3 дашкольныя ўстановы.

У 1965 г. на адміністрацыйным будынку камбіната ўстаноўлена мемарыяльная дошка з імёнамі 13 рабочых і служачых прадпрыемства, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*Літ.:* Нікіцін Г. Віцебск.— Мн., 1959; Петров Д. И. Работаем по-коммунистически.— 2 изд.— Мн., 1963; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962.

*У. Дз. Будзько.*

**17. ЖАНОЧАЕ ЕПАРХІЯЛЬНАЕ ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). Вул. Гогаля, 6. Пабудавана ў 1902 г. з цэглы (арх. А. Паўлоўскі і П. Вінаградаў). Атынкавана, у многіх канструкцыйных элементах выкарыстаны метал. Уключала галоўны вучэбны корпус, які злучаўся крытым пераходам з Духаўской царквой, гаспадарчыя і службовыя будынкі.

Уцалелы галоўны корпус — мураваны трохпавярховы Е-падобны ў плане будынак. Пластыка фасадаў стрыманая. Сцены 1-га паверха аздоблены рустам, 2-га — гладкія, маюць дэкаратыўныя ліштвы, 3-і паверх завершаны развітым прафіляваным карнізам. Афарбоўка фасадаў двухколерная: дэкаратыўныя элементы, цягі, карнізы, ліштвы вылучаны белым колерам на фоне вохрыста-залацістых сцен. Планіроўка галерэйная. У цэнтры былі парадны вестыбюль і трохмаршавая лесвіца, на 1-м і 2-м паверхах — класы, на 3-м — спальныя памяшканні, у цокальным паверсе — сталовая і кухня. Цяпер у будынку аблвыканком.

Будынак — прыклад грамадскіх збудаванняў пачатку 20 ст., адыгрывае значную ролю ў сілуэце горада.

*В. М. Чарнатаў.*

**18. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. М. Горкага, 36/25. Пабудаваны ў 1927—29 гг. з цэглы (арх. А. Вышалескі).

Чатырохпавярховы будынак са складанай канфігурацыяй плана мае цэнтральны аб'ём і бакавыя крылы. На фоне гладкай паверхні сцен з пілястрамі нязначнага выступу і акон выцягнутай формы кантрастна вылучаюцца 2 закругленыя аб'ёмы лесвічных клетак, вынесеныя за план дома. Будынак завяршае карніз спрошчанага профілю. Дом быў разлічаны на засяленне 280—300 чалавек. Для несямейных прадугледжваліся пакоі плошчай 24 м² на 4 чалавекі, для маласямейных — пакоі плошчай 12—15 м² на 2—3 чалавекі. Кожная ізаляваная група пакояў на 18—24 чалавекі была аб'яднана холам для заняткаў і адпачынку, мела кухню, умывальню і туалеты. У тарцах бакавых крылаў размяшчаліся 8 двухпакаёвых кватэр па адной на кожным паверсе. На 1-м паверсе былі грамадскія (зала, хол, чытальня і магазіны), у цокальным — камунальна-бытавыя (пральня, душ, сушылка) памяшканні. У канцы 1930-х гадоў дом рэканструяваны ў секцыйны з ізаляванымі кватэрамі па 2—3 пакоі і неабходнымі дапаможнымі памяшканнямі. У Вялікую Айчынную вайну будынак згарэў. Адноўлены амаль без змен.



18. *Жылы дом № 36/25 па вуліцы М. Горкага. Галоўны фасад.*

Дом — прыклад савецкай архітэктуры 1920-х гадоў, дзе ўвасобіліся пошукі новых форм, аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі і функцыянальнай арганізацыі жылога дома.

*А. А. Воінаў.*

**19. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Маякоўскага, 3. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Двухпавярховы, прамавугольны ў плане будынак, фасады прафіляваным пояском падзелены на 2 часткі. У цэнтры галоўнага фасада арачны праём, над якім узвышаецца балкон на літых металічных кранштэйнах, па баках — 2 уваходы з лесвічнымі клеткамі. Вокны прамавугольныя, на 2-м паверсе абрамлены ліштвамі. Сцены завершаны шырокім карнізам.

Будынак — прыклад архітэктуры класіцызму.

*Т. І. Чарняўская.*



19. *Жылы дом № 3 па вуліцы Маякоўскага. Галоўны фасад.*



19. *Жылы дом № 3 па вуліцы Маякоўскага. План 1-га паверха.*

**20. ЖЫЛЫ ДОМ З РЭСТАРАНАМ** (архіт.). Вул. Леніна, 35. Пабудаваны ў 1973 г. (арх. А. Бельскі, А. Расейкін).

Адзінаццаціпавярховы мураваны П-падобны ў плане будынак размешчаны на розных узроўнях мясцовасці. На ніжні ўзровень выходзяць падоўжаны галоўны і адзін тарцовы фасады, на верхні — другі тарцовы фасад. На галоўным фасадзе рытмічна чаргуюцца гладкія прасценкі і шырокія аконныя праёмы. На 1-м паверсе размешчаны магазін кулінарыі, кафэ, бар і рэстаран, які займае таксама і цыліндрычны двухпавярховы аб'ём, што прылягае да галоўнага фасада. Тарцовы фасад, які выходзіць на вул. Леніна, мае балконы-лоджыі. Унутраная планіроўка жылой часткі будынка секцыйнага тыпу з адна-, двух- і трохпакаёвымі кватэрамі. З галоўным фасадам арганічна спалучаецца партэрны сквер з малымі архітэктурнымі формамі: падпорнай сценкай уздоўж вул. Леніна, лесвіцамі, свяцільнямі.

Будынак — прыклад сучаснага жыллёвага будаўніцтва.

*Т. І. Чарняўская.*

**21. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ КРЫЛОВА** (архіт., гіст.). У цэнтральнай частцы горада. Разам з забудовай вул. Суворава фарміруе жылы квартал, характэрны для горадабудаўніцтва 19 — пачатку 20 ст.

Дом № 4. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы як жылы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Плоскасць галоўнага фасада рытмічна чляніцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершана атыкам з круглай люкарнай. Архітэктурны дэкор абмежаваны пілястрамі, карнізам і прафіляваным міжпаверхавым поясам. Уваход у будынак і праезд ва ўнутраны двор зроблены асіметрычна з боку галоўнага фасада. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак.

Дом № 6. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы для галоўнага архітэктара горада Ц. В. Кібардзіна. Пры дапамозе арачнага праезда ва ўнутраны двор далучаецца да дома № 4. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Плоскасць галоўнага фасада паміж цокалем і завяршальным карнізам пластычна апрацавана рустам. Вялікія арачныя праёмы акон ства-



20. *Жылы дом з рэстаранам.*



20. *Жылы дом з рэстаранам па вуліцы Леніна. План 1-га паверха.*

шаны развітым прафіляваным карнізам.

Нейкі час тут размяшчалася гімназія, у якой у 1808—17 гг. вучыўся Іван Іванавіч Гарбачэўскі. Дзекабрыст, падпаручнік артылерыі І. І. Гарбачэўскі нарадзіўся 22.9.1800 г. ў г. Нежын у сям'і дробнамаянтковых дваран. Адмовіўся ад бацькоўскай спадчыны, зямлю перадаў сялянам. З 1823 г. актыўны дзеяч Таварыства з'яднаных славян, сувязны паміж Таварыствам з'яднаных славян і Паўднёвым таварыствам дзекабрыстаў. Вёў агітацыю сярод салдат і афіцэ-



21. *Фрагмент забудовы вуліцы Крылова. Дамы № 4, 6, 8, 10.*



21. *Дом № 4 па вуліцы Крылова. Галоўны фасад.*

раюць па фасадзе выразны рытм, сіметрыя якога парушана бакавым размяшчэннем уваxода з круглай люкарнай наверсе. Папярочнай сцяной і вестыбюлем дом падзелены на 3 часткі. У вестыбюлі знаходзіцца лесвіца ў паўпадвальны паверх. Архітэктурна-дэкаратыўная трактоўка характэрна для стылю «мадэрн». Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 8. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы квадратны ў плане будынак. Рытм галоўнага фасада ствараюць лучковыя вокны 1-га і арачныя 2-га паверхаў. З краповак выкарыстаны простага профілю міжпаверхавы пояс і завяршальны карніз. Уваход зроблены праз крыты лучковы калідор з боку вуліцы.

Дом № 10. Падоўжаны па фронту вуліцы двухпавярховы будынак. Узведзены ў 19 ст. з цэглы як жылы. Вулічны фасад мае асіметрычную кампазіцыю з бакавым размяшчэннем уваходнага праёма. У дэкаратыўным аздабленні выкарыстаны некаторыя элементы класіцызму: ліштвы лучковых аконных праёмаў, карніз з філёнгавым фрызам, гірлянды, лапаткі. Планіроўка калідорная.

Дом № 7. Пастаўлены ў канцы 18 ст. як корпус базыльянскага манастыра. Будынак двухпавярховы, мураваны, Г-падобны ў плане. Вуглавая частка закруглена. Сцены гладкія, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, завер-



21. *Дом № 6 па вуліцы Крылова. Галоўны фасад.*



21. *Дом № 8 па вуліцы Крылова. Галоўны фасад.*



21. *Дом № 10 па вуліцы Крылова. Галоўны фасад.*

раў. Прыхільнік фізічнага знішчэння царскай сям'і. У час паўстання Чарнігаўскага палка (29.12.1825 г.— 3.1. 1826 г.) спрабаваў падняць на дапамогу суседнія вайсковыя часці. У 1826 г. прыгавораны да пажыццёвай катаргі, з 1839 г. на пасяленні пры Пятроўскім Заводзе (цяпер у Пятроўск-Забайкальскім р-не Чыцінскай вобл.). Належаў да найбольш дэмакратычнай часткі дзекабрыстаў. «Запіскі, пісьмы» (М., 1963 г.) І. І. Гарбачэўскага — каштоўная крыніца гісторыі руху і светапогляду дзекабрыстаў. Памёр 9.1.1869 г.

У 1979 г. на ўшанаванне памяці І. І. Гарбачэўскага на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў будынку знаходзіўся палітэхнікум. У час нямецка-фашысцкай акупацыі ў падвалах была турма СД, у камерах якой гітлераўцы катавалі савецкіх патрыётаў. Па некаторых звестках у адной з камер турмы пакутавала кіраўнік падпольнай групы В. З. Харужая. На ўшанаванне памяці вязняў турмы ў 1960 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.



21. *Дом № 7 па вуліцы Крылова.*



21. *Дом № 7 па вуліцы Крылова. План 1-га паверха.*



21. *Дамы № 4, 6, 8, 10 па вуліцы Крылова. Планы першых паверхаў.*

Цяпер у будынку філіял Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

*М. К. Кошалеў, А. М. Кулагін.*

**22. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ СУВОРАВА** (архіт.). У цэнтральнай частцы горада. Разам з забудовай вуліц Крылова, Я. Купалы, Л. Талстога стварае гісторыка-архітэктурную зону горада. Мураваныя дамы, размешчаныя на пакатым рэльефе, аб'яднаны адзінай кампазіцыяй, агульным архітэктурна-дэкаратыўным вырашэннем.

Дом № 2. Пабудаваны ў канцы 18 ст. як гандлёвыя рады. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Сцены 1-га паверха, дзе размяшчаліся крамы, былі прарэзаны шырокімі лучковымі аркамі — уваходамі ў крамы, сцены 2-га паверха (склад тавараў) — маленькімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Прасценкі паміж праёмамі на кожным паверсе дэкарыраваны 2 спаранымі пілястрамі, якія ствараюць дэкаратыўны малюнак. Гандлёвыя рады з'яўляліся сувязным звяном паміж ратушай і іншымі будынкамі на плошчы перад ёй.

Дом № 4. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. як жылы. Будынак двухпавярховы. Галоўны фасад мае асіметрычную кампазіцыю, якую падкрэслівае лучковая арка — праезд у двор. Прамавугольныя вокны дэкарыраваны ліштвамі з франтонамі, на 2-м паверсе асіметрычна размешчаны балкон. Уваход афармлены паўкалонамі. Гарызантальныя чляненні вылучаны прафіляваным міжпаверхавым пояском і завяршальным карнізам з філёнгавым фрызам. У архітэктуры выкарыстаны элементы класіцызму.

Дом № 6. Пастаўлены ў сярэдзіне 19 ст. як жылы. Будынак двухпавярховы. У дэкаратыўнай апрацоўцы галоўнага фасада выкарыстаны традыцыйныя элементы: міжпаверхавы пояс, прафіляваны карніз, ліштвы арачных і лучковых акон. Сіметрыю фасада парушае бакавое размяшчэнне галоўнага ўвахода.

Дом № 8—10/2. На скрыжаванні вуліц Суворава і Крылова. Пабудаваны ў 19 ст. Будынак двухпавярховы, з закругленай вуглавой часткай, якая на 2-м паверсе вылучана балконам з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Над цэнтральнай часткай галоўнага фасада — трохвугольны франтон. Вокны прамавугольныя і лучковыя, дэкарыраваны прафіляванымі ліштвамі. З боку галоўнага фасада арачны праезд у двор. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 12/1. На рагу вуліц Суворава і Крылова, насупраць дома № 8. Пабудаваны ў 1799 г., рэстаўрыраваны ў 1848 г. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Вуглавая частка закруглена і вылучаецца на 2-м паверсе шырокім балконам з кавановай агароджай (не збераглася). Цэнтр выцягнутага галоўнага фасада вылучаны плоскім рызалітам з трохвугольным франтонам. Сцены завершаны развітым прафіляваным карнізам. Вокны прамавугольныя, на 1-м паверсе расшыраны ў 19 ст. і аздоблены арачнымі філёнгамі, на 2-м — з простымі ліштвамі. Пачатко-



22. *Фрагмент забудовы вуліцы Суворава. Дамы № 2, 4, 6, 8—10/2.*



22. *Дамы № 2, 4, 6, 8—10/2 па вуліцы Суворава. Планы першых паверхаў.*



22. *Жылы дом № 12/1 на рагу вуліц Суворава і Крылова. Галоўны фасад. Рысунак.*

вая планіроўка не збераглася. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 26. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. як гарадскі асабняк. Будынак Т-падобны ў плане: да двухпавярховага корпуса, арыентаванага на вуліцу, з боку двара прыбудавана аднапавярховае крыло. Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры рызалітам, асіметрычна размешчаны ўваход вызначаны 2 калонкамі. На 1-м паверсе вокны лучковыя з ліштвамі, на 2-м — прамавугольныя. З боку галоўнага фасада праезная арка. Планіроўка анфіладная. У двухпавярховым корпусе размяшчаліся жылыя пакоі, у аднапавярховым — гаспадарчыя. У будынку дзіцячая ўстанова.

Дом № 34/23. На скрыжаванні вуліц Суворава і Савецкай. Пабудаваны ў 1927—32 гг. з цэглы і дрэва (арх. В. Вукалаў). Чатырохпавярховы П-падобны ў плане будынак. Прызначаўся для маласямейных і адзінокіх. Складаецца з 6 двухкватэрных секцый з лесвічнымі клеткамі і адной секцыі з калідорнай планіроўкай. Кватэры маюць па 3 і 4 пакоі, плошча якіх ад 10 да 24 м², кухню плошчай ад 7 да 10 м², санітарны вузел. У секцыі з калідорнай планіроўкай на кожным паверсе 11 жылых пакояў, 2 агульныя кухні, умывальні, пакой для заняткаў і адпачынку. У цокальным паверсе камунальна-бытавыя памяшканні. У працэсе эксплуатацыі дома праведзена некалькі рэканструкцый кватэр, якія закранулі ўнутраную планіроўку. Архітэктурнае аблічча будынка стрыманае, без дэкаратыўных дэталей. Выразнасць фасадаў дасягаецца рытмічнай групоўкай акон, падзеленых вертыкальным чляненнем паўлоджый, заглыбленых на таўшчыню сцен.



*22. Дом № 34/23 на скрыжаванні вуліц Суворава і Савецкай.*

Дом пабудаваны па тыпу «дамоў-камун», з'яўляецца характэрным прыкладам савецкай архітэктуры 1920—30-х гадоў.

Дом № 38. Пабудаваны ў 1930—35 гг. (арх. В. Вукалаў). Чатырохпавярховы секцыйны будынак мае складаную канфігурацыю плана, скампанаваны з 4 чатырохкватэрных і 1 двухкватэрнай секцый (у цэнтры). Пластыку сіметрычна вырашанага фасада ўзбагачаюць вертыкальныя вокны лесвічных клетак, глухія агароджы балконаў з вялікім вынасам на 3-м і 4-м паверхах, просты карніз і абрамленні амаль квадратных акон. На 1-м паверсе — магазін. Будынак адносіцца да тыпу буйных жылых дамоў 1-й палавіны 1930-х гадоў, калі былі характэрны маляўнічыя аб'ёмы, пераходы ад выцягнутых вузкіх карпусоў да больш складаных кампазіцый.

У архітэктурным ансамблі вул. Суворава ўдала спалучаюцца забудовы 18—19 стагоддзяў і гадоў першых пяцігодак. *А. А. Воінаў, А. М. Кулагін, Т. І. Чарняўская.*

**23. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ Л. ТАЛСТОГА** (архіт., гіст.). Вуліца з'яўляецца папярочнай транспартнай і пешаходнай звязкай паміж радыяльнымі вуліцамі горада — Суворава і Леніна. Шчыльна пабудаваныя дамы ствараюць адзіны горадабудаўнічы ансамбль.

Дом № 1. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы, атынкаваны. Галоўны фасад трохпавярховага аб'ёму расчляпёны лучковымі аконнымі праёмамі з ліштвамі. Будынак фланкіраваны неглыбокімі рызалітамі з руставанымі лапаткамі і балконамі, дэкарыраваны міжпаверхавымі філёнгавым і меандравым паясамі, карнізам простага профілю. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак.

Дом № 2. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як жылы, атынкаваны. Трохпавярховы П-падобны ў плане будынак з рознавялікімі бакавымі крыламі. Плоскасць галоўнага асіметрычнага фасада з балконамі ў цэнтры завершана трохвугольным франтонам. Аконныя праёмы прама-



*22. Дом № 38 па вуліцы Суворава.*



*22. Дом № 34/23 на скрыжаванні вуліц Суворава і Савецкай. План 1-га паверха.*



*22. Дом № 38 па вуліцы Суворава. План 1-га паверха.*



23. *Дамы № 2, 4 па вуліцы Л. Талстога. Планы першых паверхаў.*

вугольныя, з ліштвамі. Фасад аздоблены філёнгамі, міжпаверхавым прафіляваным поясам. Бакавы рызаліт вылучаны рустам, арачнымі броўкамі над вокнамі, 2 лучковымі ўваходнымі праёмамі. Лесвіцы вынесены ў тарцы бакавых крылаў. У архітэктуры выкарыстаны элементы класіцызму.

Дом № 3. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. ў традыцыях «цаглянай» архітэктуры як жылы. Кампактны двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Архітэктурным дэкорам апрацаваны толькі галоўны фасад: міжпаверхавы філёнгавы пояс, лучковыя, клінападобныя аркі і фігурныя ліштвы акон, арнаментальны карніз. Планіроўка калідорная, з лесвіцай у цэнтры.

Дом № 4. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Галоўны фасад фланкіраваны ўваходнымі праёмамі, што вядуць у прыхожыя з лесвіцамі. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі і сандрыкамі. 1-ы паверх апрацаваны рустам, 2-і і 3-і вылучаны прафіляванымі і філёнгавымі паясамі. У завяршэнні буйны карніз.

У 1882—1910 гг. у гімназіі, якая размяшчалася ў гэтым будынку, працаваў беларускі этнограф і фальклярыст М. Я. Нікіфароўскі. Цяпер вы-



23. *Дом № 3 па вуліцы Л. Талстога.*



23. *Дамы № 3, 5 па вуліцы Л. Талстога. Планы першых паверхаў.*



23. *Дамы № 1 (справа), 2, 4 па вуліцы Л. Талстога.*



23. *Дамы № 5 (злева), 8 па вуліцы Л. Талстога.*

карыстоўваецца як адміністрацыйны будынак.

Дом № 5. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы, атынкаваны. Будынак трохпавярховы, мае форму выгнутага прамавугольніка. 1-ы паверх урэзаны ў рэльеф і трактаваны як цокальны, 2-і і 3-і вылучаны прафіляваным міжпаверхавым поясам і карнізам. Прамавугольныя і арачныя вокны верхніх паверхаў дэкарыраваны пластычнымі ліштвамі, філёнгамі. У цэнтры галоўнага і дваровага фасадаў уваходы ў будынак, з боку тарцовага фасада скразны праезд у двор. Планіроўка дома калідорная з 2 лесвічнымі вестыбюлямі ў цэнтры. Выкарыстоўваецца медустановай.



23. *Дом № 7 па вуліцы Л. Талстога. План 1-га паверха.*



23. *Дом № 8 па вуліцы Л. Талстога. План 1-га паверха.*



23. *Вуліца Л. Талстога. Дамы № 13, 15.*



23. *Дамы № 13, 15 па вуліцы Л. Талстога. Планы першых паверхаў.*

Дом № 7. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы будынак значна развіты ў глыбіню двара і выходзіць на вуліцу невялікім фасадам галоўнага крыла. Мае сіметрычна-восевую кампазіцыю і ў цэнтры падкрэслены рызалітам. Вокны прамавугольныя. Да тарца дома далучаны аб'ём лесвічнай клеткі. Крапоўка фасада абмежавана міжпаверхавым поясам і завяршальным карнізам.

Дом № 8. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Будынак двухпавярховы, у плане мае форму пяцівугольніка. Галоўны фасад сіметрычна-восевай кампазіцыі вылучаны ў цэнтры ўваходным праёмам з навесам. Крапоўку фасада складаюць арачныя нішы прамавугольных аконных праёмаў, міжпаверхавы пояс і завяршальны карніз простага профілю. Цэнтральнае месца ў плане дома займае вестыбюль з лесвіцай, вакол якога — памяшканні разнастайнай канфігурацыі. Выкарыстоўваецца навучальнай установай.

Дом № 13. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Аднапавярховы квадратны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам з вальмай. Галоўны фасад расчлянёны 4 прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і завершаны карнізам простага профілю. Неатынкаваныя тарцовыя фасады пазбаўлены праёмаў і архітэктурнага дэкору. У забудове вуліцы дом з'яўляецца найбольш кампактным і маламаштабным. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак.

Дом № 15. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Мае развітую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю са складанай канфігурацыяй плана: 3 рознавялікія крылы, што абмяжоўваюць унутраны двор. Галоўны асіметрычны фасад фланкіраваны балконамі, у цэнтры — уваходны праём. Плоскасць фасада раздзелена на кожным паверсе прафіляваным поясам і завершана карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы апрацаваны сандрыкамі, арачнымі нішамі. Будынак падзелены на шэраг секцый з самастойнымі ўваходамі, пераважна з двара. У архітэктуры выкарыстаны элементы класіцызму.

Забудова вул. Л. Талстога — прыклад горадабудаўнічага мастацтва Беларусі 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст.

*А. М. Кулагін.*

**24. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЯНКІ КУПАЛЫ** (архіт.). Склалася ў 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст., стварае адзіны горадабудаўнічы комплекс.

Дом № 2/44. На скрыжаванні вуліц Я. Купалы і Леніна. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы, неатынкаваны. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Вуглавая частка зрэзана і вылучана на 2-м паверсе балконам. Лучковыя аконныя праёмы 1-га і прамавугольныя 2-га паверхаў маюць перамычкі ў выглядзе клінападобных цагляных арак і простыя ліштвы. Гарызантальныя чляненні фасадаў вылучаны міжпаверхавым філёнгавым поясам і завершаны карнізам. У цэнтры фасада —



24. *Дом № 2/44 на скрыжаванні вуліц Я. Купалы і Леніна.*



24. *Дом № 4 па вуліцы Я. Купалы.*



24. *Дамы № 2/44, 4 па вуліцы Я. Купалы. Планы першых паверхаў.*



24. *Дамы № 5, 7, 9 па вуліцы Я. Купалы.*

2 уваходы. Выкарыстоўваецца ўстановай бытавога абслугоўвання.

Дом № 4. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Далучаны да дома № 2 і аддзяляецца ад яго арачным праездам ва ўнутраны двор. Аднапавярховы Г-падобны ў плане будынак з паўпадвалам, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад завершаны над карнізам высокім атыкам, апрацаваным аркатурай. Прамавугольныя аконныя праёмы ў арачным абрамленні з лапаткамі па баках. Мае 2 уваходы ў кожнае з крылаў дома. Выкарыстоўваецца гандлёвай установай.

Дом № 5. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы ў стылі позняга класіцызму. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад мае агульнае сіметрычнае вырашэнне з рытмам лучковых аконных праёмаў. Яго пластыку ўзбагачаюць прафіляваныя ліштвы акон 2-га паверха, вуглавыя лапаткі, міжпаверхавы філёнгавы пояс. 1-ы паверх апрацаваны расшыўкай па тынку пад руст. Будынак мае сіметрычнае планіровачнае вырашэнне, цэнтральнай лесвічнай клеткай падзелены на 4 жылыя секцыі. Уваход з двара.

Дом № 7. Размешчаны ў сярэдзіне шчыльнага фрагмента забудовы паміж дамамі №№ 5 і 9. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы, атынкаваны. Кампактны двухпавярховы дом накрыты двухсхільным дахам. Плоскасны сіметрычны галоўны фасад расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны на 2-м паверсе арачнымі сандрыкамі, пальметамі, прафіляванымі ліштвамі, карнізам і міжпаверхавым поясам. Уваход з лесвічнага вестыбюля дома № 9.

Дом № 8/7. На рагу вуліц Я. Купалы і Суворава. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы, атынкаваны. Двухпавярховы, мае ў плане форму няправільнага чатырохвугольніка. Вуглавая частка на скрыжаванні вуліц зрэзана і вылучана балконам. Падоўжаны фасад па вул. Суворава завершаны ў цэнтры фігурным атыкам. Плоскасці фасадаў крапаваны лапаткамі, рустам, філёнгамі. Кожны паверх падзелены на 4 кватэры, аб'яднаныя вакол цэнтральнай лесвічнай клеткі, уваход з боку двара.

Дом № 9. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з руставаным цоколем. Галоўны фасад плоскасны, мае прамавугольныя аконныя праёмы з ліштвамі, сандрыкамі, філёнгамі, крапаваны міжпаверхавым поясам, вуглавымі лапаткамі, дэкарыраваны фактурнай тынкоўкай. Планіровачна дом падзелены на 2 жылыя секцыі, уваход з боку двара праз вуглавую лесвічную клетку.

Дом № 10/18. На рагу вуліц Я. Купалы і Суворава. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. У архітэктуры выкарыстаны элементы і прыёмы канструктывізму. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Галоўны фасад вылучаны 2 уваходнымі рызалітамі, завершаны прамавугольным атыкам і фланкіраваны пілястрамі. Вуглавая частка будынка закруглена, завершана атыкам і вылучана балконам. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны фактур-



24. *Дом № 8/7 на рагу вуліц Я. Купалы і Суворава.*



24. *Дом № 8/7 на рагу вуліц Я. Купалы і Суворава. План 1-га паверха.*



24. *Дом № 10/18 на рагу вуліц Я. Купалы і Суворава.*



24. *Дом № 10/18 на рагу вуліц Я. Купалы і Суворава. План 1-га паверха.*

пымі філёнгамі, рустам. Плоскасці фасадаў крапаваны пілястрамі і руставанымі лапаткамі. Планіровачна будынак падзелены на 2 жылыя секцыі.

Дом № 11/9. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы будынак складаецца з 2 узаемна перпендыкулярных крылаў уздоўж вуліц. Вуглавая частка на скрыжаванні вуліц зрэзана. Вулічныя фасады адрозніваюцца паміж сабой рознай апрацоўкай і формай аконных



24. *Дом № 13/20 на скрыжаванні вуліц Я. Купалы і Суворава.*



24. *Дом № 13/20 на скрыжаванні вуліц Я. Купалы і Суворава. План 1-га паверха.*



24. *Дом № 17 па вуліцы Я. Купалы.*

праёмаў. Фасад па вул. Суворава мае лучковыя праёмы з простымі ліштвамі, па вул. Я. Купалы — прамавугольныя з філёнгамі. Планіровачна дом падзелены на 3 часткі з самастойнымі ўваходамі з двара і лесвіцамі на 2-і паверх.

Дом № 13/20. На скрыжаванні вуліц Я. Купалы і Суворава. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. У архітэктуры выкарыстаны элементы класіцызму. Аднапавярховы будынак мае ў плане форму няправільнага чатырохвугольніка. Асіметрычна вырашаныя вулічныя фасады маюць прамавугольныя вокны з ліштвамі. Плоскасць фасадаў завершана філёнгавым фрызам і буйным карнізам. Капітальнымі ўнутранымі сценамі дом падзелены на 3 часткі з самастойнымі ўваходамі, якія вылучаны паўкалонамі з антаблементам, вуглавы ўваход крапаваны руставанымі лапаткамі. Выкарыстоўваецца як жылы.

Дом № 17. Стаіць адасоблена, завяршае забудову вуліцы. Пабудаваны ў традыцыях «цаглянай» архітэктуры ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з чырвонай цэглы як жылы, неатынкаваны. Аднапавярховы квадратны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральная частка галоўнага, сіметрычнага па кампазіцыі фасада, дзе знаходзіцца ўваход, падкрэслена пад карнізам фігурным шчытом з люкарнай. Вокны лучковыя. Насычаная пластыка фасада ствараецца мноствам



24. *Дом № 17 па вуліцы Я. Купалы. План 1-га паверха.*



25. *Дамы № 15, 17, 19 па вуліцы Савецкай. План першых паверхаў.*

краповак, філёнгаў, арак, русту, выкананых сродкамі цаглянай муроўкі. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак.

Забудову вул. Я. Купалы складаюць дамы разнастайных архітэктурных стыляў, што характэрна для горадабудаўніцтва Беларусі 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст. *А. М. Кулагін.*

**25. ЗАБУДОВА ПА ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ** (архіт.). Уключае 3 мураваныя жылыя дамы, аб'яднаныя ў адзіную групу, характэрную для гарадскога жыллёвага будаўніцтва 19 — пач. 20 ст.

Дом № 15. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак мае спрошчаны архітэктурны дэкор: прафіляваныя ліштвы і лучковыя броўкі прамавугольных акон, міжпаверхавы філёнгавы пояс і прафіляваны карніз з дэнтыкуламі. Цокаль будынка расшыты пад руст. Планіровачна падзелены на 2 жылыя секцыі. З боку двара зроблены 2 уваходы ў дом.

Дом № 17. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з высокім цокалем. Фасад дэкарыраваны рустам, ліштвамі прамавугольных аконных праёмаў. Цэнтр кампазіцыі на 3-м паверсе вылучаны шырокім балконам. Планіровачна дом падзелены на 2 кватэры на кожным паверсе, уваход з двара.

Дом № 19. Галоўны фасад двухпавярховага будынка мае сіметрычную кампазіцыю, у цэнтры яго размешчаны балкон. У пластычнай апрацоўцы выкарыстаны рызаліты, канеліраваныя пілястры, паўкалоны, філёнгавы пояс, руст. Сіметрыю фасада падкрэслівае раўнаважнае размеркаванне прамавугольных і арачных праёмаў. Уваход з двара.

Фрагмент жылой забудовы па вул. Савецкай мае адзінае архітэктурна-дэкаратыўнае вырашэнне, у якім выкарыстаны формы класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**26. ЗАДУНАЎСКАЯ СЛАБАДА** (археал.). На левым беразе р. Віцьба, у месцы ўпадзення ў яе ручая Дуная, на ўсход ад Ніжняга і Узгорскага замкаў. Плошча каля 5 га. З'яўлялася пасадам феадальнага Віцебска 14—17 стагоддзяў. Паводле пісьмовых крыніц 16—17 стагоддзяў, падзялялася на паўночны (Кстоўская гара) і паўднёва-ўсходні (Задунаўе) участкі. Абследаваў у 1977 г. М. А. Ткачоў, у 1980—81 гг. В. М. Ляўко правяла раскопкі на Кстоўскай гары і ў Задунаўі



27. *Святадухаўская царква. З «Чарцяжа» Віцебска 1664 г.*

на агульнай плошчы 420 м². Культурны пласт на Кстоўскай гары 0,4—1,2 м, у Задунаўі — 1,5 м. Большасць знаходак (кераміка, вырабы з жалеза, шкла) адносіцца да 16—18 стагоддзяў. У раскопах выяўлены рэшткі жытлаў 14—15 стагоддзяў з бытавымі рэчамі. Знаходкі па тэхналогіі апрацоўкі і вонкавым выглядзе адрозніваюцца ад матэрыялаў, выяўленых пры раскопках віцебскіх замкаў, і сведчаць аб самастойным развіцці гэтага паселішча. У пісьмовых крыніцах адзначана слабая заселенасць участка ў 16—17 стагоддзях, калі ён быў ужо гарадскім пасадам. Гэтыя ж крыніцы сведчаць аб наяўнасці на Кстоўскай гары курганнага некропаля — відаць, аднаго з месцаў пахавання гараджан. Цяпер культурны пласт у Задунаўскай слабадзе прасочваецца на абмежаваным участку, прыкладна ў 800 м². У шурфе № 1 (на рагу вуліц Даватара і Фрунзе) на мацерыку выяўлены фрагмент драўлянай пабудовы 17 ст. са слядамі пажару.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Ткачев М. А. и др. Раскопки в Витебске.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978; Левко О. Н. Феодальные памятники Северо-Восточной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *В. М. Ляўко.*

**27. ЗАРУЧАЎСКАЯ СЛАБАДА** (археал.). На паўднёвы ўсход ад Ніжняга замка, паміж вул. імя газеты «Правда», Гогаля, Калініна, злева ад былога Гапеева ручая, які ўпадаў у Заходнюю Дзвіну. З'яўлялася пасадам Віцебска 12—17 стагоддзяў. Плошча 10 га. Гісторык А. П. Сапуноў адзначаў на аснове пісьмовых крыніц наяўнасць ва ўсходняй, больш высокай частцы Заручаўя курганнага некропаля — «валатовак» побач з Святадухаўскай царквой (пабудавана ў 14 ст.). Гэта частка, паводле назіранняў краязнаўцаў-гісторыкаў 19 ст., засялілася не раней 18 ст. Заходні, больш нізкі ўчастак Заручаўя быў заселены яшчэ ў эпоху сярэднявечча. У 16 ст. тут знаходзілася «кажамяцкая» царква, якая належала гарбарам. Уздоўж Заходняй Дзвіны праходзіла вул. Вялікая, якая злучала Ніжні замак з Заручаўем. Шурфоўка, праведзеная В. М. Ляўко ў 1981 г., пацвердзіла адсутнасць культурнага пласта ва ўсходняй частцы Заручаўя. Гэта падмацоўваецца матэрыяламі геалагічнага свідравання і археалагічнымі назіраннямі ў час будаўніцтва. Тут выяўлены толькі фундаменты жаночага манастыра 19 ст. і рэшткі керамікі гэтага часу.

Шурфы і раскопы агульнай плошчай каля 150 м² былі закладзены ў заходняй частцы Заручаўя ўздоўж р. Заходняя Дзвіна на тэрыторыі сквера каля вул. Калініна. Культурны пласт 0,5—2 м. Магутнасць яго павялічваецца на поўдзень ад Ніжняга замка. Тут знойдзена кераміка і шыферныя праслiцы 12 ст. Каля Ніжняга замка культурны пласт датуецца 16—18 стагоддзямі. Рэчы з Заручаўя ідэнтычныя знаходкам Задунаўскай слабады і дазваляюць меркаваць, што на гэтым месцы ў старажытны час існавала сельскае паселішча, якое ў эпоху феадалізму стала пасадам Віцебска.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.— М., 1966. *В. М. Ляўко.*

**28. КАЗАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На правым беразе р. Заходняя Дзвіна, каля будынка камбіната шаўковых тканін. Пабудавана ў 1760 г. з цэглы як Пакроўская царква праваслаўнага Маркава манастыра, які існаваў тут з 15 ст. У 1847 г. да царквы з захаду зроблена прыбудоўка — Мітрафанаўская царква. Спачатку храм быў крыжова-купальны. Да асноўнага прамавугольнага аб'ёму з трыма паўцыліндрычнымі апсідамі



28. *Казанская царква. План.*



28. *Казанская царква.*



28. *Казанская царква. Цэнтральная апсіда.*

прылягае развіты прытвор. Сцены прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і раскрапаваны пілястрамі. Бакавыя часткі царквы і прытвора маюць трохвугольныя франтоны з паўцыркульнымі праёмамі. На цэнтральнай апсідзе размешчана ляпная дэкаратыўная рама штучнага акна. Інтэр'ер царквы 2 сценамі з арачнымі праёмамі падзелены на 3 нефы: цэнтральны завяршаецца апсідай, якая значна выступае наперад, бакавыя — невялікімі апсідамі. У цэнтры галоўнага нефа — драўляны светлавы ліхтар. Перакрыцце драўлянае, бэлечнае.

Царква — помнік архітэктуры ранняга класіцызму, у якім прасочваюцца элементы барока.

*Т. І. Чарняўская.*

**29. КАСЦЁЛ ВАРВАРЫ** (архіт.). На вул. Ленінградскай. Пабудаваны ў 1785 г. з цэглы на каталіцкіх могілках. У канцы 19 ст. значна перабудаваны (інж. В. Піятроўскі), стаў двухвежавым базілікальным храмам. Галоўны фасад вылучаюць 2 двух'ярусныя вежы (1-ы ярус чатырохгранны, 2-і — шасціграны). Паміж вежамі — трохвугольны франтон на шырыню цэнтральнага нефа. У аздобе фасадаў шырока выкарыстана дэкаратыўная цэгла (карнізныя паяскі, завяршэнні вежаў і інш.). Інтэр'ер трохнефавы, нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі.

Касцёл — прыклад архітэктуры неаготыкі.

*Т. І. Чарняўская.*

**30. КЛУБ МЕТАЛІСТАЎ** (архіт.). Вул. Энгельса, 2, на набярэжнай Заходняй Дзвіны. Пабудаваны ў 1932 г. (арх. А. Васільеў). Мае складаную канфігурацыю плана. Складаецца з 2 груп памяшканняў. 1-я група — відовішчная, уключае вестыбюль, фае, універсальную глядзельную залу, спартыўную залу (прыбудавана ў 1940-я г.), дапаможныя памяшканні. Фае, вестыбюль і зала маюць натуральнае асвятленне. Месцы ў глядзельнай зале размешчаны ў партэры, злучаным з фае 1-га паверха, і на балконе, злучаным з фае 2-га паверха. З балкона ёсць выхад на тэрасу. 2-я група памяшканняў — клубна-гуртковая, размешчана ў двухпавярховай частцы, якая пад прамым вуглом прылягае да асноўнага аб'ёму. Вонкавы выгляд і інтэр'еры вызначаюцца строгасцю архітэктурных форм.

Клуб — прыклад грамадскіх будынкаў новага тыпу ў савецкай архітэктуры 1930-х гадоў.

*А. А. Воінаў.*

**31. МАГІЛА АСЯНЕНКІ** Васіля Мікалаевіча (гіст.). На Мазурынскіх могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы В. М. Асяненка нарадзіўся 31.1.1916 г. ў в. Ліпнікі Пастаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Да 1939 г. батрачыў. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС (1958 г.). Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Быў разведчыкам, намеснікам камандзіра партызанскага атрада імя А. В. Суворава, камандзірам атрада «Слава» партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава (дзейнічала на тэрыторыі Вілейскай вобл. БССР і Швенчонскага р-на Літоўскай ССР), сакратаром Пастаўскага падпольнага райкома ЛКСМБ. Пасля вайны намеснік старшыні Пастаўскага райвыканкома, старшыня Астравецкага, Вілейскага і Глыбоцкага райвыканкомаў.



29. *Касцёл Варвары.*



29. *Касцёл Варвары. План.*

З 1958 г. першы сакратар Дунілавіцкага, з 1964 г.— Глыбоцкага райкомаў КПБ, у 1967—76 гг. старшыня парткамісіі Віцебскага абкома КПБ. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1966 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак збожжавых і кармавых культур. Член ЦК КПБ у 1966—71 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг., 1963—67 гг.

Памёр В. М. Асяненка 13.6.1977 г. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

*В. М. Баскова.*

**32. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На беразе р. Віцьба, непадалёку ад ветэрынарнага інстытута, на тэрыторыі былога цагельнага завода. Пахаваны савецкія грамадзяне — ахвяры фашысцкага тэрору.

Адным з месцаў масавага знішчэння гітлераўцамі людзей у Віцебску былі кар'еры былога цагельнага завода. Нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі тут каля 20 тыс. чалавек.

У 1981 на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

**33. МАГІЛА ВАСІЛЬЕВАЙ** Зінаіды Цімафееўны (гіст.). Вул. 3-я Полацкая, на Навасямёнаўскіх могілках. Удзельніца падпольнай камсамольска-маладзёжнай групы (кіраўнік Л. Дз. Бярозкіна) 18-гадовая З. Ц. Васільева павешана нямецка-фашысцкімі захопнікамі 22.9.1942 г. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**34. МАГІЛА ГЛЕБАЎСКАЙ** Яніны Казіміраўны (гіст.). На Мазурынскіх могілках.

Народная артыстка БССР (1970 г.) Я. К. Глебаўская нарадзілася 11.10. 1901 г. ў Мінску. Акцёрскую дзейнасць пачала ў 1920 г. ў Беларускім першым дзяржаўным тэатры (з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы). Пасля заканчэння Беларускай драматычнай студыі ў Маскве (1926 г.) працавала ў Беларускім другім дзяржаўным тэатры (з 1944 г. тэатр імя Я. Коласа). Я. К. Глебаўская стварыла сакавітыя народныя характары ў беларускім нацыянальным рэпертуары: Даміцэля («Прымакі» Я. Купалы), Мальвіна («Несцерка» В. Вольскага), Югася («Навальніца будзе» паводле трылогіі Я. Коласа «На ростанях»), Сухадол («Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна), старая Жыгоцкая («Вайна пад стрэхамі» паводле А. Адамовіча). З іншых роляў — Бярсенева («Разлом» Б. Лаўранёва), Забеліна («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Шарлота («Гарачае лета ў Берліне» паводле Д. К'юзек), Гурмыжская і Уліта, Феліцата («Лес», «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага), Малання, Паліна, Васа («Ягор Булычоў і іншыя», «Ворагі», «Васа Жалязнова» М. Горкага), Матруна («Улада цемры» Л. Талстога), Дульская («Мараль пані Дульскай» Г. Запольскай), Орта («Ветрык, вей!» Я. Райніса). Творчасць Я. К. Глебаўскай адметная народнасцю, вострай характарнасцю, філіграннай шліфоўкай малюнка ролі.

Памерла Я. К. Глебаўская 16.12. 1978 г.

**35. МАГІЛА ДЗЕНІСЕНКІ** Міхаіла Іванавіча (гіст.). Вул. Цітова, на Старасямёнаўскіх могілках.

Герой Савецкага Саюза М. І. Дзенісенка нарадзіўся 24.7.1899 г. ў в. Альшана Недрыгайлаўскага р-на Сумскай вобл. Да 1918 г. батрачыў. Член КПСС з 1920 г. З 1919 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір 36-й гвардзейскай стралковай дывізіі Сцяпнога фронту генерал-маёр М. І. Дзенісенка вызначыўся ў верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на тэрыторыі Днепрапятроўскай вобл. Дывізія пад яго камандаваннем пераправілася на правы бераг ракі, авалодала плацдармам і за суткі адбіла 8 контратак праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена ў снежні 1943 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, жыў у Віцебску.

Памёр 7.4.1949 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**36. МАГІЛА ІЛЬНСКАГА** Аляксандра Канстанцінавіча (гіст., маст.). На Мазурынскіх могілках.



**30.** *Клуб металістаў.*



**30.** *Клуб металістаў. План 1-га паверха.*



**36.** *Помнік на магіле А. К. Ільінскага.*

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР (1953 г.) А. К. Ільінскі нарадзіўся 29.10.1903 г. ў г. п. Мір Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. ў сям'і свяшчэнніка. Член КПСС з 1945 г. Скончыў Беларускую драматычную студыю ў Маскве (1926 г.). Творчую дзейнасць пачаў у 1919 г. ў Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі. Працаваў у Мінскім тэатры рэвалюцыйнай сатыры і Беларускім першым дзяржаўным тэатры. З 1926 г. ў Беларускім другім дзяржаўным тэатры (з 1944 г. тэатр імя Я. Коласа) у Віцебску, у 1941—46 гг. мастацкі кіраўнік тэатра, выкладаў у студыях пры гэтым тэатры. А. К. Ільінскі акцёр шырокага творчага дыяпазону, яго творчасць вызначалася яркім камедыйным талентам, народнасцю і нацыянальнай самабытнасцю, высокай акцёрскай тэхнікай. Вострае пачуццё гумару, кантрастнасць эмацыянальных фарбаў, творчая імправізацыя, гратэскавыя прыёмы спалучаліся з тонкім аналізам, псіхалагічнай глыбінёй ролі. Багатыя яркасцю фарбаў, жыццёвай праўдзівасцю і яго эпізадычныя ролі. А. К. Ільінскі стварыў шматгранныя мастацкія вобразы ў беларускім нацыянальным рэпертуары: Дзяменя, дзед Талаш («Вайна вайне», «У пушчах Палесся» Я. Коласа), Харкевіч («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Несцерка («Несцерка» В. Вольскага), Пытляваны («Пяюць жаваранкі» К. Крапівы), дзяк Бацяноўскі («Навальніца будзе» паводле трылогіі Я. Коласа «На ростанях»), дзед Нупрэй («Алазанская даліна» К. Губарэвіча і І. Дорскага), Мочак-Мачульскі («Лявоніха» А. Данілава), Гукан («Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна). Найбольш адметныя ролі класічнага рэпертуару: Рабінзон, Аркашка Шчаслівцаў («Беспасажніца», «Лес» А. Астроўскага), Расплюеў («Вяселле Крачынскага» А. Сухаво-Кабыліна), Печанегаў, Барон («Ворагі», «На дне» М. Горкага), Хлестакоў («Рэвізор» М. Гогаля), Палоній і Далакоп («Гамлет» У. Шэкспіра) і інш. У 1946 г. за ролю Несцеркі прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—63 гг.

У гісторыі тэатра імя Я. Коласа А. К. Ільінскаму па праву належыць першая роля — і як стваральніку надзвычай яркіх сцэнічных вобразаў, і як актыўнаму будаўніку тэатра, у якім ён працаваў больш за 40 гадоў. Яго творчы шлях адлюстраваны ў дакументальным кінафільме «Жыццё на сцэне» («Беларусьфільм», 1966 г.).

Памёр 18.3.1967 г. Яго імем названа вуліца ў Віцебску. У 1974 г. на магіле ўстаноўлена надмагілле (скульпт. А. Тарасян; лабрадарыт, граніт, бронза).

Асіметрычна-прасторавая кампазіцыя помніка пабудавана на кантрасце рознамаштабных гарызантальна-вертыкальных плоскасцей лабрадарыту (245×69 см) і стэлы з граніту (190×70 см), размешчанай у правым вуглу квадратнага стылабата (240×240 см). Яе крывалінейны абрыс паўтарае профільную выяву трагічнай маскі на фоне сцэнічнай заслоны. На левай частцы гарызантальнай плоскасці лабрадарыту, якая пастаўлена на рабро і падтрымліваецца 2 невялікімі паралелепіпедамі (50×40 см), а таксама плоскасцю, размешчанай перпендыкулярна да яе (195×50 см), умацавана барэльефная выява твару акцёра ў профіль (бронза, ліццё; 48×32 см), што дакладна передае партрэтнае падабенства.

*Літ.:* Скібнеўскі А. Народны артыст СССР А. К. Ільінскі.— Мн., 1954; Няфёд У. І. Беларускі тэатр імя Якуба Коласа.— Мн., 1976; яго ж. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982.

*У. І. Няфёд, М. М. Яніцкая.*

**37. МАГІЛА МАКАРАВА** Мікалая Акімавіча (гіст.). На Мазурынскіх могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы М. А. Макараў нарадзіўся 18.11.1905 г. ў Віцебску ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1939 г. Удзельнік Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. З 1933 г. працаваў у Віцебскім аддзяленні Заходняй чыгункі. У 1941—43 гг. начальнік паравознай калоны № 3 асобнага рэзерву Народнага камісарыята шляхоў зносін, прымаў удзел у ваенных перавозках пад Масквой, Сталінградам, Курскам, Віцебскам і інш. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 5.11.1943 г. за заслугі ў забеспячэнні чыгуначных перавозак для фронту, народнай гаспадаркі і за поспехі ў аднаўленні чыгуначнага транспарту ў цяжкіх умовах ваеннага часу. З 1944 г. начальнік, з 1967 г. інжынер кабінета навукова-тэхнічнай інфармацыі Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі. Ганаровы чыгуначнік. Ганаровы грамадзянін Віцебска (1967 г.). Памёр 27.6.1975 г. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*В. М. Баскова.*

**38. МАГІЛА МАНКОВІЧА** Сцяпана Сцяпанавіча (гіст.). На Мазурынскіх могілках.

Герой Савецкага Саюза С. С. Манковіч нарадзіўся 30.4.1905 г. ў в. Беразіно Докшыцкага р-на Віцебскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) (1946 г.). З 1929 г. на савецкай і гаспадарчай рабоце, з 1939 г. быў сакратаром Бягомльскага райкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну пакінуты ў тыле ворага для падпольнай работы; адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Мінскай вобл. З красавіка 1942 г. камісар атрада, з верасня 1942 г. да снежня 1943 г.— партызанскай брыгады «Жалязняк». Адначасова з жніўня 1942 г. да снежня 1943 г. сакратар Бягомльскага падпольнага райкома КП(б)Б. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. Пасля вайны на савецкай і партыйнай рабоце. Памёр 18.4.1978 г. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.

**39. МАГІЛА МІЦКЕВІЧА** Мікалая Антонавіча (гіст.). Вул. 2-я Праезная, на Пескавацінскіх могілках.

Беларускі савецкі рэжысёр, акцёр, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1949 г.) М. А. Міцкевіч нарадзіўся 3.1.1901 г. ў г. п. Парычы Светлагорскага р-на Гомельскай вобл. ў сям'і служачых. У 1918—20 гг. акцёр у Беларускім савецкім тэатры і ў Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі ў Мінску. З верасня 1920 г. акцёр Беларускага дзяржаўнага тэатра (з 1944 г. тэатр імя Я. Купалы). Пасля заканчэння Беларускай драматычнай студыі ў Маскве з 1926 г. працаваў акцёрам і рэжысёрам у Беларускім тэатры імя Я. Коласа (да 1944 г. Беларускі другі дзяржаўны тэатр), у 1931—34 гг. мастацкі кіраўнік тэатра. У 1934—41 гг. рэжысёр тэатраў на Украіне. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў франтавым тэатры, з 1942 г. ў тэатры імя Я. Коласа, які быў у эвакуацыі ў Уральску і Арэхава-Зуеве. У 1945—46 гг. рэжысёр Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі. Пастаноўкі М. А. Міцкевіча вызначаліся высокай рэжысёрскай культурай, яркай сцэнічнай формай, выразнай ідэйнай накіраванасцю, глыбокай распрацоўкай характараў, вялікай увагай да масавых сцэн. Ставіў пераважна сучасную драматургію, імкнуўся да маштабнасці спектакляў. Найбольш значныя работы: «На заходзе бой» У. Вішнеўскага (1933 г.), «Напэсце» Л. Лявонава (1943 г.), «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна (1945 г.), «Вялікая сіла» Б. Рамашова (1948 г.), «Калінавы гай» А. Карнейчука і «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага (1950 г.), «Разлом» Б. Лаўранёва (1951 г.), «Васа Жалязнова» М. Горкага (1953 г.), «Гаіці» У. Дзюбуа (1954 г.). Пастаноўкі беларускіх нацыянальных твораў вызначаліся веданнем народнага побыту і фальклору, яркімі народнымі характарамі. Сярод лепшых пастановак: «Качагары» І. Гурскага і «Напор» А. Александровіча (1931 г.), «Заложнікі» А. Кучара (1944 г.), «Цэнтральны ход» і «Алазанская даліна» К. Губарэвіча і І. Дорскага (1948 г., 1949 г.), «Песня нашых сэрцаў» (1949 г.) і «Калі зацвітаюць сады» (1950 г.) В. Палескага, «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы (1950 г.), «Простая дзяўчына» К. Губарэвіча (1952 г.).

Памёр М. А. Міцкевіч 23.2.1954 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Скібнеўскі А. Мікола Міцкевіч.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967; Няфёд У. Беларускі тэатр імя Якуба Коласа.— Мн., 1976.

*У. І. Няфёд.*

**40. МАГІЛА НІКАЛАЕВА** Яўгена Дзмітрыевіча (гіст.). На Мазурынскіх могілках.

Беларускі савецкі тэатральны мастак, народны мастак БССР (1967 г.) Я. Дз. Нікалаеў нарадзіўся 13.12. 1913 г. ў Мінску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1946 г. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1933 г.), дзе вучыўся ў І. Ахрэмчыка, У. Хрусталёва і М. Эндэ. Больш за 40 гадоў працаваў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Коласа (загадчык бутафорскага цэха, мастак-пастаноўшчык, з 1944 г. галоўны мастак).

Творчасць Я. Дз. Нікалаева адметная вобразнасцю мастацкага мыслення, арыгінальнасцю формы, драматызмам і напружанасцю каларыту, уменнем выявіць рысы нацыянальнай спецыфікі твора. Сярод спектакляў, афармленых у тэатры імя Я. Коласа: «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча (1936 г.), «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка (1939 г.), «Лес» (1940 г.) і «Багна» (1972 г.) А. Астроўскага, «Ірынка» (1941 г.) і «Бацькаўшчына» (1966 г.) К. Чорнага, «Рускія людзі» К. Сіманава (1942 г.), «Рэвізор» М. Гогаля (1945 г.), «Вяселле Крачынскага» А. Сухаво-Кабыліна, «Алазанская даліна» К. Губарэвіча і І. Дорскага (абодва 1949 г.), «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы (1950 г.), «Раскіданае гняздо» Я. Купалы (1951 г.), «Простая дзяўчына» К. Губарэвіча (1952 г.), «Выбачайце, калі ласка!» (1953 г.) і «Трыбунал» (1970 г.) А. Макаёнка, «Крэпасць над Бугам» С. Смірнова (1956 г.), «Навальніца будзе» паводле трылогіі Я. Коласа «На ростанях» (1958 г.), «Крыніцы» (1961 г.) і «Сэрца на далоні» (1966 г.) паводле І. Шамякіна, «Лявоніха» П. Данілава (1963 г.),

«Дачнікі» (1964 г.) і «Зыкавы» (1968 г.) М. Горкага, «Вайна пад стрэхамі» паводле А. Адамовіча (1967 г.), «Шостага ліпеня» М. Шатрова (1967 г.), «Улада цемры» Л. Талстога (1969 г.), «Трэцяя, патэтычная» М. Пагодзіна (1970 г.), «Амністыя» (1971 г.) і «Апошняя інстанцыя» (1967 г.) М. Матукоўскага, «Не трывожся, мама!» Н. Думбадзе (1972 г.), «Прыніжаныя і зняважаныя» паводле Ф. Дастаеўскага (1973 г.), «Сталявары» Г. Бокарава (1974 г.), «Лёнушка» Л. Лявонава, «Энергічныя людзі» В. Шукшына (абодва 1975 г.), «Укралі кодэкс» А. Петрашкевіча (1976 г.). У тэатры імя Я. Купалы ў Мінску аформіў спектаклі: «У добры час» В. Розава (1955 г.), «На крутым павароце» К. Губарэвіча (1956 г.), «Жывы труп» Л. Талстога (1961). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1968 г. (за афармленне спектакля «Шостага ліпеня» М. Шатрова).

Памёр Я. Дз. Нікалаеў 30.12.1978 г. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Я. Дз. Нікалаеў.— Мн., 1960; Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі.— Мн., 1958. *Г. М. Ярмоленка.*

**41. МАГІЛА ПЭНА** Юдаля Моўшавіча (гіст.). На Старасямёнаўскіх могілках.

Беларускі жывапісец Ю. М. Пэн нарадзіўся 24.5.1854 г. ў г. Зарасай Літоўскай ССР у сям'і рамесніка. У 1886 г. скончыў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Вучыўся ў педагогаў М. Лаўрэцкага і П. Чысцякова. З 1891 г. жыў у Віцебску, дзе ў 1892 г. арганізаваў мастацкую студыю. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на аснове мастацкай студыі створана народная мастацкая школа (1918—20 гг.) на базе якой заснаваны Віцебскі мастацкі тэхнікум. Ю. М. Пэн у сваіх карцінах паказваў цяжкае жыццё працоўнага народа, рэвалюцыйныя падзеі 1905 г. Пасля 1917 г. адлюстроўваў новы побыт людзей. Найбольш вядомыя работы: «Стары салдат» (1902 г.), «Жанчына з пісьмом» (1903 г.), «Стары кравец», «Пасля забастоўкі» (1905 г.), «Шавец-камсамолец» (1925 г.), «Сват» (1926 г.), «Швачка» (1927 г.), «Пекар» (1928 г.), «Аўтапартрэт з пэндзлем», «Аўтапартрэт у саламяным капелюшы», «Дзяўчына ў белым», «Мастак Шагал». Не захаваліся творы Ю. М. Пэна «Музыкант», «Трубач» (1905 г.), «Вуліца ў Віцебску» (1900-я гады), «Гадзіншчык». Для яго творчасці характэрна спалучэнне партрэтных і жанравых пачаткаў. У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР 169 жывапісных і 20 графічных работ мастака.

Памёр Ю. М. Пэн 1.3.1937 г. У 1937 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974. *Л. Г. Лапцэвіч.*



*42. Помнік на магіле А. П. Радзялоўскай.*

**42. МАГІЛА РАДЗЯЛОЎСКАЙ** Алены Паўлаўны (гіст.). На Мазурынскіх могілках.

Беларуская савецкая актрыса, народная артыстка БССР (1953 г.) А. П. Радзялоўская нарадзілася 5.7.1904 г. ў Варшаве ў сям'і служачага. Член КПСС з 1947 г. З 1926 г. пасля заканчэння Беларускай драматычнай студыі ў Маскве працавала ў Беларускім дзяржаўным тэатры імя Я. Коласа (да 1944 г. Беларускі другі дзяржаўны тэатр), у 1944 г. ў франтавой тэатральнай брыгадзе. Спачатку выконвала эпізадычныя ролі (Мэры ў «Разломе» Б. Лаўранёва і інш.), дзе выявіліся ўласцівыя творчасці актрысы пластычнасць, абаяльнасць, жаноцкасць, потым — складаныя характарныя і драматычныя ролі ў класічнай і сучаснай драматургіі. Сярод лепшых роляў: Агудалава, Гурмыжская, Барабошава («Беспасажніца», «Лес», «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага), Глафіра, Таццяна Лугавая, Алена («Ягор Булычоў і іншыя», «Ворагі», «Мяшчане» М. Горкага), Панова («Любоў Яравая» К. Транёва), Лянчыцкая («Байцы» Б. Рамашова), Забеліна («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Ганна фон Мюлер («Гарачае лета ў Берліне» паводле Э. Дз. К'юзек). Ролі ў беларускай драматургіі: Наталля Мікалаеўна («Проба агнём» К. Крапівы), Юзэфа Тамашэўская («Ірынка» К. Чорнага), Клаўдзія Сухадол («Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна). Стварыла камедыйныя, сатырычна завостраныя вобразы Дульскай («Мараль пані Дульскай» Г. Запольскай), Ганны Андрэеўны («Рэвізор» М. Гогаля).

Памерла А. П. Радзялоўская 7.3.1971 г. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Сяргейчык Ц. Алена Радзялоўская.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967; Няфёд У. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982. *У. І. Няфёд.*

**43. МАГІЛА ШМЫРОВА** Міная Піліпавіча (гіст.). Вул. Савецкая, на Вайсковых могілках.

Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну М. П. Шмыроў нарадзіўся 11.12.1891 г. ў в. Пуніпіча Віцебскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1920 г. З 1913 г. ў арміі. У час Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. выбраны членам дывізійнага салдацкага камітэта, праводзіў рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат. З 1918 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік 1-й сусветнай і Грамадзянскай войнаў, баёў супраць войск Краснова, Карнілава, Юдзеніча, арганізатар першага партызанскага атрада ў Віцебскай губерні. З 1921 г. камандзір атрада па барацьбе з бандытызмам на Віцебшчыне. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. З 1923 г. загадчык валаснога зямельнага аддзела, старшыня калгаса, дырэктар ільнозавода, Пудацкай кардоннай фабрыкі ў Віцебскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну ў ліпені 1941 г. арганізаваў і ўзначаліў партызанскі атрад у Суражскім р-не, які ўвайшоў у склад 1-й Беларускай партызанскай брыгады Віцебскай вобл. З красавіка да лістапада 1942 г. камандзір гэтай брыгады. Народныя мсціўцы Бацькі Міная, як называлі Шмырова партызаны, наводзілі жах на акупантаў. З лістапада 1942 г. ў Цэнтральным



*43. Надмагілле М. П. Шмырова.*

штабе партызанскага руху. 15.8. 1944 г. за мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, М. П. Шмырову прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пасля вайны на савецкай і гаспадарчай рабоце ў Віцебску. Член ЦВК БССР у 1935—37 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—63 гг. Ганаровы грамадзянін Віцебска.

Памёр 3.9.1964 г. У Віцебску яго імем названы вуліца, парк, яго імя прысвоена гарадскому прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу. У 1969 г. адкрыты мемарыяльны музей М. П. Шмырова.

*Літ.:* Саблин В. Батька Минай.— Мн., 1959; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Бялевіч А. Мінай Шмыроў.— Мн., 1970; Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974.
*В. М. Баскова, М. К. Кошалеў.*

**44. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. 3-я лінія, на Пескавацінскіх могілках. Пахаваны 55 савецкіх воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях за вызваленне г. Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**45. МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН** (архіт.). Вул. Політэхнічная, 2, на высокім левым беразе р. Заходняя Дзвіна. Манастыр вядомы з 1682 г., калі на месцы згарэлай Успенскай царквы, якая існавала з 14 ст., была пастаўлена драўляная царква і пры ёй заснаваны манастыр. Мураваная царква (з 1799 г. Успенскі сабор, не захаваўся) і мураваны жылы манастырскі корпус пабудаваны ў 1743—85 гг. (арх. І. Фантана). Манастырскі корпус Т-падобны ў плане. Падоўжаны трохпавярховы аб'ём размешчаны паралельна Заходняй Дзвіне, мае калідорную сістэму планіроўкі, перакрыцці скляпеністыя. У кароткай двухпавярховай частцы размяшчалася «цёплая» царква, перакрытая цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Сцены корпуса аздоблены лапаткамі. Вокны прамавугольныя. Цяпер у будынку размешчаны станкаінструментальны тэхнікум.



*45. Будынак былога жылога корпуса манастыра базыльян. Галоўны фасад.*



*45. Будынак былога жылога корпуса манастыра базыльян. План 1-га паверха.*

Жылы корпус былога манастыра — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

*Літ.:* Сапунов А. П. Витебский Успенский собор в связи с событиями из религиозной жизни витеблян.— Витебск, 1894. *Т. І. Чарняўская.*

**46. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БЕЛАХВОСЦІКАВУ** Аляксандру Яфімавічу (гіст.). Вул. Белахвосцікава, 29.

У час нямецка-фашысцкай акупацыі горада адной з першых пачала дзейнічаць падпольная група, створаная ў ліпені 1941 г. начальнікам прамысловага сектара Віцебскай абласной планавай камісіі камуністам А. Я. Белахвосцікавым, які быў пакінуты ў Віцебску па рашэнню гаркома КП(б)Б. У групу ўваходзілі сястра Белахвосцікава Марыя, І. Ф. Бязбогін, А. П. і В. М. Пахомавы, М. А. Раманенка, Л. І. Хрыпач, А. Д. Шапураў, П. С. Шлякава, К. С. Шчуплікава і інш. У 1942 г. А. Я. Белахвосцікаў адкрыў бляшаную майстэрню па вул. Леніна. Майстэрня стала своеасаблівай штаб-кватэрай падпольшчыкаў. Члены групы здабывалі ўзрыўчатку, зброю, медыкаменты, вялі разведку, выратавалі і пераправілі ў партызаны больш за 50 савецкіх ваеннапалонных, падавалі сігналы ракетамі ў час налётаў на горад савецкай авіяцыі. Падтрымлівалі сувязь з партызанскай брыгадай імя А. Ф. Данукалава («Аляксея»). 5.5.1943 г. А. Я. Белахвосцікаў быў арыштаваны і пасля катаванняў расстраляны. Арыштаваны і пакараны смерцю В. Аляксандрава, М. Я. Белахвосцікава, В. М. Пахомаў, С. Шалаеў і інш. Група працягвала барацьбу пад кіраўніцтвам П. С. Шлякавай (з мая да лістапада 1943 г.).

У 1968 г. на ўшанаванне памяці А. Я. Белахвосцікава на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка, яго імем у Віцебску названа вуліца, на якой ён жыў (былая 2-я Стадыённая). *М. У. Дарафеенка.*

**47. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВУЧНЯМ-ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Ламаносава, 23, на будынку сярэдняй школы № 18. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці вучняў школы С. Воранава, А. Залецкага, В. і М. Ляхоўскіх, якія ў час нямецка-фашысцкай акупацыі Віцебска вялі барацьбу з ворагам.

**48. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГАРФУНКІНУ** Рыгору Саламонавічу (гіст.). Вул. Гагарына, 4, на будынку галоўнага корпуса завода гадзіннікавых дэталей. Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Р. С. Гарфункіна, які працаваў тут у 1936—40 гг. токарам на былым іголкавым заводзе.

**49. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗАСЛОНАВУ** Канстанціну Сяргеевічу (гіст.). Вул. Кірава, на адміністрацыйным будынку лакаматыўнага дэпо. Устаноўлена ў 1956 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава, які тут працаваў у 1930—35 гг.

**50. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ІЛЬІНСКАМУ** Аляксандру Канстанцінавічу (гіст.). Вул. Суворава, 23. Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці народнага артыста СССР А. К. Ільінскага, які ў 1952—67 гг. жыў у гэтым доме.

**51. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Горкага, 104, на будынку ЦЭЦ.

У 1922 г. на гарадской электрастанцыі зламаўся каленчаты вал дызельнага рухавіка, зробленага ў Германіі. Спынілася падача электраэнергіі. Мясцовыя прадпрыемствы не маглі зрабіць новы. Віцябчанам дапамаглі рабочыя Сормаўскага завода, якія прыслалі новы вал. Рабочыя электрастанцыі напісалі пісьмо У. І. Леніну, дзе паведамлялі, што пуск электрастанцыі — іх уклад у ажыццяўленне ленінскага плана электрыфікацыі краіны. 15.5.1923 г. на гарадской канферэнцыі прафсаюза камунальных рабочых была прынята пастанова аб залічэнні У. І. Леніна ганаровым машыністам электрастанцыі. Загадам па Віцебскаму губернскаму камунальнаму аддзелу з 2.6.1923 г. У. І. Ленін быў залічаны машыністам цэнтральнай электрастанцыі. Яго норму адпрацоўвалі лепшыя людзі прадпрыемства, зарплату перадавалі ў фонд паветранага флоту краіны. Рабочыя і служачыя Віцебскай ЦЭЦ і ў нашы дні працягваюць ленінскую вахту, грошы ўносяць на «Ленінскі рахунак эканоміі».

У 1966 г. ў памяць аб гэтай падзеі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Кунько Л. Ганаровы машыніст.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1970, № 3. *В. Б. Караткевіч.*

**52. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАШЭРАВУ** Пятру Міронавічу (гіст.). Маскоўскі праспект, 33, на будынку галоўнага корпуса Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава. Устаноўлена ў 1982 г. на ўшанаванне памяці савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага пад-



52. *Мемарыяльная дошка П. М. Машэраву.*

полля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы П. М. Машэрава, які вучыўся тут у 1935—39 гг. Гл. таксама артыкул № 95 «Помнік Машэраву Пятру Міронавічу».

**53. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ СВЕЧКІНЫМ** (гіст.). Вул. Свечкіных, 1.

Падпольная група Свечкіных пачала дзейнічаць у акупіраваным гітлераўцамі горадзе ў 1942 г. ў раёне Стадыённага пасёлка. Стваральнік і кіраўнік — М. К. Свечкіна (Блахіна), жонка савецкага афіцэра. У склад групы ўваходзілі яе браты Іван і Анатоль Свечкіны, іх жонкі Вольга і Аляксандра, Н. Воранава, І. Пруднікаў і інш. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з групай А. Я. Белахвосцікава, партызанскай брыгадай імя А. Ф. Данукалава («Аляксея»). Члены групы дастаўлялі партызанам медыкаменты, разведданыя, прыносілі ў горад міны і ўзрыўчатку. 12.11.1943 г. М. К. Свечкіна і яе браты былі арыштаваны і пасля катаванняў расстраляны.

У 1968 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў Свечкіных на доме, дзе яны жылі, устаноўлена мемарыяльная дошка, іх імем у Віцебску названа вуліца, на якой яны жылі (былая 5-я Стадыённая).

*Літ.:* Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974.

*М. У. Дарафеенка.*

**54. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАБОЧЫМ І СЛУЖАЧЫМ СТАНКАБУДАЎНІЧАГА ЗАВОДА ІМЯ С. М. КІРАВА** (гіст.). Вул. Дзімітрова, 36/7, на будынку заводаўпраўлення. Устаноўлена ў 1966 г. на ўшанаванне памяці 30 рабочых і служачых прадпрыемства, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**55. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАМАШКІНУ** Цімафею Цярэнцьевічу (гіст.). Вул. Гагарына, 119, на будынку адміністрацыйнага корпуса вытворчага аб'яднання «Кераміка» (былы цагельны завод). Устаноўлена ў 1980 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Ц. Ц. Рамашкіна, які тут працаваў.

**56. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СВІДЗІНСКАМУ** Уладзіміру Іванавічу (гіст.). Вул. Гагарына, 4, на будынку галоўнага корпуса завода гадзіннікавых дэталей. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза У. І. Свідзінскага, які тут працаваў да Вялікай Айчыннай вайны.

**57. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЕЛІХАНАВУ** Сяргею Іванавічу (гіст.). Вул. Суворава, 3. Устаноўлена ў 1979 г. на будынку, дзе размяшчаўся мастацкі тэхнікум, які ў 1937 г. скончыў народны мастак БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі скульптар С. І. Селіханаў.

**58. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СМІРНОВУ** Пятру Сяргеевічу (гіст.). Вул. Ленінградская, 42/1.

Адзін з кіраўнікоў Віцебскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну П. С. Смірноў нарадзіўся ў 1915 г. Член КПСС. Камандзір Чырвонай Арміі. Да службы ў арміі жыў і працаваў у Маскве. У пачатку вайны апынуўся ў акупіраваным Віцебску. Летам 1942 г. арганізаваў дыверсійна-разведвальную групу, у якую ўваходзіла 15 падпольшчыкаў. Актыўнымі членамі групы былі М. П. Захарава, Я. І. Хмялёў, А. С. і І. Я. Якімавы і інш. Група П. С. Смірнова дзейнічала ў кантакце з падпольнай групай М. Я. Нагібава і армейскай разведгрупай П. А. Крылатых. Падпольшчыкі склалі план размяшчэння варожых ваенных аб'ектаў у Віцебску і яго наваколлі, які ў студзені 1943 г. быў дастаўлены партызанам і перапраўлены за лінію фронту, распаўсюджвалі лістоўкі, вялі антыфашысцкую прапаганду, здабывалі ўзрыўчатку, зброю, падарвалі паравоз, 2 платформы з ваеннай тэхнікай. У студзені 1943 г. П. С. Смірноў, А. С. і І. Я. Якімавы і іншыя члены групы былі схоплены гітлераўцамі і пасля катаванняў расстраляны.

У 1966 г. на ўшанаванне памяці П. С. Смірнова на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974.

*Г. І. Дулеба.*

**59. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЯРГЕЙЧЫКУ** Цімафею Мікалаевічу (гіст.). Вул. Суворава, 25/15. Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці народнага артыста БССР Ц. М. Сяргейчыка (1899—1977 гг.), які ў 1955—74 гг. жыў у гэтым доме.

**60. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА УСПЕНСКАМУ** Глебу Іванавічу (гіст.). Вул. Леніна, 20. Устаноўлена ў 1979 г.




57. *Мемарыяльная дошка С. І. Селіханаву.*

на доме, у якім зімою 1890 г. амаль месяц жыў рускі пісьменнік Г. І. Успенскі (1843—1902 гг.). Падарожнічаючы па Расіі (1875—93 гг.), Г. І. Успенскі наведаў Віцебск і навакольныя вёскі, знаёміўся з жыццём сялян, так званых «перасяленцаў», якія ў пошуках лепшай долі пакідалі родныя мясціны.

*Літ.:* Сцяпунін І. Р., Г. І. Успенскі ў Віцебску.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 1.

**61. МЕСЦА АРГАНІЗАЦЫЙНАГА СХОДУ ВІЦЕБСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП(б)** (гіст.). Вул. Бумагіна, 35 (былы Латышскі клуб).

Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 г. ва ўмовах націску дробнабуржуазнай стыхіі на рабочы клас, арыштаў і гібелі на вайне вопытных бальшавіцкіх кадраў у Расіі былі створаны «аб'яднанкі» — агульныя арганізацыі бальшавікоў і меншавікоў. На Беларусі ў іх уваходзілі і бундаўцы. Па словах У. І. Леніна, уваходжанне бальшавікоў у «аб'яднанкі» было памылкай, уступкай дробнабуржуазнай ідэалогіі, перашкаджала барацьбе за масы. Аб'яднанне было фармальным, бальшавікі аставаліся на ленінскіх пазіцыях,



58. *Дом, у якім жыў кіраўнік дыверсійна-разведвальнай групы П. С. Смірноў.*



61. *Дом, у якім адбыўся арганізацыйны сход Віцебскай арганізацыі РСДРП(б).*

але яно стварала значныя цяжкасці ў рэвалюцыйнай рабоце. Таму ўлетку 1917 г. бальшавікі Беларусі парвалі з «аб'яднанкамі».

20.6(3.7).1917 г. ў будынку Латышскага клуба адбыўся арганізацыйны сход бальшавікоў і меншавікоў-інтэрнацыяналістаў (каля 400 чалавек) для выпрацоўкі платформы аб'яднання. Сход выбраў камісію ў складзе 4 бальшавікоў, 2 аб'яднанцаў і 1 меншавіка-інтэрнацыяналіста. 2(15).7. 1917 г. на арганізацыйным сходзе бальшавікоў, «міжраёнцаў» і меншавікоў-інтэрнацыяналістаў была ўтворана Віцебская арганізацыя інтэрнацыяналістаў. У яе камітэт увайшлі бальшавікі А. І. Берасцень, С. І. Брадоўскі, Далгашоў, Б. Д. Пінсан, В. Пятроў, Д. М. Тайноў, В. Я. Чунчын, А. Л. Шыфрас (старшыня) і адзін аб'яднанец. 4(17) ліпеня ў склад камітэта ўвайшлі латышскія сацыял-дэмакраты. Камітэт наладзіў сувязь з ЦК РСДРП(б), арганізоўваў дэманстрацыі і мітынгі, вёў барацьбу з карнілаўшчынай, мабілізоўваў працоўных горада і губерні на падрыхтоўку і ажыццяўленне Кастрычніцкай рэвалюцыі. 13(26) верасня прыняў пастанову называць арганізацыю Віцебскай арганізацыяй РСДРП (бальшавікоў).

У 1963 г. ў памяць аб гэтым на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Красная быль: Большевики в Витебске.— Витебск, 1923. *В. Б. Караткевіч.*

**62. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ САПУНОВА** Аляксея Парфёнавіча (гіст.).

Беларускі гісторык і краязнавец А. П. Сапуноў нарадзіўся 15.3.1851 г. ў в. Усвяты Усвяцкага р-на Пскоўскай вобл. ў сям'і купца. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта (1873 г.). Прафесар (1913 г.). З 1879 г. працаваў у Віцебску выкладчыкам гімназіі, з 1895 г.— у цэнтральным архіве старажытных грамат. З 1897 г. выкладчык Маскоўскага універсітэта, з 1901 г. сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта. Ініцыятар адкрыцця Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута (з 1918 г. Віцебскі археалагічны інстытут), у 1911—22 гг. выкладаў у ім і ў настаўніцкім інстытуце. Удзельнік стварэння вучонай архіўнай камісіі (1909 г.) і царкоўна-археалагічнага музея (1893 г.) у Віцебску. Аўтар прац па гісторыі, этнаграфіі і археалогіі Віцебшчыны. Выдаў зборнік дакументаў «Віцебская старына» па гісторыі краю ў 11—19 стагоддзях (т. 1, 4, 5; 1883—88 гг.), «Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісенскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні» (1896 г.) і інш. Памёр 2.10.1924.

*Літ.:* Стукалич В. К., А. П. Сапунов.: К 25-летию его ученой и литературной деятельности.— Витебск, 1905. *Э. М. Савіцкі.*

**63. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ СЕМЯНТОЎСКАГА** Аляксандра Максімавіча (гіст.).

Рускі і беларускі археолаг, краязнавец, этнограф, фалькларыст А. М. Семянтоўскі (Семянтоўскі-Курыла) нарадзіўся ў 1821 г. У 1860—90-я гады працаваў сакратаром Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, рэдактарам «Памятнай кніжкі Віцебскай губерні». Выдаў шэраг прац па археалогіі, статыстыцы, побыце і культуры насельніцтва Віцебшчыны: «Этнаграфічны агляд Віцебскай губерні» (1872 г.), «Аб мерах і вазе, якія ўжывалі ў Віцебскай губерні» (1874 г.), «Беларускія старажытнасці» (1890 г.). У пытаннях этнагенезу беларусаў прытрымліваўся вялікадзяржаўных поглядаў. Памёр у 1893 г.

*Літ.:* Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.— Мн., 1964.

**64. МЕСЦА ЗАГУБЫ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Леніна і Суворава, на плошчы перад будынкам абласнога краязнаўчага музея.

19.12.1941 г. пасля катаванняў у засценках СД тут павешаны А. Г. Канаплёў, які на працягу 4 месяцаў запісваў і распаўсюджваў сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро. 20.2. 1942 г. былі павешаны М. Дз. Зайцаў, А. В. Кавалёў, І. Л. Калінін, яго сын — юны партызан С. І. Калінін, што прабраўся ў Віцебск, каб адвесці ў партызанскі атрад сваяка А. В. Кавалёва, але быў высачаны паліцыяй.

У 1967 г. на месцы загубы падпольшчыкаў пастаўлены памятны знак — пяцівугольная пліта з чырвонага граніту.

*Літ.:* Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974. *М. К. Кошалеў.*

**65. МЕСЦА МІТЫНГУ ЧЫГУНАЧНІКАЎ у 1919 г.** (гіст.). На тэрыторыі лакаматыўнага дэпо. Тут 12.6.1919 г. адбыўся чатырохтысячны мітынг чыгуначнікаў, на якім выступіў старшыня ВЦВК М. І. Калінін. Ён расказаў пра міжнароднае і ўнутранае становішча, заклікаў да абароны сацыялістычнай Радзімы, наладжвання работы чыгуначнага транспарту.



64. *Памятны знак на месцы загубы падпольшчыкаў.*

У 1965 г. на адміністрацыйным будынку дэпо ў памяць аб гэтым устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Яцкевіч І., М. І. Калінін у Савецкай Беларусі.— Мн., 1970.

**66. МЕСЦА ПАЎСТАННЯ ГАРАДЖАН у 1623 г. (гіст.).** На скрыжаванні вуліц Леніна і Суворава (былая Ратушная плошча). Тут ў 1623 г. адбылося паўстанне гараджан супраць уніяцкага засілля.

Пасля Брэсцкай уніі 1596 г. ўзмацніўся нацыянальна-рэлігійны прыгнёт народных мас. Унія сустрэла асабліва рэзкае супраціўленне гарадскога насельніцтва, і кіруючыя колы Рэчы Паспалітай пачалі прымусова насаджаць уніяцтва. Асабліва здзекваўся над праваслаўнымі полацкі уніяцкі архіепіскап езуіт І. Кунцэвіч: закрываў праваслаўныя цэрквы і манастыры, адпраўляў у турмы тых, хто супраціўляўся прыняццю уніі. 12.11. 1623 г. ў Віцебску пачалося паўстанне, на чале якога стаялі віцябчанін С. Пасіёра, палачанін П. Васілевіч з сынам Васілём і інш. У падрыхтоўцы паўстання ўдзельнічалі праваслаўныя жыхары Магілёва, Оршы, Полацка, Вільні. Некалькі тысяч паўстанцаў накіраваліся да рэзідэнцыі Кунцэвіча, забілі яго, а труп кінулі ў Заходнюю Дзвіну. Былі забіты і найбольш ненавісныя уніяцкія ксяндзы. Па загаду рымскага папы Урбана VIII польскі кароль і вялікі князь літоўскі Зыгмунт III бязлітасна расправіўся з паўстанцамі, супраць якіх былі кінуты ўзброеныя сілы. Суд прыгаварыў 98 кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў паўстання да пакарання смерцю. Маёмасць пакараных была канфіскавана і перададзена каталіцкім святарам. Віцебск быў пазбаўлены магдэбургскага права.

У 1980 г. ў памяць аб паўстанцах на будынку абласнога краязнаўчага музея (былая ратуша, вул. Леніна, 34) устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Сапунов А. П. Витебская старина. Т. 1.— Витебск, 1883. *В. Б. Караткевіч.*

**67. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ЛАГЕРА СМЕРЦІ** (гіст.). Вул. Цітова.

На тэр. былога 5-га чыгуначнага палка ў 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі лагер для масавай загубы савецкіх ваеннапалонных і мірных грамадзян. Тут за калючым дротам знаходзіліся адначасова каля 28—35 тыс. вязняў, якіх катавалі, марылі голадам. За час нямецка-фашысцкай акупацыі ў лагеры загублена больш за 80 тыс. чалавек, сярод іх каля 12 тыс. мірных жыхароў.

У 1964 г. на месцы канцлагера на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск (вышыня 20 м, арх. А. Бельскі).

*Літ.:* Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; В памяти народной.— Мн., 1969. *М. К. Кошалеў.*

**68. МЕСЦА РАССТРЭЛУ МІТЫНГУ РАБОЧЫХ 18 КАСТРЫЧНІКА 1905 г.** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Леніна і Суворава.

Працоўныя Віцебска прынялі ўдзел у Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. 14(27) кастрычніка ў горадзе адбыўся мітынг, на якім прадстаўнікі групы РСДРП заклікалі да ўсеагульнай палітычнай забастоўкі і падрыхтоўкі ўзброенага паўстання. 16(29) кастрычніка праведзена масавая дэманстрацыя, 17(30) пачалася шасцідзённая ўсеагульная палітычная забастоўка.

18(31).10.1905 г. на плошчы каля будынка друкарні газеты «Витебские губернские ведомости» ў час абвяшчэння царскага маніфеста ад 17 кастрычніка адбыўся антыўрадавы мітынг рабочых. Казакі і салдаты забілі 18 удзельнікаў мітынгу. У той жа дзень была праведзена дваццацітысячная, а назаўтра саракатысячная дэманстрацыі пратэсту. Па патрабаванню працоўных з турмы былі вызвалены палітвязні.

У 1980 г. на будынку абласнога краязнаўчага музея ў памяць аб падзеях 1905 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917). Т. 3.— Мн., 1953; Революционное движение в Белоруссии 1905—1917 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955. *У. Дз. Будзько.*

**69. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ВІЦЕБСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). Першы гурток марксісцкага кірунку ў Віцебску быў створаны ў 1892 г. (кіраўнік А. Амстэрдам). Аб'ядноўваў каля 20 чалавек, пераважна мясцовых інтэлігентаў. Прапагандуючы выданні групы «Вызваленне працы», гуртkоўцы падзялялі і некаторыя народніцкія погляды. У 1893 г. М. А. Сакоўнін-Заслаўскі, П. Я. Дубінская і Х. Усышкін стварылі другі гурток. Ён меў на мэце вывучэнне і распаўсюджанне твораў К. Маркса і Ф. Энгельса, У. І. Леніна і падрыхтоўку кваліфікаваных прапагандыстаў. Увосень 1897 г. гурткі аб'ядналіся, быў створаны Віцебскі



67. *Помнік на месцы лагера смерці.*

сацыял-дэмакратычны камітэт. Кіраўнікі І. Абрамаў, А. Трапоўскі, Х. Усышкін, В. Шалыт і іншыя арыштаваны 15—16.4.1898 г. ў час падрыхтоўкі першамайскай дэманстрацыі. У новы склад кіраўніцтва выбраны 8 чалавек, у т. л. 4 рабочыя. Камітэт трымаў сувязь з сацыял-дэмакратамі Пецярбурга, Харкава і іншых гарадоў, абсталяваў падпольную друкарню. У 1898 г. ў сацыял-дэмакратычнай арганізацыі больш за 400 членаў, у 1899 г. каля 600. На першым этапе дзейнасць віцебскіх сацыял-дэмакратаў абмяжоўвалася барацьбой за эканамічныя інтарэсы рабочых. З канца 1890-х гадоў яны перайшлі да палітычнай барацьбы, праводзілі стачкі, забастоўкі, дэманстрацыі. 29—30.8. 1900 г. камітэт быў разгромлены.

Вялікі ўплыў на развіццё рэвалюцыйнага руху ў Віцебску, на барацьбу марксістаў з «эканамістамі», бундаўцамі зрабіла ленінская «Искра». У выніку масавых выступленняў рабочых горад у 1902 г. і з верасня 1903 г. да 1907 г. знаходзіўся на становішчы ўзмоцненай аховы. У канцы 1903 г. была створана Віцебская арганізацыя РСДРП, якая з сакавіка 1904 г. ўваходзіла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП, з жніўня 1905 г.— у Паўночна-Заходні саюз РСДРП, з чэрвеня 1906 г.— у Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі. На канец 1904 г. ў арганізацыі было 180 членаў і 150 спачуваючых, у 1905 г.— каля 650 членаў. Арганізацыя мела калегію прапагандыстаў з 8 чалавек, 17 гурткоў вышэйшага, сярэдняга і ніжэйшага тыпаў. На льнопрадзільнай фабрыцы «Дзвіна», кардонна-папяровай фабрыцы, у чыгуначных майстэрнях і іншых прадпрыемствах створаны сацыял-дэмакратычныя групы. У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. пры Віцебскай арганізацыі РСДРП была створана сялянская арганізацыя (75 членаў і больш за 200 спачуваючых), пазней Віцебская акруговая арганізацыя РСДРП, якая аб'ядноўвала Полацкую, Гарадоцкую, Невельскую, Веліжскую і Велікалуцкую групы РСДРП. Арганізацыйную і агітацыйна-прапагандысцкую работу сярод салдат вяла Віцебская ваеннарэвалюцыйная арганізацыя РСДРП.

У адказ на злачынствы царызму 9(22).1.1905 г. ў Пецярбургу арганізацыя выпусціла лістоўку «Пасля крывавых падзей 9 студзеня», 26—31 студзеня арганізавала стачкі пратэсту друкароў, рабочых ільнопрадзільнай, тытунёвай і іншых фабрык. Пад яе кіраўніцтвам адбыліся забастоўкі, першамайская дэманстрацыя, у маі — чэрвені 9 сходаў і 5 мітынгаў, у якіх удзельнічала больш як 1000 рабочых. Члены арганізацыі выказаліся за скліканне III з'езда партыі, падтрымалі тактыку байкоту Булыгінскай думы, арганізоўвалі мітынгі, сходы рабочых. У час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905 г. прадстаўнікі арганізацыі ўваходзілі ў кааліцыйны камітэт — орган кіраўніцтва рэвалюцыйнай барацьбой працоўных. У горадзе былі праведзены забастоўкі, дэманстрацыі, усеагульная палітычная стачка. У час падрыхтоўкі Снежаньскага ўзброенага паўстання бальшавікі Віцебска стваралі баявыя дружыны, узбройвалі рабочых, заклікалі скінуць самадзяржаўе. 8 снежня пачалася палітычная стачка чыгуначнікаў і рабочых прамысловых прадпрыемстваў, але ва ўзброенае паўстанне яна не перарасла. Нягледзячы на арышты, арганізацыя ў 1906 г. налічвала 600—700 членаў, мела групы на буйных прадпрыемствах. У ліпені 1906 г. ўзначаліла забастоўку салідарнасці з паўстаннем маракоў Свеабарга і Кранштата. Пасылала дэлегатаў на IV (Аб'яднаўчы) і V (Лонданскі) з'езды РСДРП; удзельнічала амаль ва ўсіх з'ездах і канферэнцыях Паўночна-Заходняга саюза РСДРП, Абласнога саюза РСДРП ЛіБ, партыйных арганізацый Паўночна-Заходняга краю. У гады рэакцыі (1907—10 гг.) трымала сувязь з Пецярбургскім камітэтам. Дзвінскай і Мінскай арганізацыямі РСДРП, з рабочымі Полацка, Невеля, Веліжа, Чашнікаў, Бешанковіч. Для работы ў масах бальшавікі Віцебска выкарыстоўвалі прафсаюзы. У перыяд новага рэвалюцыйнага ўздыму (1910—14 гг.) работа арганізацыі ажывілася. Пад яе кіраўніцтвам у красавіку 1912 г. адбылася стачка пратэсту супраць Ленскага расстрэлу, у лістападзе 1913 г.— стачка на фабрыцы «Дзвіна». Быў праведзены збор грошай у фонд газеты «Правда», устаноўлена сувязь з бальшавіцкай фракцыяй 4-й Дзяржаўнай думы, наладжана работа сярод сялян і салдат. У жніўні 1914 г. арганізацыя разгромлена.

У 1-ю сусветную вайну ў Віцебску ўзнікла латышская арганізацыя РСДРП. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. бальшавікі Віцебска часова ўваходзілі ў аб'яднаную арганізацыю РСДРП, 2(15) ліпеня разам з «міжраёнцамі» і меншавікамі-інтэрнацыяналістамі ўтварылі Віцебскую арганізацыю інтэрнацыяналістаў. Яе камітэт 13(26).9.1917 г. прыняў пастанову называць арганізацыю Віцебскай арганізацыяй РСДРП (бальшавікоў). Яна ўвайшла ў Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю РСДРП(б). 18.6(1.7).1917 г. праведзена маніфестацыя (10 тыс. чалавек) з патрабаваннем спыніць вайну. Бальшавікі Віцебска змагаліся з карнілаўшчынай. 27.10(9.11).1917 г. ў горадзе ўстаноўлена Савецкая ўлада і ўтвораны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. У лістападзе пасля перавыбараў Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў спыніў дзейнасць.

*Літ.:* Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1962; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Кузняев А. А. На пути к Октябрю.— Мн., 1970; Баренфельд М. М. Из истории подготовки и проведения Октябрьской революции на Витебщине.— У кн.: Ученые записки Витебского государственного педагогического ин-та, 1957, в. 7; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973. *Э. М. Савіцкі.*

**70. МОСТ ІМЯ БЛАХІНА** Фёдара Цімафеевіча (гіст.). Цераз Заходнюю Дзвіну, на вул. Дзімітрова. Выратаваны ад узрыву 26.6.1944 г. байцамі сапёрнага ўзвода на чале з Ф. Ц. Блахіным.

У ноч на 26.6.1944 г. часці 158-й стралковай дывізіі 39-й арміі фарсіравалі Заходнюю Дзвіну і ўварваліся ў цэнтр Віцебска. Гітлераўцы знішчылі ў горадзе масты цераз Заходнюю Дзвіну, пакінулі для пераправы сваіх войск толькі адзін, але і яго падрыхтавалі да ўзрыву. Група байцоў (12 чалавек) сапёрнага ўзвода 875-га палка на чале з старшым сяржантам Ф. Ц. Блахіным непрыкметна падышла да моста і ў кароткім упартым баі знішчыла ахову. Ф. Ц. Блахін кінуўся да апор, дзе пад насцілам было закладзена каля 2 т узрыўчаткі і за 2 мінуты да ўзрыву перарэзаў провад, які цягнуўся да фугасаў, разам з яфрэйтарам М. І. Кузенавым выняў электрадэтанатар і абясшкодзіў узрыўны механізм. Байцы ўзвода ўтрымлівалі мост да падыходу асноўных сіл савецкіх войск. За праяўлены гераізм Ф. Ц. Блахіну 24.3.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1959 г. ў гонар адважных байцоў на мосце ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969; Воронин Г. Г. Операция «Мост».— Горький, 1971. *М. К. Кошалеў.*

**71. МУЖЧЫНСКАЕ ДУХОЎНАЕ ВУЧЫЛІШЧА** (архіт., гіст.). На рагу вуліц Суворава і Чэхава, 11/44. Пабудавана ў 1890 г. з цэглы. Цяпер у будынку мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута.

Мураваны чатырохпавярховы Г-падобны ў плане будынак калідорнага тыпу. Галоўны фасад (па вул. Чэхава) вылучаны цэнтральным рызалітам, завершаны трохвугольным франтонам. Цэнтральны рызаліт насычаны дэкаратыўнымі элементамі: ляпныя накладныя дэталі, каneліраваныя калонкі, паўцыркульныя нішы і інш. Фасад па вул. Суворава мае 2 бакавыя рызаліты з трохвугольнымі франтонамі. Паверхі падзелены прафіляванымі паяскамі і маюць разнастайны дэкор. 1-ы паверх трактуецца як цокальны, сцены 2-га пакрыты рустам, 3-і ўпрыгожаны плоскімі пілястрамі, яго паўцыркульныя аконныя праёмы дэкарыраваны арачнымі ліштвамі.



71. *Будынак былога мужчынскага духоўнага вучылішча. Галоўны фасад.*



71. *Будынак былога мужчынскага духоўнага вучылішча. План 1-га паверха.*

Паміж прамавугольнымі аконнымі праёмамі 4-га паверха — шырокія лапаткі.

Будынак — прыклад архітэктуры позняга класіцызму, у дэкаратыўным вырашэнні яго фасада выявіліся эклектычныя матывы.

З 1918 г. ў будынку размяшчалася народная мастацкая школа, з 1920 г.— мастацкія майстэрні, з 1921 г.— мастацка-практычны інстытут, з 1923 г.— мастацкі тэхнікум (у 1939 г. рэарганізаваны ў мастацкае вучылішча, існавала да 1941 г.). У гэтых установах выкладалі мастакі І. В. Ахрэмчык, А. М. Бразер, В. В. Волкаў, М. В. Дабужынскі, М. А. Керзін, Л. М. Лейтман, Я. С. Мінін, М. П. Міхалап, Ю. М. Пэн і іншыя, вучыліся народны мастак СССР З. І. Азгур, народны архітэктар СССР У. А. Кароль, народныя мастакі БССР А. А. Бембель, А. К. Глебаў, Я. А. Зайцаў, В. К. Цвірка, заслужаныя дзеячы мастацтваў БССР П. В. Масленікаў, У. П. Сухаверхаў і інш. *В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская.*

**72. НІЖНІ ЗАМАК** (археал.). На паўднёвы ўсход і поўдзень ад Верхняга замка. З усходу і поўдня абмежаваны рэчышчам былога Заручаўскага ручая, з захаду абмываецца водамі Заходняй Дзвіны. Плошча каля 6 га.

Паводле археалагічных даных, паселішча ўзнікла ў заходняй частцы замка ў 6—8 стагоддзях. Тут знойдзены матэрыялы культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. З канца 10 ст. ўзнікла яшчэ адно паселішча крывічоў ва ўсходняй частцы замка (на тэрыторыі сучаснай пл. Свабоды), тэрыторыя замка значна павялічылася.

На пачатак 14 ст. пасад займаў амаль усю плошчу замка (каля 6 га), быў абнесены муравана й крапаснай сцяной з абарончымі вежамі: 3 вежы — Жыдоўскія, Заручаўскія і Валконскі круглік — праезныя вароты, варотцы Задунаўскія і 10 глухіх вежаў. Яны былі ў плане прамавугольныя ці вась-



72. *Дом Шапкіна. З «Чарцяжа» Віцебска 1664 г.*

мігранныя «круглікі», завяршаліся шатрамі з гербамі ці невялікімі шпілямі. Частка вежаў мела каравульныя памяшканні. У заходняй частцы Ніжняга замка знаходзілася Благавешчанская (12 ст.), ва ўсходняй — Пятніцкая (14 ст.) цэрквы. Праз усю тэрыторыю замка праходзіла галоўная магістраль — вул. Вялікая, якая вяла да Заручаўскіх праезных варот.

На «Чарцяжы» 1664 г. тып багатага гарадскога будынка прадстаўлены дамамі Шапкіна і Агінскага. Дом Шапкіна складаўся з 2 размешчаных пад вуглом карпусоў, меў высокі ўваход у выглядзе васьміграннай вежы, што паўтарала форму вежаў — «круглікаў» віцебскіх замкаў, і высокае падклецце. Жылая частка складалася з 2 паверхаў. Найбольш цікавы — дом Агінскага. Асноўная частка яго — выцягнуты падняты на падклецце абкружаны галерэяй прамавугольнік, да якога прымыкаў шасцігранны аб'ём з шырокай знешняй лесвіцай, і высокая, накрытая шатром, вежа. Жылая забудова замка была драўлянай і даволі шчыльнай. Асноўная частка насельніцтва — бедныя гараджане-рамеснікі, жылі ў аднакамерных хатах з двухсхільным дахам, рубленых у абло з астаткам і накрытых драніцай. Хата памерам 3,2×3,6 м ставілася на драўляныя падваліны, мела падлогу з дошак на лагах і печ. Побач размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы, якія разам з жытлом складалі сядзібны комплекс.



72. *Дом Агінскага. З «Чарцяжа» Віцебска 1664 г.*

У 1959 г. ў час земляных работ на пл. Свабоды выпадкова выяўлена першая на Беларусі берасцяная грамата 13—14 стагоддзяў. Культурны пласт на пл. Свабоды 5—8 м. У ім добра захаваліся дрэва і арганічныя рэшткі.

Раскопкі Ніжняга замка праводзілі Г. В. Штыхаў (1963—66, 1972 гг.), В. М. Ляўко (1976 г.), М. А. Ткачоў (1977, 1979 гг.), Т. С. Бубенька (1881—83 гг.). Каля Благавешчанскай царквы даследавана каля 1500 м² плошчы. Культурны пласт 2,2—7 м. Выяўлены матэрыялы 2-й палавіны 1-га тысячагоддзя: шмат керамічных вырабаў, каменныя формы для адліўкі жаночых упрыгожанняў, жалезныя наканечнікі стрэл, шкляныя, сердалікавыя, хрусталёвыя пацеркі, гліняныя дыскападобныя грузікі для вертыкальнага ткацкага станка. Да 11—13 стагоддзяў адносяцца вырабы з жалеза, каляровых металаў, шкляныя бранзалеты, гліняны посуд, касцяная шахматная фігура. Знойдзена шмат кафлі і бытавой керамікі 14—17 стагоддзяў. М. А. Ткачоў раскапаў участак абарончага вала Ніжняга замка з драўлянай рашотчатай канструкцыяй унутры. У 1981 г. Т. С. Бубенька за 15 м на паўднёвы захад ад Благавешчанскай царквы выявіла земляны абарончы вал, драўляную абарончую вежу, якая, відаць, нанесена на «Чарцёж» Віцебска 1664 г. пад назвай «Вежа сярэдняя». Рэшткі яе датуюцца сярэдзінай 17 ст. У 1982 г. на ўсход ад царквы Т. С. Бубенька былі ўскрыты рэшткі драўлянай карчмы 17 ст. з брукаванай падлогай.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сапунов А. П. Витебская старина. Т. 1.— Витебск, 1883; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933; Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Чарняўская Т. І. Архітэктура Віцебска.— Мн., 1980. *Т. С. Бубенька.*

**73. ПАЗЯМЕЛЬНА-СЯЛЯНСКІ БАНК** (архіт., маст.). На рагу вуліц Даватара і Баўмана, 7/11. Пабудаваны ў 1917 г. з цэглы (арх. К. Тарасаў). Цяпер у будынку размешчаны ветэрынарны інстытут.

Двухпавярховы Е-падобны ў плане будынак, з трох бакоў фланкіраваны вежамі. Вежа на рагу вуліц вылучаецца вялікім маштабам, мае выразныя карнізныя чляненні машыкуляў і высокі трох'ярусны шацёр з галоўкай. Галоўны ўваход (з вул. Баўмана) завяршаецца кілепадобным франтонам з мазаічным маёлікавым пано, у цэнтры якога — герб Віцебска (зацверджаны ў 1781 г.). У дэкаратыўным аздабленні выкарыстаны элементы псеўдарускай архітэктуры. Планіроўка калідорная. На 1-м паверсе знаходзіліся вестыбюль, прыёмная, службовыя кабінеты, кватэра кур'ера, на 2-м — зала пасяджэнняў, кабінеты і кватэры адміністрацыі. Падвальнае памяшканне выкарыстоўвалася для санітарна-тэхнічных службаў і архіва.



72. *Берасцяная грамата з Ніжняга замка.*



72. *Пацеркі з раскопак Ніжняга замка.*



72. *Касцяная шахматная фігура з раскопак Ніжняга замка.*



73. *Мазаічнае маёлікавае пано на франтоне галоўнага фасада будынка былога пазямельна-сялянскага банка.*

Будынак — прыклад грамадзянскай архітэктуры стылю «мадэрн».

*Літ.:* Чернатов В. М. Использование старой застройки при реконструкции Витебска.— Строительство и архитектура Белоруссии, 1973, № 1.

*Л. Г. Лапцэвіч, В. М. Чарнатаў.*



73. *Будынак былога пазямельна-сялянскага банка.*

**74. ПАНЧОШНА-ТРЫКАТАЖНАЯ ФАБРЫКА ІМЯ КІМ** (гіст., архіт.). Вул. Горкага, 12, раён Маркаўшчыны. З'яўляецца буйнейшай будоўляй першай пяцігодкі, адным з першых прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці ў рэспубліцы, якое абсталявана айчыннымі машынамі і станкамі. Пабудавана ў 1929—31 гг. У Вялікую Айчынную вайну ў 1941 г. абсталяванне фабрыкі было эвакуіравана ў г. Ульянаўск, выпускала прадукцыю для фронту. Адноўлена ў Віцебску ў 1945 г. Пасля вайны рэканструявана. У 1962 г. пабудаваны швейны корпус, у 1977 г. корпус фарбавальна-аддзелачных работ. Вырабляе панчошна-трыкатажную прадукцыю. Мае клуб, 2 бібліятэкі, паліклініку, прафілакторый, спартыўны комплекс з плавальным басейнам, піянерлагер, 8 дашкольных устаноў. У 1966 г. фабрыцы прысвоена званне прадпрыемства высокай культуры вытворчасці, у 1971 г. ўзнагароджана ордэнам Леніна. Выдаецца шматтыражная газета «Сцяг працы».

Захаваўся даваенны галоўны вытворчы корпус — цагляны, трохпавярховы, прамавугольны ў плане. Галоўны падоўжаны фасад выходзіць на вул. Горкага. Побач з вытворчым знаходзіцца чатырохпавярховы бытавы корпус. Пры будаўніцтве фабрыкі ўпершыню вырашаны шэраг новых праблем: планіроўка галоўнага корпуса строга падпарадкавана вытворчаму працэсу, абсталяваны спецыяльныя бытавыя памяшканні і зоны адпачынку для рабочых.

У 1966 г. на ўшанаванне памяці 93 рабочых і служачых фабрыкі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанах, на тэрыторыі фабрыкі пастаўлена стэла.

*Т. І. Чарняўская.*

**75. ПЛОШЧА ПЕРАМОГІ І МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР САВЕЦКІХ ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ, ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ ВІЦЕБШЧЫНЫ** (архіт., маст.). Ансамбль плошчы сфарміраваўся ў 1970-я гады (арх. А. Бельскі, А. і В. Данілавы, З. Даўгяла, Р. Княжышча, З. Конаш, З. Озерава, А. Расей-



73. *Будынак былога пазямельна-сялянскага банка. План 1-га паверха.*



*74. Панчошна-трыкатажная фабрыка імя КІМ. Адміністрацыйны корпус.*



*75. Плошча Перамогі.*

кін, А. Фрыдман, Ю. Шпіт, інжынер-азеляніцель Л. Нячай). Плошча размешчана на перакрыжаванні 2 агульнагарадскіх транспартных магістралей — Маскоўскага пр. і пр. Чарняхоўскага. Прамавугольная ў плане, з 3 бакоў абмежавана жылымі і грамадскімі будынкамі, падзелена перакрыжаваннем транспартных магістралей на 2 няроўныя часткі. Ад вул. Леніна фронт забудовы ўтвараюць пяціпавярховыя жылыя дамы, пабудаваныя ў 1950-я гады. На процілеглым баку шасціпавярховыя жылыя дамы з гандлёвымі прадпрыемствамі на першых паверхах, кінатэатр «Беларусь», грамадскія будынкі, шаснаццаціпавярховы жылы дом на рагу Маскоўскага пр. і пр. Чарняхоўскага. З боку Маскоўскага пр. плошчу замыкае дзевяціпавярховы першы ў рэспубліцы каркасна-панельны дом. Процілеглы бок плошчы арыентаваны на р. Заходняя Дзвіна і зарэчную частку горада. У аснову азелянення плошчы пакладзены ландшафтны прынцып, асноўнае месца адведзена зялёнаму газону з маляўнічымі групамі кустоў і невысокіх дрэў. Афармленне плошчы дапаўняецца «альпійскімі горкамі», групамі валуноў, дэкаратыўнай тэматычнай скульптурай і іншымі малымі архітэктурнымі формамі.

Плошча — адзін з лепшых архітэктурна-мастацкіх ансамбляў горада.



*75. Жылы дом на плошчы Перамогі.*

Кампазіцыйны цэнтр плошчы — мемарыяльны комплекс у гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны (арх. Ю. Шпіт, скульпт. Б. Маркаў, Я. Печкін; бетон з мармуровай крошкай, лабрадарыт і шэры граніт; вышыня галоўнага манумента 56 м). Створаны ў 1974 г. Уключае плошчу мемарыяла, 2 басейны, 10 пілонаў, галоўны манумент. Плошча мемарыяла знаходзіцца ніжэй за агульны ўзровень пл. Перамогі (да яе вядуць 14 прыступак) і мае форму выцягнутага прамавугольніка. Да галоўнага манумента пракладзена дарога паміж 2 доўгімі басейнамі, з вонкавых бакоў якіх пастаўлена па 5 прамавугольных пілонаў, на кожным з іх даты аднаго з 5 гадоў Вялікай Айчыннай вайны. Над ракой па цэнтральнай восі мемарыяла ўзвышаецца галоўны манумент, які сімвалізуе сумесныя дзеянні Чырвонай Арміі, партызан і падпольшчыкаў у вызваленні Віцебшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Манумент — 3 трапецападобныя пілоны-абеліскі, рэзка звужаныя ўверсе і аб'яднаныя на вышыні 5 м трохгранным маналітным фрызам, на гранях якога рэльефы «Воіны», «Партызаны», «Падпольшчыкі». Пасярэдзіне пілоны-абеліскі злучаны кальцом, завершаны паўсферай з адтулінай уверсе, на кальцы — надпіс «Слава героям». Унізе, на невысокім подыуме, запалены Вечны агонь. Да Заходняй



*75. Галоўны манумент мемарыяльнага комплексу ў гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны. Фрагмент: барэльефная кампазіцыя «Падпольшчыкі».*




**75.** *Мемарыяльны комплекс у гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны.*

Дзвіны ад манумента вядуць 3 шматступеньчатыя лесвіцы. Манумент штучна падсвечваецца. Плошча мемарыяла акаймавана газонамі.

Комплекс — адзін з цікавых мемарыяльных ансамбляў рэспублікі, вылучаецца яснасцю і дакладнасцю кампазіцыйнай пабудовы, прапарцыянальнай гармоніяй аб'ёмаў.

*А. А. Воінаў, М. М. Яніцкая.*

**76. ПОМНІК ВІЦЕБСКІМ ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст., маст.). На Смаленскай пл., каля рынку.

З канца 1941 г. ў горадзе дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная група пад кіраўніцтвам Л. Дз. Бярозкінай. У групу ўваходзілі З. Ц. Васільева, М. У. Вараб'ёў, Я. Я. Ваўчок, П. І. Гаўберг-Іванова, М. І. Захараў, В. Д. Карняшонак і інш. Падпольшчыкі вялі антыфашысцкую агітацыю, збіралі разведданыя і перадавалі іх у партызанскі атрад М. Ф. Біруліна, потым у партызанскую брыгаду імя А. Ф. Данукалава, памагалі байцам і камандзірам Чырвонай Арміі, якія трапілі ў палон, пераправіцца да партызан. Летам 1942 г. група наладзіла выпуск лістовак у нямецкай друкарні. У пачатку верасня 1942 г. патрыёты рыхтавалі ўзрыў гарадскога вузла сувязі. У горад былі дастаўлены міны і ўзрыўчатка, але правакатар выдаў падпольшчыкаў. 7.9.1942 г. гітлераўцы схапілі Л. Дз. Бярозкіну і М. У. Вараб'ёва. Пазней былі арыштаваны М. І. Захараў, З. Ц. Васільева. У час друкавання лістовак арыштаваны Я. Я. Ваўчок і В. Д. Карняшонак. 22.9.1942 г. пасля катаванняў патрыётаў павесілі. У 1942—43 гг. акупанты загубілі на плошчы і многіх іншых удзельнікаў Віцебскага камуністычнага падполля.

У 1968 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў пастаўлены помнік (скульпт. А. Паўлючук, арх. А. Бельскі; граніт, бутавы камень; вышыня 8 м) — прамавугольная стэла з урэзаным у яе гранітным блокам, некалькі



76. *Помнік віцебскім падпольшчыкам.*

ссунутым адносна вертыкальнай восі. У блоку гарэльефная выява твараў юнака і дзяўчыны. Абагульнена трактаваная пластыка твараў перадае збіральныя вобразы гераічных змагароў падполля. На стэле — памятны надпіс.

*Літ.:* Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974.

*М. У. Дарафеенка, Л. Г. Лапцэвіч.*

**77. ПОМНІК ВУЧНЯМ** (гіст.). Вул. Камсамольская, 23, у двары сярэдняй школы № 9. У 1968 г. на ўшанаванне памяці 3 вучняў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, пастаўлена стэла.

**78. ПОМНІК ГЕРОЯМ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ 1812 г.** (гіст., архіт.). На вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1911—12 гг. (арх. І. А. Фамін), адкрыты 6.12. 1912 г. Будаўнічымі работамі кіраваў віцебскі гарадскі архітэктар Ц. В. Кібардзін.

У Айчынную вайну 1812 г. недалёка ад Віцебска каля вёсак Астроўна і Кукавячына 13—14 ліпеня адбыліся баі рускіх войск пад камандаваннем генералаў А. І. Остэрмана-Талстога і П. П. Канаўніцына з французскімі войскамі пад камандаваннем генерала І. Мюрата. Пасля гэтых баёў 1-я руская армія пакінула Віцебск і рушыла ў напрамку Смаленска на злучэнне з 2-й арміяй. Для прыкрыцця адыходу галоўных сіл быў пакінуты ар'ергардны атрад. Упартыя баі каля вёсак Дабрэйкі і Цялятнікі не сціхалі 15 ліпеня амаль увесь дзень.

У Расіі армія Напалеона была разгромлена. 26.10.1812 г. рускія войскі пад камандаваннем П. Х. Вітгенштэйна вызвалілі Віцебск.

На ўшанаванне памяці рускіх воінаў, якія ў баях пад Віцебскам 13—15.7 і 26.10.1812 г. праявілі мужнасць і стойкасць у барацьбе з захопнікамі, пастаўлены помнік. Уяўляе сабой чатырохгранны суцэльны абеліск з чырвонага граніту вышынёй 26 м, пастаўлены на часткова расчлянёны прамавугольны п'едэстал і завершаны двухгаловым арлом на шары. Абеліск ад п'едэстала аддзяляюць 4 маленькія вуглавыя блокі з прасветамі паміж імі. На вертыкальнай плоскасці п'едэстала — пліта з надпісам. Па вуглах пліты-асновы ўмацаваны 4 чыгунныя гарматы. Помнік меў горадабудаўнічае значэнне: яго вертыкаль замыкала перспектыву Дварцовай вул. (сучаснай Савецкай).

*Літ.:* 1812 год: К 150-летию Отечественной войны: Сб. статей.— М., 1962; Бескровный Л. Г. Отечественная война 1812 года.— М., 1968; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962; Добровольский В. К. Витебская губерния в Отечественную войну.— Витебск, 1812; Минкус М., Пекарева Н., И. А. Фомин.— М., 1953; Грабарь И., И. А. Фомин.— Архитектура СССР, 1936, № 8.

*М. К. Кошалеў, В. М. Чарнатаў.*

**79. ПОМНІК ГОРКАМУ** Аляксею Максімавічу (гіст.). На вул. Горкага, каля дома № 25. Бюст А. М. Горкага ўстаноўлены ў 1952 г.

**80. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На вул. М. Горкага, каля дома № 25. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1952.

**81. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На тэрыторыі лакаматыўнага дэпо. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1976 г.



77. *Помнік вучням.*



78. *Помнік героям Айчыннай вайны 1812 г.*



*84. Помнік У. І. Леніну.*

**82. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (маст.). Вул. Дзімітрова, 36/7, на тэрыторыі станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава. Пастаўлены ў 1964 г. (скульпт. П. Белавусаў, арх. М. Баклапаў; бетон; агульная вышыня 6 м; вышыня фігуры 3 м). Скульптурная фігура С. М. Кірава пастаўлена на чатырохгранны высокі пастамент. Кіраў як бы звяртаецца да рабочых. Твар прапрацаваны дэталёва, перадае партрэтнае падабенства.

*В. В. Церашчатава.*

**83. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). На вул. Кірава. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1979 г.

**84. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На пл. імя Леніна, каля Палаца культуры. Пастаўлены ў 1956 г. (скульпт. Г. Арапаў і М. Алешчанка, арх. П. Юрчанка; бронза, чорны мармур; агульная вышыня помніка 9,6 м, вышыня фігуры 4,4 м). Скульптурная фігура У. І. Леніна ва ўвесь рост пастаўлена на чатырохгранны пастамент са ступеньчатым стылабатам, які абліцаваны лабрада-



94. *Помнік К. Марксу.*

рытавымі плітамі. У правай сагнутай руцэ кепка, левая выцягнута ўперад: У. І. Ленін выступае з прамовай. Дэталёвая лепка дазволіла праўдзіва перадаць партрэт правадыра, яго ўнутраную дынаміку і сілу, пластычная выразнасць форм надае вобразу веліч і мэтанакіраванасць.

Помнік удала ўпісваецца ў архітэктурны ансамбль плошчы.

*Літ.:* Рыўкін М. С. Помнік правадыру.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 2. *В. В. Церашчатава.*

85. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Гагарына, на тэрыторыі фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

86. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Горкага, на тэрыторыі дывановага камбіната імя 50-годдзя БССР. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

87. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Горкага, на тэрыторыі фабрыкі імя КІМ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

88. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Дзімітрова, каля прахадной станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава. Устаноўлены ў 1957 г. Уяўляе сабой скульптурную групу: У. І. Ленін з салдатам і матросам.

89. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, каля будынка гарвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

90. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, каля будынка абкома КПБ. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г. (скульпт. А. Курачкін; бетон; вышыня пастамента 1,35 м, бюста 1,2 м).

91. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, каля будынка Віцебскага філіяла праектна-вышукальнага інстытута «Белкалгаспраект». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1963 г.

92. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Б. Хмяльніцкага, каля будынка паліклінікі імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

93. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі лакаматыўнага дэпо. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

94. **ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). На вул. Леніна, каля будынка абкома КПБ. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1965 г. (скульпт. А. Курачкін; бетон; вышыня пастамента 1,35 м, бюста 1,2 м).

95. **ПОМНІК МАШЭРАВУ** Пятру Міронавічу (гіст., маст.). На вул. Замкавай, каля гасцініцы «Віцебск».

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы П. М. Машэраў нарадзіўся 13(26).2.1918 г. ў в. Шыркі Сенненскага р-на. З сялян. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1939 г.). У 1939—41 гг. выкладаў фізіку і матэматыку ў Расонскай сярэдняй школе Віцебскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну ў жніўні 1941 г. стварыў і ўзначаліў Расонскае камуністычнае падполле. З красавіка 1942 г. камандзір партызанскага атрада імя М. А. Шчорса, які дзейнічаў у Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім р-нах БССР, а таксама ў суседніх раёнах РСФСР і Латвійскай ССР. З сакавіка 1943 г. камісар партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага Віцебскай вобл. З верасня 1943 г. да ліпеня 1944 г. першы сакратар Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ. У барацьбе супраць акупантаў паказаў асабістую мужнасць і выдатныя здольнасці арганізатара і кіраўніка, удзельнічаў у распрацоўцы і правядзенні многіх баявых аперацый. 15.8.1944 г. П. М. Машэраву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. З ліпеня 1944 г. першы сакратар Маладзечанскага абкома ЛКСМБ, з ліпеня 1946 г. сакратар, з кастрычніка 1947 г. першы сакратар ЦК ЛКСМБ. З ліпеня 1954 г. другі сакратар Мінскага, з жніўня 1955 г. першы сакратар Брэсцкага абкомаў КПБ. З красавіка 1959 г. сакратар, з снежня 1962 г. другі сакратар ЦК КПБ, з сакавіка 1965 г. першы сакратар ЦК КПБ. Кандыдат у члены ЦК КПСС з 1961 г., член ЦК КПСС з 1964 г. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС з красавіка 1966 г. Член ЦК КПБ з 1949 г., кандыдат у члены Бюро ЦК КПБ з лютага 1949 г. да студзеня 1956 г., член Бюро ЦК КПБ з красавіка 1959 г. да снежня 1962 г. і з чэрвеня 1966 г., член Прэзідыума ЦК КПБ з снежня 1962 г. да чэрвеня 1966 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1950—62 гг. і з 1966 г., член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР з 1966 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—55 гг. і з 1959 г., член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. і з 1963 г. Званне Героя Сацыялістычнай Працы П. М. Машэраву прысвоена 10.2.1978 г.



90. *Помнік У. І. Леніну.*



82. *Помнік С. М. Кіраву.*



95. *Помнік П. М. Машэраву.*

Трагічна загінуў 4.10.1980 г. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Імем П. М. Машэрава названы праспект і завод аўтаматычных ліній у Мінску, Расонская сярэдняя школа, саўгас у Віцебскай вобл., марское судна; устаноўлены мемарыяльныя дошкі ў Мінску на доме, дзе ён жыў, і на будынку Віцебскага педінстытута.

Помнік пастаўлены ў 1980 г. (скульпт. З. Азгур, арх. Ю. Казакоў; бронза, граніт; вышыня пастамента 2,5 м, бюста 1,2 м). У цэнтры пляцоўкі, выкладзенай шэрымі плітамі паліраванага граніту, на пастаменце прамавугольнай формы, абліцаваным чырвоным гранітам, пагрудны бюст П. М. Машэрава. На пастаменце выява 2 ордэнаў Леніна, медалёў «Залатая Зорка», «Серп і Молат» і надпіс: «Машэраў Пётр Міронавіч Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы».

Злева ад бюста размешчаны асіметрычна пасунуты наперад гранітны камень кубічнай формы. На яго гранях — рэльефы, што сімвалізуюць баявыя і працоўныя поспехі П. М. Машэрава. На фасаднай грані — выява сцяга і лічбы «1941—1945». Скошаную бакавую грань упрыгожваюць каласы, серп і молат на кавадле. Урачыстасць і дэкаратыўнасць помніку надаюць таксама колеравыя кантрасты чырвонага і шэрага граніту з цёмнай бронзай. Выразнасць пластычнай формы, кампазіцыйная звязанасць з месцам — адметнасць помніка. Архітэктурна-планіровачную кампазіцыю помніка складаюць 4 газоны, пляцоўкі асіметрычнай формы, акружаныя бардзюрам. *А. Л. Петрашкевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**96. ПОМНІК РАБОЧЫМ І СЛУЖАЧЫМ ФАБРЫКІ «СЦЯГ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ»** (гіст.). Вул. Гагарына, 11, на тэрыторыі фабрыкі. На ўшанаванне памяці рабочых і служачых фабрыкі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**97. ПОМНІК СВІДЗІНСКАМУ** Уладзіміру Іванавічу (гіст.). Вул. Гагарына, 4, на тэрыторыі завода гадзіннікавых дэталей.

Герой Савецкага Саюза У. І. Свідзінскі нарадзіўся 8.5.1923 г. ў г. Віцебску. З рабочых. Член ВЛКСМ. Да вайны працаваў на іголкавым заводзе (цяпер завод гадзіннікавых дэталей) у Віцебску. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Бранскім, Цэнтральным, 3-м Беларускім, 1-м Украінскім франтах. Камандзір стралковай роты лейтэнант У. І. Свідзінскі вызначыўся ў верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на поўнач ад Кіева. Пад агнём праціўніка ён з групай байцоў пераправіўся цераз раку, захапіў і ўтрымліваў плацдарм да пераправы батальёна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10. 1943 г. Загінуў у баі 25.3.1945 г. Пахаваны ў Львове.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці У. І. Свідзінскага пастаўлены бюст, на будынку галоўнага корпуса завода гадзіннікавых дэталей устаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

**98. ПОМНІК СУВОРАВУ** Аляксандру Васільевічу (гіст.). На вул. Суворава, каля будынка гарваенкамата. Бюст А. В. Суворава ўстаноўлены ў 1952 г.

**99. ПОМНІК СУПРАЦОЎНІКАМ ВЕТЭРЫНАРНАГА ІНСТЫТУТА** (гіст.). На вул. Даватара, у двары Віцебскага ветэрынарнага інстытута. У 1967 г. на ўшанаванне памяці 3 супрацоўнікаў інстытута, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены мемарыяльны знак.

**100. ПОМНІК ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст., маст.). На Маскоўскім пр., перад будынкам сярэдняй школы № 31.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыст, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза В. З. Харужая (партыйныя і літаратурныя псеўданімы Вераніка Карчэўская, Алеся Шыпшына, Антолька, Падпольнік, Г. С. Карнілава) нарадзілася 14.9.1903 г. ў г. Бабруйск. З служачых. Член КПСС з 1921 г. Скончыла Цэнтральную савецка-партыйную школу ў Мінску (1923 г.). У 1919 г. настаўнічала на Палессі. У 1920 г. ў складзе Камуністычнага батальёна змагалася з бандамі Булак-Балаховіча. Пасля Грамадзянскай вайны працавала загадчыкам палітаддзела ў Мазырскім і



97. *Помнік У. І. Свідзінскаму.*



100. *Помнік В. З. Харужай.*

Бабруйскім павятовых камітэтах камсамола. У 1922—23 гг. у апараце ЦК КСМБ, адначасова член рэдкалегіі газеты «Малады араты», супрацоўніца часопіса «Полымя», газеты «Чырвоная змена», выхавальніца Мінскага Дома юнацтва і Камсамольскай камуны ў Мінску. З лютага 1924 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі; кааптавана ў склад ЦК КСМЗБ, з чэрвеня 1924 г. сакратар ЦК КСМЗБ, член ЦК КПЗБ, член ЦК камсамола Польшчы. Вяла работу па згуртаванню рэвалюцыйнай моладзі вакол КСМЗБ, арганізоўвала падпольныя сходы і нарады моладзі, выступала на мітынгах, пісала адозвы, артыкулы для падпольных газет. Арганізавала выданне газеты ЦК КСМЗБ «Малады камуніст». Кіравала работай II канферэнцыі КСМЗБ (Вільня, 1925 г.). Удзельнічала ў рабоце II канферэнцыі КПЗБ (1924 г.), III з'езда КПП (1925 г.). 15.9.1925 г. ў час падрыхтоўкі Беластоцкай акруговай канферэнцыі КПЗБ арыштавана, па працэсах 31-го (1927 г., Брэст) і 133-х (1928 г., Беласток) прыгаворана да 8 гадоў турмы. На судовых працэсах выступала з прамовамі ў абарону КПЗБ, выкрывала акупацыйны рэжым у Заходняй Беларусі. З турмы вяла перапіску з сябрамі па барацьбе і роднымі; частка яе лістоў сабрана ў кнігу «Лісты на волю» (1931 г.). У 1932 г. ў выніку абмену палітвязнямі вярнулася ў Мінск. Для выдавецтва КПЗБ пісала адозвы, артыкулы, брашуры. З 1935 г. працавала на «Балхашбудзе». З 1939 г. пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР на партыйнай рабоце ў Целяханах, Пінску. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны партызанка атрада В. З. Каржа. Каб наладзіць сувязь партызан з камандаваннем Чырвонай Арміі, В. З. Харужая ў жніўні 1941 г. пераправілася цераз лінію фронту. З вясны 1942 г. ў апараце ЦК КП(б)Б, у верасні накіравана ў акупіраваны Віцебск. Стварыла і ўзначаліла групу ў Віцебскім камуністычным падполлі. У групу (18 чалавек) уваходзілі С. С. Панкова, Е. С. Суранава, А. П. Іванькова, М. Ф. Ісакава, А. Ермаковіч, Я. Іванова, Л. Даброціна, М. Яцко, Е. Трусава і інш. В. З. Харужая наладзіла сувязі з іншымі падпольнымі групамі, наглядала за аэрадромам, чыгуначным вузлом, Смаленскай і Суражскай шашой і перадавала камандаванню Чырвонай Арміі і партызанам каштоўныя звесткі пра ворага, вяла антыфашысцкую агітацыю сярод насельніцтва. 13.11.1942 г. арыштавана. Закатавана фашыстамі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена ў 1960 г. Імем В. З. Харужай названа вуліца ў Віцебску, на якой яна жыла ў 1942 г.; на доме № 19 у 1968 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1973 г. на ўшанаванне памяці В. З. Харужай пастаўлены помнік (скульпт. З. Азгур; бронза, граніт; агульная вышыня 7 м, вышыня скульптуры 1 м). Паясны бронзавы бюст В. З. Харужай пастаўлены на чатырохгранны высокі пастамент, абліцаваны гранітнымі плітамі. Натхнёны, валявы твар, смелы погляд сведчаць аб мужнасці патрыёткі. Накінуты на плечы шаль надае вобразу жаноцкасць, цеплыню.

Помнік, хоць памеры яго параўнальна невялікія, выглядае манументальным.

*Літ.:* Славная дочь белорусского народа: Письма, статьи В. Хоружей и воспоминания о ней.— 2 изд.— Мн., 1962; Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974.
*В. М. Баскова, В. В. Церашчатава.*

**101. ПОМНІК ЧЫГУНАЧНІКАМ** (гіст.). На тэрыторыі лакаматыўнага дэпо. У 1972 г. на ўшанаванне памяці чыгуначнікаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, устаноўлена скульптура чыгуначніка з гранатай у руцэ.

**102. ПОМНІК ШМЫРОВУ** Мінаю Піліпавічу (гіст., маст.). На вул. Чэхава, у парку мемарыяльнага музея Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова. Пастаўлены ў 1969 г. (скульпт. З. Азгур, арх. З. Озерава; граніт, бутавы камень; агульная вышыня 2,55 м, вышыня скульптуры 1,3 м).

Партрэтная паўфігура М. П. Шмырова, пастаўленая на конусападобны пастамент, прыцягвае ўвагу жыццёвай канкрэтнасцю вобраза. Суровы выраз твару, жэст напрацаваных рук, якія энергічна сціскаюць партупею і рамень, характэрны паварот галавы перадаюць маральную сілу, канцэнтрацыю волі, роздум, адчуванні чалавека, што адказвае за лёс людзей і



102. *Помнік М. П. Шмырову.*

перажывае асабістую трагедыю. Нешматлікія дэталі — вышытая нацыянальным арнаментам кашуля, падпяразаная рэменем, і баявыя ордэны — дапаўняюць характарыстыку героя.

Суровая цэласнасць вобраза, акрэсленасць сілуэта, выразнасць формы надаюць помніку манументальнасць.
*Л. Г. Лапцэвіч.*

**103. ПОМНІК ШМЫРОВУ** Мінаю Піліпавічу (гіст.). На вул. Шмырова, каля будынка сярэдняй школы № 43. Бюст Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова ўстаноўлены ў 1975 г.

**104. ПРАМЫСЛОВЫ ВУЗЕЛ** (гіст., архіт.). Пр. Фрунзе. Пабудаваны ў 1964—70 гг. (арх. А. Данілава, І. Некрашэвіч, інж. У. Жур, І. Фрыдман, А. Хаскін, Я. Цымерман, Л. Ліўшыц, І. Кожар). Уключае шэраг прамысловых прадпрыемстваў прылада- і машынабудавання. Будаўніцтва вялося паводле занальнага прынцыпу: у заходняй зоне — заводы прыладабудавання, ва ўсходняй — машынабудавання,



104. *Адміністрацыйны корпус прамысловага вузла.*



**104.** *Прамысловы вузел. Фрагмент забудовы.*

у паўднёвай — агульнавузлавыя службы з рамонтнымі прадпрыемствамі. У глыбіні тэрыторыі вузла размешчаны кацельная, кампрэсарная, аб'яднаная складская гаспадарка і інш. Размяшчэнне прадпрыемстваў у адным вузле садзейнічае паляпшэнню іх тэхніка-эканамічных паказчыкаў, добраўпарадкаванню тэрыторыі, культурна-бытавому абслугоўванню рабочых, будаўніцтву тут у далейшым новых прадпрыемстваў з мінімальнымі выдаткамі. Планіроўка комплексу падпарадкавана адзінаму архітэктурнаму вырашэнню: усе асноўныя прадпрыемствы, вытворчыя, бытавыя, адміністрацыйныя і інжынерныя карпусы размешчаны ўздоўж пр. Фрунзе і непасрэдна афармляюць архітэктурнае аблічча магістралі. Комплекс арганічна ўпісаўся ў сістэму гарадскіх кварталаў, мае добрыя транспартныя сувязі з усімі раёнамі горада.

Віцебскі прамысловы вузел, адзін з першых на Беларусі, ажыццёўлены як адзіны комплекс з максімальнай кааперацыяй вытворчасці і уніфікацыяй аб'ёмных і канструкцыйных дэталей збудаванняў. *У. М. Жур.*

**105. РАДЗІМА АРЛОВА** Аляксандра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі скульптар А. М. Арлоў нарадзіўся ў 1908 г. ў сям'і рабочага. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1929 г.). Вучыўся ў М. А. Керзіна. Удзельнік Айчыннай вайны. У выстаўках пачаў удзельнічаць у гады вучобы. Быў членам Віцебскага філіяла Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыі (1928—1930 гг.). У 1932—33 гг. прымаў удзел у скульптурным афармленні інтэр'ераў Дома ўрада ў Мінску (бюст М. Г. Чарнышэўскага). Лепшая яго работа — манументальная скульптурная група «Пагранічнік і калгасніца» для беларускага павільёна Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве (1939 г.), выкананая ў рэалістычнай манеры, вызначалася цэласнасцю і дынамічнасцю. А. М. Арлоў загінуў у 1942 г. ў фашысцкім канцлагеры.

*Літ.:* Орлова М. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**106. РАДЗІМА БЕСКІНА** Ізраіля Саламонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант артылерыі (1944 г.) І. С. Бескін нарадзіўся 13.11.1895 г. ў Віцебску. З рабочых. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе (1936 г.), Вышэйшыя акадэмічныя курсы (1950 г.). У Чырвонай Арміі з 1918 г. Удзельнічаў у разгроме эсэраўска-кулацкіх мяцяжоў у Віцебскай і Смаленскай губернях (1918 г.), у вызваленні ад японскіх акупантаў Валачаеўкі, Хабараўска, Спаска, Уладзівастока, у баях на Кітайска-Усходняй чыгунцы ў 1929 г., у савецка-фінляндскай вайне 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну І. С. Бескін камандаваў падраздзяленнямі артылерыі. Удзельнічаў у баях за Рэчыцу, Гомель, Калінкавічы, Бабруйск, фарсіраванні Дзясны, Сажа, Дняпра, Одэра. Камандуючы артылерыяй 70-й арміі 1-га Беларускага фронту генерал-лейтэнант І. С. Бескін вызначыўся ў час прарыву абароны ворага на Одэры каля Шчэціна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г. Пасля вайны камандаваў артылерыяй некалькіх ваенных акругоў. З 1953 г. ў адстаўцы, жыў у Іркуцку. Памёр 19.1.1964 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Караткевіч.*

**107. РАДЗІМА БОНЧ-АСМАЛОЎСКАГА** Анатоля Восіпавіча (гіст.).

Рэвалюцыянер-народнік, член арганізацый «Зямля і воля» і «Чорны перадзел» А. В. Бонч-Асмалоўскі нарадзіўся ў 1857 г. ў Віцебску. Рэвалюцыйную дзейнасць пачаў у час навучання ў Пецярбургскім універсітэце (з 1876 г.), вёў прапаганду сярод рабочых Пецярбурга і Масквы, студэнтаў, сялян Маскоўскай, Смаленскай і іншых губерняў. Студэнцкімі дакументамі А. В. Бонч-Асмалоўскага неаднаразова карыстаўся рэвалюцыянер, вынаходнік М. І. Кібальчыч, каб мець магчымасць у хімічнай лабараторыі універсітэта вырабляць бомбы. У 1879 г. за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях выключаны з універсітэта, арыштаваны і сасланы пад нагляд паліцыі ў маёнтак бацькі ў в. Блонь (Пухавіцкі р-н Мінскай вобл.). У 1881 г. прымаў удзел у стварэнні падпольнай друкарні арганізацыі «Чорны перадзел» у Мінску. У 1882 г. выехаў у Вільню для арганізацыі работы друкарні. Там быў арыштаваны, адпраўлены ў Мінск і пасаджаны ў турму, адкуль сасланы ў Блонь. У 1901 г. за стварэнне гуртка самаадукацыі сялян в. Блонь сасланы ў г. Усць-Каменагорск, потым у Уфу. У 1904 г. амнісціраваны. Прымаў актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг., друкаваў і распаўсюджваў рэвалюцыйную літаратуру, змагаўся на барыкадах Прэсні ў Маскве. У Блоні разам з жонкай і сынамі стварыў філіял Усерасійскага сялянскага саюза, за гэта ў 1908 г. арыштаваны і зняволены ў мінскую турму. Выпушчаны ў 1910 г. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі быў выбраны членам выканкома Уладзімірскага губернскага Савета сялянскіх дэпутатаў. У канцы 1918 г. А. В. Бонч-Асмалоўскі ў Мінску арганізаваў кааператыўнае спажывецкае таварыства; быў дырэктарам аднаго з першых на Беларусі саўгасаў. З 1926 г. ў Маскве, працаваў у Таварыстве былых паліткатаржан і ссыльна-пасяленцаў. Памёр 23.9. 1930 г. Пахаваны ў Маскве на Навадзявочых могілках. Аўтар успамінаў.

*Літ.:* Савіцкая Л. Група Бонч-Асмалоўскага.— Полымя, 1967, № 5. *У. Дз. Будзько.*

**108. РАДЗІМА БУМАГІНА** Іосіфа Раманавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Р. Бумагін нарадзіўся 25.9.1907 г. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1932 г. У Чырвонай Арміі з 1941 г. На фронце з красавіка 1945 г. Камандзір кулямётнага ўзвода лейтэнант І. Р. Бумагін вызначыўся пры штурме г. Брэслаў (Вроцлаў). 24.4.1945 г. пад шквальным агнём з узводам атакаваў ворага. З руін цаглянага будынка гітлераўцы адкрылі агонь з 2 кулямётаў, атака захлынулася. І. Р. Бумагін знішчыў гранатамі адну агнявую кропку. Калі ў час паўторнай атакі вораг адкрыў кулямётны агонь з амбразуры ў падвале дома, І. Р. Бумагін закрыў яе сваім целам. Пахаваны ў Вроцлаве. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**109. РАДЗІМА ЖАЛЕЗНЯКА** Рыгора Самуілавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт і крытык Р. С. Жалязняк нарадзіўся ў верасні 1914 г. ў сям'і рабочага. У 1933—36 гг. вучыўся ў Ленінградскім інстытуце гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі, у 1938 г. скончыў Ленінградскі дзяржаўны універсітэт. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1931—32 гг. працаваў у рэдакцыі газеты «Віцебскі пралетарый». Друкаваўся з 1931 г. У 1933 г. Р. С. Жалязняк выдаў зборнік вершаў «Першы вытап» (з Б. Люгоўскім), у 1934 г. зборнік «Вясновыя будні». Напісаў кандыдацкую дысертацыю «Паэзія М. А. Багдановіча». Загінуў у 1942 г. пры абароне Ленінграда.

*Літ.:* Мы іх не забудзем.— Мн., 1949; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*В. Б. Караткевіч.*

**110. РАДЗІМА КАНДРАЦЬЕВА** Пятра Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. В. Кандрацьеў нарадзіўся 7.6.1909 г. ў сям'і чыгуначніка. Скончыў Ленінградскае ваенна-марское авіяцыйнае вучылішча (1933 г.). Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг., у час якой памочнік камандзіра авіяпалка капітан П. В. Кандрацьеў зрабіў 66 баявых вылетаў, патапіў варожае судна з боепрыпасамі, спаліў на аэрадроме 6 самалётаў, знішчыў 2 паравозы, 6 аўтамашын. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.4.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну абараняў Ленінград. Авіяполк пад яго камандаваннем зрабіў за 5 месяцаў каля 5 тыс. баявых вылетаў, правёў 389 паветраных баёў, знішчыў 105 варожых самалётаў, 55 танкаў. Палкоўнік П. В. Кандрацьеў загінуў у баі 2.6. 1943 г. Яго імем названы пасёлак у Выбаргскім р-не Ленінградскай вобл.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**111. РАДЗІМА КНЯЗЬНІНА** Францішка Дыянізы (гіст.).

Польскі паэт, драматург, перакладчык, адзін са стваральнікаў польскага сентыменталізму Ф. Князьнін нарадзіўся 4.10.1750 г. Паходзіў з беларускай шляхты. Вучыўся ў Віцебскай езуіцкай калегіі, дзе пачаў пісаць вершы на лацінскай мове, у 1764—67 гг. у Полацку, Нясвіжы і Слуцку. З 1773 г. жыў у Варшаве. З 1775 г. сакратар князя А. К. Чартарыйскага, з 1783 г. ў Пулавах прыдворны паэт Чартарыйскіх. Яго любоўна-ідылічныя вершы і песні кранапі сучаснікаў прастатой і меладычнасцю. Аўтар паэтычных зборнікаў «Любоўныя вершы, або Песні ў анакрэантычным родзе» (т. 1—2, 1799 г.), «Вершы» (1783 г.), «Паэзія» (т. 1—3, 1787—88 г.), трагедый «Маці-спартанка», «Гектар». Пісаў таксама паэмы, байкі, оды, гераічна-патрыятычныя п'есы для прыдворнага тэатра ў Пулавах. Опера на словы Ф. Князьніна «Цыганы» ў 1786 г. ставілася ў Слонімскім прыдворным тэатры Агінскага. Перакладчык заходнееўрапейскай паэзіі. У элегіях і ідыліях славіў край свайго дзяцінства — Віцебск. Цікавіўся беларускім фальклорам, збіраў беларускія прыказкі. *А. І. Мальдзіс.*

**112. РАДЗІМА МАЎЗОНА** Аркадзя (гіст.).

Беларускі савецкі драматург А. Маўзон (сапраўднае Маўшэнзон Арон Іосіфавіч) нарадзіўся 23.9.1918 г. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1949 г. Скончыў фабрычна-заводскае вучылішча (1935 г.). Працаваў на заводзе «Камунар» (цяпер станкабудаўнічы завод імя С. М. Кірава) у Мінску. Вучыўся ў драматычнай студыі пры Беларускім першым дзяржаўным тэатры. У 1936—46 гг.— акцёр, асістэнт рэжысёра Беларускага другога дзяржаўнага тэатра. У 1946—50 гг.— загадчык аддзела культуры газеты «Віцебскі рабочы», у 1950—65 гг.— начальнік сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм», у 1965—71 гг.— рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР.

Друкаваўся з 1946 г. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Аўтар п'ес: «Канстанцін Заслонаў» (апублікавана ў 1948 г., пастаўлена ў 1947 г.), «Наталля Крыўцова» (1954 г.), «У ціхім завулку» (1955 г.), «Калі разыходзяцца шляхі» (пастаўлена ў 1955 г.), «Непрымірымасць» (пастаўлена ў 1956 г.), «У бітве вялікай» (апублікавана ў 1958 г., пастаўлена ў 1957 г.), «Калі ты чалавек» (1960 г.), «Пад адным небам» (1962 г.), «Куды ідзеш, Сяргей?» (1966 г.), «У доме на Сонечнай» (пастаўлена ў 1966 г.), «Дарога праз ноч» і «Усяго адно жыццё» (1970 г.), «Да апошняга дыхання» (1978 г.). Па сцэнарыях А. Маўзона пастаўлены фільмы: «Канстанцін Заслонаў» (1949 г.), «Зялёныя агні» (1956 г.), «Наперадзе—круты паварот» (1960 г.). Аўтар зборнікаў: «Выбраныя п'есы» (1964 г.), «Людзі і час» (1972 г.), «П'есы» (1978 г.). Творы драматурга адлюстроўваюць гераічныя падзеі гісторыі краіны, раскрываюць духоўны свет савецкага чалавека.

Памёр А. Маўзон 19.8.1977 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

*Літ.:* Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**113. РАДЗІМА НІКІФАРАВА** Пятра Паўлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. П. Нікіфараў нарадзіўся 16.7.1917 г. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Барысаглебскую ваенную школу лётчыкаў (1939 г.). У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце, капітан, штурман знішчальнага авіяпалка. Удзельнічаў у Сталінградскай і Курскай бітвах, у вызваленні Украіны, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі. Зрабіў 297 баявых вылетаў, правёў 69 паветраных баёў, збіў 20 самалётаў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Да 1960 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Да 1970 г. працаваў інжынерам у г. Клін Маскоўскай вобл. Памёр 7.4.1971 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**114. РАДЗІМА ПОЛАЗАВА** Канстанціна Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза К. М. Полазаў нарадзіўся 9.6.1914 г. ў сям'і рабочага. У Чырвонай Арміі з 1936 г., скончыў курсы малодшых лейтэнантаў (1939 г.). У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Цэнтральным, Сцяпным і 1-м Украінскім франтах, удзельнік Берлінскай і Пражскай аперацый. Камандзір роты аўтаматчыкаў механізаванай брыгады старшы лейтэнант К. М. Полазаў вызначыўся ў жніўні 1944 г. ў баях за г. Самбар Львоўскай вобл. Рота пад яго камандаваннем уварвалася ў горад і вяла бой супраць ворага да падыходу асноўных сіл брыгады. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.4.1945 г. Пасля вайны жыў у в. Буявіна Калінінскага р-на Калінінскай вобл., працаваў у калгасе. Памёр 10.9.1977 г.

**115. РАДЗІМА РЫЎЛІНА** Езекііля Ісакавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, акадэмік АН БССР Е. І. Рыўлін нарадзіўся 18.11.1901 г. ў сям'і служачага. Скончыў Камуністычны універсітэт імя Я. М. Свярдлова ў Маскве (1923 г.), Інстытут Чырвонай прафесуры (1927 г.). З 1928 г. прарэктар БДУ, з 1929 г. намеснік наркома асветы БССР, у 1931—32 гг. загадчык сектара навукі і культуры ЦК КП(б)Б, член Прэзідыума АН БССР, дырэктар Інстытута аспірантуры АН БССР. З 1933 г. на педагагічнай рабоце ў Казахскай ССР. Працы па гісторыі германскай сацыял-дэмакратыі. Аўтар кнігі «Аграрная дыскусія ў Германскай с.-д.» (1928 г.). Памёр 7.5.1978 г.

**116. РАДЗІМА ТРУСЕВІЧА** Барыса Іпалітавіча (гіст.).

Беларускі савецкі ўрач, акадэмік АН БССР (1956 г., член-карэспандэнт з 1953 г.), доктар медыцынскіх навук (1943 г.), прафесар (1934 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1948 г.) Б. І. Трусевіч нарадзіўся 24.7.1892 г. З служачых. У 1916 г. скончыў Кіеўскі універсітэт. З 1928 г. працаваў на медыцынскім факультэце БДУ (з 1930 г. Мінскі медыцынскі інстытут). У 1934—41 гг. загадчык 2-й тэрапеўтычнай клінікі ў Мінску, у 1941—43 гг. прафесар Самаркандскага і Душанбінскага медыцынскіх інстытутаў, у 1943—61 гг. загадчык кафедры факультатыўнай тэрапіі Мінскага медыцынскага інстытута, адначасова пра-

фесар і загадчык кафедры тэрапіі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Працы Б. І. Трусевіча прысвечаны клінічным і эксперыментальным даследаванням унутранай паталогіі і інфекцыйных захворванняў, удасканаленню фізічных метадаў даследавання. Ён распрацаваў методыку пальпацыі малой крывізны страўніка, падстраўнікавай залозы, новую мадыфікацыю пальпацыі нырак, прапанаваў бесперапынную перкусію грудной клеткі, методыку выяўлення дыясталагічнага шуму пры недастатковасці клапанаў аорты ў так званай шостай кропцы, а таксама выяўлення шуму трэння плеўры і перыкарда. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—59 гг. Памёр 14.11.1961 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Врач, педагог, учёный: (К 40-летию врачебной, научно-педагогической и общественной деятельности Б. И. Трусевича).— Здравоохранение Белоруссии, 1956, № 6; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. П. Кобля.*

**117. РАДЗІМА ТЫШЭВІЧА** Уладзіміра Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза У. А. Тышэвіч нарадзіўся 29.5.1923 г. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1940 г.), Омскую ваенную школу пілотаў (1942 г.), Ваенна-паветраную акадэмію (1951 г.). У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1943 г. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, Польшчы. Лётчык-штурмавік старшы лейтэнант У. А. Тышэвіч зрабіў 144 баявыя вылеты, знішчыў 5 самалётаў, 3 паравозы, 10 танкаў, больш за 50 аўтамашын, 6 артылерыйскіх батарэй, 8 мінамётаў, 9 зенітных агнявых кропак, 14 зенітна-артылерыйскіх гармат, 4 бліндажы, 9 ваенных складоў, 27 чыгуначных вагонаў, шмат жывой сілы праціўніка. На акупіраваную ворагам тэрыторыю скінуў 120 тыс. лістовак. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 10.12.1980 г.

**118. РАТУША** (архіт.). У цэнтры горада, на перасячэнні вуліц Леніна і Суворава (вул. Леніна, 34). У канцы 16 ст. на Рыначнай пл. Узгорскага замка пабудавана драўляная ратуша (згарэла). Была прамавугольная, з высокім чатырохсхільным дахам, завяршалася васьміграннай вартавой вышкай са шпілем. У 1775 г. пабудавана мураваная ратуша. Спачатку мела двухпавярховы прамавугольны корпус (3-і паверх дабудаваны ў 1911 г.). У сярэдняй частцы корпуса з боку галоўнага фасада — шмат'ярусная вежа з шатровым дахам, якая раней завяршалася шпілем. Ярусы вежы аздоблены пілястрамі, валютамі, раскрапаванымі карнізамі; на верхнім ярусе — гадзіннік. Плоскасць галоўнага фасада (да яго ў пачатку 20 ст. дабудаваны порцік) расчлянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі на 1-м і паўцыркульнымі на 2-м і 3-м паверхах. Ратуша з'яўляецца дамінантай цэнтра горада, вызначае яго сілуэт. У канцы 18 ст. ў будынку размяшчаліся паліцыя, суд, гарадская дума і іншыя ўстановы. Будынак рэстаўрыраваны ў 1913 г., 1944 г., у 1970-я гады. Цяпер тут абласны краязнаўчы музей.

Ратуша — помнік грамадзянскай архітэктуры позняга барока, займае прыкметнае месца ў гісторыі беларускага дойлідства.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. (Дооктябрьский период).— Мн., 1969; Сапунов А. П. Витебская старина. Т. 1.— Витебск, 1883. *А. А. Міцянін, Т. І. Чарняўская.*

**119. УЗГОРСКІ ЗАМАК** (археал.). Мясцовая назва Успенская, або



118. *Будынак былой ратушы. Папярочны разрэз.*



118. *Будынак былой ратушы. Планы 1-га паверха і 3 ярусаў вежы.*



118. *Будынак былой ратушы.*

Лысая Гара. На ўзвышшы і прылеглай да яго тэрыторыі, паміж рэкамі Заходняя Дзвіна і Віцьба (на правым яе беразе). Меў прамавугольную форму, плошча каля 10 га. У старажытнарускі перыяд займаў паўднёвую і часткова ўсходнюю ўскраіны Узгор'я (каля 2 га). У 13—15 стагоддзях паселішча паступова пашыралася ў паўночным напрамку, аднак шчыльнай забудовы тут не было (культурны пласт выяўлены не ўсюды). У 14—15 стагоддзях на Узгор'і пабудаваны Успенская, Васкрасенская, Увядзенская цэрквы. У канцы 16 стагоддзя гандлёва-эканамічны цэнтр Віцебска быў перанесены з Ніжняга замка на Узгор'е. Тут былі пабудаваны ратуша, гасціны двор, крамы. У пісьмовых крыніцах гэтага часу Узгор'е называецца горадам. У 16—17 стагоддзях паўднёвая частка Узгор'я абнесена драўлянымі пабудовамі і ператворана ў «астрог». Паводле інвентароў 1641, 1664 гг. гэты ўчастак вядомы як Узгорскі замак. Быў ўмацаваны 10 вежамі (агульная даўжыня драўляных умацаванняў каля 529 сажняў), злучаўся з Ніжнім замкам мостам цераз Віцьбу.

Раскопкі праводзілі Г. В. Штыхаў у 1972 г. на плошчы 104 м² (каля будынка абласнога краязнаўчага музея), В. М. Ляўко ў 1979—82 гг. на плошчы больш за 500 м². Культурны пласт 12 ст. ў раёне ратушы 0,7 м. Знойдзены пацеркі, шкляныя бранзалеты, шыферныя праслiцы. На перадмацерыку ў 1981 г. выяўлены рэшткі драўлянай пабудовы са слядамі пажару. У час раскопак 1979 г. на беразе р. Віцьба выяўлены 3 ярусы драўлянай прыстані (канец 16—17 ст.). У паўночнай частцы замка раскапаны фрагмент абарончых збудаванняў паўночнай сцяны. Культурны пласт 0,8—1,2 м. Знойдзены матэрыялы, якія адносяцца да 16—17 стагоддзяў і больш позняга часу.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сапунов А. П. Река Западная Двина.— Витебск, 1893; яго ж. Витебская старина. Т. 1.— Витебск, 1883; Красняньскі В. «Чарцёж» месца Віцебска 1664 г. як дакументальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва.— Мн., 1928; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Ткачев М. А. и др. Раскопки в Витебске.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978; Левко О. Н. Феодальные памятники Северо-Восточной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *В. М. Ляўко.*

**120. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Вінаградавай, 6. Тут, у доме Я. І. Тычынінай, з верасня 1942 г. жыла савецкая разведчыца, камсамолка А. С. Вінаградава (падпольная мянушка Каця). Яна была накіравана ў горад для наладжвання сувязі з савецкім разведчыкам М. К. Яніным і падпольшчыкамі-чыгуначнікамі. Збірала і перадавала ў армейскую разведгрупу П. А. Крылатых звесткі пра сілы ворага і іх перамяшчэнне. У канцы лютага 1943 г. арыштавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі і пасля катаванняў расстраляна.

У 1966 г. на доме, дзе жыла А. С. Вінаградава, устаноўлена мемарыяльная дошка, яе імем у Віцебску названа вуліца, на якой яна жыла (былая 17-я Гарадоцкая).

*Літ.:* Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974. *М. К. Кошалеў.*

**121. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. 7-я Куйбышава, 12. У гэтым доме ў гады акупацыі Віцебска нямецка-фашысцкімі захопнікамі жыла падпольшчыца Г. С. Стаякова і з ліпеня 1941 г. да студзеня 1943 г. была явачная кватэра. Тут сустракаліся разведчыкі Чырвонай Арміі з падпольшчыкамі. У горадзе дзейнічалі чырвонаармейскія разведвальныя групы П. В. Буткевіча, П. А. Крылатых, Ю. С. Рудакова, М. Р. Яфімава і інш. Патрыёты дапамагалі разведчыкам уладкавацца ў горадзе, знайсці яўкі, здабывалі дакументы, разведданыя пра ворага. Разведчыкі аказвалі дапамогу падпольшчыкам у арганізацыі нелегальнай барацьбы з акупантамі, вучылі канспірацыі, формам і метадам вядзення разведкі. Г. С. Стаякова хавала зброю, боепрыпасы, нелегальную літаратуру, удзельнічала ў правядзенні дыверсій, распаўсюджвала газеты, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. 21.1.1943 г. яна арыштавана і пасля катаванняў расстраляна.

У 1966 г. каля дома ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974; Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964. *Г. І. Дулеба.*

**122. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Леніна, 18.

У будынку бальніцы з ліпеня 1941 г. па жнівень 1942 г. была явачная кватэра падпольнай групы медыцынскіх работнікаў, якую ўзначальвала ўрач К. С. Акаловіч. У групу ўваходзілі: урач Т. М. Шырочанка, медсёстры Г. К. Вішнеўская, А. Я. Лукашэнка, Л. А. Паляніна, Л. С. і А. І. Лявонавы і інш. Падпольшчыкі-медыкі лячылі ваеннапалонных, партызан і падпольшчыкаў, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных, забяспечвалі іх пашпартамі, аддзеннем, перапраўлялі да партызан. Яны выратоўвалі савецкіх людзей ад угону ў Германію, выдаючы ім фіктыўныя даведкі аб хваробах, забяспечвалі партызан медыкаментамі і медінструментамі, здабывалі звесткі пра ворага і перадавалі партызанам і камандаванню Чырвонай Арміі. Калі фашыстам стала вядома аб падпольнай дзейнасці медыкаў, большасць іх пайшла да партызан.



**121.** *Дом, у якім была явачная кватэра віцебскіх падпольшчыкаў.*



**122.** *Дом, у якім была явачная кватэра падпольнай групы медыцынскіх работнікаў.*

У 1966 г. на будынку, дзе была явачная кватэра, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Пахомов Н. И., Дорофеенко Н. И., Дорофеенко Н. В. Витебское подполье.— 2 изд.— Мн., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**г. п. Руба, Віцебскі гарадскі савет**

**123. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Вярхоўскай. 13.6. 1942 г. ў былы пас. Вярхоўе і яго наваколле ўварваўся нямецка-фашысцкі карны атрад. Гітлераўцы загубілі 75 мірных жыхароў — расстралялі, спалілі, закапалі жывымі. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.



**123.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



124. *Помнік на магіле невядомага салдата.*

**124. МАГІЛА НЕВЯДОМАГА САЛДАТА** (гіст., маст.). На вул. Цэнтральнай, перад будынкам сярэдняй школы. Пахаваны савецкі воін, які загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. В. Касіцын, арх. А. Іванін; бетон; вышыня 6 м). Уяўляе сабой стэлу, якая пашыраецца ўверсе і плаўна пераходзіць у скульптурную паўфігуру салдата. У адной руцэ ён трымае аўтамат, ва ўзнятай другой — сцяг. Выразны сілуэт, абагульненая мадэліроўка скульптурных форм, дынамізм кампазіцыі надаюць помніку манументальнасць.

*Г. М. Ярмоленка.*

**125. ПОМНІК У ГОНАР 1-й ВІЦЕБСКАЙ І ІМЯ ВЛКСМ ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД** (гіст.). На паўночны ўсход ад гарадскога пасёлка. У 1972 г. ў гонар партызанскіх брыгад, якія базіраваліся ў раёне пасёлка і на навакольнай тэрыторыі і вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, пастаўлена стэла.

Партызанская брыгада 1-я Віцебская створана ў лютым 1943 г. на базе атрада М. Ф. Біруліна (арганізаваны ў лютым 1942 г.). Камандзір брыгады М. Ф. Бірулін, камісары У. А. Хабараў (люты 1943 г.— чэрвень 1943 г.), В. Р. Кудзінаў (чэрвень 1943 г.— лістапад 1943 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага, вялі цяжкія баі супраць карнікаў. 1.11.1943 г. і 4.12.1943 г. брыгада (247 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Партызанская брыгада імя ВЛКСМ створана ў лістападзе 1943 г. на базе атрадаў імя С. Г. Лазо, «Сібірак», «КІМ», 2-га і 4-га (пазней імя М. Ф. Сільніцкага). Камандзір брыгады І. А. Куксёнак, камісар Ф. І. Зайцаў. Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Маладзечна, знішчылі ці пашкодзілі 14 эшалонаў, падарвалі больш за 1 тыс. рэек. У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічалі ў абароне Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. Вялі баі супраць карнікаў. 2.7.1944 г. брыгада (282 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй. Гл. таксама артыкулы № 841 «Месца базіравання віцебскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба 1-й Віцебскай партызанскай брыгады» і № 2444 «Месца стварэння партызанскай брыгады імя ВЛКСМ».




# АРШАНСКІ РАЁН

Рамальдава
Дзевіна
Клюкаўка
Дубніцы
Арэхаўск
Стайкі
Мал. Бабіна
Высокае
Лагі
Межава
Заполле
Юрцава
Смаляны
Пішчалава
Міцькаўшчына
Стар
Андрэеўшчына
Роскі Сялец
Забалацце
Ларынаўка
ОРША
Крапіўна
Задроўе
Барань
Пагост
Панізоўе
Браздзетчына
Лісуны
Белёва
Вусце
Пугляі
Ліпкі
Барздоўка
Зубрэвічы
Бабінічы
Дубраўка
Зубава
Магераўка
Якаўлевічы
Копысь

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з іменамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## II. ОРША



II. *Цэнтральная плошча.*

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Размешчана на Дняпры. Вузел чыгунак (лініі на Мінск, Магілёў, Крычаў, Смаленск, Віцебск, Лепель) і аўтамабільных дарог. Насельніцтва 117,7 тыс. (1984 г.).

Дзядзінец старажытнай Оршы размяшчаўся ў сутоку рэк Аршыца і Дняпро, дзе выяўлены паселішчы бронзавага і жалезнага вякоў. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 1067 г. як горад Ръша Полацкага княства. У сярэдзіне 12 ст. было каля 5 тыс. жыхароў. З 1320-х г. Орша ў складзе Вялікага княства Літоўскага, дзяржаўнае уладанне з 1560-х гадоў. Цэнтр павета. У 16 ст. ў ходзе шматлікіх войнаў няраз разбурана. Па ініцыятыве Альгерда ў 1-й палавіне 14 ст. праведзена перабудова гарадскіх умацаванняў, іх плошча з 5,7 тыс. м² павялічана да 31,5 тыс. м², узведзены каменныя сцены і 5 вежаў. Значнае развіццё атрымалі рамяство і гандаль. Па няпоўных даных у горадзе ў 16 ст. існавалі 23 віды рамёстваў, у 17 ст.— 26, у пачатку 18 ст.— 49, у 2-й палавіне 18 ст.— 52. Орша мела гандлёвыя сувязі з Расіяй, Польшчай, Прыбалтыкай, Украінай, з'яўлялася транзітным цэнтрам, пачатковым пунктам вялікага гандлёвага шляху — «гасцінца купецкага», які праходзіў па тэрыторыі Беларусі з усходу на захад. З мэтай процідзеяння каталіцкай экспансіі ў 1592 г. ў горадзе ўзнікла праваслаўнае брацтва. У 1620 г. горад атрымаў магдэбургскае права. У 17 ст. Орша была адным з буйных мастацкіх цэнтраў на Беларусі. Шмат мастакоў працавала ў Куцеінскім Богаяўленскім манастыры; у 1630—50-я гады тут дзейнічала друкарня Спірыдона Собаля. За кароткі час яна стала буйнейшай на Беларусі, да 1654 г. тут выдадзена каля 20 найменняў розных кніг. Дакументы 17 ст. называюць аршанскіх разьбяроў Іпаліта і Арсенія, цесляроў Восіпа Андрэева і Андрэя Фёдарава, якія працавалі пры царскім двары ў Маскве.

У сярэдзіне 17—18 стагоддзяў у сувязі з частымі войнамі (руска-польскай 1654—67 гг., Паўночнай 1700—21 гг.), агульным эканамічным крызісам Рэчы Паспалітай Оршы былі нанесены значныя страты і яна занянала; рэзка скарацілася колькасць насельніцтва. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Орша ў складзе Расіі. З 1796 г. стала цэнтрам павета Беларускай, з 1802 г.— Магілёўскай губерняў. У Айчынную вайну 1812 г. напалеонаўскія войскі разрабавалі горад, а пры адступленні ў лістападзе 1812 г. спалілі.

З 2-й палавіны 19 ст. Орша — буйны чыгуначны вузел, аршанская прыстань — значны транспартны пункт, адкуль штогод адпраўлялася каля 100 суднаў. У пачатку 1890-х гадоў у горадзе 15 прамысловых прадпрыемстваў (ільнотрапальныя, гарбарныя, крухмальныя, цагельныя і інш.), 9 навучальных устаноў (у 1894 г. 657 вучняў), бальніца, 6 урачоў, 2 аптэкі, 3 бібліятэкі, 2 кнігарні, друкарня. Паводле перапісу 1897 г. ў Оршы 13161 жыхар.

У 1900 г. ў горадзе створаны сацыял-дэмакратычны гурток. У першым нумары ленінскай «Искры» надрукавана паведамленне аб распаўсюджанні ў Оршы лістовак РСДРП і арыштах сярод рабочых. У пачатку 1904 г. створана Аршанская арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў склад Палескага камітэта РСДРП. Працоўныя актыўна ўдзельнічалі ў Рэвалюцыі 1905—07 гг. У сакавіку — красавіку 1905 г. адбыліся забастоўкі, мітынгі, сутычкі з паліцыяй. 1—4 мая прайшлі шматлюдныя дэманстрацыі, у час якіх рабочыя ўжылі зброю супраць паліцыі. Працоўныя ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы і Снежаньскім узброеным паўстанні: 11 кастрычніка спынілі работу чыгуначны вузел, 19 кастрычніка былі вызвалены палітычныя вязні. У снежні 1905 г. аршанскія чыгуначнікі правялі агульную стачку. Савецкая ўлада ў горадзе ўстаноўлена 28.10(10.11).1917 г. У лютым — кастрычніку 1918 г. нямецкія войскі часткова акупіравалі горад. 1.5.1920 г. праведзены камуністычны суботнік. З 1924 г. Орша ў складзе БССР, да 1930 г.— цэнтр акругі, з 1938 г. горад абласнога падпарадкавання. За першыя пяцігодкі ў горадзе пабудаваны льнокамбінат, лесапільны, механічны заводы, мясакамбінат і інш. Былі адкрыты настаўніцкі інстытут, педагагічны і чыгуначнага транспарту тэхнікумы, шраг бібліятэк, краязнаўчы музей. 37,6 тыс. жыхароў у 1939 г.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў баях пад Оршай 14.7.1941 г. ўпершыню былі выкарыстаны рэактыўныя ўстаноўкі («Кацюшы»). З 16.7.1941 да 27.6.1944 г. горад быў акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі; дзейнічалі камуністычнае падполле, у т. л. групы К. С. Заслонава, на тэрыторыі раёна падпольныя райкомы КП(б)Б (19.6.1943 г.— 28.6. 1944 г.) і ЛКСМБ (20.11.1942 г.— 28.6. 1944 г.). Орша вызвалена ў выніку Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944 г. За час акупацыі горад зруйнаваны, разбураны прамысловыя прадпрыемствы, больш за 75 % жылога фонду



II. *Вуліца Леніна.*




**II.** *Палац культуры льнокамбіната.*

горада. На чыгуначным вузле была цалкам знішчана станцыйная гаспадарка. Насельніцтва ў 1944 г. не перавышала 3 тыс. чалавек. У 1959 г. было 64,6 тыс., у 1970 г.— 100,6 тыс. жыхароў.

У 16—18 стагоддзях у Оршы былі ўзведзены манументальныя культавыя збудаванні: драўляная царква Ільі Прарока (1505 г.), езуіцкі калегіум (заснаваны ў 1612 г., уключаў мураваны касцёл і двухпавярховы калегіум, пабудаваны ў 1690 г.), манастыры бернардзінцаў (1636 г.), базыльянак (1642 г.), дамініканцаў (драўляныя будынкі пабудаваны ў 1649—50 гг., мураваны касцёл у 1819 г.), францысканцаў (мураваныя будынкі ўзведзены ў 1680 г.), саборная мураваная царква Раства маці боскай (1691 г.), касцёлы трынітарыяў (1714 г.), місіянераў (1752 г.), марыявітак (18 ст.), цэрквы Ушэсця (1757 г.), Іаана Багаслова (1790 г.; усе не збераглісся), манастыр базыльян (1758—74 гг.). На р. Куцеінка ў 1623 г. заснаваны Куцеінскі Богаяўленскі манастыр. На яго тэрыторыі была ўзведзена драўляная Богаяўленская царква, у 17 ст. пабудаваны мураваны Святадухаўскі храм. Непадалёку размяшчаўся жаночы Куцеінскі Успенскі манастыр.

У 1778 г. быў распрацаваны план забудовы горада, які прадугледжваў рэгуляванне вулічнай сеткі, узбуйненне кварталаў, выпрамленне паўкальцавых магістралей, стварэнне непадалёку ад цэнтральнага ядра горада новай грамадскай плошчы з гасцінным дваром і адміністрацыйнай установай, а таксама развіццё Задняпроўскага раёна. Новы праект планіроўкі 1848 г. ў асноўных рысах паўтараў папярэдні план. У 19 — пачатку 20 ст. гарадская тэрыторыя значна павялічылася, пераважала драўляная забудова. У 2-й палавіне 19 ст., у сувязі з будаўніцтвам чыгункі, Орша становіцца буйным чыгуначным вузлом. За 1,5 км ад горада забудоўваецца прывакзальны раён, які ў 1878 г. злучыўся з гарадскім цэнтрам брукаванай магістраллю, у цэнтры горада закладзены парк. Пабудаваны Ільінская царква (1880 г.) і вадзяны млын (1902 г.).

У 1880 г. ў Оршы 5 навучальных устаноў. На плане 1911 г. горад падзелены на 3 часткі Дняпром і Аршыцай. Ён захаваў старажытную планіроўку. Левабярэжная частка ў 18 ст. мела рэгулярную планіроўку з сеткай узаемна перпендыкулярных вуліц. Такую ж планіроўку меў і раён чыгуначнага вузла.

У савецкі час першы генплан Оршы быў распрацаваны ў 1938—40 гг. інстытутам «Белдзяржпраект». Пасля Вялікай Айчыннай вайны распрацаваны новы план, які ў агульных рысах паўтараў даваенны. У 1957 г. Віцебскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект» складзена схема размяшчэння новага жыллёвага будаўніцтва, у 1978 г. і 1980 г. распрацаваны генеральныя планы забудовы Оршы (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

Сучасны горад уключае цэнтральны, прывакзальны, паўночны, паўднёвы раёны, раёны льнокамбіната і Задняпроўя. Прамысловасць сканцэнтравана ў паўночным і паўднёвым раёнах. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр Оршы размешчаны на правым беразе Дняпра, захаваў планіроўку гістарычнага ядра з радыяльнай сістэмай вуліц (Леніна, Астроўскага, 1 Мая, Міру, Савецкая, Магілёўская, Горацкая, Дубровенская). Забудаваны сучаснымі тыпавымі дамамі. Вылучаюцца жылы масіў Задняпроўя і жылы комплекс па вул. Леніна. Гарадскі цэнтр звязаны з вакзалам вул. Міру, якая забудоўваецца дамамі ў 5—9 павярхаў. Зялёная зона горада ўключае парк імя Ленінскага камсамола, парк імя 50-годдзя Савецкай улады, парк Тэкстыльшчыкаў, Прыдняпроўскі парк, парк Герояў, у якім насыпаны Курган Бессмяротнасці. Помнікі: У. І. Леніну, С. М. Кіраву, К. С. Заслонаву, У. Я. Сарнову, на ўшанаванне памяці рабочых і служачых льнокамбіната і вагоннага дэпо, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, савецкім воінам, якія загінулі пры вызваленні Оршы, мемарыяльны комплекс «Кацюша».

Орша — буйны прамысловы цэнтр. Асноўныя галіны прамысловасці: лёгкая — ільнокамбінат, філіял Віцебскага тэкстыльнага вытворчага аб'яднання, фабрыкі швейная і мастацкіх вырабаў; машынабудаўнічая і металаапрацоўчая — станкабудаўнічы, лёгкага машынабудавання, інструментальны, трактарарамонтны, форм і тэхналагічнай аснасткі заводы; харчовай — камбінаты мясакансервавы, кансервава-агароднінасушыльны, малочны, хлебапрадуктаў, птушкафабрыка, піўзавод; будаўнічых матэрыялаў — камбінаты зборных жалезабетонных вырабаў «Сельбуд», сілікатных вырабаў, завод «Буддэталь».

У горадзе: механіка-тэхналагічны і чыгуначнага транспарту тэхнікумы, медыцынскае, педагагічнае і 6 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, 19 сярэдніх, 8 рабочай моладзі, 3 музычныя, 4 дзіцячыя і маладзёжныя спартыўныя школы, школа-інтэрнат, 50 дашкольных устаноў. Дом піянераў, 14 клубных устаноў, кінатэатр, 42 бібліятэк, мемарыяльны музей К. С. Заслонава, 4 бальніцы, 4 паліклінікі. Выдаюцца газеты: аб'яднаная гарадская «Ленінскі прызыў» і шматтыражная льнокамбіната «Трыбуна наватара». У 1984 г. Орша ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Зона адпачынку — уздоўж Дняпра і Аршыцы.

*Літ.:* Севергин В. Продолжение записок путешествия по западным провинциям Российского государства...— СПб., 1804; Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии...— СПб., 1855; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилёвской губернии... Кн. 2.— Могилёв, 1884; Россия: Полное географическое описание

нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Инвентарь замка Оршанского 12 июля 1560 года.— У кн.: Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897, т. 1; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Орша: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1967; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975; яго ж. Аршанскае права.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 2; Список населенных мест Могилёвской губернии.— Могилёв, 1910; Русско-белорусские связи: Сб. документов (1570—1667 гг.).— Мн., 1963; Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667—1686 гг.): Сб. документов.— Мн., 1972.

*Г. К. Гаранскі, Ю. І. Драгун, Ю. А. Якімовіч.*

**126. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Энгельса, на могілках. Пахаваны ўдзельнікі Аршанскага камуністычнага падполля Н. С. Банаеў, Дз. М. Бохан і Л. В. Кандрацьеў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**127. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ, АХВЯР ФАШЫЗМУ І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Энгельса, на могілках. Пахаваны каля 300 удзельнікаў Аршанскага камуністычнага падполля, ахвяр фашызму і ваеннапалонных, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—44 гг. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**128. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Камсамольская, у парку культуры і адпачынку. Пахаваны 112 воінаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941, 1944 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**129. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Леніна, у парку дома адпачынку «Орша». Пахаваны 196 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



129. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



130. *Помнік на брацкіх могілках.*

**130. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На вул. Пралетарскай. Пахаваны воіны Чырвонай Арміі і партызаны, якія загінулі пры вызваленні Оршы ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, а таксама ваеннапалонныя, загубленыя гітлераўцамі ў 1941—44 гг.,— усяго больш за 28 тыс. чалавек. На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1957 г. і 1974 г. на могілках пастаўлены скульптура воіна, скульптурная кампазіцыя — воін, партызан і жанчына, стэла і ўстаноўлены надмагільныя пліты.

**131. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). Вул. Леніна, 2, на штучным канале, які злучае р. Аршыца з Дняпром. Пабудаваны ў комплексе з арачным мостам у 1902 г. з чырвонай цэглы.

Млын пабудаваны на бутавым падмурку. Накрыты двухсхільным бляшаным дахам. Складаецца з трохпавярховага прамавугольнага ў плане галоўнага аб'ёму і аднапавярховага



131. *Вадзяны млын. План 2-га паверха.*

рабочага памяшкання. Архітэктура вырашана ў традыцыях псеўдаготыкі, з асобнымі элементамі псеўдарускага стылю. Сцены, прарэзаныя лучковымі праёмамі, не атынкаваны, а толькі пабелены, элементы чляненпя — лапаткі, гарызантальныя паясы («плоскія» і «парэбрыкам»), антаблемент — мелі натуральны колер чырвонай цэглы. Галоўны (паўднёва-ўсходні) фасад завяршае франтон з дэкаратыўным круглым акном, на баках якога з цэглы выкладзена дата пабудовы — 1902.

Мост — аднапралётная арачная канструкцыя з чырвонай цэглы на бутавым падмурку. Асобныя дэталі — парапет са стральчатымі праёмамі, картушавыя шчыты па баках аркі — надаюць збудаванню псеўдагатычныя рысы.

Млын з мостам — помнік прамысловай архітэктуры Беларусі эпохі капіталізму. *Ю. А. Якімовіч.*

**132. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Ва ўрочышчы Замчышча пры ўпадзенні р. Аршыца ў Дняпро. Пляцоўка памерам 105×75 м узвышаецца на 6—7 м над навакольнай мясцовасцю. З боку сучаснага горада ўмацавана ровам глыбінёю каля 3 м. Даследавалі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі (ускрыта 13 $м^2$), у 1964 г. Г. В. Штыхаў (8 $м^2$), у 1965—68 гг. Ю. І. Драгун (503 $м^2$). Культурны пласт ад 1,6 да 3,6 м. Выяўлены рэчы ранняга феадальнага часу: ганчарная кераміка, навясныя і ўнутраныя замкі, ключы, сякеры, наканечнікі коп'яў. Датуецца 10—12 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Археалагічным музеі БДУ.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Археалагічныя доследы ў Аршанскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Драгун Ю. И. Археологическое изучение детинца древней Орши.— У кн.: Доклады научной конференции аспирантов и молодых ученых, посвященной 50-летию Великой Окт. соц. революции. Сер. исторических наук. Мн., 1967. *Л. Д. Побаль.*



131. *Вадзяны млын.*

**133. ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЎ ЗАСЛОНАЎ** Канстанцін Сяргеевіч (гіст.). Вул. Будзённага, 9/14. Тут з 12.11.1941 г. да 25.2.1942 г. жыў Герой Савецкага Саюза К. С. Заслонаў. У 1956 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**134. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНА** (архіт.). Вялася ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Уключае цагляныя дамы № 11, 26.

Дом № 11. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Цяпер тут адміністрацыйныя ўстановы. Аднапавярховы, квадратны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Архітэктурным дэкорам апрацаваны толькі галоўны фасад, які выходзіць на «чырвоную лінію» вулічнай забудовы. Плоскасна трактаваны фасад расчлянёны арачнымі вокнамі і крапаваны надаконнымі броўкамі, руставанымі прасценкамі, філёнгамі, прафіляваным карнізам. Уваход у дом — з боку двара праз стральчатую браму-арку.

Дом № 26. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Цяпер тут медыцынская ўстанова. Галоўны фасад прамавугольнага ў плане аднапавярховага аб'ёму, выцягнутага ўздоўж вуліцы, мае сіметрычна-восевае вырашэнне з лучковымі ўваходным і аконнымі праёмамі. Над уваходам навес на вітых арнаментальных кранштэйнах з жалеза. Пластыка і дэкор фасада ствараюцца сродкамі дэкаратыўнай цаглянай муроўкі, выкарыстаны сандрыкі, руст, лапаткі, цокаль апрацаваны філёнгамі. Прафіляваны карніз, які аддзяляе фасад ад двухсхільнага даху, у цэнтры вылучаны франтонам.

Забудова вуліцы Леніна — прыклад жыллёвага будаўніцтва з рысамі эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**135. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ МІНСКАЙ** (архіт.). Сфарміравана ў пачатку 20 ст. Уключае цагляныя дамы № 11, 17, 19, якія ствараюць адзіны ансамбль.

Дом № 11. Вуглавы, на скрыжаванні вуліц Мінскай і Леніна, на ўзгорку. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Цяпер у ім — Дом піянераў і школьнікаў, музычная школа. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Да галоўнага фасада асіметрычна далучаецца аб'ём уваходнага тамбура з міжпаверхавай лесвіцай, да тарцовага — прыбудова. Элементы дэкору фасадаў вырашаны сродкамі цаглянай муроўкі: ліштвы акон, сандрыкі, клінападобныя аркі, філёнгі, лапаткі, міжпаверхавы фігурны пояс. Папярочнай сцяной дом падзелены на 2 палавіны, планіроўка зменена адпаведна сучаснаму выкарыстанню.



**135.** *Забудова вуліцы Мінскай. Дом № 19.*



**136.** *Ільінская царква. Від з боку апсіды.*

Дом № 17. Уключаны ў фрагмент забудовы вуліцы ў пачатку 20 ст. Двухпавярховы аб'ём з пакатым дахам выцягнуты ўздоўж вуліцы і павернуты да яе галоўным фасадам. Яго рытм ствараюць рады лучковых акон і 2 дзвярныя праёмы. Фасад дэкарыраваны клінападобнымі аркамі, лапаткамі, філёнгамі, рустам, сандрыкамі, выкананымі сродкамі цаглянай муроўкі. Тарцовыя фасады глухія, без праёмаў і архітэктурнага дэкору. Дом папярочным калідорам падзелены на 2 палавіны.

Дом № 19. Вуглавы, на скрыжаванні вул. Мінскай з 2-м Мінскім завулкам. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак апрацаваны тынкоўкай. На яе фоне вылучаюцца 2 рады лучковых і прамавугольных аконных праёмаў. Плоскасна вырашаныя фасады ўпрыгожаны міжпаверхавым тонкапрафіляваным поясам, карнізам з сухарыкамі. Тарцовыя фасады пазбаўлены праёмаў і дэкору. Два крылы дома маюць розную планіроўку: па вул. Мінскай — анфіладную, па завулку — калідорную.

Забудова па вул. Мінскай — прыклад жыллёвага будаўніцтва, дзе шырока выкарыстаны дэкаратыўныя ўласцівасці фігурнай цаглянай муроўкі. *А. М. Кулагін.*

**136. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. 2-я Лагерная, на левым беразе Дняпра. Пабудавана ў 1880 г. з цэглы. Храм крыжова-купальнай кампазіцыі з пяціграннай апсідай і шатровай званіцай над тамбурам. Фасады насычана дэкарыраваны разнастайнымі філёнгамі, раскрапоўкамі, карнізамі і кілепадобнымі арачкамі — какошнікамі. Інтэр'ер мае сіметрычную выцягнутую па падоўжнай восі будову: тамбур, асноўны аб'ём, апсіда. Цэнтральная частка асноўнага аб'ёму завершана купалам. Тэрыторыя царквы абнесена мураванай агароджай, вуглы якой умацаваны контрфорсамі, дэкаратыўнымі вежачкамі. Манументальная брама знаходзіцца з боку вул. 2-й Лагернай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*Літ.:* Живописная Россия. Т. 3.— СПб., М., 1882. *А. М. Кулагін.*

**137. КУЦЕІНСКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ МАНАСТЫР** (гіст., архіт.). Вул. Скарыны, 77.

Заснаваны ў 1623 г. як праваслаўны мужчынскі манастыр пасля скасавання ў Магілёве шэрагу праваслаўных цэркваў і Спаскага манастыра на сродкі і па хадайніцтву магілёўскага праваслаўнага брацтва. Манастырскі комплекс складаўся з галоўнага Богаяўленскага сабора (драўляны, будаваўся ў 1623—35 гг., у інтэр'еры яго ў 1639 г. зроблена 38 пасценных размалёвак; згарэў у 1885 г.), мураванай Святадухаўскай царквы, званіцы, жылых і гаспадарчых пабудоў, быў абнесены агароджай з бутавага каменю і цэглы. Асталіся Святадухаўская царква, двухпавярховы кляштарны корпус і частка агароджы.

Богаяўленскі манастыр у 1-й палавіне 17 ст. з'яўляўся буйнейшым цэнтрам беларускага кнігадрукавання кірыліцай. У 1630 г. беларускі асветнік і кнігадрукар Спірыдон Собаль заснаваў пры манастыры друкарню, у 1632 г. яе ўзначаліў ігумен Іоіль Труцэвіч. Тут да 1654 г. было надрукавана каля 20 выданняў навучальна-асветніцкай, царкоўна-палемічнай і свецкай літаратуры. Сярод іх — «Брашна духоўнае» (1630, 1639 гг.), «Буквар» С. Собаля (1631 г.), «Маліт-



**137.** *Куцеінскі Богаяўленскі манастыр. Святадухаўская царква. Від з боку апсіды.*

васлоў» (1631 г.), помнік перакладной беларускай літаратуры 17 ст. «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» (1637 г.), «Дзідаскаліа...» С. Косава (1632, 1637, 1653 гг.), «Псалтыр» (1642 г.), «Дзіоптра» (1651, 1654 гг.), «Лексікон...» П. Бярынды (1653 г.) і інш. Кнігі выдаваліся даволі вялікімі для таго часу тыражамі — па 290—350 экземпляраў. Выданні Куцеінскай друкарні былі шырока вядомы на Беларусі, Украіне, у Расіі. Асабліва вялікае значэнне мела выданне «Буквара» С. Собаля, па якім вучыліся дзеці беларусаў. Куцеінская друкарня існавала каля 25 гадоў. Яна адыграла вялікую ролю ў развіцці асветы і кнігадрукавання ў 17 ст. У 1655 г. яе абсталяванне было вывезена ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам, туды ж паехалі і некаторыя куцеінскія кнігадрукары. Куцеінскі Богаяўленскі манастыр адыграў значную ролю ў развіцці беларускай культуры.

Святадухаўская царква. Узведзена ў 1-й палавіне 17 ст. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём, да якога далучаны пяцігранная апсіда і квадратная ў плане двух'ярусная вежа-званіца, з паўночнага боку — невялікая рызніца. Першапачатковыя вальмавыя дахі з галоўкамі, якія завяршалі аб'ём царквы, не захаваліся. Сцены фасадаў стрымана дэкарыраваны лапаткамі і ўвенчаны прафіляваным карнізам. Паўцыркульныя аконныя праёмы размешчаны на гранях апсіды і бакавых фасадах, ярусы абрамлены прафіляванымі ліштвамі з ляпнымі дэталямі. Інтэр'ер царквы сфарміраваны прамавугольным асноўным аб'ёмам і вялікай пяцігранпай апсідай. Не захаваліся скляпенні, шасціярусны разны іканастас і фрэскі работы майстра Рыгора.

Манастырскі будынак уяўляе сабой выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю, якая складалася з 2 прамавугольных у плане аб'ёмаў: заходні — духоўнае вучылішча і вялікая трапезная, усходні — галерэйнага тыпу з жылымі памяшканнямі (келлі). Цагляны 1-ы паверх рэканструяваны; амаль поўнасцю перабудаваны драўляны 2-і паверх. Захавалася ў першапачатковым выглядзе толькі мураваная тарцовая сцяна з плоскімі паўцыркульнымі нішамі і часткова — агароджа.



137. *Куцеінскі Богаяўленскі манастыр. Жылы корпус.*

Манастырскі комплекс — помнік архітэктуры беларускага барока.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Краткие сведения об Оршанском Богоявленском монастыре.— СПб., 1865; Живописная Россия. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Леонид, архимандрит. Типография Оршанского Кутеинского и Иверского Валдайского монастырей (с 1630 по 1665 год) — Вестник Общества древнерусского искусства при Московском публичном музее, 1876, № 1—12; Голенченко Г. Я. Белорусы в русском книгопечатании.— У кн.: Книга. М., 1966; сб. 13; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2.— Могилев, 1884. *Т. В. Габрусь, Г. І. Дулеба.*

**138. МАГІЛА ЗАСЛОНАВА** Канстанціна Сяргеевіча і **КОРЖАНЯ** Яўгена Васілевіча (гіст., маст.). На пероне вакзала.



138. *Помнік К. С. Заслонаву.*

Герой Савецкага Саюза К. С. Заслонаў нарадзіўся 25.12.1909 г. ў г. Асташкаў Калінінскай вобл. З рабочых. Член КПСС з 1942 г. Скончыў прафесійна-тэхнічнае вучылішча ў г. Вялікія Лукі (1930 г.). Працаваў слесарам чыгуначнага дэпо станцыі Віцебск, потым на чыгунках Сібіры і Далёкага Усходу. З 1937 г. начальнік паравознага дэпо станцыі Рослаўль, з кастрычніка 1939 г.— станцыі Орша.

У верасні 1941 г. па ініцыятыве К. С. Заслонава ў Маскве створаны партызанскі атрад з чыгуначнікаў, які ў кастрычніку перайшоў лінію фронту і быў разгрупаваны. Група на чале з К. С. Заслонавым прыбыла ў Оршу, дзе дзейнічала ў складзе Аршанскага камуністычнага падполля. К. С. Заслонаў уладкаваўся на працу ў Аршанскае дэпо начальнікам рускіх паравозных брыгад. На чыгуначным вузле стварыў і ўзначаліў некалькі падпольных дыверсійных груп, якія разам з іншымі падпольнымі групамі паралізавалі работу Аршанскага чыгуначнага вузла. Заслонаўцы здабывалі ўзрыўчатку, рабілі міны, знішчалі варожыя эшалоны, узрывалі склады з боепрыпасамі, гаручым, пашкоджвалі тэлефонную сувязь. З снежня 1941 г. да лютага 1942 г. падпольшчыкі пусцілі пад адхон 6 варожых эшалонаў, вывелі са строю больш як 200 паравозаў, больш за 170 аўтамашын.

Фашыстам стала вядома аб дыверсійнай арганізацыі. Каб пазбегнуць разгрому, К. С. Заслонаў з групай падпольшчыкаў пайшоў у партызаны. З лютага 1942 г.— камандзір партызанскага атрада, з ліпеня 1942 г.— камандзір партызанскай брыгады «Дзядзькі Косці». Партызаны на чале з К. С. Заслонавым рабілі баявыя рэйды па Аршанскім і суседніх раёнах, знішчалі гарнізоны і камунікацыі праціўніка. К. С. Заслонаў загінуў 14.11.1942 г. ў баі супраць карнікаў у в. Купавадь Сенненскага р-на. 7.3. 1943 г. яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1955 г. перазахаваны з в. Купаваць у г. Оршу. У 1955 г. на магіле К. С. Заслонава і яго ад'ютанта Я. В. Коржаня (загінуў у баі 14.11. 1942 г.) устаноўлена мемарыяльная пліта, побач — помнік К. С. Заслонаву (скульпт. С. Селіханаў, арх. Г. Сысоеў; бронза, граніт, вышыня скульптуры 3,2 м, пастамента 3,3 м.). Бронзавая фігура К. С. Заслонава пастаўлена на чырвоным гранітным пастаменце строга прамавугольнай формы. Корпус павернуты направа, правая рука сціскае борт курткі, левая апушчана. Валявы паварот галавы, энергічны ўпор злёгку расстаўленых ног, буйныя мужныя рысы твару ствараюць выразную характарыстыку героя, даюць адчуць яго маральную сілу. Захоўваючы жыццёвую канкрэтнасць вобраза, скульптар перадае абагульненыя рысы партызана — мужнасць, сабранасць, упэўненасць у справядлі-




138. *Пліта на магіле К. С. Заслонава і Я. В. Коржаня.*

васці сваёй справы. На пастаменце з двухступеньчатай асновай — бронзавая пяцівугольная зорка і надпіс «К. С. Заслонаў».

У Айчынную вайну 2 партызанскія брыгады называліся імем К. С. Заслонава. У Оршы створаны мемарыяльны музей К. С. Заслонава. Яго імя прысвоена дэпо станцыі Орша, школе ў Оршы, чыгуначнай станцыі ў Лепельскім р-не, дзіцячай чыгунцы ў Мінску, многім калгасам, імем героя названы вуліцы ў многіх гарадах і вёсках, вёска ў Аршанскім р-не, алея ў мемарыяльным парку герояў у Оршы, К. С. Заслонаву прысвечаны мастацкі кінафільм, творы літаратуры, жывапісу, скульптуры, музыкі. Пра яго складзены народныя песні і легенды.

*Літ.:* Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Лобанок В. Е. Партизаны Витебщины в боях за Родину.— Мн., 1959; Папоў Ф., Шчуцкі С. Герой Савецкага Саюза Канстанцін Заслонаў.— Мн., 1951; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Елатомцева И. М. Монументальная летопись эпохи.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*

**139. МАГІЛА САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). На вул. Міру, непадалёку ад інструментальнага завода. Пахаваны каля 6 тыс. мірных грамадзян г. Оршы — вязняў гета, якіх у лістападзе 1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск і ўстаноўлена пліта.

**140. МАГІЛА САРНОВА** Уладзіміра Якаўлевіча (гіст.). Вул. Пралетарская, на могілках.

Адзін з актыўных удзельнікаў партызанскага руху на Віцебшчыне ў Вялікую Айчынную вайну У. Я. Сарноў нарадзіўся ў 1912 г. Член КПСС. Перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў намеснікам начальніка Аршанскага паравознага дэпо. У пачатку вайны эвакуіраваўся ў савецкі тыл. У маі 1943 г. быў перапраўлены ў Аршанскі р-н для арганізацыі партызанскай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. З мая 1943 г. камандзір партызанскай групы, з чэрвеня 1943 г.— партызанскага атрада «Дзядзькі Косці» 1-й партызанскай брыгады імя К. С. Заслонава. Загінуў у баі 14.7.1943 г. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеней. Яго імем названа вуліца ў Оршы.

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**141. МАГІЛА СІЯНІНА** Міхаіла Данілавіча (гіст.). Вул. Энгельса, на могілках.

Герой Савецкага Саюза М. Д. Сіянін нарадзіўся 4.12.1901 г. ў в. Забалацце Аршанскага р-на. З сялян. Член КПСС з 1920 г. У Чырвонай Арміі з 1920 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Скончыў Вышэйшую кавалерыйскую школу ў 1927 г., Ваенную акадэмію Генштаба ў 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лістапада 1941 г., палкоўнік, камандзір 69-й механізаванай брыгады 9-га механізаванага корпуса. Вызначыўся ў верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на Украіне (на паўднёвы ўсход ад Кіева). Нягледзячы на масіраваныя налёты варожай авіяцыі, брыгада пад камандаваннем М. Д. Сіяніна перапраўілася цераз Дняпро і захапіла плацдарм на правым беразе ракі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.11.1943 г. З 1966 г. працаваў дырэктарам музея К. С. Заслонава ў Оршы. Памёр 1.10.1973 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**142. МАГІЛА СЯМЁНАВА** Георгія Васілевіча (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, на могілках.

Гаспадарчы дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы Г. В. Сямёнаў нарадзіўся 4.4.1902 г. ў в. Кочнева Вязнікаўскага р-на Уладзімірскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1925 г. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў лесарубам, батраком, токарам на Уладзіміршчыне. Пасля Грамадзянскай вайны на кіруючай гаспадарчай і прафсаюзнай рабоце ва Уладзімірскай і Смаленскай абласцях. У 1935—41 гг. дырэктар віцебскай фабрыкі «Дзвіна», намеснік дырэктара, дырэктар Аршанскага льнокамбіната. З 1942 г. дырэктар Нерахцкай ткацкай фабрыкі «Чырвоная тэкстыльшчыца» (Яраслаўская вобл.). У 1944—55 гг. і 1956—72 гг. дырэктар Аршанскага льнокамбіната. У 1955—56 гг. намеснік міністра тэкстыльнай прамысловасці БССР. За поспехі ў выкананні камбінатам планавых заданняў па выпрацоўцы тканін, дасягненні высокіх тэхніка-эканамічных паказчыкаў Г. В. Сямёнаву ў 1966 г. прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, у 1972 г.— заслужанага работніка прамысловасці БССР. Член ЦК КПБ у 1966—71 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—63 гг. Ганаровы грамадзянін г. Орша (1972 г.). Аўтар працы «Перадавы вопыт — у вытворчасць» (1960 г.). Памёр 14.5. 1976 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**143. МАЙСТЭРНЯ** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад горада, на мысе. Плошча каля 600 м². Выявіў у 1978 г. і абследаваў у 1980—81 гг. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1—0,2 м. У агаленнях знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**144. МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН** (архіт.). Музейны завулак, 12, на правым беразе р. Аршыца. Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. Ансамбль манастыра складаўся з царквы Апекі маці боскай у стылі барока (1758—74 гг.; трохнефавая крыжова-купальная базіліка з паніжанымі бакавымі і высокім папярочным нефамі, двухвежавым галоўным фасадам; не збераглася) і прыбудаванага да яе манастырскага жылога корпуса. З 1832 г. будынкі належалі мужчынскаму Пакроўскаму праваслаўнаму манастыру.

Уцалелы манастырскі будынак — Г-падобны ў плане, двухпавярховы, накрыты двухсхільным дахам. Абодва паверхі маюць галерэйную сістэму планіроўкі. Сцены апрацаваны слаістымі пілястрамі і руставанымі лапаткамі. Першы і другі паверхі падзяляе гарызантальны пояс. Неапрацаваныя ліштвамі аконныя праёмы чаргуюцца з плоскімі нішамі. У паўднёва-ўсходняй частцы будынка размешчаны лесвічная клетка і парадныя залы. Астатнія памяшканні плошчай да 36 м² адводзіліся для жылля і працы. Моцныя сцены таўшчынёй у 1 м аблегчаны нішамі. Падвальнае памяшканне перакрываюць цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. Перакрыцце над 1-м паверхам — крыжовыя скляпенні, над 2-м — на драўляных бэльках. Выкарыстоўваецца як жылы будынак.

Помнік архітэктуры барока з элементамі ранняга класіцызму. *Ю. А. Якімовіч.*

**145. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ІВАШЧАНКУ** Даніілу Епіфанавічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1978 г.

Д. Е. Івашчанка нарадзіўся 24.8. 1892 г. ў в. Андрыянава Дубровенскага р-на. Член КПСС з 1918 г.

3.3.1918 г. паміж Савецкай Расіяй і дзяржавамі германскага блоку быў падпісаны ў Брэст-Літоўску мірны дагавор, паводле якога частка Беларусі была акупіравана Германіяй. Праз Оршу праходзіла дэмаркацыйная лінія. У чэрвені 1918 г. па прапанове У. І. Леніна Савецкі ўрад выдзеліў 36 вагонаў збожжа для галадаючых рускіх ваеннапалонных у Германіі. Камісару станцыі Орша-Цэнтральная



**144.** *Манастыр базыльян. Жылы корпус. Фрагмент.*

Д. Е. Івашчанку было даручана дамовіцца з нямецкім камандаваннем аб пропуску гэтага грузу. Нягледзячы на перашкоды з германскага боку і эсэраў, вагоны з хлебам былі дастаўлены на месца прызначэння. 6.7.1918 г. камісар станцыі атрымаў ад У. І. Леніна тэлеграму, у якой правадыр выказваў яму падзяку.

Пасля Грамадзянскай вайны Д. Е. Івашчанка служыў у органах ВЧК. У 1932—47 гг. у Сярэдняй Азіі і ў Малдаўскай ССР на кіруючых пасадах у сістэме Міністэрства ўнутраных спраў. Памёр 23.7.1947 г. Пахаваны ў г. Кішынёў.

*Літ.:* Ленин В. И. Тв., т. 44, с. 67 (Полн. собр. соч., т. 50, с. 112); Железнодорожная магистраль Белоруссии.— Мн., 1971. *Г. І. Дулеба.*

**146. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОТАВУ** Аляксандру Іосіфавічу (гіст.). Вул. Свярдлова, 39. Устаноўлена ў 1974 г. на будынку школы № 3, дзе ён вучыўся.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны А. І. Котаў нарадзіўся ў 1927 г. ў Кіеве ў сям'і служачых. Член ВЛКСМ. У 1940 г. скончыў 7 класаў Аршанскай сярэдняй школы № 3. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны вучыўся ў тэхнічным вучылішчы Ленінграда. 28.6.1941 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. На фронце з 1941 г., разведчык 25-га стралковага палка 191-й стралковай дывізіі. Удзельнік баёў пад Ленінградам, Ціхвінам, Белгарадам, Харкавам, на Смаленшчыне. Загінуў у баі 16.8. 1943 г. каля в. Арэф'ева Ельнінскага р-на Смаленскай вобл. Пахаваны ў гэтай вёсцы. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны 2-й ступені, Чырвонай Зоркі і медалём. *Г. І. Дулеба.*

**147. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Праспект Тэкстыльшчыкаў, 1. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў на месцы, дзе ў Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі катавалі ўдзельнікаў Аршанскага камуністычнага падполля.

**148. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ І ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Красіна, 3а, на будынку школы № 14. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці ўдзельнікаў Аршанскага камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну братоў А. І., Б. І., І. І. і К. І. Бяляўскіх, В. Т. Прыгоды, В. І. Жыгуноўскага, Я. К. Масалкова і іншых, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**149. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПУСТЭЛЬНІКАВУ** Сямёну Сільвестравічу (гіст.). Дубровенскі праезд, 5. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза С. С. Пустэльнікава на будынку сярэдняй школы № 5, дзе ён вучыўся



152. *Мемарыяльны комплекс «Кацюша». Фрагмент.*

ў 1931—38 гг. Гл. таксама артыкул № 312 «Радзіма Пустэльнікава Сямёна Сільвестравіча».

**150. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РЫБАКОВЫМ** Аляксею Аляксеевічу і Васілю Аляксеевічу (гіст.). Вул. Чыгуначная, 43. Устаноўлена ў 1975 г. на доме, у якім у Вялікую Айчынную вайну жылі ўдзельнікі Аршанскага камуністычнага падполля, кіраўнікі камсамольскай разведвальна-дыверсійнай групы браты Рыбаковы. Група дзейнічала на Аршанскім чыгуначным вузле. Са жніўня 1941 г. да мая 1942 г. яе ўзначальваў В. А. Рыбакоў, з мая 1942 г. да красавіка 1944 г.— А. А. Рыбакоў. У доме Рыбаковых патрыёты захоўвалі зброю, боепрыпасы, антыфашысцкія лістоўкі. В. А. Рыбакова акупанты загубілі ў маі 1942 г., А. А. Рыбакова — у красавіку 1944 г. *Г. І. Дулеба.*

**151. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЯКУБОЎСКАМУ** Івану Ігнатавічу (гіст.). Вул. Міру, 6, на будынку педагагічнага вучылішча.

Устаноўлена ў 1981 г. на ўшанаванне памяці савецкага ваеннага дзеяча, Маршала Савецкага Саюза (1967 г.), двойчы Героя Савецкага Саюза (1944 г.), Героя ЧССР (1970 г.) І. І. Якубоўскага, які ў 1930—32 гг. вучыўся ў Аршанскім педагагічным вучылішчы. Нарадзіўся 7.1.1912 г. ў в. Зайцава Горацкага р-на Магілёўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. Памёр 30.11.1976 г.

**152. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «КАЦЮША»** (гіст., маст.). На вул. Магілёўскай, каля моста цераз Днягро, на левым беразе ракі.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны (28.6.1941 г.) па распараджэнню Вярхоўнага камандавання была сфарміравана батарэя рэактыўных установак («Кацюш») на чале з капітанам Іванам Андрэевічам Флёравым. Захапіўшы Оршу, фашысты наступалі на Смаленск. У Оршу адзін за адным прыбывалі варожыя эшалоны з баявой тэхнікай і жывой сілай. Камандзір эксперыментальнай батарэі рэактыўнай артылерыі ВМ-13 капітан І. А. Флёраў атрымаў загад адкрыць агонь па Аршанскім чыгуначным вузле і пераправах цераз Дняпро і р. Аршыца. 14 ліпеня ў 15 гадзін 15 мінут раздаўся першы ў гісторыі войнаў залп рэактыўных мінамётаў па чыгуначнай станцыі Орша. Вечарам батарэя адкрыла агонь па пераправах цераз Дняпро і Аршыцу, подступы да якіх былі перапоўнены фашысцкімі войскамі, баявой тэхнікай. Пераправы былі разбураны, знішчана шмат варожых салдат і афіцэраў, баявой тэхнікі. На працягу 3 месяцаў батарэя І. А. Флёрава граміла фашыстаў пад Рудняй, Смаленскам, Ельняй, Дарагабужам, Рославам і Спас-Дзяменскам. У пачатку кастрычніка 1941 г. ў складзе групоўкі войск Заходняга фронту батарэя апынулася ў тыле нямецка-фашысцкіх войск. Пры руху да лініі фронту з тылу ворага батарэя ў ноч на 7.10.1941 г. трапіла ў засаду. Большая частка асабовага складу батарэі і яе камандзір І. А. Флёраў загінулі ў няроўным баі, расстраляўшы пры гэтым увесь баявы запас і ўзарваўшы баявыя машыны. За гераізм і мужнасць, праяўленыя пры выкананні баявых заданняў, І. А. Флёраў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. У гонар подзвігу батарэі збудаваны мемарыял у Оршы, абеліск у г. Рудня, помнік каля в. Пішчалава.

Мемарыяльны комплекс створаны ў 1966 г. (арх. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін; метал, бетон, каменная крошка).

Кампазіцыя мемарыяла грунтуецца на кантрасце аб'ёмаў, асіметрычнасці і рознамаштабнасці мас. Справа пры ўваходзе на тэрыторыю мемарыяла размешчаны невялікі чорны куб з інфармацыйным надпісам. На ўзвышшы злева ў лінію пастаўлены ў выразным рытме васьміметровыя, імкліва нацэленыя ў вышыню жалезабетонныя элементы — рэйкі (размешчаны на 6 тумбах з пяцікантовымі залатымі зоркамі на чорным фоне), якія сімвалізуюць пускавыя ўстаноўкі. У цэнтры самай высокай пляцоўкі комплексу, пакрытай шырокай белай лентай бетоннага стылабата, на пастаменце — макет рэактыўнага мінамёта «Кацюша». Суровыя таны чорных пастаментаў пад зеленаватымі рэйкамі-блокамі, чырвоныя тарцы цаглін, якімі выкладзена пляцоўка перад белым стылабатам з зялёна-чырвоным макетам рэактыўнай установкі на ім, асацыіруюцца з драматызмам адгрымеўшых баёў.

*Літ.:* Афанасьев Н. М. Первые залпы.— М., 1967; Жуков Г. К. Воспоминания и размышления. Т. 1—2.— 2 изд.— М., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба, М. М. Яніцкая.*

**153. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ПАРК ГЕРОЯЎ** (гіст.). У раёне вуліц Леніна, Першамайскай і Шаўчэнкі.

Закладзены ў 1966 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, жыхароў Оршы і Аршанскага р-на, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У цэнтры парку насыпаны Курган Славы, каля падножжа якога гарыць Вечны агонь. Да Кургана вядзе шэсць алей. Пяць з іх названы імёнамі Герояў Савецкага Саюза К. С. Заслонава, М. Лефеўра, С. М. Міты, Г. А. Нікандравай і Ю. В. Смірнова, шостая — алея невядомага салдата. На схіле Кургана — пяціканцовая зорка і мемарыяльная пліта.

*Літ.:* Орша: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1967. *Г. І. Дулеба.*

**154. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ КАЛІНІНА** Міхаіла Іванавіча (гіст.). Чыгуначны вакзал.

13.6.1919 г. М. І. Калінін прыехаў у Оршу на чале агітпоезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя». На мнагалюдным мітынгу, які адбыўся на чыгуначным вакзале, ён выступіў з прамовай па пытаннях міжнароднага становішча і ўнутранай палітыкі Савецкай дзяржавы, мабілізацыі працоўных БССР на дапамогу фронту. З групай прадстаўнікоў агітпоезда Міхаіл Іванавіч выязджаў у Машкоўскую валасць Аршанскага павета, гутарыў там з сялянамі, знаёміўся з іх жыццём і бытам, цікавіўся іх інтарэсамі і патрэбамі. 14 чэрвеня разам з агітпоездам выехаў з Оршы.

У 1968 г. на будынку чыгуначнага вакзала ў памяць аб наведванні Оршы М. І. Калініным устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Яцкевіч І., М. І. Калінін у Савецкай Беларусі.— Мн., 1970. *Г. І. Дулеба.*

**155. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Мінская, 3. Тут у Вялікую Айчынную вайну ў нямецкай друкарні ў 1941 г.— маі 1944 г. дзейнічала падпольная камсамольская група (кіраўнік А. П. Нікалаеў). Патрыёты друкавалі антыфашысцкія лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі іх, збіралі для партызан разведданыя аб праціўніку, здабывалі прадукты харчавання, зброю і боепрыпасы, забяспечвалі Аршанскі падпольны райком КП(б)Б і 1-ю партызанскую брыгаду імя К. С. Заслонава шрыфтам, паперай, друкарскімі фарбамі. У маі 1944 г. група была раскрыта. А. П. Нікалаеў, В. М. Берасцюк, Б. М. Чайкоўскі і іншыя патрыёты расстраляны.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Никогда не забудутся их подвиги: О коммунистическом подполье в годы Великой Отечественной войны в городе Орше и Оршанском районе (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1972, 23—24 авг. *Г. І. Дулеба.*

**156. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Ціміразева, 26. Тут у Вялікую Айчынную вайну ў нямецкім шпіталі савецкія ваеннапалонныя арганізавалі падпольную групу (кіраўнік камуніст В. А. Марчук), якая дзейнічала з ліпеня 1941 г. да мая 1942 г. Падпольшчыкі наладзілі сувязь з Аршанскім падпольным партыйным цэнтрам КП(б)Б і партызанамі. Яны збіралі звесткі пра ворага, здабывалі медыкаменты і ўзрыўчатку і перадавалі іх партызанам. У маі 1942 г. В. А. Марчук з групай падпольшчыкаў пайшоў у партызаны, загінуў у баі ў сакавіку 1943 г.



153. *Мемарыяльны парк Герояў. Курган Славы.*

У 1975 г. на будынку тэхнікума чыгуначнага транспарту ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *Г. І. Дулеба.*

**157. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ АРШАНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). У пачатку 1904 г. з прыхільнікаў ленінскай «Іскры» ў Оршы была створана арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў Палескі камітэт РСДРП. Яна вяла агітацыю і арганізатарскую работу сярод рабочых, сялян і салдат. Сацыял-дэмакраты наладжвалі сходы, масоўкі, мітынгі, распаўсюджвалі марксісцкую літаратуру, лістоўкі і пракламацыі, кіравалі стачкамі і дэманстрацыямі рабочых. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. узначальвала выступленні аршанскіх рабочых.

У кастрычніку 1905 г. адбылася палітычная забастоўка аршанскіх чыгуначнікаў, якая была падтрымана рабочымі іншых прадпрыемстваў. Арганізацыя выпусціла лістоўку «Патрабаванні ўсіх чыгуначных служачых і рабочых» (кастрычнік 1905 г.). У ёй эканамічныя і палітычныя патрабаванні былі выкладзены ў 24 пунктах (8-гадзінны рабочы дзень, 48-гадзінны рабочы тыдзень, павелічэнне заработнай платы, бясплатная медыцынская дапамога, адмена штрафаў, свабода слова, друку, сходаў і інш.). 17.11.1905 г. была выдадзена лістоўка «Да насельніцтва горада Оршы», якая заклікала працоўных рашуча змагацца з самадзяржаўем. Лістоўка заканчвалася лозунгам: «Няхай жыве сацыялізм!» Для падтрымкі Снежаньскага ўзброенага паўстання рабочых Масквы аршанскія сацыял-дэмакраты правялі стачку чыгуначнікаў. У 1906 г. арганізацыя была разгромлена паліцыяй. Адноўлена восенню 1907 г. П. М. Лепяшынскім. У 1914 г. зноў разгромлена. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ў Оршы ўзнікла «аб'яднанка», бальшавікі ў ёй складалі асобную фракцыю. У ліпені 1917 г. фракцыя бальшавікоў афармілася ў самастойную арганізацыю РСДРП (інтэрнацыяналістаў). У верасні 1917 г. ў ёй было каля 40 членаў. Былі створаны курсы рэвалюцыйнай прапаганды, на якіх чыталіся даклады аб капіталізме, класавай барацьбе, сацыялізме. Чатыры бальшавікі ўваходзілі ў склад выканкома Аршанскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Калі ў Оршу прыйшла вестка аб перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе, былі праведзены перавыбары Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, у выніку якіх быў выбраны новы, бальшавіцкі склад Савета, які аказваў вялікую дапамогу петраградскім і маскоўскім рабочым. Яны затрымалі 10 эшалонаў з салдатамі, якіх накіроўвала контррэвалюцыя для падаўлення рэвалюцыі ў Маскве і Петраградзе. Летам 1918 г. бальшавікі Оршы ў жорсткай барацьбе з эсэрамі, нягледзячы на перашкоды з германскага боку, забяспечылі пропуск у Германію 36 вагонаў збожжа для галадаючых рускіх ваеннапалонных. Пад уплывам бальшавіцкай агітацыі сотні салдат перайшлі на бок рэвалюцыі.

*Літ.:* Диренок Е. Д. Полесская организация большевиков в борьбе против царизма (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1965; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— 2 изд.— Мн., 1968; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962. *Г. І. Дулеба.*

**158. ПОМНІК ВУЧНЯМ** (гіст.). Вул. Красіна. На тэрыторыі сярэдняй школы № 14. На ўшанаванне памяці 23 былых яе вучняў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлена стэла.

**159. ПОМНІК ВУЧНЯМ І НАСТАЎНІКАМ** (гіст.). На праспекце Тэкстыльшчыкаў, на тэрыторыі сярэдняй школы № 7. На ўшанаванне памяці вучняў і настаўнікаў школы, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлена стэла.

**160. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На вул. Міру.

У канцы чэрвеня 1944 г. ў ходзе Віцебска-Аршанскай аперацыі войскі левага крыла 3-га Беларускага фрон-



160. *Помнік вызваліцелям.*

ту разгарнулі баі за авалоданне Оршай — буйным вузлом чыгуначных і шашэйных дарог, важным пунктам абароны праціўніка на Мінскім напрамку.

Гітлераўцы ператварылі Оршу ў моцную крэпасць. На подступах да яе і ў горадзе яны стварылі глыбокаэшаланіраваную сістэму абароны са шматлікімі дотамі і дзотамі, міннымі палямі і драцянымі загародамі. Увечары 26.6.1944 г. часці 11-й гвардзейскай і 31-й армій, падтрыманыя авіяцыяй, пачалі штурм горада. Ім памагалі партызаны. Раніцай 27 чэрвеня Орша была вызвалена ад акупантаў. 41 вайсковаму злучэнню і часці, якія вызначыліся ў баях за горад, нададзена ганаровае найменне «Аршанскіх».

У 1978 г. ў гонар савецкіх воінаў і партызан, якія вызвалілі Оршу, пастаўлены помнік — стэла і мемарыяльная сцяна (арх. В. Ягадніцкі).

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**161. ПОМНІК КАРНАЧОНКУ** Мікалаю Аляксандравічу (гіст.). На вул. Шклоўскай.

Герой Савецкага Саюза М. А. Карначонак нарадзіўся ў 1922 г. ў в. Баркі Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. Да 1940 г. працаваў на Аршанскім мясакансервавым камбінаце. З 1940 г. ў Чырвонай Арміі. Скончыў аэраклуб у Оршы і Адэскае авіяцыйнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1.7.1941 г., старшы лейтэнант, камандзір звяна 434-га знішчальнага авіяцыйнага палка. Удзельнічаў у баях на Паўднёва-Заходнім і Сталінградскім франтах. Зрабіў 349 баявых вылетаў, у паветраных баях збіў асабіста 10 самалётаў праціўніка, у тым ліку 7 бамбардзіроўшчыкаў. Загінуў у баі 22.9. 1942 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.11.1942 г. Імя М. А. Карначонка прысвоена Аршанскаму мясакансерваваму камбінату. На тэрыторыі камбіната ў 1977 г. ўстаноўлены бюст героя.

*Літ.:* Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**162. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). На вул. Молакава, каля Дома культуры чыгуначнікаў. Скульптура С. М. Кірава ўстаноўлена ў 1953 г.

**163. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На праспекце Тэкстыльшчыкаў, перад Палацам культуры льнокамбіната. Пастаўлены ў 1960 г.

У. І. Ленін паказаны ў час занатоўвання сваіх думак у сшытак, што ляжыць у яго на калене. Скульптар дасягае глыбокай псіхалагічнай характарыстыкі вобраза за кошт дакладнага партрэтнага падабенства і дэталёвай прапрацоўкі рысаў твару. Мяккая пластычная мадэліроўка фігуры, выразны сілуэт узмацняюць успрыманне вобраза. Адзінства з фасадам палаца дасягнута маштабнымі суадносінамі помніка і будынка. *М. М. Яніцкая.*




161. *Помнік М. А. Карначонку.*

**164. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Камсамольскай, у парку культуры і адпачынку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**165. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Касмадзям'янскай, у парку тэкстыльшчыкаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**166. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, каля будынка вячэрняй сярэдняй школы № 7. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1954 г.

**167. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, каля будынка гаркома КПБ. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**168. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Маладзёжнай, на тэрыторыі льнокамбіната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1958 г.

**169. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Молакава, на тэрыторыі лакаматыўнага дэпо імя К. С. Заслонава. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**170. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Першамайскай, на тэрыторыі дома адпачынку «Орша». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1966 г.

**171. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Завулак Усходні, на тэрыторыі завода лёгкага машынабудавання. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1971 г.

**172. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Энгельса, на тэрыторыі станкабудаўнічага завода «Чырвоны барацьбіт». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**173. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). На вул. Маладзёжнай, на тэрыторыі льнокамбіната. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1958 г.

**174. ПОМНІК МІЧУРЫНУ** Івану Уладзіміравічу (гіст.). На вул. Леніна, каля сярэдняй школы № 1. Бюст І. У. Мічурына ўстаноўлены ў 1954 г.

**175. ПОМНІК РАБОЧЫМ І СЛУЖАЧЫМ** (гіст.). Вул. Дастаеўскага, на тэрыторыі вагоннага дэпо Орша — Усходняя. На ўшанаванне памяці 18 рабочых і служачых дэпо, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлена стэла з выявамі воіна, партызана і падпольшчыка.

**176. ПОМНІК РАБОЧЫМ І СЛУЖАЧЫМ** (гіст.). На вул. Молакава, каля музея К. С. Заслонава. На ўшанаванне памяці рабочых і служачых лакаматыўнага дэпо імя К. С. Заслонава, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**177. ПОМНІК РАБОЧЫМ І СЛУЖАЧЫМ** (маст.). На праспекце Тэкстыльшчыкаў, у скверы насупраць Палаца

культуры льнокамбіната. На ўшанаванне памяці рабочых і служачых льнокамбіната, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік (скульпт. С. Рыхва; бетон, мармуровая крошка; агульная вышыня помніка 6,5 м, гарэльефа — 2,3 м). Кампазіцыя пабудавана на кантрасце вертыкальнай і гарызантальнай бетонных стэл, сумешчаных на невысокім стылабаце. На вертыкальнай стэле размешчаны гарэльефныя выявы пяцівугольнай зоркі (чырвоны пясчанік) і воіна Савецкай Арміі, паказанага ў профіль, з каскай у левай руцэ і схіленай галавой.

**178. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Каля чыгуначнага моста цераз Дняпро.

У час баёў за вызваленне Оршы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вызначылася група воінаў 381-га асобнага сапёрнага батальёна 220-й стралковай дывізіі 31-й арміі пад камандаваннем Я. А. Макеева. Імкнучыся затрымаць наступленне часцей Савецкай Арміі, гітлераўцы хацелі ўзарваць чыгуначны мост цераз Дняпро. 27.6. 1944 г. аддзяленне Я. А. Макеева прарвалася да моста, аўтаматным агнём знішчыла фашысцкіх мінёраў і прадухіліла ўзрыў. За паспяховае выкананне баявога задання, адвагу і мужнасць сяржанту Ягору Абрамавічу Макееву і радавому Антону Сцяпанавічу Юрчанку 24.3.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Я. А. Макееў нарадзіўся 7.12. 1922 г. ў в. Ліхачова Пачынкаўскага р-на Смаленскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. З 1946 г. працаваў старшынёй калгаса на радзіме, з 1949 г. горным майстрам у Данбасе. Памёр 11.6.1957 г.

А. С. Юрчанка нарадзіўся 17.1. 1923 г. ў с. Чарныш Чарнігаўскага р-на. З сялян. Член КПСС з 1947 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1944 г. У 1955 г. закончыў Чарнігаўскую сельскагаспадарчую школу. У 1946—52 гг. і з 1974 г. працаваў старшынёй Чарнышскага сельсавета, у 1955—74 гг. галоўным аграномам калгаса на радзіме. Жыве ў г. Чарнігаве, ганаровы грамадзянін горада Орша.

У гонар подзвігу савецкіх воінаў у 1968 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Воробьёв М., Титов В., Храпченков А. Смоляне — Герои Советского Союза.— М., 1966.
*Г. І. Дулеба.*

**179. ПОМНІК САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст.). На вул. Шаўчэнкі, насупраць сярэдняй школы № 17.

У вызваленні Оршы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 27.6.1944 г. прымала ўдзел 213-я Чырванасцяжная асобная танкавая брыгада (камандзір палкоўнік А. В. Цынчанка). У 1980 г. ў гонар танкістаў 213-й брыгады пастаўлена стэла з надпісам. Каля стэлы — пліта, на якой высечаны 52 імёны воінаў, якія загінулі пры вызваленні горада.




**163.** *Помнік У. І. Леніну.*

**180. РАДЗІМА БАГУШЭВІЧА** Юрыя (гіст.).

Рускі савецкі пісьменнік Ю. (Георгій Канстанцінавіч) Багушэвіч нарадзіўся 23.4.1917 г. ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1944 г. У 1941 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У Вялікую Айчынную вайну на Калінінскім і Беларускім франтах. З 1943 г. ваенны карэспандэнт. З 1949 г. працаваў у рэдакцыях газеты «Піянер Беларусі», «Мінская праўда», «Физкультурник Белоруссии», карэспандэнтам газеты «Советский спорт», літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі, у 1961—64 гг. галоўны рэдактар Мінскай кінастудыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. Друкаваўся з 1938 г. Аўтар аповесцей «Пабрацімы» (1955 г.), «Дрэва дружбы» (1959 г.), «У гарадку над Нёманам» (1973 г.), «Дырэктар «зялёнай» школы» (1975 г.), зборнікаў «Аповесць і апавяданні» (1970 г.), «Юнацтва прыйшло» (1977 г.). Галоўныя матывы творчасці пісьменніка — жыццё і быт, станаўленне характараў савецкіх дзяцей, моладзі. Напісаў некалькі сцэнарыяў кароткаметражных кінафільмаў, у сааўтарстве з В. Зубам — п'есу «Сябры» (пастаўлена Беларускім тэатрам юнага гледача ў 1958 г., выдадзена ў 1960 г.). Удзельнічаў у напісанні гісторыі мінскіх заводаў станкабудаўнічага імя Кастрычніцкай рэвалюцыі і аўтамабільнага. Памёр 18.3.1983 г. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*Г. І. Дулеба.*

**181. РАДЗІМА ВАСІЛЁНКА** Яўгена Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Я. П. Васілёнак нарадзіўся 13.12. 1917 г. ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1945 г. Скончыў сярэднюю школу ў Оршы (1934 г.), вучыўся на літаратурным факультэце Магілёўскага педагагічнага інстытута (1934—35 гг.). З 1935 г. працаваў журналістам у Шклове, Барысаве, Багушэўску, Оршы, у 1939 г.— карэспандэнтам газеты «Приморская магистраль», потым радыё, ТАСС, «Учительской газеты». З сакавіка 1943 г. карэспандэнт «Учительской газеты» ў Новасібірску, Сталінградзе, Краснадары. З лістапада 1943 г. знаходзіўся ў Чырвонай Арміі, супрацоўнічаў у армейскім друку. З канца 1945 г. карэспандэнт газеты «Гудок» (г. Алма-Ата). З 1948 г. жыў у Мінску, працаваў рэдактарам БЕЛТА, карэспандэнтам газеты «Труд» па Беларусі, у рэдакцыі часопіса «Маладосць». У 1958—66 гг. галоўны рэдактар часопіса «Неман».

Першыя творы надрукаваў у 1935 г. Аўтар кніг прозы «Зялёныя агні» (1954 г.), «Прызванне» (1956 г.), «Выпадковы прыпынак» (1957 г.), «Розныя дарогі» (1957 г.), «Таццяна Ларына» (1964 г.), «Вячэрняя размова» (1968 г.), «Сімфонія са спагнаннем» (1969 г.), «На перагоне» (1973 г.), п'еса «Каралеўскі гамбіт» (1957 г.). У 1977 г. выдадзены «Выбраныя творы» ў 2 тамах. Пісаў пераважна пра горад, жыццё рабочых-чыгуначнікаў, моладзі. Творы Я. П. Васілёнка перакладзены на рускую, украінскую і іншыя мовы народаў СССР.

Памёр 23.9.1973 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Пра час і пра сябе.— Мн., 1966.
*Г. І. Дулеба.*

**182. РАДЗІМА ДАРАШЭВІЧА** Міхаіла Васілевіча (гіст.).



**177.** *Помнік рабочым і служачым.*

Дзяржаўны дзеяч БССР, беларускі савецкі вучоны-геадэзіст, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1954 г.), прафесар (1961 г.) М. В. Дарашэвіч нарадзіўся 6.11.1900 г. ў сям'і служачага. Член КПСС з 1946 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1927 г. скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. З 1928 г. працаваў у Наркамземе БССР, з 1930 г.— у вышэйшых навучальных установах і навукова-даследчых інстытутах Беларусі. У 1933—41 гг., 1945—59 гг. у Беларускім політэхнічным інстытуце, дырэктар інстытута ў 1947—59 гг. У 1959—68 гг. міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР. Аўтар навукова-метадычных прац па розных відах геадэзічных здымак, камеральнай апрацоўцы палявых матэрыялаў, выяўленні і вывучэнні тарфяных радовішчаў рэспублікі. Член ЦК КПБ у 1954—66 гг., кандыдат у члены ЦК КПБ з 1966 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—68 гг.

Памёр 28.1.1968 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названа вуліца ў Мінску. На галоўным корпусе Беларускага політэхнічнага інстытута ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* М. В. Дорошевич.— Геодезия и картография, 1968, № 6. *Г. І. Дулеба.*

**183. РАДЗІМА ХІГРЫНА** Барыса Львовіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Б. Л. Хігрын нарадзіўся 1.8.1909 г. З рабочых. Член КПСС з 1929 г. З 1931 г. ў Чырвонай Арміі. У 1933 г. скончыў Маскоўскае артылерыйскае вучылішча. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны камандзір 2-га артылерыйскага дывізіёна 47-га стралковага корпуса. 5.7.1941 г. дывізіён вёў цяжкі бой у раёне р. Друць пад Магілёвам. Імкнучыся захапіць баявыя пазіцыі артылерыстаў, праціўнік накіраваў супраць іх шмат танкаў і пяхоты. Сілы былі няроўныя, але савецкія воіны пад камандаваннем Б. Л. Хігрына смела ўступілі ў бой. Было знішчана шмат баявой тэхнікі і жывой сілы ворага, затрымана яго наступленне, што дало магчымасць савецкім войскам заняць абарону на ўсходнім беразе Друці. У гэтым баі Б. Л. Хігрын загінуў. Пахаваны ў г. п. Бялынічы Магілёўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.8.1941 г. Б. Л. Хігрын навечна занесены ў спісы вайсковай часці.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**184. РАДЗІМА ЮРКОВА** Іосіфа Андрыянавіча (гіст.).

Савецкі гаспадарчы дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы І. А. Юркоў нарадзіўся 26.10.1903 г. ў сям'і рабочых. Член КПСС з 1956 г. У 1936 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. У 1936—37 гг. працаваў начальнікам будаўнічага ўчастка, кіраўніком трэста Белкамунбуд. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1947—55 гг. працаваў намеснікам кіраўніка трэста Белтрактарабуд. З 1955 г. да 1971 г. кіраўнік будаўнічага трэста № 5 Міністэрства прамысловага будаўніцтва БССР. За поспехі ў развіцці і ўдасканаленні будаўнічай вытворчасці І. А. Юркову ў 1962 г. прысвоена званне заслужанага будаўніка БССР, у 1966 г.— Героя Сацыялістычнай Працы.

Памёр 20.2.1976 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. *Г. І. Дулеба.*

**185. РЭАЛЬНАЕ ВУЧЫЛІШЧА** (архіт., гіст.). Вул. Леніна, 41. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут сярэдняя школа.

Двухпавярховы будынак складаецца з цэнтральнага корпуса і 2 рознавялікіх бакавых крылаў. Галоўны фасад з 3 рызалітамі, сярод якіх дамінуе цэнтральны, завершаны бельведэрам з невялікім шлемападобным купалам. Уваход вылучаны навесам на 2 слупах з балконам у 2-м ярусе. Фасад мае насычанае пластычнае і арнаментальнае вырашэнне: руставаныя лапаткі па вуглах і ў прасценках, аркатура, пінаклі, філёнгі. Усе элементы архітэктурнага дэкору вырашаны сродкамі цаглянай муроўкі. У рытмічнай пабудове галоўнага фасада выкарыстаны разнастайныя па форме аконныя праёмы. Цэнтральны вузел планіроўкі — вестыбюль і лесвічная клетка, аб'ём якой выступае з боку ўнутранага дворыка эркерам з скругленымі вугламі. У вестыбюлі 4 слупы падтрымліваюць перакрыцце, абапал лесвіцы — памяшканні гардэроба. Аўдыторыі размешчаны ўздоўж калідораў.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры пачатку 20 ст., выразнасць якой дасягаецца высакаякаснай фігурнай цаглянай муроўкай.

У вучылішчы ў 1907—09 гг. працаваў дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст П. М. Лепяшынскі. У 1966 г. на будынку школы на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка.



185. *Будынак былога рэальнага вучылішча.*

*Літ.:* Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3.— Мн., 1953; Булацкий Г. В. Ленинской гвардии солдат.— 2 изд.— Мн., 1970. *Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*

**186. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Горацкая, 26. Тут у Вялікую Айчынную вайну была явачная кватэра ўдзельнікаў Аршанскага камуністычнага падполля, кіраўнікоў дыверсійна-разведвальных груп — камуніста Я. П. Ісачанкі, камсамольцаў Дз. М. Бохана і Л. В. Кандрацьева, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у лютым — сакавіку 1944 г. У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**187. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Заходняя, 20. Тут у Вялікую Айчынную вайну ў 1941—42 гг. была явачная кватэра аднаго з кіраўнікоў Аршанскага падпольнага партыйнага цэнтра КП(б)Б Аляксандра Цімафеевіча Скаварады.

А. Ц. Скаварада нарадзіўся ў 1898 г. ў г. Гродна. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Член КПСС з 1930 г. У 1933—39 гг. працаваў інструктарам Аршанскага райкома КП(б)Б. Расстраляны гітлераўцамі ў красавіку 1942 г.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Никогда не забудутся их подвиги. О коммунистическом подполье в годы Великой Отечественной войны в городе Орше и Оршанском районе (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1972, 23—24 авг. *Г. І. Дулеба.*

**188. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Завулак Клубны, 4. Тут у Вялікую Айчынную вайну жыла адна з арганізатараў і актыўная ўдзельніца Аршанскага камуністычнага падполля Кацярына Уладзіміраўна Грачыха.

К. У. Грачыха нарадзілася ў 1888 г. ў Оршы. З рабочых. Член КПСС. Перад вайной працавала старшай стрэлачніцай на чыгуначнай станцыі Орша — Заходняя. Кіравала падпольнай групай на чыгуначным вузле. Збірала звесткі аб руху войск, размяшчэнні воінскіх часцей, складоў і іншых аб'ектаў ворага. Падбірала людзей на падпольную работу. У доме К. У. Грачыхі ў 1941—42 гг. была явачная кватэра падпольшчыкаў. Расстраляна ў снежні 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Никогда не забудутся их подвиги: О коммунистическом подполье в годы Великой Отечественной войны в городе Орше и Оршанском районе (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1972, 23—24 авг. *Г. І. Дулеба.*

**189. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Першая Лагерная, 37. Тут у Вялікую Айчынную вайну ў доме Сіланцьевых была явачная кватэра падпольшчыкаў.

Адным з актыўных удзельнікаў і арганізатараў Аршанскага камуністычнага падполля была Надзея Ся-

мёнаўна Сіланцьева. Яна падтрымлівала цесныя сувязі з членамі Аршанскага падпольнага партыйнага цэнтра КП(б)Б Л. Н. Анкіновічам і А. Г. Шкабарыным. У 1941 г.— кастрычніку 1942 г. ўзначальвала падпольную групу, у склад якой уваходзілі яе браты В. С. і П. С. Сіланцьевы, маці А. А. Сіланцьева. Дом Сіланцьевых быў явачнай кватэрай падпольшчыкаў, тут знаходзілі прытулак савецкія ваеннапалонныя, што ўцякалі з лагераў. У двары дома быў тайнік, дзе падпольшчыкі хавалі зброю і боепрыпасы. Члены групы збіралі разведданыя аб праціўніку, вялі антыфашысцкую прапаганду, пісалі і распаўсюджвалі лістоўкі. У кастрычніку 1942 г. гітлераўцы натрапілі на след падпольшчыкаў. Яны схапілі Н. С. Сіланцьеву, яе маці, братоў і іншых патрыётаў і пасля катаванняў расстралялі.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Никогда не забудутся их подвиги: О коммунистическом подполье в годы Великой Отечественной войны в городе Орше и Оршанском районе (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1972, 23—24 авг. *Г. І. Дулеба.*

**190. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Пралетарская, 81. У гэтым доме ў Вялікую Айчынную вайну ў 1941 г.— сакавіку 1943 г. была явачная кватэра аднаго з кіраўнікоў Аршанскага камуністычнага падполля Георгія Андрэевіча Яўменава. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі падпольшчыка. У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**191. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Пралетарская, 91. У гэтым доме ў Вялікую Айчынную вайну ў 1941 г.— кастрычніку 1942 г. была явачная кватэра аднаго з арганізатараў Аршанскага камуністычнага падполля Ганны Трафімаўны Карабкінай.

Г. Т. Карабкіна нарадзілася ў 1911 г. ў Оршы. З рабочых. Член КПСС. Да вайны працавала інструктарам Аршанскага гаркома партыі. У Вялікую Айчынную вайну дапамагала разведчыкам абсталяваццa ў горадзе, перадавала ім звесткі аб праціўніку. У жніўні 1942 г. арганізавала ўцёкі вялікай групы савецкіх ваеннапалонных, якіх акупанты выкарыстоўвалі для работы ў каменедрабільным кар'еры на ўскраіне Оршы, і пераправіла іх да партызан. Агенты СД схапілі савецкую патрыётку і пасля зверскіх катаванняў у кастрычніку 1942 г. расстралялі.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Никогда не забудутся их подвиги: О коммунистическом подполье в годы Великой Отечественной войны в городе Орше и Оршанском районе (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1972, 23—24 авг. *Г. І. Дулеба.*

**192. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Савецкая, 12. Тут у Вялікую Айчынную вайну па заданню падпольных партыйных органаў працавала загадчыцай гасцініцы гітлераўцаў камсамолка-падпольшчыца Л. М. Асташкевіч. Яна арганізавала ў гасцініцы явачную кватэру для партызанскіх сувязных і разведчыкаў Чырвонай Арміі. Аб дзейнасці Л. М. Асташкевіч стала вядома акупантам. У лютым 1943 г. яны расстралялі патрыётку.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба.*

**193. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Свярдлова, 58. Тут жыла ўдзельніца Аршанскага камуністычнага падполля Ефрасіння Іванаўна Нікалаева. Яе дом ў жніўні 1941 г.— маі 1944 г. быў явачнай кватэрай падпольшчыкаў. У маі 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі Е. І. Нікалаеву. У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**194. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Сцебянёва, 31. Тут жыў актыўны ўдзельнік Аршанскага камуністычнага падполля Віктар Макаравіч Бахматаў.

В. М. Бахматаў нарадзіўся ў 1898 г. ў Оршы. Працаваў рабочым у вагонным дэпо. Узначальваў падпольную дыверсійна-разведвальную групу на чыгуначным вузле. Удзельнічаў у дыверсіях, збіраў зброю, боепрыпасы, разведданыя аб праціўніку. Дом В. М. Бахматава быў явачнай кватэрай Аршанскага падпольнага партыйнага цэнтра КП(б)Б. Тут хаваліся савецкія ваеннапалонныя, што ўцякалі з фашысцкай няволі, іх потым перапраўлялі да партызан. В. М. Бахматаў расстраляны гітлераўцамі ў жніўні 1942 г.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Никогда не забудутся их подвиги: О коммунистическом подполье в годы Великой Отечественной войны в городе Орше и Оршанском районе (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1972, 23—24 авг. *Г. І. Дулеба.*

**195. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Чарняхоўскага, 46. Тут у час нямецка-фашысцкай акупацыі знаходзілася явачная кватэра Аршанскага падпольнага партыйнага цэнтра КП(б)Б. У склад цэнтра ўваходзілі Л. Н. Анкіновіч, А. Ц. Скаварада і А. Г. Шкабарын. У красавіку 1942 г. акупанты схапілі А. Ц. Скавараду і А. Г. Шкабарына і пасля жорсткіх катаванняў расстралялі. Л. Н. Анкіновіч загінуў 27.9.1943 г.

У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыльная дошка.

**в. Агранамічная,**
**Смалянскі сельсавет**

**196. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На тэрыторыі Смалянскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Пахаваны 401 чалавек, сярод іх жыхары Смалян і навакольных вёсак, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—44 гг., савецкія воіны і партызаны, што загінулі ў барацьбе супраць гітлераўцаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура маці ў жалобе.

**197. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад будынкам Смалянскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Андрэеўшчына, цэнтр сельсавета**

**198. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Анібалева,**
**Андрэеўшчынскі сельсавет**

**199. МАГІЛА КЛІМАВА** Івана Яўсеевіча (гіст.). На могілках. Савецкі лётчык старшы лейтэнант І. Я. Клімаў загінуў у 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**г. п. Арэхаўск,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**200. БЕЛДРЭС** (гіст.). Першая на Беларусі электрастанцыя, пабудаваная па плану ГОЭЛРО.

Рашэнне аб будаўніцтве раённай электрастанцыі было прынята 20.8. 1926 г. 9.7.1927 г. адбылася ўрачыстая закладка каля в. Арэхі Аршанскага р-на на Асінаўскім балоце. Магутнасць першай чаргі планавалася ў 22 тыс. кВт. 8.11.1930 г. першая чарга БелДРЭС (называлася Асінаўская ДРЭС) дала ток прадпрыемствам Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Лепшыя будаўнікі былі ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР і Ганаровымі граматамі. Электрастанцыя дасягнула праектнай магутнасці (32 тыс. кВт) у пачатку 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну гітлераўцы вывезлі абсталяванне і ўзарвалі будынкі электрастанцыі. Першы турбагенератар быў адноўлены ў 1946 г., даваенная магутнасць дасягнута ў 1951 г. (34,5 тыс. кВт).

БелДРЭС — першынец беларускай энергетыкі, помнік першай пяцігодкі.

*Літ.:* Першынец беларускай энергетыкі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1973, № 4. *В. Б. Караткевіч.*

**201. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, каля Дома культуры. Пахаваны 470 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941, 1944 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. На 3 мемарыяльных дошках высечана 200 імён загінуўшых.

**202. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на захад ад пасёлка,

ва ўрочышчы Бабінская Прыстань (паўднёва-заходні бераг Арэхаўскага возера). 22 насыпы вышынёй 0,8—2,5 м, дыяметрам 7—12 м. Выявіў у 1926 г. Д. З. Васілеўскі, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**203. МАГІЛА СМІРНОВА** Юрыя Васілевіча (гіст.). У цэнтры пасёлка.

Герой Савецкага Саюза Ю. В. Смірноў нарадзіўся 2.9.1925 г. ў г. Макар'еў Кастрамской вобл. Член ВЛКСМ. Працаваў электразваршчыкам. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г., гвардыі радавы 77-га гвардзейскага стралковага палка 26-й гвардзейскай стралковай дывізіі Ю. В. Смірноў вызначыўся 24.6. 1944 г. каля в. Шалашына Дубровенскага раёна. У час бою быў цяжка паранены і захоплены фашыстамі ў палон. Нягледзячы на катаванні, не выдаў ворагу ваеннай тайны. 25.6. 1944 г. фашысты распялі Ю. В. Смірнова на сцяне бліндажа. У галаву, рукі, ногі каты забілі цвікі, цела зрэзалі нажом. За стойкасць і адданасць Радзіме Ю. В. Смірнову 6.10.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1956 г. на магіле ўстаноўлены бюст. Подзвіг героя ўвекавечаны ў мемарыяльным комплексе Рыленкі. На месцы расправы фашыстаў з патрыётам у в. Шалашына, у в. Берасценава Аршанскага р-на і ў цэнтры саўгаса імя Ю. В. Смірнова ў в. Буда Дубровенскага р-на пастаўлены помнікі. Імем Ю. В. Смірнова названы вуліцы ў Мінску, Кастраме, Макар'еве, алея ў мемарыяльным парку герояў у Оршы. Яго імя прысвоена сярэдняй школе ў г. п. Арэхаўск. Навечна занесены ў спісы гвардзейскага стралковага палка.

*Літ.:* Герой Советского Союза Юрий Смирнов.— М., 1947; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба.*

**204. СПАСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Збудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з дрэва. Разам з двух'яруснай званіцай утварае адзіны ансамбль.

Царква складаецца з квадратнага ў плане цэнтральнага аб'ёму, увенчанага сферычным купалам на нізкім круглым барабане, вузкага тамбура і паўкруглай алтарнай часткі. Будынак пастаўлены на нізкі падмурак, звонку ашаляваны, накрыты бляхай. Інтэр'ер збудавання вырашаны строга і лаканічна. Цэнтральнае памяшканне рытмічна расчлянёна чатырма падпружнымі аркамі. Барабан ад сцен зруба аддзелены масіўным карнізам з нізкім атыкам. Паніжаная алтарная частка адгароджана іканастасам. Сцены ўнутры атынкаваны.

Званіца складаецца з 2 чацверыковых ярусаў; увенчана 4 франтонамі і шатровым бляшаным дахам, звонку ашалявана.

Царква і званіца — тыповыя помнікі драўлянага дойлідства, архітэктура якіх склалася пад уплывам класіцызму.
*Ю. А. Якімовіч.*



**203.** *Помнік на магіле Ю. В. Смірнова.*



**204.** *Спаская царква.*

**в. Асінаўка, Пішчалаўскі сельсавет**

**205. РАДЗІМА САЛТАНОВІЧА** Цімафея Емяльянавіча — Героя Сацыялістычнай Працы (гіст.). Гл. артыкул № 249 «Магіла Салтановіча Цімафея Емяльянавіча».

**пас. Балбасава, Вусценскі сельсавет**

**206. ПОМНІК ГРЫЦАЎЦУ** Сяргею Іванавічу (гіст.). Каля Дома культуры.

Двойчы Герой Савецкага Саюза С. І. Грыцавец нарадзіўся 23.6.1909 г. ў в. Бараўцы Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Пасля заканчэння ў 1927 г. сярэдняй школы працаваў на станцыі Шуміха, Златаустаўскім механічным заводзе Чэлябінскай вобл. У 1932 г. скончыў Арэнбургскую ваенную школу лётчыкаў і школу паветранага бою ў 1936 г. Удзельнічаў добраахвотнікам у Грамадзянскай вайне ў Іспаніі (1936—38 гг.), збіў 30 самалётаў ворага, 7 з іх у адзін дзень. За мужнасць, гераізм і адвагу, праяўленыя ў баях, 22.2.1939 г. яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Удзельнік баёў з японскімі мілітарыстамі ў 1939 г. на р. Халхін-Гол, у якіх збіў 12 варожых самалётаў. У адным з баёў быў падбіты і загарэўся самалёт камандзіра 70-га знішчальнага авіяпалка маёра В. М. Забалуева. Ён вымушаны быў выкінуцца на парашуце і прызямліцца на тэрыторыі праціўніка. С. І. Грыцавец пасадзіў сваю аднамесную машыну каля В. М. Забалуева, забраў яго і пад агнём ворага ўзняўся ў паветра. 29.8.1939 г. яму 2-і раз прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Некаторы час С. І. Грыцавец служыў пад Оршай. Загінуў 16.9.1939 г. пры выкананні службовых абавязкаў каля пас. Балбасава.

У 1958 г. ў пас. Балбасава ўстаноўлены бюст С. І. Грыцаўца. Помнікі пастаўлены таксама ў Мінску і Баранавічах. Імем героя названы вуліцы ў Маскве, Ленінградзе, Мінску, Оршы, Баранавічах, Мінскі авіяспартыўны клуб ДТСААФ БССР. Яго імя прысвоена Харкаўскаму вышэйшаму ваеннаму авіяцыйнаму вучылішчу.

*Літ.:* Люди бессмертного подвига. Кн. 1.— 4 изд.— М., 1975; Григорьев Г. Две звезды.— М., 1970; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба.*

**207. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 63 савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну і пры выкананні службовых абавязкаў у пасляваенны час, у 1968 г. пастаўлены абеліск і стэла.

**в. Барадзіно, Пішчалаўскі сельсавет**

**208. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе. Пляцоўка памерам 60×50 м з боку поля ўмацавана 2 валамі і 2 равамі. Унутраны вал у тыльнай частцы вышынёй да 5 м з паступовым паніжэннем па баках. Вышыня знешняга вала да 3 м. Глыбіня равоў да 2,5 м. Выявіў і даследаваў у 1971 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,25 м, бліжэй




206. *Помнік С. І. Грыцаўцу.*

да краю — 0,9 м. У шурфах, закладзеных ва ўсходняй частцы пляцоўкі, знойдзены рэшткі ляпных гладкасценных пасудзін днепра-дзвінскай культуры.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**г. Барань, Аршанскі гарадскі Савет**

**209. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. Першамайская, у гарадскім парку. Пахаваны 29 воінаў і партызан С. І. Бязлюдаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**210. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад горада, на гарадскіх могілках. Пахавана каля 40 мірных жыхароў г. Барань, якіх у красавіку 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**211. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст., маст.). Перад Палацам культуры. Пастаўлены ў 1964 г. (скульпт. Л. Наважэнец; бронза, бетон: вышыня скульптуры 2,2 м, пастамента 2,5 м). Бронзавая фігура У. І. Леніна, устаноўленая на высокім прамавугольным пастаменце і ступеньчатым стылабаце, з'яўляецца кампазіцыйным цэнтрам плошчы. У. І. Ленін паказаны ва ўвесь рост. Правая рука ў характэрнай ленінскай манеры трымае кепку, галава прыўзнята — Уладзімір Ільіч выступае з прамовай перад працоўнымі. Помнік вызначаецца спакойнай пластыкай форм.



208. *Гарадзішча.*

**212. ПОМНІК ПРАЦОЎНАЙ СЛАВЫ** (гіст.). Вул. 1-я Савецкая. Скульптурная кампазіцыя з выявамі рабочых (скульпт. А. Кузьміных) устаноўлена ў 1977 г.

**213. ПОМНІК У ГОНАР ЗАСНАВАННЯ БАРАНІ** (гіст.). Вул. Аршанская, каля Палаца культуры.

Горад Барань знаходзіцца за 9 км на паўднёвы захад ад Оршы на р. Адроў (прыток Дняпра) і аўтамабільнай дарозе Орша — Коханава. Вядома як мястэчка з 1598 г. Уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, потым Рэчы Паспалітай. У першай палавіне 17 ст. ў Барані было 38 дамоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 г. ў складзе Расіі: сяло, цэнтр воласці Аршанскага павета. У 2-й палавіне 19 ст. каля 300 жыхароў, працавалі крухмальны завод, млын, школа. У 1873 г. заснаваны драцяна-цвіковы завод. Рабочыя завода ў 1902 г. правялі стачку, каля 200 рабочых удзельнічалі ў Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З лютага да кастрычніка 1918 г. Барань была акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. У 1924—60 гг.— цэнтр сельсавета Аршанскага р-на. У 1935 г. пераўтворана ў рабочы пасёлак. З ліпеня 1941 г. да чэрвеня 1944 г. была акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З 1972 г. горад. Працуюць: камбінат бытавога абслугоўвання, Палац культуры, бібліятэка, паліклініка, бальніца, 3 сярэднія школы, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 4 дашкольныя ўстановы. Помнікі: У. І. Леніну, працоўнай славы.

У 1980 г. пастаўлена стэла з нагоды заснавання Барані.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2.— Мн., 1940. *Г. І. Дулеба.*

**214. РАДЗІМА КОРБАНА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік У. І. Корбан нарадзіўся 12.8.1910 г. З рабочых. Член КПСС з 1932 г. Шаснаццацігадовым юнаком пачаў самастойнае жыццё. Быў токарам на цвіковым заводзе ў Барані. Скончыў Баранскую сярэднюю школу рабочай моладзі. З 1930 г. рабочы Балтыйскага суднабудаўнічага завода ў Ленінградзе. Пасля службы ў Чырвонай Арміі (1932—34 гг.) працаваў токарам, начальнікам цэха, старшынёй заўкома на заводзе «Чырвоны Кастрычнік», старшынёй будкома на будаўніцтве Аршанскага льнокамбіната. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вайны дырэктар цвіковага завода ў Лідзе, з 1948 г. галоўны



211. *Помнік У. І. Леніну.*



212. *Помнік працоўнай славы.*

механік завода «Чырвоны Кастрычнік» у г. Барань. У 1952—71 гг. працаваў у рэдакцыі часопіса «Вожык» (з 1967 г. галоўны рэдактар).

Друкавацца пачаў у 1945 г. Пісаў байкі, вершаваныя гумарэскі, фельетоны, памфлеты, апавяданні. Найбольш вядомыя з кніг: «Мы іх ведаем» (1950 г.), «Байкі» (1953 г.), «З вецярком» (1957 г.), «Дакладныя прыкметы» (1958 г.), «Гарачая прыпарка» (1959 г.), «Да цешчы на бліны» (1963 г.), «Не на сваім месцы» (1965 г.), «Свінні ў рэпе» (1968 г.) і інш. Творы вызначаюцца актуальнасцю тэматыкі, дасціпнасцю, глыбокім зместам, сатырычнай завостранасцю, мастацкай выразнасцю вобразаў. У іх высмейваюцца ганебныя перажыткі ў побыце і свядомасці людзей — кар'ерызм, бюракратызм, падхалімства, сквапнасць, зайздрасць і інш. Аўтар гнеўна выступаў супраць падпальшчыкаў новай вайны. У 1970 г. У. І. Корбану прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры БССР. Памёр 30.11.1971 г. Пахаваны ў Мінску.

*Літ.:* Казека Я. Беларуская байка.— Мн., 1960; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963. *Г. І. Дулеба.*

**в. Барань, Вусценскі сельсавет**

**215. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**216. СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1704 г. з дрэва.

Асноўны аб'ём — высокі квадратны ў плане зруб, завершаны пакатым шатровым бляшаным дахам і 8-граннай вежачкай з купалкам; абкружаны з трох бакоў невысокай абходнай галерэяй. Да яго з усходу прырублена больш нізкая алтарная гранёная апсіда з асобным вальмавым дахам. Будынак стаіць на высокім падмурку, звонку вертыкальна ашаляваны. Вокны ў ніжняй частцы прамавугольныя, у верхніх частках паўночнай і паўднёвай сцен галоўнага аб'ёму — трайныя арачныя. Галоўны ўваход афармлены чатырохслуповым ганкам. У інтэр'еры дамінуе цэнтральны аб'ём, завершаны самкнутым скляпеннем. З ім злучаюцца шырокімі праёмамі алтарнае памяшканне і галерэя.

У помніку адлюстраваліся кампазіцыйныя прыёмы, характэрныя для ярусных беларускіх культавых пабудоў 17—18 стагоддзяў. *Ю. А. Якімовіч.*



216. *Спаса-Праабражэнская царква.*

**в. Барздоўка, цэнтр сельсавета**

**217. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 136 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**218. ПОМНІК КУЙБЫШАВУ** Валяр'яну Уладзіміравічу (гіст.). Каля будынка сельсавета. Бюст В. У. Куйбышава ўстаноўлены ў 1980 г.

**в. Барэйшава, Першамайскі сельсавет**

**219. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на мысе з пакатымі схіламі вышынёй да 20 м над лугам. Мае амаль круглую форму дыяметрам каля 17—18 м. Па звестках 19 ст. гарадзішча было ўмацавана 3 канцэнтрычнымі валамі, засталося два. Вышыня ўнутранага вала да 4—5 м, знешняга — 3—4 м. Абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1971 г. Л. Д. Побаль. У агаленнях вала знойдзена ляпная гладкасценная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединённой комплексной экспедиции; [т.] 1). *Л. Д. Побаль.*

**в. Белева, цэнтр Першамайскага сельсавета**

**220. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Берасценава, Андрэеўшчынскі сельсавет**

**221. ПОМНІК СМІРНОВУ** Юрыю Васілевічу (гіст.). Каля школы. Бюст Героя Савецкага Саюза Ю. В. Смірнова ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Бортнікі (не існуе), Запольскі сельсавет**

**222. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Бортнікі знаходзілася за 1 км на поўнач ад в. Кашына. У жніўні 1942 г. вёску (22 двары) спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. Не адрадзілася.

**в. Браздзетчына, Барздоўскі сельсавет**

**223. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вусце, цэнтр сельсавета**

**224. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлена стэла.

**225. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзец, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка памерам 50×40 м, з боку поля ўмацавана дугападобным валам вышынёй каля 4 м, даўжынёй 18—20 м. Выявіў у 1929 г. С. А. Дубінскі, абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г.— М. І. Лашанкоў. Культурны пласт чорнага колеру, больш за 1 м. Выяўлена ляпная гладкасценная, штрыхаваная кераміка жалезнага веку і ганчарная кераміка перыяду Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. Д. Побаль.*

**226. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 51 жыхара в. Вусце і навакольных вёсак, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопні-



225. *Гарадзішча. План.*



226. *Помнік землякам.*

каў у Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы, на адной з іх — імёны загінуўшых.

**227. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**228. РАДЗІМА САДКОВІЧА** Мікалая Фёдаравіча (гіст.).

Савецкі кінадраматург, кінарэжысёр, пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1944 г.) М. Ф. Садковіч нарадзіўся 8.1.1907 г. З сялян. Член КПСС з 1944 г. У 1928 г. скончыў рэжысёрскі факультэт Дзяржаўнага тэхнікума кінематаграфіі ў Маскве. Да 1945 г. рэжысёр і сцэнарыст на кінастудыях Масквы, Адэсы, Кіева, Ташкента. У 1946—47 гг., 1950—53 гг. міністр кінематаграфіі БССР, у 1953—56 гг. намеснік міністра культуры БССР. Працаваў галоўным рэдактарам і рэжысёрам Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў (Масква). Пастаноўшчык фільмаў «Шчаслівыя кольцы» (1929 г.), «Песня пра першую дзяўчыну» (1930 г., абодва сумесна з рэжысёрам Л. У. Голубам), «Шумі, гарадок» (1939 г.), «Майская ноч» (1940 г.), «Жыві, родная Беларусь» (1944 г.), «Вызваленне Савецкай Беларусі» (1945 г.) і інш. За пастаноўку фільма «Дэмакратычная Германія» (сумесна з ДЭФА) у 1951 г. прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. Аўтар сцэнарыяў фільмаў «Міколка-паравоз» (з М. Лыньковым, 1957 г.), «Так мы жывём» (1958 г.), «Наша зямля» (1960 г.), «Доля жаночая» (1967 г.), «Я, Францыск Скарына» («Беларусьфільм», 1970 г.).

Першыя апавяданні апублікаваў у 1934 г. Напісаў раманы «Георгій Скарына» (сумесна з Я. Львовым, 1951 г.) і «Мадам Любоў» (1966 г.), «Аповесць аб ясным Стахоры» (1956 г.) і інш. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—54 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—59 гг. Памёр 16.8.1968 г. Пахаваны ў Маскве.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**в. Вусы, Высокаўскі пасялковы Савет**

**229. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны лётчык старшы лейтэнант У. А. Быкаў-Шабарын і невядомы воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г., а таксама партызан Аляксей Іванавіч Катулін, што загінуў у 1942 г.



231. *Помнік К. С. Заслонаву.*

У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск і стэла.

**в. Высокае, цэнтр пасялковага Савета**

**230. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 162 воіны і 7 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**231. ПОМНІК ЗАСЛОНАВУ** Канстанціну Сяргеевічу (маст.). За 2 км ад вёскі, на скрыжаванні дарог Мінск — Масква і Орша — Віцебск. Пастаўлены ў 1965 г. (скульпт. Г. Мурамцаў, арх. В. Занковіч, Л. Левін; агульная вышыня помніка 10 м, вышыня пліты 3,5 м).

Помнік — вертыкальны канеліраваны пілон, нагадвае ўздыбленыя чыгуначныя рэйкі, да яго прымыкае бетонны блок няправільнай формы, што сімвалізуе выбух. На блоку рэльефная паўфігурная выява Героя Савецкага Саюза легендарнага партызанскага камбрыга з аўтаматам ва ўзнятай правай руцэ. К. С. Заслонаў у гімнасцёрцы, куртка расхінута. Выява размешчана па дыяганалі, што надае ёй дынамічнасць і экспрэсію.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**232. СЯДЗІБА** (архіт., гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана на мяжы 19—20 стагоддзяў. Ядро сядзібнага ансамбля спланавана па сіметрычна-восевай схеме, у цэнтры якой — жылы дом. Перад ім — прамавугольны двор, фланкіраваны 2 флігелямі. Уязная алея супадае з кампазіцыйнай воссю ансамбля. Пейзажны парк разбіты вакол невялікага возера і ручая, размешчаных у паўночным баку ўчастка.

Сядзібны дом складаецца з драўлянага аднапавярховага корпуса і пазнейшай двухпавярховай мураванай прыбудовы. Прамавугольная ў плане прыбудова вылучана ў цэнтры паўднёвага фасада пяцігранным эркерам са стральчатымі аконнымі праёмамі. Яе цокальны паверх расчлянёны лучковымі падвальнымі вокнамі. Першы паверх дэкарыраваны рустам, другі — руставанымі вуглавымі лапаткамі і абрамленнем аконных праёмаў у выглядзе прафіляваных ліштваў з трохвугольнымі франтончыкамі і падаконнымі філёнгамі.



232. *Сядзіба. Алея парку.*



232. *Сядзібны дом.*

Непадалёку ад сядзібнага дома знаходзіцца пабудаваны ў 1912 г. аднапавярховы мураваны флігель з мансардавым паверхам. На галоўным фасадзе выступае пяцігранны двухпавярховы эркер, у дэкоры выкарыстаны руст, меандр. Другі флігель мае традыцыйныя рысы сельскага зрубнага дома. Аднапавярховы будынак пад вальмавым дахам, у цэнтры — ганак са слупамі, стылізаванымі пад калоны.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры.

У сядзібе 25.6—25.7.1928 г. адбыўся 1-ы з'езд Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Прысутнічалі 31 дэлегат з рашаючым голасам і 21 з дарадчым ад 2500 камуністаў Баранавіцкай, Беластоцкай, Віленскай, Гродзенскай і Пінскай акруговых арганізацый КПЗБ. Удзельнічалі прадстаўнікі ад Выканкома Камінтэрна — В. С. Міцкявічус-Капсукас, КП(б)Б — В. Г. Кнорын, М. М. Галадзед, КПП — В. Кастшэва, А. Варскі, Ю. Ленскі, Э. Прухняк, ад КПЗУ і КСМЗБ.

З'езд прызнаў палітычную лінію ЦК КПП і ЦК КПЗБ у асноўным правільнай. КПЗБ зрабіла буйны крок па бальшавізацыі сваіх радоў, вырасла ідэйна, умацавалася арганізацыйна, палепшыла выдавецкую дзейнасць, у выніку пашырыўся рэвалюцыйны рух працоўных горада і вёскі. З'езд адзначыў памылкі і недахопы ў рабоце партыі і яе ЦК. Прааналізаваў міжнароднае становішча, канстатаваў, што ўзрасла пагроза вайны ва ўсім свеце, таму абарона СССР — найважнейшы абавязак КПЗБ. З'езд паставіў перад партыяй задачу заваяваць большасць пралетарыяту, стварыць партыйныя ячэйкі на фабрыках і заводах, узмацніць барацьбу за 8-гадзінны рабочы дзень, павышэнне зарплаты, арганізаваць адпор наступленню капіталу. На з'ездзе было падкрэслена, што барацьбу сялян за зямлю без выкупу неабходна спалучаць з барацьбой супраць росту падаткаў, дарагоўлі. У рашэннях з'езда падкрэслівалася, што ў нацыянальна-вызваленчым руху лозунгам КПЗБ з'яўляецца самавызначэнне аж да аддзялення ад Польшчы і ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у адзінай Савецкай дзяржаве. З'езд забараніў фракцыйную дзейнасць, якая мела месца ў партыі, заклікаў мацаваць партыйную дысцыпліну і адзінства партыі. З'езд звярнуў увагу на неабходнасць умацавання радоў КСМЗБ, больш увагі аддаваць мабілізацыі рабоча-сялянскай моладзі на рэвалюцыйную барацьбу.

З'езд выбраў ЦК КПЗБ. У яго склад увайшлі: А. Альшэўскі, М. А. Блінчыкаў, С. І. Будзінскі, С. К. Гарбуз, Г. М. Дуа, А. У. Канчэўскі, П. Корчык (І. К. Лагіновіч), С. Т. Мілер, М. Л. Пераволоцкі, А. М. Розеншайн, А. С. Славінскі; кандыдаты Л. І. Родзевіч, М. М. Словік і інш.

*Літ.:* Ситуация и задачи партии: (Резолюция 1-го съезда КПЗБ).— Вильно, 1928; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966. *В. Б. Караткевіч, А. М. Кулагін.*

**в. Вялікае Бабіна, Высокаўскі пасялковы Савет**

**233. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзец. Пляцоўка памерам 45×42 м узвышаецца над навакольнай мясцовасцю на 15—18 м і абкружана 3 канцэнтрычнымі валамі: адзін па краі і два па схілах. Вышыня ўнутранага вала — 2—3 м, знешняга і суседняга — да 1,5 м. Абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. У паўднёвай частцы пляцоўкі выяўлены культурны пласт да 0,6 м з ляпной гладкасценнай керамікай 6—9 стагоддзяў.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Вялікая Міцькаўшчына, Андрэеўшчынскі сельсавет**

**234. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахавана 147 ваеннапалонных, якіх у 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі жывымі. У 1964 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлена стэла.

**235. ЗАМЧЫШЧА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Замак, на левым беразе ручая Негаўка (Міцькаўка), за 3 км на паўднёвы ўсход ад Дняпра. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1966 г. К. П. Шут, у 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Пляцоўка памерам 107×100 м умацавана земляным валам вышынёй да 5 м, шырынёй 15—20 м. У паўночна-ўсходнім, паўднёва-ўсходнім і паўднёва-заходнім вуглах земляныя, амаль квадратныя ў плане выступы, на якіх раней былі драўляныя вежы. Яны ўзвышаюцца над валамі на 1,5—2 м. Знешняя іх частка заканчваецца квадратнымі ў плане пляцоўкамі (12×12, 13×13, 15×15 м). З заходняга боку пляцоўка была дадаткова ўмацавана другім валам вышынёй да 4 м, даўжынёй да 50 м. Трэці вал вышынёй 4 м, даўжынёй да 40 м праходзіў па беразе ракі, у бок якой ёсць выступ 10×10 м. Паміж другім і трэцім валамі — пляцоўка, якая мае нахіл у заходнім напрамку. Замчышча было абкружана ровам глыбінёй 2—3 м, шырыня каля вежы — да 12 м, з бакоў — да 25 м. У паўночна-заходняй частцы замчышча знаходзіўся ўезд. Помнік адносіцца да 14—18 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— У кн.: Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Л. Д. Побаль.*




235. *Замчышча. План.*

**в. Вярхоўе, Першамайскі сельсавет**

**236. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі. 2 курганы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 13—15 м. Выявіў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**237. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Ульянаўка. Плошча 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. абследаваў М. І. Лашанкоў. На паверхні сабраны абломкі ляпных і ганчарных пасудзін. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Гараны, Барздоўскі сельсавет**

**238. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад дарогі Орша — Коханава, ва ўрочышчы Гарадзішча паміж 2 ярамі, на правым беразе р. Крапівенка (левы прыток р. Адроў). Мае 2 пляцоўкі. Першая пляцоўка тэрасападобная з паніжэннем у бок ракі да 5 м, з закругленымі вугламі памерам каля 60×50 м. Ніжэй размешчана другая меншая пляцоўка памерам 30×40 м, з стромкасцю схілаў больш за 45°, вышынёй да 10 м. З боку поля гарадзішча было ўмацавана дугападобным валам вышынёй да 4 м у сярэдняй частцы з паступовым паніжэннем па баках. Вядома з канца



238. *Гарадзішча. План.*

19 ст. Абследавалі ў 1969 г. Л. В. Аляксееў, у 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. На першай пляцоўцы ў паўднёвай частцы культурны пласт да 0,5 м. Знойдзена ляпная гладкасценная кераміка. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Датуецца 6—8 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**239. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Крапівенка, ва ўрочышчы Гарадзішча. Плошча 0,9 га. Адкрыў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны абломкі ляпных гладкасценных пасудзін і ганчарная кераміка 10—12 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Гародня, Пішчалаўскі сельсавет**

**240. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на могілках. 10 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 5—8 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**241. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Пачаліца, побач з могілкамі. Памер 200×100 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. У культурным пласце 0,2 м знойдзена ганчарная кераміка 15—17 стагоддзяў.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Глінішча, Запольскі сельсавет**

**242. МЕСЦА ЗАГУБЫ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Тут пахаваны астанкі актыўных падпольшчыкаў — Сцяпана Іосіфавіча Ягорава, яго жонкі Марыі Ермалаеўны, іх сына Уладзіміра.

Падпольная група ў вёсцы Глінішча была створана летам 1941 г. У яе склад уваходзілі каля 20 чалавек, у тым ліку С. І. Ягораў, М. Е. Ягорава, іх сыны — Васіль, Мікалай, Міхаіл, Пётр, Уладзімір. Дом Ягоравых быў явачнай кватэрай падпольшчыкаў. Ягоравы былі сувязнымі партызан, збіралі разведданыя аб праціўніку, зброю і боепрыпасы для народных мсціўцаў, рабілі дыверсіі ў ваколіцах Глінішча — узрывалі масты, склады, аўтамашыны ворага. Акупанты даведаліся аб падпольнай дзейнасці Ягоравых. 15.12.1942 г. яны ўварваліся ў вёску. Сцяпана Іосіфавіча, Марыю Ермалаеўну і сына Уладзіміра зачынілі ў хаце і спалілі жывымі. У 1947 г. на ўшанаванне памяці патрыётаў на месцы іх гібелі пастаўлены абеліск.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Горная Веравойша, Забалацкі сельсавет**

**243. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Адроў, ва ўрочышчы Гарадок. З заходняга і ўсходняга бакоў абмежавана ярамі. Узвышаецца на 40 м над поймай р. Адроў. Добра захавалася. Пляцоўка памерам 55×55 м з закругленымі вугламі з паўночнага боку ўмацавана ровам глыбінёй да 1 м, шырынёй да 8 м і валам вышынёй з боку пляцоўкі каля 8 м, шырынёй каля 20 м. Па перыметры пляцоўкі ёсць другі вал вышынёй да 1 м, шырынёй каля 5 м. Трэці вал такіх жа памераў на схіле пляцоўкі. У паўднёва-ўсходняй частцы прасочваюцца яшчэ 3 дугападобныя валы вышынёй 0,5 м, шырынёй 3—5 м, даўжынёй 25—35 м. Абследавалі ў 1926 г. Д. З. Васілеўскі, у 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. У культурным пласце 0,6—1 м знойдзена ляпная гладкасценная кераміка, блізкая да днепрадзвінскай культуры.

*Літ.:* Васілеўскі Д. З матэрыялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі.— Наш край, 1926, № 6—7.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Гразіна, Запольскі сельсавет**

**244. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 7 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**245. ПОМНІК У ГОНАР АРШАНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА ПАРТЫЙНАГА ЦЭНТРА І АРШАНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). Каля школы.

Падрыхтоўка да падпольнай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Оршы і Аршанскім р-не пачалася яшчэ да іх акупацыі. Для наладжвання падпольнай работы ў горадзе і раёне былі пакінуты член Аршанскага райкома КП(б)Б, дырэктар Смалянскай МТС Л. Н. Анкіновіч, інструктар райкома КП(б)Б А. Ц. Скаварада, сакратар партарганізацыі Высокаўскага спіртзавода А. Г. Шкабарын і іншыя камуністы, камсамольскія і савецкія актывісты. 16.7.1941 г. быў створаны Аршанскі падпольны партыйны цэнтр па арганізацыі і кіраўніцтву падполлем. У яго склад увайшлі Л. Н. Анкіновіч, А. Ц. Скаварада і А. Г. Шкабарын.



243. *Гарадзішча. План.*

19.6.1943 г. быў створаны Аршанскі падпольны райком КП(б)Б, які дзейнічаў да 28.6.1944 г. Сакратары райкома КП(б)Б — Л. І. Сяліцкі (першы сакратар, 19.6.1943 г.— май 1944 г.), Л. Н. Анкіновіч (другі сакратар, 19.6.1943 г.— 27.9.1943 г.), К. Я. Гурын (другі сакратар, 25.11.1943 г.— 28.6.1944 г.). Члены райкома Б. К. Іваноў, А. П. Максіменка. Падпольны райком базіраваўся ў 1-й партызанскай брыгадзе імя К. С. Заслонава.

Пад кіраўніцтвам падпольнага партыйнага цэнтра, падпольнага райкома КП(б)Б і падпольнага райкома ЛКСМБ у Оршы і раёне былі створаны і дзейнічалі больш за 60 падпольных груп, у склад якіх уваходзіла больш за 520 камуністаў і камсамольцаў, 300 беспартыйных патрыётаў. Падпольшчыкі вялі антыфашысцкую прапаганду сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, газеты, літаратуру. Вялікую ролю ў мабілізацыі працоўных на барацьбу супраць акупантаў адыграла падпольная газета «Ленинский призыв», якую выдаваў падпольны райком КП(б)Б і 1-я партызанская брыгада імя К. С. Заслонава (рэдактар Б. К. Іваноў). Са жніўня 1943 г. да ліпеня 1944 г. выйшла 35 нумароў газеты тыражом 650 экземпляраў кожны. У партызанскіх атрадах было выдадзена каля 450 «Баявых лісткоў». Патрыёты здабывалі зброю, боепрыпасы, медыкаменты, збіралі звесткі пра ворага і перадавалі іх партызанам, праводзілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка. На чыгуначным вузле паспяхова дзейнічала падпольная дыверсійная арганізацыя, якую стварыў і ўзначальваў К. С. Заслонаў.

У 1974 г. ў гонар дзейнасці Аршанскіх падпольнага партыйнага цэнтра і падпольнага райкома КП(б)Б пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Дзятлава, Першамайскі сельсавет**

**246. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**246а.** Курганны могільнік. На ўсходняй ускраіне вёскі. 2 насыпы вышынёй 1,9 м, дыяметрам 8 м. Выявіў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў Раскопкі не праводзіліся.

**246б.** Курган. За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на могілках. Насып дыяметрам 7 м, вышынёй 1,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў.

**в. Дубраўка, Дубраўскі сельсавет**

**247. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**248. РАДЗІМА ШЧАРБАКОВА** Васіля Карпавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, акадэмік АН БССР (з 1931 г.), доктар гістарычных навук В. К. Шчарбакоў нарадзіўся 27.2.1898 г. ў сялянскай сям'і. Скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю (1918 г.) і Харкаўскую вышэйшую партыйную школу (1923 г.). Удзельнік Грамадзянскай вайны на Усходнім і Паўднёвым франтах, барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі. З 1923 г. на партыйнай, педагагічнай і навуковай рабоце на Украіне. У 1930 г. загадчык секцыі навукі і асветы ЦК КП(б)Б. У 1931—35 гг. віцэ-прэзідэнт, у 1935—37 гг. неадменны сакратар АН БССР. З 1931 г. намеснік дырэктара, у 1936—37 гг. дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР, адначасова ў 1931—36 гг. прафесар Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы Беларусі, Мінскага педагагічнага інстытута і БДУ. Працы па гісторыі першабытна-абшчыннага і феадальнага ладу, вызваленчай барацьбе беларускага народа ў эпоху феадалізму, гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны на Беларусі. Памёр 27.5.1939 г.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**в. Еліна, Пішчалаўскі сельсавет**

**249. МАГІЛА САЛТАНОВІЧА** Цімафея Емяльянавіча (гіст.). На могілках.

Гаспадарчы і грамадскі дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы Ц. Е. Салтановіч нарадзіўся 28.1.1912 г. ў в. Асінаўка Аршанскага р-на. З сялян. Член КПСС з 1939 г. З 1931 г. працаваў рахункаводам, з 1933 г.— старшынёй калгаса «Бальшавік», у 1937—41 гг.— старшынёй выканкомаў Веравайшанскага і Машкоўскага сельсаветаў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1944 г. знаходзіўся на партыйнай рабоце на Украіне. З 1946 г. старшыня выканкома Пішчалаўскага сельсавета, у 1950—75 гг. старшыня калгаса імя С. М. Кірава Аршанскага раёна. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1966 г. за высокія паказчыкі ў развіцці эканомікі калгаса. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963—70 гг. Памёр 13.1.1976 г.



251. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і падпольшчыка.*

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**в. Жалезнікі, Задроўеўскі сельсавет**

**250. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы. 2 насыпы дыяметрам 12 м, вышынёй 1,5 і 2 м. За 0,15 км ад іх, ва ўрочышчы Красны Бор, яшчэ адзін курган вышынёй 2 м, дыяметрам 12 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Забалацце, цэнтр сельсавета**

**251. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАДПОЛЬШЧЫКА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г., і Лявон Нічыпаравіч Анкіновіч — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў раёне.

Л. Н. Анкіновіч нарадзіўся ў 1907 г. ў в. Кашына Аршанскага раёна ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. З 1926 г. на савецкай рабоце ў Аршанскім р-не. З 1940 г. працаваў дырэктарам Смалянскай МТС. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. член Аршанскага падпольнага партыйнага цэнтра, потым другі сакратар Аршанскага падпольнага райкома КП(б)Б (чэрвень — верасень 1943 г.), камісар партызанскага атрада імя Варашылава (некаторы час называўся «Мсцівец») 1-й партызанскай брыгады імя К. С. Заслонава. Загінуў 27.9.1943 г. пры выкананні баявога задання ў в. Каменшчына Сенненскага р-на. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны 1-й ступені.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач з ім (злева) — абеліск Л. Н. Анкіновічу (1966 г.).

*Літ.:* Никогда не забудутся их подвиги: О коммунистическом подполье в годы Великой Отечественной войны в городе Орше и Оршанском районе (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1972, 23—24 авг. *Г. І. Дулеба.*

**252. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, паміж 2 ярамі, ва ўрочышчы Гарадкі, на левым высокім беразе р. Адроў. Пляцоўка памерам 40×25 м узвышаецца над поймай ракі да 30 м і мае тэрасападобны ўступ. З боку поля ўмацавана 2 падкованападобнымі валамі і равамі. Унутраны вал вышынёй да 3 м, шырынёй да 18 м, знешні вал вышынёй да 3 м. Глыбіня рова паміж валамі да 3 м, з напольнага боку — 1 м. З боку поймы пляцоўка была ўмацавана 2 валамі: адзін ішоў па яе краі, другі — па пакатай частцы схіла. Іх вышыня — 0,5, шырыня — 2—3 м. Выявіў і абследаваў у 1971 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт да 0,5 м. На глыбіні 0,3 м на адным узроўні знаходзілася некалькі дзесяткаў абпаленых камянёў.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**253. ПОМНІК ЗАСЛОНАВУ** Канстанціну Сяргеевічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя К. С. Заслонава. Бюст Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава ўстаноўлены ў 1970 г.

**254. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 84 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.



252. *Гарадзішча. План.*

**255. РАДЗІМА СІЯНІНА** Міхаіла Данілавіча (гіст.). Герой Савецкага Саюза. Гл. артыкул № 141 «Магіла Сіяніна Міхаіла Данілавіча».

**в. Задроўе, цэнтр сельсавета**

**256. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Савецкі воін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**257. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**257а.** Селішча. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Адроў, на ўзгорку, які ўзвышаецца над поймай ракі да 10 м. Памер 600×200 м. Выявіў і даследаваў у 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. абследаваў М. І. Лашанкоў. У культурным пласце ў паўднёвай частцы знойдзена ляпная і з расчосамі кераміка 1-й палавіны 1-га тысячагоддзя н. э., у паўночнай частцы — ляпная кераміка 6—8 стагоддзяў. Разам з ганчарнай керамікай перыяду Кіеўскай Русі знойдзены буйныя кавалкі шлаку, абпаленыя камяні, вугаль, попел, выяўлены рэшткі спаленага жытла. Адносіцца да позняга этапу зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі), культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі) і перыяду Кіеўскай Русі (9—12 стагоддзі).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**257б.** Курганны могільнік. Каля ўсходняй часткі селішча. 9 насыпаў дыяметрам 4—7 м, вышынёй да 0,7 м. Абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Зайцава, Забалацкі сельсавет**

**258. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**258а.** Курганны могільнік. За 1 км на поўдзень ад вёскі, 2 насыпы вышынёй 2 м, дыяметрам 10 і 15 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**258б.** Курган. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Вышыня 2,5 м, дыяметр 15 м. Абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў.

**в. Заполле, цэнтр сельсавета**

**259. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Заслонаўка, Забалацкі сельсавет**

**260. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку, каля канторы саўгаса «Забалацце». На ўшанаванне памяці 123 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены 2 стэлы.

**в. Згарда, Крапівенскі сельсавет**

**261. МАГІЛА КУРМІНСКАГА** Веніяміна Аляксандравіча (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Палкоўнік В. А. Курмінскі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1941 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зубава, цэнтр сельсавета**

**262. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На тэрыторыі школы. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных Герой Савецкага Саюза Канстанцін Яфрэмавіч Анохін.

К. Я. Анохін нарадзіўся 19.5. 1913 г. ў в. Пакроўка Нікольскага р-на Пензенскай вобл. З сялян. Член КПСС. З 1936 г. ў Чырвонай Арміі. Скончыў Арэнбургскае ваенна-авіяцыйнае вучылішча. З чэрвеня 1941 г. на фронце. Камандзір звяна знішчальнікаў лейтэнант К. Я. Анохін здзейсніў подзвіг 4.7.1941 г. Суправаджаючы групу бамбардзіроўшчыкаў у раёне Барысава, папаў пад моцны абстрэл варожай зенітнай артылерыі. Снарадам пашкодзіла машыну, але К. Я. Анохін прадаўжаў ахоўваць бамбардзіроўшчыкі. 6.7.1941 г. над в. Зубава, дзе размяшчаўся аэрадром авіяпалка, нечакана з'явіліся нямецкія бамбардзіроўшчыкі. К. Я. Анохін першым падняўся ў паветра і ўступіў у бой з 5 варожымі самалётамі, збіў бамбардзіроўшчык праціўніка і загінуў сам. Званне Героя Савецкага Саюза К. Я. Анохіну прысвоена 22.7.1941 г. Імем героя названа вуліца ў г. Нікольску.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**263. ПОМНІК АНОХІНУ** Канстанціну Яфрэмавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст Героя Савецкага Саюза К. Я. Анохіна ўстаноўлены ў 1968 г.

**264. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 160 жыхароў Зубаўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна.

**в. Кашына, Межаўскі сельсавет**

**265. РАДЗІМА СТАХОВІЧА** Аляксандра Іосіфавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік А. І. Стаховіч нарадзіўся 20.6.1907 г. З сялян. Член КПСС з 1927 г. З 1923 г. на камсамольскай і партыйнай рабоце ў Оршы, Мсціслаўлі, Крупках, Талачыне, Жлобіне. З 1938 г. адказны сакратар часопіса «Полымя рэвалюцыі» ў Мінску. Друкаваўся з 1928 г. Пісаў навелы, нарысы, фельетоны, апавяданні, аповесці, раманы. У 1939 г. выйшаў першы зборнік для дзяцей «Маленькія героі», у 1940 г.— аповесць «Пампей Шчупак», у 1944 г.— «Шумяць лясы», у 1947—49 гг.— раман «Пад мірным небам», у 1952 г.— раман «Шырокія гарызонты». У творах А. І. Стаховіча адлюстраваны калгаснае жыццё, радасць працы савецкіх людзей, партызанская барацьба на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, аднаўленне і развіццё народнай гаспадаркі і культуры ў пасляваенны час. Пераклаў на беларускую мову «Аповесць аб сапраўдным чалавеку» Б. Палявога (1951 г.). Памёр 7.2.1956 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках. На магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**в. Клюкаўка, цэнтр сельсавета**

**266. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, непадалёку ад будынка сельсавета. Пахаваны 98 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941, 1944 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**267. РАДЗІМА ЯРМОЛЕНКІ** Мікалая Фёдаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі хімік, акадэмік АН БССР (1947 г., член-карэспандэнт з 1936 г.), доктар хімічных навук (1935 г.), прафесар (1931 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1949 г.) М. Ф. Ярмоленка нарадзіўся 17.1. 1900 г. З сялян. Член КПСС з 1953 г. У 1924 г. скончыў 2-і Маскоўскі універсітэт. Працаваў у вышэйшых навучальных і навукова-даследчых установах у Мінску, Днепрапятроўску, Кіеве, Валгаградзе, Ташкенце, Маскве (1924—45 гг.). У 1946—53 гг. і 1956—63 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення фізіка-матэматычных і тэхнічных навук АН БССР, у 1963—69 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення хімічных і геалагічных навук АН БССР. У 1965—72 гг. галоўны рэдактар часопіса «Весці Акадэміі навук БССР. Серыя хімічных навук». Аўтар навуковых прац па калоіднай, фізічнай, агульнай, неарганічнай і прыкладной хіміі і фізікахіміі высокапалімераў. Асноўныя працы: «Храматаграфічны адсарбцыйны аналіз і яго развіццё» (1955 г.), «Трыпаліфасфаты і іх выкарыстанне» (разам з Я. А. Проданам, Л. І. Продан, 1969 г.), «Рэгуляванне порыстай структуры вокісных адсарбентаў і каталізатараў» (разам з М. Д. Эфрас, 1971 г.) і інш. У 1960—61 гг. кандыдат у члены ЦК КПБ.

Памёр 10.6.1972 г. Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках. На будынку Інстытута агульнай і неарга-

нічнай хіміі АН БССР устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Весці Акадэміі навук БССР. Сер. хімічных навук, 1972, № 4; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

*Г. І. Дулеба.*

**г. п. Копысь,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**268. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, у парку. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**269. ЗАМЧЫШЧА ПЯТРОЎСКІ ВАЛ, СЕЛІШЧА ПАСАДСКАЕ** (археал.).

**269а.** Замчышча Пятроўскі вал. У гарадскім пасёлку, на левым беразе Дняпра, каля вусця р. Смаркоўка. Памер 80×60 м. Умацавана валам вышынёй 5 м, па перыметры 370 м. Культурны пласт 0,8—2,2 м. Тут знаходзіўся дзядзінец старажытнага горада (11—13 стагоддзі), замак (14—17 стагоддзі) і крэпасць часоў Паўночнай вайны 1700—21 гг. Даследавалі Л. А. Міхайлоўскі (1950 г., 1962 г.), Г. В. Штыхаў (1968—69 гг.), Э. М. Загарульскі (1972 г.). Раскапана 664 м² плошчы. Знойдзены вялікая колькасць адходаў касцярэзнага рамяства, што сведчыць аб існаванні майстэрні ў 12 ст., шахматныя фігуры — ладдзя і пешка. Да рэчаў 12—13 стагоддзяў належаць замкі, ключы, шпоры, наканечнікі стрэл, нажы, нажніцы, сярпы, косы, шкляныя бранзалеты і інш., а таксама бронзавыя наверша булавы і абразок з выявамі князёў Барыса і Глеба, 3 невялікія гліняныя амфары кіеўскага тыпу, каменныя праслíцы, якія выраблялíся на Валыні. Сярод матэрыялаў 15—18 стагоддзяў пераважаюць абломкі посуду, кафля, манеты часоў Вялікага княства Літоўскага.



**269а.** *Замчышча Пятроўскі вал.*




**269а.** *Замчышча Пятроўскі вал. План.*

**269б.** Селішча Пасадскае. Побач з гарадзішчам, амаль у цэнтры гарадскога пасёлка (каля камбіната бытавога абслугоўвання). Абследаваў у 1969 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 1,4 м. Знойдзены кераміка 12—13 стагоддзяў, кавалкі посуду 14—17 стагоддзяў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Археалагічным музеі БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978.

*Г. В. Штыхаў.*

**270. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Ленінская. У студзені 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі сагналі мірных жыхароў г. п. Копысь на заходнюю ўскраіну пасёлка і расстралялі каля 250 чалавек ля загадзя выкапанай ямы. У 1973 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**271. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Ленінская, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1976 г.

У 1941—44 гг. у Копысі дзейнічала камуністычнае падполле. У яго ўваходзіла больш за 40 чалавек, пераважна камуністы і камсамольцы. Складалася з трох груп. Адну ўзначальвалі камсамолкі сёстры А. М. і З. М. Шавень, другую — камуніст Я. А. Точын, трэцюю — камуніст Ц. Р. Марозаў. Падпольшчыкі здабывалі звесткі аб праціўніку і перадавалі іх партызанам, праводзілі дыверсіі: спалілі маслазавод і паліцэйскі ўчастак, сапсавалі тэхніку МТС, знішчылі некалькі правакатараў. Мелі радыёпрыёмнік, запісвалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі іх і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. У 1943 г. фашысты высачылі групы Ц. Р. Марозава і Я. А. Точына, у 1944 г.— групу сясцёр Шавень. Акупанты арыштавалі і закатавалі А. Г. Зубоўскага, Г. А. Ларыёнава, Ц. Р. Марозава, Я. А. Точына, П. І. Чарвякова, А. М. Шавень, З. М. Шавень і многіх іншых удзельнікаў падполля.

*Г. І. Дулеба.*

**272. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ КОПЫСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). Арганізавана ў пачатку 1904 г. Уваходзіла ў склад Палескага камітэта РСДРП. У канцы 1905 г. налічвала 125 чалавек. У асноўным праводзіла тактыку бальшавікоў. Арганізоўвала забастоўкі, дэманстрацыі, сходы, масоўкі рабочых Копысі, сялян і парабкаў навакольных вёсак, распаўсюджвала сярод насельніцтва рэвалюцыйныя брашуры, пракламацыі і лістоўкі. Пад уплывам сацыял-дэмакратаў рабочыя і сяляне актывізавалі барацьбу з капіталістамі і памешчыкамі. Асабліва актыўна дзейнічала ў гады Рэвалюцыі 1905—07 гг. 11.7.1905 г. яна правяла палітычную забастоўку і дэманстрацыю ў Копысі пад лозунгам «Далоў самадзяржаўе!», у якіх удзельнічала каля 1500 чалавек. Разгромлена ў перыяд рэакцыі.

*Літ.:* Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3.— Мн., 1953; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962; 1905 год на Аршаншчыне.— Орша, 1926.

*Г. І. Дулеба.*

**273. ПОМНІК ТРАСЦІНСКАМУ** Мікалаю Мікалаевічу (гіст.). На вул. Ленінскай, у парку.

Герой Савецкага Саюза М. М. Трасцінскі нарадзіўся 14.5.1919 г. ў Ленінградзе ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Хабараўскае пяхотнае вучылішча (1941 г.). У Чырвонай Арміі з 1939 г. На фронце з 1942 г. Камандзір 1152-га стралковага палка 344-й стралковай дывізіі, падпалкоўнік. Здзейсніў подзвіг 27.6.1944 г.: полк пад яго камандаваннем вызваліў г. п. Копысь, пад варожым агнём пераправіўся цераз Дняпро, захапіў плацдарм, адбіў шэраг контратак праціўніка, чым садзейнічаў паспяховай пераправе часцей дывізіі. М. М. Трасцінскі загінуў у баі 16.8.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У 1966 г. на ўшанаванне памяці М. М. Трасцінскага пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*Г. І. Дулеба.*

**274. РАДЗІМА МАКСІМАВА** Ігнацыя (гіст.). Вядомы майстар мастацкай керамікі 17 ст. І. Максімаў нарадзіўся ў Копысі. У 1654 г. (ці 1655) узяты патрыярхам Ніканам у Валдайскі Іверскі манастыр пад Масквой, дзе наладзіў упершыню ў Расіі вытворчасць паліхромнай кафлі. З 1658 г. працаваў з вядомым беларускім цаніннікам Палубесам. З 1666 г. майстар Маскоўскай Аружэйнай палаты. Удзельнічаў у аздабленні Ваксрасенскага сабора Новаіерусалімскага манастыра на р. Істра (у 1660—66 гг.), Пакроўскага сабора ў Ізмайлаве (да 1674 г.), царквы Грыгорыя Неакесарыйскага (да 1672 г.) у Маскве і інш.

**275. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). З даўніх часоў пасёлак вядомы як цэнтр па вырабу мастацкай керамікі з мясцовай ружовай гліны (так званая «копыская кафля»). Выраблялі ўсе віды дэталей для абліцоўкі печаў:

пліткі, вуглы, часткі карніза. У канцы 15—17 ст. пашырана тэракотавая кафля з рэльефным геаметрычным арнаментам, тэракотавая і зялёная паліваная з рэльефным раслінным і геральдычным (выява конніка, арол з гербам Радзівілаў) арнаментамі. У 2-й палавіне 17 ст. копыскія майстры Я. Андрэеў, С. Аляксееў, П. Будкееў, С. Грыгор'еў, В. Дарафееў, І. Максімаў, П. Фёдараў выраблялі і аздаблялі шматколернай паліванай кафляй палацы і храмы ў Рускай дзяржаве.

Найбольш пашырыўся выраб кафлі ў канцы 19 — пачатку 20 ст., калі ў Копысі працавала каля 20 заводаў. Кафля гэтага часу вызначалася рысамі стылю «мадэрн» і мела форму рэльефных паліхромных чатырохвугольных плітак або фасонных дэталей (медальёнаў, карыятыд, ільвіных галоў), якімі абліцоўвалі печы; пераважала ружова-бэзавая, зялёна-блакітная, белая з золатам расфарбоўка, узор — найчасцей кветкі рамонка, сланечніку, паслёну (многія ўзоры выконваліся па малюнках замежных каталогаў). Кафлю вывозілі за межы Беларусі. У савецкі час створаны Копыскі кафляны завод па вырабу кафлі і пліткі. З 1971 г.— кафляны цэх Аршанскага камбіната сілікатных вырабаў. *М. М. Яніцкая.*

**в. Крапіўна, цэнтр сельсавета**

**276. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**277. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Крыжова-купальная са званіцай. Складаецца з размешчаных па падоўжнай восі прамавугольных у плане званіцы, бабінца, цэнтральнага аб'ёму, завершанага купалам (не захаваўся), і пяціграннай апсіды. У кампазіцыі храма дамінавала ярусная званіца (верх не захаваўся).



277. *Прачысценская царква. Від з боку апсіды.*

**в. Кураўшчына, Стайкаўскі сельсавет**

**278. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Партызаны В. А. Гуляй і М. Ісаеў загінулі пры выкананні баявога задання ў кастрычніку 1943 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кучына, Смалянскі сельсавет**

**279. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, паміж 2 ярамі, ва ўрочышчы Гарадзец, на правым беразе р. Адроў. Амаль круглая пляцоўка дыяметрам 55 м па ўсім перыметры абкружана валам. З напольнага боку быў вал вышынёй да 8 м, а таксама роў глыбінёй 0,5 м. Рэшткі 2-га вала вышынёй 0,3 м прасочваюцца на схіле гарадзішча. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт да 0,7 м. Знойдзены абпаленыя камяні і дробныя абломкі ляпных гладкасценных пасудзін.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Ларынаўка, Крапівенскі сельсавет**

**280. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Лісуны, Першамайскі сельсавет**

**281. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Людкаўшчына, Андрэеўшчынскі сельсавет**

**282. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ляўкі, Зубаўскі сельсавет.**

**283. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пляцоўка чатырохвугольная, вышынёй 20 м, памерам 40×30 м. З трох бакоў захаваўся вал вышынёй да 1 м. З паўднёвага боку прасочваецца роў глыбінёй да 1 м. Даследаваў у 1969 г. Г. В. Штыхаў. Раскапана плошча 12 м². Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены ляпны посуд 6—8 стагоддзяў культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і ганчарная кераміка 13—14 стагоддзяў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**284. МЯСЦІНА ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ** (гіст.). За 0,5 м ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Ляўкі. У 1935—41 гг. на дачы жыў і працаваў народны паэт Беларусі Я. Купала. Лірычныя вершы «Сонцу», «Алеся», «Лён», «Сосны», «Госці», «Вечарынка», «Сыны» і інш., напісаныя паэтам у гэты перыяд, складаюць адну з лепшых старонак яго творчасці, так званы Ляўкоўскі цыкл. Яны прысвечаны новай сацыялістычнай рэчаіснасці, калгасным працаўнікам, іх побыту. У пачатку вайны (3 ліпеня 1941 г.) дача згарэла. 4.8. 1945 г. была прынята Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б «Аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі



284. *Будынак філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы.*



285. *Помнік Янку Купалу.*

Янкі Купалы», у якой прадугледжвалася адбудова дачы і стварэнне там філіяла Літаратурнага музея Я. Купалы. У 1962—77 гг. філіял Літаратурнага музея Я. Купалы працаваў на грамадскіх пачатках. З 1977 г. дзяржаўная ўстанова.

У 1962 г. на ўшанаванне памяці паэта на будынку філіяла музея ўстаноўлена мемарыяльная дошка, у 1982 г. ва ўрочышчы Ляўкі — помнік (гл. артыкул № 285 «Помнік Купалу Янку»).

*Літ.:* Літаратурны музей Янкі Купалы.— Мн., 1981; Янка Купала: Зб. матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта.— Мн., 1955; Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**285. ПОМНІК КУПАЛУ** Янку (гіст., маст.). Ва ўрочышчы Ляўкі. Пастаўлены ў 1982 г. да 100-годдзя з дня нараджэння паэта (скульпт. А. Анікейчык; бронза, граніт; вышыня фігуры 2,7 м, пастамента — 0,4 м).

На гранітнай глыбе-пастаменце — нізкая лаўка, на якой скульптурная фігура паэта, паглыбленага ў свае думы. Выразнасць твару, пластыка рук раскрываюць духоўны стан песняра. Стары дуб, пад якім пастаўлены помнік, маляўнічае наваколле ўзмацняюць яго эмацыянальнае ўздзеянне.

**в. Машкова, Пішчалаўскі сельсавет**

**286. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На тэрыторыі школы. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Межава, цэнтр сельсавета**

**287. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 71 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. Сярод іх — адзін з актыўных удзельнікаў партызанскага руху на Віцебшчыне Дзяніс Яўхімавіч Касачоў.

Д. Я. Касачоў нарадзіўся ў 1906 г. ў в. Бортнікі Аршанскага р-на. З сялян. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў памочнікам машыніста ў Аршанскім паравозным дэпо. З 1941 г. камандзір групы, з верасня 1942 г. камандзір атрада «Знішчальнік» 1-й партызанскай брыгады імя К. С. Заслонава. Загінуў у баі 20.11. 1942 г.

На магіле пастаўлены помнікі — скульптура воіна (1966 г.) і абеліск (1973 г.). *Г. І. Дулеба.*

**288. КУРГАН** (археал.). У саўгасным садзе. Дыяметр 8 м, вышыня 1,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў.

**289. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**289а.** Курганны могільнік. За 0,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пойме правага берага р. Скупая (правы прыток р. Аршыца). 2 насыпы вышынёй 0,8 м, шырынёй 4 м, даўжынёй 11 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**289б.** Курган. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Насып даўжынёй 11 м, шырынёй 3 м, вышынёй 0,7 м. Выявіў у 1972 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў.

**290. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**291. РАДЗІМА АЛЬХОЎСКАГА** Мікалая Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. І. Альхоўскі нарадзіўся 27.9.1909 г. З сялян. Член КПСС з 1932 г. З 1927 г. служыў у Чырвонай Арміі. Скончыў Ваенна-паветраную акадэмію імя М. Я. Жукоўскага (1936 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лютага 1943 г., маёр, камандзір авіяэскадрыллі. Ваяваў на Бранскім, Варонежскім, Сцяпным, 2-м Украінскім франтах. Удзельнічаў у Курскай бітве, у баях за вызваленне Украіны, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі. М. І. Альхоўскі зрабіў 128 баявых вылетаў. Лятаў у тыл праціўніка на разведку яго ваенных аб'ектаў і войск. Удзельнічаў у 34 паветраных баях, асабіста збіў 19 варожых самалётаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.2.1944 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. З 1953 г. ў запасе. Жыў у Маскве. Памёр 26.8.1978 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**292. СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтральнай частцы вёскі. Займае плошчу каля 12 га. Захаваліся частка дома, сад і парк. Дом размешчаны на заходнім беразе яра, паблізу вуліцы. Цяпер у ім упраўленне эксперыментальнай базы «Межава» і клуб. Перад фасадам будынка партэр і пладовы сад, абнесены ахоўнымі пасадкамі і алеямі.

Сядзібны дом пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы ў стылі «мадэрн». У Вялікую Айчынную вайну яго ўсходняя палавіна была разбурана, у 1950 г. адноўлена з нязначнымі перабудовамі і нанова дэкарыравана ў стылі класіцызму. Будынак мае складаную канфігурацыю плана і маляўнічую асіметрычную кампаноўку аб'ёмаў. Уяўляе сабой двухпавярховы аб'ём з паўвальмавым мансардавым дахам і невялікімі рознымі па форме прыбудовамі. У бакавой прамавугольнай прыбудове зроблены


292. *Сядзібны дом.*


292. *Сядзібны дом. Бакавы фасад.*


292. *Сядзіба. Куток парку.*

ўваход, які вядзе ў вестыбюль з лесвіцай на другі паверх. Свабодную кампаноўку аб'ёмаў падкрэслівае асіметрычнае размяшчэнне аконных праёмаў, балконаў, комінаў, выразнасць пластыкі — кантрастам белых атынкаваных сцен чырвонага чарапічнага даху і цёмных пераплётаў акон.

Парк разбіты ў 1901 г. з выкарыстаннем існуючых пасадак. Адносіцца да тыпу штучна створаных пейзажных паркаў. Размешчаны на перасечаным рэльефе, падзеленым ярам з ручаём, найбольш уцалелая частка парку займае высокі мыс, створаны выгінам р. Аршыцы і ярам. Захаваліся маляўніча пераплеценыя сеткі дарожак. Насаджэнні чаргуюцца з невялікімі палянкамі. У цэнтральнай частцы парку насыпаны курган з пляцоўкай для музыкантаў, каля падножжа кургана была танцавальная пляцоўка. У кампазіцыях вялікіх, сярэдніх і малых груп дрэў выкарыстаны хвойныя пароды: хвоі веймутава, Банкса, Мурэя, кедравая еўрапейская і звычайная, лістоўніца еўрапейская, піхта сібірская, дугласія шэрая.

Сядзіба — помнік архітэктуры стылю «мадэрн» і садова-паркавага мастацтва.
*С. Г. Багласаў.*

**в. Міцькаўшчына, Андрэеўшчынскі сельсавет**

**293. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**294. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Івanавічу (гіст.). Побач з Домам культуры. Бюст В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Пагост, Задроўеўскі сельсавет**

**295. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**296. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, паміж 2 ярамі, ва ўрочышчы Тарэлка, за 200 м ад левага берага р. Адроў. Узвышаецца над узроўнем ракі да 20 м. Пляцоўка памерам 70×45 м апускаецца ў паўднёвым і паўднёва-ўсходнім напрамках. З напольнага (паўночна-заходняга) боку ёсць роў глыбінёй да 3 м і вал вышынёй да 2,5 м. З паўднёва-ўсходняга боку пляцоўка была ўмацавана ровам глыбінёй да 3 м, шырынёй каля 10. Выявіў у 1928—30 гг. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт да 0,7 м. У шурфе памерам 1×1 м, закладзеным у паўночна-ўсходняй частцы гарадзішча, знойдзены абпаленыя камяні, абломкі ляпных гладкасценных пасудзін.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*Л. Д. Побаль.*

**297. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**297а.** Курганны могільнік-1. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Адроў. 2 насыпы вы-


296. *Гарадзішча. План.*

шынёй 3,5 і 4,5 м, дыяметрам 15 і 20 м.

**297б.** Курганны могільнік-2. За 1,5—2 км на поўдзень ад вёскі, каля чыгуначнай станцыі. 3 насыпы дыяметрам 8, 10, 13 м, вышынёй 0,7, 2,5, 3 м. Выявіў і абследаваў могільнікі ў 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Панізоўе, цэнтр сельсавета**

**298. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**299. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад могілак, у калгасным садзе. 2 насыпы вышынёй 1,8 і 2,5 м, дыяметрам 12 і 18 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Папоўка, Пішчалаўскі сельсавет**

**300. КУРГАН** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на беразе р. Пачапіца. Вышыня 4 м, дыяметр 20 м. Выявіў у 1981 г. М. І. Лашанкоў.

**в. Пішчалава, цэнтр сельсавета**

**301. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 97 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. На магіле ў 1975 г. пастаўлена стэла з выявай воіна. На стэле ўвекавечаны таксама імёны 182 жыхароў сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**302. МЕСЦА, ДЗЕ БЫЎ ДАДЗЕНЫ ПЕРШЫ ЗАЛП РЭАКТЫЎНЫХ МІНАМЁТАЎ «КАЦЮША»** (гіст.). На ўзлеску, за 1 км на ўсход ад вёскі. 14.7.1941 г. ў 15 гадзін 15 мінут па нямецка-фашысцкіх захопніках быў дадзены першы залп рэактыўных мінамётаў «Кацюша». У 1966 г. на гэтым месцы пастаўлены абеліск, увенчаны сімвалічнай выявай мінамётаў «Кацюша».

**в. Пугляі, Барздоўскі сельсавет**

**303. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



**304а.** *Гарадзішча.*

**в. Рагозіна, Задроўеўскі сельсавет**

**304. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**304а.** Гарадзішча. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Авальная пляцоўка памерам 60×40 м узвышаецца над навакольнай мясцовасцю на 15—18 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1926—29 гг. Д. З. Васілеўскі і І. А. Сербаў, у 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. У паўднёва-ўсходняй частцы знойдзены 2 каменныя крыжы, трэці крыж — за 100 м ад усходняга боку гарадзішча. У траншэі ваеннага часу прасочваецца культурны пласт да 1 м. Выяўлена ляпная кераміка мілаградскай, днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, знойдзена льячка.

**304б.** Селішча. Каля гарадзішча. Плошча 0,8 га. Абследавалі ў 1926—29 гг. Д. З. Васілеўскі і І. А. Сербаў, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт змяшчае фрагменты ганчарнай керамікі.

*Літ.:* Васілеўскі Д. З матэрыялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі.— Наш край, 1926, № 6—7; Сербаў І. Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. Д. Побаль.*

**в. Роскі Сялец, Задроўеўскі сельсавет**

**305. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**306. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў гады Грамадзянскай вайны. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**307. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МІТУ** Сяргею Міхайлавічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза С. М. Міта, які загінуў у баі за пераправу цераз р. Адроў. Гл. таксама артыкул № 316 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**в. Рэпухава, Смалянскі сельсавет**

**308. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, на беразе безыменнага ручая (правы прыток р. Дзернаўка). Узвышаецца над узроўнем ракі да 18 м. Пляцоўка амаль круглай формы памерам 65×60 м. Па перыметры абкружана валам вышынёй да 5 м. У асобных месцах на схілах прасочваюцца рэшткі другога вала. Выявіў і абследаваў у 1971 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт у зачыстках 0,25 м. Раскопкі не праводзіліся.

**309. КУРГАН** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі. Дыяметр 10 м, вышыня 2 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў.

**в. Сафіёўка, Клюкаўскі сельсавет**

**310. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Каля шашы Орша — Віцебск, у цэнтры вёскі. У Вялікую Айчынную вайну ў 1942 г. ў лесе каля вёскі дыслацыраваліся партызанскія брыгады 1-я імя К. С. Заслонава і Багушэўская.

1-я партызанская брыгада імя К. С. Заслонава створана ў ліпені 1942 г. Дзейнічала супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Аршанскага, Сенненскага, Багушэўскага, Талачынскага і Чашніцкага р-наў Віцебскай і Халопеніцкага р-на Мінскай абласцей. Камандзіры К. С. Заслонаў (ліпень — лістапад 1942 г.), Л. І. Сяліцкі (лістапад 1942 г.— красавік 1944 г.), Б. К. Іваноў (красавік — чэрвень 1944 г.); камісары Л. І. Сяліцкі (ліпень 1942 г.— красавік 1943 г.), М. Ц. Любімцаў (красавік — чэрвень 1943 г.), Б. К. Іваноў (чэрвень 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Партызаны разбуралі варожыя ваенныя ўмацаванні, рабілі дыверсіі на чыгунках Орша — Віцебск, Орша — Смаленск, Орша — Лепель, Віцебск — Полацк, на шашэйных і грунтавых дарогах, вялі шматлікія баі з карнікамі. У аперацыі «Рэйкавая вайна» на чыгунцы Віцебск — Орша яны падарвалі больш за 1 тыс. рэек. У чэрвені 1944 г. народныя мсціўцы разам з Чырвонай Арміяй удзельнічалі ў баях за вызваленне населеных пунктаў Віцебскай вобл. 28.6.1944 г. брыгада ў складзе 13 атрадаў (1826 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.



**308.** *Гарадзішча. План.*

**Багушэўская партызанская брыгада** створана ў чэрвені 1942 г. (да жніўня 1942 г. называлася партызанская брыгада В. У. Бойкі). Дзейнічала супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Аршанскага, Багушэўскага і Гарадоцкага р-наў. Камандзіры В. У. Бойка (чэрвень — жнівень 1942 г.), П. І. Кірылаў (жнівень — лістапад 1942 г.), М. П. Крэсік (снежань 1942 г.— сакавік 1943 г.); камісары В. А. Манохін (чэрвень — жнівень 1942 г.), С. А. Дзятлоўскі (жнівень — кастрычнік 1942 г.), А. К. Стэльмах (снежань 1942 г.— сакавік 1943 г.). Партызаны наносілі ўдары па варожых камунікацыях: на чыгунках Віцебск — Орша, Орша — Смаленск, на шашэйных і грунтавых дарогах Багушэўск — Віцебск, Багушэўск — Смаляны, Багушэўск — Сянно і інш. Разграмілі апорныя пункты ворага ў в. Буда і Клюкаўка Багушэўскага р-на. 10.3.1943 г. брыгада выйшла ў савецкі тыл і там была расфарміравана (4 атрады, 125 партызан).

У 1962 г. ў памяць аб дыслакацыі і баявой дзейнасці партызанскіх брыгад 1-й імя К. С. Заслонава і Багушэўскай пастаўлены помнік — скульптура партызана.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1967—78; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**311. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе каля воз. Ардышэва. Пастаўлены ў 1972 г. ў памяць аб стварэнні ў ліпені 1942 г. і баявых дзеяннях 1-й партызанскай брыгады імя К. С. Заслонава.

**в. Свісцёлкі, Панізоўскі сельсавет**

**312. РАДЗІМА ПУСТЭЛЬНІКАВА** Сямёна Сільвестравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. С. Пустэльнікаў нарадзіўся 10.2.1921 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Пасля заканчэння ў 1939 г. сямігадовай школы працаваў слесарам у чыгуначным дэпо станцыі Орша. З 1940 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Удзельнік баёў пад Ленінградам. З восені 1944 г. служыў на адной з застаў на заходняй граніцы. Затрымаў 20 дыверсантаў. Раніцай 5.2.1945 г. застава была паднята па баявой трывозе. 25 дыверсантаў спрабавалі перайсці граніцу. Абставіны скаліся так, што яфрэйтару С. С. Пустэльнікаву давялося весці бой аднаму. Ён змагаўся да апошняга патрона. Падарваў гранатай сябе і ворагаў, якія яго акружылі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.3.1945 г. Імем героя названы вуліцы ў Оршы і Львове, яго імя прысвоена сярэдняй школе № 5 у Оршы, дзе ён вучыўся і на будынку якой устаноўлена мемарыяльная дошка, пагранзаставе на заходняй граніцы, у спісы якой ён занесены навечна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Сімахі, Клюкаўскі сельсавет**

**313. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**313а.** Гарадзішча. На ўскраіне вёскі, на беразе Дзевенскага возера, ва ўрочышчы Царкавішча. Пляцоўка дыяметрам каля 20 м, вышыня над узроўнем возера 20 м. Адкрыў і абследаваў у 1971 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. У абрыве схілу пляцоўкі знойдзены 2 круглыя абломкі ляпных гладкасценных пасудзін. Раскопкі не праводзіліся.

**313б.** Курганны могільнік. Прымыкае да ўсходняга краю гарадзішча. 10 курганоў, 2 з якіх размяшчаюцца на лузе, за 100—150 м на ўсход ад гарадзішча, за 40—50 м ад берага Дзевенскага возера. Вышыня да 1 м, дыяметр 5—6 м. 2 курганы вышынёй 0,7 м, дыяметрам 9—10 м. Абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**в. Слабада, Пішчалаўскі сельсавет**

**314. КУРГАН** (археал.). За 2,5 км на захад ад вёскі. Дыяметр 12 м, вышыня 2 м. Зарос кустамі. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў.

**в. Смаляны, цэнтр сельсавета**

**315. АЛЯКСЕЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Узведзена ў 1864 г. з цэглы. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём з трохграннай апсідай завяршаецца купалам на васьмігранным светлавым барабане. Галоўны фасад вылучаецца двух'ярусная шатровай вежай-званіцай. Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**316. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 42 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод іх — Герой Савецкага Саюза Сяргей Міхайлавіч Міт.



**315.** *Аляксееўская царква.*



**316.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

С. М. Міт нарадзіўся 9.6.1909 г. ў в. Чарняцова Мошанскага р-на Наўгародскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1934 г. З 1941 г. на Ленінградскім, Сталінградскім і 3-м Беларускім франтах. Гвардыі ст. лейтэнант С. М. Міт вызначыўся ў бai за пераправу цераз р. Адроў у Аршанскім р-не. 26.6.1944 г. ўзвод танкаў пад яго камандаваннем прарваў абарону ворага, знішчыў варожую калону, 2 працітанкавыя гарматы. Каля маста танк быў падбіты і загарэўся. Каб не перашкаджаць руху ўзвода, С. М. Міт прыказаў адвесці палаючую машыну ўбок, дзе яна ўзарвалася. Цаной свайго жыцця экіпаж забяспечыў паспяховае наступленне. С. М. Міту 24.3.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. На ўшанаванне памяці С. М. Міта на будынку школы ў в. Роскі Сялец устаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імем названа алея ў мемарыяльным парку герояў у Оршы.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**317. ДАМІНІКАНСКІ КАСЦЕЛ** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з цэглы пры манастыры дамініканцаў. У 1899 г. пад кіраўніцтвам архітэктара Даўкшы праведзены рамонт касцёла і манастырскага будынку. Па яго малюнках зроблены многія дэталі інтэр'ера касцёла — алтары, вялікая люстра і інш.

Касцёл трохнефавы, двухвежавы з паўкруглай апсідай. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Двух'ярусная трохвосевая кампазіцыя галоўнага фасада падкрэслена пілястрамі, якія разбіваюць яго на 3 злёгку ўвагнутыя паверхні. Невысокія вежачкі аб'ядноўваюцца на ўзроўні карнізнай цягі развітым франтонам. Адсутнасць прамежкавага гарызантальнага члянення на галоўным фасадзе надае масіўнасць і манументальнасць усяму збудаванню. Трансепт вылучаецца толькі на ўзроўні другога яруса — у першым ярусе ён выканаваны ў адным аб'ёме з бакавымі капэламі, якія пераходзяць у аднаярусныя сакрысціі. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера і алтароў не захавалася.



317. *Дамініканскі касцел.*



317. *Дамініканскі касцёл. Галоўны фасад. Фрагмент.*

Мураваны аднапавярховы манастырскі будынак калідорнага тыпу размешчаны паралельна паўночнаму фасаду касцёла. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем, абапал яго келлі і гаспадарчыя памяшканні.

Помнік — прыклад архітэктуры позняга барока.

*Літ.:* Историко-юридические материалы... В. 28.— Витебск, 1900; Толстой Д. А. Римский католицизм в России. Т. 2.— СПб., 1876. *Р. В. Баравы.*

**318. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, з левага боку дарогі Смаляны — Роскі Сялец. У красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі выгналі за вёску каля 600 жыхароў в. Смаляны і расстралялі. У 1964 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**319. МАГІЛА ЗАНА** Тамаша (гіст.). На старых каталіцкіх могілках.

Польскі паэт-рамантык Т. Зан нарадзіўся 21.12.1796 г. ў маёнтку Мясота Вілейскага павета (цяпер вёска Мясата Маладзечанскага р-на) у шляхецкай сям'і. Скончыў Мінскую гімназію (1815 г.), Віленскі універсітэт (1820 г.). Як адзін з арганізатараў і кіраўнікоў тайных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў у 1823 г. быў арыштаваны і ў 1824 г. сасланы ў Арэнбург. Арганізаваў там прыродазнаўчы музей, вёў навуковыя даследаванні. У 1841 г. вярнуўся ў Беларусь, набыў фальварак Кахачын каля Оршы. Збіраў мінералы, вывучаў флору, цікавіўся беларускім фальклорам. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1817 г. Пісаў балады, вершы, камедыі. З яго дзённіка «З ссылкі», што дайшоў да нас, відаць, які ўплыў на яго творчасць аказвала сяброўства з А. Міцкевічам. У камедыі «Грэцкія піражкі» (1817 г.) адлюстраваны беларускія вясельныя і купальскія абрады, народныя вераванні. У мове шмат беларускай лексікі, прыказак і фразеалагізмаў. Аўтар паэм «Мёд», «Кошачка», «Табакерка», балад «Твардоўскі», «Бекіш», «Свіцязь-возера», «Цыганка» і іншых твораў. У творчасці Т. Зана, тэматычна звязанай з Беларуссю, адчувальны ўплыў беларускага фальклору і этнаграфіі. Памёр 19.7.1855 г.

У 1850—60-я гады на магіле ўстаноўлена мемарыяльная пліта. Захаваўся малюнак Н. Орды «Помнік Тамаша Зана», зроблены ў 1877 г. ў Смалянах. У в. Мясата на ўшанаванне памяці Т. Зана на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба, А. І. Мальдзіс.*

**320. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1977.

У в. Смаляны ў час нямецка-фашысцкай акупацыі (1941—44 гг.) дзейнічала падпольная група. У яе ўваходзілі больш за 10 чалавек. Арганізатар і кіраўнік камуніст Л. І. Красноўскі. Члены: У. М. Аўтухоў, Л. П. Дзятлоўскі, З. І. Красноўская, Ф. І. Кунцэвіч і інш. Падпольшчыкі рабілі дыверсіі на варожых камунікацыях, збіралі для Чырвонай Арміі і партызан звесткі аб праціўніку, распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, вялі вусную прапаганду. Гітлераўцы напалі на след групы, схапілі і загубілі У. М. Аўтухова, Л. П. Дзятлоўскага, Л. І. Красноўскага, Ф. І. Кунцэвіч і некаторых іншых яе членаў. *Г. І. Дулеба.*

**321. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**322. РУІНЫ ЗАМКА «БЕЛЫ КОВЕЛЬ»** («Малы Ковель»; архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Дзярноўка. Пабудаваны ў 1-й чвэрці 17 ст. князем С. Сангушкам-Ковельскім. Змураваны з буйной цэглы і невялікіх камянёў. Моцна пашкоджаны ў час Паўночнай вайны ў 1708 г. Канчаткова разбураны ў 1-й палавіне 19 ст. Захаваліся рэшткі вежы.



322. *Руіны замка «Белы Ковель».*




322. *Замак «Белы Ковель». Схема планіроўкі.*



322. *Фрагмент дэкору замка «Белы Ковель».*

Здзірванелая прамавугольная ў плане пляцоўка замка (100×200 м) толькі на 40—60 см узвышаецца над балоцістай поймай. Магчыма, у 17—18 стагоддзях замак быў абкружаны штучным вадаёмам. Гэта пацвярджаецца яго размяшчэннем у балоцістай нізіне і адсутнасцю слядоў валоў і асабліва бастыёнаў. Прыкладна ў цэнтры прамавугольніка на невысокім узгорку знаходзяцца руіны (да 20 м вышынёй) пяціграннага вежавага выступу. Яго замкнуты аб'ём ствараецца сцяной 2—3-павярховага корпуса (магчыма, галоўнага будынка замка). З вежы быў выхад ва ўнутраны двор замка, абмежаваны трохпавярховымі карпусамі з квадратнымі вежамі па вуглах, высунутымі за лінію сцен, і ўязной брамай, размешчанай з паўночнага ўсходу. Муроўка замка па тыпу найбольш блізкая да так званай галандскай. У муроўцы трапляюцца сярэдніх памераў камяні, падчас па некалькі ў рад. Таўшчыня сцен ад 120 да 170 см. Памеры цэглы: 8×13×29 см.

Уцалелыя дэталі вонкавага дэкору на вежы — ляпны картуш і абрамленні аконных праёмаў — пераклікаюцца з узорамі дэкору ў архітэктуры 1-й палавіны 16 ст. Захаваліся таксама фрагменты інтэр'ера — сляды вітай лесвіцы, якая ішла па ўнутраным перыметры вежы, вялікая колькасць рознага памеру ніш па ўнутранай паверхні той жа вежы, арачны пераход з галоўнага корпуса ў вежу, дэталі камінаў. Замак быў афарбаваны ў белы колер. У пачатку 17 ст. сцены памяшканняў размаляваны фрэскамі.

Замак быў адным з буйнейшых палацава-замкавых ансамбляў на тэрыторыі Беларусі ў пачатку 17 ст.

*Літ.:* Историко-юридические материалы... В. 22.— Витебск, 1891; Баравы Р. В. Да гісторыі замка ў Смалянах.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971, № 3; Чантурыя Ю. У. Акварэлі Іосіфа Пешкі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 4. *Р. В. Баравы.*

**323. СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). На поўнач вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 18 ст. Складаецца з 2 частак: ніжняй мураванай і верхняй драўлянай. Царква — крыжова-купальны будынак. Яе высокі манументальны аб'ём утварае ў плане крыж, да яго з паўднёвага і паўночнага ўсходу прырублены чацверыкі вежаў. Пабудову з трох бакоў абкружае нізкая глухая галерэя. Цэнтральнае сяродкрыжжа ўвенчана масіўным шлемападобным купалам на нізкім чацверыковым барабане, які падтрымліваецца аркай і 2 слупамі ў інтэр'еры. Помнік мае трох'ярусны галоўны фасад. Апошні яго ярус складаюць шатровыя вежы «васьмярык на чацверыку». Бакавыя рамёны «крыжа» завяршаюцца трохвугольнымі франтонамі. Вокны ў сярэднім ярусе аб'ёму прамавугольныя і, за выключэннем алтарных, спарапыя, а ў барабане — паўцыркульныя і лучковыя.



323. *Спаса-Праабражэнская царква. Размалёўка купала.*

У інтэр'еры галоўнае памяшканне вылучаецца па вышыні купалам на барабане, з дэкаратыўнай балюстрадай. Ва ўсходнім рамяне «крыжа», над уваходам, размешчаны хоры. Алтар аддзяляе ярусны разны іканастас.

На купале — размалёўкі 18 ст., якія вызначаюцца маляўнічасцю каляровай гамы і манументальнасцю кампа-



323. *Спаса-Праабражэнская царква.*

зіцыі (зроблены тэмперай па дошках). Намаляваны дванаццаць апосталаў на ўвесь рост. Велічныя постаці на блакітным фоне ў адзеннях вохрыста-чырвонага, балотна-зялёнага, залаціста-карычневага колераў запаўняюць амаль усе роўніцы граней купала.

Царква — прыклад перапрацоўкі форм мураванай архітэктуры стылю барока ў драўляным дойлідстве Беларусі 18 ст. *Э. І. Вецер, Ю. А. Якімовіч.*

**в. Смётанка, Зубаўскі сельсавет**

**324. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН 1905 г.** (гіст.). У красавіку 1905 г. амаль адначасова сяляне в. Смётанка і Ляўкі Горацкага, Вусце і Бабінічы Аршанскага паветаў спынілі працу ў маёнтках і прад'явілі памешчыкам свае патрабаванні: скарачэнне рабочага дня, павышэнне заработнай платы, ліквідацыя штрафаў, завядзенне разліковых кніжак, паляпшэнне ўмоў працы і быту, прадастаўленне пашы і інш. Забастоўку ўзначальвалі рабочыя Копысі, якія вялі агітацыйную і арганізатарскую работу сярод сялян Горацкага і Аршанскага паветаў. Рабочыя-агітатары дапамаглі сельскім рабочым і падзёншчыкам праводзіць забастоўку арганізавана.

Для падаўлення рэвалюцыйнага руху ў Смётанку і суседнія населеныя пункты былі накіраваны 2 роты салдат. Многія ўдзельнікі забастоўкі былі арыштаваны і аддадзены пад суд. Аднак сяляне і батракі не адмовіліся ад сваіх патрабаванняў. Калі ў пачатку чэрвеня 1905 г. земскі начальнік выклікаў на суд 18 сялян з вёсак Ляўкі і Смётанка, якія прыцягваліся да адказнасці, да яго прыйшлі ўсе сяляне гэтых вёсак. У двары суда адбыўся мітынг, у час якога прысутныя крычалі: «Далоў памешчыцкі суд!». Памешчыкі вымушаны былі пайсці на ўступкі — павялічыць заработную плату батракам і падзёншчыкам, зменшыць арэндную плату за пашу.

*Літ.:* Шабуня К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг.— Мн., 1962; 1905 год на Аршаншчыне.— Орша, 1926. *Г. І. Дулеба.*

**в. Стайкі, цэнтр сельсавета**

**325. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**326. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 16 мірных жыхароў, расстраляных у лютым 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.



325. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**327. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. Партызан (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. пры выкананні баявога задання. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стар, Забалацкі сельсавет**

**328. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Новая зара». На ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены 2 стэлы.

**в. Старое Тарчылава, Вусценскі сельсавет**

**329. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На школьным двары. Пахаваны 17 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тумінічы, Першамайскі сельсавет**

**330. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**330а.** Курганны могільнік-1. За 0,5 км на захад ад вёскі. 2 насыпы вышынёй 2 і 2,5 м, дыяметрам 10 і 15 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**330б.** Курганны могільнік-2. За 5 км ад могільніка-1, па дарозе на в. Вярхоўе. 2 насыпы вышынёй 1,5 і 2 м, адзін дыяметрам 12 м, другі авальнай формы, памерам 10×7,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Халмы, Арэхаўскі пасялковы Савет**

**331. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўзвышшы, за 0,5 км ад урочышча Юрцюсава. Памеры 50×50 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. Л. Д. Побаль. У 1981 г. абследаваў М. І. Лашанкоў. Сабрана ляпная гладкасценная кераміка. Помнік датуецца 6—8 стагоддзямі і адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Чаркасова, Межаўскі сельсавет**

**332. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Пачаніцы, ва ўрочышчы Замчышча (Гарадок). Пляцоўка памерам 45×40 м узвышаецца на 10,5 м над забалочанай мясцовасцю. Па ўсім перыметры была ўмацавана валам (знешняя вышыня 4,5 м, унутраная — 2,3 м). З напольнага боку прасочваецца другі вал. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. С. А. Дубінскі (ускрыта 65 м² плошчы), у 1971 г. Л. Д. Побаль. Каля 40 % знойдзенай керамікі была ляпной, 60 % — ганчарнай. Ляпная кераміка належала днепра-дзвінскай і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны культурам. У раннім сярэднявеччы гарадзішча належала крывічам.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай...— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. Д. Побаль.*

**333. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. 80 насыпаў вышынёй 0,5—5 м, дыяметрам 5—20 м. Даследавалі ў 1922 г. А. Л. Аніхоўскі і ў 1928 г. А. М. Ляўданскі, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскапаны 22 пахаванні. Знойдзены крэсіва, нажы, серп, скроневыя кольцы, спражкі, званочкі, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, пярсцёнкі, ганчарныя гаршкі з клеймамі на дне. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Належаў крывічам. Датуецца 11 — пачаткам 12 ст.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Курганны могільнік каля в. Чаркасова Аршанскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Шыбекі, Смалянскі сельсавет**

**334. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



332. *Гарадзішча.*

**в. Юрцава, Межаўскі сельсавет**

**335. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля шашы Мінск — Масква, за 400 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны 29 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1955 годзе на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**336. ЗАМЧЫШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Скупея, за 100 м ад шашы Мінск — Масква. Захаваўся роў глыбінёй 15—20 м. Дыяметр умацавання каля 400 м. Абследавалі ў 1971 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**337. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1976 г.

У 1941—42 гг. у вёсцы дзейнічалі падпольныя партыйная і камсамольская арганізацыі, якімі кіравалі камуніст І. Ф. Сіўцоў і камсамолец М. С. Сіўцоў. Падполле аб'ядноўвала каля 30 чалавек. Патрыёты вялі прапаганду сярод насельніцтва, здабывалі зброю, медыкаменты для партызан, рабілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка. Па заданню камандавання часцей Чырвонай Арміі і партызан збіралі разведданыя аб ворагу. У барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў загінулі А. П. Жураўлёў, М. П. Жураўлёў, С. У. Лісоўскі, Л. Н. Пахоменка, М. С. Сіўцоў і іншыя.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Якаўлевічы, цэнтр сельсавета**

**338. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**339. МАГІЛА ПЕТРАЧЭНКІ** Івана Карнеевіча (гіст.). На могілках.

Адзін з актыўных удзельнікаў Аршанскага камуністычнага падполля І. К. Петрачэнка нарадзіўся ў 1908 г. ў в. Руміна Аршанскага р-на. З сялян. Член КПСС. Перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў электратэхнікам на Аршанскім ільнокамбінаце. У пачатку вайны быў пакінуты для арганізацыі падпольнай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Член падполля з ліпеня 1941 г., кіраўнік разведвальна-дыверсійнай групы, якая дзейнічала ў Оршы. Загінуў у баі ў кастрычніку 1943 г. пры выкананні баявога задання.

У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *Г. І. Дулеба.*

**340. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**341. РАДЗІМА СЯРЖАНТАВА** Івана Якаўлевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Я. Сяржантаў нарадзіўся 17.2.1919 г. ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС з 1943 г. Працаваў у мясцовым калгасе «Камунар», рабочым на Аршанскім ільнокамбінаце. У 1938 г. скончыў Аршанскі аэраклуб, у 1941 г. Чугуеўскую ваенную авіяцыйную школу. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёва-Заходнім фронце. Лётчык-знішчальнік, лейтэнант І. Я. Сяржантаў зрабіў 258 баявых вылетаў, удзельнічаў у 85 паветраных баях, у якіх знішчыў шмат тэхнікі і жывой сілы праціўніка. Асабіста збіў 13 самалётаў ворага і 8 самалётаў у групавых баях. Памёр ад ран 29.4.1943 г. Пахаваны ў Растове-на-Доне. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.8.1943 г. Яго імем названы вуліцы ў Оршы і Растове-на-Доне.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*



342. *Гарадзішча.*

**в. Яромкавічы, Вусценскі сельсавет**

**342. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, паміж невялікімі ярамі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 52×60 м узвышаецца на 10 м. З боку поля была ўмацавана 2 валамі. Выявіў у 1971 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзена кераміка мілаградскай і днепра-дзвінскай культур і перыяду Кіеўскай Русі (9—11 стагоддзі).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*




# БЕШАНКОВІЦКІ РАЁН

Ула
Вядзерава
Любічы
Крывое Сяло
Астроўна
Будзілава
Сокарава
Стрыжава
Пяцігорск
Ржаўка
Пліса
БЕШАНКОВІЧЫ
Соржыца
Жавуры
Чурылава
Свяча
Камоскі
Забелле
Двор Нізгалава
Верхняе Крывіна
Ганкавічы
Бачэйкава
Паліцы
Рубеж
Вярхоўе
Луг
Стар

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг.,Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## III. БЕШАНКОВІЧЫ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Прыстань на левым беразе р. Заходняя Дзвіна. За 51 км на захад ад Віцебска, 38 км ад чыгуначнай станцыі Чашнікі на лініі Орша — Лепель. Вузел аўтамабільных дарог на Віцебск, Шуміліна, Улу, Лепель, Чашнікі, Сянно.

Размешчаны на раўніннай мясцовасці, выцягнутай з усходу на захад уздоўж ракі. Тэрыторыя гарадскога пасёлка падзяляецца ручаём на 2 часткі.

Упершыню ўпамінаюцца пад 1460 г. як паселішча Вялікага княства Літоўскага. З 1490 г. належалі князям Друцкім — Сакалінскім, з 1605 г.— Язерскім, з 1615 г.— аршанскаму маршалку М. Адравонжу, з 1630 г.— Сапегам, з 1656 г.— Нарушэвічам, з канца 17 ст.— Агінскім, з 1783 г.— Храптовічам. З 1504 г. ўваходзілі ў Полацкае ваяводства. У 1634 г. мястэчка атрымала магдэбургскае права. У Паўночную вайну 1700—21 гг. у Бешанковічах у 1708 г. размяшчаліся рускія войскі на чале з Пятром I, адбыўся руска-літоўскі ваенны савет, у гонар чаго К. Агінскі пабудаваў тут драўляную царкву. З 2-й паловы 18 ст. горад, гандлёвы цэнтр. Адбываліся 2 кірмашы на год (адзін чатырохтыднёвы) і адзін гандлёвы дзень у тыдзень. У 1762 г. мяшчане вызваліліся значнай часткі паншчыны на карысць уладальніка горада. У 1775 г. было 396 драўляных дамоў і некалькі дзесяткаў хат. Больш за чвэрць мяшчан займалася толькі сельскай гаспадаркай. З 1793 г. Бешанковічы ў складзе Расіі, мястэчка Лепельскага павета Полацкай, з 1802 г. Віцебскай губерняў, у 1796—1802 гг. уваходзілі ў Беларускую губерню. У 1812 г. ў Бешанковічах размяшчаўся напалеонаўскі гарнізон. 20.10.1812 г. рускія войскі пад камандаваннем П. Х. Вітгенштэйна вызвалілі мястэчка. У 19 ст. развіваліся саматужныя (мылаварны, ганчарны, вытворчасць гонты) і рачны промыслы, праводзіўся вялікі Петрапаўлаўскі кірмаш (канец чэрвеня — ліпень). У 1868 г.— 3205 жыхароў, 392 жылыя драўляныя будынкі, піваварнае і 2 гарбарныя прадпрыемствы, 115 крам. У канцы 19 ст. налічвалася 4,4 тыс. жыхароў, 1099 будынкаў, у т. л. 509 жылых, 2 народныя і пачатковае вучылішчы, царкоўнапрыходская школа, паштовая станцыя, тэлеграф, аптэка. У 1907—10 гг. у Бешанковічах дзейнічала група Віцебскай арганізацыі РСДРП. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — верасні 1918 г. ў сувязі з акупацыяй нямецкімі войскамі Лепеля Бешанковічы часова — цэнтр Лепельскага павета. З 1924 г. цэнтр раёна, з 1938 г. гарадскі пасёлак.



III. *Плошча Леніна.*

У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, вызвалены 25.6. 1944 г. войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (верасень 1942 г.— май 1944 г.) і ЛКСМБ (ліпень — верасень 1941 г., жнівень 1942 г.— чэрвень 1944 г.), выдавалася газета «Сталінец» (1943—44 гг.).

У 19 ст. Бешанковічы мелі развітую сетку вуліц, гандлёвую плошчу з ратушай, касцёлам і царквой. Жылая забудова размяшчалася ва ўсходняй частцы мястэчка, уздоўж дарогі Віцебск — Лепель. Тут М. К. Агінскі пабудаваў палац (18 ст.), разбіў парк з сажалкамі. У Айчынную вайну 1812 г. Бешанковічы моцна разбураны. Пасля 1812 г. некалькі вуліц забрукавалі. На гандлёвай плошчы пабудаваны гасціны двор з 60 крамамі, царква (1870 г.), складскія памяшканні.

Гарадскі пасёлак развіваецца ў паўднёвым напрамку. На плошчы Леніна ўзведзены будынкі райвыканкома, райкома КПБ, пошты-тэлеграфа, камбіната бытавога абслугоўвання, на вул. Камуністычнай пабудаваны школа, Дом культуры, універмаг і інш. Жыллёвая забудова сканцэнтравана ў раёне плошчы Леніна, па вуліцах Будзённага, Фрунзе, Пушкіна, Кірава, Лазо, Інтэрнацыянальнай. Генеральныя планы развіцця гарадскога пасёлка распрацаваны ў 1968 г. і 1979 г. (Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва). Развіццё гарадскога пасёлка прадугледжана ў паўднёва-заходнім напрамку. Прамысловыя прадпрыемствы размешчаны пераважна ў паўднёва-ўсходняй част-



III. *Забудова вуліцы Камуністычнай.*



III. *Будынак сярэдняй школы № 2.*

цы гарадскога пасёлка. Працуюць: ільнозавод, малочны завод, хлебазавод, рымарская і мастацкіх вырабаў фабрыкі, камбінат бытавога абслугоўвання. Ёсць раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, лясгас. У Бешанковічах 2 сярэднія агульнаадукацыйныя, дзіцяча-юнацкая спартыўная, музычная школы, 6 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, музей народнай славы, бальніца. Выдаецца газета «Зара». Помнікі: У. І. Леніну; на брацкай магіле савецкіх воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і пры вызваленні Бешанковіцкага р-на ў 1944 г.; на магіле ахвяр фашызму і на ўшанаванне памяці работнікаў лясніцтва, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; камсамольцам і моладзі гарадскога пасёлка, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў; абеліскі на магілах ахвяр фашызму і ваеннапалонных; насыпаны Курган Славы на ўшанаванне памяці воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна, і землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Зберагліся помнікі архітэктуры: палацава-паркавы ансамбль канца 17 — 2-й палавіны 19 ст., Ільінская царква 2-й палавіны 19 ст.

Зона адпачынку — уздоўж берагоў Заходняй Дзвіны і ў прылеглых лясах.

*Літ.:* Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб.,1855; Рябинин И. С. Местечко Бешенковичи.— У кн.: Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912, в. 2.

*Г. І. Барышаў, А. П. Грыцкевіч.*

**343. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Інтэрнацыянальнай, у скверы каля школы. Пахаваны 89 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і пры вызваленні Бешанковіцкага р-на ў 1944 г. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Мікалай Пятровіч Лугоўскі, Рыгор Іванавіч Спольнік, Георгій Філімонавіч Хараборкін, Майсей Фраймавіч Шварцман.

М. П. Лугоўскі нарадзіўся 1.12. 1911 г. ў в. Равуча Талачынскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір стралковага батальёна 1124-га стралковага палка 334-й стралковай дывізіі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту капітан М. П. Лугоўскі вызначыўся пры вызваленні Віцебшчыны. 23.6.1944 г. батальён пад яго камандаваннем прарваў абарону праціўніка, выйшаў у тыл ворага, адбіў 9 контратак, вызваліў некалькі вёсак. 24 чэрвеня фарсіраваў Заходнюю Дзвіну, захапіў плацдарм на левым беразе і адбіваў атакі праціўніка. М. П. Лугоўскі загінуў у баі 25.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Імем героя названа вуліца ў Бешанковічах, яго імя прысвоена Друцкай васьмігадовай школе Талачынскага р-на.

Р. І. Спольнік нарадзіўся 1.10. 1902 г. ў в. Байцуры Барысаўскага р-на Белгарадскай вобл. З сялян. У Чырвонай Арміі з чэрвеня 1941 г., з 1943 г. на фронце. Камандзір стралковага аддзялення 213-га гвардзейскага стралковага палка 71-й гвардзейскай стралковай дывізіі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту гвардыі сяржант Р. І. Спольнік вызначыўся пры вызваленні Бешанковіцкага р-на. Аддзяленне на чале з Р. І. Спольнікам 24.6.1944 г. пераправілася на левы бераг Заходняй Дзвіны, захапіла плацдарм і ў баях за яго адбіла 2 контратакі ворага, нанесла значныя страты праціўніку. Р. І. Спольнік загінуў 24.6.1944 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

Г. Ф. Хараборкін нарадзіўся 10.11.1905 г. ў в. Алёшынка Трубчоўскага р-на Бранскай вобл. ў сялянскай сям'і. Скончыў Арлоўскае бранятанкавае вучылішча (1934 г.). З 1927 г. ў Чырвонай Арміі. Камандзір 3-й танкавай роты 20-й танкавай брыгады 123-й стралковай дывізіі старшы лейтэнант Г. Ф. Хараборкін вызначыўся ў савецка-фінляндскую вайну 1939—40 гг. Танкавая рота пад яго камандаваннем 11—13.2.1940 г. падавіла агнявыя кропкі праціўніка і прарвала яго абарону. Г. Ф. Хараборкін агнём з свайго танка знішчыў 2 процітанкавыя гарматы, танк праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 11.4.1940 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Загінуў 5.7. 1941 г. ў баі пры абароне Бешанковіч.

М. Ф. Шварцман нарадзіўся ў чэрвені 1911 г. ў с. Курнікі Тыўроўскага р-на Вінніцкай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Вінніцкі педагагічны інстытут (1936 г.). Працаваў на педагагічнай і партыйнай рабоце. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г. Вызначыўся 23—24.6.1944 г. на тэрыторыі Віцебскай вобл. У час прарыву варожай абароны група байцоў на чале з намеснікам камандзіра батальёна па палітчастцы 1124-га стралковага палка 334-й стралковай дывізіі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту маёрам М. Ф. Шварцманам уварвалася ў варожыя траншэі, знішчыла 80 гітлераўцаў, фарсіравала Заходнюю Дзвіну, захапіла плацдарм на левым беразе і агнём прыкрывала



343. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

пераправу палка. М. Ф. Шварцман загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**344. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры гарадскога пасёлка. Пабудавана ў 1870 г. з чырвонай цэглы. Цэнтрычны крыжова-купальны храм. Над будынкам 5 васьмігранных светлавых барабанаў з шатровымі завяршэннямі і цыбулепадобнымі макаўкамі. У архітэктурным дэкоры выкарыстаны элементы старажытнарускага дойлідства: кілепадобныя закамары, какошнікі, трохлопасцевыя аркі. Унутраная прастора 4 слупамі падзелена на 3 нефы з крыжовымі скляпеннямі. Інтэр'ер мае архітэктанічную трактоўку.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**345. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На вул. Камуністычнай, у скверы.

У ходзе Віцебска-Аршанскай наступальнай аперацыі (23—27.6.1944 г.), састаўной часткі Беларускай аперацыі 1944 г., войскі 43-й (генерал-лейтэнант А. П. Белабародаў) і 6-й гвардзейскай (генерал-лейтэнант І. М. Чысцякоў) армій 1-га Прыбалтыйскага фронту 23 чэрвеня прарвалі абарону праціўніка на паўночны захад ад Віцебска, 24 чэрвеня выйшлі на правы бераг р. Заходняя Дзвіна, фарсіравалі яе ў раёне Бешанковіч і захапілі 5 плацдармаў на левым беразе, 25 чэрвеня войскі 43-й арміі вызвалілі Бешанковічы. У раёне в. Гняздзілава злучыліся з войскамі 39-й арміі 3-га Беларускага фронту і завяршылі акружэнне віцебскай групоўкі праціўніка (5 дывізій), якая да 27 чэрвеня была разгромлена. У вызваленні горада і раёна ўдзельнічалі партызаны.

У 1966 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна, і землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, насыпаны Курган. Побач пастаўлены 2 скульптуры — жанчына ў жалобе і жанчына-воін. Каля падножжа Кургана замуравана капсула з пісьмом нашчадкам.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Маланьин К. А. Разгром врага в Белоруссии (1944 год).— М., 1961; Кирюхин С. П. 43-я армия в Витебской операции.— М., 1961.

**346. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне гарадскога пасёлка, на правым беразе Заходняй Дзвіны, у лесе. Пахаваны 1068 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 11.2.1942 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**345.** *Курган Славы.*

**347. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны мірныя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры партызан і дзяўчыны на фоне вертыкальнай стэлы. Помнік ушаноўвае таксама памяць 8 работнікаў Бешанковіцкага лясніцтва, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**348. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На вул. Валадарскага. Пахаваны ваеннапалонныя і мірныя жыхары, закатаваныя і расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**349. ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). На паўночнай ускраіне гарадскога пасёлка, на левым беразе Заходняй Дзвіны. Створаны ў канцы 17 — 2-й палавіне 19 ст. У ансамбль уваходзяць палац, гаспадарчыя пабудовы, парк з вадаёмамі.



**344.** *Ільінская царква*



**347.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Парк закладзены ў 17 — 1-й палавіне 18 ст. Спачатку быў рэгулярнага тыпу, з тэрасамі, якія спускаліся да Заходняй Дзвіны. Яго тэрыторыя з поўначы і ўсходу была абмежавана ракой і ручаём, з поўдня і захаду — алеямі. У парку размяшчаліся палац і іншыя пабудовы (не зберагліся). Захаваліся невялікая тэраса ва ўсходняй частцы, паасобныя пасадкі дубу, лістоўніцы, 2 штучныя вадаёмы. Адзін з вадаёмаў у канцы цэнтральнай алеі, з невялікім паўвостравам, на якім стаяла альтанка, другі — круглы ў плане (дыяметр 40 м), з востравам-клумбай (дыяметр 20 м). У канцы 18 — 1-й палавіне 19 ст. парк перапланаваны ў пейзажны, пабудаваны новы палац (1770-я гады), аранжарэі, пасаджаны сады, разбіты кветнікі. Новыя пасадкі сканцэнтраваны на ўсход ад палаца. У 2-й палавіне 19 ст. пабудаваны двухпавярховы жылы дом, архітэктура якога не атрымала выразных стылявых рыс.



349. *Палац. Цэнтральны корпус.*



349. *Палац. План 1-га паверха.*

П-падобны ў плане мураваны палац трохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Цэнтральны двухпавярховы корпус, які выступае наперад, фланкіраваны аднапавярховымі флігелямі. Галоўны фасад вырашаны плоскасна з цэнтральным двухступеньчатым рызалітам, апрацаваным рустам на 1-м паверсе і завершаным франтонам. Над парадным уваходам ажурны балкон (чыгуннае ліццё 1-й палавіны 19 ст.) у стылі ампір: іанічныя калонкі, гнутыя кранштэйны, маскароны, меандр, акантавы ліст. 1-ы паверх мае прамавугольныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя сандрыкамі і падаконнымі плітамі. Асновай нізкага двухсхільнага даху служыць філёнгавы фрыз па перыметры будынка. Плоскасныя тарцовыя фасады галоўнага корпуса не расчлянёны праёмамі і кампазіцыйна выяўлены слаба. Бакавыя флігелі прамавугольныя ў плане, накрыты вальмавымі дахамі, вызначаюцца прастатой архітэктурна-дэкаратыўнага вырашэння: руставаныя вуглы, невялікія аконныя праёмы. Пачатковая планіроўка палаца — анфіладная. Памяшканні 1-га паверха цэнтральнага корпуса і флігеляў выкарыстоўваліся як жылыя, 2-і паверх — парадныя апартаменты, падвалы ўсходняга флігеля выкарыстоўваліся ў гаспадарчых мэтах. Цяпер у палацы размяшчаецца дзіцячая школа мастацтваў.




349. *Палацава-паркавы ансамбль. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — гаспадарчыя пабудовы; 3—4 сажалкі.*



349. *Куток парку.*

Ансамбль — помнік палацава-паркавай архітэктуры ранняга класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; Адамаў У. Бешанковіцкі сад.— У кн.: Віцебшчына. Віцебск, 1925 т. 1; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**350. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ І МОЛАДЗІ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці камсамольцаў і моладзі гарадскога пасёлка, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1970 г. да 50-годдзя ЛКСМБ пастаўлена стэла.

**351. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На плошчы Леніна, каля будынка райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна пастаўлена ў 1958 г.

**352. РАДЗІМА ГЕЙНЭ** Аркадзя Андрэевіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт А. А. Гейнэ нарадзіўся 10.1.1919 г. ў сям'і служачых (бацька А. Х. Гейнэ — удзельнік барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады на Беларусі). Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналісткі імя С. М. Кірава (1938—41 гг.). Друкаваўся з 1936 г. ў газетах «Піянер Беларусі», «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя рэвалюцыі». Першы зборнік паэзіі — «Шчаслівая зорка» (1939 г.). Верш «Шчаслівая зорка» змешчаны ў калектыўным зборніку «Камсамол на граніцы» (1939 г.). У Вялікую Айчынную вайну А. А. Гейнэ на фронце, камандзір мінамётнай батарэі. Загінуў 16.12.1942 г. на Сталінградскім фронце. Вершы А. А. Гейнэ апублікаваны таксама ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949 г.), «Крывёю сэрца» (1967 г.). Апяваў патрыятызм савецкага чалавека, гераізм, поспехі сацыялістычнага будаўніцтва, каханне і сяброўства.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. Б. Караткевіч.*

**353. РАДЗІМА ТКАЧЭНКІ** Міхаіла Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. М. Ткачэнка нарадзіўся 28.8.1922 г. З рабочых. Член КПСС з 1943 г. З 1940 г. ў Чырвонай Арміі. Пасля сканчэння школы ваенных лётчыкаў у 1942 г. на фронце, удзельнічаў у баях на Паўночным Каўказе, у вызваленні Украіны, Крыма, Румыніі, Венгрыі. Камандзір звяна штурмавога авіяпалка лейтэнант М. М. Ткачэнка за час вайны зрабіў 150 баявых вылетаў, знішчыў 4 танкі, 48 аўтамашын, 17 гармат, 3 склады з боепрыпасамі, 9 кропак зенітнай артылерыі, шмат іншай тэхнікі ворага і каля 160 гіт-

лераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.4.1944 г.

Памёр 9.3.1948 г.

У Бешанковічах на будынку школы № 2, у якой вучыўся М. М. Ткачэнка, у 1970 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка, яго імем названы вуліца і школа.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**354. РАДЗІМА ЮДОВІНА** Саламона Барысавіча (гіст.).

Савецкі графік С. Б. Юдовін нарадзіўся 15.12.1894 г. ў сям'і рамесніка. Вучыўся ў Віцебскай школе-майстэрні Ю. Пэна (1908—10 гг.), Рысавальнай школе Таварыства заахвочвання мастацтва (Пецярбург) у М. Дабужынскага і студыі М. Бернштэйна (1910—13 гг.). Скончыў Віцебскі мастацка-практычны інстытут (1922 г.). З 1924 г. жыў у Ленінградзе. Стварыў серыі гравюр, прысвечаных Беларусі, віцябчанам. Сярод гравюр на дрэве найбольш вядомыя «Былое» (1921—28 гг., 1938—39 гг.), «Стары Віцебск» (1921—28 гг.), «Грамадзянская вайна» (1928 г.), «Новабудоўлі Беларусі» (1936 г.), «Ленінград у дні Вялікай Айчыннай вайны» (1942—47 гг.) і інш. Працаваў у тэхніцы ксілаграфіі і лінагравюры. Выканаў ілюстрацыі да кніг П. Паўленкі, В. Форш, Л. Фейхтвангера, А. Дадэ. Работы вызначаюцца псіхалагізмам, выразнасцю мастацкіх прыёмаў, завершанай кампазіцыяй, глыбокім рэалізмам. Яны экспанаваліся на міжнародных дэкарацыйнай выстаўцы (1927 г., Мілан), выстаўцы кніжнага знака (1928 г., Лос-Анджэлес) і інш. Памёр 5.12. 1954 г.

*Літ.:* Фурман І. П. Віцебскія мастакі-гравёры.— У кн.: Віцебшчына. Віцебск, 1928, т. 2; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Бродский В. Я., Земцова А. М., С. Б. Юдовин.— Л., 1962. *В. В. Церашчатава.*

**в. Абухава, Пліскі сельсавет**

**355. РАДЗІМА АБАЗОЎСКАГА** Канстанціна Антонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза К. А. Абазоўскі нарадзіўся 1.10.1919 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут (1938 г.), ваеннае авіяцыйнае вучылішча. З 1940 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з мая 1943 г. Удзельнічаў у вызваленні Паўночнага Каўказа, Кубані, Крыма і Прыбалтыкі. Зрабіў 106 баявых вылетаў, знішчыў 11 танкаў, 139 аўтамашын, 26 зенітных кропак, 22 палявыя гарматы, іншую тэхніку праціўніка. 6.5.1944 г. звяно штурмавікоў пад камандаваннем старшага лейтэнанта К. А. Абазоўскага ў паветраным баі каля Севастопаля збіла 5 знішчальнікаў праціўніка, спаліла на зямлі 8 самалётаў і 2 склады з боепрыпасамі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1944 г. Загінуў 26.10.1944 г. пры вызваленні Прыбалтыкі.

У в. Плісы на будынку школы, у якой вучыўся і працаваў настаўнікам К. А. Абазоўскі, у 1967 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Асавец, Верхнякрывінскі сельсавет**

**356. СТАЯНКІ** (археал.).

**356а.** Стаянка-1. За 2 км на поўдзень ад вёскі, на левабярэжжы р. Крывінка. Выявіў і даследаваў у 1934 г. К. М. Палікарповіч. Культурны пласт укрыты праслойкай торфу ў 1,5 м. Знойдзены прылады працы і кераміка, характэрныя для паўночнабеларускай культуры (1-я палавіна 2-га тысячагоддзя да н. э.).

**356б.** Стаянка-2. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Дражня, на левым беразе р. Крывінка. Даследаваў у 1966—83 гг. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 270 м². Культурны пласт да 1,3 м, пакрыты торфам. У ніжняй частцы яго знойдзены фрагменты неалітычных гладкасценных пасудзін з дамешкамі тоўчаных ракавін у сценках, упрыгожаных арнаментамі з насечак, наколаў, грабеньчатых адбіткаў, ямак. У верхняй частцы культурнага пласта выяўлены матэрыялы позняга неаліту і ранняга бронзавага веку паўночнабеларускай культуры (абломкі гліняных штрыхаваных пасудзін з дамешкамі тоўчаных ракавін і жарствы ў сценках, арнаментаваных шчыльнымі ўзорамі з пераважна гарызантальных паясоў, насечак, грабеньчатых адбіткаў, розных ямак і наколаў). Керамічныя вырабы ўяўлялі сабой вастрадонныя, акругладонныя і пласкадон-



**356б.** *Бурштынавыя ўпрыгожанні са стаянкі-2.*



**356б.** *Драўляная фігурка чалавека са стаянкі-2.*



**356б.** *Гліняная міска са стаянкі-2.*




**356б.** *Вырабы з косці са стаянкі-2: 1—2 — наканечнікі стрэл; 3 — гарпун; 4 — шыла; 5 — упрыгожанне; 6 — лязо кінжала.*

пыя гаршкі, міскі і кубкі. Шмат вырабаў з рогу і косці — наканечнікі стрэл, праколкі, рыбалоўныя кручкі, гарпуны, кінжалы, сякеры, цёслы і інш. Сярод упрыгожанняў найбольш свідраваных падвесак з зубоў жывёл і падвесак з бурштыну. Знойдзены рэчы старажытнага мастацтва — драўляныя і касцяныя фігуркі чалавека, звяроў і птушак, гравіраваныя выявы людзей на кераміцы. Выяўлены частка жытла слупавой канструкцыі, рэшткі драўляных місак, дошак, агароджы з жэрдак.

356в. Стаянка-3. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пясчаным узгорку Аксінаў Груд. Даследаваў у 1968 г. М. М. Чарняўскі. На паверхні ўзгорка траплялiся крамянёвыя прылады працы і кераміка, а ў торфе каля паўночна-ўсходняга падножжа — рэшткі драўляных збудаванняў. Адносіцца да бронзавага веку.

356г. Стаянка-4. За 1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Брускавішча. Даследаваў у 1971, 1976—77 гг. М. М. Чарняўскі. Выяўлены матэрыялы ранняга неаліту (4-е тысячагоддзе да н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Торфяниковые стоянки Кривина и Осовец в БССР.— У кн.: Бюллетень Комиссии по изучению четвертичного периода. М.; Л., 1940, № 6—7; Чернявский М. М. Новое неолитическое поселение на Кривинском торфянике.— У кн.: Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР. Мн., 1967; яго ж. Фигурка человека со стоянки Осовец-II.— Советская археология, 1967, № 4; яго ж. Исследование неолитических поселений Кривинского торфяника.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1969. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Астроўна, цэнтр сельсавета**

**357. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля шашы на Віцебск. Пахаваны 177 воінаў 54-га гвардзейскага стралковага палка 19-й гвардзейскай стралковай дывізіі 39-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі пры вызваленні в. Астроўна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**358. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 800 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля дарогі на в. Плісы. Пахаваны 300 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 21.9.1941 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**359. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар воінаў 54-га гвардзейскага стралковага палка 19-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір — палкоўнік Ф. Х. Палявой) 39-й арміі 3-га Беларускага фронту,



**357.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

якія 26.6.1944 г. вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў в. Астроўна.

**360. МЕСЦА БОЮ 1812 г.** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі.

У Айчынную вайну 1812 г. каля в. Астроўна 13—14(25—26).7.1812 г. адбыліся баі часцей 1-й рускай арміі (каля 9 тыс. чалавек) супраць французскіх войск (больш за 20 тыс. чалавек). 13 ліпеня пяхотны корпус генерала А. І. Остэрмана-Талстога і 4 палкі кавалерыі ўвесь дзень стойка трымалі абарону. Падмацаваныя пяхотнай дывізіяй генерала П. П. Канаўніцына 14 ліпеня рускія войскі прадаўжалі бой каля вёсак Кукавячына і Дабрэйкі, потым арганізавана адышлі. Баі садзейнічалі злучэнню 1-й і 2-й рускіх армій каля Смаленска.

У 1962 г. з нагоды 150-годдзя бітвы



**360.** *Помнік на месцы бою 1812 г.*

пастаўлена стэла з мармуровай дошкай, на якой выбіты памятны тэкст. *М. К. Кошалеў.*

**361. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля шашы Віцебск — Бешанковічы. На ўшанаванне памяці 288 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бачэйкава, цэнтр сельсавета**

**362. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 21 чырвонаармеец, якія загінулі ў сярэдзіне сакавіка 1918 г. ў баі супраць нямецкіх войск і атрадаў корпуса Доўбар-Мусніцкага ў раёне Бачэйкава. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1.— Мн., 1968. *В. Б. Караткевіч.*

**363. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, на сядзібах І. Трашчоткіна і М. Пясоцкага. 2 насыпы. Вышыня аднаго 1,7 м, дыяметр 11 м, другога адпаведна — каля 2 м і каля 12 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**364. МАГІЛА ВЕРАБ'Я А. Г.** (гіст.). Насупраць будынка праўлення калгаса «Бачэйкава». Маёр Чырвонай Арміі А. Г. Верабей загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 29.6. 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**365. ПАРК** (архіт.). За 500 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Ула. Закладзены пасля 1769 г. Парк рэгулярнага тыпу. Размешчаны на прыпойменным верхнім плато і пакатым схіле, апрацаваным 3 паралельнымі тэрасамі, якія спускаюцца да ракі (перапад 2 м).

Цэнтрам сіметрычна-восевай кампазіцыі парку быў мураваны аднапавярховы палац (закладзены ў 1769 г., не збярогся). Перад ім размяшчаўся авальны партэр, да якога вялі 2 узаемна перпендыкулярныя алеі. Адна з іх па восі ўсход — захад (па фронту будынка) вядзе да службовага флігеля і падзяляе тэрыторыю парку на 2 зоны. Перад палацам масіў ліп і таполяў, пасаджаных па рамбічнай планіровачнай сетцы. Частка парку за палацам аформлена газонамі, шпалерамі, баскетамі, фантанам, лабірынтам. Складаная камбінацыя дарожак утварала манаграму ініцыялаў уладальніка маёнтка і геральдычныя фігуры фамільнага герба. Тут раслі ліпы, бэз персідскі, гартэнзія мяцёлчатая, кедры, паўночнаамерыканскія елкі. Некалькі штучных вадаёмаў, размешчаных у вуглавых частках парку, маюць правільную форму (квадрат, прамавугольнік, авал). З заходняга боку да парку прымыкаў сад, акружаны па перыметры алеямі. Га-



365. *Парк. Від з боку р. Ула.*

лоўная восевая паркавая перспектыва адкрывалася з верхняй тэрасы і была пабудавана на змене шэрагу паркавых курцін, газонаў і бакавых шпалер, падстрыжаных пад шары, пірамiды і аркі. Дэкаратыўна афармленыя пасадкі пераходзілі ў вялікую паляну, якая была абмежавана ракой і каналам, што злучаўся з ракой. Завяршалася перспектыва ландшафтам процілеглага берагавога схілу.




365. *Парк. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — гаспадарчая пабудова; 3 — флігель.*

На паўночны ўсход ад палаца на 2 невялікіх тэрасах — гаспадарчая пабудова ў стылі ампір: прамавугольны ў плане двухпавярховы мураваны будынак з паніжаным узроўнем бакавых крылаў. Сцены дэкарыраваны рустам, надаконнымі ўпрыгожаннямі. Службовы флігель — прамавугольны ў плане аднапавярховы мураваны аб'ём, накрыты высокім вальмавым дахам, у цэнтры вылучаны прысадзістым чатырохкалонным ампірным порцікам. Парк пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**366. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 124 землякоў з вёсак калгаса «Бачэйкава», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бокішава, Каўлякоўскі сельсавет**

**367. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі, на краі тэрасы правага берага Заходняй Дзвіны. Пляцоўка дыяметрам да 40 м умацавана з боку поля ровам (глыбіня 2—2,5 м). З паўночнага боку размешчана селішча. Адкрылі ў 1933 г. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**368. МЕСЦА ФАРСІРАВАННЯ ЗАХОДНЯЙ ДЗВІНЫ** (гіст.).

У ходзе Беларускай аперацыі ў ноч на 25.6.1944 г. войскі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў выключна цяжкіх умовах пачалі фарсіраванне Заходняй Дзвіны ў раёне вёскі Бокішава. У 1964 г. ў памяць аб гэтым на паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе Заходняй Дзвіны пастаўлена стэла, на ёй мармуровая дошка з памятным тэкстам.

**в. Бортнікі 1-я, Ульскі пасялковы Савет**

**369. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**369а.** Гарадзішча. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, на паўднёва-заходнім беразе воз. Лешна. Пляцоўка памерам 28×30 м, вышыня над берагам каля 6 м. З паўднёвага боку прасочаны вал вышынёй 1,2 м і роў глыбінёй 1,5 м. Пасярэдзіне вала прарэзаны ўваход шырынёй 4 м. Культурны пласт адсутнічае.

**369б.** Курган. За 0,5—0,7 км на захад ад гарадзішча, каля дарогі ў в. Зарэчча. Дыяметр 20 м, вышыня 1,5 м.

Гарадзішча і курган выявіў і абследаваў у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследование памятников неолита и бронзы Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Будзілава, Соржыцкі сельсавет**

**370. МЕСЦА ФАРСІРАВАННЯ ЗАХОДНЯЙ ДЗВІНЫ** (гіст.).

У ходзе Беларускай аперацыі 25.6. 1944 г. воіны 334-й стралковай дывізіі 60-га стралковага корпуса 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту фарсіравалі Заходнюю Дзвіну ў раёне в. Будзілава і з часцямі 39-й арміі 3-га Беларускага фронту акружылі і пачалі ліквідацыю віцебскай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск.

У 1970 г. ў памяць аб гэтым на паўднёвай ускраіне вёскі, на левым беразе Заходняй Дзвіны, пастаўлена стэла.

**371. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка саўгаса імя І. Ф. Каранеўскага. На ўша-



367. *Гарадзішча.*

паванне памяці 338 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Верхняе Крывіна, цэнтр сельсавета**

**372. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ТАВАРЫСТВА ПА СУМЕСНАЙ АПРАЦОЎЦЫ ЗЯМЛІ «БАРАЎЦЫ — КРЫВІНА»** (гіст.).

У чэрвені 1918 г. 6 сялян-беднякоў на чале з бальшавіком Д. Дз. Івановым стварылі ў вёсцы таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі «Бараўцы — Крывіна». Члены таварыства: К. П. Бараноўскі (старшыня таварыства, пазней калгаса), Я. А. Скрабло (сакратар), С. Д. Аўчыннікаў, А. Ф. Жукоўскі, Г. В. Кавалёнак, Я. Ф. Масько. У 1920 г. ворагі Савецкай улады па-зверску забілі Д. Дз. Іванова. У час калектывізацыі сельскай гаспадаркі таварыства пераўтворана ў сельскагаспадарчую арцель (цяпер калгас імя XX з'езда КПСС).

У 1968 г. ў гонар таварыства і на ўшанаванне памяці Д. Дз. Іванова на будынку праўлення калгаса ўстаноўлены 2 мемарыяльныя дошкі.

*М. К. Кошалеў.*

**373. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 151 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем на руках. Побач — стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Вярхоўе, цэнтр сельсавета**

**374. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 54 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**375. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка камбіната бытавога абслугоўвання. На ўшанаванне памяці 112 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Галыні, Драздоўскі сельсавет**

**376. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 28 воінаў і 2 партызаны, што загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Аляксандр Піліпавіч Возлікаў, Уладзімір Канстанцінавіч Далгоў, Сцяпан Іларыёнавіч Іларыёнаў, Арамаіс Аствацатуравіч Саркісянц (Саркісаў).

А. П. Возлікаў нарадзіўся ў 1922 г. ў в. Тварышчына Клінцоўскага р-на Бранскай вобл. ў сялянскай сям'і. З 1941 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з снежня 1942 г. Камандзір аддзялення 52-й асобнай разведроты 51-й гвардзейскай стралковай дывізіі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту гвардыі сяржант А. П. Возлікаў у ноч на 25.6.1944 г. з групай разведчыкаў пад моцным агнём праціўніка фарсіраваў Заходнюю Дзвіну, на плацдарме за 8 гадзін з трыма байцамі адбіў 4 контратакі, што садзейнічала пераправе асноўных сіл. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.



376. *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан.*

У. К. Далгоў нарадзіўся 15.3. 1916 г. ў г. Волагда. З рабочых. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лістапада 1941 г. 23.6.1944 г. ўзвод 213-га гвардзейскага стралковага палка 71-й гвардзейскай стралковай дывізіі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту пад камандаваннем гвардыі лейтэнанта У. К. Далгова ў раёне г. п. Шуміліна выбіў праціўніка з траншэй. 24.6.1944 г. адным з першых фарсіраваў Заходнюю Дзвіну і захапіў плацдарм, адбіў контратаку праціўніка. Загінуў 24.6.1944 г. пры вызваленні в. Буй Бешанковіцкага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імя высечана на абеліску Славы ў Волагдзе.

С. І. Іларыёнаў нарадзіўся ў 1904 г. ў в. Кіўсерт-Янішава Вурнарскага р-на Чувашскай АССР у сялянскай сям'і. З 1941 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з сакавіка 1942 г. 25.6. 1944 г. гвардыі яфрэйтар 158-га гвардзейскага стралковага палка 51-й гвардзейскай стралковай дывізіі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту С. І. Іларыёнаў першым фарсіраваў Заходнюю Дзвіну ў раёне в. Балбечча Бешанковіцкага р-на і аўтаматным агнём прыкрываў пры пераправе байцоў, прыняў на сябе камандаванне групай байцоў і павёў іх у атаку, у выніку якой праціўнік былі выбіты з траншэй. Цяжка паранены, не пакінуў поле бою. Памёр ад ран 27.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названа вуліца ў пас. Вурнары.

А. А. Саркісянц (Саркісаў) нарадзіўся 8.5.1922 г. ў г. Баку. З рабочых. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з студзеня 1943 г. 25.6.1944 г. камандзір кулямётнага разліку 158-га гвардзейскага стралковага палка гвардыі яфрэйтар А. А. Саркісянц з 20 байцамі фарсіраваў Заходнюю Дзвіну, замацаваўся на ўскраіне в. Балбечча Бешанковіцкага р-на, адбіў 2 контратакі праціўніка. Загінуў у гэтым баі, ратуючы параненага камандзіра. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названа школа ў с. Цех Горыскага р-на Армянскай ССР.

У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і 4 надмагільныя пліты з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Гняздзілава, Соржыцкі сельсавет**

**377. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). За 500 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля шашы Бешанковічы — Віцебск.

23.6.1944 г. ў ходзе Віцебска-Аршанскай наступальнай аперацыі войскі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту прарвалі абарону праціўніка на паўночны захад ад Віцебска, 39-й арміі 3-га Беларускага фронту — на паўднёвы ўсход ад горада. 25.6.1944 г.



378. *Мікалаеўская царква. Від з боку апсіды.*



378. *Мікалаеўская царква. План.*

савецкія войскі злучыліся каля в. Гнязділава і завяршылі акружэнне віцебскай групоўкі ворага (5 дывізій), якая да 27 чэрвеня была разгромлена. Праціўнік страціў каля 20 тыс. салдат і афіцэраў забітымі і больш за 10 тыс. палоннымі. У 1966 г. ў гонар савецкіх воінаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Штеменко С. М. Генеральный штаб в годы войны.— М., 1968; Рокоссовский К. К. Солдатский долг.— 2 изд.— М., 1972; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.
*М. К. Кошалеў.*

**в. Дабрыгоры, Верхнякрывінскі сельсавет**

**378. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва.

Крыжападобная ў плане. Да цэнтральнага кубічнага аб'ёму прымыкаюць прамавугольныя ў плане апсіда і бабінец. Цэнтральны аб'ём з чатырохсхільным дахам, які завяршае «сляпы» васьміграны барабан, накрыты шатром з макаўкай. Бабінец і апсіда накрыты двухсхільнымі дахамі з франтонамі на тарцах. Над бабінцам — двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку) з шатром і цыбулепадобнай галоўкай у завяршэнні. Будынак на высокім мураваным фундаменце, зрублены з брусоў, гарызантальна абшыты дошкамі. Сцены цэнтральнага аб'ёму прарэзаны выцягнутымі паўцыркульнымі вокнамі з ліштвамі, бабінца і апсіды — вялікімі прамавугольнымі вокнамі з ліштвамі. Усе аб'ёмы апяразаны падкарнізнымі цягамі аднолькавай шырыні. Перад цэнтральным уваходам — вялікі ганак.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. А. Міцянін.*

**379. ПАРК «САЛОМІНКА»** (архіт.). На правым беразе р. Крывінка.

Закладзены ў пачатку 20 ст., асноўныя пасадкі зроблены ў 1906 г. Плошча 10 га. Эканамічнага тыпу. Па кампазіцыі пладовы сад. Па перыметры абсаджаны рознымі экзотамі, якія ўтвараюць ахоўныя пасадкі і невялікія паркавыя курціны. Сярод пасадак праходзіла прагулачная дарожка. У алеі акацый — сілуэтная палоса рэдка пасаджаных бяроз, белыя ствалы якіх вылучаюцца на фоне нізкарослых акацый. Каля 30 відаў і форм дэкаратыўных раслін. Сярод іх — кедр сібірскі, елкі белая, Энгельмана, серабрыстая, хвоі веймутава, жорсткая, чорная, Банкса, лістоўніцы японская і еўрапейская, бук, арэх маньчжурскі, клён татарскі і інш.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. А. Міцянін.*

**в. Давыдкавічы, Свячанскі сельсавет**

**380. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Паміж паўночнай ускраінай



379. *Парк «Саломінка». Схема планіроўкі.*

вёскі і паўднёвым берагам воз. Стрыжэўскае. 2 курганы вышынёй каля 1,7 м, дыяметрам 11—12 м. Выявіў у 1955—56 гг. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дарагакупава, Астровенскі сельсавет**

**381. ЦАРКВА КАЗАНСКАЙ МАЦІ БОСКАЙ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.



381. *Царква Казанскай маці боскай.*

Трохзрубны храм. Да асноўнага аб'ёму прымыкаюць прытвор і пяціграння апсіда. Над прытворам — чацверыковая званіца з цыбулепадобнай галоўкай. Сцены гарызантальна ашаляваны дошкамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У дэкаратыўнай аздобе выкарыстаны разныя дэталі. Перад уваходам ганак з 2 калонкамі, накрыты двухсхільным дахам.

Царква — помнік драўлянага дойлідства са стылізаванымі формамі архітэктуры псеўдарускага стылю.
*А. М. Кулагін.*

**в. Двор Нізгалава, Бачэйкаўскі сельсавет**

**382. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Г. М. Дзімітрова. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**383. СЯДЗІБА «НІЗГАЛАВА»** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на беразе р. Ула. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст.

Комплекс уключае: сядзібны дом (пашкоджаны ў 1944 г., адноўлены ў 1970 г.), флігель, кухню, кузню, вяндлярню, 2 гаспадарчыя карпусы. Тэрыторыя сядзібнай забудовы невялікімі курцінамі з елак, сосен, клёнаў злучаецца з паркавай зонай (плошча 4 га). Цяпер на тэрыторыі сядзібы сярэдняя школа.

Сядзібны дом — прамавугольны ў плане аднапавярховы мураваны аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Унутраная планіроўка (зменена) — калідорная. У пластыцы фасадаў выкарыстаны элементы класіцызму з характэрнай для 2-й палавіны 19 ст. адвольнай трактоўкай ордэра. Над невялікімі прамавугольнымі вокнамі вузкія сандрыкі на плоскіх кранштэйнах, пад



383. *Сядзібны дом.*



383. *Сядзібны дом. План.*




383. *Сядзіба «Нізгалава». Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — кухня; 3—6 — гаспадарчыя пабудовы.*

вокнамі — прамавугольныя нішы. Фундаменты і цокаль выкладзены з валуноў. Ад сядзібнага дома да поймы ракі спускаюцца 4 тэрасы, абсажаныя шпалерамі з елкі звычайнай.

Кампазіцыя парку — прыклад перабудовы рэгулярнага парку (элементы якога зберагліся) у пейзажны. Рэгулярны парк складаўся з 9 аднолькавых баскетаў, якія дзяліліся 4 падоўжанымі і 4 папярочнымі алеямі, з круглымі пляцоўкамі на перакрыжаваннях. Пры перабудове парку ў пейзажны высаджаны экзоты і дэкаратыўныя кусты, на месцы падоўжаных алей зроблены маляўнічыя палянкі. У дэндраскладзе піхта бальзамічная, лістоўнік еўрапейскі, ліпа буйналістая, бяроза далекарлійская (лепшы ў рэспубліцы экземпляр, вышыня 17 м, дыяметр ствала 58 см), аксаміт амурскі. У цэнтры паляны, да якой ад паўночна-ўсходняга фасада сядзібнага дома вядзе ліпавая алея, высаджаны рэдкі ў рэспубліцы кедр еўрапейскі калонападобны (вышыня 12 м, дыяметр ствала 48 см). Масівы дэкаратыўнага хмызняку (цярноўнік, язмін, бэз) служаць фонам для бяроз і елак, якія ўзвышаюцца над імі. Пры ўездзе ў парк 3 хвоі веймутавы, кедры еўрапейскія.

Сядзіба — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму.

*А. А. Міцянін.*

**в. Дворнікі, Ульскі пасялковы Савет**

**384. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, на беразе воз. Каранёва. Пахаваны 39 жыхароў в. Каранёва, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў сакавіку 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 399 «Месца спаленай вёскі».

**в. Доўгае, Астровенскі сельсавет**

**385. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА** (гіст.). За 400 м на паўночны захад ад вёскі, у лесе, на так званай Чанавіцкай дачы.

Тут у 1942 г. быў створаны партызанскі атрад пад камандаваннем П. З. Патапенкі, які ў верасні 1942 г. ўвайшоў у склад атрада Р. І. Сысоева (пазней 1-ы атрад 1-й Віцебскай партызанскай брыгады). У 1975 г. на месцы, дзе быў створаны атрад, пастаўлена стэла.

**в. Дуброва, Соржыцкі сельсавет**

**386. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 293 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Міхаіл Ціханавіч Кузняцоў.

М. Ц. Кузняцоў нарадзіўся 29.1.1925 г. ў в. Вялікае Грыдзіна Піцелінскага р-на Разанскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лютага 1944 г. 23.6.1944 г. стралковы ўзвод пад камандаваннем М. Ц. Кузняцова праравіў абарону праціўніка каля в. Дуброва і ў рукапашным баі выбіў яго з траншэй. 25.6.1944 г. М. Ц. Кузняцоў пераправіўся цераз Заходнюю Дзвіну, знішчыў варожую кулямётную кропку і аўтаматным агнём прыкрываў пераправу ўзвода. Загінуў у баі за пашырэнне плацдарма. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названа піянерская дружына Сініцкай сярэдняй школы ў Бешанковіцкім р-не. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік—скульптура воіна.

**в. Жарнасекава, Бачэйкаўскі сельсавет**

**387. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Ула. 5 круглых насыпаў вышынёй да 2 м, дыяметрам да 15 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. абследаваў Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Жданова, Сокараўскі сельсавет**

**388. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, у лесе, пры дарозе ў в. Шапчына. 2 круглыя курганы дыяметрам 8 м, вышынёй 1,2 м. Адкрыў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.



389. *Помнік землякам.*

**в. Забелле, Соржыцкі сельсавет**

**389. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптуры воінаў (мужчына і жанчына).

**в. Заграмадзіна, Каўлякоўскі сельсавет**

**390. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 121 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Іван Якаўлевіч Гайдым і Мікалай Іванавіч Конанаў.

І. Я. Гайдым нарадзіўся 16.11.1916 г. ў в. Пісараўка Альшэеўскага р-на Башкірскай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лютага 1942 г. Вызначыўся ў баях за вызваленне Шумілінскага р-на. 22—24.6.1944 г. стралковая рота пад камандаваннем гвардыі капітана І. Я. Гайдыма прарвала абарону ворага, фарсіравала Заходнюю Дзвіну, захапіла плацдарм і адбіла некалькі контратак праціўніка. І. Я. Гайдым загінуў у баі 24.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Раеўскі Альшэеўскага р-на Башкірскай АССР.

М. І. Конанаў нарадзіўся 20.11.1911 г. ў в. Косціна Парфеньеўскага

р-на Кастрамской вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Ленінградскую юрыдычную школу (1938 г.), працаваў народным суддзёй у Мурманску. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лістапада 1941 г. Вызначыўся пры вызваленні Віцебшчыны. 22—24.6.1944 г. кулямётны ўзвод 213-га гвардзейскага стралковага палка 71-й гвардзейскай стралковай дывізіі пад камандаваннем гвардыі малодшага лейтэнанта М. І. Конанава знішчыў 3 агнявыя кропкі праціўніка, першым фарсіраваў Заходнюю Дзвіну, захапіў плацдарм і адбіў контратаку. М. І. Конанаў загінуў у баі 24.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Задарожжа, Соржыцкі сельсавет**

**391. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 70 м ад павароту на вёску з аўтамабільнай дарогі Бешанковічы — Віцебск. Пахаваны 91 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Замашэнне, Пліскі сельсавет**

**392. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 30 насыпаў (адзін падоўжаны — 20×12×3 м) вышынёй 2,5—3 м, дыяметрам 12—15 м. Выявіў у 1966 г. Г. В. Штыхаў, абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Зарэчча, Ульскі пасялковы Савет**

**393. КУРГАН** (археал.). За 0,1 км на захад ад вёскі, на беразе р. Ула. Вышыня 1,5 м, дыяметр 10 м. Выявіў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі.

**394. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на паўднёвы захад ад вёскі. 2 насыпы дыяметрам 10 м, вышынёй 1,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Застарынне, Вярхоўскі сельсавет**

**395. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі. Пляцоўка амаль круглай формы, памерам 40×41 м, узвышаецца над наваколлем на 9 м. Валы і равы адсутнічаюць. Выявіў і абследаваў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. У культурным пласце каля 1 м знойдзены фрагменты грубаляпной гладкасценнай керамікі жалезнага веку і косці жывёл.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. *Э. М. Зайкоўскі.*

**396. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кавалеўшчына, Каўлякоўскі сельсавет**

**397. МАГІЛА ДАВЫДАВА** Уладзіміра Рыгоравіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Малодшы лейтэнант У. Р. Давыдаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Камоскі, Драздоўскі сельсавет**

**398. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Палітаддзелец». На ўшанаванне памяці 72 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Каранёва (не існуе), Ульскі пасялковы Савет**

**399. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). За 3 км на паўночны ўсход ад в. Дворнікі, каля воз. Каранёва.

У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску. Жыхароў (39 чалавек) сагналі ў адну хату і закідалі гранатамі, тых, хто ўцалеў, расстралялі. Вёску (20 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 384 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Касарэўшчына, Свячанскі сельсавет**

**400. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 105 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Клешчыно, Бачэйкаўскі сельсавет**

**401. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 94 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Міхаіл Панцялеевіч Краўчанка.

М. П. Краўчанка нарадзіўся ў 1914 г. ў в. Галоўчына Барысаўскага р-на Белгарадскай вобл. ў сялянскай сям'і. Працаваў трактарыстам. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з сакавіка 1943 г. 24.6.1944 г. пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны гвардыі радавы М. П. Краўчанка з групай байцоў адным з першых пад агнём праціўніка пераправіўся цераз раку каля в. Узрэчча Бешанковіцкага р-на. Байцы выбілі гітлераўцаў з умацаванняў і агнём прыкрывалі пераправу батальёна. М. П. Краўчанка загінуў 26.6.1944 г. ў баі пры фарсіраванні р. Ула. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**402. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 90 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крупеніна, Астровенскі сельсавет**

**403. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,9 км на захад ад вёскі, каля шашы Віцебск — Лепель. 8 насыпаў вышынёй да 1 м, дыяметрам 9 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**404. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 97 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крывое Сяло, цэнтр Каўлякоўскага сельсавета**

**405. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 79 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Луг, Вярхоўскі сельсавет**

**406. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Карла Маркса. На ўшанаванне памяці 100 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.



**406.** *Помнік землякам.*

**в. Мамойкі 1-я,
Драздоўскі сельсавет**

**407. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Ленінскі шлях». На ўшанаванне памяці 143 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, побач — стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Мамойкі 2-я,
Каўлякоўскі сельсавет**

**408. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 81 воін, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Рыгор Апанасавіч Далгоў.

Р. А. Далгоў нарадзіўся ў 1903 г. ў в. Старая Брынь Сухініцкага р-на Калужскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір узвода 201-га стралковага палка 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту гвардыі малодшы лейтэнант Р. А. Далгоў 22.6.1944 г. з узводам прарваў абарону праціўніка каля в. Сіроціна, захапіў варожыя траншэі, потым з баямі ў ліку першых фарсіраваў Заходнюю Дзвіну. Загінуў 24.6.1944 г. ў рукапашным баі за плацдарм каля в. Буй Бешанковіцкага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названы Ахотнаўская васьмігадовая і Брынская пачатковая школы Калужскай вобл. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**в. Навасёлкі, Бачэйкаўскі сельсавет**

**409. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 34 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пажарышча, Рубежскі сельсавет**

**410. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 79 воінаў, якія загінулі ў 1944 у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Рубежскага сельсавета, і камісар атрада «Знішчальнік» партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава М. Р. Сямёнаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паўазер'е, Сокараўскі сельсавет**

**411. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 250 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**в. Плісы, цэнтр сельсавета**

**412. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Насупраць школы. Пахаваны 90 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**413. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АБАЗОЎСКАМУ** Канстанціну Антонавічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1967 г. ў гонар Героя Савецкага Саюза К. А. Абазоўскага, які тут вучыўся і ў 1938—40 працаваў настаўнікам у гэтай школе. Гл. таксама артыкул № 355 «Радзіма Абазоўскага Канстанціна Антонавіча».

**в. Полькавічы,
Каўлякоўскі сельсавет**

**414. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 71 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлена стэла.

**в. Прыгожае, Бачэйкаўскі сельсавет**

**415. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Валатоўка. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Ула. Дыяметр 24 м, вышыня 3,5 м. Выявіў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі.

**в. Ржаўка,
Верхнякрывінскі сельсавет**

**416. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 100 м на ўсход ад вёскі. Невядомы савецкі воін расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў ліпені 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**417. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка Дома культуры. На ўшанаванне памяці 182 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Рубеж, цэнтр сельсавета**

**418. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Бярозкі. Пляцоўка дыяметрам 38 м. Паўночны схіл стромкі, з поўдня прасочваюцца рэшткі рова, з усходу і захаду схілы разараны. Абследавалі ў 1956—57 гг. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі днепра-дзвінскай культуры (8—7 стагоддзі да н. э.— 4 ст. н. э.). Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



418. *Гарадзішча.*

**в. Саннікі,
Верхнякрывінскі сельсавет**

**419. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 48 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна ў 1944 г. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Мікалай Дзмітрыевіч Вяснін, Антон Трафімавіч Маслікаў, Булат Янбулатавіч Янтыміраў і грузінскі паэт Мірза Гедэонавіч Гелавані.

М. Дз. Вяснін нарадзіўся ў снежні 1922 г. ў в. Арлоўка Канстанцінаўскага р-на Амурскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г.

А. Т. Маслікаў нарадзіўся 18.5. 1926 г. ў с. Углоўскае Алтайскага краю ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1944 г. 25.6.1944 г. сяржант М. Дз. Вяснін і радавы А. Т. Маслікаў пад агнём праціўніка ў ліку першых пераплылі на левы бераг Заходняй Дзвіны каля в. Шарыпіна Бешанковіцкага р-на, захапілі варожыя лодкі і пераправілі іх на правы бераг для байцоў свайго падраздзялення, што садзейнічала паспяховай пераправе палка. Загінулі ў баі за плацдарм 25.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза М. Дз. Вясніну і А. Т. Маслікаву прысвоена 22.7.1944 г.

Б. Я. Янтыміраў нарадзіўся ў 1915 г. ў с. Вялікая Інгла Упораўскага р-на Цюменскай вобл. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Цюменскае педвучылішча. Працаваў настаўнікам. З 1937 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Намеснік камандзіра стралковага батальёна капітан Б. Я. Янтыміраў 25.6.1944 г. арганізаваў пераправу батальёна цераз Заходнюю Дзвіну каля в. Шарыпіна Бешанковіцкага р-на. Байцы на чале з Б. Я. Янтыміравым захапілі плацдарм і адбілі некалькі контратак праціўніка. Б. Я. Янтыміраў загінуў у баі 26.6. 1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

М. Г. Гелавані нарадзіўся 2.3. 1917 г. ў с. Накалары Тыянецкага р-на Грузінскай ССР. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Загінуў 19.7.1944 г. пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны. Выдадзены зборнікі вершаў М. Г. Гелавані «Асенні вечар» (1967 г.), на бела-

рускай мове — «Клятва» (1970 г.). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Грузінскай ССР імя Ш. Руставелі 1975 г. Яго імя прысвоена Ржаўскай сярэдняй школе ў Бешанковіцкім р-не. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**420. РАДЗІМА ГАРБУНОВА** Цімафея Сазонавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, беларускі савецкі гісторык, акадэмік АН БССР (з 1959 г.) Ц. С. Гарбуноў нарадзіўся 24.7.1904 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Скончыў БДУ (1936 г.), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1948 г.). З 1919 г. працаваў рабочым, быў на савецкай, камсамольскай рабоце. З 1933 г. карэспандэнт газеты «Правда», з 1937 г. галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, з 1939 г. рэдактар газеты «Звязда». У 1941—47 гг., 1950—60 гг. сакратар ЦК КПБ. У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі. У 1942—45 гг. рэдактар часопіса «Славяне», у 1949—50 гг. працаваў намеснікам старшыні праўлення Усесаюзнага таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў, рэдактар часопіса «Наука и жизнь». У 1960—67 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. Аўтар прац па гісторыі ўтварэння БССР, уз'яднання беларускага народа ў адзінай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве і інш. Кандыдат у члены ЦК КПБ з 1940 г., член ЦК КПБ у 1940—66 гг., член Бюро ЦК КПБ у 1945—47 гг., у 1950—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—62 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1947—67 гг. У 1955—63 гг. старшыня Вярхоўнага Савета БССР.

Памёр 8.10.1969 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. На магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

**в. Свяча, цэнтр сельсавета**

**421. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сінякова, Каўлякоўскі сельсавет**

**422. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на мысе правабярэжнай тэрасы Заходняй Дзвіны, ва ўрочышчы Гарадзішча. Пляцоўка памерам 100×60 м, з боку поля была ўмацавана глыбокім, цяпер апоўзлым ровам. Выявілі ў 1933 г. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. У асобных месцах на пляцоўцы трапляецца культурны пласт. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Скакуноўшчына, Бачэйкаўскі сельсавет**

**423. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Слабодка, Свячанскі сельсавет**

**424. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**425. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы.

Крыжова-купальны храм. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуе шмат'ярусная шатровая званіца з галоўкай. Над сяродкрыжжам гранёны барабан з шатром, завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Фасады дэкарыраваны рустам, згрупаванымі і адзіночнымі паўкалонамі, шматпрафіляванымі карнізамі і паяскамі, какошнікамі, кілепадобнымі ліштвамі арачных аконных праёмаў. Інтэр'ер вырашаны ў спрошчаных архітэктурных формах.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Сокарава, цэнтр сельсавета**

**426. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 3.7.1941 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.



425. *Мікалаеўская царква.*

**в. Старадворцы, Верхнякрывінскі сельсавет**

**427. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — пачатку ліпеня 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Узрэчча, Ульскі пасялковы Савет**

**428. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Заходняя Дзвіна. Пахаваны 111 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Джумаш Асаналіеў, Іван Сямёнавіч Бірукоў, Мікалай Сцяпанавіч Дароўскі, Анатоль Міхайлавіч Звераў, Іван Аляксеевіч Мартынаў, Іван Антонавіч Плякін, Уладзімір Данілавіч Салончанка, Міхаіл Пятровіч Хваткоў.

Дж. А с а н а л і е ў нарадзіўся 10.5. 1923 г. ў с. Атуз-Уул Ак-Суйскага р-на Ісык-Кульскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. З 1942 г. ў Чырвонай Арміі, з сакавіка 1943 г. на фронце. Наводчык станковага кулямёта гвардыі яфрэйтар Дж. Асаналіеў 24.6.1944 г. адным з першых пераправіўся з кулямётам цераз Заходнюю Дзвіну каля в. Лабейкі Шумілінскага р-на. У баі за плацдарм знішчыў каля 20 гітлераўцаў; адбіваў контратакі праціўніка, пакуль не скончыліся патроны і гранаты. Акружаны гітлераўцамі, 25.6.1944 г. апошняй гранатай падарваў сябе і ворагаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названы вуліца ў Мінску, школа ў с. Уч-Кайнар Цюпскага р-на Ісык-Кульскай вобл., перад будынкам школы пастаўлены помнік.

І. С. Б і р у к о ў нарадзіўся 6.10. 1918 г. ў в. Масолаўка Расказаўскага р-на Тамбоўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Ад'ютант старшы батальёна гвардыі старшы лейтэнант І. С. Бірукоў 23.6.1944 г. ў час прарыву варожай абароны каля в. Сіроціна ўмела арганізаваў кіраванне падраздзяленнямі і іх забеспячэнне ў баі. 24.6. 1944 г. з батальёнам фарсіраваў Заходнюю Дзвіну каля в. Дворышча Бешанковіцкага р-на, захапіў плацдарм, адбіў 10 контратак пяхоты і танкаў гітлераўцаў. Загінуў у баі 25.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

М. С. Д а р о ў с к і нарадзіўся 1.5. 1924 г. ў в. Старарагавое Гаршэчанскага р-на Курскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Кулямётная рота пад камандаваннем гвардыі лейтэнанта М. С. Дароўскага

24.6.1944 г. фарсіравала Заходнюю Дзвіну і суткі абараняла плацдарм. М. С. Дароўскі загінуў 25 чэрвеня ў рукапашным баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

А. М. Звераў нарадзіўся 27.4. 1925 г. ў в. Бахтэмір Ікранінскага р-на Астраханскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Радавы А. М. Звераў 26.6.1944 г. з групай байцоў пад агнём праціўніка пераправіўся цераз Заходнюю Дзвіну каля в. Ярашова Шумілінскага р-на, прабраўся да варожых траншэй і закідаў іх гранатамі. Загінуў у баі 26.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названы вуліца і саўгас на радзіме.

І. А. Мартынаў нарадзіўся 19.9. 1923 г. ў с. Нікола-Сергіеўка Мардоўскага р-на Тамбоўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір стралковага ўзвода гвардыі старшы лейтэнант І. А. Мартынаў у час наступлення 23—24.6.1944 г. замяніў камандзіра роты, якая першай фарсіравала Заходнюю Дзвіну каля в. Лабейкі Шумілінскага р-на. У баі за плацдарм двойчы падымаў байцоў у атаку. Памёр ад ран 25.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7. 1944 г.

І. А. Плякін нарадзіўся ў 1914 г. ў с. Ровенькі Белгарадскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. З 1936 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. 24.6.1944 г. мінамётная рота пад камандаваннем гвардыі капітана І. А. Плякіна разам з пяхотай фарсіравала Заходнюю Дзвіну і захапіла плацдарм, у жорсткім баі адбіла 3 контратакі праціўніка. 25 чэрвеня І. А. Плякін загінуў у баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

У. Д. Салончанка нарадзіўся 22.10.1922 г. ў Краснаярску. З рабочых. Член КПСС з 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. 24.6.1944 г. кулямётная рота пад камандаваннем гвардыі старшага лейтэнанта У. Д. Салончанкі каля в. Лабейкі Шумілінскага р-на фарсіравала Заходнюю Дзвіну, захапіла плацдарм і ўтрымала яго. У. Д. Салончанка замяніў разлік станковага кулямёта, які выбыў са строю. Загінуў у баі 25.6. 1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Яго імем названа вуліца на станцыі Чорнарэчанская Казульскага р-на Краснаярскага краю.

М. П. Хваткоў нарадзіўся 24.11. 1925 г. ў с. Лугавое Ульянаўскага р-на Ульянаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну ў 1943 г. добраахвотна пайшоў на фронт. Сапёр гвардыі яфрэйтар М. П. Хваткоў каля в. Сіроціна пры прарыве абароны праціўніка 22.6.1944 г. зрабіў у мінных палях і драцяных загароджах 2 праходы (абясшкодзіў 64 міны) і правёў праз іх роту пяхоты. Пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны 24 чэрвеня М. П. Хваткоў на зробленым ім плыце за суткі пераправіў 60 байцоў і 8 станковых кулямётаў, 30 скрынак боепрыпасаў, вывез параненых. Загінуў пры пераправе 25.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імя прысвоена школе на радзіме.

У 1959 г. на магілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. Б. Караткевіч.*

**429. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,25 км на захад ад вёскі. 3 насыпы вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 11—15 м. Выявіў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**г. п. Ула**

**430. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Леніна. Пахаваны 34 воіны і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Рыгор Яфімавіч Бераснёў, Іван Мікалаевіч Бярэзін, Мікалай Іванавіч Мітрафанаў.

Р. Я. Бераснёў нарадзіўся ў 1916 г. ў с. Касіха Алтайскага краю ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з красавіка 1944 г. 26.6. 1944 г. радавы 7-й стралковай роты 975-га стралковага палка 270-й стралковай Дзямідаўскай дывізіі 6-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту Р. Я. Бераснёў з групай байцоў пераправіўся на левы бераг Заходняй Дзвіны ў раёне г. п. Ула і ў рукапашнай схватцы выбіў ворага з траншэй. Цяжка паранены, працягваў прыкрываць агнём пераправу часцей. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.



430. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

І. М. Бярэзін нарадзіўся ў чэрвені 1923 г. ў в. Лябяжае Паўлаўскага р-на Алтайскага краю ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. 25.6.1944 г. радавы 7-й стралковай роты 975-га стралковага палка 270-й стралковай Дзямідаўскай дывізіі І. М. Бярэзін пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны гранатамі знішчыў кулямётны разлік праціўніка, што садзейнічала пераправе палка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

М. І. Мітрафанаў нарадзіўся 24.12.1912 г. ў с. Блінава Песцякоўскага р-на Іванаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір стралковага ўзвода 9-й стралковай роты 977-га стралковага палка 270-й стралковай Дзямідаўскай дывізіі лейтэнант М. І. Мітрафанаў вызначыўся пры вызваленні Бешанковіцкага р-на. 26.6.1944 г. ўзвод пад яго камандаваннем адным з першых выйшаў да Заходняй Дзвіны, пад агнём праціўніка пераправіўся на левы бераг і прыкрываў агнём пераправу батальёна. У баі за плацдарм М. І. Мітрафанаў падняў узвод у атаку і захапіў варожыя траншэі. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**431. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка, на тэрыторыі піянерскага лагера «Радуга». Пахаваны 320 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 5.12.1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**432. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка, каля адміністрацыйнага будынка саўгаса «Раманава». На ўшанаванне памяці 188 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**433. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка сельскага сярэдняга прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 3 імя Л. М. Даватара. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**434. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На вул. Даватара.

У гонар воінаў 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту, якія вызначыліся ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры фарсіраванні р. Заходняя Дзвіна ў чэрвені 1944 г., у 1964 г. пастаўлена стэла.

**435. РАДЗІМА ХРУЦКАГА** Івана Трафімавіча (гіст.).

Жывапісец І. Т. Хруцкі нарадзіўся 27.1.1810 г. ў сям'і свяшчэнніка. Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Полацку. Каля 1827 г. пераехаў у Пецярбург, браў урокі ў Дж. Доў (да 1829 г.), быў вольным слухачом у Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў па класу партрэтнага і ландшафтнага жывапісу ў А. Р. Варнека (да 1839 г.). З 1839 г. акадэмік. У 1840-я гады жыў пад Вільняй (напісаў «Чатыры віды горада»), з сярэдзіны 1850-х гадоў — у маёнтку Захарнічы (Полацкі р-н). Карціны І. Т. Хруцкага вызначаюцца дакладнасцю ў перадачы натуры, прасякнуты паэтычным ўспрыманнем побыту, спакоем. Пісаў нацюрморты — «Садавіна і птушка» (1833 г., Дзяржаўны мастацкі музей БССР), «Кветкі і плады» (1839 г., Дзяржаўны мастацкі музей БССР), «Бітая дзічына, агародніна і грыбы» (1854 г., Дзяржаўны мастацкі музей БССР), інтэр'еры — «У пакоях мастака. Захарнічы» (1855 г., Дзяржаўная Трацякоўская галерэя). Стварыў шэраг партрэтаў, якія вызначаюцца рэалістычнай трактоўкай вобраза, пранікненнем у характар чалавека: партрэты жонкі мастака (1835 г., Рускі музей; 1845 г., Дзяржаўны мастацкі музей БССР), «Старая, што вяжа панчоху» (1838 г., Дзяржаўная Трацякоўская галерэя), сямейны партрэт (канец 1840-х гадоў, Дзяржаўны мастацкі музей БССР), партрэты Ксаверыя і Аляксандры Бямбоўскіх (1845 г., Нацыянальны музей, Варшава).

Памёр І. Т. Хруцкі 1.1.1885 г. Пахаваны на могілках у в. Захарнічы.

*Літ.:* Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Дробаў Л. М. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Ульянаўка, Ульскі пасялковы Савет**

**436. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе, каля дарогі. З курганы вышынёй 1—1,7 м, дыяметрам 6—11 м. Выявіў у 1929 г. І. Каран дзей, абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Фролкавічы, Ульскі пасялковы Савет**

**437. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, злева ад дарогі Бешанковічы — Ула. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Бешанковіцкага р-на ў чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Мікалай Васілевіч Крапцоў-Зайчанка.

М. В. Крапцоў-Зайчанка нарадзіўся 11.3.1914 г. ў с. Зярцалы Ачынскага р-на Краснаярскага краю. З рабочых. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну з студзеня 1942 г. на Паўночна-Заходнім, 2-м Украінскім і 1-м Прыбалтыйскім франтах. Камандзір узвода разведкі 977-га стралковага палка 270-й стралковай Дзямідаўскай дывізіі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту гвардыі лейтэнант М. В. Крапцоў-Зайчанка вызначыўся пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны. 26.6.1944 г. ў раёне в. Надзежына Шумілінскага р-на узвод пад яго камандаваннем пераправіўся на левы бераг ракі, першым авалодаў траншэямі праціўніка, захапіў і расшырыў плацдарм. У гэтым баі М. В. Крапцоў-Зайчанка загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. П. Кобля.*

**438. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**438а.** Могільнік. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 4 насыпы вышынёй 1,8 м, дыяметрам 12 м. Адзін курган падоўжаны памерам 31×12×2 м. Адкрыў і абследаваў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. абследаваў Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**438б.** Курган. За 2,5 км на паўноч ны захад ад моста цераз р. Ула, у хвойніку. Вышыня 1,7 м, дыяметр 12 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі.

**в. Хоціна, Сокараўскі сельсавет**

**439. ПОМНІК ДАВАТАРУ** Льву Міхайлавічу (гіст., маст.). На шашы Лепель — Ула, каля павароту на вёску.

Пастаўлены ў 1965 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Л. М. Даватара (скульпт. М. Рыжанкоў, архітэктары В. Занковіч, Л. Левін; агульная вышыня 3,4 м; бетон з мармуровай крошкай). Уяўляе сабой пліту асіметрычнай формы, у левай частцы рэльефная выява Л. М. Даватара (у папасе і бурцы, выразна акрэслены толькі твар, абагульнены абрыс фігуры паступова зліваецца з плоскасцю пліты), у правай частцы — памятны надпіс. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**440. РАДЗІМА ДАВАТАРА** Льва Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генералмаёр (1941 г.) Л. М. Даватар нарадзіўся 7.2.1903 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1939 г.). З 1924 г. ў Чырвонай Арміі. З 1939 г. начальнік штаба кавалерыйскіх палка, брыгады, дывізіі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім фронце, камандзір асобнай кавалерыйскай групы. У жніўні — верасні 1941 г. група зрабіла глыбокі рэйд па тылах праціўніка ў Смаленскай вобл., з баямі прайшла каля 100 км, разграміла полк, штабы 2 палкоў і тапаграфічны аддзел 6-й нямецкай арміі, шмат гарнізонаў, знішчыла больш за 2500 варожых салдат і афіцэраў. У верасні 1941 г. вяла абарончыя баі пад Масквой на Валакаламскім напрамку. З лістапада Л. М. Даватар камандаваў кавалерыйскім корпусам, які пераўтвораны ў гвардзейскі. Умела арганізаваў абарону на р. Лама на ўчастку ад Ярапольца да Маскоўскага мора. У час контрнаступлен-



439. *Помнік Л. М. Даватару.*



440. *Помнік Л. М. Даватару.*

ня пад Масквой корпус на чале з Л. М. Даватарам наступаў з раёна Кубінкі, дзе быў прарваны фронт. Л. М. Даватар загінуў 19.12.1941 г. на подступах да г. Руза, у баі каля в. Палашкіна. Пахаваны на Новадзявочых могілках у Маскве. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.12. 1941 г. Яго імем названы вуліцы ў Маскве, Мінску, Віцебску і іншых гарадах.

У 1961 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены помнік — паясны бюст Л. М. Даватара (скульпт. А. Глебаў).

*Літ.:* Толокольников Г. А. Человек легенды.— М., 1966; Фёдоров П. Генерал Доватор.— М., 1973.

*М. К. Кошалеў.*

**в. Чанавічы, Астровенскі сельсавет**

**441. МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 партызаны і 6 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў чэрвені 1942 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**442. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКІХ АТРАДАЎ «СІБІРАК» І ІМЯ В. І. ЧАПАЕВА** (гіст.). У цэнтры вёскі.

Партызанскі атрад «Сібірак» створаны ў сакавіку 1942 г. з групы ваеннаслужачых, што дзейнічала ў Бешанковіцкім раёне з лістапада 1941 г. на чале з М. В. Траягабавым, і мясцовага насельніцтва. Камандзіры — М. В. Траягабаў (загінуў), М. А. Звераў, І. В. Драніцын, А. С. Пагарэлаў, камісары — Дз. П. Падалец, А. Р. Ніжнікаў, М. В. Палавінка (загінуў).

Партызанскі атрад імя В. І. Чапаева створаны ў красавіку 1942 г. з мясцовага насельніцтва і групы ваеннаслужачых на чале з І. С. Банкаровым. Камандзір атрада — І. С. Банкароў, камісары — А. В. Міцялёў, І. А. Мамінчанка, П. А. Арлоў, А. Р. Ніжнікаў.



*442. Помнік у гонар партызанскіх атрадаў «Сібірак» і імя В. І. Чапаева.*

Фарміраваліся атрады ў лесе каля вёскі, на так званай Чанавіцкай дачы. У кастрычніку 1942 г. атрады ўвайшлі ў склад партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь», створанай паводле рашэння Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б. 30.6.1944 г. ў складзе брыгады атрады злучыліся з Чырвонай Арміяй.



*443. Гарадзішча.*

У 1970 г. ў гонар партызанскіх атрадаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—2 (кн. 1).— Мн., 1967—73; Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; его ж. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976.

*Ф. В. Барысевіч.*

**в. Чарнагосце, Соржыцкі сельсавет**

**443. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пляцоўка памерам 68×48 м выцягнута з поўдня на поўнач і ўзвышаецца над паднinfожжам на 7—10 м. З паўночнага боку — роў глыбінёй 2 м і 2 валы вышынёй 2,1—2,5 м. Цяпер на пляцоўцы — могілкі. Вядома з 1964 г., абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Чурылава, Бачэйкаўскі сельсавет**

**444. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 143 аднавяскоўцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Янаўшчына, Драздоўскі сельсавет**

**445. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на краі доўгага пясчанага пагорка, вышынёй да 4 м. Пляцоўка памерам 40×20 м выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, краі гарадзішча пашкоджаны кар'ерамі. Вядома з 1971 г., абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Месцамі захаваўся культурны пласт да 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.

# БРАСЛАЎСКІ РАЁН

Браслаў
В І Ц Е Б С К А Я
Віцебск
В О Б Л.

Плюсы
Спрынды
Друя
Быстрамаўцы
Баруны
Друйск
Урбаны
Гаўрылаўцы
Слабодка
Карасіна
Завер'е
Мяжаны
Заранча
БРАСЛАЎ
Рубеж
Іказнь
Дрысвяты
Купчэлі
Ахрэмаўцы
Пагошча
Дварышча
Цяцеркі
Опса
Шаўляны
Гірэйшы
Вайнюнцы
Мількі
Замошша
Далёкія
Пакульня
Богіна
Сіпавічы
Відзы
Дуброўка
Казяны



Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## IV. БРАСЛАЎ

Горад, цэнтр Браслаўскага р-на. Размешчаны за 220 км на Захад ад Віцебска паміж азёр Дрывяты, Навята, Бярэжа і Святца. Становішча горада як транспартнага вузла вызначаюць шаша Маладзечна — Даўгаўпілс і дарогі Друя — Браслаў і Міёры — Браслаў. Бліжэйшая чыгуначная станцыя Друя знаходзіцца за 30 км на паўночны ўсход ад Браслава. Аэрапорт.

Браслаў (летапісны Брячиславль, Брятислав) упершыню ўпамінаецца ў хроніцы М. Стрыйкоўскага пад 1065 г. ў сувязі з нападам на яго літоўскіх князёў — братоў Кернуса і Гімбута. Гэтая падзея адлюстравана і ў хроніцы Быхаўца: «А потем князь велькі Кернус і Гімбут... пойдут на Руську Браслаўлю». На падставе археалагічных даследаванняў можна меркаваць, што Браслаў узнік у пачатку 11 ст. на месцы згарэўшага паселішча латгалаў і крывічоў, якое існавала з 9 ст. Пабудаваны як абарончы пункт на заходнім рубяжы Полацкага княства, верагодна, полацкім князем Брачыславам Ізяславічам, з імем якога звязваюць і назву горада. Горад развіваўся на выцягнутым з усходу на захад вузкім перашыйку паміж азёр, якія прыкрывалі Браслаў з поўначы, поўдня, захаду і багністай р. Друйка з усходу. Першыя жылыя будынкі групаваліся вакол высокай (14 м) стромкай гары, дзе знаходзіўся замак. У пачатку 14 ст. [1307 г. (?)] горад увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага і больш за 2 стагоддзі знаходзіўся пад непасрэдным кіраўніцтвам вялікіх князёў літоўскіх, якое яны ажыццяўлялі праз сваіх намеснікаў. У перыяд барацьбы паміж вялікімі князямі літоўскімі Свідрыгайлам і Жыгімонтам за велікакняжацкі прастол войскі беларускіх і ўкраінскіх князёў злучыліся ў Браславе з войскамі Лівонскага ордэна, тагачаснага саюзніка Свідрыгайлы, а ў 1435 г.— з татарскай конніцай. 8.10. 1500 г. ў час знаходжання ў Браславе вялікі князь літоўскі Аляксандр даў гораду прывілей на магдэбургскае права (няпоўнае), які ў 1514 г. пацвердзіў Жыгімонт I (Стары). У гэтым дакуменце упершыню ўпамінаецца браслаўскі замак. Браслаў меў свой герб «Нядрэмнае вока» (сімвалічная выява чалавечага вока на полі роўнастаронняга трохвугольніка ў абрамленні прамянёў), гарадскую пячатку, згодна якой называўся вольным горадам. Пасля смерці вялікага князя літоўскага Аляксандра (1506 г.) тут пасялілася яго жонка — вялікая княгіня Алена (памерла ў 1513 г.), дачка Маскоўскага князя Івана III. У 1550 г., калі Браслаў належаў князям Сапегам — Яну і яго сыну Паўлу, маршалку Вялікага княства Літоўскага і старосце Браслаўскаму, горад дашчэнту разбурылі татары.



**IV.** *Цэнтральная плошча.*

Паводле інвентару 1554 г., у горадзе было 5 вуліц, каля 100 жылых дамоў (разам з забудовай на Замкавай гары), казармы, царква, касцёл, кляштар, рынак, бальніца, 40 корчмаў, сядзіба князёў Масальскіх, якія каля 1520 г. набылі ў Сапегаў замак і частку горада.

Насельніцтва займалася пераважна земляробствам, часткова дробным гандлем. Былі развіты рамёствы, працавалі шаўцы, краўцы, кушняры, разьбяры, сёдзельнік, млынар і інш. Браслаўскія мяшчане штогод плацілі ў казну грашовы падатак — сярэбшчыну. Паводле інвентару 1554 г., у Браславе была вуліца пад назвай Вялікая, інвентар 1649 г. змяшчае назвы 2 вуліц — Іказньскай і Радскай, а таксама апісанне замка. Верхні замак меў 7 вежаў, вялікую браму з падвойнымі варотамі і вежай з 2 машыкулямі. На дзядзінцы знаходзіліся 3 вялікія дамы (у адным з іх размяшчаліся стары і новы цэхгаўзы), пякарня, стайня, турма, кухня, свірны і іншыя гаспадарчыя будынкі.

У вайсковым вопісе ад 10.5.1567 г. адзначана, што Браслаў выставіў у земскае войска (апалчэнне) 81 каня і 14 драбаў (жаўнераў). З 1566 г. Браслаў — цэнтр павета ў Віленскім ваяводстве. Кіраўніцтва ажыццяўлялі маршалак і падкаморы, меліся пасады харунжага, суддзі, падсудка, пісара. У горадзе праводзіліся павятовыя сеймікі — сходы шляхты, на якіх выбіралі паслоў на сейм.

У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. Браслаў неаднаразова пераходзіў з рук у рукі, некалькі разоў гарэў. У 1655 г. акупіраваны шведскімі войскамі, якія пачалі ваенныя дзеянні супраць Польшчы. Паводле Андрусаўскага перамір'я 30.1.1667 г. Браслаў застаўся ў складзе Рэчы Паспалітай. Вялікія разбурэнні і страты пацярпеў горад у час Паўночнай вайны 1700—21 гг. У 2-й палавіне 18 ст. ў склад Браслаўскага павета ўваходзілі Браслаўскае, Дрывяцкае і Опскае староствы. У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай Браслаў увайшоў у склад Расіі і з 17.12.1795 г. знаходзіўся ў складзе Віленскай, з 1797 г.— у Літоўскай, з 1801 г.— у Віленскай, з 1843 г.— у Ковенскай губернях. У Айчынную вайну 1812 г. заняты французамі, у Браславе 9 дзён размяшчаўся штаб маршала М. Нэя.

У 1850-я гады ў Браславе было 220 жыхароў, 60 двароў, касцёл, царква, сінагога, вучылішча, піваварня; у 1913 г.— 1550 жыхароў, бальніца, вінакурны завод, сельскае вучылішча.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1918 г. горад захапілі войскі кайзераўскай Германіі. Пасля яго вызвалення ў пачатку снежня 1918 г. бальшавікі стварылі ў Браславе павятовы Новааляксандраўскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт і абвясцілі яго паўнамоцным прадстаўніком Савецкай рэспублікі (старшыня Кішчук). 19.1.1919 г. павятовая канфе-



IV. *Від на горад з боку гарадзішча.*

рэнцыя рабочых, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў накіравала віншавальную тэлеграму У. І. Леніну, у якой выказвала надзею «на хуткае, поўнае і паўсюднае вызваленне ад ярма буржуазіі». У красавіку 1919 г. працоўныя Браслава сфарміравалі і накіравалі на фронт чырвонаармейскі атрад. З жніўня 1919 г. да ліпеня 1920 г. і з кастрычніка 1920 г. акупіраваны польскімі войскамі.

Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., Браслаў адышоў да буржуазна-памешчыцкай Польшчы, быў цэнтрам павета. На 30.9.1921 г. ў горадзе было 1587 жыхароў, 243 дамы, млын, тартак, цагельня, шэраг дробных прыватных крам. Дзейнічалі акруговыя камітэты КПЗБ і КСМЗБ.

З 1939 г. Браслаў у складзе БССР. У 1939 г.— 4,9 тыс. жыхароў. З 1940 г. цэнтр раёна. У чэрвені 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (14.9. 1943 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (14.9. 1943 г.— 2.7.1944 г.), у горадзе Браслаўскае антыфашысцкае падполле. Вызвалены 8.7.1944 г. воінамі 735-га стралковага палка 166-й стралковай дывізіі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту і партызанамі брыгады імя Г. К. Жукава. У 1952 г. ў Браславе 4,2 тыс. жыхароў.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны пачалася рэканструкцыя Браслава. Яго архітэктурна-планіровачную структуру вызначаюць Замкавая гара — старажытны цэнтр горада, і ўзгоркавы рэльеф мясцовасці вакол яе. Старажытная частка горада мае нерэгулярную планіроўку, са звілістымі вуліцамі і маляўніча раскіданымі на ўзвышшах дамамі. Вуліцы і завулкі ўтвараюць складаную крывалінейную сетку, абкружаюць Замкавую гару і запаўняюць прастору паміж азёрамі Дрывяты, Навята, Бярэжа і Святца. Найбольш шчыльна забудавана старая частка горада, што прымыкае да Замкавай гары. Тут фрагментарна захаваўся лінейны характар квартальнай забудовы 19 — пачатку 20 ст. з вузкімі праходамі паміж дамамі і выцягнутымі перпендыкулярна вуліцам дварамі. Дамы стаяць на высокіх фундаментах з буйных бутавых камянёў, якія ў спалучэнні з украпваннямі маленькіх рознакаляровых каменьчыкаў ствараюць маляўнічую паверхню муроў, характэрную для сельскіх і местачковых мураваных будынкаў Віцебшчыны 19 — пачатку 20 ст. Вуліцы, размешчаныя далей ад Замкавай гары, забудаваны ў 20 ст.

Адміністрацыйна-грамадскай зонай Браслава з'яўляецца вул. Савецкая, дзе размешчаны будынкі райкома КПБ і райвыканкома, Дома культуры, кінатэатра, гасцініцы, пошты, універмага і інш. Да вуліцы прымыкае цэнтральная плошча і сквер.

Праект планіроўкі Браслава распрацаваны ў 1972 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, генеральны план горада — у 1981 г. ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва. Развіццё Браслава плануецца ў паўночна-ўсходнім напрамку, паміж азёрамі Бярэжа і Навята. Грамадскі цэнтр горада атрымае шырокі выхад на набярэжную воз. Дрывяты. Сучасная жылая забудова вядзецца ў паўночнай і паўночна-ўсходняй частках горада. Тут фарміруюцца жылыя раёны (з цэнтрамі абслугоўвання), якія забудоўваюцца 3—5-павярховымі дамамі. Працуюць: малаказавод, ільнозавод, рыбазавод, вытворчы ўчастак Шаркоўшчынскага кансервава-агароднінасушыльнага камбіната, хлебакамбінат, прамысловы камбінат, лясгас з дрэваапрацоўчым цэхам, асфальтабетонны завод, будаўніча-мантажнае ўпраўленне меліярацыі, камбінат бытавога абслугоўвання. У горадзе ёсць сярэдняя, васьмігадовая, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа рабочай моладзі, 3 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, народны тэатр, 2 бібліятэкі, кінатэатр, 4 клубы, бальніца, паліклініка, дыспансер. Выдаецца раённая газета «Браслаўская звязда».

На цэнтральнай плошчы знаходзіцца помнік У. І. Леніну, у скверы — помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, у двары Дома культуры — помнік традыцыйнага народнага дойлідства Браслаўшчыны 19 ст.— калодзеж з драўляным шатром. Помнікамі народнага драўлянага дойлідства пачатку 20 ст. з'яўляюцца свірны ў дварах дамоў па сучасных вуліцах Булойчыка, 5, і К. Лібкнехта, 3. Вул. К. Лібкнехта забудавана ў 1921—26 гг. мураванымі двухпавярховымі жылымі дамамі з мансардамі (для чыноўнікаў павятовай адміністрацыі, паводле праекта віленскага арх. Ю. Клоса). Гэтыя дамы маюць элементы архітэктуры «мадэрн».

Зона адпачынку — воз. Дрывяты. Тут размешчаны дзіцячы санаторый і турбаза «Браслаўскія азёры».

*Літ.:* Семенов-Тян-Шанский П. П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1.— СПб., 1863; Белоруссия в эпоху феодализма.



IV. *Дом культуры.*



*446. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1.— Мн., 1936. Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego.— Wilno, 1930; Аляксееў Л. В. Старажытны Браслаў.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1978, № 4. *С. Ф. Цярохін, С. Г. Багласаў.*

**446. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Пахаваны 879 воінаў 166-й стралковай дывізіі 1-га Прыбалтыйскага фронту і партызан брыгады імя Г. К. Жукава, якія загінулі пры вызваленні г. Браслаў і Браслаўскага р-на. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Іван Мікітавіч Валчкоў і Аляксей Мітрафанавіч Жданаў.

І. М. Валчкоў нарадзіўся 17.8. 1910 г. ў с. Пічаева Пічаеўскага р-на Тамбоўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. На фронце з 1941 г. Камандзір стралковай роты гвардыі капітан І. М. Валчкоў вызначыўся 8.7.1944 г. пры вызваленні в. Пустошка Браслаўскага р-на. Пад моцным агнём праціўніка ён падняў у атаку роту, якая 6 гадзін вяла няроўны бой з ворагам і выбіла яго з вёскі. 14.7.1944 г. рота пад камандаваннем І. М. Валчкова ўтрымлівала вышыню каля вёсак Алёхны і Плюсы. Паранены І. М. Валчкоў не пакінуў поле боя, застаўшыся з 5 байцамі, ён разам з імі кінуўся на ворага і ў гэтым баі загінуў. 24.3.1945 г. І. М. Валчкову прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

А. М. Жданаў нарадзіўся 4.3. 1917 г. ў с. Круглае Аляксееўскага р-на Белгарадскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў у 1937 г. Астрагожскае педвучылішча. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, Паўночна-Заходнім, 1-м Прыбалтыйскім франтах. Камандзір батальёна маёр А. М. Жданаў вызначыўся каля в. Байнары Браслаўскага р-на. 14.7. 1944 г. батальён А. М. Жданава быў акружаны значнымі сіламі праціўніка і прыціснуты да возера. У ходзе бою батальён знішчыў 3 варожыя танкі, 2 самаходныя гарматы, каля 150 салдат і афіцэраў праціўніка. На змярканні батальён пайшоў на прарыў, А. М. Жданаў з групай байцоў застаўся для прыкрыцця і стрымліваў кулямётным агнём націск ворага. 15.7.1944 г. быў смяротна паранены. 24.3.1945 г. А. М. Жданаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імя прысвоена сярэдняй школе ў Браславе.

У 1981 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна на фоне 2 абеліскаў, побач — пліты з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**447. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры горада на перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята, на Замкавай гары (14 м). Рэшткі вала, які абкружаў гарадзішча, на паўднёвым усходзе вышынёй 3—4 м, на паўночным захадзе — да 9 м. Памер пляцоўкі 200×100 м. Раскопкі ў 1955—56 гг. праводзіў Л. В. Аляксееў, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Даследавана ўсходняя частка гарадзішча плошчай каля 400 м². Культурны пласт каля валоў 1,6 м, у напрамку да цэнтра пляцоўкі да 0,25 м, складаецца з трох гарызонтаў. Ніжні гарызонт датуецца 9—10 стагоддзямі. У ім знойдзена ляпная кераміка. Раскопкі пацвердзілі, што горад узнік на месцы паселішча латгалаў і крывічоў. Пасадскія паселішчы размяшчаліся вакол гарадзішча на месцы сучасных вуліц Савецкай, Замкавай, Кірава, Ленінскай. Сярэдні гарызонт адносіцца да 11—12 стагоддзяў. Выяўлены рэшткі драўляных пабудоў. Сярод знаходак — праслíцы, нажы, крэсівы, пісалы, бронзавыя бранзалеты і пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, шмат касцей жы-




*447. Гарадзішча. План: А — траншэя; 1—5 — раскопы.*



*447. Гарадзішча.*



448. *Калодзежны шацёр. Разрэз.*

вёлы, зерне жыта, ячменю, аўса. Сярэдні гарызонт адмежаваны ад ніжняга рэшткамі пажарышча. Верхні гарызонт датуецца канцом 13 — пачаткам 15 ст. Знойдзена літоўская манета 14 ст., наканечнік стралы, ключы ад замкоў, шмат глінянага посуду розных тыпаў. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

У 1965 г. на месцы гарадзішча ў памяць аб заснаванні горада ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.— М., 1966; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978. *Г. В. Штыхаў.*

**448. КАЛОДЗЕЖНЫ ШАЦЁР** (архіт.). У цэнтры горада, у двары Дома культуры. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва.

Шацёр пастаўлены над калодзежам на 4 прафіляваных слупах з падкосамі. Пачатковае ўмацаванне ствала калодзежа не захавалася. Аснова шатра ўтворана скрыжаванымі бэлькамі, канцы якіх выступаюць і маюць фігурныя зрэзы. Пакрыццё шатра зроблена з мяккай дранкі, што дало магчымасць стварыць пластычныя грані і плаўныя абрысы даху. Завяршае яго шпіль з простай прафіліроўкай, аналагічнай прафіліроўцы слупоў.

Шацёр — помнік традыцыйнага народнага дойлідства.

**449. КАСЦЁЛ** (архіт.). Каля старажытнага замчышча. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з бутавага каменю і цэглы. Трохнефавы аднавежавы прамавугольны ў плане храм накрыты двухсхільным дахам. Трох'ярусная вежа завершана шатром. Элементы дэкору: пінаклі, стральчаты партал увахода, аркатура. Помнік архітэктуры неаготыкі.

**450. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 86.

У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1942 г. да ліпеня 1944 г. дзейнічала Браслаўскае антыфашысцкае падполле. Арганізатары і кіраўнікі: А. А. Васілеўскі (да верасня 1943 г.), Э. А.Ціранаў. У склад групы ўваходзіла 14 чалавек, у т. л. Дз. А. Васілеўскі, У. Ю. Відаўскі, І. А. Дубінка, І. М. Елізараў, М. Л. Зайцаў, К. А. Зінькоў, А. Я. Пракаповіч. Падпольшчыкі вялі антыфашысцкую прапаганду, уладкоўваліся на працу ва ўстановы акупантаў, здабывалі там звесткі аб складзе і колькасці войск праціўніка ў гарнізонах, месцах знаходжання ваенных складоў і аэрадромаў і перадавалі іх партызанам. Яны выратавалі ад фашысцкай расправы больш за 150 савецкіх і партыйных работнікаў, ваеннапалонных. Па ініцыятыве А. А. Васілеўскага ў маі — ліпені 1942 г. была створана партызанская група пад камандаваннем К. Я. Анціпенкі. Падпольшчыкі выконвалі заданні партызанскага атрада «За Радзіму» (пазней брыгада, з 1943 г. партызанская брыгада імя Г. К. Жукава). Падтрымлівалі цесную сувязь і аказвалі дапамогу Азяраўскай падпольнай камсамольскай арганізацыі і Браслаўскай падпольнай камсамольскай групе. У верасні 1943 г. браты Васілеўскія арыштаваны. А. А. Васілеўскага закатавалі ў турме, Дз. А. Васілеўскі прайшоў праз фашысцкія лагеры смерці Асвенцым, Майданэк. У барацьбе з ворагам загінулі М. Л. Зайцаў, К. А. Зінькоў.

У памяць аб дзейнасці антыфашысцкай падпольнай арганізацыі ў 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *М. М. Казлоўская.*

**451. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Каля старажытнага замчышча. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Складаецца з кубічнага асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды, бабінца і двух'яруснай званіцы. Асноўны аб'ём і званіца завершаны галоўкамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**452. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На плошчы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**453. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай, на



449. *Касцёл.*



451. *Мікалаеўская царква.*

тэрыторыі аўтабазы № 18. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1963 г.

**в. Алёхны, Плюскі сельсавет**

**454. МЕСЦА БОЮ 1944 г.** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі.

14.7.1944 г. рота 22-га стралковага палка 9-й гвардзейскай стралковай дывізіі пад камандаваннем гвардыі капітана І. М. Валчкова трымала абарону на вышыні «Метка» каля вёсак Алёхны і Плюсы. Гітлераўцы спрабавалі авалодаць вышынёй і неаднаразова пры падтрымцы 3 танкаў ішлі ў атаку. У жорсткім баі І. М. Валчкоў быў паранены, але працягваў кіраваць боем. Некалькі гадзін савецкія воіны ўтрымлівалі вышыню, знішчылі каля 100 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. У гэтым баі І. М. Валчкоў загінуў. Пахаваны ў брацкай магіле па вул. Савецкай (гл. артыкул № 446 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан»).

У 1977 г. на месцы бою пастаўлена стэла з памятным надпісам.

*В. В. Семянюк.*



454. *Помнік на месцы бою 1944 г.*

**в. Ахрэмаўцы, цэнтр сельсавета**

**455. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 166 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Браслаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**456. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, справа ад шашы Браслаў — Шаркоўшчына. 76 насыпаў паўсферычнай формы. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. Ф. В. Пакроўскі (7 насыпаў), даследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч (2 насыпы), у 1976—78 гг. і ў 1982 г. Л. У. Дучыц (5 насыпаў). Пахавальны абрад — трупапаленне. Сярод знаходак (выяўлены ў 4 курганах) — жалезныя і бронзавыя спражкі, пярсцёнак, 5 бронзавых скроневых кольцаў, фрагменты бронзавага ўпрыгожання, ляпныя пасудзіны. Могільнік належаў балта-славянскаму насельніцтву. Датуецца 8—10 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР (Вільнюс) і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Из доисторического быта на славяно-литовской границе.— Вильна, 1894. *Л. У. Дучыц.*

**457. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку школы ў в. Ахрэмаўцы. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар падпольнай камсамольскай арганізацыі.

Азяраўская падпольная камсамольская арганізацыя дзейнічала з ліпеня 1942 г. да ліпеня 1944 г. Створана ў в. Азяраўцы, дзейнасць падпольшчыкаў пашыралася на навакольныя вёскі, на Браслаў. Кіруючае ядро падполля: І. К. Пяткун (сакратар), К. І. Максімовіч (намеснік сакратара), А. У. Пяткун, М. А. Пяткун, Э. У. Пяткун. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, выратоўвалі насельніцтва ад вывазу ў Германію. Летам 1942 г. стварылі ў Браславе падпольную камсамольскую групу, якую ўзначаліў К. І. Максімовіч. Вясною 1943 г. наладзілі сувязь з партызанамі брыгады імя Г. К. Жукава. Здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, прадукты, друкарскую фарбу, паперу, радыёдэталі, дапамагалі ваеннапалонным перапраўляцца да партызан. Рабілі дыверсіі на дарогах і ў нямецкіх установах. Пранікалі ў нямецкія гарнізоны Браслава, Даўгаўпілса, Вільнюса і паведамлялі партызанам звесткі пра колькасць і размяшчэнне баявой тэхнікі ворага, папярэджвалі аб карных аперацыях.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *М. М. Казлоўская.*



458. *Парк імя І. У. Мічурына. Курціна ў цэнтральнай частцы.*

**458. ПАРК ІМЯ І. У. МІЧУРЫНА** (архіт.). На паўвостраве паўднёва-ўсходняга берага воз. Дрывяты. Закладзены ў 2-й палавіне 18 — пачатку 19 ст. Займае тэрыторыю 65 га. Быў часткай палацава-паркавага ансамбля (мураваны палац разбураны ў 1914 г.).

Складаецца з 2 ландшафтных частак, размешчаных на 2 плоскіх плато. Значны перапад рэльефу паміж імі быў аформлены 3 вузкімі тэрасамі з сістэмай лесвіц (не збераглiся). У сярэдзіне тэрас створаны паўкруглыя пляцоўкі-выступы. Кампазіцыя палацава-паркавага ансамбля выцягнута па падоўжнай восі. Цэнтрам яе з'яўляўся палац, размешчаны на краі верхняй тэрасы. Парадная частка парку перад палацам — курданёр,



458. *Парк імя І. У. Мічурына. Схема планіроўкі.*

замкнуты каменнай агароджай і глыбокім ровам. Да палаца вялі 3 уезды: 2 дарогі праходзілі па краях партэра, трэцяя — па пад'ёмным мосце, перакінутым цераз роў. Партэр па баках абмежаваны курцінамі ў выглядзе некалькіх пар куліс з дрэў ліс-цевых парод. Як дэкаратыўныя элементы выкарыстаны піхта сібірская і туя заходняя. Па перыметры верхняга плато пракладзены адзін з прагулачных маршрутаў, з якога паступова адкрываецца від на паркавыя курціны.

Ніжняя пейзажная частка парку размешчана з боку заходняга фасада былога палаца. Яе кампазіцыя заснавана на глыбокай перспектыве, якая адкрываецца праз вузкі разрыў у лясным масіве, за якім праглядаецца роўнядзь возера. Дзве групы дрэў, што пасаджаны на ўзгорках, узбагачаюць сілуэт гэтай часткі парку. Яго пейзажны рамантычны характар узмацняюць, размешчаныя на кампазіцыйнай восі партэра 2 сажалкі, злучаныя пратокамі, якія ўтвараюць маляўнічыя затокі і астравы. У парку пераважаюць мясцовыя пароды дрэў: елка, хвоя веймутава, дуб звычайны, арэх чорны, ліпа, асіна, ясень, бяроза; растуць таксама лістоўніца сібірская, таполя канадская, карагана дрэвападобная, або жоўтая акацыя, туя заходняя, глог калючы, піхта сібірская і інш.

Помнік садова-паркавага мастацтва, адзін з буйных паркаў рэгулярна-пейзажнага тыпу планіроўкі на Беларусі.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**в. Бабылі, Далёкаўскі сельсавет**

**459. КУРГАН БЕССМЯРОТНАСЦІ** (гіст.). За 7 км на поўнач ад вёскі. Тут у 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі 460 жыхароў вёскі Стайкі. У 1965 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла.

**в. Баравыя, Казянскі сельсавет**

**460. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 28.11.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 194 жыхары, спалілі 45 двароў в. Баравыя. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баруны, Плюскі сельсавет**

**461. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Богіна, Далёкаўскі сельсавет**

**462. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Насупраць вёскі, на паўночна-ўсходнім беразе воз. Богінскае, справа ад дарогі з в. Вусце ў в. Плетарова. 10 насыпаў вышынёй ад 0,6 да 0,8 м, дыяметрам ад 5 да 6 м. Раскопкі праводзілі ў 1886 г. У. Плятэр, у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі (3 курганы). Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены крэсівы, скроневыя кольцы, фібулы, трапецападобныя падвескі. Абследавала ў 1978 і 1981 г. Л. У. Дучыц. Датуецца 8—11 ст., належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР (Вільнюс).

*Літ.:* Покровский Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии.— У кн.: Труды IX археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1. *Л. У. Дучыц.*

**463. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчына.

**в. Быстрамаўцы, Плюскі сельсавет**

**464. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 19 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вайнюнцы, Далёкаўскі сельсавет**

**465. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

## V. ВІДЗЫ

Гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не. Размешчаны за 41 км ад Браслава, 260 км ад Віцебска, на шашы Паставы — Даўгаўпілс. Бліжэйшая чыгуначная станцыя — Гадуцішкі на лініі Лынтупы — Варапаева, за 30 км.

Вядомы з сярэдзіны 15 ст. З 1481 г. прыватнае ўладанне, з 1524 г. частка відзкіх зямель належала віленскаму ваяводзе А. Гаштольду, мястэчкам Відзы ён валодаў разам з магнатам Нарушэвічам, з 1629 г. Відзы сталі ўладаннем Пацаў, з 1675 г.— віленскага біскупа. У 16—17 стагоддзях Відзы ўваходзілі ў склад Браслаўскага павета Віленскага ваяводства. Паводле інвентару 1731 г., у Відзах 4 вуліцы, 305,5 га ворнай зямлі. Насельніцтва займалася пераважна земляробствам, рамёствамі і гандлем. З 1795 г. Відзы ў складзе Расійскай імперыі. Да 1839 г. цэнтр павета, потым заштатны горад Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні. У 1890 г. ў горадзе 6417 жыхароў, дзейнічалі вінакурны завод, млын, 2 народныя вучылішчы, 3 разы на год праводзіліся кірмашы. У 1-ю сусветную вайну акупіраваны (1915—18 гг.) войскамі кайзераўскай Германіі і амаль поўнасцю разбураны. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў снежні 1918 г. У жніўні 1919 г. акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы, у ліпені 1920 г. вызвалены Чырвонай Арміяй. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., Відзы адышлі да буржуазна-памешчыцкай Польшчы; заштатны горад у Браслаўскім павеце Віленскага ваяводства. З 1923 г. ў горадзе дзейнічала падпольная ячэйка КПЗБ.

З 1939 г. Відзы ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, раённы цэнтр у Вілейскай вобл. У чэрвені 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі Відзскага р-на дзейнічала партызанская брыгада «Спартак», падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (14.9. 1943 г.— 4.7.1944 г.). Выдавалася падпольная газета «Красное знамя». 2.7.1944 г. партызаны брыгады «Спартак» разам з літоўскімі партызанамі атрада «Жальгірыс» з боем занялі Відзы і 2 дні ўтрымлівалі пасёлак. Вызвалены 8.7.1944 г. войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту. У 1944—54 гг. Відзы — раённы цэнтр у Полацкай, у 1954—60 гг.— у Маладзечанскай абласцях, з 1960 г.— гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не Віцебскай вобл.

Забудова пасёлка цягнецца з поўначы на поўдзень. На ўсходзе мяжуе з землямі калгаса «Уперад», цэнтральная сядзіба якога знаходзіцца ў пасёлку. Планіроўка квартальная. Пераважаюць аднапавярховыя дамы сядзібнага тыпу. У 1975 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план забудовы г. п. Відзы. Развіццё пасёлка ажыццяўляецца ў існуючых межах за кошт павелічэння шчыльнасці забудовы і ўзвядзення шматпавярховых будынкаў, захоўваецца планіроўка, што гістарычна склалася. У заходняй частцы, на вул. Леніна, размешчаны грамадскі цэнтр. Тут знаходзяцца выканком пасялковага Савета, Дом культуры, жылы і вучэбны карпусы прафесійна-тэхнічнага вучылішча, прадпрыемствы гандлю і грамадскага харчавання, аўтастанцыя, двухпавярховыя жылыя дамы.

Працуюць: цагельны завод, млын, хлебазавод, прадзільны цэх, лясніцтва, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя агульнаадукацыйная і музычная школы, 2 дашкольныя



466. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ўстановы, Дом культуры, 2 бібліятэкі, Дом быту, бальніца. Помнікі на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, захаваўся помнік архітэктуры пачатку 20 ст.— Троіцкі касцёл. Месца адпачынку працоўных — у раёне азёр Секлы, Відукі, Маруга.

*Літ.:* Семенов-Тян-Шанский П. П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1.— СПб., 1863; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1.— Мн., 1936; Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego.— Wilno, 1930.

*Г. Ф. Раманаў.*

**466. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 135 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Браслаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. На пастаменце дошкі з імёнамі загінуўшых.

**467. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 59 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна і пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, на пастаменце — дошкі з імёнамі загінуўшых.

**468. МАГІЛА ВАЎЖЭЦКАГА** Тамаша Аляксандравіча (гіст.). На вул. Леніна, у двары прадмага № 2.

Т. А. Ваўжэцкі — грамадска-палітычны дзеяч Польшчы, адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г., пераемнік Т. Касцюшкі. Нарадзіўся ў 1753 г. ў Відзах. Род Ваўжэцкіх, браслаўскай сярэдняй шляхты, паходзіць ад Ваўжынца, унук якога Аўгуст атрымаў у спадчыну Відзы Лаўчынскія і стаў звацца Ваўжэцкім. Да 35-гадовага ўзросту звестак пра жыццё Т. А. Ваўжэцкага не захавалася. Па ўскосных даных (праекты дзяржаўных рэформ, прамовы на сеймах і інш.) можна меркаваць, што ён быў высокаадукаваным чалавекам. Належаў да прагрэсіўных колаў шляхты, якія намагаліся вывесці краіну на шлях дэмакратычнага развіцця. На Вялікім сейме (1788—92 гг.) быў паслом ад Браслаўскага павета, абараняў інтарэсы мяшчан і дамагаўся ўраўнавання іх у правах са шляхтай.

З першых дзён паўстання Т. А. Ваўжэцкі прыняў у ім актыўны ўдзел: узброіў на свае сродкі атрад з 300 чалавек, які ў маі павялічыўся да 1 тыс. чалавек, а пасля аб'яднання атрадаў Ковенскага, Упіцкага,Ількомірскага і Браслаўскага паветаў вырас у васьмітысячнае войска. Паўстанцы, якімі кіраваў Т. А. Ваўжэцкі, правялі шэраг паспяховых баёў пад Янішкелямі, Біржамі, штурмам авалодалі Лібавай. Галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі паўстання Т. Касцюшка высока ацаніў заслугі Т. А. Ваўжэцкага, прысвоіў яму званне генерал-лейтэнанта, узнагародзіў залатым пярсцёнкам з надпісам: «Айчыны сваёй абаронцу» і прызначыў камандуючым узброенымі сіламі Жмудскага княства і пагранічных раёнаў.

Пасля паражэння войска Касцюшкі пад Мацяёвіцамі (10.10.1794 г.) Т. А. Ваўжэцкі 12.10.1794 г. прызначаны пераемнікам галоўнакамандуючага. 18.11.1794 г. трапіў у палон, дзе прабыў 2 гады. Вызвалены па амністыі. Вярнуўся на Браслаўшчыну. У 1812 г.



467. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



469. *Троіцкі касцёл.*

ў сувязі з наступленнем войск Напалеона выехаў у Пецярбург. З 1815 г. член часовага ўрада Царства Польскага, пазней займаў пасады сенатара, ваяводы, міністра юстыцыі.

Памёр 5.8.1816 г. На магіле ўстаноўлена пліта з надпісам аб увекавечанні памяці генерала Тамаша Ваўжэцкага — прыяцеля і калегі Тадэвуша Касцюшкі, удзельніка і кіраўніка паўстання ў 1794 г.

*Літ.:* Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego.— Wilno, 1930.

*С. Ф. Цярохін.*

**469. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1914 г. з чырвонай цэглы.

Трохнефавая двухвежавая базіліка з пяціграннай апсідай, двухпавярховымі сакрысціямі і трансептам. Архітэктура храма вырашана ў строгай цэласнай пластыцы. Сцены прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі і ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. Вежы на галоўным фасадзе (вышыня 59 м) завершаны вострымі васьміграннымі шатрамі і значна ўзвышаюцца над астатнімі аб'ёмамі. У архітэктуры касцёла шырока выкарыстаны матыў упрыгожання зубцамі: яны расчляняюць вежы на 2 ярусы, завяршаюць іх сцены, тарцовыя фасады трансепта і цэнтральнага нефа. Галоўны ўваход вылучаны парталам. Над ім размешчана вялікае стральчатае акно з «ружай». У інтэр'еры — крыжовыя скляпенні.

Касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага стылю. *С. Г. Багласаў.*

**470. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў 1910 г. з цэглы. Прамавугольны ў плане будынак з пяціграннай алтарнай апсідай накрыты двухсхільным дахам. З боку галоўнага фасада вільчык прарэзаны трох'яруснай вежай (2 чацверыкі і васьмярык), завершанай купалком. У кампазіцыі і дэкоры будынка выкарыстаны элементы архітэктуры стылю «мадэрн».

### Відзы-Лаўчынскія, Відзскі сельсавет

**471. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на паўночным беразе воз. Дворнае. Цяпер у сядзібным доме навучальная ўстанова. З канца 18 ст. да 1816 г. належаў Т. А. Ваўжэцкаму (гл. артыкул № 468 «Магіла Ваўжэцкага Тамаша Аляксандравіча»).

Ансамбль сядзібы сфарміраваны ўздоўж берага возера. Яго кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца сядзібны дом з парадным прамавугольным партэрам перад ім. З усходняга боку да партэра прымыкае гаспадарчы двор, абнесены агароджай з брамай. Побач з домам з заходняга боку захаваўся пейзажны парк.

Сядзібны дом пабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. Прамавугольны ў плане аднапавярховы драўляны будынак накрыты вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага фасада — парадны ўваход, афармлены чатырохкалонным порцікам. Драўляныя элементы порціка: тонкія высокія калоны, нізкі трохвугольны франтон, вузкі карніз. Калоны порціка і шэраг аконных праёмаў падкрэсліваюць метрычны рытм галоўнага фасада. У цэнтры дваровага фасада размешчана мураваная арачная галерэя, раскрапаваная падвойнымі пілястрамі і завершаная атыкам. Яна добра праглядаецца з возера і з'яўляецца асноўным мастацкім акцэнтам дома. Паніжэнне рэльефу мясцовасці адкрывае на дваровым фасадзе цокальны паверх. Уваход у яго размешчаны на ўзроўні зямлі. Па тарцах сядзібнага дома знаходзяцца бакавыя ўваходы. Вуглавыя лапаткі і ліштвы аконных праёмаў руставаныя. Руст выкарыстаны і ў аздобе гаспадарчых будынкаў. Планіроўка сядзібнага дома строга сіметрычная і мае камбінаваную анфіладна-калідорную сувязь памяшканняў. У цэнтры дома размешчана прамавугольная зала, якая мае выхад на галерэю. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера не захавалася. Частка жылых пакояў знаходзілася ў мансардавым паверсе. Службы размяшчаліся ў падвале дома.

Парк плошчай 5 га, у заходняй частцы яго шмат дрэў хвойных парод — елка, лістоўніца. На паўночнай ускраіне пасаджаны дэкаратыўныя групы дрэў, у курціны ўключаны дугласія шызая, елка звычайная, таполя белая, хвоя веймутава і ліпа. Сярод рэдкіх відаў — клён вастралісты Шведлера, дуб чырвоны, дуб скальны, елка калючая блакітная, конскі каштан звычайны, клён прырэчны і інш.



**469.** *Троіцкі касцёл. План.*



**470.** *Царква.*



471. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



471. *Сядзібны дом. План.*

Сядзіба — характэрны прыклад мясцовай інтэрпрэтацыі архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

**в. Вусце, Казянскі сельсавет**

**472. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Казяны. 74 насыпы вышынёй ад 0,5 да 1,5 м, дыяметрам ад 5 да 12 м. Вядомы з канца 19 ст. У 1893 г. 4 курганы раскапаў Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. У 1982 г. В. І. Шадыра і Л. У. Дучыц раскапалі 9 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце (4 насыпы), каля вяршыні (1 насып), трупапалажэнне на гарызонце (1 насып), 3 курганы былі пустыя. Знойдзены жалезная сякера, наканечнік кап'я, нажы, жалезныя і бронзавыя спражкі, бронзавыя бразготкі, бранзалет, ляпны і ганчарны посуд. Датуецца 7—11 стагоддзямі, належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии.— У кн.: Труды IX археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1.

*Л. У. Дучыц, В. І. Шадыра.*



471. *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*




471. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2—4 — гаспадарчыя пабудовы.*



471. *Сядзіба. Гаспадарчыя пабудовы.*

**в. Гаўрылаўцы, Слабодкаўскі сельсавет**

**473. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**в. Гірэйшы, Дрысвяцкі сельсавет**

**474. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Відзскі». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Глыбоўшчына, Друйскі сельсавет**

**475. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на беразе воз. Глыбоўшчына. Пахаваны 30 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942—43 гг.

**в. Далёкія, цэнтр сельсавета**

**476. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі ў пералеску і на полі, каля дарогі ў в. Даўборы. 20 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5—9 м. Даследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1980 г. Л. У. Дучыц. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены жалезныя нажы і спражкі, крэсіва, бронзавыя бранзалеты і гузікі, ляпныя пасудзіны. Датуецца 8—11 стагоддзямі, належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Знаходкі захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР (Вільнюс).

*Літ.:* Покровский Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии.— У кн.: Труды IX археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1; яго ж. Из доисторического быта на славяно-литовской границе.— Вильна, 1894.
*Л. У. Дучыц.*

**477. ПОМНІК ВАРАШЫЛАВУ** Кліменту Яфрэмавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя К. Я. Варашылава. Бюст устаноўлены ў 1973 г.

**478. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 25 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**479. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя К. Я. Варашылава. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**480. СТАНІСЛАВАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1-й палавіне 20 ст. з дрэва. Трохнефавы, аднавежавы храм з пяціграннай апсідай. Усе аб'ёмы маюць самастойныя высокія гонтавыя дахі. Двух'ярусная чацверыковая вежа над уваходам завершана фігурным купалам. Архітэктуры будынка ўласцівы рысы стылю «мадэрн».



480. *Станіславаўскі касцёл.*

**в. Дзеткаўцы, Друйскі сельсавет**

**481. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

## VI. ДРУЯ

Гарадскі пасёлак. Размешчана пры ўпадзенні р. Друйкі ў Заходнюю Дзвіну. Канцавая станцыя на чыгуначнай лініі Варапаева — Друя. За 30 км на паўночны ўсход ад Браслава, 205 км ад Віцебска. Аўтамабільнай дарогай злучана з Браславам.

Вядома з канца 14 ст. (першае ўпамінанне ў «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага ў 1386 г.) у складзе Вялікага княства Літоўскага. Да пачатку 16 ст. належала велікакняжацкім слугам полацкага замка. У 1496 г. вялікі князь Аляксандр перадаў маёнтак Друю з мястэчкам Друяй ва ўладанне князям Масальскім. У 1611 г.— 1825 г. Друяй валодалі Сапегі. У 16—17 стагоддзях уваходзіла ў склад Браслаўскага павета Віленскага ваяводства. Насельніцтва займалася рыбнай лоўляй, земляробствам, рамёствамі і гандлем. У 1619 г. Друя атрымала магдэбургскае права і герб: на фоне горада — ладдзя з распушчаным ветразем на хвалях. У гэты час была пабудавана ратуша. Горад падзяляўся на тры часткі: цэнтральную — стары горад Друя, усходнюю — новы горад Сапежын (заснаваны Я. С. Сапегай каля 1620 г.), паўночную — прадмесце Прыдруйск на Заходняй Дзвіне (цяпер Піедруя ў Латвійскай ССР).

У руска-польскую вайну 1654—67 гг. Друю занялі рускія войскі. У 1656 г. ваяводай быў А. Л. Ардын-Нашчокін. У 1793 г. ўвайшла ў склад Расійскай імперыі, заштатны горад Дзісенскага павета Мінскай, з 1843 г.— Віленскай губерняў. У Айчынную вайну 1812 г. каля Друі атрад рускіх войск пад камандаваннем генерала Я. П. Кульнёва 3 ліпеня разбіў брыгаду французскай конніцы. У 1842 г. працавалі 2 гарбарныя заводы, кожны год з 6 студзеня праводзіўся трохдзённы кірмаш. У 1897 г. ў горадзе 4787 жыхароў. У 1904 г. працавалі 3 фабрыкі (10 рабочых), былі 292 рамеснікі. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. Савецкая ўлада адноўлена ў снежні 1918 г. У жніўні 1919 г. Друя акупіравана войскамі буржуазнай Польшчы. У ліпені 1920 г. вызвалена часцямі Чырвонай Арміі, але паводле ўмоў прэлімінарнага Рыжскага дагавора ад 12.10.1920 г. польскія войскі зноў занялі горад. У буржуазнай Польшчы была ў складзе Браслаўскага павета Віленскага ваяводства. На пачатак 1930-х гадоў было 2450 жыхароў. З канца 1939 г. Друя ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не. З канца чэрвеня 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Горад вызвалены войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту. У 1944—54 гг. Друя ў складзе Полацкай, у 1954—60 гг.— Маладзечанскай, з 1960 г.— Віцебскай абласцей.

Складаны рэльеф вызначыў нерэгулярную планіроўку пасёлка. Асноўная забудова сфарміравалася ўздоўж Заходняй Дзвіны. Пераважаюць драўляныя аднапавярховыя будынкі з прысядзібнымі ўчасткамі. Характар планіроўкі цэнтральнай часткі склаўся гістарычна. Асноўная магістраль — вул. Браслаўская, якая звязвае 2 шашы на Браслаў і Міёры. Тут размешчаны былая кірмашовая плошча, кляштар бернардзінцаў, некалькі мураваных будынкаў 1-й палавіны 20 ст., парк.

Працуюць прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, сярэдняя школа, 2 дзіцячыя сады, Дом культуры, бібліятэка, бальніца, камбінат бытавога абслугоўвання. Помнікі: на месцы бою 1812 г.; савецкім воінам, якія загінулі ў

10 Зак. 3873

1941—44 гг.; на магіле ахвяр фашызму. Захаваўся помнік архітэктуры 17 ст.— кляштар бернардзінцаў.

*Літ.:* Сапунов А., Друцкий-Любецкий В. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии.— Витебск, 1896; Hedemann O. Dzisna i Druja. Magdeburskie miasta.— Wilno, 1934.
*С. Г. Багласаў, А. П. Грыцкевіч.*

**482. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы. Пахаваны 146 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**483. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт.). Размешчаны ў паўночнай частцы пасёлка, на высокім беразе р. Заходняя Дзвіна. Пабудаваны ў 1643—46 гг. з цэглы (фундатар — К. Л. Сапега). Складаецца з Троіцкага касцёла і жылога корпуса.

Касцёл — аднавежавая, трохнефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай, аднабаковай сакрысціяй і прыбудовамі да вежы. Касцёл вырашаны ў спрошчаных масіўных формах. Галоўны фасад мае ступеньчатую кампазіцыю, утвораную шчытом фасада з валютамі над бакавымі нефамі і высокай вежай у цэнтры. Вежа пяціярусная, увянчаная фігурным купалам (дабудаваны ў 1772 г.). Сцены вежы прарэзаны маленькімі паўцыркульнымі і круглымі аконнымі праёмамі, раскрапаваны вуглавымі пілястрамі і карнізнымі паясамі. Цэнтральны ўваход — у неглыбокай нішы. Бакавыя сцены касцёла і апсіда ўмацаваны магутнымі контрфорсамі і прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі.

Інтэр'ер касцёла перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Бакавыя сцены цэнтральнага нефа раскрапаваны пілястрамі і шырокай карнізнай цягай, дэкарыраваны філёнгамі, ляпным геаметрычным і раслінным арнаментам, галоўкамі пуцці. Плоскасці арак расчлянёны тонкімі арнаментальнымі кесонамі з ляпнымі разеткамі. Дэкор мае рэнесансавы характар — плоскасны, раўнаважны, з вельмі тонкай і лёгкай прарысоўкай усіх форм. Інтэр'ер вырашаны ў 2 колерах: скляпенні, якія апіраюцца на часткі сцен і калоны, пакрыты светлай вохрай, накладныя ордэрныя элементы і філёнгі белыя. Алтары ў галоўным і бакавых нефах і амбон пабудаваны ў 1764—67 гг. у стылі сталага барока. Цэнтральны алтар двухступеньчаты, двух'ярусны. Пластыка яго заснавана на спалучэнні пілястраў і калон з гнутымі раскрапаванымі карнізнымі паясамі і скульптурнымі ўстаўкамі. Па такім прынцыпе зроблены і 4 астатнія алтары.

Жылы корпус — двухпавярховы аб'ём, які ўтварае прамавугольны ўнутраны двор, прымыкае да паўночнай бакавой сцяны касцёла. З боку двара з трох бакоў праходзіць калідор, перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Прамавугольныя ў плане пакоі маюць цыліндрычныя і плоскія перакрыцці. Вуглавыя пакоі большыя за астатнія і выступаюць за агульны прамавугольны абрыс плана. Пластыка жылога корпуса простая: прамавугольныя вокны на гладкіх атынкаваных сценах і вузкі завяршальны карніз, які з'яўляецца адзіным ордэрным элементам.

Перад касцёлам брама з агароджай, пабудаваная ў сярэдзіне 18 ст. ў стылі позняга барока.

Кляштар — адзін з цікавых помнікаў архітэктуры ранняга барока на Беларусі.

*Літ.:* Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem.— Wilno, 1932; Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego.— Wilno, 1930. *С. Г. Багласаў.*



483. *Кляштар бернардзінцаў. Касцёл.*

**484. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На правым беразе р. Друйка, на тэрыторыі сядзібы (вул. Браслаўская, 5). Тут нямецка-фашысцкія акупанты ў 1942—43 гг. закатавалі 700 мірных жыхароў. У 1962 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.



483. *Кляштар бернардзінцаў. План.*



485. *Помнік на месцы бою 1812 г.*

**485. МЕСЦА БОЮ 1812 ГОДА** (гіст.). На заходняй ускраіне Друі, злева ад дарогі на Браслаў. 3.7.1812 г. атрад рускіх войск пад камандаваннем генерал-маёра Я. П. Кульнёва разграміў брыгаду французскай конніцы. У 1962 г. на месцы бою пастаўлена стэла з надпісам, які ўслаўляе перамогу рускіх воінаў.

**486. ПАРК** (архіт.). На левым беразе Заходняй Дзвіны, уздоўж галоўнай вуліцы пасёлка. Закладзены ў 18 ст. як частка былога палацавага комплексу Сапегаў. Цяпер парк належыць санаторыю «Друя».

Парк рэгулярнага тыпу, выцягнуты з усходу на захад, плошча каля 4 га. У паўднёвай частцы парку некалькі старых алей, размешчаных перпендыкулярна і паралельна галоўнай, у заходняй частцы захаваліся старыя ліпы; трапляюцца экзоты — вяз шурпаты ніцы, конскі каштан звычайны. Маладыя пасадкі дрэў мясцовых парод утвараюць суцэльны масіў. Да парку прымыкае пладовы сад.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва. *Т. В. Габрусь.*

**в. Дрысвяты, цэнтр сельсавета**

**487. ЗАМЧЫШЧА** (археал.). На востраве воз. Дрысвяты. Займае высокі (да 8 м) пагорак. Плошча каля 1 га. Умацавана валам, месцамі ўцалелым на вышыню да 2 м. Узнікла ў 11 ст. на месцы гарадзішча днепра-дзвінскай культуры. Было парубежным паселішчам Полацкай зямлі. З паўночнага боку да замчышча прымыкаў пасад плошчай каля 3 га. Вядома з 16 ст. У «Хронiцы Еўрапейскай



487. *Замчышча.*

Сарматыі» А. Гваньіні ўпамінаецца як «Замак над возерам шырокім». Паводле інвентару 1622 г. Дрысвяцкі драўляны замак меў 3 вежы. Існаваў да сярэдзіны 18 ст. Замчышча ў 1955—56 гг. абследаваў Л. В. Аляксееў, у 1970 і 1976 гг. даследаваў М. А. Ткачоў. Плошча раскопу больш за 600 м². У ніжняй частцы культурнага пласта знойдзена ляпная кераміка днепра-дзвінскай культуры, у верхняй — ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі і больш позняга часу, зброя, бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя залачоныя пацеркі, бурштын, крэсівы і інш. На глыбіні 0,5 м прасочаны рэшткі спаленых умацаванняў і мuроўкі па вонкавым і ўнутраным баках вала. Належала змешанаму балта-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. А. Ткачоў.*

**488. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1929 г. з дрэва.

Аднавежавы прамавугольны ў плане храм з пяціграннай апсідай, прытворам і сакрысціямі. Дах двухсхільны, над апсідай вальмавы. На галоўным фасадзе вялікі шырокі навес даху апіраецца на 4 тонкія каменныя калоны і ўтварае своеасаблівы порцік. На такія ж калоны апіраюцца навесы дахаў над уваходамі ў сакрысціі. Пакрыццё зроблена з мяккай дранкі і ўтварае ў ніжняй частцы пластычныя выгіны, характэрныя для традыцыйнага драўлянага дойлідства Браслаўшчыны. Вежа галоўнага фасада шасціярусная: 2 ніжнія ярусы квадратныя ў плане, над імі — васьмігранны аб'ём, вышэй — 2 цыліндры і маленькі купалок. Кожны ярус завяршае прамавугольны па профілю карніз з навесам даху. Сцены вертыкальна ашаляваны і прарэзаны паўцыркульнымі, круглымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Дах над апсідай завершаны маленькім фігурным купалам, які ўзбагачае сілуэт і пластыку касцёла.

Інтэр'ер вырашаны цэласна і проста: 8 круглых драўляных калон падтрымліваюць кесонную столь, якая размалявана (арнаментальныя матывы) у тэхніцы алейнага жывапісу, сцены часткова ашаляваны. У верхняй частцы прытвора размешчаны хоры.

Касцёл — прыклад архітэктуры традыцыйнага народнага дойлідства з элементамі стылю «мадэрн».

*С. Г. Багласаў.*

**489. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1908 г. з цэглы. Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму далучана пяцігранная апсіда і бабінец з высокай вежай-званіцай. Над асноўным аб'ёмам узвышаюцца 5 цыбулепадобных галовак на васьмігранных «шыйках».

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Дуброўка, Казянскі сельсавет**

**490. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ВІДЗАЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ШТАБОЎ ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД «СПАРТАК», «ЗА РАДЗІМУ»** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, у Казянскім лесе.

У Вялікую Айчынную вайну тут базіраваліся штабы партызанскіх брыгад «Спартак», «За Радзіму» і Відзаўскі падпольны райком КП(б)Б.

Брыгада «Спартак» сфарміравана ў ліпені 1943 г. Камандзір — А. М. Панамароў, камісар — М. К. Ігнацьеў. Партызаны брыгады ў студзені, красавіку, маі 1944 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Казяны, Опса, у г. п. Відзы, рабілі дыверсіі на дарогах, падарвалі больш за 1850 рэек, пусцілі пад адхон 21 эшалон, знішчылі 11 складоў з боепрыпасамі. Да падыходу часцей Чырвонай Арміі разграмілі гарнізоны і занялі райцэнтры Відзы, Дзісна, цэнтр павета Твярачус (Літоўская ССР). 4.7.1944 г. брыгада ў складзе 6 атрадаў (674 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Брыгада «За Радзіму» арганізавана ў верасні 1943 г. Камандзіры — П. М. Шырокаў (верасень 1943 г.— студзень 1944 г., чэрвень — ліпень 1944 г.), М. У. Кандрашчанка (студзень — чэрвень 1944 г.), камісар — Ф. К. Акулаў. Партызаны брыгады разграмілі варожы гарнізон у в. Бірута Браслаўскага р-на, узарвалі электрастанцыю і млын у в. Чырвоны Двор Шаркоўшчынскага р-на, спалілі 38 мастоў, знішчылі гараж з 17 аўтамашынамі і 16 матацыкламі, 2 склады ў Даўгаўпілсе. У чэрвені 1944 г. ў час аперацыі «Рэйкавая вайна» падарвалі 580 рэек. 2.7.1944 г. брыгада ў складзе 5 атрадаў (495 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У партызанскай брыгадзе «Спартак» базіраваўся Відзаўскі падпольны райком КП(б)Б, створаны 14.9. 1943 г.; сакратар — А. М. Панамароў (14.9.1943 г.— 4.7.1944 г.). Друкаваны



487. *Замчышча. План.*



488. *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*



488. *Петрапаўлаўскі касцёл.*



489. *Царква.*

орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Красное знамя».

На месцы, дзе базіраваліся падпольны райком КП(б)Б і штабы партызанскіх брыгад, у 1964 г. пастаўлена стэла і адноўлена партызанская зямлянка.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975.
*М. М. Казлоўская.*

**491. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 196 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.



492. *Гарадзішча. План.*

**в. Жвірблі, Зарацкі сельсавет**

**492. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Піля. На заходняй ускраіне вёскі, на высокім пагорку. У паўночна-ўсходняй частцы пагорка слаба выражаная авальная пляцоўка памерам 60×80 м. Каля паўднёва-ўсходняга краю пляцоўкі дугой размешчана палоса камянёў рознай велічыні — магчыма, рэшткі ўмацавання. Захаваліся рэшткі вала вышынёй да 2 м, умацаванага каменнай выбрукоўкай уверсе і па схіле з боку поля. У паўночна-ўсходняй частцы вала шмат буйных валуноў. Даследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Культурнага пласта няма. Верагодна, гэта гарадзішча-сховішча.
*М. М. Чарняўскі.*

**в. Ждзэгелі, Відзскі сельсавет**

**493. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вінтоўкай у руцэ.

**в. Завер'е, Слабодкаўскі сельсавет**

**494. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зазоны, Зарацкі сельсавет**

**495. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. На высокім круглым пагорку, каля паўночна-ўсходняй ускраіны вёскі, злева ад дарогі Браслаў — Даўгаўпілс. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1971 г. М. М. Чарняўскі. Пляцоўка памерам 60×50 м, культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены рэчы днепра-дзвінскай культуры і культуры штрыхаванай керамікі (7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**в. Замошша, Ахрэмавецкі сельсавет**

**496. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На школьным двары. Пахаваны 147 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — сакратар Браслаўскага падпольнага райкома КП(б)Б П. П. Булойчык, камандзіры атрадаў партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава: У. В. Чаромухін (атрад імя Р. І. Катоўскага), П. І. Кліменценка (атрад імя М. І. Кутузава), П. Дз. Пракоф'еў (атрад імя А. Я. Пархоменкі).

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефамі партызан.
*М. М. Казлоўская.*

**497. ГАРАДЗІШЧА І КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**497а.** Гарадзішча. На заходняй ускраіне вёскі паміж азёрамі Шылава і Замошскае. Пляцоўка роўная, памерам 70×30 м, вышынёй 3,5 м. Адкрылі і абследавалі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1977 г. В. І. Шадыра і Л. У. Дучыц. Культурны пласт 1,3 м. У ім знойдзе-



495. *Гарадзішча.*

ны ляпная кераміка днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Датуецца 6 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**497б.** Могільнік. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 4 насыпы вышынёй ад 0,8 да 1 м, дыяметрам ад 4 да 6 м. Абследавала ў 1977 г., даследавала ў 1979 г. Л. У. Дучыц (1 курган). Каля асновы насыпа выяўлена вуголле.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейской округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях института истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *Л. У. Дучыц, В. І. Шадыра.*

**498. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад в. Замошша. Пахаваны 83 жыхары в. Рэпаўшчына, закатаваныя ці расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены скульптура жанчыны-маці і стэла з імёнамі загінуўшых.

**499. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ БРАСЛАЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ Г. К. ЖУКАВА** (гіст.). За 6 км на захад ад в. Замошша, у Казянскім лесе.

Брыгада імя Г. К. Жукава створана паводле ўказання ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху 10.7.1943 г. ў Расонскім р-не. Камандзір брыгады — П. Я. Сырамаха (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары — П. Я. Сырамаха (ліпень — верасень 1943 г.), П. П. Булойчык (верасень — кастрычнік 1943 г., загінуў), А. П. Запарожац (лістапад 1943 г.— люты 1944 г.), М. А. Кароўкін (люты — ліпень 1944 г.). Паводле рашэння Беларускага штаба партызанскага руху брыгада была накіравана ў Браслаўскі р-н. У час рэйду партызаны прайшлі з баямі больш за 200 км, фарсіравалі Заходнюю Дзвіну, знішчалі варожыя гарнізоны, склады, разбуралі чыгуначнае палатно. У канцы ліпеня 1943 г. прыбылі для дыслакацыі ў раён в. Замошша (штаб брыгады размясціўся ў в. Сёлы). Народныя мсціўцы ў жніўні 1943 г. на чыгуначным участку Шаркоўшчына — Друя разабралі 300 м чыгуначнага палатна, вывелі са строю вузкакалейку Дукштас — Друя, якая ўжо не функцыяніравала да канца варожай акупацыі, у в. Германавічы Шаркоўшчынскага р-на спалілі маслазавод і склады з прадуктамі, пасля бою 17 жніўня каля в. Богіна ўстанавілі кантроль над заходняй часткай Казянскага лесу. Супраць брыгады ўвосень 1943 г. і вясной 1944 г. былі накіраваны карныя экспедыцыі. Партызаны вялі ўпартыя баі супраць карнікаў, утрымлівалі раён дыслакацыі да наступлення часцей Чырвонай Арміі. 2 ліпеня партызаны разграмілі вялікі гарнізон акупантаў і вызвалілі в. Опса.



500. *Помнік Вользе Максімовіч.*

У партызанскай брыгадзе імя Г. К. Жукава базіраваўся Браслаўскі падпольны райком КП(б)Б, створаны 14.9.1943 г. Сакратары — П. П. Булойчык (да кастрычніка 1943 г.), П. Я. Сырамаха (з 5.12.1943 г.). Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Чырвоны сцяг», пазней «Смерть фашизму».

2.7.1944 г. брыгада (815 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй, 8.7. 1944 г. партызаны брыгады сумесна з воінамі Чырвонай Арміі вызвалілі г. Браслаў, потым удзельнічалі ў знішчэнні асобных варожых груп.

У 1960 г. на паўднёвай ускраіне вёскі ў гонар падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *М. М. Казлоўская.*

**500. ПОМНІК МАКСІМОВІЧ** Вользе Канстанцінаўне (гіст.). Каля будынка школы.

Піянерка-партызанка Вольга Максімовіч скончыла 5 класаў Замошскай школы. У гады Вялікай Айчыннай вайны жыла ў в. Гірдзюшы, у 1942 г. наладзіла сувязь з разведчыкамі партызанскай брыгады «За Радзіму». Выконвала заданні камандавання брыгады: неаднаразова хадзіла ў Браслаў і Даўгаўпілс, дзе здабывала медыкаменты, збірала даныя разведкі, у г. п. Шаркаўшчына, вёсках Опса і Слабодка распаўсюджвала лістоўкі. У канцы верасня 1943 г. па даносу правакатара была схоплена гітлераўцамі ў в. Слабодка і пасля жорсткіх катаванняў расстраляна.

У 1975 г. на ўшанаванне памяці патрыёткі пастаўлены помнік — скульптура юнай партызанкі. Імя Вольгі Максімовіч прысвоена Замошскай васьмігадовай школе.

*Літ.:* Юные герои Витебщины.— Мн., 1980. *М. М. Казлоўская.*

**в. Зарачча, цэнтр сельсавета**

**501. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 449 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Браслаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і надмагільныя пліты з імёнамі загінуўшых.

**502. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). У цэнтральнай частцы вёскі. Пабудаваны ў канцы 18 — 1-й палавіне 19 ст. Будынак быў разбураны, пазней адноўлены і накрыты двухсхільным дахам. Плаціна не захавалася. Аднаколавы механізм млына ўцалеў часткова. Ад пачатковай пабудовы асталася толькі частка мураваных сцен з буйных бутавых камянёў на вапнавым растворы. Між імі з маленькіх каменьчыкаў з вострымі краямі выкладзены выявы людзей, кветак, птушак, якія арганічна ўпісваюцца ў просты адвольны ўзор з такіх жа маленькіх каменьчыкаў. Дэкаратыўна вырашаныя сцены — адзіны з уцалелых на Браслаўшчыне помнікаў народнай творчасці падобнага тыпу.

*С. Г. Багласаў.*



501. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



502. *Вадзяны млын. Фрагмент аздобы сцяны.*

в. Іказнь, Цяцеркаўскі сельсавет

**503. ВЯНОЧНЫ ДВОР** (архіт.). Сядзіба Н. А. Ажгінь. Вяночны двор (замёт, запорысты двор) пабудаваны ў 1909 г. Усе пабудовы размешчаны 2 паралельнымі радамі (хата + сенцы + хата і хлеў + хлеў), адкрытыя тарцовыя прамежкі паміж імі замкнуты з аднаго боку замётам са стрэшкай, з другога — 2 замётамі і варотамі. Жылыя і гаспадарчыя пабудовы зрублены з кругляка ў вугал з астаткам, вуглы галоўнага фасада хаты абшыты дошкамі. Стрэхі двухсхільныя, саламяныя. Інтэр'ер асноўнай хаты традыцыйны: печ з плітою знаходзіцца ў правым кутку каля дзвярэй, кухонны стол — насупраць печы, ложкі — уздоўж сцяны за печчу, абедзены стол — на покуці. Сенцы маюць двое дзвярэй — з двара і з вуліцы. Знадворны ўваход аформлены ганкам з аднасхільнай стрэшкай на 2 драўляных слупках і лаўкамі паміж імі (адхіленне ад класічнага вянка, вынік уплыву дойлідства, характэрнага для невялікіх мястэчак).

Вяночны двор — найбольш старажытны від планіроўкі сялянскай сядзібы, пры якой забудова ўтварае вянок (самкнуты прамавугольнік з дзянніком пасярэдзіне). *У. С. Гуркоў.*

**504. ЗАМЧЫШЧА** (археал., гіст.). На востраве воз. Іказнь. Мураваны замак размяшчаўся на штучным пагорку, які цяпер узнімаецца над пляцоўкай вострава на 5 м.

Паселішча Іказнь вядома з 1499 г., калі яго набыў браслаўскі староста Я. Сапега, які праз год атрымаў ад вялікага князя Аляксандра прывілей на зямлю і «людзей іказненскіх», а ў 1504 г. дазвол закласці горад і замак. Пасля Я. Сапегі частка Іказні належала князям Пронскім, Страбоўскім, Сіняўскім. І. Гваньіні ў 1515 г. адзначаў: «Іказнь — замак мураваны і места драўлянае, над ракой (возерам) тае ж назвы, ад Браслава ў 2 мілях ляжыць». У 1515 г. замак быў аблажаны рускім войскам і спалены. Адноўлены да пачатку Лівонскай вайны 1558—83 гг. У 1561 г. ў замку стаяў значны гарнізон наёмных войск.



502. *Вадзяны млын. Фрагмент аздобы сцяны.*

У 1654 г. замак быў узяты рускімі войскамі, разбураны і страціў сваё ваеннае прызначэнне.

Мураваны замак у плане нагадваў прамавугольнік з вуглавымі вежамі памерам 50×30 м. Таўшчыня сцен, складзеных у тэхніцы паласатай муроўкі, дасягала 2 м. Падмуркі вышынёй 0,8 м зроблены з валуноў. Схілы замкавага пагорка ад самых муроў выбрукаваны каменнем. Перад замкам было даволі вялікае ўмацаванне з землянымі валамі, узведзенымі панад возерам. Каля падэшвы замкавага пагорка некалі знаходзілася сажалка. Яе дно і берагі былі абкладзены камянямі і дошкамі. Замак з берагам быў злучаны драўляным мостам на



502. *Вадзяны млын.*




503. *Вяночны двор. План: 1, 3 — хата; 2 — сенцы; 4 — ганак; 5 — дзяннік; 6—7 — хлеў.*



504. *Замчышча.*



506. *Помнік на брацкай магіле партызан. Фрагмент.*

па́лях. Засталіся рэшткі земляных валоў на беразе возера. Замак адносіцца да 16 ст.

*Літ.:* Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978. *М. А. Ткачоў.*

**505. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1905 г. з цэглы. Асноўны квадратны ў плане аб'ём мае другі ярус, завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Да асноўнага аб'ёму далучаны пяцігранная апсіда і двух'ярусная шатровая вежа-званіца.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.



505. *Мікалаеўская царква.*

**в. Казяны, цэнтр сельсавета**

**506. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). У скверы. Пахаваны 43 партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У Казянскіх лясах у Вялікую Айчынную вайну дыслацыраваліся беларускія партызанскія брыгады «Спартак», «За Радзіму», імя Г. К. Жукава, а таксама літоўскія партызанскія атрады Арлоўскага, «Жальгірыс», імя Каліноўскага. Партызаны змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, разграмілі 15 варожых гарнізонаў. Напярэдадні прыходу Чырвонай Арміі партызаны брыгады «Спартак» разам з літоўскімі партызанамі атрада «Жальгірыс» 2.7.1944 г. разграмілі варожы гарнізон у г. п. Відзы і 2 дні ўтрымлівалі пасёлак.

У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла (вышыня 5 м, жалезабетон, граніт) з высокім цокалем. У верхняй частцы стэлы — барэльефная кампазіцыя: група партызан ва ўвесь рост. Іх твары суровыя, жэсты рашучыя, у руках зброя. Да стэлы прылягае прамавугольная сценка (3,4—1,25), на якой высечаны імёны загінуўшых. Перад стэлай — 2 прамавугольныя (пастаўленыя літарай Г) мемарыяльныя сцяны на ўшанаванне памяці партызан Літвы і Беларусі.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 2. Кн. 1.— Мн., 1973; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *М. М. Казлоўская, Г. М. Ярмоленка.*

**507. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 150 жыхароў вёскі, паверску закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942—43 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Карасіна, Мяжанскі сельсавет**

**508. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлена стэла.

**в. Кірыліна, Друйскі сельсавет**

**509. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Царква адназрубная, накрытая двухсхільным дахам. Над галоўным фасадам — невялікая двух'ярусная вежачка, завершаная цыбулепадобнай галоўкай.

У архітэктуры царквы спалучаюцца традыцыйныя прыёмы мясцовага будаўніцтва з элементамі псеўдарускага стылю. Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.



509. *Царква.*

**в. Коўшынкі, Казянскі сельсавет**

**510. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі. 25 насыпаў вышынёй ад 0,6 да 1,5 м, дыяметрам 6—12 м. Каля падножжа курганоў захаваліся невялікія равочкі. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавала ў 1978 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лабэцкія (не існуе), Опсаўскі сельсавет**

**511. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Лабэцкія знаходзілася за 3 км на поўдзень ад в. Пагошча. У 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 34 жыхары, а вёску (6 двароў) спалілі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны не адноўлена. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Літоўшчына, Слабодкаўскі сельсавет**

**512. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Т а т а р с к а я Г а р а. За 2 км на захад ад вёскі, за 100 м ад хутара Татараўшчына. Даўжыня пляцоўкі 100 м, шырыня 14—60 м. Земляных умацаванняў не мае. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1978 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,3—0,4 м, у ім знойдзены фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да днепрадзвінскай культуры. Датуецца 6 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. У. Дучыц.*

**в. Лукшы, Плюскі сельсавет**

**513. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на захад ад вёскі. Пляцоўка памерам 36×17 м узвышаецца на 5—6 м над наваколлем. Земляных умацаванняў не мае. Адкрылі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1977 г. абследавала Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,7 м, выяўлены на схілах. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду і косці жывёл. Адносіцца да днепрадзвінскай культуры. Датуецца 5 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Майшулі, Зарацкі сельсавет**

**514. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**514а.** Г а р а д з і ш ч а. За 0,3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Рацкі Бор. Пляцоўка памерам 50×27 м умацавана 3 валамі і ровам. Шырыня вала каля асновы 4 м, па грэбені 2 м, шырыня рова 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1892 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1977 г. В. І. Шадыра і Л. У. Дучыц. Культурны пласт не выяўлены.



515. *Гарадзішча.*

**514б.** М о г і л ь н і к. За 0,5 км на поўдзень ад гарадзішча. 20 курганоў (большасць з іх пашкоджаны) вышынёй 1 м, дыяметрам 5—6 м. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1977 г. Л. У. Дучыц і В. І. Шадыра, якія ў 1983 г. раскапалі 3 насыпы. Знойдзены В-падобная спражка, наканечнік кап'я, шкляныя пацеркі, бронзавыя бразготкі, жалезныя нажы, ляпны посуд і інш. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Датуецца 6—11 стагоддзямі, належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы раскопак 1892 г. захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР (Вільнюс), раскопак 1983 г.— у Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* П о к р о в с к и й Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии.— У кн.: Труды IX археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1; С е д о в В. В. Кривичи.— Советская археология, 1960, № 1.

*Л. У. Дучыц, В. І. Шадыра.*

**в. Маскавічы, Слабодкаўскі сельсавет**

**515. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на беразе воз. Дзерба. Пляцоўка няправільнай формы, плошчай 1 га. З паўночнага і ўсходняга бакоў абкружана балоцістай нізінай. Паўночны бок мае плаўны схіл. Абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. У 1976—83 гг. раскопкі праводзіла Л. У. Дучыц. Ускрыта 2200 м² плошчы. Культурны пласт у цэнтры, на паўночным і заходнім схілах ад 0,2 да 0,3 м, на заходняй тэрасе дасягае 1,2 м. Знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, жалезныя нажы, замкі, ключы, крэсівы, нажніцы, сякеры, косы, сярпы, прыстасаванні для рыбнай лоўлі, наканечнікі стрэл і коп'яў, шпоры, страмёны, вырабы з косці (грабяні, накладкі ад тронкаў нажоў, праколкі, гузікі), многа шыферных і гліняных прасліц, тачыльных брускоў, днішчаў посуду з клеймамі, жорны, гліняныя дзіцячыя цацкі, бронзавыя і жалезныя булавы, разнастайныя знаходкі ювелірных вырабаў (падвескі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, медныя, бронзавыя і шкляныя бранзалеты, фібулы і розныя пацеркі). Выяўлены 3 крыжы-складні. На адным з іх на вонкавым баку распяцце, на адваротным — выява маці боскай з дзіцем. З абодвух бакоў па краях — медальёны з выявамі святых. Два іншыя складні па форме аднолькавыя, у іх расшыраныя канцы з кроплепадобнымі выступамі па вуглах. Адзін з іх упрыгожаны эмаллю і пазалотай.

У 1982 г. праводзіліся падводныя раскопкі ў воз. Дзерба, якое прымыкае да гарадзішча. Даследавана 16 м² плошчы. Культурны пласт 0,2—0,25 м. Знойдзены цыліндрычны замок, шыфернае прасліца, фрагмент сіняга шклянога пярсцёнка, медная блешня, кераміка і інш. Мяркуюць, што тут існаваў пасад, які з цягам часу аказаўся пад вадой.

Паселішча на гарадзішчы ўзнікла на рубяжы н. э. Існавала ў 1-м тысячагоддзі. Абарончыя збудаванні ўзведзены ў 11 — пачатку 12 ст. Найбольшага росквіту дасягнула ў 12—13 стагоддзях, адыгрывала ролю парубежнай крэпасці на паўночна-заходняй ускраіне Полацкага княства і, магчыма, было сядзібай-замкам. На пасяленні жылі славяне (крывічы), прадстаўнікі ўсходнебалцкіх і фінаўгорскіх плямён. Знаходкі абломкаў касцей з рунічнымі надпісамі сведчаць аб наяўнасці тут таксама скандынаваў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, Полацкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Д у ч и ц Л. В. Раскопки на Белорусско-Латвийском порубежье.— У кн.:



516. *Пакроўская царква.*

Археологические открытия 1976 года. М., 1977; я е ж. Исследования в Браславском и Миорском районах.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978; я е ж. Раскопки в Браславском районе.— У кн.: Археологические открытия 1978 года. М., 1979; я е ж. Маскавічы.— У кн.: Археалогія, нумізматыка і геральдыка Беларусі. Мн., 1979; я е ж. Маскавіцкае гарадзішча (XI—XIII стст.).— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1980, № 4; Д у ч и ц Л. В., М е л ь н и к о в а Е. А. Надписи и знаки на костях с городища Масковичи (Северо-Западная Белоруссия.— У кн.: Древнейшие государства на территории СССР: Материалы и исследования. 1980 г. М., 1981.
*Л. У. Дучыц.*

**в. Мінкавічы, Дрысвяцкі сельсавет**

**516. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане аднаэрубны храм накрыты двухсхільным дахам. На вільчыку над галоўным фасадам і над алтаром — невялікія купалкі на глухіх чацверыках. Уваход афармлены ганкам на 2 калонах.

Царква — помнік народнага дойлідства.

**в. Мяжаны, цэнтр сельсавета**

**517. КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ АНЁЛЬСКАЙ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя касцёла складаецца з асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму, да якога прымыкаюць прытвор са званіцай над ім і 2 апсіды: алтарная з рызніцай — прамавугольная, бакавая — пяціграння. Прытвор акружаны адкрытай абходнай галерэяй з навесам (усходняя яе частка пабудавана ў больш позні час). Сцены з абчасаных бярвенняў, прарэзаны прамавугольнымі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, расчлянёны карнізным поясам. Будынак накрыты высокім фігурным дахам з мяккімі пераходамі форм, з пластычнымі гранямі і плаўнымі выгнутымі абрысамі. Выгін у ніжняй частцы даху ўтвораны дадатковымі прыстаўнымі кроквамі, якія апіраюцца на бэлькі, што выступаюць з плоскасці сцен. Пакрыццё зроблена з тонкай дранкі. Завяршаюць храм 2 розныя па форме васьмігранныя вежачкі над асноўным аб'ёмам і над званіцай. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю.



**517.** *Касцёл маці боскай Анёльскай. Бакавы фасад.*

Касцёл — прыклад выкарыстання традыцыйных прыёмаў народнага дойлідства.
*С. Г. Багласаў.*

**в. Опліса-1, Друйскі сельсавет**

**518. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Опса, цэнтр сельсавета**

**519. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г., і 14 партызан брыгады «Спартак», што загінулі пры разгроме 2.7.1944 г. нямецка-фашысцкага гарнізона ў в. Опса. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**520. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Аднанефавы аднавежавы храм з пяціграннай алтарнай апсідай, па баках якой нізкія сіметрычныя сакрысціі. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, больш нізкая апсіда — вальмавым, сакрысціі — двухсхільнымі дахамі, якія вырашаны на тарцах накшталт вымпергаў. Такі самы вымперг аздабляе партал галоўнага ўвахода. Над ім размешчана акно-«ружа», вышэй падвойнае арачнае акно. Вежа-званіца завершана вастракаццовым шатром. У дэкоры выкарыстаны зробленыя з цэглы прафіляваныя цягі, аркатурныя паясы, лапаткі і арачныя нішы. Унутры неф і апсіда перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.



**517.** *Касцёл маці боскай Анёльскай. План.*



**520.** *Касцёл.*

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.
*Т. В. Габрусь.*

**521. КУРГАН БЕССМЯРОТНАСЦІ** (гіст.). На могілках. Пахаваны больш за 200 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму насыпаны Курган, на вяршыні пастаўлена скульптурная кампазіцыя — партызан і дзяўчына, што ўскладае кветкі.

**522. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўдзень ад вёскі злева ад дарогі ў Відзы, у лесе. 80 насыпаў вышынёй ад 0,8 да 2 м, дыяметрам ад 5 да 10 м. У канцы 19 ст. 11 курганоў даследаваў Ф. В. Пакроўскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены жалезныя нажы і спражкі, крэсівы, бранзалеты, ляпныя пасудзіны. Могільнік абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1980 г. Л. У. Дучыц. Датуецца 8—11 стагоддзямі. Належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР (Вільнюс).

*Літ.:* П о к р о в с к и й Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии.— У кн.: Труды IX археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1.
*Л. У. Дучыц.*



523. *Помнік землякам.*

**523. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліты з імёнамі загінуўшых.

**524. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы-інтэрната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1964 г.

**525. СЯДЗІБА** (архіт.). За 2 км ад вёскі, на ўсходнім беразе воз. Опса. Сфарміравана ў 1904 г. Цяпер у сядзібным доме размешчана школа-інтэрнат.

Ансамбль сядзібы размешчаны ўздоўж берага возера і дарогі, уключае сядзібны дом, флігель, гаспадарчыя пабудовы і парк. З усходу сядзіба абнесена фігурным штыкетнікам, умацаваным слупамі з бутавага каменю, з паўднёвага боку абмежавана ручаём, праз які перакінуты аднаарачны мост. У цэнтры кампазіцыі дом у глыбіні параднага партэра. Паўночная частка тэрыторыі адведзена пад гаспадарчую зону. Невялікі пейзажны парк ландшафтнай кампазіцыі з трох бакоў абкружае сядзібныя пабудовы. З старых пасадак захаваліся дуб-«патрыярх» (22 м), шасцістволыны ясень, 3 піхты сібірскія.

Мураваны Е-падобны ў плане сядзібны дом заходнім фасадам павернуты да возера. Асноўны аб'ём з мансардавым дахам фланкіраваны двухпавярховымі флігелямі з вальмавымі дахамі, якія выступаюць на галоўным фасадзе. У цэнтральным рызаліце размешчаны галоўны ўваход, афармлены навесам на 2 калонах. Аконныя праёмы прамавугольныя і арачныя, дэкарыраваны арачнымі ліштвамі, з пілястрамі. На фоне вохрыстых руставаных сцен ліштвы вылучаны белым колерам.



525. *Сядзіба. Гаспадарчыя пабудовы.*

Унутраная планіроўка дома калідорная з тарцовымі ўваходамі. Цэнтральная парадная зала мае выхад на шырокую тэрасу, ад якой ідзе спуск да вады, вырашаны ў выглядзе каскада лесвіц. У бакавых флігелях размешчаны лесвіцы, якія вядуць на 2-і паверх і ў падвалы будынка.

У архітэктуры сядзібы знайшлі адлюстраванне эклектычныя тэндэнцыі.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego.— Wilno, 1930; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu.— Wilno, 1938—39.

*А. М. Кулагін.*



525. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*




525. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2 — жылы флігель; 3—8 — гаспадарчыя пабудовы.*



525. *Сядзібны дом. План.*

в. Пагошча, Опсаўскі сельсавет

**526. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад в. Пагошча. Пахаваны 34 жыхары в. Лабэцкія, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г. У 1972 г. на магіле насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск.

**527. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Плюсы, цэнтр сельсавета

**528. КАСЦЁЛ** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю. Трохнефавы двухвежавы храм з пяціграннай апсідай. Двух'ярусныя вежы завершаны высокімі шатрамі. Дэкаратыўныя элементы: лапаткі, карнізы, аркатура. Абрамленні акон і партал увахода выкананы з чырвонай цэглы.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

**529. ПОМНІК ВАЛЧКОВУ** Івану Мікітавічу (гіст.). Каля школы. Бюст Героя Савецкага Саюза І. М. Валчкова ўстаноўлены ў 1976 г. Гл. таксама артыкул № 454 «Месца бою 1944 г.», № 446 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**530. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 43 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**531. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1978 г.

в. Пустошка, Зарацкі сельсавет

**532. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Чортава Гара. На заходнім беразе воз. Струста, каля дарогі Плюсы — Браслаў. Пляцоўка роўная, памерам 55×15 м, узвышаецца на 20 м. Абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.



528. *Касцёл.*



535а. *Гарадзішча.*

в. Рацюнкі, Слабодкаўскі сельсавет

**533. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Узвышаецца над наваколлем на 10 м. Пляцоўка круглая, дыяметрам 45 м, земляных умацаванняў не мае. Вядома з 1895 г. Даследавала ў 1976, 1978, 1979, 1981 гг. Л. У. Дучыц. Ускрыта 236 м² плошчы. Культурны пласт 0,6 м, у ім знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, жалезныя нажы, рыбалоўныя кручкі, цыліндрычны замок і каленчаты ключ, бронзавая спіральная трубачка, пласціністы бранзалет, шкляны гладкі блакітны бранзалет, гліняныя і шыферныя прасліцы, касцяныя праколкі і каменныя сякеры, касцяныя наканечнікі стрэл і коп'яў. Цікавая знаходка — фрагмент вырабу з косці з выявамі чалавека з аднаго боку і конніка з другога. Датуецца помнік 7 ст. да н. э. — 13 ст. н. э. Адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур і перыяду Кіеўскай Русі.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Ковенской губернии...— У кн.: Труды X археологического съезда в Риге 1896. М., 1900, т. 3; Дучиц Л. В. Раскопки на Белорусско-Латвийском порубежье.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977; яе ж. Изучение средневековых памятников Витебской области.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980. *Л. У. Дучыц.*

в. Рэпаўшчына (не існуе), Ахрэмавецкі сельсавет

**534. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Рэпаўшчына знаходзілася за 2 км на поўдзень ад в. Замошша. Восенню 1942 г. гітлераўцы акружылі вёску, жыхароў сагналі ў хату Д. І. Шчогалевай. Па 2 чалавекі выводзілі на вуліцу і па-зверску дапытвалі. Потым хату з людзьмі падпалілі. Карнікі загубілі 96 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

в. Слабодка, цэнтр сельсавета

**535. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**535а.** Гарадзішча-1. За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, на высокім узгорку паўвострава Рог, што глыбока ўразаецца паміж азёрамі Нешчарда і Поцех. Пляцоўка яйцападобнай формы, памерам 20×38 м, выцягнута з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. З паўднёва-заходняга краю на вузкім участку ўзгорка прасочваюцца вал і роў. Абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт каля 1 м. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду, касцяныя праколкі і шылы, косці жывёл, якія адносяцца да днепра-дзвінскай культуры.

**535б.** Гарадзішча-2. За 0,5 км на паўночны захад ад гарадзішча-1. Пляцоўка дыяметрам каля 40 м, абкружана валам. У цэнтры пляцоўкі ўпадзіна — магчыма, рэшткі калодзежа. Абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт у агаленнях пляцоўкі 0,5 м. Знойдзены ляпная кераміка і косці жывёл. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры (7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.).

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**536. КАСЦЁЛ СЭРЦА ІСУСА** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі на невялікім узгорку. Пабудаваны ў 1903 г. з цэглы.

Касцёл — трохнефавая двухвежавая базіліка з апсідай, трансептам і сакрысціямі. Галоўны фасад сфарміраваны 2 высокімі пяціяруснымі вежамі з вострымі шатровымі вярхамі і параўнальна невялікай фасаднай плоскасцю цэнтральнага нефа паміж імі. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі, лучковымі і круглымі аконнымі праёмамі з вітражамі (каляровае шкло захавалася часткова). Над галоўным уваходам і на фасадных плоскасцях трансепта размешчаны вялі-



536. *Касцёл Сэрца Ісуса. Акоўка дзвярэй.*



536. *Касцёл Сэрца Ісуса. Галоўны фасад.*



536. *Касцёл Сэрца Ісуса. План.*

кія вокны-«ружы». Усе сцены раскрапаваны ступеньчатымі контрфорсамі, якія на бакавых фасадах злучаны з дэкаратыўнымі аркбутанамі. Уваходы вырашаны ў выглядзе аднатыпных парталаў з паўцыркульнымі праёмамі. У інтэр'еры — цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, хоры ў верхняй частцы бабінца. У пластычным вырашэнні касцёла шырока выкарыстаны ордэрныя элементы раманскай архітэктуры: аркатурныя паясы, нішы, калонкі з капітэлямі раслінных форм. Сцены і скляпенні алтарнай часткі размаляваны арнаментам.

Вялікую мастацкую каштоўнасць маюць жалезныя акоўкі ўсіх вонкавых дзвярэй касцёла, выкананыя мясцовым кавалём. Кампазіцыі аковак складаюцца з сіметрычна ўкладзеных па баках завесы (царгі) спіралепадобных пышных раслінных сцяблоў, што заканчваюцца то чатырохлістымі кветкамі, то пальметападобным лістком. Пры кампазіцыйным адзінстве аковак усіх дзвярэй дэталі не паўтараюцца, што сведчыць аб свабоднай імправізацыі майстра ў кожным выпадку. Арыгінальную, багатую па форме і складаную па малюнку кампазіцыю маюць акоўкі дзвярэй цэнтральнага ўвахода. Яны вырашаны як пышныя букеты з арнаментальных элементаў, што паўтараюцца ў кампазіцыях дэкору бакавых дзвярэй.

Касцёл — прыклад псеўдараманскага кірунку ў архітэктуры. Акоўкі дзвярэй — помнік манументальна-дэкаратыўнага мастацтва і кавальскага майстэрства.

*С. Г. Багласаў, М. М. Яніцкая.*

**в. Стаўрова, Казянскі сельсавет**

**537. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад в. Стаўрова. Пахаваны 290 жыхароў навакольных вёсак, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г. У 1968 г. на магіле насыпаны курган.

**в. Струнеўшчына, Друйскі сельсавет**

**538. МАГІЛА ЭФРОНА** Рыгора Сяргеевіча (гіст.). Каля могілак. Савецкі воін Р. С. Эфрон, сын паэтэсы Марыны Цвятаевай, загінуў у ліпені 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Укля, Цяцеркаўскі сельсавет**

**539. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі на беразе воз. Укля, ва ўрочышчы Тарылава. Вышыня над наваколлем каля 20 м. Пляцоўка авальная, памерам 60×40 м, умацаванняў не мае. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1976 г. і 1980 г. Л. У. Дучыц. У культурным пласце знойдзены рэшткі ляпнога посуду і касцяныя праколкі. Адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; яго ж. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии.— У кн.: Труды IX археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1. *Л. У. Дучыц.*

**540. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, на ўскраіне лесу. 135 курганоў вышынёй да 0,6 м, дыяметрам 5—6 м. Даследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1980 г. Л. У. Дучыц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, трапляецца трупаспаленне. Знойдзены жалезны наканечнік кап'я, упрыгожанні з бронзы і медзі, шкляныя пацеркі, гліняны посуд. Датуецца 11—12 стагоддзямі, належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы раскопак Ф. В. Пакроўскага захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР (Вільнюс).

*Літ.:* Покровский Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии.— У кн.: Труды IX археологического съезда в Вильне. М., 1895, т. 1.

*Л. У. Дучыц.*

**в. Цяцеркі, цэнтр сельсавета**

**541. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шавуры, Слабодкаўскі сельсавет**

**542. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на высокім і доўгім пагорку. Памер 70×30 м. З боку поля захаваліся рэшткі вала. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1976 г. і 1978 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,3—0,6 м, у ім знойдзены фрагменты ляпнога посуду. Адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Ковенской губернии...— У кн.: Труды X археологического съезда в Риге 1896. М., 1900, т. 3.




# ВЕРХНЯДЗВІНСКІ РАЁН

Прошкі
Цеплюкі
Ігналіна
Кастрова
Сенькава
Асвея
Чапаеўскі
Дубровы
Лісна
Дабраплёсы
Свяціцы
Відокі
Буды
Росіца
Сар'я
Вышнарава
Стралкі
Марозы
Каханавічы
Вусце
Бігосава
Задзежжа
Цінкаўцы
Бялькоўшчына
Рудня
ВЕРХНЯДЗВІНСК
Галубава
Свіраўшчына
Жоўніна
Свольна
Жыгулі
Залессе
Антонава
Дзёрнавічы
Валынцы
Клімаўшчына
Шайцерава
Прудзінкі
Боркавічы
Казуліна
Зялькі
Нурава

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

Палацы, сядзібы, асабнякі

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## VII. ВЕРХНЯДЗВІНСК

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны ў сутоку рэк Дрыса і Заходняя Дзвіна, за 175 км ад Віцебска. Чыгуначная станцыя за 3 км на поўнач ад горада, на аўтамабільнай дарозе Полацк — Даўгаўпілс.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1386 г. (летапісныя назвы Дрысь, Дрыса, Дрыза), калі полацкі князь Андрэй Альгердавіч (Андрэй Полацкі) у час міжусобнай вайны з вялікім князем літоўскім Ягайлам спаліў Дрысенскі замак (адноўлены Жыгімонтам II Аўгустам у 1563 г.). З 15 ст. Дрыса была асобнай, падпарадкаванай Полацку воласцю, пра што ўпамінаецца ў пагадненні паміж вялікім князем літоўскім Аляксандрам і вялікім князем маскоўскім Іванам III ад 25.3.1503 г. У Лівонскую вайну Дрыса была ўзята войскам Івана Грознага і ўтрымлівалася ім 19 гадоў. У 1582 г. горадам авалодаў С. Баторый. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. жыхары Дрысы прысягнулі на вернасць Расіі. Горад меў свой герб: на залатым полі шчыта — коннік з узнятым мячом. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Дрыса ў складзе Расійскай імперыі. У 1776—96 гг. павятовы горад Полацкай, з 1802 г.— Віцебскай губерняў. У пачатку Айчыннай вайны 1812 г. каля Дрысы быў умацаваны лагер і галоўная кватэра камандуючага рускай арміі М. Б. Барклая дэ Толі. Горад няраз нёс вялікія страты ад паводак (асабліва ў 1855, 1878 гг.). У 1866 г. паблізу Дрысы пракладзена чыгунка Полацк — Дзвінск (з 1920 г. Даўгаўпілс). Як чыгуначная станцыя Дрыса з'яўлялася адным з галоўных пунктаў вывазу лёну за мяжу. У 1899 г. праз яе адпраўлена 238 тыс. пудоў ільновалакна. У 1797 г.— 1310 жыхароў, 1861 г.— 2015, 1897 г.— 4238, 1905 г.— 5750 жыхароў. У 1905 г. тут было 14 дробных прамысловых прадпрыемстваў, гарадское і прыходскае вучылішчы, ніжэйшая рамесная школа, бальніца, аптэка. Падзенне царскага самадзяржаўя ў лютым 1917 г. выклікала ў горадзе вялікі энтузіязм, працоўныя Дрысы паслалі Петраградскаму Савету прывітальную тэлеграму. У сакавіку — красавіку ў горадзе створаны Савет рабочых дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г., а да 29.1(11.2).1918 г.— ва ўсім павеце. 19.2.1918 г., за некальі дзён да акупацыі Дрысы войскамі кайзераўскай Германіі, У. І. Ленін накіраваў старшыні Дрысенскага Савета рабочых дэпутатаў Л. Б. Урбану тэлеграму аб арганізацыі супраціўлення ворагу і захадах на выпадак, калі давядзецца пакінуць горад. У лютым — лістападзе 1918 г. Дрыса акупіравана нямецкімі войскамі, з верасня 1919 г. да кастрычніка 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. У сакавіку 1923 г. Дрысенскі павет скасаваны, Дрыса — мястэчка, з ліпеня 1924 г.— цэнтр раёна ў Полацкай акрузе, з студзеня 1938 г.— у Віцебскай вобл. З 27.9.1938 г. горад. Тут і ў раёне працавалі 4 ільнозаводы, арцелі па вытворчасці чарапіцы, гонты, мэблі з лазы, ткацкая майстэрня, смалакурная арцель і інш. У 1939 г. было 2,7 тыс. жыхароў.



VII. *Вуліца Савецкая.*

У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 13.7.1944 г. горад акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 769 жыхароў. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (18.7. 1942 г.— 26.12.1943 г.) і ЛКСМБ (18.6. 1942 г.— 12.7.1944 г.), выходзіла падпольная газета «Патрыёт Радзімы».



VII. *Будынак універмага.*

З верасня 1944 г. горад у Полацкай, з студзеня 1954 г. ў Віцебскай абласцях. У 1959 г. 3,6 тыс. жыхароў. У снежні 1962 г. Дрыса перайменавана ў Верхнядзвінск. У 1970 г. ў горадзе 11,9 тыс. жыхароў.

Горад гістарычна складваўся на тэрыторыі паміж Заходняй Дзвіной і Дрысай. Адзіным умацаваным паселішчам быў драўляны замак у вусці Дрысы. У 1547 г. тут пабудавана мытня. Жылыя дамы (драўляныя) размяшчаліся паблізу замка, шчыльнымі паралельнымі радамі ў напрамку да Заходняй Дзвіны. Папярочныя праезды дзялілі забудову на кварталы. У цэнтры забудовы на скрыжаванні вуліц сфарміравалася невялікая гандлёвая плошча. Рэгулярны план горада зацверджаны ў 1778 г. У аснову плана паложана сетка вуліц, якая склалася гістарычна. У 1838 г. зацверджаны другі генеральны план. Пад 1864 г. тут было 28 кварталаў з 2 плошчамі: адна — у паўднёвай частцы паблізу Дзвіны пры ўездзе з боку Полацка, другая — у паўднёва-заходняй частцы паміж былымі вуліцамі Новаю, Старою і Наварынкаўскаю (на скрыжаванні сучасных вуліц Емяльянава і Качкара). У 1861 г.— 281 драўляны і 12 мураваных дамоў, у 1905 г.— 525 драўляных і 25 мураваных дамоў.

У 1929—32 гг. пабудаваны адзін з першых у БССР ільнозавод, электрастанцыя, 2 цагельныя і лесапільны заводы. У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі нанеслі гораду вялікія страты. Пасля вайны адноўлены жыллёвы фонд, пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы. У 1970 г. Віцебскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект» распрацаваны новы генплан забудовы горада, паводле якога асноўнае будаўніцтва вялося ў гістарычнай частцы горада ўздоўж Заходняй Дзвіны і Дрысы. Захавана прамавугольная сетка вуліц. На вуліцах Савецкай і Емяльянава ўзведзены будынкі райвыканкома, раённай канторы Дзяржбанка, капітальныя жылыя дамы. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1981 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва, фарміруецца новы мікрараён пры ўездзе ў Верхнядзвінск з паўднёва-ўсходняга боку.

Працуюць: ільнозавод, масласырзавод, фабрыка мастацкіх вырабаў, хлебазавод, лясгас, лесапункт, камбінат будаўнічых матэрыялаў (сталярны цэх і цагельны завод), раённае аддзяленне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання; 2 сярэднія, музычная, рабочай моладзі школы, спецшкола, 4 дашкольныя ўстановы, паліклініка, бальніца, гасцініца, Дом культуры, кінатэатр, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі. Выда-

ецца газета «Дзвінская праўда». Помнікі: У. І. Леніну, ахвярам фашызму, воінам-землякам, на брацкіх магілах савецкіх пагранічнікаў і савецкіх воінаў, абеліск памяці Айчыннай вайны 1812 г.

Зона адпачынку — на берагах Заходняй Дзвіны і Дрысы.

*Літ.:* Россия. Т. 9.— СПб., 1905; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг. Т. 1.— Мн., 1968; Городские поселения в Российской империи. Т. 1.— СПб., 1860; Живописная Россия. Т. 3.— СПб., 1882; Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954.

*У. В. Алісейчык, С. Ф. Царохін.*

**543. АБЕЛІСК ПАМЯЦІ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ 1812 г.** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы.

Напярэдадні Айчыннай вайны 1812 г. ў лукавіне левага берага Заходняй Дзвіны, насупраць г. Дрыса, была створана ўмацаваная пазіцыя рускай арміі — Дрысенскі лагер. Пабудаваны паводле плана прускага генерала Фуля, ваеннага саветніка Аляксандра I. Займаў тэрыторыю каля 14 км². Меркавалася, што ў выпадку нападу напалеонаўскай арміі на Расію 1-я Заходняя армія пад камандаваннем М. Б. Барклая дэ Толі адыдзе ў Дрысенскі лагер і тут затрымае наступленне галоўных варожых сіл. У гэты час 2-я руская армія пад камандаваннем П. І. Баграціёна нанясе ўдары па флангах і тылу праціўніка.

У Айчынную вайну 1812 г. войскі 1-й рускай арміі адступілі ад Вільні і 29 чэрвеня — 2 ліпеня сканцэнтраваліся ў Дрысенскім лагеры. 30 чэрвеня туды прыбыў з світай Аляксандр I. Пры аглядзе ўмацаванняў генералы далі адмоўнае заключэнне аб лагеры. Недахопы яго ў стратэгічных і тактычных адносінах былі відавочныя. Лагер знаходзіўся ў баку ад асноўных стратэгічных напрамкаў, не прыкрываў шляхоў да Масквы і Пецярбурга. Адкрытыя подступы і лясныя масівы давалі магчымасць ворагу канцэнтраваць свае войскі, абысці лагер з флангаў. 2-я армія П. І. Баграціёна не змагла, як планавалася, прабіцца праз Вілейку і вымушана была адыходзіць на Бабруйск. У сувязі з гэтым М. Б. Барклай дэ Толі зрабіў вывад, што праціўнік нанясе ўдар па рускай арміі на ўчастку паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной, адрэжа 2-ю армію ад 1-й і паставіць яе ў цяжкае становішча. Гэта пацвердзілі дзеянні французскіх войск, асноўныя сілы якіх рухаліся на Докшыцы і Глыбокае, каб паводле стратэгічнага плана Напалеона не дапусціць злучэння рускіх армій, разбіць іх паасобку і ісці на Маскву. Таму Ваенны савет, што адбыўся 1 ліпеня ў Дрысенскім лагеры, падтрымаў М. Б. Барклая дэ Толі, які рашуча патрабаваў злучэння 1-й і 2-й армій і адыходу з Дрысы. 2 ліпеня 1-я армія, за выключэннем корпуса генерала П. Х. Вітгенштэйна, які павінен быў прыкрываць напрамак на Пецярбург, пераправілася цераз Дзвіну і сканцэнтравалася паміж вёскамі Пакаёўцы і Валынцы. 4 ліпеня яна пачала марш на Віцебск. Затрымка 1-й арміі ў Дрысенскім лагеры ўскладніла дзеянні рускіх войск. 1-я і 2-я арміі злучыліся толькі 22 ліпеня ў Смаленску.



543. *Абеліск памяці Айчыннай вайны 1812 г.*

У 1912 г. да 100-годдзя Айчыннай вайны 1812 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Харкевич В. И. Война 1812 года. От Немана до Смоленска.— Вильна, 1901; Бескровный Л. Г. Хрестоматия по русской военной истории.— М., 1947.

*У. Дз. Будзько.*



545. *Помнік на брацкай магіле савецкіх пагранічнікаў.*

**544. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Савецкай, у гарадскім скверы. Пахаваны савецкія воіны маёр М. С. Маскоўскі і старшы лейтэнант А. Х. Панціелеў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск. Іх імёнамі названы вуліцы горада.

**545. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). На вул. Савецкай, у гарадскім скверы. Пахаваны 9 воінаў-пагранічнікаў, якія загінулі 17.9.1939 г. пры вызваленні Заходняй Беларусі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**546. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Савецкая, 43. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы, неатынкаваны. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Сцены 1-га паверха з рознавялікімі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі арачнымі броўкамі, 2-га — з рытмічна размешчанымі лучковымі праёмамі, упрыгожанымі сандрыкамі. Фасады крапаваны падаконнымі філёнгамі, прафіляваным карнізам на кранштэйнах. Планіроўка 1-га паверха анфіладная, 2-га — спачатку калідорная, пазней некалькі зменена. Жылы дом — помнік грамадзянскай архітэктуры з выкарыстаннем элементаў псеўдаготыкі і стылю «мадэрн».

*А. М. Кулагін.*

**547. МАГІЛА КАЧКАРА** Анатоля Цімафеевіча (гіст.). На могілках. Маёр А. Ц. Качкар загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск. Яго імем названа вуліца горада.

**548. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На вул. Савецкай, у гарадскім скверы. Пахаваны воін, які загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**549. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ ГОРАДА І РАЁНА** (гіст.). Вул. Гагарына, 58. Устаноўлена ў 1962 г. на будынку райвыканкома.

10.7.1944 г. войскі 2-га Прыбалтыйскага фронту (камандуючы — генерал арміі А. І. Яроменка), ажыццяўляючы Рэжыцка-Дзвінскую аперацыю, перайшлі ў наступленне на поў-



546. *Жылы дом.*

нач ад Полацка, у жорсткіх баях прарвалі галоўны абарончы рубеж ворага «Пантэра», вызвалілі 13 ліпеня ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў г. Дрыса (цяпер Верхнядзвінск), 17 ліпеня — г. п. Асвею і да 19 ліпеня ўсю тэрыторыю сучаснага Верхнядзвінскага р-на. Непасрэдна ў вызваленні былых Дрысенскага і Асвейскага р-наў прымалі ўдзел: войскі 22-й арміі (камандуючы — генерал-лейтэнант Г. П. Караткоў) — 44-ы (генерал-маёр М. Н. Кляшнін) і 90-ы (генерал-маёр Р. І. Шарстнёў) стралковыя карпусы; войскі 4-й ударнай арміі (камандуючы — генерал-лейтэнант П. Ф. Малышаў) — 14-ы (генерал-маёр П. А. Арцюшчанка, потым генерал-маёр Б. І. Арушанян), 83-і (генерал-лейтэнант М. Л. Салдатаў) і 100-ы (генерал-маёр М. А. Сіязаў) стралковыя карпусы; воіны 5-га танкавага корпуса (генерал-маёр М. Г. Сахно). Сумесна з войскамі Чырвонай Арміі ў вызваленні раёна прымалі ўдзел партызаны 1-й (камандзір — А. І. Грыгор'еў, камісар — А. І. Лісоўскі), 2-й (камандзір І. М. Кухарэнка, камісар — І. В. Хут) Дрысенскіх партызанскіх брыгад і Асвейскай партызанскай брыгады (камандзір — М. М. Кузьмін, камісар А. А. Бохан).

*Літ.:* Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— Мн., 1973; Еременко А. И. Годы возмездия. 1943—1945.— М., 1969. *Т. Р. Чуракова.*

**550. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ, СПАЛЕНЫМ ВЁСКАМ, ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). За 0,3 км ад горада, у развілцы шасейных дарог Верхнядзвінск — Асвея, Даўгаўпілс — Полацк.

У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 12 212 жыхароў Верхнядзвінскага р-на, спалілі 426 вёсак (многія пасля вайны не адрадзіліся, 69 вёсак увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь, у т. л. 43 на Могілках вёсак). 1492 савецкія воіны і партызаны загінулі пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 3140 землякоў — на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

У 1977 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых адкрыты мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс (скульпт. І. Краўчанка, арх. М. Ткачук; бетон). У цэнтры кампазіцыі на насыпным узгорку ўстаноўлены скульптуры (вышыня 8 м) старога і дзяўчыны. Вакол узгорка ўкапаны 6 масіўных жалезабетонных слупоў, што нагадваюць процітанкавыя надаўбні. На іх нахільных тарцовых плоскасцях звесткі аб стратах раёна ў Вялікую Айчынную вайну. Прыводзяцца лічбы загінуўшых на франтах, загубленых і вывезеных у няволю нямецка-фашысцкімі захопнікамі жыхароў, назвы спаленых вёсак. Да мемарыяла з



550. *Мемарыяльны комплекс ахвярам фашызму, спаленым вёскам, воінам-вызваліцелям і землякам.*

боку горада вядзе сцежка з бетонных пліт, у пачатку яе пастаўлена стэла. Уздоўж сцежкі, направа ад яе — валікія камяні.

*Т. Р. Чуракова, Т. В. Габрусь.*

**551. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Гагарына. Пабудавана ў 1819 г. з цэглы.

Храм падоўжна-восевай кампазіцыі, чатырохчасткавы (званіца, бабінец, асноўны аб'ём, апсіда). Асноўны аб'ём, прамавугольны ў плане, перакрыты сферычным купалам на высокім барабане з 4 арачнымі вокнамі і зубчастым карнізам. Званіца трох'ярусная з шатровым дахам, утварае



551. *Мікалаеўская царква. Галоўны фасад.*

галоўны (заходні) фасад будынка. Сцены расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. У бакавых гранях бабінца арачныя нішы. Вокны асноўнага аб'ёму прамавугольныя з простымі ліштвамі. Вуглы будынка аздоблены пілястрамі. Строгай манументальнасці царквы адпавядае стрыманы па дэкору і пластыцы інтэр'ер. Бабінец і паўкруглы алтар адкрываюцца ў асноўнае памяшканне арачнымі праёмамі. Сцены атынкаваны.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год.— Вильна, 1868. *У. В. Алісейчык.*

**552. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, у гарадскім скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**553. РАДЗІМА АСКНАЗІЯ** Ісака Львовіча (гіст.).

Рускі і беларускі мастак, акадэмік жывапісу І. Л. Аскназій нарадзіўся 16.1.1856 г. ў заможнай сям'і. Рана праявіў здольнасці да жывапісу. Вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (1874—79 гг., у П. Чысцякова). У 1879 г. атрымаў вялікі залаты медаль за дыпломную работу «Блудніца перад Хрыстом». У 1880—84 гг. працаваў у Італіі, Германіі, Польшчы. Пасля вяртання з-за мяжы жыў пераважна ў Віцебску. Аўтар карцін на біблейскія сюжэты: «Майсей у пустыні» (1885 г.), «Кат з галавой Іаана Хрысціцеля», «Саламон за працай над «Еклезіястам» і інш. Пісаў жанравыя сцэны з жыцця гарадоў і мястэчак Беларусі: «Яўрэйскае вяселле», «Прыход суботы» (1890 г.), «Па пазыку» (1892 г.), «Вандроўныя краўцы». Удзельнічаў у выстаўках Пецярбургскага аб'яднання мастакоў у 1887 г. («Тужлівыя весткі»), у 1890 г. («На старасці», «Ранішні візіт», «У раздуме»). Падтрымліваў сувязі з І. Я. Рэпіным. Памёр І. Л. Аскназій у 1903 г.

*Літ.:* Булгаков Ф. И. Наши художники. Т. 1.— СПб., 1889; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**554. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). З даўняга часу г. Верхнядзвінск вядомы як цэнтр традыцыйнага мастацкага ткацтва. У 19 — 1-й чвэрці 20 ст. пры памешчыцкіх дварах працавалі ткацкія майстэрні, абсталяваныя ручнымі станкамі. Там ткачыхі праходзілі курс падрыхтоўкі, потым працавалі самастойна. Ткалі ручнікі, посцілкі,



551. *Мікалаеўская царква. План.*

дываны і іншыя рэчы. Вырабы мелі збыт не толькі ў Беларусі, але і ў Вільні, Варшаве.

З красавіка 1967 г. пры Верхнядзвінскай фабрыцы мастацкіх вырабаў адкрыты цэх мастацкага ткацтва. Вырабляюць ручнікі, сумачкі, сурвэткі, накідкі на крэслы, пасцілкі і інш. Матэрыял — лён, віскоза, воўна, чарот. Тканыя рэчы утылітарныя і дэкаратыўныя. У мастацкім вырашэнні шырока выкарыстоўваюцца традыцыйны беларускі народны арнамент, геаметрызаваныя фігуркі. Многія ткачыхі фабрыкі ўдзельнічалі ў мастацкіх выстаўках, іх работы адзначаны дыпломамі і прызамі. *Д. С. Трызна.*

**в. Абразеева (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**555. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Абразеева знаходзілася за 2 км на поўдзень ад в. Сар'я. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (36 чалавек, 13 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Абрамава, Асвейскі сельсавет**

**556. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**556а.** Г а р а д з і ш ч а. Вядома пад назвай Г а р а д з е ц. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўзвышшы ў лесе. Авальнае ў плане, памерам 40×35 м. Умацавана 2 падкованападобнымі валамі вышынёй 2,3 м і равамі глыбінёй 2,4 м, разамкнёнымі ў паўночнай частцы, дзе быў уваход на гарадзішча. Выявіў і даследаваў у 1966 г. К. П. Шут. У паўднёвай частцы быў закладзены раскоп у 120 м². Культурны пласт 1 м. Сярод знаходак — рэшткі домніцы і абгарэлых брyвенняў, з якіх будаваўся плот на краі гарадзішча, трапляюцца слоікападобныя гладкасценныя гаршкі, жалезныя наканечнікі дроцікаў, шылы, каменныя зерняцёркі, касцяныя вырабы. Помнік адносіцца да днепрадзвінскай культуры, датуецца 5 ст. да н. э. — 4 ст. н. э.

**556б.** К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к - 1. За 0,6 км на захад ад вёскі, побач з шашой Полацк — Асвея. 41 паўсферычны насып вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 3—4 м. Выявіў у 1966 г. К. П. Шут. У 1974 г. З. М. Сяргеева раскапала 5 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах; пахаванні адзіночныя, ёсць парнае. Знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, вітыя пярсцёнкі, пасярэбраныя і пазалочаныя пацеркі, бронзавыя спіралькі, ганчарныя гаршкі. Могільнік датуецца 11—12 стагоддзямі, належаў крывічам.

**556в.** К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к - 2. За 0,5 км на поўнач ад гарадзішча. 32 паўсферычныя насыпы дыяметрам 5—7 м, вышынёй 1 м. Выявіў у 1966 г. К. П. Шут. У 1974 г. З. М. Сяргеева раскапала 2 насыпы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Могільнік датуецца 9—10 стагоддзямі, належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Ш у т К. П. Городища эпохи раннего железа на северо-западе Белоруссии.— У кн.: Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР. Мн., 1967; С е р г е е в а З. М., С а в и ц к и й М. Г. Работы на Освейщине.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975. *У. Ф. Ісаенка.*



**551.** *Мікалаеўская царква. Від з боку апсіды.*

**в. Абухава, Сар'янскі сельсавет**

**557. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 63 мірныя жыхары, закатаваныя ў лютым 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Агуркі (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**558. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Агуркі знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Бяляны. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (36 чалавек, 16 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Азернікі, Кахапавіцкі сельсавет**

**559. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У заходняй частцы вёскі, за 50 м ад дарогі Верхнядзвінск — Асвея. На ўшанаванне памяці 45 жыхароў вёскі, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган. На вяршыні яго пастаўлены абеліск.




**563.** *Помнік землякам.*

**560. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). Вёска Азернікі з даўніх часоў славілася майстрамі ручнога пляцення з лазы. Тут выраблялiся рэчы рознага гаспадарчага прызначэння: кашы для бульбы і ягад, лубкі для зерня і мукі, гарцы, сявенькі і інш. Як промысел пляценне было пашырана ў 19 — 1-й палавіне 20 ст. Цяпер асобныя майстры выпрабляюць пераважна сувенірныя рэчы, працуюць надомнікамі ад Верхнядзвінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. *Д. С. Трызна.*

**в. Аніськава (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**561. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Аніськава знаходзілася за 2 км на поўнач ад в. Вознава. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (32 чалавекі, 12 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Антонава, Валынецкі сельсавет**

**562. МАГІЛА УРБАНА** Яўгена Антонавіча (гіст.). На могілках. Партызан Я. А. Урбан загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**563. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пастаўлены ў 1970 г. на ўшанаванне памяці 101 воіна-земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Помнік — прамавугольная стэла (вышыня 4,2 м, жалезабетон), па баках якой сіметрычна размешчаны 2 нахі-

11 Зак. 3873

леныя пліты (кожная 1,5×1,8 м) з імёнамі загінуўшых. У верхняй частцы стэлы гарэльеф: пагрудныя выявы старога, жанчыны і юнака ў жалобе. Ніжэй гарэльефа выявы пяціканцовай зоркі, пальмавай галінкі і надпіс-прысвячэнне.
*Г. М. Ярмоленка.*

**564. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**в. Асвеіца, Чапаеўскі сельсавет**

**565. РАДЗІМА БУРАКА** Андрэя Мацвеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Бурак нарадзіўся ў 1911 г. З рабочых. Працаваў брыгадзірам у калгасе. З 1938 г. рабочы на заводзе імя В. У. Куйбышава ў Ніжнім Тагіле і ва Уральскім леспрамгасе. У Чырвонай Арміі з 14.6.1941 г. Ваяваў у складзе 198-га стралковага палка 68-й гвардзейскай стралковай дывізіі 40-й арміі. Наводчык кулямёта А. М. Бурак вызначыўся ў верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Ржышчаў Кіеўскай вобл. Агнём кулямёта прыкрываў пераправу войск, знішчыў некалькі агнявых кропак ворага. На захопленым плацдарме ўдзельнічаў у адбіцці 3 контратак праціўніка. Загінуў 17.11.1943 г. Пахаваны ў с. Шчучынка Кагарлыцкага р-на Кіеўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.11.1943 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.



567. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



568. *Помнік на магіле У. У. Сімацкага.*

**г. п. Асвея,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**566. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлена стэла.

**567. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 626 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 22-й арміі 2-га Прыбалтыйскага фронту, што загінулі пры вызваленні г. п. Асвея ў ліпені 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**568. МАГІЛА СІМАЦКАГА** Уладзіміра Уладзіміравіча (гіст.). У парку.

У. У. Сімацкі нарадзіўся ў 1914 г. Да вайны працаваў загадчыкам фінансавага аддзела Асвейскага райвыканкома. У Вялікую Айчынную вайну, калі нямецка-фашысцкія захопнікі акупіравалі тэрыторыю раёна, арганізаваў і ўзначаліў камуністычнае падполле ў г. п. Асвея. У красавіку 1942 г. з падпольных груп Сімацкага і іншых створаны партызанскі атрад (пазней імя М. В. Фрунзе, камандзір І. К. Захараў). З ліпеня 1942 г. У. У. Сімацкі камандзір партызанскага атрада імя А. А. Жданава. Загінуў у баі ў кастрычніку 1942 г. Яго імем быў названы адзін з атрадаў (былы імя Жданава) Асвейскай партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла. Імем У. У. Сімацкага названы саўгас у Верхнядзвінскім р-не і вуліца ў г. п. Асвея, на адным з дамоў якой устаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар першага сходу падпольшчыкаў.

*Літ.:* Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— Мн., 1973.
*В. Б. Караткевіч.*

**569. МАНАСТЫРСКІ ШПІТАЛЬ** (архіт.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, каля парку. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. пры манастыры сясцёр міласэрнасці. Цяпер тут размешчана бальніца.

Будынак П-падобны ў плане, аднапавярховы з паўпадваламі ў бакавых частках. У сярэдняй частцы пакоі размешчаны абапал калідора, у бакавых — па адзін бок. У 1928—29 гг. будынак прыстасаваны пад адміністрацыйную ўстанову. Пачатковая планіроўка захавалася толькі ў левым, усходнім крыле. У пакоях столі плоскія, калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Усе сцены аднолькавай таўшчыні (71 см). У паўпадвальным паверсе размяшчалася кухня. Сцены яе прарэзаны лучковымі вокнамі, памяшканні перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі.

Будынак шпіталя — помнік архітэктуры з элементамі стылю барока.

*Літ.:* Живописная Россия. Т. 3.— СПб., 1882.
*У. В. Алісейчык.*

**570. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ ГАРАДСКОГА ПАСЁЛКА** (гіст.). Вул. Савецкая, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1975 г.

Летам 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікіператварылі Асвею ў моцны апорны пункт. 14.7.1944 г. часці 22-й арміі (камандуючы — генерал-лейтэнант Г. П. Караткоў) 2-га Прыбалтыйскага фронту пачалі наступленне ў напрамку Асвеі. Гітлераўцы аказвалі ўпартае супраціўленне. Савецкія



569. *Манастырскі шпіталь. План.*



569. *Будынак былога манастырскага шпіталя.*



571. *Руіны палаца.*

воіны пры падтрымцы партызан Асвейскай партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе (камандзір — М. М. Кузьмін, камісар А. А. Бохан) прарвалі абарону праціўніка і вечарам 17.7.1944 г. авалодалі гарадскім пасёлкам.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Еременко А. И. Годы возмездия. 1943—1945.— М., 1969; Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— Мн., 1973.
*Г. І. Дулеба.*

**571. ПАРК** (архіт.). Вул. Савецкая, на нізінным беразе воз. Асвейскае.

Пасаджаны ў 18 ст. па загаду мінскага ваяводы Я. А. Гільзена, якому належала Асвея. З 1786 г. парк уключаны ў сядзібу графа Шадурскага. Від на паркавы масіў з сажалкай адкрываецца з боку руін палаца. Лес (ліпа, дуб, клён, ясень, бяроза) абмежаваны каналам, які разам з 2 сажалкамі ўтварае адзіную водную сістэму. У глыбіні парку разгалінаванні канала ўтвараюць востраў. У паўднёва-ўсходняй частцы парку канал агінае штучны «кратэр» з заглыбленай пляцоўкай, у паўднёвай — вялікі насыпны ўзгорак — яшчэ адзін дэкаратыўны «кратэр».




571. *Парк. Схема планіроўкі: 1 — палац (руіны); 2 — «кратэр»; 3 — «малы кратэр»; 4 — насыпны ўзгорак.*

Парк — адзін з найбольш цікавых узораў паркавага мастацтва Віцебшчыны.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905.
*У. В. Алісейчык.*

**572. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Савецкай, у цэнтры пасёлка. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**573. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На вул. Сімацкага.

У Вялікую Айчынную вайну на акупіраванай ворагам тэрыторыі Асвейскага р-на з жніўня 1941 г. да ліпеня 1942 г. дзейнічала Асвейскае камуністычнае падполле. Кіраўнікі — У. У. Сімацкі (да 18.11.1941 г.) і І. К. Захараў. Аб'ядноўвала каля 100 чалавек, 9 падпольных груп: у г. п. Асвея — кіраўнік У. У. Сімацкі, у Задзежскім сельсавеце — С. І. Жвірбля, Каханавіцкім — І. П. Петрыенка, Кісялеўскім — К. П. Яськін, Красоўскім — Р. С. Лукашонак, Малашкаўскім — М. Я. Белабародаў, Савейкаўскім — У. І. Хвежанка, Сенькаўскім — І. А. Марачкоўскі, Сухарукаўскім — К. І. Мядзюта. Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, збіралі зброю, боепрыпасы, прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, вялі разведку, знішчалі гітлераўцаў, падарвалі 14 аўтамашын, 10 мастоў, на шашы Асвея — Полацк пашкодзілі тэлеграфную сувязь, спалілі льнозавод у Канчанах. У красавіку 1942 г. арганізавалі партызанскі атрад (пазней атрад



571. *Куток парку.*



572. *Помнік землякам.*



573. *Помнік падпольшчыкам.*

імя М. В. Фрунзе). Многія патрыёты загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод іх — М. Я. Белабародаў, А. І. Літвінаў, Р. С. Лукашонак, У. У. Сімацкі, І. С. Слобада.

У 1965 г. ў гонар асвейскіх падпольшчыкаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— Мн., 1973. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Бабы (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**574. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Бабы знаходзілася за 3,5 км на паўднёвы захад ад в. Гісялёва. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (20 чалавек, 12 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы вёскі ўстаноўлены памятны знак.

**в. Бандзелі, Бігосаўскі сельсавет**

**575. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У вёсцы. Пахаваны 34 мірныя жыхары вёскі, спаленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Баравок (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**576. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Баравок знаходзілася за 1 км на паўночны ўсход ад в. Каханавічы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (47 чалавек, 14 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Баравыя (не існуе), Бігосаўскі сельсавет**

**577. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Баравыя знаходзілася за 2 км на паўночны ўсход ад в. Ліпаўкі. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (21 чалавек, 8 двароў). Не адрадзілася. У 1976 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Барадуліна, Каханавіцкі сельсавет**

**578. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 18 жыхароў вёскі, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Бароўка, Жоўнінскі сельсавет**

**579. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка канторы аддзялення Дзяржкамсельгастэхнікі. Пахаваны 37 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**580. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка канторы аддзялення Дзяржкамсельгастэхнікі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**в. Барсукі, Боркавіцкі сельсавет**

**581. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі ў лесе. Займае ізаляванае ўзвышша. Пляцоўка амаль круглая, памерам 36×34 м, узвышаецца над поймай р. Дрыса на 20 м. Умацавана 3 кальцавыміваламі вышынёй да 2 м і равамі глыбінёй да 2 м, з паўднёвага боку — 2 дадатковымі валамі вышынёй 1,5 м і ровам глыбінёй 1 м. Выявіў і даследаваў у 1975—76 гг. В. І. Шадыра. Пры раскопках высветлілася, што па краях пляцоўкі быў яшчэ адзін вал, які на паверхні цяпер амаль не заўважаецца. Культурны пласт 0,4—0,5 м цёмна-шэрай, месцамі чорнай афарбоўкі. У ім знойдзена ляпная кераміка 2 відаў: пасудзіны са слабай прафіліроўкай і слоікападобныя, характэрныя для днепра-дзвінскай культуры. Гарадзішча адносіцца да 4—3 стагоддзяў да н. э.— 1—2 стагоддзяў н. э.



581. *Гарадзішча. План.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. І. Шадыра.*

**в. Барсукі, Шайцераўскі сельсавет**

**582. РАДЗІМА КОБЗУНА** Івана Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. М. Кобзун нарадзіўся 24.11.1902 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў у сельскай гаспадарцы. З 1925 г. ў Чырвонай Арміі. З 1930 г. ў войсках АДПУ — НКУС. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг., камандзір узвода станковых кулямётаў 5-га пагранічнага палка. З невялікай групай байцоў 27.1.1940 г. трапіў у акружэнне да белафінаў. 46 дзён воіны на чале з цяжка параненым лейтэнантам І. М. Кобзунам з баямі прарываліся да сваіх. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.4.1940 г. І. М. Кобзун удзельнік Айчыннай вайны, загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1969 г. на ўшанаванне яго памяці на будынку клуба ў в. Барсукі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**раз'езд Беніслаўскага, Валынецкі сельсавет**

**583. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.).

У 1942 г. па чыгунцы Полацк — Даўгаўпілс гітлераўцы прапускалі да 60 эшалонаў у суткі. Паводле распараджэння штаба Калінінскага фронту, камандаванне партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь» (камандзір А. І. Петракоў) распрацавала аперацыю па знішчэнню 110-метровага чыгуначнага моста цераз р. Дрыса. Мост ахоўваўся вялікім гарнізонам ворага на раз'ездзе Беніслаўскага. Падыходы да моста былі замініраваны, мелася сістэма дотаў. 4.8.1942 г. пасля ўпартага бою мост быў узарваны, гарнізон знішчаны. Рух на чыгунцы Полацк — Дрыса спынены на 16 сутак.

У 1961 г. ў памяць аб баявой аперацыі партызан каля чыгуначнай платформы пастаўлена стэла.

*Літ.:* Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— М., 1973.

**в. Бігосава, цэнтр сельсавета**

**584. ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ** (архіт.). На лініі Полацк — Даўгаўпілс.

Пабудаваны ў 1924—26 гг. з цэглы. Павернуты паўночным фасадам да чыгуначнага палатна. Кампазіцыя будынка выцягнутая, сіметрычная. Планіроўка мяшаная. Цэнтральная частка квадратная ў плане, накрыта двухсхільным дахам. Па вуглах — чацверыковыя зубчастыя вежы з высокім шатровым пакрыццём. Да цэнтральнай часткі з абодвух бакоў (з захаду і ўсходу) прымыкаюць двухпавярховыя і аднапавярховыя аб'ёмы. Сцены двухпавярховых бакавых кры-



584. *Чыгуначны вакзал. План.*

лаў аздоблены лапаткамі, прарэзаны вялікімі прамавугольнымі вокнамі. Такія ж аконныя праёмы маюць аднапавярховыя часткі будынка. Рысы абарончага дойлідства надаюць будынку манументальнасць і рамантычны характар. У цэнтральнай частцы — зала чакання, у бакавых крылах — рэстаран і службовыя памяшканні.

Чыгуначны вакзал — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

*У. В. Алісейчык.*

**в. Боркавічы, цэнтр сельсавета**

**585. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля чыгуначнага вакзала. Пахаваны 196 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**586. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км ад чыгуначнага вакзала, за 100 м справа ад чыгункі Верхнядзвінск — Полацк. Пахаваны 3 жыхары вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1943 г.

**587. ПОМНІК НАСТАЎНІКАМ І ВУЧНЯМ, МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. У Вялікую Айчынную вайну ў вёсцы ў 1941—42 гг. дзейнічала падпольная камсамольская група, у якую ўваходзілі настаўнікі і вучні Боркавіцкай школы. Патрыёты ўстанавілі сувязь з партызанамі, па іх заданню збіралі звесткі аб руху варожых войск праз станцыю Боркавічы, аб умацаваннях і размяшчэнні праціўніка, збіралі і перадавалі партызанам зброю. Пазней паводле распараджэння камандавання атрада пайшлі ў партызаны.

У 1971 г. на ўшанаванне памяці 14 настаўнікаў і вучняў, што загінулі ў засценках СД, у партызанскай барацьбе і на франтах, устаноўлена стэла. У 1981 г. сюды перанесены астанкі партызанскай сувязной Ф. А. Дудкінай і членаў сям'і Лапкоўскіх, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г.

*Літ.:* Капустенок Г. В. С верой в победу.— Мн., 1980. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Бузава (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**588. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Бузава знаходзілася за 3 км на паўднёвы ўсход ад в. Лесні-кова. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (150 чалавек, 14 двароў). Не адрадзілася. У 1965 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Булы (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**589. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Булы знаходзілася за 4 км на паўночны захад ад в. Сар'я. 16.2.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (127 чалавек, 15 двароў). Не адрадзілася.

**в. Бялькоўшчына, Жоўнінскі сельсавет**

**590. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Усход». На ўшанаванне памяці воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**в. Валынцы, цэнтр сельсавета**

**591. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**592. МЕСЦА ЗНАХОДЖАННЯ ЗАБЕЛЬСКАЙ КАЛЕГІІ** (гіст.). Побач з в. Валынцы, у фальварку Забелы, пры дамініканскім кляштары ў 1786—1811 гг. існавала калегія і школьны тэатр. Росквіт тэатра прыпадае на 1787—91 гг., калі на яго сцэне ставіліся трагедыі і камедыі (на польскай мове) выкладчыкаў калегіі — «Свабода ў няволі» К. Марашэўскага, «Сапар», «Фемістокл» і «Камедыя» М. Цяцерскага, «Крэз» і «Пышнагольскі» І. Юрэвіча. Сюжэты трагедый бралі з антычнай гісторыі, камедый — з навакольнага жыцця. У 1789 г. сіламі вучняў пастаўлена камічная аперэта «Апалон-заканадаўца, або Зрэфармаваны Парнас», музыку да якой напісаў Р. Вардоцкі, лібрэта — М. Цяцерскі. З забельскай сцэны гучала беларуская мова. У 1787 г. пастаўлена «Камедыя» К. Марашэўскага, дзе галоўныя персанажы селянін Дзёмка і карчмар гавораць па-беларуску. У гэтым творы, выразна асветніцкім па змесце, на інтэрмедыйнай аснове ўпершыню сінтэзавалася беларуская камедыя. У 1787 г. забельскія шкаляры паказалі польска-беларускую пераробку камедыі Ж. Б. Мальера «Лекар паняволі», зробленую М. Цяцерскім. З Забельскай калегіяй звязана таксама дзейнасць выкладчыкаў — доктара філасофіі, аўтара падручніка па фізіцы Фелікса Цяцерскага, мемуарыста Фаўстына Цяцерскага, пазней сасланага ў Сібір.

*А. І. Мальдзіс.*



587. *Помнік настаўнікам і вучням, ахвярам фашызму.*

**в. Валясы, Чапаеўскі сельсавет**

**593. МАГІЛА СУРАЎНЁВАЙ** Алены Паўлаўны (гіст.). За 4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе воз. Глыбачка.

А. П. Сураўнёва нарадзілася ў 1926 г. ў в. Папова Сіроцінскага р-на. Вучылася ў Обальскай сярэдняй школе. У Вялікую Айчынную вайну партызанка. З канца 1943 г. разведчыца групы І. М. Пярова ў 4-й ударнай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту. 23.5.1944 г., выконваючы чарговае заданне, А. П. Сураўнёва натрапіла на варожую засаду. Адстрэльвалася да апошняга патрона. Параненая, была схоплена фашыстамі, якія 2 дні катавалі разведчыцу, патрабавалі ад яе звесткі аб месцы знаходжання разведгрупы. Юная патрыётка загінула, але не выдала сваіх таварышаў.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла. *Ф. В. Барысевіч.*

**в. Васілеўшчына (не існуе), Чапаеўскі сельсавет**

**594. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Васілеўшчына знаходзілася за 5 км на паўднёвы ўсход ад в. Прошкі. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (33 чалавекі, 10 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі ўстаноўлены памятны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Ваўкі (не існуе), Дзёрнавіцкі сельсавет**

**595. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ваўкі знаходзілася за

2 км на паўночны захад ад в. Даражылава. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (28 чалавек, 13 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 611 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Верхняе Стунжава (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**596. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Верхняе Стунжава знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Сар'я. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (58 чалавек, 14 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Converted Вознава, Сар'янскі сельсавет**

**597. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны захад ад вёскі. 20 насыпаў паўсферычнай формы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 5—8 м. Каля падножжа курганоў прасочаны раўкі і перамычкі. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вопытная, Бігосаўскі сельсавет**

**598. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 115 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях за станцыю Бігосава ў 1944 г. ці памерлі ад ран у шпіталі, што размяшчаўся ў вёсцы ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.



598. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**599. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны жыхары вёскі і навакольных населеных пунктаў, спаленыя ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**600. СЯДЗІБА** (архіт.). За 3 км на паўночны захад ад чыгуначнай станцыі Бігосава, каля дарогі Бігосава — Росіца. Створана ў 2-й палавіне 19 ст. Уключае сядзібны дом, капліцу, гаспадарчыя пабудовы і невялікі парк з сажалкай. Цяпер тут ветэрынарны тэхнікум.

Сядзібны дом — аднапавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак з 2 бакавымі выступамі. Цэнтральная частка на паверх вышэй асноўнага аб'ёму, завершана франтонам. Бакавыя выступы вылучаны чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі. Аконныя праёмы 1-га паверха прамавугольныя, абрамленне акон 2-га паверха спрошчанае, прасценкі руставаныя. Сцены дэкарыраваны пілястрамі, рустам, філёнгамі, завершаны развітым карнізам. Планіроўка калідорнага тыпу.

Перад домам невялікі парк пейзажнага тыпу. У цэнтры сядзібнага ансамбля сажалка з штучным востравам. На захад ад сажалкі — гаспадарчыя будынкі. У глыбіні сядзібнага ўчастка прамавугольная ў плане мураваная капліца з дарычнымі паўкалонамі.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**в. Ворзава, Бігосаўскі сельсавет**

**601. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 58 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Вянкелева (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**602. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Вянкелева знаходзілася за 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Слабодка. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (48 чалавек, 14 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Галубава, цэнтр сельсавета**

**603. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 воінаў і партызан, якія загінулі ў баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарадзілавічы, Чапаеўскі сельсавет**

**604. РАДЗІМА МАКІЁНКА** Івана Андрэевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. А. Макіёнак нарадзіўся 15.7.1914 г. ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. Працаваў брыгадзірам у калгасе. Служыў у Чырвонай Арміі ў 1936—38 гг. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны на Чарнаморскім флоце. Удзельнічаў у абароне Севастопаля, у вызваленні гарадоў Наварасійска, Марыупаля (з 1948 г. Жданаў), Асіпенка (з 1958 г. Бярдзянск). Намеснік камандзіра аддзялення аўтаматчыкаў І. А. Макіёнак вызначыўся ў сакавіку 1944 г. ў дэсантнай аперацыі ў г. Нікалаеў. Група дэсантнікаў, у складзе якой быў старшына І. А. Макіёнак, вяла бой з праціўнікам, адбіла 18 контратак, знішчыла каля 700 гітлераўцаў. І. А. Макіёнак загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.4.1945 г.

У 1978 г. на ўшанаванне памяці І. А. Макіёнка на заходняй ускраіне вёскі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Гарадзішча (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**605. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гарадзішча знаходзілася за 3 км на паўднёвы захад ад в. Стараселле. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (60 чалавек, 22 двары). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



600. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2—3 — свірны; 4 — стайня; 5 — капліца; 6 — сучасны будынак.*

**в. Гаўрыліна, Чапаеўскі сельсавет**

**606. МАГІЛА ВЕСТЭНБЕРГА** Уладзіміра Іосіфавіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Член Прошкаўскага камсамольскага падполля, партызан У. І. Вестэнберг загінуў у 1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Гваздова (не існуе), Дзёрнавіцкі сельсавет**

**607. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гваздова знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Рудня. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (51 чалавек, 22 двары). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Глінцы (не існуе), Чапаеўскі сельсавет**

**608. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Глінцы знаходзілася за 4 км на паўднёвы ўсход ад в. Лісна. У ліпені 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (29 чалавек, 12 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Гудава, Галубаўскі сельсавет**

**609. МАГІЛА ЦІМАФЕЕВА** Мікалая (гіст.). На могілках. Партызан М. Цімафееў загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзёрнавічы, цэнтр сельсавета**

**610. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля скрыжавання дарог Полацк — Асвея і Боркавічы — Дрэтунь. Пахаваны 90 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**611. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 жыхароў в. Ваўкі, якіх у лютым 1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 595 «Месца спаленай вёскі».

**612. МЕСЦА БАЁЎ 1942—44 гг.** (гіст.). Паўднёва-ўсходняя ўскраіна вёскі, каля моста цераз р. Дрыса.

У ліпені — жніўні 1942 г., чэрвені, жніўні і снежні 1943 г. партызанскія атрады (у жніўні 1942 г. аб'ядналіся ў 1-ю Дрысенскую партызанскую брыгаду, з якой у кастрычніку 1943 г. вылучылася 2-я Дрысенская партызанская брыгада) вялі жорсткія баі за мост і пераправу цераз р. Дрыса. На гэтым месцы 7.7.1944 г. вялі бой за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў воіны 2-га Прыбалтыйскага фронту (камандуючы І. А. Яроменка).

У 1970 г. на месцы баёў пастаўлена стэла.

**в. Дзянісенкі, Чапаеўскі сельсавет**

**613. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўночна-заходнім беразе воз. Лісна. 22 паўсферычныя насыпы дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,4—1 м. У 1974 г. З. М. Сяргеева даследавала 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку. Сярод знаходак ляпная і ганчарная кераміка, жалезны ўтульчаты наканечнік кап'я, віты бранзалет з завязанымі канцамі, падкавападобная фібула са спіральнымі канцамі. Могільнік датуецца 10—12 ст., належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Сергеева З. М., Савицкий М. Г. Работы на Освейщине.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975. *У. Дз. Будзько.*

**в. Доўгае, Дзёрнавіцкі сельсавет**

**614. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 100 мірных жыхароў в. Доўгае і навакольных вёсак, закатаваных і спаленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў лютым 1943 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дубровы, Чапаеўскі сельсавет**

**615. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзец. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на ўзгорку вышынёй 6—7 м. Памеры — 60×70 м. З поўдня абмываецца ручаём, з поўначы заўважаецца паніжэнне да 5—6 м. З захаду аддзялялася ровам, або седлавінай, якая ніжэй за пляцоўку гарадзішча на 4—5 м. Вядома з 1930 г. Абследавалі ў 1967 г. К. П. Шут, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены абломкі пасудзін, зерняцёрка, праслiца. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры і датуецца 5 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. Ф. Ісаенка.*

**616. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Еськава (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**617. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Еськава знаходзілася за 1 км на паўднёвы захад ад в. Каханавічы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (28 чалавек, 22 двары). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Жалабоўшчына (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**618. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Жалабоўшчына знаходзілася за 3 км на поўдзень ад в. Мотужы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (36 чалавек, 12 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Жарнасекі (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**619. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Жарнасекі знаходзілася за 5 км на паўночны ўсход ад в. Вознава. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (38 чалавек, 8 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Жоўніна, цэнтр сельсавета**

**620. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў і 29 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**621. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета.



**600.** *Сядзібны дом. План.*



**600.** *Сядзібны дом.*

На ўшанаванне памяці 49 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Жыгулі, Шайцераўскі сельсавет**

**622. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 18 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Забароўцы (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**623. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Забароўцы знаходзілася за 4 км на паўночны захад ад в. Сар'я. 16.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (16 чалавек, 12 двароў). Не адрадзілася. У 1964 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла.

**в. Задзежжа, Каханавіцкі сельсавет**

**624. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля скрыжавання дарог Асвея — Дзёрнавічы і Расоны — Каханавічы. На ўшанаванне памяці 96 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**625. РАДЗІМА МЯДЗЕЛЯ** Міхаіла Маркавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. М. Мядзель нарадзіўся 4.10.1910 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. З 1941 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, Бранскім, Цэнтральным, Варонежскім і іншых франтах. Удзельнічаў у абароне Оршы, Віцебска, Смаленска. Вызначыўся ў баях пры вызваленні Украіны. 27.9.1943 г. старшы лейтэнант М. М. Мядзель з групай байцоў фарсіраваў Дняпро ў Чарнігаўскай вобл. і нанёс удар па ворагу з фланга, што садзейнічала паспяховай пераправе савецкіх войск цераз водны рубеж. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. Пасля вайны жыў і працаваў у Маскве. Памёр М. М. Мядзель 21.1.1981 г. Пахаваны ў Маскве.

У 1979 г. на радзіме героя пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Залешчына (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**626. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Залешчына знаходзілася за 1 км на паўднёвы ўсход ал в. Мотужы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (60 чалавек, 21 двор). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.




622. *Помнік землякам.*

**в. Залучча, Чапаеўскі сельсавет**

**627. РАДЗІМА ЗАБАГОНСКАГА** Сямёна Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. А. Забагонскі нарадзіўся 14.1.1910 г. ў сям'і селяніна. Член КПСС з 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Цэнтральным, Варонежскім, 4-м Украінскім франтах. Камандзір аддзялення сяржант С. А. Забагонскі вызначыўся пры вызваленні Кіеўскай вобл. На чале групы разведчыкаў 23.9.1943 г. пераправіўся цераз Дняпро на поўнач ад г. п. Ржышчаў, светлавымі сігналамі паказваў месца для прычальвання лодак і плытоў. Падраздзяленні палка фарсіравалі раку, захапілі плацдарм і адбілі контратаку ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.11.1943 г. Пасля вайны працаваў у Томскай і Ленінградскай абласцях. Памёр С. А. Забагонскі 27.1.1955 г. ў Ленінградзе.

У 1978 г. на ўшанаванне яго памяці ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Зашчырына, Сенькаўскі сельсавет**

**628. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі, побач з могілкамі. 46 кургапоў вышынёй 0,3—1 м, дыяметрам 3—10 м. Каля асновы насыпаў прасочаны раўкі і перамычкі. Выявіў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, даследавала ў 1975 г. З. М. Сяргеева. Раскапаны 6 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на захад і паўднёвы захад. Знаходкі — бронзавыя спіральныя і пласціністыя пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, бронзавыя вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду. Могільнік датуецца 11—12 стагоддзямі, належаў крывічам. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Віцебскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Сергеева З. М. Раскопки курганов на северо-западе Витебской области.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976. *Л. У. Дучыц.*

**в. Зябкі, Дзёрнавіцкі сельсавет**

**629. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**630. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 42 жыхары навакольных вёсак, якіх расстралялі ці закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі ў лютым 1943 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зянькі (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**631. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Зянькі знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Муквяціца. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (40 чалавек, 22 двары). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Іванцова, Каханавіцкі сельсавет**

**632. МАГІЛА МАКЕЕНКІ** Андрэя Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. М. Макеенка загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ігналіна, Чапаеўскі сельсавет**

**633. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі. 28 насыпаў, з якіх 2 доўгія, 2 падоўжаныя, астатнія круглыя. Дыяметр круглых кургаиоў 6—12 м, вышыня 0,7—1,5 м, шырыня доўгіх насыпаў 4—4,6 м, даўжыня 28—32 м, вышыня 1,5 м, шырыня падоўжаных кургаиоў 5 м, даўжыня 12—13 м, вышыня 1,2 м. У 1974 г. З. М. Сяргеева раскапала 1 круглы курган. Пахавальны абрад—трупаспаленне. Знойдзены кальцыніраваныя косці і рэшткі памінальных вогнішчаў. Могільнік датуецца 8—10 стагоддзямі, належаў крывічам.

*Літ.:* Сергеева З. М., Савицкий М. Г. Работы на Освейщине.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975. *У. Дз. Будзько.*

**634. ПОМНІК БУРАКУ** Андрэю Мацвеевічу (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці земляка Героя

Савецкага Саюза А. М. Бурака ў 1978 г. пастаўлена стэла. Гл. артыкул № 565 «Радзіма Бурака Андрэя Мацвеевіча».

**635. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**в. Кабыльнікі (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**636. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Кабыльнікі знаходзілася за 3 км на паўднёвы ўсход ад в. Задзежжа. У сакавіку 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (25 чалавек, 10 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Казлоўшчына, Каханавіцкі сельсавет**

**637. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. ўстаноўлена надмагільная пліта.

**638. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 34 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Калюты (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**639. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Калюты знаходзілася за 5,5 км на паўночны захад ад в. Сар'я. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (64 чалавекі, 17 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Канстанцінава (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**640. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Канстанцінава знаходзілася за 1 км на паўднёвы захад ад в. Мотужы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (17 чалавек, 7 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі ўстаноўлены памятны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Карзуны (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**641. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Карзуны знаходзілася за 2 км на ўсход ад в. Грыбоўцы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (11 чалавек, 3 двары). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Каханавічы, цэнтр сельсавета**

**642. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У парку. Воін загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. ўстаноўлена надмагільная пліта.

**643. МАГІЛА ХРАПАВІЦКАГА** Ігната Яўстахавіча (гіст.). На могілках.

Беларускі фалькларыст, паэт, грамадскі дзеяч І. Я. Храпавіцкі нарадзіўся 31.7.1817 г. ў в. Каханавічы ў сям'і камергера. Атрымаў дамашнюю адукацыю. У 1840-я гады супрацоўнічаў у літаратурна-грамадскім часопісе краязнаўчага кірунку «Rubon», дзе змяшчаў вершы, пераклады, публікаваў гістарычныя дакументы, фальклорныя запісы. Найбольш грунтоўная праца фалькларыста — «Погляд на паэзію беларускага народа» (1845 г.), прысвечаная даследаванню беларускай вусна-паэтычнай творчасці. І. Я. Храпавіцкі адчуваў асноўнае патрабаванне свайго часу — неабходнасць скасавання паншчыны і вызвалення сялян.

У студзені 1850 г. ён разам са сваімі аднадумцамі С. Убры і Ю. Шчытам распрацаваў праект скасавання паншчыны і правёў яго большасцю галасоў (за — 206, супраць — 187) на з'ездзе дваран Віцебскай губерні, за што пазбаўлены царскім урадам права ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. Толькі ў 1858 г. ён увайшоў у склад губернскага камітэта для выпрацоўкі прапаноў па паляпшэнні быту прыгонных сялян. У 1859 г. быў абраны прадвадзіцелем дваран Дрысенскага павета, у 1880-я гады — прадвадзіцелем дваран Віцебскай губерні. На гэтай грамадскай пасадзе ён заставаўся да канца сваіх дзён. Памёр 25.12.1893 г.

*Літ.:* Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии.— М., 1972; Podbereski R. Białoruś i Jan Barszczewski.— У кн.: Barszczewski J. Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach. Pb., 1844; Grabowski T. S. Z pogranicza polsko-białoruskiego.— У кн.: Księga pamiątkowa ku czci Stanisława Pigonia. Kraków, 1961; Federowski M. Lud białoruski. T. 7.— Warszawa, 1969.

*Л. М. Салавей.*

**644. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. На ўшанаванне памяці 149 землякоў з саўгаса «Каханавічы», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1970 г. насыпаны Курган. Каля яго асновы зроблены склеп, дзе захоўваюцца спісы загінуўшых. На вяршыні Кургана пастаўлена скульптура воіна.



644. *Помнік землякам. Фрагмент.*

**645. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 94 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**646. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Каханавічы». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**в. Клімаўшчына, Валынецкі сельсавет**

**647. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля клуба. Пахаваны 16 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Княжыцы, Валынецкі сельсавет**

**648. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі, на мысе правага берага р. Дрыса. Памеры пляцоўкі 90×55 м. З паўночнага боку ўмацавана ровам. Стромкасць схілаў з захаду да 70°, з усходу і поўдня да 50°. У паўднёва-заходняй частцы ёсць насып, магчыма, уезд на гарадзішча, з паўночна-ўсходняга боку — дарога. Схілы зараслі лесам. Выявіў і абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Козлава (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**649. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Козлава знаходзілася за 5,5 км на паўночны захад ад в. Сар'я. 16.2.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (8 чалавек, 10 двароў). Не адрадзілася.

**в. Колбаўшчына (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**650. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Колбаўшчына знаходзілася за 3 км на поўнач ад в. Юралава. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску (12 двароў). Не адрадзілася.

**в. Кулакова (не існуе), Бігосаўскі сельсавет**

**651. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Кулакова знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Ворзава. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (26 чалавек, 18 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Ладэлева (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**652. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ладэлева знаходзілася за 1,5 км на поўдзень ад в. Гісялёва. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (48 чалавек, 22 двары). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Латыгава (не існуе), Чапаеўскі сельсавет**

**653. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Латыгава знаходзілася за 0,5 км на поўдзень ад в. Страдна. У ліпені 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (44 чалавекі, 11 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Лешня, Дзёрнавіцкі сельсавет**

**654. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Вядомы пад назвай Французскія магілы. За 2—3 км на ўсход ад вёскі па дарозе на в. Кашалёва. 10 паўсферычных насыпаў дыяметрам 4 м, вышынёй 1,5 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ліпаўкі, Бігосаўскі сельсавет**

**655. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 136 жыхароў вёскі, якія былі спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі 16.2.1943 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**656. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 104 жыхары вёскі Пятроўшчына, якіх нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі ў лютым 1943 г. разам з вёскай (18 двароў). У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лісна, Чапаеўскі сельсавет**

**657. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 савецкіх воінаў і 21 партызан Калінінскай партызанскай брыгады, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**658. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. 35 паўсферычных насыпаў вышынёй 0,3—0,7 м, дыяметрам 5—6 м. Выявіў у 1930 г. В. Глацёнак, у 1975 г. З. М. Сяргеева раскапала 6 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах, пахаванні адзіночныя і парныя галавою на захад. Інвентар — бронзавыя скроневыя бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі, гладкія, вітыя і пласціністыя бранзалеты са штампаваным арнаментам, бронзавы ланцужок, рэшткі шаўковай тканіны з залатым шыццём. Могільнік датуецца 10—12 стагоддзямі, належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Глацёнак В. Некаторыя з помнікаў Асвейскага раёна.— Наш край, 1930, № 3; Сергеева З. М. Раскопки курганов на северо-западе Витебской области.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976. *Л. У. Дучыц.*

**659. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 126 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Ліцвякі (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**660. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ліцвякі знаходзілася за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Шалягова. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску (12 двароў) разам з жыхарамі. Не адрадзілася.

**в. Ліцвякова (не існуе), Дзёрнавіцкі сельсавет**

**661. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ліцвякова знаходзілася за 1,5 км на поўдзень ад в. Рудня. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (46 чалавек, 18 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Луначарскае, Боркавіцкі сельсавет**

**662. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, непадалёку ад школы. Пахаваны 65 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**663. МАГІЛА ЛЯСНІЧАЙ** Ефрасінні Паўлаўны (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Е. П. Лясніча нарадзілася 4.10.1903 г. ў в. Брушкава Верхнядзвінскага р-на. Член КПСС з 1953 г. З 1944 г. працавала звеннявой ільнаводчага звяна ў калгасе «Прафінтэрн». У 1958—61 гг. палявод у калгасе імя Ільіча Верхнядзвінскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1949 г. за атрыманне высокіх ураджаяў лёну. Памерла 30.9.1976 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Любасна, Чапаеўскі сельсавет**

**664. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, на паўночным беразе воз. Белае. 15 паўсферычных насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 5—6 м, 3 з іх размешчаны за 0,3 км на поўнач ад асноўнай групы. Даследавала ў 1974 г. З. М. Сяргеева, раскапаны 2 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены кальцыніраваныя косці і рэшткі прамавугольнага згарэлага зруба. Могільнік датуецца 8—10 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР у Маскве.

*Літ.:* Сергеева З. М., Савицкий М. Г. Работы на Освейщине.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975. *У. Дз. Будзько.*

**665. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 40 мірных жыхароў в. Любасна і навакольных вёсак, якія былі спалены ці расстраляны нямецка-фашысцкімі карнікамі ў сакавіку 1943 г. У 1966 г. на магіле насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск.

**в. Мазалеўшчына (не існуе), Асвейскі сельсавет**

**666. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Мазалеўшчына знаходзілася за 2 км на паўночны захад ад в. Стралкі. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (114 чалавек, 24 двары). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Маркава (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**667. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Маркава знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Бяляны. У чэрвені 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (31 чалавек, 9 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі ўстаноўлены памятны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Марозы, Бігосаўскі сельсавет**

**668. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Перамога», у скверы. У памяць 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя — 2 воіны.

**в. Марцінава, Жоўнінскі сельсавет**

**669. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 112 мірных жыхароў в. Марцінава, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты 14.6.1942 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**670. МАГІЛА ЛЯВОНАВА** Мікалая Дзмітрыевіча (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля шашы Верхнядзвінск — Асвея. Партызан М. Дз. Лявонаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 9.9. 1942 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Маскалёнкі, Каханавіцкі сельсавет**

**671. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля лясной дарогі на в. Чарнавокі. Пахаваны 15 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў у 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**672. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Г а р а д о к. За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Уяўляе сабою абкружанае балотамі ўзвышша вышынёю 10—13 м, шырынёю 15 м. Прасочваюцца рэшткі 2 валоў і рова. Абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Межалы (не існуе), Бігосаўскі сельсавет**

**673. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Межалы знаходзілася за 3 км на поўнач ад в. Крывасельцы. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (57 чалавек, 18 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Мядзведзева, Асвейскі сельсавет**

**674. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 300 м на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі Сар'я — Асвея. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Немцы (не існуе), Бігосаўскі сельсавет**

**675. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Немцы знаходзілася за 1,5 км на поўдзень ад в. Ворзава. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам жыхарамі (22 чалавекі, 11 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Ніжняе Стунжава (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**676. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ніжняе Стунжава знаходзілася за 2 км на поўдзень ад в. Сар'я. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (64 чалавекі, 12 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Новы Лад, Дзёрнавіцкі сельсавет**

**677. МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 312 воінаў, 57 партызан, 258 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**678. ПОМНІК У ГОНАР 2-й ДРЫСЕНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі. У раёне в. Верасна (цяпер Новы Лад) у Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся штаб 2-й Дрысенскай партызанскай брыгады.




677. *Помнік на могілках савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*



678. *Помнік у гонар 2-й Дрысенскай партызанскай брыгады.*

Брыгада створана ў кастрычніку 1943 г. на базе атрадаў імя М. І. Калініна і імя М. І. Кутузава, вылучаных з 1-й Дрысенскай партызанскай брыгады. Атрады дзейнічалі на тэрыторыі Дрысенскага і Расонскага р-наў. Камандзір — І. М. Кухарэнка, камісар — І. В. Хут. Партызаны рабілі дыверсіі на шашэйных і грунтавых дарогах Асвея — Полацк, Полацк — Даўгаўпілс, Клясціцы — Полацк, Расоны — Янкавічы, Боркавічы — Дрыса, на чыгунцы Полацк — Даўгаўпілс. У час «рэйкавай вайны» на ўчастку Баравуха — Свольна падарвалі больш за 700 рэек. У лістападзе — снежні 1943 г. народныя мсціўцы вялі баі супраць карнікаў, трымалі абарону на рэках Дрыса, Нішча, каля вёсак Латышова, Залессе, Аляксееўцы, Пярэкі, Дзёрнавічы, Жукі. У лютым і ліпені 1944 г. разгромілі варожыя гарнізоны ў в. Зялёнаўшчына і Пярэкі Дрысенскага р-на, у красавіку 1944 г. ў час карнай экспедыцыі прарвалі блакаду каля воз. Акуневец у Расонскім р-не. 12.7. 1944 г. брыгада (3 атрады — 1-ы, 2-і, 3-і Калінінскія, 230 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У памяць аб баявой дзейнасці 2-й Дрысенскай партызанскай брыгады ў 1964 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Т. Р. Чуракова.*

**в. Нурава, Боркавіцкі сельсавет**

**679. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ільіча. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**в. Папартнае (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**680. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Папартнае знаходзілася за 5 км на паўднёвы захад ад в. Гісялёва. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (34 чалавекі, 13 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г.

на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Першамайская, Каханавіцкі сельсавет**

**681. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля дарогі Асвея — Верхнядзвінск. Пахаваны 157 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пескаватка, Дзёрнавіцкі сельсавет**

**682. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзец. Памер 15×20 м, вышыня 9—10 м. З поўначы да гарадзішча прымыкае балота. Выявіў і абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Плябанава (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**683. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Плябанава знаходзілася за 2 км на паўночны ўсход ад вёскі Каханавічы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (11 чалавек, 14 двароў). У 1975 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск.

**в. Пляцы (не існуе), Бігосаўскі сельсавет**

**684. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Пляцы знаходзілася за 1,5 км на поўнач ад в. Росіца. 16.2. 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (39 чалавек, 14 двароў). Не адрадзілася. У 1973 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Прошкі, Чапаеўскі сельсавет**

**685. КУРГАН ДРУЖБЫ** (гіст.). За 5 км на поўнач ад вёскі, на граніцы 3 рэспублік — РСФСР, БССР, Латвійскай ССР. Насыпаны ў 1959 г. (адкрыты 3.7.1959 г.) у памяць баявой садружнасці партызан Беларусі, Латвіі і Расійскай Федэрацыі. Ад Кургана пракладзены 3 алеі: у бок Беларусі абсаджана бярозамі, Расійскай Федэрацыі — клёнамі, Латвіі — ліпамі. На вяршыні Кургана расце дуб — сімвал непарушнай дружбы братніх рэспублік. Побач з Курганом пастаўлены памятныя знакі ў гонар Прошкаўскай падпольнай камсамольскай арганізацыі, Героя Савецкага Саюза Іманта Янавіча Судмаліса і сакратара Себежскага падпольнага райкома камсамола Марыі Сілівестраўны Пынта.

І. Я. Судмаліс нарадзіўся 18. 3. 1916 г. ў г. Цэсіс Латвійскай ССР у сям'і настаўніка. Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Латвіі. З 1932 г. член Камуністычнага Саюза моладзі Латвіі, кіраваў падпольнай камсамольскай арганізацыяй у г. Ліепая, неаднаразова быў арыштаваны. У 1940 г. ўступіў у Камуністычную партыю. Пасля аднаўлення Савецкай улады ў Латвіі з чэрвеня 1940 г. сакратар Ліепайскага павятовага камітэта камсамола, член ЦК ЛКСМ Латвіі і рэдактар газеты «Камуніст». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны сфарміраваў з камсамольскіх актывістаў стралковую роту, якая прыняла ўдзел у абароне г. Ліепая. З снежня 1942 г. сакратар партыйнай арганізацыі латышскага партызанскага спецатрада, з сакавіка 1943 г.— латышскай партызанскай брыгады, якая ў пачатку сваёй баявой дзейнасці дыслацыравалася на тэрыторыі Беларусі і сумесна з беларускімі і рускімі партызанамі змагалася супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У жніўні 1943 г. Судмаліс быў назначаны ўпаўнаважаным аператыўнай групы ЦК КП(б) Латвіі і ЦК ЛКСМ Латвіі, кіраваў Рыжскім падпольным гаркомам ЛКСМ Латвіі. У лютым 1944 г. быў схоплены фашыстамі і пасля жорсткіх катаванняў забіты. 23.10.1957 г. І. Я. Судмалісу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

М. С. Пынта нарадзілася 16.3. 1921 г. ў в. Верына Себежскага р-на Пскоўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Пасля сканчэння ў 1939 г. 9 класаў Томсінскай сярэдняй школы працавала загадчыкам хаты-чытальні ў в. Дуброўка Себежскага р-на. У Вялікую Айчынную вайну дапамагала партызанам. З снежня 1942 г. разведчыца 4-й Калінінскай партызанскай брыгады імя А. В. Суворава, з сакавіка 1944 г. другі сакратар Себежскага падпольнага райкома камсамола. 16.5.1944 г. М. С. Пынта была схоплена фашыстамі і закатавана. Імя падпольшчыцы прысвоена Томсінскай сярэдняй школе, яе імем названа адна з вуліц г. Себежа.

Штогод у першую нядзелю ліпеня на Кургане Дружбы праводзяцца масавыя ўрачыстасці — традыцыйныя сустрэчы працоўных, былых воінаў і партызан 3 братніх рэспублік — РСФСР, Латвіі і Беларусі.

*Літ.:* Рашкевиц А. К. За родную Советскую власть.— У кн.: Герои подполья. М., 1968, в. 2. *Т. Р. Чуракова.*

**686. МАГІЛА ЛУКАШОНКА** Рыгора Сяргеевіча (гіст.). На могілках.

Р. С. Лукашонак нарадзіўся ў 1918 г. ў в. Сідарэнкі Вярхнядзвінскага р-на ў сям'і селяніна. Член КПСС. Працаваў старшынёй Красоўскага сельсавета. У Вялікую Айчынную вайну стварыў камсамольскае падполле ў в. Прошкі. Па заданню камандавання партызанскага атрада імя М. В. Фрунзе ён узначаліў групу разведчыкаў для выканання важнага даручэння. У раёне в. Прошкі 8.7. 1942 г. Р. С. Лукашонак натрапіў на засаду і загінуў у час бою. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Т. Р. Чуракова.*

**687. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАМСАМОЛЬЦАМ - ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Устаноўлена ў 1964 г. на доме,



685. *Курган Дружбы.*

дзе ў жніўні 1941 г. адбыўся першы сход падпольнай камсамольскай арганізацыі (кіраўнік — В. І. Лукашонак).

688. **МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На адным з дамоў у цэнтры вёскі. Устаноўлена ў 1964 г. ў памяць аб першай сустрэчы 11.5.1942 г. аднаго з арганізатараў партызанскага руху ў Латвіі Іманта Судмаліса (Героя Савецкага Саюза, 1957 г.) з прошкаўскімі падпольшчыкамі, якая стала пачаткам разгортвання шырокай сумеснай барацьбы латышскіх і беларускіх партызан супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

689. **ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ-ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. да кастрычніка 1942 г. ў в. Прошкі пад кіраўніцтвам Асвейскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя, створаная па ініцыятыве былога старшыні Красоўскага сельсавета камуніста Р. С. Лукашонка (загінуў 8.7.1942 г. ў баі супраць гітлераўцаў). Кіраўнікі арганізацыі — В. І. Лукашонак, з мая 1942 г. Я. У. Фралёнак. Падпольная арганізацыя налічвала каля 30 чалавек розных нацыянальнасцей, мела групы ў вёсках Забор'е Рэзекненскага павета Латвійскай ССР, Рылькі, Ляхава Себежскага р-на РСФСР, Сукалкі, Востраў, піянерскае звяно ў в. Стралкі Асвейскага р-на.

Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з патрыётамі Асвеі і Расонскага р-на, з партызанскім атрадам, потым Асвейскай партызанскай брыгадай імя М. В. Фрунзе. Камсамольцы распаўсюджвалі сярод насельніцтва антыфашысцкія лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, вялі палітычную прапаганду, прыцягвалі да работы ў арганізацыі новых патрыётаў, збіралі звесткі аб праціўніку, зброю, мелі 2 склады-тайнікі, перапраўлялі да партызан чырвонаармейцаў, якія ўцякалі з фашысцкага палону, зрывалі нарыхтоўку і адпраўку прадуктаў у Германію, рабілі дыверсіі на варожых камунікацыях (падарвалі 3 аўтамашыны з амуніцыяй, паравоз і 6 вагонаў на чыгунцы паміж Рэзекне і Себежам), разграмілі валасныя ўправы ў Ляхаве Себежскага і Ігналіпе Асвейскага р-наў, разам з партызанамі — фашысцкі гарнізон у в. Шкяўне Латвійскай ССР. Да восені 1942 г. ўсе падпольшчыкі пайшлі ў партызаны. У Прошкаўскай камсамольскай арганізацыі пачаў сваю баявую дзейнасць Герой Савецкага Саюза І. Я. Судмаліс.

У 1975 г. ў памяць аб баявой дзейнасці камсамольцаў-падпольшчыкаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— Мн., 1973. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Прудзінкі,**
**Шайцераўскі сельсавет**

690. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўскраіне лесу, за 30 м ад ветэрынарнага ўчастка калгаса «Кастрычнік». Пахаваны 44 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**в. Пустэльнікі (не існуе),**
**Сенькаўскі сельсавет**

691. **МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Пустэльнікі знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Мотужы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (57 чалавек, 21 двор). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Пучыніна (не існуе),**
**Каханавіцкі сельсавет**

692. **МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Пучыніна знаходзілася за 3 км на паўночны ўсход ад в. Каханавічы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (16 чалавек, 6 двароў). Не адрадзілася.

**в. Пушалаты (не існуе),**
**Сар'янскі сельсавет**

693. **МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Пушалаты знаходзілася за 3 км на захад ад в. Сар'я. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (43 чалавекі, 17 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Пушталёва, Галубаўскі сельсавет**

694. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У паўднёвай частцы вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ракшні (не існуе),**
**Сар'янскі сельсавет**

695. **МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ракшні знаходзілася за 2 км на поўнач ад в. Сар'я. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (больш як 50 чалавек, 40 двароў). Не адрадзілася.

**в. Росіца, Бігосаўскі сельсавет**

696. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 34 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

697. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 320 мірных жыхароў, якіх спалілі нямецка-фашысцкія акупанты 16.2.1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

698. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраі-



690. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



696. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

не вёскі. Пахаваны 380 савецкіх грамадзян, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У лютым 1943 г. гітлераўцы ўчынілі крывавую расправу над жыхарамі в. Росіца і навакольных вёсак. Карнікі сагналі людзей у 4 калгасныя хлявы і некалькі хат і спалілі жывымі. Загінулі 1528 чалавек, пераважна жанчыны і дзеці. Астанкі 380 ахвяр пахаваны ў гэтай брацкай магіле. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**699. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). Пры ўездзе ў вёску з боку г. Верхнядзвінск. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Трохнефавы двухвежавы храм з пяцігранная апсідай. Пластыка-дэкаратыўнае вырашэнне форм характэрна для пабудоў канца 19—20 ст. Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

**в. Рубчыкі (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**700. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Рубчыкі знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Выдрыцкія. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (51 чалавек, 20 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Рудня, Дзёрнавіцкі сельсавет**

**701. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 300 м на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў гэтых мясцінах у Вялікую Айчынную вайну. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рэвуты (не існуе), Чапаеўскі сельсавет**

**702. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Рэвуты знаходзілася за 1 км на поўнач ад в. Чарнавокі. У ліпені 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (15 чалавек, 19 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



699. *Троіцкі касцёл. Галоўны фасад.*



703. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Сар'я, цэнтр сельсавета**

**703. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, за 100 м ад клуба саўгаса «Дрысенскі». Пахаваны 125 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**704. КАСЦЁЛ** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі, на заходняй ускраіне лесапарку. Пабудаваны ў 1852—57 гг. з цэглы.

Касцёл прамавугольны ў плане, з пяцігранная апсідай і 2 невялікімі сакрысціямі. Кампазіцыя галоўнага фасада ступеньчатая, трохчасткавая. Цэнтральную частку завяршаюць 2 шатровыя вежачкі на пяцігранных рабрыстых контрфорсах. Сцены па перыметры ўмацаваны 12 лапаткамі з вежамі, завершаны аркатурным паяском і скразной востразубчастай аркадай. Месца злучэння асноўнага аб'ёму з апсідай вылучаюць двухчасткавыя лапаткі. Аконныя праёмы стральчатыя з прафіляванымі ліштвамі. Унутры асноўнае памяшканне перакрыта крыжовымі скляпеннямі, пластыку якіх узбагачаюць ляпныя нервюры. 2 калоны падтрымліваюць хоры з арачнай балюстрадай.

Касцёл — адзін з найбольш выразных узораў архітэктуры неаготыкі на Беларусі. *У. В. Алісейчык.*

**705. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на паўночны захад



704. *Касцёл. Агульны выгляд.*

ад вёскі. Пахаваны 127 жыхароў в. Булы, якіх спалілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1943 г. У 1964 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**706. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на паўночны захад ад в. Сар'я знаходзілася в. Фальваркова. У лютым 1943 г. ў час карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі яе разам з жыхарамі. Загінула больш як 50 чалавек. У 1965 г. на магіле загінуўшых насыпаны Курган і пастаўлена стэла.

**707. ПАРК** (архіт.). Размешчаны на паўночны ўсход ад вёскі. Закладзены ў 19 ст. як прысядзібны.

Парк пейзажнага тыпу з элементамі лесапарку. З аднаго боку абмежаваны ярам. Займае авальны ўчастак на абодвух берагах р. Сар'янка, праз якую перакінуты масток. Захаваліся парадны партэр, штучныя насыпныя ўзгоркі, маляўнічыя паляны, алеі.

Пераважаюць мясцовыя пароды дрэў, ёсць экзоты, у т. л. экземпляр хвоі веймутава.



704. *Касцёл. Фрагмент фасада.*



704. *Касцёл. План.*



705. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

**708. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці больш як 300 мірных жыхароў вёскі, загубленых нямецка-фашысцкімі карнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына.

**в. Свольна, Валынецкі сельсавет**

**709. РАДЗІМА ЧЭРСКАГА** Івана Дзяменцьевіча (гіст.).

Даследчык Сібіры І. Дз. Чэрскі нарадзіўся 3.5.1845 г. ў дваранскай сям'і. У фальварку Свольна правёў дзяцінства і юнацкія гады. Вучыўся ў Віленскім дваранскім інстытуце (1860—63 гг.). За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. быў выключаны з інстытута, здадзены ў салдаты і адпраўлены ў Сібір. У 1869 г. па стану здароўя вызвалены ад вайсковай службы. І. Дз. Чэрскі вёў геалагічныя і палеанталагічныя даследаванні ў Саянах і Прыбайкаллі, у басейне Ангары і Ніжняй Тунгускі, вывучаў будову берагоў Байкала і склаў першую геалагічную карту яго ўзбярэжжа, даследаваў басейн р. Селенга. Прапанаваў адну з першых тэктоніка-палеаграфічных схем унутраных раёнаў Сібіры. Адкрыў разам з А. Л. Чаканоўскім палеалітычную стаянку каля Іркуцка. У 1885 г. па запрашэнню Пецярбургскай акадэміі навук пераехаў у Пецярбург. У 1891 г. ўзначаліў экспедыцыю ў раён рэк Калыма і Індыгірка, на той час зусім не даследаваных. Памёр 25.6.1892 г. ў гэтай экспедыцыі. Пахаваны каля вусця Калымы. Узнагароджаны 3 залатымі медалямі Рускага геаграфічнага таварыства. Імем І. Дз. Чэрскага названа сістэма горных хрыбтоў у Паўночна-Усходняй Сібіры, хрыбет у Забайкаллі, а таксама гарадскі пасёлак — цэнтр Ніжнекалымскага р-на Якуцкай АССР.



707. *Куток парку.*

*Літ.:* Алдан-Семёнов А. И., Черский.— М., 1963.— (Жизнь замечательных людей); Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков.— Мн., 1968, с. 187—205. *Л. І. Шэйко.*

**в. Селішча, Асвейскі сельсавет**

**710. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля лясной дарогі на в. Міла-віды Расонскага р-на. Пахаваны 22 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сініцы (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**711. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сініцы знаходзілася за 3 км на захад ад в. Вусце. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі




708. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

спалілі вёску разам з жыхарамі (7 чалавек, 10 двароў). Не адрадзілася.

**в. Скарада, Боркавіцкі сельсавет**

**712. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 чалавек з сям'і партызана Бядунькі, расстраляных гітлераўцамі 15.2. 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Скрышчына (не існуе), Сенькаўскі сельсавет**

**713. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Скрышчына знаходзілася за 1,5 км на поўдзень ад в. Рагелева. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (42 чалавекі, 11 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены памятны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Сокалава (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**714. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сокалава знаходзілася за 4 км на поўнач ад в. Living Вознава. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (68 чалавек, 11 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Страдна, Чапаеўскі сельсавет**

**715. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахавана каля 200 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў лютым 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стралкі, Асвейскі сельсавет**

**716. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На скрыжаванні дарог Верхнядзвінск — Себеж і Полацк — Асвея. На ўшанаванне памяці 91 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сукалі, Чапаеўскі сельсавет**

**717. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на паўночна-заходнім беразе воз. Асвейскае. 18 паўсферычных насыпаў, 5 з якіх знаходзяцца за 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі. Дыяметр курганоў 1,5—7 м, вышыня да 1,5 м. Даследавала ў 1974 г. З. М. Сяргеева, раскапаны 3 курганы з пахавальным абрадам трупаспалення. Знойдзены кальцынiраваныя косці, рэшткі ганчарнага посуду, абломак скроневага бранзалетападобнага кальца з завязанымі канцамі. Могільнік датуецца 8—10 стагоддзямі, належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР у Маскве.

*Літ.:* Сергеева З. М., Савицкий М. Г. Работы на Освейщине.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975. *У. Дз. Будзько.*

**в. Суф'янікі (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**718. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Суф'янікі знаходзілася за 5,5 км на паўночны ўсход ад в. Вознава. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (54 чалавекі, 8 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Урагава, Сенькаўскі сельсавет**

**719. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на ўзгорку, сярод балот заходняга берага воз. Асвейскае. Памер 70×40 м, вышыня 12 м. Усходняя частка ўзгорка, на якой было збудавана гарадзішча, умацавана 2 серпападобнымі валамі і 2 равамі. Усходні і паўночна-ўсходні бакі гарадзішча таксама былі ўмацаваны валам. Вядома з 1930 г. Даследавалі ў 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1966 г. К. П. Шут. Ускрыта 304 м². Культурны пласт 1,2 м. Выяўлены рэшткі жытла слупавой канструкцыі, паўзямлянкавыя збудаванні-майстэрні, 6 абкладзеных камянямі агнішчаў. Знойдзены жалезныя нажы, сярпы, шылы, сякеры, бранзалеты, малаток, касцяныя долаты і праколкі, біканічныя праслiцы, шлак, абломкі слоікападобнага гладкасценнага посуду, а таксама каменныя сякеры. Здабывалі і апрацоўвалі жалеза на гарадзішчы. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры і культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 7 ст. да н. э.— 8 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Цагельнікі (не існуе), Бігосаўскі сельсавет**

**720. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Цагельнікі знаходзілася за 1,5 км на ўсход ад в. Росіца. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (80 чалавек, 20 двароў). Не адрадзілася. У 1973 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



719. *Гарадзішча.*

**в. Царкоўна, Чапаеўскі сельсавет**

**721. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на мысе ва ўрочышчы Гарадзец. Памер 40×60 м, вышыня 8 м. З усходняга боку аддзяляецца седлавінай глыбінёй 3 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Цінкаўцы, Бігосаўскі сельсавет**

**722. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Цiршава (не існуе), Бігосаўскі сельсавет**

**723. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Цiршава знаходзілася за 3 км на поўнач ад в. Росіца. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (23 чалавекі, 15 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Цярэшкі, Валынецкі сельсавет**

**724. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1941 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**725. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цясты, Шайцераўскі сельсавет**

**726. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**727. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Дрыса, за 1 км вышэй упадзення ў яе р. Свольна, на ўзгорку вышынёй 5—8 м над поймай ракі. З паўночнага боку схіл пераходзіць у карэнны бераг Дрысы, з заходняга боку працякае безназоўны ручай, з усходу і захаду гарадзішча ўмацавана ровам шырынёй 9—13 м, глыбінёй 2 м. Пляцоўка авальная памерам 26×51 м, выцягнута па лініі захад — усход. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка, раскопкі на плошчы 200 м² у 1981—82 гг. право-

дзіў В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзена значная колькасць ляпной керамікі, пераважна слоікавых і вёдрападобных форм (посуд мае тонкія сценкі, непрафіляваны), каменных таўкачоў-цёрачнікаў, фрагменты жалезных пласцiністых бранзалетаў, серпападобныя нажы, жалезнае рубіла, акулярападобная бронзавая падвеска. Датуецца 2—6 стагоддзямі н. э., належала балтам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. І. Шадыра.*

**пас. Чапаеўскі, цэнтр сельсавета**

**728. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Цыганка. На паўднёвай ускраіне вёскі, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Асвейскае. Даўжыня пляцоўкі 40—60 м, шырыня — 30—35 м, вышыня схілу 4—5 м, стромкасць 50°. Выявіў у 1966 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1972 г. У. Ф. Ісаенка, у 1981 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,8 м. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**729. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны мірныя жыхары, ахвяры фашысцкага тэрору. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі в. Чапаеўскую (да 1958 г. Красілаўка) і загубілі 80 яе жыхароў. Тут таксама былі загублены жыхары в. Вялікае Сяло. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**730. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Чурылава, Бігосаўскі сельсавет**

**731. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шабалы (не існуе), Каханавіцкі сельсавет**

**732. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Шабалы знаходзілася за 2 км на ўсход ад в. Грыбоўцы. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі вёску разам з жыхарамі (25 чалавек, 6 двароў). Не адрадзілася. У 1982 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



730. *Помнік землякам.*

**в. Шайцерава, цэнтр сельсавета**

**733. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, перад будынкам выканкома сельсавета. Пастаўлены ў 1975 г. на ўшанаванне памяці 82 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На насыпным Кургане (вышыня 3 м) устаноўлена скульптура партызана (скульпт. А. Веліксонаў, арх. Ю. Казакоў; металізаваны бетон, вышыня 5,8 м). Фігура мужчыны з ускінутым уверх аўтаматам пададзена ў дынамічным развароце, сімвалізуе ўрачыстасць Перамогі. Побач — сцяна з тэкстам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

*Г. М. Ярмоленка.*

**734. РАДЗІМА ХАДКЕВІЧА** Тараса Канстанцінавіча (гіст.).

Беларускі пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР (1972 г.) Т. К. Хадкевіч нарадзіўся 7.3.1912 г. ў сям'і селяніна. У 1927—29 гг. вучыўся ў Полацкім педтэхнікуме, у 1931—33 гг.— у Мінскім педінстытуце. Працаваў у газетах «Чырвоная Полаччына» (1929—31 гг.), «Чырвоная змена» (1933—34 гг.). У 1934—36 гг. у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі — у газеце «Звязда» (1936—41 гг.). У Вялікую Айчынную вайну ў арміі, прымаў удзел у баях на Калінінскім напрамку, камандзір узвода. Восенню 1941 г., цяжка паранены, трапіў у палон. Зведаў лагеры ваеннапалонных у Тарапцы, Даўгаўпілсе, пад Рыгай, у Германіі і Чэхаславакіі. 3 мая 1945 г. ў Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў у рэдакцыях газет «Звязда» (1945—50 гг.), «Літаратура і мастацтва» (1950—52 гг.). У 1953—72 кансультант па прозе ў Саюзе пісьменнікаў БССР.

Друкавацца Т. Хадкевіч пачаў у 1926 г. Першая кніга — зборнік вершаў «Смялей, таварыш!» (1932 г.). Актыўная творчая дзейнасць пісьменніка разгарнулася ў пасляваенны час у жанры прозы. Выйшлі кнігі: «Братэрства» (1948 г.), «Вяснянка» (1949 г.), «Рэха ў гарах» (1951 г.), «Сяброўства» (1952 г.), «Даль палявая» (1959 г.), «Сад у квецені» (1966 г.), «Песня Дзвіны» (1975 г.). Аўтар кніг для дзяцей «За сінім лесам» (1951 г.), «На новым месцы» (1954 г.), «Спеюць яблыкі» (1959 г.), «Жыла-была казка» (1967 г.), кніг нарысаў «Мая Беларусь» (1961 г.), «Нафтагігант на Дзвіне» (1963 г.) і інш. Памёр Т. К. Хадкевіч 14.8.1975 г. Пахаваны ў Мінску па Паўночных могілках. Яго імем названа Верхнядзвінская раённая бібліятэка.

*Літ.:* Клешчанка В. Дружба, загартаваная ў барацьбе.— Полымя, 1951, № 10; Герцовіч Я. Пісьменнік і яго героі.— Полымя, 1972, № 5; Савіцкі А. Улюбёны ў лясы і сонца.— Беларусь, 1972, № 3; Мартинович А. Свой след на земле.— Дружба народов, 1976, № 8.

*І. Ф. Кудраўцаў.*

**в. Шчунькі (не існуе), Сар'янскі сельсавет**

**735. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Шчунькі знаходзілася за 1,5 км на поўнач ад в. Атокі. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (24 чалавекі, 12 двароў). Не адрадзілася.

**в. Ярмоліна, Дзёрнавіцкі сельсавет**

**736. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Французская Гара. За 0,5 км на захад ад вёскі, па дарозе на в. Рудня. Вышыня гарадзішча ад асновы 20 м, памер 60 м×40 м. Схілы крутыя, ступеньчатыя. Абапал гарадзішча прасочваюцца контуры апоўзлага рова. Выявіў у 1967 г. Г. В. Штыхаў, абследавалі ў 1972 г. У. Ф. Ісаенка, у 1980 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт 1 м. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і косці жывёл.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**737. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 700 жыхароў вёскі і ваеннапалонных, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

# ВІЦЕБСКІ РАЁН




Навасёлкі
Кавалёва
Нізкабор'е
Заполле
Тарасенкі
Астраўскія
Сураж
Шапурова
Рабава
Лёпіна
Курына
Лямніца
Міхалкова
Сушчова
Прысушына
Задуброўе
Доўжа
Буяны
Заронава
Саўчанкі
Руба
Мішуткі
Янавічы
Мазалава
Пестуніца
Бабінічы
Бялынавічы
Вымна
Падбярэззе
Альгова
Старое Сяло
Вялікія Лётцы
ВІЦЕБСК
Войтава
Манулкі
Княжыца
Вароны
Яроміна
Ноўка
Васількі
Акцябрская
Хамішчава
Сасноўка
Дыманова
Валасова
Вял. Коопці
Скрыдлева
Замасточча
Шапечына
Шаркі
Асінаўка

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Жылыя дамы, забудова вуліц
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

**в. Акцябрская, цэнтр сельсавета**

**738. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 7 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля аўтамагістралі Віцебск — Орша. Пахаваны 4 воіны 277-й стралковай дывізіі 72-га стралковага корпуса 5-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены помнік — зорка паміж бетонных пліт.

**739. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ САЎГАСА «СЯЛЮТЫ» ІМЯ 50-ГОДДЗЯ СССР** (архіт., гіст.). За 7 км на паўднёвы ўсход ад Віцебска, каля аўтамагістралі Віцебск — Орша. Будаўніцтва пачалося ў 1968 г. Генеральны план забудовы распрацаваны ў Віцебскім філіяле інстытута «Белдзяржпраект» (арх. А. Бельскі, інж. І. Іваноў).

У аснову планіроўкі пакладзены выразны падзел тэрыторыі пасёлка на жылую і вытворчую зоны, а таксама стварэнне кампазіцыйнага адзінства забудовы з улікам асаблівасцей рэльефу. Два жылыя раёны аб'яднаны грамадска-гандлёвым цэнтрам, які размешчаны пры ўездзе з аўтамагістралі. Першы раён забудаваны 2-, 4- і 6-кватэрнымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі, другі — секцыйнымі дамамі без сядзібных участкаў, пабудаваны дамы для маласямейных і інш. У грамадска-гандлёвым цэнтры размешчаны: Дом культуры (400 месцаў), бібліятэка з чытальнай залай, музычная школа, прамтаварны і прадуктовы магазіны; адміністрацыйна-бытавы комплекс, у які ўваходзяць кантора саўгаса, будынак выканкома сельскага Савета, паштовае аддзяленне, ашчадная каса, АТС, камбінат бытавога абслугоўвання. Будынкі культурна-бытавых і адміністрацыйных устаноў зблакіраваны ў адзін аб'ём, які з'яўляецца дамінуючым у забудове пасёлка. З усходняга боку да жылога масіву прымыкае лесапарк, у якім размешчаны сярэдняя школа з інтэрнатам і спорткомплекс з плавальным басейнам.



**738.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



**739.** *Грамадска-гандлёвы цэнтр цэнтральнай сядзібы саўгаса «Сялюты» імя 50-годдзя СССР.*

Па выніках Усесаюзнага агляду-конкурсу на лепшую забудову і добраўпарадкаванасць сёл, праведзенага ў гонар 50-годдзя ўтварэння СССР, забудова цэнтральнай сядзібы саўгаса «Сялюты» адзначана дыпломам 1-й ступені і залатым медалём.

*Б. М. Назаранка.*



**739.** *Жылая забудова цэнтральнай сядзібы саўгаса «Сялюты» імя 50-годдзя СССР.*



740. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

в. Альгова, Бабініцкі сельсавет

**740. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 450 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Ананіна, Бабініцкі сельсавет

**741. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 савецкія воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Аржавухава (не існуе), Суражскі пасялковы Савет

**742. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Аржавухава знаходзілася за 3 км на поўдзень ад в. Уласава. 11.12.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 23 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



743. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

в. Арлова, Акцябрскі сельсавет

**743. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана 11,5 тыс. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Георгій Сцяпанавіч Грыгор'еў і Пётр Васільевіч Шысцяроў.

Г. С. Грыгор'еў нарадзіўся ў 1924 г. ў в. Лажкі Мажайскага р-на Маскоўскай вобл. У Чырвонай Арміі з лютага 1942 г. Член ВЛКСМ. 20.1.1944 г. група разведчыкаў 94-й асобай гвардзейскай разведроты 91-й гвардзейскай стралковай дывізіі атрымала заданне правесці разведку боем і захапіць «языка». У баі пры выкананні задання вызначыўся гвардыі сяржант Г. С. Грыгор'еў. У рашаючы момант бою ён закрыў сваім целам варожы кулямёт, што забяспечыла поспех аперацыі. Група знішчыла больш за 20 гітлераўцаў і ўзяла 2 палонных. 3.6.1944 г. Г. С. Грыгор'еву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза

П. В. Шысцяроў нарадзіўся ў 1917 г. ў в. Бабыліца Пышчугскага р-на Кастрамской вобл. Член ВЛКСМ з 1942 г. У Чырвонай Арміі з чэрвеня 1941 г. Радавы 940-га стралковага палка 262-й стралковай дывізіі імя Дзямідава. 21.6.1944 г. каля в. Шапуры пасля працяглага артылерыйска-мінамётнага абстрэлу гітлераўцы пайшлі ў атаку на пазіцыі савецкіх войск. П. В. Шысцяроў, застаўшыся адзін, стрымліваў ворага аўтаматным агнём. Калі скончыліся патроны, адбіваўся гранатамі. Загінуў у няроўным баі. 24.3.1945 г. П. В. Шысцярову прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — мемарыяльная сцяна з надпісам-прысвячэннем і надмагіллі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**744. ПОМНІК У ГОНАР 1-й ШТУРМАВОЙ КАМСАМОЛЬСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). За 400 м на поўдзень ад вёскі каля шашы Віцебск — Орша. 1-я штурмавая камсамольская брыгада рэзерву Вярхоўнага Галоўнакамандавання пачала баявы шлях з 1941 г. ў Падмаскоўі, у 1944 г. ўдзельнічала ў вызваленні Віцебшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. ў гонар брыгады ўстаноўлена бетонная пліта. На пліце — карта баявога шляху брыгады, зверху — зорка і выява рук, якія трымаюць чашу з Вечным агнём.

в. Арэхі, Суражскі пасялковы Савет

**745. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне



744. *Помнік у гонар 1-й штурмавой камсамольскай брыгады.*

вёскі. Пахаваны 105 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Асінаўка, Шапечынскі сельсавет

**746. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 497 воінаў 5-га гвардзейскага стралковага корпуса 39-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Астраўскія, Курынскі сельсавет

**747. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 195 воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Гітлераўскае камандаванне ў красавіку — маі 1943 г. праводзіла карную аперацыю супраць партызанскіх атра-



747. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*



749. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

даў. Партызаны адбілі наступленне карнікаў, нанеслі ім значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы, перайшлі ў контрнаступленне і адкінулі ворага за Заходнюю Дзвіну. Пры адступленні гітлераўцы палілі вёскі, забівалі мірных жыхароў, рабавалі маёмасць. У в. Астраўскія яны расстралялі жанчын, дзяцей, старых, вёску спалілі.

У 1956 г. ў брацкую магілу ахвяр фашызму перанесены астанкі воінаў Чырвонай Арміі, што загінулі пры вызваленні населеных пунктаў калгаса «XXI партз'езд». У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Ф. В. Барысевіч.*



757. *Курганны могільнік. План.*

**748. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ШТАБА 1-Й БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У лясных масівах каля вёскі з красавіка да кастрычніка 1943 г. базіравалася 1-я Беларуская партызанская брыгада. Камандзіры брыгады — М. П. Шмыроў, Я. З. Захараў, камісары — Р. У. Шкрэда, Ц. Р Кавалеўскі. У в. Галевічы знаходзіўся партызанскі аэрадром, дзе прызямляліся самалёты 105-га гвардзейскага авіяпалка, які абслугоўваў партызан Суражскай зоны. У 1975 г. на ўшанаванне памяці народных мсціўцаў у цэнтры вёскі ўстаноўлены памятны знак.

**в. Бабінічы, цэнтр сельсавета**

**749. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2527 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**750. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку сельскага Дома культуры вучгаса «Падбярэззе». Устаноўлена ў 1973 г. на ўшанаванне памяці М. І. Калініна, які 12.6.1919 г. на чале агітпоезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» наведаў вёску і гутарыў з сялянамі.

**751. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР СТАГОДДЗЯ ШКОЛЫ** (гіст.). На будынку сучаснай сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1967 г. з нагоды 100-годдзя адкрыцця (1867 г.) школы ў вёсцы.

**752. ПОМНІК ВУЧНЯМ І НАСТАЎНІКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 136 настаўнікаў і былых вучняў школы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**753. ПОМНІК У ГОНАР ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). Каля школы. У азнаменаванне 50-годдзя Савецкай улады ў 1967 г. пастаўлена стэла.

**754. РАДЗІМА КУРЫЛЕНКІ** Уладзіміра Цімафеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза У. Ц. Курыленка нарадзіўся 25.12.1924 г. Член ВЛКСМ з 1938 г. У 1941 г. скончыў 9 класаў Веліжскай сярэдняй школы Смаленскай вобл. З першых дзён вайны актыўна ўключыўся ў барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, збіраў зброю і перадаваў яе партызанам, арганізоўваў дыверсіі на дарогах. З лютага 1942 г. партызан атрада І. Р. Шлапакова, які дзейнічаў на тэрыторыі былога Каспалянскага р-на Смаленскай вобл. У. Ц. Курыленка знішчыў каля 1000 салдат і афіцэраў ворага, пусціў пад адхон 4 нямецкія эшалоны, узарваў чыгуначны мост. 14.5.1942 г. ў няроўным баі з фашысцкімі карнікамі быў смяротна паранены. 1.9.1942 г. У. Ц. Курыленку прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. На ўшанаванне яго памяці ў Смаленску пастаўлены помнік. Яго імем былі названы партызанскі атрад у Смаленскай вобл.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**755. САД ПЕРАМОГІ** (гіст.). Каля школы. Пасаджаны ў 1965 г. ў азнаменаванне 20-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. У 1965 г. ў садзе ўстаноўлены памятны знак.

**в. Бальшухі, Вымнянскі сельсавет**

**756. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1071 савецкі воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на могілках пастаўлены 9 абеліскаў.

**в. Бараўляны, Мазалаўскі сельсавет**

**757. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на ўзвышаным беразе невялікага ручая, каля дарогі ў в. Буяны. 15 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 8—20 м. 14 насыпаў у плане круглыя, 2 — падоўжаныя. Выявіў і абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. абследаваў Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**758. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). Непадалёку ад вёскі, на 1067-м км аўтамагістралі Кіеў — Ленінград. Выкарыстоўваецца як дом дарожнага майстра.

Станцыйны дом 3-га разраду пабудаваны з цэглы паводле «ўзорнага» праекта 1843 г. Знаходзіцца за 35 м ад дарогі і павернуты да яе галоўным фасадам. Будынак прамавугольны ў




758. *Паштовая станцыя. План: 1 — станцыйны дом; 2 — ямская; 3 — карэтныя; 4 — стайня.*



758. *Станцыйны дом.*



758. *Станцыйны дом. План.*

плане, з боку двара — невялікая прыбудова. На галоўным фасадзе 4 акны з ліштвамі. Над уваходам невялікі франтончык. Абапал сенцаў, якія выцягнуты ўздоўж папярочнай восі будынка, размяшчаліся на левым баку 3 пакоі для прыезджых, ямшчыкоў, на правым — пакоі даглядчыка. Гаспадарчыя пабудовы на станцыйным двары (хлявы, стайні, флігель для ямшчыкоў) часткова перабудаваны.

Паштовая станцыя — помнік дарожнай архітэктуры Беларусі сярэдзіны 19 ст.

*Літ.:* Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—3.— Могилев, 1882—84; Гельфер А. Очерк развития дорожного и мостостроительного дела в ведомстве путей сообщения. Т. 2.— СПб., 1911; Сардаров А. С. История и архитектура дорог Белоруссии.— Мн., 1978. *А. С. Сардараў.*

**в. Баронікі, Ноўкінскі сельсавет**

**759. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Лучоса. Узвышаецца над поймай ракі на 20 м. Пляцоўка авальная, памерам 74×42 м. З захаду і ўсходу працякаюць 2 ручаі, з поўначы — рака. Уваход на гарадзішча з паўднёвага боку. Спачатку гарадзішча не мела штучных умацаванняў, пазней быў насыпаны невысокі вал. Абследаваў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, раскопкі на плошчы 140 м² праводзілі ў 1965 г. К. П. Шут, у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,3 м, з паўночнага боку 0,9 м. Выяўлены ямы ад жытлаў слупавой канструкцыі, знойдзены жалезны нож з гарбатай спінкай, 2 каменныя клінападобныя сякеры, глінянае праслiца, жалезная сякера скіфскага тыпу, тачыльны брусок, каля 200 кавалкаў глінянага посуду, бронзавая скроневая падвеска 5—4 стагоддзяў да н. э. і скарб з трох драцяных бронзавых скроневых кольцаў 6—7 стагоддзяў, якія мелі па 2 трапецападобныя падвескі. Кераміка ляпная, у большасці выпадкаў гладкасценная, зрэдку трапляюцца фрагменты, паверхня якіх пакрыта штрыхамі, асобныя чарапкі маюць адбіткі тэкстылю. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры і датуецца 5 ст. да н. э.— 4—5 стагоддзямі н. э. Магчыма, у 6—8 стагоддзях выкарыстоўвалася як сховішча.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Штыхов Г. В. Сравнительное изучение древнейших городов Полоцкой земли и памятников их окрестностей.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966; Шут К. П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии.— Там жа. *Г. В. Штыхаў.*



763. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Будзянка, Суражскі пасялковы Савет**

**760. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 77 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Буева, Бабініцкі сельсавет**

**761. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны асобнага атрада А. С. Пятрова і партызаны атрадаў М. П. Машкова, А. А. Пагарэлава 1-й Беларускай партызанскай брыгады (15 чалавек), якія загінулі 24.8.1943 г. ў баі супраць гітлераўскіх карнікаў у Буеўскім лесе. У 1981 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Валасова, Ноўкінскі сельсавет**

**762. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялі-



759. *Скроневае кольца з гарадзішча Баронікі.*



759. *Гарадзішча.*

кую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Вароны, цэнтр сельсавета**

**763. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля шашы Віцебск — Смаленск. Пахаваны 3582 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 158-й стралковай дывізіі 84-га стралковага корпуса 39-й арміі. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура 2 воінаў, у 1964 г. ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі з імёнамі загінуўшых.

**764. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на беразе воз. Палонскае. 3 курганы вышынёй 3,5 м, дыяметрам 15 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. абследаваў Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**765. МЕСЦА БОЮ 1812 г.** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, непадалёку ад шашы Віцебск — Смаленск.

У кастрычніку 1812 г. рускія войскі корпуса П. Х. Вітгенштэйна вялі баі ў раёне Віцебска супраць французскіх захопнікаў. 26.10.1812 г. пасля кароткага бою напалеонаўскія войскі, падпаліўшы мост цераз Заходнюю Дзвіну, адступілі з Віцебска па Смаленскай дарозе. Пры дапамозе гараджан рускія салдаты патушылі агонь, перайшлі раку і пачалі праследаванне ворага. За 16 км ад горада каля в. Вароны атрад уланаў пад камандаваннем падпалкоўніка Сталыпіна дагнаў французаў і ўступіў з імі ў



**765.** *Помнік на месцы бою 1812 г.*



**766.** *Помнік землякам.*

бой. Варожы ар'ергард быў разбіты, каля 400 салдат, некалькі афіцэраў і генерал узяты ў палон. Былі захоплены 2 гарматы і шмат вайсковага рыштунку.

У 1912 г. на сродкі вайсковай часці ямбургскіх уланаў на месцы бою пастаўлены помнік — абеліск з літым чыгунным крыжам.

*Літ.:* Добровольский В. К. Витебская губерния в Отечественную войну.— Витебск, 1912; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г.— Мн., 1962. *М. К. Кошалеў.*

**766. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 167 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. насыпаны Курган.

**767. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, каля шашы Лёзна — Віцебск.

953-і штурмавы авіяполк быў сфарміраваны ў жніўні 1942 г., уваходзіў у склад 1-й Паветранай арміі. 16.10.1943 г. авіяполк прыбыў на франтавы аэрадром на захад ад Смаленска, адкуль рабіў баявыя вылеты ў раён Оршы. Вызначыўся ў баях за вызваленне Віцебска і вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Атрымаў ганаровае найменне «Віцебскі». Пазней авіяполк удзельнічаў у вызваленні Мінска, Вільнюса, Кёнігсберга, Польшчы і інш. Узнагароджаны ордэнамі Суворава і Кутузава.

У 1980 г. на ўшанаванне памяці лётчыкаў авіяпалка пастаўлены 2 стылізаваныя пілоны.

**в. Васькавічы, Заронаўскі сельсавет**

**768. РАДЗІМА АНТОНЕНКІ** Аляксея Касьянавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. К. Антоненка нарадзіўся 29.1.1911 г. ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС. Пасля заканчэння школы ФЗН працаваў слесарам і памочнікам машыніста паравоза. З 1929 г. ў Чырвонай Арміі, скончыў Ейскае ваенна-марское авіяцыйнае вучылішча (1932 г.). Удзельнік баёў на Хал-Хін-Голе, савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., лётчык-знішчальнік. 23.6.1941 г. ў паветраным баі пад Талінам збіў «юнкерс». Абараняў Ленінград, збіў 4 самалёты. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 14.7.1941 г. Загінуў у баі 26.7.1941 г. Пахаваны ў Фінляндыі на паўвостраве Ханка. Яго імем названы вуліца ў Ленінградзе, пасёлак у Ленінградскай вобл. Навечна занесены ў спісы знішчальнага авіяпалка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Ваўчкі (не існуе), Вымнянскі сельсавет**

**769. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ваўчкі знаходзілася за 1,5 км на паўночны захад ад в. Фокіна. У лютым 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (43 чалавекі). Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 г. на месцы былой вёскі насыпаны Курган.

**в. Ваяводкі, Ноўкінскі сельсавет**

**770. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксандр Пятровіч Жасткоў.

А. П. Жасткоў нарадзіўся 26.7.1922 г. ў в. Слаўцава Меленкаўскага р-на Уладзімірскай вобл. Чл. КПСС з 1944 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну ваяваў на Калінінскім, 1-м Прыбалтыйскім, 3-м Беларускім франтах. Камандаваў кулямётным узводам 279-га гвардзейскага стралковага палка 91-й гвардзейскай стралковай Духаўшчынскай дывізіі. Гвардыі лейтэнант А. П. Жасткоў вызначыўся ў час Віцебска-Аршанскай аперацыі. 23.6.1944 г. ў час прарыву абароны ворага ўзвод у раёне в. Карпавічы падавіў 6 агнявых кропак і знішчыў каля 100 гітлераўцаў. Праследуючы праціўніка, фарсіраваў р. Лучосу і ўмацаваўся на яе



**767.** *Помнік савецкім лётчыкам.*

левым беразе, чым забяспечыў пераправу палка. 24 чэрвеня каля в. Асінаўка ўзвод знішчыў 5 кулямётных кропак і 130 гітлераўцаў. 25 чэрвеня ў баі каля в. Камары на працягу дня адбіў 4 контратакі ворага, а потым перайшоў у атаку. У гэтым баі А. П. Жасткоў загінуў. 24.3.1945 г. А. П. Жасткову прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1965 г. ўстаноўлены 2 надмагіллі, у 1967 г.— стэла на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**в. Войтава, Вымнянскі сельсавет**

**771. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з клубам. Пахаваны 539 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксей Арсенавіч Томскі.

А. А. Томскі нарадзіўся 28.3.1924 г. ў с. Савацьева Калінінскага р-на Калінінскай вобл. Член КПСС з 1943 г. У 1941 г. добраахвотна пайшоў на фронт. Сяржант, камандзір узвода роты аўтаматчыкаў 950-га стралковага палка 262-й стралковай Дзямідаўскай дывізіі. 3.3.1944 г. ўзвод на чале з А. А. Томскім з групай байцоў (9 чалавек) атакаваў варожыя пазіцыі і выбіў ворага з траншэй. Перагрупаваўшыся, фашысты пайшлі ў контратаку. Бой працягваўся 2 гадзіны. Паранены А. А. Томскі прадаўжаў камандаваць боем, разам з байцамі ўварваўся ў другую лінію траншэй. А. А. Томскі па-геройску загінуў у гэтым баі ў рукапашнай схватцы. 24.3.1945 г. А. А. Томскаму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названы вуліцы ў г. Калініне і г. п. Лёзна, яго імя прысвоена школе ў в. Войтава.

У 1964 г. на могілках пастаўлены 3 абеліскі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**в. Востраў, Янавіцкі пасялковы Савет**

**772. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 132 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Вымна, цэнтр сельсавета**

**773. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, перад будынкам канторы саўгаса імя А. Я. Углоўскага. Пахаваны 458 воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Анатоль Яфімавіч Углоўскі.

А. Я. Углоўскі нарадзіўся 24.7.1923 г. ў в. Лужавіца Вялікаўсцюгскага р-на Валагодскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Калінінскім і 1-м Прыбалтыйскім франтах. Вызначыўся пры вызваленні Суражскага р-на Віцебскай вобл. У ноч на 20.12.1943 г. пры адбіцці варожай танкавай атакі бранябойшчык гвардыі радавы 306-й гвардзейскай стралковай дывізіі А. Я. Углоўскі кінуўся з процітанкавай гранатай пад «тыгр» і падарваў яго. Натхнёныя прыкладам А. Я. Углоўскага, байцы падбілі яшчэ некалькі фашысцкіх танкаў. Контратака ворага была адбіта. 4.6.1944 г. А. Я. Углоўскаму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. За 6 км на паўночны захад ад в. Вымна, каля шашы Віцебск — Сураж і ў с. Вялікі Усцюг яму пастаўлены помнікі, імя героя прысвоена саўгасу ў Віцебскім р-не.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**774. ПОМНІК УГЛОЎСКАМУ** Анатолю Яфімавічу (гіст., маст.). За 6 км на паўночны захад ад в. Вымна, каля шашы Віцебск — Сураж. У 1978 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза А. Я. Углоўскага пастаўлены помнік — фігура воіна (скульпт. А. Гваздзікаў, жалезабетон; агульная вышыня 4,5 м). Баец, пагарджаючы небяспекай, устаў, каб шпурнуць звязку гранат. Рэзкі рух наперад, адкінутая назад рука, разарваная лента гусеніцы перадаюць напружанасць і драматызм моманту. Дынаміка ўнутранага стану воіна, яго імклівы парыў знішчыць ворага падкрэслены экспрэсіяй пластычных форм. Адкрыты з усіх бакоў помнік ярка і эмацыянальна ўслаўляе гераізм савецкага воіна. *Л. Г. Лапцэвіч.*



773. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



774. *Помнік А. Я. Углоўскаму.*

**775. РАДЗІМА НІКІФАРОЎСКАГА** Мікалая Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі этнограф і фалькларыст, правадзейны член Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі Маскоўскага універсітэта (з 1890 г.), Рускага геаграфічнага таварыства (з 1897 г.), Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея (з 1895 г.), Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта (з 1895 г.). М. Я. Нікіфароўскі нарадзіўся 5.5.1845 г. ў сям'і дзяка. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1867 г.). Працаваў настаўнікам народных вучылішчаў і гімназій Віцебскай губерні, Свіслацкай і Маладзечанскай семінарый. Больш за 20 гадоў з'яўляўся карэспандэнтам П. В. Шэйна (знаёмы з ім з 1871 г.). З сярэдзіны 1890-х гадоў супрацоўнічаў з Я. Ф. Карскім, выступаў з самастойнымі працамі. М. Я. Нікіфароўскі апублікаваў працы па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Беларусі, якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння быту беларусаў, іх матэрыяльнай і духоўнай культуры. Сярод іх — «Нарысы Віцебскай Беларусі» (ч. 1—8, 1892—99 гг.), «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў штодзённасці» (1895 г.), «Простанародныя прыметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і мясціны» (1897 г.), «Простанародныя загадкі» (1898 г.), «Беларускія песні-частушкі» (1911 г.), «Напоўпрыказкі і напоўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі» (1910—13 гг.). Памёр М. Я. Нікіфароўскі 28.5.1910 г.

*Літ.:* Бондарчик В. К., Чигринов И. Г. Николай Яковлевич Никифоровский.— Мн., 1960; Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.— Мн., 1964. *В. Б. Караткевіч.*

в. Вялікая Любшчына,
Задуброўеўскі сельсавет

**776. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 221 воін, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Гараднянскі Мох,
Ноўкінскі сельсавет

**777. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 1497 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**778. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі, за 150 м ад дарогі Ноўка — Сасноўка, на ўскраіне лесу, ва ўрочышчы Пяскі. Пахаваны мірныя жыхары, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле насыпаны Курган і пастаўлены абеліск.

в. Гаркава, Шапечынскі сельсавет

**779. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 мірных жыхароў, якіх расстралялі ў жніўні 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**780. МЕСЦА БАЁЎ 1943 г.** (гіст.). У раёне былой вёскі Галевічы ў перыяд з 28 лютага па 4 сакавіка 1943 г. праходзілі баі партызан супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у час якіх загінуў камандзір Багушэўскай партызанскай брыгады М. П. Крэсік. У 1960 г. на ўшанаванне памяці партызан і іх баявых дзеянняў на будынку сельскага клуба ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

в. Герасімава,
Мазалаўскі сельсавет

**781. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст., маст.). За 3 км ад в. Герасімава, на беразе воз. Лосвіда. Пахаваны 76 савецкіх воінаў, якія загінулі ў снежні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У час Гарадоцкай аперацыі 1943 г. пасля вызвалення Гарадка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў войскі 11-й гвардзейскай і 4-й ударнай армій працягвалі наступаць на поўдзень у напрамку Віцебска. Гітлераўскае камандаванне надавала вялікае значэнне абароне Віцебска як «варот Прыбалтыкі». Горад быў абкружаны 3 паласамі ўмацаванняў. Пераадолеўшы першы абарончы рубеж, савецкія воіны 31.12.1943 г. падышлі да воз. Лосвіда, дзе праходзіў другі рубеж. Але тут яны былі спынены моцным агнём праціўніка. У баях загінула шмат савецкіх воінаў.



779. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

У 1971 г. на могілках пастаўлены помнік (арх. А. Бельскі, скульпт. А. Паўлючук; таніраваны бетон). Архітэктурна-прасторавая кампазіцыя складаецца з 11 надмагілляў, акаймаваных плітамі, і чатырохграннага абеліска вышынёй 11,5 м, устаноўленага ў цэнтры ступеньчатага стылабата. Абеліск складаецца з 7 блокаў, сіметрычна скампанаваных адносна вертыкалі. На плоскасці аднаго з блокаў — рэльефная выява гвардзейскага значка, другога — надпіс-прысвячэнне. Справа каля абеліска размешчаны масіўны куб з скульптурным партрэтам воіна Савецкай Арміі.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973.

*М. К. Кошалеў, М. М. Яніцкая.*

в. Глазамічы,
Янавіцкі пасялковы Савет

**782. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 55 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Грабяніца, Мазалаўскі сельсавет

**783. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахавана больш за 100 партызан 1-й Віцебскай брыгады, якія загінулі ў 1941—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**784. МЕСЦА СХОДАЎ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля воз. Валконка, у Грабнеўскім лесе.

У жніўні 1941 г. ў Віцебскім р-не па ініцыятыве І. Дз. Буцьянава была створана падпольная група, у якую ўваходзілі А. П. Абраменка, М. Ф. Бірулін і інш. Сходы падпольшчыкаў праводзіліся ў лесе ў зямлянцы каля вёскі. 5.11.1941 г. фашысты выкрылі месца сходаў. У баі загінулі І. Дз. Буцьянаў і А. П. Абраменка. Пасля гібелі І. Дз. Буцьянава групу ўзнача-



781. *Помнік на вайсковых могілках.*

ліў М. Ф. Бірулін, пад кіраўніцтвам якога ў лютым 1942 г. быў створаны партызанскі атрад (камісар — У. А. Хабараў, начальнік штаба — І. А. Крыцкі). З красавіка 1942 г. атрад дзейнічаў у складзе 1-й Беларускай партызанскай брыгады. У лютым 1943 г. на яго базе створана 1-я Віцебская партызанская брыгада.

У 1967 г. была адноўлена зямлянка, дзе праходзілі сходы, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1967—78. *Ф. В. Барысевіч.*

**в. Дземяхі, Запольскі сельсавет**

**785. КУРГАН** (археал.). Вядомы пад назвай Валатоўка. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, у бары каля лясной дарогі. У плане чатырохвугольны, памерам 12×14 м, вышынёй 1,8 м, вакол насыпу раўкі. Выявіў і абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1981 г. Л. У. Калядзінскі.

**в. Дзятлы,**
**Суражскі пасялковы Савет**

**786. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Доўжа, Мазалаўскі сельсавет**

**787. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі Віцебскай біяфабрыкі імя Я. Р. Каваленкі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1962 г.

**в. Дражна, Курынскі сельсавет**

**788. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць гітлераўцаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**789. МАГІЛА ГАРУНОВА** Пятра Кузьміча (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант П. К. Гаруноў загінуў у 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



*784. Зямлянка, у якой адбываліся сходы падпольшчыкаў.*

**в. Дружная,**
**Янавіцкі пасялковы Савет**

**790. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 126 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**791. МЕСЦА ПОДЗВІГУ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля шашы Віцебск — Смаленск. Часці Чырвонай Арміі ў снежні 1943 г. вялі бai ў раёне шашы Смаленск — Віцебск. 27 воінаў 4-й роты 875-га палка 158-й стралковай дывізіі пад камандаваннем лейтэнанта І. Я. Бясхлебнага раніцай 25.12.1943 г. захапілі вышыню і на працягу дня ўтрымлівалі яе. Калі падышла дапамога, на вышыні нікога не асталося ў жывых. За праяўленую мужнасць 27 воінаў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 1-й ступені.

У 1964 г. на ўшанаванне памяці воінаў-герояў пастаўлена стэла.

**в. Дрыколле, Мазалаўскі сельсавет**

**792. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Царкавішча. За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пляцоўка памерам 35×45 м, умацавана валам вышынёй 2—2,5 м і ровам глыбінёй 1,5—2 м. Уваход з паўднёвага боку. Абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дубавіцы (не існуе),**
**Запольскі сельсавет**

**793. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Дубавіцы знаходзілася за 3 км на ўсход ад в. Кавалёва. У кастрычніку 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 28 жыхароў в. Дубавіцы, вёску спалілі (42 двары). Пасля Вялікай Айчыннай вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Дубрава (не існуе),**
**Вымнянскі сельсавет**

**794. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Дубрава знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Прывольная. 14.12.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты зажыва спалілі 99 жыхароў, у т. л. 40 дзяцей, і знішчылі вёску (32 двары). Пасля Вялікай Айчыннай вайны не адрадзілася. У 1958 г. на месцы былой вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Дыманова, Акцябрскі сельсавет**

**795. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Жыгалава, Заронаўскі сельсавет**

**796. МАГІЛА МУХІНА** А. Е. (гіст.). У цэнтры вёскі. Гвардыі старшы лейтэнант А. Е. Мухін загінуў у студзені 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Задвінне, Курынскі сельсавет**

**797. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Заходняя Дзвіна. Пахаваны 576 воінаў і партызан, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Андрэй Самуілавіч Гайко.

А. С. Гайко нарадзіўся ў 1920 г. ў пас. Карасай Акбулацкага р-на Арэнбургскай вобл. Працаваў у калгасе на радзіме трактарыстам. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір узвода 2-й стралковай роты 1126-га стралковага палка 334-й стралковай дывізіі 43-й арміі лейтэнант А. С. Гайко вызначыўся 26.12.1943 г. ў баі каля в. Задвінне (да 1964 г. вёска называлася Паленаўка). На працягу 4 гадзін на чале групы з 7 чалавек адбіў 10 контратак праціўніка. Застаўшыся адзін, адстрэльваўся да апошняга патрона. Калі скончыліся боепрыпасы, падпусціў гітлераўцаў і 2 процітанкавымі гранатамі падарваў іх і загінуў сам. 4.6.1944 г. А. С. Гайко прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Імем героя названа вуліца ў рабочым пас. Акбулак, яго імя прысвоена Карасаеўскай школе, многім піянерскім атрадам і дружынам. На будынку Карасаеўскай школы, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**в. Задзябра, Вымнянскі сельсавет**

**798. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 105 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Задуброўе, цэнтр сельсавета**

**799. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 38 воінаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**800. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля канторы саўгаса «Суражскі». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Зазыбы, Акцябрскі сельсавет**

**801. РАДЗІМА ЛЫНЬКОВА** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік БССР (1962 г.), акадэмік АН БССР (1953 г.), член-карэспандэнт АН БССР (з 1936 г.) М. (Міхаіл Ціханавіч) Лынькоў нарадзіўся 18.11. 1899 г. ў сям'і чыгуначнага рабочага. Член КПСС з 1926 г. У 1911 г. скончыў Старасельскае народнае вучылішча, у 1917 г. Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю. У 1917—19 гг. працаваў настаўнікам у Ліпініцкай пачатковай школе Буда-Кашалёўскага р-на. У 1919 г. прызваны ў Чырвоную Армію. Удзельнічаў у савецка-польскай вайне 1920 г., у разгроме бандаў Булак-Балаховіча. З 1922 г. працаваў настаўнікам ў мястэчку Свержань Рагачоўскага р-на. У гэты час дасылаў у бабруйскую акруговую газету «Камуніст» заметкі, вершы. У маі 1925 г. бабруйскі акруговы камітэт КП(б)Б накіраваў М. Лынькова на працу ў рэдакцыю газеты «Камуніст». Працаваў спачатку сакратаром рэдакцыі, потым намеснікам рэдактара, у 1928—1930 гг. рэдактарам газеты. Шмат увагі ён аддаваў выяўленню і згуртаванню маладых літаратурных сіл Бабруйшчыны: арганізаваў бабруйскую філію «Маладняка» (1926 г.), кіраваў выданнем літаратурнага альманаха «Уздым», рэдагаваў літаратурны дадатак да газеты «Камуніст» — «Вясна». У 1930—33 гг. працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР, адначасова ўзначальваў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). У 1933—41 гг. галоўны рэдактар часопіса «Полымя рэвалюцыі», у 1938—48 гг. старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Удзельнічаў у 1939 г. ў вызваленні Заходняй Беларусі (рэдагаваў газету «Беларуская звязда» — орган палітупраўлення Беларускага фронту). З пачатку Вялікай Айчыннай вайны да лістапада 1942 г. ў Чырвонай Арміі, рэдактар франтавой газеты «За Савецкую Беларусь». У 1943—1946 гг. і 1949—1952 гг. дырэктар Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР.

Друкавацца пачаў у 1919 г. У 1926 г. ў альманаху «Уздым» апублікавана апавяданне «З пражытых год», у 1928 г.— «Журавель мой, журавель...». У цэнтры ўвагі ранніх апавяданняў пісьменніка — новы чалавек, народжаны рэвалюцыяй. Адным з першых у беларускай літаратуры М. Лынькоў стварыў вобраз рабочага. Шмат пісаў для дзяцей і пра дзяцей: аповесці «Міколка-паравоз» (1936 г.), «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» (1935 г.), «Янка-парашутыст» (1935 г.) і інш. Шырокую панараму ўсенароднай барацьбы савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну, паўнакроўныя біяграфіі франтавікоў, удзельнікаў партызанскага руху на Беларусі стварыў у раманеэпапеі «Векапомныя дні» (1948—58 гг.). Шырока вядомыя кнігі М. Лынькова: «Апавяданні» (1927 г.), «Гой» (1929 г.), «Андрэй Лятун» (1930 г.), «Апошні зверыядавец» (1930 г.), «На чырвоных лядах» (1934 г.), «На вялікай хвалі» (1934 г.), «Баян» (1935 г.), «Сустрэчы» (1940 г.), «Астап» (1944 г.), «За акіянам» (1962 г.). Літаратуразнаўчыя працы М. Лынькова прысвечаны творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, А. Чэхава, Л. Талстога, М. Някрасава, Р. Тагора і інш. Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы М. Горкага, М. Ціханава і інш. Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы народаў нашай краіны і за мяжой.

М. Ц. Лынькоў прымаў удзел у рабоце сесій ААН, выбіраўся кандыдатам у члены ЦВК БССР у 1929—31 гг., кандыдатам у члены ЦК КП(б)Б у 1937—38 гг., дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР у 1938—75 гг. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа 1968 г. М. Ц. Лынькоў памёр 21.9.1975 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імем пісьменніка названы вуліцы ў Мінску і Бабруйску, цеплаход, яго імя прысвоена Крынкаўскай сярэдняй школе ў Лёзненскім р-не і прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу ў Гомелі. На дамах у Мінску, дзе жыў М. Ц. Лынькоў (Ленінскі пр., 139 і Захарава, 56), устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Бугаёў Дз. Шчодрае сэрца пісьменніка.— Мн., 1963; Куляшоў Ф. І. Міхась Лынькоў.— Мн., 1974; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*І. Ф. Кудраўцаў.*

**в. Зайцава, Лятчанскі сельсавет**

**802. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля вёскі, на левым беразе р. Каспля пры ўпадзенні ў яе ручая, на мысе вышынёй 30 м. Пляцоўка трохвугольнай формы, даўжыня бакоў каля 50—60 м. З боку поля — рэшткі вала вышынёй 1,5 м. Выявіў і абследаваў у 1955—56 гг. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. абследаваў Г. В. Штыхаў. Знойдзена ляпная кераміка днепра-дзвінскай культуры.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Замасточча, цэнтр сельсавета**

**803. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Насупраць школы. Пахаваны 47 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**804. МАГІЛА ПЯДЗЬКО** Андрэя Дзям'янавіча (гіст.). За 60 м ад чыгуначнай станцыі. Старшы лейтэнант А. Дз. Пядзько загінуў у 1944 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**805. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАНАВАЛЕНКУ** Уладзіміру Ануфрыевічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза У. А. Каналенкі, які ў 1926—30 гг. вучыўся ў Замастоцкай сярэдняй школе (школе прысвоена яго імя).

**806. ПОМНІК ДРУЖЫНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля школы. Гвардыі старшы лейтэнант М. І. Дружынін з групай салдат 61-га гвардзей-



**797.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

скага палка 19-й гвардзейскай стралковай дывізіі 23.6.1944 г. захапіў мост цераз р. Лучоса каля в. Замасточча і забяспечыў хуткую пераправу войск 5-га гвардзейскага стралковага корпуса. За гэты подзвіг 24.3.1945 г. яму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1969 г. ў гонар подзвігу пастаўлены абеліск.

**в. Заполле, цэнтр сельсавета**

**807. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля дарогі Сураж — Веліж. Пахаваны 229 воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, злева — гармата.

**808. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АДНАЎЛЕННЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1976 г. ў гонар аднаўлення ў красавіку — верасні 1942 г. Савецкай улады, дзейнасці Запольскага сельсавета (старшыня — А. І. Жыльцоў) і калгасаў імя І. В. Сталіна, імя С. М. Кірава, «Герой працы» і «Чалюскін».

**809. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ШТАБА 1-Й БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У Вялікую Айчынную вайну тут размяшчаўся штаб 1-й Беларускай партызанскай брыгады.

Брыгада створана паводле ўказання ЦК КП(б)Б 8.4.1942 г. на нарадзе ў в. Шыцікі Віцебскага р-на; прысутнічалі камандзіры атрадаў і груп М. П. Шмыроў, Р. У. Шкрэда, Я. З. Захараў, Д. Ф. Райцаў, А. П. Дзік, П. А. Буруноў і інш., а таксама прадстаўнікі Паўночна-Заходняй аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і СНК БССР, Віцебскага абкома КП(б)Б і аблвыканкома, 4-й ударнай арміі Калінінскага фронту. Спачатку брыгада налічвала каля 300 партызан і аб'ядноўвала асобна дзейныя атрады М. П. Шмырова («Бацькі Міная»), А. П. Дзіка (пазней А. Дз. Гурко), Д. Ф. Райцава і М. Ф. Біруліна. Камандзіры брыгады — М. П. Шмыроў (красавік — кастрычнік 1942 г.), Я. З. Захараў (лістапад 1942 г.— лістапад 1943 г.); камісары — Р. У. Шкрэда (красавік — жнівень 1942 г., лістапад 1942 г.— жнівень 1943 г.), Ц. Р. Кавалеўскі (жнівень — кастрычнік 1942 г., жнівень — кастрычнік 1943 г.); начальнікі штаба — Я. З. Захараў (красавік — кастрычнік 1942 г.), І. І. Панчошны (кастрычнік 1942 г.— сакавік 1943 г.), М. С. Емяльянаў (сакавік — верасень 1943 г.), М. А. Золін (верасень — кастрычнік 1943 г.)

1-я Беларуская партызанская брыгада адыграла значную ролю ў стварэнні новых партызанскіх атрадаў і брыгад на Віцебшчыне і на ўсёй Беларусі. У красавіку 1942 г. ў брыгадзе быў створаны атрад С. Ц. Шпакава (камандзір — С. Ц. Шпакаў, камісар — П. А. Буруноў); у верасні 1942 г. ў час баёў супраць ворага атрад быў рассеяны, частка партызан уключылася ў іншыя атрады. У чэрвені 1942 г. арганізаваўся атрад Буеўскі. З брыгады ў 1942 г. былі вылучаны: каля 150 чалавек для развіцця партызанскага руху ў Полацкім р-не; група партызан пад камандаваннем С. Т. Воранава — у Гарадоцкім р-не, дзе яна вырасла ў партызанскую брыгаду імя М. І. Кутузава; у ліпені — 200 чалавек для фарміравання ў Вілейскай вобл. Беларускай дыверсійнай брыгады імя У. І. Леніна; у верасні — 50 чалавек для папаўнення рэйдавага атрада «Баявы» (камандзір — А. К. Флегантаў, камісар — Г. Р. Чарняўскі). На базе атрада Д. Ф. Райцава ў лістападзе 1942 г. паводле рашэння ЦК КП(б)Б разгорнута брыгада імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, у лютым 1943 г. на базе атрада М. Ф. Біруліна створана 1-я Віцебская брыгада.

У 1-й Беларускай партызанскай брыгадзе былі сфарміраваны: у кастрычніку 1942 г. атрад Дз. Я. Воранава (пазней А. П. Дзіка), у сакавіку 1943 г. атрады І. І. Жаваранкава і М. П. Машкова. У ліпені 1943 г. з брыгады вылучаны атрад А. Дз. Гурко (былы атрад А. П. Дзіка), у верасні на яго базе створана 1-я Беларуская партызанская брыгада (2-га складу).

На працягу 1942 г. партызаны брыгады сумесна з часцямі 4-й ударнай арміі вызвалілі ад гітлераўцаў тэрыторыю ўздоўж лініі Сураж — Віцебск — Усвяты, якая ўвайшла ў Суражскую партызанскую зону, ахоўвалі і абаранялі Віцебскія «вароты». Наносілі ўдары на чыгунках Віцебск — Гарадок, Віцебск — Полацк, на шашэйных дарогах Віцебск — Гарадок, Віцебск — Полацк, Віцебск — Сураж — Веліж, па воднай камунікацыі на р. Заходняя Дзвіна ад Веліжа да Віцебска. Каля в. Галевічы знаходзіўся партызанскі аэрадром, дзе базіраваліся самалёты 105-га гвардзейскага авіяпалка, які абслугоўваў Суражскую партызанскую зону. 26.10.1943 г. брыгада ў складзе 5 атрадаў (756 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. Камандзіру брыгады М. П. Шмырову ў 1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1960 г. ў гонар партызан на будынку камбіната бытавога абслугоўвання ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967; Жилянин Я., Позняков И., Лузгин В. Без линии фронта.— Мн., 1975; Погорелов А. А. У «Суражских ворот».— Мн., 1980; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы).— Мн., 1961.

*В. М. Баскова.*

**810. ПОМНІК ВІЦЕБСКІЯ «ВАРОТЫ»** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі.

У выніку наступлення Чырвонай Арміі зімой 1941—42 гг. часці 4-й ударнай арміі ў баях супраць гітлераўцаў падышлі да Суражскага і Мехаўскага р-наў Віцебскай вобл. На дапамогу Чырвонай Арміі прыбылі партызанскія атрады М. Ф. Біруліна, М. І. Дзьячкова, М. П. Шмырова, Я. З. Захарава, С. Т. Воранава. Сумеснымі баявымі дзеяннямі савецкіх воінаў і партызан была ачышчана ад ворага дарога Усвяты — Сураж ад раённага цэнтра Усвяты Смаленскай вобл. да в. Тарасенкі Віцебскага р-на. У лютым — сакавіку 1942 г. ў гітлераўскай абароне ўтварыўся 40-кіламетровы пралом, які назвалі Віцебскімі (Суражскімі) «варотамі». «Ва-



**807.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*



810. *Помнік Віцебскія «вароты».*

роты» ўтрымлівалі воіны 4-й ударнай арміі і партызаны 1-й і 2-й Беларускіх брыгад. Яны адыгралі значную ролю ў разгортванні партызанскага руху на Віцебшчыне, дастаўцы боепрыпасаў, медыкаментаў для народных мсціўцаў. Праз «вароты» было эвакуіравана ў савецкі тыл каля 200 тыс. чалавек (жанчын, старых і дзяцей), адпраўляліся абозы з прадуктамі ў фонд Чырвонай Арміі. У маі — чэрвені 1942 г. народнымі мсціўцамі 1-й Беларускай партызанскай брыгады было сабрана і перапраўлена ў Савецкі фонд абароны каштоўнасцей на 7 млн. рублёў. Паміж атрадамі, штабамі 1-й Беларускай партызанскай брыгады і часцямі Чырвонай Арміі, а таксама Віцебскім абкомам і аблвыканкомам, якія размяшчаліся на тэрыторыі Усвяцкага і Веліжскага р-наў Смаленскай вобл., была ўстаноўлена тэлефонная сувязь.

25.9.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі значнымі вайсковымі сіламі пачалі наступленне з Віцебска, Суража і гарнізона ў в. Краслевічы Суражскага р-на, каб ліквідаваць Віцебскія «вароты». Пасля цяжкіх баёў супраць карнікаў партызаны вымушаны былі адступіць. 28.9.1942 г. Віцебскія «вароты» былі закрыты.

У 1977 г. ў памяць аб гэтых падзеях пастаўлены помнік (скульпт. В. Ягадніцкі; бетон; вышыня пілонаў 11 і 9 м) — 2 расшыраныя ўнізе пілоны і стэла. Паміж пілонамі праходзіць вузкая, выкладзеная бетоннымі плітамі дарога, што сімвалізуе Віцебскія «вароты». Пілоны ў цэнтры апяразвае разарваны фрыз з рэльефнымі выявамі твараў воіна і партызана. Над імі — контурная выява пяціканцовай зоркі. Стрыманую эмацыянальнасць помніка падкрэсліваюць касы зрэз верхавіны пілонаў і суровая фактура бетону са слядамі апалубкі. Замыкае кампазіцыю стэла на 2 апорах, размешчаная па цэнтральнай восі ансамбля. Уздоўж дарогі — газоны.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967; Жилянин Я., Позняков И., Лузгин В. Без линии фронта.— Мн., 1975; Залескі А. І. Дарогамі партызанскай Беларусі.— Мн., 1974; Погорелов А. А. У «Суражских ворот».— Мн., 1980; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы).— Мн., 1961.

*В. М. Баскова, Л. Г. Лапцэвіч.*

**811. РАДЗІМА СІЛЬНІЦКАГА** Міхаіла Фёдаравіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 828 «Магіла Сільніцкага Міхаіла Фёдаравіча».



814. *Помнік на месцы баёў партызан.*

**в. Запруддзе, Лятчанскі сельсавет**

**812. СТАЯНКА** (археал.). За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе Заходняй Дзвіны, ва ўрочышчы Крыжы. Адкрыў і даследаваў у 1933 г. К. М. Палікарповіч, у 1981 г. абследаваў Э. М. Зайкоўскі. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і косці высакароднага аленя. Адносіцца да эпохі мезаліту. Матэрыялы раскопак не захаваліся.

**в. Заронава, Заронаўскі сельсавет**

**813. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 4377 воінаў 43-й арміі, якія загінулі ў красавіку — чэрвені 1944 г. пры вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вёсак Варанова, Бліны, Іванова, Палойнікі, Тапорына, і партызаны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета ў 1941—1944 гг. У 1980 г. на магіле пастаўлены 3 пілоны з барэльефамі танкіста, пехацінца, лётчыка і дошкі з прозвішчамі загінуўшых.

**в. Казакова, Запольскі сельсавет**

**814. МЕСЦА БАЁЎ 1942 г.** (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі Сураж — Веліж.

У пачатку верасня 1942 г. гітлераўцы пачалі карныя аперацыі супраць партызан Віцебскай вобл. з мэтай ліквідацыі прарыву ў лініі фронту, так званых Віцебскіх (Суражскіх) «варот». У ноч з 24 на 25 верасня з Суража пачалося наступленне карнікаў у раёне дзеяння 1-й Беларускай партызанскай брыгады. У раёне вёсак Пунішча і Казакова, дзе займаў абарону атрад імя Р. С. Курмялёва, разгарэліся ўпартыя баі. Партызаны знішчылі каля 300 гітлераўцаў і 2 танкі.

У 1972 г. на месцы баёў пастаўлены помнік, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Оте-



813. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

чественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967. *М. К. Кошалеў.*

**в. Казанава, Бабініцкі сельсавет**

**815. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 400 м на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 59 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Канькі, Запольскі сельсавет**

**816. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Цербахунь. Займае выспу (вышыня да 5 м) правага берага р. Заходняя Дзвіна. Пляцоўка памерам 40×60 м, паўднёвая частка размыта ракой. Умацавана 3 кальцавымі валамі і 2 равамі: адзін вал — вакол пляцоўкі, другі і трэці — па схіле. Вышыня валоў 3,5, 2 і 1,5 м, глыбіня равоў 1,5—2 м. Пляцоўка занята могілкамі, зарасла хмызняком, хвоямі. Даследавалі ў 1934 г. А. М. Ляўданскі, К. М. Палікарповіч, у 1951 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. У культурным пласце 0,6—0,8 м знойдзены амаль цэлая печ-домніца і рэшткі ляпной гладкасценнай керамікі. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 2 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Ляўдански А. М., Палікарповіч К. М. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг.— Запіскі Беларускай Акадэміі Навук, 1936, кн. 5; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Л. У. Калядзінскі.*

**в. Кіраўская, Лятчанскі сельсавет**

**817. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля Дома культуры. Скульптура С. М. Кірава ўстаноўлена ў 1972 г.

**в. Княжыца, Лятчанскі сельсавет**

**818. МАГІЛА КУРБАКОВА** Івана Фёдаравіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Старшы лейтэнант Чырвонай Арміі І. Ф. Курбакоў загінуў у 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Князі, Вымнянскі сельсавет**

**819. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На грамадзянскіх могілках. Пахаваны 96 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Койтава, Мазалаўскі сельсавет**

**820. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 300 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 мірныя жыхары, што загінулі ў 1942 г. ад рук гітлераўскіх карнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**821. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ РЭПІНА** Ільі Яфімавіча (гіст.). Урочышча Здраўнева, за 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Заходняя Дзвіна. Тут у 1892—1900 гг. жыў і працаваў рускі жывапісец І. Я. Рэпін (1844—1930 гг.).

Маёнтак Здраўнева І. Я. Рэпін купіў у 1892 г., добраўпарадкаваў яго, перабудаваў дом. Займаўся гаспадаркай, назіраў за жыццём беларускага народа, вывучаў яго гісторыю. Навакольная прырода ў значнай ступені садзейнічала ўзбагачэнню палітры мастака. У Здраўневе ён стварыў шэраг цікавых эцюдаў і партрэтаў. Сярод іх — «Асенні букет», «Беларус» (абедзве 1892 г.), «У хаце», «Паненкі на прагулцы ў статку кароў», «Месячная ноч. Здраўнева», «Дуэль» (усе ў 1896 г.), эскіз карціны «Пропаведзь Кунцэвіча на Беларусі» (1893 г.).

Ад дома захаваліся рэшткі падмурка, алеі, якія вялі да дома, невялікая сажалка, абсаджаная ніцымі вербамі, мураваны склеп. На беразе Заходняй Дзвіны можна ўбачыць амаль зусім занесеныя пяском камяні, якімі мастак умацоўваў бераг. Цяпер ва ўрочышчы піянерскі лагер. На адным з яго будынкаў у 1960 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Грабарь И. Э., И. Репин. Т. 1—2.— М., 1963—64; Новое о Репине: Статьи и письма художника, воспоминания учеников и друзей, публикации.— Л., 1969; Репин И. Избранные письма в двух томах. 1867—1930. Т. 1—2.— М., 1969. *М. К. Кошалеў.*

**в. Котава, Вымнянскі сельсавет**

**822. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 477 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Краўцова, Задуброўеўскі сельсавет**

**823. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 116 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кузьмянцы, Шапечынскі сельсавет**

**824. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 389 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**825. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**825а.** Селішча-1. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Лучоса, ва ўрочышчы Царкавішча. Пляцоўка памерам 40×60 м абкружана ярамі. Абследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4 м. Сабрана ганчарная кераміка.

**825б.** Селішча-2. За 0,4 км на поўнач ад урочышча Царкавішча, сярод перасечанай ярамі мясцовасці, каля вусця р. Сухадроўка. Плошча каля 2 га. Абследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4 м. Сабрана ганчарная кераміка.

**825в.** Селішча-3. Побач з селішчам-2, каля вусця р. Сухадроўка. Займае плошчу да 2 га. Абследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4 м. На паверхні сабрана ганчарная кераміка. Селішчы адносяцца да перыяду феадалізму.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Кукавячына, Ноўкінскі сельсавет**

**826. РАДЗІМА ГРЫШЧАНКІ** Пятра Лук'янавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. Л. Грышчанка нарадзіўся 1.8.1921 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У 1939 г. скончыў Віцебскі аэраклуб, у 1942 г.— Армавірскую ваенную авіяцыйную школу пілотаў, у 1955 г.— Ваенна-паветраную акадэмію. У Чырвонай Арміі з 1940 г. На фронце з сакавіка 1943 г., лётчык-знішчальнік. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі, Берлінскай аперацыі. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка П. Л. Грышчанка зрабіў 380 баявых вылетаў, правёў 78 паветраных баёў, збіў 27 нямецкіх самалётаў і аэрастат. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.7.1944 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі. Памёр 21.12.1973 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Курына, цэнтр сельсавета**

**827. МАГІЛА ЛАПІКАВА** Івана Сямёнавіча (гіст.). На могілках. І. С. Лапікаў — партызан атрада Д. Ф. Райцава, які дзейнічаў на тэрыторыі Віцебскай вобл. Загінуў разам з баявым сябрам Героем Савецкага Саюза М. Ф. Сільніцкім 28.3.1942 г. ў баі супраць нямецкіх карнікаў каля в. Курына. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**828. МАГІЛА СІЛЬНІЦКАГА** Міхаіла Фёдаравіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза М. Ф. Сільніцкі нарадзіўся 20.11.1921 г. ў в. Заполле Віцебскага р-на ў сям'і селяніна. У Чырвонай Арміі з чэрвеня 1941 г., потым кулямётчык партызанскага атрада Д. Ф. Райцава партызанскай брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола. Вызначыўся ў баі супраць карнікаў 28.3.1942 г. Партызаны сустрэлі ворага ў раёне вёсак Платы і Курына. Пяць гадзін цягнуўся напружаны бой, і партыза-



828. *Помнік на магіле М. Ф. Сільніцкага.*

ны вымушаны былі адступіць. М. Ф. Сільніцкі прыкрываў адыход атрада. Калі скончыліся патроны, акружаны гітлераўцамі, мужны партызан адбіваўся нажом і загінуў у рукапашным баі. 15.5.1942 г. М. Ф. Сільніцкаму першаму сярод партызан-камсамольцаў Беларусі прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імя было прысвоена партызанскаму атраду, імя героя носяць калгас у Полацкім р-не, Курынская школа, каля чыгуначнай станцыі Лужасна пастаўлена стэла (гл. артыкул № 839 «Помнік Сільніцкаму Міхаілу Фёдаравічу»).

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Люди легенд. В. 2.— М., 1966; Калинин П. З. Партизанская республика.— 2 изд.— Мн., 1968; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*М. К. Кошалеў.*

**в. Латыгава, Вымнянскі сельсавет**

**829. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 700 м на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 35 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лебартова, Вымнянскі сельсавет**

**830. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у вярхоўях р. Віцьба. 6 круглых у плане курганоў вышынёй 2,5—3,5 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіў у 1965 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1982 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лёпіна,**
**Янавіцкі пасялковы Савет**

**831. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 227 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лосвіда, Мазалаўскі сельсавет**

**832. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 400 м на поўнач ад будынка канторы саўгаса «Лосвіда». Пахавана каля 800 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1964 г. на могілках пастаўлены абеліск і ўстаноўлена 15 надмагільных пліт.

**в. Лужасна, Мазалаўскі сельсавет**

**833. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**833а.** Гарадзішча. Каля вёскі, за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад скрыжавання Ленінградскай шашы і дарогі, якая вядзе да Лужаснянскага сельскагаспадарчага тэхнікума, на краі выспы, абкружанай з усіх бакоў балотам (уваход ёсць толькі з паўночнага боку, праз селішча). Пляцоўка авальная, памерам 50×45 м, вышынёй 15—20 м, добра ўмацавана 2 падкаватападобнымі валамі вышынёй 4—6 м: адзін — на краі пляцоўкі, другі — на схіле гарадзішча. Вядома з 1873 г. Даследаваў у 1972 г. і 1974 г. Г. В. Штыхаў, раскапана 100 м² плошчы. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,6 м, каля краёў 2,5 м. Знойдзены кавалкі ляпнога посуду, 2 жалезныя сярпы, 3 нажы, бронзавыя ўпрыгожанні. Гарадзішча датуецца раннім жалезным векам і 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э., аднесіцца да днепра-дзвінскай і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны культур.



833. *Гарадзішча, селішча. План.*

**833б.** Селішча. Прымыкае да гарадзішча з паўночнага боку. Памер 150×35 м. Даследаваў у 1972 г. і 1974 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Ускрыта 196 м² плошчы. У культурным пласце каля 1 м выяўлены рэшткі жытла (4×5 м), крыху паглыбленага ў грунт, з печчу-каменкай (1×2 м, вышынёй 0,6 м), каля якой знаходзілася шмат ляпной керамікі, глінянае прасліца. Селішча датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э., аднесіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сапунов А. П. Река Западная Двина.— Витебск, 1893; Штыхов Г. В. Работы Полоцко-Витебского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975.
*Г. В. Штыхаў.*

**834. ЗЕМЛЯРОБЧАЯ ШКОЛА** (архіт., гіст.). У паўднёвай частцы вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Адкрыта 15.11.1909 г. Цяпер тут размяшчаецца Лужаснянскі сельскагаспадарчы тэхнікум імя Ф. А. Сурганава.

Двухпавярховы мураваны Г-падобны ў плане будынак. Выступы аб'ёмаў ствараюць невялікі ўнутраны дворык. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі вылучаецца трохпавярховая вуглавая частка з уваходам, сіметрычнай групоўкай праёмаў, складанымі шчытамі. Паміж імі размешчаны высокі спічасты шацёр, які надае выразнасць сілуэту будынка. Фасады вырашаны ў 2 колеры. Плоскасці фасадаў прарэзаны 2 радамі шырокіх акон прамавугольных на 1-м паверсе і лучковых на 2-м. Сістэма размяшчэння памяшканняў — калідорная. На кожным паверсе па 3 пакоі. Захаваліся белыя кафляныя печы.

Будынак — помнік архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн».

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905.
*Н. С. Ліхтаровіч.*

**835. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.). Савецкія воіны 4-й ударнай арміі і партызаны атрада М. Ф. Біруліна 1.2. 1942 г. разграмілі ў вёсцы буйны ня-



833б. *Селішча. Рэшткі печы-каменкі.*



834. *Земляробчая школа.*



834. *Земляробчая школа. План 1-га паверха.*

мецка-фашысцкі гарнізон. У 1972 г. ў гонар гэтай падзеі на будынку Лужаснянскага сельскагаспадарчага тэхнікума імя Ф. А. Сурганава ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**836. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). Паўночна-ўсходняя ўскраіна вёскі. Тут у 1941—43 гг. нямецкія фашысты загубілі сотні савецкіх ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў. У 1972 г. на месцы загубы ўстаноўлены памятны знак.

**837. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі, на правым беразе Заходняй Дзвіны. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. Прасторавая кампазіцыя складаецца з крыжовага ў плане асноўнага аб'ёму, трох'яруснай шатровай званіцы і пяціграннай апсіды. Сцены прарэзаны арачнымі вокнамі з кілепадобнымі ліштвамі, шматлікі архітэктурны дэкор вылучаны тынкоўкай на фоне чырвонай цаглянай муроўкі.

Царква — прыклад архітэктуры псеўдарускага стылю.

**838. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі Лужаснянскага сельскагаспадарчага тэхнікума імя Ф. А. Сурганава. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**чыгуначная станцыя Лужасна, Мазалаўскі сельсавет**

**839. ПОМНІК СІЛЬНІЦКАМУ** Міхаілу Фёдаравічу (гіст.). Каля шашы Віцебск — Ленінград, каля павароту на в. Лужасна. На ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза М. Ф. Сільніцкага ў 1964 г. пастаўлена стэла, у цэнтры яе — барэльефная выява партызана, які страляе з аўтамата, ніжэй — надпіс-інфармацыя. Гл. артыкул № 828 «Магіла Сільніцкага Міхаіла Фёдаравіча».

**в. Лужкі, Мазалаўскі сельсавет**

**840. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 20 партызан 1-й Віцебскай брыгады, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — сакратар Віцебскага падпольнага райкома КП(б)Б В. І. Когаль, начальнік штаба брыгады І. А. Крыцкі, камандзір атрада № 4 А. І. Собалеў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана. У 1967 г. на ўшанаванне памяці В. І. Когаля каля помніка ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**841. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ВІЦЕБСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ШТАБА 1-й ВІЦЕБСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У в. Лужкі з красавіка 1942 г. размяшчаўся штаб партызанскага атрада М. Ф. Біруліна (арганізаваны ў лютым 1942 г.), на базе якога ў лютым 1943 г. была створана 1-я Віцебская партызанская брыгада. Камандзір брыгады — М. Ф. Бірулін, камісары — У. А. Хабараў (люты — чэрвень 1943 г.), В. Р. Кудзінаў (чэрвень — кастрычнік 1943 г.), Г. Т. Савельеў (кастрычнік 1943 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на шашэйных дарогах, на чыгуначных участках Віцебск — Гарадок, Віцебск — Сіроціна, грамілі варожыя гарнізоны. У лютым — сакавіку і ў чэрвені 1943 г. вялі абарончыя баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія праводзілі карныя аперацыі «Шаравая маланка», «Майская навальніца», «Дождж на сёмуху». 28.10.1943 г. брыгада (2 атрады, 247 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

З 31.5.1942 г. пры партызанскім атрадзе М. Ф. Біруліна дзейнічаў Віцебскі падпольны райком КП(б)Б [зацверджаны Віцебскім абкомам КП(б)Б 9.6.1942 г.]. Сакратар — В. І. Когаль (31.5.1942 г.— 3.5.1943 г.), члены райкома — М. М. Залескі (31.5. 1942 г.— чэрвень 1942 г.), У. А. Хабараў (31.5.1942 г.— 30.6.1943 г.), М. Ф. Бірулін (9.6.1942 г.— 28.10.1943 г.), К. П. Уласенка (9.6.1942 г.— 30.6. 1943 г.), А. П. Максіменка (9.6. 1942 г.— 19.6.1943 г.), В. Р. Кудзінаў (7.4.1943 г.— 28.10.1943 г.), П. Д. Дзяругін (30.6.1943 г.— 28.10.1943 г.). Друкаваны орган райкома — газета «За Радзіму».

У 1-й Віцебскай партызанскай брыгадзе знаходзілася асноўная база Віцебскага падпольнага райкома камсамола, які быў створаны Віцебскім падпольным абкомам ЛКСМБ і пачаў работу 10.5.1942 г. Сакратар — Е. А. Крыцкая (10.5.1942 г.— 11.11.1943 г.), В. А. Загорскі (15.7 — 11.11.1943 г.), члены райкома — В. Д. Курыленка



837. *Пакроўская царква.*

(10.5.1942 г.— 20.5.1943 г.), А. Ц. Юпатаў (10.5.1942 г.— 11.11.1943 г.), В. М. Казлоўскі (10.5.1942 г.— 25.9.1943 г.), А. М. Нямыкін (10.5.1942 г.— 1.7.1943 г.), І. Д. Раманаў (17.7.1942 г.— 1.3.1943 г.).

У 1964 г. на адным з будынкаў у вёсцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*М. К. Кошалеў.*

**в. Лучынаўка, Варонаўскі сельсавет**

**842. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля шашы Віцебск — Смаленск. Пахаваны 115 воінаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**843. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Віцебск — Смаленск. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**844. МАГІЛА ДРАЗДОВА** Андрэя Фёдаравіча (гіст.). У цэнтры вёскі, непадалёку ад шашы Віцебск — Смаленск. Савецкі воін А. Ф. Драздоў загінуў у маі 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лычнева (не існуе), Запольскі сельсавет**

**845. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Лычнева знаходзілася за 3 км на ўсход ад в. Тарасенкі. У ліпені 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі 144 жыхароў в. Лычнева, вёску (40 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Лятохі, Акцябрскі сельсавет**

**846. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля вёскі, у лесе, уздоўж дарогі. 14 курганоў вышынёй 1,5—2,5 м, дыяметрам 12—14 м. Адзін курган валападобны (даўжыня 70 м, шырыня 1 м, вышыня 1,5 м). Каля падножжа насыпу — глыбокія раўкі. У 1924 г. А. К. Супінскі даследаваў 2 курганы. У іх выяўлены рэшткі крэмацыі чалавека. У 1965 г. і 1972 г. Г. В. Штыхаў раскапаў 3 курганы. Адзін з іх быў пусты, у другім пад насыпам знойдзена пахаванне па абраду трупаспалення. У трэцім, доўгім кургане, рэштак пахавання не было, але пад насыпам выяўлены адзнакі вогнішча і знойдзены ляпны гаршчок. У 1981 г. абследаваў Л. У. Калядзінскі. Могільнік датуецца 2-й палавінай 1-га тысячагоддзя н. э.




839. *Помнік М. Ф. Сільніцкаму.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Раскопки в Витебске и его окрестностях.— У кн.: Археологические открытия 1972 года. М., 1973; Супінскі А. К. Могільнік каля вёскі Лятох Віцебскага раёна і акругі.— У кн.: Віцебшчына. Віцебск, 1925, т. 1.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Мазалава, цэнтр сельсавета**

**847. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У вясковым скверы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Макарава, Акцябрскі сельсавет**

**848. МЕСЦА ПРАРЫВУ ЧЫРВОНАЙ АРМІЯЙ ВАРОЖАЙ АБАРОНЫ Ў ЧЭРВЕНІ 1944 г.** (гіст.). За 3 км ад вёскі, на аўтамабільнай дарозе Віцебск — Орша, каля скрыжавання дарог Копці — Макарава.

23.6.1944 г. войскі 3-га Беларускага фронту пад камандаваннем генерал-палкоўніка І. Д. Чарняхоўскага пачалі Віцебска-Аршанскую аперацыю, перайшлі ў наступленне. 39-я армія ў складзе 7 стралковых дывізій, 28-й гвардзейскай танкавай брыгады і 957-га самаходнага артылерыйскага палка моцным ударам прарвала абарону праціўніка ў раёне вёсак Макарава, Карпавічы, Падніўе. З ходу фарсіраваўшы р. Лучоса, савецкія часці перарэзалі чыгунку Віцебск — Орша каля станцыі Замасточча і разграмілі 197-ю пяхотную дывізію ворага. За першы дзень наступлення 39-я армія левым флангам прасунулася на 15 км і адрэзала з поўдня і паўночнага захаду шляхі адыходу ворага ад Віцебска. Гэта стварыла перадумовы для акружэння і знішчэння Віцебскай групоўкі ворага.

У 1969 г. ў гонар часцей, якія ўдзельнічалі ў прарыве варожай абароны, пастаўлена стэла.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Людников И. И. Дорога длиною в жизнь.— М., 1969.

*Ф. В. Барысевіч.*

**в. Малыжана, Вымнянскі сельсавет**

**849. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 84 мірныя жыхары вёскі (жанчыны, дзеці, старыя), якіх 4.2.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1977 г. на магіле насыпаны Курган, на яго вяршыні абеліск і дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Малыя Лётцы, Лятчанскі сельсавет**

**850. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі санаторыя «Лётцы». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**в. Манулкі, Вымнянскі сельсавет**

**851. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 125 воінаў, якія загінулі на тэрыторыі сельсавета ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На магіле ў 1956 г. пастаўлены абеліск.

**в. Маркавічы, Мазалаўскі сельсавет**

**852. МЕСЦА БАЁЎ 1942—43 гг.** (гіст.). У раёне вёскі ў 1942—43 гг. парты-



848. *Помнік на месцы прарыву варожай абароны.*

заны 1-й Віцебскай брыгады неаднаразова вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. ў памяць аб гэтым на доме № 7 устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Міхайлова, Вымнянскі сельсавет**

**853. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 200 м на захад ад вёскі. Пахаваны 245 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Міхалкова, Курынскі сельсавет**

**854. МЕСЦА РАССТРЭЛУ САВЕЦКІХ ПАТРЫЁТАЎ** (гіст.). У чэрвені 1942 г. гітлераўцы расстралялі ў вёсцы 22 савецкіх патрыётаў. У 1965 г. на ўшанаванне іх памяці на будынку клуба ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Мішуткі, Вымнянскі сельсавет**

**855. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 савецкіх воінаў, у т. л. капітан П. А. Бібонаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**856. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У 11 магілах пахаваны 328 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Мяклава, Акцябрскі сельсавет**

**857. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**857а.** Гарадзішча. За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Любашкова, на астанцы тэрасы правага берага р. Лучоса. Вышыня астанца 10 м. Пляцоўка авальная, памерам 56×46 м. На схіле знаходзіцца вал вышынёй 3—3,5 м і роў глыбінёй 0,4 м. Абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены ляпная гладкасценная кераміка і посуд, паверхня якога пакрыта штрыхоўкай. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

**857б.** Селішча. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Лучоса, паміж 2 ярамі. Памеры 150×150 м. Абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка.

**857в.** Курганны могільнік. На тэрыторыі селішча. 6 круглых у плане курганоў. 3 насыпы вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам да 15 м, вышыня астатніх 0,8—1 м, дыяметр 10—12 м. Абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішча і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*



**857а.** *Гарадзішча.*

**в. Навасёлкі, Запольскі сельсавет**

**858. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Насупраць школы, каля могілак. Пахаваны 408 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**859. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АДНАЎЛЕННЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Устаноўлена ў 1976 г. ў гонар аднаўлення ў красавіку — верасні 1942 г. ў тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў Савецкай улады, дзейнасці Пудацкага сельскага Савета (старшыня — Р. М. Ласман) і калгасаў.

**в. Ноўка, цэнтр сельсавета**

**860. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля дарогі з в. Ноўка на в. Сасноўка. Пахаваны 402 воіны і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Рыгор Дзмітрыевіч Ермалаеў і Уладзімір Сяргеевіч Смятанін.

Р. Дз. Ермалаеў нарадзіўся ў 1924 г. ў в. Шылаўка Екацярынаўскага р-на Саратаўскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір танка Т-34 28-й асобнай гвардзейскай танкавай брыгады гвардыі малодшы лейтэнант Р. Дз. Ермалаеў вызначыўся пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны. 25.6.1944 г. экіпаж танка пад яго камандаваннем адным



**857в.** *Курганны могільнік.*

з першых выйшаў да р. Лучоса, захапіў пераправу, што забяспечыла фарсіраванне ракі пяхотай; у складзе роты першым дасягнуў шашы Віцебск — Лепель, у раёне в. Якушы авалодаў пераправай цераз Заходнюю Дзвіну. На працягу трохгадзіннага бою адбіў 10 контратак ворага, знішчыў 3 самаходныя гарматы і 9 пушак, 120 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. 24.3.1945 г. Р. Дз. Ермалаеву прысвоена Званне Героя Савецкага Саюза.

У. С. Смятанін нарадзіўся 2.7. 1917 г. ў г. Паўлаград Днепрапятроўскай вобл. Член КПСС з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Намеснік камандзіра 48-га гвардзейскага стралковага палка 17-й гвардзейскай стралковай дывізіі гвардыі падпалкоўнік У. С. Смятанін вызначыўся ў баях па знішчэнню варожай групоўкі, якая прарывалася з Віцебскага «катла». Полк пад яго камандаваннем адбіў 13 контратак ворага, знішчыў каля 800 гітлераўцаў. Цяжка паранены, не пакінуў поля бою. Быў схоплены ворагам і па-зверску закатаваны. 24.3.1945 г. У. С. Смятаніну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач — мемарыяльная сцяна на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На сцяне імёны 137 землякоў, рэльефная выява Ордэна Айчыннай вайны.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**861. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДАЎБЕШКІНУ** Пятру Лукічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці былога вучня, Героя Савецкага Саюза гвардыі капітана П. Л. Даўбешкіна, які загінуў 3.10.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра.

**в. Падзародня (не існуе), Запольскі сельсавет**

**862. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Падзародня знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Храпакі. У 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 21 жыхара Падзародні, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Папаратна, Запольскі сельсавет**

**863. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Парасятніца (не існуе), Запольскі сельсавет**

**864. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Парасятніца знаходзілася за 3 км на ўсход ад в. Канькі.

У сакавіку 1942 г. супраць партызан 1-й Беларускай брыгады (камандзір — М. П. Шмыроў) гітлераўцы пачалі карную аперацыю. Яны ўварваліся ў вёску, расстралялі 60 яе жыхароў, а вёску (20 двароў) спалілі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны не адрадзілася. У 1965 г. на месцы расстрэлу мірных жыхароў пастаўлена стэла.

**в. Паўлавічы, Ноўкінскі сельсавет**

**865. РАДЗІМА ДАЎБЕШКІНА** Пятра Лукіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. Л. Даўбешкін нарадзіўся 25.9.1912 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. У 1934 г. скончыў Віцебскі фінансава-эканамічны тэхнікум, у 1937 г.— Сумскую артылерыйскую школу. У Чырвонай Арміі з 1934 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Калінінскім, Бранскім, Цэнтральным і 1-м Украінскім франтах. Вызначыўся 22.9.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на паўднёвы захад ад Пераяслава-Хмяльніцкага. Мінамётны дывізіён на чале з гвардыі капітанам. П. Л. Даўбешкіным першым дасягнуў правага берага і адкрыў агонь па ворагу. Было адбіта 8 варожых контратак, знішчана каля 5 рот гітлераўцаў. Загінуў 3.10.1943 г. ў баі. Пахаваны ў с. Тамань Кіеўскай вобл. 17.11.1943 г. П. Л. Даўбешкіну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. На доме, дзе нарадзіўся П. Л. Даўбешкін, і на будынку школы ў в. Ноўка, у якой вучыўся, устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Пенклавічы, Задуброўеўскі сельсавет**

**866. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 60 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Перавоз, Ноўкінскі сельсавет**

**867. МАГІЛА РУБЛЕЎСКАГА** Аляксея Іванавіча (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Савецкі воін А. І. Рублеўскі загінуў у 1944 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пестуніца, цэнтр Заронаўскага сельсавета**

**868. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



860. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Подцава (не існуе), Курынскі сельсавет**

**869. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Подцава знаходзілася за 3 км на захад ад в. Курына. 23.5. 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 28 жыхароў в. Подцава, спалілі 18 двароў. Пасля Вялікай Айчыннай вайны не адрадзілася. У 1958 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Пудаць, Запольскі сельсавет**

**870. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА М. П. ШМЫРОВА** (гіст.). У пасёлку Пудаць у ліпені 1941 г. з рабочых кардоннай фабрыкі быў арганізаваны партызанскі атрад пад камандаваннем М. П. Шмырова (з красавіка 1942 г. атрад імя Р. С. Курмялёва 1-й Беларускай партызанскай брыгады). У 1964 г. ў цэнтры вёскі, побач з клубам, у памяць аб стварэнні партызанскага атрада пастаўлены абеліск.

**в. Пунішча, Запольскі сельсавет**

**871. РАДЗІМА ШМЫРОВА** Міная Піліпавіча (гіст.). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза М. П. Шмыроў нарадзіўся 23.12.1891 г. Памёр у 1964 г. Пахаваны на вайсковых могілках у Віцебску. У 1975 г. ў вёсцы на радзіме М. П. Шмырова ўстаноўлены абеліск з мемарыяльнай дошкай. Глядзі таксама артыкул № 43 «Магіла Шмырова Міная Піліпавіча».

**в. Пышнякі, Бабініцкі сельсавет**

**872. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 90 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рабава, Суражскі пасялковы Савет**

**873. МЕСЦА ФАРМІРАВАННЯ І БАЗІРАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ А. Ф. ДАНУКАЛАВА** (гіст.). У раёне вёсак сучаснага калгаса «Чырвоны Сцяг» была сфарміравана і дзейнічала да лістапада 1942 г. партызанская брыгада імя Героя Савецкага Саюза А. Ф. Данукалава (да красавіка 1944 г. называлася брыгада «Аляксея»). Штаб брыгады размяшчаўся ў в. Дзятлы.

Брыгада была створана паводле ўказання Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б у красавіку 1942 г. на базе атрадаў «Радзіма», «Крэпасць», «Граза ворагам» (потым «Смерць ворагам»). Дзейнічала на тэрыторыі Смаленскай (Касплянскі р-н) вобл. РСФСР, Віцебскай (Аршанскі, Бугушэўскі, Бешанковіцкі, Віцебскі, Лёзненскі, Суражскі, Ушацкі, Чашніцкі р-ны) і Вілейскай (Плііскі р-н) абласцей БССР.

Камандзіры брыгады — А. Ф. Данукалаў (красавік 1942 г.— красавік 1944 г., загінуў), В. А. Блахін (красавік — ліпень 1944 г.), камісары — І. А. Паўлоўскі (красавік — май 1942 г., загінуў), А. Ц. Шчарбакоў (май 1942 г.— май 1943 г.), І. І. Старавойтаў (май 1943 г.— ліпень 1944 г.), начальнікі штаба — А. С. Гайдукоў (красавік — ліпень 1942 г.), Я. М. Антоненка (ліпень — верасень 1942 г.), Ф. І. Пласкуноў (верасень 1942 г.— красавік 1944 г.), І. П. Піменаў (май — ліпень 1944 г.).

Партызаны брыгады ў 1942 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Шапурова, Будзянка, Ляшчова Суражскага, Стасева Лёзненскага р-наў, удзельнічалі ў баях супраць карнікаў, сістэматычна праводзілі дыверсіі на чыгунках Віцебск — Орша, Віцебск — Смаленск, Полацк — Маладзечна, на шашэйных дарогах Віцебск — Веліж, Віцебск — Лёзна, Віцебск — Янавічы — Панізоўе, Сянно — Віцебск, Лепель — Віцебск, Чашнікі — Бешанковічы і інш. Актыўна ўдзельнічалі ў «рэйкавай вайне». 1.7.1944 г. брыгада ў складзе 12 атрадаў (1817 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. ў гонар баявых дзеянняў брыгады на будынку праўлення калгаса «Чырвоны Сцяг» устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1967—78; Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; яго ж. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; Лебедев П. Л. Мы — алексеевцы: Записки партизанского разведчика.—2 изд.— Мн., 1979. *В. М. Баскова.*

**в. Раніна, Варонаўскі сельсавет**

**874. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**874а.** Гарадзішча. За 4 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Вымнянка, ва ўрочышчы Жаўнерава, на гары (вышыня 20 м), якая абкружана балотам. Пляцоўка амаль круглая, памерам 46×40 м. На схілах гары 2 валы і 2 равы. Даследаваў у 1972 г. і 1978 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. абследаваў Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт каля цэнтра пляцоўкі 0,3 м. Знойдзены ляпны посуд. Помнік датуецца 6—8 стагоддзямі н. э., адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**874б.** Курганны могільнік. За 1,8 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Вымнянка, на краі поля. 3 курганы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м. Абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Раскопки в Витебске и его окрестностях.— У кн.: Археологические открытия 1972 года. М., 1973. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Рудакі, Ноўкінскі сельсавет**

**875. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 243 воіны і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях за вызваленне Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сазаны (не існуе), Запольскі сельсавет**

**876. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сазаны знаходзілася за 3 км на паўночны ўсход ад в. Сапраны. У снежні 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 21 жыхара, вёску (40 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Сакольнікі, Вымнянскі сельсавет**

**877. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 137 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сакольнікі, Мазалаўскі сельсавет**

**878. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, паміж пагоркамі, ва ўрочышчы Кахоўка (былы маёнтак). 57 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5—7 м. Даследаваў у 1891 г. Е. Р. Раманаў, які раскапаў 3 курганы. У першым выяўлены 3 шкілеты. Каля аднаго ляжаў жалезны нож і гаршчок. У другім кургане пры касцяку знойдзена хрусталёвая шарападобная пацерка, у трэцім — рэшткі трупаспалення, крэмень і рыбалоўны кручок. Абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Могільнік належаў крывічам.



*877. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Матэрыялы раскопак 1891 г. захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Романов Е. Р. Раскопка в имении Каховка Витебского уезда.— У кн.: Древности. Труды Московского археологического общества. М., 1900, т. 16. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Сасноўка, Ноўкінскі сельсавет**

**879. МАГІЛА ПАШЫКА** Барыса Антонавіча (гіст.). На тэрыторыі санаторыя «Сасноўка». Гвардыі старшы лейтэнант Чырвонай Арміі Б. А. Пашык загінуў у 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Саўчонкі, Мазалаўскі сельсавет**

**880. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Побач з вёскай, каля чыгункі. Пахаваны 123 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**881. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля гравійнай дарогі, якая ідзе на захад ад вёскі, у лесе. 6 курганоў (2 добра захаваліся, 4 пашкоджаны ямамі) вышынёй 1—3 м, дыяметрам 8—12 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Скрыдлева, Замастоцкі сельсавет**

**882. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Павел Ананьевіч Крыванос.

П. А. Крыванос нарадзіўся ў 1920 г. ў в. Альхоўка Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У 1940 г. скончыў Бабруйскі лесатэхнічны тэхнікум. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся пры ліквідацыі варожай групоўкі каля Віцебска. 27.6.1944 г. камандзір танкавага ўзвода малодшы лейтэнант П. А. Крыванос уступіў у адзінаборства з самаходнай гарматай «фердынанд» і засланіў бранёй свайго танка танк камандзіра палка. Цяжка паранены, ён не пакінуў поля бою і працягваў камандаваць узводам. Памёр ад ран 27.6.1944 г. 24.3.1945 г. П. А. Крываносу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названа вуліца, імя героя прысвоена школе ў г. п. Клічаў.

У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1965 г. ў гонар П. А. Крываноса каля абеліска ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 4.— М., 1962; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**в. Слабада, Задуброўеўскі сельсавет**

**883. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Старое Сяло, Лятчанскі сельсавет**

**884. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2513 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Фёдар Пятровіч Ерзікаў і Уладзімір Паўлавіч Краеў.

Ф. П. Ерзікаў нарадзіўся 30.5. 1918 г. ў с. Архангельскае Міласлаўскага р-на Разанскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1938 г. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на Паўночна-Заходнім, Калінінскім, Заходнім і 3-м Беларускім франтах. Вызначыўся 25—27.6.1944 г. пры вызваленні Віцебшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Артбатарэя пад камандаваннем гвардыі старшага лейтэнанта Ф. П. Ерзікава знішчыла каля 200 фашыстаў, 10 аўтамашын, 12 павозак з грузам. Сам Ф. П. Ерзікаў знішчыў каля 40 гітлераўцаў. Загінуў у баі 27.6.1944 г. 24.3.1945 г. Ф. П. Ерзікаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.




884. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У. П. Краёў нарадзіўся 5.7.1921 г. ў с. Лекма Слабадскога р-на Кіраўскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г., лейтэнант, камандзір танка 259-га танкавага батальёна 143-й танкавай брыгады. У час прарыву варожай абароны 6.10. 1943 г. ў раёне вёсак Рассядзенне і Вялікая Будніца Мехаўскага р-на танк У. П. Краёва знішчыў процітанкавую гармату і 3 агнявыя кропкі. Пры разведцы каля в. Востраў захапіў батарэю палявых гармат і склад боепрыпасаў. Рухаючыся па прасёлках, адрэзаў адыход калоны ворага. Каля в. Марчанкі на працягу двухгадзіннага бою знішчыў 2 гарматы і 5 кулямётаў, 3 аўтамашыны з грузам і да 20 гітлераўцаў, а каля в. Жукава — 3 кулямёты і 2 аўтамашыны. 9.10.1943 г. У. П. Краёў быў цяжка паранены, але не пакінуў поля бою. Загінуў у баі 10.2.1944 г. 4.6.1944 г. У. П. Краёву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названы саўгас у Віцебскім р-не.

У 1954 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**885. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**885а.** Гарадзішча. За 2,5 км на поўдзень ад вёскі, на мысе правага берага Заходняй Дзвіны. Пляцоўка памерам 30×70 м, вышыня над поймай 20 м, з боку поля ўмацавана валам вышынёй каля 1,2 м. У 1928 г. даследаваў А. М. Ляўданскі. У траншэі даўжынёй 11 м і шырынёй 3 м выяўлены культурны пласт 0,5—1 м, у ім знойдзены ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, 2 жалезныя нажы, абломак жалезнай дужкі, косці жывёл. Абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры і датуецца 3—4 стагоддзямі н. э.

**885б.** Селішча. З заходняга боку гарадзішча. Памер 200×50 м. Даследавалі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі. Знойдзеная ў агаленнях кераміка дазваляе аднесці помнік да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

**885в.** Курганны могільнік-1. На тэрыторыі селішча. 16 насыпаў, з іх 2 доўгія. Вышыня круглых у плане курганоў 1,5 м, дыяметр 8—10 м, даўжыня доўгіх курганоў 20—25 м, шырыня 8—10 м, вышыня 2,5 м. Даследавалі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, якія раскапалі 4 насыпы. У адным з іх былі знойдзены рэшткі крэмацыі з ляпным і ганчарным гаршкамі. У 1973 г. могільнік абследаваў Г. В. Штыхаў. Курганы датуюцца 9—10 стагоддзямі, належалі крывічам.

**885г.** Курганны могільнік-2. За 1 км на ўсход ад вёскі. Захаваліся 3 насыпы (2 на полі, 1 у лесе) вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. У 1973 г. адзін курган даследаваў Г. В. Штыхаў. Знаходак не было. Датуецца помнік 2-й палавінай 1-га тысячагоддзя н. э.

**885д.** Курганны могільнік-3. Мясцовая назва Французскія Магілы. За 1,8 км на ўсход ад вёскі, у лесе, за дарогай. 12 насыпаў вышынёй 1,8—2 м, дыяметрам 10—14 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы раскопак гарадзішча, селішча і курганнага могільніка-1 захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

*Л. У. Калядзінскі, Г. В. Штыхаў.*

**в. Стасенкі, Суражскі пасялковы Савет**

**886. МАГІЛА МІНАЧКІНА** Івана Мікітавіча (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля шашы Сураж — Веліж. Савецкі воін І. М. Міначкін загінуў у лютым 1942. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



885а. *Гарадзішча.*

**в. Стукальна (не існуе), Суражскі пасялковы Савет**

**887. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Стукальна знаходзілася за 1,5 км на паўночны ўсход ад в. Уласава. 11.11.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 30 жыхароў в. Стукальна, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Стэськава (не існуе), Запольскі сельсавет**

**888. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Стэськава знаходзілася за 1—2 км на поўдзень ад в. Храпакі. У 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 20 жыхароў в. Стэськава, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Суднікі, Заронаўскі сельсавет**

**889. РАДЗІМА СУРГАНАВА** Фёдара Анісімавіча (гіст.).

Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольскага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну Ф. А. Сурганаў нарадзіўся 25.5.1911 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум (1928 г.). Працаваў аграномам Калгасцэнтра, Наркамзема БССР (1931—34 гг.). У 1939 г. скончыў Беларускі сельскагаспадарчы інстытут і працаваў сакратаром Горацкага райкома ЛКСМБ, першым сакратаром Магілёўскага абкома ЛКСМБ. З лістапада 1941 г. сакратар Свярдлоўскага гаркома ВЛКСМ. У 1942—45 гг. сакратар ЦК ЛКСМБ.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны Ф. А. Сурганаў у складзе Магілёўскага абласнога штаба народнага апалчэння займаўся падборам камсамольцаў у атрады знішчальнікаў танкаў, фарміраваннем атрадаў самаабароны, рыхтаваў камсамольскіх работнікаў для падпольнай работы ў тыле ворага. У 1942—43 гг. у складзе аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху на Калінінскім фронце. З жніўня 1943 г. да ліпеня 1944 г. ў тыле ворага, упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і Цэнтральнага штаба партызанскага руху, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху і камсамольскага падполля ў Вілейскай, Баранавіцкай і Беластоцкай абласцях. У 1947—54 гг. другі сакратар Мінскага абкома КПБ, у 1954—55 гг. старшыня Мінскага аблвыканкома, у 1955—56 гг.— першы сакратар Мінскага абкома КПБ. З жніўня 1956 г. сакратар, з красавіка 1959 г. другі

сакратар ЦК КПБ. У 1962—65 гг. старшыня Бюро ЦК КПБ па кіраўніцтву сельскай гаспадаркай, сакратар ЦК КПБ, з сакавіка 1965 г. другі сакратар ЦК КПБ. У 1971—76 гг. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Кандыдат у члены ЦК КПСС у 1956—61 гг., член ЦК КПСС у 1961—76 гг., кандыдат у члены ЦК КПБ у 1949—56 гг., член ЦК КПБ у 1956—76 гг., член Бюро ЦК КПБ у 1956—76 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1954—76 гг., намеснік Старшыні Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР у 1962—66 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—76 гг.

Памёр 26.12.1976 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названа вуліца ў Мінску, яго імя прысвоена Лужаснянскаму сельскагаспадарчаму тэхнікуму. У 1981 г. на будынку Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967; Солдатами были все.— Мн., 1968; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы): (Сб. воспоминаний).— Мн., 1961.
*В. М. Удальцоў.*

**в. Суйкава,**
**Заронаўскі сельсавет**

**890. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАНАК** (гіст.). Каля дарогі Віцебск — Полацк. Пахаваны 2 партызанскія разведчыцы, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сумы, Вымнянскі сельсавет**

**891. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**892. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Чырвонаармейскай. Пахаваны 106 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**893. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км ад пасёлка, на грамадзянскіх могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1944 г. пры разміціраванні вызваленай ад гітлераўцаў тэрыторыі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**894. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Савецкай. Пахаваны 227 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.




894. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**г. п. Сураж,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**895. ЗАМЧЫШЧА** (археал.). На мысе пры зліцці рэк Заходняя Дзвіна і Каспля. Пляцоўка трохвугольнай формы, памерам 60×50 м. З усходу яна ўмацавана ровам, з паўднёвага і паўночнага бакоў абкружана рэкамі. У абрыве культурны пласт да 1,5 м. На адлегласці 200 м ад зліцця рэк захаваліся рэшткі другога рова, які аддзяляў вакольны горад. Абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1977 г. раскопкі праводзіў М. А. Ткачоў, даследавана 260 м² плошчы. Знойдзены фрагменты керамікі 9—10 стагоддзяў, шыферныя прасліцы, кераміка 11—13 стагоддзяў і больш позняга часу, сякера, замок, ключ 14 ст., гарматныя ядры, кафля 16—17 стагоддзяў. Выяўлены рэшткі абарончых драўляных збудаванняў (у 1564—65 гг. па загаду Жыгімонта II Аўгуста быў пабудаваны драўляны замак, названы Суражам).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933; Ткачев М. А., Королев А. И. Работы Днепро-Двинского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *Г. В. Штыхаў.*

**896. МЕСЦА РАЗГРОМУ ВАРОЖАГА ГАРНІЗОНА** (гіст.). У Суражы 10.9. 1941 г. партызаны атрада М. П. Шмырова разграмілі гарнізон нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. ў памяць аб гэтым на будынку выканкома пасялковага Савета ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**897. ПАМЯТНЫ ДУБ** (гіст.). У скверы па вул. Савецкай. Пасаджаны былымі партызанамі ў 1972 г. з нагоды 30-годдзя заснавання 1-й Беларускай партызанскай брыгады.

**898. ПОМНІК ДЗЕЦЯМ ШМЫРОВА** Міная Піліпавіча (гіст.).

М. П. Шмыроў (партызанскі псеўданім Бацька Мінай) — камандзір партызанскага атрада ( з красавіка 1942 г. 1-й Беларускай партызанскай брыгады), які з першых дзён акупацыі Віцебшчыны вёў бязлітасную барацьбу



895. *Замчышча. Від з боку Заходняй Дзвіны.*

з ворагам. Партызаны рабілі засады на дарогах Сураж — Усвяты, Сураж — Веліж, Веліж — Усвяты, нападалі на варожыя гарнізоны. Акупанты аб'явілі раён дзеяння атрада «зонай партызан», неаднаразова спрабавалі ліквідаваць яе, абяцалі за галаву партызанскага камандзіра вялікую ўзнагароду. Страціўшы надзею знішчыць партызан, гітлераўцы ўзялі 19.10. 1941 г. заложнікамі чацвярых дзяцей М. П. Шмырова: Лізу (14 гадоў), Сяргея (10 гадоў), Зіну (7 гадоў) і Мішу (3 гады). Фашысты паабяцалі пакінуць дзяцей жывымі, калі Бацька Мінай добраахвотна здасца ў палон. Прыйсці да ворага са схіленай галавой М. П. Шмырову не дазволілі абавязак камандзіра, сумленне камуніста і самі дзеці. Лізе ўдалося перадаць з фашысцкага засценка запіску, у якой яна прасіла бацьку не верыць абяцанням акупантаў, не здавацца ім. 14.2.1942 г. гітлераўцы расстралялі дзяцей, а таксама сястру М. П. Шмырова і маці яго жонкі. Гл. таксама артыкул № 43 «Магіла Шмырова Міная Пілігавіча».

У 1984 г., напярэдадні 40-годдзя вызвалення Беларусі, на ўшанаванне памяці дзяцей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова пастаўлены помнік (скульпт. А. Гвоздзікаў, архіт. В. Ягадніцкі, бронза, бетон) — кампазіцыя з 4 стылізаваных пілонаў з скульптурнымі выявамі твараў загубленых дзяцей.

*Літ.:* Саблин В. Батька Минай.— Мн., 1959; Бялевіч А. Мінай Шмыроў.— Мн., 1970; его ж. У батьки Миная.— М., 1978; Васильева М. П. По следам героя.— Мн., 1974.

**в. Сушчова, Мазалаўскі сельсавет**

**899. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 500 м на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 956 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.



895. *Замчышча. План.*




897. *Памятны дуб.*

**в. Сцяпанкава, Заронаўскі сельсавет**

**900. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ўскраіне вёскі. Пахаваны 82 воіны і партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тадуліна, Вымнянскі сельсавет**

**901. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 115 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тарасенкі, Запольскі сельсавет**

**902. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**903. МЕСЦА БАЁЎ ПАРТЫЗАН** (гіст.). У ваколіцах в. Тарасенкі базіравалася і вяла баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 1-я Беларуская партызанская брыгада (камандзіры — М. П. Шмыроў, Я. З. Захараў, камісары — Р. У. Шкрэда, Ц. Р. Кавалеўскі). У 1970 г. на ўсходняй ускраіне вёскі каля шашы Сураж — Веліж у памяць аб гэтым пастаўлена стэла.

**в. Трушчы, Задуброўеўскі сельсавет**

**904. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 76 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Уласава, Суражскі пасялковы Савет**

**905. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хайсы, Мазалаўскі сельсавет**

**906. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі птушкафабрыкі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**в. Хамякова, Курынскі сельсавет**

**907. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ ЧЫРВАНАСЦЯЖНАГА ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпнік. Брыгада створана ў лістападзе 1942 г. на базе атрада Д. Ф. Райцава. Камандзір — Д. Ф. Райцаў, камісары В. К. Перуноў, В. С. Цыганкоў. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы і шашы Віцебск — Гарадок, удзельнічалі ў жніўні 1943 г. ў аперацыі «Рэйкавая вайна», вялі баі супраць карных аперацый «Шаравая маланка», «Майская навальніца», «Дождж на сёмуху». 1.11.1943 г. і 3.12.1943 г. брыгада ў складзе 3 атрадаў (363 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1972 г. ў гонар брыгады і яе баявых дзеянняў пастаўлена стэла.

**908. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.). За 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у раёне былой в. Платы. 27.3.1942 г. партызаны атрада пад камандаваннем Д. Ф. Райцава вялі жорсткі бой супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1978 г. на месцы бою насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла.

**909. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе, у 1980 г. насыпаны Курган і ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

**в. Хатоля, Курынскі сельсавет**

**910. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія Магілы. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на берагах Заходняй Дзвіны. 2 курганы на правым беразе ракі, трэці — насупраць, на левым беразе. Вышыня аднаго 2,5—3 м, дыяметр 25 м, другога — вышыня 1,5—2 м, дыяметр 20—25 м, вышыня трэцяга 5,5 м, дыяметр 25—30 м. Абследавалі ў 1965 г. К. П. Шут, у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.



910. *Помнік на месцы першага бою партызанскага атрада М. П. Шмырова.*

в. Цімахі, Запольскі сельсавет

**911. МЕСЦА ПЕРШАГА БОЮ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ШМЫРОВА** Міная Піліпавіча (гіст.). За 200 м на поўнач ад вёскі. Партызанскі атрад М. П. Шмырова («Бацькі Міная») пачаў дзейнічаць з ліпеня 1941 г. 25.7. 1941 г. каля хутара Самахваліхі партызаны правялі першы бой. На беразе р. Тураўка атрад нямецкай конніцы размясціўся на адпачынак. Партызаны напалі на атрад і забілі каля 30 гітлераўцаў. У памяць аб гэтым баі ў 1964 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967; Бялевіч А. Мінай Шмыроў.— Мн., 1970.

в. Чырвоны Двор, Мазалаўскі сельсавет

**912. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. Пахаваны 58 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Шапурова, Суражскі пасялковы Савет

**913. ПОМНІК ШМЫРОВУ** Мінаю Піліпавічу (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка эксперыментальнай базы імя М. П. Шмырова Беларускага рэспубліканскага аб'яднання па насеннаводству сельскагаспадарчых культур. Бюст Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова — аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну — устаноўлены ў 1970 г.

в. Шапуры (злілася з в. Арлова), Акцябрскі сельсавет

**914. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**914а.** Г а р а д з і ш ч а. У вёсцы, на правым беразе р. Лучоса, на гары вышынёй 20 м, за 0,3 км на ўсход ад інтэрната інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны. Пляцоўка круглая, дыяметрам 18 м. Выявіў у 1956 г. М. М. Чарняўскі, абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. Напэўна, было гарадзішчам-сховішчам.

**914б.** С е л і ш ч а. З заходняга боку гары, на якой знаходзіцца гарадзішча. Абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Калядзінскі. У культурным пласце 0,4 м знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага часу.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. У. Калядзінскі.*

в. Шаркі, Заронаўскі сельсавет

**915. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 962 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Шульцава, Акцябрскі сельсавет

**916. ВЫШЫНЯ 222,9** (гіст.). За 1,2 км на паўночны ўсход ад вёскі. 5.6.1944 г. воіны 17-й гвардзейскай стралковай дывізіі і іншых часцей 39-й арміі штурмам авалодалі вышынёй 222,9 і адкрылі шлях да вызвалення Віцебска. У 1976 г. на вышыні ў гонар гэтых падзей пастаўлены мемарыяльны знак.



916. *Помнік на вышыні 222,9.*

в. Шухвасты (не існуе), Мазалаўскі сельсавет

**917. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Шухвасты знаходзілася за 6 км на паўднёвы ўсход ад в. Шчучына. У жніўні 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 61 жыхара в. Шухвасты, вёску (32 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

в. Шчучына, Мазалаўскі сельсавет

**918. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 250 м на поўдзень ад вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Шылы, Мазалаўскі сельсавет

**919. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе воз. Сосна. Савецкі воін загінуў у 1941 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Шыцікі (не існуе), Запольскі сельсавет

**920. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Шыцікі знаходзілася за 5 км на поўдзень ад в. Дразды, у лесе. У маі 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (84 чалавекі, 38 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

г. п. Янавічы, цэнтр пасялковага Савета

**921. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 201 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**922. РАДЗІМА ГАРФУНКІНА** Рыгора Саламонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Р. С. Гарфункін нарадзіўся 6.8.1920 г. ў рабочай сям'і. Працаваў токарам у Віцебску. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з верасня 1941 г. Вызначыўся 22.9. 1943 г. ў баі за р. Дняпро на Украіне. Разам з групай разведчыкаў радавы Р. С. Гарфункін пераправіўся на правы бераг ракі ў тыл фашыстаў, разведаў іх сістэму абароны, размяшчэнне агнявых кропак. Калі разведчыкі вярталіся назад, іх заўважылі гітлераўцы і адкрылі ўраганны агонь. Р. С. Гарфункін, які аўтаматным агнём прыкрываў пераправу, загінуў у гэтым баі. 10.1.1944 г. Р. С. Гарфункіну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названа вуліца ў г. п. Янавічы.

*Г. І. Дулеба.*




# ГАРАДОЦКІ РАЁН

Езярышча
Марчанкі
Кудзіны
Лугаўскія
Гуркі
Рудня
Газьба
Халамер'е
Хвошна
Полава
Ляляўшчына
Зайкава
Мехавое
Дражакі
Сцяпанавічы
Рамні
Обаль
Мяжа
Бычыха
Фралова
Лыськова
Загуззе
Дуброва
Хмяльнік
Віраўля
Малашанкі
Баброўшчына
Пралетарск
Зарэчча
Вярэчча
Вархі
Стадолішча
Зарэчча
Смалоўка
Даўгаполле
Паташня
Канашы
Маскаляняты
Новы Болецк
Раманава
Канчаны
Ноўка
ГАРАДОК
Краўцова
Пальмінка
Новыя Вайханы
Пруднікі
Баравыя
Астраўляны

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курган Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## VIII. ГАРАДОК

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Гаражанка, на перасечанай мясцовасці. За 29 км на паўночны захад ад Віцебска, 2 км ад чыгуначнай станцыі Гарадок на лініі Віцебск — Невель, на аўтамабільнай дарозе Віцебск — Невель. Тэрыторыя падзяляецца Гаражанкай на паўночную і паўднёвую часткі.

Вядомы з 16 ст., адзначаны на карце С. Пахалавіцкага 1579 г. У Вялікім княстве Літоўскім горад у Віцебскім ваяводстве. З 1772 г. ў складзе Пскоўскай губерні Расійскай імперыі. З 1777 г. павятовы горад Полацкай, з 1796 г.— Беларускай, з 1802 г.— Віцебскай губерняў. У 1860 г. ў горадзе 4075 жыхароў, 373 драўляныя і 4 мураваныя дамы, 75 крам, 19 дробных саматужных прадпрыемстваў. Паводле перапісу 1897 г. 5023 жыхары, бальніца, мужчынскае царкоўнапрыходскае вучылішча, рамесніцкая школа, 23 прамысловыя і рамесныя прадпрыемствы (гарбарныя, цагельныя, ганчарныя і інш.). У Рэвалюцыю 1905—07 гг. у горадзе дзейнічалі гурткі РСДРП, у ліпені 1917 г. створана бальшавіцкая арганізацыя (10 членаў). Бальшавікі Гарадка на сялянскім з'ездзе (май 1917 г.) патрабавалі перадаць зямлю сялянам да склікання Устаноўчага сходу. Савецкая ўлада ўстаноўлена 8(21).11.1917 г. У сакавіку 1920 г. ў горадзе і павеце прайшоў «Тыдзень фронту» — працоўныя сабралі ў фонд Чырвонай Арміі 160 тыс. рублёў грошай, 2 тыс. аршын палатна і інш. Паводле перапісу 1939 г. ў Гарадку 7,3 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну з 9.7.1941 г. да 24.12.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (9.6.1942 г.— 4.11.1943 г.) і ЛКСМБ (23.7.1942 г.— 4.11.1943 г.). Вызвалены войскамі 11-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў час Гарадоцкай наступальнай аперацыі. 12 часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Гарадоцкіх».

Горадабудаўнічай асновай Гарадка з'явіліся старажытнае ўмацаванае паселішча, якое, як відаць з плана 1778 г., было ў пойме р. Гаражанка на правым яе беразе і займала пляцоўку памерам 200×100 м, і замак, што знаходзіўся на левым высокім беразе ракі (гэтае месца цяпер называюць Узгор'ем). Замак меў арыгінальную двухбаковую (вонкавую і ўнутраную) сістэму напаўнення абарончага рова вадой, 5 абарончых вежаў. Вакол замка фарміраваліся вуліцы і кварталы горада. На працягу 2-й палавіны 19 ст. ў адпаведнасці з праектам планіроўкі 1846 г. горад забудоўваўся ўздоўж шашы Віцебск — Пецярбург, а пасля пракладкі чыгункі (1904 г.) на тэрыторыі паміж вакзалам і рынкам.

Горад быў моцна разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вызвалення адноўлены жылы фонд, пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы. У 1966 г. Віцебскім абласным філіялам інстытута «Белдзяржпраект» створаны праект планіроўкі горада. Паводле новага генплана, распрацаванага ў 1977 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва, у Гарадку ўзводзіцца шэраг сучасных будынкаў. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — пл. Леніна, на скрыжаванні вуліц Ленінскай, Савецкай, Маскоўскай, Пралетарскай. Архітэктурны сілуэт цэнтра вызначаюць будынкі райкома КПБ, кінатэатра, рэстарана-кафэ. Па вул. К. Маркса ўзведзены будынкі Дома Саветаў, Дома культуры. У мікрараёне па вуліцах Юбілейнай, Гагарына і ўздоўж Віцебскай шашы пабудаваны сучасныя шматпавярховыя жылыя дамы.

Прамысловасць сканцэнтравана пераважна ў паўночнай частцы горада. Працуюць ільнозавод, аўтарамонтны завод, філіял віцебскага вытворчага аб'яднання «Хімпласт», перасоўная механізаваная калона № 36 трэста «Віцебсксельбуд», перасоўная механізаваная калона № 23 вытворчага аб'яднання «Аблміжкалгасбуд», малаказавод, вытворчы ўчастак Віцебскага кансервавага завода, хлебазавод, птушкафабрыка, лясгас, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі і інш. У горадзе дзейнічаюць саўгас-тэхнікум, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, сярэдняя, 2 васьмігадовыя, рабочай моладзі, дзіцячая музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 7 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, Дом культуры, бальніца. Выдаецца газета «Прамень камунізму». Помнікі: У. І. Леніну, Вызвалення, ахвярам фашызму; мемарыяльны комплекс на вайсковых могілках.

Зона адпачынку — у раёне азёр Шарбікоўскае, Арэхаўскае і Лукавае і ўрочышча Вараб'ёвы Горы.

*Літ.:* Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Новый энциклопедический словарь. Т. 10.— СПб., Б. г.; Семёнов-Тян-Шанский П. П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1.— СПб., 1863; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Его-



VIII. *Забудова на Віцебскай шашы.*



VIII. *Плошча Леніна.*



VIII. *Вуліца Пралетарская.*

р о в Ю. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Хрестоматия по истории БССР. 1917—1971.— Мн., 1972; Список населенных мест Витебской губернии.— Витебск, 1906.
*А. М. Кулагін, С. Ф. Цярохін.*

**923. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У канцы вул. Зялёнай, на левым беразе р. Гаражанка, ва ўрочышчы Вараб'ёвы Горы. 4 круглыя курганы вышынёй 1,5—2,5 м, дыяметрам 10—12 м і адзін доўгі памерам 25×12, вышынёй 2,5 м. Абследавалі ў 1971 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**924. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада, ва ўрочышчы Вараб'ёвы Горы. Тут у Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі каля 2 тыс. савецкіх грамадзян. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**925. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС НА ВАЙСКОВЫХ МОГІЛКАХ** (гіст., маст.). У цэнтры горада. Пахавана больш за 5 тыс. савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у час вызвалення Гарадка і тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Дыдышка, Павел Пятровіч Зюбін, Васіль Андрэевіч Талкачоў і генерал-маёр Мікалай Мікалаевіч Каржанеўскі.

А. І. Дыдышка нарадзіўся 18.6. 1911 г. ў г. Верхнеднепроўск Днепрапятроўскай вобл. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У 1933 г. скончыў Адэскае артылерыйскае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1929 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 11.4.1940 г. за мужнасць і гераізм у савецка-фінляндскую вайну. У Вялікую Айчынную вайну гвардыі палкоўнік А. І. Дыдышка камандаваў артылерыйскім палком. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Калінінскай, Смаленскай і Віцебскай абласцей. Загінуў у баі 5.2.1944 г. на тэрыторыі Гарадоцкага р-на.

П. П. Зюбін нарадзіўся 11.12. 1910 г. ў г. Белгарад. Член КПСС з 1941 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну камандаваў артылерыйскім палком. Вызначыўся ў Віцебскай вобл. Каля в. Сіроціна ў чэрвені 1944 г. полк гвардыі маёра П. П. Зюбіна падавіў агнявую сістэму ворага — 12 назіральных пунктаў, 80 агнявых кропак. 24.6.1944 г. П. П. Зюбін загінуў у баі. 22.7.1944 г. яму пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

В. А. Талкачоў нарадзіўся ў 1922 г. ў с. Машэнін Невельскага р-на Калінінскай вобл. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну — гвардыі лейтэнант, камандзір 2-й стралковай роты 12-га гвардзейскага стралковага палка 5-й гвардзейскай стралковай дывізіі. Вызначыўся ў баі каля сяла Вялікая Радамка Арлоўскай вобл.— асабіста знішчыў 5 варожых салдат і ўзяў у палон афіцэра. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.8.1943 г. Загінуў 13.1. 1944 г.

М. М. Каржанеўскі нарадзіўся 6.12.1906 г. ў г. Фастаў Кіеўскай вобл. ў сям'і служачага. У 1920 г. добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію. З 1923 г. працаваў на Кіеўскай тытунёвай фабрыцы. Удзельнічаў у барацьбе з бандытызмам. Член КПСС з 1927 г. У 1927 г. скончыў Адэскую ваенную школу, у 1937 г.— Ваенную акадэмію імя Фрунзе. З 1937 г. ў войсках Забайкальскай ваеннай акругі.



924. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік абароны Масквы. Камандзір палка, потым 26-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якая вызваляла тэрыторыю Гарадоцкага р-на. Генерал-маёр М. М. Каржанеўскі загінуў 9.1.1944 г.

У 1974 г. на вайсковых могілках створаны мемарыяльны комплекс (арх. Ю. Градаў, Л. Левін, С. Неўмывакін, скульпт. Ю. Патапаў), кампазіцыйна звязаны з пл. Леніна. Размешчаны на прамавугольным участку, мае сіметрычна-восевую планіроўку. Абапал цэнтральнага ўвахода пастаўлены абліцаваныя мармуровымі



925. *Мемарыяльны комплекс на Вайсковых могілках.*

плітамі стэлы — выцягнутыя па гарызанталі паралелепіпеды з урэзанымі ў іх жалезабетоннымі клінамі з памятнымі надпісамі. У цэнтры вымашчаны паліраванымі мармуровымі плітамі невысокі квадратны подыум, на якім скампанавана пяціканцовая зорка. У цэнтры зоркі — Вечны агонь. На адным з 4 вуглоў подыума пастаўлены невысокі каменны блок. Такой жа формы каменныя блокі ўстаноўлены ўздоўж прамавугольных газонаў мемарыяла. Комплекс завершаны ўстаноўленым на чатырохгранным пастаменце бронзавым бюстам камандзіра 26-й гвардзейскай Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі гвардыі генерал-маёра М. М. Каржанеўскага.

У архітэктурна-мастацкім вырашэнні комплексу ўвасоблена ідэя патрыятызму і гераізму савецкага народа.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. В. Кірэйшын, А. М. Кулагін.*

**926. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На перакрыжаванні вул. К. Маркса з вул. Пралетарскай.

Камандаванне нямецка-фашысцкіх войск надавала вялікае значэнне Гарадку як важнаму апорнаму пункту на Віцебскім напрамку. На подступах да горада былі створаны 4 лініі ўмацаванняў, сцягнуты буйныя сілы. Да войск 3-й танкавай і паўднёвага крыла 16-й армій, якія абаранялі гарадоцкі выступ, гітлераўцы перакінулі 2 пяхотныя дывізіі з-пад Ленінграда, 5 пяхотных і 1 танкавую дывізію з паўднёвага крыла групы армій «Цэнтр». Горад вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ходзе Гарадоцкай наступальнай аперацыі (13—31.12.1943 г.) войскамі правага крыла 1-га Прыбалтыйскага фронту. Да 21.12.1943 г. савецкія войскі авалодалі 2 знешнімі лініямі абароны ворага і выйшлі на рубеж воз. Кашо, рэк Гаражанка і Пальмінка. 23 снежня была прарвана і 3-я лінія абароны. У ноч на 24 снежня 83-я гвардзейская і 26-я гвардзейская стралковая дывізіі з захаду, 11-я гвардзейская з усходу і 5-я гвардзейская стралковыя дывізіі з поўначы пайшлі на штурм Гарадка. У выніку цяжкіх баёў апоўдні 24 снежня горад быў вызвалены. Часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў баях за Гарадок: 5-й, 11-й, 26-й Усходне-Сібірскай, 83-й гвардзейскім Чырванасцяжным стралковым дывізіям, 10-й гвардзейскай танкавай брыгадзе, 545-у мінамётнаму, 523-у карпусному артылерыйскаму, 488-у гарматна-артылерыйскаму палкам, 2-й гвардзейскай Чырванасцяжнай мінамётнай дывізіі, 259-й знішчальнай авіядывізіі, 17-й знішчальнай процітанкавай артылерыйскай брыгадзе, 6-му гвардзейскаму інжынернаму батальёну — нададзены ганаровыя найменні «Гарадоцкіх».

У 1975 г. ў гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пастаўлены помнік — V-падобная двухгранная стэла. У цэнтры яе аб'ёмная выява пяціканцовай зоркі, у завяршэнні — 12 пліт з назвамі часцей і злучэнняў, якія вызвалялі горад. Абапал стэлы — 2 гарызантальныя бетонныя блокі з надпісамі-інфармацыяй.

*М. В. Кірэйшын.*

**927. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На пл. Леніна. Пастаўлены ў 1959 г. (скульпт. П. Яцына; бронза, граніт; вышыня фігуры 3,5 м, пастамента 3 м). Помнік вырашаны ў традыцыях савецкай манументальнай скульптуры 1950-х гадоў. Пастамент — прамавугольны ступеньчаты аб'ём, абліцаваны плітамі паліраванага граніту. Фігура У. І. Леніна пададзена ў стрыманым руху, правая рука ўскінута наперад. Дакладна перададзены партрэтныя рысы Уладзіміра Ільіча. Выразныя пластычныя формы надаюць фігуры велічнасць і ўрачыстасць.

*Л. Г. Лапцэвіч.*



927. *Помнік У. І. Леніну.*

**928. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Віцебскай шашы, насупраць СПТВ-48. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1980 г.

**929. ПОМНІК У ГОНАР ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст., маст.). Вул. Баграмяна.

У ходзе Гарадоцкай наступальнай аперацыі часці 11-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту 24.12. 1943 г. вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў г. Гарадок. У баях за горад прымалі ўдзел воіны 2-й гвардзейскай мінамётнай дывізіі. У ліку 12 воінскіх часцей, якія вызначыліся ў гэтых баях, ёй прысвоена ганаровае найменне «Гарадоцкай».

У 1983 г. да 40-годдзя з дня вызвалення Гарадка ў гонар воінаў 2-й гвардзейскай Чырванасцяжнай ордэна Аляксандра Неўскага Гарадоцка-Берлінскай мінамётнай дывізіі вучнямі школы № 703 г. Масквы быў распрацаваны і ажыццёўлены праект помніка. Помнік — асіметрычная кампазіцыя, дамінантай якой з'яўляецца вертыкальная стэла з рэльефнымі выявамі ордэнаў Чырвонага Сцяга і Аляксандра Неўскага. На другім плане — гарызантальная бетонная панель са стылізаванай рамай ракетнай устаноўкі, мемарыяльнай дошкай-прысвячэннем, выявамі зоркі і ордэнскай ленты.

*У. У. Бянько, А. М. Кулагін.*

**930. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). Вядомы пад назвай «гарадоцкая кераміка».



926. *Помнік Вызвалення.*



930. *Гарадоцкая кераміка.*

Асаблівага росквіту промысел дасягнуў у 17 — 1-й палавіне 19 ст. Тут выраблялі́ся збанкі, місачкі, талеркі, чыгункі, куфлікі і іншы бытавы посуд з мясцовай чырвонай гліны, паліваны і тэракотавы. Колер палівы сіні, зялёны, карычневы. З пачатку 20 ст. рабілі посуд з рэльефнай аздобай (талеркі, вазы, кружкі, дэкаратыўныя блюды, хлебніцы і інш.). У 1930 г. гарадоцкія майстры аб'ядналіся ў цэхмайстэрню. Акрамя бытавога посуду, выраблялі дэкаратыўныя талеркі з надпісамі і дробную пластыку (фігуркі бараноў, ільвоў, цацкі-свістулькі). Цяпер ганчары працуюць пры ганчарным цэху Гарадоцкага прамкамбіната, выраблююць паліваныя і тэракотавыя вазоны і збанкі. Некаторыя майстры паказваюць свае вырабы на мастацкіх выстаўках.

*Літ.:* Елатомцева И. Художественная керамика Советской Белоруссии.— Мн., 1966. *Д. С. Трызна.*

**в. Азёркі, Хмяльніцкі сельсавет**

**931. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 74 воіны і 54 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Альхавец, Хмяльніцкі сельсавет**

**932. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 400 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны 233 савецкія воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**933. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля вёскі, пры дарозе ў в. Двуполле. 5 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіў у 1972 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Аляксеева, Хмяльніцкі сельсавет**

**934. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі. 6 курганоў. 4 круглыя вышынёй 1—2 м, дыяметрам 6—8 м, адзін вышынёй да 3,5 м, дыяметрам 20 м і адзін падоўжаны памерам 6×8 м, вышынёй 1,5 м. Вядомы з 1893 г., абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**935. МАГІЛА САВІНА** Мікалая Аркадзевіча (гіст.). На могілках. Партызан М. А. Савін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асмата, Халамерскі сельсавет**

**936. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 4 курганы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Астраўляны, Вайханскі сельсавет**

**937. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 141 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Аўдзейкава, Гуркінскі сельсавет**

**938. МОГІЛЬНІК-ЖАЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, на востраве воз. Езярышча. Каля 40 магілжальнікаў вышынёй 0,5 м, дыяметрам 3—4 м, зверху абкладзеных камянямі. Выявіў і абследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыбінёй да 1 м.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Ахрамеева (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**939. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ахрамеева знаходзілася за 1 км на паўднёвы ўсход ад в. Лапцёўка. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (13 чалавек, 17 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



933. *Курганны могільнік.*

**в. Баброва, Мяжанскі сельсавет**

**940. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ МЕХАЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). З чэрвеня да верасня 1942 г. тут размяшчаўся Мехаўскі падпольны райком КП(б)Б. Дзейнічаў з 17.7 да 15.10.1941 г. і з 9.6.1942 г. да 21.11.1943 г. Сакратары — І. Т. Гуцаў, Е. І. Ярашэнка, В. І. Ізраіліт (загінуў), Я. Н. Барсукоў, М. Ф. Сафронаў. Райком узначальваў камуністычнае падполле, партызанскі рух, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва.

У 1975 г. ў памяць аб размяшчэнні ў вёсцы Мехаўскага падпольнага райкома КП(б)Б на будынку былой школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.

**в. Балотніца, Руднянскі сельсавет**

**941. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, на тэрыторыі Марчанскага сельсавета. Пахаваны 35 савецкіх воінаў, якія памерлі ад ран у шпіталі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**942. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У канцы верасня 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 33 жыхароў і спалілі вёску. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бегуны, Вайханскі сельсавет**

**943. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 73 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Беразнякі, Вайханскі сельсавет**

**944. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У брацкай магіле пахаваны старшына Н. С. Градасаў і І. Салдаценка, якія загінулі ў 1944 г. Побач пахаваны палкоўнік Д. Ф. Лагачоў (загінуў 27.12.1943 г.), маёр М. І. Вялаў (загінуў 27.12.1943 г.), старшы лейтэнант В. А. Ляпусцін (загінуў у 1944 г.). У 1960 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**945. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны воіны, што памерлі ў 1944 г. ад ран у шпіталі. У 1960 г. пастаўлены абеліск.




943. *Помнік землякам.*

**в. Бібіна, Руднянскі сельсавет**

**946. ГАРАДЗІШЧА** (ахеал.). Мясцовая назва Т а р э л к а. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, за 2 км на захад ад воз. Задрачча, на гары вышынёй да 25 м. Пляцоўка круглая, дыяметрам да 46 м. На схілах гары прыкметны рэшткі вала вышынёй да 0,5 м. З паўночнага боку захаваўся роў глыбінёй да 2 м. Вядома з 1969 г. Даследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт 1,5 м. Знойдзены кераміка днепрадзвінскай культуры, косці жывёлы. Датуецца 6 ст. да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Быкі, Бычыхінскі сельсавет**

**947. МЕСЦА ГІБЕЛІ РУДЫКА** Мікалая Марцінавіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, злева ад дарогі Гарадок — Езярышча. 16.12.1943 г. ў няроўным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінуў камандзір танкавай роты Герой Савецкага Саюза М. М. Рудык. Пахаваны на Вайсковых могілках у в. Мехавое Гарадоцкага р-на (гл. артыкул № 1040 «Вайсковыя могілкі»). У 1964 г. на месцы гібелі М. М. Рудыка пастаўлены абеліск.

**948. ПОМНІК АНТОНАВУ** Івану Мікалаевічу (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1967 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза І. М. Антонава, які загінуў 16.12.1943 г. ў баі за вызваленне в. Быкі і чыгуначнай станцыі Бычыха, пастаўлена стэла.

І. М. Антонаў пахаваны на вайсковых могілках у в. Мехавое Гарадоцкага р-на (гл. артыкул № 1040 «Вайсковыя могілкі»).

**в. Бычыха, цэнтр сельсавета**

**949. МАГІЛА ТПАНЯЕВА** Аляксандра Фёдаравіча (гіст.). На тэрыторыі Бычыхінскага льнозавода. Савецкі воін А. Ф. Тпаняеў загінуў у 1944 г. пры вызваленні Гарадоцкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**950. МЕСЦА РАЗГРОМУ ВАРОЖАГА ГАРНІЗОНА** (гіст.).

У ноч з 14 на 15.7.1942 г. партызаны 2-й Беларускай партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі (камандзір М. І. Дзячкоў, камісар Я. Н. Барсукоў) разграмілі фашысцкі гарнізон на чыгуначнай станцыі Бычыха і тэрыторыі былой МТС. Гарнізон ахоўвалі 184 гітлераўцы, узброеныя аўтаматамі, ручнымі і станковымі кулямётамі і 45-міліметровай гарматай. Тэрыторыя МТС была абнесена 2 радамі калючага дроту, з паўднёва-заходняга боку выкапаны акопы і траншэі. Партызаны знішчылі больш за 100 варожых салдат і афіцэраў, спалілі казарму, будынак чыгуначнай станцыі, нафтабазу, некалькі складоў, аўтамайстэрні, 8 аўтамашын, разбурылі чыгуначнае палатно, узарвалі ў наваколлі 4 масты, знішчылі 7 км тэлеграфна-тэлефоннай сувязі.

У 1965 г. ў гонар баявых дзеянняў партызан на будынку чыгуначнай станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Л о б а н о к В. Е. Партизаны Витебщины в боях за Родину.— Мн., 1959.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Бярозаўка, Хмяльніцкі сельсавет**

**951. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА 2-й БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ П. К. ПАНАМАРЭНКІ** (гіст.). У вёсцы з мая да сярэдзіны чэрвеня 1942 г. размяшчаўся штаб 2-й Беларускай партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі, якая дзейнічала на тэрыторыі Мехаўскага, Гарадоцкага і Суражскага р-наў.

2-я Беларуская партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі створана ў маі 1942 г. на базе Мехаўскага партызанскага атрада. Камандзіры — М. І. Дзячкоў (май 1942 г.— сакавік 1943 г.), Я. Н. Барсукоў (сакавік — верасень 1943 г.), М. Ф. Сафронаў (верасень — снежань 1943 г.); камісары — К. Ф. Волкаў (май — чэрвень 1942 г.), Я. Н. Барсукоў (чэрвень



948. *Помнік І. М. Антонаву.*

1942 г.— сакавік 1943 г.), М. Ф. Сафронаў (сакавік — верасень 1943 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Віцебск — Невель, Полацк — Невель, Віцебск — Полацк, на шашэйных і грунтавых дарогах. У 1942 г. разграмілі гарнізоны ворага ў вёсках Вадзянікі, Шмані, на станцыях Бычыха, Езярышча, на тэрыторыі былой Мехаўскай МТС Мехаўскага р-на, у вёсках Смалоўка, Бяскатава Гарадоцкага р-на, в. Чурылава Усвяцкага р-на Смаленскай вобл., у жніўні 1943 г.— у в. Дуброва Гарадоцкага р-на. У час «рэйкавай вайны» на чыгунцы Віцебск — Невель падарвалі больш за тысячу рэек. У верасні — кастрычніку 1942 г. і лютым, маі — чэрвені 1943 г. вялі баі супраць карнікаў. У кастрычніку — снежні 1943 г. брыгада (274



952б. *Курганны могільнік. Адзін з курганоў.*

партызаны, атрады: імя Чапаева 1-ы, «Мсцівец» 2-і, 3-і, 4-ы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1972 г. ў памяць аб гэтай падзеі ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла.

**в. Бярозна,**
**Стадолішчанскі сельсавет**

**952. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**952а.** Гарадзішча. За 1 км на захад ад вёскі, на гары, каля лясной дарогі ў в. Дубікава. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 23×46 м, пашкоджана могілкамі 19 ст. Ніжэй пляцоўкі на больш спадзістых схілах захаваліся рэшткі вала вышынёй да 0,5 м. Абследавалі ў 1951 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт да 1,5 м. Знойдзены кераміка днепра-дзвінскай культуры, грубаляпны таўстаценны посуд, верагодна, 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. (культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны).

**952б.** Курганны могільнік. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі. 92 курганы вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 8—12 м. Густа зараслі лесам. Даследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. У 2 разбураных курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Штыхов Г. В. Работы Полоцко-Витебского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975.
*Г. В. Штыхаў.*

**в. Бяскатава,**
**Стадолішчанскі сельсавет**

**953. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 378 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**954. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**954а.** Гарадзішча Папова Гара. На паўднёвай ускраіне вёскі, на пагорку вышынёй 20 м. Пляцоўка памерам 45×40 м. Даследаваў у 1965 г. К. П. Шут. Культурны пласт 1 м. Знойдзены ляпная гладкасценная і тэкстыльная кераміка ранняга жалезнага веку і рэшткі ганчарных гаршкоў. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—8 стагоддзямі.

**954б.** Селішча. Побач з гарадзішчам, на плошчы 1 га. Абследаваў у 1965 г. К. П. Шут. Сабрана ляпная гладкасценная кераміка. Адносіцца



**954а.** *Гарадзішча.*

да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—8 стагоддзямі.

**954в.** Курганны могільнік. За 0,3 км на ўсход ад гарадзішча. 12 курганоў. Адзін доўгі вышынёй 2 м, шырынёй 10 м, даўжынёй 25 м, чатыры падоўжаныя вышынёй 2 м, шырынёй 10 м, даўжынёй 15 м, астатнія круглыя вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 6—8 м. У 1975 г. Г. В. Штыхаў даследаваў 2 насыпы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены 2 касцяныя фігуркі птушак, бронзавае плоскае скроневае кольца з адтулінамі для трапецападобных падвесак, шкляная зялёная пацерка, касцяное прасліца, ляпны гаршчок. Належаў полацкім крывічам, датуецца 8—9 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шут К. П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966.
*Г. В. Штыхаў.*

**в. Вархі,**
**цэнтр Першамайскага сельсавета**

**955. МАГІЛА ФЯДУЛАВА** В. І. (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Падпалкоўнік В. І. Фядулаў загінуў 26.12. 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі. У 1944 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**956. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 177 землякоў з вёсак калгаса імя У. У. Маякоўскага, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлена стэла.

**957. ПОМНІК МАЯКОЎСКАМУ** Уладзіміру Уладзіміравічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. У. Маякоўскага, імем якога названы мясцовы калгас, устаноўлены ў 1980 г.



**959.** *Помнік на вайсковых могілках.*

**в. Верамеева, Першамайскі сельсавет**

**958. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, за 50 м злева ад дарогі Гарадок — Езярышча. Пахаваны 644 савецкія воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на могілках пастаўлена стэла.

**в. Віраўля, цэнтр сельсавета**

**959. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 482 савецкія воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1980 г. на могілках пастаўлены помнік — архітэктурна-скульптурная кампазіцыя: высокая бетонная стэла, абапал яе 2 ніжэйшыя стэлы з барэльефнымі выявамі эпізодаў бою.

**960. МАГІЛА ЯКУШЭВІЧ** Марыі Іванаўны (гіст.). На могілках. Партызанская сувязная М. І. Якушэвіч загінула ў лістападзе 1942 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вусце (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**961. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Вусце знаходзілася за 3 км на захад ад в. Асмата. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (15 чалавек, 14 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Вышадкі, Стадолішчанскі сельсавет**

**962. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля школы. Пахаваны савецкія воіны (161 чалавек), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў снежні 1943 г. пры вызваленні тэрыторыі Стадолішчанскага сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**963. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**963а.** Г а р а д з і ш ч а. За 0,25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на мысе воз. Вышадскае. Пляцоўка памерам 40×70 м, узвышаецца над возерам на 12 м. З заходняга боку абмежавана балотам. Па краі гарадзішча захаваліся рэшткі вала вышынёй 0,5 м. Даследаваў у 1971 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 1 м. Знойдзена шмат ляпной керамікі, а таксама праслíца цыліндрычнай формы днепра-дзвінскай культуры і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

**963б.** К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. Недалёка ад гарадзішча, на паўднёвым беразе воз. Вышадскае, пры дарозе ў в. Целяшова. 207 курганоў, большасць з іх круглыя, некаторыя падоўжаныя. Вышыня круглых курганоў ад 0,3 да 2,5 м, дыяметр 3—8 м, самы вялікі вышынёй 5 м, дыяметрам 20 м. Памеры падоўжаных курганоў 8×6×0,7 м і 6×4×0,8 м. У 1971, 1980 гг. Г. В. Штыхаў даследаваў 25 насыпаў. У 11 пахавальны абрад трупаспаленне, у 8 курганах — трупапалажэнне ў падкурганных ямах, у 6 курганах пахаванняў не было.

Курганы з трупаспаленнем амаль без пахавальнага інвентару, зрэдку трапляецца кераміка. У адным кургане знойдзены 300 фрагментаў бронзавых вырабаў (150 кавалкаў ад ланцужка), трапецападобныя падвескі, буйныя спіралькі ад галаўнога ўбору, сердалікавыя, хрусталёвыя і шкляныя пацеркі, кераміка. У курганах з трупапалажэннем знойдзены абломак жалезнага сярпа, шкляныя і алавяныя пацеркі, ганчарны посуд, бронзавая падвеска-конік. Могільнік належаў полацкім крывічам, датуецца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Вярэчча, цэнтр сельсавета**

**964. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 300 м на ўсход ад вёскі, на ўзлессі. Пахаваны 84 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**965. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 50 савецкіх грамадзян, якіх ў канцы лютага 1943 г. загубілі гітлераўскія карнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**966. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 мірных грамадзян, якіх у сакавіку 1943 г. спалілі гітлераўцы. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**963а.** *Гарадзішча. План.*



**973.** *Помнік на вайсковых могілках.*

**967. МАГІЛА БРУСЕНІНА** Міхаіла Аляксеевіча (гіст.). На могілках. Партызан М. А. Брусенін загінуў 30.12. 1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**968. МАГІЛА ЛАЎРЫНОВІЧА** Аляксандра Максімавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. М. Лаўрыновіч загінуў 20.10.1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**969. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 49 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Газьба, цэнтр сельсавета**

**970. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 168 жыхароў сельсавета, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Гары, Бычыхінскі сельсавет**

**971. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 133 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (2 воіны).

**в. Гумнічына (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**972. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гумнічына знаходзілася за 5 км на паўночны захад ад в. Майсеева. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі (39 чалавек, 12 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Гуркі, цэнтр сельсавета**

**973. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Злева ад дарогі Гарадок — Езярышча. Пахаваны 1423 савецкія воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксандр Васілевіч Цюрын.

А. В. Цюрын нарадзіўся 14.8.1905 г. ў в. Дзеўшыха Сакольскага р-на Іванаўскай вобл. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў загадчыкам фермы, старшынёй калгаса. На фронце з лістапада 1941 г. Вызначыўся ў баях за вызваленне Гарадоцкага р-на. 11.10.1943 г. ў баі за вышыню закідаў гранатамі дзот, знішчыў станковы кулямёт. 12 кастрычніка да падыходу падмацавання адбіваў атакі ўзвода гітлераўцаў, знішчыў кулямётны разлік. 17 кастрычніка гранатамі вывеў са строю самаходную гармату праціўніка, што садзейнічала паспяховаму наступленню пяхоты. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза А. В. Цюрыну прысвоена 4.6.1944 г.

У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Дарахі, Руднянскі сельсавет**

**974. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). Каля вёскі, на паўднёвым беразе воз. Сенніца. Каля 150 курганоў. Даследаваў у 1971, 1973, 1975 гг. Г. В. Штыхаў.

**974а.** Могільнік-1. За паўднёвай ваколіцай вёскі. 12 курганоў дыяметрам 7—11 м, вышынёй 0,5—1 м. Адзін курган доўгі, памерам 22×10 м, вышынёй 1,2 м. Раскапана 9 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе, рэшткі былі ў гліняным гаршку слоікавай формы. Часам урна накрыта другім гаршком. Знойдзены жалезныя спражка, цуглі, а таксама зубы быка. Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

**974б.** Могільнік-2. За 2 км на ўсход ад вёскі, на паўднёвым беразе воз. Сенніца, ва ўрочышчы Яўграфаў Хутар. 17 падоўжаных і авальных насыпаў вышынёй 1,5—2,2 м, даўжынёй 8 м, шырынёй 6—7 м. Раскапаны 3 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў ямах, накрытых перавернутым ляпным гаршком. Сярод перапаленых касцей былі рэшткі бронзавых вырабаў (спіралькі, плоскае скроневае кольца з канцамі ў выглядзе сярпа). Датуюцца курганы 8—9 стагоддзямі, належалі крывічам.

**974в.** Могільнік-3. За 0,2 км на поўдзень ад могільніка-1. 5 насыпаў вышынёй да 1 м, дыяметрам да 7 м. Даследаваны ў 1973 г. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

**974г.** Могільнік-4. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. 15 курганоў дыяметрам 6—9 м, вышынёй 1—2 м. 5 раскапаны ў 1973 і 1975 гг. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе. Знойдзена кераміка 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., невялікая жалезная шпора і спражка.

**974д.** Могільнік-5. За 2,5 км на ўсход ад вёскі, за ўрочышчам Яўграфаў Хутар. 63 курганы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 6—8 м. Даследавана 10 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне пад насыпам, на месцы невялікага рытуальнага вогнішча. Нябожчыкі арыентаваны галавой на захад, за выключэннем аднаго кургана, у якім з 3 пахаванняў 2 арыентаваны галавой на поўнач. Знойдзены бронзавыя лірападобная і прамавугольная спражкі, шкляныя і жалезныя пацеркі, жалезнае крэсіва, касцяны грэбень з футаралам, падковападобная фібула, ганчарны гаршчок. Курганы насыпаны на месцы паселішча 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., датуюцца 2-й палавінай 10—11 ст., належалі крывічам.

**974е.** Могільнік-6. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Кайкі. 7 курганоў вышынёй да 1 м, дыяметрам 6—8 м. У 1973 і 1975 гг. даследаваны 4 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены гліняны посуд 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

**974ж.** Могільнік-7. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Зуевы Ляды. 3 курганы дыяметрам 7—8 м, вышынёй да 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

**974з.** Могільнік-8. За 0,7 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Копаная Ель. 4 курганы дыяметрам 8—9 м, вышынёй да 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

**974і.** Могільнік-9. За 1 км на поўдзень ад вёскі. 6 курганоў дыяметрам 6—7 м, вышынёй да 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

**974к.** Могільнік-10. За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, побач з могільнікам-9. 3 курганы дыяметрам 8—9 м, вышынёй да 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

**974л.** Могільнік-11. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля дарогі на в. Рудня. 3 курганы дыяметрам 7—8 м, вышынёй 1—2 м. Раскопкі не праводзіліся.

Апрача пералічаных, у ваколіцы вёскі ёсць некалькі асобных курганоў. Адзін з іх вышынёй 3 м і дыяметрам 20 м знаходзіцца ва ўрочышчы Казённы Лес.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Исследование курганов в Северной Белоруссии (VI—X вв.).— У кн.: Тезисы докладов советской делегации на III Международном конгрессе славянской археологии. Братислава, сентябрь 1975 г. М., 1975; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972.

*Г. В. Штыхаў.*



**974д.** *Знаходкі з могільніка-5.*

**975. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У вясковым скверы. Пахаваны астанкі 39 жыхароў, якіх у 1942 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Даўгаполле, Даўгапольскі сельсавет**

**976. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 93 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дзеравушка, Халамерскі сельсавет**

**977. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у густым лесе. 50 курганоў у плане падоўжаных, круглых. 2 самыя вялікія вышынёй да 3 м, даўжынёй 10 м, шырынёй 6 м, вакол іх ёсць глыбокія раўкі. Вышыня астатніх курганоў 1—2 м, дыяметр — 10 м. Выявіў у 1965 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Дубраўкі, Марчанскі сельсавет**

**978. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 288 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны. У 1963 г. на



978. *Помнік на вайсковых могілках.*

могілках пастаўлены помнік — абеліск і корпус бронемашыны.

**979. КАМЕННЫЯ КРЫЖЫ** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на могілках 16—19 стагоддзяў, каля курганнага могільніка Дуброўкі. Крыжы пастаўлены на магілах, абкладзеных камянямі. Вышыня крыжоў 0,5—1,2 м. Некаторыя датуюцца 14—17 стагоддзямі.

**980. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, каля воз. Беленькае, побач з сучаснымі могілкамі. Захавалася 20 курганоў вышынёй 0,5 м, дыяметрам 5—9 м. Некаторыя, напэўна, тыпу жальнікаў. У 1901 г. Л. Ю. Лазарэвіч-Шапялевіч раскапаў 3 курганы, у 2 пахавальны абрад — трупапалажэнне, у трэцім — трупаспаленне. У адным пахаванні былі жалезныя нож і кольца, у другім — шкілет і гаршчок грубай работы. Абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Паводле Л. Ю. Лазарэвіча-Шапялевіча, курганы належалі ўсходнім славянам. Матэрыялы раскопак не зберагліся.

*Літ.:* Лазаревич-Шепелевич Л. Ю. Извлечение из отчета об исследованиях и раскопках, произведенных в 1901 г. в Витебской губернии.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1904, в. 6.
*Г. В. Штыхаў.*

**в. Дуброва, Вярэцкі сельсавет**

**981. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўскраіне вёскі, за 200 м ад калгаснай фермы. Пахаваны 30 мірных жыхароў, якіх 26.2.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



979. *Каменны крыж.*

**в. Дуброва, Стадолішчанскі сельсавет**

**982. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (2 воіны).

**983. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). За 4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Шчалбоўскі лес. Тут дыслацыраваліся партызанскія брыгады 1-я Беларуская, 2-я Беларуская імя П. К. Панамарэнкі, імя М. І. Кутузава.

1-я Беларуская партызанская брыгада створана ў красавіку 1942 г. на базе асобна дзейных атрадаў М. П. Шмырова («Бацькі Мінная»), А. П. Дзіка (пазней А. Дз. Гурко), Д. Ф. Райцава і М. Ф. Біруліна. Камандзіры брыгады М. П. Шмыроў (красавік — лістапад 1942 г.), Я. З. Захараў (лістапад 1942 г.— кастрычнік 1943 г.); камісары Р. У. Шкрэда (красавік 1942 г.— верасень 1943 г.), Ц. Р. Кавалеўскі (ліпень — верасень 1943 г., в. а.). Дзейнічала на тэрыторыі Суражскага, Віцебскага і Гарадоцкага р-наў. Партызаны наносілі ўдары па варожых камунікацыях на дарогах Сураж — Усвяты, Сураж — Веліж, Веліж — Усвяты, на чыгунках і шашэйных дарогах Віцебск — Гарадок, Віцебск — Полацк, па воднай камунікацыі — р. Заходняя Дзвіна. У верасні 1941 г. разграмілі гарнізон у г. п. Сураж. З лютага да верасня 1942 г. разам з часцямі 4-й Ударнай арміі ўтрымлівалі паўднёвыя подступы да Віцебскіх «варот», забяспечвалі праз іх зносіны з савецкім тылам. У сакавіку, чэрвені і снежні 1942 г., лютым — сакавіку, маі і чэрвені 1943 г. вялі баі супраць карнікаў. Наносілі ўдары па варожых гарнізонах і апорных пунктах ворага ў вёсках Малая Любшчына, Вялікая Любшчына (май 1942 г.), Смалоўка (жнівень 1942 г.), Пунішча (снежань 1942 г.), падарвалі нафтабазу і знішчылі склады са збожжам у Гарадку (май 1942 г.). 26.10.1943 г. брыгада [756 партызан, атрады: імя Курмялёва, Буеўскі, Дзіка (былы Дз. Я. Воранава), Машкова, Жаваранкава] злучылася з Чырвонай Арміяй.

Пра 2-ю Беларускую партызанскую брыгаду імя П. К. Панамарэнкі гл. ў артыкуле № 951 «Месца размяшчэння штаба 2-й Беларускай партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі».

Партызанская брыгада імя М. І. Кутузава створана ў верасні 1942 г. на базе атрада С. Т. Воранава. Камандзір брыгады С. Т. Воранаў, камісар П. Я. Рыбакоў. Дзейнічала на тэрыторыі Гарадоцкага, Мехаўскага і Суражскага р-наў. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Віцебск — Невель, шашы Віцебск — Гарадок і іншых дарогах. Разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Быкі і Прывальні (1942 г.), Дуброва, Лапушніца, Луньні, Козырава, Раманава, Стары і Новы Болецк, Селязні (1943 г.). У лютым — сакавіку і маі 1943 г. вялі баі супраць карнікаў. У час «рэйкавай вайны» ў жніўні 1943 г. падарвалі больш за 500 рэек. 4.11.1943 г. брыгада (315 партызан, атрады 1-ы, 2-і, 3-і) злучылася з Чырвонай Арміяй.



983. *Помнік партызанам. Фрагмент.*

У 1979 г. ў гонар партызанскіх брыгад пастаўлены помнік — шасціметровая скульптурная выява партызана і стэла з надпісам-інфармацыяй. На пагорку — бетонная пліта, якая імітуе ўваход у зямлянку.

*Літ.:* Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964.
*М. В. Кірэйшын.*

**в. Евіна, Пальмінскі сельсавет**

**984. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 150 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 297 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

## IX. ЕЗЯРЫШЧА

Гарадскі пасёлак у Гарадоцкім р-не. Размешчана на паўднёвым беразе воз. Езярышча, за 41 км на паўночны захад ад Гарадка, 80 км ад Віцебска, на шашы Віцебск — Невель. Чыгуначная станцыя на лініі Віцебск — Невель.

Езярышча (Азярышча) вядома з 1377 г. як цэнтр Езярышчанскай воласці. Уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, прыватнае уладанне. З 1580 г. належала Грахольскім, потым Сакалінскім, Агінскім,

Панятоўскім, Салагубам. У 1-й палавіне 18 ст. тут узнікла палатняная фабрыка. З 1772 г. ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Гарадоцкага павета. У 1886 г. ў Езярышчы 204 жыхары, 31 двор, школа, царква, 2 карчмы. У пачатку 19 ст. працавалі аднакласныя мужчынскае і жаночае народныя вучылішчы. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1924—29 гг. цэнтр Езярышчанскага, з 1935 г.— Мехаўскага р-на. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў Езярышчы быў створаны знішчальны батальён (107 чалавек). З 17.7.1941 г. да 19.12.1943 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі Мехаўскія падпольныя райкомы КП(б)Б (17.7—15.10.1941 г.; 9.6.1942 г.— 21.11.1943 г.) і ЛКСМБ (17.7 — 15.10.1941 г.; 15.4.1942 г.— 1.12. 1943 г.). З 1957 г. Езярышча — гарадскі пасёлак, з 1958 г.— цэнтр Езярышчанскага р-на, з 1962 г.— у складзе Гарадоцкага р-на.

Развіццё пасёлка звязана з пракладкай шашы Пецярбург — Адэса і чыгункі Невель — Орша — Оўруч. Уздоўж гэтых магістралей сфарміравалася рэгулярная планіровачная сетка сядзібных кварталаў. Установы культурна-бытавога прызначэння сканцэнтраваны паміж вуліцамі Ленінскай і Водаправоднай (універмаг, кінатэатр, рэстаран, гасцініца). Працуюць: хлебазавод, участак раённага камбіната бытавога абслугоўвання, лесаўчастак Віцебскага леспрамгаса, школы сярэдняя, васьмігадовая школа-інтэрнат, музычная, дзіцячы сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, метэастанцыя. Зона адпачынку — па берагах воз. Езярышча.

*Літ.:* Витебская губерния. В. 1.— Витебск, 1890; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Памятная книжка Витебской губернии на 1910 год.— Витебск, 1910; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967.

*Г. М. Новікава, А. М. Кулагін.*

**985. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Па вул. Ленінскай, у скверы. Пахаваны 184 савецкія воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні Езярышча і суседніх населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 360-й стралковай дывізіі і камандзір 159-й танкавай брыгады 1-га танкавага корпуса палкоўнік С. П. Хайдукоў. Тут пахаваны таксама 4 партызаны.



985. *Вайсковыя могілкі.*



985. *Помнік на магіле С. П. Хайдукова.*

У 1963 г. на могілках пастаўлены абеліск, на магіле С. П. Хайдукова — танк.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973.

**986. ЗАМЧЫШЧА** (археал., гіст.). За 3 км ад г. п. Езярышча, на востраве воз. Езярышча, каля в. Мястэчка. Пляцоўка чатырохвугольнай формы, памерам 100×120 м. З усходняга і паўночнага бакоў захаваліся валы вышынёй 2—4 м, выразна відаць месцы, дзе былі 3 вежы. Дыяметры іх каля 15 м. З паўночнага боку прасочваецца роў, які аддзяляў Замчышча ад астатняй тэрыторыі вострава. У час паводкі нізкая частка залівалася вадой і Замчышчаператваралася ў астраўную крэпасць. Паводле польскага храніста Р. Гейдэнштэйна, замак Езярышча ў 16 ст. меў значныя ўмацаванні і разам з Полацкам панаваў «над усім краем». У час Лівонскай вайны ў 1565 г. быў узяты рускімі войскамі, спалены, потым адбудаваны. У 1579 г. яго захапіў Стэфан Баторый і знішчыў, пазней адноулены. У пачатку 17 ст. ў час пажару ўмацаванні згарэлі, былі адбудаваны па загаду караля Зыгмунта III Вазы езярышчанскім старостам К. Сакалінскім. У жніўні 1654 г. рускія войскі на чале з ваяводам Сямёнам Стрэшневым захапілі замак.

Замчышча абследаваў у 1950 г. Л. В. Аляксееў. У 1971 г. Г. В. Штыхаў зрабіў план Замчышча і правёў шурфоўку (2×2 м). У 1979 г. В. М. Ляўко правяла раскопкі (на плошчы 100 м$^2$) і прарэзку паўднёвай вежы, якая паказала, што вышыня насыпу ад цэнтра да асновы 6 м, радыус — 12 м. Ядро пачатковага вала з шчыльнай ярка-чырвонай гліны, вышынёй 1,5 м. Насыпы вала і пад асновай вежы раздзяляліся ровам глыбінёй 0,8 м. На пляцоўцы, якая была асновай вежы, выяўлены фундамент (каля 1 м) з сумесі гліны, пяску, гравію і дробнага каменя. Вышэй яго залягала праслойка цямнай афарбоўкі з вялікай колькасцю вугалю і попелу, над якой прасочаны рэшткі драўляных канструкцый. Яны перакрываліся культурным пластом каля 1 м чорнай афарбоўкі, дзе быў больш позні падмурак вежы, складзены з 2 ярусаў буйных валуноў. Знойдзеная кераміка сведчыць, што пабудова і аднаўленне вежы адносіцца да 14—15 стагоддзяў. У раскопе плошчай 100 м$^2$ на паўднёвай ускраіне гарадзішча каля вала культурны пласт 0,15—0,4 м. У мацерыку выяўлена многа ям, запоўненых попелам і шлакам. Большасць знаходак датуецца 14—15 стагоддзямі, асобныя — 16—17 стагоддзямі. Яны сведчаць, што ў гэты перыяд замчышча выкарыстоўвалася насельніцтвам як сховішча. Частка керамікі адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і да 9—10 стагоддзяў, што сведчыць аб наяўнасці тут паселішча яшчэ да пабудовы крэпасці.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Сементовский А. М. Памятники старины Витебской губернии.— У кн.: Памятная книжка Витебской губернии на 1867 год. СПб., 1867; Брэжго Э. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933; Левко О. Н. Феодальные памятники Северо-Восточной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

*В. М. Ляўко, Г. В. Штыхаў.*

**987. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны каля 400 жыхароў, загубленых гітлераўцамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**988. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне пасёлка, злева ад чыгункі Гарадок — Невель. Тут у 1941—43 гг. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі больш за 100 мірных жыхароў. У 1964 г. на ўшанаванне іх памяці на гэтым месцы пастаўлены абеліск.

**989. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне пасёлка. Тут у Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі



986. *Замчышча.*

расстралялі каля 100 мірных жыхароў. У 1964 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых на гэтым месцы пастаўлены абеліск.

**990. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка. Тут у лістападзе 1941 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 120 жыхароў. У 1969 г. на ўшанаванне іх памяці на гэтым месцы пастаўлены абеліск.

**991. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Ленінскай. Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**992. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На вул. Дзяржынскага. Тут 1.12.1942 г. гітлераўцы загубілі партызан-камсамольцаў М. М. Сухарукава і І. П. Кавалёва. У 1964 г. на месцы іх гібелі пастаўлены абеліск.

**в. Забарочча, Хмяльніцкі сельсавет**

**993. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя Р. С. Курмялёва 1-й Беларускай брыгады М. А. Буруноў, П. А. Буруноў, А. М. Чабатароў, якія загінулі ў 1943 г. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**994. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля вёскі, у лесе. Вядома ў літаратуры па назве вёскі Малое Забарочча. Пляцоўка авальная, памерам 26×30 м. Захаваліся рэшткі вала. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Выкарыстоўвалася, верагодна, як сховішча. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Загараны, Бычыхінскі сельсавет**

**995. МЕСЦА АНТЫФЕАДАЛЬНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН У 1797 г.** (гіст.). У вёсцы Загараны ў 1797 г. адбылося выступленне сялян супраць феадальнага прыгнёту.

У студзені — сакавіку 1797 г. Гарадоцкі, Невельскі, Веліжскі, Суражскі, Полацкі, Себежскі і іншыя паветы Беларускай губ. былі ахоплены масавым сялянскім рухам. У хваляваннях удзельнічала каля 14 тыс. чалавек. Сялянскія выступленні былі выкліканы ўзмацненнем прыгонніцкай эксплуатацыі, раздачай царскім урадам старосцінскіх (дзяржаўных) маёнткаў у прыватнае ўладанне ці ў арэнду памешчыкам і чыноўнікам, заменай чыншу паншчынай, злоўжываннямі памешчыкаў. Сяляне адмаўляліся выконваць феадальныя павіннасці, не падпарадкоўваліся арандатарам, уладальнікам маёнткаў, іх адміністрацыі.

Зімой 1797 г. буйное выступленне сялян адбылося ў вёсцы Загараны. У ім удзельнічала больш як 600 чалавек. Сяляне, узброеныя каламі, віламі, дубінамі, уварваліся ў двор памешчыка Дрэвіча і заявілі, што яны адмаўляюцца выконваць павіннасці і падпарадкоўвацца маёнткавай адміністрацыі. Для ўціхамірання сялян у вёску прыбылі чыноўнікі ў суправаджэнні паліцэйскіх. Аднак хваляванне сялян не толькі не спынілася, а набыло яшчэ больш востры характар. Калі земскі спраўнік хацеў арыштаваць аднаго з актыўных удзельнікаў выступлення, сяляне напалі на спраўніка і вызвалілі свайго таварыша. Чыноўнікі і паліцэйскія аказаліся бяссільнымі перад выступленнем сялян. У маёнтак былі выкліканы войскі, якія задушылі выступленне. Многія ўдзельнікі хваляванняў былі падвергнуты цялесным пакаранням, частка аддадзена пад суд.

*Літ.:* Чепко В. В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в.— Мн., 1972. *Г. І. Дулеба.*

**в. Задобрыя (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**996. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Задобрыя знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Азёркі. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску (23 двары). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Зайкава, цэнтр сельсавета**

**997. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. тут разбіты мемарыяльны парк. У 1966 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**998. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дубкі. 20 круглых і падоўжаных курганоў. Дыяметр круглых 6—9 м, вышыня 1—1,5 м, падоўжаныя памерам 6×8 м, вышынёй 1—1,5 м. Выявіў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**999. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км ад вёскі, на могілках. Пахаваны 12 жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.



998. *Курганны могільнік. Адзін з курганоў.*



1000. *Помнік землякам.*

**1000. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 102 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлена стэла.

**в. Залучча, Прудніцкі сельсавет**

**1001. МАГІЛА ПАСАДАВА** Рыгора Кузьміча (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Лейтэнант Р. К. Пасадаў загінуў 27.12.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зарэчча, цэнтр Даўгапольскага сельсавета**

**1002. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. 10.7.1941 г. стралковая рота 259-га стралковага палка на чале з намеснікам камандзіра роты па палітычнай частцы малодшым лейтэнантам І. З. Пугіным, прыкрываючы адыход батальёна, уступіла ў вёсцы ў няроўны бой з ворагам. Загінулі 75 савецкіх воінаў. У 1952 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**1003. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, каля могілак. 9 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 12—15 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1004. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 400 м на захад ад вёскі, на ўзлессі. Пахаваны 95 грамадзян, якіх у 1943 г. нямецка-фашысцкія

карнікі спалілі жывымі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кабішча, Пальмінскі сельсавет**

**1005. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўночны ўсход ад вёскі, на ўскрайку лесу. Пахаваны 354 савецкія воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1006. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ ЧЫРВАНАСЦЯЖНАГА ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА І ДЗЕЙНАСЦІ КАБІШЧАНСКАГА СЕЛЬСАВЕТА** (гіст.). Тут у 1942—43 гг. размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, якая дзейнічала на тэрыторыі Гарадоцкага, Мехаўскага і Суражскага р-наў. Дзейнічаў Кабішчанскі сельскі Савет.

Брыгада створана ў лістападзе 1942 г. на базе атрада Д. Ф. Райцава. Камандзір брыгады Д. Ф. Райцаў, камісары В. К. Перуноў (лістапад 1942 — верасень 1943 г.), І. І. Карнавухаў (студзень — люты 1943 г., в. а.), А. Я. Федарэнка (люты — сакавік 1943 г., в. а.), В. С. Цыганкоў (верасень — лістапад 1943 г.). Партызаны ўдзельнічалі ў стварэнні і абароне Суражскай партызанскай зоны, праводзілі дыверсіі на варожых камунікацыях. У жніўні 1943 г. на чыгунцы Віцебск — Гарадок падарвалі 120 рэек. Вялі баі супраць карнікаў (люты — сакавік, май — чэрвень 1943 г.). У канцы 1943 г. брыгада (363 партызаны, атрады 1-ы, 3-і, 7-ы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1942—43 гг. у тыле ворага дзейнічаў выканком Кабішчанскага сельскага Савета, які знаёміў насельніцтва са становішчам на франтах Айчыннай вайны, займаўся зборам грошай, аблігацый дзяржаўных пазык, каштоўнасцей у фонд Чырвонай Арміі, ажыццяўляў іншыя палітычныя і гаспадарчыя мерапрыемствы. Старшынёй выканкома сельскага Савета быў П. Ф. Ганчароў.

У 1975 г. насупраць будынка канторы саўгаса «50 гадоў ВЛКСМ» у памяць аб баявых дзяяннях брыгады і дзейнасці сельсавета пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 2. Кн. 1.— Мн., 1973. *М. В. Кірэйшын.*



**1005.** *Помнік на вайсковых могілках.*



**1006.** *Помнік у гонар партызанскай брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола і Кабішчанскага сельсавета.*

**в. Кавалі, Пралетарскі сельсавет**

**1007. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 100 м на паўднёвы захад ад вёскі. У 32 магілах пахаваны 399 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1959 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Казінова, Вайханскі сельсавет**

**1008. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1008а.** Г а р а д з і ш ч а. За 1 км на захад ад вёскі, на мысе, які абмываецца р. Усыса. Пляцоўка памерам 40×33 м, знаходзіцца на вышыні 10—20 м над узроўнем ракі і паніжаецца ў напрамку з поўначы на поўдзень. З паўднёвага боку прыкметны рэшткі рова глыбінёй да 0,4 м. З заходняга боку гарадзішча моцна падмыта вадой. Даследаваў у 1964 г. К. П. Шут (56 м²). Абследавала ў 1981 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт 0,3—0,6 м. Знойдзены жалезныя кап'ё з утулкай, двухшыпны наканечнік стралы і нож з гарбатай спінкай, гліняныя біканічныя прасліцы, 3 фрагменты посуду з расчосамі 3—6 стагоддзяў н. э., а таксама ляпны гладкасценны і архаічных форм посуд. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.

**1008б.** С е л і ш ч а. За 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Усыса, побач з гарадзішчам. Выявіў у 1972 г. і даследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт чорнага колеру 0,4—0,5 м, добра прасочваецца на плошчы 40×50 м. Знойдзена ляпная кераміка 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ш у т К. П. Памятник раннего железного века на севере Белоруссии.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966; А л е к с е е в Л. В. Полоцкая земля.— М., 1966; я г о ж. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**в. Казловічы, Канашынскі сельсавет**

**1009. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1010. ПОМНІК У ГОНАР 1-й БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ І АВІЯПАЛКА** (гіст.). За 800 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. У вёсках Казловічы, Загуззе, Канашы з кастрычніка 1942 г. да сакавіка 1943 г. знаходзіліся штаб 1-й Беларускай партызанскай брыгады (гл. ў артыкуле № 983 «Помнік партызанам») і атрад М. П. Растаргуева. Каля в. Казловічы зімой 1941—42 гг. быў партызанскі аэрадром, куды прыляталі самалёты 105-га гвардзейскага авіяпалка, які абслугоўваў Суражскую і суседнія з ёй партызанскія зоны.

У 1972 г. ў гонар 1-й Беларускай партызанскай брыгады і авіяпалка пастаўлены помнік.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 2. Кн. 1.— Мн., 1973. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Казлы (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**1011. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Казлы знаходзілася за



**1008а.** *Гарадзішча.*

6 км на паўднёвы захад ад в. Халамер'е. 18.4.1942 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 41 жыхара і спалілі вёску (19 двароў). Не адрадзілася. У 1964 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Канашы, цэнтр сельсавета**

**1012. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 29 воінаў і 5 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1013. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Непадалёку ад будынка выканкома сельсавета. У пачатку мая 1942 г. гітлераўскія карнікі спалілі жывымі 69 жыхароў былой в. Малгаці (злілася з в. Канашы). У 1964 г. тут пастаўлены абеліск.

**1014. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 1.5.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 29 жыхароў былой в. Гарадок (злілася з в. Канашы). У 1964 г. тут пастаўлены абеліск.

**в. Канчаны, Вайханскі сельсавет**

**1015. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 256 воінаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Капасы, Мяжанскі сельсавет**

**1016. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кісялі, Даўгапольскі сельсавет**

**1017. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Прыстань. За 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Обаль. Займае ўсходнюю частку дугападобнай высыпы. Пашкоджана сучаснымі могілкамі. Вышыня над поймай 25 м, даўжыня каля 330 м, шырыня верхняй пляцоўкі 20—30 м. Рэшткі гарадзішча добра захаваліся на краі высыпы. У 1972—75 гг. даследаваў Г. В. Штыхаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт 0,5—0,6 м чорнага колеру. Знойдзены рэшткі посуду, гліняная біканічнае прасліца, бронзавы званочак балцкага тыпу. Датуецца 8—10 стагоддзямі н. э. Належала балцка-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Раскопки в Витебске и его окрестностях.— У кн.: Археологические открытия 1972 года. М., 1973. *Г. В. Штыхаў.*



**1017.** *Гарадзішча. План.*

**в. Ключ, Халамерскі сельсавет**

**1018. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 300 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны 233 савецкія воіны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Кошкіна, Гуркінскі сельсавет**

**1019. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў снежні 1943 г. ў баях за вышыню «400». У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кудзіны, Марчанскі сельсавет**

**1020. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 74 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета. Сярод пахаваных — воіны 31-й стралковай дывізіі. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1021. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 72 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Кузьміно, Бычыхінскі сельсавет**

**1022. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У паўднёвай частцы вёскі. Пахаваны 195 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**1023.** *Паштовая станцыя. План: 1 — станцыйны дом; 2—3 — свіран з паграбам, карэтная; 4 — флігель фурманаў; 5 — калодзеж.*

**1023. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля шашы Гарадок — Невель. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы паводле праекта, прынятага ў 1846 г. для паштовых станцый на шашэйных дарогах. Стаіць за 90 м ад дарогі і звернута да яе галоўным фасадам.

Галоўны будынак прамавугольны ў плане, з чатырохсхільным дахам, мае прыбудову. Падзелены на 2 часткі



**1023.** *Станцыйны дом. Фрагмент галоўнага фасада.*



**1023.** *Станцыйны дом. План.*

сенцамі: па левы бок размяшчаліся пакоі для прыезджых, па правы — кватэра дазорца, кухня і пакой для афармлення падарожных. У архітэктуры будынка эклектычна спалучаны элементы псеўдаготыкі і класіцызму: стральчатыя псеўдагатычныя вокны і партал, невялікі прамавугольны атык над уваходам, вуглавыя пілястры. Навісь над уваходам падтрымліваюць літыя дэкаратыўныя кранштэйны, аздобленыя раслінным арнаментам. Цяпер будынак выкарыстоўваецца як дом дарожнага майстра. Астатнія пабудовы — флігель для фурманаў (часткова перабудаваны), свіран з падвалам і карэтная паветка — размешчаны ў глыбіні двара.

Паштовая станцыя — помнік дарожнай архітэктуры. *А. С. Сардараў.*

**в. Кулі, Пальмінскі сельсавет**

**1024. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Царкавішча, Воўкава Гара. За 3 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Лужаснянка, на краі вялікай выспы вышынёй да 25 м. Пляцоўка авальная, памерам 40×33 м. Аддзелена ад выспы ровам глыбінёй да 3 м і кароткім валам вышынёй да 10 м. У 1973 г. раскопкі праводзіў Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, у 6—8 стагоддзях, верагодна, выкарыстоўвалася як сховішча.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Ламаносава, Халамерскі сельсавет**

**1025. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 200 м на поўнач ад вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лапакова (не існуе), Канашынскі сельсавет**

**1026. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Лапакова знаходзілася за 3 км на паўднёвы захад ад в. Стырыкі. У сакавіку 1943 г. вёску (5 двароў) спалілі нямецка-фашысцкія акупанты, загубілі 12 жыхароў. Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Лугаўскія, Газьбенскі сельсавет**

**1027. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 300 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны 84 савецкія воіны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на могілках устаноўлена мемарыяльная пліта.

**в. Ляляўшчына, Мяжанскі сельсавет**

**1028. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1028а.** Гарадзішча-1. Мясцовыя назвы Карлаўка, Елізавеціна Гара. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Ловаць, каля воз. Сясіта. Вышыня 25 м, памер пляцоўкі 130×100 м. Штучных умацаванняў не захавалася. Выявіў у 1934 г. А. М. Ляўданскі. У 1963 г. К. П. Шут даследаваў 32 м² плошчы. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Знойдзены гладкасценная слабапрафіляваная кераміка, праслікі і шлакі. Абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— 4 ст. н. э. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.

**1028б.** Гарадзішча-2. За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Батаў Рог, на заходнім беразе воз. Чарняста, на гары вышынёй 10 м. Пляцоўка памерам 35×30 м. Выявіў у 1934 г. А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1963 г. К. П. Шут, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3—0,6 м.

**1028в.** Гарадзішча-3. Мясцовая назва Чорная Гара. За 3,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Ловаць. Вышыня пагорка 10—12 м. Пляцоўка авальная, выцягнутая з поўдня на поўнач, памерам 40×31 м. З боку поля захаваліся рэшткі вала. Выявіў у 1934 г. А. М. Ляўданскі, даследавалі ў 1951 г. Л. В. Аляксееў (25 м² плошчы), ў 1972 г. Г. В. Штыхаў. Знойдзена гладкасценная, штрыхаваная і тэкстыльная кераміка. Датуецца пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Ляўданскі А. М., Палікарповіч К. М. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг.— У кн.: Запіскі Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1936, кн. 5. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Майсеенкі, Пальмінскі сельсавет**

**1029. РАДЗІМА АВЕРЧАНКІ** Мікалая Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. І. Аверчанка нарадзіўся 18.12.1922 г. ў сялянскай сям'і. Да Айчыннай вайны працаваў у калгасе. З ліпеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Закаўказскім, Паўночна-Каўказскім, 3-м і 4-м Украінскім, 1-м Беларускім франтах. 14.4. 1945 г. гарматны разлік старшага сяржанта М. І. Аверчанкі ў баі на правым беразе р. Одэр знішчыў 4 варожыя кулямёты, 2 гранатамёты, дзот і больш за 20 гітлераўцаў. Воін паказаў гераізм у вулічных баях у Берліне. Вораг, які засеў у адным з дамоў, адрэзаў разлік гарматы ад наступаючай пяхоты. Камандзір гарматы са сваімі байцамі ўварваўся ў гэты дом і ў рукапашным баі знішчыў 10 і захапіў у палон 22 гітлераўцаў. У баі М. І. Аверчанка быў цяжка паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена М. І. Аверчанку 15.5. 1946 г. Пасля дэмабілізацыі жыў у г. Кунда ў Эстоніі. Трагічна загінуў 7.7.1965 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Малашанкі, Бычыхінскі сельсавет**

**1030. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 100 м на поўдзень ад вёскі, справа ад шашы Езярышча — Гарадок. Пахаваны 280 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Марозава, Руднянскі сельсавет**

**1031. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 205 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Марцюшы, Стадолішчанскі сельсавет**

**1032. РАДЗІМА БАГДАНАВА** Рыгора Багданавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Р. Б. Багданаў нарадзіўся 4.2.1910 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. З 1932 г. ў Чырвонай Арміі. У Айчынную



1024. *Гарадзішча.*

вайну на фронце са жніўня 1941 г. Вызначыўся ў бітве за Днянро ў верасні 1943 г. Стралковы батальён пад камандаваннем старшага лейтэнанта Р. Б. Багданава фарсіраваў р. Дзясна і з баямі выйшаў да Дняпра на поўнач ад Кіева. Пад ураганным агнём ворага воіны фарсіравалі Днепр, захапілі плацдарм, занялі 2 населеныя пункты і ўтрымлівалі іх да падыходу галоўных сіл. Памёр ад ран 1.10.1943 г. Пахаваны ў с. Жукін Кіева-Святошынскага р-на Кіеўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена Р. Б. Багданаву 17.10.1943 г. Яго імя носіць Стадолішчанская сярэдняя школа.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Марчанкі, цэнтр сельсавета**

**1033. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Царкавішча. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, недалёка ад воз. Жажуліца, на пагорку вышынёй 7 м. Пляцоўка авальная, памерам 40×35 м. Каля асновы гарадзішча захаваліся рэшткі вала вышынёй 0,5 м і 2 равоў глыбінёй да 1 м. Вядома з 1873 г. Раскопкі праводзілі ў 1901 г. Л. Ю. Лазарэвіч-Шапялевіч, у 1951 г. Л. В. Аляксееў, у 1964 г. К. П. Шут. Культурны пласт да 1 м. Знойдзена гладкасценная і штрыхаваная ляпная кераміка. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1): Лазаревич-Шепелевич Л. Ю. Извлечения из отчёта об исследованиях и раскопках, произведенных в 1901 г. в Витебской губернии.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1904, в. 6; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Г. В. Штыхаў.*

**1034. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ І РАМАШКІНУ** Цімафею Цярэнцьевічу (гіст., маст.). У цэнтры вёскі. У 1969 г. на ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, установлена стэла (жалезабетон; вышыня 3,5 м). Побач з ёй скульптурны партрэт Героя Савецкага Саюза Ц. Ц. Рамашкіна.

Герой Савецкага Саюза Ц. Ц. Рамашкін нарадзіўся 15.4.1919 г. ў в. Марчанкі Гарадоцкага р-на. З сялян. Член КПСС з 1946 г. Працаваў на цагельны заводзе ў Ленінградзе. У 1938 г. скончыў Ленінградскі аэраклуб. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік абароны Ленінграда. Пасля вайны працаваў у Грамадзянскім паветраным флоце, старшы тэхнік-лейтэнант. Калі 8.1.1954 г. пасажырскі самалёт, на якім Ц. Ц. Рамашкін быў бортмеханікам, выконваў рэйс Талін — Ленінград, у кабіну пілотаў уварваліся ўзброеныя бандыты, якія хацелі захапіць самалёт. Выкарыстаўшы момант, Ц. Ц. Рамашкін збіў аднаго бандыта з ног і абяшкодзіў яго, але сам быў смяротна паранены. Камандзір экіпажа і другі пілот абяззброілі другога. Пахаваны Ц. Ц. Рамашкін у Таліне. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.1. 1954 г. На ўшанаванне памяці Ц. Ц. Рамашкіна пастаўлены помнік у Мінскім аэрапорце (вул. Чкалава).



1034. *Помнік Ц. Ц. Рамашкіну.*

Кампазіцыя скульптурнага партрэта (скульпт. А. Свяцкі; жалезабетон; вышыня бюста 1,3 м, пастамента 2,3 м) дынамічная, твар прапрацаваны дакладна з мяккай святлоценявой мадэліроўкай. Дэталі вопраткі ледзь пазначаны. *Г. М. Ярмоленка.*

**1035. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1980 г.

**1036. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1980 г.

**в. Масееўка, Стадолішчанскі сельсавет**

**1037. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 27 мірных жыхароў, якіх у канцы лютага 1943 г. жывымі спалілі гітлераўскія карнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Маскаляняты, Даўгапольскі сельсавет**

**1038. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 261 савецкі воін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1039. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Мехавое, Бычыхінскі сельсавет**

**1040. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 548 савецкіх воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў снежні 1943 г. ў час Гарадоцкай аперацыі. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Іван Мікалаевіч Антонаў і Мікалай Марцінавіч Рудык.

І. М. Антонаў нарадзіўся 3.10. 1913 г. ў Валгаградзе. Член КПСС з 1938 г. У Чырвонай Арміі з 1937 г. На фронце з 1941 г. Вызначыўся ў Гарадоцкай аперацыі. 16.12.1943 г. танкавая рота пад камандаваннем капітана І. М. Антонава ўдзельнічала ў прарыве абароны ворага па лініі Мехавое — Дражакі, вызваліла в. Быкі. Варожая група, якая налічвала каля 15 танкаў, 10 самаходных гармат, больш за дывізіён процітанкавай артылерыі і каля батальёна салдат, была акружана ў раёне чыгуначнай станцыі Бычыха і прарывалася ў напрамку на в. Быкі. Танкі роты І. М. Антонава каля гадзіны стрымлівалі націск гітлераўцаў. Калі загарэўся танк І. М. Антонава, ён зняў з баявой машыны кулямёт і прадаўжаў стрымліваць ворага. У гэтым баі І. М. Антонаў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.4.1944 г.

М. М. Рудык нарадзіўся 19.12. 1918 г. ў с. Сцяпашкі Гайсінскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Да Вялікай Айчыннай вайны скончыў Ладышскі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі, Сызранскае танкавае вучылішча (1941 г.). На фронце з верасня 1941 г. 16.12.1943 г. з мэтай поўнага акружэння ворага ў раёне г. п. Езярышча Гарадоцкага р-на часці 1-й і 31-й стралковых дывізій 16-га гвардзейскага стралковага корпуса і 1-га танкавага корпуса наступалі ў напрамку чыгу-



1040. *Помнік на вайсковых могілках.*

начнай станцыі Бычыха. Танкавая рота пад камандаваннем старшага лейтэнанта М. М. Рудыка ўдзельнічала ў прарыве абароны гітлераўцаў па лініі Мехавое — Дражакі. Каля в. Быкі сустрэла варожую калону, якая адыходзіла ад чыгуначнай станцыі Бычыха. У баі было знішчана 5 гармат, 8 аўтамашын і каля 60 салдат. Дзякуючы выключнай мужнасці танкісты пратрымаліся да падыходу галоўных сіл. У гэтым баі М. М. Рудык загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.4.1944 г. Імя М. М. Рудыка прысвоена піянерскай дружыне сярэдняй школы, яго імем названа вуліца ў с. Сцяпашкі.

У 1959 г. на вайсковых могілках пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1945: Записки командарма.— М., 1973; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. В. Кірэйшын.*

**1041. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У школьным двары. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскіх атрадах, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Мяжа, цэнтр сельсавета**

**1042. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 99 воінаў і 11 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. ў цэнтры могілак пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1043. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1043а.** Могільнік-1. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі на в. Ляляўшчына. 5 курганоў дыяметрам 6—8 м, вышынёй 1—2 м. У 1963 г. К. П. Шут раскапаў адзін курган. Пад насыпам была попельнавугальная праслойка і жалезны нож. Г. В. Штыхаў абследаваў у 1972 г.

**1043б.** Могільнік-2. За 0,9 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Ловаць, каля маслазавода. 5 курганоў тыпу сопак, вышынёй каля 4 м, дыяметрам 14 м. Выявіў у 1963 г. К. П. Шут, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*

**1044. МАГІЛА КАЗЛОВА** Арсена Яфімавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза А. Я. Казлоў нарадзіўся 23.2.1919 г. ў в. Газьба Гарадоцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У 1939 г. прызваны ў Чырвоную Армію. З 1941 г. на франтах Айчыннай вайны, камандзір аддзялення сапёраў. Удзельнічаў у фарсіраванні Дняпра, Паўднёвага Буга, Днястра і Прута. У ноч на 1.12. 1944 г. каля г. Харта ў Венгрыі аддзяленне сапёраў А. Я. Казлова на дэсантнай лодцы пераправілася цераз Дунай. Старшы сяржант першы высадзіўся на бераг, пад варожым агнём паранены ўварваўся ў траншэю ворага, садзейнічаў захопу плацдарма. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена А. Я. Казлову 24.3.1945 г. Пасля вайны працаваў у саўгасе «Межанскі» Гарадоцкага р-на. Памёр 12.8.1971 г.




**1046.** *Помнік землякам.*

У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск. Імем А. Я. Казлова названы вуліца ў Гарадку і саўгас у Гарадоцкім р-не.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. Б. Караткевіч.*

**1045. МАГІЛА КІРЫЛАВА** Анатоля Барысавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. Б. Кірылаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1046. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 367 жыхароў Мяжанскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына на фоне абеліска, справа — стэла з імёнамі загінуўшых.

**1047. СТАЯНКІ** (археал.). У ваколіцах в. Мяжа, на берагах аднайменнага возера. Выявіў у 1968 г. І. М. Ціханенкаў.

**1047а.** Стаянка-1. За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Ловаць, каля вытоку яе з воз. Мяжа. У 1968 г. І. М. Ціханенкаў раскапаў 126 м² плошчы. Знойдзены крамянёвыя нажы і нажападобныя пласціны, разцы, праколкі, скрабкі, а таксама фрагменты керамікі з дамешкамі раслінных рэштак і тоўчаных ракавін. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**1047б.** Стаянка-2. За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Мяжа, на мысе паміж возерам і балотам. Знойдзены рэшткі керамікі і апрацаваныя крамяні неаліту і бронзавага веку (3—2-е тысячагоддзі да н. э.).

**1047в.** Стаянка-3. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на высокім паўднёвым беразе воз. Мяжа. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены каменныя прылады працы мікралітычных форм. Датуецца раннім мезалітам (9—8-е тысячагоддзі да н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Мястэчка, Езярышчанскі пасялковы Савет**

**1048. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, на беразе воз. Езярышча. 3 круглыя ў плане курганы. Вышыня аднаго 3,5—4 м, дыяметр 20 м, другога адпаведна 2 і 10 м, трэцяга 0,5 і 7 м. Выявіў у 1955—56 гг. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1965 г. К. П. Шут, у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Немцава, Гуркінскі сельсавет**

**1049. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1049а.** Могільнік-1 тыпу жальніка. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі на в. Гукалы. 23 абкладзеныя камянямі насыпы дыяметрам 6—8 м, вышынёй 1—1,2 м. Выявіў у 1951 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1049б.** Могільнік-2. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі на в. Кавалёва. 3 круглыя насыпы дыяметрам 12—15 м, вышынёй 2 м. Выявіў у 1951 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Нізкія, Канашынскі сельсавет**

**1050. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 1.5.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 250 жыхароў і спалілі вёску. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новы Болецк, Стадолішчанскі сельсавет**

**1051. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 387 савецкіх воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на могілках пастаўлены абеліск, у 1965 г.— скульптура воіна.

**1052. ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1052а.** Гарадзішча Новы Болецк. На ўсходняй ускраіне вёскі, каля школы, недалёка ад воз. Болецкае. З усходняга боку абмываецца

ручаём, які ўпадае ў возера. Складаецца з паўднёвай і паўночнай пляцовак. Паўднёвая авальная, памерам 45×30 м, вышынёй да 8 м, аддзелена ад паўночнай ровам глыбінёй 2—3 м. Паўночная пляцоўка памерам 36×25 м, з паўночнага боку вал вышынёй да 2 м. Выявілі ў 1934 г. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1965 г. К. П. Шут, у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Знойдзены ляпная кераміка, ганчарны посуд, рэшткі цаглянай пабудовы. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага часу.

**1052б.** Гарадзішча Буракова. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля былой в. Буракова, пад назвай якой вядома ў літаратуры. Размяшчаецца на доўгай выспе вышынёй 20 м, сярод лясістай забалочанай мясцовасці. Пляцоўка памерам 45×30 м. Паўночны схіл быў умацаваны валамі і равамі. Выявілі ў 1934 г. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч. Раскопкі праводзіў у 1964—66 гг. К. П. Шут. Даследавана 240 м² плошчы. Культурны пласт месцамі да 1,5—2 м. Раскапаны рэшткі жылых пабудоў слупавой канструкцыі з бярвенняў і жалезаапрацоўчай майстэрні. Знойдзены жалезныя сярпы, сякеры, наканечнікі стрэл, заколкі з завіткамі, каменныя кавадлы, гліняныя прасліцы, бронзавыя ўпрыгожанні, посуд з адбіткамі тэкстылю, гаршкі слоікападобнай формы з ямкамі і пракрэсленым на венчыку арнаментам. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 4 ст. да н. э.— 5 ст. н. э. У больш позні час, верагодна, выкарыстоўвалася як сховішча.



**1052а.** *Гарадзішча Новы Болецк.*



**1052б.** *Бронзавая падвеска з гарадзішча Буракова.*

**1052в.** Селішча. На поўдзень ад гарадзішча Буракова, цягнецца ў напрамку ручая. Пляцоўка памерам 40×60 м. Выявілі ў 1934 г. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч. У 1966 г. К. П. Шут даследаваў 36 м² плошчы. Культурны пласт да 1 м. Знойдзены ляпная прафіляваная кераміка, касагарбуша, біканічнае прасліца. Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*

**1053. МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). За 1 км ад вёскі па дарозе на в. Мяжа, ва ўрочышчы Хадуновы Горы. У час нямецка-фашысцкай акупацыі ў Гарадку дзейнічала падпольная група на чале з А. Ф. Сізовым. У пачатку красавіка 1942 г. гітлераўцы арыштавалі 12 падпольшчыкаў і 28 красавіка расстралялі. У 1971 г. на магіле пастаўлены стэла і абеліск.

**1054. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 86 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Новыя Вайханы, цэнтр Вайханскага сельсавета**

**1055. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 2600 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 87-м медыка-санітарным батальёне і палявым шпіталі № 2243. Сярод пахаваных — воіны 85-й цяжкай гаўбічнай артбрыгады, 169-га і 448-га стралковых палкоў. У 1975 г. на могілках пастаўлена стэла.

**1056. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 151 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ноўка, Канашынскі сельсавет**

**1057. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан, у т. л. камандзір групы У. А. Ліпскі, якія былі павешаны нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1941 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1058. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, каля будынка клуба. Тут 6.10.1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 13 мірных жыхароў пасёлка. У 1967 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены абеліск.



**1055.** *Вайсковыя могілкі.*

**1059. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. У ліпені 1941 г. на шклозаводзе «Ноўка» была створана партызанская група. У канцы 1941 г. гітлераўцы схапілі і павесілі 6 партызан, у т. л. камандзіра групы У. А. Ліпскага. У 1967 г. на ўшанаванне памяці партызан пастаўлены абеліск.

**в. Падранда (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**1060. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Падранда знаходзілася за 3 км на поўдзень ад в. Обаль. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску і загубілі яе жыхароў (70 чалавек, 22 двары). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Палешына, Вайханскі сельсавет**

**1061. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 78 жыхароў вёсак калгаса імя А. В. Суворава, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пальмінка, цэнтр сельсавета**

**1062. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса. На ўшанаванне памяці 160 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (2 воіны).

**в. Петрачыха (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**1063. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Петрачыха знаходзілася за 4 км на ўсход ад в. Халамер'е.



1070. *Помнік на вайсковых могілках.*

У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску і загубілі яе жыхароў (10 чалавек, 13 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Полава, Зайкаўскі сельсавет**

**1064. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 164 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**в. Пралетарск, цэнтр сельсавэта**

**1065. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 199 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Прудпікі, цэнтр сельсавета**

**1066. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 150 м на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Чарнічка. Пахаваны 1247 савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943—44 гг. У 1953 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1067. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 300 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Прудок, Бычыхінскі сельсавет**

**1068. МАГІЛА ЛЯПУНОВА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Лётчык М. А. Ляпуноў загінуў у студзені 1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прудок, Першамайскі сельсавет**

**1069. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 12 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1070. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад чыгуначнай станцыі. Пахаваны 816 савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1961 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Прывальні, Стадолішчанскі сельсавет**

**1071. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 100 м на поўнач ад вёскі, на тэрыторыі лесаўчастка. Пахаваны 27 мірных жыхароў, якіх у лютым 1943 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рамні, Мяжанскі сельсавет**

**1072. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля дарогі. Пабудаваны ў 1896 г. з дрэва на мураваным фундаменце храма 18 ст. з захаваннем яго планіроўкі.

Касцёл адносіцца да тыпу адназрубных культавых збудаванняў. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з захаду прымыкае бабінец, другі ярус якога з'яўляецца званіцай, з усходу — апсіда з 2 рызніцамі. Алтарная частка з рызніцамі складае адзіную плоскасць і стварае пры розпай вышыні аб'ёмаў і форме пакрыццяў ступеньчаты сілуэт. Крыжовы ў плане дах абмежаваны на тарцах франтонамі, увянчанымі шлемападобнымі галоўкамі. Магутны карніз па ўсім перыметры будынка падтрымлівае вялікую навісь даху. Тымпаны франтонаў прарэзаны круглымі люкарнамі, сцены цэнтральнай часткі — спаранымі паўцыркульнымі вокнамі з разнымі ліштвамі. Будынак накрыты бляхай, апаляваны: высокая цокальная частка, аддзеленая гарызантальнай цягай,— вертыкальна, верхняя — гарызантальна. Цэнтральнае памяшканне ў інтэр'еры перакрыта крыжовым скляпеннем, астатнія маюць плоскія перакрыцці.

Пластыка і кампазіцыя касцёла — прыклад характэрнага для канца 19 ст. спалучэння элементаў класіцызму з рысамі стыляў «мадэрн» і псеўдарускага. *А. А. Міцянін.*

**1073. МЕСЦА ГІБЕЛІ КІРЫЛАВА** Анатоля Барысавіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Партызан А. Б. Кірылаў загінуў у 1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на месцы яго гібелі пастаўлены абеліск.

**в. Рудзіха (не існуе), Халамерскі сельсавет**

**1074. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Рудзіха знаходзілася за 2 км на захад ад в. Лапцёўка. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску і загубілі яе жыхароў (12 чалавек, 15 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Рудня, цэнтр сельсавэта**

**1075. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 422 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 780-га стралковага палка 208-й стралковай дывізіі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1076. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 121 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**1077. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.

**в. Селішча, Даўгапольскі сельсавет**

**1078. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з бальніцай. Пахаваны 459 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на ўшанаванне іх памяці на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Селязні, Хмяльніцкі сельсавет**

**1079. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Царковішча. За 2 км на захад ад вёскі, на востраве воз. Ціёста. Пляцоўка памерам 38×40 м. Выявіў у 1961 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1080. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 300 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахавана больш за 2 тыс. мірных жыхароў, забітых вясной 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Шчалбоўскіх лясах у час карнай аперацыі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сінякі, Марчанскі сельсавет**

**1081. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, непадалёку ад дарогі на в. Марчанкі. Тут 5.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 87 мірных савецкіх грамадзян. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1072. *Касцёл. План.*

**в. Смалоўка,
Стадолішчанскі сельсавет**

**1082. МЕСЦА РАЗГРОМУ ВАРОЖАГА ГАРНІЗОНА** (гіст.). 6.3.1942 г. партызаны атрада М. І. Дзячкова разграмілі нямецка-фашысцкі гарнізон у в. Смалоўка, разбурылі лесапільны завод, узарвалі чыгуначны мост, спалілі склад піламатэрыялаў, знішчылі каля 80 гітлераўцаў. У 1975 г. ў памяць аб баявой аперацыі партызан на будынку мясцовай школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Смалькі, Вайханскі сельсавет**

**1083. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі, уздоўж дарогі на Гарадок. Каля 35 курганоў (10 у плане падоўжаных) зараслі хмызняком і лесам. Вышыня круглых насыпаў 1—2 м, дыяметр 6—10 м. Памеры падоўжаных курганоў 12×8×1,5 м. 3 курганы вышынёй каля 3 м, самы вялікі 4,5 м, дыяметрам да 20 м. Навокал вялікіх насыпаў захаваліся глыбокія раўкі. Выявіў у 1951 г. Л. В. Аляксееў. Г. В. Штыхаў у 1973 г. раскапаў 2 падоўжаныя курганы. Пад насыпамі захаваўся попельнавугольны пласт. У адным кургане знойдзены перапаленыя косці чалавека, 2 цэлыя перавернутыя дагары дном ляпныя гаршкі і кавалак трэцяга гаршка. Могільнік датуецца 8—9 стагоддзямі, характэрны для полацкасмаленскіх крывічоў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**в. Стадолішча, цэнтр сельсавета**

**1084. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Смалоўка». На ўшанаванне памяці 91 жыхара вёсак Стадолішчанскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Стаі, Вярэцкі сельсавет**

**1085. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 400 м на поўдзень ад вёскі, на могілках. Пахаваны 300 жыхароў, якіх у канцы лютага 1943 г. загубілі гітлераўскія карнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стайкі Вялікія,
Прудніцкі сельсавет**

**1086. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы спіртзавода. Пахаваны 237 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1953 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Старое Масцішча,
Хмяльніцкі сельсавет**

**1087. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на захад ад вёскі. 5 курганоў вышынёй 0,9—1 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сурміно,
Езярышчанскі пасялковы Савет**

**1088. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА 1-га ПРЫБАЛТЫЙСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). Тут у 1-й палавіне 1944 г. размяшчаўся штаб 1-га Прыбалтыйскага фронту (да 20.10.1943 г. называўся Калінінскі фронт). Камандуючыя генерал арміі А. І. Яроменка, генерал арміі І. Х. Баграмян (з лістапада 1943 г.); члены Ваеннага савета генерал-лейтэнант Дз. С. Лявонаў, генерал-маёр В. М. Кудраўцаў; начальнік штаба — генерал-лейтэнант У. В. Курасаў. Войскі фронту ў снежні 1943 г. вызвалілі Гарадоцкі р-н ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1964 г. ў гонар 1-га Прыбалтыйскага фронту на будынку школы-інтэрната ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Сцяпанавічы, Зайкаўскі сельсавет**

**1089. ГАРАДЗІШЧА ЗАГОРЦЫ** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам каля 44 м, вышынёй 12—18 м. Даследавалі ў 1933—34 гг. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч, у 1950 г. Л. В. Аляксееў, у 1956 г. К. П. Шут, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,5—1,5 м. Пры раскопках знойдзены тэкстыльная, гладкасценная, штрыхаваная кераміка, гліняныя праслíцы, касцяныя наканечнікі стрэл, шылы, іголкі, бронзавыя ўпрыгожанні, крыцы, шлакі, зерняцёрка, абгарэлае збожжа. Гарадзішча датуецца 4—5 стагоддзямі да н. э.— 1—2 стагоддзем н. э. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**в. Сямёнава (не існуе),
Халамерскі сельсавет**

**1090. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сямёнава знаходзілася за 1 км на захад ад в. Антоненкі. У лістападзе 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску і загубілі яе жыхароў (15 чалавек, 19 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Сячонка, Стадолішчанскі сельсавет**

**1091. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 100 мірных жыхароў, загубленых у лютым 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ткачы,
Езярышчанскі пасялковы Савет**

**1092. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад будынка Лесагорскага лясніцтва, каля лясной дарогі. 21 насып, у т. л. 19 паўсферычных, і 2 падоўжаныя. Захаванасць могільніка добрая. 4 насыпы вышынёй 1—1,3 м, дыяметрам 8—10 м. 3 курганы дыяметрам 7—9 м, вышынёй 1,2 м. 2 курганы падоўжаныя вышынёй 1,2 м, памерам 9×15 м і 6×12 м. Побач вялікі курган вышынёй 3,5 м, дыяметрам 16 м (з раўком каля асновы). Вышыня астатніх насыпаў 0,8—1,2 м, дыяметр 6—9 м. Могільнік вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1958 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. М. Ляўко.*

**в. Улішацы, Стадолішчанскі сельсавет**

**1093. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 300 м ад вёскі па дарозе Гарадок — Мяжа. Пахаваны 18 мірных жыхароў, загубленых 5.2.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Фралова, Стадолішчанскі сельсавет**

**1094. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 мірных жыхароў, загубленых у сакавіку 1943 г. гітлераўскімі карнікамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хабаты, Пальмінскі сельсавет**

**1095. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1095а.** Могільнік-1. У вёсцы, на беразе воз. Вымна, ва ўсходняй частцы пляцоўкі, якая называецца Гарадзішчам. 4 курганы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1095б.** Могільнік-2. За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе воз. Вымна, ва ўрочышчы Вузкае. 5 курганоў дыяметрам 10—18 м, вышынёй 2—3,5 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1968 г. Г. В. Штыхаў. Каля асновы самага высокага насыпу (вышыня 3,5 м, пашкоджаны траншэяй) выяўлена попельна-вугальная праслойка і кавалкі глінянага гаршка.

Датуецца 10 — пачаткам 11 ст. Належаў усходнім славянам.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**в. Халамер'е, цэнтр сельсавета**

**1096. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 5 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1097. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 695 воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

У 1975 г. побач з магілай савецкіх воінаў на ўшанаванне памяці 322 землякоў — жыхароў вёсак Халамерскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, устаноўлена стэла.

**1098. ПОМНІК У ГОНАР 4-й БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). За 6 км на паўднёвы захад ад вёскі, на месцы былой в. Казлы. Тут у чэрвені 1942 г. ў лесе непадалёку ад в. Казлы была арганізавана 4-я Беларуская партызанская брыгада, якая дзейнічала на тэрыторыі Мехаўскага, Гарадоцкага, Расонскага, Дзісенскага, Міёрскага, Шаркоўшчынскага р-наў БССР, Невельскага р-на Калінінскай вобл. РСФСР.

У чэрвені 1942 г. са складу 2-й і 3-й Беларускіх партызанскіх брыгад былі вылучаны ініцыятыўныя групы і накіраваны ў Халамерскі і Обальскі сельсаветы для арганізацыі партызанскіх атрадаў. Групы папоўніліся мясцовымі патрыётамі, выраслі ў атрад, на базе якога ў канцы чэрвеня арганізавана 4-я Беларуская партызанская брыгада. Камандзіры брыгады: А. А. Астрэйка (чэрвень — ліпень 1942 г.), Н. Е. Фалалееў (ліпень — жнівень 1942 г., кастрычнік 1942 г.— верасень 1943 г.), Я. Х. Сташкевіч (жнівень — кастрычнік 1942 г., загінуў), В. А. Сазыкін (верасень 1943 г.— студзень 1944 г., загінуў), М. І. Ярмак (студзень — чэрвень 1944 г.), Дз. І. Дзюмін (чэрвень —



1098. *Помнік у гонар 4-й Беларускай партызанскай брыгады.*

ліпень 1944 г.); камісары — Я. І. Каcаткін (чэрвень — кастрычнік 1942 г.), Г. С. Пятроў (кастрычнік 1942 г.— жнівень 1943 г.), У. К. Шэндзелеў (жнівень 1943 г.— студзень 1944 г.), Ф. М. Расюк (студзень — ліпень 1944 г.).

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках і шашэйных дарогах. У час «рэйкавай вайны» на чыгуначных участках Полацк — Невель, Варапаева — Глыбокае падарвалі больш за 600 рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Змяіна, Каменка, Кавалі, Завань Мехаўскага, Ліхачы, Леанполь Дзісенскага р-наў і інш. Правялі адкрытыя і засадныя баі з праціўнікам каля в. Горы (жнівень 1942 г.) Расонскага, Сурміно, Скакуны (люты 1944 г.) Міёрскага р-наў. У лістападзе — снежні 1942 г., студзені — маі 1943 г., маі — чэрвені 1944 г. вялі баі супраць карнікаў. 3.7.1944 г. брыгада (603 партызаны, атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1968 г. ў гонар 4-й Беларускай партызанскай брыгады насыпаны Курган. Побач 2 стэлы з імёнамі партызан, якія загінулі на тэрыторыі сельсавета ў Вялікую Айчынную вайну, і мірных жыхароў в. Казлы, загубленых нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1942 г. Гл. артыкул № 1011 «Месца спаленай вёскі».

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— М., 1967—82. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Хартова, Пальмінскі сельсавет**

**1099. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны астанкі 265 жыхароў в. Пальмінка і навакольных вёсак, якіх у 1943 г. гітлераўцы спалілі жывымі ў адным з будынкаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1100. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны



1097. *Помнікі на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

З жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 2.1.1943 г. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хвошна, Гуркінскі сельсавет**

**1101. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 802 савецкія воіны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1102. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка канторы саўгаса «Хмяльніцкі». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1980 г.

**в. Целяшова,**
**Стадолішчанскі сельсавет**

**1103. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Чытавухі (не існуе),**
**Хмяльніцкі сельсавет**

**1104. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Чытавухі знаходзілася за 3 км на поўдзень ад в. Забарочча. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску (10 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



1099. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Шніці, Пальмінскі сельсавет**

**1105. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны партызан, які загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Янава (не існуе),**
**Халамерскі сельсавет**

**1106. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Янава знаходзілася за 4 км на паўночны ўсход ад в. Халамер'е. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 41 жыхара і спалілі вёску (29 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.




# ГЛЫБОЦКІ РАЁН

Капыльшчына
Залессе
Бабічы
Узрэчча
Мосар
Запруддзе
Удзела
Мярэцкія
Верхняе
Гатаўшчына
Шчарбы
Азерцы
Мамаі
ГЛЫБОКАЕ
Станулі
Карабы 2-я
Прыпернае
Шуневічы
Абруб
Дзеркаўшчына
Вялец
Мнюта
Мацюкова
Пліса
Стрынадкі
Кішы
Падсвілле
Галубічы
Ураджайная
Шыцікі
Ломашы
Карасі
Старынкі
Празарокі
Кульгаі
Зябкі
Псуя
Івесь
Шо
Ліпава

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

## Х. ГЛЫБОКАЕ

Горад, цэнтр раёна. За 200 км на захад ад Віцебска. Чыгуначная станцыя на лініі Крулеўшчына — Варапаева, на аўтамабільнай дарозе Полацк — Вільнюс. Аэрапорт. Глыбокае размешчана на складаным рэльефе: у даліне і на 2 вышынях над азёрамі Вялікае і Кагальнае, якія разам з ракой падзяляюць горад на 2 няроўныя часткі — паўночна-ўсходнюю (меншую) і паўднёва-заходнюю (большую).

Упершыню ўпамінаецца ў Літоўскай метрыцы ў 1514 г. як панскі двор, цэнтр аднайменнага маёнтка шляхецкай сям'і Зяновічаў. Побач знаходзіўся панскі двор Корсакаў. Рака Бярозаўка падзяляла Глыбокае на 2 часткі: паўднёва-заходняя належала Зяновічам і ўваходзіла ў склад Ашмянскага павета Віленскага ваяводства, паўночна-ўсходняя — шляхецкай сям'і Корсакаў і ўваходзіла ў склад Полацкага ваяводства. Брэсцкі ваявода К. Зяновіч, кальвініст, заснаваў тут бібліятэку, кальвінскі збор і школу. У 1668 г. паўднёва-заходняя частка Глыбокага перайшла да Радзівілаў, у 19 ст. — да Вітгенштэйнаў. У 1-й палавіне 17 ст. уладальнік паўночна-ўсходняй часткі мястэчка Ю. Корсак заснаваў каталіцкі касцёл, потым кляштар ордэна кармелітаў і завяшчаннем (1643 г.) перадаў ім сваю палавіну Глыбокага. З 16 ст. мястэчка, знаходзілася ў розных ваяводствах да канца 18 ст. У час вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай Глыбокае ў 1654—59 гг. займалі рускія войскі. Тут была пабудавана невялікая драўляная крэпасць («астрожак»), у якой размяшчаўся гарнізон. У студзені 1659 г. ў мястэчка ўступіў атрад войска Вялікага княства Літоўскага. 6.11.1661 г. каля яго адбылася бітва польска-літоўскага войска на чале з С. Чарнецкім з рускім войскам на чале з І. А. Хаванскім. 24.7.1667 г. узброеныя жыхары выгналі атрад польска-літоўскага войска. Глыбокае моцна пацярпела ад пажараў у 1661 г. і 1700 г. У 18 ст. ў ім былі 2 гандлёвыя плошчы з крамамі; пераважала драўляная жыллёвая забудова (у 1775 г. налічвалася 310 дамоў). У 18—19 стагоддзях пры кляштары ордэна кармелітаў працавалі школа, бібліятэка, фізічны кабінет, аптэка. Кляштар меў 40 музыкантаў. Пасля ўз'яднання з Расіяй (1793 г.) мястэчка ўваходзіла ў Дзісенскі павет Мінскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У Айчынную вайну 1812 г. з ліпеня да снежня мястэчка акупіравана французскімі войскамі. Тут быў арганізаваны этапны пункт, буйныя харчовыя склады. З 1842 г. паўночна-ўсходняя частка мястэчка знаходзілася ў валоданні дзяржавы, цэнтр Глыбоцкай валасці. Тут налічвалася 212 двароў, 2161 жыхар (1861 г.). У 1886 г. ў Глыбокім былі народнае вучылішча, піваварны, вінакурны, цагельны заводы. У нядзелю збіраліся базары, штогод — 2 кірмашы. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 5544 жыхары. У 1-ю сусветную вайну да Глыбокага пракладзена чыгунка.



Х. *Дом Саветаў.*

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. Глыбокае акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. 11.12.1918 г. Чырвоная Армія вызваліла мястэчка ад акупантаў, была адноўлена Савецкая ўлада. У жніўні 1919 г. — ліпені 1920 г. і кастрычніку 1920 г. акупіравана войскамі буржуазнай Польшчы. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. мястэчка адышло да буржуазнай Польшчы; цэнтр Дзісенскага павета Віленскага ваяводства. Працоўныя Глыбокага вялі ўпартую барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Глыбоцкі райком КПЗБ кіраваў буйнейшым у Заходняй Беларусі рэвалюцыйным выступленнем нарачанскіх рыбакоў (1935 г.). У мястэчку дзейнічала камсамольская арганізацыя. З канца 1939 г. ў складзе БССР. З 1940 г. — горад. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія разбурылі горад, загубілі больш за 10 тыс. чалавек. У час акупацыі на тэрыторыі раёна дзейнічалі Глыбоцкі (16.11.1943 г. — 3.7.1944 г.) і Пліскі (29.8.1943 г. — 2.7.1944 г.) падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (адпаведна 13.11.1943 г. — 3.7.1944 г. і 15.12.1942 г. — 2.7.1944 г.). З 1944 г. — раённы цэнтр Полацкай, з 1954 г. — Маладзечанскай, з 1960 г. — Віцебскай абласцей.

Сучасны горад захаваў радыяльную планіроўку са свабодным унутрыквартальным размяшчэннем вуліц, якая склалася ў 17—18 стагоддзях. На пл. 17 Верасня захаваліся будынкі 18—19 стагоддзяў: аўстэрыя 18 ст., буйнейшыя архітэктурныя комплексы — царква Раства багародзіцы (1639—54 гг.) і Троіцкі касцёл (1764—82 гг. і 1902—08 гг.). Сярод мураваных будынкаў вылучалася пабудаваная ў стылі класіцызму Ільінская капліца на могілках «Капцёўка» (там жа ўзведзена мемарыяльная калона ў памяць аб Канстытуцыі 3 мая 1791 г.). У межы сучаснага горада ўвайшоў комплекс базыльянскага манастыра (18 ст.). Фрагменты гістарычнай жылой забудовы захаваліся на вуліцах Леніна і Маскоўскай.

За гады Савецкай улады створаны новы гандлёвы і грамадскі цэнтр у раёне вуліц Энгельса, Леніна і Гагарына, адноўлены жыллёвы фонд, пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы. Паводле новага генплана (1967 г., Віцебскія абласныя праектныя майстэрні) ва ўсходняй частцы Глыбокага будуецца мікрараён, у заходняй сканцэнтраваны асноўныя прамысловыя прадпрыемствы. У 1979 г. ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва распрацаваны новы генплан. Працуюць: малочна-кансервавы камбінат, хлебазавод, піўзавод, мясакамбінат, кансервавы і камбікормавы заводы, доследны лясгас, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі і інш. У Глыбокім сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 3 сярэднія, рабочай моладзі, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 6 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, філіял Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобл., бальніца, Дом быту, рэстаран-кафэ «Колас». Выдаецца газета «Шлях перамогі». Помнікі: 2 У. І. Леніну, Ф. Э. Дзяржынскаму, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, магілах ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — гарадскія азёры.

*Літ.:* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии.— Витебск, 1896; Русская старина.— Пб., 1878, т. 22; Вестник Императорского русского географического общества на 1851 год. Ч. 1. Кн. 1.— СПб., 1851; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. Т. 1—2.— Мн., 1968—71.

*Г. І. Барышаў, А. П. Грыцкевіч.*

**1107. БАЗЫЛЬЯНСКІ МАНАСТЫР** (архіт.). На паўночным беразе воз. Вялікае. Будаўніцтва пачата ў 1638 г. Быў драўляны, у 1756—63 гг. пастаўлены мураваны будынак. У будаўніцтве прымаў удзел арх. І. Глаўбіц. У пачатку 20 ст. манастыр ператвораны ў праваслаўны і часткова перабудаваны. Ансамбль складаўся з касцёла, жылога будынка (захаваўся) і гаспадарчых пабудоў.

Касцёл — двухвежавая трохнефавая базіліка з вялікай апсідай і трансептам. У інтэр'еры скляпенні і сцены былі размаляваны фрэскамі ў стылі барока. Жылы будынак — квадратны ў плане двухпавярховы аб'ём з вялікім унутраным дваром. Вуглавыя па-

мяшканні выступаюць з агульнага абрысу плана. Іх усходнія фасады ўвянчаны фігурнымі франтонамі. Сцены будынка прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах, раскрапаваны пілястрамі і шырокім карнізным поясам.

Манастыр — помнік архітэктуры стылю «віленскага барока».

У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі былога манастыра нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі лагер смерці (гл. артыкул № 1115 «Месца Беразвецкага лагера смерці»).

*С. Г. Багласаў.*

**1108. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Леніна, у парку Перамогі. Пахаваны 138 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 г. Вядомы 90 прозвішчаў воінаў і 3 партызан. Сярод пахаваных — воіны 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту, што аддалі жыццё ў баях пры вызваленні г. Глыбокае.

У пачатку ліпеня 1944 г. воіны 145-й стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр П. А. Дзіброва), 39-й гвардзейскай танкавай брыгады (палкоўнік І. П. Калінін), 89-й танкавай брыгады (падпалкоўнік А. М. Ермакоў), 46-й механізаванай брыгады (генерал-маёр М. Л. Манжурын) і 34-га гвардзейскага мінамётнага палка (падпалкоўнік Я. Я. Талстой) вялі наступленне на Глыбокае. У ноч на 3 ліпеня на бліжніх подступах да горада ішлі цяжкія баі. У гэтых баях актыўны ўдзел прымаў 2-і партызанскі атрад (камандзір С. І. Котаў) партызанскай брыгады «Кастрычнік» Вілейскага партызанскага злучэння. 3.7.1944 г. горад быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск, справа ад яго — скульптура воіна, злева — жанчыны.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**1109. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНА** (архіт.). Склалася ў 19—20 стагоддзях. Захаваліся дамы № 5, 13 38, 40).

Дом № 5. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Размешчаны адасоблена, галоўным вузкім фасадам выходзіць на «чырвоную лінію» вуліцы. Двухпавярховы будынак з пакатым вальмавым дахам, прамавугольны ў плане, выцягнуты ў бок двара. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі з рытмам прамавугольных аконных праёмаў і балконам у цэнтры. Архітэктурны дэкор складаюць ліштвы праёмаў, філёнгі, міжпаверхавы і завяршальны карнізы. Кожны з паверхаў дома падзелены на 4 кватэры, аб'яднаныя вакол цэнтральнай лесвіцы.



**1108.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Дом № 13. Пабудаваны ў 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Планіровачна выцягнуты ў двор, з якога ёсць дадатковы ўваход. Аднапавярховы будынак. Галоўны вулічны фасад завершаны трохвугольным шчытом, вылучаным карнізам з дэнтыкуламі. Прамавугольныя вокны аздоблены сандрыкамі і філёнгамі.

Дом № 38. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Планіровачна развіты ў глыбіню двара і выходзіць на «чырвоную лінію» вуліцы вузкім тарцовым фасадам.



**1109.** *Забудова вуліцы Леніна. На пярэднім плане дамы № 38 і 40.*

15 Зак. 3873



1109. *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 13.*



1110. *Забудова вуліцы Маскоўскай. Дом № 2.*



1110. *Забудова вуліцы Маскоўскай. Дом № 3. Фрагмент галоўнага фасада.*

Двухпавярховы будынак з вальмавым дахам. Галоўны фасад сіметрычны, з рытмам лучковых акон і 2 уваходамі. У яго пластыка-дэкаратыўнай аздобе выкарыстаны лучковыя сандрыкі з замковымі камянямі, вуглавыя лапаткі, прафіляваны карніз. Планіроўка зменена, дом прыстасаваны для прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання.

Дом № 40. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Падоўжаны вулічны фасад рытмічна члянёны радамі лучковых акон з сандрыкамі і замковымі камянямі. Фасад па перыметры абмежаваны прафіляваным карнізам, бакавымі лапаткамі, цокальным выступам. Планіроўка зменена, дом прыстасаваны пад кінатэатр.

Забудова па вул. Леніна — характэрны помнік горадабудаўніцтва Беларусі канца 19 — пачатку 20 ст.

*А. М. Кулагін.*

**1110. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ МАСКОЎСКАЙ** (архіт.). Склалася ў 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст., найбольш характэрны яе фрагмент уключае цагляныя дамы №№ 2, 3, 4.

Дом № 2. На скрыжаванні вуліц Маскоўскай і Леніна. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. як жылы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з вальмавым дахам. Зрэзаны вугал дома на скрыжаванні вуліц вылучаны балконам над уваходным праёмам. Падоўжаны галоўны фасад рытмічна расчлянёны прамавугольнымі вокнамі. Планіроўка прыстасавана для прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання.

Дом № 3. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. як жылы. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак з вальмавым дахам. З плоскасных фасадаў дэкарыраваны толькі галоўны. Сродкамі цаглянай фігурнай кладкі створаны карнізы з кранштэйнамі, фігурныя сандрыкі лучковых акон, філёнгі, лапаткі.

Дом № 4. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. як жылы. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак з чатырохсхільным дахам. Галоўны фасад мае сіметрычную будову з цэнтральным уваходам. Лучковыя праёмы абрамлены плоскімі ліштвамі, прамавугольнымі нішамі і філёнгамі. Рытм фасада ствараюць лапаткі ў прасценках. Дом падзелены на 2 палавіны; прыстасаваны пад аптэку.

Фрагмент гістарычнай забудовы вул. Маскоўскай — помнік горадабудаўніцтва 2-й палавіны 19 — пачатку 20 стагоддзяў.

*А. М. Кулагін.*

**1111. ІЛЬІНСКАЯ КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане аб'ём з двухсхільным дахам. Галоўны і тыльны фасады завершаны



1110. *Забудова вуліцы Маскоўскай. Дом № 4.*

гладкімі трохвугольнымі франтонамі. Над галоўным фасадам устаноўлена маленькая гранёная вежачка. Сцены расчлянёны пілястрамі і пакрыты рустам з тынкоўкі. Па ўсім перыметры праходзіць карнізны пояс. У інтэр'еры плоская столь, над уваходам размешчаны хоры. Сцены мелі роспісы (у 1930 г. часткова разбураны, жывапісны пласт пакрылі тынкоўкай).

Капліца — прыклад архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Hedemann O. Głębokie.— Wilno, 1935.

*С. Г. Багласаў.*

**1112. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне горада, каля аэрадрома. Пахавана



1111. *Ільінская капліца. Галоўны фасад.*



1111. *Ільінская капліца. План.*

каля 4,5 тыс. савецкіх грамадзян, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942—1944 гг. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1113. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад горада, у лесе. Пахаваны больш як 2 тыс. жыхароў г. Глыбокае і Глыбоцкага р-на, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1114. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ КАЛОНА** (гіст.). На вул. Горкага, на могілках. Пастаўлена ў канцы 18 ст. у памяць аб Канстытуцыі 3 мая 1791 г.— асноўным законе Рэчы Паспалітай, прынятым на сейме ў Варшаве.

Канстытуцыя 1791 г. ліквідавала унію Вялікага княства Літоўскага з Польшчай і абвяшчала стварэнне унітарнай дзяржавы з адзіным урадам і бюджэтам. Згодна канстытуцыі выканаўчая ўлада належала каралю і радзе, у якую ўваходзіў прымас (галава каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай) і 5 міністраў. Канстытуцыя скасоўвала выбарнасць караля, адмяняла «ліберум вета», усе рашэнні павінны былі прымацца большасцю галасоў. Яна захоўвала феадальны лад, усе правы і прывілеі шляхты, давала некаторыя ўступкі буржуазіі, якая нараджалася. Нягледзячы на сваю абмежаванасць Канстытуцыя 1791 г. была прагрэсіўнай для свайго часу, бо ліквідавала феадальную анархію ў краіне і стварыла больш спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталістычных адносін. Канстытуцыя 1791 г. была варожа сустрэта феадаламі і адменена Гродзенскім сеймам 1793 г.

*Г. І. Дулеба.*



1114. *Калона ў памяць Канстытуцыі 3 мая 1791 г.*



1116. *Могілкі савецкіх і італьянскіх ваеннапалонных.*

**1115. МЕСЦА БЕРАЗВЕЦКАГА ЛАГЕРА СМЕРЦІ,** Шталаг № 351 (гіст.). На тэрыторыі былога базыльянскага манастыра. Створаны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў верасні 1941 г. для масавай загубы савецкіх ваеннапалонных. З канца 1943 г., пасля капітуляцыі Італіі, у лагер прывозілі італьянскіх салдат і афіцэраў. Лагер займаў плошчу каля 3 га, быў абгароджаны калючым дротам. Паводле матэрыялаў Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па выяўленню і расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў, за час існавання лагера (верасень 1941 г.— ліпень 1944 г.) гітлераўцы загубілі ў ім каля 27 тыс. савецкіх і італьянскіх ваеннапалонных. Іх трупы закапаны ў 56 ямах-магілах, што знаходзяцца ва ўрочышчы Барок, за 500 м ад былога лагера смерці (гл. артыкул № 1116 «Могілкі савецкіх і італьянскіх ваеннапалонных»).

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1965; Михайлов В. В., Романовский В. Ф. Нельзя простить.— Мн., 1967. *Г. І. Дулеба.*

**1116. МОГІЛКІ САВЕЦКІХ І ІТАЛЬЯНСКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне горада, ва ўрочышчы Барок. У 56 ямах-магілах пахаваны каля 27 тыс. савецкіх і італьянскіх ваеннапалонных, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў Беразвецкім лагеры смерці ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на могілках пастаўлены 2 помнікі — абеліск і скульптура воіна. Гл. таксама арт. № 1115 «Месца Беразвецкага лагера смерці».

**1117. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На вул. Савецкай. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1965 г.

**1118. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Камсамольскай, каля сельскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 31. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1966 г.

**1119. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, непадалёку ад кансервавага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1951 г.

**1120. РАДЗІМА СУХОГА** Паўла Восіпавіча (гіст.).

Савецкі авіяканструктар, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы П. В. Сухі нарадзіўся 10.7.1895 г. ў г. Глыбокае ў сям'і настаўніка. У 1897 г. бацькі пераехалі ў Гомель. У 1914 г. скончыў гімназію з сярэбраным медалём і паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Маскоўскага універсітэта. У 1915 г. перайшоў на вучобу ў Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча. З 1916 г. ў арміі. У 1918—20 гг. настаўнік у Лунінцы. Пасля сканчэння Маскоўскага вышэйшага тэхнічнага вучылішча (1925 г.) працаваў інжынерам-канструктарам у Цэнтральным аэрагідрадынамічным інстытуце (ЦАГІ) імя М. Я. Жукоўскага. У канструктарскім бюро А. М. Тупалева распрацаваў знішчальнікі І-4 (1926—27 гг.) і І-14 (1932—34 гг.). Вядучы канструктар, начальнік канструктарскай брыгады пры распрацоўцы самалёта РД (АНТ-25) і галоўны канструктар самалёта «Радзіма» (АНТ-37). На самалёце АНТ-25 у 1937 г. В. П. Чкалаў, Г. П. Байдукоў і А. В. Белякоў ажыццявілі беспасадачны пералёт Масква — Портленд (ЗША) цераз паўночны полюс, а П. Дз. Асіпенка, В. С. Грызадубава і М. М. Раскова на самалёце «Радзіма» — беспасадачны пералёт Масква — Далёкі Усход (1938 г.). З 1939 г. П. В. Сухі — галоўны канструктар доследнага канструктарскага бюро. Доктар тэхнічных навук з 1940 г. Пад яго кіраўніцтвам створана больш як 50 канструкцый самалётаў. Шматмэтавы самалёт Су-2 паспяхова скарыстоўваўся ў Вялікую Айчынную вайну. У 1942—43 гг. стварыў браніраваны штурмавік Су-6. Генеральны канструктар з 1956 г., адзін з стваральнікаў савецкай рэактыўнай і звышгукавой авіяцыі. Пад яго кіраўніцтвам распрацаваны рэактыўныя самалёты Су-9, Су-10, Су-15 і іншыя з турбарэактыўнымі рухавікамі, звышгукавыя знішчальнікі з стрэлападобным і трохвугольным крылом. На самалётах канструкцыі П. В. Сухога ўстаноўлены 2 рэкорды свету па вышыні (1959 г., 1962 г.) і 2 рэкорды свету па скорасці палёту па замкнёным маршруце (1960 г., 1962 г.). За выдатны ўклад у развіццё савецкай авіяцыі ў 1957 г. і 1965 г. П. В. Сухому прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Лаўрэат Ленінскай прэміі 1968 г., Дзяржаўнай прэміі СССР 1943 г. і 1975 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета



**1121.** *Троіцкі касцёл.*



**1121.** *Троіцкі касцёл. План.*

СССР у 1958 г.— 74 г. П. В. Сухі памёр 15.9.1975 г. ў Маскве.

На ўшанаванне памяці П. В. Сухога ў Гомелі пастаўлены помнік.

*В. Б. Караткевіч.*

**1121. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). На пл. 17 Верасня. Пабудаваны ў 1764—82 гг. з цэглы. У 1902—08 гг. перабудаваны архітэктарам Ю. Заро.

Спачатку касцёл — аднанефавы аб'ём з вялікай паўкруглай апсідай, быў вырашаны ў стылі сталага барока. Галоўны фасад вылучаўся насычанай пластыкай. Цэнтральную частку фланкіравалі 2 невысокія вежы. У час рэканструкцыі прыбудаваны бакавыя нефы, трансепт і сакрысціі, павялічаны на 2 ярусы вежы, якія як і цэнтральны фігурны франтон маюць выцягнутыя вертыкальныя прапорцыі. Сцены раскрапаваны пілястрамі і карнізнымі паясамі, прарэзаны вялікімі аконнымі праёмамі, трансепт і сакрысціі ўвянчаны фігурнымі франтонамі.

У інтэр'еры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі па распалубках, бакавыя — крыжовымі. Падлога выкладзена каляровымі керамічнымі пліткамі. Сцены крапаваны пілястрамі і карнізным поясам. Над нішамі бакавых нефаў размешчаны невялікія арнаментальныя ўстаўкі ў вохрыста-аліўкавай гаме. З драўляныя разныя алтары і амбон выкананы ў пачатку 20 ст. Над бабінцам хоры з арганам у стылі неаготыкі.

У архітэктуры касцёла спалучаюцца рысы барока і матывы стылю «мадэрн».

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектурные памятники Белоруссии.— Мн., 1982. Hedemann O. Głębokie.— Wilno, 1935.

*С. Г. Баглασай.*

**1122. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт., маст.). У старым цэнтры горада, на пл. 17 Верасня. Пабудавана ў 1639—54 гг. з цэглы як касцёл кармелітаў, з сярэдзіны 19 ст. царква Раства багародзіцы.

Касцёл спачатку меў 4 аднолькавыя вежы (квадратныя ў плане, ярусныя, з вузкімі паўцыркульнымі праёмамі і крапоўкамі). У 1735 г. перабудаваны галоўны фасад. У той жа час пабудаваны брама і трохпавярховы жылы корпус, які прымыкаў да паўночна-заходняга вугла касцёла і меў замкнёную кампазіцыю з унутраным дваром (зберагліся ў перабудаваным выглядзе ўсходняя частка, астатнія разабраны ў 1892 г. з-за спарахнеласці). Над сяродкрыжжам храма пабудаваны драўляны купал неагатычнага стылю (купал згарэў у 1944 г. разам з драўлянымі вярхамі вежаў, храм накрылі бляхай, вежы адбудаваны ў паменшаным выглядзе).

Цяпер храм — чатырохвежавая трохнефавая базіліка з прамавугольнай у плане апсідай, сакрысціямі і трансептам. Галоўны фасад увенчваюць высокія ярусныя вежы і фігурны ступеньчаты франтон. Ніжні ярус акцэнтаваны багата дэкарыраваным уваходным парталам з драўлянымі разнымі дзвярамі і бакавымі нішамі, завершанымі конхамі. Гэты ярус аддзелены ад другога антаблементам, над ім шырокі крапаваны франтон. У разрыве франтона знаходзіцца акно, дэкарыраванае пластычным парталам, які значна выступае з плоскасці фасада. Другі ярус рэльефна раскрапаваны пілястрамі, бакавыя часткі скругленыя. Трэці ярус — атыкавы франтон са складаным завяршэннем.

Інтэр'ер храма захаваў аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю з 17 ст. Над бабінцам — хоры. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі. У 1735 г. інтэр'ер атрымаў новае, адзінае з га-



**1122.** *Царква Раства багародзіцы.*



1122. *Царква Раства багародзіцы. Фрагмент галоўнага фасада.*



1122. *Царква Раства багародзіцы. Фрагмент скляпенняў.*



1122. *Царква Раства багародзіцы. Брама.*



1122. *Царква Раства багародзіцы. План.*

лоўным фасадам ордэрнае афармленне. Сцены і слупы нефаў раскрапаваны пілястрамі і шырокімі карнізнымі паясамі, якія багата дэкарыраваны раслінным арнаментам з матывамі стылізаваных лістоў аканта, гарэльефнымі выявамі галовак анёлаў. Скляпенні дэкарыраваны ляпным геаметрычным арнаментам (плафоны і абрамленні рэбраў распалубак). На скляпеннях і часткова на сценах былі фрэскавыя размалёўкі (пакрыты пластом тынкоўкі пры пераабсталяванні касцёла ў царкву). Над антаблементам па ўсім перыметры будынка праходзіць галерэя, абнесеная металічнай рашоткай з арнаментам.

Царква — помнік архітэктуры стылю «віленскага барока».

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968, с. 520.

*С. Г. Багласаў.*

**в. Абруб, цэнтр сельсавета**

**1123. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Абруб-Беразвецкі, Азерацкі сельсавет**

**1124. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 60 жыхароў Азерацкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Азерцы, цэнтр сельсавета**

**1125. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 59 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1126. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак. Дом складаецца з 2 узаемна перпендыкулярных карпусоў, кожны з іх — прамавугольны ў плане аднапавярховы пад двухсхільным дахам. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі, дэкарыраваны рустам, аркатурай, тонкапрафіляваным карнізам.



1122. *Царква Раства багародзіцы. Фрагмент галерэі над антаблементам.*

Сядзібны дом — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Азёркі, Плiскі сельсавет**

**1127. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля вёскі, на паўднёвым беразе воз. Мнюта. 10 курганоў вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 3—4 м. Адзін курган вышынёй каля 2 м, дыяметрам каля 9 м. Выявіў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бабічы, Узрэцкі сельсавет**

**1128. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «17 Верасня». На ўшанаванне памяці



1122. *Царква Раства багародзіцы. Дзверы галоўнага ўвахода.*

68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бабруйшчына, Псуеўскі сельсавет**

**1129. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Пры ўездзе ў вёску, справа і злева ад дарогі ў в. Перавоз. 23 курганы дыяметрам 3—8 м, вышынёй 0,8 м, моцна аплылі. Выявіў у 1930-я гады У. Галубовіч, абследавалі ў 1973 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1130. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. Храм трохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі: прамавугольны ў плане асноўны аб'ём, двух'ярусная званіца і паўкруглая апсіда. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам, які завершаны цыбулепадобным купалам на васьмігранным барабане. У дэкоры выкарыстаны элементы старажытнарускага культавага дойлідства: какошнікі, кілепадобныя ліштвы арачных аконных праёмаў, фігурныя франтоны, паўкалонкі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Баяры,**
**Падсвільскі пасялковы Савет**

**1131. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі ў г. п. Падсвілле. 5 курганоў (пашкоджаны ямамі) вышынёй 1 м, дыяметрам 11—12 м. Выявіў і абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Верхняе, Удзелаўскі сельсавет**

**1132. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Храм трохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі: прамавугольныя ў плане бабінец, асноўны аб'ём, апсіда. Зрубы накрыты двухсхільнымі дахамі, над апсідай — з вальмамі. Сцены фасадаў гарызантальна ашаляваны, цокальная і фрызавая часткі — вертыкальна. Рытміку фасадаў ствараюць вертыкальныя брусы і лучковыя праёмы акон. У інтэр'еры — столь плоская, хоры на разных слупах. Перад царквой размешчана брама-званіца.



**1130.** *Царква.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**1133. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 83 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск, стэла і 2 скульптуры (воін і жанчына).

**в. Вольшчына, Галубіцкі сельсавет**

**1134. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у раскарчаваным квартале лесу. 13 курганоў вышынёй 1,5—3 м, дыяметрам 8—12 м. Каля асновы насыпаў ёсць раўкі. Выявіў у 1973 г. М. А. Ткачоў, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вострава, Псуеўскі сельсавет**

**1135. КУРГАН ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст.). У лесе, за 2 км на ўсход ад вёскі. У памяць аб 1-й партызанскай брыгадзе імя А. В. Суворава 1-й і яе баявых дзеяннях у 1970 г. насыпаны Курган Славы. На яго схіле — 2 пліты, на якіх выбіты імёны 9 партызан, што загінулі ў час прарыву варожай блакады.

У красавіку — маі 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты правялі карную аперацыю «Веснавое свята» з мэтай акружэння і разгрому партызан Полацка-Лепельскай зоны. На 25-кіламетровым участку абароны ўздоўж воз. Шо і на беразе р. Шоша на тэрыторыі Глыбоцкага р-на вялі баі партызанскія брыгады імя А. В. Суворава 1-я (камандзір П. А. Хомчанка, камісар М. Я. Усаў) і імя С. М. Кароткіна (камандзір У. М. Талаквадзе, камісар А. Б. Эрдман; каля 1200 партызан). Нягледзячы на пераважныя сілы ворага (5 тыс. гітлераўцаў), партызаны на працягу некалькіх тыдняў утрымлівалі абарону. 3—4.5.1944 г. 1-я брыгада імя Суворава прарвала блакаду, разграміла варожы гарнізон на станцыі Кульгай і выйшла з акружэння.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964. *Г. І. Дулеба.*

**1136. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе, каля дарогі Вострава — Ліпава. Тут у Вялікую Айчынную вайну вяла баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 1-я партызанская брыгада імя А. В. Суворава Вілейскага злучэння.

У 1964 г. ў памяць аб гэтых баях пастаўлена стэла.

**в. Вуглы, Псуеўскі сельсавет**

**1137. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі. 2 насыпы. Вышыня першага 1,5 м, дыяметр 7 м, другога адпаведна — 2 і 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1138. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 жыхароў в. Вуглы, якіх 2.1.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1139. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Ва ўсходняй частцы вёскі. 2.1.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі в. Вуглы і загубілі 19 яе жыхароў. У 1968 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых пастаўлена стэла.

**в. Вялец, Пліскі сельсавет**

**1140. ЦАРКВА** (архіт.). На поўнач ад вёскі, каля дарогі Глыбокае — Дзісна. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва.

Двухзрубная, складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага памяшкання з бабінцам і пяціграннай апсіды. Накрыта двухсхільным дахам, які над апсідай плаўна пераходзіць у вальмавы. Сцены прарэзаны невялікімі высока размешчанымі вокнамі і вертыкальна ашаляваны шырокімі дошкамі з нашчыльнікамі. Франтон галоўнага фасада ўвенчвае шпіль, у цэнтры даху — маленькая дэкаратыўная галоўка. У інтэр'еры вузкія хоры з драўлянай рашоткай агароджы. Перакрыцце бэлечнае. Сцены гарызантальна ашаляваны. Побач з царквой пабудавана драўляная званіца (18 ст.), квадратная ў плане, двух'ярусная, з шатровым дахам. Першы ярус зрубны, другі каркасны з гарызантальнай



**1140.** *Царква. Выгляд з боку апсіды.*

абшыўкай. Званіца мела скразны праход і служыла брамай.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии: Дооктябрьский период.— Мн., 1969. *С. Г. Багласаў.*

**в. Галубічы, цэнтр сельсавета**

**1141. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка авальная памерам 20×13 м, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Вышыня над наваколлем 15 м. Выявілі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1939 г. Я. Н. Драздовіч, у 1981 г. Л. У. Дучыц. На паўночна-заходнім схіле прасочаны культурны пласт 0,3—0,4 м, знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і сярэднявечча.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945. [в.] 11.

**1142. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 200 м на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Жвіроўня. Тут у 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі каля 100 савецкіх актывістаў, жыхароў в. Галубічы і іншых навакольных вёсак. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1143. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 29 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1144. РАДЗІМА ДУБРОВІЧА** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт А. Дубровіч (сапраўднае прозвішча Рэдзька Аляксей Рыгоравіч) нарадзіўся ў 1910 г. ў сям'і селяніна. Удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, супрацоўнічаў у «Беларускай газеце» і часопісе «Літаратурная старонка», якія выдаваліся камуністамі. Адзін з ініцыятараў стварэння Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў. Дэлегат I нелегальнага з'езда пісьменнікаў нацыянальна-вызваленчага руху (Вільня, 1933 г.). За рэвалюцыйную дзейнасць у 1934 г. быў арыштаваны і зняволены на 2 гады ў Віленскую турму на Лукішках. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі працаваў старшынёй сельсавета на радзіме. У Вялікую Айчынную вайну — падпольшчык. У снежні 1941 г. расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Друкавацца пачаў у 1928 г. на старонках прагрэсіўнай газеты «Доля працы», у перыядычных выданнях «Літаратурная старонка», «Беларускі летапіс», «Калоссе». Грамадзянская паэзія А. Дубровіча адлюстроўвае рост сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці працоўных, услаўляе рэвалюцыйную героіку, заклікае служыць народу і яго вызваленчай барацьбе. Творы А. Дубровіча апублікаваны ў кн. «Мы іх не забудзем» (1949 г.), «Сцягі і паходні» (1965 г.), «Крывёю сэрца» (1967 г.).

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**в. Гатаўшчына, Пліскі сельсавет**

**1145. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 97 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гатоўкі, Удзелаўскі сельсавет**

**1146. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1146а.** Курганны могільнік. За 0,3 км ад вёскі, на левым беразе р. Маргва, справа ад палявой дарогі ў в. Залезькі. 35 насыпаў вышынёй 0,8—1 м, дыяметрам 6—12 м. Вядомы з канца 19 ст. Даследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены бронзавыя пласціністыя бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, ганчарны посуд. Належаў усходне-славянскім плямёнам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак 1938—39 гг. захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

**1146б.** Курган. За 0,9 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе Маргвы. Вышыня 1,5 м, дыяметр 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў. *М. А. Ткачоў.*

**в. Дзеркаўшчына, Карабоўскі сельсавет**

**1147. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з бутавага каменю. Абнесены бутавай агароджай з двух'яруснай мураванай званіцай.

Касцёл — прамавугольны ў плане аб'ём з двухсхільным дахам і чатырохкалонным порцікам на галоўным фасадзе. На фоне бутавай муроўкі вылучаюцца атынкаваныя пабеленыя архітэктурныя дэталі: карнізы, ліштвы лучковых і арачных аконных праёмаў, пілястры. Алтарная перагарода вылучае ў інтэр'еры храма бакавыя сакрысціі. Столь плоская, бэлечная.

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. А. Міцянін.*

**1148. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Доўгае, Зябкаўскі сельсавет**

**1149. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі. 75 насыпаў (некаторыя абкладзены камянямі) вышынёй 0,8—1,7 м, дыяметрам 6—10 м. Курганы добрай захаванасці. Выявілі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Забор'е, Плісκі сельсавет**

**1150. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1150а.** Курганны могільнік-1. За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі. 40 курганоў добрай захаванасці, вышынёй 0,8—3,2 м, дыяметрам 5—12 м. Вядомы з канца 19 ст. У 1974 г. Г. В. Штыхаў раскапаў 1 курган. Знойдзены шкілет, арыентаваны галавой на захад, жалезны нож, віты бронзавы бранзалет з завязанымі канцамі, ганчарны гаршчок. У 1981 г. абследавала Л. У. Дучыц. Датуецца 10 ст., належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1150б.** Курганны могільнік-2. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Юзухава, ва ўрочышчы Зялёнка. 28 курганоў вышынёй 0,8—3,2 м, дыяметрам 5—12 м. Абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Работы Полоцко-Витебского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975. *М. А. Ткачоў.*

**1151. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма складаецца з трох'яруснай званіцы, нізкага бабінца, квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяці-



**1140.** *Царква. План.*



**1150а.** *Курганны могільнік-1.*



**1151.** *Мікалаеўская царква.*

граннай апсіды з прыбудоўкай. Шатровыя дахі званіцы і асноўнага аб'ёму завершаны макаўкамі на гранёных барабанах. Фасады ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Задарожжа, Пліскі сельсавет**

**1152. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1910 г. з цэглы. Трохнефавы двухвежавы храм з пяціграннай алтарнай часткай. Галоўны фасад фланкіраваны двух'яруснымі вежамі з высокімі шпілямі. Сцены рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі. У інтэр'еры — стральчатыя скляпенні, над уваходам — хоры. Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**в. Залесная, Псуеўскі сельсавет**

**1153. РАДЗІМА КАЗЛОВА** Пятра Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. М. Казлоў нарадзіўся 12.7.1893 г. ў в. Калена (цяпер в. Залесная) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. У 1926 г. скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. Генерал-лейтэнант (1944 г.). З 1917 г. ў Чырвонай гвардыі, з 1918 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1923 г. ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. У Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Паўночна-Каўказскім і Цэнтральным франтах: камандзір корпуса, намеснік камандуючага, камандуючы арміяй. Вызначыўся ў верасні 1943 г. ў бітве за Дняпро. 77-ы стралковы корпус 60-й арміі на чале з П. М. Казловым фарсіраваў Дняпро ў Чарнігаўскай вобл., захапіў плацдарм на заходнім беразе ракі, забяспечыў пераправу часцей арміі. 4.2.1944 г. П. М. Казлову прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Памёр 17.4.1944 г. Пахаваны ў Маскве. Імем героя названа вуліца ў Пяцігорску, у пас. Гарачаводскі ўстаноўлены помнік.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Залессе, Азерацкі сельсавет**

**1154. МЕСЦА РАЗГРОМУ ПАРТЫЗАНАМІ ВАРОЖАГА ГАРНІЗОНА** (гіст.). Тут у 1943 г. партызаны атрада імя М. А. Шчорса партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага разграмілі нямецка-фашысцкі гарнізон. У памяць аб гэтай падзеі на заходняй ускраіне вёскі ў 1975 г. пастаўлена стэла.

**1155. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля ўезду ў вёску з боку в. Зубкі, абапал дарогі, у хвойніку. 5 насыпаў добрай захаванасці, вышынёю 1—1,5 м, дыяметрам 6—10 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, даследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены бронзавыя кольцы, пярсцёнкі, бранзалеты, жалезныя нажы і інш. Належаў усходнім славянам.

Матэрыялы раскопак 1938 г. захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

**1156. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, паміж азёрамі Мураўшчына і Белае. Сфарміравана ў сярэдзіне 19 ст. Тэрыторыя сядзібы падзелена на 2 часткі: усходнюю, у якой сканцэнтраваны комплекс сядзібных пабудоў, і заходнюю — пейзажны парк.

Мураваны сядзібны дом — невялікі асіметрычны будынак з высокай вуглавой вежай. Часткова разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, захавалася ўсходняя частка дома з верандай. Перад домам насыпная тэраса і круглы партэр.

Пейзажны парк (8 га) знаходзіцца на пакатых схілах берагоў азёр. Галоўная алея парку праходзіць па грэбені ўзвышша. У паўночнай частцы сфарміраваны асобныя масівы з хвоі звычайнай, елкі, каштана конскага, хвоі веймутавай і лістоўніцы еўрапейскай. Узвышша ў паўднёвай частцы парку занята хваёвым лесам. Паміж сядзібным домам і паркам на паляне растуць ліпа амерыканская і ліпа буйналістая. Паляна абкружана групамі лістоўніцы сібірскай, хвоі веймутавай.

Сядзіба — помнік архітэктуры неаготыкі.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**в. Запруддзе, Залескі сельсавет**

**1157. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1157а.** Гарадзішча. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на высокім пагорку. Пляцоўка памерам 40×50 м з боку поля ўмацавана валам, які цяпер моцна аплыў. Абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г.



**1152.** *Касцёл.*




**1156.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — стайня; 3 — вадзяны млын; 4 — гаспадарчыя пабудовы.*

М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт у агаленнях 0,8—0,9 м. Знойдзены ляпная кераміка, косці жывёл і шлакі.

**1157б.** Селішча. З усходу каля асновы гарадзішча. Плошча 0,5 га. Абследавалі ў 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт да 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка. Гарадзішча і селішча адносяцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. А. Ткачоў.*

**1158. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Зарубіна, Карабоўскі сельсавет**

**1159. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,9 км на поўнач ад вёскі, за мастком цераз р. Аржаніца, на яе левым забалочаным беразе. Займае пагорак даўжынёю 80 м і шырынёю 35—40 м. Вышыня над поймай да 7 м. Валы не прасочваюцца. Выявіў у 1972 г. М. А. Ткачоў, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі да 0,3 м, па краях — да 0,6—0,7 м, на паўднёвым краі ссунуўся на схіл гарадзішча і часткова на луг. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі, перапаленыя косці жывёл і попел. Датуецца раннім жалезным векам.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. А. Ткачоў.*

**1160. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1160а.** Могільнік-1. На паўночнай ускраіне вёскі, справа ад дарогі, у хвойніку. Два насыпы вышынёй 1,3 м, дыяметрам да 10 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1160б.** Могільнік-2. За 0,4 км на поўнач ад вёскі. Тры курганы дыяметрам 10 м, вышынёй 1,3 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Зябкі, цэнтр сельсавета**

**1161. МАГІЛА ЛАБЗОВА** Уладзіміра Канстанцінавіча (гіст.). На тэрыторыі школы. Член ВЛКСМ, старшыня былога Асінаўскага сельсавета Глыбоцкага р-на У. К. Лабзоў загінуў у 1946 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1162. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы саўгаса. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і партызанка.

**в. Кавалі, Абрубскі сельсавет**

**1163. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1748 г. з дрэва, алтаром арыентавана на паўднёвы ўсход. Значна рэканструявана ў канцы 19 ст.

Храм крыжовы ў плане. Асноўны аб'ём з пяціграннай апсідай і бакавымі прамавугольнымі ў плане крыламі трансепта. Зруб завершаны агульным двухсхільным дахам і гарызантальна ашаляваны, сцены расчлянёны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі. Над будынкам невялікая цыбулепадобная галоўка на васьміграннымі барабане. У выніку рэканструкцыі канца 19 ст. галоўны фасад атрымаў 2 квадратныя ў плане вежы па баках уваходнага партала. У інтэр'еры вылучана сяродкрыжжа, вычлененае фігурнымі аркамі. Зала мае плоскае бэлечнае перакрыцце. Адасоблена ад царквы пастаўлена зрубная званіца з шатровым дахам над адкрытым каркасам другога яруса.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока.

*Літ.:* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии.— Витебск, 1896.

*А. М. Кулагін.*

**в. Капыльшчына, Залескі сельсавет**

**1164. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 59 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Карабы 2-я, цэнтр Карабоўскага сельсавета**

**1165. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кішы, Падвільскі пасялковы Савет**

**1166. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



**1163.** *Успенская царква са званіцай.*



**1168.** *Гарадзішча.*

**в. Крупені, Галубіцкі сельсавет**

**1167. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, справа ад лясной дарогі з былога хутара Сукавацце ў бок урочышча Капавішча. 7 курганоў вышынёй 1,2—2 м, дыяметрам 6—12 м. Захаванасць добрая. Выявіў у 1972 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Латыголь, Карабоўскі сельсавет**

**1168. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,25 км на поўдзень ад вёскі, злева ад дарогі. Займае дзесяціметровы пагорак памерам 60×50 м. Валы адсутнічаюць, паўночны схіл штучна падрэзаны, астатнія пакатыя. Паўночны і заходні схілы зараслі бярэзнікам. Абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. У культурным пласце 0,2—0,3 м знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Ліпава, Псуеўскі сельсавет**

**1169. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ А. В. СУВОРАВА 1-й** (гіст.). У вёсцы і навакольных лясах з мая 1943 г. да ліпеня 1944 г. дыслацыраваўся штаб партызанскай брыгады імя А. В. Суворава 1-й.

Партызанская брыгада імя А. В. Суворава 1-я створана 2 сакавіка 1943 г. з партызан атрада «Спартак». Дзейнічала на тэрыторыі Дзісенскага, Дунілавіцкага, Плісскага і Шаркоўшчынскага р-наў Вілейскай вобл. Камандзір П. А. Хомчанка, камісар М. Я. Усаў. Партызаны рабілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» на ўчастку чыгункі Крулеўшчына — Варапаева, вялі палітычную работу сярод насельніцтва. У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічала ў баях супраць карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх войск у Полацка-Лепельскай партызанскай зоне. У пачатку ліпеня 1944 г. брыгада ў складзе 4 атрадаў (225 чалавек) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1971 г. на ўсходняй ускраіне вёскі ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970.

*Г. І. Дулеба.*

**1170. ПАРТЫЗАНСКІ АЭРАДРОМ** (гіст.). За 5 км на поўнач ад вёскі, у лясным урочышчы Зімнік. Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся (1943 г.) аэрадром партызанскіх брыгад імя А. В. Суворава 1-й (камандзір П. А. Хомчанка, камісар М. Я. Усаў), «Кастрычнік» (камандзір Ф. К. Юрчанка, камісар І. І. Юкша) Вілейскага злучэння і імя С. М. Кароткіна [камандзіры С. М. Кароткін (чэрвень — кастрычнік 1942 г.), П. А. Хомчанка (кастрычнік 1942 г.— сакавік 1943 г.), У. М. Талаквадзе (сакавік 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары В. М. Фралоў (чэрвень 1942 г.— сакавік 1943 г.), А. Б. Эрдман (сакавік 1943 г.— ліпень 1944 г.) Віцебскага злучэння. З дапамогай авіяцыі партызаны падтрымлівалі сувязь з савецкім тылам, ЦК КП(б)Б, Беларускім штабам партызанскага руху і камандаваннем Чырвонай Арміі. На партызанскі аэрадром прыляталі самалёты з Вялікай зямлі з боепрыпасамі, зброяй, абмундзіраваннем, сродкамі сувязі, медыкаментамі, прадуктамі, літаратурай і інш. У савецкі тыл яны вывозілі цяжкапараненых і хворых, дастаўлялі разведданыя пра ворага.

На месцы, дзе знаходзіўся аэрадром, у 1975 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* Якубовский Н. Помощь советского тыла партизанам.— Мн., 1973.

*Г. І. Дулеба.*

**1171. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 12 жыхароў в. Ліпава, якіх 28.4.1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты, у 1976 г. пастаўлена стэла.

**в. Ліпляні,**
**Падсвільскі пасялковы Савет**

**1172. МАГІЛА ДРАЗДОВІЧА** Язэпа Нарцызавіча (гіст.). На могілках.

Беларускі графік, жывапісец, скульптар, фалькларыст Я. Н. Драздовіч нарадзіўся 1.10.1888 г. ў засценку Пунькі (4 км ад в. Перадолы) у збяднелай шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Віленскай мастацкай школе (1906—10 гг.). У 1919 г. працаваў у Беларускім літаратурна-выдавецкім аддзеле пры Камісарыяце асветы БССР. У 1919—20 гг. мастак-дэкаратар у клубе «Беларуская хатка» ў Мінску. З 1924 г. выкладчык малявання ў Глыбоцкай школе, у 1927—30 гг. у Радашковіцкай і Навагрудскай беларускіх гімназіях. У 1926—27 гг. супрацоўнічаў у прагрэсіўным часопісе «Маланка». З 1931 г. да 1939 г. вандроўны мастак, у 1940—41 гг. выкладчык малявання і батанікі ў Лужкоўскай сярэдняй школе.

Першыя работы Я. Н. Драздовіча — «Трызна мінуўшчыны», «Брама будучыні», афармленне «Беларускага календара на 1910 год», кнігі К. Буйло «Курганная кветка» (1914 г.). Стварыў вялікую графічную серыю помнікаў замкавай архітэктуры Беларусі: «Мір», «Крэва», «Ліда», «Навагрудак» (1927—29 гг.) і інш., даў паэтычны вобраз роднай прыроды ў графічных лістах «Дзісеншчына» (1920-я гады), у тонавых малюнках з серыі «Прырода Беларусі» (1940-я гады). Сярод жывапісных твораў (тэматычныя карціны, партрэты, пейзажы) вылучаюцца карціны з жыцця сярэдневяковай Полаччыны, скарынінская серыя (1940-я гады). Арыгінальныя жывапісныя і графічныя творы на касмічную тэму (1930-я гады). Працаваў у галіне скульптуры: бюст Ф. Скарыны (1910-я гады), барэльефы, партрэты маці, паэта М. Машары, фалькларыста А. Грыневіча, журналіста А. Пачопкі (1930-я гады). Змалёўваў узоры народнага дойлідства, прылады працы, адзенне. Запісваў народныя песні, збіраў і апрацоўваў для слоўнікаў лексіку народнай мовы. Я. Н. Драздовіч памёр у 1954 г. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла з партрэтным барэльефам.

*А. С. Ліс.*

**в. Ломашы, Старынкаўскі сельсавет**

**1173. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мамаі, Азерацкі сельсавет**

**1174. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км ад вёскі, каля дарогі ў в. Хацілаўцы, на пагорку. 2 курганы. Вышыня першага 3 м, дыяметр 12 м, другога адпаведна 3 м і 12 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1175. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтральнай частцы вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з цэглы. Да 1866 г. касцёл.

Аднанефавая, прамавугольная ў плане, з бабінцам і сакрысціямі. Накрыта двухсхільным дахам з франтонамі ў тарцах. Галоўны фасад расчлянёны паўцыркульнымі і прамавугольнымі нішамі, раскрапаваны паўкалонамі, над якімі выступае шырокі пояс антаблемента. Сцены бакавых і алтарнага фасадаў раскрапаваны пілястрамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры сцены завершаны карнізным поясам, размаляваны, на столі імітацыя дэкарыраваных цыліндрычных скляпенняў. Над бабінцам размешчаны хоры.

Перад царквой па восі галоўнага фасада стаіць трох'ярусная брама-званіца. Вырашана ў свабодна трактаваным класічным ордэры. Верхнія ярусы раскрапаваны маленькімі вуглавымі паўкалонамі і карнізнымі паясамі, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Увенчвае званіцу разарваны франтон.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі класіцызму і барока.

*Літ.:* Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem.— Wilno, 1932.

*С. Г. Багласаў.*

**в. Маргі,**
**Падсвільскі пасялковы Савет**

**1176. КУРГАН** (археал.). Пры ўездзе ў вёску, за ручаём злева, на полі. Вышыня 1,3 м, дыяметр 6 м. Выявіў



1175. *Царква.*



1175. *Царква. План.*



1175. *Брама-званіца.*



**1178.** *Помнік землякам.*

у 1972 г. М. А. Ткачоў, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц.

**в. Мацюкова, Пліскі сельсавет**

**1177. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 5 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптуры партызана і дзяўчыны.

**в. Мнюта 1-я, Пліскі сельсавет**

**1178. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 117 жыхароў в. Мнюта і іншых населеных пунктаў калгаса «Кастрычнік», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — трохчасткавы абеліск на пастаменце з валуноў. На абеліску выявы герба Савецкага Саюза і савецкіх воінаў. *Г. І. Дулеба.*

**в. Мосар, Удзелаўскі сельсавет**

**1179. КАСЦЁЛ ГАННЫ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1792 г. з цэглы. Абкружаны невысокай прамавугольнай у плане муравапай агароджай з брамай. У паўднёва-заходнім вуглу агароджы — званіца. Брама пабудавана адначасова з касцёлам, агароджа і званіца — у 2-й палавіне 19 ст. Касцёл — прамавугольны ў плане аб'ём з двухсхільным дахам. Плоскасць галоўнага фасада завершана высокім франтонам, раскрапавана канеліраванымі пілястрамі, прарэзана ў цэнтры дзвярным і аконным праёмамі. Астатнія сцены касцёла гладкія, з прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Інтэр'ер зальны. Асноўнае памяшканне перакрыта скляпеннем, якое ўпрыгожана арнаментальнай размалёўкай. Сцены па ўсім перыметры раскрапаваны канеліраванымі пілястрамі і карнізным поясам, дэкарыраваны ў канцы 18 ст. тонкім стукавым арнаментам раслінных форм, барэльефамі ў стылі класіцызму. Над вокнамі ў прамавугольных рамах размешчаны 10 сюжэтных рэльефаў на евангельскія тэмы.

Касцёл — помнік архітэктуры ранняга класіцызму.

*Літ.:* Maliszewski E. Przewodnik po gubernji Wileńskiej: Zarys statystyczno-opisowy.— Warszawa, 1919.
*С. Г. Багласаў, В. В. Церашчатава.*

**1180. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, за 0,5 км на поўдзень ад воз. Мосарскае, у лесе. Захавалася 10 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 5—8 м. Выявіў і даследаваў у канцы 18 ст. В. Мінліх, які раскапаў 6 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены бронзавыя бразготкі, рэшткі скураных папружак. Абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц.

Матэрыялы даследаванняў В. Мінліха захоўваюцца ў Дзяржаўным Эрмітажы ў Ленінградзе.

*Літ.:* Mienicki W. Wykopalisko w Mosarzu w końcu XVIII stulecia.— Wiadomosci numizmatyczno-archeologiczne, 1892, № 1—2. *Л. У. Дучыц.*

**1181. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 10 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Мярэцкія, Удзелаўскі сельсавет**

**1182. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**в. Нарушова, Узрэцкі сельсавет**

**1183. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі, на доўгай высокай градзе. 17 насыпаў вышынёй 0,8—1,3 м, дыяметрам 6—10 м. Адзін курган за 200 м на ўсход ад асноўнага могільніка. Выявіў Ф. В. Пакроўскі ў канцы 19 ст. У 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Га-



**1179.** *Касцёл Ганны. Планы касцёла і званіцы.*



**1179.** *Касцёл Ганны. Рэльеф «Евангеліст Марк».*



**1179.** *Касцёл Ганны. Рэльеф «Евангеліст Матфей».*



**1179.** *Касцёл Ганны. Рэльеф «Хрышчэнне».*

лубовіч раскапалі насып, пад якім на грунце знойдзены 3 шкілеты. Абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Належыць полацкім крывічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *М. А. Ткачоў.*

**в. Падгаі, Абрубскі сельсавет**

**1184. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Аржаніца. Займае паўночную частку марэннай грады, якая ўпіраецца ў раку. Памер выцягнутай з поўдня на поўнач пляцоўкі 90×30 м, вышыня над поймай 6—7 м. З усходу ўмацавана валам (ніжэй за пляцоўку) вышынёй 2 м, даўжынёй каля 30 м і ровам глыбінёй 2 м, шырынёй 7 м. З паўночнага боку гарадзішча — рэшткі вала вышынёю да 0,5—0,7 м і 2 тэрасападобныя выступы, якія абрываюцца рэчкай. Выявіў у 1967 г. Г. В. Штыхаў, даследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт у паўднёвай частцы пляцоўкі 1,1 м. Знойдзены кавалкі ляпной керамікі, попел і вуголле. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. А. Ткачоў.*

**г. п. Падсвілле, цэнтр пасялковага Савета**

**1185. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы. Пахаваны 101 воін і 11 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Перавоз, Падсвільскі пасялковы Савет**

**1186. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1186а.** Могільнік-1. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Каменнае на левым беразе р. Шоша. 28 курганоў вышынёю ад 1 да 2 м, дыяметрам 5—11 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1186б.** Могільнік-2. За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Пчальнік на беразе р. Шоша. Больш за 200 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 5—11 м. Асобныя курганы вышынёй да 4,5—5 м, дыяметрам да 15—18 м. Абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.



**1189.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1186в.** Могільнік-3. Насупраць могільніка-2, на правым беразе р. Шоша, у лесе. 20 курганоў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 7—12 м. Абследавалі ў 1938—39 гг. У. Галубовіч, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1186г.** Могільнік-4. Пры ўездзе ў в. Перавоз, на ўскрайку лесу, уздоўж дарогі ў в. Маргі. 3 курганы-«валатоўкі» вышынёй да 2 м, дыяметрам да 12 м. Яшчэ адзін курган — пры выездзе з в. Перавоз у в. Бабруйшчына, за мостам, вышыня 2 м, дыяметр 8 м. Выявіў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся. *М. А. Ткачоў.*

**в. Пліса, цэнтр сельсавета**

**1187. КУРГАН** (археал.). Насупраць канторы раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. Вышыня 1,5 м, дыяметр 8 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў.

**1188. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на краі першай надпоймавай тэрасы воз. Пліса (0,8—1,2 м над вадой). Памеры 60×30 м. Выявіў і даследаваў у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. Даследавана 144 м² плошчы. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, фрагмент каменнай шліфавальнай пліткі, порыстая кераміка позняга этапу нарвенскай культуры (канец 3-га тысячагоддзя да н. э.), кераміка з жарствой у цесце і ружанцавым арнаментам сосніцкай культуры (2-я палавіна 2-га тысячагоддзя да н. э.), грубаляпны посуд культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі н. э.), шлакі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследование памятников неолита и бронзы Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Празарокі, цэнтр сельсавета**

**1189. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 189 воінаў і 18 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**1190. КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ** (архіт.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі на Глыбокае. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Трохнефавы базілікальны храм з пяціграннай алтарнай часткай і сакрысціямі па баках. Накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Вось сіметрыі галоўнага двухвежавага фасада вылучана ўваходным праёмам і 3 высокімі арачнымі вокнамі над ім. Карнізныя паясы расчляняюць плоскасць фасада і вежаў на ярусы. У інтэр'еры столь плоская, размалявана ілюзорнымі кесонамі, над уваходам — хоры.

Касцёл — помнік архітэктуры неараманскага стылю. *А. М. Кулагін.*

**1191. МАГІЛА БУЙНІЦКАГА** Ігната Цярэнцьевіча (гіст., маст.). У цэнтры вёскі.

Беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, заснавальнік беларускага прафесійнага тэатра. І. Ц. Буйніцкі нарадзіўся 10.8.1861 г. ў фальварку Палевачы (Празароцкі сельсавет). Атрымаў адукацыю ў Рызе, працаваў каморнікам. У 1907 г. стварыў аматарскі калектыў, удзельнікамі якога былі сябры І. Буйніцкага, яго дочкі Ванда і Алена, мясцовыя сяляне. З 1910 г. калектыў набыў прафесійныя рысы, атрымаў назву Першая беларуская трупа. Тэатр часта гастраляваў у Мінску, Слуцку, Капылі, Дзісне, По-



**1190.** *Касцёл Маці боскай.*



1191. *Помнік на магіле І. Ц. Буйніцкага.*

лацку, Нясвіжы, Клецку, Ляхавічах і іншых гарадах і мястэчках Беларусі, у Вільні, Пецярбургу і Варшаве. Трупа вызначалася своеасаблівасцю. У паказах спалучаліся розныя віды мастацтва: драматычныя спектаклі, хор, дэкламацыя і танцы. У драматычным рэпертуары былі п'есы «Сватанне» А. Чэхава, «Пашыліся ў дурні» і «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага, «Модны шляхцюк» К. Каганца, інсцэніроўка аповесці «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі і інш. Разнастайным быў песенна-танцавальны рэпертуар. Асноўнае месца ў ім займалі беларускія песні і танцы, якіх у рэпертуары было каля 70. І. Буйніцкі вызначаўся тэмпераментным выкананнем беларускіх народных танцаў, якія сам і ставіў. І. Буйніцкі — выканаўца галоўных роляў у спектаклях «Пашыліся ў дурні» (Антон), «Модны шляхцюк» (Ігнась), «У зімовы вечар» (Аляксей), «Па рэвізіі» (Міраповіч). Рэжысёрскую работу разам з І. Буйніцкім ажыццяўляў А. Бурбіс. Спектаклі Першай беларускай трупы карысталіся вялікім поспехам у гледачоў, якія ўспрымалі дзейнасць трупы як праяўленне нацыянальнай свядомасці, уздыму культуры народа. Дзейнасць І. Буйніцкага падтрымлівалі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, А. Цётка (апошняя сама ўдзельнічала ў спектаклях трупы як актрыса) і многія інш. Як кіраўнік тэатра дапамагаў трупе сціплымі ўласнымі сродкамі. Тэатр увесь час сутыкаўся з матэрыяльнымі цяжкасцямі, перашкодамі цэнзуры і мясцовых улад, якія бачылі ў тэатры пагрозу вялікадзяржаўнай палітыцы царызму. Па гэтых прычынах у 1913 г. дзейнасць трупы была спынена. У 1914 г. І. Буйніцкі спрабуе стварыць новы тэатр, аднак 1-я сусветная вайна перашкодзіла здзейсніць гэтую задуму. У пачатку 1917 г. І. Буйніцкі быў ініцыятарам арганізацыі прафесійнага тэатра ў Мінску — Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Але ў хуткім часе быў адпраўлены на Заходні фронт, дзе раптоўна памёр 9.9.1917 г. Спачатку быў пахаваны каля Палачан, потым прах перавезены на ўскраіну вёскі Празарокі. У 1975 г., напярэдадні адкрыцця помніка, перапахаваны ў цэнтры вёскі.

Помнік адкрыты 10.10.1965 г. (скульпт. І. Міско, арх. М. Бурдзін). Размешчаны на прамавугольнай пляцоўцы каля магілы сярод клёнаў і ліп. Пляцоўка і дарожка выкладзены бетоннай пліткай. Помнік просты і сціплы па форме: прамавугольная (5×1 м) адлітая з бетону стэла, у яе ўрэзаны блок (0,9×0,9×0,8 м) з выявай твару І. Буйніцкага (алюмініевае ліццё). Падкрэслена тыповае ў твары: вялікі выпуклы лоб, шырокія бровы, звіслыя пышныя вусы. На стэле дзвюма плаўнымі лініямі сімвалічна пазначана тэатральная заслона.

*Літ.:* Няфёд У. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982; Да стагоддзя з дня нараджэння І. Ц. Буйніцкага.— У кн.: Беларускае мастацтва. Мн., 1962, в. 3.

*У. І. Няфёд, Г. І. Барышаў.*

**1192. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі каля дарогі на Глыбокае. Пабудавана ў 1909 г. з цэглы. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя царквы складаецца з рознавялікіх аб'ёмаў: двух'яруснай шатровай званіцы (васьмярык на чацверыку), бабінца, кубападобнай зальнай часткі, пяціграннай апсіды з бакавой прыбудоўкай. У агульнай кампазіцыі дамінуюць цыбулепадобныя галоўкі званіцы і цэнтральнага аб'ёму. Арачныя аконныя праёмы дэкарыраваны кілепадобнымі броўкамі, контуры фасадаў акаймаваны лапаткамі і аркатурай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Прошкава, Зябкаўскі сельсавет**

**1193. КАСЦЁЛ ІААНА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з дрэва. Двухзрубны: прамавугольны ў плане асноўны аб'ём і пяцігранная алтарная частка з бакавымі сакрысціямі. Дах двухсхільны пераходзіць над алтаром у вальмавы гранёны. Над галоўным фасадам вежа-званіца з шатровым пакрыццём. Унутры столь плоская, над уваходам хоры на 2 слупах.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства.



1192. *Петрапаўлаўская царква.*

**в. Прыпернае, Абрубскі сельсавет**

**1194. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Псуя, цэнтр сельсавета**

**1195. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1196. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На могілках. Выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Памер пляцоўкі 150×45. Узвышаецца над на-



1193. *Касцёл Іаана.*

ваколлем на 15 м. Выявілі ў 1970 г. мясцовыя краязнаўцы. Абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,7 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, косці жывёл. Датуецца 6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. У. Дучыц.*

**1197. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 75 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**засценак Пунькі (не існуе), Падсвільскі пасялковы Савет**

**1198. РАДЗІМА ДРАЗДОВІЧА** Язэпа Нарцызавіча — беларускага графіка, жывапісца і скульптара, фалькларыста (гіст.). Гл. артыкул № 1172 «Магіла Драздовіча Язэпа Нарцызавіча».

**в. Пятроўшчына, Узрэцкі сельсавет**

**1199. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пастаўлены ў 1968 г. на магіле 2 воінаў Савецкай Арміі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі. Уяўляе сабой скульптурна-архітэктурны ансамбль, асноўным кампазіцыйным цэнтрам якога з'яўляецца гранітны валун на нізкім чатырохгранным пастаменце. На валуне асіметрычна размешчана барэльефная выява галавы савецкага воіна ў касцы. Выяўленчае вырашэнне барэльефа вызначаецца пластычнай выразнасцю формы. Справа ад валуна мемарыяльная стэла з імёнамі 48 жыхароў в. Пятроўшчына і іншых населеных пунктаў калгаса «Перамога», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З левага боку на 2 высокіх слупах бетонная пліта з паяснымі выявамі партызан.

*Г. І. Дулеба, В. В. Церашчатава.*

**в. Рудніца, Узрэцкі сельсавет**

**1200. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, у лесе. 6 насыпаў вышынёй 0,5—0,8 м, дыяметрам 5—7 м. Выявілі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Свіла 1-я, Падсвільскі пасялковы Савет**

**1201. ГАРАДЗІШЧА. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1201а.** Гарадзішча. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на высокім узгорку левага берага безназоўнай рэчкі-пратокі, якая злучае невялікае возера з воз. Пліска. Пляцоўка авальная, даўжынёй 100 м, шырынёй 80 м, узвышаецца над поймай на 18—20 м. Умацавана 3 кальцавыміваламі і 2 равамі. Унутраны вал (вышыня каля 1,5 м, шырыня ў ніжняй частцы каля 10 м) насыпаны па краі пляцоўкі, другі (вышыня 2—2,5 м, шырыня каля 10 м) — на схіле ўзгорка на 5 м ніжэй унутранага вала, трэці (знешні, вышыня 1,5—2 м, шырыня 8—10 м) — уздоўж асновы ўзгорка. Равы размешчаны паміж валамі, іх глыбіня 1,5—2 м, шырыня 10—15 м. Пляцоўка і схілы ўзгорка зараслі лесам і хмызняком. Выявіў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1965 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. М. А. Ткачоў, даследаваў у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскапана 168 м² плошчы. Культурны пласт 0,3—0,4 м. На мацерыку выяўлены 2 грунтавыя пахаванні з пахавальным абрадам трупаспалення. У адным знойдзены абломкі гаршкоў, 2 скроневыя кольцы і наканечнік утулачнай стралы з 2 шыпамі. Недалёка ад пахаванняў — гаспадарчая яма, запоўненая чорнай зямлёй, у якой было многа абпаленага зерня жыта. На дне ямы ляжалі рэшткі 2 гаршкоў і адзін цэлы, у ім таксама было зерне жыта. У яме знойдзены наканечнік тронкавай стралы, абломкі гаршкоў і гліняныя праслііцы. Гарадзішча датуецца 9 ст. н. э. Верагодна, яно належала крывічам, з'яўлялася апорным пунктам пры асваенні новых зямель.



**1199.** *Помнік савецкім воінам і землякам.*

**1201б.** Курганны могільнік. За 1 км на паўночны захад ад вёскі. 60 насыпаў вышынёй 0,8—2 м, дыяметрам 6—10 м. Выявіў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1965 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы раскопак гарадзішча захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна, 1893; Мітрафанаў А. Р., Каробушкіна Т. М. Археалагічны помнік расказвае.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1975, № 4.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Скрабянец, Падсвільскі пасялковы Савет**

**1202. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, у хвойніку. Каля 200 насыпаў вышынёю 1,2—3 м, дыяметрам 6—11 м. Выявіў у 1973 г. М. А. Ткачоў, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Старыя Шарабаі, Карабоўскі сельсавет**

**1203. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Парыжская камуна». На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Удзела, цэнтр сельсавета**

**1204. КАСЦЁЛ ФРАНЦЫСКАНЦАЎ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1740 г. з цэглы. У 1837 г. галоўны фасад увянчаны трохвугольным франтонам і пазбаўлены бакавых вежаў. У гэты ж час выканана афармленне інтэр'ера ў стылі класіцызму.

Касцёл трохнефавы, з паўцыркульнай апсідай і сакрысціямі па баках. Нефы маюць аднолькавую вышыню і накрыты агульным двухсхільным дахам. Плоскасць галоўнага фасада расчлянёна пілястрамі, гарызантальнымі цягамі, філёнгамі і паўцыркульнымі авальнымі нішамі. Бакавыя і алтарны фасады раскрапаваны лапаткамі і прарэзаны фігурнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры цыліндрычныя скляпенні з падпружнымі аркамі і распалубкамі. Над бабінцам размешчаны выгнутыя ў плане хоры. Сцены і слупы дэкарыраваны шырокімі карнізнымі паясамі, іанічнымі канеліраванымі пілястрамі. Перад галоўным фасадам касцёла па восі цэнтральнага ўвахода ў 2-й палавіне 19 ст. пабудавана з цэглы квадратная ў плане



**1204.** *Касцёл францысканцаў.*

двух'ярусная брама-званіца, вырашаная ў формах класіцызму.

Касцёл — помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму.

*С. Г. Багласаў.*

1205. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана.

1206. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1977 г.

1207. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1970 г.

**в. Узрэчча, цэнтр сельсавета**

1208. **КУРГАН** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі. Вышыня 1,2 м, дыяметр 6 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц.

1209. **МАГІЛА ЛЫТЫСАВА** Міхаіла Васілевіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы М. В. Лытысаў нарадзіўся 2.11.1902 г. ў в. Блізяціна Невельскага р-на Пскоўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. Служыў у Чырвонай Арміі (1924—25 гг.). У 1933—41 гг. знаходзіўся на кіруючай савецкай і гаспадарчай рабоце ў Невельскім р-не. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1946—67 гг. старшыня калгаса «Перамога» Глыбоцкага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 2.7.1950 г. за поспехі ў развіцці калгаснай вытворчасці і атрыманне высокіх ураджаяў лёну. М. В. Лытысаў памёр 13.2.1979 г. На магіле ў 1979 г. пастаўлена стэла.

*Г. І. Дулеба.*

1210. **МАГІЛА МАЦЮШОНКА** Міхаіла Міхайлавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы М. М. Мацюшонак нарадзіўся 13.3. 1915 г. ў в. Пятроўшчына Глыбоцкага р-на ў сялянскай сям'і. З маленства парабкаваў у памешчыкаў. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі (верасень 1939 г.) працаваў у калгасе на радзіме. У Вялікую Айчынную вайну прымаў удзел у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1947—70 гг. звеннявы льнаводчага звяна ў калгасе «Перамога» Глыбоцкага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 2.6.1950 г. за дасягнутыя поспехі ў развіцці калгаснай вытворчасці і атрыманне высокіх ураджаяў лёну. М. М. Мацюшонак памёр 25.12. 1978 г. На магіле ў 1979 г. пастаўлена стэла.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Чарневічы, Празароцкі сельсавет**

1211. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе. 30 насыпаў на левым і 66 на правым берагах р. Авута. Вышыня 1—3 м, дыяметр 5—10 м. Вакол курганоў добра прасочваюцца равочкі і перамычкі. У 1938—39 гг. даследавалі А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. Раскапана 79 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены ляпныя і ганчарныя гаршкі, нажы, бранзалеты, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, серп, ключ і косці жывёл. У 1981 г. помнік абследавала Л. У. Дучыц. Адносіцца да 9—11 стагоддзяў, належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР у Вільнюсе. *Л. У. Дучыц.*

1212. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

1213. **ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1887 г. з цэглы. Мае чатырохчасткавае аб'ёмна-прасторавае і планіровачнае вырашэнне: трох'ярусная вежа-званіца з шатровым верхам, бабінец, кубападобны асноўны аб'ём, апсіда. Фасады вылучаны вузкімі арачнымі вокнамі з простымі ліштвамі, галоўны ўваход — парталам з кілепадобным прафіляваным франтонам. Перад царквой — мураваная брама з драўляным шатровым дахам.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*



1204. *Касцёл францысканцаў. План.*



1213. *Царква Параскевы.*

**в. Чыстае, Галубіцкі сельсавет**

1214. **ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Тут партызаны брыгады «Кастрычнік» Вілейскага партызанскага злучэння ў 1943—44 гг. вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. ў памяць аб гэтых баях пастаўлены абеліск.

**в. Шо, Псуеўскі сельсавет**

1215. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,9 км на ўсход ад вёскі, у лесе справа ад дарогі ў Ліпава. 35 насыпаў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 4—10 м. Даследавалі ў 1939 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, раскапана 16 курганоў. У 15 шкілеты ляжалі ў падкурганных ямах, у 1 — на грунце. У 1 магільнай яме пад насыпам быў шкілет дзіцяці (7—9 гадоў) у багатым адзенні. На яго грудзях ляжала засцежка падкованападобнай формы, на бёдрах — рэшткі пояса ў выглядзе круглых і сэрцападобных металічных пласцінак з рэльефным штампаваным арнаментам і спражкі сэрцападобнай формы, на поясе — нож, на руках — пярсцёнкі, на правай руцэ — бранзалет, у нагах — вялікая сякера з шырокім лязом, паблізу магілы — чэрап барана. У іншых курганах знойдзены гладкія бранзалеты з вузкімі канцамі на правай ці левай руцэ, нажы, крэсіва, сякеры з шырокім лязом, наканечнікі коп'яў. У адным з пахаванняў знойдзены сярэбраны медальён — імітацыя арабскага дырхема канца 10 — пачатку 11 стагоддзя. Абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Курганы датуюцца 11—13 стагоддзямі, належалі полацкім крывічам.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *М. А. Ткачоў.*

**в. Шунеўцы, Карабоўскі сельсавет**

**1216. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шчаўкуны, Празароцкі сельсавет**

**1217. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля хутара Дварэц, на правым беразе р. Авута. Вышыня над поймай ракі 15—20 м. Пляцоўка памерам 120×20 м выцягнута з захаду на ўсход. Выявіў у канцы 1930-х гадоў Я. Н. Драздовіч, абследавала ў 1981 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,6—0,7 м. У ім знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, датуецца 6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*Л. У. Дучыц.*

**в. Шыпы, Абрубскі сельсавет**

**1218. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, каля хутара Новае Запалаўе. Пляцоўка памерам 60×58 м, вышынёй да 9 м. З паўднёвага боку захаваліся рэшткі вала вышынёй 2 м. Выявілі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,5—0,6 м. У ім знойдзены рэшткі арнаментаванай ляпной керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11.
*Л. У. Дучыц.*




# ДОКШЫЦКІ РАЁН

Крулеўшчына
Янушова
Порплішча
Яблонцы
Загацце
Валкалата
Сітцы
Станіслаўцы
Барсукі
Парафʼянава
ДОКШЫЦЫ
Таргуны
Несцераўшчына
Тумілавічы
Адрубак
Гліннае
Беразіно
Янкі
Камайск
Ліпск
Бедзіна
Юркаўшчына
Восава
Пруднікі
Пугачова
Крыпулі
Юхнаўка
Берасьнёўка
Бярозаўка
Вітунічы
Бярозкі
Бягомль
Вуглы
Ваўча
Замасточча

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і памятные месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

16 Зак. 3873

## XI. ДОКШЫЦЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны каля вытокаў р. Бярэзіна, за 200 км на захад ад Віцебска, за 12 км ад чыгуначнай станцыі Параф'янава на лініі Маладзечна — Полацк. Аўтамабільнымі дарогамі звязаны з Вілейкай, Глыбокім, Лепелем, Бягомлем. Аэрапорт.

У пісьмовых крыніцах Докшыцы ўпамінаюцца ў 15 ст. як мястэчка ў Віленскім ваяводстве Вялікага княства Літоўскага. У 16 ст. належалі магнацкаму роду Кішкаў. З 1793 г. пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Докшыцы ў складзе Расійскай імперыі, спачатку горад, цэнтр павета, пазней мястэчка Барысаўскага павета Мінскай губерні. З 1796 г. мелі герб — шчыт з зялёным полем, у яго ніжняй частцы 2 збаны, з якіх выцякаюць серабрыстыя струменьчыкі вады — сімвалы Бярэзіны і Віліі, што бяруць пачатак непадалёку ад горада.

Насельніцтва займалася земляробствам, рамяством і гандлем. Кірмашы праводзіліся 4 разы на год. Першая школа з адным настаўнікам адкрыта ў 1608 г. Паводле перапісу 1897 г. ў Докшыцах 3642 жыхары, з іх 40,6 % пісьменных, у 1904 г. — 4103 жыхары, 435 драўляных і 1 мураваны дамы, 2 пачатковыя школы (5 настаўнікаў, 235 вучняў), 2 гасцініцы, 2 сукнавальні (3 рабочыя). Докшыцы неаднаразова гарэлі. Пажары ў 1708 г. і ў 1812 г. знішчалі іх дашчэнту. У пачатку 20 ст. ў Докшыцах жыў вядомы батлеечнік Патупчык. Ён выступаў на кірмашах з сатырычнымі пастаноўкамі, высмейваў царкоўных служак, паноў, карчмароў і інш., за што праследаваўся мясцовымі ўладамі.

Савецкая ўлада ўстаноўлена 26.10(8.11).1917 г. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. горад адышоў да буржуазнай Польшчы і ўваходзіў у Дзісенскі павет Віленскага ваяводства. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. Докшыцы ў складзе Вілейскай вобл., 3,6 тыс. жыхароў. З 15.1.1940 г. цэнтр раёна.

У Вялікую Айчынную вайну з 9.7.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (29.8.1943 г. — 1.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.10.1942 г. — 1.7.1944 г.). У лютым 1943 г. партызаны брыгады «Жалязняк» разграмілі ў горадзе буйны гарнізон ворага. Вызвалены войскамі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту пры ўдзеле партызан. З 1944 г. цэнтр раёна Полацкай, з 1954 г. — Маладзечанскай, з 1965 г. — Віцебскай абласцей. У 1959 г. — 2,2 тыс. жыхароў.

Планіроўка Докшыц набыла рэгулярны характар у 19 ст. Цэнтр горада захаваў планіроўку 17 ст. Сучасная забудова ажыццяўляецца па генеральным плане, распрацаваным Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва ў 1977 г. На пл. Палявога ўзведзены будынкі райкома КПБ, кінатэатра, універмага, рэстарана, на вул. Ленінскай — будынак райвыканкома, двух-трохпавярховыя жылыя дамы.



XI. *Плошча Палявога. Фрагмент забудовы.*

Працуюць хлебакамбінат, маслазавод, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», камбінат бытавога абслугоўвання. У горадзе сярэдняя, вячэрняя, музычная школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Ленінская трыбуна». Ёсць гарадскі і маладзёжны паркі. У гарадскім парку — помнік У. І. Леніну.

Зоны адпачынку — на ўсходняй ускраіне горада ва ўрочышчы Чыстаполле і на р. Бярэзіна.

*Літ.:* Семенов-Тян-Шанский П. П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 2.— СПб., 1865; Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования БССР: Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 4.— Мн., 1954; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии (октябрь 1917 — март 1918 гг.). Т. 2.— Мн., 1957; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Т. 1 (1921—1929 гг.).— Мн., 1962; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР.— Мн., 1959.

*Г. І. Барышаў, С. Ф. Цярохін.*

**1219. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На пл. Палявога, у скверы. Пахаваны 101 воін і 29 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 306-й стралковай дывізіі 43-й арміі і партызаны брыгады «Жалязняк», Герой Савецкага Саюза Іван Сцяпанавіч Палявой.

І. С. Палявой нарадзіўся 7.1.1907 г. ў в. Новамікалаеўка Наватроіцкага р-на Херсонскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. У Чырвонай Арміі з 1929 г. У 1933 г. скончыў Ейскую ваенную школу пілотаў. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. ваяваў на Паўднёвым, Калінінскім, Паўднёва-Заходнім, Ленінградскім, 3-м Беларускім і 1-м Прыбалтыйскім франтах. Намеснік камандзіра авіяпалка маёр І. С. Палявой зрабіў 125 баявых вылетаў, бомбавымі ўдарамі знішчыў 22 варожыя самалёты, 40 танкаў, 307 аўтамашын, разбурыў 3 пераправы і 2 масты. Загінуў 20.8.1944 г. 23.2.1945 г. І. С. Палявому прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названы плошча і вуліца ў Докшыцах.

У 1961 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*С. Ф. Цярохін.*

**1220. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада. Пахаваны 350 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна ці былі загублены гітлераўцамі ў лагеры ваеннапалонных. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1221. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У скверы паміж вуліцамі Палявога і Піянерскай.

З першых дзён акупацыі гітлераўцы ўстанавілі ў горадзе жорсткі акупацыйны рэжым. На ўсходняй ускраіне горада ў былым пясчаным кар'еры сістэматычна расстрэльвалі савецкіх патрыётаў і іх сем'і — жыхароў Докшыц і навакольных вёсак. Пасля вызвалення горада сюды перанесены астанкі людзей з іншых месцаў горада. Усяго тут пахаваны 4200 чалавек.

18.5.1968 г. на месцы масавай загубы савецкіх людзей закладзены мемарыяльны сквер і ўстаноўлена стэла з барэльефнымі выявамі старога, пажылой і маладой жанчын і дзяўчынкі.

*С. Ф. Цярохін.*

**1222. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Ленінскай, насупраць будынка райвыканкома.

2.7.1944 г. 935-ы стралковы полк (камандзір падпалкоўнік А. І. Бяспятаў) 306-й стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр М. І. Кучаравенка) і 10-я гвардзейская танкавая брыгада з дэсантам партызан брыгады «Жалязняк» вызвалілі г. Докшыцы. У вызваленні Докшыцкага р-на ўдзельнічалі таксама воіны 277-й стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр С. Т. Гладышаў), 5-й арміі 3-га Беларускага фронту. Вялікую



XI. *Вуліца Ленінская. Фрагмент забудовы.*



**1219.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ролю ў разгроме гітлераўцаў адыгралі народныя мсціўцы. Яны дапамагалі савецкім воінам пры пераправах цераз рэкі, былі праваднікамі. Некаторыя паселеныя пункты былі вызвалены партызанамі брыгады «Жалязняк» (камандзір І. П. Ціткоў, камісар Ф. І. Дзернушкоў) і ўтрымліваліся імі да падыходу войск Чырвонай Арміі. Гл. таксама артыкул № 1250 «Помнік партызанскай славы».

У Докшыцкім р-не дзейнічалі партызанскія брыгады імя ЦК КП(б)Б (створана ў сакавіку 1943 г.; камандзіры А. Д. Мядзведзеў, М. Р. Пучкароў (в. а.), М. І. Фёдараў, камісары Ц. М. Бондараў, Ф. Я. Воранаў, М. Р. Пучкароў, У. П. Шчуцкі), імя У. І. Леніна (створана ў сакавіку 1943 г.; камандзір М. А. Сакмаркін, камісар А. У. Сіпко), імя К. К. Ракасоўскага (створана ў ліпені 1942 г.; камандзіры А. І. Петракоў, У. Н. Дорменеў, А. В. Раманаў, камісары А. В. Раманаў, Ш. Н. Нігамаеў, П. М. Машэраў).



**1221.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму. Фрагмент.*

У 1979 г. ў гонар вызвалення Докшыц і Докшыцкага р-на пастаўлены помнік — пілон, завершаны кубам, на адной з граней якога рэльефная выява галавы савецкага воіна, на другой — надпіс-прысвячэнне.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Титков И. Ф. Бригада «Железняк».— 2 изд.— Мн., 1982.

*М. Б. Батвіннік.*

**1223. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У гарадскім парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1966 г.

**1224. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Пушкінскай, у маладзёжным парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1966 г.

**1225. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры горада. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 стагоддзяў з бутавага каменю і цэглы. Уяўляе сабой кананічны тып праваслаўнага храма са званіцай, бабінцам, кубападобным асноўным аб'ёмам і прамавугольнай апсідай. У прасторавай кампазіцыі дамінуе шатровая званіца (васьмярык на чацверыку). Пластыка-каларыстычнае вырашэнне фасадаў пабудавана на кантрасце паліхромнай бутавай муроўкі з белай тынкоўкай дэталей архітэктурнага дэкору (какошнікі, арнаментальныя паясы, цыбулепадобныя галоўкі).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Азарцы (не існуе), Параф'янаўскі сельсавет**

**1226. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Азарцы знаходзілася за 6 км на паўднёвы захад ад г. Докшыцы, злева ад дарогі на чыгуначную станцыю Параф'янава. 12.8.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 27 жыхароў, 4 з іх кінулі жывымі ў агонь; спалілі вёску. Не адрадзілася. У 1979 г. на месцы загубы жыхароў пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына ў жалобе і хлопчык.

**в. Асавы, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1227. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 78 аднавяскоўцаў — членаў партызанскіх сем'яў, якіх у маі 1943 г. закатавалі і спалілі ў хляве нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1228. ПОМНІК ЧЫРВОНААРМЕЙЦАМ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Тут у савецка-польскую вайну ў чэрвені 1920 г. 13 чырвонаармейцаў прыкрывалі ад войск



**1222.** *Помнік Вызвалення.*

буржуазнай Польшчы адыход 43-га Чырванасцяжнага стралковага палка. Агнём з вінтовак яны амаль на паўдня затрымалі рух праціўніка па дарозе Замасточча — Асавы. Было адбіта некалькі атак. Чырвонаармейцы трымаліся да апошняга патрона і загінулі ў рукапашнай схватцы. Пазверску знявечаных воінаў сяляне пахавалі на вясковых могілках.

У 1970 г. на месцы бою ў гонар подзвігу чырвонаармейцаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Чуйков В. И. Закалялась молодость в боях.— 3 изд.— М., 1978.

*М. Б. Батвіннік, С. Ф. Цярохін.*

**в. Асецішчы, Бярэзінскі сельсавет**

**1229. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1229а.** Гарадзішча-1. За 0,3 км на захад ад вёскі, у лесе, пры ўпадзенні р. Сергуч у Асецкае воз. Размешчана на самым высокім месцы падоўжанага ўзвышша. Пляцоўка авальная, выцягнута з поўначы на поўдзень, памерам 57×46 м. З усіх бакоў умацавана валам і ровам, глыбіня рова ад грэбеня вала ад 1,1 да 1,7 м, шырыня 4—5 м, шырыня вала ў аснове 5—7 м, вышыня 2—2,5 м. З паўднёвага і паўночнага бакоў вал і роў праходзяць праз узвышша, з заходняга і ўсходняга — па схіле ўзвышша. З паўднёвага боку гарадзішча дадаткова ўмацавана ду-



**1226.** *Помнік на месцы спаленай вёскі Азарцы.*

гападобным унутраным валам шырынёй 8 м, максімальнай вышынёй 0,7 м. Паўночныя схілы пакатыя. З паўднёвага боку паміж вонкавым валам і ровам ёсць невялікая тэраса шырынёй 2—2,5 м. Захаванасць гарадзішча добрая: пляцоўка, схілы і ўмацаванні (валы і роў) задзернаваныя, зараслі густым хмызняком і хваёвым лесам. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у агаленнях 0,4—0,5 м. Сабраны абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін, косці жывёл, дробныя кавалкі шлаку. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, датуецца 3—4 стагоддзямі н. э.

**1229б.** Гарадзішча-2. За 3,5—4 км на захад ад вёскі, на высокім узгорку, каля былога хутара Кадлубішча. Пляцоўка авальная, памерам 71×57 м. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт захаваўся па краях пляцоўкі. У ім знойдзены абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін, шлакі. Адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Датуецца 3—4 стагоддзямі.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Асінавік, Бярозкаўскі сельсавет**

**1230. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пляцоўка роўная, у плане авальная, памерам 56×52,5 м. Умацавана 2 кальцавымі валамі і равамі, якія знаходзяцца на схіле, на 3—4 м ніжэй за край пляцоўкі (шырыня вонкавага вала 3—3,5 м, вышыня 0,5—1 м, шырыня ў аснове ўнутранага 7—8 м, вышыня 1,2—1,8 м). З напольнага боку (паўночнага) гарадзішча дадаткова ўмацавана трэцім дугападобным валам. Шырыня яго не перавышае 0,6—0,7 м, вышыня 1,4 м. Культурны пласт 0,7—0,8 м прасочваецца па ўсёй пляцоўцы і на яе краях. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Сабраны абломкі штрыхаваных пасудзін, абпаленыя камяні, кавалкі шлаку. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 3—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**1231. КАМЕННЫ КРЫЖ** (гіст.). За 2,5 км ад вёскі, у лясным урочышчы Каралёў Стан, за 150 м справа ад дарогі на Бягомль. Крыж ляжыць на абкладзенай неапрацаванымі камянямі пляцоўцы невялікага кургана. Высечаны з мясцовага граніту шэрага колеру. Вышыня 1,85 м, шырыня на гарызантальнай папярочцы 1,1 м. Плоскасці роўныя, шурпатыя. Ніжняя частка патоўшчаная. На фасаднай плоскасці штрыхаваная выява чалавека з каралеўскай каронай над галавой, ніжэй — літары «R», «S», «B» і 2 кругі (адзін у адным). Сярод мясцовага насельніцтва бытуе паданне, што крыж пастаўлены на месцы каралеўскага стану, які размяшчаўся тут у час аднаго з паходаў караля Рэчы Паспалітай на ўсход у 1579—82 гг. Магчыма, паданне данесла да нас сапраўдны гістарычны факт. Ускосна гэта пацвярджаецца назвай урочышча і літарамі, калі іх расшыфраваць як «Rex Stefan Batory» — кароль Стэфан Баторый. Калі Баторый на самой справе спыняўся тут, хутчэй за ўсё, малюнкі і надпіс высечаны ў яго гонар на крыжы, які ўжо стаяў на кургане.

*Літ.:* Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса.— Мн., 1929; Аникиевич К. Т. Сенненский уезд...— Могилев, 1907.

*С. Ф. Цярохін.*

**в. Барсукі, Парпліпічанскі сельсавет**

**1232. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля бальшака Докшыцы — Глыбокае. На ўшанаванне памяці 105 жыхароў вёсак Барсукі, Пасекі, Пералог, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Беразіно, цэнтр сельсавета**

**1233. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1233а.** Гарадзішча. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўзгорку вышынёй 17—18 м першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Бярэзіна. Роўная, крыху выпуклая ў сярэдзіне пляцоўка памерам 49×47 м мае нахіл у паўночна-ўсходні бок. З поўдня, паўднёвага захаду і паўднёвага ўсходу ўмацавана валам і ровам, якія знаходзяцца на 5—5,5 м ніжэй за край пляцоўкі. Вышыня вала з напольнага боку не перавышае 0,7—0,8 м, з боку рова — 1,2—1,3 м. Шырыня рова (ад грэбеня вала да схілу ўзгорка) 7—8 м. З паўночнага і паўночна-ўсходняга бакоў схілы гарадзішча стромкія і высокія, у тых месцах, дзе праходзяць вал і роў, не вышэй за 4—5 м. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт прасочваецца на ўсёй плошчы, у цэнтры 0,2—0,3 м, бліжэй да краёў 0,7—0,8 м. У культурным пласце трапляюцца дробныя абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін, абпаленыя камяні і кавалкі шлакаў. Мяркуючы па кераміцы, гарадзішча мае матэрыялы культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай. Датуецца 3—4 стагоддзямі н. э.



**1233б.** *Курганны могільнік. План.*

**1233б.** Курганны могільнік. За 3,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Выскадніца. 18 курганоў, насыпаных з жоўтага пяску. Дыяметр ад 5 да 10 м, вышыня ад 0,3 да 2 м. Насыпы задзернаваны, зараслі хвоямі і густым хмызняком. Уздоўж большасці курганоў прасочваюцца раўкі. Ёсць насыпы, абкладзеныя камянямі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**1234. МАГІЛА ПАТАПЕЙКІ** Канстанціна Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках.

Член Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну К. Дз. Патапейка нарадзіўся ў 1911 г. ў в. Гучча Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў ляснічым, дырэктарам Бягомльскага лясніцтва. У Вялікую Айчынную вайну падпольшчык, прымаў па радыёпрыёмніку і распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, агітаваў насельніцтва змагацца супраць гітлераўцаў. Па заданню камандавання партызанскага атрада «Барацьба» склаў схему ўмацаванняў нямецкага гарнізона ў Бягомлі. У чэрвені 1942 г. арыштаваны акупантамі, пасля катаванняў расстраляны.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

*М. Б. Батвіннік.*

**1235. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля дарогі з вёскі на цэнтральную сядзібу саўгаса «Чырвонабярэзінскі». На ўшанаванне памяці 67 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**1236. РАДЗІМА МАНКОВІЧА** Сцяпана Сцяпанавіча (гіст.). Герой Савецкага Саюза. Гл. артыкул № 38 «Магіла Манковіча Сцяпана Сцяпанавіча».

**в. Берасноўка, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1237. РАДЗІМА ЮХНАЎЦА** Арсенція Гаўрылавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Г. Юхнавец нарадзіўся ў 1916 г. ў сялянскай сям'і. Кандыдат ў члены КПСС. У 1938 г. прызваны ў Чырвоную Армію, у верасні 1939 г. ўдзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі. Перад Айчыннай вайной працаваў трактарыстам Бягомльскай МТС. На фронце з 1941 г., удзельнік абароны Масквы, Курскай бітвы, вызвалення Беларусі і Польшчы. Памочнік камандзіра ўзвода старшына А. Г. Юхнавец вызначыўся ў баях пад Брэстам. Асабіста захапіў у палон 27 гітлераўцаў. 27.7.1944 г. выявіў варожую калону аўтамашын і скарэкціраваў агонь савецкай артылерыі на сябе. У выніку было знішчана 30 аўтамашын з ваенным грузам і 150 гітлераўцаў. Загінуў 20.8.1944 г. ў баях пад Варшавай. Пахаваны ў в. Множ (ПНР). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.9.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Бягомлі, імя героя прысвоена Берасноўскай васьмігадовай школе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *С. Ф. Цярохін.*

**в. Бірулі, Тумілавіцкі сельсавет**

**1238. ГАРАДЗІШЧА ШВЕДСКАЯ ГАРА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1238а.** Гарадзішча Шведская Гара. За 2 км на поўдзень ад вёскі, на стрэлцы доўгага ўзгорка вышынёй 10 м. Пляцоўка роўная, авальнай формы, памерам 56×48 м. З усходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў да яе прымыкае вялікая, месцамі забалочаная пойма воз. Медзазол. З напольнага (паўночнага) боку ўмацавана 3 валамі і ровам. Унутраны вал дугападобны, шырынёй каля асновы 7 м, вышынёй 0,6—0,7 м. Два другія шырынёй 10—12 м, вышынёй 1,5—2 м умацоўваюць гарадзішча з паўночна-заходняга і паўночна-ўсходняга бакоў. На вяршыні ўзгорка валы канцамі заходзяць адзін за адзін і ўтвараюць своеасаблівы калідор, які, верагодна, быў уваходам. Паміж пляцоўкай і валамі выкапаны роў глыбінёй 2,3 м, шырынёй 12—13 м. Паўночна-ўсходні вал у паўднёвым напрамку пераходзіць у тэрасу, якая паступова становіцца схілам. Шырыня тэрасы 3—3,5 м. Абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт прасочваецца па ўсёй пляцоўцы, у цэнтры ён не перавышае 0,3—0,4 м, бліжэй да краёў 1—1,3 м. Пры зачыстцы сценак адной з ям у паўднёвай частцы пляцоўкі знойдзены абломкі штрыхаваных пасудзін, кавалкі шлаку, абпаленыя камяні. Мяркуючы па кераміцы, гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 3—2 стагоддзямі да н. э.— 4—5 стагоддзямі н. э.

**1238б.** Курганны могільнік. За 0,1—0,15 км на поўдзень ад вёскі, на заходнім беразе воз. Медзазол, на вялікім узвышшы з пакатымі схіламі. 130 круглых і падоўжаных курганоў. Круглыя вышынёй ад 0,5 м да 3 м, дыяметрам ад 4 да 12 м. Падоўжаныя насыпы даўжынёй 8—14 м, шырынёй 6—8 м, вышынёй 1,2—1,5 м. Захаванасць здавальняючая, усе курганы задзернаваны і пакрыты густым хмызняком і рэдкім хваёвым лесам. Уздоўж асноў відаць раўкі. У 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч раскапалі 4 курганы. У 3 курганах былі рэшткі спаленых трупаў, у адным — трупапалажэнне. Пры касцяку былі пасудзіна, крэсіва, шкляныя пацеркі і інш. У курганах з трупаспаленнем знойдзены наканечнік кап'я, двухшыпавы наканечнік стралы, ляпныя пасудзіны. У 1971 г. могільнік абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Могільнік датуецца 10—13 стагоддзямі, належаў крывічам.

Матэрыялы абследавання гарадзішча і раскопак могільніка захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *А. Р. Мітрафанаў.*



**1238а.** *Гарадзішча. План.*

**в. Будзілаўка, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1239. МАГІЛА ГАНЧАРА** Уладзіміра Георгіевіча (гіст.). На могілках.

Член Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну У. Г. Ганчар нарадзіўся ў 1923 г. ў в. Будзілаўка ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1939 г. У 1941 г. скончыў 9 класаў Бягомльскай сярэдняй школы. Працаваў у сельскай гаспадарцы. У вайну падпольшчык, распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, збіраў для партызан атрада «Барацьба» зброю і боепрыпасы. У чэрвені 1942 г. У. Г. Ганчар быў арыштаваны і расстраляны.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1240. МАГІЛА ПЕЧАНЯ** Мікалая Антонавіча (гіст.). На могілках.

Член Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну М. А. Печань нарадзіўся ў 1915 г. ў в. Будзілаўка ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1936 г. Скончыў Мар'інагорскі сельгастэхнікум (1938 г.). Працаваў аграномам у Бярэзінскай МТС. У вайну падпольшчык, збіраў зброю, боепрыпасы і медыкаменты для партызан атрада «Барацьба». У снежні 1942 г. арыштаваны гітлераўцамі і расстраляны.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1241. МАГІЛА ПЕЧАНЯ** Уласа Мікалаевіча (гіст.). На могілках.

Член Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну У. М. Печань нарадзіўся ў 1923 г. ў в. Будзілаўка ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1937 г. У 1941 г. скончыў Бягомльскую сярэднюю школу. У вайну падпольшчык, збіраў зброю і боепрыпасы, распаўсюджваў лістоўкі. У чэрвені 1942 г. арыштаваны гітлераўцамі і расстраляны.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

## XII. БЯГОМЛЬ

Гарадскі пасёлак. За 30 км на паўднёвы ўсход ад Докшыц, 162 км ад Віцебска, 42 км ад чыгуначнай станцыі Параф'янава на лініі Маладзечна — Полацк. Аўтамабільнымі дарогамі звязаны з Мінскам, Віцебскам, Барысавам, Докшыцамі.

У Літоўскай метрыцы ўпамінаецца пад 1606 г. З 18 ст. ў Мінскім павеце. З 1793 г. ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Барысаўскага павета Мінскай губерні. У канцы 19 ст.

Бягомль — сяло, 43 двары, 470 жыхароў, валаснoe праўленне, царква, школа, бальніца. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — буржуазнай Польшчы. Вызвалены Чырвонай Арміяй у 1920 г. З 1924 г. цэнтр Бягомльскага р-на Мінскай вобл., з 1938 г. гарадскі пасёлак. У Вялікую Айчынную вайну з канца чэрвеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (3.8. 1942 г. — 28.6.1944 г.) і ЛКСМБ (жнівень 1942 г. — 28.6.1944 г.). 20.12.1942 г. партызаны брыгады «Жалязняк» разграмілі ў Бягомлі нямецкі гарнізон, была адноўлена Савецкая ўлада. З красавіка 1943 г. ў Бягомлі дзейнічаў партызанскі аэрадром, праз які ажыццяўлялася сувязь з Вялікай зямлёй. 30.5.1943 г. ў час карнай аперацыі супраць партызан нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 300 жыхароў. Бягомль вызвалены 1.7.1944 г. 850-м стралковым палком 277-й стралковай дывізіі і 7-й механізіраванай брыгадай 3-га Беларускага фронту. З 1960 г. ў Докшыцкім р-не. У пасляваенны час гаспадарка Бягомля адноўлена і атрымала новае развіццё.

Працуюць вытворчы ўчастак Докшыцкага камбіната будаўнічых матэрыялаў, майстэрні раённага камбіната бытавога абслугоўвання, вытворчы ўчастак і лесанарыхтоўчы пункт Плешчаніцкага вытворчага лесанарыхтоўчага аб'яднання, хлебазавод, лясгас. Цэнтр саўгаса «Бягомльскі». У пасёлку сярэдняя і музычная школы, школа-інтэрнат, сад-яслі, Дом культуры, 2 бібліятэкі, музей народнай славы. Помнікі: У. І. Леніну, Вызвалення, на месцы былога партызанскага аэрадрома, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, ахвярам фашызму, землякам з саўгаса «Бягомльскі».

*Літ.:* Волости и важнейшие селения Европейской России.— СПб., 1886; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976. *М. Б. Батвіннік.*



*1244. Помнік на месцы партызанскага аэрадрома.*



*1242. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1242. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы каля Дома культуры. Пахаваны 73 воіны і 195 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 277-й стралковай дывізіі 3-га Беларускага фронту, якая вызваляла Бягомль. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана ў жалобе, абапал — 2 дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1243. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку сярэдняй школы імя С. М. Кірава. Устаноўлена ў 1979 г.

Падпольная партыйна-камсамольская арганізацыя ў г. п. Бягомль была створана ў жніўні 1941 г.. пасля акупацыі пасёлка нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У яе склад уваходзілі камуністы Я. А. Шаўцоў (кіраўнік), Ф. А. Буланда, К. Дз. Патапейка, камсамольцы У. Г. Ганчар, браты М. А. і У. М. Печань, У. В. Таракан, С. С. Хацкевіч. Падпольшчыкі наладзілі сувязь з партызанамі, збіралі і перадавалі ім зброю, звесткі аб дыслакацыі і перамяшчэнні варожых войск, вялі палітычную работу сярод мясцовага насельніцтва. У 1942 г. разам з партызанскай сувязной Н. І. Бычынскай былі схоплены фашыстамі і расстраляны.

*М. Б. Батвіннік, С. Ф. Цярохін.*

**1244. ПАРТЫЗАНСКІ АЭРАДРОМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне гарадскога пасёлка, злева ад дарогі на Докшыцы. Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся партызанскі аэрадром.

20.12.1942 г. партызаны брыгады «Жалязняк» разграмілі буйны нямецка-фашысцкі гарнізон у Бягомлі, авалодалі гарадскім пасёлкам і стварылі аэрадром, для чаго скарысталі ўзлётна-пасадачную паласу, будаўніцтва якой было распачата перад вайною. З красавіка 1943 г. амаль штоноч двухматорныя самалёты ЛІ-2 101-га авіяпалка далёкага дзеяння (камандзір Герой Савецкага Саюза В. С. Грызадубава) дастаўлялі для партызан Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны і суседніх раёнаў Віцебскай і Вілейскай абласцей, а таксама Літвы зброю, узрыўчатку, боепрыпасы, медыкаменты, газеты, пісьмы, а на Вялікую зямлю адвозілі раненых, хворых, дзяцей, жанчын і старых. Была створана служба аэрадромнага абслугоўвання на чале з І. П. Вадзянковым. У красавіку 1943 г. на партызанскі аэрадром прызямліліся буксіраваныя самалётамі планеры з групай літоўскіх патрыётаў — арганізатараў партызанскага руху ў Літве.

У 1967 г. на развілцы дарог на Докшыцы і Мінск на месцы партызанскага аэрадрома пастаўлены абеліск з макетам самалёта на вяршыні.

*С. Ф. Цярохін.*

**1245. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст., маст.). На вул. Савецкай, каля Дома культуры, у скверы.

Пастаўлены ў 1975 г. (скульпт. Б. Івонцьеў, арх. В. Ткачоў) на ўшанаванне памяці 697 мірных жыхароў Бягомля, якіх закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. Перад выцягнутай па гарызанталі стэлай (3×5,45 м; бетон) з мемарыяльнай дошкай (1,35×1,65 м, сплаў алюмінію) пастаўлена скульптура (вышыня 5 м; бетон з беламармуровай крошкай). Фігура параненага мужчыны пададзена ў рэзкім развароце, левая рука ўзнята ўгору, другая прыціснута да прастрэленых грудзей, галава закінута, твар скажоны гневам і болем. Мадэліроўка форм абагульненая. Скульптура ў вобразнай форме адлюстроўвае нязломнасць маральнага духу народа, яго гнеўны пратэст супраць няволі.

*Г. М. Ярмоленка.*

**1246. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Савецкай.

У Вялікую Айчынную вайну Бягомль быў цэнтрам Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны. Партызаны брыгады «Жалязняк» 20.12. 1942 г. разграмілі ў пасёлку гітлераўскі гарнізон і аднавілі Савецкую ўладу. Гітлераўцы правялі некалькі карных аперацый, у час якіх партызаны

былі вымушаны пакідаць населены пункт. Апошні раз гэта было 5.6. 1944 г.

30.6.1944 г. войскі 3-га Беларускага фронту (850-ы стралковы полк 277-й стралковай дывізіі і 7-я механізаваная брыгада) у ходзе Беларускай аперацыі фарсіравалі р. Бярэзіна і павялі наступленне на г. п. Бягомль. Пасёлак быў вызвалены 1.7.1944 г. пры ўдзеле партызан брыгады «Жалязняк».

У 1967 г. ў гонар гэтай падзеі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Титков И. Ф. Бригада «Железняк».— 2 изд.— Мн., 1982.
*М. Б. Батвіннік.*

**1247. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ І АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Кірава. На ўшанаванне памяці 552 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, а таксама ахвяр фашызму, загубленых гітлераўцамі ў перыяд акупацыі раёна, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя воін і партызанка.

**1248. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля сярэдняй школы імя С. М. Кірава. Скульптура С. М. Кірава ўстаноўлена ў 1981 г.

**1249. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, перад Домам культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.

**1250. ПОМНІК ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст., маст.). Каля перакрыжавання дарог Мінск — Віцебск і Бягомль — Барысаў. У гонар партызанскай аперацыі па разгрому варожага гарнізона ў Бягомлі (1942 г.).

Партызанскі рух на Бягомльшчыне разгарнуўся з першых дзён акупацыі раёна нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Партызанскі атрад «Рамана», арганізаваны ў снежні 1941 г., у верасні 1942 г. разгорнуты ў партызанскую брыгаду (з кастрычніка 1942 г. «Жалязняк»). Камандзіры Р. А. Дзякаў (верасень — кастрычнік 1942 г.), І. П. Ціткоў (кастрычнік 1942 г.— ліпень 1944 г.); камісары С. С. Манковіч (верасень 1942 г.— снежань 1943 г.), Ф. І. Дзернушкоў (снежань 1943 г.— чэрвень 1944 г.). 20.12.1942 г. народныя мсціўцы разграмілі ў Бягомлі буйны варожы гарнізон і авалодалі пасёлкам, які стаў цэнтрам Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны. Тут дзейнічалі мясцовыя Саветы, працавалі школы, выдавалася газета «Советский патриот» — орган Бягомльскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады «Жалязняк». Партызаны брыгады «Жалязняк» разграмілі гітлераўскія гарнізоны ў Докшыцах, Даўгінаве, на чыгуначных станцыях Параф'янава, Крулеўшчына, у вёсках Асавы, Будзілаўцы, Юхнаўка, знішчылі і паранілі больш за 12 тыс. гітлераўцаў, падарвалі больш як 5,5 тыс. чыгуначных рэек. Камандзіру партызанскай брыгады «Жалязняк» І. П. Ціткову і камісару С. С. Манковічу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.



1250. *Помнік партызанскай славы.*

Помнік пастаўлены ў 1967 г. (скульптар П. Белавусаў; бетон). Кампазіцыя пабудавана на кантрастным супастаўленні прамавугольнай стэлы (вышыня 3,2 м) і маналітнай глыбы, якія аб'яднаны агульным стылабатам. На фасаднай плоскасці стэлы рэльеф з выявай групы партызан са зброяй у руках. Іх рашучыя жэсты адлюстроўваюць веліч і нязломную сілу народа ў барацьбе з захопнікамі. На зрэзанай па вертыкалі плоскасці каменя памятны надпіс (дата на помніку 3 снежня недакладная).

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *С. Ф. Цярохін, Г. М. Ярмоленка.*

**в. Бярозаўка, Крыпульскі сельсавет**

**1251. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Побач з будынкам праўлення калгаса імя А. А. Жданава. На ўшанаванне памяці 33 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бярозкі, цэнтр сельсавета**

**1252. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўскраіне вёскі, непадалёку ад могілак. Пахаваны 81 партызан брыгады «Жалязняк» і 6 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1253. ПОМНІК ЧАРНЫШУ** Аляксандру Іванавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса імя А. І. Чарныша. Бюст Героя Савецкага Саюза А. І. Чарныша ўстаноўлены ў 1980 г. Гл. таксама артыкул № 1282 «Радзіма Чарныша Аляксандра Іванавіча».

**в. Валкалата, цэнтр сельсавета**

**1254. КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабу-




1245. *Помнік ахвярам фашызму.*

даваны ў канцы 19 ст. з бутавага каменю. У тым жа стагоддзі асобна пабудавана двух'ярусная званіца.

Будынак прамавугольны ў плане, бязвежавы, з круглаватай апсідай, 2 сакрысціямі і прытворам. Накрыты двухсхільным дахам. Галоўны (паўднёва-заходні) і алтарны фасады ўвянчаны атыкамі з трохвугольнымі завяршэннямі. Атыкі дэкарыраваны валютамі, лапаткамі, карнізамі і люкарнамі. Усе сцены касцёла раскрапаваны лапаткамі і карнізнымі паясамі, прарэзаны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі. Лапаткі атынкаваныя, кантрастна вылучаюцца на цёмным фоне бутавай муроўкі. Інтэр'ер касцёла чатырохстаўповы. Сакрысціі двухпавярховыя, 2-і паверх раскрываецца ў інтэр'ер арачнымі праёмамі. Падлога касцёла выкладзена керамічнымі пліткамі. У інтэр'еры ўстаноўлены 5 драўляных алтароў. У аснову іх пакладзена двух'ярусная кампазіцыя: калоны і пілястры карынфскага ордэра ў ярусах групуюцца вакол алтарных карцін ці скульптур. Ярусы расчлянёны антаблементамі з раскрапоўкамі, упрыгожаны разарванымі франтонамі. Алтары дэкарыраваны скразной і накладной разьбой, скульптурнымі выявамі анёлаў і святых. У цэнтры 1-га яруса правага бакавога алтара — абраз «Маці боскай з дзіцем» (1667 г.) у сярэбраным чаканным абкладзе. Дэкор аргана больш стрыманы: стройныя пілястры з карынфскімі капітэлямі ўтвараюць своеасаблівы порцік, завершаны антаблементам з разарваным у цэнтры франтонам, які ўвенчаны балюстрадай і вазамі па краях. Па баках аргана — разныя драўляныя арнаментальныя валюты.



*1254. Касцёл Іаана Хрысціцеля. Хоры з арганам.*

Касцёл — помнік архітэктуры, у якой праявіліся элементы псеўдабарочнага кірунку.

*Н. С. Ліхтаровіч, Г. М. Ярмоленка.*

**1255. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 45 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены 2 стэлы.

**1256. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Памяць Ільіча». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Варганы, Парплішчанскі сельсавет**

**1257. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1257а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Варганская Гара. На паўднёвай ускраіне вёскі, злева ад шашы на Глыбокае. Размешчана на ўзвышшы вышынёй да 40 м з стромкімі схіламі. Пляцоўка авальная, выцягнутая з поўначы на поўдзень, памерам 60×50 м. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Абследаваў у 1949, 1965 і 1972 гг. А. Р. Мітрафанаў. Выяўлена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка. Гарадзішча належыць да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, датуецца не пазней 3—4 стагоддзяў н. э.

**1257б.** Селішча. Каля падножжа гарадзішча, з яго паўднёвага боку. Выявіў і даследаваў у 1965 г. Г. В. Штыхаў. Ускрыта 72 м². Культурны пласт 0,17—0,8 м (разворваецца). Пры раскопках знойдзены сляды зрубнага наземнага жытла з печчу-каменкай, кераміка 6—8 стагоддзяў н. э., жалезныя серп і шылы, 2 гліняныя формачкі для адліўкі бронзавых упрыгожанняў, біканічныя праслíцы. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—8 стагоддзямі н. э.

**1257в.** Курганны могільнік-1. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча. 3 курганы даўжынёй 8—9 м, шырынёй 5—7 м, вышынёй 1 м. 2 насыпы даследаваў у 1965 г. Г. В. Штыхаў. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У адным кургане пахаванне было пад насыпам на гарызонце, у другім — у ямцы дыяметрам 40 см, глыбінёй 20 см, накрытай перавернутым гаршком. У пасудзіне знаходзіліся перапаленыя косці і жалезная гітарападобная спражка. Могільнік датуецца 8—9 стагоддзямі, належаў крывічам.



*1254. Касцёл Іаана Хрысціцеля.*



*1254. Касцёл Іаана Хрысціцеля. План.*



*1254. Касцёл Іаана Хрысціцеля. Інтэр'ер.*

**1257г.** Курганны могільнік-2. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Калдоба. 3 насыпы дыяметрам 7—8 м, вышынёй да 1,5 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1965 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.
**1257д.** Курганны могільнік-3. За 2,5 км на поўдзень ад гарадзішча, каля дарогі ў в. Грабучае. 40 курганоў дыяметрам не больш за 7—8 м, вышынёй да 1 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1965 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішча, раскопак селішча і курганнага могільніка-1 захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Ваўча, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1258. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, у лесе, на правым беразе р. Верхняя (прыток Бярэзіны). 22 насыпы, 2 з іх па форме і памерах аналагічныя курганам 11—13 стагоддзяў (дыяметр аднаго 10 м, вышыня 2,5 м, другога адпаведна 8 і 2 м), астатнія адносяцца да жальнікаў. З 20 насыпаў 17 у плане круглыя, дыяметрам у межах 2,5—4 м, вышынёй 0,4—0,5 м, 3 — падоўжаныя: адзін даўжынёй 7 м, шырынёй 3 м, вышынёй 0,5 м; 2 даўжынёй 4 м, шырынёй 2,5 м, вышынёй 0,4—0,5 м. Амаль усе ў аснове абкладзены буйнымі камянямі, ёсць насыпы, цалкам абкладзеныя камянямі. На поўдзень ад жальнікаў знаходзяцца больш позція могілкі з невялікіх абкладзеных камянямі падоўжаных узгоркаў і ледзь прыкметных узвышшаў, адзначаных вялікімі камянямі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Вешкі, Бярозкаўскі сельсавет**

**1259. РАДЗІМА САКАЛОЎСКАГА** Несцера Фёдаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, хармайстар і фальклярыст. Н. Ф. Сакалоўскі нарадзіўся 27.10.1902 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў музычны тэхнікум (1931 г.), вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (1932—35 гг.). Працаваў у хоры ўкраінскай тэатральнай трупы. З 1926 г. хормайстар і акцёр Беларускага перасоўнага драматычнага тэатра. Адзін з арганізатараў і хормайстар (1937—41 гг.) Ансамбля беларускай народнай песні і танца. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1943 г. мастацкі кіраўнік Палескага ансамбля песні і танца. З 1944 г. начальнік аддзела мастацкай самадзейнасці Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР, з 1946 г. старшы рэдактар рэдакцыі музычнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Аўтар музыкі Дзяржаўнага гімна БССР (словы М. Клімковіча), песень на словы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, А. Русака і інш., папулярнай «Песні пра Нёман» (словы А. Астрэйкі), шэрага харавых і сольных песень. Запісаў і апрацаваў больш за 500 беларускіх народных песень і інструментальных найгрышаў. Н. Ф. Сакалоўскі памёр 13.11. 1950 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

*Літ.:* Нісневіч І. Г. Кампазітар Нестар Сакалоўскі.— Мн., 1969; Журавлёв Д. Композиторы Советской Белоруссии.— Мн., 1966. *Г. Ф. Раманаў.*



**1257а.** *Гарадзішча.*



**1262.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Вілейка, Бярозкаўскі сельсавет**

**1260. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі, у полі. 24.6.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі 39 жыхароў вёскі. У 1967 г. на месцы загубы ахвяр насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск. На 2 плітах — памятны надпіс і імёны ахвяр фашызму. Аналагічны спіс імёнаў загінуўшых у нішы абеліска.

**в. Віржы, Валкалацкі сельсавет**

**1261. КУРГАН** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі. Вышыня 0,5 м, дыяметр 3,5 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938—39 гг. У. Галубовіч, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў.

**в. Вітунічы, Бярозкаўскі сельсавет**

**1262. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, за 100 м ад могілак. Пахаваны 13 воінаў і 24 партызаны брыгады «Жалязняк», якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1263. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, перад будынкам канторы саўгаса «Вітунічы». На ўшанаванне памяці 124 аднавяскоўцаў, загубленых 3.5.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Вольберавічы, Бярэзінскі сельсавет**

**1264. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць клуба, каля дарогі Рашкоўка — Беразіно. На ўшанаванне памяці 68 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вускрам'е, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1265. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 4 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Перасоў. 16 курганоў, пяць дыяметрам 10—11 м, вышынёй 0,9—1,2 м, астатнія расплывістыя, адпаведна 8—9 м і ад 0,3 да 0,9 м. Захаванасць добрая. Насыпы задзернаваныя, зараслі хвоямі і хмызняком. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гарадзішча, Бярозкаўскі сельсавет**

**1266. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Размешчана на ўзвышшы, схілы якога невысокія (максімальная вышыня ад асновы 7,5 м), але даволі стромкія, відаць, штучна зрэзаныя. Пляцоўка роўная, добра задзернаваная, у плане авальная (мае невялікі нахіл у паўночна-ўсходні бок), даўжынёй (па лініі паўночны ўсход — паўднёвы захад) 60 м, шырынёй 40 м. Валоў і равоў няма. З усходняга, паўднёвага і часткова паўднёва-ўсходняга бакоў да гарадзішча прымыкае нізкая, месцамі моцна забалочаная пойма р. Вілія (яе выток знаходзіцца за 3—3,5 км на паўночны ўсход ад гарадзішча). Выявіў у 1949 г. і абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт не менш за 0,5—0,6 м, прасочваецца на ўсёй пляцоўцы. Знойдзены абломкі штрыхаваных пасудзін, кавалкі шлакаў, абпаленыя

раскалатыя камяні. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 3—2 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Гарэлае, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1267. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Перад будынкам школы. У маі 1943 г. ў час правядзення карнай аперацыі «Котбус» гітлераўцы спалілі вёскі Гарэлае (63 двары) і Клінікі, расстралялі, а затым спалілі 200 мірных жыхароў. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1964 г. пастаўлена стэла. Вёска Гарэлае ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Гліннае, Бярэзінскі сельсавет**

**1268. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку школы.

У 1942—43 гг. у в. Гліннае дзейнічала падпольная камсамольская група. У яе ўваходзілі настаўніца А. А. Ніканава (кіраўнік), М. А. Гаўрыловіч, М. В. Дземідовіч, Г. Л. Навіцкая. Камсамольцы выкрывалі хлуслівасць фашысцкай прапаганды, распаўсюджвалі сярод мясцовага насельніцтва звесткі пра сапраўднае становішча на фронце. У выніку палітычнай работы падпольшчыкаў у нямецка-фашысцкіх гарнізонах вёсак Гліннае, Пустаселле, Варлань 20 нямецкіх салдат перайшлі на бок партызан. Улетку 1943 г. падпольшчыкі былі арыштаваны і закатаваны.

У 1975 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Титков И. Ф. Бригада «Железняк».— 2 изд.— Мн., 1982.
*М. Б. Батвіннік, С. Ф. Цярохін.*

**1269. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 200 м ад будынка канторы саўгаса «Камунар», у скверы. На ўшанаванне памяці 52 воінаў і партызан — жыхароў вёсак Гліннае, Хмялёўшчына, Шалагіры, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гняздзілава Паўночнае, Крыпульскі сельсавет**

**1270. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць клуба. На ўшанаванне памяці 61 земляка — воіна і партызана, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Горнава 2-е, Тумілавіцкі сельсавет**

**1271. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ ЦК КП(б)Б** (гіст.). Тут у 1943—44 гг. у доме С. І. Сватка размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б. У 1967 г. ў гонар партызанскай брыгады на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гл. таксама артыкул № 1272 «Месца дыслакацыі партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б».



**1271.** *Дом, у якім размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б.*

**1272. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ ЦК КП(б)Б** (гіст.). За 1,6 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Тут у 1943—44 гг. размяшчалася база партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б. Брыгада была створана ў сакавіку 1943 г. з атрада імя А. Я. Пархоменкі брыгады «За Савецкую Беларусь». Камандзіры А. Д. Мядзведзеў (сакавік 1943 г.— чэрвень 1944 г.), М. Р. Пучкароў (в. а., верасень — кастрычнік 1943 г.), М. І. Фёдараў (чэрвень — ліпень 1944 г.); камісары Ц. М. Бондараў (сакавік — чэрвень 1943 г.), Ф. Я. Воранаў (чэрвень — верасень 1943 г.), М. Р. Пучкароў (верасень 1943 г.— чэрвень 1944 г.), У. П. Шчуцкі (чэрвень — ліпень 1944 г.). У лютым 1944 г. ёй прысвоена імя Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі.

Партызаны брыгады разам з іншымі партызанскімі брыгадамі Вілейскага партызанскага злучэння былі заходнім заслонам Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. У кастрычніку — снежні 1942 г. разграмілі валасную ўправу і падарвалі маслазавод у в. Язна, на чыгуначных і шашэйных дарогах спалілі і падарвалі 32 масты, знішчылі каля 7 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У маі 1943 г. разграмілі гарнізон у Докшыцах. Актыўна ўдзельнічалі ў «рэйкавай вайне». Толькі 3.8.1943 г. на чыгуначным участку Полацк — Маладзечна падарвалі больш за 250 рэек, спынілі рух на 7 сутак; у ноч на 20.6.1944 г. на чыгуначным участку Вільнюс — Смаргонь падарвалі 300 рэек. З баямі вызвалілі чыгуначную станцыю Гудагай, вёскі Варняны, Міхалішкі, райцэнтр Астравец, аднавілі 18 мастоў на шашы. На час злучэння з Чырвонай Арміяй 6.7.1944 г. брыгада налічвала 5 атрадаў: імя А. Я. Пархоменкі, 2-і імя В. П. Чкалава, 3-і імя Г. К. Жукава, 5-ы імя Дзянісава, 4-ы імя Дз. А. Фурманава (338 партызан).

У 1969 г. ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Мандрик И. А. В суровые дни.— Мн., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.
*М. Б. Батвіннік.*



**1272.** *Помнік у гонар партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б.*

**в. Жамойск, Бярозкаўскі сельсавет**

**1273. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 25.5.1943 г. ў час правядзення карнай аперацыі «Котбус» гітлераўскія акупанты спалілі 27 жыхароў вёскі — дзяцей, жанчын і старых.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Загацце, Валкалацкі сельсавет**

**1274. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі. 3 насыпы дыяметрам 3—5 м, вышынёй 0,5—0,7 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1938—39 гг. У. Галубовіч, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1275. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «XIX-ы партз'езд». На ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Залатухі (не існуе), Параф'янаўскі сельсавет**

**1276. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Залатухі знаходзілася за 3 км на паўночны захад ад в. Вярэнькі. 20.3.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі яе разам з жыхарамі (загінулі 42 чалавекі, 13 двароў). Не адрадзілася. У 1980 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск.

в. Заляддзе,
Бягомльскі пасялковы Савет

**1277. РАДЗІМА ПЕРХАРОВІЧА** Франца Іосіфавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант (1945 г.) Ф. І. Перхаровіч нарадзіўся 28.5.1894 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Вучыўся ў Ваеннай акадэміі імя М. В. Фрунзе (1932 г.), закончыў курсы «Выстрал» (1941 г.). У арміі з 1915 г., у Чырвонай Арміі з 1918 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны — палкавы ад'ютант, памочнік начальніка штаба брыгады. Пасля вайны камандзір асобнай роты, начальнік штаба стралковага палка, памочнік начальніка аддзела штаба і начальнік аддзялення ў штабе Маскоўскай ваеннай акругі. У 1939—41 гг. на выкладчыцкай рабоце ў Маскве. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, Варонежскім, 1-м Украінскім, 1-м і 3-м Беларускіх франтах: камандзір стралковых палка, дывізіі, корпуса, камандуючы арміяй. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Украіны, Польшчы, Вісла-Одэрскай і Берлінскай аперацый. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4.1945 г. за ажыццяўленне аперацыі па прарыву доўгатэрміновай абароны праціўніка і фарсіраванне Віслы. Пасля вайны на камандных пасадах, да 1951 г. начальнік упраўлення ўсеагульнага ваеннага навучання Галоўнага штаба Сухапутных войск. Ф. І. Перхаровіч памёр 11.10.1961 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *С. Ф. Цярохін.*

в. Замасточча,
Бягомльскі пасялковы Савет

**1278. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 78 жыхароў вёсак Замасточча, Вуглы, Краснікі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

в. Казлы, Крулеўшчынскі сельсавет

**1279. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі. 20 курганоў (раней было 60) вышынёй 0,8—1 м, дыяметрам 9—10 м. 4 насыпы знаходзяцца непасрэдна каля могілак, астатнія за 100—150 м на поўдзень і на ўсход ад іх. Выявіў і абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

в. Камайск, Докшыцкі сельсавет

**1280. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, за 50 м ад будынка праўлення калгаса «Камайскі». На ўшанаванне памяці 42 жыхароў вёсак Камайск і Рашкоўка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і дошка з імёнамі загінуўшых.

**1281. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва.




**1280.** *Помнік землякам.*

Храм двухзрубны, складаецца з амаль квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму і прыбудаванай да яго з усходу трохграннай апсіды. Сцены рублены з брусоў, звонку гарызантальна абшыты дошкамі. Будынак накрыты агульным дахам, які ўтварае пры пераходзе ад асноўнага аб'ёму да апсіды трохвугольныя застрэшкі. Галоўны (заходні) фасад завершаны ўсечаным франтонам, над ім невысокая глухая вежка з двух'ярусным шатровым дахам. Абрыс шатровага завяршэння паўтораны і ў маленькай галоўцы над алтаром. Бакавыя сцены асноўнага аб'ёму вертыкальна расчлянёны брусамі-сцяжкамі, паміж якімі прарэзаны невялікія прамавугольныя вокны з фігурнымі ліштвамі. Інтэр'ер зальны. Столь плоская, падшыўная. Алтарнае памяшканне аддзелена папярочным брусом, асвятляецца маленькімі высока размешчанымі вокнамі.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства. *С. Ф. Самбук.*



**1281.** *Царква. План.*

в. Кромавічы, Бярозкаўскі сельсавет

**1282. РАДЗІМА ЧАРНЫША** Аляксандра Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. І. Чарныш нарадзіўся ў 1917 г. ў сялянскай сям'і. Скончыў Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум (1935 г.). З 1938 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі (1939 г.), савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў дзейнай арміі, ваяваў на Ленінградскім, Закаўказскім, Бранскім, Беларускім і 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся ў час вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў: 28.6.1944 г. ў раёне г. п. Кіраўск Магілёўскай вобл. стралковая рота, якой камандаваў капітан А. І. Чарныш, знішчыла 170 і захапіла ў палон 27 фашысцкіх салдат і афіцэраў, 29.6.1944 г. перарэзала дарогу Бабруйск — Мінск, перагарадзіўшы ворагу шлях да адступлення, адбіла 14 атак, знішчыла 200 і захапіла ў палон 80 гітлераўцаў. А. І. Чарныш загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў в. Чарніца Сычкоўскага сельсавета Бабруйскага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імя прысвоена саўгасу і школе на радзіме. У 1980 г. на цэнтральнай сядзібе саўгаса (в. Бярозкі) пастаўлены бюст героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *С. Ф. Цярохін.*

чыгуначная станцыя Крулеўшчына,
Крулеўшчынскі сельсавет

**1283. ПОМНІК ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст.). На пероне вакзала.



**1281.** *Царква.*

У час нямецка-фашысцкай акупацыі на чыгуначнай станцыі Крулеўшчына размяшчаўся буйны гарнізон варожых войск, якія ахоўвалі чыгуначны вузел і забяспечвалі перавозку вайсковых грузаў. Станцыя была абкружана сістэмай абарончых умацаванняў: дзотаў, хадоў зносін, акопаў і некалькіх радоў агароджы з калючага дроту. На больш небяспечных напрамках падыходы да апорных пунктаў былі дадаткова перакрыты спіралямі Бруно і замініраваны. 17.8. 1943 г. партызаны 1-й Антыфашысцкай брыгады (камандзір У. У. Гіль-Радзіёнаў) штурмам авалодалі чыгуначнай станцыяй, разграмілі варожы гарнізон, знішчылі ўсё абсталяванне станцыі, паравознае дэпо, спалілі нафтабазу.

У 1964 г. ў гонар баявой аперацыі партызан пастаўлена стэла.

*С. Ф. Цярохін.*

**в. Крыпулі, цэнтр сельсавета**

**1284. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, за 0,5 км ад будынка праўлення калгаса імя Якуба Коласа. На ўшанаванне памяці 34 землякоў — партызан і воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ліпск, Бярэзінскі сельсавет**

**1285. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Масціца. 25 курганоў дыяметрам ад 4 м да 10 м, вышынёй 2—2,5 м. Насыпы ў 2—3 рады цягнуцца ўздоўж дарогі на в. Ліпск. У большасці курганоў уздоўж асновы ёсць неглыбокія раўкі. Насыпы задзернаваны і пакрыты рэдкім хваёвым лесам. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1286. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, злева ад дарогі на Бягомль. На ўшанаванне памяці 24 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены абеліск.

**в. Маргавіца, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1287. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1288. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1288а.** Курганны могільнік-1. За 0,4 км на поўнач ад вёскі ва ўрочышчы Ляхаўка. 13 курганоў, з іх 9 насыпаў дыяметрам 8—10 м, вышынёй 2—3,5 м. Адзін курган дыяметрам 16 м, вышынёй 5 м. Астатнія дыяметрам 6 м, вышынёй 0,5—1,5 м. Усе добра задзернаваныя, зараслі хвоямі і хмызняком. Уздоўж асновы насыпаў прасочваюцца раўкі. Выявіў і абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1288б.** Курганны могільнік-2. На паўднёвай ускраіне вёскі, за 0,1 км на поўнач ад сучасных могілак. 4 курганы дыяметрам 5—8 м, вышынёй 1—3 м. Выявіў і абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1289. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны каля 70 мірных жыхароў, якіх 31.5.1943 г. ў час карнай аперацыі «Котбус» гітлераўцы спалілі жывымі ў Бягомлі ў хаце К. Д. Герасіменкі (вул. Ленінская). Сярод іх былі сяляне з в. Бабцы. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1290. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана больш за 300 жыхароў Бягомля, якіх 30.5. 1943 г. ў час карнай аперацыі «Котбус» гітлераўцы забілі ці спалілі жывымі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1291. МАГІЛА БУЛАНДЫ** Фёдара Аўксенцьевіча (гіст.). На могілках.

Член Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну Ф. А. Буланда нарадзіўся ў 1909 г. ў в. Гарэлы Луг Ікапскага сельсавета Барысаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг., узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў загадчыкам сталовай у Бягомлі. У час вайны падпольшчык, падтрымліваў сувязь з партызанамі атрада «Барацьба». Пры дапамозе Ф. А. Буланды ў маі 1942 г. партызаны знішчылі прадуктовы і прамтаварны склады гітлераўцаў. У чэрвені 1942 г. арыштаваны і расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1292. МАГІЛА ПЕРАВЯСЛАВА** (гіст.). На могілках. Савецкі пагранічнік Перавяслаў загінуў у ліпені 1939 г. пры ахове дзяржаўнай граніцы. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1293. МАГІЛА ТАРАКАНА** Уладзіміра Васілевіча (гіст.). На могілках.

Член Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну У. В. Таракан нарадзіўся ў 1923 г. ў в. Будачы Бягомльскага пасялковага Савета ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1938 г. У 1941 г. скончыў Бягомльскую сярэднюю школу. У час нямецка-фашысцкай акупацыі падпольшчык, збіраў зброю і боепрыпасы для партызан атрада «Барацьба», распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро. У 1942 г. арыштаваны і расстраляны гітлераўцамі.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. Б. Батвіннік.*



**1288а.** *Курганны могільнік-1. План.*

**1294. МАГІЛА ЧАГІРА** (гіст.). На могілках. Савецкі пагранічнік Чагір загінуў у ліпені 1939 г. пры ахове дзяржаўнай граніцы. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Несцераўшчына, Тумілавіцкі сельсавет**

**1295. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1295а.** Курганны могільнік-1. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Буцілаўскі Лес. 32 курганы, з іх 8 падоўжаных даўжынёй ад 8 да 13 м, шырынёй ад 5 да 8 м, вышынёй ад 2 да 3,5 м, астатнія круглыя дыяметрам ад 6 да 15 м, вышынёй ад 0,6—0,8 да 2,5 м. Уздоўж асновы відаць раўкі. Усе насыпы задзернаваныя, большасць пакрыта густым хмызняком і хваёвым лесам. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1295б.** Курганны могільнік-2. За 1,1 км на паўночны захад ад вёскі. 36 курганоў вонкава падобныя да насыпаў могільніка-1. 4 насыпы падоўжаныя, даўжынёй 10—12 м, шырынёй 7—8 м, вышынёй 2,5—3 м. Памеры круглых курганоў, іх захаванасць, як і ў могільніку-1. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1296. ПОМНІК ГАГАРЫНУ** Юрыю Аляксеевічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Бюст першага касманаўта планеты Ю. А. Гагарына ўстаноўлены ў 1975 г.

**1297. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 48 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Новае Запонне, Бярозкаўскі сельсавет**

**1298. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). За 2,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Калюга, на правабярэжжы р. Поня. Пахаваны 2 лётчыкі — камандзір экіпажа, намеснік камандзіра эскадрыллі па палітчастцы лейтэнант Г. К. Раманенка і штурман малодшы лейтэнант

А. М. Панчанка, якія загінулі 29.6. 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1299. МАГІЛА ШАЎЦОВА** Якава Аляксандравіча (гіст.). На могілках.

Кіраўнік Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну Я. А. Шаўцоў нарадзіўся ў 1916 г. ў в. Рамязы Ельскага р-на Гомельскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1936 г. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў старшынёй Мсціжскага сельсавета, інструктарам Бягомльскага райкома КП(б)Б, дырэктарам Мацееўскай сямігадовай школы. У час вайны стварыў і ўзначаліў падпольную арганізацыю, якая падтрымлівала сувязь з партызанскім атрадам «Барацьба». Пад кіраўніцтвам Я. А. Шаўцова падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, збіралі зброю і боепрыпасы, медыкаменты, якія перадавалі партызанам. У чэрвені 1942 г. арыштаваны акупантамі і расстраляны.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Новая Вёска, Сітцаўскі сельсавет**

**1300. МАГІЛА ІТАЛЬЯНСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі Сітцы — Порплішча, ва ўрочышчы Ходараўскі Лес.

Восенню 1943 г. пасля падпісання Італіяй 3.9.1943 г. перамір'я з ЗША і Вялікабрытаніяй і выхаду Італіі з гітлераўскай кааліцыі нямецка-фашысцкае камандаванне раззброіла і інтэрніравала салдат і афіцэраў італьянскіх вайсковых падраздзяленняў на савецка-германскім фронце. Італьянскіх вайскоўцаў, якія абслугоўвалі аэрадром каля в. Сітцы, кінулі ў канцлагер «Лібераўшчына», які знаходзіўся непадалёку ад чыгуначнай станцыі Параф'янава. Перад адступленнем гітлераўцы ў чэрвені 1944 г. ліквідавалі лагер, 200 вязняў-італьянцаў вывезлі на аўтамашынах ва ўрочышча Ходараўскі Лес і расстралялі.

У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Михайлов В. В., Романовский В. Ф. Нельзя простить.— Мн., 1967. *М. Б. Батвіннік, С. Ф. Цярохін.*

**1301. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі Сітцы — Порплішча, ва ўрочышчы Ходараўскі Лес. Тут у чэрвені 1944 г. фашысцкія захопнікі закатавалі вязняў канцлагера «Лібераўшчына» — каля 600 мірных жыхароў Бешанковіцкага, Лепельскага і Ушацкага р-наў.

У 1969 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Новая Вілейка, Бярозкаўскі сельсавет**

**1302. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі ў Старую Вілейку. 65 круглых курганоў, 46 з іх дыяметрам 6—8 м, тры насыпы дыяметрам 4—5 м, пяць дыяметрам 9 м, два — 10—11 м, шэсць — 12 м, тры курганы дыяметрам 14 м. Большую вышыню (2,5—3,5 м) маюць насыпы з дыяметрам 10—14 м, вышыня астатніх ад 0,5 да 2 м. Вакол курганоў прыкметны раўкі. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся. *А. Р. Мітрафанаў.*




**1297.** *Помнік землякам.*

**в. Нябышына, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1303. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Горкі, злева ад дарогі на в. Далёкае. 45 круглых курганоў, адзін падоўжаны (даўжыня 13 м, шырыня 6 м, вышыня 2 м). 20 насыпаў дыяметрам 5—8 м, вышынёй 0,5—2,5 м; 20 курганоў дыяметрам 9—11 м, вышынёй ад 0,7 да 3,2 м, 5 курганоў дыяметрам 12—14 м, вышынёй 3—3,2 м. Захаванасць добрая, насыпы задзернаваныя, пакрыты хмызняком і маладым хваёвым лесам. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся. *А. Р. Мітрафанаў.*



**1304.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Бакавы фасад.*

**в. Параф'янава, цэнтр сельсавета**

**1304. КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1908 г. з цэглы. Касцёл — трохнефавая двухвежавая базіліка з трансептам. З усходняга боку завяршаецца паўцыркульнай апсідай з абходнай галерэяй і 2 сакрысціямі. Галоўны (заходні) фасад вылучаюць 2 шмат'ярусныя вежы, у аснове якіх квадратныя ў плане бакоўкі. Паміж вежамі фігурны шчыт, такі ж і над дахам алтарнай часткі. Тарцы трансепта завершаны трохвугольнымі франтонамі. У дэкаратыўнай аздобе фасадаў, прарэзаных паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, выкарыстаны пілястры, шырокія прафіляваныя карнізы, люнеты. У інтэр'еры 8 слупоў падзя-



**1304.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Галоўны фасад.*



**1304.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. План.*

ляюць прастору залы на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем, бакавыя — крыжовымі. Слупы і сцены дэкарыраваны здвоенымі пілястрамі, упрыгожаны арнаментальным роспісам і гіпсавымі гарэльефамі (1927 г.).

Касцёл — помнік архітэктуры, у якім выкарыстаны элементы стылю псеўдабарока.

**1305. РАДЗІМА БАБРОВІЧА** Яна Станіслававіча (гіст.).

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыст Я. С. Бабровіч (псеўданімы Сымон, Казік, Борскі) нарадзіўся 2.6.1902 г. Член Кампартыі Чэхаславакіі з 1923 г., член КПЗБ з 1926 г. Па накіраванню беларускіх арганізацый Заходняй Беларусі ў 1922—25 гг. вучыўся на медыцынскім факультэце Пражскага універсітэта, дзе вёў камуністычную прапаганду сярод студэнтаў-беларусаў. У 1926 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, кааптаваны ў ЦК КПЗБ і прызначаны прадстаўніком партыі пры ЦК Беларускай сялянска-рабочай грамады, палітычны рэдактар газет «Жыццё беларуса» (19.8—12.11. 1925 г.), «Беларуская ніва» (лістапад 1925 г.— сакавік 1926 г.), «Беларуская справа» (9.4—31.7.1926 г.), «Наша справа» (30.9.1926 г.— 22.1.1927 г.) і інш. На IV з'ездзе Кампартыі Польшчы выбраны кандыдатам у члены ЦК. 23.2.1928 г. арыштаваны дэфензівай у Варшаве і на судовым працэсе ў Беластоку прыгавораны да 15 гадоў турмы. У выніку абмену палітычнымі вязнямі паміж СССР і Польшчай з верасня 1932 г. ў Мінску, працаваў у Камісіі па вывучэнню Заходняй Беларусі пры АН БССР. Сумесна з Я. Багданскім выдаў брашуру «Аб класавай барацьбе ў Заходняй Беларусі ў часы Беларускай сялянска-работніцкай грамады» (1932 г.).

Я. С. Бабровіч памёр 8.1.1943 г.

*М. С. Арэхва.*

**чыгуначная станцыя Параф'янава, Параф'янаўскі сельсавет**

**1306. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля чыгуначнага вакзала. Пахаваны 55 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 1193-га стралковага палка 860-й стралковай дывізіі, загінуўшыя ў 1944 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Парэчча, Сітцаўскі сельсавет**

**1307. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). З 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. 36 курганоў, 2 насыпы падоўжаныя. Адзін падоўжаны курган даўжынёй 26 м, шырынёй 11 м, вышынёй 4,5 м, у паўночнай частцы насыпу — 2 ямы. Другі — даўжынёй 16 м, шырынёй 8 м, вышынёй 3 м. Астатнія дыяметрам ад 4 м да 8 м, вышынёй ад 0,5 м да 1,2 м, маюць уздоўж асновы раўкі. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.



1309. *Спаса-Праабражэнская царква. Фрагмент інтэр'ера.*

**в. Порплішча, цэнтр сельсавета**

**1308. МАГІЛА КАМІНСКАЙ** Ірыны Пятроўны (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы І. П. Камінская нарадзілася 22.1.1933 г. ў в. Порплішча ў сялянскай сям'і. У 1948—57 гг. свінарка, у 1957—59 гг. даярка саўгаса «Сітцы», у 1961—63 гг. свінарка саўгаса «Порплішча». 18.1. 1958 г. І. П. Камінскай прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы за дасягненне высокіх паказчыкаў у вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі. І. П. Камінская загінула 4.11. 1963 г. ў аўтамабільнай катастрофе. На магіле пастаўлены абеліск.

*С. Ф. Цярохін.*

**1309. СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Докшыцы — Глыбокае. Пабудавана ў 1627 г. з дрэва. У 1794 г. значна перароблена, у 1884 г. прыбудавана званіца.

Будынак крыжова-купальны, выцягнуты па падоўжнай восі. 4 зрубы ўтвараюць у плане лацінскі крыж, перакрыты двухсхільнымі дахамі, перасячэнне якіх завершана купалам на васьміграннным светлавым барабане. Да галоўнага (паўднёва-ўсходняга) фасада прыбудавана трох'ярусная званіца, ніжні ярус якой служыць бабінцам. Інтэр'ер зальны. Дамінуючая цэнтральная частка вылучана



1309. *Спаса-Праабражэнская царква.*



1309. *Спаса-Праабражэнская царква. План.*



1310. *Помнік землякам.*

купалам на падпружных арках. Хоры размешчаны ў асноўным аб'ёме, абапіраюцца на 2 драўляныя калонкі. У інтэр'еры захаваліся фрагменты разнога драўлянага алтара 17 ст., якія выкарыстаны пры афармленні ўцалелых да гэтага часу іканастаса і ківотаў. Разьба іканастаса выканана ў тэхніцы нізкага рэльефу: варыяцыі раслінных парасткаў з букетамі кветак і пладоў, галовак анёлаў, жаночых фігур. Разьбой пакрыты таксама плоскасці філёнгаў, калоны і абрамленніківотаў.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.

*С. Ф. Самбук.*

**в. Пруднікі, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1310. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Іскра», злева ад дарогі на Докшыцы. На ўшанаванне памяці 109 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна і імёнамі загінуўшых.

**в. Пустаселле, Бярэзінскі сельсавет**

**1311. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі ў в. Беразіно. На ўшанаванне памяці 78 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сасновая, Бягомльскі пасялковы Савет**

**1312. МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 партызаны, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 96 мірных жыхароў в. Сасновая, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі 1.6.1943 г. ў час карнай аперацыі «Котбус». У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1313. *Брама. План.*

**в. Сітцы, цэнтр сельсавета**

**1313. БРАМА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне парку, пры ўездзе на былую сядзібу (не збераглася). Пабудавана ў пачатку 18 ст. з цэглы. Кампазіцыя брамы сіметрычная, ступеньчатая, трох'ярусная. Першы ярус — масіўная трохпралётная арка з вялікім цэнтральным праёмам. Другі ярус (надваротны) утвораны прамавугольным у плане аб'ёмам. Унутр аб'ёму вядуць 2 вінтавыя лесвіцы, якія размешчаны ў цэнтральных пілонах аркі. Надваротнае памяшканне мае цыліндрычнае скляпенне. Браму завяршае невялікая вежа з купалам. У надваротнай частцы брамы і ў вежы знаходзіўся драўляны механізм гадзінніка з «зязюляй», зроблены мясцовым майстрам.

Брама — прыклад архітэктуры малых форм беларускага барока.

*У. В. Алісейчык.*

**1314. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Сітцы», у парку. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1315. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**1316. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1968 г.

**1317. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы, не атынкавана. Належыць да тыпу крыжова-купальных храмаў са званіцай. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя мае вертыкальную накіраванасць, якая ствараецца дамінантамі трох'яруснай шатровай званіцы і цыліндрычнага светлавога барабана з цыбулепадобным купалам.

У архітэктуры будынка выкарыстаны формы і прыёмы псеўдарускага стылю.

**в. Станіслаўцы, Валкалацкі сельсавет**

**1318. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, непадалёку ад будынка праўлення калгаса імя Карла Маркса. На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1319. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя Карла Маркса. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1978 г.

**в. Старое Запонне, Бярозкаўскі сельсавет**

**1320. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).



1314. *Помнік землякам.*

**1320а.** Гарадзішча. На ўсходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка ў плане авальная, даўжынёй (па лініі поўнач — поўдзень) 59 м, шырынёй 51 м. З напольнага боку (поўнач і захад) умацавана валам вышынёй месцамі да 0,7—1 м, шырынёй 7—8 м. Выявіў і абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. У культурным пласце 0,6—0,7 м знойдзены абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін, дробныя кавалкі шлаку, абпаленыя камяні. Гарадзішча адносіцца да штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур. Датуецца не пазней 3—4 стагоддзяў н. э.

**1320б.** Курганны могільнік. За 3 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. 9 курганоў, размешчаных групамі. Курганы 1-й групы: 2 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,7 м і 1 м і 2 дыяметрам 3,5 і 4 м, вышынёй 0,4 і 0,5 м.



1317. *Царква.*



1321. *Курган памяці.*

Курганы 2-й групы: 3 дыяметрам 6 м, вышынёй 1—1,5 м, адзін дыяметрам 7 м, вышынёй 1 м і 1 дыяметрам 12 м, вышынёй да 4 м. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Таргуны, Докшыцкі сельсавет**

**1321. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы, перад будынкам праўлення калгаса «Зара камунізма». На ўшанаванне памяці 80 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган. На вяршыні Кургана пастаўлены помнік: скульптурная група — воін трымае на руках загінуўшага ў баі таварыша.

**в. Тумілавічы, цэнтр сельсавета**

**1322. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 48 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1323. ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1870-я гады з дрэва.

Будынак — васьміграны ў плане аб'ём, да якога па падоўжнай восі далучаны прамавугольныя зрубы апсіды і бабінца. Над цэнтральным аб'ёмам — васьміграны барабан з шатром і галоўкай. Тарцы кожнага з трох зрубаў завершаны высокімі франтонамі, у якіх прарэзаны прамавугольныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя прафіляванымі ліштвамі. Фасады царквы гарызантальна ашаляваны. Інтэр'ер зальны. Асноўны аб'ём будынка перакрыты шатровым гранёным скляпеннем з заломам пасярэдзіне. У месцы залому перакрыцце апіраецца на 4 слупы. Апсіда і бабінец маюць больш нізкія бэлечныя перакрыцці. На поўнач ад царквы асобна пабудавана каркасная званіца.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. А. Міцянін.*

**в. Улессе, Бярэзінскі сельсавет**

**1324. МАГІЛА ХАЦКЕВІЧА** Сяргея Сяргеевіча (гіст.). На могілках.

Член Бягомльскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну С. С. Хацкевіч нарадзіўся ў 1918 г. ў в. Улессе ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1936 г. Скончыў 7 класаў сярэдняй школы. Працаваў сакратаром Бярэзінскага сельсавета. У вайну падпольшчык, распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, аказваў дапамогу партызанам атрада «Барацьба» харчаваннем. У чэрвені 1942 г. схоплены гітлераўцамі і расстраляны.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Федаркі, Бярэзінскі сельсавет**

**1325. МЕСЦА СТВАРЭННЯ БЯГОМЛЬСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.).

У 1941 г., пасля акупацыі раёна нямецка-фашысцкімі захопнікамі, камуністы на чале з сакратаром райкома КП(б)Б С. С. Манковічам пачалі падпольную барацьбу супраць гітлераўцаў. У в. Федаркі быў створаны Бягомльскі падпольны райком КП(б)Б. 3.8.1942 г. Мінскі абком КП(б)Б і 11.8. 1942 г. ЦК КП(б)Б зацвердзілі склад падпольнага райкома КП(б)Б. Сакратары С. С. Манковіч (3.8.1942 г.—12.12. 1943 г.), Ф. І. Дзернушкоў (12.12. 1943 г.— 28.6.1944 г.). Друкаваны орган райкома газета «Советский патриот». Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Жалязняк». Праводзіў палітыка-масавую і ваенна-арганізацыйную работу сярод насельніцтва і партызан.

У 1976 г. ў памяць аб стварэнні падпольнага райкома КП(б)Б пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Титков И. Ф. Бригада «Железняк».— 2 изд.— Мн., 1982. *М. Б. Батвіннік.*

**пас. Чырвонае Беразіно, Докшыцкі сельсавет**

**1326. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, перад будынкам клуба. На ўшанаванне памяці 28 аднавяскоўцаў-франтавікоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — трохметровы слуп з 5 жалезабетонных блокаў. На сярэднім, ссунутым адносна вертыкальнай восі,— надпіс-прысвячэнне і імёны загінуўшых. На гранях верхняга блока



1323. *Юр'еўская царква. Галоўны фасад.*



1323. *Юр'еўская царква. План.*



1323. *Юр'еўская царква. Фрагмент.*



1326. *Помнік землякам.*

рэльефныя выявы на тэмы ўсенароднай барацьбы з ворагам.

**в. Шалашы, Тумілавіцкі сельсавет**

**1327. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, абапал дарогі на в. Несцераўшчына. 20 курганоў, з іх 9 у плане падоўжаныя, даўжынёй 10—12 м, шырынёй 5—7 м, вышынёй 1,5—2 м, астатнія круглыя дыяметрам 5—10 м, вышынёй 0,7—3,5 м. Курганы задзернаваныя, зараслі хваёвым лесам. Адкрыў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Шклянцы, Бярозкаўскі сельсавет**

**1328. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1328а.** Курганны могільнік-1. У вёсцы, на агародах. 35 круглых курганоў, якія цягнуцца ланцугамі (2—3 рады) з захаду на ўсход. 7 дыяметрам 8—9 м, вышынёй 1,5—2 м, 4 курганы дыяметрам 4—5 м, вышынёй 0,5—0,6 м, дыяметр астатніх не перавышае 6—7 м, вышыня 0,7—1 м. Каля асноў некаторых неглыбокія раўкі. Захаванасць здавальняючая. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1328б.** Курганны могільнік-2 (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, абапал дарогі на г. п. Плешчаніцы. 10 курганоў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 6—10 м. Абследаваў у 1971 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.



1328а. *Курганны могільнік-2. План.*

**в. Шунеўка (не існуе), Бягомльскі пасялковы Савет**

**1329. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «ПРАКЛЁН ФАШЫЗМУ»** (гіст.). За 2 км ад в. Дабрунь, каля шашы Бягомль — Докшыцы.

22.5.1943 г. ў час правядзення карнай аперацыі «Котбус» гітлераўцы спалілі в. Шунеўка разам з яе жыхарамі (67 чалавек, 27 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

У 1983 г. на месцы былой в. Шунеўка збудаваны мемарыяльны комплекс (скульпт. А. Анікейчык, арх. Л. Левін, Ю. Градаў; бронза, граніт; вышыня фігуры 4,75 м, агульная вышыня 11,5 м). Архітэктурна-скульптурны ансамбль складаецца з цэнтральнага манумента — фігуры жанчыны, 22 мемарыяльных знакаў — фундаментаў на месцы былых сялянскіх сядзіб і калодзежа, у які фашысты кінулі жывымі 16 дзяцей. Цэнтральны манумент — бронзавая фігура жанчыны, якая стаіць у праёме брамы смутку з узнятымі ў праклёне рукамі. На абламаным канцы гарызантальнай бэлькі брамы прымацаваны 3 званы 18 ст. са спаленых цэркваў. Два з іх звоняць, трэці расколаты — сімвал таго, што кожны трэці жыхар раёна загінуў у Вялікую Айчынную вайну. Побач са званамі высечаны верш Р. Барадуліна:

«Як маці заклінаю і малю —
Наступных пакаленняў дзеці,
Сейце
Бяссмерця зерне ў вечную раллю!
Праклён вайне,
Што сее смерць на свеце!».

Непадалёку ад цэнтральнага манумента бетонны зруб калодзежа. Над ім нібыта падае бронзавы прабіты і абпалены паветраны змей, як разбітая дзіцячая мара. На змеі выбіты імёны 16 загубленых дзяцей. Над фундаментам-знакам кожнай хаты завісае ганак, на якім устаноўлены бронзавы факел з імем былога гаспадара.

Архітэктурна-скульптурнае збудаванні добра суадносяцца з ландшафтам, векавымі дрэвамі — сведкамі трагедыі, што тут адбылася.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Юркаўшчына, Параф'янаўскі сельсавет**

**1330. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 5 землякоў, якія загінулі ў барацьбе



1329. *Мемарыяльны комплекс «Праклён фашызму». Цэнтральны манумет.*

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Юхнаўка,**
**Бягомльскі пасялковы Савет**

**1331. ПОМНІК ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Докшыцы — Бягомль.

11 жніўня 1943 г. партызанская брыгада «Жалязняк» разграміла нямецка-фашысцкі гарнізон у в. Юхнаўка, які ахоўваў дарогу Докшыцы — Бягомль. Напярэдадні разведчыкі 5-га партызанскага атрада У. І. Юхнавец і І. К. Пярэдня праніклі ў вёску і разведалі сістэму размяшчэння варожых умацаванняў і пастоў. У выніку паспяхова праведзенай аперацыі народныя мсціўцы захапілі радыёстанцыю, гармату, 6 станковых кулямётаў, 78 вінтовак, 47 тыс. патронаў. Частка гарнізона была ўзята ў палон.



1334. *Помнік землякам.*

У 1964 г. ў гонар аперацыі партызан пастаўлена стэла.

*Літ.:* Титков И. Ф. Бригада «Железняк».— 2 изд.— Мн., 1982. *С. Ф. Цярохін.*

**в. Яблонцы** (злілася з в. Гарадзішча), **Валкалацкі сельсавет**

**1332. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 8 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Янкі, Докшыцкі сельсавет**

**1333. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі. На ўшанаванне памяці 26 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя; на пастаменце — дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Янушова** (злілася з в. Крулеўшчына), **Крулеўшчынскі сельсавет**

**1334. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Докшыцкі». На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік: скульптурная кампазіцыя — воін і партызан, побач — прамавугольная стэла з імёнамі загінуўшых і памятным надпісам.




# ДУБРОВЕНСКІ РАЁН

Азёры
Асінторф
Новая Зямля
Рэдзькі
Засценкі
Буда
Арловічы
Бель
Расасна
Валяўкі
Баброва
Ляды
Пірагі
Бурая
Калінаўка
Якубава
Малое Савіна
Іскозы
ДУБРОЎНА
Барсукі
Станіслававa
Малое Бахава
Зарубы
Ірвяніца
Сваташыцы
Баева
Кляны
Сіпішчава
Дабрынь
Ляхаўка
Вялікая Дзяцель

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і месцы воінскай славы

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Культавая архітэктура

 Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XIII. ДУБРОЎНА

Горад, цэнтр раёна, на р. Дняпро. За 107 км на паўднёвы ўсход ад Віцебска, 8 км ад чыгуначнай станцыі Асінаўка на лініі Орша — Смаленск, аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Оршай, Горкамі. Размешчаны на гарыстай маляўнічай мясцовасці (перапады да 20 м), узвышшы чаргуюцца з ярамі і поймамі рэк. Дняпро падзяляе г. Дуброўна на паўднёвую і паўночную часткі, р. Свінка з прытокамі Лазарэтная і Дубровенка (Крапіўна) абмяжоўваюць гарадскую забудову на ўсходзе і з паўднёвага захаду.

Дуброўна вядома з пачатку 16 ст. Уваходзіла ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. У 1-й палавіне 16 ст. велікакняжацкае ўладанне. З сярэдзіны 16 ст. належала беларускаму магнацкаму роду Глябовічаў, з 1669 г.— Сапегам. Дуброўна неаднаразова займалі рускія войскі. У 1650—60-я гады царскія ўлады перасялілі адсюль вялікую колькасць сталяроў, разьбяроў, ганчароў і іншых рамеснікаў у Маскву, Смаленск, Калугу і Дарагабуж. У 1698 г. горад спустошаны атрадамі літоўска-беларускай шляхты, якая вяла барацьбу супраць засілля Сапегаў у Вялікім княстве Літоўскім. У верасні 1701 г. ў час міжусобнай вайны паміж шляхтай і Сапегамі ў раёне г. Дуброўна атрадамі шляхты было забіта 2,5 тыс. (па іншых звестках 3 тыс.) сялян з казацка-сялянскага атрада Юрэвіча, узброенага Сапегамі. У 1708 г. горад займалі шведскія і рускія войскі, у 1711—19 гг. ён знаходзіўся ў закладзе ў рускага вяльможы А. Д. Меншыкава, потым быў вернуты Сапегам. У 1750 г. заснавана суконная мануфактура. У г. Дуброўна былі 4 праваслаўныя царквы, бернардзінскі кляштар. Пры Спаскай царкве існавала праваслаўнае брацтва. Магнаты аказвалі падтрымку праваслаўным цэрквам (прывілеі 1699, 1709, 1719, 1722, 1750, 1757 гг.).

У 1772 г. разам з усходняй часткай Беларусі г. Дуброўна ўвайшоў у склад Расійскай імперыі. У 1773—75 гг. мястэчка, павятовы цэнтр Аршанскай правінцыі, з 1777 г. мястэчка Аршанскага, з 1861 г.— Горацкага паветаў Магілёўскай губерні. У 1774 г. князь А. Сапега прадаў Дуброўна Р. А. Пацёмкіну, а той памяняў яго ў 1783 г. на Смелу Кіеўскай губерні з князем Ф. Любамірскім. У канцы 18 ст. ў мястэчку было 3 мануфактуры (пазументавая, суконная і гадзіннікавая) з 279 рабочымі. У ліпені 1812 г. Дуброўна было занята напалеонаўскімі войскамі, 9.11.1812 г. вызвалена авангардам генерала А. П. Ярмолава.

У 1846 г. ў г. Дуброўна 3441, у 1867 г.— 4522, у 1897 г.— 7974 жыхары.



XIII. *Дом Саветаў.*

У 1860 г. было 811 дамоў, 8 прадпрыемстваў, 2 вучылішчы, бальніца, аптэка. У пачатку 20 ст. створана ткацкая фабрыка — Дняпроўская мануфактура (у 1910 г.— 488 рабочых). У перыяд Рэвалюцыі 1905—07 гг. дзейнічала група РСДРП, адбыліся выступленні працоўных. На 1.1.1909 г. было 9469 жыхароў, 869 жылых дамоў (у т. л. 10 цагляных), 5 млыноў. У 1-ю сусветную вайну колькасць жыхароў скарацілася. Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі 5294 жыхары. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. раённы цэнтр, з 3.7.1925 горад. У 1926 г. было 7920 жыхароў, у 1939 г.— 9,9 тыс. жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 26.6.1944 г. горад акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У час акупацыі ў раёне дзейнічалі падпольныя раённыя камітэты КП(б)Б (11.11.1943 г.— чэрвень 1944 г.) і ЛКСМБ (1.11.1942 г.— чэрвень 1944 г.). У 1959 г.— 4,9 тыс. жыхароў. У 1962—65 гг. Дуброўна ў складзе Аршанскага р-на.

Першаасновай сучаснага горада з'явілася гарадзішча, якое знаходзілася каля ўпадзення Дубровенкі ў Дняпро, на ўзвышшы, на якім былі пабудаваны ў 16 ст. замак роду Глябовічаў (не захаваўся), а побач з ім у 1630 г. кляштар бернардзінцаў. Планіровачная структура горада сфарміравалася ў 16—17 стагоддзях. Да цэнтральнай, квадратнай у плане гандлёвай плошчы сыходзіліся ўсе асноўныя вуліцы і транспартныя магістралі, у т. л. тракт Орша — Смаленск, ствараючы радыяльна-кальцавую планіроўку. Больш свабодная планіроўка вуліц з некалькімі кварталамі рэгулярнага тыпу ў Задняпроўскім р-не склалася пазней — у 17 — пачатку 18 ст. Ад мураваных будынкаў канца 18 ст. захаваліся рэшткі палаца князёў Любамірскіх, ад забудовы 19 ст.— Пакроўская царква. У Вялікую Айчынную вайну горад быў моцна разбураны. У пасляваенны час жыллёвы фонд адноўлены, пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы. Новы адміністрацыйны, грамадскі і гандлёвы цэнтр сфарміраваўся на месцы старога цэнтра (раён былой гандлёвай плошчы і часткі вул. Камсамольскай). Тут размешчаны Дом Саветаў, гарсавет, Дом культуры, вузел сувязі, універмаг, сталовая. Жыллёвая забудова сучаснага тыпу сканцэнтравана па вул. Г. Нікандравай, у пасёлку «Міжкалгасбуда». Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1973 г. Віцебскім абласным філіялам інстытута «Белдзяржпраект», прамысловыя зоны фарміруюцца ва ўсходняй і паўднёвай частках горада, зона адпачынку — ва ўрочышчы Лугаўцы. Новы генеральны план распрацаваны ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва ў 1983 г. Сярод прамысловых прадпрыемстваў: маслазавод, ільнозавод, хлебазавод, камбінат будаўнічых матэрыялаў, завод жалезабетонных вырабаў. Працуюць раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», камбінат бытавога абслугоўвання. У горадзе 2 сярэднія, вочна-завочная, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, дапаможная школа-інтэрнат, 2 дашкольныя ўстановы, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца, 2 бібліятэкі. Выдаецца раённая газета «Дняпроўская праўда». Помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан Вялікай Айчыннай вайны.



XIII. *Вуліца Нікандравай.*



**1336.** *Помнік Герою Савецкага Саюза Г. А. Нікандравай і надмагілле на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Літ.: Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2.— Могилев, 1884; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2.— Мн., 1940; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Список населенных мест Могилевской губернии.— Могилев, 1910; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905.

*Г. І. Барышаў, А. П. Грыцкевіч.*

**1335. БРАЦКАЯ МАГІЛА БАРАЦЬБІТОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны работнікі міліцыі В. К. Цыркуноў, Скарынкін і першы ваенком Дуброўны М. З. Волгін, забітыя ў 1920 г. ворагамі Савецкай улады. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1336. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). На вул. Садовай, у скверы. Пахаваны 50 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Ганна Аляксееўна Нікандрава.

Г. А. Нікандрава нарадзілася ў 1920 г. ў в. Барашкіна Краснагародскага р-на Пскоўскай вобл. Член КПСС з 1942 г. Удзельнічала ў баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Камсорг стралковага палка старшы лейтэнант Г. А. Нікандрава вызначылася 23.6. 1944 г. ў баі каля в. Кірэева Аршанскага р-на. Асабістым прыкладам падняла байцоў у атаку, падраздзяленні палка захапілі апорны пункт ворага. Загінула ў гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.8.1945 г. Яе імем названа вуліца ў Дуброўна.

У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. М. Рыжанкоў, арх. А. Трафімчук; граніт, бронза; вышыня пастамента 2 м, бюста 1,1 м). Да пастамента прылягае надмагілле, у якое ўрэзаны масіўныя блокі з імёнамі пахаваных. На пастаменце прамавугольнай формы пагрудны бюст Г. А. Нікандравай. Дынамічная кампазіцыя партрэта падкрэслівае ўнутраны стан гераіні. Горда ўзнятая галава дзяўчыны ў пілотцы, суровы позірк, ледзь прыўзнятыя плечы, за якімі развяваецца салдацкая плашч-палатка, сімвалізуюць самаадданасць, рашучасць і веліч савецкага чалавека, што выконвае свой абавязак перад Радзімай. Перад помнікам — невялікая пляцоўка, выкладзеная шэрымі бетоннымі плітамі, навокал высаджаны дрэвы, разбіты газоны.

Подзвіг Г. А. Нікандравай увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Рыленкі.



**1338.** *Будынак кляштара бернардзінцаў. План 1-га паверха.*

Літ.: Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. М. Казлоўская, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1337. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 100 м на ўсход ад упадзення р. Дубровенка ў Дняпро, на ўзгорку. Пляцоўка памерам 120×40 м, выцягнута з захаду на ўсход. Узвышаецца над далінай на 5—8 м, стромкасць схілаў да 50°. З усходняга боку паніжаецца на 1 м. З паўднёвага ўсходу да пляцоўкі прымыкае насып, на якім была дарога і ўезд на гарадзішча. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1930 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

Літ.: Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

**1338. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт.). Вул. Аршанская. На паўднёвым захадзе горада, на ўзвышаным беразе р. Дубровенка. Пабудаваны з цэглы ў пач. 19 ст. на месцы драўлянага кляштара 1630 г. Цяпер будынак займаюць адміністрацыйна-грамадскія ўстановы.

Двухпавярховая пабудова са скляпамі складаецца з 2 узаемна перпендыкулярных карпусоў: больш доўгага па восі захад — усход і кароткага, арыентаванага на поўнач. Планіроўка паверхаў галерэйна-калідорная. Цэнтральны вузел (месца злучэння карпусоў) фарміруе вінтавая лесвіца. Перакрыцце 1-га паверха скляпеністае, 2-га — бэлечнае. Сцены атынкаваныя. Дах двухсхільны. Архітэктура будынка лаканічная. Адзінымі элементамі дэкору з'яўляюцца тонкія пілястры, нескладаны карніз і паяскі. Тарцовыя сцены завяршаюцца трохвугольнымі франтонамі з люкарнамі.

У планіроўцы кампазіцыі і дэкаратыўным аздабленні помніка праявіліся асобныя рысы барока.

*Ю. А. Якімовіч.*

**1339. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На тэрыторыі льнозавода. Пахавана каля 3 тыс. мірных грамадзян, расстраляных у 1941—42 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.



**1338.** *Будынак кляштара бернардзінцаў.*

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1340. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Чырвонаслабодская, 3. Ва ўсходняй частцы горада. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Аднакупальны храм падоўжна-восевай кампазіцыі. Уключае галоўны аб'ём, апсіду і бабінец са званіцай на галоўным (паўднёва-заходнім) фасадзе. Галоўны аб'ём складаецца з 2 частак: ніжняга чацверыка і верхняга круглага светлавога барабана, які трымаецца на арках, перакінутых паміж сценамі ніжняга яруса і 4 унутранымі слупамі. Светлавы барабан перакрывае высокі купал. Двух'ярусная званіца завершана шатровым дахам. Ніжні яе ярус глухі, верхні прарэзаны высокімі арачнымі праёмамі. Знешняе дэкаратыўнае афармленне мае рысы класіцызму. Галоўны ўваход і бакавыя сцены асноўнага аб'ёму падкрэслены франтонамі. Аконныя праёмы завершаны сандрыкамі. Пілястры руставаныя. У інтэр'еры вылучаецца ўвянчаны купалам цэнтральны двух'ярусны аб'ём, з якім непасрэдна злучаюцца бабінец і алтар.

Царква — помнік архітэктуры, у якім ярка выявіўся сінтэз традыцыйных прыёмаў мясцовага дойлідства і рыс класіцызму. *Ю. А. Якімовіч.*

**1341. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Камсамольскай, у скверы.

Воіны 88-й і 192-й стралковых дывізій 31-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант В. В. Глаголеў) 3-га Беларускага фронту ў выніку жорсткіх баёў прарвалі абарону праціўніка на дарозе Масква — Мінск і 26.6.1944 г. вызвалілі г. Дуброўна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. ў гонар вызвалення горада пастаўлены помнік — 2 бетонныя стэлы з мемарыяльнай дошкай.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973.



1340. *Пакроўская царква.*

**1342. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Нікандравай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**1343. РАДЗІМА АКУЛАВА** Герасіма (гіст.).

Вядомы беларускі і рускі разьбяр па дрэве Г. Акулаў (Гараська) нарадзіўся ў 1-й палавіне 17 ст. ў сям'і пасадскага. Майстэрства разьбы вывучаў у мужчынскім Куцеінскім Богаяўленскім манастыры каля Оршы. У 1654—58 гг. працаваў у Іверскім Валдайскім, у 1658—66 гг. у Нова-Іерусалімскім манастырах на Істры, куды быў запрошаны патрыярхам Ніканам. З 1666 г. пераведзены ў Аружэйную палату Маскоўскага Крамля ў арцель Кліма Міхайлава. У 1667—68 гг. удзельнічаў у аздабленні разьбой Каломенскага палаца. Адзін з стваральнікаў разных іканастасаў 3 цэркваў у Ізмайлаўскай падмаскоўнай сядзібе цара Аляксея Міхайлавіча.

*Літ.:* Абецедарский Л. С. Белорусы в Москве XVII в.: Из истории русско-белорусских связей.— Мн., 1957. *Г. І. Барышаў.*

**1344. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). Вырабы мясцовых майстроў вядомы пад назвай «дубровенская кераміка». Промысел узнік у глыбокай старажытнасці, найбольшае развіццё атрымаў у 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. З чырвонай гліны рабілі бытавы посуд задымлены, тэракотавы, паліваны з размалёўкай і без яе, а таксама цацкі-свістулькі (коцікі, лялькі, мядзведзікі і інш.). Збывалі вырабы на месцы і перапраўлялі па Дняпры на кірмашы Расіі і Украіны.

Сучасныя майстры-надомнікі лепяць гліняныя цацкі-свістулькі ў традыцыйнай, некалькі архаічнай форме і гліняны посуд: гарлачы, гаршкі, макацёры задымленыя сінявата-чорнага колеру і тэракотавыя, паверхню якіх упрыгожваюць хвалістымі лініямі. Форма макацёраў канічная, гарлачоў і гаршкоў — шарападобная. Дубровенскія цацкі ёсць у калекцыях музеяў Ленінграда і Мінска. *Д. С. Трызна.*

**в. Александрыя, Валяўкоўскі сельсавет**

**1345. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 93 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1340. *Пакроўская царква. План.*



1349. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Арловічы, Валяўкоўскі сельсавет**

**1346. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 466 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1347. ПАРК** (архіт.). У цэнтры вёскі, на левым беразе Дняпра. Закладзены ў 19 — пачатку 20 ст., захаваўся фрагментарна. Парк пейзажнага тыпу. У афармленні курцін выкарыстаны ліставыя пароды дрэў — дуб, таполя, ліпа.

**чыгуначная станцыя Асінаўка, Пірагоўскі сельсавет**

**1348. РАДЗІМА АВЕКАВА** Івана Аўдзеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. А. Авекаў нарадзіўся 19.5.1919 г. ў рабочай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Чырвонай Арміі з 1937 г., скончыў ваеннае авіяцыйнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Заходнім і Цэнтральным франтах, камандзір авіяэскадрыллі. Зрабіў 178 баявых вылетаў, 45 з іх на штурмоўку калон і аэрадромаў праціўніка, збіў 18 варожых самалётаў, 1 тараніў, 23 знішчыў на аэрадромах. Удзельнічаў у абароне Масквы і Тулы. Загінуў у баі 17.4.1943 г. Пахаваны ў брацкай магіле ў г. Данкаў Ліпецкай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.8.1943 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**рабочы пасёлак Асінторф, цэнтр пасялковага Савета**

**1349. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у парку. Пахаваны 395 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і 3 абеліскі.

**1350. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ, ПАДПОЛЬШЧЫКАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы торфапрадпрыемства «Асінторф». У гонар воінаў 31-й гвардзейскай стралковай дывізіі 11-й арміі, якія 23.6.1944 г. вызвалілі пасёлак ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, у гонар партызан брыгад імя К. С. Заслонава і 16-й Смаленскай, а таксама ўдзельнікаў Асінторфскага камсамольскага падполля ў 1976 г. пастаўлены абеліск. Абапал яго ў 1980 г. ўстаноўлена 5 пліт, на якіх імёны 86 жыхароў пасёлка, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**в. Баброва, Маласавінскі сельсавет**

**1351. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 1406 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.

**1352. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, на паўднёвым беразе р. Бабровенка. Пляцоўка памерам 42×38 м, вышынёй 12—14 м над узроўнем ракі. З заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 4 м і ровам глыбінёй 1—3 м, шырынёй каля 6 м. Краі пляцоўкі прыўзняты на 1—1,5 м. На гарадзішчы знаходзяцца могілкі, на іх асобныя пахаванні адзначаны камянямі з выбітымі крыжамі. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Баева, цэнтр сельсавета**

**1353. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 698 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1354. РАДЗІМА ГАРУЛЁВА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.).

Рускі савецкі пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР (1979 г.) М. А. Гарулёў нарадзіўся 6.11.1919 г. ў сям'і настаўніка. Член КПСС з 1943 г. Пасля сканчэння чыгуначнай школы вучыўся ў 1935—37 гг. у Магілёве на педрабфаку, у 1941 г. скончыў Магілёўскі педінстытут. З першых дзён вайны баец 1-га камуністычнага знішчальнага батальёна, потым палітработнік і ваенны журналіст у 24-й дывізіі войск НКУС. Пасля дэмабілізацыі з арміі працаваў адказным сакратаром Магілёўскай абласной газеты «За Радзіму» (1947—49 гг.), альманаха «Советская Отчизна» (1950—59 гг.), на кінастудыі «Беларусьфільм» (1960—65 гг.), загадчыкам літаратурнай часткі Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага (1966—68 гг.), мастацкім кіраўніком Палаца культуры Белсаўпрофа (1968—70 гг.). З 1970 г. адказны сакратар навукова-метадычнага бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Друкаваўся з 1939 г. Першы зборнік вершаў — «Аднагодкі» (1950 г.). Аўтар кніг паэзіі «У дарозе» (1956 г.), «Прызнанне. Выбранае» (1976 г.), у якую, акрамя вершаў, уключаны паэмы «Песня любві», «Слова сябра» і «Бацька». У цэнтры ўвагі паэта — пакаленне яго аднагодкаў, якое прайшло праз агонь Айчыннай вайны, стваральныя будні Савецкай краіны, характар і духоўны свет нашага сучасніка, яго чалавечая мараль. Напісаў аповесць «Сябры-таварышы» (1954 г.) аб падзеях напярэдадні і ў час Вялікай Айчыннай вайны, раман «Бывайце, любімыя» (1979 г.), прысвечаны мужнай абароне Магілёва ў 1941 г., патрыётам, якія змагаліся з ворагам. Аўтар п'ес: «Выбух» (разам з М. Алтуховым, 1958 г.), «Другое знаёмства» (пастаўлена ў 1960 г., выдадзена ў 1961 г.), «Калі любіш» (1963 г.), «Мая дачка» (1966 г.), «Помста Палавінкіна» (пастаўлена ў 1968 г.) і інш. Перакладаў на рускую мову творы М. Зарэцкага, М. Паслядовіча, Э. Самуйлёнка, Я. Скрыгана і іншых беларускіх пісьменнікаў. Памёр М. А. Гарулёў 7.5.1980 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *І. Ф. Кудраўцаў.*



1352. *Гарадзішча.*

**в. Барадзіно, Дабрынскі сельсавет**

**1355. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на мысе старажытнай даліны р. Дубровенка. З поўначы, усходу і поўдня абкружана ярамі, з захаду прасочваецца роў. Памер пляцоўкі 50×40 м, вышыня 7—8 м над узроўнем ракі. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Буда, Пірагоўскі сельсавет**

**1356. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Злева ад шашы Мінск — Масква. Пахаваны 2170 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1357. ПОМНІК АСІНТОРФСКІМ ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст., маст.). На 478-м км аўтамагістралі Масква — Брэст, непадалёку ад рабочага пасёлка Асінторф.



1357. *Помнік асінторфскім падпольшчыкам.*

У гады нямецка-фашысцкай акупацыі ў раёне прадпрыемства «Асінторф», БелДРЭС і чыгуначнай станцыі Асінаўка дзейнічала падпольная Асінторфская камсамольска-маладзёжная антыфашысцкая арганізацыя. Створана 10.8.1941 г. былым дырэктарам торфапрадпрыемства Г. Р. Амельчанкам. У яе ўваходзілі каля 50 рабочых і былых вучняў сярэдняй школы. Штаб падполля: С. П. Шмуглеўскі (камандзір), Я. У. Вільсоўскі (камісар), Л. К. Букацік, В. Ф. Агурцоў. Да лістапада 1942 г. дзейнасцю падпольшчыкаў кіраваў камандзір партызанскай брыгады «Дзядзькі Косці» К. С. Заслонаў, у лютым — кастрычніку 1943 г.— камандзір 16-й Смаленскай партызанскай брыгады І. Р. Шлапакоў.

Падпольшчыкі актыўна дзейнічалі з першых месяцаў акупацыі. Яны ўладкоўваліся на розныя пасады ў нямецкія ўстановы, забяспечвалі партызан, падпольшчыкаў пропускамі і неабходнымі дакументамі. Арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з канцэнтрацыйных лагераў і перапраўлялі іх да партызан, выратоўвалі моладзь ад вывазу ў Германію, перадавалі пар-



1357. *Помнік асінторфскім падпольшчыкам. Пліта з надпісам-прысвячэннем.*

тызанам звесткі пра дыслакацыю войск ворага, збіралі зброю, боепрыпасы, псавалі тэлефонную сувязь праціўніка, машыны і абсталяванне на торфапрадпрыемстве. Падпольшчыкі ўзарвалі чыгуначны мост, знішчылі 3 склады боепрыпасаў, вывелі са строю сістэму гідраздабычы торфу, спалілі дом адпачынку нямецкіх афіцэраў. Мужна змагаліся ў падполлі, потым у партызанскіх атрадах В. Ф. Агурцоў, В. Дз. Бугаёва, Л. К. Букацік, Я. У. Вільсоўскі, М. Дз. Вялікасельскі, М. Р. Макаранка, Я. В. Няфёдава, М. Р. Пруднікаў, Дз. Я. Сінельшчыкаў, браты І. І. і Г. І. Трацяковы, С. П. Шмуглеўскі і інш. У кастрычніку 1943 г. падпольшчыкі па загаду партызанскага камандавання пакінулі Асінторф і ўліліся ў 16-ю Смаленскую партызанскую брыгаду. У барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў загінулі В. Ф. Агурцоў, Л. К. Букацік, Я. У. Вільсоўскі, Я. І. Гароднікаў, А. І. Жэнікаў, П. І. Клімовіч, М. Д. Малаховіч, Н. А. Нольберт, М. М. Пахоменка, Н. П. Пракапенка, браты Г. І. і І. І. Трацяковы, М. І. і Я. І. Цяленчанкі, І. П. Ярмоленка.

У гонар герояў Асінторфскага падполля ў 1966 г. пастаўлены манумент (скульпт. Г. Мурамцаў, арх. В. Занковіч і Л. Левін; бетон, металізацыя; вышыня скульптуры 4 м, пастамента 12 м). На высокім пастаменце Г-падобнай формы — скульптура юнака з лунаючым вымпелам ва ўзнятых над галавой руках. Мускулістае, моцнае цела напружана ў актыўным мэтанакіраваным руху, адкрыты твар поўны сілы і мужнасці. Вертыкаль абеліска ўраўнаважана невысокай сценкай з масіўнай бетоннай плітой з надпісам-прысвячэннем. Сілуэт помніка выразна вылучаецца сярод раўніннага ландшафту на фоне неба.

*Літ.:* Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973.

*М. М. Казлоўская, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1358. ПОМНІК СМІРНОВУ** Юрыю Васілевічу (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса імя Ю. В. Смірнова. Бюст Героя Савецкага Саюза Ю. В. Смірнова ўстаноўлены ў 1972 г. Глядзі артыкул № 203 «Магіла Смірнова Юрыя Васілевіча» (Аршанскі р-н).

**в. Бурая, Маласавінскі сельсавет**

**1359. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ПЛІТА МАРОЗУ** Міхаілу Міхайлавічу (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Устаноўлена ў 1982 г.

7.9.1977 г. камсамолец М. Мароз разам з іншымі навучэнцамі Аршанскага педагагічнага вучылішча працаваў на ўборцы бульбы ў калгасе «Прагрэс» Дубровенскага р-на. У час работы ўбачыў на транспарцёрнай стужцы бульбаўборачнага камбайна пражжавелы снарад. М. Мароз падхапіў яго і пабег па полі далей ад камбайна. Снарад узарваўся. Цаной свайго жыцця семнаццацігадовы юнак выратаваў ад смерці механізатараў і таварышаў па вучылішчу, якія працавалі на ўборцы. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 20.10. 1977 г. М. Мароз пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Пахаваны на радзіме ў в. Беражцы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. Імем героя названы многія піянерскія дружыны краіны, цеплаход. Яго подзвігу прысвечана п'еса М. Саенка «Спытай сябе». У г. Жыткавічы каля сярэдняй школы № 1 устаноўлены бюст М. Мароза. *М. М. Казлоўская.*

**в. Вежкі, Зарубскі сельсавет**

**1360. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, ніжэй моста, на пойме правага берага р. Расасенка. Пляцоўка памерам 55×35 м, вышынёй 12—15 м над узроўнем ракі. Усходняя частка гарадзішча прыўзнята і каля падножжа ўзгорка злучана насыпам з карэнным правым берагам. З астатніх бакоў абкружана поймай ракі. Стромкасць схілаў да 70°. Гарадзішча вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *У. Ф. Ісаенка.*



1360. *Гарадзішча.*

**в. Вялікае Бахава, Малабахаўскі сельсавет**

**1361. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля могілак. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікая Дзяцель, Кляноўскі сельсавет**

**1362. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 85 жыхароў населеных пунктаў калгаса імя XX з'езда КПСС, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына.

**в. Гарошкава, Валяўкоўскі сельсавет**

**1363. РАДЗІМА КАНДРАЦЬЕВА** Івана Дзмітрыевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Дз. Кандрацьеў нарадзіўся 11.9.1917 г. Гл. артыкул № 1380 «Магіла Кандрацьева Івана Дзмітрыевіча».

**в. Глебава, Дабрынскі сельсавет**

**1364. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне сядзібы жыхара вёскі М. Харэвіча. 2 насыпы вышынёй 2,5 м, дыяметрам 6—7 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дабрынь, цэнтр сельсавета**

**1365. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 58 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дняпроўка, Засценкаўскі сельсавет**

**1366. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на мысе высокага левага берага Дняпра, ва ўрочышчы Германы. Пляцоўка памерам 16×30 м. Абмежавана з 2 бакоў ярам, з боку поля ўмацавана 2 валамі. Вышыня ўнутранага вала 4,5 м, вонкавага — 3 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. С. А. Дубінскі, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт больш за 1 м. У паўднёвай частцы гарадзішча на глыбіні 0,6 м выяўлены абломкі гліняных пасудзін, мур і рэшткі драўляных насціл аў. Матэрыялы адносяцца да днепра-дзвінскай, тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны культур і эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Дубінскі С. А. Гарадзішча каля в. Германоў Аршанскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

*У. Ф. Ісаенка.*



1368. *Помнік землякам.*

в. Ерамееўшчына,
Маласавінскі сельсавет

**1367. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля могілак. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1368. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 199 жыхароў населеных пунктаў калгаса «Шлях да камунізма», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

в. Загваздзіна,
Маласавінскі сельсавет

**1369. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 181 савецкі воін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Залатавічы,
Валяўкоўскі сельсавет

**1370. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 120 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

в. Зарубы, цэнтр сельсавета

**1371. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 212 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі і раёна. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Засценкі, цэнтр сельсавета

**1372. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

в. Ірвяніца, Баеўскі сельсавет

**1373. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана 8 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На магіле ў 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна. Помнік ушаноўвае таксама памяць 84 жыхароў вёсак Ірвяніца, Лапыроўшчына і Рудашкова, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1374. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад цэнтра в. Ірвяніца, на высокім (процілеглым) беразе р. Ірвяніца, на мысе, абмежаваным 2 ярамі. Пляцоўка авальнай формы, памерам 31×45 м, вышыня над поймай 20 м. З усходняга боку ўмацавана валам вышынёй 3—4 м, шырынёй у ніжняй частцы да 8 м, верхняй — 2—3 м і ровам глыбінёй 3 м. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

в. Казьяны, Зарубскі сельсавет

**1375. МАГІЛА ЗАГОРСКАГА** Барыса Уладзіміравіча (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Капітан Чырвонай Арміі Б. У. Загорскі загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Калінаўка, Зарубскі сельсавет

**1376. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 768 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1377. *Помнік землякам.*

**1377. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса імя І. Д. Чарняхоўскага. На ўшанаванне памяці 270 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата.

в. Карабанавічы,
Маласавінскі сельсавет

**1378. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1378а.** Гарадзішча-1. На мысе правага берага р. Дубровенка, каля могілак, ва ўрочышчы Гарадзец. Пляцоўка памерам 70×40 м, выцягнута з захаду на ўсход. Усходні бок гарадзішча ўмацаваны валам вышынёй да 4 м і ровам глыбінёй да 3 м. Стромкасць схілаў каля 60°. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,5—1,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1378б.** Гарадзішча-2. За 1 км на поўдзень ад Гарадзішча-1 у напрамку в. Цілавічы. Пляцоўка 60×30 м. З заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 1,8—2 м і двума равамі глыбінёй 1,5—1,7 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962. *У. Ф. Ісаенка.*

хутар Карагінава (не існуе),
Засценкаўскі сельсавет

**1379. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Карагінава знаходзіўся за 0,5 км на поўнач ад в. Старая Тухінь. У Вялікую Айчынную вайну быў знішчаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вайны не адрадзіўся.

в. Карумны,
Засценкаўскі сельсавет

**1380. МАГІЛА КАНДРАЦЬЕВА** Івана Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза І. Дз. Кандрацьеў нарадзіўся 11.9.1917 г. ў в. Гарошкава Дубровенскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1941 г., на фронце з ліпеня 1942 г., камандзір разліку станковага кулямёта. Вызначыўся ў баях пры фарсіраванні Паўднёвага Буга і Прута (15 і 26.3.1944 г.), знішчыў 5 агнявых кропак ворага, што садзейнічала паспяховай пераправе савецкіх войск цераз водныя рубяжы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.9.1944 г. Пасля вайны працаваў у калгасе «Перамога» Дубровенскага р-на, потым старшынёй Засценкаўскага сельсавета. Памёр 8.6.

1958 г. Яго імя прысвоена сярэдняй школе ў в. Засценкі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Каўровая, Кляноўскі сельсавет**

**1381. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на поўдзень ад вёскі Каўровая (былая в. Дзяругі), каля ўпадзення безыменнага ручая ў р. Пнёўка, ва ўрочышчы Гарадзец. З поўдня і ўсходу абмежавана рэчышчамі Пнёўкі і ручая, з паўночнага захаду прасочваюцца апоўзлы роў і рэшткі вала вышынёй 1,5—2 м. Пляцоўка авальная, памерам 35×25 м, вышыня над поймай Пнёўкі 4,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кляны, цэнтр сельсавета**

**1382. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 149 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Косціна, Рэдзькаўскі сельсавет**

**1383. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, каля шашы Мінск — Масква. Пахаваны 10 савецкіх воінаў, якія загінулі ў пасляваенныя гады пры размініраванні тэрыторыі раёна. У 1960 г. ў цэнтры могілак пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1384. ПОМНІК ВАСІЛЬЕВУ** Аляксандру Мікалаевічу (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі. У чэрвені 1944 г. гвардыі радавы 247-га стралковага палка 84-й гвардзейскай стралковай дывізіі А. М. Васільеў сваім целам закрыў амбразуру варожага дзота. Узнагароджаны пасмяротна ордэнам Леніна. У гонар подзвігу героя ў 1966 г. пастаўлена стэла.



1383. *Помнік на вайсковых могілках.*



1384. *Помнік А. М. Васільеву.*

**в. Ліцвінава, Зарубскі сельсавет**

**1385. РАДЗІМА РАКІТЫ** Сяргея Васілевіча (гіст.).

Беларускі паэт Сяргей Ракіта (Законнікаў) нарадзіўся 15.10.1909 г. ў сялянскай сям'і. Калі быў вучнем Наватухінскай школы, дасылаў карэспандэнцыі ў аршанскую акруговую газету «Камуністычны шлях». У 1929 г. накіраваны на работу ў рэдакцыю гомельскай газеты «Палеская праўда». З 1930 г. старшыня Гомельскага аддзялення Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. У 1932—33 гг. служыў у Чырвонай Арміі. З 1933 г. працаваў у Мінску на радыё, у рэдакцыях газет, у Дзяржаўным выдавецтве, адначасова вучыўся ў Беларускім камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава. У 1931 г. выдаў зборнік «Я агітую за пяцігодку». Памёр 23.3.1942 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. М. Казлоўская.*

**в. Лосеўка, Дабрынскі сельсавет**

**1386. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці жыхароў населеных пунктаў калгаса «Беларусь», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ляды, Валяўкоўскі сельсавет**

**1387. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 142 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна на фоне абеліска.

**1388. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Гарадзец. Мае авальную форму, памерам 40×30 м, стромкасць схілаў да 70°. З усіх бакоў умацавана валам, вышыня заходняга дасягае 6 м, іншых — 3 м, шырыня каля асновы 10—11 м, па грэбені — 6—7 м, даўжыня 12 м. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1389. РАДЗІМА ЗАРАНКІ** Сяргея Канстанцінавіча (гіст.).

Рускі жывапісец і педагог С. К. Заранка нарадзіўся 24.9.1818 г. ў сям'і прыгоннага. З 1834 г. вучыўся ў пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (з сярэдзіны 1830-х гадоў — у А. Венецыянава). Прафесар. Жыў у Маскве і Пецярбургу. У 1856—70 гг. выкладаў у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Пісаў партрэты і інтэр'еры. Створаны ім партрэт скульптара Ф. Талстога (1850 г.) належыць да ліку лепшых у рускім партрэтным жывапісе (Дзяржаўны музей БССР). За карціну «Унутраны выгляд Марскога Нікольскага сабора» (1843 г., Дзяржаўны рускі музей) атрымаў званне акадэміка. Сярод лепшых работ партрэты А. Венецыянава (2-я палавіна 1880-х гадоў, краязнаўчы музей), Ф. І. Прапішнікава, П. Панамарова (1855 г., Дзяржаўная Траццякоўская галерэя), «Выгляд залы Вучылішча Правазнаўства з групай настаўнікаў і выхаванцаў» (Дзяржаўны рускі музей, каля 1840 г.). Памёр 20.12.1870 г. ў Маскве.

*Літ.:* Смирнов Г., С. К. Зарянко. 1818—1870.— М., 1951. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Малое Бахава, цэнтр сельсавета**

**1390. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Дубровенка, ва ўрочышчы Чортаў Гарадзец. Мае авальную форму, памерам 35×40 м, выцягнута з захаду на ўсход. Вышыня вала з усходняга боку 4 м, глыбіня рова да 1 м. Абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Міхалінава, Зарубскі сельсавет**

**1391. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новае Сяло (не існуе), Пірагоўскі сельсавет**

**1392. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Новае Сяло знаходзілася за 2,5 км на паўночны захад ад в. Судзілавічы. У верасні 1942 г. вёска (85 двароў) знішчана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Новая Тухінь, Засценкаўскі сельсавет**

**1393. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры.



1388. *Гарадзішча.*



1397. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

З чэрвеня 1941 г. да снежня 1942 г. ў вёсцы дзейнічала падпольная партыйна-камсамольская група. Арганізатар і кіраўнік былы старшыня мясцовага калгаса В. Р. Свойнікаў. У групу ўваходзілі Ф. М. Шабураў, П. П. Белясаў, А. Т. і Б. А. Васілёнкі, А. П. Доўбыш, Г. Е. Кузьмянкоў, І. М. Саўкін, А. М. Свойнікаў, С. М. Свойнікава, Вера, Еўдакія і Міхаіл Свойнікавы (жонка і дзеці В. Р. Свойнікава), Дз. Я. Тарасенка, П. Ц. Шыцікаў. Падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з Аршанскім падполлем, падпольнымі арганізацыямі г. Дуброўна і в. Пірагі, збіралі разведвальныя звесткі для партызан, здабывалі для іх зброю і прадукты, распаўсюджвалі савецкія друкаваныя выданні, зводкі Саўінфармбюро, вялі дыверсійную работу, перапраўлялі воінаў Чырвонай Арміі, якія трапілі ў акружэнне, праз лінію фронту. Г. Е. Кузьмянкоў і І. М. Саўкін уладкаваліся на работу ў валасную ўправу і забяспечвалі чырвонаармейцаў і партызан дакументамі. У снежні 1942 г. па даносу правакатара большасць членаў групы была арыштавана і расстраляна.

У 1982 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў устаноўлена мемарыяльная дошка. *М. М. Казлоўская.*

**в. Пасуддзева, Малабахаўскі сельсавет**

**1394. РАДЗІМА КАЎРОВА** Фёдара Кузьміча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Ф. К. Каўроў нарадзіўся ў 1912 г. ў сялянскай сям'і. З 1931 г. жыў у Данбасе. У Чырвонай Арміі з 1934 г. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі ў 1936—39 гг. Вызначыўся ў баях каля гарадоў Гвадалахара, Тэруэль. Загінуў у баі 9.7.1937 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.10.1937 г. Імя героя прысвоена Свташыцкай школе Дубровенскага р-на.

**в. Паценькі, Валяўкоўскі сельсавет**

**1395. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 301 воін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пятрыкі, Рэдзькаўскі сельсавет**

**1396. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 3172 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. На ўшанаванне іх памяці на магіле ў 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура маці з хлопчыкам.

**в. Расасна, Маласавінскі сельсавет**

**1397. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 903 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Рыленкі, Засценкаўскі сельсавет**

**1398. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС РЫЛЕНКІ** (гіст., арх., маст.). На 467-м км аўтамагістралі Масква — Брэст, за 1 км на поўнач ад вёскі. Узведзены на брацкіх магілках, дзе пахаваны 10 тыс. воінаў 30-й гвардзейскай стралковай дывізіі 10-й гвардзейскай арміі Заходняга фронту, 84-й гвардзейскай і 331-й стралковых дывізій 31-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У ходзе Смаленскай аперацыі войскі Заходняга і Калінінскага франтоў у пачатку кастрычніка 1943 г. выйшлі на подступы да Віцебска, Оршы і Магілёва, пачалі бай за вызваленне Беларусі. На Аршанскім напрамку на рубяжы Ляды — Леніна — Дрыбін абарону праціўніка прарывала ўдарная групоўка ў складзе 10-й гвардзейскай, 21-й і 33-й армій Заходняга фронту. Абарончыя пазіцыі гітлераўцаў былі глыбока эшаланіраваны сістэмай траншэй з драцянымі загародамі і міннымі палямі. У глыбіні абароны паміж траншэямі былі пабудаваны дзоты і бліндажы. У выніку наступальных баёў ворагу былі нанесены вялікія страты.

У час Беларускай аперацыі 1944 г. на гэтым напрамку наступалі войскі 11-й гвардзейскай (камандуючы — генерал-лейтэнант К. М. Галіцкі) і 31-й (камандуючы — генерал-лейтэнант В. В. Глаголеў) армій 3-га Беларускага фронту. Дзеянні наземных войск падтрымлівала 1-я паветраная армія (камандуючы — генерал-палкоўнік Ц. Ц. Хрукін). Пасля трохдзённых жорсткіх баёў савецкія войскі









1398. *Мемарыяльны комплекс Рыленкі. Рэльефы: уверсе — прысвечаны подзвігам Героя Савецкага Саюза Ю. В. Смірнова (злева) і А. М. Васільева; унізе — у гонар подзвігаў Героя Савецкага Саюза Г. А. Нікандравай і ваенных урачоў (злева) і лётчыкаў авіяпалка «Нармандыя-Нёман» С. Астахава і Бруна дэ Фальтана.*




**1398.** *Мемарыяльны комплекс Рыленкі. Пліта-маналіт і надмагіллі. Фрагмент.*

правалі абарону праціўніка і 26 чэрвеня вызвалілі Дуброўна. На брацкіх могілках каля в. Рыленкі пахаваны савецкія воіны, якія загінулі ў гэтых баях.

Мемарыяльны комплекс адкрыты 3.7.1973 г. (скульпт. М. Рыжанкоў, арх. М. Ткачук; бетон, сілумін; памеры стэл 2,6×4 м, уваходнага партала 3×15 м). Займае вялікую плошчу і размешчаны перпендыкулярна да транспартнай магістралі. Уяўляе сабой пpастopавую архітэктурна-скульптурную кампазіцыю з развітым сіметрычна-восевым планіровачным вырашэннем. Уваход у мемарыял утвораны 2 рознавялікімі апорнымі сценкамі, якія нясуць манументальны рэльефны фрыз з выявай суровых і мужных твараў савецкіх воінаў. На сценках бронзавымі літарамі надпіс: «Тут 10 тысяч гераічна загінуўшых савецкіх салдат. Чэрвень 1944 г.». Уздоўж дарогі, якая вядзе да магіл, пастаўлены 4 бетонныя стэлы з урэзанымі ў іх сілумінавымі рэльефамі, якія адлюстроўваюць подзвігі герояў, што былі здзейснены на гэтай зямлі. Першая кампазіцыя прысвечана подзвігу Героя Савецкага Саюза Ю. Смірнова, якога фашысты распялі на сцяне бліндажа, другая — А. М. Васільеву, што паўтарыў подзвіг А. М. Матросава, трэцяя — подзвігу Героя Савецкага Саюза Г. А. Нікандравай, якая падняла байцоў у атаку. Пра мужнасць лётчыкаў авіяпалка «Нармандыя — Нёман» С. Астахава і Бруна дэ Фальтана, што загінулі ў адным самалёце, расказвае чацвёртая экспазіцыя. Рубленыя, лапідарныя формы рэльефу, жорсткая вытрымка аб'ёмаў перадае ўнутраную экспрэсію вобразаў. Пластычныя аб'ёмы стэл, што размяшчаюцца ў вострадынамічным прасторавым рытме, утвараюць адзінае цэлае. Брацкія могілкі вырашаны ў выглядзе прамавугольных тэрас. На верхняй — маляўнічая група бяроз і елак, абнесеная з 3 бакоў брустверам. Па перыметры тэрас раўнамерна ўстаноўлены 170 надмагільных пліт з імёнамі загінуўшых воінаў. Завяршаецца комплекс плітой-маналітам з надпісам «Подзвігі вашы неўміручыя». На пляцоўцы перад плітой — квадратная платформа, у гарэльефнай зорцы — Вечны агонь.

Па арганічнай сувязі з раўнінным навакольным ландшафтам, глыбокім патрыятычным змесце, эмацыянальнай мастацкай выразнасці мемарыяльны комплекс — адзін з яркіх помнікаў, прысвечаных гераізму воінаў Чырвонай Арміі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*Л. Г. Лапцэвіч, Э. М. Савіцкі.*

**1399. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На 467-м км шашы Масква — Брэст. На ўшанаванне памяці воінаў 1-й штурмавой камсамольскай Смаленскай інжынерна-сапёрнай брыгады, якія загінулі ў раёне в. Рыленкі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у кастрычніку 1943 г., у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Рэдзькі, цэнтр сельсавета**

**1400. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ КАМАНДНАГА ПУНКТА КАМАНДУЮЧАГА 3-м БЕЛАРУСКІМ ФРОНТАМ ЧАРНЯХОЎСКАГА** Івана Данілавіча (гіст.). За 0,5 км ад шашы Мінск — Масква, каля вёскі.

Тут у 1944 г. знаходзіўся камандны пункт камандуючага 3-м Беларускім фронтам генерала арміі І. Д. Чарняхоўскага. Адсюль у чэрвені ён кіраваў баявымі дзеяннямі войск фронту, якія ўдзельнічалі ў Беларускай аперацыі і вызвалілі Віцебск, Оршу, Багушэўск, Сянно, Талачын і іншыя гарады і вёскі Беларусі. У 1960 г. на месцы, дзе знаходзіўся камандны пункт І. Д. Чарняхоўскага, пастаўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. М. Казлоўская.*

**1401. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 126 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Сватошыцы, Дабрынскі сельсавет**

**1402. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Па-



**1398.** *Мемарыяльны комплекс Рыленкі. Партал.*

хаваны 136 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына і суворавец.

**1403. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, побач з могілкамі. 2 насыпы вышынёй 2,5 м, дыяметрам 20 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1404. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 73 жыхароў населеных пунктаў калгаса «Герой працы», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына.

**в. Сіпшчава,**
**Малабахаўскі сельсавет**

**1405. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 99 землякоў з населеных пунктаў калгаса «Праўда», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Станіслававa,**
**Малабахаўскі сельсавет**

**1406. ПАРК** (архіт.). На паўночнаўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Сляпчанка. Закладзены як сядзібны ў 19 ст. Рэльеф парку ўзгоркавы, тэрыторыя 20 га. З паўднёвага боку абмежаваны вуліцай вёскі, з усходняга — ровам і палявой дарогай. Уцалелы зялёны масіў дрэў — састаўная частка сядзібна-паркавага ансамбля, які належаў князю Любамірскаму. Цяпер на тэрыторыі былога сядзібна-паркавага ансамбля размешчаны школьныя і дашкольныя ўстановы, спартыўныя збудаванні.

Аснову паркавай кампазіцыі складае цэнтральная алея ўздоўж выцягнутага з поўдня на поўнач сядзібнага ўчастка. Роў, які перпендыкулярна перасякае галоўную алею, падзяляе парк на 2 часткі: паўднёвую — парадную, дзе былі палац (не збярогся) і прамавугольны вадаём, і паўночную — ландшафтную. Алеі пракладзены з улікам рэльефу мясцовасці. Па ўсходняй ускраіне ландшафту прахodзіць адзін з прагулачных маршрутаў. Асноўны масіў дрэў захаваўся ў паўднёвай палавіне парку, на ўсходняй ускраіне і ўздоўж цэнтральнай алеі. З старых пасадак маюць цікавасць група хвойных, вялікія дубы, а таксама асобныя экземпляры лістоўніцы еўрапейскай і елкі звычайнай.

З сядзібных будынкаў астаўся пабудаваны ў стылі псеўдаготыкі бровар, які знаходзіцца цераз дарогу насупраць уезду ў парк.

Парк — прыклад пейзажна-рамантычнага кірунку ў садова-паркавым мастацтве 19 ст.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*



**1400.** *Мемарыяльны знак на месцы размяшчэння каманднага пункта камандуючага 3-м Беларускім фронтам І. Д. Чарняхоўскага.*

**1407. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1980 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Усвяты (не існуе),**
**Валяўкоўскі сельсавет**

**1408. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Усвяты знаходзілася за 3 км на ўсход ад в. Калінаўка. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты знішчылі вёску разам з жыхарамі. Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Цеалін, Пірагоўскі сельсавет**

**1409. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 294 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Чыжоўка, Пірагоўскі сельсавет**

**1410. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1410а.** Паселішча-1. За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Плошча 1000 м². Выявіў і абследаваў у 1981 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, адшчэпы з рэтушшу, нажападобныя пласціны, рэтушоры, адбойнікі, сякеры, нуклеусы. Адносіцца да мезаліту, датуецца 9—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**1410б.** Паселішча-2. За 0,3 км на ўсход ад паселішча-1, на мысе, утвораным ручаём і правым берагам Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1981 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт



**1406.** *Кутох парку.*



**1399.** *Помнік савецкім воінам.*




**1406.** *Парк. Схема планіроўкі: 1 — месца былога палаца; 2 — бровар; 3 — месца былых гаспадарчых пабудоў; 4 — сучасныя пабудовы.*



**1407.** *Помнік землякам.*

0,15—0,2 м выразна прасочваецца ў агаленні тэрасы. Знойдзены скрабкі, нуклеусы, пласціны, адшчэпы, фрагменты ляпнога посуду. Адносіцца да неаліту, датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання паселішчаў зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксензов В. П. Исследования памятников мезолита в Центральной и Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Чырвоная Слабада, Маласавінскі сельсавет**

**1411. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Дуброўна — Ляды. Пахаваны 871 воін, якія загінулі 1—3.1.1944 г. ў баях за вёску. Сярод іх — Героі Савецкага Саюза Іван Аляксандравіч Буканаў і Уладзімір Аляксеевіч Сапрыкін.

І. А. Буканаў нарадзіўся ў студзені 1918 г. ў в. Новаказачае Казельскага р-на Калужскай вобл. ў сялянскай сям'і. Скончыў рамеснае вучылішча, працаваў на прадпрыемствах Масквы і Казельска. У Чырвонай Арміі з 1939 г. На фронце з чэрвеня 1941 г. Вызначыўся ў баі 15.11.1943 г. пры вызваленні Дубровенскага р-на. Камандзір узвода ўпраўлення лейтэнант І. А. Буканаў карэкціраваў агонь артылерыйскай батарэі і ў ходзе бою знішчыў 5 кулямётных кропак праціўніка. Пры адбіцці контратакі ўварваўся з 2 байцамі на варожыя пазіцыі, захапіў гармату і вёў з яе агонь па пяхоце і танках праціўніка. Загінуў у баі 3.12.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г.

У. А. Сапрыкін нарадзіўся 24.8.1916 г. ў в. Сухадол Краснінскага р-на Ліпецкай вобл. Член КПСС з 1943 г. Скончыў рабфак у Варонежы, працаваў настаўнікам у Варонежскай вобл. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір стралковага батальёна капітан У. А. Сапрыкін вызначыўся ў баях за в. Чырвоная Слабада. У снежні 1943 г. група байцоў з 30 чалавек пад яго камандаваннем гераічна ўтрымлівала важны апорны пункт. Байцы штодзень адбівалі па 10—12 контратак ворага. 3.12.1943 г. батальён гітлераўцаў пры падтрымцы 15 танкаў акружыў групу У. А. Сапрыкіна. Калі вораг наблізіўся да яе, камандзір выклікаў на сябе агонь савецкай артылерыі. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г. На будынку Альхавецкай школы Варонежскай вобл., дзе ён працаваў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна на фоне абеліска.



**1411.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



**1414.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Чырына, Кляноўскі сельсавет**

**1412. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Ліпіца (прыток р. Расасенка), ва ўрочышчы Высокі Гарадзец. Мае авальную форму, памерам 35×32 м. Вал з паўднёвага боку вышынёй 4—5 м, шырынёй каля асновы 10 м, у верхняй частцы 5—6 м. Гарадзішча абкружана ровам глыбінёй 1,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. У агаленнях знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Шалашына, Пірагоўскі сельсавет**

**1413. ПОМНІК СМІРНОВУ** Юрыю Васілевічу (гіст.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Тут 25.6.1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі закатавалі радавога Ю. В. Смірнова. У 1964 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Ю. В. Смірнова на месцы гібелі савецкага воіна пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 203 «Магіла Смірнова Юрыя Васілевіча» (Аршанскі р-н).

**в. Шухаўцы, Засценкаўскі сельсавет**

**1414. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 1181 воін і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і сцяна з імёнамі загінуўшых.




# ЛЕПЕЛЬСКІ РАЁН

Суша
Губіна
Камень
Баброва
Двор Бабча
Забароўе
Ворань
Заазер'е
Пышна
Матырына
Поплаўкі
Старое Лядна
Стары Лепель
Зацяклассе
Стаі
ЛЕПЕЛЬ
Горкі
Селішча
Вялікі Поўсвіж
Чэрцы
Паддуб'е
Чэрніца
Барсукі
Свядзіца
Грыгаравічы
Слабада
Нов. Валосавічы
Домжарыцы
Велеўшчына

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Земляныя валы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

## XIV. ЛЕПЕЛЬ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на беразе Лепельскага воз., за 115 км на паўднёвы захад ад Віцебска. Канцавая станцыя чыгункі Орша — Лепель. Злучаны аўтамабільнымі дарогамі з Полацкам, Мінскам, Віцебскам, Оршай, Улай.

Горад Лепель вырас з в. Белае, якая вядома па пісьмовых крыніцах з 1-й паловы 16 ст. У 1548 г. Белае належала братам І. і М. І. Сапегам. Канцлер Вялікага княства Літоўскага Л. І. Сапега ператварыў в. Белае ў мястэчка пад назвай Белы Лепель або Новы Лепель (канец 16 ст.). Пасля таго, як занялала другое мястэчка — Стары Лепель, Новы Лепель (пазней Лепель) стаў адміністрацыйным і гандлёвым цэнтрам валоданняў Сапегаў (гл. таксама артыкул № 1502 «Гарадзішча, селішча і замчышча»). Жыхары Лепеля плацілі грашовы чынш яго ўладальніку. У 1609 г. Сапега перадаў Стары і Новы Лепель (пасля ўтварылі адзін горад) віленскаму кляштару бернардзінак. Быў гандлёвым цэнтрам Полацкага ваяводства. У 1772—76 гг. адміністрацыйны цэнтр Полацкага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Лепель у складзе Расійскай імперыі: у 1793—96 гг. цэнтр павета Полацкай, з 1802 г.— Віцебскай губерняў. У 1797—1805 гг. каля Лепеля пабудаваны Бярэзінскі канал. Лепель упрыгожылі масты, набярэжныя. У 1805 г. горад узяты ў казну, яго жыхары пераведзены ў саслоўе мяшчан. У Айчынную вайну 1812 г. французская армія нанесла гораду вялікія страты. Лепель моцна пацярпеў ад пажару 1833 г. 31.07. 1835 г. быў зацверджаны генплан забудовы горада, паводле якога ён падзяляўся на 26 кварталаў і цэнтр, дзе былі сканцэнтраваны асноўныя грамадскія, культавыя і гандлёвыя пабудовы. У 1840-я гады Лепель перабудоўваўся, у 1841—44 гг. узведзены мураваны праваслаўны сабор. У 1860 г. план Лепеля карэкціруецца, горад падзелены на 30 кварталаў і 4 плошчы. У 1863 г. было 38 мураваных і 562 драўляныя дамы, гарбарны, піваварны і 2 цагельныя заводы. У 1876 г. скончана будаўніцтва мураванага касцёла Казіміра (закладзены ў 1857 г.). У 1897 г. ў Лепелі 6284 жыхары, з іх 60,3 % непісьменных. У пачатку 20 ст. было 772 дамы, 12 дробных прадпрыемстваў, 27 рамеснікаў, 7 ніжэйшых навучальных устаноў, друкарня. Штогод праводзіліся 4 кірмашы. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. існавалі гурткі РСДРП, адбыліся выступленні працоўных. Савецкая ўлада ўстаноўлена 31.10 (13.11).1917 г. З лютага 1918 г. да 28.9.1918 г. горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з кастрычніка 1919 г. да 14.5.1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. З 1924 г. раённы цэнтр. У 1925 г. звязаны чыгункай з Оршай. У 1935—38 гг. цэнтр акругі. У Вялікую Айчынную вайну з 6.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі і разбураны. Фашысты загубілі ў горадзе і раёне 5229 жыхароў. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (1.8.1941 г.— 29.6.1944 г.) і ЛКСМБ (1.7.1942 г.— 29.6.1944 г.), 14 партызанскіх брыгад і 4 асобныя атрады. Выдавалася падпольная газета «Калгасная праўда».



XIV. *Плошча Свабоды.*

У пасляваенны перыяд горад аднаўлены, узведзены грамадскія будынкі, прамысловыя прадпрыемствы. Сучасная забудова цэнтра Лепеля падзяляецца вуліцамі Горкага і Войкава на 4 прамавугольныя часткі. Кварталы рэгулярнага тыпу размешчаны па берагах рэк Эса, Ула, воз. Проша. Частка жыллёвай забудовы знаходзіцца за чыгуначнай веткай, якая абмяжоўвае горад з поўдня. Адміністрацыйна-грамадскі і гандлёвыя цэнтры — плошчы Свабоды, Гандлёвая і Прывакзальная.

У 1964 г. Віцебскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект» распрацаваны генплан, паводле якога жыллёвая забудова вялася ў цэнтральнай і паўднёва-ўсходняй частках Лепеля, а таксама ўздоўж Полацкай і Пышнянскай шашы, у раёне вуліц Віцебскай, Інтэрнацыянальнай, Дэпоўскай і Сянной, пасёлка малочна-кансервавага камбіната. За чыгуначным пераездам пабудаваны прамысловы комплекс міжкалгасбуда. У 1977 г. распрацаваны новы генплан. У горадзе дзейнічаюць: вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, доследна-эксперыментальны філіял Мінскага завода шасцерняў, экскаватарарамонтны, камбікормавы заводы, хлеба- і рыбазаводы, малочна-кансервавы камбінат, 4 будаўнічыя і рамонтныя арганізацыі. Працуюць камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. За 5 км ад Лепеля знаходзіцца цагельны завод, за 7 км — ільнозавод. У горадзе гідрамеліярацыйны тэхнікум, сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, 3 сярэднія школы, школа рабочай моладзі, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 11 дашкольных



XIV. *Забудова вуліцы Інтэрнацыянальнай.*



1415. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

установ, 2 масавыя бібліятэкі, Дом культуры, краязнаўчы музей, 2 бальніцы, 2 паліклінікі, санаторый «Лепель», метэастанцыя. Выдаецца раённая газета «Ленінскі сцяг». Помнікі: У. І. Леніну, Вызвалення, савецкім воінам, партызанам і падпольшчыкам, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, савецкіх воінаў і партызан, чырвонаармейцаў.

Зона адпачынку — на берагах азёр Лепельскае і Проша.

*Літ.:* Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Довгялло Д. И. Лепель, уездный гор. Витебской губ.: Хроника минувшей жизни.— Витебск, 1905; Список населенных мест Витебской губернии.— Витебск, 1906; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917). Т. 3.— Мн., 1953; Шлык Ф. Е. Лепель: Историко-экономический очерк.— Мн., 1976. *Г. І. Барышаў, А. П. Грыцкевіч.*

**1415. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада. Пахаваны 67 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1416. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1416. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На Прывакзальнай пл. Пахаваны 600 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні г. Лепеля і Лепельскага р-на. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1417. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 чырвонаармейцаў: 17 з іх расстраляны германскімі акупантамі ў 1918 г., адзін закатаваны польскімі інтэрвентамі ў 1919 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1418. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Гарадок. За 2,5 км на захад ад Лепеля, на месцы былой в. Гарадок. Умацавана валам вышынёй да 1,2—1,5 м, шырынёй 7—10 м. Пляцоўка амаль круглая, памерам 40×38 м. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт чорнага колеру, месцамі дасягае 1 м таўшчыні. Знойдзены абломкі ляпной керамікі (пераважна штрыхаваных пасудзін), кавалкі жалезнага шлаку, абломкі печаў-домніц, косці свойскіх і дзікіх жывёл. Датуецца 3—4 стагоддзямі н. э., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1419. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На невялікім востраве Лепельскага воз. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1969 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Пляцоўка круглай формы, вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 60 м. Знойдзена ляпная штрыхаваная кераміка. Датуецца 3—4 стагоддзямі н. э., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1420. КАСЦЁЛ КАЗІМІРА** (архіт.). У цэнтры горада, на скрыжаванні вуліц Дзяржынскага і Ленінскай. Пабудаваны ў 1857—76 гг. з цэглы. Належыць да тыпу базілікальных трохнефавых храмаў. Аб'ёмы нефаў, сакрысціяў, крылаў трансепта складаюць ступеньчатую кампазіцыю. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны рызалітам з трохвугольным франтонам, дэкарыраваны філёнгамі, лапаткамі, карнізамі з сухарыкамі. Нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. Ва ўсходняй частцы — хоры.



1417. *Помнік на брацкай магіле чырвонаармейцаў.*

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1421. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Пл. Свабоды, у гарадскім скверы. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баях пры вызваленні г. Лепеля 28.6.1944 г., а таксама Герой Савецкага Саюза Аляксей Фёдаравіч Данукалаў, камандзір Лепельскай партызанскай брыгады Дзмітрый Цімафеевіч Караленка, сакратар Лепельскага падпольнага райкома КП(б)Б Анатоль Адамавіч Марунька.

А. Ф. Данукалаў (партызанская мянушка «Аляксей») нарадзіўся 16.2.1916 г. ў в. Новарасляеўка Дзергачоўскага р-на Саратаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У 1941 г. скончыў Іркуцкае ваеннае вучылішча. У Айчынную вайну на фронце з 1941 г., палітрук танкавага батальёна. Удзельнік абарончых баёў за Лепель, Оршу, Смаленск. У 1941 г. трапіў у акружэнне. У жніўні 1941 г. арганізаваў партызанскі атрад «Радзіма», які дзейнічаў на тэрыторыі Смаленскай і Віцебскай абласцей. У красавіку 1942 г. атрад рэарганізаваны ў партызанскую брыгаду «Аляксея», камандзірам якой



1419. *Гарадзішча.*

18 Зак. 3873



**1421.** *Помнікі на магілах савецкіх воінаў і партызан.*

стаў А. Ф. Данукалаў (пасля яго гібелі брыгада імя А. Ф. Данукалава). А. Ф. Данукалаў загінуў 27.4.1944 г. ў баі супраць карнікаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8. 1944 г. Яго імем названа вуліца ў Лепелі, імя героя прысвоена калгасам у Лёзненскім і Сенненскім р-нах.

Дз. Ц. Караленка нарадзіўся 25.9.1912 г. ў г. п. Белаводск Старабельскага р-на Варашылаўградскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У Чырвонай Арміі з 1935 г. З сакавіка 1942 г. ў партызанах, начальнік штаба, камандзір атрада Чашніцкай («Дубава») партызанскай брыгады, з снежня 1943 г. камандзір Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна. Загінуў 22.4.1944 г. ў баі ў час карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх войск супраць партызан Полацка-Лепельскай партызанскай зоны.

А. А. Марунька — адзін з арганізатараў першага ў Лепельскім р-не партызанскага атрада. З 15.9.1942 г. другі сакратар Лепельскага падпольнага райкома КП(б)Б. Загінуў 22.12. 1942 г.

У 1968 г. на магілах 4 воінаў, А. Ф. Данукалава, Дз. Ц. Караленкі і А. А. Маруньki пастаўлены абеліскі.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Лебедев П. Л. Мы — алексеевцы: Записки партизанского разведчика.— 2 изд.— Мн., 1979; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82. *М. М. Казлоўская.*



**1423.** *Будынак, дзе ў Вялікую Айчынную вайну падпольшчыкі друкавалі антыфашысцкія лістоўкі.*

**1422. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАРГЕВІЧ** Веры Аляксандраўне (гіст.). Пл. Свабоды, 3. Устаноўлена ў 1982 г. на будынку раённага Дома культуры на ўшанаванне памяці партызанкі В. А. Маргевіч.

В. А. Маргевіч нарадзілася ў 1924 г. ў в. Гараны Лепельскага р-на. Член ВЛКСМ. Скончыла Магілёўскае культасветвучылішча ў 1941 г. У 1942 г. кулямётчыца Чашніцкай («Дубава») партызанскай брыгады, потым палітрук роты Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна. Загінула 20.10.1943 г. ў баі пры разгроме нямецка-фашысцкага гарнізона ў г. Лепель. Пахавана ў в. Порань Ушацкага р-на. *М. М. Казлоўская.*

**1423. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Ленінская, 8/65. Устаноўлена ў 1966 г. на будынку, у якім у Вялікую Айчынную вайну ў друкарні акупантаў па заданню камуністычнага падполля працавалі былыя супрацоўнікі раённай газеты «Калгасная праўда» С. Р. Бараноўскі, А. І. Катырла, Ф. Ц. Раманенка, І. В. Чарняўскі і інш. Яны друкавалі зводкі Саўінфармбюро, антыфашысцкія лістоўкі і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. Восенню 1943 г. гітлераўцы арыштавалі С. Р. Бараноўскага і І. В. Чарняўскага і пасля катаванняў расстралялі. *М. М. Казлоўская.*

**1424. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На заходнім беразе воз. Лепельскае, ва ўрочышчы Пясчаніца, на мысе, утвораным ручаём і берагам Лепельскага воз. Плошча 150×30 м, культурны пласт 0,2 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. У. П. Ксяндзоў. Знойдзены крамянёвыя прылады працы: бакавыя разцы, мікраразцы, скрэблы, вастрыі, пласціны і адшчэпы з выемкамі і рэтушшу, пласцінкі-ўкладышы, нуклеусы, адбойнікі. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 9—5 тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксензов В. П. Исследования памятников мезолита в Центральной и Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *У. П. Ксяндзоў.*

**1425. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Горкага, перад будынкам краязнаўчага музея.

Пасля разгрому (чэрвень 1944 г.) акружаных у раёне Віцебска нямецка-фашысцкіх войск наступленне на Лепель пачалі 1-ы стралковы корпус (камандуючы генерал-лейтэнант А. П. Белабарадаў) і армейская рухомая група 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту. На подступах да горада разгарэліся жорсткія баі. Працаўнік сканцэнтраваў тут вялікую колькасць артылерыі і танкаў, неаднаразова контратакаваў. Наступленне нашай пяхоты падтрымлівалі лётчыкі 3-й паветранай арміі (камандуючы генерал-лейтэнант М. П. Папівін), якія нанеслі ворагу значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы. 28.6.1944 г. воіны 3-га гвардзейскага механізаванага корпуса 3-га Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі І. Д. Чарняхоўскі), 306-й і 357-й стралковых дывізій 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту (камандуючы генерал арміі І. Х. Баграмян) ударамі з флангаў вызвалілі Лепель ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1970 г. ў гонар вызвалення горада ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. М. Казлоўская.*

**1426. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На пл. Свабоды. Устаноўлены ў 1970 г. ў азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна (скульпт. І. Глебаў, Б. Івонцьеў; арх. Ю. Казакоў; бронза, лабрадарыт, бетон; вышыня скульптуры 6,3 м, пастамента 3,2 м). У кампазіцыі помніка выкарыстаны прыём кантраснага супастаўлення строгай вертыкалі бронзавай скульптуры на высокім пастаменце і гарызанталі асіметрычна размешчанага стылабата. Скульптура У. І. Леніна дадзена ў поўны рост. Корпус выпрастаны і злёгку павернуты ўлева, галава прыўзнята. На пастаменце высечана факсіміле подпісу У. І. Леніна. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**1427. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ І ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У парку, на беразе Лепельскага воз. На ўшанаванне памяці воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі пры вызваленні Лепельшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1959 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і партызанка.

**1428. РАДЗІМА ЕРАШОВА** Івана Мікалаевіча (гіст.).



**1425.** *Помнік Вызвалення.*



**1426.** *Помнік У. І. Леніну. Фрагмент.*

Герой Савецкага Саюза І. М. Ерашоў нарадзіўся ў 1911 г. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1933 г. Пасля вучобы ў Лепельскім педтэхнікуме працаваў настаўнікам у Полацку, з 1933 г. ў Чырвонай Арміі. Скончыў у 1936 г. Сталінградскае ваенна-авіяцыйнае вучылішча, у 1943 г. Ваенна-паветраную акадэмію. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з мая 1943 г., маёр, камандзір штурмавога авіяпалка. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны. 5.7—2.8.1943 г. група штурмавікоў пад камандаваннем І. М. Ерашова знішчыла і пашкодзіла 150 варожых аўтамашын, 15 танкаў, 5 батарэй палявой артылерыі, 4 эшалоны, 40 самалётаў на аэрадромах, збіла 10 самалётаў, 4 з іх — асабіста І. М. Ерашоў. Да снежня 1943 г. зрабіў 94 баявыя вылеты. У адным з баёў быў збіты, паранены трапіў у палон, уцёк. Тры месяцы дабіраўся з варожага тылу да лініі фронту. Пасля ампутацыі ступні застаўся ў авіяцыі, лятаў на баявыя заданні. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.2.1944 г. І. М. Ерашоў памёр 8.5.1948 г. Пахаваны ў Навачаркаску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Азерцы, Чэрскі сельсавет**

**1429. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі, на адным з падоўжаных узгоркаў; з поўначы і паўднёвага захаду абмежавана 2 азёрамі. Пляцоўка здзірванелая, роўная, авальная ў плане, памер 70×55 м. Схілы гарадзішча ў іх верхняй частцы вельмі стромкія, у ніжняй — пакатыя. Даследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у агаленнях заходняга і паўночнага схілаў 1,3—1,4 м. У цэнтры пляцоўкі быў закладзены шурф памерам 0,5×0,25 м. Культурны пласт 1,1 м, мае два гарызонты. У верхнім гарызонце знойдзены абломкі ганчарнага посуду, 2 невялікія абломкі ляпных з жарствой у гліняным цесце гаршкоў; у ніжнім — рэшткі ляпных гладкасцен-

ных пасудзін. Акрамя керамікі трапляецца шлак, абпаленыя камяні, косці жывёл. Значная магутнасць культурнага пласта і разначасовасць керамікі сведчаць аб тым, што гарадзішча функцыяніравала вельмі доўга: у час днепра-дзвінскай культуры (не пазней 3—4 ст.), культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 ст.) і ў час Кіеўскай Русі (10—13 ст.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Ассё, Пышнянскі сельсавет**

**1430. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, у лесе, у 12-м квартале Заазерскага лясніцтва. Зберагліся 2 насыпы. Адзін вышынёй 1,5 м, дыяметрам 7 м, другі вышынёй 2 м, дыяметрам 8 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Баброва, цэнтр сельсавета**

**1431. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Справа ад шашы на Віцебск. Пахаваны 145 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Бароўка 1-я, Каменскі сельсавет**

**1432. ПОМНІК ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У ноч на 25.11.1943 г. партызаны Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна разграмілі ў вёсцы гарнізон нямецка-фашысцкіх акупантаў (450 чалавек). У 1965 г. ў памяць аб баявой аперацыі партызан пастаўлена стэла.

**в. Бароўка 2-я, Каменскі сельсавет**

**1433. ПОМНІК ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст.). На шашы Лепель — Віцебск, каля павароту на в. Падсобнае. 12.9.1942 г. партызаны кавалерыйскага атрада А. К. Флегантава і Чашніцкай («Дубава») брыгады разграмілі на дарозе Камень — Лепель (каля в. Бароўка 2-я) калону аўтамашын штаба гітлераўскай дывізіі. Было знішчана 12 аўтамашын працівніка, 84 гітлераўцы, у т. л. генерал. У 1967 г. на месцы бою пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967. *М. М. Казлоўская.*

**в. Барсукі, Домжарыцкі сельсавет**

**1434. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.) У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 71 жыхара вёсак калгаса імя



1431. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

В. П. Чкалава, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Бор, Каменскі сельсавет**

**1435. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1435а.** Курганны могільнік-1. Мясцовая назва Валатоўкі. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі. Зберагліся 2 насыпы вышынёй да 2 м, дыяметрам 8—10 м. Выявіў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**1435б.** Курганны могільнік-2. За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 8 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 4—7 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся. *Ю. А. Заяц.*

**в. Бораўна, Чэрскі сельсавет**

**1436. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на ўзгорку карэннага берага безыменнай рэчкі. Схілы гарадзішча стромкія, вышынёй з боку рэчкі (паўночны і часткова паўночна-ўсходні) каля 10 м, астатнія 3—6 м. З напольнага (паўднёвага) боку, дзе схіл ад асновы вала не вышэй за 3 м, гарадзішча ўмацавана валам шырынёй да 8—9 м каля асновы і вышынёй да 2,2 м. Пляцоўка разам з валам амаль круглая, памерам 37×35 м. Захаванасць гарадзішча добрая. Пляцоўка і схілы здзірванелыя. Выявіў у 1972 г. і даследаваў у 1972 г. і 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Таўшчыня культурнага пласта ў цэнтры — 0,2—0,3 м, каля вала 1 м. У раскопе плошчай каля 100 м² знойдзены абломкі ляпной керамікі, жалезны серп, шлакі, косці жывёл, рэшткі ляпных гаршкоў 6—8 ст., выяўлены рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі і гаспадарчых ям. Адносіцца да днепра-дзвінскай (3—5 ст. н. э.) і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 ст. н. э.) культур.



1433. *Помнік партызанскай славы.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**Бярэзінскі запаведнік**

**1437. ПОМНІК ГІДРАТЭХНІЧНАГА БУДАЎНІЦТВА** (Бярэзінская водная сістэма; гіст.). Злучае басейны рэк Бярэзіна і Заходняя Дзвіна. Працягласць сістэмы 169 км, у межах раёна — 95 км.

Праекты водна-транспартнага шляху з Чорнага ў Балтыйскае мора праз рэкі Дняпро і Заходняя Дзвіна прапаноўваліся з часоў Пятра І. Будаўніцтва Бярэзінскай воднай сістэмы пачалося ў 1797 г., закончана ў 1805 г. Аднак было выяўлена, што ў тэхнічным праекце былі зроблены памылкі, у выніку штучны водны шлях з Чорнага ў Балтыйскае мора праз Бярэзінскую сістэму не меў транспартнага значэння, таму што глыбіня ў Бярэзінскім канале, які злучае воз. Плаўна і воз. Бярэшча, вельмі зніжалася ў межань. Сістэма праходзіць па паўночна-ўсходняй ускраіне Верхне-Бярэзінскай нізіны і ўключае наступныя водныя ўчасткі (глядзі схему): Сергуцкі канал (даўжыня 10 км, шырыня 6—8 м) — р. Сергуч (Бузянка) — воз. Манец — воз. Плаўна — Бярэзінскі канал (даўжыня 8 км, шырыня 8—10 м, у месцы выхаду з воз. Плаўна — 15 м) — воз. Бярэшча — р. Бярэшча — Верабскі канал (даўжыня 2,5 км, шырыня каля 10 м) — р. Эса — воз. Лепельскае — р. Ула. У 1805—07 гг. сістэма выкарыстоўвалася для лесасплаву і суднаходства. У 1825—26 гг. перабудавана і да 1930 г. выкарыстоўвалася для сплаву лесу толькі ў высокую ваду. Цяпер водная сістэма страціла гаспадарчае значэнне, не дзейнічае.

З'яўляецца помнікам гідратэхнічнага будаўніцтва 18—19 стагоддзяў.

*Ф. М. Ашэраў, У. Дз. Будзько.*




1437. *Бярэзінская водная сістэма. Схема.*

**в. Валатоўкі, Валосавіцкі сельсавет**

**1438. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Эса, ва ўрочышчы Валатоўкі. 9 насыпаў дыяметрам 5—11,5, вышынёй 0,9—1,6 м. Насыпы пясчаныя, здзірванелыя. Вядомы з 1924 г. як могільнік каля в. Забаенне. Абследавала ў 1971 г. В. Б. Караткевіч. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Верабкі, Стайскі сельсавет**

**1439. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі на падоўжаным узгорку, на правым беразе р. Бярэшча. Пляцоўка гарадзішча роўная, з невялікім нахілам на ўсход, здзірванелая, зарасла хвойнікам і хмызняком. Даўжыня з захаду на ўсход 68 м, максімальная шырыня 40 м, мінімальная 26 м. Вышыня схілаў да 12 м, паўночны і паўднёвы стромкія, усходні адносна пакаты. З заходняга боку пляцоўка гарадзішча ўмацавана валам і шырокім ровам. Шырыня вала ў аснове да 9 м, вышыня 1,1 м. З боку пляцоўкі схілы вала пакатыя, з боку рова — стромкія. Глыбіня рова не менш за 10 м, шырыня да 20 м. Выявіў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Культурны пласт у цэнтры 0,2—0,3 м, бліжэй да краёў каля 1 м, добра прасочваецца па ўсёй пляцоўцы. Трапляюцца абломкі штрыхаваных пасудзін, кавалкі жалезнага шлаку і абпаленыя камяні. Характар керамікі (дамешак жарствы, вострарабрыстая форма пасудзін, параўнальна добрае абпальванне) дае магчымасць датаваць гарадзішча 1—3 стагоддзямі н. э. і аднесці яго да культуры штрыхаванай керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3.
*А. Р. Мітрафанаў.*



1438. *Курганны могільнік.*

**в. Ворань, Заазерскі сельсавет**

**1440. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1440а.** Гарадзішча. За 3 км на захад ад вёскі, у лесе, на беразе воз. Азяруты, ва ўрочышчы Ручаўшчына, на падоўжаным узгорку. Пляцоўка ў плане авальная, памерам 50×31 м, здзірванелая, зарасла мяшаным лесам і хмызняком. Схілы стромкія, вышыня паўночна-заходніх 10—12 м, астатніх — 6—8 м. З паўночнага і паўночна-ўсходняга бакоў гарадзішча невялікая тэраса шырынёй каля 8 м, якая ляжыць ніжэй пляцоўкі на 5—6 м. Не выключана, што гэта рэшткі вала і апоўзлага рова. Выявіў у 1867 г. А. М. Семянтоўскі, абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Культурны пласт не перавышае 0,5 м. У паўночна-ўсходняй частцы пляцоўкі закладзены шурф (0.25×0,25 м). Знойдзены дробныя абломкі ляпнога посуду. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 4—1 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1440б.** Селішча. За 1 км на ўсход ад вёскі, на беразе безыменнай рэчкі, за 0,15 км на поўнач ад месца ўпадзення яе ў воз. Ворань. Плошча каля 0,5 га. Выявіў у 1867 г. А. М. Семянтоўскі, абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Знойдзены абломкі ляпных гладкасценных і ганчарных пасудзін. Селішча ўзнікла на месцы стаянкі эпохі бронзы. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 6—8 стагоддзямі і 9—11 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1440в.** Курганны могільнік. За 0,5 км на ўсход ад селішча, ва ўрочышчы Аўсянікі (былы хутар). Больш за 100 насыпаў, у плане круглыя. Захаванасць курганоў добрая. Насыпы здзірванелыя. Каля 30 курганоў вялікія, дыяметрам 20—25 м, вышынёй 4—5 м. Астатнія дыяметрам 5—13 м, вышынёй 0,5—2,5 м. Выявіў і зрабіў раскопкі ў 1867 г. М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1872 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, знойдзены два сярэбраныя скроневыя кольцы з напускнымі паставымі пацеркамі, жалезны нож, апрацаваныя крэмні-крэсівы. Могільнік датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання М. Ф. Кусцінскага захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Сементовский А. М. Белорусские древности. В. 1.— СПб., 1890.
*А. Р. Мітрафанаў.*




1440. *План размяшчэння археалагічных помнікаў: 1 — гарадзішча; 2 — селішча; 3 — курганны могільнік.*

**1441. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1441а.** Паселішча-1. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Вароніца, за 0,3—0,5 км на поўнач ад упадзення яе ў воз. Ворань. Прыблізныя памеры паселішча 50×50 м. Выявіў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, даследаваў у 1979 г. Э. М. Зайкоўскі. Ускрыта 100 м². Культурны пласт каля 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, ляпная порыстая кераміка, у асноўным неарнаментаваная (позні неаліт), ляпная кераміка з пяском у цесце, арнаментаваная



1440в. *Курганны могільнік.*

прагладжанымі лініямі (эпоха позняй бронзы), кераміка культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і сярэдневяковая.

**1441б.** Паселішча-2. За 1,7 км на ўсход ад вёскі, за 0,5 км ад воз. Ворань. На першай надпоплаўнай тэрасе левага берага р. Вароніца. Выявіў і даследаваў у 1979 г. Э. М. Зайкоўскі. Ускрыта 24 м². Культурны пласт да 0,5 м. Знаходкі трапляюцца на плошчы каля 0,5 га. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная порыстая кераміка, у асноўным неарнаментаваная (блізкая па характару да керамікі нарвенскай культуры). Адносіцца да позняга неаліту.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Белорусском Поозерье.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины. — У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Вялікі Поўсвіж, Лепельскі сельсавет**

**1442. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 164 жыхароў вёсак саўгаса «Лепельскі», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**в. Гарадзінец, Чэрскі сельсавет**

**1443. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1443а.** Гарадзішча. За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Талпянская. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам каля 25 м. Выявіў у 1966 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1443б.** Селішча. За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі. Плошча да 0,5 га. Выявіў у 1966 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1443в.** Курганны могільнік. На тэрыторыі селішча. 2 курганы дыяметрам да 8 м, вышынёй 1,5 м і 1,7 м. Выявіў у 1966 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1444. РАДЗІМА ТУФТАВА** Івана Мікітавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. М. Туфтаў нарадзіўся 11.12.1912 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., радавы, кулямётчык. Вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны. У сакавіку 1944 г. ў час пераправы савецкіх войск цераз Паўднёвы Буг агнём з кулямёта знішчыў 2 кулямётныя кропкі ворага, на самаробным плыце пераправіў кулямёт і ў баях за плацдарм знішчыў больш за 20 гітлераўцаў. 22.3.1944 г. ў раёне Магілёва-Падольскага з кулямётам фарсіраваў Днестр і агнём падтрымліваў наступленне савецкіх войск. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.9.1944 г. І. М. Туфтаў памёр 21.7.1974 г. Пахаваны ў пас. Акцябрскі Краснаармейскага р-на Краснадарскага краю.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Глыбочыца, Лепельскі сельсавет**

**1445. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Ва ўрочышчы Княгінкі, на беразе воз. Глыбочыца. Захавалася 6 курганоў дыяметрам не менш за 10 м, вышынёй 1,5—2 м. У 1859 г. некалькі курганоў раскапаў М. Ф. Кусцінскі. Знойдзены жалезныя сякеры, коп'і, драцяны бранзалет з нанізанымі на яго паставымі пацеркамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Адзін курган у 1951 г. раскапаў А. Р. Мітрафанаў. Пад курганным насыпам знойдзены жаночае пахаванне, шкляныя пацеркі з пазалотай (12 ст.), бронзавая пацерка ў тэхніцы скані, на скронях — драцяное кольца з пятлёй на адным канцы і кручком на другім (12—13 стагоддзі).

Матэрыялы раскопак 1951 г. захоўваюцца ў Полацкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Кусцинский М. Ф. Лепельские древности.— Виленский вестник, 1866, № 181. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Губіна, Каменскі сельсавет**

**1446. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 73 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.

**1447. ПОМНІК У ГОНАР СТВАРЭННЯ КАЛГАСА** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі.

У 1921 г. беднякі з вёсак Атокі, Губіна, Замошша стварылі арцель «Шаг уперад» па сумеснай апрацоўцы зямлі. Першым яе старшынёй быў С. М. Ханяк. У час калектывізацыі ў арцель уступілі жыхары бліжэйшых вёсак. Створаны калгас назвалі «Чырвоны Сцяг». У 1934—35 гг. калгас удзельнічаў ва Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы.

У 1971 г. ў гонар 50-й гадавіны стварэння гаспадаркі пастаўлена стэла.

**в. Двор Бабча, Каменскі сельсавет**

**1448. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Палітаддзелец». На ўшанаванне памяці 71 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Домжарыцы, цэнтр сельсавета**

**1449. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1449а.** Курганны могільнік-1. За 1 км ад вёскі, справа ад шашы Мінск — Віцебск, перад паваротам на в. Крайцы, на невысокім узгорку. 45 насыпаў дыяметрам 5—10 м, вышынёй 0,5—1,5 м. Захаванасць добрая, курганы здзірванелыя, зараслі хваёвым лесам. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1969 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1449б.** Курганны могільнік-2. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, абапал прасёлачнай дарогі. 200 насыпаў вышынёй 0,3—1,5 м, дыяметрам 3—8 м. 3 курганы абследаваў і раскапаў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, 10 — у 1969 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. курганы абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У 3 курганах знойдзены ляпныя і ганчарныя гаршкі, скроневыя кольцы, бронзавыя бранзалеты, шкляныя пацеркі. Адносіцца да 11 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *А. Р. Мітрафанаў, Г. В. Штыхаў.*

**в. Дрымаўшчына, Чэрскі сельсавет**

**1450. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1450а.** Курганны могільнік-1. За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Уцечча. Да 40 насыпаў дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,5—2 м. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**1450б.** Курганны могільнік-2. За 0,1—0,15 км на ўсход ад курганнага могільніка-1, ва ўрочышчы Пушча, абапал дарогі, якая злучае в. Дрымаўшчына з шашэйнай дарогай Лепель — Орша. Каля 300 насыпаў дыяметрам 5—15 м, вышынёй 0,6—2,5 м. Захаванасць насыпаў добрая. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Заазер'е, цэнтр сельсавета**

**1451. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 59 жыхароў вёсак калгаса імя К. Маркса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Забаенне, Лепельскі сельсавет**

**1452. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на гары. Пляцоўка авальная, памерам 35×20 м. Умацавана валам вышынёй 1,8 м і ровам глыбінёй 1,3 м. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у

1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Знойдзены шлакі і абломкі штрыхаваных гліняных пасудзін. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 3—4 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Забароўе, Заазерскі сельсавет**

**1453. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Г. М. Дзімітрова. На ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Заглінніні,**
**Валосавіцкі сельсавет**

**1454. ГАРАДЗІШЧЫ, КУРГАН** (археал.).

**1454а.** Гарадзішча-1. Вядома пад назвай Замак. За 0,5 км на захад ад вёскі. Пляцоўка памерам 70×85 м. Умацавана ровам глыбінёй да 1,5—2 м. Абследавалі ў 1965 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,3 м добра акрэслены. Рэчаў не знойдзена.

**1454б.** Гарадзішча-2. За 1 км ад гарадзішча-1, за безыменным ручаём, які ўпадае ў р. Эса. Пляцоўка памерам 40×35 м. Абследавалі ў 1965 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. У культурным пласце знойдзена ляпная кераміка (не пазней 3—4 стагоддзяў н. э.), якая адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1454в.** Курган. За 1,5 км ад в. Заглінніні, справа ад дарогі ў в. Дрымаўшчына. Дыяметр 7 м, вышыня 1,5 м. Выявіў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Заньні, Лепельскі сельсавет**

**1455. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Валатоўкі. За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчах Барок і Чорная Гразь. Больш за 100 насыпаў дыяметрам 5—20 м, вышынёй 0,7—4,5, некаторыя маюць каля асновы раўкі. Асобныя курганы пашкоджаны. У пачатку 20 ст. 9 насыпаў выявіў і раскапаў М. Ф. Кусцінскі, у 1981 г. могільнік абследаваў Ю. А. Заяц.

*Літ.:* Кусцинский М. Ф. Из заметок о курганах Лепельского уезда.— Полоцкие епархиальные ведомости. Витебск, 1903, № 7. *Ю. А. Заяц.*

**в. Заслаўкі, Сушанскі сельсавет**

**1456. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 127 жыхароў з саўгаса «Сушанскі», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Зацыклассе, Стайскі сельсавет**

**1457. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 55 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Звязда, Пышнянскі сельсавет**

**1458. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).

**1458а.** Гарадзішча. Вядома пад назвай Аўгустова. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Піўніца. Размешчана на нізкім пакатым мысе, які ўразаецца ў моцна забалочаную пойму азёр Тэкліц і Луконец. Умацаванняў няма. Пляцоўка амаль круглая, памерам 60×70 м, зрытая акопамі. Абследаваў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, невялікія раскопкі ў 1953 г. праводзіў А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,3 м на пляцоўцы і на схілах чорнага колеру. Знойдзены абломкі штрыхаванай керамікі (па форме аналагічнай днепра-дзвінскай культуры), жалезная сякера, дроцік з шыпамі (па форме аналагічны дроцікам познескіфскага часу; 4—3 стагоддзі да н. э.), серп, 2 рыбалоўныя кручкі, жалезны шлак, 4 гліняныя прасліцы, касцяная праколка, косці свойскіх і дзікіх жывёл. Абследаваў у 1981 г. Ю. А. Заяц. Датуецца 4—1 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1458б.** Курганны могільнік-1. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, у лесе, на беразе воз. Тэкліц. Паўднёва-ўсходняя частка могільніка занята гаспадарчымі пабудовамі. У гэтым месцы часткова або поўнасцю разбураны каля 10 насыпаў. Астатняя частка могільніка займае плошчу каля 0,5—0,6 га. Не менш як 100 курганоў дыяметрам 5—13 м, вышынёй 0,5—3 м; некаторыя курганы падоўжаныя. Абследаваў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1982 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.



1458а. *Гарадзішча. План.*



1458б. *Курганны могільнік-1.*

**1458в.** Курганны могільнік-2. За 0,7 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі, што вядзе да ўрочышча Піўніца і гарадзішча Аўгустова. 4 падоўжаныя насыпы, памерам ад 10×6 да 12×6,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**1458г.** Курган. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі, што вядзе да ўрочышча Піўніца. Насып падоўжанай формы, памерам 10,5×6,5 м, вышынёй 1,4 м. Захаванасць добрая. Курган зарос дрэвамі і хмызняком. Выявіў і абследаваў у 1981 г. Ю. А. Заяц.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Митрофанов А. Г. Августовское городище.— У кн.: Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969. *Ю. А. Заяц, А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Камень, цэнтр сельсавета**

**1459. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 83 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг., і 22 мірныя жыхары, расстраляныя акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Я. К. Кішчанка. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1460. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, каля развілкі дарог, на высокім (да 15 м ад асновы) крутым узгорку на беразе воз. Каменскае. Абследавалі ў 1956—57 гг. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Культурны пласт 0,8—1 м. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Гарадзішча было заселена двойчы: не пазней 6—8 стагоддзяў і ў 12—13 стагоддзях. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1461. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Баркі, злева ад дарогі на в. Камень. Пахаваны 177 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 17.9.1941 г.



1460. *Гарадзішча.*

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1462. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Калгасная праўда». На ўшанаванне памяці 120 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Караевічы, Баброўскі сельсавет**

**1463. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ЛЕПЕЛЬСКІ ПАДПОЛЬНЫ РАЙКОМ КП(б)Б** (гіст.). У доме М. Ц. Прудніка з верасня 1941 г. да сакавіка 1942 г. размяшчаўся Лепельскі падпольны райком КП(б)Б (першы сакратар У. Е. Лабанок). Тут з 14.3.1943 да 1944 г. выдавалася падпольная газета «Калгасная праўда». У 1975 г. ў гонар дзейнасці падпольнага райкома партыі на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Кастрыца, Валосавіцкі сельсавет**

**1464. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Царкавішча. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзгорку вышынёй да 20 м, які мае стромкія схілы. Пляцоўка ў плане авальная, памерам 44×24 м. У 1965 г. раскопкі праводзілі Г. В. Штыхаў і К. П. Шут, абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,4 м, па краях 1 м. Мае 3 гарызонты. У ніжнім выяўлены сляды жытлаў слупавой канструкцыі, агнішча з камянёў, рэшткі майстэрні, у якой здабывалі і апрацоўвалі жалеза. Унутры майстэрні (яе ніжняя частка на 0,7—0,8 м паглыблена ў зямлю) былі каменнае кавадла, шлак і акаліна. Знойдзены жалезныя нажы, сярпы, касцяныя праколкі, амулет з мядзведжага ікла, гліняныя прасліцы, тыглі для плаўкі бронзы, каменныя зернацёркі, тачыльныя камяні і гліняныя пасудзіны (слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікавых форм) днепра-дзвінскай культуры. У сярэднім гарызонце знойдзены жалезныя сякеры, сярпы, рыбалоўныя кручкі, наканечнік кап'я, бронзавыя падвескі, іголка, шмат абломкаў гліняных пасудзін, характэрных для культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. У верхнім гарызонце знойдзены спружынныя нажніцы, зубіла, нажы, тачыльныя брускі, прасліца, каменныя таўкачы, ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. В. 2.— Мн., 1971; Шут К. П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**1465. СЕЛІШЧЫ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1465а.** Селішча-1. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пляцоўка амаль круглая, памерам 90×85,5 м. Выявіў у 1965 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**1465б.** Селішча-2. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, побач з селішчам-1. Плошча каля 2 га. Выявіў у 1965 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**1465в.** Курганны могільнік. На тэрыторыі селішча-2. 12 курганоў дыяметрам 10—15 м, вышынёй 0,8—2 м. Выявіў у 1965 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. У 1965 г. адзін курган раскапаў Г. В. Штыхаў. Знойдзены шкляныя пацеркі, бронзавыя ўпрыгожанні. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Кветча, Домжарыцкі сельсавет**

**1466. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 60 мірных жыхароў вёсак Кветча і Пастрэжжа, якіх у чэрвені 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кісцялёва (не існуе), Баброўскі сельсавет**

**1467. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Кісцялёва знаходзілася за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Саснягі. 17.6.1942 г. ў вёску ўварваліся нямецка-фашысцкія захопнікі, сагналі ўсіх жыхароў да загадзя вырытых ям. 46 чалавек — старых, жанчын і дзяцей гітлераўцы сагналі ў ямы і расстралялі; спалілі 12 двароў. Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Крайцы, Домжарыцкі сельсавет**

**1468. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. Пахаваны 37 воінаў 1-га стралковага корпуса 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту і партызан, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на подступах да г. Лепеля. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Віктар Сідаравіч Кладзіеў.

В. С. Кладзіеў нарадзіўся 9.5.1906 г. ў в. Астапаўка Новааскольскага р-на Белгародскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся пры навядзенні пераправы цераз р. Бярэзіна: 30.6.1944 г. пад агнём праціўніка сапёр гвардыі радавы В. С. Кладзіеў паранены працягваў наводзіць пераправу, асабістым прыкладам натхняў байцоў на выкананне баявога задання. Загінуў у гэты дзень пры налёце варожай авіяцыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Гл. таксама артыкул № 1487 «Месца подзвігу Кладзіева Віктара Сідаравіча».

У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. М. Казлоўская.*

**1469. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 9 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 73 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г.



1468. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1470. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 7.6.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 21 мірнага жыхара вёскі. На ўшанаванне іх памяці ў 1962 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1471. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ СЕННЕНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). За 12 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Тут у Вялікую Айчынную вайну ў 1943—44 гг. базіравалася Сенненская партызанская брыгада. Створана ў кастрычніку 1942 г. Дзейнічала ў Сенненскім, Чашніцкім, Лепельскім р-нах. Камандзір В. С. Лявонаў, камісары П. В. Сырцоў (кастрычнік 1942 г.— чэрвень 1943 г.), М. Ц. Любімцаў (чэрвень 1943 г.— чэрвень 1944 г.).

Партызаны праводзілі дыверсіі на шашэйных і грунтавых дарогах. На чыгунках Орша — Віцебск і Орша — Лепель падарвалі і пашкодзілі больш за 1 тыс. рэек. У снежні 1942 г. разграмілі варожы гарнізон у в. Чарэя, у верасні — кастрычніку 1943 г. знішчылі гарнізоны ў вёсках Граеўшчына, Закур'е, Лукомль, Прыдвор'е, Слідцы Чашніцкага р-на. У снежні 1943 г., лютым — сакавіку 1944 г. каля в. Новая Беліца Сенненскага р-на вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія імкнуліся ліквідаваць партызанскі аэрадром. У студзені — лютым 1944 г. партызаны разгрмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Крыльцова, Ладзікава, Лядзіны і Ходцы Сенненскага р-на. У час карнай аперацыі нямецка-фашысцкіх войск супраць партызан Полацка-Лепельскай зоны ў маі 1944 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Залессе і Матырына Лепельскага р-на. 26.6. 1944 г. брыгада злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. На дзень злучэння брыгада яднала 1939 партызан, 13 атрадаў: В. А. Захарчанкі («Ташкент»), імя А. В. Суворава, імя К. А. Хаіркізава, імя В. І. Чапаева, А. М. Захарава, 6-ы, «За Радзіму», імя Аляксандра Неўскага, «Смерць фашызму», П. Ф. Гарбачова, імя Багдана Хмяльніцкага, імя М. І. Кутузава і разведвальны.

У 1968 г. на месцы базіравання брыгады ўстаноўлены мемарыяльны знак. *М. М. Казлоўская.*

**в. Красналучка, Валосавіцкі сельсавет**

**1472. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач і паўночны захад ад вёскі, у лесе. Больш за 300 курганоў. Больш за 30 насыпаў дыяметрам 25—30 м, вышынёй 3,5—5,5 м, дыяметр астатніх 5—10 м, вышыня 0,5—3 м. Захаванасць добрая. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.




1472. *Курганны могільнік. План.*

**в. Куляшы, Стайскі сельсавет**

**1473. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1473а.** Гарадзішча. Каля вёскі, ва ўрочышчы Дубок, на пакатым узгорку левага берага р. Эса. Пляцоўка авальная, памерам 40×25 м. Культурны пласт на пляцоўцы і на схілах цёмна-шэрага і чорнага колеру. Абследаваў у 1931 г. А. М. Ляўданскі. Знойдзены абломкі ляпных пасудзін, шлак і косці жывёл. У 1972 г. абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Датуецца 4—1 стагоддзямі да н. э.

**1473б.** Селішча. На пясчанай дзюне, паміж в. Куляшы і воз. Святое. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Ляхавічы, Валосавіцкі сельсавет**

**1474. БУДЫНАК, ДЗЕ АДБЫЛОСЯ ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ЛЕПЕЛЬСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). 17.8.1941 г. ў школе адбылося першае пасяджэнне Лепельскага падпольнага райкома КП(б)Б (першы сакратар У. Е. Лабанок). У 1975 г. на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Межыца, Чэрскі сельсавет**

**1475. МАГІЛА КРАТА** Цімафея Іванавіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Партызанскі разведчык Ц. І. Крот загінуў 15.5.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Навасёлкі, Пышнянскі сельсавет**

**1476. КУРГАН** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі. Насып вышынёй 3 м, дыяметрам 10 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў.

**в. Несіна, Баброўскі сельсавет**

**1477. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1477а.** Курганны могільнік-1. На паўднёвай ускраіне вёскі, на паўночна-заходнім беразе воз. Несіна. 4 насыпы дыяметрам 9—13 м, вышынёй 2—2,5 м. 2 авальныя памерам 8×10,5 м і 9,5×12,5 м, вышынёй 2—2,5 м. Выявіў у 1873 г. М. Ф. Кусцінскі, абследаваў у 1981 г. Ю. А. Заяц.

**1477б.** Курганны могільнік-2. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўднёва-заходнім беразе воз. Несіна, ва ўрочышчы Яўхімаў хутар. 7 круглых і авальных у плане курганоў. Круглыя дыяметрам 10—13 м, авальныя памерам ад 9×10 м да 14×17 м, вышынёй 0,8—3 м. Выявіў і часткова даследаваў у 1873 г. М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены пярсцёнак і пазалочаная шкляная пацерка. Датуецца 11 ст.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Ю. А. Заяц.*

**в. Новыя Валосавічы, цэнтр сельсавета**

**1478. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 90 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**1479. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1479а.** Курганны могільнік-1. За 0,5 км на захад ад вёскі, на ўсходнім беразе штучнага вадасховішча. 10 насыпаў дыяметрам 8—10 м, вышынёй 1—2 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц.

**1479б.** Курганны могільнік-2. У вёсцы на беразе сажалкі. Каля 30 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 5—15 м. Многія курганы абкладзены камянямі. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Окана, Стайскі сельсавет**

**1480. СТАЯНКА** (археал.). Каля вёскі, на мысе, утвораным берагам воз. Окана і р. Оканіца. Даследавалі ў 1966 г. І. М. Ціханенкаў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,25—0,3 м. Знойдзены фрагменты гладкасценнай порыстай керамікі і крамянёвыя прылады працы, якія адносяцца да паўночнабеларускай культуры.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Паддуб'е, Чэрскі сельсавет**

**1481. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці землякоў вёсак калгаса «Ударнік», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1980 г. ўстаноўлены помнік — скульптурная выява воіна.

**в. Парэчча, Каменскі сельсавет**

**1482. РАДЗІМА КЛЯШТОРНАГА** Тодара Тодаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Т. Т. Кляшторны нарадзіўся 26.2.1903 г. ў сялянскай сям'і. У 1931 г. скончыў БДУ. Працаваў на радыё, у рэспубліканскіх газетах, часопісах. Першыя вершы надрукаваў у 1925 г. ў часопісе «Аршанскі маладняк». Аўтар зборнікаў: «Кляновыя завеі» (1927 г.), «Светацені» (1928 г.), «Ветразі» (1929 г.), «Палі загаманілі» (1930 г.), «Праз шторм на штурм» (1934 г.). У 1960 г. быў надрукаваны зборнік «Залатое вязьмо», у 1970 г. — зборнік выбраных вершаў. Услаўляў героіку Кастрычніцкай рэвалюцыі, сацыялістычнага будаўніцтва. Пісаў для дзяцей (казка «Пра зайца, ваўка і мядзведзя», 1935 г.), перакладаў творы М. Асеева, А. Безыменскага, М. Галоднага, А. Лахуці, Ф. Панфёрава і інш. Т. Т. Кляшторны памёр 26.11. 1938 г.

*Літ.:* Гілевіч Н. С. Акрыленая рэвалюцыяй.— Мн., 1962; Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць.— Мн., 1968.

**в. Плігаўкі, Заазерскі сельсавет**

**1483. МЕСЦА ГІБЕЛІ КАРАЛЕНКІ** Дзмітрыя Цімафеевіча (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Тут 22.4. 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінуў камандзір Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна Дз. Ц. Караленка. На ўшанаванне яго памяці ў 1975 г. на месцы гібелі пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 1421 «Магілы савецкіх воінаў і партызан».

**в. Поплаўкі, Пышнянскі сельсавет**

**1484. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. На ўшанаванне іх памяці ў 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пышна, цэнтр сельсавета**

**1485. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ, САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля клуба. У 2 магілах пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў 1920 г. ў баях супраць войск буржуазнай Польшчы і ў Вялікую Айчынную вайну.



1485. *Помнік на брацкіх магілах чырвонаармейцаў, савецкіх воінаў і партызан.*

Вёска, размешчаная на стратэгічным напрамку Віцебск — Вільнюс, двойчы была арэнай жорсткіх баёў. У маі 1920 г. часці Чырвонай Арміі вялі баі за вызваленне Пышна ад войск буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Загінулі 7 чырвонаармейцаў.

У Вялікую Айчынную вайну партызаны Чашніцкай («Дубава») брыгады ў кастрычніку 1942 г. разграмілі гарнізон гітлераўцаў і аднавілі ў вёсцы Савецкую ўладу. Гітлераўцы імкнуліся зноў захапіць вёску. 19.5.1943 г. яны разгарнулі шырокае наступленне. 20 дзён партызанскія атрады брыгад Чашніцкай («Дубава»), імя С. М. Кароткіна, імя В. І. Чапаева, 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі, «Жалязняк», імя ЦК КП(б)Б адбівалі атакі акупантаў. Баі за Пышна (19 мая — 8 чэрвеня) увайшлі ў гісторыю партызанскай барацьбы пад назвай «Пышнянская абарона». Подзвіг абаронцаў вёскі адлюстраваны ў карціне партызанскага мастака М. Абрыньбы «Бой за Пышна».

У 1957 г. на брацкай магіле 7 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г., пастаўлены абеліск. У 1956 г. на брацкай магіле партызан і савецкіх воінаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены абеліск. У 1959 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў і партызан, якія аддалі жыццё ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына і падлетак у вайсковай форме. У 1966 г. на ўшанаванне памяці 114 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976. *М. М. Казлоўская.*

**1486. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). Устаноўлена ў 1974 г. на будынку Дома культуры ў гонар партызан брыгад Чашніцкай («Дубава»), імя С. М. Кароткіна, імя В. І. Чапаева, 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі, «Жалязняк» і імя ЦК КП(б)Б, якія ў 1942 і 1943 гг. вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за в. Пышна. Гл. таксама артыкул № 1485 «Брацкія магілы чырвонаармейцаў, савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам».

**в. Рожна, Домжарыцкі сельсавет**

**1487. МЕСЦА ПОДЗВІГУ КЛАДЗІЕВА** Віктара Сідаравіча (гіст.). За 5 км на захад ад вёскі, на шашы Лепель — Мінск, каля моста цераз р. Бярэзіну. У час Беларускай аперацыі тут 30.6.1944 г. пры навядзенні пераправы цераз Бярэзіну вызначыўся і загінуў гвардыі радавы сапёрнага батальёна В. С. Кладзіеў. Пахаваны ў в. Крайцы (глядзі таксама артыкул № 1468 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан»). У 1975 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза В. С. Кладзіева ўстаноўлены помнік: камень-валун, на якім мармуровая дошка з надпісам-інфармацыяй.

**в. Саснягі, Баброўскі сельсавет**

**1488. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 46 жыхароў в. Кісцялёва, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі 17.6.1942 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 1467 «Месца спаленай вёскі».

**1489. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА ЛАГЕРА** (гіст.). У Саснягоўскай пушчы, за 3 км на поўдзень ад вёскі.

Тут 23.3—16.8.1942 г. размяшчаўся Лепельскі падпольны райком КП(б)Б і знаходзілася база партызанскага атрада № 68. Падпольны райком КП(б)Б створаны 1.8.1941 г. Першыя сакратары У. Е. Лабанок (да верасня 1943 г.), У. Л. Качан (верасень



1487. *Помнік В. С. Кладзіеву.*



1490. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

1943 г.— 29.6.1944 г.), другі сакратар А. А. Маруйька (15.9—22.12.1942 г., загінуў). Райком адыграў вялікую ролю ў разгортванні на акупіраванай тэрыторыі раёна партызанскага руху, кіраваў ім, вёў палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва, з 14.3.1943 г. да вызвалення тэрыторыі раёна выдаваў газету «Калгасная праўда».

На месцы партызанскага лагера адноўлена адна з зямлянак, у 1966 г. пастаўлена стэла. *М. М. Казлоўская.*

**в. Саўскі Бор, Домжарыцкі сельсавет**

**1490. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 100 савецкіх воінаў і партызан брыгады «Жалязняк», якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1491. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА ШПІТАЛЯ** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Маліўнік. Тут у лютым 1942 г.— ліпені 1944 г. знаходзіўся шпіталь партызанскай брыгады «Жалязняк» (камандзір І. П. Ціткоў). У 1963 г. на месцы размяшчэння шпіталя адноўлена зямлянка, устаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Свядзіца, Слабадскі сельсавет**

**1492. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1492а.** Гарадзішча. Вядома пад назвай Батарэя. За 0,2 км на паўночны ўсход ад безыменнага возера, у лесе, ва ўрочышчы Гогаль. Размешчана на высокім прадаўгаватым узгорку, на карэнным беразе р. Прудок, якая амывае гарадзішча з поўначы. З захаду, паўночнага захаду і паўднёвага захаду гарадзішча ўмацавана валамі шырынёй у аснове 6—8 м, вышынёй 1 м і равамі глыбінёй 1 м.

Гарадзішча грушападобнай формы, мае стромкія схілы вышынёй 7—15 м. Пляцоўка даўжынёй 60 м, шырынёй у заходняй частцы 12 м, ва ўсходняй 6—7 м. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Гарадзішча адносіцца да сярэдневяковых умацаванняў. Аб гэтым сведчыць яго своеасаблівая форма і сістэма земляных умацаванняў: 3 абарончыя лініі — валы і равы.

**1492б.** Курганны могільнік-1. Каля вёскі, на тэрыторыі сучасных могілак і каля іх. Да 20 насыпаў дыяметрам 7—15 м, вышынёй 1,5—3 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**1492в.** Курганны могільнік-2. Уздоўж дарогі з в. Свядзіца ў в. Кордзікі, на паўднёвым беразе воз. Заходняе. 10 курганоў дыяметрам 5—15 м, вышынёй 1—3 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Пашкоджаны 6 насыпаў, якія датуюцца 11—13 стагоддзямі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку. Пакінуты крывічамі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. В. 2.— Мн., 1971. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Слабада, цэнтр сельсавета**

**1493. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля будынка бальніцы. На ўшанаванне памяці 154 жыхароў вёсак калгаса «Пражэктар», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Слабодка, Пышнянскі сельсавет**

**1494. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1494а.** Курганны могільнік-1. У наваколлі вёскі, у лесе, абапал дарогі Слабодка — Доўжыца. Не менш як 70 насыпаў, большасць вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 5—12 м. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.



1491. *Адноўленая зямлянка былога партызанскага шпіталя.*



1494а. *Курганны могільнік-1.*

**1494б.** Курганны могільнік-2. За 0,2 км ад курганнага могільніка-1. Насыпы пачынаюцца каля невялікага поля, сярод лесу, цягнуцца да воз. Доўгае. 30 круглых у плане курганоў вышынёй 0,6—2,5 м, дыяметрам 5—10 м. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**1494в.** Курганны могільнік-3. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,35 км ад развілкі дарог на в. Слабодка і в. Забалацце. 12 насыпаў. Большасць дыяметрам 12—15 м, вышынёй 1,5—2,5 м, некалькі — дыяметрам 7—10 м, вышынёй 0,8—1,2 м. Выявіў у 1867 г. А. М. Семянтоўскі, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сементовский А. М. Памятники старины Витебской губернии.— У кн.: Памятная книжка Витебской губернии на 1867 год. СПб., 1867; Кусцинский М. Ф. Из заметок о курганах Лепельского уезда.— Полоцкие епархиальные ведомости. Витебск, 1903, № 7; Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *Ю. А. Заяц, А. Р. Мітрафанаў.*

**1495. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 127 мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. 19.1.1943 г. гітлераўцы акружылі вёску Слабодка, адкрылі агонь з кулямётаў і падпалілі хаты. Дзяцей і старых кідалі ў агонь, астатніх расстрэльвалі. Асабліва акупанты здзекаваліся з старшыні калгаса Саламахі: яму адсеклі рукі, ногі, галаву. Спалілі вёску. Пасля вайны вёска была адноўлена. У 1967 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Стаі, цэнтр сельсавета**

**1496. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН 1905 г.** (гіст.). У вёсцы ў снежні 1905 г. адбылося выступленне сялян супраць памешчыкаў.



1495. *Магіла ахвяр фашызму.*

Восенню 1905 г. многія вёскі Лепельскага павета былі ахоплены сялянскімі хваляваннямі. Атрымалі пашырэнне такія формы барацьбы, як масавая высечка лесу, адмаўленне ад выплаты падаткаў, выканання павіннасцей і інш. У многіх выпадках выступленні сялян суправаджаліся сутычкамі з паліцыяй і войскам. Адно з такіх выступленняў адбылося ў в. Стаі. Сяляне адкрыта секлі і вывозілі памешчыцкі лес. Узброіўшыся стрэльбамі, каламі, сякерамі, збілі і прагналі з вёскі леснікоў і паліцэйскіх, якія намагаліся спыніць высечкі, рабілі вобыскі ў сялянскіх дварах. Каб задушыць выступленне сялян, у вёску была накіравана рота салдат 3-га пяхотнага Данскога палка. Сяляне звярнуліся да камандзіра роты з патрабаваннем неадкладна вызваліць арыштаванага ім вяскоўца. Калі гэта патрабаванне не было задаволена, накінуліся на салдат. Па загаду камандзіра салдаты адкрылі агонь. Трое сялян былі забіты, 4 паранены. Хваляванне было задушана.

*Літ.:* Шабуня К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг.— Мн., 1962; Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3.— Мн., 1953.
*Г. І. Дулеба.*

**1497. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 167 землякоў вёсак калгаса «Салют», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены помнік: скульптуры партызана і дзяўчынкі, якая ўскладае кветкі.

**в. Стараселле, Заазерскі сельсавет**

**1498. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км ад заходняй ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, на ўзгорку, за 0,2 км ад воз. Неграза. Пляцоўка роўная, авальная, памерам 37×33 м, занятая старымі могілкамі. Магільныя ўзгоркі не прасочваюцца. На пляцоўцы шмат камянёў (многія пастаўлены вертыкальна) і каменных крыжоў. Вышыня ўзгорка, на якім размешчана гарадзішча, з паўночнага і паўднёвага бакоў не менш за 10 м, з усходняга і заходняга — 6—7 м, стромкасць схілаў 40—45°. Землянымі валамі і равамі не ўмацавана. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Культурны пласт не менш 1 м прасочваецца на ўсёй пляцоўцы і на схілах. Знойдзены абломкі штрыхаваных гліняных пасудзін, абпаленыя камяні. Гарадзішча — адно з ранніх пасяленняў культуры штрыхаванай керамікі. Аб гэтым сведчаць адсутнасць штучных умацаванняў і характар керамікі. Датуецца 5—3 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Старое Лядна, Лепельскі сельсавет**

**1499. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 220 жыхароў вёсак калгаса імя В. І. Чапаева, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**1500. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**1501. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. Бюст В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1977 г.

**в. Стары Лепель, Заазерскі сельсавет**

**1502. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА І ЗАМЧЫШЧА** (археал., гіст.).

**1502а.** Гарадзішча. Насупраць вёскі, на востраве плошчай каля 25 га. Займае адзін з пагоркаў. Адкрыў у 1969 г. Г. В. Штыхаў. Абследавалі ў 1969 і 1979 гг. М. А. Ткачоў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Пашкоджана больш познім могільнікам. У абрыве пляцоўкі, падмытай возерам, знойдзена ляпная штрыхаваная кераміка, косці жывёл, абпаленыя камяні, вуголле, шлак. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 3—4 стагоддзямі.



1498. *Гарадзішча.*




1502. *План размяшчэння археалагічных помнікаў: 1 — гарадзішча; 2 — селішча і замчышча.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1502б.** Селішча і замчышча. Знаходзяцца на тым жа востраве і займаюць яго сярэднюю і паўночную часткі. Абследавалі ў 1969 і 1970 гг. М. А. Ткачоў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. У час шурфоўкі і ачысткі абрывістых краёў селішча знойдзена шмат ганчарнай керамікі 14—16 стагоддзяў, медныя бранзалеты — «змеегаловікі», пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, манеты 15—16 стагоддзяў, жалезныя наканечнікі стрэл 14—16 стагоддзяў, шпора і іншыя рэчы. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Атаясамліваюцца з паселішчам Лепель (Лепля). Замак і сярэднявяковы горад былі размешчаны на тэрыторыі селішча. Яны ўзніклі ў Лівонскую вайну 1558—83 гг. У 1562 г. замак меў сталы гарнізон, узброены рушніцамі і артылерыяй. У 1563 г. рускія войскі ўзялі Полацк, а потым занялі і спалілі лепельскі замак, залажылі на замчышчы астрог і пакінулі значны гарнізон. У тым самым годзе войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з гетманам М. Радзівілам Рудым штурмам узялі яго і спалілі. Неўзабаве ўмацаванні былі адноўлены і ў 1563 г. побач было заснавана «места» Лепель. У 1568 г. пачалося ўзвядзенне новага драўлянага замка. Яго будавала мясцовае насельніцтва пад кіраўніцтвам лепельскага старосты і полацкага кашталяна Юрыя Зяновіча. Замак меў прамавугольную форму з вуглавымі фланкіруючымі вежамі. З паўночнага боку замак ад «места» аддзяляў шырокі і глыбокі роў, які часткова напаўняўся вадой з возера. У нанава пабудаваным замку размясціўся гарнізон з 200 коннікаў і 100 салдат «драбаў». У 1563 і 1564 гг. у замак з Віленскага цэйхгауза двойчы былі адпраўлены вялікія партыі

агнястрэльнай зброі і амуніцыі. Дастаткова ў замку было і артылерыі. У 1580 г. «места» налічвала 300 дамоў, якія размяшчаліся на востраве і на заходнім беразе возера. Мяшчане карысталіся шэрагам вольнасцей і каралеўскіх прывілеяў, былі вызвалены на 13 гадоў ад дзяржаўных павіннасцей, за выключэннем адной — будаваць і рамантаваць замак. Важнае значэнне для аднаўлення эканамічнага жыцця Старога Лепеля мела выгаднае размяшчэнне горада на скрыжаванні 2 вялікіх гандлёвых гасцінцаў. Адзін ішоў з Віцебска на Вільню, другі — з Магілёва на Дзісну і Рыгу.

Каля замка і пад яго сховай знаходзіўся гандлёвы порт. Ад яго прычалаў адпраўляліся ў Рыгу, Полацк і Кіеў вялікія стругі з розным таварам. Як сведчаць дакументы 16 ст., водны гандлёвы шлях у Рыгу з Лепельскага порта ішоў «...ад замка Лепель, возерам у р. Улу, адсюль, зрабіўшы паварот, пад замкам Яго Каралеўскай Міласці Ульскім у Дзвіну». Шлях да Дняпра ў Кіеў таксама пачынаўся ад замка, ішоў возерам да р. Эсы, з яе цераз рэчкі Бярэшчу і Оканіцу ў воз. Окана. Адсюль пачынаўся «волак праз Бор паўмілі да воз. Плаўна», а ўжо з яго цераз рэчкі Сергуч і Бярэзіну траплялі ў Дняпро. (Тым, хто цягнуў стругі праз волак, плацілі мех солі за кожнае судна).

У 1586 г. Лепель адкупіў буйны магнат падканцлер Вялікага княства Літоўскага Л. Сапега. Ён заснаваў за 5 км ад горада ў в. Белае новае мястэчка, якое атрымала назву Новы або Белы Лепель, куды быў перанесены гандлёвы цэнтр, пабудаваны ўмацаваны замак, царква і касцёл. У сувязі з гэтым Стары Лепель заняпаў і паступова ператварыўся ў вёску.

Матэрыялы абследавання селішча і замчышча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Довгялло Д. И. Город Лепель Витебской губернии.— У кн.: Виленский календарь на 1905 год. Вильна, 1904; Горбачевский И. Д. Лепельский уезд Витебской губернии.— Витебск, 1895.
*М. А. Ткачоў.*

**1503. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба і будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. На ўшанаванне памяці 90 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**в. Старыя Валосавічы, Валосавіцкі сельсавет**

**1504. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. 6 курганоў дыяметрам 7—15 м, вышынёй 1—3 м. Захаванасць добрая. Насыпы здзірванелыя. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Суша, цэнтр сельсавета**

**1505. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 13 воінаў і 9 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



**1505.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1506. РЭШТКІ ЗЕМЛЯНЫХ УМАЦАВАННЯЎ** (гіст.). У вёсцы, на паўвострае паміж азёрамі Астраўкі і Цеменіца, злучанымі вузкай пратокай. Тут у жніўні 1566 г. рускімі войскамі была пабудавана крэпасць Суша (старажытная назва Кап'ё) — адзін з перадавых апорных пунктаў рускай арміі ў час Лівонскай вайны. У 1567 і 1579 гг. пад сценамі ўмацаванняў адбыліся жорсткія баі паміж рускімі і літоўскімі войскамі. У канцы 1579 г. ўмацаванні гарадка разбураны. Захаваліся рэшткі абарончых валоў 16 ст.

*Літ.:* Витебская старина/Сост. А. П. Сапунов. Т. 4. Ч. 1.— Витебск, 1885; Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933.
*М. А. Ткачоў.*



**1502б.** *Замчышча. Агульны выгляд.*



**1506.** *Крэпасць Суша. З гравюры 1579 г.*



1506. *Рэшткі земляных умацаванняў крэпасці Суша. План.*

**в. Фатынь, Бабро̆ўскі сельсавет**

**1507. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чарнаручча, Лепельскі сельсавет**

**1508. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, злева ад шашы Мінск — Лепель. Пахавана больш за 2 тыс. мірных жыхароў, расстраляных 28.2.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Чарэйшчына, Каменскі сельсавет**

**1509. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля школы. На ўшанаванне памяці 40 жыхароў вёсак калгаса імя Э. Тэльмана, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1508. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



1509. *Помнік землякам.*

**в. Чэрцы, цэнтр сельсавета**

**1510. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 22 воіны і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.




# ЛЁЗНЕНСКІ РАЁН

Кавалі
Калышкі
Емельянова
Кляўцы
Надзёжына
Веляшковічы
Яськаўшчына
Стасева
Палёнаўка
Рубяжніца–1–я
Пагосцішча
Альхавік
Уна
Якубаўшчына
ЛЁЗНА
Чарнаруčча
Крынкі
Зубкі
Завольша
Пушкі
Высачаны
Зубакі
Зачэрня
Дабрамыслі
Асіпова
Восьпенкі
Барсеева
Белы Бор
Бабінавічы
Выхадцы

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Цэнтры рамёстваў

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і месцы воінскай славы

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

## XV. ЛЁЗНА

Гарадскі пасёлак, цэнтр р-на. На р. Мошна, за 40 км на паўднёвы ўсход ад Віцебска. Чыгуначная станцыя на лініі Віцебск — Смаленск. Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Віцебскам, Смаленскам і інш.

Заснавана ў 1-й палавіне 17 ст. Агінскімі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) мястэчка Лёзна ўвайшло ў склад Расійскай імперыі як цэнтр воласці Аршанскага павета Магілёўскай губерні. У 19 — пачатку 20 ст. прыватнаўласніцкае мястэчка. У 1846 г. ў Лёзне 745, у 1867 г.— 1085, паводле перапісу 1897 г.— 2474 жыхары. У пачатку 20 ст. было 11 цагляных, 1103 драўляныя будынкі (у т. л. 297 жылых), 2 вучылішчы, 2 млыны; праводзіліся 4 кірмашы на год. Паводле гарадскога перапісу 1917 г. ў Лёзне 351 гаспадарка і 2055 жыхароў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 17.7. 1924 г. цэнтр раёна, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. Паводле перапісу 1939 г.— 4111 чалавек. З 17.7.1941 г. да 8.10.1943 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У Вялікую Айчынную вайну ў раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (21.7. 1942 г.— кастрычнік 1943 г.) і ЛКСМБ (15.8.1941 г.— 10.10.1943 г.).

Аснову планіроўкі Лёзна складае рэгулярная сетка вуліц, якая сфарміравалася ў 19 ст. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі пасёлак быў спалены. У пасляваенны час адноўлены жыллёвы фонд, пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы. У 1972 г. зацверджаны генплан развіцця Лёзна, распрацаваны Віцебскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект». Новы генеральны план Лёзна распрацаваны ў 1983 г. ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва. На скрыжаванні вуліц Леніна, Камсамольскай і Валадарскага пабудаваны новы адміністрацыйна-гандлёвы цэнтр (на месцы старога гістарычнага цэнтра), разбіты сквер. Адміністрацыйныя і жыллёвыя мураваныя будынкі сучаснага тыпу сканцэнтраваны ў раёнах вуліц Леніна, Камсамольскай, Валадарскага. Сярод іх — будынкі райкома КПБ, райвыканкома, райспажыўсаюза, выканкома пасялковага Савета народных дэпутатаў, вузла сувязі, Дома культуры, універмага, школы, аптэкі, рэстарана, камбіната бытавога абслугоўвання.



XV. *Вуліца Леніна.*



1511. *Помнік на Вайсковых могілках.*

Прамысловая зона размешчана на поўдні пасёлка, за чыгункай. Дзейнічаюць прадпрыемствы: малочны і хлебны заводы, ільназавод, кансервава-агароднінасушыльны камбінат, элеватар, працуюць міжкалгасбуд, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. У Лёзне 2 сярэднія, вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 3 дашкольныя ўстановы, 2 бібліятэкі, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца. Выдаецца газета «Сцяг перамогі». Пастаўлены помнікі: У. І. Леніну, у гонар вызваліцеляў Лёзна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на вайсковых могілках.

Зоны адпачынку ва ўрочышчах Адаменскі Гай і Лясныя Сажалкі.

*Літ.:* Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў БССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилёвской губернии... Кн. 2.— Могилёв, 1884; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Список населённых мест Могилёвской губернии.— Могилёв, 1910.

*Г. І. Барышаў, М. Б. Батвіннік.*

**1511. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На вул. Леніна. Пахаваны савецкія воіны (1361 чалавек), якія загінулі 6—8 кастрычніка 1943 г. ў баях за вызваленне Лёзна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Міхаіл Паўлавіч Судакоў.

М. П. Судакоў нарадзіўся 12.4. 1920 г. ў в. Глазуны Ржэўскага р-на Калінінскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Член КПСС з 1943 г. 25— 29.12.1943 г. старшы лейтэнант М. П. Судакоў на чале танкавага ўзвода ў баях каля чыгункі Віцебск — Смаленск і шашы Віцебск — Орша знішчыў 40 агнявых кропак, 10 процітанкавых гармат, 6 мінамётаў, 2 бронемашыны, 16 аўтамашын, 2 самаходныя гарматы «Фердынанд», больш за 150 гітлераўцаў. Загінуў у баі 30.12.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24. 4.1944 г. У Маскве яго імем названа вуліца, на будынку ліцейна-механічнага завода, дзе працаваў М. П. Судакоў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Карпкевіч.*

**1512. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўночнай ускраіне пасёлка, на беразе р. Мошна. Пахаваны 392 савецкія воіны і партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг. У 1983 г. на могілках пастаўлены помнік (арх. А. Сцяблецкі, бетон) — архітэктурна-прасторавая кампазіцыя з прамавугольнай стэлай у цэнтры, на фасаднай плоскасці якой барэльефныя выявы ордэна Айчыннай вайны, твараў 4 воінаў і партызан. Абапал стэлы — 8 пліт з імёнамі загінуўшых.

**1513. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, на беразе р. Мошна. З першых дзён акупацыі Лёзна і раёна нямецка-фашысцкія захопнікі пачалі масавыя арышты актывістаў, камуністаў і камсамольцаў. Месцам расстрэлу жыхароў Лёзна і раёна фашысты выбралі яр на ўскраіне пасёлка каля р. Мошна. На працягу 1941—43 гг. гітлераўцы расстралялі тут 1200 чалавек.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1512. *Помнік на Вайсковых могілках.*



1514. *Помнік вызваліцелям.*

**1514. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Пры ўездзе ў гарадскі пасёлак, на шашы Віцебск — Смаленск.

Лёзна было акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі 17.7.1941 г. У пачатку кастрычніка 1943 г. войскі Калінінскага фронту разгарнулі баі за вызваленне гарадскога пасёлка. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне ворага, 8 кастрычніка Лёзна было вызвалена ад акупантаў. У баях за пасёлак удзельнічалі воіны 134-й і 158-й стралковых дывізій 84-га стралковага корпуса, 47-й механізаванай брыгады, 28-й гвардзейскай танкавай брыгады і 1820-га самаходнага артылерыйскага палка 39-й арміі. 5 воінскім злучэнням і часцям было прысвоена ганаровае найменне «Лёзненскіх».

У 1983 г. ў гонар вызваліцеляў пастаўлены помнік (арх. А. Сцяблецкі) — танк Т-34 на прамавугольным бетонным пастаменце, які пераходзіць у зігзагападобную плоскасць з мемарыяльнай дошкай, выявамі гвардзейскага знака, ордэнаў Леніна, Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі, а таксама надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*Г. І. Дулеба.*

**1515. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Чкалава, у скверы. На ўшанаванне памяці 23 землякоў — работнікаў Лёзненскай МТС, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1516. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**1517. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Чкалава. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Арцёмава, Дабрамыслянскі сельсавет**

**1518. КУРГАН** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Вышыня 3 м, дыяметр 18 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў.

**в. Асіпова, Крынкаўскі сельсавет**

**1519. РАДЗІМА ГАРНОВА** Цімафея Якаўлевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Ц. Я. Гарноў нарадзіўся ў 1916 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Пасля заканчэння школы працаваў у калгасе. З 1941 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з сакавіка 1942 г. на Паўночна-Заходнім, 3-м Беларускім франтах, камандзір гарматнага разліку. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Віцебскай вобл. і Літвы. 29.7.1944 г. каля в. Патамульшэ на левым беразе Нёмана разлік Ц. Я. Гарнова знішчыў варожы назіральны пункт, 3 танкі, гармату, 2 станковыя і 3 ручныя кулямёты, каля в. Пушэград — 4 кулямёты, узвод аўтаматчыкаў. Загінуў у баі 23.10. 1944 г. Пахаваны ў пас. Бабушкіна Несцераўскага р-на Калінінградскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена пасмяротна 24.3.1945 г. Імем Ц. Я. Гарнова названы рыбалоўны траўлер.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Асташэва, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1520. МАГІЛА АЛДОШЫНА** Генадзя Пятровіча (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант Г. П. Алдошын загінуў 10.10.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1521. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 137 жыхароў, закатаваных і спаленых нямецка-фашысцкімі акупантамі 30.9. 1943 г. У 1983 г. на магіле пастаўлены помнік (арх. А. Сцяблецкі, бетон; вышыня 12 м) — плоская вертыкальная стэла над стылізаванай двухсхільнай страхой хаты. На франтальнай плоскасці стэлы скульптурная выява ахопленых полымем жанчыны з дзіцем. У завяршэнні — 4 вертыкальныя пілоны, паміж якімі ўмацаваны 3 званы. Абапал стэлы — 2 нахіленыя пліты з імёнамі загінуўшых.



1515. *Помнік работнікам Лёзненскай МТС.*

**в. Бабінавічы, цэнтр сельсавета**

**1522. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з сярэдняй школай. Пахаваны 1273 савецкія воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 159-й стралковай і 11-й гвардзейскай стралковай дывізій 5-й і 11-й гвардзейскай армій, што загінулі ў чэрвені 1944 г. У 1966 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1523. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).



1521. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*




**1523.** *План размяшчэння археалагічных помнікаў: 1—6 — курганныя могільнікі; 7 — курган.*

**1523а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Салдацкая Слабада. На ўсходняй ускраіне вёскі, у лесе за р. Вярхіта. Пляцоўка чатырохвугольная, памерам 200×800 м, умацавана земляным валам вышынёй 2 м, шырынёй да 8 м. Верагодна, гэта рэшткі ўмацаванняў 18 ст.

**1523б.** Могільнік-1. За 0,9 км на паўднёвы захад ад вёскі, злева ад дарогі Бабінавічы — Орша. 2 насыпы вышынёй 1,5 і 1,6 м, дыяметрам 11 і 12 м.

**1523в.** Могільнік-2. На паўночна-ўсходнім беразе воз. Бабінавіцкае, у 24-м лесакварталe, на ўзгорку лясной дарогі (справа ад яе). 8 насыпаў вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 7—8 м.

**1523г.** Могільнік-3. На паўночна-ўсходнім беразе воз. Бабінавіцкае, у 24-м лесакварталe, абапал лясной дарогі. 8 насыпаў вышынёй 1,3—1,9 м, дыяметрам 5—9 м.

**1523д.** Могільнік-4. На паўночна-ўсходнім беразе воз. Бабінавіцкае, у 25-м лесакварталe, уздоўж лясной дарогі. 10 насыпаў вышынёй 0,8—1,5 м, дыяметрам 8—10 м.

**1523е.** Могільнік-5. На паўднёвым беразе воз. Бабінавіцкае, побач з птушкафабрыкай. 9 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 5—12 м.

**1523ж.** Могільнік-6. На ўсход ад могільніка-5, ва ўрочышчы Шапкіна, справа ад лясной дарогі. Захаваліся 3 курганы вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 6—10 м і адзін падоўжаны памерам 15×8×2 м.

**1523з.** Курган. На паўночна-ўсходнім беразе воз. Бабінавіцкае, злева ад лясной дарогі, у 24-м лесакварталe. Памеры 6×12 м, вышыня 1,1 м.

Гарадзішча і могільнікі вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1925 г. Я. Сяргеенка, у 1973 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Сяргеенка Я. Бабінавічы.— Наш край, 1926, № 2—3; яго ж. Гарадзішча пры паселішчы Бабінавічы.— Там жа, 1926, № 8—9.
*В. С. Вяргей, М. А. Ткачоў.*

**1524. МАГІЛА КАЛЕСНІКАВА** Міхаіла Пятровіча (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Партызан М. П. Калеснікаў загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1525. СТАЯНКІ** (археал.).

**1525а.** Стаянка-1. На мысе, утвораным паўночным берагам воз. Бабінавіцкае і правым берагам р. Вярхіта, каля вытоку яе з возера. Выявіў у 1926 г. Я. Сяргеенка, даследавалі ў 1967—68 гг. І. М. Ціханенкаў, у 1978 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскапана 164 м² плошчы. Культурны пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі, крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, сякеры, нажы, трапецыі, нажападобныя пласціны, адходы крэменеапрацоўкі. Помнік мае рысы верхняволжскай і верхнедняпроўскай неалітычных культур, адчуваецца ўплыў нарвенскай культуры.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1525б.** Стаянка-2. На правым беразе р. Лучоса, вышэй моста. Выявіў у 1967 г. і даследаваў у 1967—68 гг. І. М. Ціханенкаў. Ускрыта 250 м² плошчы. Знойдзены разнастайныя крамянёвыя прылады працы, скрабкі, нажы, праколкі, разцы і інш., а таксама ляпная кераміка з дамешкамі пяску і жарствы ў цесце, упрыгожаная расчосамі, порыстая кераміка, арнаментаваная адбіткамі грэбеня, наколамі нахіленай палачкі, плыткімі ямкамі, насечкамі і інш. Стаянка мае рысы верхняволжскай і верхнедняпроўскай культур.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сяргеенка Я. Гарадзішча пры паселішчы Бабінавічы.— Наш край, 1926, № 8—9; Тихоненков И. М. Новые данные по каменному веку Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970. *Э. М. Зайкоўскі.*

**1526. ЦЭНТР ГАНЧАРНАГА РАМЯСТВА** (гіст.). Ганчарны промысел у вёсцы існуе са старадаўніх часоў. Вырабы мясцовых ганчароў вядомы пад назвай «бабінавіцкая кераміка». Рамеснікі выраблялі з мясцовай чырвонай гліны розныя бытавыя рэчы (гладышы, гаршкі, міскі). Характэрнымі рысамі іх былі ярка-карычневая паліва і размалёўка ангобам у выглядзе завіткоў і галінак. Традыцыі ганчарнага рамяства захаваліся і ў наш час. Апрача прадметаў бытавога прызначэння вырабляюцца фігуркі жывёл, цацкі, попельніцы і інш. Вырабы дэманстраваліся на мастацкіх выстаўках, атрымалі высокую ацэнку спецыялістаў і шырокай грамадскасці.
*Д. С. Трызна.*

**в. Бандоры, Горбаўскі сельсавет**

**1527. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. У 4 брацкіх магілах пахавана каля 100 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне Лёзненшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 11-й гвардзейскай стралковай дывізіі 11-й гвардзейскай арміі.

**в. Барсеева, Горбаўскі сельсавет**

**1528. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1528а.** Курганны могільнік. За 2,8 км на поўнач ад вёскі, злева ад старой дарогі на в. Дабрамыслі, ва ўрочышчы Сімчанкава. 2 насыпы вышынёй 0,9—1,1 м, дыяметрам 14—15 м. Курганы зараслі бур'яном, задзірванелі. Выявіла і абследавала ў 1981 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**1528б.** Курган. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, злева ад старой дарогі на в. Дабрамыслі. Вышыня 1,2 м, дыяметр 14 м. Насып зарос кустамі, моцна здзірванеў. Выявіла ў 1981 г. В. С. Вяргей.
*В. С. Вяргей.*

**в. Баяры, Стасеўскі сельсавет**

**1529. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 200 м на поўнач ад вёскі, каля дарогі Баяры — Бычкова. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1941 г. У 1968 г. ўстаноўлена надмагільная пліта.

**1530. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 300 м на поўнач ад вёскі, каля дарогі Баяры — Бычкова. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі 12.7.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Буі, Лёзненскі сельсавет**

**1531. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў час вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Буракі, Кавалёўскі сельсавет**

**1532. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 партызан брыгады імя А. Ф. Данукалава, якія загінулі ў 1943 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1533. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, за р. Сухадроўка, ва ўрочышчы Гарадзішча. Пляцоўка памерам 90×40 м.

з заходняга боку мае рэшткі 2 малапрыкметных валоў і рова паміж імі. Абследавала ў 1981 г. В. С. Вяргей. У агаленнях на пляцоўцы культурны пласт 0,45 м. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бычкова, Стасеўскі сельсавет**

**1534. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 185 савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 5-га гвардзейскага стралковага корпуса 39-й арміі. У 1964 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Веляшковічы, цэнтр сельсавета**

**1535. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. У 16 магілах пахаваны 132 воіны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1966 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**1536. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 509 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1966 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1537. МАГІЛА ШЛЯХЦЕНКІ** Івана Герасімавіча (гіст.). Непадалёку ад школы. І. Г. Шляхценка (1886—1919 гг.) — першы старшыня Веляшковіцкага валаснога выканкома.

У сувязі з абвастрэннем класавай барацьбы ў вёсцы ВЦВК 11.6.1918 г. зацвердзіў дэкрэт СНК РСФСР «Аб арганізацыі і забеспячэнні вясковай беднаты». Мясцовымі Саветамі рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў ствараліся камбеды, якія закліканы былі згуртоўваць вакол Савецкай улады бяднейшых сялян.

Кулакі імкнуліся перашкодзіць стварэнню камбедаў. 14.8.1918 г., калі сяляне в. Веляшковічы сабраліся на сход, кулакі ўварваліся ў памяшканне, знішчылі пратакол сходу і сарвалі сход аб стварэнні камбеда. Нягледзячы на гэта, 25 жніўня вясковая бедната прыняла пастанову аб арганізацыі камбеда, абавязаўшы яго ўзяць на ўлік увесь хлеб, жывёлу, інвентар і інш. Старшыня валвыканкома І. Г. Шляхценка актыўна змагаўся супраць кулакоў. У 1919 г. забіты контррэвалюцыйнымі элементамі.

У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Комитеты бедноты Белоруссии: Сб. документов и материалов.— Мн., 1958.
*В. Б. Караткевіч.*

**1538. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ШЛЯХЦЕНКУ** Івану Герасімавічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці былога старшыні валвыканкома І. Г. Шляхценкі, які загінуў у 1919 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. Гл. артыкул № 1537 «Магіла Шляхценкі Івана Герасімавіча».

**1539. ПОМНІК РАСЛЕНКУ** Сяргею Рыгоравічу (гіст.). Каля школы.

Юны герой-патрыёт С. Р. Расленка нарадзіўся ў в. Веляшковічы ў 1930 г. У час акупацыі Лёзненшчыны нямецка-фашысцкімі захопнікамі — актыўны ўдзельнік барацьбы супраць акупантаў. Збіраў зброю для партызан, распаўсюджваў лістоўкі, з 1942 г. сувязны і разведчык партызанскай брыгады «Аляксея» (камандзір А. Ф. Данукалаў). Восенню 1942 г. ў час выканання чарговага задання С. Расленка быў схоплены фашыстамі. Яго прывезлі ў Лёзна і пасля жорсткіх катаванняў павесілі.

На ўшанаванне памяці юнага патрыёта ў 1981 г. пастаўлена стэла. Яго імя прысвоена піянерскаму атраду мясцовай школы.

*Літ.:* Пионеры-герои.— [3 изд.].— Мн., 1972.
*В. М. Удальцоў.*

**в. Вішні, Бабінавіцкі сельсавет**

**1540. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 800 м на паўночны захад ад вёскі. У 2 брацкіх магілах пахаваны 208 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 159-й стралковай дывізіі 5-й арміі і партызаны 5-га атрада імя К. Я. Варашылава Багушэўскай брыгады (другога складу), якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у чэрвені 1944 г. У 1967 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Восьпенкі, Бабінавіцкі сельсавет**

**1541. ПОМНІК НА ВЫШЫНІ ІМЯ ЦІХМЯНАВА** Леаніда Паўлавіча (гіст., маст.). За 400 м ад вёскі, каля дарогі на в. Касцяёва.

24—25.2.1944 г. воіны 3-й батарэі 12-га мінамётнага палка занялі пазіцыю на безыменнай вышыні на беразе р. Чарніца. Моцнае контрнаступленне нямецка-фашысцкіх войск прымусіла стралковыя падраздзяленні крыху адысці. 38 воінаў на чале з камандзірам батарэі старшым лейтэнантам Л. П. Ціхмянавым уступілі ў бой з намнога большымі сіламі ворага. Гвардзейцы адбілі 4 атакі. Камандзір узвода лейтэнант В. Юрасаў з процітанкавай гарматы знішчыў нямецкі танк. Камсорг дывізіёна малодшы лейтэнант медыцынскай службы С. А. Багамолаў узняў байцоў у штыкавую контратаку. У няроўным баі савецкія воіны па-геройску загінулі. 16.5.1944 г. Л. П. Ціхмянаву і 3.6.1944 г. С. А. Багамолаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1973 г. на вышыні, якой прысвоена імя Л. П. Ціхмянава, пастаўлены помнік (скульпт. А. Тарасян, арх. З. Озерава; бетон; вышыня стэлы 2 м, штыка-абеліска 12 м). На паўкруглай стэле размешчаны барэльефныя выявы 6 савецкіх воінаў і партызан з аўтаматамі. Стэла ўвянчана 6 штыкамі-абеліскамі. Выявы твараў і рук вырашаны ў абагульненай форме. Пляцоўка, на якой пастаўлены помнік, мае форму паўкруга, выкладзена бетоннымі плітамі. На ёй устаноўлены мінамёт.

*М. К. Кошалеў, В. В. Церашчатава.*



**1541.** *Помнік на вышыні імя Л. П. Ціхмянава.*

**чыгуначная станцыя Выдрэя, Крынкаўскі сельсавет**

**1542. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Насупраць будынка чыгуначнай станцыі. Пахаваны 300 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1543. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН БРЫГАДЫ ІМЯ А. Ф. ДАНУКАЛАВА** (гіст.). На будынку чыгуначнай станцыі. Устаноўлена ў 1976 г. У ліпені 1942 г. ў Лёзненскім р-не дзейнічалі 4 атрады партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава. 5.7.1942 г. ў раёне чыгуначнай станцыі Выдрэя партызаны ўзарвалі чыгуначнае палатно, спынілі рух паяздоў на 16 гадзін, 7 ліпеня на станцыі партызаны ўзарвалі вадакачку.

**в. Высачаны, Крынкаўскі сельсавет**

**1544. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Высачаны». У 4 брацкіх магілах пахаваны 274 воіны. Сярод пахаваных — воіны 72-га і 65-га стралковых корпусаў 5-й арміі, якія загінулі 22—23.6.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магілах пастаўлены помнік — 3 ссунутыя па вертыкалі бетонныя кубы з барэльефнымі выявамі зоркі на верхнім кубе і галавы воіна на левай грані сярэдняга куба. Абапал — 3 стэлы з імёнамі загінуўшых.



1544. *Помнік на брацкіх магілах савецкіх воінаў.*



1545. *Курганны могільнік.*

**1545. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1545а.** Курганны могільнік. За 0,7 км на ўсход ад моста цераз р. Сухадроўка. 2 насыпы вышынёй 3 і 3,5 м, дыяметрам 16 і 24 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**1545б.** Курган. За 1,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, злева ад дарогі на в. Буракі. Вышыня 1,4 м, дыяметр 12 м. Абследавалі ў 1958 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. В. С. Вяргей.

*В. С. Вяргей.*

**1546. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля помніка вызваліцелям. Пахаваны воін, што загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў зімой 1944 г. У 1979 г. ўстаноўлена надмагільная пліта.

**1547. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст., маст.). На паўночнай ускраіне вёскі.

22—23.6.1944 г. ўдарная група войск 5-й арміі 3-га Беларускага фронту прарвала абарону нямецка-фашысцкіх войск і разам з галоўнымі сіламі пачала наступленне на Багушэўскім напрамку. У ходзе баёў на левым беразе р. Сухадроўка штурмавыя атрады 277-й стралковай дывізіі занялі моцны апорны пункт праціўніка — в. Высачаны. На ўшанаванне памяці воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў-камсамольцаў з Высачан, якія ў 1942—44 гг. вялі барацьбу ў тыле акупантаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск (арх. В. Ягадніцкі; бетон, мармуровая крошка; вышыня 15 м). У ніжнюю частку абеліска ўманціраваны блок з барэльефнымі выявамі твараў воіна і партызана, а таксама рукі са зброяй. Злева — гарызантальны брус на апорах з надпісам-прысвячэннем. Дынамічны зрэз левай грані абеліска, кантраст шурпатай яго фактуры і згладжанай са слядамі апалубкі паверхні бруса ўзмацняе выразнасць помніка. Абеліск пастаўлены на выкладзенай шэрымі бетоннымі плітамі пляцоўцы, да якой вядзе дарожка.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.

*Л. Г. Лапцэвіч, В. М. Удальцоў.*

**1548. ПОМНІК МЕДЫЦЫНСКІМ РАБОТНІКАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Каля будынка бальніцы.

5—9.7.1941 г. 153-я стралковая дывізія Заходняга фронту вяла баі з намнога большымі сіламі ворага на рубяжы Астроўна — Бешанковічы. Палявы шпіталь дывізіі размяшчаўся ў Высачанах. З кожным днём колькасць параненых байцоў павялічвалася. Медыцынскія работнікі мясцовай бальніцы прыйшлі на дапамогу ваенурачам. У жніўні 1941 г. 153-я дывізія была акружана на тэрыторыі Лёзненшчыны, але прарвала заслон ворага і выйшла з акружэння. Некаторы час шпіталь працягваў працу ва ўмовах акупацыі. Пазней байцы, якія ачунялі, і медыцынскія работнікі сталі партызанамі брыгады А. Ф. Данукалава («Аляксея»).

На ўшанаванне памяці 13 медыцынскіх работнікаў шпіталя і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1976 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983.

*В. М. Удальцоў.*



1547. *Помнік вызваліцелям.*




1548. *Помнік медыцынскім работнікам і партызанам.*

**в. Выхадцы, Горбаўскі сельсавет**

**1549. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Батарэя. За 1,3 км на захад ад вёскі, па дарозе на в. Сітна, злева ад яе, на высокай гары. Пляцоўка круглая, дыяметрам 50 м. З паўднёвага (напольнага) боку ўмацавана валам вышынёй да 1,8 м, шырынёй да 10 м. Заходні, паўночны і ўсходні краі пляцоўкі вышынёй ад 10 да 15 м, вельмі крутыя (да 50°) і штучна надрэзаныя. Абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1550. МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 130 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод іх — воіны 11-й гвардзейскай стралковай дывізіі 11-й гвардзейскай арміі. У 1969 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1551. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ-ЗАСЛОНАЎЦАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці партызан з брыгады К. С. Заслонава, якія загінулі 13.8.1942 г. ў в. Горбава пры разгроме буйнога гарнізона нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлена стэла.

**в. Вялікае Сяло, Стасеўскі сельсавет**

**1552. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля шашы Віцебск — Смаленск. Пахаваны 569 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. Сярод іх — воіны 5-га гвардзейскага стралковага корпуса 39-й арміі 3-га Беларускага фронту. Тут жа пахаваны Герой Савецкага Саюза Уладзімір Яфімавіч Смірноў.

У. Я. Смірноў нарадзіўся 18.1.1924 г. ў г. Барнаул. Член КПСС з 1943 г. Каля в. Шумшчына (Лёзненскі р-н) 14.11.1943 г. камандзір аддзялення асобнага лыжнага батальёна 91-й гвардзейскай стралковай дывізіі старшы сяржант У. Я. Смірноў паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава. Закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота і цаной свайго жыцця выратаваў жыццё камандзіра і забяспечыў паспяховае наступленне роты. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена У. Я. Смірнову 4.6.1944 г. пасмяротна. У Барнауле яго імем названа вуліца, імя героя прысвоена сярэдняй школе, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1962 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**1553. МАГІЛА МАСКАЛЬЦА** Дзмітрыя Рыгоравіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля школы. Інжынер-маёр Дз. Р. Маскалец загінуў 11.6.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Калінавічы, Крынкаўскі сельсавет**

**1554. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км ад вёскі, злева ад дарогі, якая вядзе да шашы на Оршу. 3 насыпы вышынёй 1,5—1,8 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1973 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Глоданкі, Кавалёўскі сельсавет**

**1555. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўскрайку лесу. Пахаваны 134 воіны і партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1981 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1552. *Помнік на Вайсковых могілках.*

**в. Горбава 1-е, Горбаўскі сельсавет**

**1556. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 500 м на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 1178 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявым шпіталі ў 1944 г. У 1962 г. на могілках пастаўлены абеліскі.

**в. Грабенікі, Веляшковіцкі сельсавет**

**1557. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 300 м на поўдзень ад вёскі. У 12 магілах пахаваны 67 савецкіх воінаў 84-га стралковага корпуса 39-й арміі, якія загінулі восенню 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магілах пастаўлены абеліскі.



1558. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Дабрамыслі, цэнтр сельсавета**

**1558. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 158 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з забітым таварышам на руках, 2 пліты з імёнамі загінуўшых.

**1559. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 122 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1560. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).




1560а. *Курганны могільнік-1. План.*

**1560а.** Могільнік-1. За 0,15 км на поўнач ад вёскі, злева ад дарогі на Лёзна, у бярэзніку. 22 курганы вышынёй 0,5—3 м, дыяметрам 5—15 м. Выявіў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1973 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**1560б.** Могільнік-2. За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 3 насыпы вышынёй 1,6, 1,8, 0,8 м, дыяметрам 9—14 м. Захаванасць добрая. Выявіла і абследавала ў 1981 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**1560в.** Курган. За 0,15 км на ўсход ад могільніка-2, злева ад лясной дарогі. Вышыня 0,5 м, дыяметр 7 м. Насып здзірванелы, добра захаваўся. Абследавала ў 1981 г. В. С. Вяргей.

*В. С. Вяргей.*

**в. Дуброўка, Лёзненскі сельсавет**

**1561. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 50 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. Сярод іх — воіны 158-й стралковай дывізіі і 28-й гвардзейскай танкавай брыгады 39-й арміі. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**урочышча Жукаўка, Горбаўскі сельсавет**

**1562. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры былой в. Жукаўка. У 35 магілах пахаваны 890 воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 16-га гвардзейскага стралковага корпуса 11-й гвардзейскай арміі. У 1967 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**1563. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Пахаваны 193 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1979 г. на могілках пастаўлена скульптура воіна.

**в. Забалацце, Крынкаўскі сельсавет**

**1564. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны атрада «Марак» брыгады імя А. Ф. Данукалава, якія загінулі 2.10. 1942 г. ў баі супраць фашысцкіх карнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1565. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Завольша, Лёзненскі сельсавет**

**1566. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 300 м на захад ад пасёлка. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1567. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 2 магілах пахаваны 61 воін, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**1568. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2,2 км на захад ад пасёлка, каля шашы Рыга — Арол. У 2 магілах пахаваны 59 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**1569. РАДЗІМА МАЦКЕВІЧА** Ігната Вікенцьевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. В. Мацкевіч нарадзіўся 28.5.1912 г. ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1932 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з красавіка 1943 г. 22.9.1943 г. рота пад камандаваннем І. В. Мацкевіча першай фарсіравала Дняпро ў Камарынскім р-не Палескай вобл., выбіла ворага з траншэй, захапіла плацдарм, адбіла 5 контратак праціўніка, чым забяспечыла пераправу ўсяго батальёна. Камандзір роты І. В. Мацкевіч асабіста падбіў 2 варожыя танкі і знішчыў каля 50 гітлераўцаў. Загінуў у баі 26.9.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.10. 1943 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. П. Кобля.*

**в. Залессе, Кавалёўскі сельсавет**

**1570. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,5 км ад вёскі, на ўскрайку лесу. У 11 магілах пахаваны 112 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1958 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Замшына, Веляшковіцкі сельсавет**

**1571. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля клуба. У 13 магілах пахаваны 267 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1971 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Засігава, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1572. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Воін загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Іванькава, Крынкаўскі сельсавет**

**1573. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, на ўскраіне лесу. У 4 магілах пахаваны больш за 200 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**1574. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магілах пастаўлены 5 абеліскаў.

**в. Кавалі, цэнтр сельсавета**

**1575. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1576. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ЛЁЗНЕНСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ** (гіст.). У в. Кавалі базіраваліся Лёзненскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ.

Падпольны райком КП(б)Б створаны Віцебскім абкомам КП(б)Б 21.7. 1942 г. Сакратары А. Ц. Шчарбакоў (21.7.1942 г.— 23.8.1943 г.), Ц. П. Шакінка (23.8.1943 г.— кастрычнік 1943 г.), Я. А. Букаін (другі сакратар, май 1943 г.— кастрычнік 1943 г.); члены райкома Я. А. Букаін (21.7.1942 г.— май 1943), А. Ф. Данукалаў (21.7. 1942 г.— май 1943 г.), Ф. Н. Шаірка (студзень 1943 г.— май 1943 г., загінуў), М. І. Шарстнёў (27.1.1943 г.— май 1943 г.), П. І. Кірылаў (11.5. 1943 г.— кастрычнік 1943 г.), Ц. П. Шакінка (11.5.1943 г.— 23.8.1943 г.), Дз. Г. Пляшкоў (23.8.1943 г.— кастрычнік 1943 г.). Спачатку размяшчаўся ў партызанскай брыгадзе «Аляксея» (камандзір А. Ф. Данукалаў), потым (з мая 1943 г.) — у Лёзненскай брыгадзе (камандзір П. І. Кірылаў).

Падпольны райком ЛКСМБ створаны ў жніўні 1941 г. Віцебскім абкомам ЛКСМБ. Сакратары Т. А. Дубоўка (15.8.1941 г.— 10.10.1943 г.), Л. І. Касцючэнка (15.7.1942 г.— 10.10. 1943 г.); члены райкома Дз. А. Дубоўка (15.8.1941 г.— 15.7.1942 г.), Г. Ф. Шкляр (15.8.1941 г.— 15.7.1942 г.),

М. М. Кофтава (15.7.1942 г.— 10.10. 1943 г.), І. Н. Скрыннік (1.8.1942 г.— 1.1.1943 г.).

Райкомы кіравалі камуністычным і камсамольскім падполлем, партызанскім рухам, вялі палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва Лёзненшчыны. Дзейнічалі да 10.10. 1943 г.

У 1978 г. ў памяць аб дзейнасці падпольных райкомаў на будынку выканкома сельсавета ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*В. М. Удальцоў.*

**1577. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ А. Ф. ДАНУКАЛАВА** (гіст.). У 1942—43 гг. у вёсках Таўпа і Кавалі базіраваўся штаб партызанскай брыгады «Аляксея» (пазней — імя А. Ф. Данукалава).

Брыгада створана ў красавіку 1942 г. паводле рашэння Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б на базе атрадаў «Радзіма» (прыбыў са Смаленшчыны, камандзір А. Ф. Данукалаў). «Крэпасць» (вылучаны з атрада «Радзіма») і «Граза ворагам» (прыбыў са Смаленскай вобл., пазней 4-ы «Смерць ворагам»). У сярэдзіне ліпеня 1942 г. брыгада налічвала 1085 партызан, атрады дзейнічалі на тэрыторыі Смаленскай, Віцебскай і Вілейскай абласцей. Камандзіры А. Ф. Данукалаў (красавік 1942 г.— 27.4. 1944 г., загінуў), В. А. Блахін (красавік 1944 г.— ліпень 1944 г.), камісары Т. В. Паўлоўскі (красавік — май 1942 г., загінуў), А. Ц. Шчарбакоў (май 1942 г.— май 1943 г.), І. І. Старавойтаў (май 1943 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгунках Віцебск — Орша, Віцебск — Смаленск, Полацк — Маладзечна, шашэйных і грунтавых дарогах Віцебск — Смаленск, Віцебск — Сураж, Орша — Віцебск, Янавічы — Панізоўе, Лепель — Віцебск і інш., вялі баі супраць ворага, ратавалі мірнае насельніцтва ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. Толькі з мая 1942 г. да мая 1943 г. атрады правялі 185 баёў, разграмілі 10 гарнізонаў праціўніка, у т. л. ў вёсках Баліна, Будзянка, Жабенцяі, Ляшчова, Мельны, Мішуткі і Шапурова Суражскага р-на, Кавалі, Пагосцішча, Стасева, Фокіна Лёзненскага р-на, 14 валасных упраў, падарвалі 44 эшалоны, 6 мастоў, знішчылі самалёт, 242 аўтамашыны, 11 танкаў і бронемашын. Восенню 1943 г. брыгада А. Ф. Данукалава вяла цяжкія баі супраць карнікаў каля вёсак Вадапоева, Вуглы і Рубеж (Бешанковіцкі р-н). У красавіку — маі 1944 г. на рубяжы вёсак Замошша, Царкавішча, Тартак, Казімірова, Ветча, Лагі, Бушанка Ушацкага р-на разам з іншымі брыгадамі абараняла Полацка-Лепельскую зону. У ноч на 3.5.1944 г. партызаны прарвалі абарону ворага, разграмілі гарнізоны ў вёсках Баяры, Бондары, Ляпейкі, Піскунова, Каменка і Слабада (Плісскі р-н). Летам 1944 г. брыгада правяла баявыя аперацыі на дарогах Кублічы — Беразіно, Кублічы — Востраў, Кублічы — Крулёўшчына, разграміла штаб 601-га нямецкага пяхотнага палка 201-й пяхотнай дывізіі. Партызаны брыгады ўдзельнічалі ў «рэйкавай вайне», падарвалі больш за 2,9 тыс. рэек. 1.7.1944 г. брыгада імя А. Ф. Данукалава (1817 партызан) у складзе 12 атрадаў — «Прагрэс» (1-ы), «Смерць ворагам» (4-ы), «Марак» (6-ы), імя М. Н. Селіваненкі (8-ы), імя К. Я. Варашылава (10-ы), «Інтэрнацыянал» (12-ы), «Гвардзеец» (13-ы), «Знішчальнік» (14-ы), «Сокал» (15-ы), «Камсамолец» (16-ы), «Мсцівец» (17-ы), «Бальшавік» (20-ы) — злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1979 г. ў в. Кавалі на будынку мемарыяльнага музея А. Ф. Данукалава ў памяць аб базіраванні штаба брыгады ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1967—78; Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Лебедев П. Л. Мы — алексеевцы: Записки партизанского разведчика.— 2 изд.— Мн., 1979; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. М. Удальцоў.*



*1578. Помнік на брацкай магіле чырвонагвардзейцаў.*

**в. Калышкі, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1578. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЙЦАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пахаваны чырвонагвардзейцы Н. Т. Пчалко і А. С. Штылікаў, якія загінулі ад рук белагвардзейцаў зімой 1918 г. У 1983 г. на магіле пастаўлены помнік (арх. А. Сцяблецкі, бетон, вышыня 3 м) — 2 пірамідальныя абеліскі, на франтальных гранях якіх выявы 2 чырвонагвардзейцаў і дошкі з надпісамі-прысвячэннямі.

**1579. РАДЗІМА ФАМІНА** Яўхіма Майсеевіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці Я. М. Фамін нарадзіўся 2.1.1909 г. ў сям'і каваля. Член КПСС з 1930 г. З 1922 г. ў дзіцячым доме г. Віцебск. З 1926 г. ў Пскове, працаваў на гарбарным заводзе «Пралетарый». У 1927 г. паступіў вучыцца ў саўпартшколу, быў прапагандыстам Пскоўскага гаркома ВКП(б). У Чырвонай Арміі з 1932 г. Вучыўся на курсах пры Ваеннай акадэміі імя М. В. Фрунзе (1940 г.). Вясной 1941 г. прызначаны намеснікам камандзіра па палітчастцы 84-га стралковага палка 6-й стралковай дывізіі, якая дыслацыравалася ў Брэсцкай крэпасці. 22.6.1941 г. ўзначаліў 3-і батальён і штабныя падраздзяленні 84-га стралковага палка, якія змагаліся каля Холмскіх варот крэпасці, з 24 чэрвеня намеснік камандзіра зводнай групы абаронцаў крэпасці. Быў паранены і трапіў у палон. Фашысты расстралялі яго каля Холмскіх варот 30.6.1941 г. Я. М. Фамін пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Леніна. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце, Лёзне, Мінску, Пскове, яго імя прысвоена швейнай фабрыцы ў Брэсце.

*Літ.:* Бойцы Ленинской гвардии.— М., 1967; Героическая оборона.— 4 изд.— Мн., 1971.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Касцяёва, Бабінавіцкі сельсавет**

**1580. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 60 воінаў. Сярод іх — воіны 11-й гвардзейскай стралковай дывізіі 16-га гвардзейскага стралковага корпуса 11-й гвардзейскай арміі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1581. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, абапал лясной дарогі ў в. Мар'янава. 19 насыпаў добрай захаванасці, дыяметрам ад 6 да 9 м, вышынёй 1,2—2 м. Абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кляўцы, Стасеўскі сельсавет**

**1582. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на захад ад



1581. *Курганны могільнік. Адзін з курганоў.*




1581. *Курганны могільнік. План.*

вёскі, у лесе. Пахаваны 195 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Красыні, Стасеўскі сельсавет**

**1583. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. У 7 магілах пахаваны 115 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1964 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Крынкі, цэнтр сельсавета**

**1584. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На тэрыторыі племзавода «Крынкі». Пахаваны 4790 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 72-га стралковага корпуса 5-й арміі. У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1585. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ВОІНАМ АРТЫЛЕРЫСТАМ** (гіст.). За 1,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. У 1943 г.— чэрвені 1944 г. на тэрыторыі Лёзненшчыны воіны 99-й цяжкай гаўбічнай артылерыйскай брыгады (камандзір палкоўнік С. І. Далгоў) 3-й гвардзейскай артылерыйскай дывізіі прарыву РГК вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На месцы, дзе ў 1944 г. быў камандны пункт брыгады, у 1977 г. ўзведзены мемарыяльны комплекс — 15-метровая бетонная сцяна, на якой 12 дошак з імёнамі загінуўшых аднапалчан, абеліск і зямлянка каманднага пункта.

*В. М. Удальцоў.*

**1586. МЕСЦА ГІБЕЛІ ГАЛЕЦКАГА** Пятра Антонавіча (гіст.). За 5 км на паўночны захад ад чыгуначнай станцыі Крынкі. Тут 21.10.1942 г. цаною свайго жыцця знішчыў варожы эшалон з гаручым партызан дыверсійнага атрада «Перамога», Герой Савецкага Саюза П. А. Галецкі. У 1967 г. на месцы гібелі пастаўлены абеліск. Гл. артыкул № 2329 «Радзіма Галецкага Пятра Антонавіча».

**1587. ПОМНІК АКЦЯБРСКАЙ** Марыі Васілеўне (гіст.). Перад будынкам сельсавета.

Герой Савецкага Саюза М. В. Акцябрская нарадзілася 3.8.1902 г. ў в. Бліжняе Краснагвардзейскага р-на Крымскай вобл. У 1943 г. М. В. Акцябрская пасля гібелі мужа — палкавога камісара — звярнулася да Вярхоўнага галоўнакамандуючага з просьбай пасласць яе на фронт механікам-вадзіцелем. 50 тыс. рублёў сваіх зберажэнняў аддала на пабудову танка «Баявая сяброўка». Пасля заканчэння школы механікаў-вадзіцеляў была накіравана на фронт. За праяўленыя ў баях мужнасць і адвагу ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

20.11.1943 г. ў баі каля в. Новае Сяло танк М. В. Акцябрскай уварваўся на пазіцыі ворага, знішчыў гусеніцамі процітанкавую гармату і варожы дзот. 17.1.1944 г. ў баі за чыгуначную станцыю Крынкі М. В. Акцябрская была цяжка паранена. Памерла 15.3. 1944 г. ў шпіталі г. Смаленска, пахавана каля Сцяны Славы ў садзе імя М. І. Кутузава. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 2.8.1944 г. Яе імем названа вуліца ў г. п. Лёзна.

У 1981 г. паблізу месца апошняга бою М. В. Акцябрскай пастаўлены манумент (арх. А. Сцяблецкі; бетон, вышыня 6 м), які складаецца з 4 гранёных блокаў і завяршаецца стылізаванымі крыламі. На верхнім блоку — барэльефная выява гераіні ў шлемафоне. Справа ад манумента — гарызантальная пліта з адбіткам гусеніц танка і 2 дошкамі з надпісамі-прысвячэннямі.

*Літ.:* Д ж о г а И. Хозяйка танка.— У кн.: Звезды немеркнущей славы. 2 изд. Симферополь, 1975; П о л о г р у д о в Н. Боевая подруга.— У кн.: Слава твоя, Сибирь. Новосибирск, 1964; В памяти народной.— Мн., 1969. *М. К. Кошалеў.*

**1588. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка дырэкцыі племзавода «Крынкі». На франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 43 землякі. У 1976 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**1589. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка дырэкцыі племзавода «Крынкі».

24.1.1924 г. агульны сход жыхароў вёскі прыняў рашэнне ўвекавечыць памяць правадыра. Для пабудовы помніка было вырашана адлічыць 30 пудоў збожжа. Помнік (паплечны бюст) быў пастаўлены ў 1925 г. Гэта быў адзін з першых помнікаў У. І. Леніну на Беларусі. У Вялікую Айчынную вайну гітлераўцы разбілі яго. Жыхары ўпотай сабралі кавалкі і захоўвалі іх да вызвалення вёскі. Пасля вайны па іх просьбе помнік быў рэстаўрыраваны народным мастаком БССР А. Бембелем і ўстаноўлены на ранейшым месцы.

*Літ.:* К а м а р о ў І. В. Помнікі правадыру.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1970, № 4. *М. К. Кошалеў.*

**1590. ПОМНІК ЛЫНЬКОВУ** Міхасю (гіст.). Перад будынкам сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці беларускага савецкага пісьменніка М. Лынькова (Міхася Ціханавіча) у 1977 г. пастаўлены помнік — бюст пісьменніка. Яго імя ў 1976 г. прысвоена гэтай школе. Гл. артыкул № 801 «Радзіма Лынькова Міхася».

**в. Куляціна, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1591. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны невядомы воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Куракі, Веляшковіцкі сельсавет**

**1592. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 300 м на ўсход ад вёскі. У 10 ма-



1584. *Помнік на Вайсковых могілках.*

гілах пахаваны 250 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран восенню 1943 г.— зімой 1944 г. У 1975 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Кучыншчына, Крынкаўскі сельсавет**

**1593. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Напалеонаўская Валатоўка. На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на беразе р. Лучоса. Вышыня паўсферычнага ў плане задзірванелага насыпу 0,6 м, дыяметр 8 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. В. С. Вяргей.

**в. Лугі, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1594. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 6 магілах пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна ў 1943—44 гг. У 1971 г. на магілах пастаўлена 6 абеліскаў.

**в. Макаранкі, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1595. МАГІЛА ЕРАМЕЕВА Н. А.** (гіст.). На могілках. Партызан Н. А. Ерамееў загінуў 10.12.1942 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Калінавічы, Крынкаўскі сельсавет**

**1596. КУРГАН** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, за агародамі. Вышыня 2 м, дыяметр 8 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1973 г. М. А. Ткачоў.

**в. Малыя Міснікі, Крынкаўскі сельсавет**

**1597. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. У 4 магілах пахаваны 212 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1962 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Матушова, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1598. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне Лёзненшчыны ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Навароцце, Стасеўскі сельсавет**

**1599. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 500 м на поўнач ад вёскі. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 5-га гвардзейскага стралковага корпуса 39-й арміі Калінінскага фронту. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1600. МАГІЛА ШАКУДАВА** Іларыёна Галакціёнавіча (гіст.). За 100 м на поўдзень ад вёскі. Савецкі воін І. Г. Шакудаў загінуў 12.11.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1585. *Мемарыяльны комплекс воінам-артылерыстам.*



1589. *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Надзёжына, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1601. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. Пахаваны 226 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1970 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна і 10 абеліскаў.

**1602. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Нікана́ўшчына, Кавалёўскі сельсавет**

**1603. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызан брыгады імя А. Ф. Данукалава, які загінуў восенню 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пагосціічча, Крынкаўскі сельсавет**

**1604. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 1498 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1964 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1605. МАГІЛА ЗЕЛЯНКОВА** Уладзіміра Мацвеевіча (гіст.). На могілках. Падпалкоўнік У. М. Зелянкоў загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1606. МАГІЛА МІХАЙЛАВА** Івана Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады імя А. Ф. Данукалава І. М. Міхайлаў загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1607. МАГІЛА НАСЛЕДНІКАВА** Пятра Міхайлавіча (гіст.). На могілках. П. М. Наследнікаў (1896—1918 гг.) — камісар зямельнага аддзела Высачанскай воласці. Вясною 1918 г. ў сувязі з падзелам памешчыцкай зямлі абвастрылася класавая барацьба ў вёсцы. 30.5.1918 г. кулакі забілі П. М. Наследнікава — актыўнага змагара за ажыццяўленне Дэкрэта аб зямлі, прынятага 2-м Усерасійскім з'ездам Саветаў. У 1922 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1608. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.). У в. Пагосціішча 26.8.1942 г. партызаны брыгады «Аляксея» пад камандаваннем А. Ф. Данукалава разграмілі буйны гарнізон праціўніка. У 1977 г. ў памяць аб гэтай падзеі ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла з барэльефнымі вывамі твараў партызан.



1587. *Помнік М. В. Акцябрскай.*



1609. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Перамонт, Дабрамыслянскі сельсавет**

**1609. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 87 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пнёва, Веляшковіцкі сельсавет**

**1610. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пронскае, Лёзненскі сельсавет**

**1611. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 456 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943 г. Сярод пахаваных — воіны 5-га гвардзейскага стралковага корпуса 39-й арміі Калінінскага фронту. У 1965 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Пыжы, Стасеўскі сельсавет**

**1612. РАДЗІМА ЯНУШКОЎСКАГА** Івана Іванавіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 8 «Вайсковыя могілкі» (г. Віцебск).

**в. Рубяжніца 1-я, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1613. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магілах пастаўлены абеліскі.



1608. *Помнік на месцы бою 1942 г.*

**в. Свірбы, Стасеўскі сельсавет**

**1614. МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе. У 6 магілах пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг.

**в. Сітна, Горбаўскі сельсавет**

**1615. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне могілак, на беразе воз. Сітнянскае. 6 насыпаў вышынёй 0,5—0,8 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Смародзіна, Стасеўскі сельсавет**

**1616. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, справа ад шашы Віцебск — Смаленск. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Павел Дзмітрыевіч Рэшатаў.

П. Дз. Рэшатаў нарадзіўся 26.8.1911 г. ў в. Бегунова Калінінскай вобл. ў сялянскай сям'і. Працаваў брыгадзірам трактарнай брыгады. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г., камандзір кулямётнага аддзялення. 27.6.1944 г. каля в. Абухава Бешанковіцкага р-на разлік П. Дз. Рэшатава агнём спыніў варожую калону, якая спрабавала вырвацца з акружэння. Застаўшыся адзін, П. Дз. Рэшатаў працягваў бой, знішчыў 140 гітлераўцаў, а калі скончыліся патроны, апошняй гранатай падарваў сябе і ворагаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Лёзна.

У 1951 г. на могілках пастаўлена 6 абеліскаў.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**1617. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, за 60 м на ўсход ад шашы Віцебск — Смаленск. Воін загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стар, Дабрамыслянскі сельсавет**

**1618. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 785 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1971 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Стасева, цэнтр сельсавета**

**1619. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНКІ БУРАЎЦАВАЙ** Надзеі Захараўны (гіст.). Каля малаказавода. Пахаваны 11 воінаў і партызанка Н. З. Бураўцава, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1620. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Каля будынка пачатковай школы. Пахаваны 127 савецкіх афіцэраў, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Цімафей Мікалаевіч Арлоў.

Ц. М. Арлоў нарадзіўся 2.2.1915 г. ў с. Вялікае Чавусава Кетаўскага р-на Курганскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Віцебшчыны ў лістападзе і снежні 1943 г. Быў намеснікам камандзіра 787-га стралковага палка 22-й Смаленскай стралковай дывізіі 33-й арміі Заходняга фронту. 11 лістапада падраздзяленні палка пад камандаваннем маёра Ц. М. Арлова ў раёне в. Чырвоная Слабада прарвалі абарону праціўніка, захапілі яго ўмацаванні і адбілі 12 контратак. У ходзе далейшых баёў 25 снежня ў час прарыву абароны ворага воіны перасеклі чыгунку Віцебск — Смаленск, зайшлі ў тыл праціўніка і знішчылі варожую калону. У гэтым баі Ц. М. Арлоў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. Курган.

У 1959 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна, у 1969 г.— гармата. На кожнай магіле абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**в. Таранкі, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1621. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 400 м ад вёскі, каля грамадзянскіх могілак. Пахаваны 108 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1970 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна і 10 абеліскаў.



1620. *Вайсковыя могілкі.*

**1622. МАГІЛА АНІСІМАВА С. В.** (гіст.). На грамадзянскіх могілках. Партызан С. В. Анісімаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хоцемля, Крынкаўскі сельсавет**

**1623. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Карчэмішча. Пахаваны 1013 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1624. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 400 м на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 565 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 5-га гвардзейскага стралковага корпуса 39-й арміі. У 1972 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1625. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Тулава. Пахаваны 72 савецкія воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1966 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1626. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Лепнікі. Пахаваны 599 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1627. МАГІЛА НАВУМАВА** Міхаіла Васілевіча (гіст.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. М. В. Навумаў пасля сканчэння Севастопальскага ваенна-марскога вучылішча быў накіраваны на фронт, ваяваў у складзе Дунайскай ваеннай флатыліі, быў марскім пехацінцам. Вясной 1942 г. на Лёзненшчыне ўзначаліў партызанскую групу (пазней камандзір атрада «Марак» брыгады «Аляксея»). Атрад базіраваўся ў Хацямлянскіх лясах і дзейнічаў на шашэйных і чыгуначных камунікацыях каля Віцебска. Правёў рэйды па Багушэўскаму, Сенненскаму і Бешанковіцкаму р-нах, разграміў некалькі гарнізонаў праціўніка і валасных упраў. У канцы верасня фашысты блакіравалі Хацямлянскія лясы. Каб сарваць планы карнікаў, партызаны ноччу 2.10.1942 г. напалі на буйны варожы гарнізон у в. Яроміна (Віцебскі р-н) і разграмілі яго. У гэтым баі М. В. Навумаў загінуў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Лебедев П. Л. Мы — алексеевцы: Записки партизанского разведчика.— 2 изд.— Мн., 1979. *В. М. Удальцоў.*

**в. Чарнаручча, Лёзненскі сельсавет**

**1628. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 83 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1971 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**1629. МЕСЦА ПАСЯДЖЭННЯЎ ЦК КП(б)Б і СНК БССР** (гіст.). У ліпені 1941 г. ў в. Чарнаручча адбыліся пасяджэнні ЦК КП(б)Б і СНК БССР. На іх былі прыняты аператыўныя рашэнні па мабілізацыі працоўных рэспублікі на барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў: аб стварэнні атрадаў народнага апалчэння, груп знішчальнікаў танкаў, дыверсійных і разведвальных груп, разгортванні партызанскага руху. У 1975 г. ў памяць аб гэтых падзеях на будынку праўлення калгаса імя У. І. Леніна ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967. *М. К. Кошалеў.*

**1630. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Чарніцы, Лёзненскі сельсавет**

**1631. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната імя А. І. Кальцова.

Вёска Чарніцы вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 24.6. 1944 г. воінамі 159-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту. У паласе наступлення 5-й арміі актыўна дзейнічалі партызаны. Камандаванне 5-га атрада імя К. Я. Варашылава (камандзір У. Т. Рыжыкаў, камісар Л. А. Калтуноў) Багушэўскай партызанскай брыгады (другога складу) накіравала насустрач 159-й стралковай дывізіі партызан, якія вывелі яе перадавыя часці ў тыл нямецкай дывізіі. Атрад У. Т. Рыжыкава далучыўся да войск Чырвонай Арміі і разам з імі ўдзельнічаў у акружэнні і знішчэнні гітлераўцаў, якія трымалі абарону ўздоўж р. Чарніца.



1631. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

На могілках пахаваны 393 воіны і партызаны, якія загінулі ў гэтых баях. Тут знаходзіцца і магіла лётчыка Героя Савецкага Саюза маёра Аляксея Іванавіча Кальцова.

А. І. Кальцоў нарадзіўся 14.9. 1917 г. ў г. Варонеж. Кандыдат у члены КПСС. Працаваў на заводзе. Скончыў школу лётчыкаў-знішчальнікаў (1937 г.). У Чырвонай Арміі з 1937 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Сталінградскім, Бранскім франтах, быў камандзірам знішчальнага авіяпалка. Удзельнічаў у баях на тэрыторыі Беларусі. Зрабіў 222 баявыя вылеты, правёў 60 паветраных баёў, збіў 10 варожых самалётаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 2.9.1943 г. Загінуў у баі 7.11.1943 г. Яго імя прысвоена школе-інтэрнату ў в. Чарніцы, у Варонежы на заводзе, дзе працаваў А. І. Кальцоў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1962 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Чарнышы, Крынкаўскі сельсавет**

**1632. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. У 22 магілах пахаваны 4468 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у 1944 г. У 1965 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Шарыкі, Стасеўскі сельсавет**

**1633. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На поўнач ад вёскі, за 800 м ад могілак. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1634. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана 150 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1964 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Шахі, Лёзненскі сельсавет**

**1635. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысц-

кіх захопнікаў у 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шніткі, Крынкаўскі сельсавет**

**1636. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 200 м на захад ад вёскі. Пахаваны савецкія воіны і партызаны (301 чалавек), якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 72-га стралковага корпуса 5-й арміі 3-га Беларускага фронту. У 1963 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1637. РАДЗІМА ЧАРАПНЁВА** Сяргея Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. М. Чарапнёў нарадзіўся ў 1918 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., гвардыі капітан, штурман карабля, атрада, эскадрыллі цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў. У 1941—43 гг. С. М. Чарапнёў зрабіў 237 начных баявых вылетаў і 94 вылеты для забеспячэння савецкіх войск боепрыпасамі і гаручым. Экіпаж бамбардзіроўшчыка скінуў на аб'екты праціўніка больш за 260 т бомбаў, даставіў у тыл ворага 35 дэсантнікаў, раскідаў 5,4 млн. лістовак, разбурыў 4 варожыя пераправы, 2 чыгуначныя вузлы, спаліў 7 складоў, знішчыў 5 самалётаў, 11 танкаў, 37 аўтамашын праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.9.1943 г. Загінуў 14.6.1944 г. ў раёне г. Дэмблін (Польшча).

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. П. Кобля.*

**в. Шумшчына, Стасеўскі сельсавет**

**1638. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 118 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 91-й гвардзейскай стралковай дывізіі 39-й арміі 3-га Беларускага фронту. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шэркіна, Стасеўскі сельсавет**

**1639. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 365 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 5-га гвардзейскага стралковага корпуса 39-й арміі 3-га Беларускага фронту. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Якубаўшчына, Яськаўшчынскі сельсавет**

**1640. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі восенню 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1641. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 265 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.




Міёры
Віцебск
В І Ц Е Б С К А Я
В О Б Л.

Лявонпаль
Паташня
Узмёны
Ідолта
Даўгінава
Павяцце
Забалацце
Дрыгучы
Басяныя
Старыя Крукі
Чэрасы
Камянполле
Туркова
Перабродзе
МІЁРЫ
Вялікая Кавалеўшчына
Чапукі 1-я
Дворнае Сяло
Воўкаўшчына
Наўгароды
Дзісна
Мікалаева
Ліпна
Сіцькава
Новы Пагост
Папшулі
Цвеціна
Завуцце
Іст
Басянкі 3-я
Язна
Новае Сяло
Дарожкі



Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Земляныя валы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан. Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## XVI. МІЁРЫ

Горад, цэнтр раёна. За 190 км на паўночны захад ад Віцебска, на беразе Міёрскага воз. Чыгуначная станцыя на лініі Друя — Варапаева. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Дзіснай, Верхнядзвінскам, Браславам, Шаркоўшчынай. Рэльеф гарадской тэрыторыі раўнінны, з перападам вышынь да 8 м. З поўдня і паўднёвага заходу горад агінае ланцуг азёр.

Вядомы з 1567 г. як мястэчка Мёры (назва існавала да 19 ст.). Належалі Мірскім, Перасвет-Солтанам, Беліковічам, Клотам, уваходзілі ў Браслаўскі павет Віленскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. У 17 ст. Міёры — невялікае паселішча з царквой (закладзена ў 1621 г.). У 1644 г. тут быў праваслаўны манастыр, які з 1689 г. перайшоў да уніятаў. У 1691 г. пабудаваны касцёл (існаваў да 1862 г.). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі. Мястэчка, цэнтр воласці Дзісенскага павета Мінскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У 2-й палавіне 19 ст. ў мястэчку царкоўнапрыходская і народная школы, яўрэйскае вучылішча; 2 разы на год адбываліся кірмашы. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1918 г. Міёры акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг.— буржуазнай Польшчы. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ўвайшлі ў склад буржуазнай Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Дзісенскага павета Віленскага ваяводства. Да 1931 г. працавала запалкавая фабрыка. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. цэнтр раёна Вілейскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі р-на дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (29.8.1943 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (25.10.1943 г.— 2.7.1944 г.).

Вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 4.7.1944 г. воінамі 9-й гвардзейскай стралковай дывізіі 6-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту. У вызваленні Міёр удзельнічалі партызаны брыгады імя М. І. Калініна Вілейскага злучэння. З 1944 г. Міёры — цэнтр раёна Полацкай, з 1954 г.— Маладзечанскай, з 1960 г.— Віцебскай абласцей. З 1957 г. гарадскі пасёлак. З 1972 г. горад. Сучасная планіроўка горада абумоўлена прамавугольнай сеткай вуліц. Галоўная магістраль — вул. Камуністычная. Тут ўзведзены двух-, чатырох- і пяціпавярховыя дамы. Генеральныя планы забудовы распрацаваны ў 1971 г. Віцебскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект», у 1980 г.— Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва. У цэнтры (вуліцы Камуністычная, Дзяржынскага, Кастрычніцкая) пабудаваны адміністрацыйныя будынкі: райвыканкома і райкома партыі, Дома культуры, універмага, кінатэатра, вузла сувязі і інш. У гарадскім парку насыпаны Курган Славы, у скверы на пл. Леніна пастаўлены помнік Вызвалення, у скверы на пл. Загінуўшых барацьбітоў — помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан. Збярогся помнік архітэктуры пачатку 20 ст.— Успенскі касцёл. Прамысловыя прадпрыемствы: мясакамбінат, маслазавод, хлебазавод, камбікормавы завод, ільнозавод. Працуюць раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання. У Міёрах 3 сярэднія, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, завочная школа рабочай моладзі, Дом піянераў і школьнікаў, 2 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Сцяг працы».

Зона адпачынку — вакол Міёрскага возера.

*Літ.:* Белоруссия и Литва.— СПб., 1890; Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; В памяти народной.— Мн., 1969.

*У. В. Алісейчык, М. І. Камінскі.*



XVI. *Плошча загінуўшых барацьбітоў.*

**1642. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На пл. Загінуўшых барацьбітоў. Пахаваны 180 воінаў і 43 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай стралковай дывізіі 6-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызвален-



XVI. *Від на горад з боку возера.*

ні Міёр. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1643. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). У парку па вул. Ізварына. Насыпаны жыхарамі горада ў 1969 г. ў гонар 25-годдзя вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 50-годдзя БССР.

**1644. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На пл. Леніна, у скверы.

У ліпені 1944 г. воіны 9-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік Я. Я. Вербаў) 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту пачалі наступленне на Міёры. Нягледзячы на жорсткае супраціўленне праціўніка, часці і падраздзяленні дывізіі ва ўзаемадзеянні з партызанамі брыгады імя М. І. Калініна (камандзір Ф. Н. Гаўрыленка, камісар М. А. Клімянок) Вілейскага злучэння разграмілі апорныя пункты ворага на подступах да пасёлка і 4 ліпеня авалодалі ім. У час баёў за Міёры было знішчана каля 300 варожых салдат і афіцэраў, захоплена шмат баявой тэхнікі, 4 склады з боепрыпасамі і прадуктамі. У гонар воінаў і партызан, якія вызвалілі Міёры ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*Г. І. Дулеба.*

**1645. УСПЕНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На ўсходнім беразе Міёрскага воз. Пабудаваны ў 1907 г. з чырвонай цэглы.

Трохнефавы двухвежавы храм з пяціграннай алтарнай часткай, да якой з паўднёвага боку далучана сакрысція. Фасады будынка з высокім цокалем рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі і стральчатымі аконнымі праёмамі. Вось сіметрыі галоўнага фасада падкрэслена ўваходным парталам і акном-ружай. Трох'ярусныя вежы завершаны высокімі шпілямі, умацаваны ступеньчатымі контрфорсамі, раскрапаваны вузкімі нішамі. Вежа-ліхтар завяршае цэнтральны шчыт. Нефы перакрыты стральчатымі скляпеннямі.

Касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага стылю. *А. М. Кулагін.*



1643. *Курган Славы.*

**в. Акунёва, Мікалаеўскі сельсавет**

**1646. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Басянкі 3-я, Язненскі сельсавет**

**1647. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя А. С. Пушкіна, у скверы. На ўшанаванне памяці 24 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Блізкае Чурылава, Даўгінаўскі сельсавет**

**1648. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1648а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Гарадзец. У вёсцы на мысе, які з паўночнага ўсходу і ўсходу абмежаваны поймай Заходняй Дзвіны і ровам, з астатніх бакоў — заліўным лугам. Пляцоўка ў плане амаль круглая (40×37 м), схілы высокія (5—6 м ад асновы) і стромкія. Абследавалі ў 1956 г. Я. Г. Краскоўская, у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1981 г. А. У. Ілюцік. У культурным пласце 0,2—0,25 м знойдзена ляпная кераміка днепрадзвінскай культуры, датуецца не пазней як 3—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1648б.** Курганны могільнік. У вёсцы, за 0,5 км на захад ад гарадзішча. Захаваліся 2 насыпы дыяметрам 10—12 м, вышынёй да 2,5 м. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1966 г. К. П. Шут, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. А. У. Ілюцік. Раскопкі не праводзіліся.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Брыжынкі, Узмёнскі сельсавет**

**1649. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам у руках.

**в. Вострава, Новапагосцкі сельсавет**

**1650. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на балоце. Пляцоўка памерам 25×15 м выцягнута з захаду на ўсход, абкружана ровам. Выявіла ў 1978 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1651. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 15 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Воўкаўшчына, Новапагосцкі сельсавет**

**1652. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 42 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вянужа, Туркоўскі сельсавет**

**1653. МАГІЛА КУРАША** Антона Сцяпанавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. С. Кураш загінуў у сакавіку 1944 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1642. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



1644. *Помнік Вызвалення.*

в. Вята, Даўгінаўскі сельсавет

**1654. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі пры ўпадзенні р. Вята ў Заходнюю Дзвіну. 15 насыпаў вышынёй ад 0,8 да 3 м, дыяметрам ад 5 да 12 м, за выключэннем прадаўгаватага кургана памерам 15×6×2,5 м. Выявілі ў 1937 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, якія раскапалі 6 насыпаў. Знаходак не было. У 1977 г. Л. У. Дучыц даследавала 2 насыпы, у аснове якіх прасочаны прапластак, насычаны попелам і вуголлем.

Матэрыялы раскопак 1977 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. У. Дучыц.*

в. Галомысла, Завуццеўскі сельсавет

**1655. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з драўляных брусоў.

Трохзрубны храм уключае двух'ярусную званіцу (чацвярык на чацверыку), асноўны аб'ём і пяцігранную апсіду. Званіца завершана пакатым шатровым дахам з макаўкай. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным гонтавым дахам з вальмамі над апсідай і завершаны макаўкай. Фасады гарызантальна ашаляваны, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

в. Гвардзейская,
Даўгінаўскі сельсавет

**1656. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзец. За 0,7 км на захад ад вёскі, за 0,5 км ад левага берага Заходняй Дзвіны, на ўзгорку. Пляцоўка авальная, даўжынёй 42 м, шырынёй 27 м. Умацавана валамі і равамі. Чатыры валы размешчаны на паўднёвым захадзе пляцоўкі, адзін — на паўночна-ўсходнім, паўднёва-заходнім і ўсходнім схілах узгорка. Вышыня валоў 0,4—1 м, шырыня ў аснове 4—10 м, шырыня равоў 3—10 м, глыбіня 0,25—1 м. Абследавалі ў 1956 г. Я. Г. Краскоўская, у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. А. У. Ілюцік. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,3—0,5 м, па краях — 1—1,2 м. Знойдзена ляпная кераміка. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 3—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*



1649. *Помнік землякам.*



1645. *Успенскі касцёл.*

в. Дарожкавічы, Туркоўскі сельсавет

**1657. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 18 мірных жыхароў, якія ў 1943 г. былі расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Даўгінава, цэнтр сельсавета

**1658. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева, у скверы. На ўшанаванне памяці 67 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам у руках.

в. Дворнае Сяло, цэнтр сельсавета

**1659. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 47 землякоў,



1658. *Помнік землякам.*

якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзедзіна, Перабродскі сельсавет**

**1660. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 28 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1661. СЯДЗІБА** (архіт.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на ўзгорку. Сфарміравана ў 1810—20 гг. Уключае сядзібны дом (перад ім часткова захаваўся пейзажны парк з сажалкай), гаспадарчыя будынкі з бутавага каменю.




1661. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2—3 — гаспадарчыя пабудовы.*

Двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны сядзібны дом накрыты вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага фасада чатырохкалонны порцік з трохвугольным франтонам. У раскрапоўцы фасадаў выкарыстаны пілястры, рустоўка, прафіляваныя карнізы. Сцены 2-га паверха расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, 1-га — квадратнымі. 1-ы скляпеністы паверх мае анфіладную планіроўку, 2-і — мяшаную анфіладна-калідорную. З вестыбюля на 2-і паверх вядзе лесвіца. Інтэр'ер будынка захаваў сляды былых камінаў, элементы дэкору ў неагатычным стылі.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

## XVII. ДЗІСНА

Горад, на р. Дзісна пры ўпадзенні яе ў Заходнюю Дзвіну, за 45 км на ўсход ад Міёр і 145 км на паўночны захад ад Віцебска. За 12 км ад чыгуначнай станцыі Боркавічы, на лініі Полацк — Даўгаўпілс. Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Полацкам, Глыбокім, Міёрамі.



1661. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



1661. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

Вырас на месцы невялікай крэпасці Капец-гарадок, заснаванай полацкімі крывічамі ў пачатку 11 ст. З 1301 г. ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Да 2-й палавіны 16 ст. невялікае паселішча Полацкага ваяводства, з 1563 г. мястэчка (дзяржаўнае ўладанне) Полацкага ваяводства. Дзякуючы свайму стратэгічнаму становішчу — адзін з найважнейшых фарпостаў на Віленскім напрамку. У 1567 г. горад атрымаў герб (3 вежы з муру), меў Ніжні і Верхні (на паўвостраве) замкі. Забудову дзядзінца складала некалькі вулачак, у цэнтры быў рынак, у баку — пушкарня, паміж валоў — сажалка. У 1569 г. атрымаў магдэбургскае права і новы герб (ладдзю). У 17 ст. цэнтр староства, гандлёва-рамесніцкі цэнтр. У 1632 г. тут былі 3 царквы і 3 брацтвы, 2 касцёлы, 9 цэхаў (шавецкі, кавальскі, мулярскі, слясарскі, ткацкі, ганчарны, гарбарны, рымарскі, сталярскі). Прадукцыю рамеснікаў, а таксама сала, хлеб, воск, мёд, рыбу, дзічыну, пяньку і лён вывозілі пераважна водным шляхам у Рыгу, Кёнігсберг, Віцебск, Смаленск і інш. гарады. Адтуль прывозілі дарагія тканіны, карункі, галантарэю. У горадзе былі склады іншагародніх купцоў, з 1670-х гадоў мытная камора, штогод праводзіліся 3 кірмашы. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. жыхары добраахвотна здалі горад рускім войскам (25.7.1654 г.). Паводле плана горада сярэдзіны 18 ст., ад цэнтральнай Г-падобнай плошчы ў 3 напрамках (паўночна-заходнім, паўночна-ўсходнім і ўсходнім) цягнуліся рады паралельных вуліц, што забяспечвала сувязь усіх жылых комплексаў з цэнтрам і прыстанямі. На заходнім баку цэнтральнай плошчы была ратуша, на ўсходнім — царква Уваскрэсення (упамінаецца з 1633 г.). На беразе Заходняй Дзвіны стаяў францысканскі касцёл (пабудаваны ў 1773 г., збярогся часткова).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Дзісна ў складзе Расійскай імперыі. З 1795 г. цэнтр павета Мінскай, з 1842 г.— Віленскай губерняў. Паводле перапісу 1897 г., у горадзе 6755 жыхароў, 86 мураваных і 666 драўляных дамоў, 102 крамы, 8 культавых будынкаў. У гарбарні, 2 цагельнях, 2 вапнярнях і ветраку працавалі 7 майстроў і 17 рабочых. У рэвалюцыю 1905—07 гг. дзейнічала арганізацыя РСДРП, якая мела сувязі з Дзвінскім камітэтам РСДРП. 1.5.1905 г. адбылася дэманстрацыя працоўных. Яе арганізатары: Пугаўка, Грэнеман, Харэвіч і Кандалевіч былі па-зверску збіты і арыштаваны. Для навядзення парадку ўлады накіравалі сюды роту салдат.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. Дзісна акупіравана нямецкімі, у 1919—20 гг.— польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы. Пасля ўз'яднання (1939 г.) Заходняй Беларусі з БССР Дзісна — раённы цэнтр Вілейскай (з 15.1. 1940 г.), Полацкай (з 1944 г.), Маладзечанскай (з 1954 г.) абласцей. У 1959 г. Дзісенскі раён скасаваны, горад увайшоў у склад Міёрскага р-на, разам з якім у 1960 г. аднесены да Віцебскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. Дзісна акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі ў горадзе і раёне 4584 мірных жыхароў. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (14.11.1943 г.— 3.7. 1944 г.) і ЛКСМБ (15.11.1943 г.— 3.7. 1944 г.). Вызвалены 4.7.1944 г. часцямі 154-й дывізіі (камандзір палкоўнік Л. Ц. Сачылаў) 103-га стралковага корпуса.

Пры аднаўленні Дзісны пакінута планіроўка, якая склалася гістарычна. Цэнтральныя вуліцы забудаваны сучаснымі жылымі і грамадскімі будынкамі. У горадзе працуюць філіял Браслаўскага камбіната будаўнічых матэрыялаў, вытворчы ўчастак Глыбоцкага кансервавага завода, нізавы малочны завод, філіял Віцебскага вытворчага швейнага аб'яднання «Віцябчанка», лясгас, участак Міёрскага камбіната бытавога абслугоўвання; сярэдняя школа, дапаможная школа-інтэрнат, навучальна-вытворчы камбінат, Дом піянераў і школьнікаў, дзіцячыя яслі і сад, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. У Дзісне пастаўлены помнікі У. І. Леніну; Вызвалення; на 3 брацкіх магілах ахвяр фашызму і брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.

Зона адпачынку — на берагах Заходняй Дзвіны.

*Літ.:* Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России... Т. 1.— СПб., 1863; Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии.— Витебск, 1896; Витебская старина /Сост. А. П. Сапунов. Т. 4.— Витебск, 1885; Русско-белорусские связи: Сб. документов (1570—1667 гг.).— Мн., 1963; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Сапунов А. П. Река Западная Двина: Историко-географический обзор.— Витебск, 1893; Hedemann O. Dzisna i Druja. Magdeburskie miasta.— Wilno, 1934; Smolenski W. Kuźnica Kołłątajowska.— Kraków, 1885; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 2.— Warszawa, 1881.

*У. В. Алісейчык, Я. В. Бунто.*



**1662.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*




**1663.** *Замчышча. План.*

**1662. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Леніна. Непадалёку ад школы-інтэрната. Пахаваны 276 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**1663. ЗАМЧЫШЧА** (гіст.). У сутоку рэк Дзісна і Заходняя Дзвіна, на паўночны ўсход ад горада. Дзісенскі замак закладзены на востраве, які абмываўся з аднаго боку Заходняй Дзвіной, з другога — Дзіснай. Узнік у 1554 г., у 1570—80 гг. важнейшы на Падзвінні. Складаўся з Ніжняга і Верхняга замкаў. Абодва былі пабудаваны з дрэва і ўмацаваны землянымі валамі. У 1661 г. ў Ніжнім замку было 9 вежаў, сярод іх найбольш значныя — Дзвінская, Пясочная, Ніжняя, Дзісенская, Свенская, Плоская, Моцарская. У 18 ст. ўмацаванні Дзісенскага замка разбураны. Асталіся толькі валы Ніжняга замка.

*Літ.:* Ткачев М. А. Военное зодчество Белоруссии XIII—XVIII вв.— Мн., 1972.

*М. А. Ткачоў.*

**1664. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, у лесапаркавай зоне. Пахаваны 3800 мірных жыхароў, расстраляных 14.6.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1665. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, у лесапаркавай зоне. Пахаваны 8 мірных жыхароў, якіх загубілі 30.12.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1950 г. на магіле ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

**1666. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, у лесапаркавай зоне. Пахаваны мірныя жыхары Ф. М. Мятла і А. С. Мятла, якіх 19.12.1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1950 г. на магіле пастаўлены помнік.

**1667. МАГІЛА ЗАХАРЭНКІ** Іосіфа Майсеевіча (гіст.). На тэрыторыі стадыёна. Чырвонаармеец І. М. Захарэнка загінуў 10.1.1940 г. пры выкананні службовых абавязкаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1668. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Леніна, у скверы. У азнаменаванне 20-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй і ў гонар вызвалення (4.7.1944 г.) воінамі 154-й дывізіі (камандзір палкоўнік Л. Ц. Сачылаў) 103-га стралковага корпуса Дзісны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**1669. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**1670. ЦАРКВА АДЗІГІТРЫІ** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.

Прамавугольны ў плане аб'ём з пяціграннай апсідай і вальмавым гонтавым дахам, завершаны цыбулепадобнай галоўкай на васьміграннным барабане. Фасады плоскія, прарэзаны аконнымі праёмамі. Галоўны ўваход вылучаны рызалітам і навіссю. Побач з царквой двух'ярусная (чацвярык на чацверыку) шатровая званіца з цыбулепадобнай галоўкай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*А. М. Кулагін.*



**1668.** *Помнік Вызвалення.*

**в. Дрыгучы, Туркоўскі сельсавет**

**1671. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Кутузава. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Забалоцце, Перабродскі сельсавет**

**1672. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Ленінскі шлях», у парку. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1673. РАДЗІМА ДМАХОЎСКАГА** Генрыка Міхайлавіча (гіст.).

Удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі ў 1830—60-я гады, скульптар Г. М. Дмахоўскі нарадзіўся 26.10. 1810 г. ў маёнтку Забалоцце Дзісенскага павета ў дваранскай сям'і. Скончыў Віленскі універсітэт. Удзельнік паўстання 1830—31 гг. Пасля задушэння паўстання эмігрыраваў у Францыю (1832—33 гг.), дзе разам з рэвалюцыйнай эміграцыяй рыхтаваў новае паўстанне (так званая экспедыцыя Заліўскага). За рэвалюцыйную дзейнасць у Галіцыі арыштаваны і зняволены аўстрыйскімі ўладамі (1834—41 гг.). У 1841—51 гг. жыў у Парыжы, вучыўся скульптуры, стварыў помнік польскаму рэвалюцыйнаму дзеячу В. Пяткевічу, рэльеф Ю. Заліўскага. У 1851 г. пасяліўся ў ЗША, дзе пад псеўданімам Генры Д. Сандэрс праславіўся як таленавіты скульптар. Лепшыя работы гэтага перыяду бюсты Т. Касцюшкі і Т. Джэферсана для Кангрэса ЗША, помнікі жонцы на магілках у Філадэльфіі, К. Пуласкаму ў Саване, скульптурная група «Гарыбальдзі з воінамі». У 1861 г. Г. М. Дмахоўскі вярнуўся на радзіму, стварыў у Вільні бюст У. Сыракомлі і помнік Б. Радзівіл. Актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1863—64 гг. Прызначаны паўстанскім камісарам Дзісенскага павета, арганізаваў і ўзначаліў паўстанскі атрад. 26.5.1863 г. Г. М. Дмахоўскі загінуў у баі ў в. Парэчча Барысаўскага павета Мінскай губерні.

*Літ.:* Encyklopedyja powszechna. T. 7.— Warszawa, 1861; Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana. T. 15—16.— Warszawa, 1895; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 14.— Warszawa, 1895; Polski słownik biograficzny. T. 5.— Kraków, 1939—46. Кісялёў Г. Героі і музы.— Мн., 1982. *Г. В. Кісялёў.*



1677. *Касцёл.*



1677. *Касцёл. План.*

**в. Завуцце, цэнтр сельсавета**

**1674. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля дарогі Дзісна — Язна, на беразе р. Авута. Пахаваны мірныя жыхары А. Я. і М. Я. Марцулевічы, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941 г.

**1675. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Сцяг перамогі», у скверы. На ўшанаванне памяці 25 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Іванькі, Туркоўскі сельсавет**

**1676. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 29 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. насыпаны курган.

**в. Ідолта, Павяцкі сельсавет**

**1677. КАСЦЁЛ** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы. Пабудаваны ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы.

Аднавежавы прамавугольны ў плане аб'ём з паўкруглай апсідай і 2 сакрысціямі. Квадратная ў плане вежа асіметрычна прыбудавана да галоўнага фасада. Да вежы прымыкае арачная галерэя. Фасады храма падзелены на 2 ярусы. У муроўцы ніжняга яруса і вежы выкарыстаны шліфаваны камень-валун, верхняга — белая цэгла. Спалучэнне гэтых матэрыялаў надае будынку фактурную і каляровую выразнасць. Касцёл падзелены на 3 нефы 2 аркадамі, прасветы якіх адпавядаюць паўцыркульным аконным праёмам.

Касцёл — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *У. В. Алісейчык.*

**1678. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 13 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1679. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Невялікі прамавугольны ў плане аб'ём з пяціграннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Накрыты двухсхільным дахам з трохвугольным франтонам з боку галоўнага паўднёвага фасада. Сцены расчлянёны пілястрамі і апяразаны зверху фрызам з трыгліфамі. Над франтонам узведзена квадратная ў плане драўляная вежа. Інтэр'ер зальны. Сцены гладка атынкаваны.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

**в. Іст, Язненскі сельсавет**

**1680. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Калінавая, Язненскі сельсавет**

**1681. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма ўключае двух'ярусную шатровую званіцу, нізкі бабінец, квадратны



1679. *Царква.*



1679. *Царква. План.*

ў плане асноўны аб'ём, пяціграпную апсіду з невялікім гранёным прыдзелам. Вертыкальнымі дамінантамі збудавання з'яўляюцца званіца, завершаная макаўкай, і цыбулепадобны купал на васьміграпным барабане над пакатым чатырохсхільным дахам асноўнага аб'ёму. Фасады дэкарыраваны зубчастымі фрызамі, лапаткамі, кілепадобнымі ліштвамі арачных акон. У інтэр'еры трох'ярусны іканастас эклектычнай трактоўкі.

Царква — помнік культавага дойлідства псеўдарускага стылю.

*А. М. Кулагін.*

**в. Камянполле, Перабродскі сельсавет**

**1682. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам праўлення калгаса «Праўда», у скверы. На ўшанаванне памяці 29 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.



1681. *Мікалаеўская царква. Галоўны фасад.*



1681. *Мікалаеўская царква. Бакавы фасад.*

**1683. СЯДЗІБА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Сфарміравана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Сядзіба ўключае дом, гаспадарчыя будынкі, парк.

Галоўнай воссю сядзібнага комплексу з'яўляецца пад'язная дарога, у канцы якой разбіты парк. Яго зялёны масіў абмяжоўваюць 2 каналы: знешні П-падобны і ўнутраны прамавугольны. У 1873 г. ў паўднёвай частцы парку пабудаваны цагляны сядзібны дом — аднапавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з павышанай цэнтральнай часткай. Галоўны ўваход вылучаны ганкам з навіссю на шасці слупах. Планіроўка калідорнага тыпу. У доме захаваліся 2 кафельныя грубкі 19 ст.

Абапал пад'язной дарогі стаяць гаспадарчыя пабудовы пачатку 20 ст. Сярод іх вылучаецца будынак стайні (1907 г.). Кампазіцыя яго галоўнага фасада сіметрычная, трохчасткавая. Праезд па цэнтральнай восі будынка і бакавыя часткі галоўнага фасада аформлены шчытамі. У гаспадарчай зоне сядзібы — драўляная лядоўня (1873 г.) і кузня (1907 г.). Лядоўня — кампактны квадратны ў плане двух'ярусны будынак. Верхні ярус вертыкальна ашаляваны і аддзелены ад ніжняга карнізам. Дах чатырохсхільны, з заломам.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Касабукі, Туркоўскі сельсавет**

**1684. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі. Памер 50×30 м. Выявіла ў 1981 г. А. У. Ілюцік. Культурны пласт ў шурфе 0,2—0,3 м. Вал і роў не прасочаны. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Катавічы, Язненскі сельсавет**

**1685. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка пошты. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кублішчына, Новапагосцкі сельсавет**

**1686. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа ад шашы Міёры — Новы Пагост, у лесе. 62 насыпы авальнай ці круглай формы. Каля асобных насыпаў прасочваюцца раўкі. Вышыня курганоў 0,3—1,4 м, дыяметр 3—17 м. Частка насыпаў пашкоджана. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1973 г. А. Р. Мітрафанаў. У 1977, 1978, 1980 гг. Л. У. Дучыц раскапала 22 курганы. Пахавальны абрад — трупапаленне ў ямах і трупапалажэнне на мацерыку. Пахавальны інвентар: наканечнік кап'я, калачападобнае крэсіва, нож, 3 вітыя бранзалеты з завязанымі



1683. *Сядзібны дом. План.*




1683. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2 — стайня; 9 — лядоўня; 10 — кузня; 11—12 — клеці; 3—8 — іншыя гаспадарчыя пабудовы.*



1683. *Алея парку.*



1683. *Сядзібны дом.*

канцамі, 3 лірападобныя спражкі, адзін бранзалет з расшыранымі канцамі, 2 бразготкі з крыжападобнай прорэзю, 5 спіральных пранізак, 2 паясныя кольцы (дыяметр 33 мм), 6 паўтараабаротных кольцаў. Знойдзены ляпная кераміка і 5 ганчарных пасудзін. Адна з іх упрыгожана арнаментам у выглядзе ліній і насечак, на днішчы другой — кляймо ў выглядзе 2 прасечаных ліній. Датуецца 10—12 стагоддзямі. Належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11; Дучиц Л. В. Курганная группа у д. Кублищино.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982.

*Л. У. Дучыц, А. Р. Мітрафанаў.*

**1687. ТРОЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Прамавугольны аднazрубны будынак накрыты двухсхільным дахам. З боку галоўнага фасада двух'ярусная (васьмярык на чацверыку) званіца, завершаная макаўкай. Галоўны ўваход вылучаны ганкам. Фасады ашаляваны, на бакавых сценах лучковыя вокны з ліштвамі і аканіцамі. Перакрыцце драўлянае на падугах. Пры ўваходзе размешчаны хоры.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.



1692. *Мемарыяльная калона.*

**в. Кухцінцы, Завуццеўскі сельсавет**

**1688. РАДЗІМА МЯТЛЫ** Пятра Васілевіча (гіст.).

Дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі П. В. Мятла нарадзіўся ў 1890 г. ў сялянскай сям'і. Член КПЗБ з 1926 г. У 1912 г. скончыў педагагічныя курсы. З 1914 г. служыў у арміі. У 1917—21 гг. працаваў настаўнікам на радзіме. У 1922 г. выбраны дэпутатам польскага сейма, уваходзіў у левае рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло Беларускага пасольскага клуба — нацыянальнай фракцыі паслоў (дэпутатаў) Заходняй Беларусі ў польскім сейме (1922—28 гг.). У ліпені 1925 г. П. В. Мятла разам з дэпутатамі польскага сейма ад Заходняй Беларусі Б. А. Тарашкевічам, С. А. Рак-Міхайлоўскім, П. П. Валошыным выйшаў з Беларускага пасольскага клуба, які займаў хісцкія пазіцыі ў адносінах да ўрада буржуазнай Польшчы. Адзін з заснавальнікаў Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ), член яе ЦК, выдавец друкаваных органаў «Беларуская ніва» і «Беларуская справа». Пасля разгрому БСРГ (1927 г.) арыштаваны і засуджаны ў 1928 г. па «працэсу 56-і» на 12 гадоў турэмнага зняволення. У выніку абмену палітвязнямі з 1930 г. ў СССР. Жыў у Мінску, працаваў у ВСНГ БССР, у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР. Аўтар прац па гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, у т. л. «Аб таварыстве беларускай школы і яго барацьбе» (1932 г.).

П. В. Мятла памёр 28.8.1936 г.

*Літ.:* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966.

*Г. Б. Ваткові́ч.*

**1689. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўзгорку ў пойме Заходняй Дзвіны. Абследавалі ў 1956 г. Я. Г. Краскоўская, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,2—0,3 м прасочваецца на плошчы 0,5 га. Знойдзена кераміка, якая адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі), і ганчарная кераміка 10—12 стагоддзяў. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Лунаўшчына, Павяцкі сельсавет**

**1690. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,6 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лявонпаль, Даўгінаўскі сельсавет**

**1691. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 55 воінаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1692. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ КАЛОНА** (гіст.). За 0,8 км ад вёскі, па дарозе на Верхнядзвінск. Устаноўлена ў канцы 18 ст. ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 г.— асноўнага закона Рэчы Паспалітай. Гл. таксама артыкул № 1114 «Мемарыяльная калона» (Глыбоцкі р-н).

**1693. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе Заходняй Дзвіны. Створана ў 2-й палавіне 18 — пачатку 19 ст. Сядзіба ўключае дом, пейзажны парк, гаспадарчыя будынкі. З заходняга і паўднёвага бакоў сядзібны ўчастак агінае канал. Цэнтральнае месца ў кампазіцыі комплексу займае сядзібны дом. На галоўнай планіровачнай восі была цэнтральная ўязная брама, пабудаваная ў пачатку 19 ст. ў стылі класіцызму (не збераглася). Абапал курданёра сіметрычна размяшчаліся 2 аднапавярховыя флігелі. З паўднёва-заходняга боку ад дома захаваліся мураваныя гаспадарчыя будынкі. Пейзажны парк разбіты за палацам на 2 тэрасах.

Сядзібны дом пабудаваны ў 1750 г. з цэглы ў стылі барока. У 1831 г. часткова разбураны, у 1898—1901 гг. адноўлены ў першапачатковым выглядзе. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя дома сіметрычна-восевая, трохчасткавая. Цэнтральны двухпавярховы аб'ём завершаны фігурным франтонам, бакавыя рызаліты галоўнага і дваровага фасадаў — трохвугольнымі франтонамі з авальнымі люкарнамі. Будынак мае масіўны цокальны




1693. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2 — флігель з кухняй; 3—6 — брамы; 7 — сучасная пабудова.*

паверх з лучковымі праёмамі. Да галоўнага ўвахода вядзе шырокая двухбаковая лесвіца з тэрасай. Цэнтральны і бакавыя рызаліты дэкарыраваны пілястрамі. Аконныя праёмы фасадаў прамавугольныя з прафіляванымі ліштвамі. Партал галоўнага ўвахода ўпрыгожаны канеліраванымі пілястрамі і балконам з ажурнай агароджай (не захаваўся). У 1919 г. анфіладная сістэма планіроўкі дома заменена калідорнай. Да перабудовы 1-ы паверх цэнтральнага аб'ёму займалі прасторны вестыбюль і квадратная ў плане парадная зала, на 2-м размяшчаліся жылыя пакоі.

Сядзіба — помнік архітэктуры барока.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981; Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem.— Wilno, 1932; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu.— Wilno, 1938—39.

*У. В. Алісейчык, А. М. Кулагін.*



1693. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

**1694. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1774 г. з дрэва (спачатку была двухвежавая). З паўднёвага боку ад ўвахода пастаўлена двух'ярусная званіца (ніжні ярус зрубны, верхні каркасны).

Кампазіцыя царквы двухчасткавая: асноўны прамавугольны ў плане аб'ём і пяцігранная апсіда з бакавымі прыбудоўкамі. Двухсхільны дах асноўнага аб'ёму і шматгранны над апсідай амаль аднолькавай вышыні, аб'яднаны агульным карнізам. Галоўны (заходні) фасад завершаны франтонам. Унутры асноўнага аб'ёму вылучаны невялікі бабінец з хорамі над ім. Сцены царквы брусчатыя, звонку вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, унутры — гарызантальна.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 5.— Warszawa, 1884. *У. В. Алісейчык.*

**в. Лясная, Новапагосцкі сельсавет**

**1695. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе на беразе воз. Важа. 30 насыпаў, большасць дыяметрам 5—6 м, вышынёй 0,5—0,6 м. 5 курганоў дыяметрам 10 м, вышынёй 0,7—1 м. Абследавалі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. А. У. Ілюцік. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Манякова, Завуццеўскі сельсавет**

**1696. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 42 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Масеўцы, Якубаўшчынскі сельсавет**

**1697. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 51 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Махіроўка, Новапагосцкі сельсавет**

**1698. МАГІЛА ЧАРКАСА** Міхаіла (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі М. Чаркас загінуў у 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1694. *Троіцкая царква.*



1694. *Троіцкая царква. Від з боку апсіды.*



1693. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



1694. *Троіцкая царква. План.*

**в. Мётлы, Завуццеўскі сельсавет**

**1699. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 52 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Мікалаева, цэнтр сельсавета**

**1700. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2,5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1701. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Наўгароды, Новапагосцкі сельсавет**

**1702. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ніўнікі, Перабродскі сельсавет**

**1703. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Вежа-званіца (васьмярык на чацверыку) з шатровым дахам. Над алтарнай часткай цыбулепадобная галоўка. Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**в. Новы Пагост, цэнтр сельсавета**

**1704. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 98 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1703. *Царква.*

**1705. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю і цэглы.

Збудаванне мае традыцыйную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю: трох'ярусная шатровая званіца, нізкі бабінец, квадратны ў плане асноўны аб'ём, паўцыркульная апсіда. Пакаты чатырохсхільны дах цэнтральнага аб'ёму завершаны цыбулепадобным купалам на васьміграннымы светлавым барабане. У дэкоры фасадаў выкарыстаны формы старажытнарускага дойлідства: кілепадобныя ліштвы, аркатура, паўкалонкі і інш. Памяшканні царквы перакрыты скляпеннямі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Павяцце, цэнтр сельсавета**

**1706. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 55 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Паддубнікі, Язненскі сельсавет**

**1707. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі. Займае выступ высокага (да 10—12 м ад асновы) і крутога мыса. З захаду абмежавана поймай р. Авута, з усходу — глыбокім ровам, на дне якога цячэ ручай Сквірэя. Авальная пляцоўка памерам 58×28 м мае невялікі нахіл на поўнач. З паўднёвага боку ўмацавана 5 валамі і 4 равамі (валы насыпаны ў позні перыяд існавання гарадзішча). Вышыня валоў 1,5—2,5 м. Глыбіня равоў 1,8—2 м. Даследавалі ў 1938 г. У. Галубовіч і А. Цэгак-Галубовіч, у 1956 і 1961 гг. А. Р. Мітрафанаў. Ускрыта 528 м² плошчы. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,4 м, каля заходняга краю 0,6—0,75 м. Выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі, некалькі гаспадарчых ям і рэшткі каменных агнішчаў. Знойдзены касцяныя вырабы (прылады для пляцення сетак, нажы, праколкі, шпількі, наканечнікі дроцікаў і стрэл, загатоўкі нажоў і стрэл), косці свойскіх і дзікіх жывёл. Вырабаў з жалеза мала, яны ляжалі ў верхнім пласце (серп, сякера, шыла, абломкі нажоў). Адсутнасць шлакаў сведчыць аб тым, што здабыча і апрацоўка жалеза ўзнікла прыкладна ў 2—1 стагоддзях да н. э., як і ляднае земляробства. Гарадзішча датуецца 6—1 стагоддзямі да н. э., адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Пад'ельцы, Дварнасельскі сельсавет**

**1708. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Парыжская камуна». На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**хутар Панізова, Туркоўскі сельсавет**

**1709. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Альтанская Гара. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад хутара, за 0,3 км ад левага берага Заходняй Дзвіны. На ўзгорку вышынёй да 10 м. Пляцоўка памерам 40×30 м. Умацавана 3 валамі і ровам. Унутраны вал вышынёй да 0,7 м, шырынёй 4,5 м насыпаны на краі пляцоўкі — з паўночнага, заходняга, паўночна-заходняга і паўднёва-заходняга бакоў. 2 валы вышынёй 0,3—3 м, шырынёй 1,5—6 м насыпаны на схіле, на 3,5—4 м ніжэй за край пляцоўкі. Глыбіня рова 0,2—1 м, шырыня 1—3 м. Абследавалі ў 1956 г. Я. Г. Краскоўская, у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. А. У. Ілюцік. Культурны пласт 0,4—1,5 м, прасочваецца па ўсёй пляцоўцы. Знойдзена кераміка. Гарадзішча адносіцца да позняга этапа днепра-дзвінскай культуры, датуецца 3—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Пашулі, Завуццеўскі сельсавет**

**1710. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. Ф. Гастэлы. На ўшанаванне памяці 12 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1711. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. Ф. Гастэлы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1976 г.

**в. Паташня 1-я, Даўгінаўскі сельсавет**

**1712. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля могілак. На ўшанаванне памяці



1705. *Мікалаеўская царква.*

19 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пераброддзе, цэнтр сельсавета**

**1713. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Кастрычніцкая рэвалюцыя». На ўшанаванне памяці 44 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пруднікі, Павяцкі сельсавет**

**1714. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1714а.** Гарадзішча. За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Вята (левы прыток Заходняй Дзвіны). Пляцоўка памерам 118×65 м з паўднёвага боку ўмацавана валам вышынёй 4,2 м, шырынёй каля асновы 20 м. Захаванасць добрая, пляцоўка і схілы здзірванелыя. Выявілі ў 1936 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1956 г. Я. Г. Краскоўская, у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі праводзіў у 1977 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт 3—3,2 м, прасочаны на ўсёй пляцоўцы. У раскопе плошчай 54 м² выяўлены 2 культурныя гарызонты. У ніжнім знойдзены ляпная паліваная кераміка, блізкая да керамікі паселішчаў Прыбалтыкі, гліняныя прасліцы, касцяны грэбень, скроневае кольца, двухшыпныя наканечнікі стрэл, абломкі тыгляў, у верхнім — усходнеславянская ганчарная кераміка, жалезнае крэсіва, шыферныя прасліцы, дэкаратыўная кераміка-кафля 16—17 стагоддзяў.

У 2—10 стагоддзях — умацаванае паселішча патрыярхальнай абшчыны, у 11—17 стагоддзях — феадальная сядзіба.

**1714б.** Селішча. За 50 м на паўднёвы ўсход ад гарадзішча. Займае пакатае ўзвышша, якое непасрэдна прымыкае да р. Вята. Выявіў у 1974 г. і даследаваў у 1978—80 гг. на плошчы 560 м² А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,8—1 м. Выяўлены рэшткі жытлаў зрубнай канструкцыі і печаў-каменак, ямы-паграбы. Знойдзены абломкі ляпнога шурпатага гліпянага посуду, жалезныя сярпы, нажы, шылы, наканечнік кап'я, крэсіва, бронзавая бразготка, падкованадобная фібула, умбонападобныя бляшкі, трапецападобная падвеска, кольца, гліняные прасліца, тыглі, льячкі для плаўкі каляровых металаў, грузілы, касцяныя шпількі, праколкі, каменныя таўкачы, тачыльныя брускі, падвескі-амулеты з іклаў мядзведзя, ваўка, дзіка, касцяная фігурка качкі, мініяцюрны грэбень, арабскі дырхем. Датуецца 2—10 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Р. Мітрафанаў, В. І. Шадыра.*

**в. Сабалеўшчына, Новапагосцкі сельсавет**

**1715. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Займае ўзгорак (вышыня 5—7 м ад асновы), схілы якога даволі крутыя, месцамі не менш за 35—40°. Пляцоўка круглая, дыяметрам 45 м. З поўдня, усходу і поўначы да гарадзішча прымыкае забалочаны луг. Абследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1973 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт не менш за 0,5 м, прасочваецца па ўсёй пляцоўцы. У ім (на адкрытых мясцінах) знойдзены абломкі ляпной керамікі, абпаленыя камяні.

Гарадзішча адносіцца да позняга этапа днепра-дзвінскай культуры, датуецца 3—4 стагоддзямі н. э.



1714. *Гарадзішча.*



1719. *Помнік землякам.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Сіцькава 2-е, Мікалаеўскі сельсавет**

**1716. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Шлях да камунізму», у скверы. На ўшанаванне памяці 15 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Слабада, Даўгінаўскі сельсавет**

**1717. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Непадалёку ад клуба. На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Снегі, Новапагосцкі сельсавет**

**1718. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, на беразе безназоўнага возера. 12 насыпаў вышынёй 0,4—0,9 м, дыяметрам 4,1—10,3 м. Выявіла ў 1981 г. А. У. Ілюцік. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Старыя Крукі, Якубаўшчынскі сельсавет**

**1719. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка бібліятэкі, у скверы. На ўшанаванне памяці 64 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Субачава, Язненскі сельсавет**

**1720. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1720а.** Гарадзішча-1. Мясцовая назва Чорная Гара. На ўсходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка памерам

55×49 м, у цэнтры некалькі выпуклая. Абследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1949 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены гладкасценная кераміка днепра-дзвінскай культуры (3—4 стагоддзі), косці жывёл, абпаленыя камяні і шлакі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1720б.** Гарадзішча-2. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пляцоўка памерам 30×40 м, з усходняга боку абмежавана ярам, з астатніх умацавана 3 валамі вышынёй 2 м і равамі глыбінёй 1 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. А. У. Ілюцік. Раскопкі не праводзіліся.

*А. У. Ілюцік, А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Сцяфанполле, Мікалаеўскі сельсавет**

**1721. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Дзісна. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва, перабудавана ў пачатку 20 ст.

Да асноўнага аб'ёму з чацверыковым барабанам далучаны званіца і пяцігранная апсіда. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуе двух'ярусная званіца з шатровым верхам. Фасады расчлянёны вертыкальнымі сцяжкамі і высокімі прамавугольнымі вокнамі з ліштвамі. Унутраная прастора падзелена іканастасам на алтарную і зальную часткі, асвятляецца вокнамі светлавога барабана.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*

**в. Туркова, цэнтр сельсавета**

**1722. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



**1721.** *Пакроўская царква.*




**1722.** *Помнік землякам.*

**в. Узмёны, цэнтр сельсавета**

**1723. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1724. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя чатырохчасткавая: шатровая званіца (васьмярык на чацверыку), нізкі бабінец, кубападобны асноўны аб'ём з чатырохсхільным дахам, пяцігранная апсіда з прыдзелам. Элементы архітэктурнага дэкору (аркатура, лапаткі, ліштвы) выкананы цаглянай муроўкай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1725. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя С. М. Кірава. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1726. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля клуба. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1973 г.

**в. Цвеціна, Завуццеўскі сельсавет**

**1727. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1864—67 гг. з цэглы. Мае трохчасткавую кампазіцыю: двух'ярусная шатровая званіца, прамавугольны ў плане двух'ярусны з шатровым дахам асноўны аб'ём і трохгранная апсіда. Фасады дэкарыраваны паўкалонамі, антаблементам з сухарыкамі, броўкамі над арачнымі аконнымі праёмамі. Званіца і дах асноўнага аб'ёму завершаны макаўкамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1728. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чапукі 2-я, Новапагосцкі сельсавет**

**1729. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Кастрычнік». На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Чарасы, Якубаўшчынскі сельсавет**

**1730. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Шмат'ярусная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з шатровай званіцы, бабінца, асноўнага кубападобнага аб'ёму, пяціграннай апсіды з бакавымі прыдзеламі. Асноўны аб'ём завершаны цыбулепадобным купалам на васьмігранным барабане. У дэкаратыўнай



**1724.** *Мікалаеўская царква.*



1727. *Крыжаўзвіжанская царква.*

апрацоўцы фасадаў выкарыстаны формы старажытнарускага культавага дойлідства — какошнікі, кілепадобныя аркі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Шарагі, Язненскі сельсавет**

**1731. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, за безназоўным ручаём, на паўднёвым беразе невялікага вадасховішча. Пляцоўка амаль круглая, памерам 53×50 м, паўднёва-ўсходні схіл круты і высокі (да 10—12 м ад асновы), астатнія — спадзістыя. У паўднёвай і ўсходняй частках пляцоўкі — тэраса шырынёй 5—6 м. Абследавалі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. А. У. Ілюцік. Культурны пласт 0,5—0,7 м, на тэрасе 0,3—0,4 м. Знойдзены рэшткі гладкасценнага посуду (не пазней як 3—4 стагоддзі) днепра-дзвінскай культуры.



1730. *Мікалаеўская царква.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**1732. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «1 Мая». На ўшанаванне памяці 58 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Язна, цэнтр сельсавета**

**1733. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на беразе воз. Язна Малое. Займае узвышаную частку доўгага ўзгорка, абмежаванага з усходняга боку вялікім ровам, з заходняга — поймай ручая. Пляцоўка авальная, памерам 90×42 м. З паўднёвага, паўночна-ўсходняга і паўночна-заходняга бакоў умацавана валам і ровам, якія цяпер маюць выгляд тэрасы. Вядома з 1890-х гадоў, у 1930-я гады абследавалі А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. У 1955 г. і 1961 г. раскопкі праводзіў А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. абследавала А. У. Ілюцік. Ускрыта 428 м² плошчы. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,1—0,15 м, па краях 1—1,2 м. Выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі і круглае ў плане глінабітнае збудаванне (хутчэй за ўсё кавальскі горан) дыяметрам 1,1 м, у цэнтры якога — запоўненая пяском круглая яма дыяметрам 0,12 м, глыбінёй 0,15 м. Сценкі яе загартаваны на таўшчыню да 0,15 м. Вакол горна знойдзены крыцы, шлакі, шмат акаліны. За 1 м на ўсход ад горна была чатырохвугольная гаспадарчая яма з касцямі свойскіх і дзікіх жывёл.

Знойдзены жалезныя сярпы, шылы, наканечнікі дроціка, бронзавыя спіралькі, абломкі бранзалетаў, касцяныя шпількі, каменныя таўкачы, кераміка днепра-дзвінскай культуры, а таксама бронзавыя трапецападобныя падвескі, 2 кавалкі бронзавых ланцужкоў, прычэпленых да акулярападобнай падвескі, падковападобная фібула, жалезныя наканечнікі стрэл з шыпамі. Гарадзішча адносіцца да позняга этапа днепра-дзвінскай культуры (1—4 стагоддзі н. э.) і да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1734. МАГІЛА СТАКАНАВА** Віктара Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Гвардыі старшына Чырвонай Арміі В. А. Стаканаў загінуў у 1944 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1735. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Язна». На ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў Вялікую



1733. *Бронзавая падвеска з раскопак гарадзішча.*

Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1736. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы. Храм чатырохчасткавы. Кампазіцыя будынка складаецца з шатровай званіцы, бабінца, асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды з бакавымі прыдзеламі. Асноўны крыжападобны ў плане аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам, які завершаны цыбулепадобным купалам. Узбуйненыя элементы архітэктурнага дэкору (карнізы, фрыз, ліштвы, лапаткі) ствараюць насычаную пластыку экстэр'еру пабудовы.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.



1736. *Праабражэнская царква.*




# ПАСТАЎСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XVIII. ПАСТАВЫ

Горад, цэнтр раёна, на р. Мядзелка, за 250 км на захад ад Віцебска. Чыгуначная станцыя на лініі Віцебск — Вільнюс. Вузел аўтамабільных дарог. Аэрапорт.

Вядомы з 1522 г. як прыватнае мястэчка Ашмянскага павета Віленскага ваяводства. Належалі магнатам Дэспатам-Зяновічам. У 2-й палавіне 18 ст. мястэчка перайшло да магната Вялікага княства Літоўскага А. Тызенгаўза. У 1775 г. адкрыта свецкая школа з сярэдняй ступенню навучання, з Мядзела пераведзены гродскі суд. З 1791 г. Паставы — цэнтр Завілейскага павета Віленскага ваяводства, мелі свой герб: на блакітным полі шчыта рыбалоўная сетка і 3 залатыя рыбіны. З 1793 г. ў складзе Расійскай імперыі, спачатку горад, пасля мястэчка, цэнтр воласці Дзісенскага павета Мінскай, з 1842 г.— Віленскай губерняў. На пачатак 1870-х гадоў у Паставах 111 двароў, школа, 2 млыны, валюшня, штогод праводзілася 7 кірмашоў. Паводле перапісу 1897 г. было 2397 жыхароў. У канцы 19 ст. праз мястэчка пракладзена чыгуначная лінія Крулеўшчына — Пабродздзе.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З лютага да 16.12. 1918 г. Паставы акупіраваны нямецкімі, потым польскімі войскамі; вызвалены 8.7.1920 г. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. адышлі да буржуазнай Польшчы, павятовы горад Віленскага ваяводства. Пасля ўз'яднання ў 1939 г. Заходняй Беларусі з БССР Паставы — раённы цэнтр (з 1940 г.) Вілейскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны нямецкафашысцкімі захопнікамі; на тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (17.10.1943 г.— 4.7. 1944 г.) і ЛКСМБ (24.12.1942 г.— 4.7. 1944 г.). З 20.9.1944 г. ў складзе Маладзечанскай, з 20.1.1960 г.— Віцебскай вобл.

Забудова Паставаў развівалася абапал р. Мядзелка, якая ў межах горада ўтварае 2 вадаёмы. Да сярэдзіны 16 ст.— невялікае паселішча на скрыжаванні гандлёвых дарог. Цэнтрам Паставаў была рыначная плошча, у планіроўцы якой удзельнічаў італьянскі архітэктар Дж. Сака. У 1760—80-я гады пабудаваны 3 фабрыкі (паясоў, паперы і вырабаў з палатна), палац, на рыначнай плошчы — крамы, дамы рамеснікаў, грамадскія будынкі. Мураваныя будынкі, вырашаныя ў стылі барока, стваралі сярод хаатычнай забудовы горада самастойны суцэльны архітэктурны ансамбль. Ад кожнага вугла плошчы адыходзілі асноўныя транспартныя артэрыі горада — вуліцы Браслаўская, Зарэчная, Задзеўская, Віленская. У 19 — 1-й трэці 20 ст. будаўніцтва вялося марудна. Мураваныя дамы ставіліся пераважна ў цэнтральнай частцы, перарабляліся будынкі 18 ст., на прылеглых да плошчы вуліцах паявіліся жылыя дамы з крамамі. Найбольш цікавыя будынкі 2-й палавіны 19 ст.: вадзяны млын, касцёл на беразе р. Мядзелка і 2 мураваныя дамы. У дэкоры іх фасадаў выкарыстаны элементы псеўдаготыкі. У 1894 г. на плошчы пабудавана мураваная царква ў псеўдарускім стылі. У горадзе захаваліся планіроўка і характар забудовы цэнтральнай часткі, тыповыя для невялікіх прыватна ўласніцкіх мястэчак 17—18 стагоддзяў. Пераважаюць аднапавярховыя дамы сядзібнага тыпу.

Першы генеральны план забудовы Паставаў, распрацаваны ў 1962 г. ў інстытуце «Белдзяржпраект», прадугледжваў упарадкаванае размяшчэнне жылой забудовы ў цэнтральнай і паўднёва-заходняй частках горада, канцэнтрацыю прамысловасці ва ўсходняй частцы. Новы генеральны план забудовы распрацаваны ў 1976 г. ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва. На пл. Леніна размешчаны асноўныя будынкі адміністрацыйнага, культурнага, гандлёвага і бытавога прызначэння (райком КПБ, райвыканком, Дом культуры, кінатэатр, краязнаўчы музей, універмаг і інш.). На месцы былых гандлёвых радоў зроблены сквер.

У горадзе працуюць заводы сухога абястлушчанага малака, па вытворчасці камплектаў вучэбнага абсталявання па чарчэнню і рысаванню, ільназавод, хлебакамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі, райсельгасхіміі, лясгас. У Паставах 3 сярэднія (у т. л. школа-інтэрнат), 2 васьмігадовыя, музычная, дзіцячаюнацкая спартыўная, рабочай моладзі школы, прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 7 дашкольных устаноў, раённы Дом піянераў і школьнікаў, 2 Дамы культуры (пры раённым Доме культуры дзейнічае народны тэатр), 6 клубаў, 4 бібліятэкі, кінатэатр, краязнаўчы музей, 2 бальніцы, паліклініка. Выдаецца раённая газета «Звязда». Помнікі: У. І. Леніну; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Айчынную вайну.

Зоны адпачынку — гарадскі парк, азёры, берагі р. Мядзелка.

*Літ.:* Семенов-Тян-Шанский П. П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 4.— СПб., 1873; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920: Сб. документов и материалов. Т. 1.— Мн., 1968; Хрестоматия по истории БССР 1917—1971.— Мн., 1972; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Квитницкая Е. Д. Строительство Тызенгауза в Поставах.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1961, сб. 13; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *С. Ф. Цярохін, С. Г. Багласаў.*

**1737. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На пл. Леніна, у скверы. Пахаваны гвардыі генерал-маёр Ігнат Вікенцьевіч Кляро і гвардыі палкоўнік Дзмітрый Васілевіч Харальскі.

І. В. Кляро нарадзіўся 30.12. 1896 г. ў Віцебску ў рабочай сям'і. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе (1934 г.). З лістапада 1917 г. ў Чырвонай гвардыі, з мая 1918 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Камандзір узвода, роты, начальнік палкавой школы, камандзір батальёна, памочнік камандзіра палка, выкладчык ваенных акадэмій і курсаў «Выстрал». У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, Калінінскім, Бранскім, Цэнтральным і 1-м Прыбалтыйскім франтах, начальнік штаба дывізіі, аператыўнага аддзела арміі, намеснік камандзіра, камандзір дывізіі, намеснік камандзіра 13-га гвардзейскага стралковага корпуса. Удзельнік вызвалення Беларусі. Генерал-маёр (1943 г.). Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга і ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені. Загінуў у баі 13.7.1944 г.

Дз. В. Харальскі нарадзіўся ў 1907 г. Член КПСС. Скончыў Сумскае артылерыйскае вучылішча (1938 г.). У Вялікую Айчынную вайну гвардыі палкоўнік, намеснік камандзіра, начальнік артылерыі 145-й стралковай дывізіі. Удзельнік вызвалення Беларусі. Загінуў у баі 22.7.1944 г.



**1737.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1738. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.
*Г. І. Дулеба.*

**1738. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Чырвонаармейскай. Пахаваны 333 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — байцы 145-й стралковай дывізіі, што аддалі сваё жыццё за Радзіму пры вызваленні г. Паставы і Пастаўскага р-на ў ліпені 1944 г., Герой Савецкага Саюза Васіль Паўлавіч Кірычук.

В. П. Кірычук нарадзіўся 16.1. 1924 г. ў с. Славатычы Ківерцаўскага р-на Валынскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з сакавіка 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з сакавіка 1944 г. Вызначыўся 25.6.1944 г. на тэрыторыі Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл. Наводчык процітанкавага ружжа радавы В. П. Кірычук адзін з першых пераправіўся цераз Заходнюю Дзвіну, агнём прыкрываў пераправу роты. Пры вызваленні Паставаў быў цяжка паранены. Памёр ад ран 13.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — на пастаменце скульптура воіна з прыспушчаным сцягам.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба.*



1739. *Вадзяны млын.*



1739. *Вадзяны млын. План 1-га паверха.*

**1739. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). У цэнтры горада, каля моста цераз р. Мядзелка. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы, прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. У цэнтры галоўнага фасада буйны рызаліт. Галоўны ўваход вырашаны цыркульным арачным праёмам з 2 кароткімі калонамі. Масіўныя сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі вокнамі, крапаваны прафіляванымі міжпавярховымі паясамі і карнізам. На 1-м паверсе размешчаны турбіна і шматступеньчатая трансмісія, на 2-м — жорны, на 3-м — дапаможныя памяшканні.

Млын — помнік прамысловай архітэктуры з рысамі позняга класіцызму.
*А. М. Кулагін.*

**1740. ЗАБУДОВА ПЛОШЧЫ ЛЕНІНА** (архіт.). На беразе р. Мядзелка, на высокім узгорку. Гістарычны цэнтр горада. Забудова спачатку была драўляная, хаатычная. У 1760—80-я гады з удзелам італьянскага архітэктара Дж. Сака пабудаваны гандлёвыя рады, 9 дамоў рамеснікаў, будынак канцылярыі і суда, кафэ, аўстэрыя, 3 гасцініцы, школа, дом урача. Ад старой забудовы ў кампазіцыю ўвайшлі 2 драўляныя храмы пачатку 18 ст. На плошчы (у плане 295×93 м) сфарміраваўся цэласны архітэктурны ансамбль, вырашаны ў стылі барока.

Цэнтральнае месца займалі гандлёвыя рады (не збераглістя). У сілуэце забудовы вылучаліся будынкі грамадскага прызначэння. На заходнім баку плошчы стаяў двухпавярховы будынак канцылярыі і суда. Абапал яго сіметрычна размяшчаліся 6 дамоў рамеснікаў. Іх фланкіравалі дом урача і гасцініца. На ўсходнім баку быў двухпавярховы з вежай будынак школы, абапал якога стаялі драўляныя храмы. На паўднёвым баку цэнтральнае месца займалі кафэ і 2 аднатыповыя гасцініцы. На паўночным баку знаходзіліся аўстэрыя і 3 дамы рамеснікаў. Зберагліся 3 дамы рамеснікаў, дом урача, гасцініца, у якіх размешчаны адміністрацыйныя і гандлёвыя ўстановы.




1740. *Забудова плошчы Леніна. План (рэканструкцыя): 1 — гандлёвыя рады; 2 — касцёлы; 3 — школа; 4 — будынак канцылярыі і суда; 5 — кафэ; 6 — гасцініцы; 7 — аўстэрыя; 8 — дом урача; 9 — дамы рамеснікаў.*

Дом урача (№ 4). Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак пад высокім вальмавым чарапічным дахам. Галоўны фасад сіметрычны, крапаваны нішамі і філёнгамі. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны плоскімі ліштвамі з замковым каменем. У цэнтральнай част-



1740. *Дом урача.*



**1740.** *Дом № 15.*

цы — вестыбюль з лесвіцай, па баках — памяшканні з аднолькавымі пралётамі перакрыццяў. На 1-м паверсе знаходзіліся аптэка і лячэбніца, на 2-м — жылыя пакоі.

Дом рамесніка (№ 5). Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак з мансардай. Пдаціровачна складаецца з 2 функцыянальных зон: вытворчай (2 пакоі 1-га паверха) і жылой (астатнія памяшканні). Галоўны фасад атынкаваны, з сіметрычным размяшчэннем 3 акон 1-га паверха і аднаго мансардавага. Вуглавыя часткі дваровага фасада — цагляныя слупы, на якія апіраюцца асноўныя бэлькі перакрыццяў; сцены бакавога і тыльнага фасадаў з брусоў (цяпер перабудаваны). Дах двухсхільны з чарапіцы. Карніз падзяляе галоўны фасад на 2 ярусы. 1-ы раскрапаваны цягамі, яго аконныя праёмы абрамлены прамавугольнымі ліштвамі, 2-і мае фігурны франтон, расчлянёны філёнгамі.

Дом рамесніка (№ 9). Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з двухсхільным дахам. На галоўным фасадзе дах прыкрыты ўвагнута-выпуклым шчытом з акном мансарды ў цэнтры. Плоскасць шчыта крапавана філёнгамі і аддзелена ад паверха прафіляваным карнізам. 3 сіметрычна размешчаныя прамавугольныя акны ў простых ліштвах з філёнгамі. Дом раней меў планіроўку на 2 палавіны — вытворчую і жылую.

Гасцініца (№ 11). Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя дома ідэнтычная з домам урача. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак з высокім чарапічным дахам. Плоскасныя фасады крапаваны нішамі, філёнгамі, ліштвамі. Пачатковая планіроўка зменена.

Жылы дом (№ 13). Сфарміраваны ў выніку аб'яднання і рэканструкцыі ў 19 ст. 2 дамоў рамеснікаў. Галоўны фасад атрымаў складаную асіметрычную кампазіцыю з высокімі ступеньчатымі атыкамі, спрошчанай крапоўкай сцен, шатровай вежачкай над адным з прамавугольных акон.



**1740.** *Забудова плошчы Леніна. Дамы рамеснікаў.*



**1741.** *Касцёл.*

Дом рамесніка (№ 15). Аднапавярховы будынак пад двухсхільным дахам. Нізкі паверх на галоўным фасадзе завершаны фігурным шчытом з мансардавым акном у цэнтры. 4 прамавугольныя аконныя праёмы абрамлены нішамі.

Ансамбль — помнік горадабудаўніцтва ў стылі барока.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Строительство Тызенгауза в Поставах.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1961, сб. 13.
*С. Г. Багласаў.*

**1741. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтральнай частцы горада, на правым беразе р. Мядзелка. Пабудаваны ў 1880—87 гг. (арх. А. Гойбель) з цэглы.

Аднавежавы базілікальны храм з пяціграннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Асноўны аб'ём накрыты высокім двухсхільным чарапічным дахам, апсіда — гранёным. Вертыкальная дамінанта — шмат'ярусная шатровая вежа. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны контрфорсамі і стральчатымі праёмамі. На чырвоным фоне цаглянай муроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя і пабеленыя нішы, аркатура. Галоўны ўваход вырашаны 3 стральчатымі парталамі. Прастора інтэр'ера 6 гранёнымі слупамі расчлянёна на 3 высокія падоўжаныя нефы, перакрытыя нервюрнымі крыжовымі скляпеннямі.

Касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага стылю. *А. М. Кулагін.*

**1742. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Горкага.

У лютым 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты стварылі ў Паставах канцэнтрацыйны лагер для загубы мірных жыхароў. У ім у жахлівых умовах утрымлівалася каля 4 тыс. чалавек. У лістападзе 1942 г. гітлераўцы расстралялі вязняў каля загадзя выкапаных ям. У 1956 г. на месцы загубы і пахавання ахвяр фашызму ўстаноўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**1743. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ ГОРАДА** (гіст.). Вул. Савецкая, 63. Устаноўлена ў 1965 г.

У Вялікую Айчынную вайну Паставы з канца чэрвеня 1941 г. да 5.7. 1944 г. былі акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Вызвалены 145-й Віцебскай Чырванасцяжнай стралковай дывізіяй (камандзір генерал-маёр П. А. Дзіброва) 92-га стралковага корпуса 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1984.

**1744. МЕСЦА МІТЫНГУ ПРАЦОЎНЫХ** (гіст.). У 1926 г. КПЗБ і Беларуская сялянска-рабочая грамада правялі масавую кампанію за вызваленне палітычных зняволеных. У канцы верасня 1926 г. пад лозунгам «Свабоду палітвязням» адбыўся мітынг рабочых і сялян у Паставах. Прамоўцы заклікалі працоўных да арганізаваных выступленняў у абарону змагароў за справу народа. Пасля мітынгу сотні людзей з рэвалюцыйнымі песнямі накіраваліся да турмы. З калоны гучалі заклікі: «Далоў белы тэрор!», «Патрабуем поўнай амністыі!». З дапамогай дубінак і шабель паліцыя разагнала дэманстрацыю.

*Літ.:* Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962.

*Г. Б. Ватковіч.*

**1745. ПАЛАЦ ТЫЗЕНГАЎЗА** (архіт.). На вул. Савецкай, па левым беразе р. Мядзелка. Будаўніцтва палаца звязана з імем А. Тызенгаўза, падскарбія Вялікага княства Літоўскага, які ў 1760-я г. заснаваў у Паставах рэзідэнцыю. Паводле інвентару 1788 г. ў 2-й палавіне 18 ст. пастаўлены 2 бакавыя флігелі і закладзены фундамент палаца. Будаўніцтва завершана ў 1-й палове 19 ст. Цяпер у будынку размешчана медыцынская ўстанова.

П-падобны ў плане адпапавярховы будынак з двухсхільнымі дахамі. Цэнтр галоўнага паўночнага фасада вылучаны шасцікалонным тасканскім порцікам. Усходні фасад з глыбокімі бакавымі і цэнтральным рызалітамі завершаны дарычным антаблементам з трохвугольным франтонам. Уваходы ў будынак з паўночнага фасада па пандусе, з усходняга — з тэрасы. Фасады раскрапаваны лапаткамі, рустам, фрызам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі сандрыкамі і ляпнымі гірляндамі.

Планіроўка анфіладная. У паўночным крыле памяшканне круглаватага абрысу. У яго дэкоры выкарыстаны лепка (разетка плафона) і арнаментальны фрыз ў тэхніцы грызайль.

На ўсход ад палаца разбіты парк пейзажнага тыпу з сістэмай сажалак (плошча каля 10 га). Часткова збераглася алея, якая вяла ад палаца цераз Мядзелку да былога драўлянага сядзібнага дома. Агульнае з палацам архітэктурна-дэкаратыўнае вырашэнне мае і гаспадарчы корпус, размешчаны на адной з ім кампазіцыйнай восі.

Палац — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Строительство Тызенгауза в Поставах.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1961, сб. 13.

*А. М. Кулагін.*

**1746. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне горада, на паўночным беразе воз. Задзеўскае, на краі 1-й надпоймавай тэрасы. Даўжыня 50—70 м, шырыня каля 20 м. Адкрыў і даследаваў у 1980 г. Э. М. Зайкоўскі. Ускрыта 112 м² плошчы. Культурны пласт каля 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл, праколкі, кераміка нарвенскай і паўночнабеларускай культур і культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі. Адносіцца да эпохі



**1745.** *Палац Тызенгаўза. Галоўны ўваход.*




**1745.** *Схема планіроўкі сядзібы: 1 — палац, 2 — гаспадарчы корпус.*



**1745.** *Палац Тызенгаўза. План 1-га паверха.*



**1745.** *Палац Тызенгаўза. Агульны выгляд.*

позняга неаліту і ранняга бронзавага веку, датуецца канцом 3-га — пачаткам 2-га тысячагоддзяў да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**1747. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

**1748. ЦАРКВА** (архіт.). На цэнтральнай плошчы горада. Пабудавана ў 1894 г. з цэглы, атынкавана. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём храма выцягнуты па папярочнай восі. Да яго прымыкаюць закругленая апсіда, дадатковы аб'ём і бабінец з ганкам. Па баках апсіды і бабінца размешчаны дапаможныя памяшканні. Асноўны аб'ём завершаны традыцыйным пяціглавоем, бабінец — шатровай званіцай з галоўкай. У дэкоры фасадаў выкарыстаны какошнікі, арнаментальныя паяскі, ліштвы, паўцыркульныя нішы.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Агароднікі, Савіцкі сельсавет**

**1749. РАДЗІМА ДУБОЎКІ** Уладзіміра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік У. М. Дубоўка нарадзіўся 2.7.1900 г. З сялян. Пасля заканчэння Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыі (1918 г.) настаўнічаў на Тульшчыне. У 1920—21 гг. у Чырвонай Арміі. Скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Брусава (1924 г.). Адначасова з вучобай працаваў у Наркамаце асветы РСФСР, у пастпрэдстве БССР пры Урадзе СССР (1923—24 гг.). Лектар Камуністычнага універсітэта народаў Захаду (1924—27 гг.).



**1748.** *Царква.*



**1751.** *Помнік землякам.*

У 1922—25 гг. рэдактар беларускага тэксту «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР», у 1926—30 гг.— «Збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўрада Саюза ССР». Рэдагаваў часопіс «Беларускі піянер». Працаваў (1930—58 гг.) на Далёкім Усходзе, у Краснаярскім краі, у Грузіі.

Першы верш У. М. Дубоўкі надрукаваны ў 1921 г. Цэнтральнае месца ў творчасці паэта займалі тэмы Вялікага Кастрычніка, нараджэння сацыялістычнай явы, новага чалавека, які стаў гаспадаром роднай зямлі, уласнага лёсу. Вялікай любоўю да Радзімы, да жыцця прасякнута ўся літаратурная спадчына пісьменніка.

Выдадзены кнігі: «Строма» (1923 г.), «Трысцё» і «Там, дзе кіпарысы» (1925 г.), «Credo» (1926 г.), «Наля» (1927 г.), «І пурпуровых ветразей узвівы» (1929 г.), «Выбраныя творы» (1959 г.), «Палеская рапсодыя» (1961 г., Літаратурная прэмія імя Я. Купалы 1962 г.), «Выбраныя творы» ў 2 тамах (1965 г.). Уладзімір Дубоўка — аўтар кніг для дзяцей і юнацтва «Цудоўная знаходка» (1960 г.), «Як сінячок да сонца лётаў» (1961 г.), «Дзівосныя прыгоды» (1963 г.), «Кветкі — сонцавы дзеткі» (1963 г.), «Мілавіца» (1964 г.), «Жоўтая акацыя» (1967 г.), «Казкі» (1968 г.), «Ганна Алелька» (1969 г.), «Залатыя зярняты» (1975 г.), кнігі апавяданняў-успамінаў «Пялёсткі» (1973 г.). Перакладаў творы У. Шэкспіра, Дж. Г. Байрана, Ю. Славацкага, У. Сыракомлі і інш.

Памёр У. М. Дубоўка 20.3.1976 г. ў Маскве.

*Літ.:* Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка.— Мн., 1965; Лойка А., Пшыркоў Ю. Уладзімір Дубоўка.— Полымя, 1964, № 10; Дубоўка У. М. Мой жыццяпіс.— У кн.: Пяцьдзесят чатыры дарогі. Мн., 1963. *І. Ф. Кудравцаў.*

**в. Альцы (не існуе), Дунілавіцкі сельсавет**

**1750. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Альцы знаходзілася за 1,5 км на захад ад в. Малькавічы. 19.1.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 93 жыхароў і спалілі вёску (21 двор). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Андроны, Курапольскі сельсавет**

**1751. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Ленінскі шлях». На ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, партызан, побач пліта з імёнамі загінуўшых.

**1752. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Ленінскі шлях». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Апідамы, Палескі сельсавет**

**1753. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызан А. С. Рысеў, які загінуў у 1943 г. пры выкананні баявога задання, яго жонка Н. А. Рысева і сястра Ф. С. Рысева, закатаваныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1754. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане аднazрубны будынак накрыты двухсхільным дахам з галоўкай над алтарнай часткай. Невялікі бабінец завершаны гранёным купалам. Сцены ашаляваны гарызантальна. Вокны з лучковымі перамычкамі. Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.



**1754.** *Царква.*

**в. Асінагарадок, Казлоўшчынскі сельсавет**

**1755. БРАЦКАЯ МАГІЛА РУСКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны рускія воіны (колькасць не ўстаноўлена), якія загінулі ў баях з ворагам у Айчынную вайну 1812 г. У 1-й чвэрці 19 ст. на ўшанаванне памяці воінаў каля магілы пабудавана капліца.

**1756. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на ўзгорку. Пляцоўка памерам 130×70 м з крутымі паўднёвым і ўсходнім схіламі, заходні схіл пакаты, паўночны разбураны дарогай. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1972 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**1757. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёвай частцы вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Мае традыцыйную кампазіцыю: прамавугольны асноўны зруб, роўны з ім па шырыні бабінец, 5-гранная апсіда з прыбудовамі па баках і складаны шмат'ярусны дах з высокай шатровай вежачкай у цэнтры. Побач з царквой — званіца. Яе ніжні мураваны ярус вырашаны ў выглядзе магутнага пілона, верхні — скразны, драўляны, са складаным па кампазіцыі завяршэннем.

Царква і званіца — помнік драўлянага дойлідства з выкарыстаннем элементаў стылю «мадэрн».

**1758. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Кастрычнік». На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1971 г. пастаўлены абеліск.



1757. *Пакроўская царква. Званіца.*

**в. Балаі, Белькаўскі сельсавет**

**1759. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Бальшавік». На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**в. Белькі, цэнтр сельсавета**

**1760. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 8 землякоў з калгаса «Зара», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вайцяхі, Белькаўскі сельсавет**

**1761. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 3 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вайшкуны, Лынтупскі пасялковы Савет**

**1762. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Магілы (Гарэлы Бор). 21 круглы насып дыяметрам ад 6 да 10 м, вышынёй ад 0,3 да 1,5 м. Пераважаюць курганы дыяметрам 7—9 м і вышынёй 0,5—1,0 м. Больш высокія — у цэнтральнай частцы могільніка, больш нізкія — у заходняй. Вакол большасці насыпаў ёсць раўкі з перамычкамі. Абследавалі ў 1938—39 гг. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. У 1975 г. Я. Г. Звяруга раскапаў 9 курганоў ва ўсходняй і паўночнай частках могільніка. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены наканечнік кап'я падоўжана-яйцападобнай формы, сякера з шырокім лязом і абухом, тыльны бок якой мае мысападобны выступ, бронзавыя званочкі з крыжападобнай прорazзю і спіралькі, жалезныя шпілька з кольцападобнай рухомай галоўкай, шыла, глінянае прасліца, абломкі бронзавых бранзалетаў, шыйных грыўняў і іншых упрыгожанняў, разнастайныя па памерах і форме злiткі з бронзы, ганчарная кераміка. Могільнік належаў балцкім плямёнам, датуецца 9—11 стагоддзямі.



1757. *Пакроўская царква. План.*



1763. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. Зверуго Я. Г. Раскопки курганов в Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976. *Я. Г. Звяруга.*

**г. п. Варапаева, цэнтр пасялковага Савета**

**1763. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Ленінскай. Пахаваны 136 воінаў і 7 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з прыспушчаным сцягам.

**1764. ПАРК** (архіт.). Пры ўездзе ў пасёлак з поўдня, абапал шашы на Дунілавічы. Закладзены ў пачатку 20 ст. як сядзібны на аснове хваёвага масіву, выцягнутага ўздоўж абрывістага берага штучнага вадаёма. Плошча каля 10 га. Падзелены лагчынай на 2 участкі — паўночны і паўднёвы, якія злучаны мураваным аднаарачным мостам. Паўночная частка — малады хваёвы масіў. У паўднёвай быў палац (не збярогся), абкружаны курцінамі са старой хвоі. Галоўны фасад аформлены мураванай брамай з памяшканнем для вартаўніка. Другі ўезд (у паўднёва-заходняй частцы) у

выглядзе 2 пар пілонаў рознай вышыні, злучаных мураванымі сценамі.

Прыклад садова-паркавага мастацтва. *А. М. Кулагін.*

**1765. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Ленінскай. На ўшанаванне памяці 89 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1766. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**в. Васіліны 1-я, Курапольскі сельсавет**

**1767. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1768. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 46 землякоў з калгаса «Уперад», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ваўкі, цэнтр сельсавета**

**1769. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.



*1764. Парк. Схема планіроўкі: 1 — галоўная брама; 2 — паўднёва-заходняя брама; 3 — месца былога палаца.*

**в. Воцкавічы, Мулярскі сельсавет**

**1770. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 3 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Вярэнькі, Дварчанскі сельсавет**

**1771. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Галбея, Белькаўскі сельсавет**

**1772. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1772а.** Гарадзішча. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Галбеі (Галбіца), на узгорку. Пляцоўка круглай формы дыяметрам 45 м, умацавана валам вышынёй да 2,5 м, шырынёй да 9 м. З захаду, поўначы і ўсходу на адлегласці 10 м ад першага ёсць другі вал вышынёй 1,0—1,5 м, шырынёй 5—6 м. За ім захаваліся сляды рова глыбінёй каля 0,5 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. Я. Г. Зяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**1772б.** Курганны могільнік. За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, на правым беразе р. Чарткі. 49 насыпаў дыяметрам 4—10 м, вышынёй 0,2—1,7 м. Курганы размешчаны кучна, на невялікай адлегласці адзін ад аднаго, большасць насыпаў пашкоджана ямамі і траншэямі. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. Я. Г. Зяруга. Раскопкі не праводзіліся.



*1764. Куток парку.*



*1774. Царква.*

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *Я. Г. Зяруга.*

**в. Груздава, Савіцкі сельсавет**

**1773. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 36 землякоў з калгаса «Рассвет», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1774. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з бутавага каменю і цэглы. Прамавугольная ў плане пабудова з трох'яруснай вежай-званіцай. Царква — помнік архітэктуры з элементамі псеўдабарока.

**в. Грыдзькі, Юнкаўскі сельсавет**

**1775. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў Грамадзянскую вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гута, Варапаеўскі пасялковы Савет**

**1776. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 3 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Дварчаны, цэнтр сельсавета**

**1777. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 12 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзяўгуны, Магунскі сельсавет**

**1778. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Камайкі. Займае паўночны мыс узгорка. Пляцоўка памерам з поўначы на поўдзень 110—120 м, з захаду на ўсход — 50—60 м. З паўднёвага боку ёсць сляды разбуранага вала. Абследавалі ў 1938 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 г. Я. Г. Звяруга. У культурным пласце знойдзены рэшткі ляпнога посуду. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР у Вільнюсе і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *Я. Г. Звяруга.*



**1781.** *Троіцкі касцёл.*



**1781.** *Троіцкі касцёл. План.*

**в. Дунілавічы, цэнтр сельсавета**

**1779. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Пахаваны 829 мірных жыхароў вёскі, якіх у лістападзе 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1780. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 34 землякоў з калгаса «XXV партз'езд», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1781. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1769—73 гг. з цэглы разам з кляштарам дамініканцаў (не збярогся).

Трохнефавая двухвежавая базіліка з трансептам і прамавугольнай у плане апсідай. Вежы двух'ярусныя, завершаны купаламі з галоўкамі і раскрапаваны ўвагнутымі пілястрамі. Бакавыя фасады прарэзаны лучковымі вокнамі і дэкарыраваны спаранымі пілястрамі. Па ўсім перыметры сцен — шырокі карнізны пояс. Над ім у цэнтральнай частцы галоўнага фасада ўзвышаецца фігурны шчыт, злучаны з вежамі невялікімі валютамі. Сцены трансепта выгнутыя, завершаны фігурнымі франтонамі, над апсідай — шчыт са складаным крапаваным франтонам. Цэнтральны ўваход вылучаны парталам (перабудаваны ў 19 ст. ў формах класіцызму). У інтэр'еры скляпенні цэнтральнага нефа цыліндрычныя з распалубкамі на падпружных арках, у бакавых нефах — крыжовыя. Скляпенні размаляваны раслінным арнаментам і картушамі. Калоны і сцены раскрапаваны пілястрамі. Алтар двух'ярусны, ступеньчаты.

Касцёл — прыклад архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *С. Г. Багласаў.*

**в. Казлоўшчына, цэнтр сельсавета**

**1782. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «1 Мая». На ўшанаванне памяці 10 жыхароў вёскі, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Камаі, цэнтр сельсавета**

**1783. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. Пахаваны 141 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1784. КАМЕННЫ КРЫЖ** (гіст.). На плошчы, каля касцёла Іаана Хрысціцеля. Высечаны (15—16 стагоддзі) з маналітнага граніту-валуна (вышыня 2,5 м, шырыня па гарызантальнай папярочыне — 1,88 м). Вертыкальная частка крыжа мае чатырохгранную форму. У сяродкрыжжы — трохвугольная ніша для распяцця. На тыльнай і часткова фасаднай плоскасцях надпісы лацінскім шрыфтам больш позняга паходжання, значна пашкоджаны, не расшыфраваны.

**1785. КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1603—06 гг. з цэглы.

Спачатку меў восевую сіметрычную кампазіцыю. Мяркуючы па рэштках скляпенняў, быў трохнефавы, чатырохстоўпны. У сярэдзіне 17 ст. ў час пажару скляпенні абваліліся (не адноўлены). Пазней слупы разабраны, цэнтральны аб'ём перакрыты драўляным люстраным скляпеннем. Крыжовае і зоркавае скляпенні захаваліся толькі ў апсідзе. У 1739 г. перабудаваны мураваныя хоры, у 1778 г. да паўднёвай сцяны касцёла прыбудавана капліца з крыптай.

Касцёл двухвежавы, двухзальны, з вялікай апсідай і сакрысціяй. Асноўная зала і капліца прамавугольныя ў плане, апсіда — паўцыркульная. Дахі асноўнага аб'ёму і капліцы двух-



**1784.** *Каменны крыж.*

схільныя, над апсідай конусападобныя. Сцены (таўшчыня 2 м) прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Цэнтральны ўваход вырашаны ў выглядзе аркі з спічастым завяршэннем. Галоўны фасад асноўнага аб'ёму мае трохвугольнае завяршэнне, раскрапаваны ў верхняй частцы паўцыркульнымі плоскімі нішамі і круглымі байніцамі. Яго фланкіруюць цыліндрычныя вежы з круглымі і паўцыркульнымі байніцамі. У сцены галоўнага фасада і вежы ўмураваны гарматныя ядры. Астатнія сцены касцёла дэкарыраваны тонкімі карнізамі, фасады капліцы — пілястрамі. Асноўная зала і капліца злучаны мураванымі лесвіцамі, размешчанымі паміж магутнымі пілонамі. У капліцу ёсць асобны ўваход з вуліцы. Капліца перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. У канцы апсіды скляпенне зорчатае, над прэсбітэрыем крыжовае, у сакрысціі скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі і крыжовыя. Апсіда адкрываецца ў асноўнае памяшканне арачным праёмам.

Усе скляпенні касцёла аздоблены размалёўкай, выкананай у тэхніцы грызайль: у алтарнай частцы зроблена ў час рэстаўрацыі 1726—36 гг., у капліцы — у сярэдзіне 19 ст. Асноўны матыў размалёўкі скляпення алтарнай часткі — сакавітая акантавая галінка, якая амаль суцэльным дываном аплятае картушы і медальёны з манаграмамі ці сімваламі. На падпружных арках арнаментальныя ленты чаргуюцца з медальёнамі. У капліцы арнамент сіметрычна размешчаны на паверхні перакрыцця. Падпружныя аркі запоўнены фрызавым арнаментам. Плафон асноўнага памяшкання храма размаляваны ў выглядзе рамы, вакол якой гірлянды з пладоў і кветак.

У храме 4 драўляныя разныя алтары. Найбольш цікавы ў дэкаратыўным афармленні цэнтральны двух'ярусны алтар 2-й палавіны 18 ст. Аснову 1-га яруса складаюць 4 калоны карынфскага ордэра, паміж імі ў нішах драўляныя паліхромныя скульптуры апосталаў Пятра і Паўла. У цэнтры — алтарны абраз «Маці боская з дзіцем» (17 ст.) у сярэбраным чаканым абкладзе. Крапаваны карніз з «разарваным» франтонам аддзяляе 2-і ярус алтара, утвораны 2 калонамі, што абрамляюць карціну ў пазалочанай раме. Завяршае алтар гарэльефная кампазіцыя з выявай Саваофа ў воблаках. Ордэрныя элементы алтара размаляваны пад ружовы мармур, што ў спалучэнні з пазалотай арнаментальнай разьбы і паліхромнай скульптурай стварае інтэнсіўную па каларыту ўрачыстую кампазіцыю.

Арган канца 18 ст. ўстаноўлены на хорах, яго афармленне складаецца з разных па дрэве гірлянд кветак, скульптурных выяў анёлаў і музычных інструментаў. Абапал аргана — арнаментальныя валюты з галоўкамі херувімаў. Філёнгі парапета хораў дэкарыраваны накладной скразной арнаментальнай разьбой.

Касцёл — помнік абарончага дойлідства з элементамі готыкі і рэнесансу.

*С. Г. Багласаў, Г. М. Ярмоленка.*

**1786. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 28 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. ўстаноўлена пліта.

**в. Кашыцы, Дварчанскі сельсавет**

**1787. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 38 савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1785.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля.*



**1785.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Падоўжны разрэз.*



**1785.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Фрагмент інтэр'ера.*



**1785.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. План.*



**1785.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Папярочны разрэз.*



**1785.** *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Арган.*



1789. *Помнік на магіле У. У. Ясюковіча.*

**в. Коўзаны, Юнкаўскі сельсавет**

**1788. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у парку. На ўшанаванне памяці 4 землякоў з калгаса «Ударнік», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крывое, Ваўкоўскі сельсавет**

**1789. МАГІЛА ЯСЮКОВІЧА** Усціна Усцінавіча (гіст.). У цэнтры вёскі.

Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Айч. вайну У. У. Ясюковіч нарадзіўся ў 1925 г. ў в. Крывое. З сялян. Член ЛКСМБ з 1940 г. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны ўключыўся ў барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Быў актыўным членам падпольнай групы, якая дзейнічала ў в. Крывое з канца 1941 г. Патрыёты збіралі зброю, боепрыпасы, хавалі савецкіх воінаў, што ўцякалі з фашысцкага палону, вялі растлумачальную работу сярод мясцовага насельніцтва. У. Ясюковіч пісаў і распаўсюджваў лістоўкі, маляваў карыкатуры на гітлераўцаў. У пачатку 1942 г. падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з партызанамі. Юнак стаў актыўным партызанскім сувязным. У маі 1943 г. фашысты арыштавалі яго і пасля зверскіх катаванняў расстралялі.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— Мн., 1967.

*Г. І. Дулеба.*

**хутар Крыкалы, Дунілавіцкі сельсавет**

**1790. ПАРК** (архіт.). За 2 км на паўночны захад ад в. Дунілавічы, на левым беразе р. Зарачанка. Створаны на рубяжы 18—19 стагоддзяў як сядзібны. Плошча каля 15 га. На ўсходняй ускраіне парку быў дом (19 ст., не збярогся). Захаваліся 2 драўляныя флігелі з цаглянымі тарцовымі фасадамі ў формах позняга класіцызму, клець і бутавы мост.

Парк пейзажнага тыпу. Разбіты на схілах 7 узгоркаў, паміж якімі — равы. Уязная кляновая алея пракладзена па ўзгорках, выходзіць на круглую тэрасу, абсаджаную па перыметры клёнамі. У парку 2 невялікія сажалкі. Кампазіцыя грунтуецца на змене маляўнічых курцін і ландшафтных перспектыў. Для курцін выкарыстаны клён, ясень, вяз, ліпа, вольха, лістоўніца. Дамінуючы элемент у сілуэце паркавага масіву — старыя ясені, пасаджаныя на паўднёва-ўсходняй ускраіне парку, каля ракі.

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва.

*А. М. Кулагін*

**в. Кураполле, цэнтр сельсавета**

**1791. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 73 землякоў з калгаса «Прагрэс», якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. ўстаноўлена стэла.

**в. Ліпнікі, Дварчанскі сельсавет**

**1792. ПОМНІК АСЯНЕНКА** Надзеі Міхайлаўне (гіст.). У цэнтры вёскі. Удзельніца камсамольскага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну Н. М. Асяненка нарадзілася ў 1917 г. ў в. Ліпнікі Пастаўскага р-на, у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Перад Айчыннай вайной працавала тэлефаністкай у Паставах. З першых дзён вайны ўключылася ў актыўную барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У Ліпніках стварыла падпольную камсамольскую арганізацыю (у 1942 г. налічвала 20 чалавек), была яе кіраўніком. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод жыхароў Ліпнікаў і навакольных вёсак зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, устанавілі сувязь з партызанамі брыгады імя К. Я. Варашылава, збіралі для іх зброю, прадукты, перадавалі



1790. *Флігелі.*




1790. *Парк. Схема планіроўкі: 1 — флігелі; 2 — мост.*



1790. *Куток парку.*



1792. *Помнік Н. М. Асяненка.*

звесткі пра ворага. Калі ў пачатку 1943 г. фашысты высачылі арганізацыю, падпольшчыкі ўліліся ў партызанскую брыгаду імя К. Я. Варашылава. Н. М. Асяненка стала разведчыцай атрада «Слава». У сакавіку 1944 г., вяртаючыся з групай партызан з баявога задання, нарвалася на варожую засаду, была цяжка паранена, трапіла ў палон і закатавана гітлераўцамі. Пахавана ў в. Гулі Мядзельскага р-на.

У 1964 г. на ўшанаванне яе памяці пастаўлены абеліск. У 1975 г. на доме, дзе яна жыла, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— Мн., 1967.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Лучай,**
**Варапаеўскі пасялковы Савет**

**1793. КАСЦЁЛ ТАДЭВУША** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1766 г. з цэглы як езуіцкі. У 1-й палавіне 19 ст. часткова перабудаваны.

Двухвежавая трохнефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай і трансептам. Галоўны фасад фланкіруюць трох'ярусныя вежы, раскрапаваныя вуглавымі пілястрамі, нішамі, прарэзаныя прамавугольнымі аконнымі праёмамі (часткова замураваны). Пры перабудове верхні ярус вежаў завершаны купальнымі ратондамі. Галоўны фасад, апсіду і трансепт вянчаюць розныя па форме фігурныя шчыты. Сцены касцёла раскрапаваны пілястрамі. Па ўсім перыметры будынка праходзіць дарычны карнізны пояс.

Інтэр'ер вырашаны ў насычанай архітэктурнай пластыцы. У цэнтральным нефе скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі, у бакавых — крыжовыя, над сяродкрыжжам — сферычны купал. Над уваходам — хоры. Ордэрную пластыку дапаўняюць размалёўкі ў тэхніцы грызайль. Ніжняя частка купала запоўнена ілюзорна-перспектыўнай архітэктурнай кампазіцыяй. У люнетах цэнтральнага нефа — маляваныя васьмігранныя плафончыкі. На ветразях, тарцовых сценах трансепта і ў консе апсіды — выявы евангелістаў, святых і анёлаў. Сцены бакавых нефаў дэкарыраваны фрэскавай размалёўкай, якая імітуе скульптурны рэльеф. Гэтак жа выканана размешчанае над уваходам пано-картуш з выявамі 2 воінаў са шчытамі і воінскіх атрыбутаў. Разнастайным арнаментальным дэкорам запоўнены ўсе плоскасці сцен і перакрыццяў.

Касцёл — помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму.

*С. Г. Багласаў, Г. М. Ярмоленка.*

**1794. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**г. п. Лынтупы,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**1795. АНДРЭЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На цэнтральнай плошчы. Пабудаваны ў 1908—14 гг. з цэглы. Двухвежавая трохнефавая базіліка з паўцыліндрычнай апсідай. У дэкоры выкарыстаны ордэрныя элементы: пілястры, франтоны, прафіляваныя карнізы. Касцёл — помнік архітэктуры псеўдабарока.



1793. *Касцёл Тадэвуша. Галоўны фасад.*

**1796. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Маркава. Пахаваны 111 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях пры вызваленні пасёлка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Аляксей Канстанцінавіч Галубкоў і Мікалай Пятровіч Красільнікаў.



1793. *Касцёл Тадэвуша. Фрагмент інтэр'ера.*



1793. *Касцёл Тадэвуша. Від з боку апсіды.*



1793. *Касцёл Тадэвуша. План.*



1795. *Андрэеўскі касцёл.*

А. К. Галубкоў нарадзіўся 23.3.1912 г. ў в. Міхайлаўская Судзіслаўскага р-на Кастрамской вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1942 г. Камандзір аддзялення сувязі сяржант А. К. Галубкоў вызначыўся пры вызваленні г. п. Лынтупы Пастаўскага р-на ў ліпені 1944 г. і г. п. Свянцяны Літоўскай ССР. У час бою за Лынтупы паранены, пад агнём праціўніка аднавіў пашкоджаную сувязь, што садзейнічала



1796. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

паспяховаму наступленню савецкіх войск. У Свянцянах гранатамі знішчыў варожую кулямётную кропку. Загінуў у баі 6.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

М. П. Красільнікаў нарадзіўся 14.6.1901 г. ў г. Бійск Алтайскага краю ў сям'і служачага. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з мая 1942 г. Камандзір стралковага ўзвода 938-га стралковага палка 306-й стралковай дывізіі лейтэнант М. П. Красільнікаў вызначыўся 25.6.1944 г. каля в. Шарыпіна Бешанковіцкага р-на. Група воінаў пад яго камандаваннем пераплыла Заходнюю Дзвіну, захапіла плацдарм і знішчыла 2 агнявыя кропкі ворага, што садзейнічала пераправе падраздзяленняў палка. Загінуў у баі 8.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**1797. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўночны захад ад пасёлка. 74 насыпы дыяметрам 5—17 м, вышынёй 0,4—1,7 м, пераважаюць курганы дыяметрам 8—12 м (55 насыпаў). Найбольш буйныя знаходзяцца ў цэнтральнай і паўночна-заходняй частках могільніка, найбольш дробныя — у паўднёва-ўсходняй. Каля большасці насыпаў ёсць кругавыя раўкі з перамычкамі (ад 2 да 8).

Даследавалі ў канцы 19 ст. Дз. І. Даўгяла, у 1894 г. Ф. В. Пакроўскі. Сярод знойдзеных Дз. І. Даўгялам рэчаў — бронзавая шыйная грыўня з расшыранымі канцамі, 4 бронзавыя бранзалеты (3 плоскія, 1 жалабаваты), шыракасярэдзінны бронзавы пярсцёнак, 2 утульчатыя жалезныя наканечнікі коп'яў, 2 жалезныя вузкалязовыя сякеры, фрагмент ляпнога гаршка. У 5 курганах, раскапаных Ф. В. Пакроўскім, пахавальны абрад — трупаспаленне; у 2 знойдзены чарапкі ляпных пасудзін (пахавальных урнаў не было), у 2 — жалезныя коп'і і сякеры з вузкім лязом. У адным кургане былі бронзавыя шыйныя грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі-ракавіны, глінянае прасліца, бронзавыя спіралькі, арнаментаваныя бронзавыя бляшкі, жалезныя шылы. Курганы датуюцца 10—13 стагоддзямі, належалі балтам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі ў Вільнюсе.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; его ж. К исследованию курганов и городищ на восточной окраине современной Литвы.— У кн.: Труды 9 археологического съезда в Вильне. 1893. М., 1897, т. 2. *Я. Г. Зяруга.*




1797. *Курганны могільнік. План.*

**1798. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Галубкова. Пахаваны 66 савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 20.5.1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1799. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, каля лесу. Пахаваны 61 жыхар пасёлка, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі 19 і 20 мая 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1800. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка, у лесе. Пахаваны 93 мірныя жыхары, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў снежні 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

**1801. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка, у лесе. Пахаваны 22 мірныя жыхары, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1802. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне пасёлка, у скверы. На ўшанаванне памяці 116 землякоў, якія загінулі ў барацьбе



1800. *Помнікі на магіле ахвяр фашызму.*

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1803. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Гагарына, каля адміністрацыйнага будынка саўгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**1804. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Гагарына, у скверы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1963 г.

**1805. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст., цяпер у будынку школа.

Ансамбль сфарміраваны па адзінай планіровачнай восі. Уздоўж яе паслядоўна размешчаны прамавугольны парадны партэр, аднапралётны бутавы мост, сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы. Тэрыторыя падзелена на 2 зоны: парадную (перад домам), якая ўключае капліцу, флігель, абсаджаныя дрэвамі сажалкі, і гаспадарчую — некалькі аднапавярховых прамавугольных у плане мураваных будынкаў.



**1805.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2 — капліца; 3 — вяндлярня; 4—8 — іншыя гаспадарчыя пабудовы.*



**1805.** *Сядзібны дом. Від з боку вежы.*

Мураваны сядзібны дом складанай асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Асноўны двухпавярховы аб'ём накрыты вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага фасада — тэраса на канеліраваных калонах і антах. У дэкоры выкарыстаны пілястры, руст, атык з балюстрадай. Аналагічна вырашаны цэнтр дваровага фасада. Ён адметны павышанай дэкаратыўнасцю і шчыльнасцю раскрапоўвак. У кампазіцыі дамінуе трох'ярусная чацверыковая вежа, якая прымыкае да дома з паўночна-ўсходняга боку. Па перыметры сцены завершаны шырокім прафіляваным фрызам і карнізам на мадульёнах. Прамавугольныя і паўцыркульныя вокны дэкарыраваны трохвугольнымі і лучковымі франтонамі, гірляндамі, маскаронамі, пальметамі, рустам з замковым каменем. Планіроўка калідорная. Паверхі звязаны паміж сабой лесвіцай.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры.

*А. М. Кулагін.*

**в. Ляхаўшчына, Ваўкоўскі сельсавет**

**1806. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 22 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.



**1805.** *Сядзібны дом. Тарцовы фасад.*



**1805.** *Сядзібны дом План 1-га паверха.*



**1809.** *Царква.*

**в. Магуны, цэнтр сельсавета**

**1807. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Манькавічы, Савіцкі сельсавет**

**1808. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1809. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю. Асноўны квадратны ў плане аб'ём накрыты пакатым шатром. Да асноўнага аб'ёму далучаны вялікі квадратны бабінец, завершаны вежай-званіцай (васьмярык на чацверыку), і паўкруглая апсіда. Пры ўваходзе — невялікі тамбур. Дэкаратыўныя дэталі выкананы з цэглы і атынкаваны. Царква — помнік эклектычнай архітэктуры.

**в. Навасёлкі, Камайскі сельсавет**

**1810. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навасёлкі, Юнкаўскі сельсавет**

**1811. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя А. В. Суворава. На ўшанаванне памяці 6 землякоў, якія загінулі ў

баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Норыца, Ваўкоўскі сельсавет**

**1812. ПАРК** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля р. Нарыца. Пасаджаны ў 2-й палавіне 18 ст. як прысядзібны. Парк рэгулярна-пейзажнай планіроўкі. Плошча каля 2 га. У цэнтры стаяў палац (згарэў у 1925 г.), абкружаны валам і ровам. Перад усходнім фасадам палаца прамавугольны вадаём. Палацавая тэраса фланкіравана пасадкамі ясеня. Парк расчлянёны сеткай узаемна перпендыкулярных ліпавых алей, якія абмяжоўваюць вялікі прамавугольны партэр. Тут былі лабірынт, баскеты, а ў месцах скрыжавання алей — круглыя пляцоўкі з альтанкамі (не захаваліся).

Папярочная кампазіцыйная вось парку вызначаецца сістэмай прамавугольных сажалак. На берагах вадаёмаў групы дрэў розных парод. Парадная частка парку — вялікі партэр (асталіся асобныя дрэвы і курціны) тэрасамі спускаецца да ўтворанага плаціною галоўнага вадаёма. Да рэгулярнай часткі парку з поўначы прымыкае пейзажны паркавы масіў, на ўскраіне якога знаходзіцца бровар.

Прыклад садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**в. Палессе, цэнтр сельсавета**

**1813. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Побач з будынкам праўлення калгаса імя К. С. Заслонава. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Палхуны, Лынтупскі пасялковы Савет**

**1814. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, побач з будынкам клуба. На ўшанаванне памяці 27 землякоў з калгаса імя У. І. Леніна, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Полава, Белькаўскі сельсавет**

**1815. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Побач з будынкам праўлення калгаса «Чырвоны маяк». На ўшанаванне памяці 2 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Савічы, цэнтр сельсавета**

**1816. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 72 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх



**1820.** *Помнік на месцы бою 1944 г.*

акупантаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Сакуны, Мулярскі сельсавет**

**1817. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 2 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Саранчаны, Камайскі сельсавет**

**1818. КУРГАНЫ** (археал.). Адзін курган вышынёй 1,5 м, дыяметрам 10 м знаходзіцца за 0,3 км ад вёскі, справа ад дарогі на в. Навасёлкі, другі вышынёй 2,2 м, дыяметрам 20 м на процілеглым канцы вёскі. Выявіў у 1938 г. У. Галубовіч, абследаваў у 1972 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Сарокі, Ваўкоўскі сельсавет**

**1819. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на узгорку. Заходні і асабліва паўночны схілы ўзгорка вельмі крутыя, паўднёвы і ўсходні спадзістыя. Пляцоўка дыяметрам 68 м. У паўднёва-заходняй частцы гарадзішча — невялікая тэраса трохвугольнай формы. Такая ж тэраса была, напэўна, і з процілеглага (паўночна-заходняга) боку. Абследавалі ў 1890—92 гг. Ф. В. Пакроўскі, у 1972 г. Я. Г. Звяруга. На ўсёй пляцоўцы прасочваецца культурны пласт з рэшткамі ляпной керамікі. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца рубяжом 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання 1972 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Сарочына, Савіцкі сельсавет**

**1820. МЕСЦА БОЮ 1944 г.** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Адбыўся 26 мая.

Напярэдадні бою партызанская разведка паведаміла, што па бальшаку з Паставаў на Мядзел рухаецца калона нямецка-фашысцкіх захопнікаў з вялікім абозам прадуктаў і боеприпасаў. Праціўнік меў намер прарвацца ў Мядзельскі гарнізон, які са снежня 1943 г. блакіравала партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава Вілейскага злучэння. 26 мая па заданню камандавання брыгады партызаны атрада імя А. В. Суворава зрабілі на скрыжаванні дарог Манькавічы — Вярэнькі і Паставы — Мядзел засаду. Падпусціўшы праціўніка на блізкую адлегласць, народныя мсціўцы, якімі камандаваў начальнік штаба атрада М. М. Чашэнка, адкрылі шквальны агонь. Фашысты панеслі значныя страты і адступілі.

У 1964 г. на месцы бою пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**в. Свідна, Дунілавіцкі сельсавет**

**1821. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Свіраны, Камайскі сельсавет**

**1822. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Колас». На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сіманькі, Дварчанскі сельсавет**

**1823. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Грыкава Гара. За 0.2 км на ўсход ад вёскі, на ўзгорку. Усходні схіл спадзісты. Пляцоўка мае форму эліпса, памерам з паўднёвага захаду на паўночны ўсход 46 м, з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход 14 м. Выявіў у 1938 г. У. Галубовіч, абследаваў у 1972 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзеная пры абследаванні ляпная кераміка захоўваецца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Стары Двор, Варапаеўскі пасялковы Савет**

**1824. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба і канторы саўгаса «Старадворскі». На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла з барэльефам воіна.

**в. Сяргеевічы, Дунілавіцкі сельсавет**

**1825. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Радзіма». На ўшанаванне памяці 24 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хацілы, Ярэўскі сельсавет**

**1826. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ (гіст.).** У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 10 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Целякі, Курапольскі сельсавет**

**1827. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Побач з будынкам праўлення калгаса «Шлях да камунізма». На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Цешалава, Савіцкі сельсавет**

**1828. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 28 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Шыркі, Дварчанскі сельсавет**

**1829. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 51 земляка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.



1821. *Помнік землякам.*

**в. Юнкі, цэнтр сельсавета**

**1830. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 6 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Янова, Лынтупскі пасялковы Савет**

**1831. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, абапал дарогі, якая вядзе да шашы Свір — Лынтупы. 10 курганоў дыяметрам 8—15 м, вышынёй 0,8—1,5 м дрэннай захаванасці (пашкоджаны). Выявіў і даследаваў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1972 г. Я. Г. Звяруга.

Матэрыялы даследавання Ф. В. Пакроўскага захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР у Вільнюсе.

**в. Янчукі, Ваўкоўскі сельсавет**

**1832. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Праўда». На ўшанаванне памяці 5 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ярва, цэнтр сельсавета**

**1833. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 2 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлена стэла.




# ПОЛАЦКІ РАЁН

Мацюшы
Грамошча
Кацельна
Сястронкі
Дрэтунь
Мал. Сітна
Арлея
Труды
Адамова
Азіна
Баравуха І–я
Зялёнка
Палата
Юравічы
Гваздова
Захарнічы
Кушлікі
Наваполацк
Астроўшчына
Мышчана
Экімань
Саланік
Домнікі
Шпакоўшчына
ПОЛАЦК
Святлічашча
Рудня
Карпекі
Арцюхі
Ветрына
Лучна
Залессе
Семянец
Гараны
Шацілава
Нача
Заскаркі
Заазер'е
Багушова
Варонічы
Блізніца
Бабынічы
Гомель

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Земляныя валы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

## XIX. ПОЛАЦК

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Заходняя Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Палата. За 100 км на паўночны захад ад Віцебска. Вузел чыгуначных ліній (4 напрамкі) і аўтамабільных дарог. Аэрапорт. У 1982 г. 75 тыс. жыхароў.

Полацк (летапісны Полотеск, Полотьск, Полтеск; паводле скандынаўскіх саг Paltesjuborg) адзін з самых старажытных гарадоў усходніх славян. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 г. Заснаваны крывічамі. У 9 ст. размешчаны на правым беразе Палаты (адсюль назва) на гарадзішчы плошчай каля 1 га. З канца 9 ст. ў складзе Кіеўскай Русі. У 10—13 стагоддзях цэнтр буйнога ва Усходняй Еўропе Полацкага княства (належала прадстаўнікам самастойнай дынастыі князёў), якое размяшчалася ў басейнах Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, Нёмана, займала тэрыторыю сучасных Віцебскай, паўночную частку Мінскай і Магілёўскай абласцей. Зручнае геаграфічнае становішча на гандлёвых шляхах (заходнедзвінскае адгалінаванне шляху «з варагаў у грэкі») спрыяла хуткаму эканамічнаму і культурнаму развіццю Полацка. Значэнне горада як важнейшага цэнтра транзітнага гандлю ў 9—11 стагоддзях пацвярджаюць знаходкі скарбаў арабскіх і заходнееўрапейскіх манет (найбольшы каля 8 тыс. сярэбраных дырхемаў знойдзены ў 1973 г. каля в. Каз'янкі). З 10 ст. тут былі развіты кавальскае, ювелірнае, касцярэзнае, гарбарнае, шавецкае і іншыя рамёствы, у 12 ст. працавалі майстар-ювелір Лазар Богша і дойлід Іаан. З 1105 г. (магчыма раней) у Полацку існавала самастойная епіскапская кафедра. У 1110 г. (?) тут нарадзілася Ефрасіння Полацкая. Каля 980 г. ў Полацку княжыў Рагвалод (забіты кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам, які сілай узяў у жонкі яго дачку Рагнеду), з 988 г.— Ізяслаў Уладзіміравіч (родапачынальнік новай дынастыі полацкіх князёў, памёр у 1001 г.), з 1003 г.— Брачыслаў Ізяславіч, пры якім у 1021 г. да Полацкай зямлі адышлі Усвяты і Віцебск. Пры Усяславе Брачыславічу [1044—1101 гг.] Полацкае княства дасягнула найбольшага росквіту, Полацк стаў галоўным канкурэнтам Кіева. Пасля смерці Усяслава княства раздрабілася на некалькі самастойных удзелаў, але Полацк заставаўся буйным палітычным цэнтрам. У 1127 г. кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч арганізаваў паход паўднёва-рускіх князёў супраць полацкіх, захапіў іх і ў 1129 г. выслаў у Візантыю. У 1140-я гады яны вярнуліся на радзіму, занялі ранейшыя ўдзелы, і барацьба за Полацк працягвалася. Аднак улада князёў у Полацку аслабла. З пачатку 12 ст. ў сувязі з драбленнем Полацкай зямлі і аслабленнем улады мясцовай княжацкай дынастыі ўзрасла роля веча, дзейнасць якога выкарыстоўвалі ў сваіх інтарэсах баяры. З дапамогай веча яны кантралявалі і абмяжоўвалі ўладу князя. На вечы вырашаліся пытанні вайны і міру, гандлю, вяршыўся вышэйшы суд. Ад імя веча («мужоў палачан») заключаліся дагаворы з Рыгай і іншымі гарадамі. На вечавых сходах гарадская беднага выступала супраць сваіх прыгнятальнікаў. У Іпацьеўскім летапісе пад 1159 г. гаворыцца: «Мяцеж быў вялікі ў горадзе сярод палачан». У 1132 г. веча выбрала князем унука Усяслава Брачыславіча Васільку. У 1151 г. і 1158 г. за трон у Полацку змагаліся друцкі князь Рагвалод Барысавіч і мінскі князь Расціслаў Глебавіч. У 1161 г. полацкім князем стаў Усяслаў Васількавіч. У палітычным жыцці горада пабольшала роля гандлёва-рамесніцкага насельніцтва, аб чым сведчыць існаванне купецкіх арганізацый (братчын). У пачатку 13 ст. жыхары горада разам з лівамі, латгаламі, эстамі змагаліся супраць нямецкіх крыжакоў, якія ўварваліся ў Прыбалтыку і захапілі гарады Полацкай зямлі Кукенойс і Герцыке. Полацкія дружыны на чале з князем Уладзімірам няраз выступалі супраць нямецкіх рыцараў (1203, 1206, 1216 гг.). Полацкае баярства, аслабіўшы ўладу князя, не здолела ўтварыць моцнай дзяржаўнай арганізацыі і, баючыся актыўнасці гараджан і агрэсіі крыжакоў, пайшло на кампраміс з літоўскімі феадаламі, у 2-й палавіне 13 ст. запрасіла іх у горад. У пачатку 1260-х гадоў тут княжыў Таўцівіл. З 1307 г. Полацк канчаткова ў складзе Вялікага княства Літоўскага, самы буйны яго горад у 14—16 стагоддзях, меў асаблівыя правы — так званыя Полацкія прывілеі. У «Хроніцы Польшчы» канцлера Польшчы Яна Чарнкоўскага пад 1382 г. Полацк названы замкам (крэпасцю) Белай Русі (у дачыненні да зямель Беларусі тэрмін «Белая Русь» ужыты тут упершыню). Меў шырокія гандлёвыя сувязі з Рыгай і Лівонскім ордэнам,



XIX. *Аблога Полацка войскамі Стэфана Баторыя ў 1579 г. З гравюры С. Пахалавіцкага.*




XIX. *План Полацка. 1707 г.*

# ПОЛАЦК

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Земляныя валы

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і месцы воінскай славы

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

 Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

 Культавая архітэктура

 Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

 Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

 Паркі, скверы і зялёныя масівы

Ноўгарадам, Псковам, Масквой, іншымі рускімі гарадамі. У 1-й палавіне 14 ст. належаў Воіну, затым Нарымунту (Глебу), у 2-й палавіне 14 ст.— сыну Альгерда Андрэю Полацкаму. З 1392 г. горадам кіравалі стаўленікі велікакняжацкай улады — намеснікі. Полацк быў амаль пазбаўлены палітычнай самастойнасці. Каля 1490 г. ў горадзе нарадзіўся беларускі першадрукар і асветнік, культурны дзеяч эпохі Адраджэння Францыск Скарына. У 1498 г. Полацк атрымаў магдэбургскае права, быў створаны магістрат, да якога перайшлі адміністрацыйныя функцыі кіравання. З 1504 г. цэнтр Полацкага ваяводства. У Лівонскую вайну 1558—83 гг. заняты рускімі войскамі (1563—79 гг.), у 1579 г.— войскамі С. Баторыя, які вырашыў ператварыць горад у бастыён каталіцызму. У 1580 г. ён накіраваў сюды езуітаў на чале з П. Скаргай, якія ў 1581 г. заснавалі калегіум (у 1812 г. ператвораны ў езуіцкую акадэмію), сталі захопліваць гарадскія землі. У сярэдзіне 17 ст. ў Полацку каля 20 тыс. жыхароў, асноўную частку якіх складалі рамеснікі. У 1601 г. ўзніклі 2 першыя рамесніцкія цэхі — кавалёў, кацельшчыкаў, слесараў, мечнікаў, залатых спраў майстроў і шаўцоў, гарбароў, шапачнікаў, краўцоў, кушняроў. У руска-польскую вайну 1632—34 гг. у горадзе ўспыхнула (1633 г.) паўстанне гараджан супраць падваяводы Яна Лісоўскага і гарадской рады, якія спрабавалі арганізаваць супраціўленне рускім войскам. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. заняты рускай арміяй (1654 г.), паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 г. вернуты Рэчы Паспалітай. У 17 ст. пры Богаяўленскім манастыры існавалі брацтва і школа, у якой з 1656 г. выкладаў педагог, пісьменнік і публіцыст Сімяон Полацкі. У чэрвені 1705 г. ў Полацку жыў Пётр І, які прыязджаў сюды для кіраўніцтва рускімі войскамі ў Паўночную вайну 1700—21 гг. У 2-й палавіне 17 — 1-й палавіне 18 ст. ў сувязі з войнамі Полацк занапаў. У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772 г. да Расіі адышла правабярэжная, у 1793 г.— левабярэжная часткі горада. З 1776 г. Полацк — цэнтр Полацкай губерні, у 1778—96 гг.— намесніцтва, з 1796 г.— цэнтр павета Беларускай, з 1802 г.— Віцебскай губерняў. У 1781 г. зацверджаны герб горада — «пагоня» (на сярэбраным полі выява конніка са шчытом і ўзнятым мячом). У Айчынную вайну 1812 г. ў павеце дзейнічалі партызаны, пад Полацкам 5—6 жніўня і 5—8 кастрычніка адбыліся бітвы рускіх войск з французскімі. 8 кастрычніка пры ўдзеле мясцовых партызан Полацк вызвалены ад напалеонаўскіх захопнікаў. У 19 ст. ў горадзе пераважала рамесная вытворчасць. У 1817 г. 3340 жыхароў. У 1840—50-я гады было 6—9 гарбарняў (3—6 рабочыя ў кожнай), 3—5 цагельняў, 2—3 піваварні, 8—10 ганчарняў (2—4 рабочых у кожнай). У 1860-я гады працавалі тытунёвая фабрыка, гарэлачны завод (каля 20 рабочых). У 1885 г. было 27 прадпрыемстваў (130 рабочых). Значнае месца ў эканамічным развіцці горада займаў гандаль, пашырэнню якога спрыяла адкрыццё ў 1866 г. руху на ўчастку Дынабург — Полацк Рыга-Арлоўскай чыгункі. У 1860 г. працавалі 122 крамы, у 1865 г.— 456. Ажыўленне гаспадарчага жыцця горада было звязана з уключэннем яго ў сістэму ўсерасійскага рынку, пашырэннем гандлёвых сувязей са Смаленскам, Масквой і іншымі гарадамі. У 1897 г. ў Полацку 20 294 жыхары (з іх 60 % непісьменных). У 1835 г. адкрыты кадэцкі корпус, у 1872 г.— настаўніцкая семінарыя (з 1902 г. імя Я. П. Кульнева), у канцы 19 ст. былі 2 царкоўнапрыходскія школы, народнае і духоўнае вучылішчы. У 1839 г. ў Полацку падпісаны саборны акт аб далучэнні уніяцкай царквы да рускай праваслаўнай. У 1903—04 гг. было 288 рамесных майстэрняў, дзе працавалі 1198 рабочых, у 1909 г.— 2060 рабочых. У 1904 г. дзейнічалі 17 навучальных устаноў. У 1904 г. створана Полацкая арганізацыя РСДРП.



**XIX.** *Панарама горада з боку Заходняй Дзвіны.*

У 1-ю сусветную вайну з 1915 г. Полацк — прыфрантавы горад. 15(28). 3.1917 г. ў горадзе створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена 18.11.1917 г. У лістападзе 1917 г. тут адбыўся 2-і з'езд салдат 3-й арміі Заходняга фронту, у снежні — 3-і надзвычайны з'езд салдат 3-й арміі Заходняга фронту. З 25.2 да 21.11.1918 г. горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. 31.3.1919 г. рабочыя падавілі контррэвалюцыйнае выступленне белагвардзейцаў. 20.9.1919 г. войскі буржуазнай Польшчы захапілі левабярэжную частку Полацка, 15.5. 1920 г. вызвалена Чырвонай Арміяй. З 1924 г. Полацк — цэнтр раёна, у 1924—30 гг. і 1935—38 гг.— цэнтр акругі, з 1938 г.— у Віцебскай вобл., горад абласнога падпарадкавання. У 1933 г. пабудаваны буйны механізаваны хлебазавод, да пачатку 1940 г. працавалі 3 электрастанцыі. Горад стаў цэнтрам, які забяспечваў прамысловымі вырабамі групу раёнаў паўночнага захаду Беларусі. Асноўнымі галінамі прамысловасці былі металаапрацоўчая, абутковая, харчовая, паліграфічная, выраб будаўнічых матэрыялаў. У 1936 г. на базе мясцовага ТРАМа створаны калгасна-саўгасны тэатр. У 1939 г. 29,6 тыс. жыхароў. У 1940—41 гг. у горадзе працавалі 16 агульнаадукацыйных школ, будаўнічы і лясны тэхнікумы, школьнае і дашкольнае педвучылішчы, 11 клубаў, кінатэатр, 9 масавых бібліятэк, краязнаўчы музей. У Вялікую Айчынную вайну акупіраваны (15.7.1941 г.) нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут каля 150 тыс. чалавек, знішчылі ўсе прамысловыя прадпрыемствы, культурна-асветныя ўстановы, 96 % жыллёвага фонду. У горадзе і раёне дзейнічалі Полацкае камуністычнае падполле, падпольныя райкомы КП(б)Б (чэрвень 1942 г.— лістапад 1943 г.) і ЛКСМБ (май 1942 г.— снежань 1943 г.), партызанскія фарміраванні, дыверсійныя групы. 4.7. 1944 г. горад вызвалены войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту і партызанамі ў выніку Полацкай аперацыі 1944 г. 31 вайсковай часці і злучэнню, якія вызвалялі горад, нададзена ганаровае найменне «Полацкіх». У 1944—54 гг. цэнтр Полацкай вобл. У 1970 г. 64,2 тыс. жыхароў.

Архітэктурна-планіровачная структура Полацка складвалася стагоддзямі. У 8—9 стагоддзях горад развіваўся ў нізоўі Палаты, на правым яе беразе, на ўмацаваным гарадзішчы (цяпер 2-і завулак Фрунзе), на месцы паселішча днепра-дзвінскай культуры. У пачатку 11 ст. дзядзінец перанесены на ўзгорак пры ўпадзенні Палаты ў Заходнюю Дзвіну (пазней Верхні Замак, назва паявілася пасля будаўніцтва ў 16 ст. Ніжняга замка, так званай Стралецкай крэпасці). Уздоўж правага берага Заходняй Дзвіны і за Палатой фарміраваліся пасады. У 11—12 стагоддзях горад размяшчаўся на плошчы каля 80 га, меў каля 8 тыс. жыхароў, развітую планіровачную структуру і складаўся з пасялення на правым беразе



XIX. *Дом Саветаў.*

Палаты (пачатковае гарадзішча і паселішча), Верхняга замка, Вялікага пасада (на правым беразе Заходняй Дзвіны) і Запалоцця (за р. Палата). На тэрыторыі Верхняга замка ў 11 ст. пабудаваны Сафійскі сабор (перабудаваны ў 18 ст., захаваўся). У 12 ст. сфарміравалася самабытная архітэктурная школа дойлідства, майстры якой у пабудовах адышлі ад традыцый візантыйскай архітэктуры і стварылі новы тып кампактнага храма — Спаса-Ефрасіннеўскую царкву (паміж 1152—61 гг., аўтар дойлід Іаан). У 2-й палавіне 12 ст. пабудаваны мураваныя крыжова-купальны храм і палац полацкіх князёў, Багародзіцкая царква (на востраве Заходняй Дзвіны, не збераглася), цэрквы ў загараднай рэзідэнцыі князёў у Бельчыцах (асталіся рэшткі фундаментаў), Спаскі манастыр і царква (пазней Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр і царква). Мураваныя манастыры і храмы ахоўвалі горад з поўначы, поўдня і захаду. У 14 ст. заселены левы бераг Заходняй Дзвіны. У канцы 16 ст. планіровачная структура горада складалася з Верхняга і Ніжняга замкаў і 6 пасадаў: Вялікі, Запалоцкі, Востраўскі, Якіманскі, Крыўцоў (за Заходняй Дзвіной), Слабадскі (уздоўж р. Бельчыца). Было каля 80 вуліц і завулкаў. Полацк з'яўляўся важным стратэгічным пунктам і меў развітую сістэму абарончых умацаванняў. Верхні і Ніжні замкі былі абкружаны драўлянымі сценамі з вежамі і злучаліся паміж сабой пад'ёмным мостам, перакінутым цераз роў. У 1654—63 гг. узведзены земляны вал з драўлянымі сценамі і ровам вакол Вялікага пасада і Запалоцця. У Верхнім замку пабудаваны 4 драўляныя вежы, у Ніжнім замку — новыя драўляныя сцены. Абарончыя ўмацаванні неаднаразова гарэлі і зноў аднаўляліся. У пачатку 1580-х гадоў пабудаваны драўляныя будынкі (у 17 ст. мураваныя) езуіцкага калегіума. У 17—18 стагоддзях у горадзе існавала вялікая колькасць мураваных манастыроў, цэркваў, касцёлаў: Богаяўленскі манастыр, кляштары францысканцаў, бернардзінцаў (захаваліся), дамініканцаў, базыльян. Перад езуіцкім калегіумам забудоўвалася галоўная Парадная плошча. Да сярэдзіны 18 ст. склалася прамавугольная сістэма планіроўкі цэнтральнай часткі горада (паміж Заходняй Дзвіной, Палатой і Ярам). У 1778 г. для правабярэжнай часткі Полацка распрацаваны рэгулярны праектны план, які прадугледжваў далейшае развіццё прамавугольнай сістэмы планіроўкі, што склалася гістарычна. Уздоўж Заходняй Дзвіны на галоўнай вуліцы (сучасны пр. К. Маркса) запраектаваны 3 плошчы: галоўная, плошча гарадскога магістрата, гандлёвая. Галоўная плошча перад езуіцкім калегіумам і касцёлам у канцы 18 — пачатку 19 стагоддзяў забудавана адміністрацыйнымі будынкамі ў стылі класіцызму (зберагліся часткова). Ад пабудоў 17—19 стагоддзяў асталіся дом Пятра I, Богаяўленскі манастыр, кляштар бернардзінцаў, будынак кляштара францысканцаў, фрагменты жылой забудовы (сучасныя вуліцы Леніна, Скарыны, пр. К. Маркса). Прамавугольную сістэму планіроўкі атрымала Запалоцце (таксама з 3 плошчамі). У 1838 г. распрацаваны праект плана для ўсяго горада. Паводле яго рэгулярная сістэма планіроўкі развівалася і ў Задзвінскай частцы Полацка, у цэнтры якой была запраектавана прамавугольная плошча. У канцы 19 — пачатку 20 стагоддзяў новыя жылыя кварталы паявіліся ў паўночна-ўсходняй частцы горада. Пасля будаўніцтва чыгуначнай лініі ў паўночнай частцы сфарміравана прывакзальная плошча, пракладзена новая вуліца (цяпер вул. Гогаля), якая звязала прывакзальную і цэнтральную плошчы. Першы генеральны план сацыялістычнай рэканструкцыі Полацка складзены ў 1936—37 гг. Пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы, у цэнтральнай частцы горада — шматпавярховыя жылыя, адміністрацыйныя і грамадскія будынкі. Захаваліся: адміністрацыйны будынак па вул. Талстога, кінатэатр «Радзіма» па вул. Свярдлова, будынак паштамта па вул. Гогаля, жылыя дамы, паліклініка па вул. Камсамольскай і інш.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў 1948 г. распрацаваны новы генеральны план (адкарэкціраваны ў 1964 г.). Адноўлены разбураныя ў вайну і пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы. У 1950—60-я гады ў асноўным завершана рэканструкцыя цэнтральнай часткі горада — пл. Леніна, пр. К. Маркса, вуліц Гогаля, Камуністычнай і інш. Галоўная магістраль сучаснага Полацка — пр. К. Маркса — аб'ядноўвае ў адзіную сістэму асобныя планіровачныя раёны. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр горада — пл. Леніна. На ёй пастаўлены помнік У. І. Леніну, будынак гаркома КПБ (1947—48 гг.), 9-павярховы жылы дом (1976—79 гг.), разбіты сквер. На скрыжаванні вуліц Тал-



XIX. *Жылы дом на плошчы Леніна.*

стога і Камуністычнай знаходзіцца будынак гарвыканкома (1948 г.). На пр. К. Маркса размешчаны жылыя і гандлёвыя будынкі, гасцініца «Дзвіна», пастаўлены помнікі Францыску Скарыне, камсамольцам Полаччыны. У паўднёвай частцы Полацка (Задзвінне) забудоўваюцца мікрараёны № 1 (з 1961 г.) і № 2 (з 1968 г.). На вуліцах П. Броўкі, імя 6-й гвардзейскай арміі 5—9-павярховыя жылыя дамы (арх. Я. Кузняцоў, З. Озерава, У. Брэдзіс) з сучасным інжынерным абсталяваннем, пабудаваны гандлёвы цэнтр. У 1975 г. цераз Палату замест драўлянага пабудаваны жалезабетонны мост (Чырвоны), які аб'яднаў цэнтральную частку горада і Задалоцце. Генеральны план горада 1972 г., распрацаваны ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, прадугледжвае паступовае зблізкэнне забудовы Полацка і Наваполацка і іх зліццё.

У горадзе развіты галіны прамысловасці: металаапрацоўчая (ліцейна-механічнае вытворчае аб'яднанне, аўтарамонтны завод), хімічная (аб'яднанне «Шкловалакно»), дрэваапрацоўчая (мэблевая фабрыка), будаўнічых матэрыялаў (камбінат будаўнічых матэрыялаў, завод жалезабетонных вырабаў), лёгкая (швейная фабрыка і вытворчае аб'яднанне мастацкіх вырабаў, ільнозавод), харчовая (камбінат хлебапрадуктаў, мясакамбінат, кансервавы, агароднінa-кансервавы, малочны заводы, хлебазавод, піўзавод, вінзавод). Працуюць ЦЭЦ, гідраметэастанцыя, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, лясгас, рыба-азёрна-таварная гаспадарка. У горадзе палітэхнікум, лясны і сельскагаспадарчы тэхнікумы, 2 прафесійна-тэхнічныя, медыцынскае, педагагічнае вучылішчы, 14 сярэдніх, 3 рабочай моладзі, музычная і спартыўная школы, школа-інтэрнат, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, Палац культуры будаўнікоў, Палац культуры аб'яднання «Шкловалакно», 2 народныя тэатры, краязнаўчы музей, 21 масавая бібліятэка, 2 кінатэатры, 7 клубных устаноў, філіял Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобл. Выдаецца газета «Сцяг камунізму».

У горадзе пастаўлены помнікі: З У. І. Леніну; герою Грамадзянскай вайны У. М. Азіну; піянеру-герою П. Марозаву; Героям Савецкага Саюза І. К. Айтыкаву, І. Е. Аляксееву, А. К. Гараўцу; 2 Т. С. Марыненка; ахвярам фашызму; савецкім ваеннапалонным і ахвярам фашызму; Вызвалення; воінам-гвардзейцам; савецкім воінам; вучням і настаўнікам былой школы № 12; 4 на брацкіх магілах савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; камсамольцам Полаччыны; Францыску Скарыне; насыпаны Курган Бессмяротнасці.



**XIX.** *Фрагмент забудовы вуліцы імя 6-й гвардзейскай арміі.*

Зоны адпачынку — поймы рэк Заходняя Дзвіна і Палата, дзе знаходзяцца пляжы і паркі, 2 стадыёны, зімовы плавальны басейн, дзіцячая турбаза.

*Літ.:* Полоцк: Исторический очерк.— Мн., 1962; Штыхов Г. В. Общие и отличительные черты политического строя древнего Новгорода и Полоцка.— У кн.: Становление раннефеодальных славянских государств. Киев, 1972; яго ж. Древний Полоцк. IX—XIII вв.— Мн., 1975; Сапунов А. Река Западная Двина.— Витебск, 1893; Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966. *С. Ф. Самбук, Т. І. Чарняўская, Г. В. Штыхаў.*

**1834. БАРЫСАЎ КАМЕНЬ** (гіст.). Мясцовыя назвы Барыс-хлебнік, Барыс, Барыс-Глеб. Каля Сафійскага сабора, на правым беразе Заходняй Дзвіны. Раней знаходзіўся каля в. Падкасцельцы, за 5 км ад Полацка, на правым беразе Заходняй Дзвіны. Камень-валун (палявы шпат чырванаватага колеру) каля 8 м у акружнасці, паверхня няроўная. На камені высечаны шасціканцовы крыж (даўжыня больш за 1,5 м) і надпісы «ХС НИКА» і «Господи помози рабу своему Борису». Раней у басейне Заходняй Дзвіны было больш за 10 валуноў з аднолькавымі крыжамі і надпісамі. Мяркуюць, што крыжы выбіты паводле загаду князя Барыса Усяславіча ў 1-й трэці 12 ст. ў сувязі з ажыўленнем язычніцкіх вераванняў і для ўвекавечання імя князя.

Барысаў камень — помнік эпіграфікі 12 ст.

*Літ.:* Сапунов А. П. Двинские или Борисовские камни.— Витебск, 1890; Рыбаков Б. А. Русские датированные надписи XI—XIV веков.— М., 1964. *Г. В. Штыхов.*

**1835. БЕЛЬЧЫЦКІ БАРЫСАГЛЕБСКІ МАНАСТЫР** (архіт., археал.). Раён вул. Юбілейнай і Юбілейнага завулка. Заснаваны ў былым прадмесці Полацка Бельчыцы, на левым беразе Заходняй Дзвіны ў сутоку з р. Бельчанка, за 2 км ад Верхняга замка. Уключаў 4 мураваныя храмы



**XIX.** *Фрагмент забудовы вуліцы П. Броўкі.*



**1834.** *Барысаў камень.*

(зберагліся фундаменты 3 цэркваў), пабудаваныя ў 12 ст. ў тэхніцы «паласатай» мuроўкі, з'яўляўся састаўной часткай рэзідэнцыі полацкіх князёў. У Іпацьеўскім летапісе пад 1159 г. сказана: «...бяшеть бо князь в то время на Бельцици». Паводле сцвярджэння гісторыка 16 ст. М. Стрыйкоўскага Бельчыцы былі ўмацаваны вежамі і мураванай сцяной (у 17 ст. разбурана полацкім уніяцкім архіепіскапам І. Кунцэвічам).

Ініцыятарам будаўніцтва аднаго з храмаў быў, верагодна, полацкі князь Барыс Усяслаўіч (памёр у 1128 г.). У 1928 г. паўразбураны будынак і фундаменты 2 пабудоў даследаваў І. М. Хозераў. Самы вялікі трохапсідны сабор (1120—30 гг., назва невядомая) быў падзелены 6 стаўпамі на 3 нефы, меў 3 прытворы. Фасады дэкарыраваны плоскімі лапаткамі. Фундамент храма закладзены ў пясчаным грунце на глыбіні 1,63 м. Падлога была выкладзена паліванымі пліткамі, сцены аздоблены фрэскамі. Другі храм — аднанефавая Пятніцкая царква памерамі каля 5,1×8 м (верагодны дойлід Іаан) мела прамавугольную апсіду, прытвор, падземную камеру (крыпту; магчыма, пахавальня князя Барыса Усяслаўіча). Унутры была размалявана фрэскамі на сюжэты евангельскага цыкла. На паўночнай сцяне кампазіцыі «Грамніцы» і «Распяцце», на паўднёвай — «Аплакванне». Ніжні ярус — фігуры святых. На заходнім баку перадалтарных слупоў — выявы князёў Барыса і Глеба. Трэці храм — крыжовакупальная шасцістаўповая Барысаглебская царква мела вузкія бакавыя нефы, прытвор, своеасаблівы падкупальны пастамент і 3 апсіды (2 бакавыя ў тоўшчы ўсходняй сцяны). У 1911 г. абследаваў І. І. Далгоў. Унутры сцены былі размаляваны фрэскамі з выявамі святых, арнаментам. Чацвёрты храм крыжападобны ў плане, з 3 паўкруглымі апсідамі (трыконх) сведчыць аб культурных сувязях з балканскімі краінамі, дзе выкарыстоўваўся такі тып пабудовы.

Храмы Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра — раннія помнікі полацкай школы дойлідства 12 ст.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 3.— Л.; М., 1966; В о р о н и н Н. Н. Бельчицкие руины.— У кн.: Архитектурное наследство, 1956, № 6; Ш т ы х о в Г. В. Древнеполоцкое каменное зодчество.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967; С я л і ц к і А. Весткі з архіва.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1982, № 4; я г о ж. Старажытны полацкі жывапіс (XI—XII стст.).— Мастацтва Беларусі, 1984, № 4, 6. *Г. В. Штыхаў.*

**1836. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст., маст.). Пл. Леніна, у скверы. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні Полацка і Полацкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Піліп Цімафеевіч Сушкоў і Васіль Дзмітрыевіч Халёў.

П. Ц. С у ш к о ў нарадзіўся 11.10. 1906 г. ў с. Пясчанае Новааскольскага р-на Белгарадскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. З 1928 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г.— камандзір батальёна, палка, з 1944 г. намеснік камандзіра стралковай дывізіі. 22—29.6.1944 г. воіны дывізіі ў час прарыву варожай абароны каля в. Сіроціна і фарсіравання Заходняй Дзвіны знішчылі каля 1 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка, вызвалілі больш за 300 населеных пунктаў. 30.6.1944 г. ў баі пры фарсіраванні



**1839.** *Брацкія магілкі савецкіх воінаў.*

р. Тураўлянка гвардыі падпалкоўнік П. Ц. Сушкоў падняў байцоў у атаку. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7. 1944 г.

В. Дз. Х а л ё ў нарадзіўся 1.1.1913 г. ў г. п. Марыец Мары-Турэкскага р-на Марыйскай АССР. З рабочых. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Пры вызваленні Полацка танк малодшага лейтэнанта В. Дз. Халёва 2.7.1944 г. першым уварваўся ў горад, экіпаж знішчаў праціўніка з гарматы і агнямёта, калі скончыліся боепрыпасы, адбіваўся гранатамі. У баі танк быў падбіты. Экіпаж загінуў. В. Дз. Халёў згарэў у машыне, але ворагу не здаўся. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г. У Полацку імем В. Дз. Халёва названа вуліца, на ўшанаванне памяці экіпажа танка ў 1980 г. пастаўлены помнік.




**1836.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1840. *План заходняй часткі Полацка канца 18 ст. з валам Івана IV Грознага (I — Верхні замак, II — Ніжні замак): 1 — Вал Івана IV Грознага; 2 — езуіцкі калегіум; 3 — Парадная плошча; 4 — Сафійскі сабор.*



1840. *Вал Івана IV Грознага.*

У 1981 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік (арх. В. Аладаў, скульпт. Г. Мурамцаў; бронза, граніт, бетон) — архітэктурна-скульптурная кампазіцыя, цэнтрам якой з'яўляецца прадаўгаватая ў плане стэла (15×5×3 м), абліцаваная шэрым гранітам. Справа на стэле бронзавы гарэльеф з выявамі 3 воінаў (паранены воін, воін з аўтаматам і воін са сцягам), злева — памятны надпіс. На левай бакавой грані і на тыльным баку стэлы — бронзавыя дошкі з тэкстам загада Вярхоўнага галоўнакамандуючага Узброенымі сіламі СССР з нагоды вызвалення горада і з пералікам вайсковых часцей, якія вызвалілі Полацк ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і часцей, што атрымалі ганаровае найменне «Полацкіх». Перад стэлай цёмна-чырвонае гранітнае надмагілле (3×3 м) з імёнамі пахаваных. Пляцоўка ансамбля выкладзена бетоннымі плітамі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. В. Кірэйшын, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1837. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Дзяржынскага, на Фатынаўскіх могілках. Пахаваны 108 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1838. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Гагарына, на Чырвоных могілках. Пахаваны 160 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні Полацка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1839. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Суворава, на Громаўскіх могілках. Пахаваны 348 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1950 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1840. ВАЛ ІВАНА IV ГРОЗНАГА** (гіст.). Уздоўж вуліц Фрунзе, Горкага, Замкавага завулка, на левым беразе р. Палата. Быў умацаваннем Ніжняга замка, абмяжоўваў яго з паўднёвага і ўсходняга бакоў, з паўночнага ўсходу прымыкае да Верхняга замка. Збярогся часткова, даўжыня каля 400 м, шырыня 30 м, вышыня 7—10 м. Першыя пісьмовыя звесткі аб Ніжнім замку, так званай Стралецкай крэпасці, адносяцца да часоў Лівонскай вайны 1558—83 гг., калі Полацк быў узяты рускімі войскамі (1563 г.). Магчыма, у гэты час і быў насыпаны вал. Не выключана, што пры яго пабудове выкарыстаны рэшткі валоў больш ранняга вакольнага горада, які існаваў тут побач з дзядзінцам (Верхнім замкам). Паводле плана 1579 г. С. Пахалавіцкага на вале было 9 вежаў (Наўгольная, Невельская, Ільінская, Міронаўская, Варвары і інш.). Паводле апісання, зробленага ў 1654—55 гг., даўжыня ўмацаванняў Ніжняга замка складала 863 сажані.

*Літ.:* Даўгяла З. Polociae moenia: (Гістарычна-тапаграфічны нарыс Полацкіх умацаванняў).— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 3. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Витебская старина/Сост. А. П. Сапунов. Т. 4.— Витебск, 1885.

*Г. В. Штыхаў.*

**1841. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). 2-і завулак Фрунзе, на правым беразе р. Палата, за 0,8 км ад упадзення яе ў Заходнюю Дзвіну. Пачатковае ядро горада. Узвышша астраўнога тыпу, плошча каля 1 га. Выявіў і даследаваў у 1928 г. А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1960 г. і 1962 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 4,5 м, моцна пашкоджаны могілкамі 19 ст., добра захаваўся па краях пляцоўкі. Выяўлены рэшткі старажытных земляных умацаванняў. Пры раскопках зной-



1841. *Гарадзішча. План.*



1841. *Гарадзішча.*



**1842.** *Езуіцкі калегіум.*



**1842.** *Езуіцкі калегіум. Галоўны корпус. Дваровы фасад.*



**1842.** *Езуіцкі калегіум. Будынак кадэцкага корпуса. Заходні фасад.*

дзены матэрыялы днепра-дзвінскай культуры першых стагоддзяў н. э. і ўмацаванага паселішча крывічоў 9—10 стагоддзяў. У пачатку 11 ст. дзядзінец горада быў перанесены на Верхні замак.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Полацкім краязнаўчым музеі і ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Древний Полоцк. IX—XIII вв.— Мн., 1975. *Г. В. Штыхаў.*

**1842. ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ** (гіст., архіт.). Паміж вул. Горкага і Замкавым завулкам. Цяпер тут медыцынская ўстанова.

Езуіцкі калегіум заснаваны ў 1581 г. П. Скаргай як сярэдняя навучальная ўстанова класічнага (пераважна філалагічнага) тыпу. Існаваў на сродкі, адабраныя ў праваслаўных цэркваў і манастыроў каралямі Рэчы Паспалітай. Меў на мэце выхаванне ў навучэнцаў глыбокай рэлігійнасці, адданасці каталіцызму і ордэну езуітаў. У 5 класах выкладаліся лацінская, грэчаская мовы, старажытная літаратура, красамоўства, стылістыка, паэтыка і свяшчэннае пісанне. У калегіуме ў 1618—21 гг. і 1626—27 гг. лекцыі па рыторыцы, паэтыцы і антычнай міфалогіі чытаў паэт-гуманіст і мысліцель М. К. Сарбеўскі. Пры калегіуме быў тэатр, які ставіў п'есы гістарычнай, антычнай і біблейскай тэматыкі ў духу эстэтыкі барока і класіцызму.

Драўляныя будынкі, пастаўленыя ў 1581 г. на востраве Заходняй Дзвіны, у якіх размясціўся калегіум, у пачатку 17 ст. згарэлі. У 1-й палавіне 17 ст. на новым месцы паміж Верхнім замкам і горадам пабудаваны драўляны касцёл св. Стафана, будынкі келляў і вучылішчаў. У 1733—45 гг. пасля пажару на месцы драўлянага ўзведзены мураваны касцёл — трохнефавая крыжова-купальная базіліка з двухвежавым фасадам. Перад касцёлам сфарміравана вялікая прамавугольная Парадная пл. (цяпер пл. Леніна) — галоўная ў горадзе. Побач з касцёлам у 1750 г. пачалі ўзводзіць мураваны трохпавярховы галоўны будынак калегіума. Е-падобны ў плане будынак галоўным прадаўгаватым фасадам з парадным уваходам арыентаваны на поўдзень, на Заходнюю Дзвіну, быў злучаны з касцёлам. У двухпавярховым сярэднім крыле на 1-м паверсе размяшчалася трапезная, на 2-м — бібліятэка і музей, да трапезнай прылягаў аднапавярховы будынак кухні. Астатняя частка будынка мела калідорную сістэму планіроўкі, капітальнымі сценамі была падзелена на 105 памяшканняў. Перакрыцці на ўсіх паверхах — цыліндрычныя скляпенні. Будынак абагравауся «цёплай» (з хадамі для цяпла) падлогай. У сценах зроблены вентыляцыйныя хады, у падвалах — развітая сістэма падземных вадасцёкаў. Зберагліся паўднёвая частка корпуса і заходняе крыло. У 1778 г. паралельна будынку касцёла ўзведзены трохпавярховы корпус, у якім на 1-м паверсе размясціліся кнігарня, на 2-м — спачатку вучылішча, потым друкарня, на 3-м — тэатр. З паўночнага боку да касцёла прыбудаваны двухпавярховы Г-падобны ў плане флігель для ксяндзоў, які аб'яднаў касцёл і галоўны корпус. У 1780 г. пабудаваны адна- і двухпавярховыя карпусы гаспадарчых службаў (бровар, медаварня, піваварня, пякарня, кузня, майстэрні і інш.; не зберагліся), якія абмяжоўвалі тэрыторыю калегіума з поўначы і захаду і замыкаліся двухпавярховым будынкам з брамай. Побач размяшчалася аптэка з лабараторыяй і сушыльняй для траў. У 1785 г. пасля прыезду ў Полацк (у якасці генерала ордэна) архітэктара і матэматыка Габрыэла Грубэра пабудаваны корпус (злучыў трохпавярховы і галоўны карпусы), дзе размясціліся карцінная галерэя, музей, абсерваторыя, хімічная лабараторыя, вучэбныя кабінеты (не зберагліся). На поўдзень ад аптэкі пабудаваны 2 флігелі — памяшканні для семінарыстаў і багадзельні. Паўднёвы схіл узгорка, на якім стаяў галоўны корпус, быў умацаваны падпорнай сцяной (зберагласяя), на створанай тэрасе разбіты пладовы сад. У 1812 г. калегіум пераўтвораны ў езуіцкую акадэмію — вышэйшую каталіцкую навучальную ўстанову. Ёй былі падначалены ўсе езуіцкія школы Расіі — у Полацку, Дынабургу, Оршы, Магілёве, Віцебску, Рызе, Адэсе, Астрахані і інш. Выкладанне вялося на польскай мове. Навучанне было схаластычнае, у навучэнцаў выхоўвалі рэлігійнасць, адданасць каталіцызму і справе ордэна езуітаў. Мела факультэты: моў, вольных навук, тэалагічны; друкарню, бібліятэку (больш за 20 тыс. тамоў), кабінеты, лабараторыі. У акадэміі вучыліся

беларускі і польскі пісьменнік Ян Баршчэўскі, археолаг К. Тышкевіч. У 1820 г. акадэмія закрыта. З 1822 г. калегіум займалі манахі ордэна піяраў. У 1830 г. ў Полацку заснаваны кадэцкі корпус, які размясціўся ў будынках калегіума. Да 1835 г. былі рэканструяваны старыя і пабудаваны новыя карпусы: кадэцкі корпус (прыбудаваны да заходняга крыла галоўнага корпуса былога калегіума), дом дырэктара і 5 службовых будынкаў (арх. А. Порта; зберагліся часткова). Каля 1838 г. касцёл перабудаваны ў Мікалаеўскую царкву (не збераглася).

Комплекс Полацкага езуіцкага калегіума — адзін з буйнейшых горадабудаўнічых ансамбляў 18—19 стагоддзяў.

*Літ.:* Викентьев В. П. Полоцкий кадетский корпус: Исторический очерк 75-летия его существования.— Полоцк, 1910; Materyały do dziejów Akademii Połockiej i szkół od niej zależnych.— Kraków, 1905. *Г. Я. Галенчанка, Т. І. Чарняўская.*

**1843. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНА** (архіт., гіст.). У цэнтры горада, уздоўж правага берага р. Заходняя Дзвіна. Адна з старажытных вуліц горада. Сучасную канфігурацыю набыла ў канцы 18 ст. ў адпаведнасці з рэгулярнай планіроўкай. Захаваліся культавыя, грамадскія і жылыя будынкі, якія складаюць адзіны комплекс адна-, двухпавярховых мураваных пабудоў з своеасаблівай мясцовай трактоўкай форм барока і класіцызму.

Дом № 20, францысканскі кляштар. Пабудаваны ў пачатку 18 ст. з цэглы. Складаўся з жылога корпуса і касцёла (не збярогся). У сярэдзіне 19 ст. жылы корпус прыстасаваны пад адміністрацыйную ўстанову. Цяпер частка будынка выкарыстоўваецца адміністрацыйнай установай, частка адведзена пад жыллё. Двухпавярховы ў плане прамавугольны будынак з бакавым рызалітам (на дваровым фасадзе). Галоўны фасад арыентаваны на лінію забудовы вуліцы. Плоскасці сцен падзелены карнізным паяском, завершаны развітым прафіляваным карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы з ліштвамі, на 2-м паверсе з дэкаратыўнымі нішамі. Унутраная планіроўка зменена.

Будынак — помнік архітэктуры барока.

У 1917 г. ў будынку размяшчаўся Полацкі камітэт РСДРП. У канцы чэрвеня 1917 г. ў Полацку афармілася арганізацыя РСДРП аб'яднаных інтэрнацыяналістаў, якая стала на пазіцыі бальшавікоў. 5 ліпеня на сходзе арганізацыі былі прыняты рэзалюцыі «Аб уладзе», «Аб вайне», якія падтрымлівалі рашэнні 7-й (Красавіцкай) канферэнцыі бальшавікоў. 28.7(10.8).1917 г. Полацкі камітэт РСДРП звярнуўся ў ЦК РСДРП(б) з просьбай зацвердзіць арганізацыю. Да восені 1917 г. Полацкая арганізацыя РСДРП(б) налічвала каля 40 чалавек. У канцы жніўня ў час контррэвалюцыйнага выступлення генерала Карнілава Полацкі Савет стварыў ваенна-рэвалюцыйнае бюро з мэтай прадухіліць выступленні контррэвалюцыі ў Полацку. Пад яго кіраўніцтвам атрады салдат і рабочых разам з чыгуначнай міліцыяй не прапусцілі праз станцыю эшалоны з контррэвалюцыйнымі войскамі ў рэвалюцыйны Петраград. 2—6.11.1917 г. ў Полацку адбыўся 2-і з'езд салдат 3-й арміі Заходняга фронту, які выбраў армейскі камітэт і па прапанове фракцыі бальшавікоў — Ваенна-рэвалюцыйны камітэт (ВРК). Па ініцыятыве ВРК загараджальныя атрады не пусцілі праз горад часці 1-га Астраханскага казацкага палка 3-й арміі, накіраваныя штабам Заходняга фронту на дапамогу Керанскаму. 17.11.1917 г. армейскі камітэт фактычна распаўся, улада ў горадзе і арміі перайшла да ВРК, у склад якога ўваходзіла 8 бальшавікоў. У лістападзе 1917 г. ў Полацку поўнасцю ўсталявалася Савецкая ўлада.

У 1978 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Дамы № 22, 24, Богаяўленскі мужчынскі манастыр. Заснаваны ў 16 ст., з'яўляўся цэнтрам праваслаўнага полацкага брацтва, у школе якога ў 1656 г. выкладаў Сімяон Полацкі. Складаўся з Богаяўленскай царквы і жылога корпуса (цяпер выкарыстоўваецца пад жыллё). У пачатку 17 ст. драўляныя бу-



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 20. Жылы корпус былога францысканскага кляштара.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 20. Жылы корпус былога францысканскага кляштара. План 1-га паверха.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 22. Жылы корпус былога Богаяўленскага мужчынскага манастыра.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Богаяўленская царква.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Богаяўленская царква. Галоўны фасад. Чарцёж.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Жылы дом № 26.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Жылы дом № 30.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 9/1.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 9/1. План 1-га паверха.*

дынкі манастыра згарэлі. Пасля пажару 1757 г. пабудаваны (1761—79 гг.) мураваная Богаяўленская царква (пасля рэстаўрацыі з 1981 г. тут размяшчаецца карцінная галерэя). У 1780—88 гг. каля царквы пастаўлены мураваныя двухпавярховыя будынкі: з захаду жылы корпус, з усходу — школа (з 1835 г. мужчынскае духоўнае вучылішча; не захавалося). Богаяўленская царква — крыжова-купальны аднаапсідны храм з 2 аднаяруснымі вежамі на галоўным (заходнім) фасадзе. Над перасячэннем асноўнага аб'ёму і трансепта — высокі светлавы барабан з сферычным купалам, завершаны ліхтаром. Такія ж завяршэнні і на вежах. Сцены, вежы, барабан купала прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і расчлянёны пілястрамі. Па перыметры будынка праходзіць карніз простай прафіліроўкі. Інтэр'ер двухсветлавы, у заходняй частцы — хоры. У цэнтры 4 масіўныя слупы квадратнага сячэння падтрымліваюць купал на ветразях. Перакрыцці — цыліндрычныя скляпенні на распалубках. На ўнутранай паверхні барабана — рэшткі насценнага жывапісу, у прасценках барабана — размалёўка (трохметровыя фігуры 3 свяціцеляў), выкананая ў тэхніцы тэмперы (2-я палавіна 18 ст., часткова аднаўлена ў 19 ст.). Жылы корпус Г-падобны ў плане. Ва ўсходнім крыле размяшчаліся келлі манахаў, пакоі ігумена, у вуглавой частцы — 2 цёплыя царквы: Ефрасіннеўская і Кацярынінская (планіроўка зменена). З-за няроўнасці рэльефу частка будынка мае паўпадвальны паверх. Галоўны (паўночны) фасад арыентаваны на вул. Леніна. Сцены 1-га паверха апрацаваны рустам і расчлянёны невялікімі лучковымі аконнымі праёмамі. На гладкай паверхні сцен 2-га паверха — шырокі паясок, прамавугольныя аконныя праёмы з ліштвамі. Вуглавая частка будынка вылучана 4 дарычнымі паўкалонамі, была завершана франтонам і невялікай вежай (не зберагліся).

У 1959 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка Сімяону Полацкаму.

Комплекс Богаяўленскага манастыра — помнік архітэктуры барока з элементамі класіцызму.

Д о м № 26. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы, неатынкаваны. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму прылягае тамбур з уваходам з боку двара. Галоўны фасад дэкарыраваны аконнымі ліштвамі, аркатурнымі паясамі, руставанымі лапаткамі, арнаментальнымі элементамі. На 2-м паверсе ажурны балкон (чыгуннае ліццё). Будынак — помнік архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн».

Д о м № 30. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём. Паверхі аддзелены карнізным пояском, плоскасці сцен прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны сандрыкамі. Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

У аналагічных архітэктурных формах вырашаны дамы № 38, 40, 46, 48. Своеасаблівы комплекс складаюць будынкі на процілеглым баку вуліцы.

Д о м № 9/1. На скрыжаванні вуліц Леніна і Горкага. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы як адміністрацыйны будынак. Цяпер тут размешчаны швейны цэх камбіната бытавога абслугоўвання. Двухпавярховы з паўпадвальным паверхам будынак. Накрыты вальмавым дахам. Паверхі аддзелены карнізным пояском. Сцены завершаны масіўным карнізам з сухарыкамі. Прамавугольныя вокны з ліштвамі дэкарыраваны простымі сандрыкамі. Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 11. Былая лютэранская царква.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 11. Былая лютэранская царква. План.*

Дом № 11, лютэранская царква. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Цяпер тут размяшчаецца Полацкі краязнаўчы музей. Аднавежавы (на галоўным фасадзе) храм. У кампазіцыі выкарыстаны ступеньчатыя контрфорсы, пінаклі, стральчатыя праёмы. Царква — помнік архітэктуры несапраўднай готыкі.

Дом № 33, дом Пятра І. Пабудаваны ў 1692 г. як жылы, перабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. Цяпер тут размешчана гарадская дзіцячая бібліятэка імя Л. М. Талстога. Перад будынкам пастаўлены помнік Л. М. Талстому.

Аднапавярховы з паўпадвальным паверхам будынак у плане мае форму няправільнага прамавугольніка. Асноўныя дэкаратыўныя элементы сканцэнтраваны на галоўным паўднёвым і тарцовым (вул. Сака і Ванцэці) фасадах. Плоскасці сцен прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і фігурнымі сандрыкамі, цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана 2 прафіляванымі філёнгамі. Тарцовы фасад завершаны фігурным атыкам з ляпнымі разеткамі (перароблены ў 19 ст.). Парадныя ўваходныя дзверы дэкарыраваны раслінным арнаментам і маскаронамі (разьба па дрэве). Перакрыцці 1-га паверха бэлечнае, паўпадвальнага — скляпеністае.

У архітэктуры будынка выкарыстаны элементы барока.

У доме з 12.6 да 15.7.1705 г. жыў Пётр I, які прыязджаў на Беларусь для кіраўніцтва рускімі войскамі ў Паўночную вайну 1700—21 гг. У 1952 г. ў памяць аб знаходжанні Пятра I у Полацку на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Дом № 35. На скрыжаванні вуліц Леніна і Энгельса. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы як жылы. Аднапавярховы Г-падобны ў плане будынак. Галоўны фасад (арыентаваны на вул. Леніна) вертыкальнымі філёнгамі расчлянёны на 3 часткі. Вокны цэнтральнай часткі абрамлены прафіляванымі аркамі, бакавых — простымі сандрыкамі з кранштэйнамі. Сцены фасадаў дэкарыраваны паяском над вокнамі і завершаны тонка-прафіляваным карнізам. Да тарцовай часткі прыбудаваны тамбур з галоўным уваходам. Унутраная планіроўка анфіладная (цяпер часткова зменена).

У архітэктуры будынка выкарыстаны элементы класіцызму.

*М. В. Кірэйшын, Т. І. Чарняўская.*

**1844. ЗАБУДОВА ПЛОШЧЫ ЛЕНІНА** (архіт., гіст.). У заходняй частцы горада. Сфарміравана ў 17 ст. перад будынкамі калегіума і касцёла езуітаў. З 18 ст. вядома як Парадная пл., з 1830 г.— Корпусная, цяпер — пл. Леніна.

Ансамбль 18 ст. фарміраваўся ў 2 этапы: у 1776 г. пастаўлены будынкі паштовага двара, магістрата, канцылярыі (не збераглісія), да 1784 г.— жылыя і адміністрацыйныя будынкі паводле праекта арх. І. Зігфрыдэна. Плошча ў плане мела форму блізкую да квадрата. На заходнім яе баку знаходзіліся касцёл (не збярогся) і калегіум езуітаў, на ўсходнім — будынкі грамадзянскай і крымінальнай палат, намесніцкага праўлення (не збераглісія), на паўднёвым — дамы губернатара, магістрата, верхняй і ніжняй упраў, на паўночным — дамы каменданта і віцэ-губернатара, земскіх судоў, комплекс дамініканскага манастыра (17 ст., не збярогся). Збераглісія будынкі калегіума, магістрата і дома губернатара, верхняй і ніжняй упраў (цяпер пр. К. Маркса, № 4, 6, 8), дамы каменданта і віцэ-губернатара (цяпер Замкавы завулак, № 3, 5). Будынкі двухпавярховыя, мураваныя, падобныя па планіроўцы, аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі і дэкору. Утваралі адзіны ансамбль забудовы. У планіроўцы і рэгулярнай забудове плошчы адлюстраваны элементы класіцызму: строгая сіметрыя размяшчэння будынкаў, вылучэнне галоўнага архітэктурнага элемента, стварэнне вялікай замкнутай прасторы.

Дом губернатара (пр. К. Маркса, 6). Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана медыцынская ўстанова. Двухпавярховы П-падобны ў плане будынак. Галоўны фасад арыентаваны на плошчу, вызначаецца прастатой архітэктурных форм, пазбаўлены дэкаратыўных дэталей. Гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, завершаны агульным прафіляваным карнізам. На 1-м паверсе былі службовыя памяшканні і канцылярыя, на 2-м — жылыя пакоі.



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом Пятра І.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом Пятра І. Уваходныя дзверы. Разьба па дрэве.*



**1843.** *Забудова вуліцы Леніна. Жылы дом № 35.*

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

У аналагічных архітэктурных формах вырашаны дамы № 4 і 8.

Дом каменданта (Замкавы завулак, 3). Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Цяпер тут адміністрацыйная ўстанова. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Плоскасці сцен прарэзаны прамаву-



**1844.** *Забудова плошчы Леніна. Былы дом губернатара.*

гольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, завершаны простым прафіляваным карнізам. Да дваровага фасада прыбудавана лесвіца, якая вядзе на 2-і паверх. Меў па 2 пакоі на кожным паверсе (планіроўка зменена).

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

У гэтым доме ў 1921—22 гг. жыў герой Грамадзянскай вайны Ян Фрыцавіч Фабрыцыус.

Я. Ф. Фабрыцыус нарадзіўся 14.6. 1877 г. на былым хутары Ванкстрэйбей Курляндскай губерні (цяпер Вентспілскі р-н Латвійскай ССР) у сям'і батрака. Член КПСС з 1903 г. Скончыў Рыжскую гімназію (1894 г.). Працаваў рабочым на заводах у Рызе, Віндаве, Мітаве. У рэвалюцыйным руху ўдзельнічаў з 1891 г. У 1904 г. асуджаны на 4 гады катаргі, з 1908 г. ў ссылцы. З 1915 г. ў арміі, на Паўночна-Заходнім фронце, прапаршчык, штабс-капітан. Вёў рэвалюцыйную работу сярод латышскіх стралкоў. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, арганізацыі Саветаў і армейскіх камітэтаў на Паўночным фронце. З кастрычніка 1917 г. старшыня палкавога камітэта. З студзеня 1918 г. член ВЦВК, працаваў у ваеннай секцыі па фарміраванню часцей Чырвонай Арміі. З 1918 г. ў Чырвонай Арміі. У 1920 г. на Заходнім фронце,



**1844.** *Забудова плошчы Леніна. Былыя дамы каменданта і віцэ-губернатара.*



**1844.** *Забудова плошчы Леніна. Былы дом каменданта. План 1-га паверха.*



**1845.** *Верхні замак. Від з боку Заходняй Дзвіны.*

камандзір 48-й брыгады 16-й стралковай дывізіі, арганізатар прарыву Смаргонскага ўмацаванага раёна (ліпень 1920 г.). Удзельнік вызвалення Беларусі ад войск буржуазнай Польшчы, ліквідацыі антысавецкага кранштацкага мяцяжу (1921 г.). У 1921—22 гг. начальнік і камісар аб'яднаных курсаў камсаставу РСЧА у Полацку, у 1922—23 гг.— пяхотных курсаў камсаставу ў Мінску. У лютым 1921 г. на канферэнцыі Полацкай гарадской партыйнай арганізацыі выбраны дэлегатам X з'езда РКП(б). У 1923—24 гг. камандзір і камісар 2-й Беларускай стралковай дывізіі, з 1927 г. камандзір 4-га стралковага корпуса ў Віцебску. З 1928 г. памочнік камандуючага асобнай Каўказскай арміяй. Першы кавалер 4 ордэнаў Чырвонага Сцяга: 1919 г.— за баі каля Хінценбергскіх вышынь і ўзяцце Рыгі, 1920 г.— за прарыў пад Смаргонню, восень 1920 г.— за баі супраць войск буржуазнай Польшчы пад Ломжай, 1921 г.— за ўдзел у падаўленні кранштацкага мяцяжу. Член ЦКК ВКП(б) з 1927 г. Член ЦК КП(б)Б у 1927—28 гг. Кандыдат у члены ЦВК СССР у 1929 г. Член ЦВК БССР у 1922—23 гг., 1927—28 гг. Ганаровы член КСМБ (1922 г.).

Загінуў 24.8.1929 г. ў авіяцыйнай катастрофе каля Сочы.

У 1967 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Полацку і інш., імя Я. Ф. Фабрыцыуса прысвоена школе ў Смаргоні. На будынку Мінскага суվораўскага вучылішча ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Будынак № 5 аналагічны па планіроўцы і дэкору.

*Літ.:* Чудов И. С. Ян Фабрициус.— М., 1960; Владимиров А. В. Четверо легендарных.— М., 1969; Легендарный комбриг: Воспоминания о Я. Ф. Фабрициусе.— Рига, 1971.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**1845. ЗАМЧЫШЧЫ** (Верхні замак, Ніжні замак), **СЕЛІШЧА, ПАСАДЫ** (археал.).

Верхні замак. На правым беразе Заходняй Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Палата. Займае шырокае ўзвышша, плошча каля 10 га. Умацаваны цэнтр Полацка ў 11—17 стагоддзях. Быў абкружаны валам і драўлянымі сценамі з вежамі. Самая вялікая ўсходняя вежа — Красная (Каралеўская), відаць, была мураваная. Назвы драўляных вежаў: Праезная, Гуська, Калядная, Вежа-фортка, Новая, Ваяводская, Машна, Баярская. У паўднёвай яго частцы знаходзіцца Сафійскі сабор — помнік архітэктуры 11—18 стагоддзяў. Верхні замак вядомы паводле плана 1579 г. С. Пахалавіцкага, іншых крыніц 16—17 стагоддзяў, археалагічных раскопак савецкага часу. Раскопкі праводзілі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі, у 1957 г. М. К. Каргер, у 1959—60 гг. А. Р. Мітрафанаў, у 1961—62 гг. В. Р. Тарасенка, у 1967 і 1980 гг. Г. В. Штыхаў, у 1975—79 гг. В. А. Булкін. Даследавана 2 тыс. м² плошчы. Культурны пласт месцамі больш за 5 м. Адкапаны рэшткі двароў і пабудоў:



**1845.** *Каменны абразок «Канстанцін і Алена» з раскопак на Верхнім замку.*



**1845.** *Рэшткі жылля рамесніка 13 ст. Раскопкі на Верхнім замку.*



1845. *Стрэлка Ніжняга замка. Від з паўднёвага захаду.*

жылля, хлявоў, майстэрняў. Знойдзена вялікая колькасць вырабаў з жалеза, каляровых металаў, косці, каменю, гліны, скуры. Некаторыя знаходкі з'яўляюцца выдатнымі помнікамі дробнай пластыкі (каменны абразок «Канстанцін і Алена»).

Ніжні замак (Стралецкая крэпасць). Прымыкае да Верхняга замка з усходу (цяпер тут стадыён), плошча каля 6 га. Пабудаваны ў 16 ст. на месцы пасада ці, магчыма, вакольнага горада 11—13 стагоддзяў. Быў умацаваны драўлянымі сценамі з 7 вежамі. Часткова захаваўся вал Івана IV Грознага часоў Лівонскай вайны (16 ст.; гл. артыкул № 1840 «Вал Івана IV Грознага»). У 1984 г. на тэрыторыі Ніжняга замка знойдзены скарб залатых рэчаў (каваныя бранзалеты і грыўні) 9—10 стагоддзяў.

Селішча. На мысе правага берага р. Палата каля Чырвонага моста, з усходу прымыкае да гарадзішча. Перадгароддзе старажытнага Полацка. Плошча 0,25 га. У 1962, 1967, 1979, 1980 гг. Г. В. Штыхаў даследаваў 420 м² плошчы. Культурны пласт 0,6—1,2 м. Знойдзены ляпны посуд 8—9 стагоддзяў, ганчарны посуд 10—11 стагоддзяў, рэшткі майстэрні 10 ст., дзе апрацоўвалі металы. Выяўлены жалезныя шлакі, тыглі для плаўкі каляровых металаў, абрэзак сярэбранай арабскай манеты. Як і гарадзішча — найбольш старажытнае паселішча, адкуль пачынаўся Полацк.

Вялікі пасад. На ўсход ад Верхняга замка, паміж Заходняй Дзвіной і Палатой, у цэнтральнай частцы сучаснага горада, паміж вуліцамі Горкага і Энгельса. Плошча 49 га (з тэрыторыяй Ніжняга замка). Даследаваў у 1962, 1968, 1981 гг. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 2,5—4 м. Уздоўж Палаты і Заходняй Дзвіны ў пачатку вуліц Леніна і Скарыны выяўлены археалагічныя матэрыялы 12—13 стагоддзяў.

Запалоцкі пасад (Запалоцце). Уздоўж правага берага Заходняй Дзвіны на паўднёвы захад ад Верхняга замка. Плошча каля 16 га. Культурны пласт 0,8—2,5 м. Раскопкі на вуліцах Краснова і Я. Коласа праводзіў у 1961 і 1980 гг. Г. В. Штыхаў. Знойдзены ганчарны посуд канца 10—13 стагоддзяў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сапунов А. Река Западная Двина.— Витебск, 1893; Очерки по археологии Белоруссии. Т. 2.— Мн., 1972; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; яго ж. Работы Полоцко-Минского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *Г. В. Штыхаў.*

**1846. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт.). Вул. імя 23 гвардзейцаў, на левым беразе Заходняй Дзвіны. Заснаваны ў 1488 г. Аляксандрам Ягелончыкам. Мураваныя будынкі касцёла і кляштара ўзведзены ў канцы 17 — пачатку 18 ст. Комплекс уключаў таксама гаспадарчыя пабудовы (кузню, стайню, свіран і інш.), пладовы сад з агародам. Збярогся двухпавярховы мураваны жылы будынак. Цяпер у ім размешчана медыцынская ўстанова.

У плане — выцягнуты прамавугольнік, з захаду завершаны перпендыкулярна размешчаным крылом з трапезнай на 1-м паверсе. З усходу вузкім пераходам злучаўся з касцёлам. Унутраная планіроўка галерэйная з аднабаковым размяшчэннем келляў, перакрыцце памяшканняў скляпеністае. Архітэктура жылога будынка вызначаецца прастатой, мае сціплы дэкор: прамавугольныя ліштвы акон, плоскія пілястры, прафіляваны карніз.

Кляштар — помнік архітэктуры барока.

*Літ.:* Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846. *Т. І. Чарняўская.*



1846. *Кляштар бернардзінцаў. Дваровы фасад былога жылога корпуса.*

**1847. КУРГАН БЕССМЯРОТНАСЦІ** (гіст., маст.). У паўднёвай частцы горада, на левым беразе Заходняй Дзвіны, у парку 50-годдзя Савецкай улады.

Насыпаны жыхарамі горада ў 1966 г. на ўшанаванне памяці 150 тыс. жыхароў Полацка і Полацкага р-на, якіх загубілі гітлераўцы ў Вялікую Айчынную вайну, а таксама воінаў Чырвонай Арміі, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Полацкага р-на. Для кургана прывезена зямля з брацкіх магіл Аршанскага, Верхнядзвінскага, Глыбоцкага, Лепельскага, Полацкага, Расонскага р-наў, з Брэсцкай крэпасці-героя, з могілак савецкіх воінаў на Альшанах у Празе. Курган (вышыня 10 м) дамінуе над наваколлем. Каля яго падножжа запалены Вечны агонь, пад мармуровай плітой замуравана завяшчанне нашчадкам 2017 г., на другой мармуровай пліце высечаны памятны надпіс. Ад кургана да Заходняй Дзвіны пракладзена бетонная лесвіца, каля яе падножжа — будынак музея баявой славы (аддзел Полацкага краязнаўчага музея). У інтэр'еры музея насценная тэмперная размалёўка «Памяць» (1972 г., мастак В. Лук'янаў). Строгая пластыка фігур воінаў і партызан, што нібы застылі каля Вечнага агню, дакладны лінейны рытм



1845. *Запалоцкі пасад. Здымак 1962 г.*



1847. *Курган Бессмяротнасці.*

кампазіцыі, трывожны чырвоны колер перадаюць смутак па тых, хто загінуў у барацьбе супраць фашызму.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*М. В. Кірэйшын, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1848. МАГІЛА ЖУРБЫ** Янкі (гіст.). Вул. Фрунзе, на Ксавер'еўскіх могілках.

Беларускі савецкі паэт Я. Журба (сапраўднае Івашын Іван Якаўлевіч) нарадзіўся 18.4.1881 г. ў в. Купіно Чашніцкага р-на (цяпер у межах Чашнікаў) у сялянскай сям'і. Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю (1902 г.), Глухаўскі настаўніцкі інстытут (1909 г.). Настаўнічаў на Беларусі і Украіне. З 1921 г. працаваў у навукова-педагагічнай камісіі Народнага камісарыята асветы БССР, з 1923 г.— інспектарам Бабруйскага, Калінінскага (г. Клімавічы) акруговых аддзелаў народнай асветы, з 1927 г.— настаўнікам, потым да 1937 г.— у Інстытуце мовазнаўства АН БССР. Друкавацца пачаў у 1902 г. на рускай мове. Першы верш на беларускай мове «На беразе Дзвіны» апублікаваў у 1909 г. ў газеце «Наша ніва». Выйшлі зборнікі вершаў «Заранкі» (1924 г.), «Выбраныя творы» (1950 г.), «Ясныя шляхі» (1959 г.), «Вершы» (1970 г.), «Роднае» (1980 г.). Пісаў для дзяцей: зборнікі «Ластаўкі» (1950 г.), «Сонечная раніца» (1955 г.), «Светлыя дні» (1959 г.). Аўтар публіцыстычных артыкулаў («Лісты з Украіны»), апавяданняў («Перад святам»). Тэматыка дарэвалюцыйнай паэзіі — пратэст супраць сацыяльнага прыгнёту, абуджэнне сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці, любоў да роднага краю, свайго народа. Творчасць паэта савецкага перыяду прасякнута ўслаўленнем заваёў Кастрычніка, дружбы народаў СССР, стваральнай працы.

Памёр Я. Журба 7.1.1964 г. ў Полацку. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пра час і пра сябе.— Мн., 1966; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*М. В. Кірэйшын.*

**1849. МАГІЛА ПІСАРЭНКІ** Андрэя Яфрэмавіча (гіст.). Вул. Гагарына, на Чырвоных могілках.

Герой Савецкага Саюза А. Я. Пісарэнка нарадзіўся 21.5.1908 г. ў Ленінградзе. З рабочых. З 1924 г. працаваў у Полацку, у 1932—35 гг.— у органах НКУС БССР. У 1927—32 гг. і з 1939 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Бранскім, Цэнтральным франтах. 28.9.1943 г. ў баі каля с. Роцічы Чарнобыльскага р-на Кіеўскай вобл. рота пад камандаваннем лейтэнанта А. Я. Пісарэнкі мужна адбівала атакі ворага, контратакавала. А. Я. Пісарэнка быў цяжка паранены, але працягваў змагацца, пакуль ад выбуху варожага снарада не страціў зрок. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. Пасля вайны жыў у Полацку.

Памёр 24.2.1966 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.
*М. В. Кірэйшын.*

**1850. МАГІЛА ТУСНАЛОБАВАЙ-МАРЧАНКА** Зінаіды Міхайлаўны (гіст.). Вул. Гагарына, на Чырвоных могілках.

Герой Савецкага Саюза З. М. Тусналобава-Марчанка нарадзілася 23.11. 1920 г. на былым хутары Шаўцова Расонскага р-на. Член КПСС з 1942 г. Да Вялікай Айчыннай вайны працавала лабаранткай-хімікам у Кузбасе. У 1941 г. скончыла курсы медсясцёр. З красавіка 1942 г. на фронце. За 8 месяцаў старшына медслужбы З. М. Тусналобава-Марчанка вынесла з поля бою 128 параненых. У лютым 1943 г. ў баі за станцыю Гаршэчнае Курскай вобл. цяжка паранена. Ей ампутавалі кісці рук і ногі. Мужная патрыётка не спыніла барацьбы: выступала па радыё, у газетах, перад рабочымі заводаў, заклікала біць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З яе імем байцы ішлі ў бой. Пасля вайны жыла ў Полацку. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.12.1957 г.

Памерла З. М. Тусналобава-Марчанка 20.5.1980 г. Яе імем названы вуліца ў Полацку, многія піянерскія дружыны і школы рэспублікі. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Героини. В. 2.— М., 1969.
*М. В. Кірэйшын.*

**1851. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АЗІНУ** Уладзіміру Марцінавічу (гіст.). Вул. Горкага, 5. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяці героя Грамадзянскай вайны У. М. Азіна, які ў 1910—11 гг. вучыўся ў былым рэальным вучылішчы, што размяшчалася ў гэтым будынку. Гл. таксама артыкул № 1859 «Помнік Азіну Уладзіміру Марцінавічу».

**1852. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АЛЯКСЕЕВУ** Івану Епіфанавічу (гіст.). Вул. Аляксеева, 5, на будынку сярэдняй школы № 12. Устаноўлена 9.5.1949 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза І. Е. Аляксеева, які да Вялікай Айчыннай вайны вучыўся у гэтай школе. Гл. таксама артыкул № 1861 «Помнік Аляксееву Івану Епіфанавічу».

**1853. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАБУШКІНУ** Івану Васілевічу (гіст.).



1847. *Насценная размалёўка «Памяць» у інтэр'еры музея баявой славы.*

На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці прафесійнага рэвалюцыянера, паплечніка У. І. Леніна І. В. Бабушкіна, які ў верасні 1900 г. прыехаў у Полацк і адсюль па заданню У. І. Леніна наладжваў сувязь з марксістамі Екацярынаслава, Палтавы, Масквы, арганізоўваў пункты для транспарціроўкі нелегальнай літаратуры з-за мяжы. Яго імем названа адна з вуліц горада.

**1854. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАРЫНЕНКА** Таццяне Савельеўне (гіст.). Вул. Фрунзе, 26, на будынку педвучылішча. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Т. С. Марыненка, якая ў 1936—39 гг. тут вучылася. Гл. таксама артыкул № 1955 «Магіла Марыненка Таццяны Савельеўны».

**1855. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 1-ГА ПОЛАЦКАГА ПАВЯТОВАГА З'ЕЗДА САВЕТАЎ РАБОЧЫХ, СЯЛЯНСКІХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ** (гіст.). Пр. К. Маркса, 3.

28.1.1918 г. ў будынку гасцініцы «Гранд-атэль», у якім размяшчаўся Полацкі Савет, адбыўся 1-ы Полацкі павятовы з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. На з'ездзе былі заслуханы даклады з месцаў, аб бягучым моманце, абмеркаваны пытанні аб арганізацыі Полацкага павятовага Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, харчовай справе ў горадзе і павеце, мабілізацыі ў народна-сацыялістычную гвардыю ў Полацкім павеце і ў горадзе. Па ўсіх гэтых пытаннях з'езд прыняў рашэнні, адпаведныя пазіцыям бальшавікоў. З'езд выбраў павятовы выканаўчы камітэт Полацкага Савета дэпутатаў як вышэйшы орган Савецкай улады на тэрыторыі павета, распусціў павятовую земскую думу і ўправу, валасныя земствы, гарадскую думу і ўправу і перадаў іх функцыі Саветам. Выканаўчы камітэт Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў узяў у свае рукі кіраўніцтва ўсімі галінамі гаспадарчага і культурнага жыцця ў горадзе і павеце. На фракцыі бальшавікоў быў выбраны Полацкі павятовы камітэт РСДРП(б), аформлена Полацкая павятовая партыйная арганізацыя бальшавікоў.

У 1978 г. на доме, дзе адбыўся з'езд, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Полоцк: Исторический очерк.— Мн., 1962. *М. В. Кірэйшын.*

**1856. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА УДЗЕЛЬНІКАМ АТРАДАЎ САМААБАРОНЫ** (гіст.). Пр. К. Маркса, 11. Устаноўлена ў 1978 г.

Рабочыя Полацка пад кіраўніцтвам мясцовай арганізацыі РСДРП актыўна ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. У адказ на рэвалюцыйныя выступленні рабочых і з мэтай унесці раскол у іх рады гарадскія ўлады пад выглядам «патрыятычнай дэманстрацыі» вывелі 23.10.1905 г. на вуліцы горада чарнасоценцаў, каб учыніць пагром. Рэвалюцыйны камітэт у некалькіх пунктах горада сканцэнтраваў баявыя атрады рабочай самаабароны. 2 атрады размясціліся ў будынках гасцініц «Залаты якар» і «Парыж». Салдаты і паліцыя акружылі будынкі і жорстка расправіліся з абаронцамі. Частка іх была забіта, іншыя паранены і пакалечаны.

**1857. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ КАМУНІСТЫЧНАГА ПАДПОЛЛЯ** (гіст.).

У Вялікую Айчынную вайну пад кіраўніцтвам Віцебскага падпольнага абкома і Полацкага падпольнага райкома КП(б)Б у горадзе дзейнічала (кастрычнік 1941 г.— кастрычнік 1942 г.) камуністычнае падполле. Першыя падпольныя групы ўзначальвалі Я. Х. Сташкевіч, П. Ф. Самародкаў, С. В. Сухавей. Падпольшчыкі трымалі сувязь з 3-й Беларускай партызанскай брыгадай, вялі сярод насельніцтва палітычную агітацыю, распаўсюджвалі лістоўкі, здабывалі зброю і боепрыпасы, разведданыя, рабілі дыверсіі. У лістападзе 1941 г. на чыгуначнай станцыі Гараны знішчылі 2 паравозы і 4 вагоны. Вясной 1942 г. па звестках падпольшчыкаў савецкая авіяцыя бамбіла варожыя эшалоны на Полацкім чыгуначным вузле. У маі 1942 г. пры дапамозе падпольшчыкаў партызаны разграмілі карнікаў у раёне былога саўгаса «Палата». Летам 1942 г. на чыгуначнай станцыі Грамы падарвалі нафтабазу, восенню — паравознае дэпо. Вясной 1942 г. група П. Ф. Самародкава разгромлена гітлераўцамі, большасць падпольшчыкаў з груп Я. Х. Сташкевіча і С. В. Сухавея пайшла ў партызаны. Падпольшчыкаў, якія асталіся ў горадзе, узначаліў С. Я. Арцём'еў.

**1858. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ПОЛАЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП(б)** (гіст.).

Прапаганда сацыял-дэмакратычных ідэй сярод рабочых Полацка ўзмацнілася пасля прыезду ў верасні 1900 г. прафесійнага рэвалюцыянера, паплечніка У. І. Леніна па пецярбургскаму «Саюзу барацьбы» І. В. Бабушкіна. Была наладжана рэгулярная дастаўка ў горад рэвалюцыйнай літаратуры, якая аказвала вялікі ўплыў на рост палітычнай свядомасці рабочых. Пад уздзеяннем рэвалюцыйнай прапаганды рабочы рух у пачатку 20 ст. прыкметна актывізаваўся. У красавіку 1901 г. баставалі 80 рабочых бараначных прадпрыемстваў, у маі — рабочыя лесапільні, пазней — тытунёвай фабрыкі Рылліна (самае буйное прадпрыемства). У 1902 г. рабочыя горада ўпершыню наладзілі нелегальную першамайскую сходку. У 1904 г. была створана Полацкая арганізацыя РСДРП, якая да лета 1905 г. ўвайшла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП, потым — у Паўночна-Заходні саюз РСДРП, Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі. Да канца 1905 г. арганізацыя вырасла да 150 чалавек, большасць членаў стаяла на бальшавіцкіх пазіцыях. Яе ўзначальваў камітэт з 7 чалавек. Арганізацыя мела падпольную друкарню, «тэхнічную» групу, якая займалася падборам явак, падрыхтоўкай сходаў, транспарціроўкай літаратуры і інш. Актыўна дзейнічала ў Рэвалюцыю 1905—07 гг.: распаўсюджвала лістоўкі, выдадзеныя Паўночна-Заходнім камітэтам РСДРП, у лютым 1905 г. надрукавала пракламацыю «Да ўсіх полацкіх рабочых», у сакавіку — лістоўку «Да сялян» з заклікам да барацьбы супраць самадзяржаўя, перадрукавала зварот ЦК РСДРП «Сяляне: да вас наша слова». У студзені 1906 г. выпусціла гектаграфаваную лістоўку з заклікам адзначыць гадавіну 9 студзеня, так званай «Крывавай нядзелі», усеагульнай палітычнай забастоўкай, у красавіку 1906 г.— лістоўку «Да ўсіх полацкіх грамадзян», у якой заклікала байкатаваць 1-ю Дзяржаўную думу, напярэдадні 1 Мая — лістоўку з заклікамі «Няхай жыве 1-е Мая!», «Няхай жыве ўзброенае паўстанне!», «Няхай жыве сацыялізм!». У гады рэакцыі работа Полацкай арганізацыі РСДРП аслабла, у горадзе разгарнула партыйную работу Віцебская арганізацыя РСДРП. У канцы чэрвеня 1917 г. аформілася Полацкая арганізацыя РСДРП аб'яднаных інтэрнацыяналістаў, якая стаяла на пазіцыях бальшавікоў. У лістападзе 1917 г. ў Полацку ўстаноўлена Савецкая ўлада. У студзені 1918 г. выбраны Полацкі павятовы камітэт РСДРП(б).

*Літ.:* Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Хроника важнейших событий Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918).— Мн., 1962; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Полоцк: Исторический очерк.— Мн., 1962. *Э. М. Савіцкі.*



**1851.** *Будынак былога рэальнага вучылішча, у якім вучыўся У. М. Азін.*

**1859. ПОМНІК АЗІНУ** Уладзіміру Марцінавічу (гіст., маст.). На вул.



1859. *Помнік У. М. Азіну.*

Скарыны, каля будынка сярэдняй школы № 10.

Герой Грамадзянскай вайны, военачальнік У. М. Азін нарадзіўся 26.9. 1895 г. ў в. Мар'янова Полацкага р-на ў сям'і латышскага селяніна. Член КПСС з 1918 г. Скончыў Полацкае рэальнае вучылішча. З 1911 г. працаваў у Рызе, дзе ўключыўся ў рэвалюцыйны рух. З 1915 г. ў Полацку, працаваў у аддзяленні Усерасійскага земскага саюза Чырвонага Крыжа. З 1916 г. ў арміі. З 1918 г. ў Чырвонай гвардыі, камандзір латышскага камуністычнага атрада. Накіраваны ў Вятку, дзе сфарміраваў атрад Чырвонай гвардыі, з жніўня 1918 г. на чале 1-га Вяцкага рабочага батальёна, з верасня камандзір правай Арскай групы войск 2-й арміі, змагаўся з белагвардзейцамі і белачэхамі, удзельнічаў у вызваленні Казані. Увосень 1918 г. ўзначаліў 2-ю зводную дывізію, якая вызваляла Сарапул, Іжэўск, Воткінск, з лістапада 1918 г.— 28-ю стралковую дывізію (Жалезная Азінская) у складзе 2-й арміі, якая граміла войскі Калчака на Урале, вызваліла Екацярынбург, з жніўня 1919 г. ў складзе 19-й арміі змагалася з войскамі Дзянікіна пад Царыцыным, у Сальскіх стэпах, на Доне. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. 17.2.1920 г. ў час бою з дзянікінцамі каля станіцы Целіна, што на беразе р. Маныч, У. М. Азін узяты ў палон і пасля жорсткіх катаванняў 18.2. 1920 г. павешаны белагвардзейцамі ў станіцы Ціхарэцкай. Яго імем названа былая в. Белая, сельсавет у Полацкім р-не, імя У. М. Азіна прысвоена саўгасу ў Расонскім р-не і школе № 10 у Полацку, на будынку былога рэальнага вучылішча ў Полацку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Помнік У. М. Азіну пастаўлены ў 1979 г. (скульпт. С. Вакар, арх. Ю. Казакоў; бронза, граніт).

Бронзавы паясны бюст У. М. Азіна (вышыня 1,5 м) пастаўлены на прамавугольны пастамент (вышыня 3 м) з вялікім плоскім стылабатам. Пастамент з чырвоных гранітных блокаў, верхні блок — бронзавы. Трактоўка рыс твару абагульнена-рэалістычная.

*Літ.:* Тараткевіч М. В. Уладзімір Азін.— Мн., 1971; Кондратьев Н. Начдив Владимир Азин.— М., 1968.

*Т. В. Габрусь, В. Б. Караткевіч.*




1860. *Помнік І. К. Айтыкаву.*

**1860. ПОМНІК АЙТЫКАВУ** Ізгуты Курманбаевічу (гіст.). На вул. Суворава.

Герой Савецкага Саюза І. К. Айтыкаў нарадзіўся 20.1.1922 г. ў в. Салдацкае Уланскага р-на Усходне-Казахстанскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1944 г. На фронце з мая 1942 г. 1-ы стралковы батальён 158-га стралковага палка 51-й стралковай дывізіі 22-га стралковага корпуса 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту 22.6.1944 г. прарваў абарону ворага ў раёне в. Плігаўка Шумілінскага р-на і з баямі прайшоў па тылах праціўніка 6 км. Камсорг батальёна гвардыі старшына І. К. Айтыкаў у гэтых баях знішчыў 3 дзоты, бліндаж, цягач, гармату праціўніка. 3.7.1944 г. батальён уварваўся у Полацк, у ліку першых фарсіраваў Заходнюю Дзвіну і адбіваў контратакі ворага да поўнага вызвалення горада. І. К. Айтыкаў загінуў 25.7. 1944 г. ў баі за г. Зарасай Літоўскай ССР, там пахаваны. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

У 1969 г. І. К. Айтыкаву пастаўлены помнік — бюст на фоне стэлы. Яго імем названы вуліцы ў Зарасаі, Алма-Асце, Усць-Каменагорску, параход, імя І. К. Айтыкава прысвоена школе ў с. Таргын Уланскага р-на, дзе ён вучыўся, на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка, у двары школы — бюст.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Полоцк: Исторический очерк.— Мн., 1962.

*М. В. Кірэйшын.*



1861. *Помнік І. Е. Аляксееву.*

**1861. ПОМНІК АЛЯКСЕЕВУ** Івану Епіфанавічу (гіст.). На вул. Аляксеева, каля школы № 12.



1862. *Помнік ахвярам фашызму.*



1863. *Помнік воінам-гвардзейцам.*

Герой Савецкага Саюза І. Е. Аляксееў нарадзіўся 1.4.1909 г. ў Полацку. З рабочых. Член КПСС з 1932 г. Скончыў Кіеўскую артылерыйскую школу (1933 г.). З 1925 г. працаваў на чыгунцы. У Чырвонай Арміі з 1931 г., з 1933 г. служыў у часцях Беларускай ваеннай акругі. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік абароны Масквы. У студзені 1943 г. танкавая брыгада пад камандаваннем гвардыі палкоўніка І. Е. Аляксеева прарвала абарону нямецка-фашысцкіх войск і з баямі прайшла па тылах праціўніка 70 км, вызваліла каля 20 населеных пунктаў і выйшла да г. Росаш Варонежскай вобл., захапіла аэрадром, чыгуначную станцыю. І. Е. Аляксееў загінуў у баі 15.1.1943 г. Пахаваны ў Росашы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.2.1943 г. Яго імем названа вуліца ў Полацку, плошча і вуліца ў Росашы.

У 1949 г. каля школы, дзе вучыўся І. Е. Аляксееў і якой прысвоена яго імя, пастаўлены паплечны бюст героя, на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1862. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Юбілейнай.

У гады нямецка-фашысцкай акупацыі Полацка ў Задзвінні гітлераўцы стварылі канцэнтрацыйны лагер для мірных жыхароў. Тэрыторыя лагера была абнесена калючым дротам. Гітлераўцы здзекаваліся над вязнямі, білі іх палкамі, расстрэльвалі. Усяго ў лагеры загінула больш за 15 тыс. чалавек.

На ўшанаванне памяці ахвяр фашысцкага тэрору ў 1966 г. пастаўлены абеліск.

**1863. ПОМНІК ВОІНАМ-ГВАРДЗЕЙЦАМ** (гіст.). Недалёка ад скрыжавання вуліц Сака і Ванцэці і Леніна, на беразе Заходняй Дзвіны.

У Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні Полацка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 3.7.1944 г. воіны 158-га стралковага палка 51-й стралковай дывізіі 23-га стралковага корпуса 6-й гвардзейскай арміі пад камандаваннем гвардыі лейтэнанта А. І. Грыгор'ева прарваліся да моста цераз Заходнюю Дзвіну, захапілі плацдарм на правым беразе ракі і ўтрымлівалі яго некалькі гадзін да падыходу сваіх войск.

У 1975 г. ў гонар баявога подзвігу савецкіх воінаў пастаўлены мемарыяльны знак. Імем 23 гвардзейцаў у Полацку названа вуліца.

*Літ.:* Маніс М. А. Іх велічнаму подзвігу — вечная слава.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1983, № 4.

**1864. ПОМНІК ВУЧНЯМ І НАСТАЎНІКАМ** (гіст.). На вул. Камуністычнай, у двары школы № 7. На ўшанаванне памяці настаўнікаў і выпускнікоў школы № 12, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1865. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Гагарына.

Пасля разгрому віцебскай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск (23—27.6.1944 г.) войскі 1-га Прыбалтыйскага фронту (камандуючы — генерал арміі І. Х. Баграмян) пачалі аперацыю па знішчэнню полацка-лепельскай групоўкі праціўніка, вызваленню Полацка. Нямецка-фашысцкае камандаванне абароне горада надавала асаблівае значэнне, называла Полацк другімі варотамі ў Прыбалтыку. На подступах да горада была створана магутная палоса ўмацаванняў, у Полацку — моцная кальцавая абарона. Сюды было сцягнута каля 6 нямецкіх дывізій. 29 чэрвеня часці 4-й



1865. *Помнік Вызвалення.*



1866. *Помнік А. К. Гараўцу.*

ударнай (генерал-лейтэнант П. Ф. Малышаў) і 6-й гвардзейскай (генерал-палкоўнік І. М. Чысцякоў) армій наблізіліся да Полацка і, зламаўшы супраціўленне праціўніка, 1 ліпеня выйшлі на ўсходнюю і паўднёвую ўскраіны горада. Часці 23-га гвардзейскага стралковага корпуса (генерал-маёр А. М. Ермакоў) фарсіравалі Заходнюю Дзвіну і 3 ліпеня ўварваліся ў цэнтральную частку Полацка з поўдня; 22-і гвардзейскі стралковы корпус (генерал-маёр А. І. Ручкін) вёў баі на паўночна-ўсходняй ускраіне горада. Пасля жорсткіх баёў да 6 гадзін раніцы 4 ліпеня Полацк быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Войскі 6-й гвардзейскай і 43-й армій праследавалі праціўніка і да канца дня 4 ліпеня прасунуліся на захад на 110—130 км. У выніку аперацыі былі створаны ўмовы для наступлення савецкіх войск на Прыбалтыку. 31 вайсковаму злучэнню і часці, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Полацкіх».

У 1965 г. ў гонар войск 1-га Прыбалтыйскага фронту пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла. Імем 6-й гвардзейскай арміі ў Полацку названа вуліца.

*Літ.:* Полоцк: Исторический очерк.— Мн., 1962; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 4.— М., 1962; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. В. Кірэйшын.*

**1866. ПОМНІК ГАРАЎЦУ** Аляксандру Канстанцінавічу (гіст., маст.). На вул. Фрунзе, перад будынкам лясного тэхнікума, у якім у 1930—31 гг. вучыўся Герой Савецкага Саюза А. К. Гаравец. Помнік пастаўлены ў 1973 г.

(скульпт. С. Адашкевіч; бронза, бетон, каменная крошка). Бюст (вышыня 0,9 м) А. К. Гараўца ўстаноўлены на прамавугольным пастаменце (вышыня 2,4 м) з двухступеньчатым стылабатам. Выпрашаны як парадны партрэт. Спакойная ўраўнаважаная мадэліроўка дакладна перадае знешняе падабенства героя. Скульптар праўдзіва трактуе вобраз лётчыка — мужнага абаронца сваёй Радзімы. Гл. таксама артыкул № 2246 «Радзіма Гараўца Аляксандра Канстанцінавіча».
*М. В. Кірэйшын, М., М. Яніцкая.*

**1867. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ ПОЛАЧЧЫНЫ** (маст.). На пр. К. Маркса, у скверы.

Пастаўлены ў 1968 г. ў гонар 50-годдзя ВЛКСМ (скульпт. У. Паташнікаў, Г. Патапаў; жалеза, бетон).

На нізкім стылабаце — прадаўгаватая ў плане ўвагнутая стужкападобная бетонная сцяна (даўжыня 15 м, вышыня 2,5 м, шырыня 0,9 м), над якой узняты сімвалічны сцяг (даўжыня 15 м). На 2 плоскасцях сцяны ў тэхніцы контурнага рэльефу зроблена 6 сюжэтных кампазіцый (5 сюжэтаў на фасаднай плоскасці, адзін на тыльнай). Выявы рознамаштабныя, абагульненай формы, разгортваюцца па гарызанталі на розных узроўнях. На фасаднай плоскасці: постаці маладых чырвонаармейцаў і дзяўчыны — салдат рэвалюцыі; сцэны — расставанне юнака з маці і каханай, салдаты Грамадзянскай вайны ідуць у бой; сюжэт «Нашы сучаснікі» — на фоне індустрыяльнага пейзажу выявы галоў юнака, дзяўчыны і салдата; побач у імклівым руху ва ўвесь рост фігуры салдата, матроса, дзяўчыны, юнака і маладога вучонага. Кампазіцыю завяршаюць алегарычная фігура Маці-Радзімы (у нацыянальным беларускім адзенні з дзіцем на руках) і выява воіна-пераможцы ў Вялікай Айчыннай вайне. На тыльным баку — выявы жанчыны ў жалобе і 5 салдат. *В. В. Церашчатава.*



**1870.** *Помнік У. І. Леніну.*



**1867.** *Помнік камсамольцам Полаччыны.*

**1868. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пр. К. Маркса, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1949 г.

**1869. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Камуністычнай, каля будынка школы № 1. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1979 г.

**1870. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Прывакзальнай пл., у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**1871. ПОМНІК МАРОЗАВУ** Паўліку (гіст.). На вул. Ленінградскай, каля будынка школы № 5.

Піянер, удзельнік барацьбы з кулацтвам у перыяд калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў СССР П. Марозаў (Павел Трафімавіч) нарадзіўся 14.11.1918 г. ў с. Герасімаўка Таўдзінскага р-на Свярдлоўскай вобл. ў сям'і селяніна-бедняка. Арганізаваў першы піянерскі атрад у вёсцы, які дапамагаў камуністам у агітацыі за стварэнне калгасаў, выкрываць варожыя дзеянні кулакоў. 3.9.1932 г. П. Марозаў па-зверску забіты кулакамі.

Скульптура П. Марозава ўстаноўлена ў 1970 г.

**1872. ПОМНІК МАРЫНЕНКА** Таццяне Савельеўне (гіст.). На вул. Марыненка, у двары сярэдняй школы № 8. Бюст Героя Савецкага Саюза Т. С. Марыненка пастаўлены ў 1980 г. Гл. таксама артыкул № 1955 «Магіла Марыненка Таццяны Савельеўны».

**1873. ПОМНІК МАРЫНЕНКА** Таццяне Савельеўне (гіст.). На вул. Фрунзе, перад будынкам педвучылішча. Тут у 1936—39 гг. вучылася Герой Савецкага Саюза Т. С. Марыненка. На ўшанаванне яе памяці ў 1970 г. ўстаноўлены паплечны бюст, на будынку вучылішча ў 1967 г.— мемарыяльная дошка.

**1874. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВАЕННАПАЛОННЫМ І АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Фрунзе і Касманаўтаў.

У Вялікую Айчынную вайну ў часова акупіраваным Полацку зімой 1941—42 гг. нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі канцэнтрацыйны лагер для савецкіх ваеннапалонных (дулаг-125). Сюды змяшчалі і мірных жыхароў. На тэрыторыі, абгароджанай у некалькі радоў калючым дротам, пад адкрытым небам знаходзіліся тысячы людзей. Вязняў марылі голадам, прымушалі выконваць непасільную працу. Штодзень ад інфекцыйных хвароб, здзекаў, голаду, холаду паміралі дзесяткі чалавек. Паўжывых вязняў вывозілі на бераг Палаты і расстрэльвалі. Усяго ў лагеры гітлераўцы загубілі каля 40 тыс. чалавек.

На ўшанаванне памяці ахвяр фашысцкага тэрору на месцы лагера пастаўлена стэла.



1872. *Помнік Т. С. Марыненка.*

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских захватчиков в Белоруссии. 1941—1944.— 2 изд.— Мн., 1965.

*М. М. Казлоўская.*

**1875. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Паўднёва-заходняя ўскраіна горада, каля шашэйнай дарогі на Мінск. У гонар войск 1-га Прыбалтыйскага фронту, якія 4.7.1944 г. вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлена стэла. Побач у 1980 г. на ўшанаванне памяці экіпажа танка Героя Савецкага Саюза малодшага лейтэнанта В. Дз. Халёва, які 2.7.1944 г. першым уварваўся ў горад і загінуў у баі супраць гітлераўцаў, пастаўлены танк на пастаменце.

**1876. ПОМНІК СКАРЫНЕ** Францыску (гіст., маст.). На скрыжаванні пр. К. Маркса і вул. Гогаля.

Беларускі першадрукар, вучоны, асветнік і культурны дзеяч, перакладчык, пісьменнік і мастак-графік эпохі Адраджэння Ф. Скарына нарадзіўся ў 1490 г.(?) у Полацку ў сям'і купца Лукаша Скарыны. Пачатковую адукацыю атрымаў у Полацку або ў Вільні. У 1504 г. паступіў у Кракаўскі універсітэт на філасофскі факультэт, у 1506 г. скончыў яго і атрымаў вучоную ступень бакалаўра artium (свабодных навук). Падарожнічаў па гарадах Еўропы, служыў пісцом дацкага караля. Атрымаў ступень доктара свабодных навук. У 1512 г. ў Падуанскім універсітэце абараніў вучоную ступень доктара лекарскіх навук. Пры падтрымцы віленскага радцы Багдана Онькава ў 1517 г. ў Празе выдаў Псалтыр на царкоўна-славянскай мове з перакладам на палях малазразумелых слоў. Да снежня 1519 г. выдаў яшчэ 22 кнігі Бібліі на мове, набліжанай да мовы старажытнабеларускага пісьменства пад агульным загалоўкам «Бивлия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению» і з агульнай прадмовай да ўсяго звода Бібліі. Каля 1520 г. Ф. Скарына вярнуўся ў Вільню, у доме Якуба Бабіча арганізаваў друкарню, адаптаваў, пракаменціраваў і ў 1522 г. выдаў на царкоўна-славянскай мове «Малую падарожную кніжыцу», у 1525 г.— «Апостал». Служыў лекарам і сакратаром ў віленскага біскупа, займаўся гандлёвымі справамі разам з братам Іванам. Існуюць меркаванні, што ездзіў у Маскву з намерам арганізаваць там выданне кніг на рускай мове, у 1530 г. па запрашэнню прускага герцага Альбрэхта Гогенцолерна ездзіў у Кёнігсберг, у гэтым жа годзе вярнуўся ў Вялікае княства Літоўскае. У 1534 г. ці 1535 г. выехаў у Прагу, дзе працаваў каралеўскім батанікам. Там памёр у 1551 г.(?), у 1552 г. яго сын Сімяон прыязджаў у Прагу па бацькаву спадчыну. Усвядоміўшы культурна-гістарычную місію кнігадрукавання, якое адкрыла шырокія магчымасці для распаўсюджвання ведаў, асветы, развіцця адукацыі, культуры і навукі, Ф. Скарына спрабаваў зрабіць Біблію агульнадаступнай, крыніцай вывучэння так званых сямі свабодных навук. Да кожнай перакладзенай кнігі Бібліі ён змяшчаў напісаныя ім прадмовы, пасляслоўі (калафоны), каментарыі ярка выражанага пазнавальнага характару, у якіх адлюстраваны істотныя рысы яго грамадска-філасофскіх, маральных, этычных і эстэтычных поглядаў. У Бібліі ён бачыў не толькі кодэкс хрысціянскай веры і маралі, але і спалучэнне «таин божиих» і скарбніцы народнай мудрасці і чалавечага вопыту, тварэнне мудрацоў, летапісцаў, філосафаў. Яго прадмовы напісаны простай, даходлівай мовай, вызначаюцца лаканізмам, змястоўнасцю, уключаюць кароткую характарыстыку твора, максімальна насычаны інфармацыяй, носяць энцыклапедычны характар. «Людям простым, посполитым» у першую чаргу пры-



1874. *Помнік савецкім ваеннапалонным і ахвярам фашызму.*



1875. *Помнік савецкім воінам.*

значаў Ф. Скарына свае кнігі, каб яны самастойна змаглі разабрацца ў змесце біблейскіх кніг і выкарыстаць іх для пашырэння свайго кругагляду, для самаадукацыі. Ён не адвяргаў веры ў існаванне і ўсемагутнасць бога, заяўляў, што ў Бібліі ўсёй мудрасці «зачало и конец». Агульны сэнс і сутнасць яго каментарыяў — у рэнесансным імкненні ўзняць аўтарытэт чалавечага розуму, што змест Бібліі можна ўзгадняць з чалавечым разуменнем і вопытам, рацыянальна выкарыстоўваць для «пожитку». Яна павінна памнажаць сярод людзей «мудрость, умение, разум и науки», усталёўваць «добрыя обычаи».

У прадмовах і перакладах Ф. Скарыны трапляюцца вершаваныя радкі, што дае падставы лічыць яго пачынальнікам беларускай пісьмовай паэзіі, 10 запаведзяў Майсеевых, перакладзеных на вершы, перадаюць толькі іх агульны змест, робяць яго больш запамінальным. Зрабіць кнігу даступнай і зразумелай простаму чытачу падпарадкавана і мастацкае афармленне. Кнігі выходзілі невялікімі, практычнага фармату, з выразным стылізаваным шрыфтам, він'еткамі, застаўкамі, канцоўкамі, тэматычнымі ксілаграфіямі. Выданні Ф. Скарыны спалучаюць рысы старажытнабеларускага аздаблення са здабыткамі графікі эпохі Адраджэння. Гравюры Ф. Скарыны арганічна звязаны са зместам кнігі, многія маюць свецкі інфармацыйны характар, вызначаюцца высокім майстэрствам выканання. У 2 кнігах змешчаны гравюрны партрэт Ф. Скарыны. Характар афармлення кніг, змест прадмоў надавалі Біблії свецкую накіраванасць, што супярэчыла афіцыйнай царкоўнай дактрыне. Царкоўнікі сярэднявечча не прызнавалі Біблію Ф. Скарыны, абвінавачвалі яго ў ерасі.

Рознабаковая дзейнасць Ф. Скарыны насіла прагрэсіўны характар, адыграла этапную ролю ў духоўным жыцці беларускага народа і аказала значны ўплыў на развіццё яго культуры ў наступны перыяд. Выдадзены яго «Прадмовы і пасляслоўі» (1969 г.), «Гравюры Францыска Скарыны» (1972 г.).

Помнік Ф. Скарыне пастаўлены ў 1974 г. (скульпт. А. Глебаў, Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г., І. Глебаў, А. Заспіцкі, арх. В. Марокін; бронза, чырвоны граніт, ружовы пясчанік; вышыня помніка 12 м). Бронзавая скульптура (вышыня 5,5 м) на высокім (6,5 м) прамавугольным гранітным пастаменце, размешчаным на стылабаце (6×8 м). Помнік выразны па кампазіцыі і змесце, манументальна-велічны па форме. Лаканічныя дэталі (кніга і гранка ў руках) трактуюць вобраз Ф. Скарыны як друкара і асветніка. Свабодныя глыбокія



1876. *Помнік Францыску Скарыне.*

складкі шырокай доўгай мантыі падкрэсліваюць дынаміку руху, пластыку постаці друкара.

*Літ.:* Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык.— Пб., 1888; Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925.— Мн., 1926; Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд.— Мн., 1958; 450 год беларускага кнігадрукавання.— Мн., 1968; Подокшин С. А. Франциск Скорина.— М., 1981; яго ж. Скорина и Будный.— Мн., 1974; Конон В. М. Франциск Скорина и Иван Фёдоров. Преемственность просветительских и эстетических традиций.— У кн.: Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание, Мн., 1984; Немировский Е. Л. Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. Жизнь и деятельность Франциска Скорины: Описание изданий и указатель литературы. 1517—1977.— М., 1978.

*Г. Я. Галенчанка, М. М. Яніцкая.*

**1877. РАДЗІМА АНДРЭЕВА** Івана (гіст.).

Майстар-чаканшчык па серабры І. Андрэеў нарадзіўся ў Полацку. У пачатку студзеня 1660 г. пад'ячым І. Волкавым прывезены ў Маскву і залічаны майстрам чаканнай справы Сярэбранай палаты Крамля. Працаваў пераважна над формай посуду, рэльефнымі ўпрыгожаннямі вырабаў з серабра. Сярод работ І. Андрэева — сярэбраныя пазалочаныя рукамыйнікі царэвічаў Івана і Пятра (1676 г., зроблены з Іванам Пракоф'евым, Васілём Іванавым і Ларывонам Афанасьевым). Памёр у Маскве ў 1679 г.

**1878. РАДЗІМА ГАЛЁРКІНА** Барыса Рыгоравіча (гіст.).

Савецкі вучоны ў галіне тэорыі пругкасці, акадэмік АН СССР (1935 г.), член-карэспандэнт (з 1928 г.), інжынер-генерал-лейтэнант Б. Р. Галёркін нарадзіўся 20.2.1871 г. У 1899 г. скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. У 1909 г. пачаў выкладчыцкую дзейнасць. З 1920 г. прафесар, загадчык кафедры будаўнічай механікі Ленінградскага політэхнічага інстытута. Навуковыя працы па пытаннях будаўнічай механікі і тэорыі пругкасці садзейнічалі ўкараненню сучасных метадаў матэматычнага аналізу ў даследаванні работы збудаванняў, канструкцый, машын. Быў кансультантам пры праектаванні і будаўніцтве буйных ГЭС (Волхаўская, Днепрагэс і інш.), некаторых цеплаэлектрастанцый. Дзяржаўная прэмія СССР 1942 г. Памёр Б. Р. Галёркін 12.7.1945 г. У Полацку яго імем названа вуліца.

*Г. П. Кобля.*

**1879. РАДЗІМА КАЙГАРОДАВА** Дзмітрыя Нічыпаравіча (гіст.).

Рускі прыродазнавец, папулярызатар прыродазнаўства Дз. Н. Кайгародаў нарадзіўся 31.8.1846 г. У 1871 г. скончыў Пецярбургскі земляробчы інстытут. З 1875 г. загадчык кафедры лясной тэхналогіі і ляснога інжынернага мастацтва гэтага інстытута. З 1882 г. прафесар. З 1871 г. праводзіў феналагічныя даследаванні, у 1885 г. арганізаваў рускую феналагічную сетку, якая стала асновай біякліматычнага раянавання Еўрапейскай часткі СССР. Назіраў за месцамі гнездавання птушак, склаў феналагічныя карты іх веснавога прылёту. Навуковыя працы па тэхналагічных уласцівасцях драўніны, сухой перагонцы дрэва і інш. Аўтар кніг «Гутаркі пра рускі лес» (2 серыі, 1879—80 гг.), «З зялёнага царства» (1888 г.), «З царства птушыных» (1896 г.) і інш. Памёр Дз. Н. Кайгародаў 11.12. 1924 г. ў Ленінградзе.

*Літ.:* Ремизов Г. Отец русской фенологии.— У кн.: Земля и люди. Географический календарь 1959. М., 1958; Русские географы и путешественники.— Л., 1971 (бібліягр.).

*У. Дз. Будзько.*

**1880. РАДЗІМА КАСОВІЧА** Каятана Андрэевіча (гіст.).

Рускі ўсходазнавец, адзін з першых санскрытолагаў Расіі К. А. Касовіч нарадзіўся 2.5.1814 г. Скончыў Маскоўскі універсітэт (1836 г.). Выкладаў грэчаскую мову ў гімназіях Цверы і Масквы. З 1850 г. рэдактар навуковых прац Публічнай бібліятэкі ў Пецярбургу, з 1858 г. адначасова выкладаў санскрыт, авесційскую і старажытнаперсідскую мовы ў Пецярбургскім універсітэце, прафесар. Першы ў Расіі пераклаў на рускую мову і выдаў (з каментарыямі) шэраг твораў, урыўкаў з эпасу «Махабхарата» і «Рамаяна». З 1854 г. выдаваў «Санскрыта-рускі слоўнік» (не заверша-

ны), выдаў збор старажытнаперсідскіх клінападобных надпісаў, «Грэчаска-рускі слоўнік» (з І. Касовічам, 1847 г.) і інш. Член Рускага геаграфічнага таварыства (1849 г.), многіх замежных навуковых таварыстваў.

Памёр 26.1.1883 г.

*Літ.:* Шофман А. С., К. А. Коссович как востоковед (1815—1883).— У кн.: Очерки по истории русского востоковедения. М., 1963, сб. 6. *У. Дз. Будзько.*

**1881. РАДЗІМА КОРНЕВА** Леаніда Сямёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Л. С. Корнеў нарадзіўся ў 1915 г. ў в. Спас-Слабада (цяпер у межах Полацка) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. 5.9.1944 г. намеснік камандзіра батальёна па палітчастцы гвардыі старшы лейтэнант Л. С. Корнеў з групай байцоў пад агнём праціўніка фарсіраваў р. Нараў (Польшча) і кіраваў пераправай батальёна, байцы пад яго камандаваннем захапілі плацдарм і каля 4 гадзін адбівалі контратакі праціўніка. Л. С. Корнеў памёр ад ран 20.10.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**1882. РАДЗІМА МІРОНАВАЙ** Фядоры (гіст.).

Партызанка і разведчыца ў Айчынную вайну 1812 г. Ф. Міронава нарадзілася ў в. Пагуршчына (цяпер у межах Полацка). Прыгонная сялянка. Летам 1812 г., калі французская армія заняла Полацк, стала разведчыцай авангарда рускага корпуса П. Х. Вітгенштэйна. Няраз выконвала заданні рускага камандавання, здабывала каштоўныя разведзвесткі аб войску праціўніка ў горадзе. Пасля вайны перапрададзена ў Люцынскі павет. У лістападзе 1815 г. былы камандуючы авангардам рускага корпуса генерал Е. І. Уластаў выдаў Ф. Міронавай пасведчанне з высокай ацэнкай яе подзвігаў і праз ваеннага міністра П. П. Канаўніцына хадайнічаў перад былым начальнікам Галоўнага штаба Аляксандра І П. М. Валконскім аб узнагароджанні Ф. Міронавай. Ён пісаў: «Заслугі гэтай жанчыны... заключаюцца ў тым, што будучы неаднаразова пасланая ў Полацк для разведвання становішча непрыяцеля, яна ніколі не страшылася ахвяраваць сваім жыццём, кіруючыся адзінай стараннасцю і любоўю да Радзімы, ішла на ўсе небяспекі, якія пагражалі ёй смерцю, і дастаўляла адтуль правільныя і карысныя звесткі». Паводле ўказа Аляксандра І Ф. Міронава была ўзнагароджана сярэбраным медалём з надпісам «За карыснае», грашовай прэміяй і ў 1820 г. разам з сям'ёй вызвалена ад прыгону. У Полацку яе імем названа вуліца. *У. Дз. Будзько.*

**1883. РАДЗІМА САХАРАВА** Сяргея Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі этнограф і фалькларыст С. П. Сахараў нарадзіўся 16.9.1880 г. З служачых. Скончыў юрыдычны факультэт Юр'еўскага універсітэта (г. Тарту). У 1911—13 гг. выкладаў правазнаўства ў гімназіях і настаўніцкім інстытуце ў Віцебску, сакратар Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. У 1913—17 гг. інспектар народных школ у Юр'еўскім павеце і на Піншчыне. У 1919 г. загадчык дашкольнага пададдзела Люцынскага павятовага аддзела народнай асветы і загадчык Люцынскай савецкай школы 2-й ступені, у 1920—21 гг. дырэктар Люцынскай рускай гімназіі. У 1921—25 гг. узначальваў Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвійскай рэспублікі. У 1925—32 гг. дырэктар Дзвінскай беларускай гімназіі. У 1906 г. ў газеце «Витебский голос» апублікаваў першы запісаны ім народны твор «Люцынская легенда пра стары замак». Працы па пытаннях асветы («Народная асвета ў Юр'еўскім павеце», 1917 г.), культуры. Складаў беларускія кніжкі-календары. Асноўная праца — «Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў» (Рыга, в. 1, 1940 г.) — зборнік беларускай народнай паэзіі з кароткімі прадмовамі перад творамі кожнага жанру і характарыстыкай рэгіянальных асаблівасцей фальклору з маладаследаваных мясцін. У 2—4-м выпусках (рукапісныя) — казкі, легенды, паданні, вершаваныя апавяданні, прыказкі і інш. Займаўся гісторыка-краязнаўчым вывучэннем Полаччыны.

Памёр С. П. Сахараў 22.4.1954 г. *А. С. Ліс.*

**1884. РАДЗІМА СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА** (гіст.). Сімяон Полацкі (сапраўднае Пятроўскі-Сітнякові ч Самуіл Емяльянавіч, паводле некаторых звестак Гаўрылавіч) — беларускі і рускі грамадскі і царкоўны дзеяч, педагог, пісьменнік і публіцыст.

Нарадзіўся ў 1629 г. Вучыўся ў Кіева-Магілянскім калегіуме (1640—50 гг.), потым у Віленскай езуіцкай акадэміі, або ў Полацкім езуіцкім калегіуме. З 1656 г. ў Полацку, пад імем Сімяон пастрыгся ў манахі і выкладаў у праваслаўнай брацкай школе пры Богаяўленскім манастыры. У 1660 г. ездзіў у Маскву за дапамогай для манастыра, сустракаўся з царом. У 1664 г. пераехаў у Маскву, выхоўваў царскіх дзяцей. Арганізаваў друкарню (Верхнюю), надрукаваў некалькі сваіх кніг — «Буквар», «Часасловец». Выступаў супраць рэакцыйнага лагера грэкафілаў і ідэолагаў расколу, быў прыхільнікам царкоўных рэформ Нікана, выказваў палажэнні, супярэчныя афіцыйнай рэлігійнай ідэалогіі (багаслоўскія трактаты «Жазло праўлення» і «Вянец веры»). Сабор 1690 г. асудзіў і забараніў яго творы як ерэтычныя. Рэзка асуджаў манархаў-тыранаў. На яго думку на чале дзяржавы павінен стаяць разумны «асветны» манарх, які ў сваёй дзейнасці кіруецца прынцыпамі розуму і справядлівасці. Сцвярджаў, што ўсё зло ў грамадстве ад неадукаванасці і невуцтва, што «абміршчэнне» культуры, пашырэнне асветы выратуе грамадства ад усіх заган і ўсталюе поўную гармонію і мір. Лічыў пазнавальнымі прыроду і чалавека. Быў ініцыятарам заснавання адной з першых агульнаадукацыйных вышэйшых навучальных устаноў у Расіі — Эліна-грэчаскай акадэміі (з 1775 г.— Славяна-грэка-лацінская акадэмія).

Пісаў на беларускай, польскай і старажытнаславянскай мовах. Самымі раннімі з датаваных твораў з'яўляюцца рэлігійныя цыклы «Акафіст» і «Канон» (1648 г.). Вершы беларускага перыяду — панегірычныя і алегарычныя. Пісаў «віршы» рэлігійнай тэматыкі, дэкламацыі («Метры»), пасталі («Бяседы пастуховы»), эпітафіі («Надгробак»), элегіі («Смерць», «Менка»). Апяваў родную зямлю (асабліва Полацк і Віцебск), непакоіўся пра яе лёс, сцвярджаў гуманістычныя ідэі пра высокае прызначэнне чалавека, сілу чалавечага розуму, праслаўляў працу, прапаведваў роўнасць усіх перад богам, асуджаў багацце. У вершах маскоўскага перыяду (зборнікі «Вертаград мнагацветны», нап. 1678 г., і «Рыфмалагіён», нап. 1679 г.) выказваў свае грамадскія і філасофскія погляды, прапанаваў праграму прагрэсіўнай дзейнасці цара, прыдворных вяльмож і некаторых царкоўных дзеячаў. У Маскве напісаў 2 п'есы — «Пра Навуходаносара цара...» і «Камедыя прытчы пра блуднага сына», зборнікі пропаведзяў «Абед душэўны» (1681 г.) і «Вячэра душэўная» (1683 г.), пераклаў на вершы і ў 1680 г. выдаў Псалтыр («Псалтыр рыфматворная») — першы друкаваны паэтычны зборнік у Маскоўскай Русі. Памёр Сімяон Полацкі 25.8.1680 г. У Полацку на доме № 22 па вул. Леніна ў 1959 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1.— Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы.— Мн., 1977. *В. Б. Караткевіч.*

**1885. РАДЗІМА ТАРЫЧА** Юрыя Віктаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі кінарэжысёр, сцэнарыст, заснавальнік беларускай кінематаграфіі Ю. В. Тарыч (сапраўднае Аляксееў) нарадзіўся 12.1. 1885 г. У 1903—05 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Маскоўскага універсітэта. За ўдзел у рэвалюцыйным руху ў 1905 г. арыштаваны і сасланы ў Сібір. У 1907—14 гг. акцёр правінцыяльных драматычных тэат-



1886. *Сафійскі сабор. Галоўны фасад.*

раў. З 1918 г. працаваў у тэатрах Масквы, адзін з кіраўнікоў Курсанцкага тэатра ў Маскоўскім Крамлі, дзе ўпершыню на маскоўскай сцэне выканаў ролю У. І. Леніна ў п'есе-хроніцы «Пагібель самадзяржаўя» (1924 г.). У кіно працаваў з 1914 г. як сцэнарыст, з 1925 г. як рэжысёр. Першыя фільмы «Марока» (з Я. Івановым-Барковым), «Першыя агні» (1925 г.) прысвечаны класавай барацьбе ў вёсцы. Стварыў адзін з лепшых савецкіх гістарычных фільмаў 1920-х гадоў «Крылы халопа» (1926 г.), у якім адлюстравана эпоха Івана Грознага, па аповесці М. Чарота «Свінапас» зняў героіка-рамантычны фільм аб Грамадзянскай вайне на Беларусі «Лясная быль» (1926 г.) — першы беларускі мастацкі кінафільм. У 1928—39 гг. працаваў на кінастудыі «Савецкая Беларусь». Паставіў фільмы «Да заўтра» (1929 г.), «Нянавісць» (1930 г.), «Шлях карабля» (1935 г.), вядомы гісторыка-рэвалюцыйны фільм «Адзінаццатага ліпеня» (1938 г.). У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у стварэнні кіназборніка «Беларускія навелы» (1942 г., з У. Корш-Сабліным). У 1943—45 гг. мастацкі кіраўнік кінастудыі «Манголкіно». З 1945 г. рэжысёр тэатра-студыі кінаакцёра ў Маскве. У пачатку 1950-х гадоў паставіў некалькі дакументальных і навукова-папулярных фільмаў на кінастудыі «Беларусьфільм» («Народны паэт», 1952 г.), мастацкі кіраўнік кінафільма маладых кінематаграфістаў «Апавяданні пра юнацтва» (1961 г.). Лепшыя фільмы Ю. Тарыча вызначаліся дакладнасцю прыкмет часу, глыбокім псіхалагізмам.

Памёр Ю. В. Тарыч 21.2.1967 г. ў Маскве.

*Літ.:* Красинский А. В. Юрий Тарич.— Мн., 1971; 20 режиссёрских биографий.— М., 1971. *А. В. Красінскі.*



1886. *Сафійскі сабор. Інтэр'ер. Фрагмент кампазіцыі «Троіца новазапаветная».*

**1886. САФІЙСКІ САБОР** (архіт.). На правым беразе Заходняй Дзвіны. Пабудаваны паміж 1044 і 1066 гг. (паводле іншых звестак у 1050—60 гг.) пры полацкім князі Усяславе Брачыславічу як цытадэль у дзядзінцы горада — Верхнім замку. Тут прымалі паслоў, абвяшчалі пра вайну і мір, захоўваліся дзяржаўная казна, бібліятэка, архіў. З'яўляўся сімвалам Полацка. На пячатцы горада быў надпіс: «Печать Полочькая и стои Софьи». Пасля рэстаўрацыі, завершанай у 1980 г., зроблена канцэртная зала.

Спачатку крыжова-купальны квадратны ў плане храм, даўжыня сцен 24—26 м. Меў 7 купалаў (паводле некаторых звестак 5), вялікую трохчасткавую апсіду з усходняга боку. На кожным фасадзе (акрамя ўсходняга) было па 6 прамавугольных плоскіх лапатак, якія адпавядалі ўнутранаму падзелу памяшкання 16 апорнымі слупамі на 5 нефаў, 3 сярэднія нефы заканчваліся апсідамі. Над сяродкрыжжам сабора ўзвышаўся барабан цэнтральнага купала. Сцены складзены з прыроднага каменю і плінфы ў тэхніцы паласатай муроўкі (кладка са «схаваным радам»), што стварала двухколерную гаму паверхні, характэрнай для полацкай школы дойлідства. Унутры храма вялікія П-падобныя хоры і аркады, адкрытыя ў падкупальную прастору. Сабор няраз быў разбураны, спалены. У канцы 15 — пачатку 16 ст. перабудаваны ў пяцівежавы храм абарончага тыпу. Апошняя адбудова праведзена ў 1618 г. У Паўночную вайну 1700—21 гг. пашкоджаны (1710 г.). Паміж 1738—50 гг. перабудаваны (арх. І. Глаўбіц, каменшчык Б. Касінскі) у стылі «віленскага барока», арыентаваны з поўдня на поўнач.



1886. *Сафійскі сабор. Бакавы фасад.*



**1886.** *Сафійскі сабор. Галоўны алтар.*

Трохнефавая аднаапсідная двухвежавая (на галоўным фасадзе) базіліка. Ад сабора 11 ст. захаваліся трохчастковая апсіда (на ўсходнім бакавым фасадзе, вышыня каля 9 м), рэшткі сцен, склеп. Даўжыня старой пабудовы вызначыла шырыню новай. Старажытная апсіда і сіметрычныя ёй прыбудовы на заходняй сцяне ўтвараюць своеасаблівы трансепт, гранёныя крылы якога завершаны ў цэнтры купалам з ліхтарыкамі. Цэнтральны неф на галоўным фасадзе і з боку алтарнай апсіды завершаны фігурнымі атыкавымі франтонамі. Галоўны фасад аздоблены дэкаратыўнымі ў стылі ракако элементамі: ляпнымі гірляндамі на пілястрах, авальнымі нішамі па гранях-выступах, пінаклямі па вуглах ярусаў вежаў і франтонаў. Бакавыя фасады аздоблены спаранымі пілястрамі (у прасценках паміж вузкімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі) і ляпнымі гірляндамі.

У інтэр'еры 2 рады складанапрафіляваных слупоў (па 3 у кожным) дзеляць прастору на 3 нефы. Цэнт-



1886. *Сафійскі сабор. Хоры.*

ральны неф у 3 разы шырэй за бакавыя і, як і бакавыя, перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, ад апсіды аддзелены мураванай трох'яруснай алтарнай перагародкай, якая па сваёй кампазіцыі стварае ўражанне шматпланавасці і аб'ёмнасці. На бакавых дзвярах алтарнай перагародкі захаваліся маляўнічыя кампазіцыі «Святая Алена» і «Святы Макарый» (18 ст., алей, метал). У цэнтры над трэцім ярусам размешчаны тэмперная размалёўка 18 ст. «Тайная вячэра», над ёю ў барочным ляпным картушы — «Спас нерукатворны». Каларыстычная гама размалёвак складаецца з карычнева-чырвоных вохрыстых з адценнямі, сіне-блакітных і зялёных тонаў. Алтарная перагародка завершана гарэльефнай кампазіцыяй «Тройца новазапаветная», выкананая ў стылі сталага барока з матывамі ракако (18 ст., тэхніка стука, агульная плошча 86 м$^2$). У цэнтральнай частцы кампазіцыі фігуры бога Саваофа і Ісуса, галоўкі херувімаў і анёлаў, завіхураныя аблокі. У левай частцы трансепта зберагласся размалёўка «Распяцце» (19 ст.). У старажытнай частцы храма (усходняя апсіда) захаваліся рэшткі фрэсак 11 ст. Фрэскавы тынк складаецца з вапнякова-цамянкавага раствору з дамешкай дробнага пяску. Тынкоўка клалася 2 пластамі. Зроблена пробнае раскрыццё фрагментаў фрэсак апсіды. У бакавых частках арнаментальныя матывы, у цэнтральнай — фрагмент «Еўхарысціі» (дрэнна захаваўся). Колеравая гама фрэсак складаецца з чырвоных, зялёных і белых тонаў з сіне-блакітнымі, шэра-жоўтымі, карычнева-чырвонымі адценнямі.



1886. *Сафійскі сабор. Фрагмент ляпной капітэлі.*

Сабор — помнік старажытнарускай архітэктуры і барока.

*Літ.:* Шчакацігін М. Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра.— Наш край, 1925, № 1; яго ж. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1.— Мн., 1928; Хозераў І. Полацкае будаўніцтва старадаўняга перыяду.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва, т. 1, сш. 1; Каргер М. К. Живопись.— У кн.: История культуры древней Руси. М.; Л., 1951, т. 2; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966; Штыхов Г. В. Древнеполоцкое каменное зодчество.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967; Кацер М. С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода.— Мн., 1969; Ткачоў М. А. Новае пра Сафійскі сабор.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 2; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; Сяліцкі А. Старажытны полацкі жывапіс (XI—XII стст.).— Мастацтва Беларусі, 1984, № 4, 6; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968.

*В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская, Г. В. Штыхаў.*

**1887. СПАСА-ЕФРАСІННЕЎСКІ МАНАСТЫР** (Спаскі манастыр; археал., гіст., архіт., маст.). Вул. Фрунзе, на правым беразе р. Палата. Заснаваны ў 12 ст. полацкай князёўнай Ефрасінняй Полацкай як абарончы фарпост Полацка (з поўначы). Неаднаразова быў разбураны і перабудаваны, апошні раз — у 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. У ансамбль уваходзілі 2 мураваныя царквы 12 ст. (зберагласся Спаса-Ефрасіннеўская), мураваная ўязная брама 16 ст. (зберагласся цэнтральная частка), жылы манастырскі корпус пачатку 18 ст. (збярогся), шэраг службовых і гаспадарчых памяшканняў, сад, агарод. У 2-й палавіне 19 ст. да брамы прыбудаваны 2 бакавыя аб'ёмы і ўзведзена вежа (не зберагласся), у пачатку 20 ст. з заходняга боку брамы пастаўлены двухпавярховы жылы корпус (збярогся). У сярэдзіне 19 ст. побач са Спаса-Ефрасіннеўскай царквой пабудавана невялікая мураваная цёплая царква (разбурана). У 2-й палавіне 19 ст. ўзведзена вялікая мураваная крыжова-купальная Праабражэнская царква ў псеўдарускім стылі. Галоўная планіровачная вось кампазіцыі манастыра вызначалася брамай і Спаса-Ефрасіннеўскай царквой.



1886. *Сафійскі сабор. Інтэр'ер. Фрагмент кампазіцыі «Тройца новазапаветная».*

Рэшткі храма. За 0,1 км на ўсход ад Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. Даследаваў у 1957, 1961, 1962,



1886. *Сафійскі сабор. Фрагмент старажытнай муроўкі. 11 ст.*




**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Схема планіроўкі: 1 — Спаса-Ефрасіннеўская царква; 2 — цёплая царква; 3 — рэшткі храма — пахавальні полацкіх епіскапаў; 4 — Праабражэнская царква; 5 — жылы манастырскі корпус 18 ст.; 6 — брама; 7 — жылы манастырскі будынак пачатку 20 ст.*

1964 гг. М. К. Каргер. Трохнефавы крыжовакупальны вялікіх памераў будынак з 3 бакавымі прытворамі. У тоўшчы заходняй сцяны зроблена лесвіца на хоры. Унутры сцены прытвораў былі багата ўпрыгожаны фрэскамі, падлога выслана маёлікавымі



**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Брама і будынак былога жылога корпуса. Пачатак 20 ст.*



**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Будынак былога жылога корпуса. Пачатак 18 ст.*



**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўская царква. План.*

пліткамі і дэкарыравана мазаікай. У прытворах знойдзены рэшткі мужчынскіх пахаванняў у цагляных саркафагах. Верагодна, сабор з'яўляўся пахавальняй полацкіх епіскапаў. Разбураны пры пажары. Помнік датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР у Ленінградзе.

Ж ы л ы к о р п у с. На паўночны захад ад Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. Пабудаваны ў пачатку 18 ст. з цэглы як жылы, пазней — летняя рэзідэнцыя генерала езуіцкага ордэна. Цяпер выкарыстоўваецца пад жыллё. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з уваходам з паўднёвага боку. Сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, пазбаўлены дэкору, з паўночнага боку, які арыентаваны на р. Палата, умацаваны 2 масіўнымі вуглавымі контрфорсамі.

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

С п а с а - Е ф р а с і н н е ў с к а я ц а р к в а (Спаская царква,



**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Аксанаметрыя.*



**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Галоўны фасад.*



**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Бакавы фасад.*



**1887.** *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Фрагмент бакавога фасада.*



1887. *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Выява невядомага святога на паўднёвай сцяне ў алтарнай частцы.*



1887. *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Выява святога, што моліцца, на паўднёвай сцяне ў алтарнай частцы.*



1887. *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Выявы святых манашак на паўднёвай сцяне ў цэнтральнай частцы.*

Спаса-Праабражэнская царква). Пабудавана паміж 1152 г. і 1161 г. полацкім дойлідам Іаанам па заказу Ефрасінні Полацкай як саборны храм Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. У 19 ст. часткова перабудавана (арх. А. Порта).

Царква — мураваны прамавугольны выцягнуты ў плане (8×12 м) аб'ём з купалам на высокім барабане. Цэнтральны неф з усходу завершаны паўкруглай масіўнай апсідай. Бакавыя алтары малых памераў паўцыркульныя, звонку нябачныя. Паўднёвы і паўночны фасады расчлянёны пілястрамі з паўкалонамі, якія рытмічна падзяляюць паверхню на 2 вузкія і 2 шырокія прасценкі (чаргуюцца), прарэзаны 2 ярусамі паўцыркульных аконных праёмаў. Вокны ніжняга яруса ў паўтара раза большыя за верхнія, з так званымі броўкамі з 4 радоў плінфы. Спачатку царква мела пазакамарнае пакрыццё асноўнага аб'ёму і больш нізкага нартэкса. Барабан купала апіраўся на кубічны пастамент з дадатковым ярусам закамар. Гэта стварала шмат'ярусную кампазіцыю верху. Пазакамарнае пакрыццё заменена трохсхільным дахам. Старажытным закамарам адпавядаюць 3 усходнія паўкружжы на паўднёвым і паўночным фасадах. Унутраная прастора 6 масіўнымі апорнымі слупамі падзелена на 3 нефы. 4 слупы ўнізе васьмігранныя, вышэй — чатырохгранныя. У заходняй сцяне (у 2 разы таўсцейшая за паўднёвую і паўночную) лесвічны ход на хоры (асаблівасць полацкай школы дойлідства). Па баках хораў 2 маленькія келлі, адна з якіх паводле падання, прызначалася для Ефрасінні Полацкай.

У царкве пад больш познімі напластаваннямі тынкоўкі і пабелкі, алейнай размалёўкі 1832—35 гг. і 1840 г. захаваліся унікальныя старажытнарускія фрэскі, створаныя майстрамі полацкай школы ў 2-й палавіне 12 ст. Фрэскі — выдатны помнік манументальнага мастацтва сусветнага значэння. Пробнае раскрыццё фрэсак праводзілася ў 1929 г. Цэнтральнымі рэстаўрацыйнымі майстэрнямі (Масква) пад кіраўніцтвам І. Э. Грабара. У алтарнай частцы былі выяўлены фігуры невядомых свяціцеляў у фелонях у крыжы. Расчыстка сценапісу праводзілася ў 1937, 1938, 1940 гг. Раскрыты фрагменты жаночых выяў невядомых святых у цэнтральнай частцы. У 1950 г. раскрыццё праводзілася брыгадай Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (Масква) пад кіраўніцтвам Дз. Брагіна, у 1972 г.— Усесаюзнай цэнтральнай навукова-даследчай лабараторыі (Масква) пад кіраўніцтвам В. Філатава. Усяго адкрыта 8 фрагментаў фрэсак 12 ст. 3 знаходзяцца ў алтарнай частцы: на лапатках паўночнай і паўднёвай сцен выявы невядомых святых ва ўвесь рост з кнігамі ў руках, на паўднёвай сцяне побач з бакавым праёмам выява святога, што моліцца, на фоне высокай вежы. 5 фрагментаў — у цэнтральнай частцы: на паўднёвай сцяне 2 фрагменты з выявамі святых



1887. *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Выява святой манашкі на паўднёвай сцяне ў цэнтральнай частцы.*



1887. *Спаса-Ефрасіннеўская царква. Выява святога са скруткам на паўночна-ўсходнім слупе.*

манашак; на паўночна-ўсходнім і паўднёва-ўсходнім слупах франтальныя выявы святых ва ўвесь рост з скруткамі ў руках; на паўночна-заходнім слупе, што падтрымлівае хоры, пададзеная ў строгі фас паплечная выява невядомай маладой святой з мяккім авалам твару, вялікімі вачамі, прыгожымі жывымі вуснамі з чырвонай падмалёўкай. Жаночыя выявы вызначаюцца высокай адухоўленасцю і ўзнёсласцю, вялікай інтэлектуальнай напоўненасцю і стрыманым пачуццём. Індывідуальнасць вобраза настолькі яркая, што фрэскавае адлюстраванне падобна на партрэтнае. Раскрытыя фрэскі створаны па сырой тынкоўцы. Падрыхтоўка з цамянкавага раствору з драбнатоўчанай крошкай. Граф'ёй нанесены абрыс. На фрэсках і вакол іх — шматлікія графіці пераважна 14—19 стагоддзяў. Раскрытыя фрагменты даюць падставу сцвярджаць, што храм цалкам дэкарыраваны жывапісам 12 ст., які адметны высокім мастацкім узроўнем і ўплывам візантыйска-кіеўскіх жывапісных традыцый.

У апошнія гады пазнейшыя алейныя размалёўкі пачалі інтэнсіўна ападаць. Адкрылася шмат новых фрагментаў і сюжэтных кампазіцый у цэнтральнай (яшчэ 10 выяў) і бакавых апсідах, цэнтральнай частцы, у келлі Ефрасінні Полацкай. Гэта дае магчымасць прасачыць некаторыя рысы ідэалагічнай праграмы размалёвак і асаблівасцей структуры фрэсак. У цэнтральнай апсідзе чытаюцца 3 рэгістры. Першы (ад падлогі) — свяціцельскі чын з 12 фігур айцоў царквы — размешчаны па авалу; на выступах перадалтарных лапатак у гэтым ярусе па 2 фігуры святых ва ўвесь рост (магчыма, выявы архідыяканаў); на паўночнай і паўднёвай сценах побач з арачным праёмам паміж свяціцельскім чынам і выявамі архідыяканаў — выявы невядомых святых, якія моляцца. Другі рэгістр, размешчаны над свяціцельскім чынам, складаецца з аднафігурных і шматфігурных (сюжэтных) кампазіцый. На падкупальных пілонах — 2 фігуры святых ва ўвесь рост, у доўгім белым адзенні, адна з крыжам, другая з чашай у руках, арыентаваныя да цэнтра алтара; на прасценках — сюжэтныя кампазіцыі са сцэнамі пакут, ахвярапрынашэнняў. На паўночным баку апсіды праступае выява шасцікрылага серафіма з шыракаскулым тварам, вялікімі міндалепадобнымі вачамі, павернутымі да цэнтра апсіды, у бліках яркага святла. Такая ж выява на паўднёвым баку. Трэці рэгістр займае вялікая шматфігурная кампазіцыя «Еўхарысціі». Постаці апосталаў з кнігамі ў руках пададзены ў дынамічнай позе ў чвэрць павароту да цэнтра апсіды. Крайнія фігуры апосталаў размешчаны на прасценках і фланкіруюцца франтальна пастаўленымі роўнавялікімі ім фігурамі святых ва ўвесь рост на перадалтарных лапатках. Фігуры з «Еўхарысціі» (вышыня каля 2,5 м) у паўтара раза большыя за фігуры свяціцельскага чыну. На паўночнай сцяне правага бакавога алтара над арачным праёмам — вялікая кампазіцыя «Распяцце». У левым бакавым алтары ў цэнтры — выява маці боскай Халкапрацційскай, на тры чвэрці павернутай да алтара, на паўднёвай сцяне — кампазіцыя «Аплакванне», на паўночнай — «Гасціннасць Аўраама», на скляпеннях, аконных адкосах — фрагменты арнаментальнай раслінанай размалёўкі. У цэнтральнай частцы храма на паўднёвай сцяне, дзе раней былі раскрыты выявы святых манашак,— галерэя жаночых вобразаў (святых манашак) у строгіх франтальных позах ва ўвесь рост, апранутых у схімы, туга сцягнутыя на грудзях фібулай. Твары прадаўгаватыя з вялікімі міндалепадобнымі вачамі. На паўночнай сцяне прасочваюцца выявы мужчынскіх постацей. На падкупальных пілонах па асобных фрагментах з-пад алейнага запісу можна прасачыць абрысы выяў святых, падобных на раскрытыя. Цікавыя размалёўкі ў келлі Ефрасінні Полацкай — невялікім памяшканні, якое ў плане — роўнаканцовы крыж. На сценах усходняга аб'ёму галоўны цэнтральны ярус займае сяміфігурны «Дэісус»: у цэнтры ў фас паясная выява благаслаўляючага Спаса, злева — маці боскай, справа — Іаана Прадцечы, павернутых да Хрыста. На бакавых сценах па 2 фігуры архангелаў і апосталаў. Добра захавалася дэтальна распрацаваная выява з крыжападобным німбам Спаса. Па залаціста-жоўтай вохры карычнева-чырвонымі тонкімі лініямі (ажыўкамі) выкананы малюнак твару, мякка зроблена падрумянка шчок, вуснаў; прыцяненні пракладзены яркім зялёным колерам, хітон зялёны, складкі лінейныя, выкананы вохрыстымі фарбамі. На правай і левай сценах — па 2 франтальныя фігуры ва ўвесь рост свяціцельскага чыну, сярод якіх выява Васіля Вялікага. Вышэй «Дэісуса» ў цэнтры — «Укрыжаванне», злева — фрагменты кампазіцыі «Грамніцы», вакол невялікага акна — кампазіцыя «Благавешчанне». Сцэны паўднёвага аб'ёму, мяркуючы па разгранцы, размаляваны ў 5 ярусаў. У другім ярусе зверху — 2 фігуры (старац і юнак), якія сядзяць насупраць, галовы падпёрты рукамі, вышэй, на фоне архітэктурнага збудавання,— 2 выявы ва ўвесь рост, на левай сцяне — фрагмент абліччa воіна, ніжэй — 2 жаночыя фігуры ва ўвесь рост, пад імі — трохфігурная кампазіцыя на фоне круглых арак. Размалёўка прасочваецца на сценах паўночнага аб'ёму і на плоскасцях дзвярнога праёма.

Вобразы фрэскавай размалёўкі царквы вылучаюцца выразнасцю індывідуальных характарыстык, натхнёнасцю, эмацыянальнасцю, суровай экспрэсіяй. Выявы святых пададзены ў класічных прапорцыях: з прадаўгаватымі тварамі, вялікімі міндалепадобнымі вачамі, цёмнымі вачніцамі, сціснутымі, але вельмі прыгожымі і жывымі вуснамі, вакол — паўкругамі цёмныя вопісы. Колеравая гама чырвона-карычневая, сіне-блакітная, зялёная, вохра з адценнямі. Контур выкананы чырвона-карычневай фарбай, вохра разбаўлялася бледна-зялёным або чыстым бялілам. Мадэліроўка адзення графічная, зроблена цёмным колерам. У цэнтральнай частцы колеравы фон фрэсак пераважна цёмнасіні (рэфць) з фіялетавым адценнем, напісаны фарбай, выробленай з мясцовых матэрыялаў (настой з паленых яловых шышак), у келлі Ефрасінні Полацкай — цёмна-сіні з зеленаватым адценнем (матэрыял для фарбаў — паленая косць). Старажытнымі фрэскамі таксама была размалявана вонкавая паўднёвая сцяна (не зберагліся).

Спаса-Ефрасіннеўская царква — помнік полацкай школы дойлідства.

**Месца жыцця і дзейнасці Ефрасінні Полацкай.** Князёўна, ігуменя манастыра Ефрасіння Полацкая (свецкая імя Прадслава) нарадзілася каля 1110 г. Унучка полацкага князя Усяслава Брачыславіча. Пастрыглася ў манашкі, пасялілася ў келлі Сафійскага сабора і перапісвала царкоўныя кнігі. Мяркуюць, што пісала летапісы і арыгінальныя творы. Заснавала жаночы і мужчынскі манастыры, якія сталі асяродкамі асветы ў Полацкім княстве, 2 царквы. Мужчынскаму манастыру падаравала выдатны твор візантыйскага мастацтва — абраз маці боская Адзігітрыя Эфеская (зберагаецца ў Дзяржаўным рускім музеі ў Ленінградзе). У 1161 г. па яе заказу Л. Богша зрабіў каштоўны крыж. Паломнічала ў Іерусалім, там 23.5.1173 г. памерла. Першая жанчына на Русі, якую царква кананізавала ў святыя. Звесткі пра Ефрасінню Полацкую ёсць у «Жыціі Ефрасінні Полацкай» (12—13 стагоддзі, дайшоў спіс 14 ст.).

**Месца працы Богшы Лазара.** Полацкі майстар-ювелір 12 ст. Год нараджэння і смерці невядомы. Свабодны рамеснік. У 1161 г. па заказу Ефрасінні Полацкай зрабіў шасціканцовы крыж — шэдэўр старажытнарускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, які Ефрасіння падаравала Спаскай царкве. Крыж зроблены з кіпарысу. Даўжыня 51 см. Да пярэдняй і адваротнай паверхняў прымацаваны па 11 залатых пласцін са

шматлікімі перагародчатымі каляровымі эмалямі з выявамі святых, арнаментальнымі кампазіцыямі, 8 каштоўнымі авальнай формы камянямі. Размяшчэнне святых нагадвае іканапісную кампазіцыю пашыранага дэісуса. Унізе крыжа выявы святых Ефрасінні, Соф'і і Георгія. Бакі крыжа абкладзены пазалочанымі пласцінкамі з серабра. На іх па спіралі ў 2 рады прасечаны доўгі надпіс. У ім паведамляецца, з якіх матэрыялаў зроблены крыж, калі зроблены, колькі каштуе, імя майстра і традыцыйнае заклінанне: «Г/оспод/и помози рабоу своемоу Лазорю нареченомоу Богъши, съделавъшему крьст сии црькви святого Спаса и Офросиньи». Крыж да 1941 г. зберагаўся ў Магілёўскім краязнаўчым музеі. У Вялікую Айчынную вайну выкрадзены нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

*Літ.:* Кацер М. С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода.— Мн., 1969; Каргер М. К. Живопись.— У кн.: История культуры древней Руси. М.; Л., 1951, т. 2; Шчакаціхін М. Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра.— Наш край, 1925, № 1; Штыхаў Г. В. Полацкія фрэскі XII стагоддзя.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1970, № 1; яго ж. Полацкі шэдэўр XII стагоддзя.— Там жа, 1973, № 2; яго ж. Древний Полоцк. IX—XIII вв.— Мн., 1975; Монументальная живопись.— У кн.: Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1972, ч. 2; Монгайт А. Л. Фрески Спас-Ефросиниевского монастыря в Полоцке.— У кн.: Культура древней Руси. М., 1966; Сяліцкі А. А. Старажытныя фрэскі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1978, № 3; яго ж. Старажытны полацкі жывапіс (XI—XII стст.).— Мастацтва Беларусі, 1984, № 4, 6; Алексеев Л. В. Лазарь Богша — мастер-ювелир XII в.— Советская археология, 1957, № 3; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1.— Мн., 1968; Всеобщая история архитектуры. Т. 3.— Л.; М., 1966.

*Г. В. Штыхаў, Т. І. Чарняўская, В. В. Церашчатава.*

**1888. ЧЫРВОНЫ МОСТ** (гіст.). На вул. Фрунзе, цераз р. Палата.

У Айчынную вайну 1812 г. баі за вызваленне Полацка пачаліся амаль адначасова з наступленнем рускай арміі пад Масквой. На той час корпус П. Х. Вітгенштэйна займаў зручныя пазіцыі на р. Дрыса. Падмацаваныя Пецярбургскім апалчэннем і рэзервамі (50 тыс. чалавек, 170 гармат), часці корпуса 5 кастрычніка атакавалі пазіцыі праціўніка каля вёсак Юравічы і Белае, 6 кастрычніка захапілі абарончыя ўмацаванні каля Полацка і паўночную ўскраіну горада. У ноч на 8 кастрычніка пачаўся штурм цэнтральнай часткі горада. Высокія берагі Палаты ўскладнялі штурм, але гэта не спыніла рускіх воінаў. Пад агнём праціўніка воіны Пецярбургскага апалчэння імклівым кідком захапілі мост цераз Палату і ўварваліся ў цэнтр горада. Да раніцы Полацк быў поўнасцю вызвалены, напалеонаўскія войскі адкінуты на левы бераг Заходняй Дзвіны і вымушаны былі адступіць. Праціўнік страціў 7 тыс. забітымі, 2 тыс. салдат і афіцэраў было ўзята ў палон. У баі за горад загінула каля 7 тыс. рускіх воінаў. Мост быў заліты крывёю. З таго часу яго называюць Чырвоным.



1888. *Чырвоны мост.*

У 1975 г. на месцы старога драўлянага моста пабудаваны новы са зборных жалезабетонных канструкцый з выкарыстаннем элементаў афармлення былога моста: стылізаваныя па форме ліхтары на тратуарах, медальёны на плітах парапета (чыгун; па форме выцягнутыя па гарызанталі шасціграннікі з рэльефнымі выявамі перакрыжаваных шабляў і ківера на фоне круглага шчыта). Мемарыяльнае значэнне моста падкрэслена чырвонымі пілонамі (па 2 пры ўездах на мост). Каля моста ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Азіна, цэнтр сельсавета**

**1889. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 116 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Алёшча, Маласітнянскі сельсавет**

**1890. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Арлея, Трудаўскі сельсавет**

**1891. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Царкавішча. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі ў в. Званае. Займае ўзгорак авальнай формы, вышынёй 20 м. Памер 50×30 м. Гарадзішча ўмацавана 2 валамі вышынёй 2,5 м, ніжэй прасочваюцца яшчэ 2 кальцавыя валы вышынёй 3,5 м і паміж імі 2 равы шырынёй 2,5 м, глыбінёй 1 м. Адкрыў і абследаваў у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Раскопкі не праводзіліся. *Ш. І. Бекцінееў.*

**в. Арлова (не існуе), Гаранскі сельсавет**

**1892. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Арлова знаходзілася за 5 км на паўднёвы захад ад в. Новыя Гараны. У чэрвені 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 21 жыхара і знішчылі вёску (10 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Арцейкавічы, Азінскі сельсавет**

**1893. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 500 м на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны мірныя жыхары навакольных вёсак, загубленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1894. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 мірныя жыхары, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў жніўні 1941 г. На магілах устаноўлены мемарыяльныя знакі.

**в. Астроўшчына, цэнтр сельсавета**

**1895. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бабынічы, цэнтр сельсавета**

**1896. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Багародзіцкае, Гомельскі сельсавет**

**1897. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Багушова, Нацкі сельсавет**

**1898. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, недалёка ад дарогі на в. Бабынічы, ва ўрочышчы Валатоўкі, каля былой в. Прытычына. Каля 70 курганоў вышынёй 1 м, дыяметрам 8—10 м. Абследавалі ў 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Балдышы, Адамоўскі сельсавет**

**1899. РАДЗІМА КУПРЫЯНАВА** Паўла Емяльянавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. Е. Купрыянаў нарадзіўся ў 1908 г. на былым хутары Старынцы, які знаходзіўся за 2,5 км ад в. Балдышы, у сялянскай сям'і. З 1929 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі 1936—39 гг., камандзір танка асобнай механізаванай брыгады. Пад Мадрыдам знішчыў 2 варожыя танкі, 8 гармат і некалькі ўзводаў пяхоты праціўніка. Загінуў 9.11.1936 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31. 12.1936 г. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Баравуха 1-я, цэнтр сельсавета**

**1900. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на вул. Азёрнай. Пахаваны 50 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**1901. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Пахавана больш за 18 тыс. савецкіх ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў навакольных вёсак, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная група: 2 воіны.

**1902. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 180 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная група: 2 воіны.

**1903. МАГІЛА ПАТАПЕНКІ** Дзімы (гіст.). Каля школы. Піянера Дз. Патапенка загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баравуха 2-я, Салоніцкі сельсавет**

**1904. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 118 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баравуха 3-я, Салоніцкі сельсавет**

**1905. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баркі, Азінскі сельсавет**

**1906. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1906а.** Гарадзішча. За 5 км на ўсход ад вёскі, каля былой в. Гліснеўка, на пагорку вышынёй 4—5 м. Пляцоўка круглая, дыяметрам 40 м. Каля асновы гарадзішча ёсць рэшткі невысокага вала і рова. Выявіў у 1967 г., даследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.




**1900.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1906б.** Селішча. За 1,8 км на ўсход ад вёскі, на беразе р. Дрыса на плошчы каля 2 га. Адкрыў у 1967 г. і абследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. У культурным пласце знойдзена кераміка 11—12 стагоддзяў і больш позняга часу.

**1906в.** Курганны могільнік. За 0,8 км на ўсход ад вёскі. 17 курганоў: адзін доўгі даўжынёй 22 м, шырынёй 8 м, вышынёй 2 м; 3 авальныя вышынёй 2 м, шырынёй 5 м, даўжынёй 7 м; астатнія круглыя вышынёй 1,5 м, дыяметрам 8—10 м. У 1967, 1970 і 1971 гг. Г. В. Штыхаў даследаваў 9 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне пад насыпам на гарызонце. У шэрагу выпадкаў рэшткі крэмацыі змешчаны ў невялікай ямцы, выкапанай у грунце і накрытай гаршком. У адным круглым кургане, апрача рэшткаў нябожчыка, былі перапаленыя косці каня і быка. У круглых і авальных насыпах выяўлены пашкоджаныя агнём упрыгожанні: мініяцюрныя касцяныя качкі, бронзавыя трапецападобныя падвескі, спіралькі, шкляныя пацеркі, бронзавыя грыўня і бранзалет, жалезныя спражкі, глінянае прасліца. Могільнік датуецца 8—9 стагоддзямі, належаў полацкім крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Исследования в Витебской и Минской областях.— У кн.: Археологические открытия 1970 года. М., 1971; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Баярова, Бабыніцкі сельсавет**

**1907. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны каля 400 мірных жыхароў з навакольных вёсак і партызан, якіх у 1944 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Белае, Трудаўскі сельсавет**

**1908. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 87 мірных жыхароў з вёсак Белае і Чарбамыслы, якіх у студзені 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бельчыца, Экімані сельсавет**

**1909. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, на правым беразе р. Бяльчанка. Раней тут былі 33 курганы, насыпаныя на месцы селішча сярэдзіны 1-га тысячагоддзя



1910. *Помнік М. Ф. Сільніцкаму.*

н. э. Захаваліся 3 насыпы вышынёй 1—2 м, дыяметрам 8—10 м. Адкрылі і даследавалі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, якія раскапалі 9 насыпаў. Адзін курган у 1965 г. раскапаў Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне на гарызонце ў яме. Знойдзены ганчарная кераміка, бронзавыя бранзалеты, скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі. Належаў крывічам, датуецца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Сравнительное изучение древнейших городов Полоцкой земли и памятников их окрестностей.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Блізніца, Вароніцкі сельсавет**

**1910. ПОМНІК СІЛЬНІЦКАМУ** Міхаілу Фёдаравічу (маст.). У цэнтры вёскі. Пастаўлены ў 1981 г. (скульпт. А. Гвоздзікаў; бронза, бетон; вышыня бюста 80 см, пастамента 2 м). На прамавугольным пастаменце з выявамі ордэна Леніна і медаля Залатая Зорка ўстаноўлены пагрудны бюст Героя Савецкага Саюза М. Ф. Сільніцкага. У скульптурным партрэце падкрэслены мужнасць, непахісная воля, рамантычная ўзнёсласць героя. Помнік пастаўлены на пляцоўцы, выкладзенай шэрымі бетоннымі плітамі. Гл. таксама артыкул № 828 «Магіла Сільніцкага Міхаіла Фёдаравіча» (Віцебскі р-н). *Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Будзькаўшчына, Бабыніцкі сельсавет**

**1911. РАДЗІМА ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ** Браніслава Ігнатавіча (гіст.).

Беларускі выдавец і мовазнавец Б. І. Эпімах-Шыпіла нарадзіўся 4.9. 1859 г. ў фальварку Будзькаўшчына былога Лепельскага павета ў сям'і дробнага шляхціца. Кандыдат гісторычна-філалагічных навук (1887 г.), прафесар. Скончыў Рыжскую гімназію, у 1885 г. Пецярбургскі універсітэт. У 1891—1925 гг. працаваў у бібліятэцы Пецярбургскага універсітэта, адначасова выкладаў старажытныя мовы ў сярэдніх навучальных установах Пецярбурга; з 1925 г. рэдактар, у 1927—29 гг. дырэктар камісіі Інстытута беларускай культуры па складанню слоўніка беларускай мовы. Збіраў матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, фальклору Беларусі. З 1889 г. складаў рукапісную хрэстаматыю беларускай літаратуры (зберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР), з якой пазней надрукаваны невядомыя творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Тапчэўскага і інш. Ініцыятар стварэння (1906 г.) і фактычны кіраўнік беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Кіраўнік студэнцкага Беларускага навукова-літаратурнага гуртка (1912—17 гг.) у Петраградскім універсітэце. У 1909—13 гг. на кватэры Б. І. Эпімах-Шыпілы ў Пецярбургу жыў Я. Купала. Эпімах-Шыпіла садзейнічаў літаратурнаму станаўленню паэта. Рэдактар яго першага зборніка «Жалейка», склаў 2 машынапісныя сшыткі ненадрукаваных твораў Я. Купалы пецярбургскага перыяду (зберагаюцца ў Літаратурным музеі Я. Купалы ў Мінску). Я. Купала прысвяціў яму легенду «Паляўнічы і пара галубкоў», вершы «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з новым 1910 годам», «Прафесару п. Б. Эпімах-Шыпілу».

Б. І. Эпімах-Шыпіла памёр 6.6. 1934 г. ў Ленінградзе.

*Літ.:* Семашкевіч Р. М. Браніслаў Эпімах-Шыпіла.— Мн., 1968; Крачковский И. Ю. Над арабскими рукописями.— 4 изд.— М., 1965. *Г. В. Кісялёў.*

**в. Булаўкі, Зялёнкаўскі сельсавет**

**1912. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 96 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бяздзедавічы, Астроўшчынскі сельсавет**

**1913. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля бальніцы. Бюст У. І. Леніна першапачаткова ўстаноўлены да Вялікай Айчыннай вайны. У час нямецка-фашысцкай акупацыі жыхары вёскі зберaглі бюст. Паўторна ўстаноўлены ў 1947 г.

**1914. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Ушача. Створана ў пачатку 20 ст. Цяпер тут бальніца. Уключае сядзібны дом, пейзажны парк з сістэмай сажалак і гаспадарчыя пабудовы.

Сядзібны дом размешчаны на невысокім узгорку ў цэнтры ансамбля. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя заснавана на выкарыстанні розных па форме рызалітаў, якія выступаюць з асноўнага кубападобнага двухпавярховага аб'ёму. У дэкоры фасадаў выкарыстаны розныя па форме аконныя праёмы, вільчыкі, філёнгі, ліштвы. Планіроўка дома калідорна-анфіладная, вызначаецца разнастайнасцю плошчаў і канфігурацыі памяшканняў, згрупаваных вакол трохмаршавай лесвіцы цэнтральнага вестыбюля.



1914. *Сядзібны дом.*



1914. *Сядзіба. Гаспадарчая пабудова.*



1914. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



1914. *Куток парку.*

Невялікі парк пейзажнага тыпу разбіты з боку дваровага (паўднёвага) фасада сядзібнага дома. Паркавыя курціны, створаныя пераважна з таполі і ліпы, кампануюцца вакол 2 круглых сажалак і сістэмы каналаў. Аднапавярховыя гаспадарчыя пабудовы выкананы ў формах «цаглянай архітэктуры» з выкарыстаннем элементаў неаготыкі.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1915. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю і цэглы. Прамавугольны ў плане аб'ём завершаны высокім шасцігранным дэкарыраваным какошнікам і шатровым барабанам з галоўкай. Уваход вылучаны масіўным шатровым трохпралётным арачным ганкам на слупах-«дыньках». Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Бяздзедавічы 2-я,**
**Ветрынскі пасялковы Савет**

**1916. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на поўнач ад вёскі, 1 км на паўднёвы ўсход ад воз. Літвінава, з правага боку ад дарогі Бяздзедавічы — Вусце. 13 насыпаў (4 з іх пашкоджаны ямамі, адзін раскапаны) дыяметрам 4—7 м, вышынёй 0,5—1 м. Захаванасць добрая. Адкрыў і даследаваў у 1884 г. М. Ф. Кусцінскі, які раскапаў 10 насыпаў. Выяўлены пахаванні па абраду трупапалажэння. Рэчаў не было. Абследавалі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі, у 1973 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. *Ш. І. Бекцінееў.*

**в. Варонічы, цэнтр сельсавета**

**1917. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 173 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



**1917.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



**1915.** *Царква.*

**1918. МЕСЦА ГІБЕЛІ САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. 4.7.1944 г. загінуў экіпаж савецкага самалёта. У 1966 г. на месцы гібелі лётчыкаў пастаўлена стэла.

**1919. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ С. Г. ЛАЗО** (гіст.). На ўсход ад вёскі, за 3 км ад дарогі на в. Канашы, у лесе. Тут у Вялікую Айчынную вайну дыслацыраваўся атрад імя С. Г. Лазо партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева. Створаны ў кастрычніку 1942 г. (да ліпеня 1943 г.— 5-ы атрад, да лістапада 1943 г.— 3-і). Камандзір — І. С. Барэйка, камісары — М. С. Бардзюк, М. І. Ястрабаў, В. А. Данілаў. У 1966 г. адноўлена зямлянка штаба атрада, побач з ёй устаноўлена мемарыяльная дошка.

**г. п. Ветрына,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**1920. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Леніна. Пахаваны 124 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Фёдар Сяргеевіч Вазнясенскі, Міхаіл Мікалаевіч Вінаградаў, Іван Міхайлавіч Жагранкоў, Уладзімір Сцяпанавіч Рублеўскі.

Ф. С. Вазнясенскі нарадзіўся 3.4.1916 г. ў в. Лосева Селіжараўскага р-на Калінінскай вобл. ў сялянскай сям'і. На фронце з жніўня 1941 г., гвардыі сяржант, камандзір стралковага аддзялення. 22.6.1944 г. каля в. Сіроціна ў рукапашным баі знішчыў 9 варожых салдат, 24.6.1944 г. вызначыўся пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны. 3.7.1944 г. ў баі за в. Троіцкае быў цяжка паранены, памёр ад ран. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

М. М. Вінаградаў нарадзіўся 10.10.1924 г. ў в. Навінкі Таржоцкага р-на Калінінскай вобл. ў сям'і рабочага. У Вялікую Айчынную вайну — гвардыі старшы сяржант, камандзір стралковага аддзялення. 22.6.1944 г. ў баі каля вёсак Рацькава і Арэхі Сіроцінскага р-на аддзяленне пад камандаваннем М. М. Вінаградава адно з першых прарвала абарону ворага. У баі М. М. Вінаградаў замяніў параненага камандзіра ўзвода. 24.6.1944 г. ўзвод першым фарсіраваў Заходнюю Дзвіну. М. М. Вінаградаў загінуў 3.7.1944 г. ў баі ў раёне в. Троіцкае. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

І. М. Жаграноў нарадзіўся 10.11.1923 г. ў в. Паловы Асташкаўскага р-на Калінінскай вобл. ў сялянскай сям'і. На фронце з сакавіка 1942 г., гвардыі сяржант, камандзір стралковага аддзялення. І. М. Жаграноў вызначыўся 22.6.1944 г. ў баі за в. Арэхі Сіроцінскага р-на, 24.6.1944 г. пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны. 3.7.1944 г. ў баі за в. Троіцкае кінуўся са звязкай гранат пад варожы танк, падарваў яго і загінуў сам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У. С. Рублеўскі нарадзіўся ў 1925 г. ў пасёлку Інская Новасібірскага р-на. На фронце з 1943 г., гвардыі старшы сяржант, камандзір кулямётнага разліку. 22.6.1944 г. каля вёсак Рацькава і Арэхі Сіроцінскага р-на кулямётны разлік знішчыў мінамётную батарэю праціўніка. 24.6.1944 г. адным з першых фарсіраваў Заходнюю Дзвіну. 3.7.1944 г. ў раёне в. Троіцкае У. С. Рублеўскі знішчыў 19 варожых салдат. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.



**1920.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і надмагілле.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1921. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры пасёлка, каля бальніцы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**в. Вішнёва, Рудпянскі сельсавет**

**1922. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН 1905 г.** (гіст.). Адбылося ў сакавіку.

На Віцебшчыне, як і ў іншых месцах Беларусі, у пачатку Рэвалюцыі 1905—07 гг. узмацніўся сялянскі рух. Найбольш пашыранай формай выступленняў былі парубкі памешчыцкіх лясоў. У Полацкім і Лепельскім паветах за першых 3 месяцы 1905 г. адбылося больш за 20 парубак лесу. Яны былі масавымі і нярэдка суправаджаліся сутычкамі з лясной ахovай, паліцыяй і войскам. Буйное сялянскае выступленне адбылося ў вёсках Вішнёва і Лесіна Полацкага павета. Сяляне, узброеныя стрэльбамі і каламі, секлі лес, аказалі супраціўленне паліцыі і лясной ахове. Урад накіраваў туды роту салдат. 11 найбольш актыўных удзельнікаў выступлення былі арыштаваны і аддадзены пад суд.

*Літ.:* Шабуня К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг.— Мн., 1962; Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3.— Мн., 1953. *Г. І. Дулеба.*

**в. Воранава, Зялёнкаўскі сельсавет**

**1923. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). Мясцовыя назвы Сопкі, Гарушкі, Французскія магілы.

**1923а.** Могільнік-1. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, на заходнім беразе воз. Чырвоная Лука. 11 насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 4—9 м. Захаванасць добрая, курганы здзірванелыя і часткова зараслі кустамі. Абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Раскопкі не праводзіліся.

**1923б.** Могільнік-2. За 1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 45 насыпаў, якія добра захаваліся (за выключэннем 9 курганоў, пашкоджаных ямамі), зараслі хваёвым лесам. Уздоўж асновы дзе-нідзе прасочваюцца раўкі. Вышыня курганоў 0,5—3,5 м, дыяметр 4—12 м. Адзін насып падоўжаны (вышыня 1,5 м, шырыня 2 м, даўжыня 10—11 м). Адкрыў і абследаваў у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Раскопкі не праводзіліся. *Ш. І. Бекцінееў.*

**в. Вуглы, Бабыніцкі сельсавет**

**1924. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, каля лясной дарогі на воз. Братаўна. Каля 200 насыпаў-валатовак вышынёй 1—1,5 м, асобных курганоў да 3 м, дыяметрам 6—8 м. Вакол курганоў ёсць раўкі. Выявіў у 1967 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1925. РАДЗІМА ПАДСАДНІКА** Мікалая Георгіевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Г. Падсаднік нарадзіўся 1.1.1922 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Скончыў Арэнбургскую школу пілотаў у 1942 г., у 1959 г.— Маскоўскую вышэйшую школу прафруху ВЦСПС. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з кастрычніка 1943 г. на Варонежскім, 1-м, 2-м і 3-м Украінскіх франтах. Удзельнік вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Югаславіі, Венгрыі. Лётчык-штурмавік камандзір звяна гвардыі капітан М. Г. Падсаднік зрабіў 106 баявых вылетаў на разведку, штурмоўку і бамбардзіроўку жывой сілы і тэхнікі ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.8.1945 г. Пасля вайны на партыйнай, прафсаюзнай і адміністрацыйнай рабоце ў Маскве.

М. Г. Падсаднік памёр 24.11.1975 г. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Гара (не існуе), Палатоўскі сельсавет**

**1926. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гара знаходзілася за 8 км на паўднёвы ўсход ад в. Палата. У 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 г. на месцы былой вёскі пастаўлены абеліск.

**в. Гаравыя, Баравухскі сельсавет**

**1927. ГАРАДЗІШЧА ТАЎКАЧ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1927а.** Гарадзішча. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, сярод балота на востраве Таўкач. Пляцоўка авальная, памерам 28×21 м. Абарончыя збудаванні не прасочаны. Даследавалі А. М. Семянтоўскі (канец 19 ст.), А. М. Ляўданскі (1928 г.), А. Р. Мітрафанаў (1961 г.). Культурны пласт 0,25 м. Пры раскопках выяўлены рэшткі доўгіх жытлаў слупавой канструкцыі, каменнае агнішча, знойдзены ляпны гліняны посуд, жалезныя прылады працы, косці жывёл і інш. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.



**1927.** *Гарадзішча.*

**1927б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі Гаравыя — Баравуха. 15 курганоў вышынёй да 1 м, дыяметрам да 8 м (раней было 38 насыпаў круглых і падоўжаных у плане). У 1928 г. А. М. Ляўданскі даследаваў 8 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У 3 насыпах побач з перапаленымі чалавечымі касцямі знойдзены ляпныя гаршкі, шкляныя пацеркі, бронзавая спіралька ад упрыгожання. Адносяцца да 2-й палавіны 1-га тысячагоддзя н. э., належалі полацкім крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сементовский А. М. Белорусские древности. В. 1.— СПб., 1890; Ляўданскі А. М. Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Штыхов Г. В. Археология Полоцкой земли за 50 лет.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1969; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**в. Гараны, цэнтр сельсавета**

**1928. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля чыгуначнага пераезда. Пахаваны 193 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Мікалай Пятровіч Фамін і Іван Андрэевіч Філацьеў.

М. П. Фамін нарадзіўся 24.11. 1914 г. ў в. Вялікі Сурмет Абдулінскага р-на Арэнбургскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. 22.6.1944 г. батальён пад камандаваннем гвардыі маёра М. П. Фаміна каля вёсак Карташы і Плігаўкі прарваў моцна ўмацаваную глыбока эшаланіраваную абарону ворага і вызваліў вёскі. Байцы захапілі 4 гарматы, мінамётную батарэю і 3 кулямёты. Асабіста М. П. Фамін знішчыў 40 варожых салдат, падавіў 2 кулямётныя кропкі і агонь 2 гармат. М. П. Фамін памёр ад ран 2.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

І. А. Філацьеў нарадзіўся 7.6. 1909 г. на хутары Лозным Чарнышкоўскага р-на Валгаградскай вобл. ў сялянскай сям'і. На фронце з чэрвеня 1941 г. Памочнік камандзіра ўзвода гвардыі малодшы сяржант І. А. Філацьеў вызначыўся ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні Сіроцінскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У баях за вёскі Плігаўкі, Доўгая Ніва, Скавародзіна, Малышкі і Ляхава замяніў камандзіра роты і адным з

першых пераправіўся цераз р. Будавесць. І. А. Філацьеў загінуў у баі 1.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1929. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе Заходняй Дзвіны, на гары вышынёй 20—25 м. Пляцоўка памерам 60×25 м. Выявілі і абследавалі ў 1934 г. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 7—2 стагоддзямі да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*

**1930. ПОМНІК НАСТАЎНІКАМ І ВУЧНЯМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 12 настаўнікаў і вучняў школы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлена стэла.

**в. Гарнаполле, Гомельскі сельсавет**

**1931. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 29.5.1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 129 жыхароў і спалілі вёску (30 двароў). На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1964 г. пастаўлена стэла.



**1932.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Глінішча, Баравухскі сельсавет**

**1932. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля вёскі, на беразе р. Бельчанка. 60 курганоў вышынёй 0,9—1,5 м, дыяметрам 6—10 м. У 1965, 1967 гг. Г. В. Штыхаў даследаваў 20 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне пад насыпам, пахаванні адзіночныя, зрэдку парныя. У адным кургане пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены ляпныя гаршкі, характэрныя для доўгіх курганоў Полаччыны і Смаленшчыны, і пасудзіны, зробленыя на ганчарным крузе, шкляныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі, плоскае скроневае кольца, нажы, серп, наканечнік стралы і інш. Належаў крывічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья.— М., 1970. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Гомель, цэнтр сельсавета**

**1933. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 137 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск, побач з ім у 1953 г.— скульптура воіна.

**1934. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1934а.** Могільнік-1. За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля школы, пры дарозе ў в. Заазер'е. Захаваліся 24 курганы вышынёй 1—2 м, дыяметрам 6—10 м. Моцна зараслі хмызняком. Абследаваў у 1955 г. Л. В. Аляксееў. У 1972 г. Г. В. Штыхаў раскапаў адзін курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены шкілет чалавека. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 12—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1934б.** Могільнік-2. За 2 км на ўсход ад могільніка-1, пры дарозе на в. Зашчатнае, у полі. Захаваліся 2 курганы. Вышыня аднаго кургана 3 м, дыяметр 16 м, другога — 2 м, дыяметр 10 м. Абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**1935. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЕТРЫНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). Устаноўлена ў 1965 г. на доме, дзе ў Вялікую Айчынную вайну ў час акупацыі тэрыторыі раёна нямецка-фашысцкімі захопнікамі размяшчаўся Ветрынскі падпольны райком КП(б)Б. Гл. таксама артыкул № 1937 «Мемарыяльны комплекс у гонар Ветрынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава».

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Тябут Д. В. Сквозь огонь: Записки комбрига.— 3 изд.— Мн., 1979.

**1936. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст.). Устаноўлена ў 1965 г. на будынку выканкома Гомельскага сельсавета ў гонар партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава, штаб якой дыслацыраваўся тут у лютым 1943 г.— маі 1944 г.

**1937. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР ВЕТРЫНСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст., маст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну на акупіраванай ворагам тэрыторыі раёна дзейнічалі ветрынскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Спачатку базіраваліся пры партызанскім атрадзе «Мсцівец», з снежня 1942 г.— пры брыгадзе імя К. Я. Варашылава.

Падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 26.9.1942 г. да 1.7.1944 г. Сакратары — Дз. В. Цыбут (з 7.4.1943 г., другі сакратар), Б. М. Данькоў (з 7.4. 1943 г.). Райком КП(б)Б арганізоўваў і кіраваў партызанскім рухам і ка-




**1934а.** *Курганны могільнік-1. План.*



1935. *Дом, у якім размяшчаўся Ветрынскі падпольны райком КП(б)Б.*

муністычным падполлем, праводзіў палітычную работу сярод насельніцтва, выдаваў падпольную газету «Чырвоная звязда».

Падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з 14.9.1942 г. да 1.7.1944 г. Сакратар Л. І. Дзерваедаў. Райком ЛКСМБ узначальваў работу пярвічных арганізацый партызанскіх фарміраванняў, вёў палітыка-выхаваўчую работу сярод моладзі, мабілізоўваў яе на барацьбу з ворагам.

Партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава створана ў снежні 1942 г. на базе атрадаў «Мсцівец» і «Смерць фашызму». Да студзеня 1944 г. называлася «Мсцівец» (камандзір Дз. В. Цябут, камісар У. А. Лемза). Дзейнічала на тэрыторыі Ветрынскага, Ушацкага Віцебскай вобл. і Плісскага р-на Вілейскай вобл. Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Маладзечна, на шашэйных і грунтавых дарогах Полацк — Дзісна, Ветрына — Маладзечна, Ветрына — Полацк. Вялі баі супраць карнікаў за вёскі Гуры (жнівень 1943 г.), Мураўі (люты 1944 г.), Гомель (красавік 1944 г.), падарвалі чыгуначны мост каля в. Антонавічы, разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Крынкі Полацкага р-на (верасень 1943 г.), Вераб'і (красавік 1944 г.). У пачатку жніўня 1943 г. на чыгуначным участку Ветрына — Празарокі падарвалі і пашкодзілі больш за 800 рэек. У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічалі ў баях партызанскіх брыгад Полацка-Лепельскай зоны супраць карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх войск у раёне вёсак Вялікія Угрынкі, Забораўна Ушацкага р-на. У ноч з 4 на 5.5.1944 г. прарвалі варожую блакаду на рубяжы в. Вялікае Матырына — Беразінец Ушацкага р-на. У чэрвені 1944 г. каля в. Шоша знішчылі 6 варожых аўтамашын. 1.7.1944 г. брыгада (746 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння ў яе ўваходзілі 6 атрадаў: «Бальшавік», «За Радзіму», імя М. Ф. Гастэлы, «КІМ», «Мсцівец» і «Смерць фашызму».

У 1977 г. ў гонар дзейнасці Ветрынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава ўзведзены мемарыяльны комплекс (арх. А. Трафімчук, скульпт. М. Рыжанкоў). Размешчаны на высокім узгорку. Каля яго асновы, з боку вёскі, мемарыяльная сцяна з бутавага каменю (мінімальная вышыня 2 м, максімальная 3 м), на якой 6 сілумінавых блокаў з інфармацыйным тэкстам, прысвечаным партызанскім атрадам брыгады імя К. Я. Варашылава, а таксама бетонная пліта з картай-схемай дыслакацыі брыгады і атрадаў. Перад мемарыяльнай сцяной — рытуальная плошча. З 2 бакоў узгорка да яго вяршыні, дзе знаходзіцца мемарыяльная плошча, вядуць лесвіцы. У цэнтры мемарыяльнай плошчы пастаўлены абеліск (бетон, вышыня 10,5 м), побач з ім — стэла (бетон, вышыня 2,1 м, шырыня 10 м). У правай яе частцы — бронзавая барэльефная выява пасяджэння штаба партызанскай бгады. Расчлянёная трохвугольнымі плоскасцямі левая частка стэлы па сваіх абрысах нагадвае выбух. Па перыметры плошчы ўстаноўлены дошкі з тэкстам-прысвячэннем, прозвішчамі кіруючага складу Ветрынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і штаба партызанскай брыгады, імёнамі 479 партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць ворага. Архітэктурныя аб'ёмы, скульптурная пластыка і ландшафтнае асяроддзе ствараюць цэласны мастацкі комплекс, які ўслаўляе подзвіг народа-пераможцы.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*М. В. Кірэйшын, Г. М. Ярмоленка.*

1938. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці землякоў-партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана.

1939. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 92 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла і закладзены мемарыяльны сквер. Каля кожнага з 92 дрэў мемарыяльная дошка з імем загінуўшага.

**в. Грамошча, Адамоўскі сельсавет**

1940. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 185 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1941. **МАГІЛА БЕНЯВОЛЬСКАГА Ю. Т.** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, каля развілкі дарог Грамошча — Канстанцінава. Лейтэнант Чырвонай Арміі Ю. Т. Бенявольскі загінуў пры вызваленні Полацка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1942. **МАГІЛА ДЗЯЦЕЙ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 дзяцей, што загінулі 30.6.1933 г. ў будынку дзіцячых ясляў, якія спалілі ворагі Савецкай улады. У 1935 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Грыцкаўшчына, Вароніцкі сельсавет**

1943. **МАГІЛА ЗАВАДСКАГА** Генадзя Іванавіча (гіст.). За 250 м на паўднёвы захад ад вёскі. Партызан Г. І. За-



1937. *Мемарыяльны комплекс у гонар Ветрынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.*



**1937.** *Мемарыяльны комплекс у гонар Ветрынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава. Фрагмент.*

вадскі загінуў у 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Далецкія, Гомельскі сельсавет**

**1944. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі, на паўднёвым беразе воз. Суя. Выявілі і абследавалі ў 1981 г. У. П. Ксяндзоў і Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,2 м. Сабраны крамянёвыя скрабкі, нуклеусы, пласціны, скоблі, рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Двор Саланевічы, Бабыніцкі сельсавет**

**1945. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 89 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1946. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1946а.** Могільнік-1. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на беразе воз. Нявіда. 6 курганоў вышынёй 0,8 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіў у 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, даследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Раскапаны адзін насып, у якім знойдзены перапаленыя косці.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1946б.** Могільнік-2. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі на паўднёвым беразе воз. Вялікі Бялёнак. 17 курганоў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Выявіў у 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Дзмітроўшчына, Зялёнкаўскі сельсавет**

**1947. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзявічкі, Палатоўскі сельсавет**

**1948. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на крутым і высокім (8—10 м ад асновы) узгорку, на карэнным левым беразе р. Палата. На поўнач, паўночны ўсход і паўночны захад ад гарадзішча знаходзілася шырокая і моцна забалочаная пойма ракі (цяпер асушана). Пляцоўка ў плане авальная, памерам 40×28 м. Абследаваў у 1929 г. А. М. Ляўданскі, даследавалі ў 1954 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1965 г. К. П. Шут. Ускрыта больш за 100 м². Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі да 0,7 м, па краях 1,5—1,25 м. Знойдзены ляпная гладкасценная кераміка, вырабы з косці (долата, вастрыі, шылы), з каменю (сякера-клін, клінападобныя пласціны), жалеза (долатападобная прылада, нажы, шылы, серп), шмат касцей свойскіх і дзікіх жывёл, шлакі. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Домнікі, Гаранскі сельсавет**

**1949. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 247 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дохнары, Азінскі сельсавет**

**1950. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 800 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 8 мірных жыхароў, якіх 15.5.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дрэтунь, Маласітнянскі сельсавет**

**1951. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 4 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1948.** *Гарадзішча. План.*

**1952. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Насупраць чыгуначнай станцыі. Пахаваны 355 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1953. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 9 км ад станцыі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дубраўкі, Ветрынскі пасялковы Савет**

**1954. РАДЗІМА БАРЭЙКІ** Аркадзя Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1941 г.) А. А. Барэйка нарадзіўся 14.1.1898 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. У 1922 г. скончыў курсы «Выстрал», у 1949 г.— Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Вышэйшай ваеннай акадэміі. У 1918 г. старшыня камітэта сялянскай беднаты. З 1918 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны, вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на Заходнім, Бранскім, Цэнтральным, Беларускім і 3-м Беларускім франтах, камандзір дывізіі, корпуса. У верасні 1943 г. корпус пад камандаваннем А. А. Барэйкі фарсіраваў Дняпро ў Брагінскім р-не, захапіў і ўтрымліваў плацдарм. За ўмелае кіраўніцтва аперацыяй і асабістую мужнасць А. А. Барэйку 15.1. 1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Да 1953 г. служыў у Савецкай Арміі. А. А. Барэйка памёр 12.12.1955 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Жарцы, Зялёнкаўскі сельсавет**

**1955. МАГІЛА МАРЫНЕНКА** Таццяны Савельеўны (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза Т. С. Марыненка нарадзілася 25.1.1920 г. ў в. Сухі Бор Полацкага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У 1939 г. скончыла педагагічнае вучылішча ў Полацку, працавала настаўніцай у в. Зялёнка. У Вялікую Айчынную вайну сувязная і разведчыца партызанскай брыгады «Няўлоўныя». Здабывала звесткі аб дыслакацыі войск ворага, планы і карты карных экспедыцый, распаўсюджвала зводкі Саўінфармбюро, агітацыйную літаратуру. У канцы ліпеня 1942 г. па даносу правакатара гітлераўцы схапілі Т. С. Марыненка. Разам з ёй былі арыштаваны 14-гадовы брат Лаўрэн і 28 аднавяскоўцаў, якіх пасля допытаў акупанты расстралялі. Некалькі дзён

фашысты катавалі адважную разведчыцу. Таня змагла перадаць на волю 2 запіскі. У адной з іх яна папярэдзіла таварышаў аб магчымых арыштах. 2.8.1942 г. Таню па-зверску закатавалі. Званне Героя Савецкага Саюза Т. С. Марыненка прысвоена 8.5.1965 г. Яе імя прысвоена Зялёнкаўскай сярэдняй школе, у Полацку пастаўлены помнік, на будынку педвучылішча, дзе яна вучылася, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Полоцк: Исторический очерк.— Мн., 1962; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1956. МЕСЦА ФАРМІРАВАННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА Ў АЙЧЫННУЮ ВАЙНУ 1812 г.** (гіст.). У Айчынную вайну 1812 г. ўсё дарослае насельніцтва в. Жарцы аб'ядналася ў партызанскі атрад на чале з мясцовым селянінам Максімам Маркавым. У верасні 1812 г. партызаны напалі на батальён пяхоты і эскадрон кавалерыі праціўніка, нанеслі яму значныя страты і прымусілі адступіць. У кастрычніку атрад прымаў удзел у 2 бітвах за Полацк. Генерал Е. І. Уластаў у рапарце камандзіру корпуса П. Х. Вітгенштэйну так ацаніў подзвіг сялян в. Жарцы: «Абавязкам лічу прасіць ваша сіяцельства, каб вядомы быў публіцы гэты здзіўляючы ўчынак тых мужыкоў, які даказвае, што вельмі добрая іх любоў і адданасць Айчыне і да ворагаў яе непрымірымая варожасць прымусілі іх узброіцца па ўласнай сваёй волі і, забыўшыся на ўсе жахі вайны, ахвяраваць жыццём сваім, выключна каб знішчыць ворагаў Айчыны». За праяўленую мужнасць у баях супраць ворага 22 партызаны атрада былі ўзнагароджаны крыжамі.

*Літ.:* Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г.— Мн., 1962. *Э. М. Савіцкі.*



**1955.** *Помнік на магіле Т. С. Марыненка.*

**в. Заазер'е, Гомельскі сельсавет**

**1957. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 127 мірных жыхароў в. Заазер'е і навакольных вёсак, якіх 29.5.1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1958. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «КІМ»** (гіст.). У 1943—44 гг. у вёсцы размяшчаўся штаб маладзёжнага партызанскага атрада «КІМ» брыгады імя К. Я. Варашылава. Створаны ў маі 1943 г. з часткі асабовага складу, вылучанай з партызанскага атрада «Мсцівец». Камандзіры І. І. Яльцоў, К. В. Сувораў, камісар А. Ф. Вярбіцкі.

У 1955 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб атрада, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Забор'е (не існуе), Палатоўскі сельсавет**

**1959. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Забор'е знаходзілася за 10 км на паўночны ўсход ад в. Домнікі Гаранскага сельсавета. У чэрвені 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 138 яе жыхароў і спалілі вёску. Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 г. на месцы былой вёскі пастаўлены абеліск.

**в. Загацце, Бабыніцкі сельсавет**

**1960. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1960а.** Гарадзішча. Каля вёскі, на беразе воз. Нявіда, на гары вышынёй да 20 м, якая з паўночнага і заходняга бакоў абмываецца ручаём. Пляцоўка авальная памерам 55×30 м, уваход з усходняга боку, дзе вышыня пагорка 7—8 м. Тут на пляцоўцы прасочаны рэшткі дугападобнага вала вышынёй да 2 м. Абследаваў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, даследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,8 м. Знойдзена ляпная кераміка, косці жывёл, абломак жалезнага сярпа. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

**1960б.** Селішча. Побач з вёскай, з паўднёва-ўсходняга боку ад гарадзішча. Абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Знойдзены абломак ляпной пасудзіны, упрыгожанай расчосамі, і шмат ганчарнай керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*



**1963.** *Гарадзішча.*

**в. Загорцы (не існуе), Шпакоўшчынскі сельсавет**

**1961. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Загорцы знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Шпакоўшчына. У жніўні 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 24 жыхароў і спалілі вёску (13 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Залессе, Гаранскі сельсавет**

**1962. МАГІЛА СЯРОВА** Сяргея Канстанцінавіча (гіст.). У парку. Гвардыі капітан Чырвонай Арміі С. К. Сяроў загінуў у баі ў 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Замошша 1-е, Бабыніцкі сельсавет**

**1963. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзгорку вышынёй каля 13 м, сярод забалочанай мясцовасці. Пляцоўка авальнай формы памерам 55×38 м, валы і равы не прасочваюцца. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў, даследаваў (на плошчы 500 м²) у 1977—80 гг. В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,4 м на краі пляцоўкі і каля 2 м у цэнтры, мае 2 гарызонты. У ніжнім гарызонце выяўлены каменныя клінападобныя (каля 100 штук) і прамавугольныя сякеры, камяні ад зерняцёрак, мялы і цёрачнікі, касцяныя вастрыі, праколкі, долаты, наканечнікі стрэл, коп'яў і дроцікаў, касцяныя шпількі ад галаўнога ўбору. У верхнім гарызонце знойдзены жалезныя сякеры, шылы, фрагменты вузкалязовых сякер, сярпы з прамавугольнай спінкай, характэрныя толькі для гарадзішчаў Беларускага Падзвіння. Выяўлены рэшткі круглых у плане агнішчаў, сабраны абломкі гладкасценнага слоікавага посуду з адтулінамі па венчыку. Слабапрафіляваныя гаршкі арнаментаваны злучанымі пракрэсленымі лініямі ці скразнымі адтулінамі. Знойдзены

таксама рэшткі штрыхаванага посуду. Гарадзішча адносіцца да днепрадзвінскай культуры і датуецца 8 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шадыра У. І. Гарадзішча Замошша.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1980, № 2. *В. І. Шадыра.*

**в. Заскаркі, Вароніцкі сельсавет**

**1964. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 62 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Абдула Жанзакаў.

А. Жанзакаў нарадзіўся ў 1918 г. ў пас. Акраб Хобдзінскага р-на Акцюбінскай вобл. ў сям'і селяніна. У Чырвонай Арміі з 1940 г. На фронце з 1941 г. 22.6.1944 г. пры штурме вышыні каля в. Сіроціна аўтаматчык яфрэйтар А. Жанзакаў закідаў гранатамі варожы дзот, знішчыў 12 салдат і афіцэраў. 24 чэрвеня ўдзельнічаў у захопе плацдарма на левым беразе Заходняй Дзвіны. Загінуў 29.6.1944 г. пры фарсіраванні р. Ушача. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.7.1944 г.

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Захарнічы, Юравіцкі сельсавет**

**1965. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, каля старой дарогі. 14 курганоў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Адзін з іх вышынёй 3 м. Выявіў і даследаваў у 1969 г. Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад: на грунце паліўся рытуальны (ачышчальны) агонь, потым пасярэдзіне вогнішча выкопвалася яма глыбінёй да 0,5 м, у якую змяшчалася труна з нябожчыкам галавой на захад. Над пахаваннем насыпаўся курган. Каля шкілетаў знойдзены бронзавыя спражкі, падковападобная фібула, паясныя кольцы, сярэбраныя пярсцёнкі, шмат шкляных пацерак, жалезны нож. Могільнік адносіцца да 11 ст., належаў полацкім крывічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*



1965. *Курганны могільнік. План.*

**в. Званае, Трудаўскі сельсавет**

**1966. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 186 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На ўшанаванне іх памяці ў 1954 г. пастаўлены абеліск.

**1967. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на гары. Пляцоўка памерам 60×80 м па форме нагадвае чатырохвугольнік з закругленымі вугламі. З заходняга краю ёсць рэшткі вала і рова. Выявіў у 1969 г. і даследаваў у 1973 г. Г. В. Штыхаў. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Казімірова, Палатоўскі сельсавет**

**1968. ПОМНІК ВУЧНЯМ І НАСТАЎНІКАМ** (гіст.). На тэрыторыі школы. На ўшанаванне памяці 45 былых вучняў і настаўнікаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Казлоўцы (не існуе), Азінскі сельсавет**

**1969. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Казлоўцы знаходзілася за 4 км на поўнач ад в. Боркі. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 32 яе жыхароў, спалілі вёску (30 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Кармалысы, Бабыніцкі сельсавет**

**1970. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на беразе возера. 45 курганоў размешчаны 3 групамі: у адной — 26 курганоў вышынёй 0,8—2 м, дыяметрам 6—10 м; у другой — 3 курганы; у трэцяй — 16. Абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Катушанкі, Нацкі сельсавет**

**1971. РАДЗІМА СЯМАШКІ** Мікалая Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт М. П. Сямашка нарадзіўся ў 1914 г. ў в. Барылы (зліласся з в. Катушанкі) у сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў у ветрынскай раённай газеце. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі, удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі. Напярэдадні вайны загадваў літаратурным аддзелам беластоцкай абласной газеты «Вольная праца». З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на фронце. Загінуў у 1941 г. пры абароне Оршы.

Першыя вершы М. Сямашкі надрукаваны ў 1932 г. У 1939 г. ў Мінску выдадзены яго зборнік вершаў «Шчырасць». Вершы паэта прасякнуты матывамі любві да Радзімы, роднай прыроды. У прыродаапісальнай і інтымнай лірыцы адчуваецца ўплыў фальклору. Некалькі вершаў М. П. Сямашкі ўвайшлі ў кнігі «Мы іх не забудзем» (1949 г.), «Крывёю сэрца» (1967 г.).

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. Б. Караткевіч.*



1970. *Курганны могільнік.*

**в. Крумплева, Адамоўскі сельсавет**

**1972. СТАЯНКА** (археал.). За 0,25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе Заходняй Дзвіны, на першай надпоймавай тэрасе. Выявіла ў 1957 г. Н. М. Гурына, даследаваў у 1967 г. І. М. Ціханенкаў. У культурным пласце 0,2 м знойдзены крамянёвыя прылады працы — скрабкі, разцы, праколкі і інш. Адносіцца да эпохі мезаліту. Частка прылад (канцавыя скрабкі і інш.), магчыма, з'яўляецца больш старажытнай. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Кунцэвічы, Вароніцкі сельсавет**

**1973. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 13 партызан Смаленскага партызанскага палка, якія загінулі ў красавіку 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кушлікі, Адамоўскі сельсавет**

**1974. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 73 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1975. РЭШТКІ ЗЕМЛЯНЫХ УМАЦАВАННЯЎ** (гіст.). На правым беразе р. Заходняя Дзвіна, у сутоку з невялікай рачулкай. Абследаваў у 1972 г. М. А. Ткачоў. Захаваліся рэшткі земляных насыпаў і акопаў ваеннага лагера рускіх войск. Умацаванні зруйнаваны ў час руска-польскай вайны 1654—67 гг. Адносяцца да 17 ст.

*Літ.:* Витебская старина/Сост. А. П. Сапунов. Т. 4. Ч. 2.— Витебск, 1885.

**в. Лагані, Вароніцкі сельсавет**

**1976. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

24 Зак. 3873

**в. Латышкі, Рудпянскі сельсавет**

**1977. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 жыхароў вёсак Латышкі і Кутняны, якіх у ліпені 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лучна, Заазерскі сельсавет**

**1978. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. У кастрычніку 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 21 жыхара в. Лучна. У 1962 г. на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**в. Малое Сітна, цэнтр сельсавета**

**1979. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 181 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1980. ЗАМЧЫШЧА СІТНА** (гіст.). На паўднёва-заходнім беразе воз. Сітна. У Лівонскую вайну 1558—83 гг. рускія войскі пабудавалі (1563 г.) умацаванне «гарадок». У снежні 1566 г. войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з Бірулем захапілі ўмацаванне і разбурылі яго. Зноў адбудаваны рускімі войскамі ў 1579 г. замак стаяў на штучным земляным узвышшы з унутранай драўлянай асновай, меў 4 вежы і браму, абмываўся водамі возера і р. Палата. 4.8.1579 г. войскі Стэфана Баторыя канчаткова разбурылі замак. Зберагліся земляное ўзвышша вышынёй да 7 м.

*Літ.:* Витебская старина/Сост. А. П. Сапунов. Т. 4. Ч. 1.— Витебск, 1885; Ткачев М. А. Исследование памятников военного зодчества Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970. *М. А. Ткачоў.*

**1981. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ПОЛАЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). За 5 км на паўднёвы ўсход ад в. Малое Сітна, на месцы знішчанай нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. в. Чарбамыслы.

Полацкі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 6.6.1942 г. да 15.11.1943 г. Базіраваўся ў 3-й Беларускай партызанскай брыгадзе. Першы сакратар райкома КП(б)Б М. А. Новікаў (20.8.1942 г.— май 1943 г.), другі сакратар Г. С. Пятроў (6.6.1942 г.— 15.11.1943 г.). Райком праводзіў агітацыйна-прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, узначальваў камуністычнае падполле і барацьбу партызан супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна. Выдаваў падпольную газету «Бальшавіцкі шлях».

У 1979 г. ў гонар дзейнасці райкома КП(б)Б пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. (1941—1944).— Мн., 1975; Полоцк: Исторический очерк.— Мн., 1962. *М. В. Кірэйшын.*




**1980.** *Крэпасць Сітна. З гравюры 1579 г.*



**1980.** *Замчышча Сітна. План.*

**в. Мацюшы, Адамоўскі сельсавет**

**1982. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад цэнтра вёскі, ва ўрочышчы Соснік, каля лясной дарогі. Є курганоў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 11—12 м. Добра захаваліся 2 насыпы. Выявіў у 1969 г. і абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Мінтурова, Салоніцкі сельсавет**

**1983. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля вёскі, на беразе воз. Стаўпецкае, на пагорку Чорная гара (вышыня 4 м). Пляцоўка авальная памерам 60×40 м, уваход з паўднёвага боку. Каля асновы пагорка вал вышынёй 1,2 м і роў глыбінёй 0,8 м. Даследаваў у 1965 і 1973 гг. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 1,3 м. Знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка ранняга жалезнага веку. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Мышчана, Астроўшчынскі сельсавет**

**1984. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 109 жыхароў вёсак Бяздзедавічы, Вусце, Жаўнова, Завалынка, Ліцвінава, Мышчана, Пятроўцы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік: сцяна з барэльефнай выявай галавы воіна. Абапал сцяны — 2 стэлы і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1985. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура С. М. Кірава ўстаноўлена ў 1968 г.

**в. Мяжно 2-е, Заазерскі сельсавет**

**1986. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мяжно 3-е, Заазерскі сельсавет**

**1987. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 60 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1988. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ускраіне вёскі. Тут у Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі расстрэльвалі мірных жыхароў. У 1962 г. на месцы загубы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1989. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

## XX. НАВАПОЛАЦК

Горад размешчаны на левым беразе Заходняй Дзвіны, за 12 км на паўночны захад ад Полацка, 122 км ад Віцебска. Закладзены ў 1958 г. ў сувязі з будаўніцтвам нафтаперапрацоўчага завода. З 22.10.1959 г.— рабочы пасёлак Полацкі, з 14.12.1963 г.— горад абласнога падпарадкавання, 75,8 тыс. жыхароў (1983 г.).

Наваполацк — буйны прамысловы і культурны цэнтр. Будаўніцтва горада вядзецца паводле генеральных планаў 1958, 1964 і 1977 гг. (апошні распрацаваны Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва). Архітэктурна-планіровачная структура горада — лінейная. Уздоўж Заходняй Дзвіны ідзе паркавая зона, затым сялібная тэрыторыя, якая адмежавана транспартнай магістраллю ад невялікай камунальнай зоны. Прамысловая



**XX.** *Вуліца Маладзёжная.*

зона аддзелена ад горада пяцікіламетровым зялёным масівам. Сялібная тэрыторыя выцягнута з захаду на ўсход, уключае 6 мікрараёнаў і Піянерны пасёлак. Асноўныя падоўжныя магістралі — вуліцы Паркавая, Маладзёжная і Блахіна, папярочныя — Ктатарава, Калініна і Дружбы. Вуліцы Кірава і Юбілейная абмяжоўваюць галоўную пл. Будаўнікоў, дзе ўзведзены будынкі гарвыканкома, Палаца культуры нафтавікоў, Дома быту, крытага плавальнага басейна, паліклінікі. Сучасная жылая забудова пераважна дзевяціпавярховая. У 1970-я гады створаны шэраг грамадскіх будынкаў. Па індывідуальных праектах пабудаваны аўтастанцыя, комплекс інтэрнатаў з блокам абслугоўвання і школа рабочай моладзі, магазін «Кветкі», два 13-павярховыя інтэрнаты. Па тыпавых і паўторных праектах пабудаваны Палац піянераў і школьнікаў, музычная школа, сярэднія школы, новы комплекс бальніцы і інш. У мастацкім афармленні горада шырока выкарыстоўваюцца мазаіка, размалёўка, чаканка, вітражы, дэкаратыўная скульптура. У перспектыве — будаўніцтва новага гарадскога грамадскага цэнтра, пераход забудовы на правы бераг Заходняй Дзвіны і зліццё Наваполацка з Полацкам.

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: нафтаперапрацоўчы завод імя XXV з'езда КПСС, вытворчае аб'яднанне «Палімір», заводы бялкова-вітамінных канцэнтратаў, жалезабетонных вырабаў, ЦЭЦ, станцыя перакачкі нафтаправода «Дружба». У горадзе палітэхнічны інстытут, нафтавы тэхнікум, музычнае вучылішча, тэхнічнае вучылішча нафтавікоў, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, 9 сярэдніх агульнаадукацыйных, 2 рабочай моладзі школы, 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя і музычная школы, 30 дашкольных устаноў, 2 Палацы культуры, 5 кінаўстановак, 14 масавых бібліятэк, краязнаўчы музей, 2 бальнічныя ўстановы, 9 урачэбных амбулаторна-паліклінічных устаноў, 11 фельчарскіх пунктаў аховы здароўя, 5 аптэк, станцыі хут-



XX. *Плошча Будаўнікоў.*

кай медыцынскай дапамогі і санітарна-эпідэміялагічная, стадыён, спартыўны комплекс, школа вышэйшага спартыўнага майстэрства, 3 зімовыя плавальныя басейны, дзіцячая турбаза. Выдаюцца газеты гарадская «Химик» і шматтыражная «Знамя новостройки».

Помнікі: у гонар працоўнага подзвігу будаўнікоў-вадзіцеляў і ў гонар першых будаўнікоў Наваполацкага нафтахімічнага комплексу і горада.

Зона адпачынку — уздоўж Заходняй Дзвіны і на паўночны захад ад горада ў зялёным масіве.

*Літ.:* Трудовая летопись Полоцкого нефтестроя.— Полоцк, 1963; Наваполацк: [Фотаальбом].— Мн., 1983. *Т. В. Габрусь, М. В. Кірэйшын, А. А. Міцянін.*

**1990. КУРГАН ПРАЦОЎНАЙ СЛАВЫ** (гіст.). У прамысловай зоне горада, насупраць аўтабазы № 6.

Будаўніцтва г. Наваполацка пачалося ў 1958 г. ў сувязі з узвядзеннем буйнога прамысловага вузла. У 1968 г. ў гонар 10-годдзя заснавання горада і працоўнага подзвігу будаўнікоў-вадзіцеляў насыпаны Курган. На яго вяршыні на бетоннай пляцоўцы ўстаноўлены грузавік. Каля падножжа кургана — дошка з надпісам-прысвячэннем.

**1991. МЕСЦА ГІБЕЛІ САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). За 300 м ад горада, справа ад дарогі на вытворчае аб'яднанне «Палімір». 2.7.1944 г. пры выкананні баявога задання загінуў экіпаж савецкага самалёта. У 1974 г. на гэтым месцы ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1992. МЕСЦА ПЕРШАЙ ПАЛАТКІ БУДАЎНІКОЎ ГОРАДА** (гіст.). На вул. Маладзёжнай.

7.6.1958 г. на гэтым месцы паставілі палаткі першыя будаўнікі Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, будаўніцтва якога паклала пачатак узнікненню горада. Да 15-годдзя заснавання горада і ў гонар будаўнікоў Наваполацкага прамысловага вузла і горада на месцы першай палаткі будаўнікоў пастаўлены помнік; стэла з урэзанай у яе выявай палаткі і дугападобная сцяна з надпісам: «Першым будаўнікам нафтахімічнага комплексу і горада прысвячаецца. Слава будаўнікам камунізму».

*Літ.:* Трудовая летопись Полоцкого нефтестроя.— Полоцк, 1963. *М. В. Кірэйшын.*

**1993. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На тэрыторыі нафтаперапрацоўчага завода.

3.7.1944 г. пры вызваленні в. Троіцкае ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі гвардыі старшы сяржант, камандзір стралковага аддзялення М. М. Вінаградаў, гвардыі сяржант, камандзір стралковага аддзялення Ф. С. Вазнясенскі, гвардыі сяржант, камандзір стралковага аддзялення І. М. Жагранкоў, гвардыі старшы сяржант, камандзір кулямётнага разліку У. С. Рублеўскі. За праяўленую мужнасць ім пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пахаваны ў г. п. Ветрына. У 1979 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены помнік — чатырохгранны бетонны абеліск з урэзанай асіметрычнай пяціканцовай зоркай. Гл. таксама артыкул № 1920 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**1994. ПОМНІК КАСЦЕЦКАЙ** Лііліі Паўлаўне (гіст., маст.). На вул. Блахіна, перад будынкам сярэдняй школы № 3.

Удзельніца камуністычнага падполля Л. П. Касцецкая нарадзілася 16.4. 1919 г. ў Полацку ў сям'і рабочага. У 1933 г. паступіла ў Полацкае педагагічнае вучылішча. Пасля заканчэння працавала настаўніцай у Сіроцінскім р-не. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны вярнулася ў Полацк. У 1942 г. ўстанавіла сувязь з партызанскай брыгадай «Няўлоўныя». Уладкавалася на працу ў пашпартны стол управы Полацка, здабывала для падпольшчыкаў і партызан бланкі пашпартоў і пропускаў, паведамляла партызанам аб руху эшалонаў пра-



XX. *Жылыя дамы па вул. Паркавай.*

ціўніка праз чыгуначную станцыю Полацк, папярэджвала аб магчымых арыштах, перадавала іншыя звесткі аб ворагу. У 1943 г. Л. П. Касцецкую высачылі агенты СД. 8.3.1943 г., калі яе вялі на чарговы допыт, кінулася ў палонку на р. Заходняя Дзвіна.

На ўшанаванне памяці разведчыцы ў 1972 г. ўстаноўлены бюст (скульпт. А. Дупін; бетон; агульная вышыня 6 м). Энергічны паварот галавы, хвалістыя валасы, мужны позірк ствараюць рамантычны вобраз гераіні. Помнік арганічна ўпісваецца ў навакольнае асяроддзе.

*М. В. Кірэйшын, В. В. Цярашчатава.*

**в. Нача, цэнтр сельсавета**

**1995. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 29 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1996. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура У. І. Леніна пастаўлена ў 1970 г.

**в. Пагары (не існуе), Гаранскі сельсавет**

**1997. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Пагары знаходзілася за 7 км на паўднёвы ўсход ад в. Домнікі. У студзені 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 24 жыхароў вёскі і спалілі яе (19 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Палата, цэнтр сельсавета**

**1998. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 212 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1999. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Страдані — прытока Палаты, ва ўрочышчы Барысаў Хутар. Пляцоўка амаль круглая, памерам 35×30 м. З боку поля ёсць вал і роў. Даследавалі ў 1965 г. К. П. Шут, у 1973—74 гг. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,5—1 м. Знойдзена ляпная гладкасценная кераміка днепра-дзвінскай культуры. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Палучча, Маласітнянскі сельсавет**

**2000. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2000а.** М о г і л ь н і к - 1. За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на беразе воз. Палучча. 18 курганоў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Абследавалі ў 1955—56 гг. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**2000б.** М о г і л ь н і к - 2. За 0,2 км на ўсход ад вёскі. 6 курганоў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Абследаваў у 1955—56 гг. Л. В. Аляксееў. У 1969 г. Г. В. Штыхаў раскапаў адзін насып. Знойдзены шкілет чалавека, арыентаваны галавой на поўнач, бронзавая прамавугольная спражка. Належаў крывічам, датуецца 11 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ш т ы х а ў Г. В. Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X — пачатку XII ст.).— У кн.: Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Палюдавічы, Астроўшчынскі сельсавет**

**2001. РАДЗІМА ГРЫНЕВІЧА** Антона Антонавіча (гіст.).

Збіральнік беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог А. А. Грыневіч нарадзіўся 3.5.1877 г. ў фальварку Іваноўшчына (знаходзіўся за 3 км ад вёскі). З 1896 г. служыў у Казённай палаце ў Пецярбургу і ў Міністэрстве гандлю і прамысловасці. З 1906 г. член першай беларускай легальнай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». У 1910 г. заснаваў у Пецярбургу выдавецтва Антона Грыневіча, якое выпускала творы беларускай літаратуры і музы-



**1990.** *Курган працоўнай славы.*



**XX.** *Вуліца Паркавая. Фрагмент.*



**1992.** *Помнік на месцы першай палаткі будаўнікоў горада.*

кі. З 1915 г. ў арміі ў Гатчыне, на станцыі Балагое. У 1918 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камісарыяце ў Маскве. З 1920 г. ў Вільні сакратар Таварыства беларускай школы. Выкладчык музыкі ў Віленскай беларускай гімназіі. З 1925 г. ў Мінску. Працаваў у Інстытуце беларускай культуры (1925—28 гг.), у АН БССР (1929—30 гг.).

Запіс беларускіх бытавых песень пачаў у 1906 г. Усяго сабраў каля тысячы ўзораў беларускага песеннага фальклору, а таксама апісанняў народных танцаў, гульняў і інш. Пісаў музыку на словы Я. Купалы, Я. Коласа, Г. Леўчыка. Сабраў і выдаў: «Беларускія песні з нотамі» (т. 1, 1910 г.; т. 2, разам з А. Зязюляй, 1912 г.), «Народны спеўнік», «Школьны спеўнік» (абодва Вільня, 1920 г.), «Беларускі дзіцячы спеўнік» (Вільня, 1925 г.). Напісаў для беларускіх сярэдніх і пачатковых школ падручнік «Навука спеву» (Вільня, 1923 г.). У 1925 г. ў № 1 часопіса «Наш край» апублікаваў «Праграму-інструкцыю для збіральнікаў беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці».

А. А. Грыневіч памёр 8.12.1937 г.

*Літ.:* Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць.— Мн., 1968; Ліс А. Песня прасілася ў свет.— Полымя, 1966, № 2. *А. С. Ліс.*

**в. Плусы, Гомельскі сельсавет**

**2002. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,15 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Барок, на заходнім спадзістым беразе воз. Суя. 38 насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 6—10 м, насыпаны на месцы паселішча 5—7 стагоддзяў. У 1965, 1967 гг. Г. В. Штыхаў даследаваў 14 курганоў. У адным пахавальны абрад — трупаспаленне, у астатніх — трупапалажэнне ў ямах, паглыбленых у грунт на 0,3 м. У багатых пахаваннях знойдзены бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, шкляныя пацеркі, нажы, гаршкі і інш. З курганы, у т. л. самы вялікі, былі пустымі. Належалі крывічам, датуюцца 10 — пачаткам 12 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхаў Г. В. Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X — пачатку XII ст.).— У кн.: Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; яго ж. Ажываюць сівыя стагоддзі.— Мн., 1974. *Г. В. Штыхаў.*

**2003. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на заходнім пакатым беразе воз. Суя. Памеры 150×190 м. Выявіў і абследаваў у 1965 г. Г. В. Штыхаў. Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі. Датуецца 11—13 стагоддзямі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Пуканаўка 1-я, Заазерскі сельсавет**

**2004. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, абапал дарогі ў в. Заазер'е. Моцна зарос хмызняком і лесам. 76 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 4—10 м. Ёсць курган дыяметрам 18 м, каля некаторых відаць раўкі. Вядомы з канца 19 ст., у 1967 г. Г. В. Штыхаў даследаваў 6 насыпаў. Пад усімі выяўлена попельна-вугальная праслойка ад агню, верагодна, рытуальнага. У адным кургане знойдзены рэшткі чэрапа чалавека, жалезны нож, ганчарны гаршчок з хвалістым арнаментам, 4 бронзавыя пярсцёнкі, 2 з іх з дроту сагнуты ў некалькі абаротаў, 2 іншыя — пласціністыя з арнаментам у «елачку». У другім насыпе галавой на захад ляжаў шкілет чалавека. Каля ног былі ляпныя невялікі гаршчок і жалезны ўтулкавы наканечнік кап'я, каля левай рукі ляжаў нож. У іншых курганах пахаванняў і рэчаў не знойдзена. У 1981 г. помнік абследаваў Ш. І. Бекцінееў. Могільнік адносіцца да 2-й палавіны 10—11 стагоддзя, належаў крывічам.



2002. *Бронзавыя бранзалеты з раскопак курганнага могільніка.*



2005. *Зямлянка штаба партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Ш. І. Бекцінееў, Г. В. Штыхаў.*

**2005. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА ЛАГЕРА** (гіст.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. З 1942 г. да 1943 г. тут размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава і дыслацыраваўся атрад «Мсцівец».

У чэрвені 1942 г. ў савецкім тыле ЦК КП(б)Б сфарміраваў партызанскі атрад «Мсцівец», які ў ліпені 1942 г. прыбыў на месца дыслакацыі ў Ветрынскі р-н. У снежні 1942 г. на базе атрадаў «Мсцівец» і «Смерць фашызму» створана партызанская брыгада «Мсцівец» (камандзір Дз. В. Цябут, камісар У. А. Лемза). У студзені 1944 г. перайменавана ў брыгаду імя К. Я. Варашылава, дзейнічала на тэрыторыі Ветрынскага, Пліскага і Ушацкага р-наў.

У 1963 г. на месцы размяшчэння штаба брыгады адноўлена зямлянка, побач з ёю ўстаноўлены памятны знак. Гл. таксама артыкул № 1937 «Мемарыяльны комплекс у гонар Ветрынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава».

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2.— Мн., 1967—78; Тябут Д. В. Сквозь огонь: Записки комбрига.— 3 изд.— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**в. Рабчонкі, Бабыніцкі сельсавет**

**2006. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1972 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, пастаўлена стэла.

**в. Райкава, Адамоўскі сельсавет**

**2007. РАДЗІМА ВАЛЕНЦІКА** Дзмітрыя Данілавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Дз. Д. Валенцік нарадзіўся 23.2.1907 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. У Чырвонай Арміі з 1929 г. У 1933 г. скончыў Арэнбургскую ваенна-авіяцыйную школу. У савецка-фінляндскую вайну 1939—40 гг. эскадрылля бамбардзіроўшчыкаў пад камандаваннем Дз. Д. Валенціка праводзіла аперацыю па знішчэнню ў глыбокім тыле ворага аператыўна-стратэгічнай базы каля Рованіемі, збіла ў паветраных баях 5 варожых самалётаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.5.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну Дз. Д. Валенцік ваяваў на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Паўднёвым, 4-м Украінскім, 3-м Беларускім франтах. Да 1955 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Дз. Д. Валенцік памёр 30.3.1969 г. Пахаваны ў г. Рэчыца Гомельскай вобл.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. П. Кобяк.*

в. Рудня, цэнтр сельсавета

**2008. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 80 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2009. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля вёскі, на заходнім і ўсходнім мысах берага р. Ушача. Курганы на заходнім мысе насыпаны на месцы паселішча 5—7 стагоддзяў. Было 96 кургаиоў, захавалася каля 70 вышынёй 0,8—2,5 м, дыяметрам 6—10 м. Выявіў у 1867 г. А. М. Семянтоўскі, даследавалі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі, у 1961 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1967 г. Г. В. Штыхаў. Раскапаны 23 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Пры раскопках знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, жалезныя нажы, шкляныя пацеркі, сярэбраныя шыйныя грыўні, бронзавыя спіралькі, пярсцёнкі, спражкі, бразготкі, арнаментаваная выразаная з косці галоўка каня. Належаў полацкім крывічам, датуецца 9—10 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак 1961 і 1967 гг. захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Сементовский А. М. Белорусские древности.— СПб., 1890; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972. *Г. В. Штыхаў.*

**2010. ПАРК** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Уша. Закладзены як прысядзібны ў 2-й палавіне 19 ст. Належыць да тыпу пейзажных паркаў і ўяўляе сабой прамавугольны ўчастак пладовага сада, абсаджаны па перыметры радамі дрэў. Цэнтрам паркавай кампазіцыі быў сядзібны дом (не збярогся) з парадным партэрам і фантанам перад ім. Ва ўсходнім кутку парку — штучны вадаём. Парк упрыгожвала альтанка (не збераглася). У парку растуць ліпа, піхта, кедр сібірскі, аксаміт амурскі, тсуга канадская і інш.

в. Семянец, Заазерскі сельсавет

**2011. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску (32 двары). Частку жыхароў расстралялі, большасць спалілі жывымі. У 1962 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлена стэла.

в. Смарыгі, Гаранскі сельсавет

**2012. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля вёскі, у напрамку да в. Збродавічы. Займае паўночную частку ўзгорка вышынёй 25—30 м. Пляцоўка авальная, памерам 40×30 м. Культурны пласт 0,7 м. У 1973 г. Г. В. Штыхаў знайшоў ляпную кераміку. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

в. Струнне, Салоніцкі сельсавет

**2013. МАГІЛА СТРАШЫНСКАГА І. С.** (гіст.). У цэнтры вёскі. Лейтэнант Чырвонай Арміі І. С. Страшынскі загінуў 2.7.1944 г. пры вызваленні Полацкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлена стэла.

в. Сухі Бор, Зялёнкаўскі сельсавет

**2014. РАДЗІМА МАРЫНЕНКА** Тацціяны Савельеўны — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 1955 «Магіла Марыненка Тацціяны Савельеўны».

в. Сястронкі, Зялёнкаўскі сельсавет

**2015. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 102 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2009. *Курганны могільнік. План.*



2009. *Касцяная галоўка каня з раскопак курганнага могільніка.*

в. Тросніца, Салоніцкі сельсавет

**2016. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 116 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2017. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 96 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

в. Труды, цэнтр сельсавета

**2018. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 497 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2019. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 183 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1953 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**2020. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**2020а.** Гарадзішча-1. Мясцовая назва Царкавішча. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўзгорку вышынёй каля 20 м. Пляцоўка авальнай формы, памерам 45×30 м, з паўднёва-заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 3 м. Абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Культурны пласт каля 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2020б.** Гарадзішча-2. За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, за 0,3 км на паўночны ўсход ад гарадзішча-1, на паўднёвым беразе воз. Жыльцы. Займае ўзгорак круглай формы, вышынёй 15—18 м. Пляцоўка (разам з валам) дыяметрам 60 м. Вал надае пляцоўцы трохвугольную форму. Вышыня вала з унутранага боку гарадзішча 6—7 м. Уваход на пляцоўку з паўднёвага боку. Выявіў у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Ш. І. Бекцінееў.*

**2021. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. 5 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

в. Туроўля, Заазерскі сельсавет

**2022. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнт-

ры вёскі. Пахаваны 82 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2023. ЗАМЧЫШЧА ТУРОЎЛЯ** (гіст.). Ва ўрочышчы Гарадзішча, на правым беразе р. Тураўлянка, непадалёку ад сутоку яе з Заходняй Дзвіной. Тут у 1563 г. па загаду Івана Грознага пабудавана мураваная крэпасць Туроўля, якая мела форму чатырохвугольніка з 5 вежамі (баштамі). Была месцам баёў у Лівонскую вайну 1558—83 гг. У верасні 1579 г. разбурана і спалена войскамі Стэфана Баторыя. Захаваліся рэшткі вала крэпасці.

*Літ.:* Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933. *М. А. Ткачоў.*

**в. Узніцы, Палатоўскі сельсавет**

**2024. РАДЗІМА КАНАШЭНКІ** Сцяпана Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. М. Канашэнка нарадзіўся ў 1909 г. ў сям'і селяніна. У Чырвонай Арміі і на фронце з 1942 г. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. У ноч на 24.9.1943 г. каля г. Канеў група разведчыкаў на чале з старшыной С. М. Канашэнкам пераправілася цераз Дняпро, захапіла на правым беразе ракі плацдарм і больш за суткі ўтрымлівала яго. Загінуў 25.9.1943 г. пры пераправе на левы бераг Дняпра з данясеннем. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г.



2023. *Крэпасць Туроўля. З гравюры 1579 г.*




2023. *Замчышча Туроўля. План.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Уладзіміраўка, Трудаўскі сельсавет**

**2025. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 66 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2026. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 340 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на могілках пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Уладычына, Азінскі сельсавет**

**2027. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны мірныя жыхары в. Боркі, якіх спалілі ў 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2028. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны мірныя жыхары в. Мацюшы, якіх спалілі ў 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле насыпаны курган.

**в. Ухвішча, Бабыніцкі сельсавет**

**2029. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўскраіне вёскі. Пахаваны 83 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Царова (не існуе), Вароніцкі сельсавет**

**2030. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Царова знаходзілася за 3 км на паўднёвы ўсход ад в. Заскаркі. У красавіку 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі яе (16 двароў) разам з жыхарамі (19 чалавек). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Чарбамыслы (не існуе), Маласітнянскі сельсавет**

**2031. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Чарбамыслы знаходзілася за 5 км ад в. Вялікае Сітна. У студзені 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 28 яе жыхароў і спалілі вёску (15 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Шалкова, Заазерскі сельсавет**

**2032. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,25 км на захад ад вёскі. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі 1.2.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2033. ПОМНІК СПАЛЕНАЙ ВЁСЦЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 2.4.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі в. Шалкова (70 двароў). Пасля вайны адрадзілася. У 1962 г. ў памяць аб спаленай вёсцы пастаўлена стэла.

**в. Шпакоўшчына, цэнтр сельсавета**

**2034. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шчаперня, Зялёнкаўскі сельсавет**

**2035. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «НЯЎЛОЎНЫЯ»** (гіст.). У цэнтры вёскі.

1.3.1942 г. ў тыл ворага быў перапраўлены спецатрад (28 чалавек) НКУС СССР. На базе яго створана партызанская брыгада «Няўлоўныя». Камандзіры М. С. Пруднікаў (ліпень 1943 г.— ліпень 1944 г.), А. Р. Марозаў (ліпень 1942 г.— ліпень 1943 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Дрысенскага, Полацкага, Расонскага, Браслаўскага, Пастаўскага, Глыбоцкага, Міёрскага, Лепельскага, Докшыцкага і іншых р-наў БССР. Асобныя дыверсійныя і разведвальныя групы дзейнічалі на тэрыторыі Пскоўскай вобл., Літоўскай і Латвійскай ССР.

Партызаны брыгады вялі палітычную работу сярод насельніцтва, а таксама сярод салдат варожых фарміраванняў, правялі больш за 140 баявых аперацый, збілі 10 самалётаў праціўніка, узарвалі і спалілі 104 чыгуначныя і шашэйныя масты, больш за 80 аўтамашын і трактароў, узарвалі 1170 чыгуначных рэек, 12 дрызін і матавозаў, 6 складоў, пашкодзілі 50 км тэлефонна-тэлеграф-



2035. *Помнік у гонар партызанскай брыгады «Няўлоўныя».*

ных ліній, пусцілі пад адхон шмат варожых эшалонаў. У чэрвені 1942 г. разведчыкі брыгады здабылі і перадалі ў Маскву 23 сакрэтныя карты фашысцкага камандавання. Арганізоўвалі ўцёкі савецкіх ваеннапалонных з канцлагераў, накіравалі ў Чырвоную Армію больш за 100 салдат і афіцэраў, якія трапілі ў акружэнне. 12.7. 1944 г. брыгада (1132 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1965 г. ў гонар партызанскай брыгады пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Прудников М. С. «Неуловимые» действуют.— М., 1965.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Экімань, цэнтр сельсавета**

**2036. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, за 200 м ад р. Заходняя Дзвіна. Пахаваны 176 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2037. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Банонь. 30 курганоў, якія добра захаваліся, вышынёй 0,4—1 м, дыяметрам 5—7 м. Адзін курган вышынёй 2 м, дыяметрам 10 м. Выявіў у 1965 г. і даследаваў 7 курганоў у 1967 г. Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У 2 насыпах пахаванняў не было. У трэцім сярод перапаленых касцей былі рэшткі ганчарнага гаршка, жалезныя нож, ключ і спражка. У сёмым кургане, самым вялікім у могільніку, акрамя рэштках трупаспалення, знойдзены цуглі, жалезныя дэталі бізуна, рэшткі кальчугі, абломак наканечніка стралы, жалезная



2037. *Курганны могільнік. План.*

спражка і невялікі гліняны гаршчок. Могільнік адносіцца да 2-й палавіны 10 — пачатку 11 ст. н. э., належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхаў Г. В. Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X — пачатку XII ст.).— У кн.: Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. *Г. В. Штыхаў.*

**2038. МАГІЛА ДЗЯМЕШКІ** Міхаіла Кузьміча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы М. К. Дзямешка нарадзіўся 20.4.1928 г. ў в. Вялічкаўцы Ушацкага р-на. Заслужаны будаўнік БССР (1965 г.). Член КПСС з 1952 г. З 1946 г. муляр, з 1951 г. брыгадзір муляраў, у 1970—74 гг. майстар будаўнічага ўпраўлення № 42 (з 1973 г. ПМК № 135) трэста «Полацксельбуд». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1971 г. за поспехі ў выкананні заданняў пяцігадовага плана. М. К. Дзямешка памёр 27.8.1976 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Юравічы, цэнтр сельсавета**

**2039. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сельсавета. Пахаваны партызаны 3-й Беларускай брыгады Р. Ф. Ткачоў, яго сын Уладзімір (загінулі ў кастрычніку 1942 г.), дачка Надзея (загінула ў кастрычніку 1943 г.), а таксама жонка Фядора Лук'янаўна і дочкі — Акцябрына і Марыя, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*М. В. Кірэйшын.*

**2040. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 256 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Якубенкі, Адамоўскі сельсавет**

**2041. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на беразе Заходняй Дзвіны. Пляцоўка выцягнута з захаду на ўсход, памерам 50×25 м, вышыня над поймай 25 м. З заходняга краю ёсць вал вышынёй да 1,5 м і роў глыбінёй 1,5—1,8 м. Выявіў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1972 г. абследаваў Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3 м, у ім знойдзена ляпная кераміка.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Янкава, Юравіцкі сельсавет**

**2042. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Недалёка ад вёскі, каля дарогі на в. Баранава. Пахаваны 95 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

# РАСОНСКІ РАЁН







Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні савецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XXI. РАСОНЫ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. На паўночным беразе воз. Расона. За 170 км на паўночны захад ад Віцебска, 45 км ад чыгуначнай станцыі Дрэтунь, на лініі Полацк — Невель. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Верхнядзвінскам, Невелем, Полацкам.

Вядомы з 1552 г. як вёска ў Полацкім ваяводстве Вялікага княства Літоўскага (першапачатковая назва Росоно). Належала Ф. І. Корсаку, мела 7 «дымоў». Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1772 г. ў складзе Расійскай імперыі, вёска ў Полацкай, з 1796 г. ў Беларускай, з 1802 г. ў Віцебскай губернях. Паводле звестак Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, у 1877 г. ў Расонах 12 драўляных жылых пабудоў, прыватныя жаночае (з 1862 г.) і мужчынскае (з 1869 г.) агульнаадукацыйныя вучылішчы, драўляная і мураваная цэрквы, пітны дом. У 1905 г. быў 51 жыхар. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. Расоны — цэнтр раёна, да 1930 г. і ў 1935—38 гг. у Полацкай акрузе, у 1938—44 гг. у Віцебскай вобл. З ліпеня 1941 г. да 12.7. 1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У час акупацыі ў раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (16 ліпеня — снежань 1941 г. і з 29.5.1942 г. да 3.11.1943 г.), ЛКСМБ (ліпень — верасень 1941 г. і з 7.6. 1942 г. да 3.11.1943 г.). З ліпеня 1941 г. да верасня 1942 г. актыўна дзейнічала Расонскае камуністычнае падполле, арганізатарам і кіраўніком якога быў настаўнік мясцовай сярэдняй школы П. М. Машэраў. 19.9.1942 г. партызаны разграмілі ў Расонах і амаль адначасова ў шэрагу іншых населеных пунктаў гарнізоны нямецка-фашысцкіх акупантаў. Раён уваходзіў у Расонска-Асвейскую партызанскую зону. З 1944 г. Расоны ў Полацкай, з 1954 г. ў Віцебскай абласцях, з 1958 г. гарадскі пасёлак.

Планіровачная структура сучасных Расон радыяльна-веерная з рэгулярнай унутрыкварталЬнай забудовай. У 1979 г. ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план забудовы гарадскога пасёлка. Асноўныя вуліцы — Савецкая, Руставелі, Леніна злучаюць жылую зону з адміністрацыйна-грамадскім цэнтрам, які склаўся ў паўднёвай частцы Расон — на Цэнтральнай пл. і ў пачатку вул. Савецкай. Тут знаходзяцца Дом Саветаў, Дом культуры, Музей баявой садружнасці рускіх, беларускіх, латвійскіх і літоўскіх партызан (філіял Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны), гасцініца, аўтастанцыя. Праводзіцца рэканструкцыя вуліц Савецкай, Леніна і Руставелі, якія забудоўваюцца новымі дамамі.




XXI. *Цэнтральная плошча.*

У пасёлку працуюць філіял Полацкага малочнага завода, прамкамбінат, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання, лясгас і інш., сярэдняя, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная, рабочай моладзі школы, 2 бібліятэкі, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца. Выдаецца раённая газета «Камуністычны шлях».

На вул. Савецкай устаноўлены помнікі У. І. Леніну, К. Марксу, разбіты парк, у якім створаны мемарыяльны комплекс. Насупраць парку




XXI. *Вуліца Савецкая.*

пастаўлены помнік партызанам, па вул. Камсамольскай — помнік партызанскім брыгадам, помнік Вызвалення. Помнікі на месцы расстрэлу нямецка-фашысцкімі захопнікамі падпольшчыкаў, на месцы загубы савецкіх ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў, на магіле ахвяр фашызму. Захаваліся помнікі архітэктуры канца 19 — пачатку 20 ст. — сядзіба, царква.

Зона адпачынку — на берагах воз. Расона. *В. В. Алісейчык, Э. М. Савіцкі.*

**2043. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У Себежскім завулку. Пахаваны 488 жыхароў Расонскага і іншых раёнаў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі зімой 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2044. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РАСОНСКАГА КАМУНІСТЫЧНАГА ПАДПОЛЛЯ** (гіст.). Вул. Руставелі, 2. Устаноўлена ў 1972 г. на будынку школы.

У ліпені — жніўні 1941 г. ў раёне пад кіраўніцтвам Расонскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ была створана сетка падпольных арганізацый і груп. Адной з першых пачала дзейнічаць падпольная партыйна-камсамольская арганізацыя, якую стварыў і ўзначаліў настаўнік фізікі Расонскай сярэдняй школы П. М. Машэраў. Яна аб'ядноўвала 38 чалавек, пераважна выкладчыкаў і былых вучняў. Узначальваў арганізацыю камітэт, у які ўваходзілі П. М. Машэраў (кіраўнік), Е. Л. і С. Б. Пятроўскія, П. А. Галанава, В. С. і С. І. Язутавы, М. П. Шаркова, М. М. Міхайлоўская, У. А. Шаблоў, Л. А. Валковіч. Пазней да групы далучыліся чырвонаармейцы, якія ўцяклі з палону. Камітэт Расонскай арганізацыі стаў штабам, які ўзначальваў дзейнасць падпольных груп у вёсках Альбрэхтава (кіраўнік П. А. Альшанікаў), Грачушына (У. А. Яфрэменка), Клясціцы (С. П. Пархімовіч, Б. Я. Руба), Мілавіды (І. М. Марачкоўскі), Пірагі (У. А. Хамчаноўскі), Ражнова (М. М. Іваноў), Шалашнікі (М. Я. і П. Я. Гігелевы, І. М. Малахаў), трымаў цесную сувязь з арганізацыямі Расонскага камуністычнага падполля Заборскай (кіраўнік У. В. Петрачэнка), Гарбачэва-Мурагоўскай (І. М. Шалаеў), Межаўскай (Р. А. Ахоцін, П. Я. Рубіс), Сакалішчанскай (П. А. Куксёнак, Л. А. Папкоўскі), Сельніцкай (С. І. Голубеў), з Прошкаўскім камсамольскім падполлем Асвейскага р-на.

Патрыёты Расонскага камуністычнага падполля на пачатку сваёй дзейнасці збіралі зброю, праводзілі ў вёсках гутаркі з калгаснікамі, расклейвалі лістоўкі, уздымалі насельніцтва на барацьбу з ворагам. Пазней падпольшчыкі разгарнулі дыверсійную работу: члены Расонскай арганізацыі вывелі са строю электрастанцыю ў райцэнтры, Гарбачэва-Мурагоўскай — арганізавалі шпіталь, у якім хавалі і лячылі параненых воінаў, разбурылі Гарбачэўскі маслазавод, Заборскай — спалілі мясцовую камендатуру, Межаўскай — сарвалі адпраўку ў Германію нарабаваных акупантамі прадуктаў, замарозілі на складзе 750 т бульбы, Сакалішчанскай — знішчылі лесапільню ў Боркавічах, масласепаратарны пункт у в. Белае (цяпер Азіна), Сельніцкай — знішчылі Краснапольскую валасную ўправу, захапілі падрыхтаваныя акупантамі спісы камуністаў і камсамольцаў і інш. Найбольшыя страты ворагу падпольшчыкі наносілі на камунікацыях. Разам з партызанамі яны знішчылі каля 20 мастоў, у т. л. 72-метровы цераз р. Дрыса каля в. Краснаполле, 60-метровы каля в. Дзмітрова, 30-метровы каля в. Ваўкі, воданапорную вежу на чыгуначнай станцыі Боркавічы. Падпольшчыкі ўзрывалі на шашэйных дарогах аўтамашыны з гітлераўцамі, выратавалі 200 ваеннапалонных, якія ўцяклі з канцэнтрацыйных лагераў у вёсках Баравуха-1 і Баравуха-2.

Падпольшчыкі былі ініцыятарамі разгортвання ў раёне масавага партызанскага руху. Расонская група склала ядро партызанскага атрада «Дубняк» (з ліпеня 1942 г. атрад імя М. А. Шчорса, камандзір П. М. Машэраў). Пазней атрад увайшоў у партызанскую брыгаду «За Савецкую Беларусь» (з сакавіка 1943 г. імя К. К. Ракасоўскага).

Па ініцыятыве Межаўскай арганізацыі вясной 1942 г. быў створаны партызанскі атрад імя І. В. Сталіна, на базе якога сфарміравана Расонская партызанская брыгада імя І. В. Сталіна. Частка падпольшчыкаў Сакалішчанскай арганізацыі ў маі 1942 г. ўлілася ў спецатрад «Баявы», частка — у партызанскія атрады імя Шчорса, імя Сталіна, брыгаду М. С. Пруднікава. Да восені 1942 г. ўсе падпольшчыкі сталі партызанамі.

У барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі загінула больш за 20 падпольшчыкаў, у т. л. П. Я. Дзяружына, П. А. Куксёнак, Г. Е. Ланеўская, Ф. І. Масальская, Д. П. Машэрава, М. М. Міхайлоўская, У. В. Петрачэн-



**2045.** *Мемарыяльны комплекс. Галоўны манумент.*



**2045.** *Мемарыяльны комплекс. Алея.*

ка, Е. Л. Пятроўская, І. М. Шалаеў, А. С. і С. І. Язутавы і інш. Многія члены Расонскага камуністычнага падполля ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. П. М. Машэраў і У. А. Хамчаноўскі ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Гл. таксама артыкулы № 2048 «Месца расстрэлу падпольшчыкаў», № 2080 «Мемарыяльная дошка Шалаеву Івану Мікалаевічу», № 2117 «Магіла Куксёнка Паўла Антонавіча», № 2128 «Мемарыяльная дошка падпольшчыкам», № 2162 «Месца дзейнасці падпольшчыкаў».

*Літ.:* Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Аслёзов С. А. Взрыв на рассвете.— Мн., 1976; Капустёнок Г. В. С верой в победу.— Мн., 1980.

*А. І. Марозава, Т. Р. Чуракова.*



**2045.** *Мемарыяльны комплекс. Уваход.*

**2045. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС** (гіст.). У мемарыяльным парку. Пахаваны 1285 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 8 падпольшчыкаў, расстраляных гітлераўцамі 16.9.1942 г. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Уладзімір Антонавіч Хамчаноўскі.

У. А. Хамчаноўскі нарадзіўся ў 1920 г. ў в. Пірагі ў сялянскай сям'і. Скончыў Клясціцкую сярэднюю школу, Аршанскі настаўніцкі інстытут. З 1939 г. настаўнік Сакалішчанскай сямігадовай школы. З жніўня 1941 г. член Расонскага камуністычнага падполля, вёў работу па стварэнню падпольных груп у вёсках Клясціцы, Пірагі, Забор'е. З красавіка 1942 г. намеснік камандзіра партызанскага атрада імя М. А. Шчорса па разведцы. У красавіку 1942 г. ў час баявой аперацыі знішчыў нямецкага генерала, дакументы якога былі перададзены савецкаму камандаванню. 19.12.1942 г. група падрыўнікоў пад камандаваннем У. А. Хамчаноўскага натрапіла на варожую засаду каля в. Глісноўка Полацкага р-на. 30 партызан вялі бой супраць 500 гітлераўцаў. У. А. Хамчаноўскі прыкрываў адыход групы. Каб не трапіць у рукі ворага, застрэліўся. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г.

У 1974 г. ў в. Пірагі яму пастаўлены помнік, у 1975 г. ў Мінску каля сярэдняй школы № 101 — бюст героя.

У 1965 г. на месцы пахавання савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў узведзены мемарыяльны комплекс (арх. В. Занковіч і Л. Левін). Кампазіцыйны цэнтр комплексу — светлая гарызантальная пліта (5×5 м) і чорны квадратны ў плане пілон (бетон, граніт, вышыня 5 м), якія ўстаноўлены ў глыбіні парку па восі галоўнай алеі. Перспектыву замыкае сцяна з 21 па чарзе выступаючай і заглыбленай пліты (1,5—1,5 м) з імёнамі пахаваных. Злева ад сцяны 3, справа — 2 кубы з мемарыяльнымі дошкамі. Уваход у алею з боку вул. Савецкай пазначаны кубам з надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. В. Кірэйшын, Т. Р. Чуракова.*

**2046. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ РАСОНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (першага складу; гіст.). За 2 км на ўсход ад гарадскога пасёлка, на тэрыторыі леспрамгаса.

Расонскі падпольны райком КП(б)Б створаны 16.7.1941 г. Сакратары — В. Я. Лапенка, С. П. Белы, В. П. Гудына (усе з 16 ліпеня да снежня 1941 г.). Райком праводзіў палітычную работу, стварыў разгалінаваную сетку Расонскага камуністычнага падполля, якое стала асновай разгортвання масавага партызанскага руху. У пасёлку леспрамгаса на месцы, дзе знаходзіўся дом, у якім у ліпені — снежні 1941 г. размяшчаўся падпольны райком КП(б)Б (першага складу), у 1966 г. пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 2132 «Месца базіравання Расонскага падпольнага райкома КП(б)Б» (другога складу).

*Т. Р. Чуракова.*

**2047. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ, ПАРТЫЗАН І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, ва ўрочышчы Паграбкі. Тут у 1941—42 гг. гітлераўцы расстралялі больш за 500 савецкіх ваеннапалонных, парты-



**2048.** *Помнік на месцы расстрэлу падпольшчыкаў.*



2049. *Помнік Вызвалення.*

зан і мірных жыхароў. У 1966 г. на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**2048. МЕСЦА РАССТРЭЛУ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне пасёлка, на беразе воз. Расона. 16.9.1942 г. пасля зверскіх катаванняў нямецкія фашысты расстралялі членаў Расонскага камуністычнага падполля П. Я. Дзяружыну, А. С. Емяльянаву, Ф. І. Масальскую, Д. П. Машэраву, Е. Л. Пятроўскую, М. Я. Цішчанку, А. С. Язутаву, С. І. Язутава. У 1979 г. на месцы расстрэлу патрыётаў пастаўлена стэла, побач — пліта з выявай лаўровага вянка.

**2049. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Савецкай і Камсамольскай, у скверы.

У ліпені 1944 г. воіны 219-й Ідрыцкай Чырванасцяжнай стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік В. Р. Каваленка), 319-й Дзвінскай стралковай дывізіі (камандзір гвардыі палкоўнік Дз. А. Дулаў), 101-й асобнай Казахскай стралковай брыгады (камандзір Н. Л. Аліеў) 1-га і 2-га Прыбалтыйскіх франтоў, развіваючы наступленне на Даўгаўпілс і пераадольваючы абарончыя рубяжы ворага, уступілі на тэрыторыю Расонскага р-на і сумесна з партызанамі брыгад імя І. В. Сталіна, імя К. К. Ракасоўскага, 3-й і 7-й Калінінскіх брыгад да 17.7.1944 г. вызвалілі раён ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У гонар вызвалення ў 1974 г. пастаўлены помнік — на пастаменце процітанкавая 57-міліметровая гармата. *Т. Р. Чуракова.*

**2050. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, насупраць будынка музычнай школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**2051. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). На вул. Савецкай, насупраць будынка музычнай школы. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1967 г.

**2052. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На вул. Савецкай. 19.9.1942 г. партызаны Расонскай брыгады імя І. В. Сталіна вызвалілі г. п. Расоны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У жніўні народныя мсціўцы разграмілі гарнізоны акупантаў у Клясціцах, Сакалішчы, Сівошыне. За кароткі час тэрыторыі Асвейскага і Расонскага р-наў цалкам, а Дрысенскага, Полацкага і інш. часткова былі вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, створана Расонска-Асвейская партызанская зона, дзе адноўлена Савецкая ўлада. Кіраўніцтва палітычным і эканамічным жыццём ажыццяўлялі Асвейскі, Дрысенскі і Расонскі падпольныя райкомы КП(б)Б. Зону ўтрымлівалі партызанскія брыгады «За Савецкую Беларусь», Расонская імя І. В. Сталіна, Асвейская імя М. В. Фрунзе, 1-я Дрысенская, 3-я і 7-я Калінінскія, Латышская.

У 1981 г. ў гонар партызан, якія ў 1942 г. вызвалілі г. п. Расоны ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, пастаўлены помнік — валун з надпісам.

*Літ.:* Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; Едыгенов Н. Е. Участие казахстанцев в партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.— Алма-Ата, 1972; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Аслёзов С. А. Взрыв на рассвете.— Мн., 1976; Жилянин Я. А., Позняков И. Б., Лузгин В. И. Без линии фронта.— 2 изд.— Мн., 1979; Капустёнок Г. В. С верой в победу.— Мн., 1980.
*Т. Р. Чуракова.*



2052. *Помнік партызанам.*

**2053. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД** (гіст.). Вул. Камсамольская. У памяць аб баявых дзеяннях партызанскіх брыгад імя К. К. Ракасоўскага, імя І. В. Сталіна, 3-й і 7-й Калінінскіх, што ў Вялікую Айчынную вайну дыслацыраваліся на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Расонскага р-на і ўдзельнічалі ў яго вызваленні, у 1964 г. пастаўлена стэла. Гл. артыкулы № 2133 «Помнік у гонар Расонскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна», № 2149 «Помнік у гонар партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага».

**2054. СЯДЗІБА** (архіт.). Вул. Камсамольская, 23. На беразе воз. Расона. Пабудавана на мяжы 19—20 стагоддзяў. Захаваўся мураваны сядзібны дом з цэглы, на бутавым цокалі. Галоўным фасадам павернуты да невялікай плошчы са штучным вадаёмам. З боку дваровага фасада размешчаны сучасныя пабудовы. Цяпер у будынку знаходзіцца інтэрнат для састарэлых.

План дома складанай канфігурацыі. Кампазіцыя асіметрычная са ступеньчатым нарастаннем аб'ёмаў: паўднёвая частка аднапавярховая, цэнтральная — двухпавярховая, паўночная — трохпавярховая вежа з шатровым дахам (не збярогся). Цэнтральная частка фланкіравана трохграннымі выступамі і завершана на галоўным фасадзе ступеньчатым шчытом. Шматпланавасць кампазіцыі ўзмацняе разнастайная пластыка фасадаў: ступеньчатыя шчыты, аркатурныя паясы, розныя па форме аконныя праёмы з ліштвамі, тынкаваны руст. Планіроўка сядзібнага дома калідорнага тыпу: па баках Т-падобнага калідора размешчаны пакоі разнастайнай формы і габарытаў.

Сядзіба — помнік архітэктуры псеўдаготыкі. *У. В. Алісейчык.*

**2055. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне пасёлка. Пабудавана ў другой палавіне 19 ст. з бутавага каменю. Асноўны квадратны ў плане аб'ём завяршаўся 5 цыбулепадобнымі галоўкамі на васьмігранных шыйках (не захаваліся). Да асноўнага аб'ёму далучаны прамавугольная ў плане званіца, завершаная галоўкай, і паўцыліндрычная апсіда. Царква — пом-



2053. *Помнік у гонар партызанскіх брыгад.*

нік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

**в. Абухава, Клясціцкі сельсавет**

**2056. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 38 жыхароў (у т. л. 15 дзяцей) вёсак Абухава, Галоўчыцы, Канюхова і інш., расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 31.12.1943 г.

У снежні 1943 г.— студзені 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі праводзілі адну са шматлікіх аперацый па масаваму знішчэнню савецкіх людзей. Раніцай 31.12.1943 г. ўзброеныя фашысты акружылі каля вёскі Абухава лясны лагер мірных жыхароў — старых, жанчын, дзяцей — і расстралялі больш за 40 чалавек. Загублены сем'і Александроўскіх (4 чалавекі), Васілеўскіх (8 чалавек), Красоўскіх (5 чалавек), Парадняў (3 чалавекі), Якубоўскіх (6 чалавек) і інш.

На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1982 г. на магіле пастаўлена стэла. *А. І. Марозава.*

**2057. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, на былым хутары Шкорнева. Пахаваны 4 жыхары в. Абухава (у т. л. 2 дзяцей), расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі 31.12.1943 г. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Азёрная, Заборскі сельсавет**

**2058. МАГІЛА НАГАВІЦЫНА** Міхаіла Лук'янавіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Штурман старшы лейтэнант М. Л. Нагавіцын загінуў у 1944 г. ў паветраным баі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Альбрэхтава, Бірузоўскі сельсавет**

**2059. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). На тэрыторыі васьмігадовай школы. 17.7. 1941 г. вучні Васіль Прыбыткоў, Генадзь Кузякоў і Уладзімір Драздоў падарвалі гранатай машыну, у якой ехалі нямецка-фашысцкія афіцэры. В. Прыбыткоў быў схоплены і закатаваны фашыстамі. Пазней загінулі Г. Кузякоў і У. Драздоў. На ўшанаванне памяці юных патрыётаў у 1967 г. насыпаны Курган, на якім у 1981 г. ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

**2060. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 11.2.1943 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2061. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 8 км на захад ад вёскі. Пахаваны 32 жыхары в. Плігаўкі, спаленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 12.2.1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2062. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Салдат Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2063. МЕСЦА ЗАГУБЫ МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На месцы, дзе 11.2.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 9 жыхароў вёскі, у 1978 г. ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

**в. Амосенкі, Краснапольскі сельсавет**

**2064. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). **2064а.** Гарадзішча. За 150 м на поўнач ад вёскі, каля былой в. Шуляціна (пад назвай якой вядома ў навуковай літаратуры), на выспе, выцягнутай з поўначы на поўдзень на 110 м. Пляцоўка авальная, памерам 40×30 м, вышынёй 10 м. З паўднёвага боку прасочваецца вал вышынёй 1,2 м. Даследаваў у 1964 г. К. П. Шут, абследавала ў 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Культурны пласт 0,5—1,1 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 3 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

**2064б.** Селішча-1. На выспе, побач з гарадзішчам. Памеры 60×30 м. Даследаваў у 1964 г. К. П. Шут, абсле-




**2054.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2—6 — сучасныя пабудовы.*



**2054.** *Сядзібны дом. Усходні фасад.*



**2054.** *Сядзібны дом. Заходні фасад.*



**2054.** *Сядзібны дом. План першага (уверсе) і другога паверхаў.*

давала ў 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла, знойдзены кавалкі ляпной гладкасценнай керамікі 6—7 стагоддзяў.

**2064в.** Селішча-2. На ўзвышшы паміж выспай і ручаём, які ўпадае ў воз. Стрэшна. Памеры 60×30 м. Даследаваў у 1964 г. К. П. Шут. Знойдзены кавалкі ляпной гладкасценнай керамікі 6—7 стагоддзяў.

**2064г.** Могільнік-1. За 0,5 км на поўдзень ад гарадзішча, ва ўрочышчы Барок. 2 курганы дыяметрам 8—10 м, вышынёй 1—1,4 м. Выявіў у 1964 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1974 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**2064д.** Могільнік-2. За 1,5 км на поўдзень ад в. Амосенкі, каля былой в. Стараселле. 2 насыпы дыяметрам да 10 м, вышынёй 1,4 м. Выявіў у 1964 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1974 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы раскопак гарадзішча і селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Байдзіна, Дварышчанскі сельсавет**

**2065. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі на в. Краснаполле. Пахаваны 140 мірных жыхароў вёсак Байдзіна і Тродавічы, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баканіха (не існуе), Заборскі сельсавет**

**2066. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне былой вёскі. Восенню 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты ўварваліся ў вёску і сагналі жыхароў у двор М. І. Іванова. Варварскімі метадамі спрабавалі прымусіць людзей сказаць, дзе партызаны і хто меў з імі сувязь. Нічога не дабіўшыся, гітлераўцы расстралялі 22 чалавекі. На



2055. *Царква.*




2056. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

наступны дзень яны сагналі ў адну хату 86 жыхароў і падпалілі. Усяго загінулі 108 жанчын, дзяцей і старых. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я — з вогненнай вёскі...— Мн., 1974. *Т. Р. Чуракова.*

**2067. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахавана каля 40 мірных жыхароў, расстраляных і спаленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі 1.2. 1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Балбечына, Янкавіцкі сельсавет**

**2068. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Пахаваны 67 мірных жыхароў вёсак Балбечына, Барыскава, Рудня, Сляўшчына, Янкавічы, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Булыніна, Бірузоўскі сельсавет**

**2069. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бярозаўка, Краснапольскі сельсавет**

**2070. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ваўкова (не існуе), Бірузоўскі сельсавет**

**2071. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ваўкова знаходзілася за 2 км на поўнач ад в. Харытонава. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 25 мірных жыхароў і спалілі вёску (21 двор). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Велле (не існуе), Расонскі пасялковы Савет**

**2072. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Велле знаходзілася за 1,5 км на захад ад в. Ушчалёпкі. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі 74 жыхароў разам з вёскай (22 двары). Не адрадзілася. На яе месцы ў 1965 г. насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла. Вёска увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 2172 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Галоўчыцы, Сакалішчанскі сельсавет**

**2073. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці воінаў-аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гарбачэва, цэнтр сельсавета**

**2074. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2075. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 236 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган.

**2076. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 10.2.1943 г. ў вёску ўварваўся карны атрад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Фашысты сагналі жанчын, старых, дзяцей у хлеў быццам для допыту і 4 сутак катавалі іх: раздзелі, некалькі гадзін ганялі босымі па снезе, потым расстралялі. Трупы спалілі. Загінулі 120 чалавек — 85 жанчын, 15 мужчын, 20 дзяцей. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**2077. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на могілках. Пахаваны 32 мірныя жыхары вёскі, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2078. МАГІЛА БАГУЛЬСКАЙ** Марыі Аляксандраўны (гіст.). На могілках.



2064. *Гарадзішча.*

Партызанка М. А. Багульская закатавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2079. МАГІЛА ФЁДАРАВА** Дзяміда Сідаравіча (гіст.). На могілках. Старшыня калгаса «Уперад» (цяпер саўгас «Гарбачэва»), член Гарбачэва-Мурагоўскай падпольнай арганізацыі Расонскага камуністычнага падполля Дз. С. Фёдараў расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 7.11.1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 2080 «Мемарыяльная дошка Шалаеву Івану Мікалаевічу».

**2080. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ШАЛАЕВУ** Івану Мікалаевічу (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1976 г.

І. М. Шалаеў у перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі з'яўляўся кіраўніком Гарбачэва-Мурагоўскай падпольнай групы Расонскага камуністычнага падполля, якая была створана ў жніўні 1941 г. Група, членамі якой былі Г. Е., Г. А. і Л. А. Ланеўскія, А. Ф. Плюскова, Дз. С. Фёдараў, вяла палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвала лістоўкі. У кастрычніку — лістападзе 1941 г. падпольшчыкі знішчылі Гарбачэўскі маслазавод, спалілі некалькі мастоў на шашы Расоны — Невель, арганізавалі нелегальны шпіталь, дзе ўрач Г. Е. Ланеўская лячыла параненых савецкіх воінаў. У лістападзе 1941 г. паліцэйскія высачылі падпольшчыкаў. І. М. Шалаеў і Г. Е. Ланеўская былі павешаны, Дз. С. Фёдараў расстраляны.

*Літ.:* Аблова Р. Т. Это было в Белоруссии.— М., 1957; Романов А. Р. На земле непокоренной.— Мн., 1962.

*Т. Р. Чуракова.*

**в. Гарэлая Яма (не існуе), Заборскі сельсавет**

**2081. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гарэлая Яма знаходзілася за 2 км на поўнач ад в. Канашонкі. 12.2.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 25 жыхароў, а вёску (22 двары) спалілі. Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 2105 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Горкі, Сакалішчанскі сельсавет**

**2082. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці воінаў-аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2083. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1893 г. з цэглы і дрэва. Дом мае развітую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, якую фарміруюць квадратны ў плане трохпавярховы аб'ём з шатровым верхам і драўляная прыбудова. У дэкоры выкарыстаны стральчатыя аконныя праёмы, бутавая муроўка. Сцены гаспадарчых пабудоў выкладзены з бутавага каменю.

Дом — помнік эклектычнай архітэктуры.

*А. М. Кулагін.*

**в. Грачушына, Бірузоўскі сельсавет**

**2084. ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧА** (археал.).

**2084а.** Гарадзішча-1. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пагорку. Пляцоўка памерам 35×37 м, вышынёй 15—20 м. Рэшткаў старажытных умацаванняў няма. Вядома з 1867 г. Абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка, даследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

**2084б.** Гарадзішча-2. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пляцоўка памерам 35×37 м, вышынёй да 20 м. Прасочваюцца рэшткі вала і рова. Вядома з 1867 г. Даследавалі ў 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1974 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

**2084в.** Селішча. З боку поля гарадзішча-1. Памерам блізкае да гарадзішчаў. Вядома з 1867 г. Даследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Сементовский А. М. Памятники старины Витебской губернии.— У кн.: Памятная книжка Витебской губернии на 1867 год. СПб., 1867.

*Г. В. Штыхаў.*



**2072.** *Помнік на месцы спаленай вёскі.*

**в. Грышына, Заборскі сельсавет**

**2085. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. У 8 магілах пахаваны 161 воін і 6 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у раёне вёскі ці памерлі ад ран у шпіталі, што размяшчаўся ў вёсцы. У 1978 г. на могілках пастаўлена стэла і ўстаноўлена 8 надмагілляў.

**в. Гуйды (не існуе), Расонскі пасялковы Савет**

**2086. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гуйды знаходзілася за 4 км на паўночны захад ад г. п. Расоны. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 35 яе жыхароў і спалі вёску (9 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 2174 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Даўгабор'е, Янкавіцкі сельсавет**

**2087. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2087а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Нешчарда, каля былой в. Хараняркі. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам 45 м. Заходні схіл стромкі, вышынёй 20 м. Усходняя частка спадзістая. Уваход з паўночнага боку. Выявіў у 1968 г. Г. В. Штыхаў, абследавалі ў 1971 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Культурны пласт да 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2087б.** Курганны могільнік. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, на беразе воз. Расамачынскае. 13 курганоў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 0,8—1,5 м. Выявіў у 1968 г. Г. В. Штыхаў, абследавалі ў 1971 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Двор Чарэпіта, Расонскі пасялковы Савет**

**2088. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 29 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і камандзір партызанскага атрада № 3 3-й Калінінскай брыгады А. С. Пятроў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2089. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі.

Пахаваны 63 мірныя жыхары, якіх 11.2.1943 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2090. ПАРК** (архіт.). Каля вёскі. Закладзены ў пачатку 20 ст. як сядзібны. Арганізаваны паўкальцом вакол сістэмы штучных вадаёмаў, арганічна пераходзіць у лясны масіў. У парку растуць пераважна ліпа, сасна, бяроза, дуб. Належыць да тыпу пейзажных з нерэгулярнай планіроўкай.

**в. Забор'е, цэнтр сельсавета**

**2091. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2092. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 мірныя жыхары, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 3.2.1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Забор'е, Клясціцкі сельсавет**

**2093. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на поўдзень ад вёскі, на могілках. Пахаваны 13 мірных жыхароў в. Кушаватае, загубленых летам 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2094. РАДЗІМА ШЭЛЕПНЯ** Аляксандра Кірылавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. К. Шэлепень нарадзіўся 14.10.1918 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Пасля сканчэння 7 класаў Клясціцкай сярэдняй школы, працаваў у Юхавіцкім леспрамгасе. З 1938 г. ў Чырвонай Арміі. У Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Волхаўскім, Ленінградскім, 1-м Беларускім франтах, удзельнік абароны Масквы. У баях пад Волхавам цяжка паранены. Скончыў курсы малодшых лейтэнантаў (1942 г.), курсы ўдасканалення афіцэрскага саставу (1945 г.). Камандзір батарэі старшы лейтэнант А. К. Шэлепень вызначыўся ў час наступлення савецкіх войск на Берлін. З 22 да 28.4.1945 г. ў цяжкіх баях у Берліне ўмела камандаваў батарэяй. За 7 дзён батарэя змяніла 7 агнявых пазіцый, разбіла 4 барыкады, 26 дотаў, знішчыла да 250 гітлераўцаў. У момант падрыхтоўкі да бою разлік адной гарматы быў выведзены са строю. А. К. Шэлепень заняў месца каля гарматы і ва ўпор страляў па варожых агнявых кропках. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Пасля вайны ў Савецкай Арміі. У 1951—53 гг. працаваў старшынёй Полацкага абкома прафсаюза работнікаў дзяржаўнага гандлю і спажывецкай кааперацыі. З 1954 г. жыў у г. п. Ідаль Сегежскага р-на Карэльскай АССР.

А. К. Шэлепень памёр 12.6.1964 г.



**2090.** *Куток парку.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Зазер'е, Бірузоўскі сельсавет**

**2095. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2095а.** Гарадзішча. За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе, на пагорку вышынёй да 10 м. Пляцоўка авальная, памерам 42×22 м. Культурны пласт 0,5 м. На паўднёвым схіле вал вышынёй 0,7 м. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1971 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**2095б.** Курганны могільнік. За 2,4 км на ўсход ад вёскі, у лесе, каля дарогі ў в. Булыніна. 5 насыпаў вышынёй 2—3 м, дыяметрам 10—12 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1968 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Залессе, Марачкоўскі сельсавет**

**2096. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны і 19 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі восенню 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2097. МАГІЛА ТАТОЛБІНАЙ** Марыі (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Савецкая парашутыстка М. Татолбіна загінула ў час прызямлення з парашутам у снежні 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2098. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «БАЯВЫ»** (гіст.). За 0,4 км на поўнач ад вёскі, на развілцы дарог Залессе — Верхнядзвінск — Кавалі.

У лесе паблізу вёскі ў маі 1942 г.— маі 1943 г. дыслацыраваўся спецыяльны партызанскі атрад НКДБ БССР «Баявы», які змагаўся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на акупіраванай тэрыторыі Беларусі і Літвы. Атрад створаны ў кастрычніку 1941 г., у сакавіку 1942 г. перапраўлены ў тыл ворага. Камандзіры — А. С. Гарачоў, В. Л. Няклюдаў (з 7.8.1942 г.). За перыяд баявых дзеянняў партызаны пусцілі пад адхон 128 варожых эшалонаў, знішчылі 102 паравозы, 1058 вагонаў і платформ, 113 аўтамашын і матацыклаў, 8 танкаў, 3 бронемашыны і самалёт, узарвалі і спалілі 78 мастоў, 16 складоў з боепрыпасамі, разбурылі 9,5 км чыгуначнага палатна, больш за 6 км тэлефоннай сувязі. 20.7.1944 г. атрад у складзе 317 партызан злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі. В. Л. Няклюдаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (1944 г.).

У памяць аб баявой дзейнасці атрада ў 1964 г. пастаўлена стэла.

*Т. Р. Чуракова.*

**в. Ізбішча, Бірузоўскі сельсавет**

**2099. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 36 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 11.2.1943 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2100. ПАРТЫЗАНСКАЯ ЗЯМЛЯНКА** (гіст.). За 4 км ад вёскі, ва ўрочышчы Чорны Востраў. Тут у Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся штаб Расонскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна. У 1967 г. на месцы размяшчэння штаба партызанскай брыгады адноўлена зямлянка. Гл. таксама артыкул № 2133 «Помнік у гонар Расонскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна».

**в. Кавалі, Клясціцкі сельсавет**

**2101. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны партызаны атрада «Бясстрашны» А. Міронча і С. Шумскі, якія загінулі ў красавіку 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2102. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчынка.

**2103. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «БЯССТРАШНЫ»** (гіст.). У цэнтры вёскі. У в. Калачова (зліласця з в. Кавалі) у студзені — кастрычніку 1943 г. дыслацыраваўся партызанскі атрад «Бясстрашны».

Створаны ў чэрвені 1942 г. Паўночна-Заходняй аператыўнай групай ЦК КП(б)Б з слухачоў Асобага беларускага збору. З жніўня 1942 г. ўваходзіў у склад Дрысенскай партызанскай брыгады, з. лютага 1943 г. дзейнічаў асобна. Увосень 1943 г. атрад перадыслацыраваўся ў за-

ходнія вобласці БССР, з лістапада 1943 г. дзейнічаў у складзе 1-й Баранавіцкай партызанскай брыгады. Камандзіры атрада — С. Ф. Бубін, А. Ф. Антановіч; камісары — А. І. Сяргушка, К. М. Кірылаў, К. С. Кузняцоў, М. Ц. Цяцерын, С. В. Захарэвіч. У жніўні 1942 г.— жніўні 1943 г. партызаны атрада «Бясстрашны» на чыгуначным участку Полацк — Даўгаўпілс падарвалі і пашкодзілі 29 эшалонаў, у студзені 1943 г. ўдзельнічалі ў разгроме варожага апорнага пункта ў в. Слабада. У лютым — сакавіку 1943 г. вялі баі супраць карнікаў. 8.7.1944 г. ў складзе 1-й Баранавіцкай брыгады атрад «Бясстрашны» (125 партызан) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1979 г. ў памяць аб баявой дзейнасці партызанскага атрада «Бясстрашны» пастаўлена стэла.
*Т. Р. Чуракова.*

**в. Казімірова, Клясціцкі сельсавет**

**2104. ПАРК** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Закладзены ў 2-й палавіне 19 ст. як прысядзібны. Кампазіцыя арганізавана вакол прамавугольнай сажалкі са штучным астраўком. Належыць да лесапаркаў.

**в. Канашонкі, Гарбачэўскі сельсавет**

**2105. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 25 мірных жыхароў в. Гарэлая Яма, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 12.2.1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Канюхова, Сакалішчанскі сельсавет**

**2106. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ І МІРНЫМ ЖЫХАРАМ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, каля шашы Полацк — Юхавічы.

У снежні 1943 г.— студзені 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты праводзілі адну са шматлікіх аперацый па разгрому партызан і масаваму знішчэнню мірных жыхароў, якая ахапіла тэрыторыю паміж Полацкам, Себежам і Дрысай. Абараняючы мірнае насельніцтва, каля 7 тыс. партызан брыгад Асвейскай імя М. В. Фрунзе, 1-й і 2-й Дрысенскіх, Латвійскай, Калінінскіх стрымлівалі націск 25 тыс. знятых з фронту гітлераўскіх войск з танкамі і авіяцыяй. Сілы былі няроўныя, і блакаднае кальцо ўсё больш звужалася. У радыусе 10 км вакол в. Роўнае Поле сканцэнтраваліся партызанскія брыгады, некалькі тысяч мірных жыхароў. 24.12.1943 г. партызаны атрымалі радыёграму Беларускага штаба партызанскага руху аб вывадзе насельніцтва за лінію фронту. На нарадзе падпольных Асвейскага і Дрысенскага райкомаў КП(б)Б і партызанскага камандавання было вырашана ў ноч з 27 на 28 снежня прарваць варожую блакаду паміж вёскамі Сакалішча і Клясціцы і вывесці людзей у савецкі тыл. Ударная група беларускіх і латышскіх партызан фарсіравала р. Нішча каля в. Канюхова і ў кароткім жорсткім баі прарвала блакаду амаль на кіламетровым участку. За лінію фронту было выведзена больш як 10 тыс. чалавек.

У 1974 г. на ўшанаванне памяці партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў час прарыву блакады, пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Захаров И. К. Война в краю озер.— 2 изд.— Мн., 1973. *А. І. Марозава.*

**в. Карпіна, Краснапольскі сельсавет**

**2107. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на забалочанай мясцовасці. Пляцоўка авальная, памерам 40×25 м. Вышыня пагорка 7 м. Даследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры. Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2108. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на тэрыторыі калгаснага саду. Насыпаны ў 1968 г. на ўшанаванне памяці больш як 30 жыхароў вёскі, спаленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г.

**в. Клясціцы, цэнтр сельсавета**

**2109. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 60 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.




2112. *Помнік землякам.*

**2110. МАГІЛА ДАВЫДАВА** Віктара (гіст.). На могілках. Юны партызан атрада імя М. А. Шчорса В. Давыдаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў 14.5.1942 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2111. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАМСАМОЛЬСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ** (гіст.). 5.4.1943 г. ў вёсцы адбылася міжраённая камсамольская канферэнцыя Асвейскага, Бешанковіцкага, Верхнядзвінскага, Полацкага, Расонскага р-наў. У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі камандзіры і камісары партызанскіх брыгад і атрадаў — камсамольцы, усяго 85 чалавек. Канферэнцыя прыняла зварот да ўсіх камсамольцаў і моладзі акупіраваных раёнаў, у якім заклікала да актывізацыі барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У памяць аб канферэнцыі на будынку Клясціцкай сярэдняй школы ў 1969 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964. *Т. Р. Чуракова.*

**2112. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці воінаў-аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2113. ПОМНІК У ГОНАР ПЕРАМОГІ РУСКІХ ВОЙСК** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У Айчынную вайну 1812 г. ў баі 18—20 ліпеня паміж вёскамі Клясціцы і Якубова 17-тысячны рускі корпус пад камандаваннем генерала П. Х. Вітгенштэйна нанёс цяжкае паражэнне 29-тысячнаму французскаму корпусу маршала Н. Ш. Удзіно. Французы страцілі да 10 тыс. забітымі і параненымі. Больш за 3 тыс. салдат праціўніка былі ўзяты ў палон. У баі вызначыўся авангард корпуса пад камандаваннем генерала Я. П. Кульнева. У выніку гэтай перамогі дарога на Пецярбург для французскай арміі была перакрыта.

У 1962 г. да 150-годдзя перамогі рускіх войск пад Клясціцамі пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 2161 «Помнік Кульневу Якаву Пятровічу».

*Літ.:* Бескровный Л. Г. Хрестоматия по русской военной истории.— М., 1947; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Краснаполле, цэнтр сельсавета**

**2114. МАГІЛА ПЯЧУГІНА** Сямёна Васілевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя К. Я. Варашылава Расонскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна С. В. Пячугін загінуў у

1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кульнева, Сакалішчанскі сельсавет**

**2115. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на могілках. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2116. ЗАМЧЫШЧА СОКАЛ** (гіст.). За 1,5 км ад вёскі, пры зліцці р. Дрысы з р. Нішча, ва ўрочышчы Сокал. Тут у 1566 г. па загаду Івана Грознага была пабудавана крэпасць. У Лівонскую вайну разбурана ў 1579 г. войскамі Рэчы Паспалітай. Захавалася трохвугольная ў плане пляцоўка плошчай у некалькі гектараў. Крэпасць з 2 бакоў прыкрывалі рэкі, з трэцяга — выспа вышынёй каля 10 м, даўжынёй да 200 м. Культурны пласт на пляцоўцы адсутнічае. Пры раскопках на выспе ў 1969 г. М. А. Ткачоў знайшоў шкілеты людзей, якія жылі ў 16 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Бржэзго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вільня, 1933. *Г. В. Штыхаў.*

**2117. МАГІЛА КУКСЁНКА** Паўла Антонавіча (гіст.). На могілках.



**2113.** *Помнік у гонар перамогі рускіх войск.*




**2116.** *Крэпасць Сокал. З гравюры 1579 г.*

П. А. Куксёнак нарадзіўся 13.5. 1891 г. ў в. Царкавішча (цяпер Кульнева). Член КПСС з 1918 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1918—20 гг. старшыня Полацкага павятовага рэўкома. З 1924 г. старшыня Полацкага, Ульскага райвыканкомаў, дырэктар Слуцкай МТС. З 1938 г. на кіруючай пасадзе ў Наркамземе БССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1940 г. Напярэдадні Айчыннай вайны працаваў старшынёй Глыбоцкага райвыканкома. У 1941 г. пасля акупацыі тэрыторыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі стварыў і ўзначальваў Сакалішчанскую арганізацыю Расонскага камуністычнага падполля, якая мела групы ў вёсках Дзёрнавіцкага, Замшанскага, Сакалішчанскага сельсаветаў. Падпольшчыкі знішчылі 4 масты на аўтамабільных дарогах, лакаматыў, аўтамашыну з гітлераўцамі, лесапільню ў Боркавічах, масласепаратарны пункт у в. Белае (цяпер Азіна). П. А. Куксёнак выдадзены здраднікам і 3.12.1941 г. расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кушаватае (не існуе), Клясціцкі сельсавет**

**2118. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Кушаватае знаходзілася за 4 км на поўдзень ад в. Забор'е. Летам 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 13 жыхароў і спалілі вёску (14 двароў). Не адрадзілася. Гл. таксама артыкул № 2093 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Латышы, Заборскі сельсавет**

**2119. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бурнасенкі. Пляцоўка авальная, памерам 45×35 м. Вышыня пагорка 8—10 м. Уваход на гарадзішча з усходу. Абследаваў у 1977 г. М. Г. Савіцкі. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены ляпны посуд днепра-дзвінскай культуры. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Малыя Асёткі, Краснапольскі сельсавет**

**2120. МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,35 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Дрыса. У 12 магілах пахаваны 59 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Марачкова, цэнтр сельсавета**

**2121. ПОМНІК У ГОНАР АСВЕЙСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). Каля клуба. У 1942—44 гг. у вёсцы базіраваўся штаб Асвейскай партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе.

Брыгада створана ў жніўні 1942 г. на базе асобнай групы партызанскіх атрадаў Асвейскага р-на, якая ўваходзіла ў брыгаду «За Савецкую Беларусь» (пазней партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага). Камандзіры брыгады І. К. Захараў (ліпень 1942 г.— студзень 1944 г.), М. М. Кузьмін (студзень — ліпень 1944 г.); камісары В. П. Уладзіміраў (ліпень 1942 г.— сакавік 1943 г., загінуў), А. І. Сяргушка (сакавік 1943 г.— студзень 1944 г.), А. А. Бохан (студзень — чэрвень 1944 г.).

Партызаны брыгады ў кастрычніку 1942 г. разам з партызанамі брыгад «За Савецкую Беларусь» і Дрысенскай правялі аперацыю па адначасоваму разгрому варожых гарнізонаў на чыгуначных станцыях Боркавічы і Дрыса. У студзені 1943 г. разграмілі гарнізон у в. Вецслабада, у красавіку 1943 г.— у вёсках Ксяверына Латвійскай ССР, Каханавічы, Кабыльнікі Асвейскага р-на, Саўчонкі і Балотнікі Дрысенскага р-на, Глямбочына Себежскага р-на Калінінскай вобл.




**2116.** *Замчышча Сокал. План.*

У лютым — сакавіку, лістападзе — снежні 1943 г., сакавіку — маі 1944 г. вялі баі супраць карных аперацый фашыстаў. У аперацыі «Рэйкавая вайна» на чыгуначных участках Полацк — Даўгаўпілс, Дрыса — Марцінава, Марозы — Паноры, Дрыса — Бігосава знішчылі больш за 2 тыс. рэек. У ноч на 8.7.1944 г. народныя мсціўцы перакрылі бальшак Полацк — Асвея каля в. Маскалёнкі, што дапамагло савецкім войскам разбіць праціўніка. 13.7.1944 г. брыгада ў складзе атрадаў імя М. В. Фрунзе, імя У. У. Сімацкага, імя Р. К. Арджанікідзе і імя Р. І. Катоўскага (345 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1964 г. ў памяць аб баявых дзеяннях Асвейскай партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; Захаров И. К. Война в краю озёр.— 2 изд.— Мн., 1973. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Маторына, Марачкоўскі сельсавет**

**2122. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі. 40 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 8—12 м. Выявіў у 1968 г. Г. В. Штыхаў, абследавалі ў 1971 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. У паўразбураным кургане (каля дарогі) на грунце пад насыпам выяўлены сляды вогнішча. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2123. ПОМНІК У ГОНАР 1-й ДРЫСЕНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Клясціцы — Верхнядзвінск.

У в. Маторына з лета 1942 г. да вызвалення Расонскага р-на ад нямецка-фашысцкіх акупантаў размяшчаўся штаб 1-й Дрысенскай партызанскай брыгады, якая была сфарміравана на базе асобнай групы атрадаў Дрысенскага р-на, што ўваходзіла ў брыгаду «За Савецкую Беларусь» (з сакавіка 1943 г. брыгада імя К. К. Ракасоўскага). Да кастрычніка 1943 г. называлася Дрысенская партызанская брыгада. Камандзіры брыгады П. Р. Мандрыкін (да верасня 1942 г., загінуў), Р. П. Герасімаў (верасень 1942 г.— студзень 1944 г.), А. І. Грыгор'еў (студзень — ліпень 1944 г.); камісары Р. П. Герасімаў (да верасня 1942 г.), Ф. Ф. Шаблоўскі (верасень — лістапад 1942 г.), А. І. Лісоўскі (лістапад 1942 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны брыгады ў час «рэйкавай вайны» на чыгуначным участку Боркавічы — Бігосава знішчылі больш за 2 тыс. рэек. У кастрычніку 1942 г. Дрысенская брыгада разам з партызанскімі брыгадамі Асвейскай імя М. В. Фрунзе і «За Савецкую Беларусь» разграмілі варожыя гарнізоны на чыгуначных станцыях Боркавічы і Дрыса. У студзені 1943 г. ўдзельнічалі ў разгроме гарнізона ў в. Вецслабада Латвійскай ССР. У 1943—44 гг. вялі баі супраць карных экспедыцый ворага. 12.7.1944 г. брыгада (281 партызан) у складзе атрадаў імя Аляксандра Неўскага, імя С. М. Кірава, імя У. І. Леніна, імя А. В. Суворава злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1964 г. ў памяць аб баявой дзейнасці 1-й Дрысенскай партызанскай брыгады насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Межава, Гарбачэўскі сельсавет**

**2124. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**2124а.** Гарадзішча-1. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Складаецца з 2 пляцовак. Меншая памерам 70×60 м, вышынёй 30 м, з захаду прымыкае большая пляцоўка, памерам 180×120 м. З заходняга боку вялікай пляцоўкі ёсць вал вышынёй 6 м, даўжынёй 100 м, шырынёй 20 м і роў глыбінёй 2 м. Даследаваў у 1978 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,6—1 м. На большай пляцоўцы знойдзены ляпны посуд 6—9 стагоддзяў і ганчарная кераміка 10—14 стагоддзяў. Гарадзішча належала полацкім крывічам. У 10—13 стагоддзях тут размяшчаўся буйны населены пункт Полацкага княства.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2124б.** Гарадзішча-2. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля былой в. Бярозаўка. Вышыня пагорка 9 м. Пляцоўка круглая, дыяметрам 35 м, абкружана валам вышынёй да 1,5 м і ровам глыбінёй да 1,5 м. Уваход на гарадзішча з поўдня. Культурны пласт 0,5—1 м. Выявіў у 1977 г. М. Г. Савіцкі. Раскопкі не праводзіліся.

**2124в.** Гарадзішча-3. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Чорная Гара. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам 40 м, вышынёй 16 м. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Выявіў у 1977 г. М. Г. Савіцкі. Раскопкі не праводзіліся.

**2124г.** Гарадзішча-4. За 2 км ад вёскі, каля былой в. Сопіна, на мысе правага берага р. Змітраўка. Пляцоўка памерам 80×40 м, вышынёй 20 м. З боку поля ўмацавана 3 валамі вышынёй 2 м і 3 равамі глыбінёй 2 м. Выявіў і абследаваў у 1977 г. М. Г. Савіцкі. Культурны пласт адсутнічае. Гэта было, напэўна, гарадзішча-сховішча.

**2124д.** Гарадзішча-5. За 3 км на поўдзень ад вёскі, каля былой в. Міхалешчына. Пляцоўка дыяметрам 35×40 м, вышынёй 15 м, абкружана валам вышынёй 1,5 м і ровам глыбінёй 1 м. Выявіў у 1977 г. М. Г. Савіцкі. Раскопкі не праводзіліся. *Г. В. Штыхаў.*

**2125. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

11.2.1943 г. ў вёску ўварваліся фашысты. Яны сагналі ў адну хату 36 жыхароў вёсак Межава і Замошша. Арыштаваных прымусілі ўзарваць падлогу і выкапаць яму, дзе іх расстралялі, а хату спалілі. У 1968 г. на месцы загубы мірных жыхароў насыпаны Курган. Гл. таксама артыкул № 2127 «Магіла ахвяр фашызму».

**2126. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвым беразе воз. Межава. 6 насыпаў вышынёй да 1 м, дыяметрам 12 м. Выявіў у 1928 г. І. Карандзей, абследавалі ў 1968 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**2127. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 жыхароў вёсак Межава і Замошша, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 11.2.1943 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2128. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1975 г.

Пасля акупацыі тэрыторыі раёна нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў вёсцы ў жніўні 1941 г. была створана падпольная арганізацыя Расонскага камуністычнага падполля. У яе ўваходзіла 10 чалавек. Кіраўнікі П. Я. Рубіс і Р. А. Ахоцін. Патрыёты вялі палітычную работу сярод насельніцтва, замарозілі на нямецкім складзе 750 т бульбы, узарвалі некалькі мастоў, у т. л. 30-метровы каля в. Ваўкі, 60-метровы каля в. Дзмітрова. Вясной 1942 г. арганізацыя ўлілася ў партызанскі атрад імя І. В. Сталіна, які пазней вырас у Расонскую партызанскую брыгаду імя І. В. Сталіна. *Т. Р. Чуракова.*

**2129. РАДЗІМА ШЛЮБСКАГА** Аляксандра Ануфрыевіча (гіст.).

Беларускі савецкі этнограф і фалькларыст А. А. Шлюбскі нарадзіўся 4.6.1897 г. Скончыў археаграфічны факультэт Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута (1922 г.). У 1918—23 гг. актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі архіваў у Веліжы, Віцебску, Полацку. З 1923 г. працаваў у Інбелкульце, з 1929 г.— у АН БССР. Запісваць фальклор пачаў з 1913 г. У 1919 г. выпусціў інструкцыю «Звесткі па збіранню вуснай народнай творчасці на Беларусі». З пераездам у 1923 г. ў Мінск А. А. Шлюбскі пашырыў кола даследавання пытанняў беларусазнаўства. Ён піша пра канфіскацыю царскай цэн-

зурай твораў В. І. Дуніна-Марцінкевіча, газеты «Наша ніва», пра становішча сялянства ў 19 ст., лёс кнігасховішчаў, адносіны царскага ўрада да беларускай мовы і інш. Асноўную ўвагу аддаваў гісторыі этнаграфіі (нарысы пра дзейнасць П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, У. М. Дабравольскага і інш.), складанню бібліяграфіі прац па матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, падрыхтоўцы да публікацыі сабраных твораў народнай паэзіі. Выдадзеныя ў 1927—28 гг. 2 часткі «Матэрыялаў да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны» шырока адлюстроўвалі песенную творчасць паўночна-ўсходніх раёнаў Беларусі. Гэта праца, як і «Матэрыялы да беларускае бібліяграфіі» (т. 4. Этнаграфія, 1927 г.), найбольш каштоўная ў творчай спадчыне вучонага. А. А. Шлюбскі памёр у 1941 г. (?).

*Літ.:* Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі.— Мн., 1972. *А. С. Ліс.*

**в. Межна, Дварышчанскі сельсавет**

**2130. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, на мысе воз. Межна. Пляцоўка памерам 50×35 м. Вышыня пагорка 12—15 м. На яго схіле вал вышынёй 1,5 м і роў глыбінёй да 2 м. Вядома з 1929 г. Абследавалі ў 1974 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Культурны пласт 0,6 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2131. МАГІЛА ЗІМЕРА** Міхаіла Яфімавіча (гіст.). На могілках. Савецкі разведчык старшы сяржант М. Я. Зімер загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2132. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ РАСОНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (другога складу; гіст.).

У вёсцы з мая 1942 г. знаходзіўся Расонскі падпольны райком КП(б)Б (другога складу). Створаны 16.7. 1941 г., у першым складзе дзейнічаў да снежня 1941 г. На агульным сходзе камуністаў раёна, у т. л. партызан атрада імя І. В. Сталіна, 29.5. 1942 г. падпольны райком КП(б)Б адноўлены, дзейнічаў да 3.11.1943 г. Базіраваўся пры Расонскай партызанскай брыгадзе імя І. В. Сталіна. Узначальваў падпольную і партызанскую барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сакратары райкома КП(б)Б другога складу — В. Я. Лапенка (з 29.5 да 6.10.1942 г., загінуў), Я. П. Васілевіч (з 1.11.1942 г.). Друкаваны орган падпольнага райкома — газета «Сацыялістычная праца».

У 1968 г. на будынку, дзе размяшчаўся Расонскі падпольны райком КП(б)Б (другога складу), устаноўлена мемарыяльная дошка. Цяпер у доме знаходзіцца філіял Расонскага музея баявой садружнасці рускіх, беларускіх, літоўскіх і латышскіх партызан у Вялікую Айчынную вайну. Гл. таксама артыкул № 2046 «Месца базіравання Расонскага падпольнага райкома КП(б)Б» (першага складу).

*Літ.:* Захаров И. К. Война в краю озёр.— 2 изд.— Мн., 1973. *Т. Р. Чуракова.*



**2133.** *Помнік у гонар Расонскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна.*

**2133. ПОМНІК У ГОНАР РАСОНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ І. В. СТАЛІНА** (гіст.). За 800 м на захад ад вёскі, на развілцы дарог Дрэтунь — Краснаполле.

Расонская партызанская брыгада імя І. В. Сталіна створана ў жніўні 1942 г. на базе асобнай групы атрадаў Расонскага р-на, якія ўваходзілі ў партызанскую брыгаду «За Савецкую Беларусь» (пазней партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага). Дзейнічала на тэрыторыі Расонскага, Асвейскага, Полацкага р-наў Віцебскай вобл. БССР і Калінінскай вобл. РСФСР. Камандзір брыгады Р. А. Ахоцін (да лістапада 1943 г.); камісары В. Я. Лапенка (да кастрычніка 1942 г., загінуў), Я. П. Васілевіч (кастрычнік 1942 г.— лістапад 1943 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Невель, Полацк — Даўгаўпілс, Себеж — Рэзекне — Даўгаўпілс, Пустошка — Себеж. У жніўні 1942 г. партызаны брыгады разграмілі фашысцкія гарнізоны ў вёсках Сакалішча і Клясціцы, у верасні — у Расонах, поўнасцю вызвалілі Расонскі р-н ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. На ўсёй тэрыторыі Расонска-Асвейскай партызанскай зоны была адноўлена Савецкая ўлада. У лютым — сакавіку, кастрычніку — лістападзе 1943 г. партызаны брыгады вялі баі з карнымі экспедыцыямі фашыстаў. Удзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна» на чыгунцы Полацк — Невель (участак Дрэтунь — Турычына). У жніўні 1943 г. знішчылі больш за 1,2 тыс. рэек. 3.11.1943 г. брыгада ў складзе 4 батальёнаў, артылерыйскага дывізіёна, атрадаў імя І. В. Сталіна, імя К. Я. Варашылава, імя В. І. Чапаева, імя В. П. Чкалава, імя С. М. Кірава, імя М. В. Фрунзе, імя М. І. Калініна, імя В. Я. Лапенкі, імя А. В. Суворава, імя Г. К. Жукава, імя В. М. Молатава (2309 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. Разам з савецкімі воінамі народныя мсціўцы ў лістападзе 1943 г. разграмілі фашысцкія гарнізоны ў вёсках Харлашы, Трыполле, Гарадзішча Расонскага р-на.

У 1977 г. ў гонар Расонскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна ўстаноўлены помнік: стылізаваны пілон з выявай пяціканцовай зоркі і назвамі атрадаў брыгады. Гл. таксама артыкулы № 2100 «Партызанская зямлянка», № 2146 «Месца бою 1942 г.».

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944).— Мн., 1961; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Мурагі, Гарбачэўскі сельсавет**

**2134. РАДЗІМА БАРШЧЭЎСКАГА** Яна (гіст.).

Беларускі і польскі пісьменнік Я. Баршчэўскі нарадзіўся ў 1794 г. (паводле іншых крыніц у 1790 г.). Дзяцінства яго прайшло ў Мурагах. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай калегіі, многа вандраваў па Беларусі. У 1820—40-я гг. жыў у Пецярбургу, дзе пазнаёміўся з А. Міцкевічам і Т. Шаўчэнкам, стварыў літаратурны гурток, які аб'ядноўваў выхадцаў з Беларусі, у 1840—44 гг. выдаваў польскі альманах «Незабудка».

Творчасць Я. Баршчэўскага супярэчлівая ў ідэйна-мастацкіх адносінах. У сваіх творах ён выкрываў розныя праявы прыгонніцкага ладу і адначасова паэтызаваў патрыярхальнае мінулае. У маладыя гады быў прыхільнікам класіцызму, пазней — рамантызму. Аўтар беларускіх вершаў «Дзеванька», «Гарэліца», вершаванага апавядання «Рабункі мужыкоў», у якім расказваецца пра сялянскія хваляванні на Полаччыне ў час французскага нашэсця 1812 г. У 1844—46 гг. выдаў у Пецярбургу на польскай мове чатырохтомны зборнік «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», дзе выкарыстаў сюжэты беларускіх казак і легенд, апаэтызаваў родныя мясціны, у т. л. воз. Нешчарда, каля якога

знаходзіцца в. Мурагі. Напісаў шэраг польскіх рамантычных вершаў, балад і паэм, краязнаўчы «Нарыс паўночнай Беларусі» (1843 г.).

Я. Баршчэўскі памёр 11.3.1851 г. ў Цуднове на Валыні.

*Літ.:* З я м к е в і ч Р. Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік XIX сталецця.— Вільня, 1911. *А. І. Мальдзіс.*

**в. Ніўе, Заборскі сельсавет**

**2135. МАГІЛА ЦЫРКУНОВА** Ягора Емяльянавіча (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Савецкі воін Я. Е. Цыркуноў загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ніўе (не існуе), Клясціцкі сельсавет**

**2136. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ніўе знаходзілася за 1,5 км на ўсход ад в. Казімірова. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 14 жыхароў і спалілі вёску (12 двароў). Не адрадзілася. Гл. таксама артыкул № 2143 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Папялкі (не існуе), Клясціцкі сельсавет**

**2137. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Папялкі знаходзілася за 7 км на ўсход ад в. Марачкова. У час карнай аперацыі нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі в. Папялкі і закатавалі яе жыхароў. У 1968 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на месцы былой вёскі насыпаны Курган.

**в. Парэчча, Бірузоўскі сельсавет**

**2138. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Кавалёва. Пахаваны 400 савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паўлава, Клясціцкі сельсавет**

**2139. МЕСЦА БОЮ 1943 г.** (гіст.). У вёсцы. Тут 6—10.2.1943 г. рускія, беларускія і латышскія партызаны разграмілі карную экспедыцыю нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. ў памяць аб аперацыі партызан пастаўлена стэла.

**в. Перавоз, Заборскі сельсавет**

**2140. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2140а.** Г а р а д з і ш ч а. Мясцовая назва Ц а р к о ў к а. На паўднёва-ўсходнім беразе воз. Дрысы, паміж упадзеннем у возера р. Ушча і вытокам р. Дрыса. Памер 50×20 м, выцягнута з поўначы на поўдзень. Вышыня 10—12 м, густа зарасло лесам. Вядома з 1867 г. пад назвай Г а р а Р а г в а л о д а і Р а г н е д ы, ці Р а г н е д з і н К у р г а н. Абследавалі ў 1974 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. У паўночнай частцы гарадзішча ў 1979 г. Э. М. Зайкоўскі правёў шурфоўку. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены абломкі ганчарнай керамікі 12 ст., адзін фрагмент ляпной керамікі з арганічнай дамешкай у гліне і грабеньчатым арнаментам, другі — з арганічнай дамешкай і штрыхоўкай. На пляцоўцы гарадзішча знаходзіцца старадаўні каменны крыж. Раней тут знаходзілі каменныя свідраваныя сякеры. Помнік належыць да позняга неаліту ці ранняга бронзавага веку і Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

**2140б.** К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. За 2 км на паўночны захад ад гарадзішча, каля в. Перавоз. 5 насыпаў дыяметрам 15—20 м, вышынёй 1,2—1,5 м. Адзін курган падоўжаны. Вядомы з 1867 г. Абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* С е м е н т о в с к и й А. М. Белорусские древности. В. 1.— СПб., 1890. *Г. В. Штыхаў.*

**2141. МЕСЦА ЗЛУЧЭННЯ ПАРТЫЗАН З ЧАСЦЯМІ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ** (гіст.). За 500 м на поўнач ад вёскі, на беразе р. Дрыса. 3.11.1943 г. Расонская партызанская брыгада імя І. В. Сталіна злучылася з часцямі 219-й Ідрыцкай Чырванасцяжнай стралковай дывізіі, якія з баямі фарсіравалі р. Дрыса. У 1975 г. ў памяць аб гэтай падзеі на месцы злучэння пастаўлена стэла.

**в. Пірагі, Клясціцкі сельсавет**

**2142. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 28 жыхароў вёсак Пушча, Пірагі, Галоўчыцы, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі 17.11.1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2143. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі Пірагі. Пахаваны 14 мірных жыхароў в. Ніўе, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2144. ПОМНІК ХАМЧАНОЎСКАМУ** Уладзіміру Антонавічу (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі.

Герой Савецкага Саюза, член Расонскага камуністычнага падполля У. А. Хамчаноўскі нарадзіўся ў 1920 г. ў в. Пірагі. Загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 19.12. 1942 г. каля в. Гліснаўка Полацкага р-на. Пахаваны ў мемарыяльным парку г. п. Расоны (гл. артыкул № 2045 «Мемарыяльны комплекс»). У 1974 г. на месцы дома, у якім нарадзіўся У. А. Хамчаноўскі, пастаўлена стэла.

**в. Плігаўкі (не існуе), Расонскі пасялковы Савет**

**2145. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Плігаўкі знаходзілася за 8 км на паўднёвы захад ад в. Альбрэхтава. 12.2.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі. Загубілі 32 чалавекі, згарэла 17 двароў. Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 2061 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Прудок, Дварышчанскі сельсавет**

**2146. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля моста цераз р. Дрыса.

З 2 па 9.7.1942 г. ў раёне вёскі партызаны (у жніўні 1942 г. аб'яднаны ў Расонскую брыгаду імя І. В. Сталіна) паспяхова правялі бой супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. ў гонар баявой аперацыі партызан насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 2133 «Помнік у гонар Расонскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна».

**в. Ражнова (не існуе), Бірузоўскі сельсавет**

**2147. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ражнова знаходзілася за 5 км на ўсход ад в. Гальніца. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 23 яе жыхароў і спалілі вёску (17 двароў). Не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Роўнае Поле, Марачкоўскі сельсавет**

**2148. ПАРТЫЗАНСКАЯ ЗЯМЛЯНКА** (гіст.). За 8 км на поўнач ад вёскі, у лесе, на беразе воз. Дзяражна. У 1978 г. адноўлена партызанская зямлянка брыгады імя К. К. Ракасоўскага, якая тут базіравалася ў 1942—43 гг. Гл. таксама артыкул № 2149 «Помнік у гонар партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага».

**2149. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. К. РАКАСОЎСКАГА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

У 1942—43 гг. каля вёскі базіраваўся штаб партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага. Створана ў ліпені 1942 г. на базе атрадаў імя І. В. Сталіна, імя К. Я. Варашылава, імя В. П. Чкалава, імя В. І. Чапаева, імя В. М. Молатава і 17-га атрада асобага прызначэння 29-й арміі. Да сакавіка 1943 г. называлася партызанская брыгада «За Савецкую Беларусь». Камандзіры брыгады А. І. Петракоў (ліпень — верасень 1942 г.), У. Н. Дорменаў (верасень — лістапад 1942 г., в. а., верасень 1943 г.— студзень 1944 г.), А. В. Раманаў (лістапад 1942 г.— сакавік 1943 г., в. а., сакавік 1943 г.— ліпень 1944 г.); камі-



**2149.** *Помнік у гонар партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага.*

сары А. В. Раманаў (ліпень 1942 г.— сакавік 1943 г.), Ш. Н. Нігамаеў (снежань 1942 г.— сакавік 1943 г., в. а., лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.), П. М. Машэраў (сакавік — лістапад 1943 г.).

У жніўні 1942 г. партызаны брыгады падарвалі 110-метровы чыгуначны мост цераз р. Дрыса. У выніку гэтай аперацыі на 16 сутак была выведзена са строю чыгунка Полацк — Дрыса. У верасні 1942 г. разграмілі варожы гарнізон на чыгуначнай станцыі Свольна. У кастрычніку 1942 г. сумесна з партызанамі брыгад Асвейскай імя М. В. Фрунзе і Дрысенскай правялі паспяховую аперацыю па разгрому 8 фашысцкіх гарнізонаў на чыгуначным участку Боркавічы — Дрыса. Разграмілі варожы гарнізон у в. Вецслабада Латвійскай ССР. У лютым 1943 г. нанеслі вялікія страты ворагу ў баях каля вёсак Юхавічы, Непадовічы, Прахарова, Паўлава, Нішча Расонскага р-на, Чурглі, Леснікова, Рубчыкі, Каханавічы Дрысенскага і Асвейскага р-наў. У сакавіку 1943 г. партызаны брыгады штурмавалі варожы гарнізон у в. Каханавічы Асвейскага р-на.

Брыгада ў час баявога маршу з Расонскага ў Пастаўскі р-н вяла баі супраць акупантаў пры пераходзе чыгункі Полацк — Дрыса і фарсіраванні Заходняй Дзвіны, у сакавіку 1944 г.— каля г. п. Відзы, у красавіку — каля вёсак Ажуны і Варапаева Дунілавіцкага, у маі — каля в. Валодзькі Докшыцкага р-наў. У ноч на 20.6.1944 г. на чыгуначных участках Крулеўшчына — Параф'янава, Крулеўшчына — Глыбокае і Глыбокае — Варапаева — Паставы партызаны брыгады ўзарвалі больш за 1300 рэек.

3.7.1944 г. брыгада ў складзе 7 атрадаў: імя Сяргея, імя М. А. Шчорса, імя У. І. Леніна, імя Р. І. Катоўскага, імя Г. К. Жукава, імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя А. І. Петракова (915 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У гонар баявых дзеянняў партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага ў 1979 г. пастаўлены абеліск з асіметрычна ўрэзанымі ў яго блокамі. На адным з іх — рэльефная выява твараў партызан, на другім — сярпа і молата. Побач з абеліскам — пліта з тэкстам-прысвячэннем. Каля асновы абеліска замуравана завяшчанне нашчадкам.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Рудня, Дварышчанскі сельсавет**

**2150. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 савецкіх воінаў, расстраляных у 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2151. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 савецкія лётчыкі, якія загінулі ў паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2152. МАГІЛА МАРОЗАВА** Віктара (гіст.). На могілках. Партызан В. Марозаў загінуў у 1943 г. пры выкананні баявога задання. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2153.** *Раскопкі прадаўгаватага кургана.*

**в. Рудня, Янкавіцкі сельсавет**

**2153. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі на в. Янкавічы. 21 курган дыяметрам 8—10 м, вышынёй 1—2 м. Адзін на краі валападобнага насыпу даўжынёй 40 м. Два насыпы прадаўгаватыя, даўжынёй 25—27 м. Каля многіх насыпаў захаваліся глыбокія раўкі. У 1928 г. могільнік даследаваў А. М. Ляўданскі, у 1961 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1970 г. 3 курганы раскапаў Г. В. Штыхаў. У 2 з іх выяўлены трупаспаленні, знойдзены бранзавы бранзалет. Могільнік належаў крывічам, датуецца 2-й палавінай 1-га тысячагоддзя.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*

**2154. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ПАДПОЛЬНАЙ ДРУКАРНІ, ШПІТАЛЯ І ЗБРОЕВАЙ МАЙСТЭРНІ ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі, дзе раней знаходзілася в. Тапары. Тут у 1942 г. размяшчаўся шпіталь 4-й Беларускай партызанскай брыгады, майстэрня па рамонту зброі, а з 1943 г.— друкарня газеты «Сацыялістычная праца» [орган Расонскага падпольнага райкома КП(б)Б; № 1 выйшаў 22.6.1943 г.].

У 1960 г. на месцы размяшчэння друкарні, шпіталя і майстэрні ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Рылі, Гарбачэўскі сельсавет**

**2155. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**2155а.** Гарадзішча-1. За 0,8 км на захад ад вёскі, на беразе воз. Шэвіна, у вытоку р. Шэвіцы, на крутым мысе. Пляцоўка авальная, выцягнутая з усходу на захад, памерам 70×30 м. З усходняга і заходняга бакоў ёсць равы глыбінёй 2—2,5 м і валы вышынёй 2,5—3 м. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,5 м, каля краёў 1 м, у ім сабрана ляпная кераміка. Гарадзішча належала балцкім плямёнам, адносіцца да ранняга жалезнага веку.



**2153.** *Курганны могільнік. План.*

**2155б.** Гарадзішча-2. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на беразе воз. Шэвіна. Пляцоўка круглая, дыяметрам 30 м, вышынёй 4 м. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены абломкі ляпных гаршкоў слоікавай формы. Належала балцкім плямёнам, адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання гарадзішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики.— М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*Г. В. Штыхаў.*

**2156. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 80 мірных жыхароў вёсак Рылі (57 чалавек), Гарбачэва, Канашонкі і інш., спаленых 11.2.1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1965 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на магіле пастаўлены абеліск.

**2157. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Шэвіна. Пахаваны 18 жыхароў в. Шэвіна, расстраляных нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сакалішча, цэнтр сельсавета**

**2158. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 97 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2160.** *Помнік землякам.*



**2161.** *Стэла-ўказальнік з рэльефнай выявай Я. П. Кульнева.*

**2159. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, у выгіне р. Нішча. Плошча 3 га. Абследавалі ў 1955—56 гг. Л. В. Аляксееў, у 1971 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**2160. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці воінаў-аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2161. ПОМНІК КУЛЬНЕВУ** Якаву Пятровічу (гіст.). За 7 км на поўдзень ад в. Сакалішча, 0,8 км справа ад аўтамабільнай дарогі на Полацк, каля былой в. Сівошына (тэрыторыя з 1977 г. ў Полацкім р-не).

Герой Айчыннай вайны 1812 г. Я. П. Кульнеў нарадзіўся 25.7.1763 г. ў г. Лудза (цяпер Латвійская ССР) у сям'і афіцэра. У 1785 г. скончыў сухапутны шляхецкі корпус, служыў у гусарскім палку. Удзельнік руска-турэцкай вайны 1787—91 гг. У Польскай кампаніі ў 1794—95 гг. вызначыўся ў баях пад Кобрынам, Вільняй, Лідай. У час вайны з Францыяй у 1807 г. камандаваў Гродзенскім гусарскім палком. У руска-шведскую вайну і ў 1808—09 гг. камандаваў авангардам корпуса П. І. Баграціёна, у руска-турэцкую — перадавымі кавалерыйскімі атрадамі (1810—11 гг.). Прытрымліваўся дэмакратычных поглядаў, выступаў супраць аракчэеўшчыны. Сваіх прыгонных адпусціў на волю.

У пачатку Айчыннай вайны 1812 г. генерал-лейтэнант Я. П. Кульнеў — камандзір пяцітысячнага кавалерыйскага атрада 1-га пяхотнага корпуса генерала П. Х. Вітгенштэйна. 3.7. 1812 г. атрад імклівым ударам разбіў праціўніка каля Друі, 18 ліпеня папярэдзіў абыходны манеўр французскіх войск корпуса маршала Н. Ш. Удзіно, перарэзаў праціўніку дарогу паміж вёскамі Клясціцы і Якубова. У гэтым баі атрад пад камандаваннем Я. П. Кульнева нанёс цяжкае паражэнне французскім войскам, захапіў амаль увесь абоз корпуса Удзіно і 900 палонных. У апошні дзень Клясціцкай бітвы Я. П. Кульнеў быў смяротна паранены, памёр 20.7.1812 г.

На месцы гібелі Я. П. Кульнева ў 1830 г. пастаўлены абеліск, на павароце з аўтамабільнай дарогі да гэтага помніка ў 1972 г.— стэла-ўказальнік. Імем героя названы вуліцы ў Полацку і Лудзе, вёска ў Расонскім р-не (былая Царкавішча). Гл. таксама артыкул № 2113 «Помнік у гонар перамогі рускіх войск».

*Літ.:* Елец Ю. Л. Герой Отечественной войны — Кульнев.— СПб., 1912; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962.

*Т. Р. Чуракова.*

**в. Сельнікі, Краснапольскі сельсавет**

**2162. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). У Вялікую Айчынную вайну ў вёсках Сельнікі і Краснаполле ў жніўні 1941 г. была створана і да 10.5.1942 г. дзейнічала падпольная арганізацыя (кіраўнік С. І. Голубеў) Расонскага камуністычнага падполля. Патрыёты вялі масава-палітычную работу сярод насельніцтва, зрабілі напад на Краснапольскую валасную ўправу і захапілі складзеныя для гітлераўскай камендатуры спісы камуністаў і камсамольцаў, вызвалілі ваеннапалонных Краснапольскага канцэнтрацыйнага лагера, узарвалі наплаўны мост цераз р. Дрыса. З вясны 1942 г. падпольшчыкі працягвалі барацьбу з ворагам у партызанах.

У 1975 г. ў гонар дзейнасці патрыётаў-падпольшчыкаў на паўночнай ускраіне вёскі пастаўлена стэла.

**в. Сінск, Клясціцкі сельсавет**

**2163. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гараватка. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на ўзгорку. Пляцоўка авальная, памерам 100×200 м. Адкрыў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1968 г. і 1971 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.



**2161.** *Помнік Я. П. Кульневу.*

**в. Старыца, Заборскі сельсавет**

**2164. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).
**2164а.** Гарадзішча-1. За 0,7 км на ўсход ад вёскі, на ўзгорку вышынёй да 25 м над воз. Нешчарда. Пляцоўка авальная, памерам 30×20 м. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3 м, у ім знойдзена ляпная кераміка.
**2164б.** Гарадзішча-2. Мясцовая назва Гарадок. За 4 км на паўночны захад ад вёскі, на мысе над воз. Нешчарда. Пляцоўка авальная, памерам 65×20 м. Вышыня над поймай 25 м. На стрэлцы мыса прасочваюцца рэшткі разаранага культурнага пласта на плошчы 2 га. З паўночнага боку мыса прасочаны рэшткі рова. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся. У 1563 г. тут па загаду Івана Грознага была пабудавана крэпасць «Замак Нешчарда». Спалена ў 1579 г.
*Г. В. Штыхаў.*

**в. Сяляўшчына, Янкавіцкі сельсавет**

**2165. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 33 мірныя жыхары вёскі, жывымі спаленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў снежні 1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2166. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 мірных жыхароў вёскі, расстраляных 9.2.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2167. МАГІЛА САЛАЎЁВА** Івана (гіст.). На могілках. Юны партызан-разведчык атрада імя В. М. Молатава Расонскай брыгады імя І. В. Сталіна І. Салаўёў пры выкананні баявога задання быў схоплены нямецка-фашысцкімі акупантамі і закатаваны. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2168. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. З 1942 г. да лістапада 1943 г. тут дзейнічаў партызанскі аэрадром. З лістапада 1942 г. палёты ў партызанскія зоны Віцебшчыны праводзіў 105-ы асобны гвардзейскі авіяполк ГПФ (спачатку называўся 2-і асобны авіяполк ГПФ). На працягу года праз Сяляўшчынскі аэрадром партызаны атрымалі да 300 т ваеннага грузу, на акупіраваную ворагам тэрыторыю дастаўлена з савецкага тылу амаль 300 чалавек. На самалётах вывозілі ў савецкі тыл параненых і хворых, жанчын, дзяцей, партызанскую пошту. Вясной 1943 г. пры дапамозе авіяпланёрных груп праведзены 2 буйныя планёрна-дэсантныя аперацыі з прыфрантавых аэрадромаў на пасадачныя пляцоўкі на акупіраванай тэрыторыі, у т. л. ў Сяляўшчыне. У аперацыях прымалі ўдзел спецыяльна падрыхтаваныя для палётаў у начны час пілоты-планерысты. У баявых аперацыях вызначыліся лётчыкі А. П. Мамкін, І. Л. Тарасаў, А. В. Жога і інш.

Лётчыкі 105-га гвардзейскага авіяпалка А. П. Мамкін і Дз. П. Кузняцоў здзейснілі подзвіг, ратуючы дзяцей з Полацкага дзіцячага дома. 12.4.1944 г. самалёт з дзецьмі, які пілатаваў А. П. Мамкін, абстралялі нямецкія знішчальнікі. Загарэлася кабіна пілота, аднак ён, рызыкуючы сваім жыццём, здолеў пасадзіць самалёт на сваёй тэрыторыі. А. П. Мамкін загінуў, але дзеці былі выратаваны. У 1966 г. ў гонар мужнасці і гераізму савецкіх лётчыкаў на месцы былога аэрадрома пастаўлены помнік — скульптура лётчыка.



2168. *Помнік на месцы партызанскага аэрадрома.*

*Літ.:* Дегтев В. С. Крылья Белоруссии.— Мн., 1973; Гражданская авиация СССР. 1917—1967.— М., 1968; Якубовский Н. Помощь советского тыла партизанам.— Мн., 1973. *Т. Р. Чуракова.*

**2169. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Уклеенка, Заборскі сельсавет**

**2170. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,6 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахаваны 60 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталях, што дыслацыраваліся ў раёне вёскі ў 1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ушчалёпкі, Расонскі пасялковы Савет**

**2171. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. Пахаваны 60 мірных жыхароў, якіх жывымі спалілі ў лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2172. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі Полацк — Расоны. Пахаваны 74 жыхары в. Велле.

У лютым 1943 г. нямецкія фашысты ўварваліся ў в. Велле, суседнюю з в. Ушчалёпкі. Усім жыхарам было загадана сабрацца ў хаце Прохара Самусёнка на допыт. Прыйшло 77 чалавек, пераважна жанчыны і старыя. Пасля допыту ўсіх адпусцілі дамоў з умовай, што праз 3 гадзіны ўсе разам з дзецьмі з'явяцца на паўторны допыт. Праз 3 гадзіны жыхары вёскі сабраліся зноў. Фашысты выбралі па спісе 74 чалавекі, адвялі іх у калгасны хлеў і спалілі.

У 1965 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Фаміно, Расонскі пасялковы Савет**

**2173. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 70 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў лютым 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2174. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 35 мірных жыхароў в. Гуйды, спаленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Харытонава, Гарбачэўскі сельсавет**

**2175. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, за 0,6 км ад школы. У снежні 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 49 жыхароў вёскі. У 1968 г. на месцы расстрэлу насыпаны Курган Памяці.

**в. Хоцькава, Заборскі сельсавет**

**2176. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на Чорнай Гары. Пляцоўка амаль квадратнай формы (даўжыня бакоў каля 24 м). Месцамі захаваўся культурны пласт 0,1 м. Уваход на гарадзішча з поўдня. Выявіў і абследаваў у 1968 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Шлях (не існуе), Бірузоўскі сельсавет**

**2177. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры былой вёскі. Паха-

ваны 43 мірныя жыхары вёскі, якіх 7.11.1943 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шнітаўка, Заборскі сельсавет**

**2178. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 7 мірных жыхароў, расстраляных у лютым 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Юхавічы, цэнтр сельсавета**

**2179. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2180. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км ад вёскі, на могілках. Пахаваны воін-разведчык Чырвонай Арміі і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2181. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі. 10 курганоў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1971 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**2182. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 6 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Святая Горка. Пахаваны 250 мірных жыхароў Юхавіцкага сельсавета, закатаваных у 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2183. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 101 земляка, якія загінулі ў Вялікую



2172. *Помнік ахвярам фашызму.*

Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Якубова, Клясціцкі сельсавет**

**2184. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны мірныя жыхары, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі ў лютым 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Янкавічы, цэнтр сельсавета**

**2185. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км ад вёскі, уверх па цячэнні р. Дрыса, каля былой в. Крупец, у лесе. Памер пляцоўкі 42×38 м. Абарончыя збудаванні не прасочаны. Адкрылі і даследавалі ў 1962 г. Г. В. Штыхаў і К. П. Шут, абследавала ў 1981 г. Т. С. Скрыпчанка. Знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, датуецца 6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2186. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**2186а.** Курганны могільнік. У літаратуры вядомы пад назвай былой в. Паваліішына. За 2 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Дрыса. 11 насыпаў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 8—12 м. За 200 м ад іх яшчэ 4 круглыя курганы. Адкрыў у 1967 г. і даследаваў 7 насыпаў у 1968 і 1970 гг. Г. В. Штыхаў. Знойдзены трупаспаленні ў ляпных урнах. Могільнік датуецца 6—8 стагоддзямі, адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

**2186б.** Курган. За 4 км на ўсход ад вёскі, на беразе р. Дрыса, каля былой в. Атокі. Захаваўся круглы курган вышынёй да 3 м, дыяметрам 12 м. 2 курганы раскапаў у 1967—69 гг. Г. В. Штыхаў. У адным выяўлены 3 трупаспаленні: у пасудзіне пад насыпам, на грунце і ў насыпе. Знойдзены 19 бронзавых упрыгожанняў — «бляшак-шкарлупак» і рэшткі інш. рэчаў 6—8 стагоддзяў. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; Штыхов Г. В. Археология Полоцкой земли за 50 лет.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1969.

*Г. В. Штыхаў.*




# СЕННЕНСКІ РАЁН

Навасёлкі
Ходцы
Машканы
Застадолле
Падворыца
Белая Ліпа
Стрыгі
Кругляны
Багушэўск
Бярозкі
Запруддзе
Обаль
Канстантова
Лучазарная
Турава
Пожанькі
Студзёнка
СЯННО
Ульянавічы
Алексінічы
Добрына
Шынкава
Будзішча
Вялікі Азярэцк
Нямойта
Леснікова
Янова
Ледневічы
Рулёўшчына
Серкуці
Старая Беліца
Андрэйчыкі
Какоўчына
Літусава
Расна
Нярэйша

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан. Курганы Славы, помнікі зямлянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## XXII. СЯННО

Горад, цэнтр раёна. На беразе воз. Сянно (Сенненскае). За 56 км на паўднёвы захад ад Віцебска, 15 км ад чыгуначнай станцыі Бурбін (на лініі Лепель — Орша). Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Віцебскам, Оршай, Бешанковічамі, Чашнікамі і інш. Аэрапорт.

Горад размешчаны на 2 марэнных узвышшах, падзеленых з поўначы на поўдзень воз. Сянно. Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1-й палавіне 16 ст. як мястэчка ў Віцебскім павеце Вялікага княства Літоўскага. У выніку войнаў Сянно неаднойчы спустошалася, асабліва ў 1535 г. З 1-й палавіны 17 ст. належала магнатам Сапегам, з 2-й палавіны 18 ст.— Агінскім. За возерам, на месцы старажытнага капішча, на ўзвышшы быў замак (існаваў да 18 ст.).

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Сянно ў складзе Расійскай імперыі, з 1773 г. горад, цэнтр павета Магілёўскай губерні. У 1781 г. Сянно атрымала герб: на зялёным полі 2 залатыя касы (у знак багацця сенам). У 1-й палавіне 19 ст. належала графу Серакоўскаму. Працавалі 2 гарбарныя і паташны заводы. У 1805 г. ў горадзе каля 600 дамоў, у 1847 г.— 1730 жыхароў. Пасля пажару 1860 г., які знішчыў амаль усе драўляныя будынкі, пабудаваны з каменю Мікалаеўская саборная царква (1867 г., не збераглася), гандлёвыя рады, млын, галоўныя вуліцы былі забрукаваны. Драўляныя жылыя дамы будавалі ў Тураўскай слабадзе, на поўдні Краснай слабады, у прадмесці Галынка. Паводле перапісу 1897 г. ў горадзе 4,1 тыс. жыхароў (з іх 39,9 % пісьменных), павятовае і прыходскае вучылішчы, 6 дробных прамысловых прадпрыемстваў (12 рабочых). У 1904 г.— 4367 жыхароў, 534 жылыя дамы, 2 бальніцы на 51 месца (4 урачы, 5 фельчараў, 2 акушэркі), 3 пачатковыя школы, у т. л. трохкласнае гарадское вучылішча, 10 прамысловых (16 рабочых) і 6 рамесных прадпрыемстваў, друкарня, бібліятэка, аптэка. Паводле перапісу 1917 г. ў горадзе 4540 жыхароў, 691 гаспадарка.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У жніўні 1918 г. адбыўся левааэраўскі мяцеж; ліквідаваны часцямі Чырвонай Арміі. З 1919 г. Сянно ў складзе Віцебскай губерні РСФСР, з 1924 г. ў БССР, цэнтр Сенненскага р-на Віцебскай акругі (1924—30 гг.), з 1938 — Віцебскай вобл. Паводле перапісу 1939 г.— 4,3 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну 5.7. 1941 г. ў Сянно ўварваліся часці нямецкай 17-й танкавай дывізіі з групы Гудэрыяна. Іх далейшы рух на ўсход за 10—12 км ад горада спынілі воіны 153-й стралковай дывізіі. 6—10.7. 1941 г. каля горада адбылася адна з буйнейшых на пачатку вайны танкавых бітваў, у якой з абодвух бакоў удзельнічала больш за 1500 танкаў. Гэта быў так званы контрудар войск 20-й арміі Заходняга фронту па флангу 3-й танкавай групы нямецкіх войск, які нанеслі 5-ы і 7-ы механізаваныя карпусы пад камандаваннем генерал-маёраў І. П. Аляксеенкі і В. І. Вінаградава. Найбольш упартыя і цяжкія баі разгарнуліся на поўдзень ад горада. 18-ы мотастралковы і 35-ы танкавы палкі ўварваліся ў Сянно. Вораг спешна пакінуў горад, на вуліцах якога засталіся разбітыя танкі, гарматы, аўтамашыны. У выніку контрудара савецкіх войск нямецкія войскі 8 ліпеня былі адкінуты ад Сянна на 30—40 км у бок Лепеля. Але падцягнутыя рэзервы праціўніка (матарызаваны корпус, буйны паветраны дэсант), падтрымка іх авіяцыяй прымусілі нашы войскі адступіць. Адзін з карпусоў апынуўся амаль у поўным акружэнні ворага. На працягу 9 і 10 ліпеня абодва карпусы вялі цяжкія абарончыя баі і толькі паводле загада камандуючага 20-й арміяй адышлі ў раён Оршы. Пазней нямецкі генерал Гудэрыян у сваёй кнізе «Успаміны салдата» пісаў: «...пад Сянно нас моцна білі». Абарончыя баі каля Сянна значна аблегчылі становішча савецкіх войск на Смаленскім напрамку, замарудзілі прасоўванне ворага на ўсход. У час нямецка-фашысцкай акупацыі ў раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (5.4. 1943 г.— 26.6.1944 г.) і ЛКСМБ (11.6. 1942 г.— 26.6.1944 г.), выходзіла газета «Бальшавіцкая трыбуна». 25.6. 1944 г. Сянно вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў воінамі 9-й брыгады конна-механізаванай групы войск пад камандаваннем генерал-лейтэнанта М. С. Асліноўскага.

У Вялікую Айчынную вайну горад моцна пацярпеў. У пасляваенны час адбудаваны, створаны новыя прамысловыя прадпрыемствы, жылыя раёны. Цэнтр горада гістарычна склаўся на



XXII. *Будынак райкома КПБ.*

скрыжаванні асноўных шляхоў з Чашнікаў на Віцебск і з Бешанковіч на Лепель (сучасныя вуліцы Акцябрская, Савецкая, К. Маркса і Свабоды). Найбольш старажытны — раён былой Гандлёвай пл., дзе стаяў будынак кляштара францысканцаў (1803 г.). У пачатку 19 ст. недалёка ад Гандлёвай пл. сфарміраваны новы адміністрацыйны цэнтр. Праект планіроўкі Сянна распрацаваны ў 1968 г. ў Віцебскіх абласных праектных майстэрнях. Паводле яго захавана структура, якая гістарычна склалася, вызначаны перспектывы развіцця. На месцы старога адміністрацыйнага цэнтра сфарміраваны новы. Гандлёвы цэнтр размешчаны на вул. Акцябрскай. Асноўная жыллёвая забудова сканцэнтравана ў раёнах вуліц Назарэнкі, Акцябрскай і інш. Прамысловая зона — у заходняй частцы горада. Прадпрыемствы: малаказавод, ільнозавод, хлебазавод, сталярны цэх камбіната будаўнічых матэрыялаў. Працуюць камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. У горадзе 2 сярэднія, вячэрняя рабочай моладзі, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Ленінская іскра».

Зона адпачынку — на берагах азёр Сянно і Тухінскае.

*Літ.:* Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Богдано-



XXII. *Вуліца Акцябрская.*

вич А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Памятная книжка Виленского учебного округа на 1906—07 учебный год. [Ч. 1].— Вильна, 1906; Страницы героической истории.— Мн., 1968; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3.— Мн., 1953; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3.— Мн., 1961; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии.— Могилев, 1907; Список населенных мест Могилевской губернии.— Могилев, 1910; В памяти народной.— Мн., 1969; Скопа В. Г. Сенно: Историко-экономический очерк.— Мн., 1978; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi.— 3 wyd.— Wilno, б. г.

*М. І. Камінскі, Г. І. Барышаў.*

**2187. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). У цэнтры горада, на рагу вуліц Кастрычніцкай і К. Маркса. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы. Часткова разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. Адноўлены ў 1947—48 гг. (унутраная планіроўка зменена). Цяпер у будынку размешчана адміністрацыйная ўстанова.

Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак накрыты вальмавым дахам. Вызначаецца строгасцю кампазіцыі і стрыманасцю ў дэкаратыўнай апрацоўцы. Дзве гарызантальныя цягі паміж 1-м і 2-м паверхамі праходзяць па ўсім перыметры будынка. Галоўны фасад вылучаны рызалітам, у якім зроблены ўваход, і камбінаваным атыкам. Сцены 1-га паверха расшыты пад «дашчаны» руст, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны на 2-м паверсе галоўнага фасада сандрыкамі і простымі ліштвамі. Пад карнізам — дэнтыкулы.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры з выкарыстаннем элементаў класіцызму. *А. А. Міцянін.*



**2187.** *Адміністрацыйны будынак.*



**2187.** *Адміністрацыйны будынак. План 1-га паверха.*



**2188.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**2188. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку імя 40-годдзя ВЛКСМ. Пахаваны Героі Савецкага Саюза Сяргей Дзмітрыевіч Барадулін, Павел Іванавіч Назарэнка, Цімафей Іванавіч Святлічны — разлік гвардзейскай мінамётнай рэактыўнай установкі («кацюшы»).

26.6.1944 г. батарэя рэактыўных мінамётных установак «кацюша» разам з перадавымі падраздзяленнямі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса пераправілася цераз р. Абалянка і завязала каля в. Кажамякі бой з перавышаючымі сіламі нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У час бою адна з мінамётных установак, у разлік якой уваходзілі камандзір гвардыі сяржант Ц. І. Святлічны, вадзіцель гвардыі старшы сяржант П. І. Назарэнка і наводчык гвардыі радавы С. Дз. Барадулін, была пашкоджана і акружана гітлераўцамі. 6 гадзін стрымлівалі гвардзейцы шалёны націск ворага, знішчылі больш за 500 салдат і афіцэраў, шмат тэхнікі. Загінулі ў гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза ім прысвоена 24.3. 1945 г.

С. Дз. Барадулін нарадзіўся 8.10.1924 г. ў в. Лебедзі Унінскага р-на Кіраўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Да вайны працаваў у калгасе. З чэрвеня 1943 г. на Заходнім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх і 3-м Беларускім франтах, наводчык рэактыўнай мінамётнай установкі. Удзельнічаў у баях за вызваленне Смаленска, Невеля, Гарадка і Сянно. Імем С. Дз. Барадуліна названы вуліцы ў г. Сянно і г. Кіраў.

П. І. Назарэнка нарадзіўся 24.5.1919 г. ў с. Трохсельскае Новакубанскага р-на Краснадарскага краю ў сялянскай сям'і. З 1940 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г., вадзіцель рэактыўнай мінамётнай установкі. Імем П. І. Назарэнкі названа вуліца ў г. Сянно.

Ц. І. Святлічны нарадзіўся 1.5.1917 г. ў с. Святлічнае Залачэўскага р-на Харкаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. На фронце з 1941 г. Імем Ц. І. Святлічнага названа вуліца ў г. Сянно.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліта з надпісам-прысвячэннем. Гл. таксама артыкул № 2221 «Помнік савецкім воінам».

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Крылов Н. И. На главном направлении фронта.— Военно-исторический журнал, 1970, № 7—8.

*В. М. Удальцоў.*

**2189. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. К. Маркса, у скверы. Пахаваны 107 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941 г., а таксама ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

23.6.1944 г. ў першы дзень Віцебска-Аршанскай аперацыі войскі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту прарвалі абарону праціўніка на р. Лучоса. 24.6.1944 г. ў прарыў былі ўведзены войскі конна-механізаванай групы пад камандаваннем генерал-лейтэнанта М. С. Аслікоўскага. У напрамку на Сянно вёў наступленне 3-і гвардзейскі механізаваны корпус гэтай групы. 25 чэрвеня часці 9-й і 8-й гвардзейскіх механізаваных брыгад корпуса вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Савецкія воіны знішчылі тут каля 400 салдат і афіцэраў, 7 танкаў, артылерыйскую батарэю, каля 70 аўтамашын ворага.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Крылов Н. И. На главном направлении фронта.— Военно-исторический журнал, 1970, № 7—8; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Скопа В. Г. Сенно: Историко-экономический очерк.— Мн., 1978. *В. М. Удальцоў.*

**2190. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 1,5 км на паўднёвы захад ад г. Сянно, каля былой в. Горы.

Займае марэннае ўзвышша вышынёй 9—10 м, з захаду і ўсходу абкружана балотам. Пляцоўка памерам 45×55 м. У паўднёвай і паўночнай частках мае невялікія павышэнні, магчыма, рэшткі разараных абарончых валоў, ва ўсходняй — невялікае паніжэнне. Адкрыў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, у 1959 г. раскопкі правадзіў Л. В. Аляксееў, у 1972 г. абследаваў П. Ф. Лысенка. Культурны пласт 0,8 м. Знойдзена ляпная гладкасценная і ганчарная кераміка. Гарадзішча адносіцца да жалезнага веку.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

*П. Ф. Лысенка.*



2189. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2191. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. К. Маркса, каля будынка райкома КПБ. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1966 г.

**2192. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). На вул. К. Маркса, каля будынка райкома КПБ. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1966 г.

**2193. РАДЗІМА ЖАЎРУКА** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Алесь Жаўрук (сапр. Сінічкін Аляксандр Дзмітрыевіч) нарадзіўся 19.8.1910 г. ў сям'і служачага. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў Рагачове. Тут ён вучыўся ў педагагічным тэхнікуме, потым настаўнічаў на Любаншчыне. У 1938 г. скончыў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. Вучыўся ў аспірантуры пры АН БССР. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі, ваенны карэспандэнт армейскай газеты. Першыя вершы надрукаваны ў 1926 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Ручаіны» (1936 г.) і «Дняпро выходзіць з берагоў» (1938 г.). У 1938 г. апублікаваў паэму «Крывёю сэрца», прысвечаную нацыянальна-рэвалюцыйнай вайне ў Іспаніі. Творчасць Алеся Жаўрука вызначалася рамантычнай узнёсласцю, прасякнута аптымізмам і любоўю да роднага краю. Пісаў для дзяцей: паэмы «Пра майго таварыша» і «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» (1939 г., з А. Ушаковым). Сааўтар лібрэта аперэты «Зарэчны барок» (з А. Ушаковым). Загінуў Алесь Жаўрук 23.8.1942 г. ў баі пад Сталінградам. Выдадзены зборнік «Выбранае» (1960 г.). *М. М. Казлоўская.*



2194. *Курганны могільнік. План.*

**в. Адамава, Алексініцкі сельсавет**

**2194. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія магілы. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак, у лесе, побач з дарогай. 16 курганоў вышынёй да 2 м, дыяметрам да 10 м, зараслі лесам. Выявіў у пачатку 20 ст. К. Ц. Анікіевіч, абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Лт.:* Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии.— Могилев, 1907.

**в. Алексінічы, цэнтр сельсавета**

**2195. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 138 воінаў і 73 партызаны, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры разгроме групоўкі нямецка-фашысцкіх войск у раёне г. п. Багушэўск. Сярод пахаваных — воіны 144-й і 371-й стралковых дывізій, 2-й гвардзейскай танкавай брыгады 5-й арміі і партызаны атрада імя А. Неўскага брыгады 1-й імя К. С. Заслонава. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**г. п. Багушэўск,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**2196. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Вакзальная, у скверы. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны са сцягам і вянком.



2196. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



2197. *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан.*

**2197. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы. Пахаваны 91 воін і партызан, якія загінулі 24—25.6.1944 г. пры разгроме групоўкі нямецка-фашысцкіх войск у раёне г. п. Багушэўск. Сярод пахаваных — воіны 215-й і 144-й стралковых дывізій, 153-й і 2-й гвардзейскай танкавых брыгад 5-й арміі 3-га Беларускага фронту. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына і падлетак.

**2198. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках б. вёскі Кароліна. Пахаваны 132 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2199. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках б. вёскі Кароліна. Пахаваны 24 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2200. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка раённай бальніцы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**2201. ПОМНІК У ГОНАР ВОЙСК 20-й АРМІІ** (гіст.). На Цэнтральнай пл.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны савецкія войскі вялі жорсткія баі з пераважаючымі сіламі ворага. 6—10.7.1941 г. часці 20-й арміі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта П. А. Курачкіна нанеслі контрудар з раёна Багушэўска ў напрамку Сянно—Лепель па флангу 3-й танкавай групы нямецкіх войск. У контрудары ўдзельнічалі 5-ы (камандзір генерал-

маёр І. П. Аляксеенка) і 7-ы (камандзір генерал-маёр В. І. Вінаградаў) механізаваныя корпусы. У выніку ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў быў вызвалены г. Сянно. Да 8 ліпеня часці 5-га і 7-га корпусаў разграмілі 2 нямецкія матарызаваныя палкі, прасунуліся на 30—40 км у напрамку Лепеля. Упартыя баі разгарэліся на поўдзень ад Сянна. 10 ліпеня савецкія войскі адышлі ў раён Оршы.

У 1964 г. ў памяць аб контрудары войск 20-й арміі ўстаноўлена стэла.

*Літ.:* Великая Отечественная война Советского Союза. 1941—1945: Краткая история.— 2 изд.— М., 1970; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 2.— М., 1961; Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983; Бутков В. Контрудар 5-го механизированного корпуса на Лепельском направлении (6—11 июля 1941 года).— Военно-исторический журнал, 1971, № 9. *М. К. Кошалеў.*

**в. Белая Ліпа, цэнтр сельсавета**

**2202. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**2203. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1969 г.

**в. Берашова, Ходцаўскі сельсавет**

**2204. КУРГАН** (археал.). За 0,8 км на захад ад вёскі. Вышыня 1,7 м, дыяметр 9 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Будзішча, Нямойтаўскі сельсавет**

**2205. КУРГАН** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі. Вышыня 2 м, дыяметр 10—12 м. Насып здзірванелы, захаванасць добрая. Выявіў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка.



2198. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



2201. *Помнік у гонар войск 20-й арміі.*

**в. Буй, Нямойтаўскі сельсавет**

**2206. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАНЫ** (археал.).

**2206а.** Курганны могільнік. За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе. Захаваліся 4 курганы (адзін на ўзлессі, тры — за 0,5 км на захад ад яго, ва ўрочышчы Доўгая Пожня) вышынёй 2,3 м, дыяметрам 12 м. Адзін курган вышынёй 2,3 м, даўжынёй 18 м, шырынёй 6 м.

**2206б.** Курган-1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Рачыца. Вышыня 1,2 м, дыяметр 8 м.

**2206в.** Курган-2. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Маханіца. Вышыня 1,2 м, дыяметр 8 м. Курганы і могільнік выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Вароніна, Расненскі сельсавет**

**2207. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магілах пастаўлены абеліск, устаноўлена 10 надмагілляў.

**в. Воўсішча, Беліцкі сельсавет**

**2208. РАДЗІМА МАЦЮШОВА** Аляксея Дзмітрыевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Дз. Мацюшоў нарадзіўся 8.3.1916 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Пасля сканчэння школы працаваў настаўнікам у в. Латыгаль. З 1937 г. ў Чырвонай Арміі. Скончыў у 1940 г. Харкаўскае ваеннае вучылішча пагранвойск. У Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся ў баях пры вызваленні Смаленшчыны. У верасні 1943 г. ў час наступлення ў раёне вёсак Георгіеўскае і Дзмітракі начальнік штаба палка маёр А. Дз. Мацюшоў з узводам аўтаматчыкаў і 2 узводамі 45-міліметровых гармат зайшоў у тыл ворагу і завязаў бой, у выніку якога знішчана каля 200 гітлераўцаў, захоплены 4 варожыя мінамёты, 27 кулямётаў, 18 аўтамашын, 3 рацыі і інш. Загінуў А. Дз. Мацюшоў 19.9.1943 г. ў баі. Пахаваны ў г. Дзямідаў Смаленскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.6.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Дзямідаве, імя героя прысвоена Латыгальскай школе на радзіме.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**в. Вялікі Азярэцк, Ульянавіцкі сельсавет**

**2209. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Янаўскі Лес. 20 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 10—15 м. Насыпы здзірванелыя, заraслі лесам. Каля падножжа вялікіх курганоў прасочваюцца паўкруглыя раўкі. Выявіў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**2210. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, насупраць будынка школы. На ўшанаванне памяці 81 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Галоўск, Запруддзеўскі сельсавет**

**2211. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.). Вядомы пад назвай Крывіна.

**2211а.** Паселішча-1. За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, на паўднёва-ўсходнім краі выспы Ворлева. Пры асушэнні балота прарэзана меліярацыйнымі канавамі. Культурны пласт з пяску, раслінных і драўняных рэшткаў перакрываецца торфам. Выявіў у 1934 г. і даследаваў у 1934, 1939 гг. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1961—63 гг. П. А. Прыбыткін, у 1966 г. М. М. Чарняўскі. Даследавана 510 м² плошчы. Вылучаны ніжні і верхні гарызонты. У ніжнім знойдзены нешматлікія фрагменты гладкасценнай керамікі з разрэджанымі арнаментамі, утворанымі насечкамі, грабеньчатымі адбіткамі, рознымі плыткімі кропачкамі, драўняны вугаль, крамянёвыя і касцяныя прылады працы. Датуецца 2-й палавінай 3-га тысячагоддзя да н. э. У верхнім гарызонце, які датуецца 1-й палавінай 2-га тысячагоддзя да н. э. і адносіцца да позняга неаліту і ранняга бронзавага веку, знойдзены: рэшткі драўляных жытлаў; шматлікія фрагменты арнаментаванай шчыльнымі насечкамі, грабеньчатымі адбіткамі, тычкамі, адбіткамі шнура, пракрэсленымі рысамі керамікі паўночнабеларускай культуры; касцяныя і рагавыя прылады працы — праколкі, наканечнікі стрэл, сякеры, долаты і інш.; нешматлікія крамянёвыя прылады; упрыгожанні з бурштыну, з касцей і зубоў жывёл.

**2211б.** Паселішча-2. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на ўсходнім

краі ўрочышча Ворлева. Выявіў і даследаваў (25 м² плошчы) у 1963 г. П. А. Прыбыткін, даследаваў (55 м² плошчы) у 1980—81 гг. Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,25—0,4 м залягаў пад пластом торфу таўшчынёй 0,2—1 м. Знойдзены крамянёвыя і касцяныя прылады працы і кераміка нарвенскай і паўночнабеларускай культур (канец 3-га — пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2211в.** Паселішча-3. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, абапал магістральнага канала (выпрастанае рэчышча р. Крывінка), на Крывінскім тарфяніку. Плошча каля 0,3 га. Выявіў у 1978 г. і даследаваў (81 м² плошчы) у 1978—79 гг. Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт каля 0,8 м. Знойдзены ляпная арнаментаваная кераміка, крамянёвыя скрабкі, праколкі, трохвугольныя наканечнікі стрэл, каменная свідраваная ромбападобная сякера, прылады працы з рогу і косці (цёслы, шылы, наканечнікі стрэл), упрыгожанні з косці і бурштыну, берасцяныя паплаўкі. Датуецца пачаткам 2-га тысячагоддзя да н. э., адносіцца да паўночнабеларускай культуры (позні неаліт і ранні бронзавы век).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Белорусском Поозерье.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980; яго ж. Исследование памятников неолита и бронзы Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983; Чернявский М. М. Исследование неолитических поселений Кривинского торфяника.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1969.

*Э. М. Зайкоўскі, М. М. Чарняўскі.*

**в. Гарнакі, Ульянавіцкі сельсавет**

**2212. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2209.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Гарывец, Запруддзеўскі сельсавет**

**2213. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 49 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Забараўе, Обальскі сельсавет**

**2214. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 39 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Задарожжа, Машканскі сельсавет**

**2215. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2216. КУРГАН** (археал.). За 4,5 км на поўнач ад вёскі, у хмызняку. Вышыня насыпу 2 м, дыяметр 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Зазер'е, Ульянавіцкі сельсавет**

**2217. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі, у лесе, па дарозе ў в. Ульянавічы. Захаваліся 3 насыпы вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5—6 м, здзірванелыя, зараслі лесам. Паводле звестак 1873 г. былі 22 курганы. Абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Запаветная, Багушэўскі сельсавет**

**2218. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На тэрыторыі дзіцячага санаторыя. Пахаваны 132 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Заполле, Беліцкі сельсавет**

**2219. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі на тэрыторыі раёна ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Застадолле, Машканскі сельсавет**

**2220. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 46 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях пры вызваленні вёскі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2224.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**в. Кажамякі, Расненскі сельсавет**

**2221. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пастаўлены ў 1957 г. на месцы гібелі Герояў Савецкага Саюза С. Дз. Барадуліна, П. І. Назарэнкі і Ц. І. Святлічнага. Гл. артыкул № 2188 «Брацкая магіла савецкіх воінаў».

**в. Казлоўка, Нямойтаўскі сельсавет**

**2222. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,4 км ад паўднёва-ўсходняй ускраіны вёскі, каля дарогі на Сянно. Пахаваны 800 мірных грамадзян. У першыя дні акупацыі нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі ў г. Сянно канцлагер. 31.12.1941 г. гітлераўцы вывелі вязняў, сярод якіх былі жанчыны, дзеці і старыя, за горад і каля в. Казлоўка расстралялі. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Какоўчына, цэнтр сельсавета**

**2223. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Канстантова, Обальскі сельсавет**

**2224. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст., маст.). Каля школы. Пахаваны 28 савецкіх воінаў, што загінулі 25.6.1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 277-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту. Тут жа пахаваны партызан брыгады 1-й імя К. С. Засло-



2231. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

нава М. Ф. Куксёнак, які загінуў у баі супраць гітлераўскіх карнікаў у пачатку жніўня 1942 г.

У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. І. Краўчанка, арх. Ю. Казакоў; бетон, мармуровая крошка; агульная вышыня 6 м). На пастаменце скульптурныя фігуры жанчыны, што застыла ў жалобным маўчанні, і воіна ў паходнай форме. Мадэліроўка форм абагульненая.

*Ф. В. Барысевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**2225. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 238 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены 5 стэл з імёнамі загінуўшых.

**2226. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1970 г.

**в. Капланы, Белаліпскі сельсавет**

**2227. КУРГАН** (археал.). За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў г. Сянно, на сучасных могілках. Вышыня насыпу 1,1 м, дыяметр 10 м. Выявіў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Каралі, Беліцкі сельсавет**

**2228. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія магілы. За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе, абапал дарогі Сянно — в. Старая Беліца. 3 насыпы вышынёй 1,2—1,8 м, дыяметрам 8—13 м. Курганы здзірванелыя, зараслі лесам, адзін пашкоджаны. Выявіў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кімейка, Алексініцкі сельсавет**

**2229. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія магілы. Каля вёскі, ва ўрочышчы Кімейскі Бор. 8 насыпаў вышынёй 1,2—2,3 м, дыяметрам 10—15 м размешчаны кампактнай групай на плошчы 40×150 м, зараслі лесам. Асобна каля дарогі ў вёску знаходзіцца яшчэ адзін курган. Каля асновы захаваліся рэшткі раўкоў. Выявіў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Копцы, Студзёнкаўскі сельсавет**

**2230. КУРГАН** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, сярод поля. Вышыня 2 м, дыяметр 10 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Латыгаль, Ульянавіцкі сельсавет**

**2231. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля клуба. Пахаваны 21 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ледневічы, Какоўчынскі сельсавет**

**2232. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчыную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2239. *Курганны могільнік. План.*



2243. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2233. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Ледневічы». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Ліпна, Ходцаўскі сельсавет**

**2234. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі, на месцы былой в. Марозаўка. Пахаваны 28 жыхароў в. Марозаўка, якіх 22.8.1942 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Літусава, Какоўчынскі сельсавет**

**2235. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 146 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лугінавічы, Белаліпскі сельсавет**

**2236. РАДЗІМА ЗАБЛОЦКАГА** Тадэвуша (гіст.).

Польскі паэт і рэвалюцыянер Т. Заблоцкі (Лада-Заблоцкі) нарадзіўся 27.8.1811 г. Вучыўся ў Віцебскім базыльянскім вучылішчы і гімназіі, на літаратурным аддзяленні Маскоўскага універсітэта (з 1831 г.), дзе пасябраваў з В. Р. Бялінскім. У Маскве заснаваў нелегальнае таварыства аматараў польскай літаратуры, якое вяло рэвалюцыйную работу на Беларусі, распаўсюджвала вершы дзекабрыстаў. За гэта выключаны з універсітэта, у 1833 г. арыштаваны і зняволены ў Віцебскую турму.



2245. *Помнік І. І. Камінскаму.*

У 1837 г. прыгавораны да 22 гадоў ссылкі на Каўказ, дзе ў 1847 г. памёр. У 1845 г. ў Пецярбургу Р. Падбярэскі выдаў на польскай мове зборнік твораў Т. Заблоцкага «Паэзія», напісаных пераважна на беларускім матэрыяле (апісальная паэма «Ваколіцы Віцебска», элегіі «Да Дзвіны», «Да Лучосы», «Вілія» і інш.). Пісаў таксама вершы на рускай мове, перакладаў на польскую мову творы рускіх, англійскіх, французскіх і інш. паэтаў.
*А. І. Мальдзіс.*

**в. Лука, Запруддзеўскі сельсавет**

**2237. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія магілы. За 0,25 км на поўнач ад вёскі, на ўсходнім беразе Багданаўскага возера, на ўскрайку лесу. 3 курганы вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам 10—15 м, за 25—30 м адзін ад аднаго. Насыпы паўсферычныя, крутабокія, добрай захаванасці, зараслі хмызняком, лесам. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Лучазарная, Багушэўскі сельсавет**

**2238. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малы Азярэцк, Ульянавіцкі сельсавет**

**2239. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовыя назвы Балваны, Французскія магілы. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Камуна, на ўсходнім беразе воз. Маеўскае. У літаратуры вядомы пад назвай былой в. Вядзец. Больш за 50 курганоў вышынёй 2—3 м, дыяметрам 5—15 м. Частка іх размешчана на полі, большасць — у хмызняку. Курганы крутабокія, здзірванелыя, зараслі хмызняком і драбналессем. Захаванасць добрая, на полі абворваюцца. Даследаваў у 1893 г. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Е. Р. Раманаў раскапаў 5 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены ляпныя і ганчарныя гаршкі, у адным насыпе (з трупаспаленнем) дырхем 914 г. дынастыі Саманідаў, паясны набор і гаршчок. Могільнік адносіцца да 10—13 стагоддзяў, належаў крывічам.

Знаходкі захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии.— Могилев, 1907; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Маргойцы, Беліцкі сельсавет**

**2240. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія магілы. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, за 0,25 км на поўдзень ад былога Масютова хутара, абапал дарогі. 4 курганы: адзін падоўжаны вышынёй 2 м, шырынёй 7 м, даўжынёй 12 м; 3 паўсферычныя насыпы вышынёй 2 м, дыяметрам 10 м. Пашкоджаны ямамі. Выявіў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Марозаўка (не існуе), Какоўчынскі сельсавет**

**2241. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Марозаўка знаходзілася за 2 км на поўнач ад в. Ліпна. Раніцай 22.8.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, сагналі жыхароў (28 чалавек) у хлеў і падпалілі. Карнікі абрабавалі і спалілі ўсе 11 двароў. Жывымі засталіся 4 вяскоўцы, якія на час расправы з мірнымі жыхарамі не былі ў вёсцы. Вёска не адрадзілася. У 1976 г. на яе месцы пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Масоры, Машканскі сельсавет**

**2242. РАДЗІМА КАМІНСКАГА** Івана Іларыёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. І. Камінскі нарадзіўся 8.11.1919 г. ў в. Мяккія (у 1939 г. перанесена ў в. Масоры) у сям'і селяніна. Член КПСС з 1946 г. Скончыў школу лётчыкаў у г. Энгельс (1941 г.), Рэспубліканскую партшколу пры ЦК КП(б)Б (1948 г.) і Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС (1963 г.). У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Заходнім і 3-м Беларускім франтах, удзельнік бітвы пад Масквой, вызвалення Арлоўскай, Смаленскай абласцей, Беларусі, Літвы, Польшчы, баёў ва Усходняй Прусіі. Зрабіў 239 баявых вылетаў, сфатаграфаваў каля 27 тыс. км$^{2}$ варожай абароны, многія ваенныя аб'екты. Намеснік камандзіра эскадрыллі разведвальнага авіяпалка 1-й паветранай арміі старшы лейтэнант І. І. Камінскі першым у палку праклаў шлях на Кёнігсберг, тройчы разведваў яго і бамбіў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6. 1945 г. Пасля вайны на партыйнай і савецкай рабоце ў Мінску.

Памёр І. І. Камінскі 6.10.1974 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. У 1981 г. ў в. Машканы каля школы, у якой вучыўся І. І. Камінскі, пастаўлены помнік.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.



2246. *Помнік А. К. Гараўцу.*

**в. Машканы, цэнтр сельсавета**

**2243. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, на ўзвышшы. Пахаваны 115 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2244. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГАРАЎЦУ** Аляксандру Канстанцінавічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1968 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза А. К. Гараўца, які вучыўся ў Машканскай школе.

**2245. ПОМНІК КАМІНСКАМУ** Івану Іларыёнавічу (гіст.). Каля сярэдняй школы. У 1981 г. на ўшанаванне памяці земляка, Героя Савецкага Саюза І. І. Камінскага, які вучыўся ў гэтай школе, устаноўлены бюст. Гл. артыкул № 2242 «Радзіма Камінскага Івана Іларыёнавіча».

**2246. РАДЗІМА ГАРАЎЦА** Аляксандра Канстанцінавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. К. Гаравец нарадзіўся 27.2.1915 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У 1935 г. скончыў Ульянаўскую лётную школу. У Чырвонай Арміі з 1932 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1942 г. на Паўночна-Каўказскім і Варонежскім франтах. Зра-

біў 74 баявыя вылеты, знішчыў 11 варожых самалётаў, 40 аўтамашын, 24 павозкі. Намеснік камандзіра эскадрыллі гвардыі старшы лейтэнант А. К. Гаравец вызначыўся на Курскай дузе. 6.7.1943 г. ўступіў у бой з 20 бамбардзіроўшчыкамі праціўніка і збіў 9. Загінуў у гэтым баі. 28.9.1943 г. А. К. Гараўцу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імя прысвоена Віцебскаму аэраклубу, школе ў Машканах, імем героя названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Багушэўску і іншых населенных пунктах, саўгас у Сенненскім р-не. У 1981 г. на ўшанаванне памяці А. К. Гараўца каля школы, у якой ён вучыўся, пастаўлены бюст.

*Літ.:* Мень Г. История одного подвига.— Мн., 1964; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. М. Казлоўская.*

**в. Машчоны, Белаліпскі сельсавет**

**2247. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, побач з будынкам філіяла Сенненскага камбіната бытавога абслугоўвання. Пахаваны 15 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2248. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Бярозка. Займае круглаваты марэнны ўзгорак, які ўзвышаецца на 3—4, месцамі на 6 м над узроўнем ракі. Пляцоўка памерам 25×30 м з паўднёвага боку моцна падмыта і разбураецца цячэннем ракі. Абарончыя збудаванні не захаваліся. Уся пляцоўка гарадзішча занята могілкамі. Вядома з 1873 г., даследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Знойдзена ляпная гладкасценная кераміка з жарствой у сценках пасудзін. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Навасёлкі, Багушэўскі сельсавет**

**2249. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 117 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2250. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). Мясцовыя назвы В а л а т о ў к і, К у р г а н ы, Ф р а н ц у з с к і я м а г і л ы.

**2250а.** М о г і л ь н і к - 1. За 3,5 км на поўнач ад вёскі, на заходнім беразе воз. Бароўна, у лесе, ва ўрочышчы Бор. 2 курганы вышынёй да 1,4 м, дыяметрам да 10 м, зараслі лесам.

**2250б.** М о г і л ь н і к - 2. За 4,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 3 насыпы вышынёй да 1,2 м і дыяметрам да 10 м, зараслі лесам.



2254. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2250в.** М о г і л ь н і к - 3. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўсходнім беразе Ходцаўскага воз. Адзін курган вышынёй 1,2 м, дыяметрам 12 м; за 0,5 км на поўдзень ад яго — другі насып вышынёй 1,5 м, дыяметрам 15 м.

Вядомы з пачатку 20 ст., абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии.— Могилев, 1907.

*П. Ф. Лысенка.*

**в. Некрашова, Какоўчынскі сельсавет**

**2251. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новае Сяло, Студзёнкаўскі сельсавет**

**2252. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новае Сяло, Ульянавіцкі сельсавет**

**2253. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,2 км на поўнач ад вёскі, за 0,2 км ад правага берага р. Свяча. Займае паўночную частку высокага марэннага астанца. Пляцоўка авальная, памерам 74×30 м, з паўночнага і паўднёвага бакоў умацавана 2 валамі вышынёй каля 2 м. Гарадзішча здзірванелае, зарасло лесам. Выявіў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Нямойта, цэнтр сельсавета**

**2254. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Обаль, цэнтр сельсавета**

**2255. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На тэрыторыі біяхімічнага завода. Пахаваны воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паграбёнка, Багушэўскі сельсавет**

**2256. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). Каля вёскі, на аўтамагістралі Кіеў — Ленінград. Пабудавана ў канцы 1840-х гадоў паводле так званага ўзорнага праекта станцыйных дамоў трэцяга разраду, зацверджанага ў 1846 г. Зберагліся: будынак паштовай станцыі, флігель для ямшчыкоў, свіран, хлеў, частка стайні (перабудавана) і цагляная агароджа, у якой былі 2 сіметрычна размешчаныя праезды (адзін з іх замураваны). Цяпер тут размешчана лінейная дарожная служба.

Асноўны будынак — станцыйны дом, павернуты галоўным фасадам да дарогі. Разам з агароджай ён стварае франтальную кампазіцыю. Дом прамавугольны ў плане, з восевым падоўжным размяшчэннем двухкамер-




2256. *Паштовая станцыя. План: 1 — станцыйны дом; 2 — флігель для ямшчыкоў; 3 — хлеў; 4 — стайня; 5 — свіран.*

ных сенцаў. Па баках іх былі пакоі для праезджых і кватэра наглядчыка. Аконныя праёмы і ўваходны партал стральчатыя. Над уваходам — невялікая навісь, якую падтрымліваюць літыя чыгунныя кранштэйны. Сцены будынка раскрапаваны прамавугольнымі філёнгамі, дэкарыраваны стральчатымі нішамі. Слупы агароджы з востраканцовымі завяршэннямі.

У архітэктуры станцыйнага дома выкарыстаны элементы несапраўднай готыкі.

*Літ.:* Сементовский А. М. Сборник в память первого русского статистического съезда 1870 г.— СПб., 1872; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии.— Могилев, 1884; Гельфер А. Очерк развития дорожного и мостостроительного дела в ведомстве путей сообщения. Т. 2.— СПб., 1911.
*А. С. Сардараў.*

**в. Папоўка, Нямойтаўскі сельсавет**

**2257. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 75 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны.

**в. Пасад, Багушэўскі сельсавет**

**2258. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г.



2256. *Станцыйны дом. Галоўны фасад.*



2256. *Станцыйны дом. План.*



2257. *Помнік землякам.*

пастаўлены абеліск з надпісам-прысвячэннем.

**в. Пожанькі, Запруддзеўскі сельсавет**

**2259. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя А. А. Жданава. На ўшанаванне памяці 143 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Прыветак, Ульянавіцкі сельсавет**

**2260. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У пачатку мая 1944 г. ў вёску ўварваўся нямецкі карны атрад. Фашысты абрабавалі жыхароў, расстралялі 40 чалавек, у т. л. старых, дзяцей і жанчын, 74 двары спалілі. У 1970 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1965. *М. К. Кошалеў.*

**в. Пурплева, Рассненскі сельсавет**

**2261. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 35 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса конна-механізаванай групы (камандзір генерал-лейтэнант М. С. Аслікоўскі), што загінулі ў баях супраць гітлераўцаў 25.6.1944 г. пры вызваленні раёна. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пустынкі, Студзёнкаўскі сельсавет**

**2262. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 51 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў абарончых баях 1941 г., а таксама пры вызваленні раёна ў чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза гвардыі лейтэнант Міхаіл Аляксандравіч Анiскін.

М. А. Аніскін нарадзіўся 18.11. 1922 г. ў пас. Косціна-Возера Іглінскага р-на Башкірскай АССР. Кандыдат у члены КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1941 г. Скончыў Саратаўскае танкавае вучылішча ў 1943 г. На фронце з жніўня 1943 г. Камандзір танка гвардыі лейтэнант М. А. Аніскін вызначыўся пры вызваленні Віцебшчыны. 25.6.1944 г. ў час разведкі каля в. Студзёнка Сенненскага р-на экіпаж танка выявіў калону працўніка, якую прыкрывалі самаходная гармата і некалькі пушак. Трапным агнём танкісты знішчылі гармату, у ходзе бою, які працягваўся больш за гадзіну, 60 аўтамашын і больш як 75 салдат і афіцэраў ворага. У гэтым баі М. А. Аніскін загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г. Яго імя прысвоена Пустынкаўскай сярэдняй школе, на месцы гібелі, у в. Студзёнка, пастаўлены абеліск.

У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Колядин Ф. «Считайте меня коммунистом!».— У кн.: Славные сыны Башкирии. Уфа, 1968, кн. 3; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*М. К. Кошалеў.*

**в. Расна, цэнтр сельсавета**

**2263. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса. Пахаваны 137 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2263. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*




2265. *Помнік землякам.*

**2264. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дзядоўка, на ўзлессі. 4 насыпы вышынёй 1,8—2,5 м, дыяметрам 10—12 м, зараслі дрэвамі. Выявіў у 1907 г. К. Ц. Анікіевіч, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии.— Могилев, 1907.

**в. Рулёўшчына, Беліцкі сельсавет**

**2265. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля канторы саўгаса імя А. Ф. Данукалава. На ўшанаванне памяці 58 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Савінічы, Студзёнкаўскі сельсавет**

**2266. КУРГАН** (археал.). На могілках. Вышыня 1 м, дыяметр — 8 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Ског, Багушэўскі сельсавет**

**2267. ПОМНІК ГАРАЎЦУ** Аляксандру Канстанцінавічу і **ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля канторы саўгаса імя А. К. Гараўца.

У 1970 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза А. К. Гараўца, імя якога носіць саўгас, і землякоў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах і ў партызанскай барацьбе, а таксама расстраляных акупантамі, пастаўлены помнік (скульпт. У. Папсуеў; бетон, вышыня бюста 1 м, пастамента 4 м).

Вертыкальная вось паплечнага бюста А. К. Гараўца сумешчана з дыягапальнай воссю пастамента. Галава злёгку павернута да левага пляча, позірк скіраваны ўдалячынь. Энергічнай пластыкай падкрэслены партрэтныя рысы адважнага лётчыка — выпуклы лоб, шырокія дугападобныя бровы, прамы нос, злёгку выцягнуты падбародак. Расшпілены каўнер кашулі, ссунуты назад шлем і ўзвіхраныя валасы вылеплены мякка і абагульнена. Абапал помніка — 2 стэлы з імёнамі 178 загінуўшых землякоў.

*Г. М. Ярмоленка.*

**в. Слабада, Обальскі сельсавет**

**2268. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, у хваёвым лесе, ва ўрочышчы Гірына. 8 курганоў вышынёй да 2 м і дыяметрам да 10 м, здзірванелыя, зараслі лесам. Выявіў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Старая Беліца, Беліцкі сельсавет**

**2269. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 39 воінаў і партызан, якія загінулі ў Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса конна-механізаванай групы (камандзір генерал-лейтэнант М. С. Аслікоўскі), што загінулі 25.6.1944 г. пры вызваленні раёна. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры жанчыны і сувораўца.

**2270. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,25 км на ўсход ад вёскі, на поўдзень ад павароту на станцыю Бурбін. Займае высокі астанец. Пляцоўка 17×12 м, па перыметры абкружана валам вышынёй 3—4 м. За 20 м на поўдзень ад гарадзішча — паўкруглы вал вышынёй да 4 м, які прыкрываў уезд. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1892 г. Е. Р. Раманаў, у 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.




2267. *Помнік А. К. Гараўцу і землякам.*



2269. *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан.*

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX археологического съезда. Вильна, 1893; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *П. Ф. Лысенка.*

**2271. СЯДЗІБА, МЕСЦА ПРАЦЫ ЯНКІ КУПАЛЫ** (архіт., гіст.). У цэнтры вёскі, на ўзвышшы.

Сядзібны комплекс сфарміраваны ў 2-й палове 19 ст., уключае мураваны дом, пейзажны парк з сажалкай і гаспадарчую зону (склад, свіран, спіртзавод, спіртасховішча). Цяпер у сядзібе размешчана школа механізатараў.

Выцягнуты па падоўжнай восі сядзібны дом складаецца з двухпавярховага цэнтральнага аб'ёму і 2 бакавых аднапавярховых крылаў з рызалітамі. Галоўны ўваход вылучаны 4 падвойнымі паўкалонамі, якія на 2-м паверсе пераходзяць у лапаткі. Асноўны аб'ём і рызаліты завершаны франтонамі з круглымі дахавымі вокнамі. Цэнтральная вось заходняга (дваровага) фасада падкрэслена двухпавярховым паўкруглым аб'ёмам, абапал якога — рызаліты. Да паўднёвага тарца будынка прымыкае васьмігранная двух'ярусная вежа з асобным уваходам у выглядзе двухкалоннага порціка і шырокай лесвіцай, да паўночнага — нізкі прамавугольны аб'ём. Плоскасці фасадаў і вежы прарэзаны высокімі прамавугольнымі вокнамі. Рызаліты і першы паверх вежы апрацаваны рустам. Будынак накрыты двухсхільным дахам. Сістэма размяшчэння пакояў калідорная.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

Тут працаваў народны паэт Беларусі Янка Купала. З снежня 1903 г. ён служыў у канторы маёнтка памешчыка К. Свяцкага, потым прызначаны малодшым прыказчыкам. Вясной 1904 г. ў сувязі з хваробай маці пакінуў службу. На ўшанаванне памяці Я. Купалы на будынку былога сядзібнага дома ў 1972 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*В. Б. Караткевіч, Н. С. Ліхтаровіч.*

**в. Студзёнка, цэнтр сельсавета**

**2272. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,5 км налева ад дарогі на Обаль, на берагавой тэрасе ўсходняга берага воз. Бярозаўскае. 2 насыпы вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам 8—10 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**2273. ПОМНІК АНІСКІНУ** Міхаілу Аляксандравічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета, у парку. Пастаўлены ў 1970 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза М. А. Аніскіна, які загінуў 25.6.1944 г. пры разгроме калоны нямецка-фашысцкіх войск каля в. Студзёнка. Гл. артыкул № 2262 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**в. Сукрамна, Нямойтаўскі сельсавет**

**2274. КУРГАНЫ** (археал.).

**2274а.** Курган-1. За 0,8 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сукрамненскі Бор. Вышыня 1,2 м, дыяметр 9 м.

**2274б.** Курган-2. За 0,4 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Намарча, у полі каля дарогі. Вышыня 1,1 м, дыяметр 8 м.

**2274в.** Курган-3. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на гары за могілкамі. Вышыня 2 м, дыяметр 12 м.

Выявіў курганы ў канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка.



2271. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



2271. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*




2271. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2 — спіртзавод; 3 — спіртасховішча; 4 — склад; 5 — кароўнік; 6 — сажалка.*




2271. *Мемарыяльная дошка на доме, дзе жыў Я. Купала.*



2271. *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*



2271. *Сядзіба. Склад.*

**в. Ульянавічы, цэнтр сельсавета**

**2275. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 57 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2276. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля ўсходняй ускраіны вёскі, злева ад дарогі ў г. Сянно. 3 курганы вышынёй 0,6—1,2 м, дыяметрам 7—9 м. Выявіў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**2277. РАДЗІМА КАВАЛЕНКІ** Сяргея Анісімавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. А. Каваленка нарадзіўся 27.11.1921 г. ў сям'і свяшчэнніка. Член ВЛКСМ. Працаваў слесарам у Магілёве. У Чырвонай Арміі з 1944 г. Вызначыўся ў час наступлення савецкіх войск каля г. Шургаст (Германія). 1.2.1945 г. рота, у якой служыў радавы С. А. Каваленка, атакавала пазіцыі праціўніка. Кулямётны агонь варожага дзота перакрываў шлях. У рашучы момант бою С. А. Каваленка закрыў сваім целам амбразуру дзота. Натхнёныя подзвігам баявога таварыша салдаты кінуліся ў атаку, авалодалі важнай пазіцыяй праціўніка. 10.4.1945 г. С. А. Каваленку прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названа вуліца ў Магілёве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Утрылава, Алексініцкі сельсавет**

**2278. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 4 км на поўдзень ад вёскі, на месцы былой в. Купаваць. Пахаваны 52 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**2279. МЕСЦА ГІБЕЛІ ЗАСЛОНАВА** Канстанціна Сяргеевіча (гіст.). За 4 км на поўдзень ад вёскі.

У лістападзе 1942 г. фашысты накіравалі ў Сенненскі р-н карны атрад. 14 лістапада ў в. Купаваць (цяпер не існуе) адбыўся няроўны бой 28 партызан пад камандаваннем К. С. Заслонава супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, які працягваўся 4 гадзіны. Мужна змагаліся партызаны. Яны знішчылі 150 гітлераўцаў і шмат паранілі, але і самі панеслі цяжкія страты. У баі гераічна загінулі К. С. Заслонаў і яго ад'ютант Я. В. Коржаць.



2278. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У 1964 г. на месцы гібелі Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава і яго баявых таварышаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— М., 1973.

**в. Ходцы, цэнтр сельсавета**

**2280. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля возера. Пахаваны 56 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 63-й стралковай дывізіі і 153-й танкавай брыгады 5-й арміі 3-га Беларускага фронту, што загінулі (26.6. 1944 г.) пры разгроме вайсковых падраздзяленняў праціўніка, якія прарываліся з Віцебскага «катла». У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2282. *Курганны могільнік. План.*

**2281. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне сучасных могілак. 5 насыпаў вышынёй 1,8—2,5 м, дыяметрам 8—10 м (адзін з іх — за 50 м ад могільніка). Курганы парослі дрэвамі. Выявіў у 1893 г. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX археологического съезда. Вильна, 1893; Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии.— Могилев, 1907. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Ціміразева, Нямойтаўскі сельсавет**

**2282. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія магілы. На паўночнай ускраіне вёскі, часткова на агародах, полі і лузе. Паўсферычныя курганы (21 насып) вышынёй ад 1,5 да 2,5 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы па звестках 1873 г. Абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Шынкава, Алексініцкі сельсавет**

**2283. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія курганы. За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Хвойнікі, недалёка ад р. Абалянка. 5 курганоў вышынёй 1,2—2,5 м, дыяметрам 10—17 м. Насыпы здзірванелыя, заraслі лесам. Каля падножжа відаць раўкі. Выявіў і абследаваў у 1972 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Шыркі, Багушэўскі сельсавет**

**2284. РАДЗІМА МАШЭРАВА** Пятра Міронавіча — аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы (гіст.). Гл. артыкул № 95 «Помнік Машэраву Пятру Міронавічу» (Віцебск).

**пас. Янова, Обальскі сельсавет**

**2285. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 39 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

# ТАЛАЧЫНСКІ РАЁН




Нізкі Гарадзец
Няклюдава
Абольцы
Гаршчэўшчына
Валосава
Серкавіца
Алёнавічы
Анэліна
Харлінцы
Рамашкава
Стар.Саколіна
Марцюхова
Звянячы
Заднева
Коханава
Нов.Сяло
Азерцы
Плоскае
Галошава
Барашы
ТАЛАЧЫН
Воўкавічы
Жукнева
Навінка
Ганчароўка
Варанцэвічы
Славені
Друцк
Лагаўшчына
Трасцянка
Слаўнае

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятные месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі зямлянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

## XXIII. ТАЛАЧЫН

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Друць, за 124 км на паўднёвы захад ад Віцебска. На аўтамагістралі Мінск — Масква; чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Масква.

Упершыню ўпамінаецца ў 1433 г. як горад у Вялікім княстве Літоўскім. З сярэдзіны 17 ст. гандлёвае мястэчка Аршанскага павета Віцебскага ваяводства, штогод праводзіліся 3 кірмашы. У 1621 г. ў Талачыне 314 дамоў. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. спалены, захаваліся 142 дамы. У 17 ст. належаў магнатам Сапегам. У пачатку 17 ст. быў заснаваны касцёл. У 18 ст. магнаты Сангушкі адкрылі базыльянскі манастыр са школай (з 1779 г.) і шпіталем. У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Талачын у складзе Расійскай імперыі, у 1782 г. абвешчаны горадам, з 1783 г. мястэчка. Да 1793 г. пагранічны пункт з таможняй. З 1772 г. ўсходняя частка мястэчка называлася Стары, ці Рускі, Талачын, заходняя (за р. Друць) — Зарэчны, ці Новы, Талачын. Стары Талачын — цэнтр Стараталачынскай воласці Копыскага, з 1861 г. — Аршанскага паветаў, Новы Талачын — цэнтр Зарэчнаталачынскай воласці Сеннеснкага павета Магілёўскай губерні. У ліпені і лістападзе 1812 г. ў час Айчыннай вайны ў Талачыне спыняўся Напалеон I; рускія войскі ўзялі тут ў палон 600 салдат французскай арміі. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 2614 жыхароў. У пачатку 20 ст. ў Талачыне 3748 жыхароў, 391 жылы дом, у т. л. 6 цагляных пабудоў; працавалі 2 гарбарныя, цагельны, піваварны заводы, гута, млын, школа, 2 народныя вучылішчы. Асноўнымі гандлёвымі таварамі былі збожжа і лес. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. пад кіраўніцтвам мясцовай арганізацыі РСДРП (створана ў 1905 г.) адбыліся масавыя забастоўкі і дэманстрацыі. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — кастрычніку 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У 1917 г. ў Талачыне 2381 жыхар, 355 гаспадарак. Мястэчка няраз цярпела ад пажараў, у 1918 г. згарэла больш як палавіна пабудоў. З 1920 г. Талачын у складзе Віцебскай губерні. З 17.7. 1924 г. цэнтр Талачынскага р-на ў Аршанскай акрузе (да 1930 г.), з 1938 г. ў Віцебскай вобл. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. Паводле перапісу 1939 г. было 6,1 тыс. жыхароў. Дзейнічалі льнозавод (67 рабочых), шпалапільны (27 рабочых), крухмальны «10 гадоў Кастрычніка» (19 рабочых), гарбарны, каўбасных вырабаў, малочны, вінакурны (22 рабочыя) заводы, ткацкая фабрыка, 2 хлебапякарні, леспрамгас, машынна-трактарная станцыя, млын і інш.

У Вялікую Айчынную вайну ў ліпені 1941 г. ў раёне Талачына ішлі жорсткія баі. Наступленне гітлераўскіх войск стрымлівала 1-я Маскоўская мотастралковая дывізія (камандзір палкоўнік Я. Р. Крэйзер). У час нямецка-фашысцкай акупацыі (8.7. 1941 г. — 26.6.1944 г.) гарадскі пасёлак спалены і абрабаваны гітлераўцамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (ліпень 1943 г. — чэрвень 1944 г.), ЛКСМБ (жнівень 1942 г. — чэрвень 1944 г.). Талачын вызвалены 19-й гвардзейскай танкавай брыгадай 3-га гвардзейскага танкавага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі 3-га Беларускага фронту. З 22.7.1955 г. горад.

Цэнтр горада гістарычна склаўся ў 16—17 стагоддзях (цяпер кварталы ў раёне вуліц Леніна, Энгельса, Дзяржынскага і Валадарскага). Планіровачная структура сфарміравалася ў 18—19 стагоддзях. Цэнтральная частка горада захавала рэгулярную сетку вуліц з выразна вылучанымі кварталамі рознай канфігурацыі. Тут знаходзіцца помнік архітэктуры 18 ст. — манастыр базыльян.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны адноўлены жыллёвы фонд, пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы. У 1968 г. Віцебскім абласным філіялам інстытута «Белдзяржпраект» распрацаваны генплан Талачына. У 1977 г. ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва распрацаваны новы генеральны план горада. Новы адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр сфарміраваны ў раёне пл. імя 40-годдзя Кастрычніка. Узведзены будынкі Дома Саветаў, райкома КПБ, гасцініцы, універмага, рэстарана. Жыллёвая забудова сучаснага тыпу сканцэнтравана па вуліцах Энгельса, Леніна, у мікрараёне пасёлка раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. Свабодна спланаваныя жылыя масівы знаходзяцца ў раёне чыгуначнай станцыі. Сярод забудовы вылучаюцца будынкі Талачынскага міжкалгасбуда, кінатэатра «Колас» і гандлёвага цэнтра.

У горадзе працуюць філіял Віцебскага тэкстыльнага вытворчага аб'яднання, ільнозавод, масласырзавод, крухмальны завод, хлебазавод, элеватар, лясгас, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», камбінат бытавога абслугоўвання і інш. У Талачыне 2 сярэднія і 1 васьмігадовая, рабочай моладзі, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 5 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, кінатэатр, 2 Дамы культуры, 4 бібліятэкі, бальніца, 2 паркі. Выдаецца газета «Сцяг Ільіча». Помнікі: У. І. Леніну, у гонар вызвалення Талачына ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.




**XXIII.** *Будынак гандлёвага цэнтра.*

Зона адпачынку — берагі р. Друць.

*Літ.:* Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—3. — Мн., 1959—61; Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі. — У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. — СПб., 1905; Список населенных мест Могилёвской губернии. — Могилев, 1910; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3. — Warszawa, 1846; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. — 3 wyd. — Wilno, б. г.

*Г. І. Барышаў, І. П. Хайратовіч.*

**2286. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Будаўнікоў. У парку пахаваны 72 воіны і 6 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 19-й гвардзейскай танкавай брыгады 3-га гвардзейскага танкавага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі 3-га Беларускага фронту, што загінулі 26.6.1944 г. пры вызваленні Талачына ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, адзін з аргані-



**XXIII.** *Плошча імя 40-годдзя Кастрычніка.*

затараў і кіраўнікоў партызанскага руху і падпольнай барацьбы на тэрыторыі Талачынскага р-на Сямён Мікалаевіч Нарчук.

С. М. Нарчук нарадзіўся 4.3. 1910 г. ў в. Вялікія Козкі (цяпер в. Козкі) Талачынскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. Перад Вялікай Айчыннай вайной сакратар Талачынскага райкома КП(б)Б. З чэрвеня 1942 г. камісар партызанскага атрада «Граза», потым камісар (жнівень 1942 г.— чэрвень 1943 г.) і камандзір (чэрвень 1943 г.— май 1944 г.) партызанскай брыгады «Граза», сакратар Талачынскага падпольнага райкома КП(б)Б (ліпень 1943 г.— май 1944 г.). Загінуў 28.5.1944 г.

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. На мемарыяльных дошках імёны загінуўшых.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**2287. МАГІЛА ГАЛУБЦОВАЙ** Вольгі Сямёнаўны (гіст.). Вул. Пушкіна, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы В. С. Галубцова нарадзілася 28.1.1903 г. ў в. Свіслачаны Гродзенскага павета (цяпер Беластоцкае ваяводства ПНР) у сялянскай сям'і. З 1915 г. працавала на чыгуначным вузле ў Пецярбургу, з 1923 г.— у сельскай гаспадарцы. У 1926—1961 гг. даярка саўгаса «Райцы» (з 1965 г. племзавод «Рэканструктар») Талачынскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 18.1.1958 г. за поспехі ў вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў. В. С. Галубцова памерла 26.4.1974 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**2288. МАГІЛА СМІРНОВА** Канстанціна Васільевіча (гіст.). Вул. Аршанская, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы К. В. Смірноў нарадзіўся 18.4.1919 г. ў в. Пярвушына Антропаўскага р-на Кастрамской вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1952 г. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1944—50 гг. працаваў старшынёй калгаса імя У. І. Леніна, у 1950—82 гг.— калгаса імя Г. М. Дзімітрова Талачынскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 30.4.1966 г. за поспехі ў арганізацыі і развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1961—66 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1967—71 гг. К. В. Смірноў памёр 5.2.1982 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2289. МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН** (архіт.). На вул. Леніна.

Заснаваны ў 1769 г. У яго ўваходзілі храм, пастаўлены на месцы фарнага касцёла (узведзены ў 1604 г.), пабудаваныя ў 1779 г. манастырскі жылы корпус і школа. У 1796 г. храм перароблены пад уніяцкую царкву (з 1804 г. праваслаўная Пакроўская царква).

Царква — трохнефавая двухвежавая базіліка з 2 сакрысціямі. Цэнтральны і бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, прэсбітэрый — цыліндрычным скляпеннем. У паўночна-ўсходняй частцы будынка хоры. Галоўны (усходні) фасад расчлянёны на 3 часткі, якія адпавядаюць падзелу храма на 3 нефы. Сцяна завяршаецца пластычным слаістым карнізам, над ім, у цэнтры, узвышаецца шчыт складанай формы, абапал якога 2 ярусныя вежы (верхнія часткі вежаў перабудаваны ў 19 ст.). Бакавыя фасады вырашаны плоскасна. Апсіду ўвенчвае манументальны атык. Знешні дэкор мае адметныя рысы барока: ступеньчатыя пілястры, раскрапаваныя слаістыя карнізы, складаныя па малюнку праёмы, нішы, абрамленні і інш. Руставаная цокальная частка галоўнага фасада і вярхі вежаў маюць класіцыстычную трактоўку.

У інтэр'еры павышаны галоўны неф пераходзіць у прэсбітэрый, бакавыя нефы адкрываюцца арачнымі праёмамі. Унутраныя апоры аформлены спаранымі пілястрамі з антаблементамі. Алтарная частка адгароджана мураваным іканастасам 18 ст. (у канцы 19 — пачатку 20 ст. застаўлены драўляным іканастасам). Антаблементы, падпружныя аркі і арачныя праёмы паміж нефамі аздоблены паліхромнай размалёўкай (раслінныя матывы і разеткі).

Манастырскі корпус стаіць з поўдня ад храма. У ім размяшчаліся трапезная, жыллё манахаў і «цёплая» царква. Пабудова прамавугольная ў плане, двухпавярховая, са склепамі, з двухпралётнай сістэмай планіроўкі галерэйнага тыпу. Цэнтральны вузел — уваход і лесвічная клетка. Перакрыцці 1-га і 2-га паверхаў скляпеністыя. Галоўны і дваровы фасады расчлянёны пілястрамі на высокіх пастаментах і прамавугольнымі вокнамі, якія аформлены плоскімі ліштвамі з валютамі зверху. Тарцовыя сцены завершаны франтонамі.

Манастыр базыльян — помнік архітэктуры позняга барока. *Ю. А. Якімовіч.*



2289. *Манастыр базыльян. Пакроўская царква.*

**2290. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ТАЛАЧЫНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). Талачынская арганізацыя РСДРП створана прыхільнікамі ленінскай «Іскры» у 1905 г., напярэдадні III з'езда партыі. Уваходзіла ў Палескі камітэт РСДРП, падтрымлівала цесныя сувязі з Магілёўскай, Аршанскай і іншымі партыйнымі арганізацыямі. Узначальвала барацьбу працоўных Талачына ў час



2289. *Пакроўская царква. Бакавы фасад.*



2289. *Пакроўская царква. План.*

Рэвалюцыі 1905—07 гг. 23.6.1905 г. арганізавала забастоўку і ўзброеную дэманстрацыю працоўных Талачына, у якой удзельнічала больш за 200 чалавек. Дзейнасць арганізацыі пашыралася і на Сенненскі павет. 27.11. 1905 г. талачынскія бальшавікі правялі сходку ў мястэчку Бобр, на якой заклікалі да ўзброенай барацьбы з самадзяржаўем, распаўсюдзілі праккламацыю Магілёўскай арганізацыі РСДРП «Да ўсіх», дзе выкрывалася сутнасць царскага маніфеста ад 17.10. 1905 г. Вялікую ўвагу арганізацыя аддавала рабоце сярод сялян, стварыла спецыяльную Талачынскую групу сялян сацыял-дэмакратаў. 25.5. 1905 г. група выдала лістоўку «Да ўсіх сялян» (тыраж 600 экземпляраў), у якой растлумачвала прычыны іх цяжкага становішча, заклікала сялян на барацьбу з самадзяржаўем пад кіраўніцтвам РСДРП. У канцы верасня 1905 г. ў сувязі з ганебным паражэннем рускага царызму ў вайне з Японіяй арганізацыя выдала адозву «Сяляне» з заклікамі: «Патрабуйце зямлі!», «Патрабуйце Усенароднага ўстаноўчага сходу!», «Далоў самадзяржаўе!», «Далоў памешчыкаў!», «Няхай жыве сацыялізм!». У гады рэакцыі арганізацыя была разгромлена.

*Літ.:* История Коммунистической партии Советского Союза. Т. 2.— М., 1966; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962; 1905 год у Беларусі: Зб. архіўных дакументаў.— Мн., 1926; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955. *Э. М. Савіцкі.*

**2291. ПАРК** (архіт.). У паўднёвай частцы горада, на ўзвышшы. Закладзены як прысядзібны ў канцы 19 ст. На адной з ускраін захавалася гаспадарчая пабудова з чырвонай цэглы. Па характару парк пейзажны. Растуць пераважна мясцовыя пароды дрэў: елка, хвоя, ліпа, вярба, бяроза, таполя. На тэрыторыі парку невялікая сажалка.



2291. *Куток парку.*

**2292. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На шашы Мінск — Масква, каля перасячэння яе з вул. Леніна.

У канцы чэрвеня 1944 г. 19-я гвардзейская танкавая брыгада (камандзір гвардыі палкоўнік Г. А. Пахадзееў) 3-га гвардзейскага танкавага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі 3-га Беларускага фронту разгарнула наступленне ў напрамку Талачына. Прарваўшы моцную абарону ворага, раніцай 26 чэрвеня танкісты ўварваліся ў горад. На яго вуліцах пачаліся цяжкія баі. 19-я гвардзейская танкавая брыгада знішчыла агнявыя кропкі праціўніка, захапіла важнейшыя аб'екты і да 19 гадзін авалодала Талачыном.

У 1969 г. ў памяць аб вызваленні Талачына ад нямецка-фашысцкіх акупантаў пастаўлены помнік — скульптурная група: воін і партызан.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969; В боях за Белоруссию.—2 изд.— Мн., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**2293. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**в. Абольцы, цэнтр сельсавета**

**2294. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 26 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Алёнавічы, цэнтр сельсавета**

**2295. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 9 воінаў і 11 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Анэліна, Серкавіцкі сельсавет**

**2296. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 воінаў і 12 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2297. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МІРОНАВУ** Віктару Пятровічу і **СІНІЦЫ** Паўлу Емяльянавічу (гіст.). На доме У. Р. Сіняк. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці партызан В. П. Міронава і П. Е. Сініцы, якія загінулі тут 19.6.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



2292. *Помнік Вызвалення.*

**в. Багданаўка, Коханаўскі пасялковы Савет**

**2298. РАДЗІМА МАКАВЕЦКАГА** Фёдара Яфрэмавіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 2326 «Магіла Макавецкага Фёдара Яфрэмавіча».

**в. Багрынава, Воўкавіцкі сельсавет**

**2299. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Абапал дарогі на Варанцэвічы. 6 насыпаў (раней было 12) вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м. Абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. У 1967 г. З. М. Сяргеева раскапала 4 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы з пазалочанымі шклянымі і сердалікавымі прызматычнымі пацеркамі. У 1969 г. даследаваны яшчэ 2 насыпы. У адным выяўлены мужчынскае і жаночае пахаванні галавою на захад, знойдзены 6 скроневых кольцаў з сярэбранага дроту, 4 арабскія дырхемы дынастыі Саманідаў з адтулінамі для падвешвання, пацеркі, бронзавы пласціністы пярсцёнак, жалезны нож з рэшткамі драўляных тронкаў, віты сярэбраны бранзалет з завязанымі канцамі, жалезны абруч і дужка ад драўлянага вядра, білонавая падкованападобная фібула, баявая сякера, невялікі бронзавы пласціністы бранзалет з канцамі ў выглядзе звярыных галовак, 2 пасудзіны. У другім кургане выяўлены 3 пахаванні: у насыпе, на мацерыку, на пясчанай падсыпцы. Могільнік датуецца 11 ст., належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т. 1]); Сергеева З. М. Курганы у

дер. Багриново вблизи древнерусского Друцка (БССР).— Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии АН СССР, 1969, в. 120.
*В. М. Ляўко, А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Валосава, цэнтр сельсавета**

**2300. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1978 г. на магіле пастаўлены 2 стэлы.

**в. Варанцэвічы, Воўкавіцкі сельсавет**

**2301. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў і 18 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Воўкавічы, цэнтр сельсавета**

**2302. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2302а.** Могільнік-1. За 0,2 км на поўнач ад вёскі, на беразе р. Крывая. 18 насыпаў (раней было больш за 30) дыяметрам 5—12 м, вышынёй 1—3 м. Абследавалі ў 1958 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. У 1971 г. З. М. Сяргеева раскапала 2 курганы. У першым пахавальны абрад — трупапалажэнне. Парнае пахаванне (мужчынскае і жаночае) арыентавана галавой на паўднёвы захад. Знойдзены рэшткі жалезных абручоў ад драўляных вёдзер, жалезныя нажы (тронак аднаго меў абмотку з бронзавага дроту), віты бронзавы бранзалет з завязанымі канцамі, бронзавы пярсцёнак, сярэбранае скроневае кольца, 85 бісерных пацерак, сіняя зонная, сіняя цыліндрычная і лімонападобная пацеркі. У другім пахавальны абрад — трупаспаленне. Выяўлена вогнішча памерам 4×4 м з попелам, вуголлем, перапаленай зямлёй і мноствам дробных кальцыніраваных касцей. Частка спаленых касцей — конскія. Знойдзены ганчарны гаршчок з лінейным арнаментам і кляймом, жалезны нож. Могільнік датуецца 11 ст., належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**2302б.** Могільнік-2. За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, абапал лясной дарогі. 21 курган дыяметрам 6—8 м, вышынёй 1—2 м, адзін дыяметрам 10 м, вышынёй 2,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Раскопкі не праводзіліся.

**2302в.** Могільнік-3. За 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі, абапал лясной дарогі. 22 курганы дыяметрам 4—10 м, вышынёй 0,5—2 м. 2 насыпы вышынёй 3 і 5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. Ш. І. Бекцінееў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1); Сергеева З. М. Раскопки курганов в Толочинском районе (БССР).— Краткие сообщения Ин-та археологии, 1972, в. 129. *Ш. І. Бекцінееў, В. М. Ляўко.*

**в. Высокі Гарадзец, Валосаўскі сельсавет**

**2303. РАДЗІМА ЗАРЭЦКАГА** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік М. Зарэцкі (Міхаіл Яўхімавіч Касянкоў) нарадзіўся 20.11.1901 г. ў сям'і дзяка. Вучыўся ў Аршанскім духоўным вучылішчы, Магілёўскай духоўнай семінарыі. З 1919 г. працаваў настаўнікам на Магілёўшчыне, загадчыкам валаснога аддзела народнай асветы. У 1920—26 гг. на палітрабоце ў Чырвонай Арміі, потым да лістапада 1936 г. працаваў у АН БССР. Друкавацца пачаў у 1921 г. Пісаў апавяданні, аповесці, раманы, п'есы. Аўтар зборнікаў апавяданняў «У віры жыцця» (1925 г.), «Пела вясна» (1925 г.), «Пад сонцам» (1926 г.), «На чыгунцы» (1928 г.), «Ракавыя жаронцы» (1930 г.) і інш., раманаў «Сцежкі-дарожкі» (1927 г., 3-е выданне 1959 г.) і «Вязьмо» (1932 г., 3-е выданне 1962 г.), аповесці «Голы звер» (1926 г.), п'ес «Віхор на балоце» (1928 г.), «Белыя ружы» (1928—29 гг.), «Сымон Карызна» (1935 г.) і інш. У сваіх творах адлюстроўваў сацыяльныя змены ў вёсцы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, падзеі, звязаныя з калектывізацыяй, складаны шлях інтэлігенцыі ў рэвалюцыю, уключэнне яе лепшай часткі ў актыўную барацьбу за інтарэсы народа. Пераклаў на беларускую мову раман «Цэмент» Ф. Гладкова (1930 г.), «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну» Я. Гашака (ч. 1, 1931 г.). Памёр 13.6.1941 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Адамовіч А. М. Беларускі раман.— Мн., 1961; Майсеенка А. Ф. Творчасць Міхася Зарэцкага.— Мн., 1978.
*Г. І. Дулеба.*



**2304.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Галошава, Коханаўскі пасялковы Савет**

**2304. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў і 7 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2305. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 5 курганоў: 4 каля дарогі на г. п. Коханава (па 2 абапал дарогі) і 1 на могілках дыяметрам 7—10 м, вышынёй 0,8—2 м. Адкрыў і абследаваў у 1885 г. М. М. Турбін, абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дроздава, Азерацкі сельсавет**

**2306. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2306а.** Могільнік-1. За 0,4 км на поўнач ад вёскі, на полі, злева ад дарогі на в. Скавышкі. Захаваліся 2 курганы дыяметрам 6 м, вышынёй 1,5 м. Раней, як пра гэта сведчаць мясцовыя жыхары, іх было значна больш. Раскопкі не праводзіліся.

**2306б.** Могільнік-2. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Скавышкі. 10 курганоў дыяметрам 7—8 м, вышынёй да 2 м. Раскопкі не праводзіліся. Адкрыў у 1925 г. Д. З. Васілеўскі, абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *А. Р. Мітрафанаў.*

**2307. РАДЗІМА КАРАТКЕВІЧА** Дзмітрыя Андрэевіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў і арганізатараў Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну Дз. А. Караткевіч нарадзіўся 16.10.1904 г. ў сям'і парабка. Член КПСС з 1928 г. З 1926 г. на савецкай і прафсаюзнай рабоце ў Талачынскім р-не. У 1931—35 гг. у органах міліцыі ў Мінску і Мінскай вобл. Пасля сканчэння ў 1937 г. Рэспубліканскай школы прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б працаваў першым сакратаром Заслаўскага райкома КП(б)Б Мінскай вобл. У 1938—40 гг. член ЦК КП(б)Б. З 1939 г. да 1941 г. начальнік Галоў-

гандлю, дырэктар Мінскага прамгандлю. У Вялікую Айчынную вайну актыўны ўдзельнік Мінскага камуністычнага падполля (1941—42 гг.). 3 мая 1942 г. член Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б (падпольны псеўданім Дзіма), кіраваў разведвальнай работай. У кастрычніку 1942 г. Дз. А. Караткевіч схоплены гітлераўцамі і ў 1943 г. закатаваны. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

*Літ.:* О партийном подполье в Минске в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Мн., 1961; Герои подполья. В. 1.— 3 изд.— М., 1970; Петраченко Д. Н. Именами героев.— Мн., 1978. *Г. І. Дулеба.*

**в. Друцк, Талачынскі сельсавет**

**2308. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Друцкае. Каля вёскі, на высокім узгорку (не менш за 20 м над узроўнем вады ў рацэ), на правым беразе р. Друць. З'яўляецца рэшткамі старажытнарускага г. Друцк (Дрютеск, Друтеск, Друческ). Захаваліся рэшткі дзядзінца (плошча каля 1 га), умацаванага валам вышынёй 10 м і ровам глыбінёй 2,5—3 м, а таксама вакольнага горада (да 1,3 га), умацаванага валам вышынёй 7 м і ровам глыбінёй каля 2 м. З поўначы, захаду і ўсходу да вакольнага горада прымыкаў рамесніцкі пасад.

Археалагічныя раскопкі ў Друцку праводзілі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1956—62 гг., 1965 і 1967 гг. Л. В. Аляксееў. Выяўлены 2 перакрыжаваныя вуліцы, вымашчаныя бярвеннем, рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў. На дзядзінцы выяўлены ўчастак гарадской плошчы, княжацкая і рамесніцкая часткі горада. Пры раскопках знойдзена шмат прылад працы, зброі, шматлікія ўпрыгожанні, ліцейныя формы, праслíцы з надпісам, прывазныя рэчы. Друцк гандляваў з Кіевам, Смаленскам, Оўручам і інш. гарадамі, з Прыбалтыкай, Візантыяй. Раскопкі паказалі, што Друцк знішчаны пажарам у пачатку 16 ст.

Паводле археалагічных звестак Друцк узнік у 11 ст. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха пад 1078 г., у «Аповесці мінулых часоў» пад 1092 г. Да 12 ст. ўваходзіў у Полацкае княства. З сярэдзіны 12 ст. цэнтр удзельнага княства. Пасля смерці Усяслава Брачыславіча перайшоў да яго нашчадкаў — князёў Барысавічаў. Друцкія князі змагаліся з мінскімі князямі Глебавічамі за Полацкі трон. У 1159 г. друцкі князь Рагвалод Барысавіч (унук Усяслава) стаў полацкім князем, але ў 1162 г. вымушаны быў вярнуцца ў Друцк. У 1160-я гады Рагвалод і яго сыны заключылі саюз са Смаленскам і былі ўцягнуты ў міжусобную вайну смаленскіх князёў з чарнігаўскімі. У 13 ст. Друцк увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага, аднак яшчэ доўгі час займаў асобнае становішча. Друцкія князі заставаліся тут да 1508 г.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978. *А. Р. Мітрафанаў.*



2308. *Гарадзішча старажытнага Друцка.*



2310. *Помнік землякам.*

**2309. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛУГОЎСКАМУ** Мікалаю Пятровічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1965 г. ў гонар Героя Савецкага Саюза М. П. Лугоўскага, які ў 1920—22 гг. вучыўся ў гэтай школе. Гл. таксама артыкул № 343 «Брацкая магіла савецкіх воінаў» (г. п. Бешанковічы).

**2310. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Праўда». На ўшанаванне памяці 90 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Еўлахі, Плоскаўскі сельсавет**

**2311. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 61 воін і 7 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Жукнева, цэнтр сельсавета**

**2312. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 воінаў і 33 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**в. Жураўлі, Азерацкі сельсавет**

**2313. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 жыхароў вёскі, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі 30.12.1943 г., у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Заазер'е,**
**Кохановскі пасялковы Савет**

**2314. РАДЗІМА СЫЧЭНКІ** Пятра Фёдаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. Ф. Сычэнка нарадзіўся 6.6.1911 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У Чырвонай Арміі з 1931 г. У 1932 г. скончыў ваенна-авіяцыйную школу тэхнікаў, у 1939 г.— ваенную школу лётчыкаў. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Цэнтральным, Паўднёвым, Бранскім, Варонежскім, Паўночна-Заходнім, Сталінградскім, 1-м Украінскім франтах. Капітан, камандзір эскадрыллі 241-га штурмавога авіяпалка П. Ф. Сычэнка ўдзельнічаў у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пад Масквой, Сталінградам, Курскам, Львовам і інш. Да 1943 г. зрабіў 42 баявыя вылеты, у час якіх знішчыў шмат варожай тэхнікі і больш за 700 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 14.2.1943 г. Да 1956 г. П. Ф. Сычэнка служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 25.6. 1969 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Забалацце 1 е, Азерацкі сельсавет**

**2315. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 58 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Загараддзе, Талачынскі сельсавет**

**2316. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, у



**2311.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

лесе. Больш за 40 курганоў. Некаторыя дыяметрам 7—10 м, вышынёй 1—1,5 м, астатнія адпаведна 11—14 м і 2 м. У 1888 г. Е. Р. Раманаў налічыў тут 50 курганоў, 2 з іх раскапаў. У адным пахавальны абрад трупаспаленне, у другім — трупапалажэнне. Знойдзены гаршчок з рэшткамі крэмацыі, жалезны нож, каменная клінападобная сякера. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Могільнік датуецца 10—12 стагоддзямі, належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак 1888 г. захоўваюцца ў Дзяржаўным Эрмітажы.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологические находки.— У кн.: Могилёвская старина. Могилёв, 1900, в. 1; яго ж. Раскопки в Могилёвской губернии в 1888 году.— У кн.: Древности. Труды Московского археологического общества. М., 1889, т. 13, в. 1. *А. Р. Мітрафанаў.*

**2317. РАДЗІМА ЛУЗГІНА** Аляксея Андрэевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. А. Лузгін нарадзіўся 1.2.1920 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1937—39 гг. працаваў у 1-м Маскоўскім пасажырскім аддзяленні Ленінградскай чыгункі. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. Скончыў аэраклуб (Масква, 1939 г.) і Тамбоўскую авіяцыйную школу пілотаў (1941 г.). У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Цэнтральным і 1-м Украінскім франтах, камандзір звяна разведвальнага авіяпалка. Зрабіў 116 баявых вылетаў, удзельнічаў у 32 паветраных баях. Паводле звестак разведкі А. А. Лузгіна савецкія бамбардзіроўшчыкі знішчылі на аэрадромах і пляцоўках 320 варожых самалётаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Пасля Айчыннай вайны да 1960 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 10.1.1977 г. ў Маскве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Загацце, Валосаўскі сельсавет**

**2318. СТАЯНКА** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, на краі тарфяного балота, ва ўрочышчы Гасцінец. Выявіў і абследаваў у 1979 г. Э. М. Зайкоўскі. Сабраны крамянёвыя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, разец з рэтушаванай выемкай, скрабкі на адшчэпах, абломкі ляпной керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Заднева, Азерацкі сельсавет**

**2319. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 215 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлены помнік — 2 стэлы з барэльефамі партызан і жанчыны і сцяпа з імёнамі загінуўшых.

**в. Замошша, Серкавіцкі сельсавет**

**2320. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на полі. 13 насыпаў дыяметрам 5—15 м, вышынёй 1,5—5 м. Абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Канапельчыцы, Талачынскі сельсавет**

**2321. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На сучасных могілках. 6 насыпаў дыяметрам 7—8 м, асобныя 10—12 м, вышынёй да 2 м. Абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Катужына, Талачынскі сельсавет**

**2322. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. 2 курганы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Адкрыў і абследаваў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кісялі, Коханаўскі пасялковы Савет**

**2323. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Дымакуры. За 0,8 км на захад ад вёскі. Умацавана валам вышынёй да 1,5 м. Абследавалі ў 1950 г. Л. А. Міхайлоўскі, у 1981 г. В. М. Ляўко, раскопкі праводзіў у 1956 г. Л. В. Аляксееў. Выяўлены 3 культурныя пласты: ніжні з рэчамі (абломкі штрыхаванага і гладкасценнага посуду, прасліца, бронзавы наканечнік стралы і інш.) штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур; сярэдні (кераміка і ліцейная форма для адліўкі бронзавай падвескі) культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі н. э.); верхні (абломкі ганчарных пасудзін) раннефеадальнага часу (10—13 стагоддзі н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Міхайлоўскі Л. Гарадзішча Дымакуры.— Беларусь, 1951, № 5; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Козкі, Плоскаўскі сельсавет**

**2324. ГАРАДЗІШЧА, ЗЕМЛЯНЫ ВАЛ, КУРГАН** (археал.).

**2324а.** Гарадзішча. За 2 км на захад ад вёскі, у лесе, каля дарогі на в. Стуканы. У плане яйцападобнае, памерам 57×43 м, умацавана 2 валамі. Адкрыў у 1925 г. Д. З. Васілеўскі, абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**2324б.** Земляны вал. Мясцовая назва Пагранічны вал. Побач з гарадзішчам, пачынаецца каля вёскі і цягнецца ў паўночна-заходнім напрамку ў бок г. п. Халопенічы больш за 40 км. Шырыня да 1,5 м, вышыня 1 м. У 1772—93 гг. з'яўляўся часткай мяжы паміж Рэччу Паспалітай і Рус-



**2312.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

кай дзяржавай. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў.

**2324в.** Курган. За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Дыяметр 7,5 м, вышыня 1,1 м. Адкрыў і абследаваў у 1951 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. В. М. Ляўко.

*Літ.:* Васілеўскі Д. З. З матэрыялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі.— Наш край, 1926, № 6—7. *А. Р. Мітрафанаў.*

**г. п. Коханава,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**2325. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Аршанская, у цэнтры пасёлка, каля Дома культуры. Пахаваны 25 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2326. МАГІЛА МАКАВЕЦКАГА** Фёдара Яфрэмавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза Ф. Я. Макавецкі нарадзіўся 13.2.1899 г. ў в. Багданаўка Коханаўскага пасялковага Савета ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1919 г. Удзельнік Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. У Айчынную вайну са студзеня 1942 г. на Паўднёва-Заходнім, Варонежскім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтральным, 1-м Украінскім франтах, удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. Гвардыі падпалкоўнік, камандзір 231-га гвардзейскага стралковага палка 75-й гвардзейскай Чырванасцяжнай Бахмачскай стралковай дывізіі Ф. Я. Макавецкі вызначыўся пры фарсіраванні Дзясны і Дняпра на Украіне. 21.9.1943 г. полк пад камандаваннем Ф. Я. Макавецкага фарсіраваў Дзясну і садзейнічаў паспяховай пераправе часцей дывізіі. 24 верасня на падручных сродках пераправіўся цераз Дняпро, захапіў плацдарм і замацаваўся на ім. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. Пасля вайны да 1947 г. Ф. Я. Макавецкі служыў у Савецкай Арміі. Памёр 7.5.1974 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Ляўкова,**
**Коханаўскі пасялковы Савет**

**2327. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, у лесе, за 0,1 км злева ад дарогі Коханава — Орша, на сучасных могілках. 7 курганоў дыяметрам 5—8 м, вышынёй 1—1,6 м. Адкрыў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Майдан, Слаўненскі сельсавет**

**2328. РАДЗІМА ГАЛЕЦКАГА** Пятра Антонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. А. Галецкі нарадзіўся ў маі 1919 г. ў сялянскай сям'і. Члея ВЛКСМ. Вучыўся ў Славенскай сярэдняй школе Талачынскага р-на, потым працаваў брыгадзірам у калгасе на радзіме. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. З канца 1941 г. ў партызанскім атрадзе «Перамога», які вёў баявыя дзеянні супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Смаленскай і Віцебскай абласцей, падрыўнік. Вызначыўся 21.10.1942 г. Непадалёку ад чыгуначнай станцыі Крынкі Лёзненскага р-на з узрыўчаткай кінуўся пад варожы эшалон з гаручым, што ішоў на фронт, знішчыў яго і загінуў сам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5. 1965 г.

На месцы яго гібелі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. Імя героя прысвоена Славенскай сярэдняй школе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Малое Гальцэва,**
**Коханаўскі пасялковы Савет**

**2329. РАДЗІМА БАТРАКА** Івана Андрэевіча (гіст.).

Рускі савецкі паэт, байкапісец І. А. Батрак (сапраўднае Казлоўскі) нарадзіўся 17.2.1892 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1914 г. З восені 1911 г. ў Пецярбургу, рабочы чыгуначных майстэрняў. У 1-ю сусветную вайну адзін з арганізатараў падпольнай бальшавіцкай друкарні, пісаў і выдаваў антываенныя лістоўкі, удзельнічаў у выпуску нелегальнай газеты «Пролетарский голос». Быў выбраны членам Петраградскага камітэта РСДРП(б). За рэвалюцыйную дзейнасць у красавіку 1915 г. арыштаваны і зняволены ў Шлісельбургскую крэпасць. Вызвалены ў выніку Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Дэлегат VII (Красавіцкай) Усерасійскай канферэнцыі РСДРП(б) і IX з'езда РКП(б). Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі член рэўкома, старшыня павятовага камітэта партыі ў Оршы, наладзіў выданне павятовай газеты «Набат». З 1921 г. ў Маскве. Працаваў у газеце «Правда», сакратаром Цэнтральнага савета Усесаюзнага таварыства сялянскіх пісьменнікаў, адказным рэдактарам часопіса «Комбайн». Быў блізка знаёмы з М. Горкім, Дз. Бедным, Э. Багрыцкім, А. Серафімовічам, А. Фадзеевым, В. А. Карпінскім, А. В. Луначарскім.

Першыя вершы былі надрукаваны ў 1913 г. ў «Правде». Пазней друкаваўся ў газеце «Беднота», часопісах «Земля советская», «Комсомолия», «Пролетарский авангард» і інш. Для ранняга перыяду творчасці І. Батрака характэрны гераічныя матывы, пафас набліжэння рэвалюцыі. У 1920-я гады пад уплывам Дз. Беднага звярнуўся да жанру байкі. Выйшлі зборнікі «Абручы і клёпкі» (1926 г.), «Саха і трактар» (1928 г.), «Байкі» (1928, 1933 гг.), «Павукі і мухі» (1931 г.), «Па слядах жыцця» (1935 г.) і інш. У творах І. Батрак адлюстроўваў новы быт і сацыялістычнае будаўніцтва, праблемы класавых і міжнародных адносін, выкрываў драпежную, каланіяльную палітыку імперыялізму. Вядомы як перакладчык на рускую мову баек украінскіх і беларускіх пісьменнікаў.

Памёр І. А. Батрак у 1943 г.

*Літ.:* Краткая литературная энциклопедия. Т. 9.— М., 1978. Русские советские писатели. Поэты: Библиогр. указатель. Т. 2.— М., 1978, с. 254—265; Карніловіч Э. А. Рэвалюцыяй мабілізаваны.— Полымя, 1980, № 3. *У. У. Бянько.*



2325. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2330. РАДЗІМА КОЖАРА** Ільі Паўлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, савецкі партыйны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху і камуністычнага падполля на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, генерал-маёр (1943 г.) І. П. Кожар нарадзіўся 21.7.1902 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) (1949 г.). З 1924 г. на савецкай і партыйнай рабоце. З 1940 г. адказны рэдактар газеты «Гомельская праўда», сакратар Гомельскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1941 г. да лістапада 1943 г. сакратар Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б, адначасова з лістапада 1942 г. камандзір Гомельскага партызанскага злучэння. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. З 1943 г. працаваў сакратаром Гомельскага абкома КП(б)Б, з 1945 г. ўзначальваў лек-



2332. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

тарскую групу ЦК КП(б)Б, у 1947—63 гг. дырэктар Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КПБ (з 1956 г. Мінская вышэйшая партыйная школа). Член ЦК КПБ ў 1952—61 гг. З 1961 г. член, у 1963—66 гг. старшыня Рэвізійнай камісіі КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—63 гг.

Памёр 13.10.1967 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імем І. П. Кожара названа вуліца ў Гомелі, яго імя прысвоена Коханаўскай сярэдняй школе. На будынку Мінскай вышэйшай партыйнай школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Марцюхова, Коханаўскі пасялковы Савет**

**2331. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Я. М. Свярдлова. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 і 1944 гг. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**в. Маціёва, Талачынскі сельсавет**

**2332. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля шашы Мінск — Масква.

Паводле матэрыялаў Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па выяўленню і расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў, за час акупацыі гітлераўцы знішчылі ў Талачынскім р-не 6596 мірных грамадзян.

Адным з месцаў масавага знішчэння людзей было ўрочышча Доўгава Балота. Тут, у хваёвым лесе, недалёка ад Маціёва, гітлераўцы расстрэльвалі мірных грамадзян, актывістаў, партыйных работнікаў, падпольшчыкаў. Людзей прывозілі на машынах або прыганялі пад канвоем з населеных пунктаў Талачынскага і суседніх раёнаў, з турмы г. п. Талачын. Толькі зімой і летам 1942 г. гітлераўцы расстралялі каля 1500 чалавек. Усяго тут было загублена каля 5 тыс. чалавек.

У 1963 г. астанкі ахвяр фашызму перазахаваны ў адну магілу. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла з выявамі старога і жанчыны з дзіцем.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Міхайлаўшчына, Азерацкі сельсавет**

**2333. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мураўнічы, Талачынскі сельсавет**

**2334. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Змееў Бор, у лесе. 6 курганоў, 2 з іх падоўжаныя. Адзін даўжынёй 30 м, шырынёй 10—12 м, вышынёй 2,2 м. З заходняга і ўсходняга бакоў яго захаваліся раўкі глыбінёй да 0,5 м. Другі даўжынёй 15 м, шырынёй 10 м, вышынёй 1,5 м. 4 курганы круглыя, дыяметрам 8—10 м, вышынёй 1—1,5 м. Абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Навінка, Плоскаўскі сельсавет**

**2335. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 20 моцна аплыўшых курганоў дыяметрам 3,5—10 м, вышынёй 0,5—1,5 м. 10 з іх у аснове абкладзены камянямі. Абследавалі ў 1949 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. У 1973 г. З. М. Сяргеева раскапала тры курганы: першы аказаўся пусты; у другім было пахаванне па абраду трупапалажэння ў яме пад насыпам; у трэцім побач з рэшткамі нябожчыка, арыентаванага галавой на захад, з правага боку каля пояса знойдзены падковападобная спражка, бронзавая фібула з аграненымі канцамі, бронзавае кольца з дроту з замкнёнымі канцамі, на галаве бронзавая бляшка з рэшткамі эмалі. Могільнік належаў крывічам, датуецца 12—13 стагоддзямі.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т. 1]); яго ж. Полацкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966.

**2336. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Паміж вёскамі Навінка і Ельнік, у хваёвым лесе. 50 насыпаў дыяметрам ад 3 да 7 м, вышынёй 0,3—1 м. Асобныя курганы ў аснове абкладзены камянямі і абкружаны раўкамі. Адкрыла і даследавала ў 1973 г. З. М. Сяргеева. Раскапана 12 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У 6 курганах пахаванні на гарызонце, у 3 — пад насыпам у ямах і ў 3 — у насыпе. У 5 курганах нябожчыкі арыентаваны галавой на захад, у 4 — на ўсход, у 2 — на поўдзень і паўднёвы ўсход, у 1 — на паўночны ўсход. У 2 курганах, акрамя шкілетаў, знаходак не было. У 2 жаночых і 1 дзіцячым пахаваннях знойдзены бронзавае скроневае кольца, бронзавыя драцяныя кольцы з замкнёнымі канцамі ў выглядзе спіралі ў 4—5 абаротаў, пласцiністыя з замкнёнымі канцамі, віты бронзавы з завязанымі канцамі бранзалеты, круглая грыўня, бразготкі з крыжападобнай прораззю, падковападобныя спражкі, крыжападобная падвеска з эмаллю, рэшткі галаўнога венчыка, шматлікія спіралькі, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя пацеркі, жалезныя нажы і наканечнік кап'я, шыферныя праслiцы, ракавіна кауры, тачыльны брусок. Могільнік адносіцца да 11 — пачатку 13 ст., належаў крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Палявая, Талачынскі сельсавет**

**2337. ПОМНІК СУПРУНУ** Сцяпану Паўлавічу (гіст.). У цэнтры вёскі.

Двойчы Герой Савецкага Саюза С. П. Супрун нарадзіўся 20.7.1907 г. ў с. Рэчкі Белапольскага р-на Сумской вобл. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1930 г. У Чырвонай Арміі з 1929 г. Скончыў школу малодшых авіяспецыялістаў (1930 г.) і ваенную школу пілотаў (1931 г.). У 1931—39 гг.




2337. *Помнік С. П. Супрану.*

лётчык-выпрабавальнік у НДІ Ваенна-паветраных сіл СССР. Удзельнік баёў (1939 г.) з японскімі мілітарыстамі ў Кітаі, савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, звярнуўся ў Наркамат абароны СССР з просьбай дазволіць сфарміраваць авіяцыйны знішчальны полк з лётчыкаў-выпрабавальнікаў. Просьба была задаволена. Створаны 401-ы знішчальны авіяполк асобага прызначэння пад камандаваннем падпалкоўніка С. П. Супруна з чэрвеня 1941 г. ваяваў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Заходнім фронце. С. П. Супрун асабіста збіў 2 і пашкодзіў 1 самалёт праціўніка. 4.7.1941 г. С. П. Супрун каля вёскі Палявая ўступіў у бой з 6 варожымі знішчальнікамі. У гэтым баі загінуў. Быў пахаваны ў в. Палявая (былая в. Манастыры). У 1960 г. астанкі С. П. Супруна перазахаваны на Новадзявочых могілках (Масква). За ўзорнае выкананне баявых заданняў і праяўленыя пры гэтым гераізм і адвагу, лётнае майстэрства С. П. Супруну двойчы прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (20.5.1940 г., 22.7.1941 г.). Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—41 гг.

На месцы гібелі С. П. Супруна ў 1965 г. пастаўлена стэла, у с. Рэчкі і г. Сумы — помнікі, імем героя названы вуліцы ў Маскве, Сумах, Талачыне.

*Літ.:* Вишенков С. А. Дважды Герой Советского Союза Степан Павлович Супрун.— М., 1956; Люди бессмертного подвига. Кн. 2.— 4 изд.— М., 1975; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Яковлев А. Записки конструктора.— М., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**в. Плоскае, цэнтр сельсавета**

**2338. ПОМНІК КОЛАСУ** Якубу (гіст.). У цэнтры вёскі, перад будынкам праўлення калгаса імя Якуба Коласа. Калгас названы імем народнага паэта БССР, які ў 1908 г. працаваў у в. Сані (цяпер у гэтым калгасе) настаўнікам прыватнай беларускай школы. Бюст Я. Коласа ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Подбераззе, Воўкавіцкі сельсавет**

**2339. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1941—44 гг. У 1952 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Равуча, Талачынскі сельсавет**

**2340. РАДЗІМА ЛУГОЎСКАГА** Мікалая Пятровіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 343 «Брацкая магіла савецкіх воінаў» (г. п. Бешанковічы).

**в. Райцы, Талачынскі сельсавет**

**2341. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на захад ад вёскі, у полі. Пахавана каля 2 тыс. мірных жыхароў Талачына, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў сакавіку 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2339. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Рамашкава, Коханаўскі пасялковы Савет**

**2342. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя XXI з'езда КПСС. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 і 1944 гг. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Рыдамля, Серкавіцкі сельсавет**

**2343. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 воінаў і 75 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2344. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1977 г. на ўшанаванне памяці 62 жыхароў в. Рыдамля, якіх у верасні 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты.

**2345. РАДЗІМА РЫЛЬКО** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Алесь (Аляксей Іванавіч) Рылько нарадзіўся 27.3.1923 г. ў сялянскай сям'і. Вучыўся на педагагічных курсах, працаваў настаўнікам Лявонаўскай пачатковай школы Аршанскага р-на. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1942 г. ў радах народных мсціўцаў, да верасня 1943 г. ў 1-й партызанскай брыгадзе імя К. С. Заслонава, потым — мінёр спецгрупы «Непераможныя». Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў А. Рылько працаваў у Камайскай сямігадовай школе Пастаўскага р-на. Скончыў БДУ у 1951 г. У 1952 г. загадчык аддзела рэдакцыі часопіса «Вожык», у 1952—67 гг. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР. Друкавацца пачаў у 1946 г. Публікаваў фельетоны і гумарыстычныя апавяданні ў часопісах «Вожык», «Полымя», «Беларусь». Выйшлі зборнікі апавяданняў «Мае сустрэчы» (1952 г.), апавяданняў і аднаактовых камедый «Цвіце чаромха» (1957 г.), аднаактовых камедый і сцэнак «Колькі вяровачку ні віць...» (1958 г.), апавяданняў і нарысаў «Ты прыгожая, Арынка» (1960 г.), аповесць для дзяцей «Мядовыя краскі» (1959 г.), «Выбранае» (1969 г.), «Напрадвесні» (1984 г.). Памёр А. Рылько 16.4.1967 г. Пахаваны ў Мінску.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Серкавіца, цэнтр сельсавета**

**2346. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 348 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Сіманава, Жукнеўскі сельсавет**

**2347. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, у парку. На ўшанаванне памяці 14 мірных жыхароў, загубленых 28.5.1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1964 г. пастаўлены абеліск.



2341. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Скавышкі, Азерацкі сельсавет**

**2348. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі. Прасёлачнай дарогай падзелены на 2 групы. Адна мае 16 насыпаў і часткова занята сучаснымі магілкамі, другая — 29, знаходзіцца за 50 м на захад ад могілак, за дарогай. Вышыня курганоў 1—1,5 м, дыяметр 5—12 м. Абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. У 1973 г. 3 курганы раскапала З. М. Сяргеева. Адзін насып быў пусты, у другім — рэшткі нябожчыка, арыентаванага галавой на захад (абрад трупапалажэнне), у трэцім — пахаванне па абраду трупаспалення. Знойдзены абломкі ганчарнага посуду, 5 пярсцёнкападобных скроневых кольцаў, ажурная металічная пацерка, невялікі жалезны нож. Могільнік належаў крывічам, датуецца 12—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі. *А. Р. Мітрафанаў*

**в. Славені, Слаўненскі сельсавет**

**2349. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, МЕСЦА ПАХАВАННЯ ФРАНЦУЗСКАГА ЛЁТЧЫКА ГАСТОНА** Жака (гіст.). У цэнтры вёскі, каля шашы Мінск — Масква. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Іван Цімафеевіч Арцем'еў і лётчык французскага палка «Нармандыя — Нёман» Жак Гастон.

І. Ц. Арцем'еў нарадзіўся 14.10. 1917 г. ў с. Азоўка Баброўскага р-на Варонежскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Пасля сканчэння Азоўскай няпоўнай сярэдняй школы працаваў у мясцовым калгасе. З 1938 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Кулямётчык 69-га стралковага палка 97-й стралковай дывізіі. Чырвонаармеец І. Ц. Арцем'еў вызначыўся ў баях супраць белафінаў 12.3. 1940 г. Трапным агнём адбіў контратаку праціўніка, утрымаў плацдарм, знішчыў больш за 30 варожых салдат і афіцэраў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.4.1940 г. У 1941 г. скончыў ваеннае авіяцыйнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну — гвардыі лейтэнант, лётчык-знішчальнік, намеснік камандзіра эскадрыллі 115-га гвардзейскага знішчальнага авіяпалка. Удзельнік вызвалення Беларусі. Загінуў у паветраным баі 25.6.1944 г. каля г. п. Талачын.

У 1942 г. з французскіх лётчыкаў-добраахвотнікаў, якія прыбылі ў СССР, каб змагацца супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, была створана знішчальная эскадрылля «Нармандыя». У ліпені 1943 г. эскадрылля была перафарміравана ў 1-ы знішчальны авіяцыйны полк «Нармандыя». Полк прымаў актыўны ўдзел у вызваленні Беларусі. За баявыя дзеянні пры фарсіраванні р. Нёман яму было прысвоена (28.11.1944 г.) найменне «Нёманскі». Лётчык палка «Нармандыя — Нёман» Ж. Гастон загінуў у паветраным баі супраць гітлераўцаў 25.6.1944 г. каля в. Славені.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Андреев С. П. Крылом к крылу.— М., 1962; Гринько А. И., Улаев Г. Ф. Богатыри земли Воронежской.— Воронеж, 1965. *Г. І. Дулеба.*



2349. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Слаўнае, цэнтр сельсавета**

**2350. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад станцыі Слаўнае, за 2 км ад чыгункі Мінск — Масква, на беразе р. Маляўка (каля моста). Захаваліся 2 курганы. Вышыня першага 3,5 м, дыяметр 17 м, другога — адпаведна 2,2 м і 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**2351. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі. Пахавана каля 100 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 16.3.1942 г. У 1959 г. на магіле ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

**2352. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.). У ноч на 28 жніўня партызаны атрадаў 8-га, 24-га і 36-га пад камандаваннем С. Г. Жуніна на чыгуначнай станцыі Слаўнае (на лініі Мінск — Масква) правялі трохгадзінны бой з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Яны разграмілі варожы гарнізон (118 чалавек), захапілі чыгуначную станцыю, знішчылі воданапорную вежу, чыгуначны мост, семафор, 6 чыгуначных стрэлак, 6 складоў з ваеннай маёмасцю, прадуктамі харчавання і фуражом, 98 вагонаў з ваенным грузам, хлебапякарню, 20 аўтамашын, 3 казармы, 2 воінскія эшалоны, 3 км чыгуначных рэек, валасное ўпраўленне, 5 км лініі сувязі, захапілі шмат трафеяў. Рух на чыгунцы быў спынены на некалькі сутак.

У 1967 г. ў памяць аб баявой аперацыі партызан на будынку чыгуначнай станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Жунин С. Г. От Днепра до Буга.— Мн., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**в. Стары Талачын, Талачынскі сельсавет**

**2353. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. 2 курганы дыяметрам 8 м, вышынёй 1 м (раней было 20 курганоў). Адкрыў і абследаваў у 1929 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сурнаўка, Талачынскі сельсавет**

**2354. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, у лесе, за 0,3 км злева ад дарогі на в. Сельцы. 35 насыпаў дыяметрам 6—12 м, вышынёй 1—2,5 м. Вядомы з 1969 г. Абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Узноснае, Серкавіцкі сельсавет**

**2355. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў і 22 партызаны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1943—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і жанчына.

**2356. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. 4 насыпы вышынёй 1—3 м, дыяметрам 6—7 м, дрэннай захаванасці. Па звестках мясцовых жыхароў курганоў было болей. Адкрыў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Шапчына, Коханаўскі пасялковы Савет**

**2357. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Янава, Серкавіцкі сельсавет**

**2358. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ТАЛАЧЫНСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ,**

**ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД «ГРАЗА» І М. П. ГУДКОВА** (гіст.). У цэнтры вёскі, на будынку бібліятэкі. Устаноўлена ў 1977 г. ў гонар Талачынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскіх брыгад «Граза» і М. П. Гудкова, якія ў Вялікую Айчынную вайну базіраваліся ў лесе паміж в. Янава і в. Узноснае.

**2359. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ТАЛАЧЫНСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД «ГРАЗА» І М. П. ГУДКОВА.** (гіст.). За 2 км на поўнач ад в. Янава, у лесе. Тут дыслацыраваліся партызанскія брыгады «Граза» і М. П. Гудкова, Талачынскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ.

Талачынскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 8.7.1943 г. да 26.6. 1944 г. Сакратары С. М. Нарчук (да 28.5.1944 г.), А. П. Пахамовіч (май 1944 г.— 26.6.1944 г.). Райком вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, кіраваў партызанскім рухам, выдаваў газету «Чырвоны хлебароб».

Талачынскі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з жніўня 1942 г. да чэрвеня 1944 г. Сакратары Л. М. Міхайлава, А. У. Рак (сакратар па прапагандзе). Райком ствараў камсамольска-маладзёжнае падполле, пярвічныя камсамольскія арганізацыі, кіраваў імі, вёў палітыка-выхаваўчую і арганізатарскую работу сярод моладзі, узнімаў яе на барацьбу супраць акупантаў.

Партызанскі атрад «Граза» арганізаваны ў чэрвені 1942 г. ў савецкім тыле (50 чалавек, камандзір М. А. Рашэтнікаў, камісар С. М. Нарчук). Атрад перайшоў лінію фронту і 22 ліпеня прыбыў на месца дыслакацыі ў Талачынскі р-н, аб'яднаўся з мясцовай партызанскай групай С. Т. Баранава (створана ў сакавіку 1942 г.; 27 чалавек). У жніўні 1942 г. на базе атрада створана брыгада «Граза» (да ліпеня 1943 г. называлася партызанская брыгада «Дзядзькі Колі»). Камандзіры М. А. Рашэтнікаў (жнівень 1942 г.— чэрвень 1943 г.), С. М. Нарчук (чэрвень 1943 г.— май 1944 г., загінуў), Дз. М. Катлярчук (чэрвень 1944 г.), А. Дз. Варашэнь (в. а., чэрвень 1944 г.); камісар С. М. Нарчук (жнівень 1942 г.— чэрвень 1943 г.). Брыгада дзейнічала на тэрыторыі Талачынскага і Чашніцкага р-наў. Партызаны праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага, вялі адкрытыя і засадныя баі, знішчалі жывую сілу і тэхніку праціўніка. У жніўні 1943 г. на чыгуначным участку Пярэвалачня — Коханава падарвалі больш за 500 рэек. У 1944 г. разграмілі гарнізон у в. Курчоўская Усвейка Талачынскага р-на. 26.6. 1944 г. брыгада (9 атрадаў, 673 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Партызанская брыгада М. П. Гудкова створана ў жніўні 1942 г. на базе атрада М. П. Гудкова, арганізаванага вясной 1942 г. з групы ваеннаслужачых і мясцовых жыхароў, і атрада В. С. Лявонава, які дзейнічаў у Сенненскім р-не. У кастрычніку 1942 г. ў час баёў супраць карнікаў большасць асабовага складу брыгады ўвайшла ў Сенненскую партызанскую брыгаду. У лістападзе 1942 г. брыгада адноўлена ў складзе 2 атрадаў, пазней папаўнялася за лік мясцовых жыхароў і ваеннаслужачых, якія трапілі ў акружэнне. Камандзір М. П. Гудкоў, камісары В. С. Лявонаў (жнівень — кастрычнік 1942 г.), І. Р. Фінагееў (люты — чэрвень 1943 г.), Ф. П. Ігнатовіч (чэрвень 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Талачынскага, Сенненскага, Лепельскага, Чашніцкага р-наў Віцебскай, Халопеніцкага і Крупскага р-наў Мінскай абласцей. Народныя мсціўцы наносілі ўдары па камунікацыях праціўніка, падрывалі эшалоны, што ішлі на фронт, вялі засадныя і адкрытыя баі. У час «рэйкавай вайны» (жнівень 1943 г.) на ўчастку Коханава — Талачын падарвалі больш за 500 рэек. У жніўні 1942 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Відокі Сенненскага, Вятны Чашніцкага р-наў, у красавіку 1944 г.— у в. Шэйка Крупскага р-на. 26.6.1944 г. брыгада (7 атрадаў, 632 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1980 г. ў гонар Талачынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскіх брыгад «Граза» і М. П. Гудкова ў лесе паміж вёскамі Янава і Узноснае, на месцы базіравання брыгады М. П. Гудкова адноўлены 2 зямлянкі і пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944), Мн., 1983; Ж у р а ў с к і А. І. За родныя хаты: Партызанскія ўспаміны.— Мн., 1974.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Яскаўшчына, Талачынскі сельсавет**

**2360. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на краі поля, на невысокім узгорку, які зарос густым хмызняком. 25 курганоў добрай захаванасці, большая частка дыяметрам 5—6 м, вышынёй да 1,5 м. На паўночна-ўсходняй ускраіне могільніка ёсць курганы дыяметрам 10 м, вышынёй 2—2,5 м. За дарогай, каля лесу, адзіночны курган дыяметрам 8 м, вышынёй 1,5 м, яшчэ адзін знаходзіцца каля могілак. Адкрыў і абследаваў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1981 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*А. Р. Мітрафанаў.*




# УШАЦКІ РАЁН



Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі зямлянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабняні

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## XXIV. УШАЧЫ

Пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Ушача, за 150 км на захад ад Віцебска. Бліжэйшая чыгуначная станцыя Лепель за 36 км. Злучаны аўтамабільнымі дарогамі з Мінскам, Віцебскам, Полацкам, Лепелем, Улай.

Вядомы з 16 ст. як велікакняжацкае мястэчка, заснаванае пры замку. У 1624 г. належалі полацкаму стольніку Ю. Кляпоўскаму, з 1672 г.— Д. Радзімінскаму-Францкевічу, пазней — Шчытам, Жабам, графу Плятэру. Двойчы ў год у мястэчку наладжваліся вялікія кірмашы. У 1672 г. пабудаваны манастыр базыльян.

І. Жаба заснаваў у 1716 г. дамініканскі кляштар з гаспадарчымі пабудовамі, броварам, лазняй, шпіталем і шасцікласнай школай. У 1758 г. Ушачы атрымалі магдэбургскае права. З 1776 г. цэнтр Полацкага ваяводства, тут склікаліся сеймікі. З 1793 г. ў складзе Расійскай імперыі (заштатны горад), да 1805 г. цэнтр Лепельскага павета, пазней — валасці. У Айчынную вайну 1812 г. ва Ушачах стаялі войскі графа П. Х. Вітгенштэйна. У сярэдзіне 1880-х гадоў у мястэчку 652 жыхары, 128 двароў, у 1897 г.— 1268 жыхароў. З канца 19 ст. працавалі народнае вучылішча, лячэбніца, аптэка, гарбарны і паташны заводы, вадзяны млын, 2 заезныя двары, 16 крам, 8 шынкоў. Былі 2 мураваныя, 170 драўляных дамоў.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1919 г. Ушачы ў складзе РСФСР. У 1924—30 гг. раённы цэнтр Полацкай, у 1935—38 гг.— Лепельскай акруг, з 1938 г. гарадскі пасёлак Віцебскай вобл.

У Вялікую Айчынную вайну з 3.7. 1941 г. гарадскі пасёлак акупіравалі нямецка-фашысцкія захопнікі. Вызвалены ў канцы верасня 1942 г. Чашніцкай («Дубава») партызанскай брыгадай. Ва ўсім раёне была адноўлена Савецкая ўлада. Ушацкі р-н з'яўляўся цэнтрам Полацка-Лепельскай партызанскай зоны, на тэрыторыі якой дыслацыраваліся буйныя сілы народных мсціўцаў. 4.5.1944 г. гітлераўцы захапілі пасёлак, загубілі 735 жыхароў, спалілі 147 дамоў. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (6.7.1942 г.— 29.6.1944 г.) і ЛКСМБ (23.7.1942 г.— 29.6.1944 г.), Ушацкае камуністычнае падполле (з ліпеня 1941 г. да жніўня 1942 г., кіраўнік С. Я. Барадаўкін). У пасёлку ў жніўні 1941 г. было 6 падпольных партыйна-камсамольскіх груп, якія мелі 8 радыёпрыёмнікаў, да вясны 1942 г.— 2 гарматы, больш за 100 адзінак зброі, гранаты. На тэрыторыі раёна дзейнічалі 15 партызанскіх брыгад, 1 партызанскі полк, ваеннае і палітычнае кіраўніцтва якімі ажыццяўляла размешчаная ў пасёлку са снежня 1943 г. да сакавіка 1944 г. аператыўная група ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху. Выдавалася падпольная газета «Прыможны калгаснік». Ушачы вызвалены Савецкай Арміяй 29.6.1944 г. У 1944—54 гг. цэнтр раёна Полацкай, з 1954 г.— Віцебскай вобл., у 1962—66 гг. у складзе Лепельскага р-на.



**XXIV.** *Ленінская плошча.*

Ушачы знаходзяцца на ўзвышаным рэльефе з рэзкім паніжэннем у бок поймы р. Ушача, якая з захаду абмяжоўвае забудову пасёлка. Жылыя кварталы будавалі пераважна на ўзвышаных месцах правага берага ракі. У пасляваенны час пасёлак адноўлены, атрымалі развіццё прамысловыя прадпрыемствы, звязаныя з перапрацоўкай сельгаспрадуктаў. У 1969 г. Віцебскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект» зацверджаны праект забудовы цэнтральнай часткі пасёлка, які захаваў планіроўку, што гістарычна склалася. У 1977 г. Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва распрацаваў новы план забудовы пасёлка. Паводле яго развіццё намечана ўздоўж р. Ушача, з поўначы на поўдзень.

Сфарміраваны новы адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр у раёне вуліцы



**XXIV.** *Вуліца Ленінская. Фрагмент забудовы.*

і плошчы Ленінскай (Дом Саветаў, Дом культуры, камбінат бытавога абслугоўвання, гандлёвы цэнтр, сярэдняя школа), у раёнах вуліц Савецкай, Ленінскай, Камсамольскай пабудаваны жылыя дамы са свабодным размяшчэннем іх на мясцовасці. Прамысловая зона — на паўднёвы ўсход ад пасёлка. Прадпрыемствы: ільнозавод, агароднінасушыльны завод, хлебазавод. Працуюць лясгас, прамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, філіял Лепельскага дрэваапрацоўчага аб'яднання, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія». Ва Ушачах ёсць сярэдняя, рабочай моладзі і музычная школы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 клубы, 2 бібліятэкі, музей народнай славы, дзіцячы сад і яслі, бальніца, паліклініка, аптэка, дом адпачынку «Лясныя азёры», раённая санэпідэмстанцыя. Выдаецца раённая газета «Патрыёт». Помнікі У. І. Леніну, на брацкіх могілках партызан, падпольшчыкаў і савецкіх воінаў, на магіле ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — на берагах р. Ушача і азёр Вечалле, Тартак, Царкавішча, Звонь.

*Літ.:* Семёнов Тян-Шанский П. П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 5.— СПб., 1885; Список населенных мест Витебской губернии.— Витебск, 1906.

*Г. І. Барышаў, С. Ф. Цярохін.*

**2361. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ ПАРТЫЗАН, ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ І САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 82 партызаны, падпольшчыкі і воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — камісар партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева, сакратар Ушацкага падпольнага райкома КП(б)Б Іван Фёдаравіч Каранеўскі, начальнік штаба партызанскай брыгады імя У. І. Леніна Аляксандр Кузьміч Ізафатаў, начальнік штаба атрада імя Л. М. Даватара партызанскай брыгады 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі У. В. Ганчароў, начальнік пагранзаставы Ф. П. Кудраўцаў, трэці сакратар Ушацкага падпольнага райкома партыі С. Б. Боркар.

З сярэдзіны 1942 г. Ушацкі р-н быў вызвалены ад нямецкіх акупантаў. На яго тэрыторыі дыслацыраваліся партызанскія брыгады Чашніцкая («Дубава»), імя ЦК КП(б)Б, «Смерць фашызму» (з восені 1943 г. імя В. І. Чапаева), імя ВЛКСМ, імя С. М. Кароткіна і інш. Толькі ў самім пасёлку Ушачы трымаўся варожы гарнізон. У ноч на 30.8.1942 г. партызаны брыгады «Дубава» (камандзір Ф. Ф. Дуброўскі, камісар У. Е. Лабанок) атакавалі гарнізон, спалілі льнозавод. 10 верасня зноў нанеслі ўдар па гарнізону, часова аваладалі пасёлкам. У ноч на 28.9 і вечарам 28.9.1942 г. партызаны брыгад «Дубава», імя В. І. Чапаева і атрада М. М. Нікіціна двойчы атакавалі і разграмілі фашысцкі гарнізон. 29 верасня ў вызваленым пасёлку адбыўся мітынг. З гэтага часу Ушачы — цэнтр Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. На працягу 1943—44 гг. гітлераўскае камандаванне не раз імкнулася ліквідаваць партызанскую зону, вызваліць ад партызан тылы сваіх армій і камунікацыі.

Вялікую работу сярод партызан і мірных жыхароў Ушацкага р-на вёў падпольны Ушацкі райком КП(б)Б (6.7.1942 г.— 29.6.1944 г.).

І. Ф. Каранеўскі нарадзіўся 13.11.1905 г. ў в. Усвея Ушацкага р-на. З 1919 г. рабочы. З 1925 г. ў Чырвонай Арміі. Член КПСС з 1926 г. З 1933 г. на педагагічнай, савецкай і партыйнай рабоце ў Сухінічах, Бешанковічах. З 1940 г. сакратар Дрысенскага, Гарадоцкага райкомаў КП(б)Б. З мая 1942 г. ў партызанах, з ліпеня 1942 г. камісар партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева і адначасова сакратар Ушацкага падпольнага райкома КП(б)Б. У ліку першых партызан узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Загінуў у баі 4.5.1944 г.

У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна і надмагільныя пліты.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82.

*В. Б. Караткевіч.*

**2362. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).



*2361. Помнік на брацкіх могілках партызан, падпольшчыкаў і савецкіх воінаў.*



*2363. Дом, у якім размяшчаліся аператыўная група ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху, штаб партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева, друкарня падпольнай газеты «Прымежны калгаснік».*

**2362а.** Гарадзішча. На ўсходняй ускраіне г. п. Ушачы, каля льнозавода, на ўзгорку. Вядома пад назвай Замак. Пляцоўка авальная, памерам 82×35 м з невялікімі ўзвышшамі па краях, умацавана валам. Абследавалі ў 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1964 г. К. П. Шут, у 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. Л. А. Егарэйчанка. Культурны пласт у цэнтры дасягае 0,4 м, па краях перавышае 1 м. Мае 2 гарызонты — ніжні з керамікай днепрадзвінскай культуры (не пазней 3—4 стагоддзяў н. э.) і верхні, які адносіцца да перыяду ранняга феадалізму (11—13 стагоддзі).

**2362б.** Курганны могільнік. За 3 км на паўднёвы ўсход ад г. п. Ушачы, у лесе. 6 курганоў дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,5—2 м. Абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Ушацкага раёна Полацкай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**2363. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЛІСЯ АПЕРАТЫЎНАЯ ГРУПА ЦК КП(б)Б І БЕЛАРУСКАГА ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ, ШТАБ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ В. І. ЧАПАЕВА, ДРУКАРНЯ ПАДПОЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ «ПРЫМЕЖНЫ КАЛГАСНІК»** (гіст.). Вул. Калінінская, 69.

У кастрычніку 1943 г. ЦК КП(б)Б і Беларускі штаб партызанскага руху стварылі аператыўную групу для кіраўніцтва і каардынацыі дзейнняў партызанскіх брыгад Полацка-Лепельскай зоны. Кіраўніком яе быў прызначаны У. Е. Лабанок. У групу ўвайшлі падпалкоўнік А. І. Бруханаў, маёр А. Ф. Бардадын, капітаны І. І. Зіненка і Дз. А. Фралоў. У пачатку снежня група прыбыла ва Ушачы. Яна мела сувязь не толькі з партызанскімі брыгадамі зоны, але і з партызанскімі злучэннямі суседніх зон, камандаваннем 1-га Прыбалтыйскага фронту. 12 снежня група правяла нараду каманднага саставу партызанскіх бры-

гад Полацка-Лепельскай, потым — Барысаўска-Бягомльскай зон, кіравала баявой падрыхтоўкай брыгад у сувязі з пагрозай прарыву абароны партызанскай зоны буйнымі сіламі нямецка-фашысцкіх карнікаў, вяла работу па арганізацыі разведвальнай работы, забеспячэнню боепрыпасамі.

З снежня 1943 г. да сакавіка 1944 г. ў гэтым доме размяшчаліся таксама штаб партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева (гл. артыкул № 2371 «Месца размяшчэння штаба партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева») і друкарня падпольнай газеты «Прымежны калгаснік».

У 1964 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Злева ад дома — штабная зямлянка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976.

*В. Б. Караткевіч.*

**2364. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). За 7 км на поўдзень ад гарадскога пасёлка, непадалёку ад дома адпачынку «Лясныя азёры».

**2364а.** Курганны могільнік-1. Злева ад дарогі Ушачы — Лепель, каля павароту на воз. Вечалле. 10 насыпаў вышынёй 1,5—4 м, дыяметрам 18—36 м. Выявіў у 1928 г. І. А. Сербаў, абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**2364б.** Курганны могільнік-2. За 0,6 км на поўдзень ад першага. 103 насыпы вышынёй не больш за 3 м, дыяметрам да 10 м, стаяць у адзін, два, радзей у тры рады кампактнай групай. Насыпы пясчаныя, здзірванелыя, захаваліся добра. Асобныя курганы трапляюцца і далей, уздоўж дарогі. Выявіў у 1928 г. І. А. Сербаў, абследавала ў 1972 г. А. А. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Ушацкага раёна Полацкай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

*В. Б. Караткевіч.*

**2365. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая. Пахаваны 925 савецкіх грамадзян, жыхароў Ушач і в. Кублічы, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 14.1. 1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2366. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). Воз. Вечалле. Зімой 1943—44 гг. аператыўная група ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху і штаб партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева, якія размяшчаліся ва Ушачах, выкарыстоўвалі лядовую паверхню возера як пасадачную пляцоўку для самалётаў. Цераз паветраны мост партызаны падтрымлівалі сувязь з Беларускім штабам партызанскага руху, атрымлівалі зброю, боепрыпасы і медыкаменты, вывозілі за лінію фронту раненых.

У красавіку 1944 г. з гэтага аэрадрома лётчыкі Аляксандр Мамкін і Аляксандр Кузняцоў вывезлі на Вялікую зямлю каля 200 дзяцей Полацкага дзіцячага дома. У час апошняга рэйса самалёт быў падбіты. Палаючую машыну А. Мамкін перацягнуў цераз лінію фронту, выратаваў дзяцей, сам памёр ад апёкаў. У 1976 г. на паўднёва-ўсходнім беразе возера, на месцы партызанскага аэрадрома, пастаўлена стэла.

**2367. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА ТЭЛЕФОННАГА ВУЗЛА СУВЯЗІ** (гіст.). На рагу вуліц Школьнай і Калінінскай, у склепе. Створаны для сувязі аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху з брыгадамі і атрадамі Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. Меў 450 км тэлефоннай сувязі. У абсталяванні і забеспячэнні надзейнай работы вузла вялікая заслуга аднаго з першых ушацкіх сувязістаў П. А. Апёнка. На склепе ў 1981 г. ўстаноўлена дошка з надпісам-інфармацыяй.

*Літ.:* Барадулін Р. Любоў вяла да перамогі.— Маладосць, 1980, № 5.

**2368. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніча. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**в. Антунова,**
**Велікадолецкі сельсавет**

**2369. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахавана больш за 200 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. ў баях супраць войск буржуазнай Польшчы і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Восенню 1942 г. ў Антуноўскім лесе знаходзіліся Лепельскі падпольны райком КП(б)Б, штаб Чашніцкай («Дубава») партызанскай брыгады. Адсюль партызаны рабілі рэйды па варожых тылах, хадзілі на мініраванне чыгункі. У снежні 1942 г. гітлераўцы зрабілі беспаспяховую спробу выбіць партызан з Антуноўскага лесу. Жорсткія баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў вяла ў канцы красавіка 1943 г. на шашы Лепель — Бягомль, каля в. Стайск Чашніцкая брыгада «Дубава». Тут 30.4.1943 г. загінулі намеснік камандзіра брыгады М. Р. Жукаў і камандзір роты В. Дз. Нікіфараў (пахаваны ў Антунове). У снежні 1943 г.— сакавіку 1944 г. буйныя сілы рэгулярных войск праціўніка 5 разоў спрабавалі знішчыць партызан. У красавіку — маі 1944 г. каля в. Антунова вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў партызаны брыгады імя В. І. Чапаева.

У 1965 г. на могілках пастаўлены помнікі — скульптура воіна і 24 абеліскі.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**2370. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА ЛАГЕРА** (гіст.). За 7 км на ўсход ад вёскі ў лесе ў Вялікую Айчынную вайну знаходзіўся партызанскі лагер. На яго тэрыторыі з 8.10.1942 г. да 1.7. 1943 г. размяшчаліся Лепельскі падпольны райком КП(б)Б, штабы, базы і шпіталь партызанскіх брыгад Чашніцкай («Дубава»; камандзір Ф. Ф. Дуброўскі, камісар У. Е. Лабанок) і «Жалязняк» (камандзір І. П. Ціткоў, камісар С. С. Манковіч). У лагеры працавалі клуб, электра- і тэлефонная станцыі. У 1965 г. ў памяць аб гэтым на тэрыторыі Антуноўскай школы ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Антунова, Глыбачанскі сельсавет**

**2371. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ В. І. ЧАПАЕВА** (гіст.). За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Кісялі ў 1942 г. размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева.

Брыгада створана ў чэрвені 1942 г. паводле ўказання Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б на базе атрада «Смерць фашызму». Да восені 1943 г. называлася «Смерць фашызму». Камандзір брыгады — У. В. Мельнікаў (чэрвень 1942 г.— ліпень 1944 г.), камісары — М. І. Ястрабаў (чэрвень 1942 г.), І. Ф. Караneўскі (ліпень 1942 г.— май 1944 г., загінуў). Брыгада дзейнічала на тэрыторыі Ушацкага, Ветрынскага, Бешанковіцкага, Полацкага, Сіроцінскага і Лепельскага р-наў. Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Маладзечна, Полацк — Віцебск, шашэйных і грунтавых дарогах. У жніўні 1942 г. разграмілі нямецкі гарнізон у в. Варонічы Ветрынскага р-на, знішчылі льнозавод і падарвалі мост цераз р. Ушача. У верасні 1942 г. падарвалі мост цераз р. Шоша, што спыніла рух на чыгунцы Полацк — Маладзечна на 16 сутак, разграмілі ў ліпені 1943 г. гарнізон у в. Фролкавічы Бешанковіцкага р-на. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне», падарвалі больш за 3 тыс. рэек. У лістападзе 1942 г., маі 1943 г., красавіку — маі 1944 г. вялі баі супраць гітлераўцаў за вёскі Далецкія, Заазер'е, Заскаркі, Шчаты Полацкага і Ветрынскага р-наў. У маі 1943 г. разграмілі варожы гарнізон у вёсках Шалкова, Шэлегаўка Полацкага р-на, у крас.— маі 1944 г. вялі баі супраць карнікаў на тэрыторыі Ветрынскага р-на, у маі 1944 г. прарвалі варожую блакаду ў раёне вёсак Паперына — Новае Сяло Ушацкага р-на.

29.6 і 1.7.1944 г. брыгада (1295 партызан, атрады імя М. В. Фрунзе, імя А. В. Суворава, імя С. Г. Лазо, імя М. А. Шчорса, імя Аляксандра Неўскага, імя М. Ф. Сільніцкага, імя М. І. Кутузава, імя Р. І. Катоўскага, імя В. П. Чкалава, імя Багдана Хмяльніцкага) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1974 г. ў памяць аб баявых дзеяннях брыгады імя В. І. Чапаева ва ўрочышчы Кісялі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; его ж. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Арэхаўна, Лутаўскі сельсавет**

**2372. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 101 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**2373. ПОМНІК КАСЦЮЧЭНКА** Надзеі Лявонаўне (гіст.). Перад будынкам школы.

Н. Л. Касцючэнка нарадзілася 8.11. 1922 г. ў в. Лутава Ушацкага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Працавала піянерважатай у Арэхаўскай школе. З верасня 1941 г. сувязная партызанскай групы Ф. Ф. Дуброўскага, з жніўня 1942 г. партызанка брыгады Чашніцкай («Дубава»). У час абароны ў маі — чэрвені 1943 г. партызанамі в. Пышна Лепельскага р-на кулямётчыца Касцючэнка некалькі дзён удзельнічала ў адбіцці атак карнікаў. 8.6.1943 г. варожы танк і больш за 50 гітлераўцаў прарвалі партызанскую абарону. Надзя са звязкай гранат кінулася пад танк, падарвала яго і загінула сама. Пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені.

У 1978 г. на ўшанаванне памяці партызанкі ўстаноўлены яе бюст (скульпт. А. Бачкароў).

*Літ.:* Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**2374. СЯДЗІБА** (архіт., гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Сфарміравана ў сярэдзіне 19 ст. Цяпер тут размешчана школа.

Ансамбль сядзібы мае рэгулярную схему планіроўкі. У цэнтры — мураваны сядзібны дом. За ім невялікі парк з штучнай авальнай сажалкай. Перад домам, абапал партэра, гаспадарчыя пабудовы. Планіровачная вось ансамбля сядзібы супадае з уязной алеяй.

Сядзібны дом — П-падобны аднапавярховы будынак з двухпавярховай трохвосевай цэнтральнай часткай.



**2374.** *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



**2374.** *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*

Агульная сіметрыя аб'ёмна-прасторавай будовы парушаецца асіметрычным чатырохкалонным порцікам, якім аформлены ўваход у будынак. Архітэктурны дэкор сканцэнтраваны на мансардавай частцы з балконам (чыгуннае ліццё) і на ўваходным порціку. Тут выкарыстаны руст, сандрыкі, дэнтыкулы. Сцены расчлянёны прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка дома анфіладная з цэнтральнай авальнай залай, якая выступае з боку дваровага фасада паўкругам. Памяшканні рознай канфігурацыі — ад круглых да складаных шматгранных. Сувязь з мансардай — праз двухмаршавую лесвіцу ў вестыбюлі.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

У былым сядзібным доме 9.7. 1943 г.— 15.4.1944 г. размяшчаўся шпіталь 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі партызанскай брыгады. У памяць аб гэтым у 1958 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971; Лобанок



**2374.** *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*

В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981.

*В. Б. Караткевіч, А. М. Кулагін.*

**в. Асавіна (не існуе), Кубліцкі сельсавет**

**2375. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Асавіна знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Капылоўшчына. У чэрвені 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 40 яе жыхароў, спалілі вёску (22 двары). Не адрадзілася. У 1965 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Асінаўка (не існуе), Глыбачанскі сельсавет**

**2376. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Асінаўка знаходзілася за 1,5 км на поўнач ад в. Антунова. У 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі яе (18 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла.

**в. Афераўшчына, Велікадолецкі сельсавет**

**2377. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 43 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бабовішча, Велікадолецкі сельсавет**

**2378. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У красавіку — маі 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі праводзілі карную аперацыю супраць партызан і мірнага насельніцтва Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. 12.5. 1944 г. карнікі сабралі ў в. Бабовішча жыхароў вёсак Заляддзе, Глінцы, Галья і Тухаціна, загналі ў 5 хат, расстралялі і спалілі. Загінулі 213 чалавек — дзеці, жанчыны, старыя. Праз некалькі дзён фашысты прывезлі ў Бабовішча 26 жыхароў в. Весніц, расстралялі іх у адной з хат, а потым спалілі. Усяго карнікі загубілі тут 515 жыхароў розных вёсак. У вёсцы ўцалела толькі 5 двароў.

У 1964 г. на месцы загубы мірных жыхароў пастаўлены абеліск.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Бадзяліна, Глыбачанскі сельсавет**

**2379. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі, за мостам, у лесе. 7 насыпаў вышынёй 1,4—1,5 м, дыяметрам 12—15 м, адзін курган вышынёй 6 м, дыяметрам 25 м. Абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Баравыя (не існуе), Велікадолецкі сельсавет**

**2380. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Баравыя знаходзілася за 1 км на паўночны захад ад в. Стараселле. У 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі яе (7 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Бачкары (не існуе), Жарскі сельсавет**

**2381. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Бачкары знаходзілася за 1 км на паўднёвы захад ад в. Рагуцкія. У 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 12 жыхароў і знішчылі вёску (13 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены памятны знак.

**в. Башоўка (злілася з в. Садкі), Велікадолецкі сельсавет**

**2382. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Бор. Каля 50 курганоў вышынёй да 2 м, дыяметрам 6—10 м. Амаль усе абкладзены камянямі. Захаванасць добрая. Выявіла і абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**2383. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА 1-й АНТЫФАШЫСЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У будынку школы ў студзені — красавіку 1944 г. размяшчаўся штаб 1-й Антыфашысцкай брыгады.

Створана ў жніўні 1943 г. Камандзір — У. У. Гіль-Радзіёнаў (да мая 1944 г., загінуў), І. М. Цімчук (май — ліпень 1944 г.), камісары — А. М. Касцяневіч (в. а., верасень 1943 г.), І. М. Цімчук (кастрычнік 1943 г.— май 1944 г.), І. М. Яўмененка (май — ліпень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Барысаўскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Куранецкага, Плiскага, Пастаўскага, Лепельскага, Ушацкага р-наў. Партызаны ў жніўні 1943 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў Докшыцах і на чыгуначнай станцыі Крулеўшчына. Сумесна з партызанскімі брыгадамі «Дзядзькі Колі», «Смерць фашызму» ўдзельнічалі ў знішчэнні варожых гарнізонаў у в. Зембін (верасень 1943 г.), Вілейцы (кастрычнік 1943 г.). 17.3. 1944 г. разграмілі варожую роту ў в. Шыпы Плiскага р-на. У час «рэйкавай вайны» на чыгунцы Мінск — Смалявічы падарвалі і пашкодзілі каля 5 тыс. рэек. У красавіку — маі 1944 г. ў час карнай аперацыі «Веснавое свята» вялі абарончыя баі, у ноч на 5 мая ўдзельнічалі ў прарыве варожай блакады каля в. Пліна Ушацкага р-на. 4.7.1944 г. брыгада (422 партызаны, 4 атрады) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У памяць аб баявой дзейнасці 1-й Антыфашысцкай партызанскай брыгады ў 1976 г. на хаце, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Мачульский Р. Н. Вечный огонь.— 2 изд.— Мн., 1969.

*В. В. Семянюк.*



**2382.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Белае, Мосарскі сельсавет**

**2384. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўскраіне вёскі, справа ад дарогі ў в. Шасцярні. Пахаваны 36 жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 25.11.1942 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Белашы (не існуе), Глыбачанскі сельсавет**

**2385. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Белашы знаходзілася за 2 км на ўсход ад в. Антунова. У 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі яе (17 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Белюкоўшчына, Кубліцкі сельсавет**

**2386. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля вёскі, на беразе воз. Горнава, на 2 пляцоўках. Памер першай 40×70 м, другой 55×60 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй каля 2 м і ровам глыбінёй 2 м. Выявіў у 1967 г. К. П. Шут, абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Сабраны фрагменты ляпной гладкасценнай і сеткаватай керамікі. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 4 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Брады (не існуе), Велікадолецкі сельсавет**

**2387. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Брады знаходзілася за 3,5 км на поўдзень ад в. Касары. У 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі яе (6 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Быстрыкі, Глыбачанскі сельсавет**

**2388. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА** (гіст.). У доме І. М. Літвіна з ліпеня 1943 г. да красавіка 1944 г. размяшчаўся штаб брыгады імя У. І. Леніна.

Брыгада створана ў сакавіку 1943 г. паводле ўказання Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б на базе вылучаных брыгадай імя С. М. Кароткіна атрадаў «Мсцівец», імя К. Я. Варашылава, «Сталінец» і групы партызан атрада «Грозны». Адначасова арганізаваны 2, 4, 5-ы, пазней 7-ы атрады. Камандзір — М. А. Сакмаркін, камісар — А. У. Сіпко. Дзейнічала ў Сіроцінскім, Расонскім, Гарадоцкім, Ушацкім, Бешанковіцкім р-нах Віцебскай і Шаркоўшчынскім, Дзісенскім р-нах Вілейскай абласцей. Партызаны разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Даўгаполле і Маскаляняты Гарадоцкага р-на (люты 1943 г.), Мішневічы (сакавік 1943 г.), Дворышча (чэрвень 1943 г.) Сіроцінскага р-на, Лявонава (ліпень 1943 г.) Ушацкага р-на і інш. Праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Віцебск, Полацк — Маладзечна. У «рэйкавай вайне» пашкодзілі больш за 1,8 тыс. рэек. У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічалі ў баях супраць карнікаў, прарвалі блакаду на лініі вёсак Новае Сяло — Селішча Ушацкага р-на, чыгункі Полацк — Маладзечна і шашы Лепель — Беразіно.

2.7.1944 г. брыгада (571 партызан, атрады імя М. В. Фрунзе, імя С. М. Кірава, імя К. Я. Варашылава, імя І. В. Сталіна, імя А. В. Суворава, імя В. І. Чапаева, імя М. І. Кутузава) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Ваўчо, Лутаўскі сельсавет**

**2389. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на заходнім беразе воз. Гарадзенец, ва ўрочышчы Замак, на высокім прадаўгаватым узгорку. Вышыня над воз. Гарадзенец 7 м. З захаду гарадзішча абмываецца р. Ваўчо. Памер пляцоўкі 45×60 м. Абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Воснава, Велікадолецкі сельсавет**

**2390. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2390а.** Курганны могільнік-1. За 1 км на захад ад вёскі, злева ад дарогі з в. Вялікія Дольцы ў в. Дубінец. 7 насыпаў: 2 круглыя дыяметрам 7—9 м, вышынёй 1 і 2,5 м; 2 доўгія памерам 18×15 м, вышынёй 2,5 м; 2 курганы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 8 м маюць каменную мuroўку; адзін вышынёй 1,5 м, у папярочніку 8 м, з 2 бакоў абрэзаны.

**2390б.** Курганны могільнік-2. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Барок. 15 курганоў вышынёй ад 1 да 2,5 м, дыяметрам 7—10 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Вялікія Дольцы, цэнтр сельсавета**

**2391. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — намеснік камандзіра партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава («Аляксея») па разведцы лейтэнант К. В. Зюкаў і камісар партызанскага атрада «Казбек» гэтай брыгады М. І. Недабойкін. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2392. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 58 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызан.

**2393. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ А. Ф. ДАНУКАЛАВА** (гіст.). У красавіку 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава (да мая 1944 г. «Аляксея»).

Брыгада створана ў красавіку 1942 г. У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічала ў цяжкіх баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на рубяжы вёсак Замошша, Царковішча, хутара Тартак, вёсак Казімірова, Ветча, Лагі, Бушанка Ушацкага р-на. Разам з іншымі брыгадамі ў ноч на 3 мая прарвала варожую блакаду. Гл. артыкул № 1577 «Месца базіравання штаба партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава» (в. Кавалі Лёзненскага р-на).

У 1976 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Вялічкаўцы, Мосарскі сельсавет**

**2394. РАДЗІМА ДЗЯМЕШКІ** Міхаіла Кузьміча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы М. К. Дзямешка нарадзіўся 20.4.1928 г. ў сялянскай сям'і. Чл. КПСС з 1952 г. З 1946 г. працаваў мулярам, з 1951 г. брыгадзірам муляраў. Заслужаны будаўнік БССР з 1965 г. У 1970—74 гг. майстар будаўнічага ўпраўлення № 42 (з 1973 г. ПМК № 135) трэста «Полацксельбуд». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 7.5. 1971 г. за поспехі, дасягнутыя пры выкананні заданняў пяцігадовага плана. М. К. Дзямешка памёр 27.8. 1976 г.

**в. Гарадзец 3-і, Жарскі сельсавет**

**2395. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2395а.** Гарадзішча. На левым беразе р. Ушача, на месцы былой в. Гарадзец 1-ы, на ўзгорку вышынёй 16—18 м. Памер пляцоўкі каля 90×90 м. Вядома з 1873 г. Даследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Культурны пласт 0,2—0,6 м. Мае 2 гарызонты. У ніжнім знойдзена ляпная кераміка, у верхнім — рэшткі ганчарнага посуду. Адносіцца да 1-й паловы 1-га тысячагоддзя н. э. і 11—12 стагоддзяў.

**2395б.** Курганны могільнік. Побач з вёскай, на высокім беразе воз. Існа. 20 курганоў вышынёй да 1,5 м, дыяметрам да 3 м. 7 курганоў не пашкоджаны. Вядомы з 1873 г. І. А. Сербаў у 1928 г. раскапаў адзін насып, у якім шкілет нябожчыка ляжаў на вогнішчы на грунце. Датуецца пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Ушацкага раёна Полацкай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Гараўцы (не існуе), Мосарскі сельсавет**

**2396. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гараўцы знаходзілася за 2 км на паўночны ўсход ад в. Кісялёва. У 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі яе (12 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены памятны знак.

**в. Гарбаціца, Вяркудскі сельсавет**

**2397. ПОМНІК ВУЧНЯМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 79 былых вучняў школы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1976 г. пастаўлены абеліск.

**2398. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 165 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гвазды (не існуе), Жарскі сельсавет**

**2399. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гвазды знаходзілася за 0,5 км на паўночны ўсход ад в. Гарадзец 3-і. У 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты знішчылі яе (8 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Гліннікі (не існуе), Глыбачанскі сельсавет**

**2400. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гліннікі знаходзілася за 1 км на паўночны захад ад в. Заполле. У красавіку 1944 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі яе (14 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Глыбачка, цэнтр сельсавета**

**2401. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1400 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Барыс Іванавіч Юркін.

Б. І. Юркін нарадзіўся 30.6.1919 г. ў Арэнбургу. У 1938 г. скончыў мясцовы тэхнікум шляхоў зносін. Удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з красавіка 1944 г. Камандзір аддзялення сяржант Б. І. Юркін вызначыўся ў чэрвені 1944 г. ў час наступлення 270-й стралковай дывізіі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту. 26.6.1944 г. аддзяленне Юркіна фарсіравала Заходнюю Дзвіну. На плацдарме камандзір знішчыў варожы дзот, першым уварваўся ў траншэю, забіў 4 фашыстаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названа школа ў в. Глыбачка, вуліца на радзіме.

У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**2402. ДОМ, У ЯКІМ АДБЫЛОСЯ ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ УШАЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). У доме У. Ф. Талочкі 18.6.1942 г. адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Ушацкага падпольнага райкома КП(б)Б. На ім прысутнічалі: І. Ф. Каранеўскі, У. Я. Васілеўскі, М. А. Цыбут, У. В. Мельнікаў, С. Б. Боркар. 6.7.1942 г. райком зацверджаны Віцебскім падпольным абкомам КП(б)Б, дзейнічаў да 29.6.1944 г.

Сакратары падпольнага райкома КП(б)Б: І. Ф. Каранеўскі (першы сакратар, 6.7.1942 г.— май 1944 г., загінуў), М. Х. Федарэнка (другі сакратар, 1.4.1943 г.— люты 1944 г.), М. І. Ястрабаў (другі сакратар, 17.2—29.6. 1944 г.), С. Б. Боркар (трэці сакратар, 17.2 — май 1944 г., загінула). Райком базіраваўся ў зонах дзейнасці партызанскіх брыгад імя Чапаева і 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі. Выдаваў падпольную газету «Прымежны калгаснік» (рэдактар М. І. Гайсёнак).

У памяць аб першым пасяджэнні падпольнага райкома КП(б)Б на доме



2401. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У. Ф. Талочкі ў 1976 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *В. Б. Караткевіч.*

**2403. МАГІЛА ТАПЧЭЎСКАГА** Фелікса Феліксавіча (гіст.). На Кашчанскіх могілках.

Беларускі паэт-дэмакрат Ф. Ф. Тапчэўскі (псеўданім Хвэлька з Рукшэніц) нарадзіўся ў 1838 г. ў фальварку Лёсава (1,5 км на паўднёвы захад ад в. Рукшаніца, якая злілася з в. Глыбачка). Паходзіў са збяднелай шляхты. Скончыў Лепельскае павятовае дваранскае вучылішча. Служыў у канцылярыі Віцебскага земскага суда. У 1860-я гады працаваў пісарам на Лепельшчыне. У 1864 г. арыштаваны, пасля жыў у сваім фальварку Лёсава, а ў 80-я гады — у в. Вухвішча Полацкага р-на, дзе памёр 17.12.1892 г. Пахаваны ў в. Глыбачка.

Творы Ф. Ф. Тапчэўскага распаўсюджваліся ў рукапісах і як фальклорныя («Грошы і праца», «Ён і яна», «Саусім не тое, што было»), дайшлі да нас дзякуючы рукапіснай «Беларускай хрэстаматыі» Б. І. Эпімаха-Шыпілы. 30 радкоў паэзіі Ф. Ф. Тапчэўскага былі пры яго жыцці змешчаны ў «Беларусах» Я. Ф. Карскага (т. 3, ч. 3). «Вечарынка» і «Панскае ігрышча» ўпершыню надрукаваны ў 1954 г. Дэмакратычная творчасць паэта адмаўляе няроўнасць, асуджае прыгнёт, ухваляе працоўнага чалавека. Мова твораў сакавітая, народная.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969; Грынчык М. М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі.— Мн., 1969; Каханоўскі Г. Па сцежках Фелікса Тапчэўскага.— Беларусь, 1972, № 9. *Г. А. Каханоўскі.*

**2404. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «СМЕРЦЬ ФАШЫЗМУ»** (гіст.). У вёсцы ў 1942 г. размяшчаўся штаб партызанскага атрада «Смерць фашызму». Атрад арганізаваны ў маі 1942 г. (гл. артыкул № 2502 «Месца стварэння атрада «Смерць фашызму»). Камандзіры — Ц. Дз. Плахатнюк, У. В. Мельнікаў, камісар — У. Я. Васілеўскі. У маі — чэрвені 1942 г. ў атрад увайшлі групы подпольшчыкаў з вёсак Арэхаўна, Апанаскавічы, Янава і інш., а таксама ваеннаслужачых М. М. Пучкова, А. Я. Конева. Паводле рашэння Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б на базе атрада ў чэрвені 1942 г. створана партызанская брыгада «Смерць фашызму» (з восені 1943 г. імя В. І. Чапаева). У 1974 г. ў памяць аб знаходжанні ў вёсцы штаба атрада ў цэнтры яе пастаўлена стэла.

**2405. ПОМНІК ВУЧНЯМ** (гіст.). У двары школы. На ўшанаванне памяці 64 былых вучняў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлена стэла.

**2406. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам клуба. На ўшанаванне памяці 262 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Грыгары (не існуе), Мосарскі сельсавет**

**2407. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Грыгары знаходзілася за 3,5 км на ўсход ад в. Белая. У 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі яе. Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла.

**в. Гута, Жарскі сельсавет**

**2408. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 32 курганы добрай захаванасці, ёсць вышынёй да 1 м, дыяметрам 3 м і вышынёй да 5 м, дыяметрам 25 м. Сярэдняя вышыня 2—3 м, дыяметр 6—8 м. Выявіла ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гуцішча (не існуе), Жарскі сельсавет**

**2409. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гуцішча знаходзілася за 1 км на паўночны захад ад в. Бараўцы. У 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі яе (17 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Дубраўка, цэнтр сельсавета**

**2410. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Канстанцін Пракопавіч Кутрухін.

К. П. Кутрухін нарадзіўся 1.2. 1916 г. ў в. Удзельны Юрынскага р-на Марыйскай АССР у сялянскай сям'і. На фронце з 1943 г. Вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. У чэрвені 1944 г. ў час наступлення войск 1-га Прыбалтыйскага фронту

стралковае аддзяленне на чале з гвардыі сяржантам К. П. Кутрухіным фарсіравала Заходнюю Дзвіну і на захопленым плацдарме адбіла 5 контратак ворага. 27.6.1944 г. ў баі за в. Хадакова К. П. Кутрухін закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, гэтым забяспечыў пасяховае наступленне савецкіх войск. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена К. П. Кутрухіну 24.3.1945 г. Яго імем названа школа ў в. Дубраўка. На месцы подзвігу ўстаноўлены памятны знак.

У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік: скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**2411. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 220 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены помнік — абеліск і 5 дошак з імёнамі загінуўшых.

**в. Жары, цэнтр сельсавета**

**2412. БРАЦКАЯ МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 79 жыхароў і 4 савецкія воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

У лесе, каля вёсак Жары і Істопішча ў 1942 г. знаходзілася база Чашніцкай («Дубава») партызанскай брыгады (камандзір Ф. Ф. Дуброўскі, камісар У. Е. Лабанок). 10.10.1942 г. атрад нямецка-фашысцкіх карнікаў акружыў в. Жары. Фашысты сагналі ўсіх жыхароў да хаты П. М. Сальніка, прымушалі іх выдаць месца знаходжання партызан. Людзей білі палкамі і прыкладамі, потым расстралялі. Сярод ахвяр былі дзеці, жанчыны, старыя.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**2413. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 воінаў і 54 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2414. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 297 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Жарэнькава (не існуе), Дубраўскі сельсавет**

**2415. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Жарэнькава знаходзілася за 3 км на ўсход ад в. Стаі. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі яе (12 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены памятны знак.



2410. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Заазер'е, Велікадолецкі сельсавет**

**2416. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2416а.** Курганны могільнік-1. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на перакрыжаванні бальшака Вялікія Дольцы — Пышна і грунтавой дарогі на былы хутар Тартак, на высокай выдме, зарослай лесам. Складаецца з 2 груп: 11 і 15 насыпаў вышынёй да 2 м, дыяметрам 6—8 м.

**2416б.** Курганны могільнік-2. За 0,2 км на ўсход ад вёскі, на заходнім беразе воз. Заазер'е. Захавалася 5 насыпаў вышынёй 2—3 м, дыяметрам да 10 м. Выявіў могільнікі ў 1928 г. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Забораўна, Лутаўскі сельсавет**

**2417. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. У 10 магілах пахаваны 38 партызан і жыхароў вёскі, якіх у 1944 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты, вёску часткова спалілі.

**в. Завыдрына, Жарскі сельсавет**

**2418. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ЧАШНІЦКАЙ («ДУБАВА») ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). Каля вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Істопішча. Брыгада створана ў жніўні 1942 г. паводле рашэння Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б на базе атрадаў 9-га (камандзір Ф. Ф. Дуброўскі) і асобнага 68-га (камандзір У. Е. Лабанок). У час фарміравання брыгады створаны 1-ы, 2-і, 3-і, потым 4-ы, 6-ы, 7-ы, 8-ы, 9-ы, 12-ы, 13-ы атрады, кавалерыйскі эскадрон (з верасня 1943 г. атрад 10-ы) і артылерыйскі дывізіён (з чэрвеня 1944 г. атрад 15-ы). У ліпені 1943 г. 3-і, 4-ы, 8-ы, 9-ы, 13-ы атрады ўвайшлі ў Лепельскую партызанскую брыгаду імя Сталіна. Камандзір Чашніцкай брыгады — Ф. Ф. Дуброўскі («Дубаў», са жніўня 1942 г.), камісары — У. Е. Лабанок (жнівень 1942 г.— ліпень 1943 г.), М. В. Старынскі (ліпень 1943 г.— люты 1944 г.), С. Я. Барадаўкін (з красавіка 1944 г.). Брыгада дзейнічала на тэрыторыі Ушацкага, Лепельскага, Чашніцкага, Бешанковіцкага р-наў Віцебскай вобл., Халопеніцкага і Бягомльскага р-наў Мінскай вобл. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Маладзечна, Орша — Лепель, шашэйных і грунтавых дарогах, удзельнічалі ў вызваленні Лепельскага, Чашніцкага і Ушацкага р-наў, утрымлівалі Полацка-Лепельскую партызанскую зону. У верасні 1942 г. брыгада ажыццявіла некалькі наступальных аперацый па разгрому варожага гарнізона ва Ушачах, у студзені 1943 г. вяла баі за в. Пышна, у сакавіку разграміла гарнізон на станцыі Чашнікі. У маі — чэрвені 1944 г. партызаны ўтрымлівалі лінію абароны каля вёсак Валовая Гара — Домжарыцы — Саўскі Бор Лепельскага і Бягомльскага р-наў, прарвалі абарону праціўніка ў раёне в. Макаўе — Мажніца Бягомльскага р-на. У «рэйкавай вайне» ў час аперацыі «Канцэрт» падарвалі каля 2 тыс. рэек.

28.6.1944 г. брыгада (1808 партызан, атрады 1-ы, 2-і, 3-і імя Дзідзенкі, 4-ы, 5-ы, 6-ы імя Вітко, 7-ы, 8-ы, 9-ы, 10-ы, 11-ы, 12-ы, 13-ы, 14-ы, 15-ы) злучылася з Савецкай Арміяй і ўдзельнічала ў баях у раёне Чашнікі — Лукомль. Камандзіру брыгады Ф. Ф. Дуброўскаму і камісару У. Е. Лабанку прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1976 г. на месцы стварэння Чашніцкай («Дубава») партызанскай брыгады пастаўлена стэла.

*Літ.:* Лобачок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Загаваліна, Глыбачанскі сельсавет**

**2419. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на высокім узгорку. Пляцоўка авальная, памерам 40×30 м. Схілы стромкія, з паўночнага боку ёсць невялікая тэраса. Вядома з 1873 г. Даследаваў у 1966 г. К. П. Шут. Ускрыта 200 м² плошчы. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,3 м, па краях 1,0—1,2 м. Мае 2 гарызонты. У ніжнім выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі з каменнымі агнішчамі, знойдзены шлак і абломкі печаў-домніц, жалезныя сярпы, нажы, шылы, іголкі, дроцік, бронзавыя спіралькі, бляшкі, касцяныя праколкі, каменныя паліраваныя сяке-

ры, таўкачы, слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікавай формы, упрыгожаныя ямачнымі паглыбленнямі, скразнымі адтулінамі ніжэй краю венчыка, наразнымі лініямі і насечкамі па верхняй частцы пасудзін. У верхнім гарызонце знойдзены абломкі гладкасценных пасудзін. Ніжні гарызонт адносіцца да днепра-дзвінскай культуры (1 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.), верхні — да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шут К. П. Городище Заговалино Ушачского района.— У кн.: Вопросы истории. Мн., 1969; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *А. Р. Мітрафанаў.*

**2420. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 98 жыхароў в. Загаваліна і некаторых вёсак Бешанковіцкага р-на, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1944 г. акупанты спалілі в. Загаваліна (81 двор). У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Загор'е, Вяркудскі сельсавет**

**2421. ВЯНОЧНЫ ДВОР** (гіст.). Пабудаваны ў 1938 г. з дрэва. Усе жылыя і гаспадарчыя пабудовы шчыльна згрупаваны вакол дзянніка і ўтвараюць замкнуты па перыметры комплекс: пуня, хлеў, павець, трысценнік і хата. Жылы дом — ускладнены варыянт трохкамернага будынка (хата+сенцы+камора). Пабудовы самкнуты ў вянок адным замётам з варотамі пад двухсхільнай стрэшкай. Месца другога (задняга) замёта займаюць павець і трысценнік. Апошні прырублены да глухой падоўжнай сцяны хаты і 2 капітальнымі сценамі падзелены на хляўчук і 2 каморы. Усе будынкі, акрамя пуні, якая збіта з дошак, зрублены ў вугал з астаткам і накрыты двухсхільнымі стрэхамі. З вуліцы да хаты прыбудавана веранда.

Вяночны двор — узор тыповай сялянскай сядзібы, пашыранай у паўночных раёнах Беларусі. *У. С. Гуркоў.*




**2421.** *Вяночны двор. План: 1 — хата; 2 — сенцы; 3, 4 — каморы; 5 — веранда; 6, 8 — хлеўчукі; 7 — павець; 9 — хлеў; 10 — пуня; 11 — дзяннік.*

**в. Залужэнне, Дубраўскі сельсавет**

**2422. ПОМНІК ФЯДУРАВУ В. М. І ШАШКОВАЙ В. М.** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. 11.4.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, які адбыўся паблізу вёскі, загінулі партызаны В. М. Шашкова (1925 г. нараджэння) і В. М. Фядураў (1925 г. нараджэння). Пахаваны ў брацкай магіле ў в. Глыбачка Ушацкага р-на. У 1975 г. на ўшанаванне памяці партызан пастаўлена стэла.

**в. Замошша, Велікадолецкі сельсавет**

**2423. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). Ва ўрочышчы Расохі, на берагах р. Ушача, якая злучае Царкавішчанскае і Замошскае азёры.

**2423а.** Курганны могільнік-1. За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе ракі. 5 насыпаў вышынёй да 4 м, дыяметрам да 10—20 м.

**2423б.** Курганны могільнік-2. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе ракі. Каля 30 насыпаў. Адны з іх вышынёй да 4 м, дыяметрам да 20 м, другія вышынёй 1—1,65 м, дыяметрам 10—12 м.

**2423в.** Курганны могільнік-3. За 0,7 км на паўночны ўсход ад вёскі. Больш за 80 насыпаў вышынёй 4 м, дыяметрам 10—20 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Замошша 1-е, Лутаўскі сельсавет**

**2424. РАДЗІМА ДУБРОЎСКАГА** Фёдара Фаміча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1943 г.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобл. ў Айчынную вайну Ф. Ф. Дуброўскі нарадзіўся 17.4.1901 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. У 1932 г. скончыў Вышэйшую цэнтральную калгасную школу. У дзяцінстве батрачыў. З 1918 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны на Заходнім фронце. З 1929 г. працаваў старшынёй калгаса, сельсавета, дырэктарам МТС у Віцебскай вобл. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну камандаваў партызанскім атрадам (створаны ў красавіку 1942 г. ва Ушацкім р-не). Спачатку атрад дзейнічаў асобна, потым у складзе партызанскай брыгады «Смерць фашызму». У жніўні 1942 г. на базе атрадаў Дуброўскага і асобнага 68-га (камандзір У. Е. Лабанок) створана Чашніцкая («Дубава») партызанская брыгада; камандзір — Ф. Ф. Дуброўскі, камісар — У. Е. Лабанок. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.9.1943 г. У 1944—53 гг. працаваў сакратаром Чашніцкага райкома КП(б)Б, дырэктарам саўгасаў імя Леніна і «Новыя Зялёнкі».

Памёр Ф. Ф. Дуброўскі 3.3.1970 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Ідута, Кубліцкі сельсавет**

**2425. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Больш за 70 насыпаў дыяметрам ад 5—7 да 20 м і вышынёй ад 1 да 5 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Казімірова, Велікадолецкі сельсавет**

**2426. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 86 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Калітнікі (не існуе), Велікадолецкі сельсавет**

**2427. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Калітнікі знаходзілася за 3 км на паўночны захад ад в. Глінішча. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі яе (9 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Капусціна, Глыбачанскі сельсавет**

**2428. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахавана больш за 300 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Капылоўшчына, Кубліцкі сельсавет**

**2429. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ С. М. КАРОТКІНА** (гіст.). У доме А. А. Дуброўскага з ліпеня 1943 г. да мая 1944 г. знаходзіўся штаб партызанскай брыгады імя С. М. Каროткіна.

Брыгада створана 20.6.1942 г. на базе асобных атрадаў «Мсцівец», «Грозны» і імя К. Я. Варашылава. Да лютага 1943 г. Сіроцінская, пасля імя Ф. Э. Дзяржынскага, з чэрвеня 1943 г. імя



**2423в.** *Курганны могільнік-3.*

С. М. Кароткіна. Камандзіры — С. М. Кароткін (чэрвень — кастрычнік 1942 г., загінуў), П. А. Хомчанка (кастрычнік — сакавік 1943 г.), У. М. Талаквадзе (з сакавіка 1943 г.), камісары — В. М. Фралоў (чэрвень 1942 г.— сакавік 1943 г.), А. Б. Эрдман (з сакавіка 1943 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Сіроцінскага, Расонскага, Полацкага, Ушацкага, Пліскага і Міёрскага р-наў. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Маладзечна, Віцебск — Полацк, Гарадок — Невель, на шашэйных і грунтавых дарогах, разграмілі гарнізоны на станцыях Язвіна (ліпень 1942 г.), Лоўжа (жнівень 1942 г.), Сіроцінскага р-на, у вёсках Гута, Янчыкава, Званае і Балдышы Полацкага (красавік 1943 г.), у в. Азерцы Пліскага р-наў (верасень 1943 г.), варожую калону на бальшаку Пліса — Падсвілле (кастрычнік 1943 г.). У «рэйкавай вайне» ў жніўні 1943 г. на чыгунцы Полацк — Маладзечна падарвалі і пашкодзілі больш за 2 тыс. рэек. У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічалі ў прарыве фашысцкай блакады Полацка-Лепельскай партызанскай зоны.

2.7.1944 г. брыгада (660 партызан, атрады «Грозны», імя В. І. Чапаева, «За перамогу», «Беларускі мсцівец», імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя С. М. Кірава) злучылася з Чырвонай Арміяй, разам з яе часцямі трымала абарону на рубяжы в. Новы Пагост — воз. Важа Міёрскага р-на, удзельнічала ў іншых баях.

У 1975 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Касары, Велікадолецкі сельсавет**

**2430. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Краснік (каля балота). Больш за 120 курганоў вышынёй да 3 м, дыяметрам да 10 м, асобныя курганы вышынёй 5,5 м, дыяметрам 25 м. Захаванасць добрая. Выявіла ў 1972 г. А. Г. Калечыц, абследаваў у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кіслы (не існуе), Глыбачанскі сельсавет**

**2431. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Кіслы знаходзілася за 1 км на захад ад в. Усвіца. У красавіку 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты знішчылі яе (10 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Кісялі (не існуе), Глыбачанскі сельсавет**

**2432. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Кісялі знаходзілася за 2,5 км на паўночны ўсход ад в. Антунова. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты знішчылі яе (12 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Кляпцы, Кубліцкі сельсавет**

**2433. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 80 курганоў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 4—8 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Корсакава, Сарочынскі сельсавет**

**2434. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у напрамку в. Чарсцвяты, на беразе воз. Чарсцвяцкае. 10 курганоў дыяметрам 7—16 м, вышынёй 2—3 м. Адзіночны курган размешчаны на паўночны захад ад вёскі (каля могілак), вышынёй 2,5 м, дыяметрам 12 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Крывушчына, Дубраўскі сельсавет**

**2435. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на месцы ўпадзення р. Тураўлянка (левы прыток Заходняй Дзвіны) у воз. Бярозавае. 5 насыпаў дыяметрам 8—12 м, вышынёй 0,5 і 1 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1971 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кублічы, цэнтр сельсавета**

**2436. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вясковай плошчы. Пахаваны 24 воіны і 58 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2437. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2437а.** Гарадзішча. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на востраве Кубліцкага воз. Займае ўзгорак вышынёй 6 м над узроўнем возера. Пляцоўка авальная, памерам 65×30 м. Выявіў у 1928 г. І. А. Сербаў, даследавалі ў 1964—66, 1968 гг. К. П. Шут, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Ускрыта пляцоўка плошчай 736 м². У цэнтры культурны пласт 0,2—0,3 м, каля краёў да 1 м. Выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі, якое размяшчалася ўздоўж краю пляцоўкі, унутры яго прасочаны адкрытыя агнішчы, абкладзеныя камянямі. Да 90 % знойдзенай керамікі (слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікавай формы) днепра-дзвінскай культуры, 10 % — культуры штрыхаванай керамікі, выяўлена некалькі абломкаў з адбіткамі тканіны. Сярод знаходак — жалезныя сярпы, нажы, сякера, страла, матыка, шылы, рыбалоўныя кручкі, посахападобныя шпількі, разнастайныя пярсцёнкі, бронзавыя бляхі, бранзалеты, касцяныя праколкі, дзяржанне нажа, аснова печы-домніцы, у якой выплаўлялі жалеза, шмат шлакаў, каменныя кавадлы, зерняцёркі. Датуецца 4 ст. да н. э.— 3 ст. н. э., адносіцца да днепра-дзвінскай культуры.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2437б.** Курганны могільнік-1. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. 10 курганоў: 4 прадаўгаватыя (10×16, 9×14 м), вышынёй 2,5—3 м, астатнія круглыя, дыяметрам 8—12 м, вышынёй 0,3—2,5 м. Выявіў у 1903 г. М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**2437в.** Курганны могільнік-2. За 0,3 км ад першага, ва ўрочышчы Валатоўкі, у лесе (мясцовая назва Чырвоны Бор). 126 насыпаў дыяметрам 5—8 м, вышынёй 0,5—2 м. Выявіў у 1903 г. М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1928 г. І. А. Сербаў, у 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Шут К. П. Городище Кубличи Ушачского района.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1969; Сербаў І. Археалагічныя помнікі Ушацкага раёна Полацкай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Кусцинский М. Ф. Из заметок о курганах Лепельского уезда.— Полоцкие епархиальные ведомости. Витебск, 1903, № 7.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**2438. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА 1-й ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ А. В. СУВОРАВА** (гіст.). У вёсцы ў красавіку 1944 г. размяшчаўся штаб 1-й партызанскай брыгады імя А. В. Суворава. Створана 2.3.1943 г. з групы партызан атрада «Спартак», якая ў час карнай аперацыі ворага ў лістападзе 1942 г. выйшла з Вілейскай вобл. Камандзіры — П. А. Хомчанка (сакавік 1943 г.— сакавік 1944 г. і чэрвень — ліпень 1944 г.), Т. К. Раеўскі (в. а., сакавік — красавік 1944 г.), А. Ц. Кляцоў (в. а., май — чэрвень 1944 г.), камісар — М. Я. Усаў. Дзейнічала на тэрыторыі Пліскага, Дунілавіцкага, Шаркоўшчынскага, Дзісенскага, Ушацкага р-наў.

Партызаны брыгады ў час «рэйкавай вайны» падарвалі на ўчастку Круляўшчына — Варапаева каля 2,3 тыс. рэек, у красавіку — маі 1944 г. вялі жорсткія баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, абаранялі Полацка-Лепельскую партызанскую зону на рубяжы Кабылянка — Белакоры, у маі 1944 г. разграмілі гарнізон на станцыі Кульгай. 1—4.7.1944 г. брыгада (225 партызан, атрады імя К. Я. Варашылава, «Бальшавік», імя В. П. Чкалава, «Камсамолец») злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. ў памяць аб размяшчэнні ў вёсцы штаба партызанскай брыга-

ды на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *В. Б. Караткевіч.*

**2439. РАДЗІМА ВЯРЫГІ-ДАРЭЎСКАГА** Арцёма Ігнатавіча (гіст.).

Беларускі пісьменнік-дэмакрат А. І. Вярыга-Дарэўскі (псеўданім Беларуская Дуда) нарадзіўся 23.10. 1816 г. Са збяднелай беларускай шляхты. Скончыў Забельскую гімназію. Жыў у Стайках пад Віцебскам, дзе ў сваім маёнтку напісаў многія творы.

А. І. Вярыга-Дарэўскі адзін з вядучых беларускіх пісьменнікаў 1850—60-х гадоў. Яго творы з-за цэнзуры не друкаваліся. З багатай літаратурнай спадчыны: «Здабыццё Ахульго», драма «Гордасць», камедыі «Хцівасць», «Грэх чацвёрты — гнеў», дарожныя нататкі «Гутарка з пляндроўкі па зямлі латышскай», творы «Бедны наш Лукаш», «Дзіця дзвюх матак», «Бяседа над Нёманам», «Яшка і Цімошка», «Паўрот Міхалка», апавяданні і каля 500 сабраных прыказак і прымавак, да нас дайшлі асобныя фрагменты. Пры жыцці апублікаваны толькі «Плач салдаткі» (урывак з камедыі «Грэх чацвёрты — гнеў»). Першы пераклаў паэму А. Міцкевіча «Конрад Валенрод». Унікальны помнік беларускай культуры 19 ст.— альбом А. І. Вярыгі-Дарэўскага, які ён вёў у 1858—63 гг. і ў якім пакінулі свае запісы і аўтографы В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, В. Каратынскі, А. Кіркор, Я. Вуль, А. Рыпінскі і інш. Пісаў таксама па-польску: вершаваная аповесць «Гутарка аб сваяку» (Магілёў; Вільня, 1858 г.), друкаваў допісы ў газетах. Шмат сіл і часу аддаваў культурна-асветніцкай дзейнасці, арганізоўваў на Віцебшчыне народныя школы, бібліятэкі і чытальні. За актыўны ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. (адзін з арганізатараў узброенага выступлення на Віцебшчыне) быў 6.5.1863 г. арыштаваны і зняволены ў Віцебскую турму. У 1865 г. сасланы ў Сібір, дзе ў 1884 г. памёр. Творы апублікаваны ў кнігах «Беларуская літаратура XIX ст. Хрэстаматыя» (1971 г.), «Пачынальнікі» (1977 г.).

*Літ.:* Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3. Ч. 3.— П., 1922; Васілеўскі Д. Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць.— Полымя, 1929, № 6; Семяновіч А. Пра Арцёма Вярыгу-Дарэўскага.— Беларусь, 1959, № 8; Тагаров З. Каторжанин.— Нёман, 1969, № 9; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969; Борковский С. А., Мальдис А. И. Поэтическое наследие Артемия Вериги-Даревского.— Советское славяноведение, 1971, № 2; Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды».— Мн., 1971. *Г. В. Кісялёў.*

**в. Кублішчына (не існуе), Лутаўскі сельсавет**

**2440. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Кублішчына знаходзілася за 1 км на паўночны захад ад в. Ціханяты. У 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі яе (7 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Курлёнкі (не існуе), Лутаўскі сельсавет**

**2441. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Курлёнкі знаходзілася за 0,5 км на поўнач ад в. Ціханяты. У 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі яе (4 двары). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Лагі, Велікадолецкі сельсавет**

**2442. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі (паўночны бераг воз. Лагоўскае). 2 насыпы вышынёй 3 м, дыяметрам 15 м. Выявіла ў 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ліпнікі (не існуе), Велікадолецкі сельсавет**

**2443. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ліпнікі знаходзілася за 1 км на ўсход ад в. Пуцілкавічы. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі яе (7 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Лозы, Вяркудскі сельсавет**

**2444. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ ВЛКСМ** (гіст.). Брыгада створана па ўказанню Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б у лістападзе 1943 г. на базе асобных атрадаў імя С. Г. Лазо, «Сібірак», «КІМ», 2-га і 4-га (пазней імя М. Ф. Сільніцкага). Камандзір брыгады — І. А. Куксёнак, камісар — Ф. І. Зайцаў. Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Ушацкага і Чашніцкага р-наў. Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Маладзечна, на шашэйных і грунтавых дарогах, падарвалі больш за 1 тыс. рэек, знішчылі і пашкодзілі 14 эшалонаў, вялі баі супраць гітлераўцаў у час карнай аперацыі «Веснавое свята». У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічалі ў абароне Полацка-Лепельскай зоны, на рубяжы вёсак Асінаўка — Рабчонкі Ушацкага р-на. 2.7.1944 г. брыгада (282 партызаны, атрады імя С. Г. Лазо, «Сібірак», «КІМ», 2-і, імя М. Ф. Сільніцкага) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. ў гонар партызанскай брыгады на паўднёвай ускраіне вёскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976. *В. Б. Караткевіч.*



2449. *Курганны могільнік. План.*

**2445. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка Дома культуры. На ўшанаванне памяці 119 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Любжана, Дубраўскі сельсавет**

**2446. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Гракава. За 0,8 км на захад ад вёскі, на беразе воз. Паўазер'е. Пляцоўка памерам 84×40 м у паўночнай частцы мае невялікі тэрасападобны выступ. З усходняга боку захаваліся рэшткі невялікага рова, з заходняга — паглыбленне, штучнаператворанае ў глыбокі роў. З поўначы і поўдня гарадзішча мае высокія і стромкія схілы. Выявіў у 1929 г. І. Карандзей, абследавалі ў 1955 г. Л. В. Аляксееў, у 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. На краях пляцоўкі — культурны пласт каля 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Карандзей І. Помнікі старасветчыны і краявіды Вульскага і Расонскага раёнаў Полаччыны.— Наш край, 1929, № 8—9. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Лясneўшчына, Сарочынскі сельсавет**

**2447. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 60 мірных жыхароў: дзеці, жанчыны, старыя, расстраляныя 1.5. 1944 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2448. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На развілцы дарог у вёскі Лясneўшчына і Гарбаціца. На ўшанаванне памяці 58 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мазуліна, Велікадолецкі сельсавет**

**2449. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. 9 курганоў вышынёй да 1,5 м, дыяметрам 5 м, асобныя вышынёй да 4 м, дыяметрам 15—20 м. Абследавалі ў 1971 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Малыя Дольцы, Велікадолецкі сельсавет**

**2450. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 44 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2451. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад

ад вёскі, на беразе возера. Пахаваны 34 жыхары в. Мурагі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі 13.5. 1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла. Гл. артыкул № 2455 «Месца спаленай вёскі».

**в. Матырына, Селішчанскі сельсавет**

**2452. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2452а.** Курганны могільнік-1. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, у лесе, на левым беразе р. Альзініца, абапал палявой дарогі ў в. Угрынкі. 116 курганоў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам да 10 м.

**2452б.** Курганны могільнік-2. За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 7 курганоў. Памеры блізкія да курганоў першага могільніка.

**2452в.** Курганны могільнік-3. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, уздоўж дарогі ў в. Угрынкі. 69 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам да 10 м, ёсць курганы вышынёй да 4 м і дыяметрам да 30 м.

**2452г.** Курганны могільнік-4. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на паўднёва-заходнім беразе воз. Матырына, у лесе. 130 насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 6—15 м, добрай захаванасці, выцягнуты ўздоўж берага возера палосай да 100 м. Выявіў могільнікі ў 1928 г. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Ушацкага раёна Полацкай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т. 1]).

**2453. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,1 км ад будынка праўлення калгаса «Прагрэс», на ўзгорку. На ўшанаванне памяці 79 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**пас. Мірны, Велікадолецкі сельсавет**

**2454. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ ЦК КП(б)Б** (гіст.). За 6 км ад пасёлка, ва ўрочышчы Гарохавішча. Тут з ліпеня 1943 г. размяшчаўся штаб брыгады імя ЦК КП(б)Б. Камандзіры А. Д. Мядзведзеў (сакавік 1943 г.— чэрвень 1944 г.), М. Р. Пучкароў (в. а., верасень — кастрычнік 1943 г.), М. І. Фёдараў (чэрвень — ліпень 1944 г.), камісары Ц. М. Бондараў (сакавік — чэрвень 1943 г.), Ф. Я. Воранаў (чэрвень — верасень 1943 г.), М. Р. Пучкароў (верасень 1943 г.— чэрвень 1944 г.), У. П. Шчуцкі (чэрвень — ліпень 1944 г.).

Брыгада створана ў сакавіку 1943 г. Дзейнічала на тэрыторыі Плісkага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Астравецкага р-наў Вілейскай вобл. і Ушацкага р-на Віцебскай вобл. Уваходзіла ў заходні заслон Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. У кастрычніку — снежні 1942 г. разграміла валасную ўправу і падарвала маслазавод у в. Язна, на чыгунках і шашэйных дарогах падарвала і спаліла 32 масты. У маі 1943 г. разграміла гарнізон у Докшыцах. Партызаны брыгады ўдзельнічалі ў «рэйкавай вайне». 3.8. 1943 г. на чыгуначным участку Полацк — Маладзечна падарвалі больш за 250 рэек, спынілі рух паяздоў на 7 сутак, у ноч на 20.6.1944 г. на ўчастку Вільнюс — Смаргонь — 300 рэек. У маі і верасні 1943 г., красавіку 1944 г. вялі баі супраць карнікаў. Вывалілі станцыю Гудагай, райцэнтр Астравец, некалькі вёсак.

6.7.1944 г. брыгада (338 партызан, атрады 1-ы імя А. Я. Пархоменкі, 2-і імя В. П. Чкалава, 3-і імя Г. К. Жукава, 4-ы імя Фурманава, 5-ы імя Дзяпісава) злучылася з Чырвонай Арміяй.

**в. Мурагі (не існуе), Велікадолецкі сельсавет**

**2455. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Мурагі знаходзілася за 1 км на паўночны захад ад в. Малыя Дольцы. 13.5.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты ўварваліся ў вёску, схапілі 34 жыхароў, вывезлі іх у поле, прымусілі выкапаць яму і расстралялі, спалілі 9 двароў (гл. артыкул № 2451 «Магіла ахвяр фашызму»). Вёска не адрадзілася. У 1964 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Павулле, Вяркудскі сельсавет**

**2456. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вясковай плошчы. Пахаваны 33 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2457. КУРГАН** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, пры ўпадзенні р. Дзіва ў воз. Павульскае. Памер 6×5 м, вышыня 2 м. Выявіла ў 1971 г. А. Г. Калечыц.

**в. Паперына, Лутаўскі сельсавет**

**2458. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «ПРАРЫЎ»** (гіст., маст.). За 7 км ад пасёлка Ушачы, паміж вёскамі Паперына, Пліна і Новае Сяло.

Вясной 1944 г., калі Чырвоная Армія рыхтавалася да Беларускай аперацыі, на тэрыторыі трохвугольніка Віцебск — Полацк — Лепель сканцэнтраваліся асноўныя сілы партызан Віцебшчыны. Толькі ў Полацка-Лепельскай партызанскай зоне на 15.1.1944 г.



2458. *Мемарыяльны комплекс «Прарыў». Фрагмент.*

дыслацыравалася 15 брыгад і адзін партызанскі полк агульнай колькасцю больш за 17 тыс. чалавек. Кіраўніцтва і каардынацыю іх дзейнняў ажыццяўляла аператыўная група ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху на чале з Героем Савецкага Саюза У. Е. Лабанком, якая мела сталую сувязь з камандаваннем 1-га Прыбалтыйскага фронту і злучэннямі суседніх партызанскіх зон. Полацка-Лепельская партызанская зона займала тэрыторыю ў 3245 км², 1220 населеных пунктаў з насельніцтвам больш за 70 тыс. чалавек.

Каб ачысціць ад партызан тылы сваіх войск каля лініі фронту, гітлераўскае камандаванне правяло шэраг карных аперацый пад назвамі «Лівень» (красавік 1944 г.), «Веснавое свята» (красавік — май 1944 г.) і інш. На працягу сакавіка гітлераўцы спрабавалі авалодаць левым берагам Заходняй Дзвіны і стварыць тут абарончы рубеж, адцясніць партызан ад чыгунак Полацк — Маладзечна, Маладзечна — Мінск, Мінск — Барысаў, засцерагчы асноўныя камунікацыі сваёй 3-й танкавай арміі па лініі Віцебск — Лепель — Докшыцы — Параф'янава. Да пачатку красавіка нямецка-фашысцкія войскі сканцэнтра-



2458. *Мемарыяльны комплекс «Прарыў». Карта-схема размяшчэння брыгад у час абароны партызанскай зоны.*

валіся вакол Полацка-Лепельскай зоны на 7 участках. Для правядзення аперацыі «Веснавое свята» фашысты знялі з фронту часці 6 дывізій, сабралі 12 палкоў СС і паліцыі (60 тыс. чалавек), асобны батальён Дырлевангера, брыгаду здрадніка Камінскага, прыдалі ім 2 бронепаязды, 137 танкаў, 235 гармат, каля 70 самалётаў. Узначальвалі аперацыю групенфюрэр войск СС генеральны камісар Беларусі фон Готберг і камандуючы 3-й танкавай арміяй генерал-палкоўнік Г. Рэйнгарт.

На ўзбраенні 17 тыс. партызан у пачатку красавіка былі: 21 гармата з невялікім запасам снарадаў, 143 мінамёты, 151 процітанкавае ружжо, 723 кулямёты, 1544 аўтаматы, 9344 вінтоўкі. Агульная працягласць абарончых збудаванняў партызан з сістэмай акопаў, дзотаў, мінных палёў складала 287 км. Да пачатку наступлення гітлераўцаў партызанскія брыгады трымалі абарону, потым вялі баі на рубяжах: брыгада імя В. І. Чапаева (камандзір У. В. Мельнікаў, камісар І. Ф. Каранеўскі) каля воз. Краснае, вёсак Канашы, Гаравыя, Саламір'е, Зыкова, Старынкі Ветрынскага р-на; 16-я Смаленская брыгада (камандзір І. Р. Шлапакоў, камісар Р. М. Цімашэнкаў) каля вёсак Глыбачка, Цётча, Гарбаціца, Вясёлая Горка Ушацкага р-на і каля воз. Шо (асабліва жорсткі бой вялі за в. Стараселле); брыгада імя У. І. Леніна (камандзір М. А. Сакмаркін, камісар А. У. Сіпко) трымала абарону на рубяжы вёсак Залужжанне — Ляхава — Краснае — Муравец — Павулле Ушацкага р-на; брыгада «За Савецкую Беларусь» (камандзір П. М. Раманаў, камісар — М. Г. Жыжаў) на рубяжы вёсак Горы — Чарсцвяты — Загор'е, больш за 10 дзён вяла баі каля вёсак Слабада, Казьяны, Пілатоўшчына, за в. Сарочына Ушацкага р-на; брыгада 2-я Ушацкая імя П. К. Панамарэнкі (камандзір М. В. Уткін, камісар М. А. Цябут) на ўчастку вёсак Стараселле — Вацлавова, Завыдрына — Істопішча — Жары, Слабада — Кавалеўшчына — Завячэлле, каля в. Вялічкаўцы, Гара, Кублішчына Ушацкага р-на; Лепельская брыгада імя І. В. Сталіна (камандзіры Дз. Ц. Караленка, А. В. Ярмош, камісар У. Л. Качан) трымала абарону на лініі вёсак Пышна — Забароўе Лепельскага р-на, вяла ўпартыя баі за вёскі Забалацце, Плігаўкі, Ворань і інш.; брыгада імя А. Ф. Данукалава [камандзіры А. Ф. Данукалаў («Аляксей»), В. А. Блахін, камісар І. І. Старавойтаў] на рубяжы нас. пунктаў Замошша — Царкавішча — Тартак — Казімірова — Ветча — Лугі — Бушканка Ушацкага р-на; 1-я Антыфашысцкая брыгада (камандзір У. У. Гіль-Радзіёнаў, камісар І. М. Цімчук) каля вёсак Берасполле, Новае Сяло, абараняла рубеж па рацэ




**2458.** *Мемарыяльны комплекс «Прарыў». Кампазіцыя «Апошні прывал».*

Прадойніца; дыверсійная Беларуская брыгада імя У. І. Леніна (камандзір М. Т. Гарбаценкаў, камісар У. С. Свірыд) на рубяжы вёсак Адамова — Берасполле, каля воз. Медзазол утрымлівала пераправу цераз Батурынскі мост, вяла баі за вёскі Лясіны, Храмёнкі, Зарубаўшчына Ушацкага р-на; брыгада імя ЦК КП(б)Б (камандзір А. Д. Мядзведзеў, камісар М. Р. Пучкароў) вяла баі ў раёне вёсак Тумілавічы, Несцераўшчына, Дзедзіна; брыгада «Кастрычнік» (камандзір Ф. К. Юрчанка, камісар І. І. Юкша) трымала абарону на р. Чысцянка і Шоша; брыгада імя ВЛКСМ (камандзір І. А. Куксёнак, камісар Ф. І. Зайцаў) вяла баі на рубяжы вёсак Асінаўка — Рабчонкі Ушацкага р-на; брыгада імя К. Я. Варашылава (камандзір Дз. В. Цябут, камісар У. А. Лемза) вяла баі за вёскі Вялікія Угрынкі, Забораўна Ушацкага р-на; Смаленскі партызанскі полк (камандзір І. Ф. Садчыкаў, камісар А. Ф. Юр'еў) вёў баі на рубяжы вёсак Заскаркі — Касарэва — Белы Двор — Кунцэвічы, трымаў абарону ў раёне азёр Канашы і Усомля, вёсак Труды і Хоцевічы Ветрынскага р-на; брыгада імя С. М. Кароткіна (камандзір У. М. Талаквадзе, камісар А. Б. Эрдман) трымала абарону каля в. Асінаўка, воз. Шо, в. Шоша, прарвала блакаду каля станцыі Кульгай Пліскага р-на і на мяжы вёсак Паперына і Новае Сяло Ушацкага р-на; брыгада 1-я імя А. В. Суворава (в. а. камандзіра Т. К. Раеўскі, камісар М. Я. Усаў) абараняла рубеж каля вёсак Кабылянка і Белакоры, разграміла варожы гарнізон на станцыі Кульгаі.

Аперацыя карнікаў «Веснавое свята» супраць партызан і мірнага насельніцтва пачалася 11.4.1944 г. Галоўны ўдар быў накіраваны на паўднёвы ўчастак абароны народных мсціўцаў, дзе наступалі часці 2 дывізій і 2 палкі праціўніка. Пачалася бяспрыкладная бітва партызан з фашыстамі. З самага пачатку барацьба прыняла бязлітасны характар. Каля вёсак Краснае, Ляхава, Залужжанне гітлераўцы сканцэнтравалі на параўнальна невялікім участку часці 56-й нямецкай пяхотнай дывізіі з 25 танкамі і артылерыяй. Пры дапамозе бамбардзіроўшчыкаў вораг правёў супраць партызан брыгады імя У. І. Леніна запар 4 атакі. У гэтых баях неўмяручы подзвіг здзейснілі партызаны-бранябойшчыкі В. А. Волкаў, В. М. Фядура, Д. П. Хахель, В. П. Хахель, І. С. Хахель, С. Н. Каржакоў і В. І. Чарнышоў. Яны некалькі разоў падпускалі варожыя танкі на 30—40 метраў і расстрэльвалі іх з процітанкавых ружжаў. Калі скончыліся патроны, партызаны кінуліся са звязкамі гранат пад танкі.

Каля в. Цётча 2 атрады 16-й Смаленскай брыгады занялі перашыек паміж азёрамі і спалілі мост цераз р. Дзіва. Гітлераўцы сканцэнтравалі тут 12 танкаў і 18 гармат. У разгар бою, калі нямецкая пяхота падышла да партызанскіх умацаванняў, у тыл ворага ўварваліся партызаны, якія прайшлі па веснавым лёдзе возера. Гітлераўцы мусілі адступіць.

На працягу 5 дзён карнікі штурмавалі пазіцыі брыгады А. Ф. Данукалава каля в. Ветча. Толькі 21 красавіка народныя мсціўцы за дзень адбілі 16 атак, падтрыманых авіяцыяй ворага.

25 красавіка фашысцкі батальён пяхоты з 2 танкамі захапіў в. Кісялёва, але хутка быў выбіты партызанамі на чале з У. В. Ганчаровым — начальнікам штаба атрада імя Л. М. Даватара 2-й Ушацкай брыгады імя П. К. Панамарэнкі. На гэты ўчастак для ўмацавання пазіцый камандаванне брыгады накіравала атрад імя Ю. А. Галоўчанкі (камандзір А. Ц. Круглякоў). Зрабіўшы фарсіраваны марш, партызаны атрада занялі абарону на вышынях на поўдзень ад в. Мосар і затрымалі праціўніка. 13 партызан загінулі, але не пакінулі пазіцый, не дазволілі ворагу зламаць партызанскую абарону на паўднёвым захадзе. Мужнасць і гераізм у барацьбе з ворагам былі масавымі.

Дзейнасцю партызанскіх брыгад Полацка-Лепельскай зоны кіравала аператыўная група ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху, якая знаходзілася ва Ушачах. Вялікую дапамогу ёй аказваў Віцебскі падпольны абком партыі, яго сакратары Я. А. Жыляпін і І. Б. Пазнякоў.

Ваенны савет 1-га Прыбалтыйскага фронту і Беларускага штаба партызанскага руху арганізавалі дапамогу партызанам. За перыяд баёў з карнікамі партызанам Полацка-Лепельскай зоны на самалётах было перапраўлена больш за 250 т грузаў, вывезена каля 1500 параненых і хворых. Калі на ўчастках партызанскай абароны стварылася асабліва цяжкае становішча, з 20.4.1944 г. днём і ноччу франтавая авіяцыя савецкіх войск наносіла масіраваныя ўдары па ворагу ў раёне вёсак Цётча, Мосар, Старынкі, Кісялёва, Стараселле-1, Забораўна і інш. Часці 1-га Прыбалтыйскага фронту баямі мясцовага значэння адцягвалі войскі карнікаў. Для гэтай жа мэты Беларускі штаб партызанскага руху даў указанне брыгадам Сенненска-Аршанскай, Барысаўска-Бягомльскай і Вілейскай зон нанесці ўдары па варожых гарнізонах у напрамку Ушач, што значна аслабіла націск гітлераўцаў.

25 сутак партызанскія атрады і брыгады адбівалі жорсткія атакі фашыстаў, але сілы былі няроўныя. 27 красавіка цаной вялікіх страт карнікі звузілі кола акружэння вакол Ушач. Даўжыня партызанскай лініі абароны зменшылася да 20 км. У ноч на 5 мая блакада нямецка-фашысцкіх войск была прарвана каля вёсак Новае Сяло, Паперына і Пліна. Усе брыгады выйшлі з акружэння і вывелі каля 15 тыс. мірнага насельніцтва. Пад час прарыву народныя мсціўцы разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Новае Сяло і Паперына Ушацкага, Баяры, Бондары, Піскунова Шаркоўшчынскага, Каменка, Слабада, станцыя Кульгаі Плiскага р-наў. За красавіцка-майскія баі гітлераўцы страцілі 8,3 тыс. забітымі, да 12,9 тыс. параненымі салдат і афіцэраў, 59 танкаў, 116 аўтамашын, 8 бронемашын, 22 гарматы, 2 самалёты і інш.

У баях супраць гітлераўцаў загінулі камбрыгі Героі Савецкага Саюза А. Ф. Данукалаў і П. М. Раманаў, камандзіры брыгад Дз. Ц. Караленка, У. У. Гіль-Радзіёнаў, камісары І. Ф. Каранеўскі, М. Г. Жыжаў, У. С. Свірыд, начальнікі штабоў брыгад А. К. Ізафатаў, У. Р. Аляксандраў.

30.6.1974 г. ў гонар подзвігу партызан Полацка-Лепельскай зоны адкрыты мемарыяльны комплекс «Прарыў» (скульпт. А. Анікейчык, арх. Ю. Градаў, Л. Левін; бетон; бронза; вышыня скульптуры 9 м).

У пачатку мемарыяла забетанаваны адрэзак шляху, па якім ішлі на прарыў партызаны. Дарога на перападах рэльефу спускаецца прыступкамі, агінае невялікае балотца, робіцца шырэй каля бронзавай пліты — карты з рэльефнай схемай абароны партызанскай зоны на 11.4.1944 г. з надпісам: «Партызанскія злучэнні Полацка-Лепельскай зоны пасля працяглых жорсткіх бітваў з фашысцкімі карнікамі ў маі 1944 г. каля вёсак Пліна і Паперына здзейснілі легендарны прарыў варожай блакады. Іх было 17 185 супраць 60 000. Мужнасць народа перамагла смерць і стала бяссмерцем».



**2458.** *Мемарыяльны комплекс «Прарыў». Скульптура партызана.*

Далей дарога, сціснутая шэрымі бетоннымі сценамі, на якіх замацаваны бронзавыя пласціны з назвамі партызанскіх брыгад, што ўдзельнічалі ў прарыве, вядзе да вяршыні ўзгорка. На ім у разрыве бетоннай сцяны-глыбы (вышыня 11 м), якая сімвалізуе прарыў кальца блакады, узвышаецца 9-метровая бронзавая фігура партызана з аўтаматам у руцэ. На верхняй пляцоўцы ўзвышша, справа ад скульптуры, пахаваны 450 партызан з тых, што загінулі ў час прарыву, устаноўлены паўкругам 33 пліты з імёнамі 1452 удзельнікаў прарыву. Побач бронзавая кампазіцыя «Апошні прывал» — 3 карабіны ў пірамідзе і стужка з надпісам: «Яны загінулі ў барацьбе з ворагам, выканаўшы свой свяшчэнны абавязак перад Савецкай Радзімай і гісторыяй».

На ўзгорку пасаджаны 16 дубоў, якія сімвалізуюць стойкасць шаснаццаці партызанскіх брыгад. Ніцыя вербы і бярозы на вяршыні ўзгорка ўзмацняюць эмацыянальнае ўздзеянне ансамбля.

Мемарыяльны ансамбль «Прарыў» — адзін са значных твораў манументальнага мастацтва Савецкай Беларусі.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; его ж. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; Лиципо П. П. КПБ — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.— Мн., 1959; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 4.— М., 1962.
*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Перадавая (цяпер в. Двор Павулле), Вяркудскі сельсавет**

**2459. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ДРУКАРНІ ПАДПОЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ «ПРЫМЕЖНЫ КАЛГАСНІК»** (гіст.). У вёсцы ў хаце А. К. Пашкова ў 1943 і 1944 гг. размяшчалася друкарня падпольнай газеты «Прымежны калгаснік» — органа Ушацкіх падпольных райкома КП(б)Б і раённага Савета дэпутатаў працоўных (рэдактар М. І. Гайсёнак, загінуў). Газета інфармавала савецкіх грамадзян пра становішча на франтах Вялікай Айчыннай вайны, выкрывала хлусню фашысцкай прапаганды, паведамляла пра злачынствы гітлераўцаў, заклікала насельніцтва да барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1976 г. на доме, дзе размяшчалася друкарня, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Плігаўкі, Сарочынскі сельсавет**

**2460. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 64 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пліна, Лутаўскі сельсавет**

**2461. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). Каля паўночнаўсходняй ускраіны вёскі. Тут з кастрычніка 1942 г. да мая 1944 г. дзейнічаў аэрадром, на які з-за лініі фронту прылятаці самалёты з боепрыпасамі, зброяй, медыкаментамі для партызан Полацка-Лепельскай зоны. У 1976 г. на месцы былога аэрадрома пастаўлена стэла.

**в. Пораўна, Велікадолецкі сельсавет**

**2462. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках у 9 магілах пахаваны 17 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пранікі, Жарскі сельсавет**

**2463. КУРГАН** (археал.). За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на краі поля. Насып вышынёй 3 м, дыяметрам 8 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1981 г. А. А. Егарэйчанка.

**в. Прудок, Вяркудскі сельсавет**

**2464. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі Павулле — Полацк. 11 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 5—12 м. Абследавала ў 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пуцілкавічы, Велікадолецкі сельсавет**

**2465. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, у полі. 53 насыпы вышынёй 1—1,5 м,

дыяметрам 9—11 м. Абследавалі ў канцы 19 ст. В. Шукевіч, у 1930—31 гг. А. М. Ляўданскі, у 1971 г. А. Г. Калечыц. А. М. Ляўданскі раскапаў адзін курган, у якім знойдзена жаночае пахаванне ў неглыбокай ямцы. Захаваліся рэшткі галаўнога ўбору (12—14 стагоддзі) у выглядзе венчыка з шаўковай тканіны з пазалочанымі бляшкамі. Адносіцца да ранняга сярэднявечча.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. Б. Караткевіч.*

**2466. ПОМНІК БРОЎКА** Алене Сцяпанаўне (гіст.). У цэнтры вёскі. Маці народнага паэта Беларусі Героя Сацыялістычнай Працы П. У. Броўкі загінула ў 1943 г. ў канцлагеры Асвенцім. На ўшанаванне яе памяці на месцы, дзе да Вялікай Айчыннай вайны стаяла хата Броўкаў, у 1978 г. пастаўлена стэла.

**2467. РАДЗІМА БРОЎКІ** Петруся (гіст.).

Народны паэт БССР (1962 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1972 г.), член-карэспандэнт (1953 г.), акадэмік АН БССР (1966 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1975 г.) Пятрусь (Пётр Усцінавіч) Броўка нарадзіўся 12.6. 1905 г. ў сялянскай сям'і. З 1918 г. працаваў пераплётчыкам у Велікадолецкім валасным ваенкамаце, справаводам у валасным выканкоме, у 1921—24 гг.— рахункаводам у саўгасе, старшынёй Маладолецкага сельсавета, адначасова быў сакратаром камсамольскай ячэйкі. З 1925 г. на камсамольскай рабоце, загадчык аддзела ў Полацкім акруговым камітэце камсамола. У 1927—28 гг. адказны сакратар акруговай газеты «Чырвоная Полаччына». У 1931 г. скончыў БДУ. Член КПСС з 1940 г. З 1940 г. і ў 1945—48 гг. галоўны рэдактар часопіса «Полымя».

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію, быў інструктарам-літаратарам франтавой газеты «За Савецкую Беларусь», супрацоўнічаў у партызанскім друку. З 1943 г. адказны сакратар праўлення СП БССР, у 1948—67 гг. старшыня праўлення СП БССР. З 1967 г. галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР (з 1954 г.) і БССР (з 1947 г.). Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1949—52 гг., член ЦК КПБ з 1952 г., сакратар праўлення СП СССР з 1963 г. Ганаровы грамадзянін г. Мінска (1980 г.) і г. п. Ушачы (1979 г.).

Друкавацца пачаў з 1926 г. Аўтар паэтычных зборнікаў «Гады як шторм», «Прамова фактамі» (абодва 1930 г.), «Цэхавыя будні» (1931 г.), «Паэзія» (1932 г.), «Так пачыналася маладосць» (1934 г.). Творы Броўкі таго часу прасякнуты абвостраным успрыманнем падзей, гарачым жаданнем адлюстраваць іх у яркіх і запамінальных радках і вобразах, імкненнем быць на перадавых пазіцыях новага жыцця, што вылучала Броўку як паэта-трыбуна, паэта-прамоўцу. У творах 1930-х гадоў знайшлі сваё запамінальнае і паўнакроўнае адлюстраванне ўсе этапы змагання і сталення маладой Краіны Саветаў, роднай Беларусі, якая ў сям'і братніх народаў упэўнена будавала сацыялізм («Прыход героя», 1935 г., «Вясна Радзімы», 1937 г., паэма «Кацярына», 1938 г.). Гэты перыяд творчасці паэта характарызуецца зваротам да канкрэтных герояў, павышанай увагай да слова, ёмістасцю вобраза. Прыкметна зацікаўленасць фальклорам, прыёмамі народнай паэтыкі. Трывогай і гатоўнасцю да суровых дзён прасякнуты вершы Броўкі канца 1930-х гадоў («Шляхамі баравымі», «Вершы і паэмы», абодва 1940 г.). Творы Броўкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны вызначаюцца мужнасцю, палымянасцю і шчырасцю, яны па праву ўвайшлі ў залаты фонд савецкай літаратуры (зборнікі «Насустрач сонцу», 1943 г., вершы «Кастусь Каліноўскі», «Надзя-Надзейка», «Будзем сеяць, беларусы» і інш.). Гэтыя вершы-заклікі, вершы-лістоўкі былі напісаны ў франтавых умовах, па гарачых слядах падзей. Пасляваенны перыяд аднаўлення і росту краіны быў вельмі плённым для паэта. Радасць стваральнай працы, сцвярджэнне непераможнасці ідэй вялікага Леніна, савецкага ладу гучалі ў вершах і паэмах акрылена і пераканальна, знаходзілі водгук у сэрцах чытачоў — былых франтавікоў і партызан (зборнікі «У роднай хаце», 1946 г., «Сонечнымі днямі», 1950 г.). У 1950-я гады шырока прагучала ў паэзіі Броўкі тэма барацьбы за мір (зборнікі «Цвёрдымі крокамі», 1954 г., «Пахне чабор», 1959 г.), дзе лірычная плынь спалучаецца з філасофскім роздумам (зборнікі «Далёка ад дому», 1960 г., «А дні ідуць», «Высокія хвалі», абодва 1962 г., паэма «Заўсёды з Леніным», 1967 г., «Між чырвоных рабін», 1969 г.). П. У. Броўка аўтар паэтычных зборнікаў «Калі ласка» (1972 г.), «І ўдзень і ўночы...» (1974 г.), «Што сэрца праспявала» (1979 г.), «І маладосць і сталасць» (1980 г.), «Савецкі чалавек» (1982 г.), збораў твораў у 2 тамах (1957 г.), у 4 тамах (1965—66 гг.), 7 тамах (1975—78 гг.), кніжак для дзяцей «Выбраныя вершы і паэмы» (1948 г.), «Маладым сябрам» (1961 г.), «Лясы наддзвінскія» (1973 г.), «Наш музей» (1977 г.), аповесці «Каландры» (1931 г., экранізавана ў 1934 г.), нарысаў «Ураджай» (разам з П. Глебкам, 1933 г.), «Месяц у Чэхаславакіі» (1952 г.), рамана «Калі зліваюцца рэкі» (1956 г.), зборніка апавяданняў і аповесці «Разам з камісарам» (1974 г., экранізавана ў 1979 г.), лібрэта першых беларускіх опер «Міхась Падгорны» (пастаноўка 1939 г.), «Алеся» (разам з Я. Рамановічам, пастаноўка 1944 г.). Перакладаў на беларускую мову творы Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага, П. Тычыны, М. Бажана, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева, М. Ціханава, Дж. Байрана, У. Бранеўскага і іншых паэтаў. Творы Броўкі перакладзены на многія мовы народаў Савецкага Саюза і замежныя. Выходзілі ў перакладзе асобнымі кнігамі і ў анталагічных выданнях. Паэту прысуджаны: у 1947 г. Дзяржаўная прэмія СССР за паэму «Хлеб», вершы «Думы пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць...», «Спатканне», у 1951 г. Дзяржаўная прэмія СССР за зборнік «Дарога жыцця», у 1959 г. Літаратурная прэмія імя Я. Коласа за раман «Калі зліваюцца рэкі», у 1962 г. Ленінская прэмія за кнігу вершаў «А дні ідуць», у 1969 г. Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы за паэму «Заўсёды з Леніным» і кнігу вершаў «Між чырвоных рабін», у 1976 г. Дзяржаўная прэмія БССР за ўдзел у стварэнні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

П. У. Броўка памёр 24.3.1980 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імя Петруся Броўкі прысвоена выдавецтву «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», калгасу «Новае жыццё» і Велікадолецкай сярэдняй школе Ушацкага р-на. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Полацку, Гомелі і Ушачах. У Мінску на доме, дзе ён жыў, і на будынку Велікадолецкай школы ў гонар паэта ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі, у школе ёсць мемарыяльны пакой, прысвечаны П. Броўку.

*Літ.:* Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1966; Лойка А. Сустрэчы з днём сённяшнім.— Мн., 1968; Светлов М. Беседует поэт.— М., 1968; Ярош М. Пятрусь Броўка: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1981; Васілеўскі М. С., Каваленка М. А. Пятрусь Броўка: Бібліягр. даведнік.—2 выд.— Мн., 1976.

*В. М. Барадуліна.*

**2468. РАДЗІМА ВЯРЭНЬКІ** Францішка (гіст.).

Беларускі краязнавец і археалаг, складальнік адной з першых археалагічных карт Беларусі Ф. Вярэнька нарадзіўся 15.3.1862 г. ў былым маёнтку Пуцілкавічы. У 1881 г. скончыў гімназію ў Мінску, у 1887 г.— Варшаўскі універсітэт. У 1886 г. за навуковую працу па народнай медыцыне ўзнагароджаны залатым медалём. У наваколлі Пуцілкавіч выявіў 9 гарадзішчаў жалезнага веку і каля 50 курганных груп раннефеадальнага часу, 36 курганоў раскапаў. На матэрыялах сваіх даследаванняў склаў археалагічную карту. Рукапісы прац «Курганы ў Пуцілкавічах (1887—1892)», «Курганы і два дагістарычныя пасяленні ў Пуцілкавічах», частка рэчаў, знойдзеных пры раскопках, і

археалагічныя карты захоўваюцца ў Кракаўскім археалагічным музеі. Ф. Вярэнька памёр 4.3.1892 г.

*В. М. Барадуліна.*

**в. Пятніцы, Сарочынскі сельсавет**

**2469. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ 16-й СМАЛЕНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У доме І. П. Птушкі з сакавіка 1943 г. размяшчаўся штаб 16-й Смаленскай брыгады.

Брыгада створана 28.7.1942 г. ў Касплянскім р-не Смаленскай вобл. З сакавіка 1943 г. дзейнічала на тэрыторыі Лёзненскага, Аршанскага, Сенненскага, Багушэўскага, Ушацкага р-наў Віцебскай вобл., Міёрскага, Шаркоўшчынскага, Свірскага р-наў Вілейскай вобласці. Камандзіры — Т. Г. Давыдкін (ліпень — жнівень 1942 г.), І. Р. Шлапакоў (жнівень 1942 г.— ліпень 1944 г.), І. К. Алесянкоў (в. а., сакавік — чэрвень 1944 г.), камісары — Дз. Ц. Гольнеў (ліпень 1942 г.— верасень 1943 г.), А. М. Кулічкоў (кастрычнік 1943 г.— сакавік 1944 г.), Р. М. Цімашэнкаў (сакавік — ліпень 1944 г.).

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Віцебск — Орша, Орша — Смаленск, Полацк — Маладзечна, шашэйных і грунтавых дарогах. У «рэйкавай вайне» падарвалі і пашкодзілі больш за 1,4 тыс. рэек. Вялі адкрытыя і засадныя баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1943—44 гг. разграмілі гарнізоны ў вёсках Сялец Аршанскага, Чудня Багушэўскага, Краснае і Красная Горка Ушацкага р-наў. У красавіку — чэрвені 1944 г. вялі баі супраць карнай экспедыцыі праціўніка, утрымлівалі абарону Полацка-Лепельскай зоны на рубяжах вёсак Глыбачка — Цётча, Гарбаціца — Вясёлая Горка Ушацкага р-на і каля воз. Шо. Асабліва жорсткі бой быў за в. Стараселле Ушацкага р-на. У маі 1944 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Баяры, Бондары, Піскунова Плiскага р-на. У чэрвені 1944 г. прарвалі варожую блакаду ў раёне в. Дзянісава — Канахі Міёрскага р-на, занялі Свір.

5.7.1944 г. брыгада (637 партызан, атрады 1-ы, 2-і, 3-і імя У. Ц. Курыленкі, 4-ы, 5-ы, 6-ы, 7-ы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Рагуцкія, Жарскі сельсавет**

**2470. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на ўзгорку. На ўшанаванне памяці 69 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ралля (не існуе), Кубліцкі сельсавет**

**2471. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ралля знаходзілася за 2 км на паўднёвы захад ад в. Капылоўшчына. У 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі яе (28 двароў) і загубілі 30 мірных жыхароў. Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Рубанікі, Мосарскі сельсавет**

**2472. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ 2-й УШАЦКАЙ ІМЯ П. К. ПАНАМАРЭНКІ** (гіст.). У доме Г. І. Контар размяшчаўся штаб 2-й Ушацкай партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі.

Брыгада створана ў ліпені 1943 г. Камандзір — М. В. Уткін, камісар — М. А. Цябут. Дзейнічала на тэрыторыі Ушацкага і Лепельскага р-наў. Партызаны праводзілі баявыя аперацыі па знішчэнні варожых гарнізонаў у в. Бачэйкава Бешанковіцкага р-на (ліпень 1943 г.), в. Пышна (жнівень 1943 г.), вёсках Поплаўкі і Аўгустова (студзень 1944 г.), в. Сукнёўшчына Лепельскага р-на (люты 1944 г.). У лютым 1944 г. вялі ўпартыя баі каля в. Кісялёва Ушацкага р-на, на рубяжах вёсак Стараселле — Вацлавова, Завыдрына — Істопішча — Жары, Слабада — Кавалеўшчына — Завячэлле, каля вёсак Вялічкаўцы, Гара, Кублішчына Ушацкага р-на. Праводзілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Маладзечна, шашэйных і грунтавых дарогах Лепель — Віцебск, Ула — Бачэйкава, Ула — Лоўжа, Пышна — Лепель, Бароўка — Камень і інш. У «рэйкавай вайне» на чыгунцы Полацк — Маладзечна падарвалі і пашкодзілі больш за 5 тыс. рэек. У ліпені 1944 г. партызанская брыгада (1033 партызаны, атрады імя В. І. Чапаева, імя С. М. Кірава, імя Я. М. Свярдлова, імя В. С. Грызадубавай, імя Л. М. Даватара, імя А. В. Суворава, імя Ю. А. Галоўчанкі, «За Радзіму», 9-ы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976. *В. В. Семянюк.*

**в. Рыбакі, Селішчанскі сельсавет**

**2473. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,15 км на паўночны ўсход ад вёскі, на ўсходнім беразе воз. Рыбакоўскае, у лесе. 136 курганоў вышынёй 1,5—6 м, дыяметрам 7—16 м. Каля асноў большасці насыпаў прасочваюцца раўкі. Некалькі насыпаў пашкоджаны ямамі. Выявіў у 1928 г. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1951—52 гг. У. С. Астапаў, у 1971 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Садкі, Велікадолецкі сельсавет**

**2474. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, у полі, у канцы прысядзібных участкаў. 20 курганоў, абкладзеных камянямі, вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 5—8 м. Выявіла ў 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Салаўёўка, Дубраўскі сельсавет**

**2475. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на захад ад былой в. Хадакова. 5 курганоў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 10—14 м. Выявіла ў 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**2476. ПОМНІК КУТРУХІНУ** Канстанціну Пракопавічу (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі. 27.6. 1944 г. ў баі за в. Хадакова гвардыі сяржант К. П. Кутрухін закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. Пахаваны ў брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Дубраўка (гл. артыкул № 2410 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан»). У 1975 г. на месцы подзвігу пастаўлены памятны знак.

**в. Сарочына, цэнтр сельсавета**

**2477. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 170 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Селішча, цэнтр сельсавета**

**2478. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1726 г. з цэглы.



2478. *Кляштар бернардзінцаў. Касцёл.*



2478. *Кляштар бернардзінцаў. Жылы корпус.*

Касцёл кляштара — трохнефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай. Галоўны (усходні) фасад з 2 трох'яруснымі вежамі, паміж якімі шчыт з 2 валютамі на баках. Цэнтральны неф (не захаваўся) удвая шырэй і вышэй за бакавыя. Бакавыя нефы мелі аднасхільныя дахі. Сцены касцёла расчлянёны шырокімі пілястрамі і лучковымі аконнымі праёмамі. Вокны другога паверха паўцыркульныя. Скляпеністыя перакрыцці храма на падпружных арках, апіраліся на 4 масіўныя слупы і бакавыя сцены. Алтар у глыбіні цэнтральнага нефа, паміж 2 сакрысціямі. Над бабінцам размешчаны хоры. Касцёл часткова перабудоўвалі ў сярэдзіне 19 ст. (былі зменены форма і завяршэнні вежаў). Дах і верх вежаў касцёла разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. Двухпавярховы будынак жылога корпуса прымыкае да касцёла з паўночнага боку. Планіроўка калідорная.

Кляштар — помнік архітэктуры позняга барока. *А. А. Міцянін.*

**2479. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі, каля могілак. 115 насыпаў. Сярэдняя вышыня курганоў да 1 м, больш высокіх — да 2 м, дыяметр 10—14 м. Агульная плошча могільніка 74×200 м. Выявіў у 1928 г. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1972 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**2480. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 104 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сержаны, Жарскі сельсавет**

**2481. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, справа ад шашы Ушачы — Вялікія Дольцы. У Вялікую Айчынную вайну тут дзейнічаў аэрадром Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. У 1979 г. на месцы былога аэрадрома пастаўлена стэла.

**в. Слабада, Сарочынскі сельсавет**

**2482. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, перад школай. На ўшанаванне памяці 120 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Слабодка, Кубліцкі сельсавет**

**2483. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,9 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, каля павароту з былога тракта Кублічы — Зарэчча на в. Слабодка. 30 насыпаў вышынёй 0,5—4 м, дыяметрам 6—20 м. Выявіла ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Славені, Сарочынскі сельсавет**

**2484. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, абапал дарогі ў в. Крыжы. 18 насыпаў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 10—17 м. Выявіў і даследаваў у 1930 г. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1971 г. А. Г. Калечыц, у 1981 г. А. А. Егарэйчанка. І. А. Сербаў раскапаў 2 курганы. У адным пахавальны абрад — трупапалажэнне. Побач з нябожчыкам ляжалі 50 пацерак, падвеска з дырхема дынастыі Саманідаў (914—943 гг.), жалезны нож, ганчарны гаршчок, бронзавая падвеска. У другім пахавальны абрад — трупаспаленне на мацерыку. Знойдзены жалезны нож, рэшткі ганчарнага посуду. Курганы датуюцца 9—11 стагоддзямі, належалі крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя помнікі Ушацкага раёна Полацкай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

*А. А. Егарэйчанка.*

**в. Сонькін Рог, Глыбачанскі сельсавет**

**2485. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночным беразе воз. Павульскае, паміж в. Цётча і Сонькін Рог. 13 насыпаў вышынёй 1,5—3 м, дыяметрам 10—16 м. Выявіла ў 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Стараселле (не існуе), Глыбачанскі сельсавет**

**2486. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Стараселле знаходзілася за 2 км на паўночны захад ад в. Астраўляны. У 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі знішчылі яе (10 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Старына, Велікадолецкі сельсавет**

**2487. РАДЗІМА ЛОСЬ** Еўдакіі Якаўлеўны (гіст.).



2478. *Кляштар бернардзінцаў.*



2478. *Кляштар бернардзінцаў. План.*

Беларуская савецкая паэтэса Е. Я. Лось нарадзілася 1.3.1929 г. ў сялянскай сям'і. У 1948 г. скончыла Глыбоцкае педагагічнае вучылішча, у 1955 г.— Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага, у 1960 г.— Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Член КПСС з 1955 г. Працавала ў Вучэбна-педагагічным выдавецтве БССР, рэдакцыях газет. У 1970—72 гг. адказны сакратар часопіса «Работніца і сялянка», у 1974—76 гг. рэдактар часопіса «Вясёлка».

Друкавацца пачала з 1948 г. Першы зборнік вершаў «Сакавік» выдадзены ў 1958 г. Выйшлі кнігі паэзіі: «Палачанка» (1962 г.), «Людзі добрыя» (1963 г.), «Хараство» (1965 г.), «Яснавокія мальвы» (1967 г.), «Перавал» (1971 г.), «Галінка з яблыкам» (1973 г.), «Лірыка» (1975 г.), «Лірыка ліпеня» (1977 г.), «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1979 г.) і інш. Пісала для дзяцей: «Абутая ёлачка» (1961 г.), «Казка пра Ласку» (1963 г.), «Вясёлікі» (1964 г.), «Зайчык-выхваляйчык» (1970 г.), «Дванаццаць загадак» (1974 г.), «Смачныя літары» (1978 г.). Аўтар зборніка апавяданняў «Пацеркі» (1966 г.), апавяданняў і замалёвак «Травіца брат-сястрыца» (1970 г.). У цэнтры творчасці пісьменніцы — гераічнае сучаснае і мінулае Радзімы, стваральная праца савецкіх людзей. Асобныя зборнікі выйшлі на рускай і малдаўскай мовах, зроблены пераклады таксама на ўкраінскую, літоўскую, англійскую, польскую, венгерскую, балгарскую і іншыя мовы.

Е. Я. Лось памерла 3.7.1977 г. Пахавана ў Мінску на Усходніх могілках. Імем паэтэсы названа вуліца ў Віцебску, раённая цэнтральная бібліятэка ва Ушачах.

*Літ.:* БарУздзін С. Пра Еўдакію Лось.— Полымя, 1977, № 6; Звонак А. Шлях да паэзіі.— Полымя, 1970, № 7; Семяжон Я. Запрашэнне ў свет паэтычнага.— Полымя, 1962, № 9; Лазарук У. Упоравень з часам.— Маладосць, 1962, № 8; Хведаровіч М. У пошуках свайго голасу.— Маладосць, 1959, № 3; Пра час і пра сябе.— Мн., 1966.

*І. Ф. Кудраўцаў.*

**в. Старынка, Жарскі сельсавет**

**2488. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 31 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2489. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км ад вёскі, абапал дарогі Ушачы — Вялікія Дольцы. 10 насыпаў вышынёй 2—3 м, дыяметрам 3—6 м. Абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**2490. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ЛЕПЕЛЬСКАГА І УШАЦКАГА ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б, ШТАБА, БАЗЫ І АЭРАДРОМА ЛЕПЕЛЬСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ І. В. СТАЛІНА** (гіст.). У вёсцы з 1.7.1943 г. да 30.4.1944 г. размяшчаліся Лепельскі і Ушацкі падпольныя райкомы КП(б)Б, штаб, база, шпіталь, друкарня, аэрадром Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна.

Лепельскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 1.8.1941 г. да 29.6.1944 г. Сакратары: У. Е. Лабанок (1.8.1941 г.— 29.6.1944 г., першы сакратар), А. А. Марунька (15.9—22.12.1942 г., другі сакратар, загінуў), І. Р. Булаўскі (11.1— 14.2.1943 г., другі сакратар, загінуў), У. Л. Качан (2.4.1943 г.— 29.6.1944 г., другі сакратар).

Ушацкі падпольны райком КП(б)Б створаны 6.7.1942 г. (гл. артыкул № 2402 «Дом, у якім адбылося першае пасяджэнне Ушацкага падпольнага райкома КП(б)Б»).

Падпольныя райкомы ўзначальвалі партызанскі рух, вялі палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва.

Лепельская партызанская брыгада імя І. В. Сталіна створана 1.7. 1943 г. Камандзіры — У. Е. Лабанок (ліпень — снежань 1943 г.), Дз. Ц. Караленка (снежань 1943 г.— красавік 1944 г., загінуў), А. В. Ярмош (красавік — чэрвень 1944 г.), камісары — А. В. Ярмош (ліпень 1943 г.— красавік 1944 г.). У. Л. Качан (красавік — чэрвень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Лепельскага і Ушацкага р-наў. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных участках Лепель — Орша, Полацк — Маладзечна, у ліпені — кастрычніку 1943 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Катоўшчына, Парэчча, Студзёнка, Забаенне, вялі баі ў раёне вёсак Связда — Слабодка Лепельскага р-на, у верасні 1943 г. падарвалі больш за 2 тыс. рэек. У кастрычніку 1943 г. ўдзельнічалі ў штурме варожага гарнізона ў Лепелі, у снежні вялі баі каля вёсак Пуцілкавічы, Ліпнікі, Храмёнкі Лепельскага і Ушацкага р-наў. У красавіку — маі 1944 г. вялі баі супраць карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх войск у Полацка-Лепельскай партызанскай зоне. 29.6.1944 г. брыгада (1003 партызаны, атрады 1-ы, 2-і імя Дз. Ц. Караленкі, 3-і, 4-ы, 5-ы, 8-ы, 9-ы імя С. А. Пацея, 13-ы, дыверсійны, артылерыйскі дывізіён, кавалерыйскі эскадрон) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1965 г. ў памяць аб дзейнасці падпольных Лепельскага і Ушацкага райкомаў КП(б)Б, Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна ў паўднёвай частцы вёскі пастаўлена стэла.

**2491. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 208 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**2492. РАДЗІМА ЧАБАТАРОВА** Рамана Сямёнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне паразіталогіі, акадэмік Акадэміі навук БССР (1961 г.), акадэмік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1959—61 гг.), доктар ветэрынарных навук, прафесар (1944 г.) Р. С. Чабатароў нарадзіўся 2.10.1905 г. ў сялянскай сям'і. У 1929 г. скончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут. У 1930—33 гг. працаваў ардынатарам, асістэнтам кафедры паразіталогіі ў гэтым жа інстытуце. У 1933—35 гг. старшы асістэнт, дацэнт кафедры паразіталогіі Арэнбургскага сельскагаспадарчага інстытута, у 1941—44 гг. намеснік дырэктара і загадчык кафедры Свярдлоўскага сельскагаспадарчага інстытута. Член КПСС з 1940 г. У 1944—49 гг. дырэктар Львоўскага ветэрынарнага інстытута, у 1935—41, 1950—59 гг. загадчык кафедры паразіталогіі Кіеўскага ветэрынарнага інстытута. У 1959—68 гг. дырэктар Беларускага навукова-даследчага ветэрынарнага інстытута. З 1968 г. жыў у Кіеве. Распрацаваў методыку вывучэння паразіталагічнай сітуацыі, прапанаваў сістэму мерапрыемстваў па барацьбе з паразітамі сельскагаспадарчых жывёл і чалавека, даследаваў пытанні гісторыі медыцынскай і ветэрынарнай паразіталогіі. Аўтар прац па паразіталогіі.

Р. С. Чабатароў памёр 20.5.1981 г. Пахаваны ў Кіеве.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

**в. Тураполле, Дубраўскі сельсавет**

**2493. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на мысе воз. Атолава, каля дарогі з в. Зарэчча ў в. Касоўшчына. Пляцоўка памерам 30×60 м. Вышыня над узроўнем возера 8—10 м. Вядома з канца 19 ст., абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі і шмат абпаленых камянёў. Належала плямёнам днепра-дзвінскай культуры, датуецца 1—2 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**2494. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ЗА САВЕЦКУЮ БЕЛАРУСЬ»** (гіст.). У доме У. В. Даніленкі ў 1943—44 гг. размяшчаўся штаб партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь».

Брыгада створана 8.10.1942 г. на базе асобных атрадаў «Сібірак», імя В. І. Чапаева, імя А. С. Ільіна (пазней Р. І. Катоўскага). Камандзір — П. М. Раманаў (да мая 1944 г., загінуў), камісары — Дз. П. Падалец (кастрычнік 1942 г.— снежань 1943 г.), М. Г. Жыжоў (люты — май 1944 г., загінуў). Дзейнічала на тэрыторыі Асвейскага, Бешанковіцкага, Гарадоцкага, Дрысенскага, Расонскага, Ушацкага р-наў.

Партызаны наносілі ўдары па ворагу на чыгунках Полацк — Даўгаўпілс, Віцебск — Полацк, Полацк — Маладзечна, на шашэйных і грунтавых дарогах. Пасля разгрому нямецкіх гарнізонаў у вёсках Гаі Дрысенскага р-на (сакавік 1943 г.), Свяча і Сокарава (ліпень 1943 г.) кантралявалі значную частку тэрыторыі Бешанковіцкага р-на. У кастрычніку 1943 г. і студзені 1944 г. разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Камень Лепельскага, Дубраўка, Хадакова, Ягадкі Ушацкага р-на. Падарвалі і пашкодзілі больш за 2 тыс. рэек. Брыгада вяла цяжкія баі супраць карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх войск у красавіку — маі 1944 г. на рубяжы вёсак Горы, Чарсцвяты, Загор'е. Больш за 10 дзён вялі баі каля вёсак Слабада — Казьяны — Пілатоўшчына, за в. Сарочына і іншыя Ушацкага р-на. Камбрыгу П. М. Раманаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 30.6.1944 г. брыгада (421 партызан, атрады «Сібірак», імя В. І. Чапаева, імя Р. І. Катоўскага, імя С. Г. Лазо, імя М. А. Шчорса, імя Аляксандра Неўскага, імя М. І. Кутузава, імя А. В. Суворава) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб брыгады, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976.
*В. Б. Караткевіч.*

**2495. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць школы. На ўшанаванне памяці 59 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Тухаціна (не існуе), Велікадолецкі сельсавет**

**2496. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Тухаціна знаходзілася за 1,5 км на поўнач ад в. Глінішча. 12.5.1944 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі яе (25 двароў), расстралялі 68 жыхароў. Вёска не адрадзілася. У 1964 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Угрынкі, Лутаўскі сельсавет**

**2497. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст.). У доме К. Ф. Старадуба ў 1944 г. размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.

Брыгада створана ў снежні 1942 г. Ветрынскім падпольным райкомам КП(б)Б на базе асобных атрадаў «Мсцівец» і «Смерць фашызму». Да студзеня 1944 г. называлася «Мсцівец». Камандзір — Дз. В. Цябут, камісар — У. А. Лемза. Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Ветрынскага, Пліскага і Ушацкага р-наў. Партызаны наносілі ўдары па чыгунцы Полацк — Маладзечна, на шашэйных і грунтавых дарогах. У красавіку — маі 1944 г. ўдзельнічалі ў баях супраць карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх войск, у т. л. ў баях за вёскі Вялікія Угрынкі і Забораўна Ушацкага р-на, у ноч на 5.5.1944 г. прарвалі блакаду па рубяжы вёсак Вялікае Матырына — Беразінец Ушацкага р-на. 1.7.1944 г. брыгада (746 партызан, атрады «Мсцівец», «Смерць фашызму», «За Радзіму», «КІМ», «Бальшавік», імя М. Ф. Гастэлы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1976 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; Тябут Д. В. Сквозь огонь: Записки комбрига.— 3 изд.— Мн., 1979. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Усая, Дубраўскі сельсавет**

**2498. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2498а.** Гарадзішча. Каля вёскі, на высокім беразе воз. Усая. Усходняя частка гарадзішча ўзвышаецца над возерам на 10 м. Пляцоўка памерам 40×80 м. З паўночнага боку, каля ўвахода на гарадзішча, прасочваецца вал вышынёй да 2 м. Вядома з 1873 г., абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2498б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на паўднёвы захад ад воз. Жэнна, абапал дарогі з в. Усая ў в. Пола. 15 курганоў вышынёй 2 м, дыяметрам 6—8 м. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.
*В. Б. Караткевіч.*

**2499. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі вёску і расстралялі 46 яе жыхароў. У 1976 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлена стэла.

**в. Усвея, Глыбачанскі сельсавет**

**2500. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Усвіца, Глыбачанскі сельсавет**

**2501. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны савецкі воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2502. МЕСЦА СТВАРЭННЯ АТРАДА «СМЕРЦЬ ФАШЫЗМУ»** (гіст.). У вёсцы ў маі 1942 г. адбылася нарада кіраўнікоў падпольных груп Усвіцка-Глыбачанскай і Ц. Дз. Плахатнюка. Было вырашана стварыць на базе груп партызанскі атрад «Смерць фашызму». У памяць аб стварэнні і баявой дзейнасці партызанскага атрада «Смерць фашызму» на паўночнай ускраіне вёскі, на беразе р. Заходняя Дзвіна, у 1974 г. пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 2404 «Месца размяшчэння штаба партызанскага атрада «Смерць фашызму». *В. Б. Караткевіч.*

**в. Цётча, Вяркудскі сельсавет**

**2503. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, злева ад дарогі Чарсцвяты — Краснае, каля моста цераз р. Дзіва, якая злучае воз. Павульскае і воз. Бярозавае. 9 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 8—12 м. За 0,3 км на поўдзень, сярод кустоў, знаходзяцца яшчэ 3 курганы вышынёй да 2 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, абследавала ў 1972 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Чамярычына, Кубліцкі сельсавет**

**2504. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзгорку. Пляцоўка авальная, памерам 35×55 м, абкружана валам вышынёй да 2,5 м і ровам глыбінёй 1,6 м. Выявіў і даследаваў у 1968 г. К. П. Шут. Ускрыта 40 м² культурнага пласта. Знойдзены ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, каменныя свідраваныя сякеры, касцяное долата, жалезны серп, шыла, фрагмент тыгля і інш. Належала плямёнам днепра-дзвінскай культуры, датуецца 4 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шут К. П. Исследования древних городищ Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1968 года. М., 1969. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Чырвоная Горка (не існуе), Велікадолецкі сельсавет**

**2505. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Чырвоная Горка знаходзілася за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Садкі. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі яе. Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 г. на месцы вёскі пастаўлена стэла.

**в. Шасцярні, Мосарскі сельсавет**

**2506. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 72 мірныя жыхары, якіх 23.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія акупанты разам з вёскай (30 двароў). У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ягадкі, Дубраўскі сельсавет**

**2507. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. 2 курганы. Падоўжаны насып памерам 17×19 м, круглы — вышынёй 2,5 м, дыяметрам 10 м. Выявіла і абследавала ў 1971 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.




# ЧАШНІЦКІ РАЁН

ЧАШНІКІ
Іванск
Вялікая Вядрэнь
Акцябрскі
Дварэц
Проземля
Вялікая Альшанка
Цяпіна
Вялікія Смальянцы
Грынькі
Пачаевічы
Кругліца
Пуські
Гілі
Вяцера
Забор'е
Замачак
Дабрамыслі
Новая Зара
Лукомль
Замошша
Кашчына
Стражавічы
Тоўпіна
Новалукомль
Антаполле
Стаўбцы
Латыголічы
Красналукі
Чарэя

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура гідратэхнічныя збудаванні савецкага перыяду

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабняки

Культавая архітэктура

## XXV. ЧАШНІКІ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Ула, за 95 км на паўднёвы захад ад Віцебска, за 3 км ад чыгуначнай станцыі Чашнікі на лініі Орша — Лепель. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Лепелем, Сянно, Новалукомлем. Аэрапорт.

У 16 ст. ўваходзілі ў Полацкае ваяводства Вялікага княства Літоўскага, належалі князям Лукомскім, пазней Кішкам, Сапегам, Патоцкім, Валадковічам. У Лівонскую вайну 1558—83 гг. паводле загада Івана IV Грознага на правым беразе р. Ула пабудаваны ўмацаваны замак (у 1708 г. спалены). У 1791—93 гг. Чашнікі — цэнтр Полацкага ваяводства. З 1793 г. ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка Лепельскага павета Віцебскай губерні. У 1633 г. было 109 дамоў і 16 крам. У 18 ст. пабудаваны прыстань, майстэрні па вырабу гандлёвых суднаў-стругаў, больш за 40 складоў. У 2-й палове 19 ст. пачалося будаўніцтва невялікіх прадпрыемстваў. У гэты перыяд пашыралася тэрыторыя горада, забудоўваліся паўднёвая і ўсходняя яго часткі.

У 1897 г. ў Чашніках 4590 жыхароў, 703 жылыя будынкі, лячэбніца, аптэка, 2 народныя вучылішчы. Працавалі піваварнае і 2 гарбарныя прадпрыемствы, з 1910 г. — папяровая фабрыка. 1.7.1909 г. адкрыта гарадское вучылішча, якое 1.1.1913 г. пераўтворана ў вышэйшае пачатковае. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1919—24 гг. у складзе РСФСР, з 1924 г. цэнтр Чашніцкага р-на Віцебскай, потым Лепельскай акругі. З 1938 г. ў складзе Віцебскай вобл. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак, у 1939 г. было 3505 жыхароў. З ліпеня 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі Чашніцкае камуністычнае падполле, падпольныя райкомы КП(б)Б (15.9.1942 г. — 28.6.1944 г.) і ЛКСМБ (1.8.1942 г. — 28.6.1944 г.). З 1962 г. Чашнікі ў складзе Бешанковіцкага р-на, з 1965 г. цэнтр раёна, з 7.2.1966 г. горад.

У пасляваенныя гады ў горадзе адноўлены жыллёвы фонд. Дамамі новага тыпу забудоўваюцца вуліцы Савецкая (частка магістралі Віцебск — Новалукомль) і Леніна. На месцы старога гандлёвага цэнтра сфарміраваліся новыя грамадска-адміністрацыйныя (вул. Савецкая) і гандлёвы (вул. Леніна) цэнтры. У 1970 г. распрацаваны генплан забудовы горада (Віцебскі філіял інстытута «Белдзяржпраект»). У 1980 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва распрацаваны новы генеральны план. Працуюць прамысловыя прадпрыемствы: папяровая фабрыка, ільнозавод, торфабрыкетны завод, спіртзавод, прамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», лясніцтва. У горадзе 3 сярэднія і музычная школы, 7 дашкольных устаноў, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Чырвоны прамень». Помнікі: У. І. Леніну; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан; на брацкай магіле чырвонаармейцаў, савецкіх воінаў і партызан; вызваліцелям Чашнікаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; рабочым і служачым папяровай фабрыкі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



**XXV.** *Будынак універмага.*



**XXV.** *Дом культуры.*

Зона адпачынку — на берагах р. Ула. У паўночнай частцы горада сфарміравана спартыўная зона.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi.— Wilno, б. г.; Wołyniak. Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej. Cz. 1.— Kraków, 1917.

*Г. І. Барышаў, У. Дз. Будзько.*

**2508. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 13 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў Грамадзянскую вайну, 8 воінаў, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 25 партызан.

У кастрычніку 1943 г. Беларускі штаб партызанскага руху вырашыў правесці аперацыю па захопу Лепеля і разгрому варожых гарнізонаў у Чашніках і Камені. У Чашніках налічвалася каля 700 гітлераўцаў, на подступах да горада былі пабудаваны чатыры лініі ўмацаванняў, дзоты. Штурм іх пачаўся 19.10.1943 г. сіламі Смаленскага партызанскага палка (камандзір І. Ф. Садчыкаў, камісар А. Ф. Юр'еў), 1-й імя К. С. Заслонава (камандзір Л. І. Сяліцкі, камісар Б. К. Іваноў) і Лёзненскай (камандзір П. І. Кірылаў, камісар Ц. П. Шакінка) партызанскіх брыгад. Пасля трохдзённых баёў партызаны занялі горад, але неўзабаве вымушаны былі адступіць. У час баёў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 25 партызан.

У 1965 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і 3 надмагіллі.

*Літ.:* Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**2509. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2510. ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЎ ЯНКА ЖУРБА** (гіст.). Вул. Луначарскага, 101.

Беларускі савецкі паэт Янка Журба (Іван Якаўлевіч Івашын) нарадзіўся 30.4.1881 г. ў в. Купніна (цяпер ускраіна горада). Дом не захаваўся. Пасля Вялікай Айчыннай вайны пабудаваны другі дом, у якім жыў паэт. Памёр Я. Журба 7.1.1964 г. Пахаваны на Ксавер'еўскіх могілках у Полацку. Гл. артыкул № 1847 «Магіла Журбы Янкі».

**2511. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БУТКЕВІЧУ** Леаніду Уладзіміравічу, **НАВІЦКАМУ** Яўгену Гаўрылавічу, **ПШОННАМУ** Сяргею Фамічу, **ЦЕРАШКОВУ** Аляксандру Паўлавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 7. Устаноўлена ў 1975 г. на будынку сярэдняй школы № 1, дзе да Вялікай Айчыннай вайны вучыліся Героі Савецкага Саюза Л. У. Буткевіч, Я. Г. Навіцкі, С. Ф. Пшонны і кавалер ордэна Чырвонага Сцяга А. П. Церашкоў.

**2512. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Савецкай.

У канцы чэрвеня 1944 г. войскі 5-й арміі 3-га Беларускага і 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага франтоў пачалі вызваленне Чашніцкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вораг стварыў тут абарончы рубеж па лініі Концевічы — Чашнікі — чыгуначная станцыя Чашнікі. Бой за горад вялі воіны 357-й стралковай дывізіі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі Чашніцкай («Дубава», камандзір Ф. Ф. Дуброўскі, камісар С. Я. Барадаўкін) і 1-й Беларускай брыгад (другога складу, камандзір і камісар Р. У. Шкрэда). 27.6.1944 г. Чашнікі былі вызвалены.

У гонар воінаў і партызан, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада, у 1974 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *В. Б. Караткевіч.*



**2508.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



**2512.** *Помнік Вызвалення.*

**2513. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Гагарына, каля клуба папяровай фабрыкі. На ўшанаванне памяці рабочых і служачых прадпрыемства, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**2514. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Свабоды. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1962 г.

**2515. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Савецкай. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Крыжападобная ў плане. Складаецца з цэнтральнага аб'ёму, бакавых прыбудоў, апсіды, бабінца з хорамі. Цэнтральны аб'ём завяршае сферычны купал на масіўным светлавым барабане. Над тамбурам размешчаны кубічны аб'ём званіцы, прарэзаны з 4 бакоў высокімі паўцыркульнымі праёмамі. Галоўны заходні фасад аздоблены чатырохкалонным порцікам дарычнага ордэра, тарцы бакавых прыбудоў завершаны франтонамі. Сцены расчлянёны пілястрамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з паўцыркульнымі сандрыкамі. Па перыметры сцен праходзіць карніз і плоскі фрыз. Будынак атынкаваны.

У інтэр'еры дамінуе цэнтральная падкупальная прастора. Прылеглыя да асноўнага аб'ёму памяшканні з цыліндрычнымі скляпеннямі аддзелены падпружнымі аркамі. Інтэр'ер царквы аздоблены размалёўкай: на плафоне выявы Саваофа на троне і 12 апосталаў, на ветразях — евангелістаў, у алтары сцэна «Богаяўленне», на сценах — евангельскі цыкл. Сценапіс адноўлены ў 1970 г. Некранутым застаўся плафон. Размалёўка яго вы-



**2515.** *Праабражэнская царква. План.*



**2515.** *Праабражэнская царква. Купал над цэнтральным аб'ёмам.*



**2515.** *Праабражэнская царква. Галоўны фасад.*

лучаецца серабрыстым каларытам, правільна знойдзеным маштабам фігур, перспектыўным ракурсам.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*Л. Г. Лапцэвіч, А. А. Міцянін.*

**в. Антаполле, цэнтр сельсавета**

**2516. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках, за 5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 47 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод іх — воіны 215-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2517. КУРГАН** (археал.). За 0,1 км на паўночны захад ад вёскі, каля малочнай фермы. Вышыня 2.3 м, дыяметр 13 м. Выявіла ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька.

**2518. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар вайсковых часцей 5-га (генерал-маёр І. П. Аляксеенка) і 7-га (генерал-маёр В. І. Вінаградаў) механізаваных карпусоў 20-й арміі, якія ў ліпені 1941 г. нанеслі каля в. Тоўпіна моцны контрудар па танкавай групоўцы нямецка-фашысцкіх войск.

**2519. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР СЕННЕНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1975 г.

У вёсцы ў 1942—44 гг. размяшчаўся штаб Сенненскай партызанскай брыгады (дзейнічала на тэрыторыі Сенненскага, Чашніцкага і Лепельскага р-наў Віцебскай вобл.). Створана ў кастрычніку 1942 г. з большай часткі асабовага складу партызанскай брыгады М. П. Гудкова. Камандзір брыгады В. С. Лявонаў, камісары П. В. Сырпоў (да чэрвеня 1943 г.) і М. Ц. Любімцаў (чэрвень 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках і шашэйных дарогах. Разграмілі варожыя гарнізоны ў снежні 1942 г. ў в. Чарэя, у верасні — кастрычніку 1943 г. ў вёсках Граеўшчына, Закур'е, Лукомль, Прыдвор'е, Слідцы Чашніцкага р-на, у студзені — лютым 1944 г. ў вёсках Ладзікава, Лядзіны, Крыльцова і Ходцы Сенненскага р-на. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне». У маі 1944 г. ў час карнай аперацыі фашыстаў разграмілі гарнізоны ў вёсках Залессе і Матырына Лепельскага р-на, у чэрвені штурмам прарвалі варожую блакаду на шашы Лепель — Барысаў і Халопенічы — Бягомль.

26.6.1944 г. брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй (1939 партызан: атрады В. А. Захарчанкі, імя А. В. Суворава, імя К. А. Хаіркізава, імя В. І. Чапаева, А. М. Захарава, «За Радзіму», імя Аляксандра Неўскага, «Смерць фашызму», П. Ф. Гарбачова, імя Багдана Хмяльніцкага, 6-ы, імя М. І. Кутузава, разведвальны). *В. Б. Караткевіч.*

**2520. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 172 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Асташова, Альшанскі сельсавет**

**2521. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 жыхары в. Асташова і іншых вёсак былога Вяжоўскага сельсавета, якіх нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі 22.4.1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Аўсянікі, Кругліцкі сельсавет**

**2522. КУРГАН** (археал.). У лесе, на беразе воз. Старасельскае, каля дарогі ў в. Бельнякі. Да нядаўняга часу тут быў могільнік, які меў 34 насыпы дыяметрам 10—15 м, вышынёй 1,5—3 м. Даследаваў у 1882 г. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Могільнік належаў крывічам. Датуецца канцом 1-га — пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э. Матэрыялы даследавання 1882 г. захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.



2523. *Троіцкая царква.*



2523. *Троіцкая царква. План.*

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *В. Б. Караткевіч.*

**в. Белая Царква, Чарэйскі сельсавет**

**2523. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Мясцовая назва Белая царква. На ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе воз. Белае. У пачатку 16 ст. на гэтым месцы Багдан Сапега заснаваў базыльянскі манастыр і пабудаваў царкву Троіцы. У 17 ст. разбураная царква адноўлена.

Храм аднавежавы, зальнага тыпу, спачатку меў вялікую паўкруглую апсіду (не збераглася). Высокая трох'ярусная квадратная ў плане вежа-званіца дамінуе над астатнімі аб'ёмамі храма, расчлянёна карнізнымі паясамі і пілястрамі на 3 ярусы (пояс 1-га яруса праходзіць цэласнай пягай па ўсім перыметры царквы). Званіца прызначалася для абарончых мэт. Таўшчыня яе сцен 1,75 м, а паўночнай, унутры якой каменная лесвіца, 2 м. Завершана шматгранным купалам з 4 люкарнамі. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём храма большы за аб'ём званіцы. Бакавыя сцены расчлянёны масіўнымі пілястрамі, 2 сярэднія звязаны перспектыўнай аркай і ўтвараюць шырокі партал. Сцены вежы і асноўнага аб'ёму прарэзаны вузкімі высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Асноўны аб'ём перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Афармленне інтэр'ера не захавалася.

Царква — помнік архітэктуры ранняга барока.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 1.—Warszawa, 1880. *А. А. Міцянін.*

**в. Бор, Празямлянскі сельсавет**

**2524. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе безназоўнай рэчкі. 5 насыпаў вышынёй 2,5 м, дыяметрам 10 м. Добра захаваліся, здзірванелыя, зараслі хмызняком. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Браздзецкая Слабада, Празямлянскі сельсавет**

**2525. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні былой в. Горкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Васькаўшчына, Празямлянскі сельсавет**

**2526. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Валатоўкі.



2527. *Помнік на месцы стварэння Лепельскага партызанскага атрада № 68.*

За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Ульянка. 8 курганоў вышынёй 0,6—3,6 м, дыяметрам 9—11 м. Насыпы пясчаныя, некаторыя абкладзены валунамі. Выявіла ў 1954 г. А. П. Сухамлінава-Марозава, абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2527. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ЛЕПЕЛЬСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА № 68** (гіст.). За 2 км ад вёскі, у лесе, на мяжы Лепельскага і Чашніцкага р-наў.

У жніўні — верасні 1941 г. ў лясах Лепельскага і Чашніцкага р-наў з мясцовых патрыётаў і чырвонаармейцаў, якія трапілі ў акружэнне, былі створаны падпольныя групы (Ляхаўская, Лепельская, Ізафатаўская, Валасавіцкая, Несінская і інш.). У сакавіку 1942 г. па ініцыятыве сакратара Лепельскага падпольнага райкома КП(б)Б У. Е. Лабанка з падпольных груп арганізацыйна афармлены першы ў Лепельскім р-не партызанскі атрад № 68. Да жніўня 1942 г. дзейнічаў асобна, потым у складзе Чашніцкай партызанскай брыгады («Дубава»), з ліпеня 1943 г.— атрад № 1 Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна. Камандзіры атрада У. Е. Лабанок (сакавік — жнівень 1942 г.), Дз. Ц. Караленка (жнівень — лістапад 1942 г. і снежань 1942 г.— чэрвень 1943 г.), А. А. Марунька (лістапад — снежань 1942 г., загінуў), М. М. Малкаў (чэрвень — снежань 1943 г.), А. Д. Каралевіч (снежань 1943 г.— чэрвень 1944 г.); камісары А. А. Марунька (жнівень — лістапад 1942 г.), М. Я. Цікавой (лістапад 1942 г.— сакавік 1943 г. і ліпень 1943 г.— чэрвень 1944 г.), М. М. Малкаў (сакавік 1943 г.— чэрвень 1943 г.).

У Васькаўшчынскім лесе, дзе быў створаны партызанскі атрад, адноўлены зямлянка, лазня і калодзеж. У 1966 г. на месцы стварэння атрада пастаўлена стэла.

*Літ.:* Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976; его ж. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; Шлык Ф. Е., Шопа П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Вішанькі, Празямлянскі сельсавет**

**2528. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. 9.3.1944 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі вёску, сагналі ў 2 хаты жанчын, дзяцей і старых, закідалі іх гранатамі, а потым падпалілі. Загінулі 114 чалавек, вёска згарэла. У 1984 г. на магіле ўстаноўлены помнік: скульптурная кампазіцыя — жанчына, дзяўчынка і стары.

**в. Вялікія Смалянцы, Альшанскі сельсавет**

**2529. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 43 воіны і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна і вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2530. РАДЗІМА КІРКІЖА** Купрыяна Восіпавіча (гіст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч К. В. Кіркіж нарадзіўся 29.9. 1888 г. ў сялянскай сям'і. Скончыў царкоўнапрыходскую школу, з 15 гадоў працаваў на папяровай фабрыцы ў Віцебскай губерні, потым пераехаў у Рыгу, уладкаваўся слесарам. У 1910 г. ўступіў у РСДРП. У 1911—12 гг. быў членам агітацыйнай калегіі Віцебскага камітэта РСДРП. З 1912 г. зноў у Рызе, на заводзе Усеагульнай электрычнай кампаніі, актыўна ўдзельнічаў у падпольнай партыйнай рабоце. Разам з заводам у 1915 г. эвакуіраваўся ў Харкаў. Прымаў удзел ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Харкаве. Быў членам Харкаўскага губернскага камітэта РСДРП і Харкаўскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. К. В. Кіркіж — адзін з арганізатараў атрадаў Чырвонай гвардыі і падраздзяленняў Чырвонай Арміі, 2-га Пралетарскага палка. У 1919 г. камісар асобнай Данецкай брыгады, камісар часцей правага ўчастка Екацярынаслаўскага напрамку, у 1920 г. начальнік тылу і камісар стралковай дывізіі 14-й арміі. Змагаўся супраць войск Дзянікіна і бандаў Махно. З 1922 г. намеснік старшыні Харкаўскага губвыканкома, сакратар Харкаўскага губкома КП(б)У, з 1925 г. загадчык аддзела ЦК КП(б)У, у 1926—27 гг. нарком РСІ УССР. У 1927—29 г. сакратар ЦК КП(б)Узбекістана. З 1929 г. старшыня ЦК прафсаюза савецкіх гандлёвых служачых, з 1931 г. старшыня ЦК Саюза рабочых машынабудавання СССР. Кандыдат у члены ЦК ВКП(б) у 1924—25 гг., член ЦК ВКП(б) у 1925—30 гг., член ЦКК ВКП(б) з 1930 г. Член Прэзідыума ВЦСПС у 1929—32 гг. Член ЦВК СССР, кандыдат у члены Прэзідыума ЦВК СССР у 1929—31 гг. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

К. В. Кіркіж загінуў у аўтамабільнай катастрофе 24.5.1932 г. Пахаваны на Краснай плошчы каля Крамлёўскай сцяны.

*Літ.:* Корнилович Э. А. Революцией призванные.— Мн., 1980. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Гара, Чарэйскі сельсавет**

**2531. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 32 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2532. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2532а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Гара. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, злева ад дарогі да воз. Чарэйскае. Пляцоўка памерам 29×24 м, выцягнута з поўначы на поўдзень, вышыня над наваколлем каля 7 м. З заходняга і паўночнага бакоў абмежавана забалочанай поймай, з паўночнага боку ўмацавана валам вышынёй да 0,8 м і ровам глыбінёй каля 0,6 м. Гарадзішча вядома з 1873 г., абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. У шурфах выяўлены культурны



2529. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

пласт 0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2532б.** Курганны могільнік. Мясцовая назва Напалеонаўскія магілы. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на могілках. 6 насыпаў вышынёй 0,6—1,2 м, дыяметрам 8—12 м, моцна аплылі, асобныя пашкоджаны ямамі. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Т. С. Бубенька.*

**в. Гілі, Пачаевіцкі сельсавет**

**2533. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля цагельнага завода. Пахаваны 46 воінаў і партызан, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 159-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту і партызаны 2-й імя К. С. Заслонава брыгады. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гогалеўка, Новазаранскі сельсавет**

**2534. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2534а.** Могільнік-1. За 3,5 км на ўсход ад вёскі, абапал дарогі Кашчына — Фёдараўка, у лесе. 11 курганоў дыяметрам 6—12 м, вышынёй 0,9—2,3 м. Насыпы здзірванелыя і зараслі лесам. Выявіў у 1966 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2534б.** Могільнік-2. За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,6 км на поўнач ад могільніка-1, справа ад дарогі Фёдараўка — Кашчына. 3 насыпы вышынёй 0,3—0,6 м, дыяметрам 8 м, моцна аплылі. Выявіў у 1966 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся. *Т. С. Бубенька.*

**в. Горы, Кругліцкі сельсавет**

**2535. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 45 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — партызаны Багушэўскай брыгады (другога складу), што загінулі ў сакавіку 1944 г. ў баях супраць акупантаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Граеўшчына, Лукомскі сельсавет**

**2536. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г на магіле пастаўлена стэла.

**в. Грынькі, Кругліцкі сельсавет**

**2537. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2537а.** Гарадзішча. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у забалочанай пойме ручая, які ўпадае ў воз.Міглеўскае. Займае паўднёвы край узвышша, ад якога аддзелена ровам глыбінёй 2 м, шырынёй 13—15 м. З усходняга, паўднёвага і заходняга бакоў абмежавана забалочанай поймай безназоўнага ручая. Схілы стромкія, маюць выгляд тэрасы. Пляцоўка авальная, памерам 45×33 м, вышыня над поймай 16 м. З боку поля (паўночнага) прасочваецца вал вышынёй 0,7—0,8 м, шырынёй 6,5 м. Усходняя частка пляцоўкі пашкоджана ямай. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. У агаленнях выяўлены культурны пласт 0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2537б.** Могільнік. Мясцовая назва Напалеонаўскія магілы. За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, злева ад дарогі на в. Запруддзе, у лесе. 7 насыпаў вышынёй 1,3 м, дыяметрам 10—13 м. Курганы здзірванелі, зараслі лесам, каля асновы прасочваюцца раўкі. Выявіла ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.
*Т. С. Бубенька, В. Б. Караткевіч.*

**2538. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1975 г.



2533. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У жніўні 1941 г.— красавіку 1942 г. вялікую работу сярод насельніцтва раёна праводзіла падпольная група камуністаў, якую ўзначальваў упаўнаважаны ЦК КП(б)Б С. Е. Папкоў. Група шмат рабіла для арганізацыі барацьбы супраць акупантаў, прымала па радыё зводкі Саўінфармбюро, распаўсюджвала сярод насельніцтва лістоўкі. Была сарвана кампанія па збору цёплага адзення для ворага, захаваны калгасны статак. У красавіку 1942 г. акупанты высачылі групу. Многія яе ўдзельнікі былі закатаваны. Тыя, каму ўдалося выратавацца, працягвалі барацьбу ў партызанскіх атрадах.

У 1943—44 гг. паблізу вёскі Грынькі (у в. Жэрына) размяшчаўся штаб партызанскай брыгады 2-й імя К. С. Заслонава (камандзір брыгады В. П. Комлеў, камісар В. Е. Бляяеў). Брыгада створана ў верасні 1943 г. на базе вылучаных з брыгады 1-й імя К. С. Заслонава атрадаў імя В. І. Чапаева, імя С. Г. Лазо, імя П. К. Панамарэнкі, «Малады бальшавік», «Мсцівец» і В. П. Комлева (з кастрычніка 1943 г. імя М. І. Калініна); пазней арганізаваны атрад «Кастрычнік». Брыгада дзейнічала на тэрыторыі Аршанскага, Сенненскага, Талачынскага, Лепельскага і Чашніцкага р-наў Віцебскай і Халопеніцкага р-на Мінскай абласцей. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах. У кастрычніку 1943 г. вялі баі з праціўнікам каля в. Валосава Талачынскага р-на, 21—24.10.1943 г. разам з брыгадай «Аляксея» (пазней імя А. Ф. Данукалава) штурмавалі гарнізон у в. Бачэйкава і разграмілі гарнізон у в. Слабодка Бешанковіцкага р-на. Правялі 9 баёў каля дарогі Камень — Бачэйкава, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне». У красавіку — маі 1944 г. брыгада вяла баі супраць карнікаў каля вёсак Маковічы, Грачэвічы і Чэрцы Лепельскага р-на, разам з Сенненскай брыгадай прарвала варожую блакаду каля вёсак Адамаўка і Сялец Халопеніцкага р-на. 27.6.1944 г. злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння ў брыгадзе 905 партызан, 7 атрадаў. Разам з часцямі Чырвонай Арміі ўдзельнічала ў вызваленні вёсак Чашніцкага і Халопеніцкага р-наў.

*Літ.:* Лобанок В. Е. В боях за Родину.— 3 изд.— Мн., 1964; яго ж. Партизаны принимают бой.— Мн., 1976.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Дварэц, Празямлянскі сельсавет**

**2539. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, злева ад дарогі на в. Тараскі, на левым беразе безназоўнай рэчкі. Пляцоўка памерам 45×39 м узвышаецца над поймай на 10—12 м. З паўночнага захаду і захаду ўмацавана ровам глыбінёй каля 7 м, шырынёй каля 20 м, з паўночнага ўсходу і поўна-

чы — забалочаная пойма рэчкі. Пляцоўка часткова зарасла лесам, паўночна-заходні край пашкоджаны 2 ямамі глыбінёй каля 2 м. Абследавалі ў 1951 г. Л. В. Аляксееў, у 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. У агаленнях прасочаны культурны пласт, рэшткі керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*Т. С. Бубенька, В. Б. Караткевіч.*

**в. Дзямідавічы, Іванскі сельсавет**

**2540. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 79 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Жучкі, Лукомскі сельсавет**

**2541. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2542. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У школьным двары. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Забор'е, Новазаранскі сельсавет**

**2543. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ЧАШНІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б, ЛКСМБ, ШТАБА ЧАШНІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ («ДУБАВА»)** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1975 г. У вёсцы з красавіка да кастрычніка 1943 г. размяшчаліся Чашніцкія падпольныя райкомы КП(б)Б, ЛКСМБ і штаб Чашніцкай партызанскай брыгады («Дубава»).

Чашніцкі падпольны райком КП(б)Б створаны 15.9.1942 г., дзейнічаў да 28.6.1944 г. Сакратары Ф. Ф. Дуброўскі (да 28.6.1944 г.), В. Ф. Вітка (другі сакратар, да 2.4.1944 г., загінуў), С. Я. Барадаўкін (другі сакратар, 1.5.1943 г.— 1.3.1944 г.). Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Сцяг сацыялізма».

Чашніцкі падпольны райком ЛКСМБ створаны 1.8.1942 г., дзейнічаў да 28.6. 1944 г. Сакратары К. П. Захаваева (да 1.4.1944 г.), М. Дз. Жарнасек (з 1.4.1944 г.), М. М. Асіпёнак (31.7. 1943 г.— 20.11.1943 г.). Дзейнасць падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ была накіравана на разгортванне партызанскага руху на тэрыторыі раёна, правядзенне палітычнай работы сярод насельніцтва.

Чашніцкая партызанская брыгада («Дубава») створана ў жніўні 1942 г. Камандзір Ф. Ф. Дуброўскі («Дубаў»), камісары У. Е. Лабанок (жнівень 1942 г.— чэрвень 1943 г.), М. В. Старынскі (ліпень 1943 г.— люты 1944 г.), С. Я. Барадаўкін (красавік — чэрвень 1944 г.). За час знаходжання штаба брыгады ў в. Забор'е партызаны нанеслі адначасовы ўдар па варожых гарнізонах у вёсках Забалацце, Студзёнка, Перкаўшчына Лепельскага р-на (красавік 1943 г.), разграмілі гарнізоны ў вёсках Цяпіна, Варкі, Залессе Чашніцкага р-на (ліпень 1943 г.). У час карных аперацый у маі — чэрвені 1943 г. вялі баі ў раёне в. Пышна, у верасні — на рубяжы Лукомль — Чашнікі. Побач з вёскай знаходзіўся партызанскі аэрадром.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Ш л ы к Ф. Е., Ш о п а П. С. Во имя Родины.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*



2544. *Курганны могільнік.*

**в. Закур'е, Пачаевіцкі сельсавет**

**2544. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. Захавалася 19 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 6—15 м. У 1888 г. Е. Р. Раманаў даследаваў 3 насыпы. У адным пахавальны абрад трупаспаленне, у двух — трупапалажэнне. Знойдзены нож, сярэбраны пярсцёнак, 2 завушніцы, 5 пацерак. У 1971 г. Г. В. Штыхаў раскапаў 4 курганы. У адным на падсыпцы ляжаў шкілет чалавека галавой на поўнач, каля яго былі каменныя і шкляныя пацеркі, нож, бронзавы пярсцёнак, 2 цвікі. У другім насыпе шкілет быў на грунце галавой на захад, пры ім бронзавы пярсцёнак, спражка, жалезная сякера, крэсіва, нож, 4 цвікі, сланцавы брусок. У двух іншых курганах пахаванняў не было. Некаторыя курганы насыпаны на месцы паселішча 6—8 стагоддзяў. У 1981 г. абследавала Т. С. Бубенька. Датуюцца 11—12 стагоддзямі, належалі крывічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі Беларускай ССР.

*Літ.:* А л е к с е е в Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *Г. В. Штыхаў.*

**в. Залессе, Празямлянскі сельсавет**

**2545. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Замачак, Антапольеўскі сельсавет**

**2546. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўзгорку, насупраць клуба. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 215-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Замошша, Латыголіцкі сельсавет**

**2547. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі, на могілках спаленай нямецка-фашысцкімі захопнікамі в. Стайчаўка. Пахаваны 26 мірных жыхароў, загубленых акупантамі летам 1943 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Запружаны, Празямлянскі сельсавет**

**2548. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, каля балоцістай нізіны. 6 круглых і 1 падоўжаны курганы. Вышыня круглых 2,5—4 м, дыяметр 10—15 м. Падоўжаны шырынёй 12, вышынёй 2,5 м, даўжынёй 30 м. Абкладзены каля асновы вялікімі валунамі. Выявіў у 1967 г. Г. В. Штыхаў, абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Зарэчная Слабада, Іванскі сельсавет**

**2549. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 1805 мірных жыхароў, якіх 12.2.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Іванск, цэнтр сельсавета**

**2550. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 воіны і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 357-й стралковай дывізіі 43-й арміі 1-га Прыбал-



2550. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

тыйскага фронту. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2551. РАДЗІМА КРАСНІКА** Івана Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. М. Краснік нарадзіўся 30.7.1906 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. У Чырвонай Арміі з 1928 г. Скончыў Мінскае артылерыйскае вучылішча (1932 г.). У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім і 1-м Беларускім франтах. У час прарыву абароны праціўніка ў раёне Візенаў — Брыскаў самаходны артылерыйскі полк пад камандаваннем падпалкоўніка І. М. Красніка захапіў участак шашы Франкфурт-на-Одэры — Берлін, адбіў 12 контратак праціўніка, знішчыў 24 танкі і самаходныя гарматы, 187 гармат, мінамётаў і кулямётаў, 24 дзоты і больш за 900 варожых салдат і афіцэраў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г. Да 1956 г. палкоўнік І. М. Краснік служыў у Савецкай Арміі. Памёр 18.2.1957 г. Пахаваны ў г. Барысаў Мінскай вобласці.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Кажары, Пачаевіцкі сельсавет**

**2552. КАМЕННЫЯ КРЫЖЫ** (археал.) На могілках, справа ад дарогі ў в Кажары. 18 крыжоў, побач — вялікая колькасць каменных пліт, высечаных з мясцовага шэрага граніту. Памеры крыжоў: вышыня 0,7—1,5 м, шырыня 0,6—0,9 м, таўшчыня 0,15—0,25 м. Адносяцца да 13—16 стагоддзяў. На асобных крыжах — надпісы на старaславянскай мове.

**с. Кашчына, Новазаранскі сельсавет**

**2553. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 5 воінаў і 31 партызан 1-й Беларускай партызанскай брыгады (другога складу), якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Копцевічы, Іванскі сельсавет**

**2554. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 357-й стралковай дывізіі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях за вызваленне Чашнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2555. ПОМНІК ВОІНАМ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ 1812 г.** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, справа ад дарогі на Чашнікі.

У Айчынную вайну 1812 г. пасля бітвы (6.10) каля Таруціна пачалося адступленне напалеонаўскіх войск. 8.10.1812 г. быў вызвалены Полацк. Французскі корпус Г. Сен-Сіра, які праследаваўся корпусам генерала П. Х. Вітгенштэйна, адступіў у напрамку Ушачы — Лепель — Чашнікі, каля в. Копцевічы ён злучыўся з корпусам маршала К. Віктора, які падышоў з-пад Смаленска. 19 кастрычніка войскі П. Х. Вітгенштэйна атакавалі французаў. Упартая бітва за Чашнікі вялася на працягу дня. Праціўнік быў разгромлены і адступіў на Сянно.



2555. *Помнік воінам Айчыннай вайны 1812 г.*

Армія П. Х. Вітгенштэйна вызваліла Чашнікі, выйшла на злучэнне з арміяй адмірала П. В. Чычагова і перарэзала шлях адступаючай напалеонаўскай арміі.

У 1962 г. ў памяць аб гэтых падзеях пастаўлена стэла.

*Літ.:* Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Красналукі, цэнтр сельсавета**

**2556. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 38 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2557. МАГІЛА БУЛАХАВА** Фядота Паўлавіча (гіст.). Каля клуба, у скверы. Камісар 1-га партызанскага атрада 1-й Беларускай партызанскай брыгады (другога складу) Ф. П. Булахаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў 4.4.1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лазукі, Кругліцкі сельсавет**

**2558. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, на ўзгорку. Пахаваны 62 воіны і партызаны, а таксама партызанскія сем'і, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Лукомль, цэнтр сельсавета**

**2559. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 31 воін і партызан. Сярод іх — воіны 215-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі 27.6.1944 г. пры вызваленні Лукомля, і партызаны брыгад Сенненскай (загінулі пры разгроме нямецкага гарнізона ў верасні 1943 г.) і Чашніцкай (загінулі ў баях за вёску ў верасні 1943 г. і ў чэрвені 1944 г.).

У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2560. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ, КУРГАН, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Комплекс археалагічных помнікаў даследавалі ў 1886 г. Е. Р. Раманаў, у 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1966—69, 1971, 1973—74 гг. Г. В. Штыхаў.

**2560а.** Гарадзішча. У вёсцы, на правым беразе р. Лукомка, на пагорку вышынёй 15—20 м. Пляцоўка памерам 63×36 м. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 2,2 м, каля паўночнага краю больш за 5 м. Пры раскопках у 1966—69, 1971, 1973—74 гг. даследавана 704 м² плошчы. Выяўлены рэшткі некалькіх археалагічных культур, якія храналагічна змяняюць адна адну: днепра-дзвінская (рубеж



**2560.** *Гарадзішча.*

нашай эры); тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі н. э.); матэрыялы 9 — пачатку 10 ст., якія належалі крывічам; магутны культурны пласт 11—13 стагоддзяў з вялікай колькасцю знаходак; верхні пласт перыяду Вялікага княства Літоўскага. Сярод знаходак вырабы з жалеза (сашнікі, сярпы, косы, наканечнікі стрэл, ключы ад замкоў і інш.), каляровых металаў (бранзалеты і іншыя жаночыя ўпрыгожанні), з косці (грабяні, праколкі, накладкі), з каменю (сланцавыя прасліцы, тачыльныя брускі), шкла (бранзалеты, каралі). Да рэдкіх знаходак належаць касцяная шахматная фігурка чалавека, касцяная пласціна з выявамі звяроў, залатая ажурная пацерка. З'яўляецца гарадзішчам старажытнага горада Лукомля.

Лукомль упершыню ўпамінаецца ў «Павучэнні» Уладзіміра Манамаха пры апісанні паходу на Усяслава Брачыславіча ў 1078 г. З 12 ст. быў цэнтрам удзельнага Лукомскага княства. З 14 ст. ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1386 г. замак пасля працяглай асады быў узяты Андрэем Альгердавічам (Полацкім). З 1397 г. выхадцы з Валыні заснавалі тут Мікалаеўскі манастыр. У Лівонскую вайну Лукомль быў разбураны (у 1563 г.) войскамі Івана Грознага, пасля чаго называўся сялом. У 18—19 стагоддзях мястэчка.




**2560.** *Гарадзішча, селішчы, курган, курганны могільнік. Схема планіроўкі: 1, 2 — селішча; 3 — гарадзішча; 4 — узвышша; 5 — курганны могільнік; 6 — курган і могільнік.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі Беларускай ССР.

**2560б.** Селішча-1. На поўнач ад гарадзішча, на тэрыторыі школьнага двара. У 1969—70 гг. Г. В. Штыхаў даследаваў 588 м² плошчы. Культурны пласт да 1—1,5 м. Выяўлены рэшткі селішчаў 5—8 стагоддзяў і часоў Полацкага княства 9—13 стагоддзяў, якія значна пашкоджаны перакопамі 14—16 стагоддзяў, таксама даследавана паўзямлянкавае жытло 15 ст., у ім знойдзены 2 бронзавыя крыжы і шмат глінянага посуду. Да ранняга феадалізму належаць жалезныя наканечнікі стрэл, ключы, крыцы, шкляныя пацеркі і бранзалеты, сланцавыя прасліцы, бронзавыя трапецападобныя падвескі, гліняныя тыглі для плаўкі каляровых металаў.

**2560в.** Селішча-2. На левым беразе р. Лукомка, насупраць гарадзішча, займала некалькі гектараў. Даследаваў у 1973—74 гг. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены матэрыялы 11—13 стагоддзяў (гліняны посуд, жалезныя і касцяныя вырабы, каменная форма для адліўкі жаночых упрыгожанняў).

**2560г.** Курган. Мясцовая назва Валатоўка. За 1 км ад вёскі, каля могілак. Вышыня 4 м, дыяметр 18 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1966 г. Г. В. Штыхаў.

**2560д.** Курганны могільнік. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля дарогі на в. Чарэя, ва ўрочышчы Праклятае Поле. 4 адноўленыя насыпы вышынёй 2 м, дыяметрам 8—10 м. У 1886 г. Е. Р. Раманаў выявіў пахаванні па абраду трупапалажэння, знойдзены прадметы ўзбраення — баявыя сякеры, наканечнікі коп'яў. Датуецца могільнік 11 ст.

Матэрыялы раскопак Е. Р. Раманава захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве. Раскапанае ў 1966 г. Г. В. Штыхавым пахаванне воіна разам з інвентаром захоўваецца ў Полацкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX — XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966; Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Штыхов Г. В. Раскопки в Лукомле в 1966—1968 годах.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1969; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972.
*Г. В. Штыхаў.*



**2562.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2561. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 75 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Луцік, Альшанскі сельсавет**

**2562. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У паўночнай частцы вёскі. Пахаваны 20 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малая Вядрэнь, Акцябрскі пасялковы Савет**

**2563. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Гарадок, Царкавішча. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, сярод балот, на паўночным беразе возера і беразе ручая. Пляцоўка авальная, вышынёй 15—18 м, памерам 54×30 м, выцягнута з поўначы на поўдзень. Умацавана па краі валам вышынёй 0,6 м, шырынёй 1,5—2 м. З паўднёвага боку быў уваход на гарадзішча шырынёй 1,2 м. У цэнтральнай частцы пляцоўкі захаваліся рэшткі фундамента царквы (памер 22×12 м). Тут жа захаваліся 2 каменныя крыжы і пліта з надпісам «XIX век». Вядома з 1873 г., абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. У агаленнях ям культурны пласт 0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903., в. 5. *Т. С. Бубенька.*

## XXVI. НОВАЛУКОМЛЬ

Горад у Чашніцкім р-не. На паўднёвым беразе воз. Лукомскае, за 23 км ад Чашнікаў. Узнік у 1964 г. на месцы рабочага пасёлка Піянерны ў сувязі з будаўніцтвам Лукомскай ДРЭС. З 31.12.1965 г. гарадскі пасёлак, з 31.7.1970 г. горад.

У аснову планіроўкі Навалукомля пакладзены прынцып раз'яднання пешаходных і транспартных сувязей. Развіццё горада плануецца ў заходнім напрамку, уздоўж возера. Адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр — пл. Леніна. На ёй размешчаны будынак гарвыканкома, гандлёвы цэнтр, кінатэатр «Электрон», Палац культуры. Да плошчы вядуць 2 паралельныя галоўныя вуліцы — Набярэжная і Энергетыкаў. Разбіты сквер з партэрнай зелянінай, вадаёмам і 2 фантанамі. Прамысловая зона развіваецца ва ўсходнім напрамку. Дзейнічаюць домабудаўнічы камбінат, завод керамзітавага жвіру, хлебазавод, малочны завод, камбінат бытавога абслугоўвання. У Навалукомлі гарадское прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, 2 сярэднія школы, 4 дашкольныя ўстановы, 2 бібліятэкі, кінатэатр, Палац культуры, гасцініца, крыты рынак, бальніца, метэастанцыя.

Зона адпачынку — у парку, на беразе возера Лукомскае. *А. А. Міцянін.*



XXVI. *Плошча Леніна.*

**2564. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках, насупраць будынка электрастанцыі. Пахаваны 45 воінаў 215-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту і партызаны Чашніцкай брыгады («Дубава»), якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2565. БУДЫНКІ ЛУКОМСКАЙ ДРЭС** імя 50-годдзя СССР (архіт.). На ўсходнім беразе воз. Лукомскае, паблізу ад г. Новалукомль.

Пабудаваны паводле праекта Рыжскага аддзялення інстытута «Цеплаэлектрапраект». Першы энергаблок уведзены ў дзеянне ў снежні 1969 г. Галоўны вытворчы корпус складаецца з трох прамавугольных у плане аб'ёмаў (машыннае, дыяэратарнае і кацельнае аддзяленні). Будынак ДРЭС вырашаны ў сучасных формах прамысловай архітэктуры. Гарызантальнае чляненне сценавых і светлавых панелей забяспечвае прастату вырашэння фасадаў і падкрэслівае каркасна-панельную структуру будынка. Да тарца галоўнага корпуса пры дапамозе пераходнай галерэі далучаны аб'ём аб'яднанага дапаможнага корпуса. У яго чатырохпавярховай частцы размешчаны службы дырэкцыі ДРЭС, бытавыя памяшканні, медпункт і сталовая, у аднапавярховай — агульнастанцыйная хімводаачыстка, склад, электрамайстэрні, трансфарматарная і інш. 3 трубы (вышыня 250 м, дыяметр каля вусця 6,5 м) завяршаюць аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю комплексу, з'яўляюцца яго вертыкальнымі дамінантамі. Рэзервуары для паліва (мазут) і дапаможныя збудаванні размешчаны ў баку ад ДРЭС, каля шашы Чашнікі — Навалукомль.

Будынкі Лукомскай ДРЭС — прыклад прамысловай архітэктуры.
*А. А. Міцянін.*

**2566. ПОМНІК АЗМІЦЕЛЮ** Фёдару Фёдаравічу (гіст.). На бульвары Азміцеля.

Герой Савецкага Саюза Ф. Ф. Азміцель нарадзіўся 13.8.1918 г. ў с. Ліпавецкае Мартукскага р-на Акцюбінскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС. У Чырвонай Арміі з 1938 г., служыў на пагранзаставе, вучыўся ў ваенным вучылішчы. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на Паўночным фронце, удзельнік бітвы пад Масквой. У лютым 1942 г. лейтэнант Ф. Ф. Азміцель узначаліў партызанскі атрад асобага прызначэння «Грозны», які дзейнічаў у трохвугольніку Орша — Віцебск — Смаленск. Да верасня 1942 г. атрад правёў больш за 10 буйных аперацый, пусціў пад адхон 9 варожых эшалонаў, падарваў 22 аўтамашыны, 4 масты. З верасня 1942 г. да мая 1943 г. Ф. Ф. Азміцель у савецкім тыле. З мая 1943 г. зноў на акупіраванай тэрыторыі Віцебскай і Мінскай абласцей, каман-



XXVI. *Забудова вуліцы Энергетыкаў.*



2566. *Помнік Ф. Ф. Азміцелю.*

дзір партызанскага атрада «Гром», партызанскай групы «Артур» НКДБ СССР. Партызаны здабывалі і перадавалі савецкаму камандаванню звесткі аб дыслакацыі варожых вайсковых часцей, размяшчэнні складоў, аэрадромаў, падрывалі вайсковыя эшалоны, аўтамашыны, масты на аўтамагістралі Масква — Мінск, выводзілі са строю падземны кабель сувязі «Фронт — Берлін», знішчылі больш за 2 тыс. нямецкіх салдат і афіцэраў. У чэрвені 1944 г. старшы лейтэнант Ф. Ф. Азміцель у час варожай блакады партызанскіх брыгад каля воз. Палік камандаваў штурмавой групай па прарыву акружэння. 15.6.1944 г. быў цяжка паранены і, каб не трапіць у палон, падарваў сябе гранатай. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.11.1944 г. Пахаваны ў в. Макаўе Барысаўскага р-на.

У 1977 г. на ўшанаванне памяці Ф. Ф. Азміцеля пастаўлена стэла з бронзавым барэльефным партрэтам героя.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Бессмертные имена.— Мн., 1979. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Падрэзы, Іванскі сельсавет**

**2567. СЕЛІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Валатоўка, Французскі курган. За 0,2 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Ула, на ўзгорку вышынёй 10 м. З поўдня і паўднёвага ўсходу абмежавана поплавам, з захаду — ракой. Памер 43×25 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Пры зачыстцы паўночна-заходняга краю пляцоўкі прасочаны культурны пласт 0,7 м. У ім знойдзены рэшткі ляпных гаршкоў, падпраўленых на ганчарным крузе, абпаленыя камяні (верагодна, агнішча). Датуецца 10 ст.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Т. С. Бубенька.*

**в. Палітаддзел, Іванскі сельсавет**

**2568. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Валатоўкі. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Барок, злева ад дарогі ў в. Трылесіна, у невялікім ляску на левым беразе р. Ула. 9 курганоў вышынёй 0,6—2 м, дыяметрам 6—8 м. Самы вялікі курган дыяметрам 15 м. Паміж насыпаў ёсць адзін жальнік вышынёй 0,6 м, дыяметрам 10 м (пераходнае пахаванне ад курганоў да сучасных магіл). З поўначы ён абкладзены 5 вялікімі камянямі, з астатніх бакоў захаваліся толькі сляды камянёў. Захаванасць курганоў добрая. Абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся. *В. Б. Караткевіч.*

**2569. СЯДЗІБА** (архіт.). Каля вёскі. Забудавана ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. Уключае сядзібны дом, флігель, службовыя і гаспадарчыя пабудовы, парк.

Сядзібны дом — манументальны двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з рытмам арачных аконных праёмаў. У яго архітэктуры выкарыстана цагляная муроўка, сродкамі якой былі выкананы і элементы дэкору. Аздабленне службовых і гаспадарчых пабудоў — крапоўкі, нішы, карнізы, філёнгі, ліштвы — таксама выканана цаглянай муроўкай.

Парк пейзажнага тыпу планіроўкі, падзелены на 2 зоны: ландшафтную (вакол сажалкі) і рэгулярную (вакол сядзібных пабудоў). У парку растуць пераважна дуб, елка, ліпа, вярба, клён, лістоўніца.



2569. *Сядзіба. Флігель.*



2569. *Сядзіба. Алея ў парку.*



2572. *Курганны могільнік.*

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва. *А. М. Кулагін.*

**в. Паршчэўшчына, Лукомскі сельсавет**

**2570. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны (21 чалавек), якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пачаевічы, цэнтр сельсавета**

**2571. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 52 воіны і партызаны, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 159-й і 215-й стралковых дывізій 5-й арміі 3-га Беларускага фронту і партызаны 2-й брыгады імя К. С. Заслонава, якія загінулі ў чэрвені 1944 г.

У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, у 1969 г. побач узведзена Сцяна памяці на ўшанаванне памяці 146 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў.

**2572. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. 7 курганоў вышынёй 0,9—2,65 м, дыяметрам 4—15 м. Насыпы пясчаныя, здзірванелыя. Выявіў у 1967 г. Г. В. Штыхаў, абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пуські, Кругліцкі сельсавет**

**2573. МАГІЛА МЛЯВАГА** (гіст.). На могілках. Партызан Млявы загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Руднае, Латыголіцкі сельсавет**

**2574. РАДЗІМА СУРЫНА** Марціна Акімавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. А. Сурын нарадзіўся 4.5.1908 г. ў сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1944 г. 16.8.1944 г. ў раёне в. Рудзе Літоўскай ССР варожая пяхота і танкі перайшлі ў контрнаступленне. Радавы М. А. Сурын падбіў 2 танкі і знішчыў 12 фашыстаў. На наступны дзень прыняў на сябе камандаванне ўзводам; пасля пераправы цераз р. Шашупе гранатамі падарваў кулямёт праціўніка, што садзейніча-

ла пераправе ўсяго ўзвода. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны працаваў у калгасе «Камунар» Крупскага р-на. Памёр 24.4.1963 г. Яго імем названа сярэдняя школа ў в. Латыголічы.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Рудніца, Лукомскі сельсавет**

**2575. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Царкоўка. За 0,2 км на захад ад вёскі, на левым беразе безназоўнага ручая, які ўпадае ў р. Лукомка, на высокім мысе. Пляцоўка авальная, памерам 20×38 м, выцягнута з поўначы на поўдзень. З паўднёвага і паўднёва-ўсходняга бакоў прасочаны вал вышынёй 0,5—0,7 м, шырынёй 3 м, побач — роў глыбінёй 0,3 м, шырынёй 2 м. Уваход на гарадзішча ў паўднёвай частцы. З паўночнага боку пляцоўка моцна аплыла. Раней тут была царква, ад якой захаваўся фундамент, цяпер гарадзішча занята могілкамі. Вядома з 1873 г., абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Т. С. Бубенька.*

**в. Рыжанкі, Антапольеўскі сельсавет**

**2576. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2576а.** Могільнік-1. За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Усвейка, у лесе, ва ўрочышчы Бор. 2 насыпы вышынёй 2,1 м, дыяметрам 10 і 12 м. Курганы добра захаваліся, зараслі лесам, каля іх асновы прасочаны раўкі глыбінёй 0,5 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2576б.** Могільнік-2. Мясцовая назва Французскія ці Напалеонаўскія магілы. За 3 км на поўнач ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Воранава, на правым беразе р. Усвейка. 3 насыпы вышынёй 2,5 м, дыяметрам 10—12 м. Курганы пашкоджаны ямамі, зараслі лесам. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Т. С. Бубенька.*

**в. Сімнавічы, Новазаранскі сельсавет**

**2577. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**2577а.** Могільнік. Мясцовая назва Валатоўкі. За 1 км на захад ад вёскі, на ўскрайку лесу, абапал дарогі на в. Стаўбцы, ва ўрочышчы Валатоўкі. 6 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам каля 15 м. Захаванасць добрая, за выключэннем 2 курганоў. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2577б.** Курган. За 2,5 км на захад ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Стаўбцы. Вышыня 1,3 м, дыяметр 10 м. Добра захаваўся, зарос лесам, вакол яго асновы прасочаны невялікі равок глыбінёй 0,3 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька.

*Т. С. Бубенька.*

**в. Слабодка, Антапольеўскі сельсавет**

**2578. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2578а.** Могільнік-1. За 1,5 км на захад ад вёскі, на беразе воз. Лукомскае. 106 курганоў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 6—11 м. Насыпаны з гліны. Выявіў у 1967 г. і даследаваў 12 насыпаў у 1967, 1969 і 1971 гг. Г. В. Штыхаў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены шкляныя пацеркі «лімонкі», скроневае кольца, пярсцёнак, гліняны посуд. Асаблівую цікавасць выклікае наяўнасць у адным кургане 6 гаршкоў (адзін ляпны і 5 ганчарных). Курганы насыпаны на месцы паселішча 6—8 стагоддзяў. Датуюцца 10 — пачаткам 11 ст., належалі крывічам.

**2578б.** Могільнік-2. За 1,7 км на захад ад вёскі, у лесе. 8 курганоў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 8—10 м. Выявіў і даследаваў у 1971 г. Г. В. Штыхаў. Раскапана 2 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане былі 2 нажы, баявая жалезная сякера «чакан». Датуюцца 10 — пачаткам 11 ст., належалі крывічам.

**2578в.** Могільнік-3. За 3 км на захад ад вёскі, на беразе Лукомскага воз. 30 курганоў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 6—10 м. Выявіў у 1967 г. і даследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Раскапана 6 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане 2 пахаванні (адно апушчанае ў насып). Каля асноўнага пахавання знойдзена 9 невялікіх бронзавых скроневых кольцаў, на пальцы правай рукі нябожчыка — пярсцёнак, каля пояса — фрагмент сярпа, каля шыі — 71 шкляная пацерка, а таксама сярэбраная падвеска, зробленая з англійскай манеты 10—11 стагоддзяў. Датуюцца 1-й паловай 11 ст., належалі крывічам.



2578. *Курганны могільнік-1.*



2578. *Курганны могільнік-1. План.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Исследования в Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970; яго ж. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Слідчаны Антапольеўскі сельсавет**

**2579. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 58 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — партызаны брыгады «Гроза», якія загінулі ў баях супраць карнікаў у сакавіку 1944 г. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стайчаўка (не існуе), Латыголіцкі сельсавет**

**2580. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Стайчаўка знаходзілася за 3 км на захад ад в. Замошша. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 26 жыхароў і спалілі вёску (9 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Старыя Лаўкі, Лукомскі сельсавет**

**2581. КУРГАН** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Вышыня 1,3 м, дыяметр 6 м. У 1981 г. абследавала Т. С. Бубенька.

**2582. СТАЯНКА** (археал.). На мысе левага берага р. Лукомка, на поўдзень ад вёскі. Выявіў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, даследаваў у 1967 г. І. М. Ціханенкаў, абследаваў у 1981 г. Э. А. Зайкоўскі. Раскапана 200 м² плошчы. Культурны пласт складаецца з светла-жоўтага зярністага пяску і цёмна-карычневага пясчанага супеску. Знойдзены крамянёвыя мікралітычныя скрабкі, наканечнікі стрэл, разцы, нажы і нажападобныя пласціны, укладышы, трапецападобныя прылады працы. Выяўлены 6 агнішчаў у выглядзе паглыбленых на 0,3—0,5 м у мацярык ям, запоўненых попельна-вугальнай масай. Кераміка 2 відаў: порыстая, дрэнна абпаленая з раслінным дамешкам у гліне і добра абпаленая з дамешкам кварцу і буйназярністага пяску ў гліне. Пасудзін з арнаментам толькі некалькі экземпляраў (наколы адступаючай палачкі, пракрэсленая лінія і ўвагнуты грабеньчык). Стаянка датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э. і адносіцца да неаліту.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі

археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Тихоненков И. М. Новые данные по каменному веку Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970. *Т. М. Каробушкіна.*

**в. Стаўбцы, Новазаранскі сельсавет**

**2583. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Валатоўкі. 45 курганоў вышынёй 0,6—2 м, дыяметрам 3—10 м. Некаторыя насыпы маюць раўкі глыбінёю да 0,4 м. Вялікія курганы пашкоджаны ямамі. Выявіў і абследаваў у 1969 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2584. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар баявой аперацыі партызан атрада В. С. Лявонава, якія 27.5.1942 г. разгромілі ў в. Стаўбцы карны атрад фашыстаў.

**в. Стражавічы, Лукомскі сельсавет**

**2585. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 48 воінаў і партызан. Сярод іх — партызаны брыгады «Граза», што загінулі ў кастрычніку 1943 г. ў баях супраць карнікаў каля вёсак Чарэя, Стражавічы, Белая Царква, і воіны 215-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тарантова, Альшанскі сельсавет**

**2586. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тоўпіна, Антапольеўскі сельсавет**

**2587. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Труханавічы, Кругліцкі сельсавет**

**2588. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Валатоўкі. За 0,7 км на поўнач ад вёскі, на тэрыторыі рамонтных майстэрняў калгаса «Прагрэс». 15 курганоў вышынёй 2—3 м, дыяметрам 10—12 м. Абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Трылесіна, Іванскі сельсавет**

**2589. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі (правы бераг р. Ула). 35 курганоў вышынёй 1,2—3 м, дыяметрам 10—15 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ухлё, Альшанскі сельсавет**

**2590. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны мірныя жыхары (21 чалавек), якіх 11.9.1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цяпіна, Празямлянскі сельсавет**

**2591. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны Чашніцкай брыгады («Дубава»), што загінулі ў ліпені 1943 г. пры разгроме фашысцкага гарнізона ў в. Цяпіна, і воіны 357-й стралковай дывізіі 43-й арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2592. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ЦЯПІНСКАГА** Васіля Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі гуманіст і радыкальна-рэфармацыйны дзеяч, друкар, прадаўжальнік гуманістычных, культурна-асветніцкіх і патрыятычных традыцый Ф. Скарыны В. М. Цяпінскі (Амельяновіч) нарадзіўся каля 1540 г. ў сям'і небагатага шляхціца. Жыццё і дзейнасць яго былі цесна звязаны з Беларуссю і Украінай. Каля 1580 г. ў заснаванай ім друкарні ў Цяпіне выдаў на беларускай мове «Евангелле». У прадмове да яго выступіў у абарону беларускага народа, яго культуры, роднай мовы ад феадальна-каталіцкай рэакцыі. В. М. Цяпінскі захапляўся гістарычным мінулым свайго народа, абураўся бяздзейнасцю духавенства і феадалаў у справе развіцця беларускай культуры. Першым з беларускіх асветнікаў 16 ст. В. М. Цяпінскі актыўна выступіў супраць паланізацыі краю. Заклікаў беларускі народ да адзінства, верыў, што толькі шляхам шырокай асветы і адукацыі на роднай мове можна пазбегнуць культурнага заняпаду. Прадмова В. М. Цяпінскага — адзін з помнікаў беларускай літаратуры апошняй трэці 16 ст. Захаваліся 2 няпоўныя экземпляры «Евангелля» (захоўваюцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына і ў бібліятэцы Акадэміі навук у Ленінградзе). Памёр В. М. Цяпінскі каля 1604 г.

*Літ.:* Довнар-Запольский М. В., В. Н. Тяпинский, переводчик Евангелия на белорусское наречие.— У яго кн.: Исследования и статьи. Киев, 1909, т. 1; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии.— Мн., 1962; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1.— Мн., 1968; 450 год беларускага кнігадрукавання.— Мн., 1968. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Чарэя, цэнтр сельсавета**

**2593. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 79 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 144-й стралковай дывізіі 5-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі 27.6.1944 г., і партызаны Багушэўскай брыгады, што загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У брацкай магіле пахаваны таксама партызаны брыгады М. П. Гудкова, якія загінулі пры абароне вёскі ў кастрычніку 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў са сцягам.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.

**2594. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пляцоўка памерам 80×40 м узвышаецца на 8 м над наваколльнай мясцовасцю. Уваход на гарадзішча з паўднёвага боку. Зараз пляцоўка пад могілкамі. Выявіў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1971 г. Г. В. Штыхаў, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2595. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар партызан Сенненскай брыгады (камандзір В. С. Лявонаў, камісар П. В. Сырцоў), якія ў снежні 1942 г. разграмілі ў вёсцы нямецкі гарнізон, знішчылі валасную ўправу і 2 прамысловыя прадпрыемствы.

**в. Ясяноўкі, Новазаранскі сельсавет**

**2596. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Лісіная Гара. За 3,2 км на захад ад вёскі, у лесе, на беразе безназоўнай рэчкі, на паўднёвым схіле ўзвышша. Пляцоўка роўная, памерам 42×49 м, выцягнута з захаду на ўсход, здзірванелая. Вышыня з паўночнага, усходняга і заходняга бакоў 15—18 м, з паўднёвага каля 30 м над поймай рэчкі. Схілы стромкія (45°). З паўднёвага боку абмежавана забалочанай поймай, з астатніх ўмацавана ровам глыбінёй 5—7 м, шырынёй 10—12 м, валам вышынёй 2.5—3 м, шырынёй 5 м. З заходняга боку на схіле гарадзішча прасочаны выступ шырынёй 3,5 м. Ён знаходзіцца ніжэй за пляцоўку ў заходняй частцы на 6 м, у паўночна-заходняй — на 8 м. Верагодна, гэта быў уваход на гарадзішча. Выявіў у 1956 г. М. М. Чарняўскі, абследавалі ў 1971 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт больш за 0,7 м. Раскопкі не праводзіліся. *Т. С. Бубенька.*




# ШАРКОЎШЧЫНСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і памятные месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## XXVII. ШАРКОЎШЧЫНА

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Дзісна, за 197 км на захад ад Віцебска. Чыгуначная станцыя на лініі Крулеўшчына — Друя. Вузел аўтамабільных дарог на Браслаў, Міёры, Глыбокае, Дзісну.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1503 г. як маёнтак Зяновічаў, пазней належаў Сапегам, Дамброўскім, Лапацінскім. У 1767 г. каля маёнтка ўзнікла мястэчка Новая Шаркоўшчына. З 1793 г. пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Дзісенскага павета Мінскай, з 1842 г.— Віленскай губерняў. У 2-й палавіне 19 ст. было больш за тысячу жыхароў, народнае вучылішча, піваварня, фельчарскі пункт. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Вілейскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі больш за 800 мірных жыхароў пасёлка. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (11.9. 1943 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (14.9. 1943 г.— 2.7.1944 г.). З 20.9.1944 г. цэнтр раёна Полацкай, з 8.1.1954 г.— Маладзечанскай, з 20.1.1960 г.— Віцебскай абласцей, з 1962 г. гарадскі пасёлак у Міёрскім р-не Віцебскай вобл., з 30.7.1966 г. цэнтр раёна.



XXVII. *Вуліца Маякоўскага. Фрагмент забудовы.*



XXVII. *Будынак раённай паліклінікі.*

Планіровачная структура сучаснага пасёлка лінейная, склалася да пачатку 20 ст. пры зліцці фальварка і 2 мястэчак — Старой і Новай Шаркоўшчыны. Чыгунка падзяліла пасёлак на 2 часткі — паўночную і паўднёвую. Паводле генплана, распрацаванага ў 1974 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, сялібная зона развіваецца ўздоўж р. Дзісна.

Адміністрацыйна-грамадскі і гандлёвы цэнтр гістарычна склаўся абапал р. Дзісна. Тут пабудаваны Дом Саветаў, Дом сувязі, Дом культуры, кінатэатр, камбінат бытавога абслугоўвання, аддзяленне Дзяржбанка, гастраном, універмаг, рэстаран, гасцініца, паліклініка. Жылая забудова складаецца з трох масіваў — паўночнага (паміж р. Янка і чыгункай), цэнтральнага (паміж чыгункай і Дзісной) і паўднёвага (на правым беразе Дзісны). У кожным масіве кампазіцыйнай воссю з'яўляецца вуліца, якая звязвае яго з цэнтрам і прамысловымі прадпрыемствамі. Галоўныя вуліцы пасёлка (Камсамольская, Маякоўскага, 17 Верасня, Кірава) цягнуцца ўздоўж Дзісны, забудоўваюцца муравальнымі дамамі. Прамысловыя прадпрыемствы: кансервава-агароднінасушыльны камбінат, хлебазавод, філіял Глыбоцкага малочнага завода, камбінат будаўнічых матэрыялаў, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія». У пасёлку сярэдняя, васьмігадовая, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 5 дашкольных устаноў, 2 бібліятэкі, бальніца і аграметэастанцыя. Выдаецца газета «Кліч Радзімы». Помнікі: на брацкай магіле 220 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, абеліск у гонар воінаў 44-й мотастралковай брыгады 1-га танкавага корпуса 1-га Прыбалтыйскага фронту, якія вызвалілі Шаркоўшчыну ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Збераглiся помнікі архітэктуры канца 19 ст.— царква і пачатку 20 ст.— Успенская царква.

Зона адпачынку — на берагах р. Дзісна.

*Літ.:* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии.— Витебск, 1896; Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния.— СПб., 1861. *У. В. Алісейчык, М. Б. Батвіннік.*

**2597. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Маякоўскага, у скверы. Пахаваны 211 воінаў і 9 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 44-й мотастралковай брыгады 1-га танкавага корпуса 1-га Прыбалтыйскага фронту, што загінулі 1.7.1944 г. пры вызваленні г. п. Шаркоўшчына. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2597. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2598. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. 17 Верасня.

Шаркоўшчына была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх акупантаў 1.7. 1944 г. воінамі 44-й мотастралковай брыгады (камандзір гвардыі палкоўнік А. І. Халаеў) 1-га танкавага корпуса 1-га Прыбалтыйскага фронту. У гонар вызвалення пасёлка ў 1965 г. пастаўлена стэла.

**2599. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). У парку на беразе р. Дзісна. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Цяпер тут размешчана медустанова.

Сядзібны дом — прамавугольны ў плане аднапавярховы аб'ём пад пакатым вальмавым дахам. На галоўным фасадзе асіметрычна размешчаны чатырохкалонны порцік з трохвугольным франтонам, на дваровым — выступае пяцігранны эркер. Пластыку фасадаў узбагачаюць нішы, ліштвы прамавугольных аконных праёмаў, прафіляваны антаблемент. У ін-



2599. *Сядзібны дом.*



2601. *Успенская царква.*

тэр'еры часткова захаваліся ляпныя разеткі і карнізы.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры неакласіцызму. *А. М. Кулагін.*

**2600. ЦАРКВА** (архіт.) У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. Мае чатырохчасткавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю: двух'ярусная званіца з шатровым верхам, бабінец, кубападобны асноўны аб'ём з пакатым чатырохсхільным дахам і паўцыркульная апсіда. У архітэктурна-дэкаратыўным афармленні збудавання выкарыстаны матывы старажытнарускага культавага дойлідства: кілепадобныя аркі, аркатура.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.



2601. *Успенская царква. Выгляд з боку апсіды.*

**2601. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне пасёлка, на беразе р. Дзісна. Пабудавана ў 1912 г. з дрэва.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя царквы чатырохчасткавая: бабінец са званіцай, прамежкавы і асноўны аб'ёмы, ва ўсходняй частцы — пяцігранная апсіда з прыбудовамі. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з васьміграннным светлавым барабанам, завершаным шатром з галоўкай. З шатра выступаюць невялікія вежы, якія навісаюць на кранштэйнах над 4 гранямі барабана. Зрубленая ў вугал званіца нязначна выступае з аб'ёму бабінца. У апрацоўцы сцен выкарыстана гарызантальная і вертыкальная шалёўка, аконныя праёмы абрамлены ўзорыстымі ліштвамі. Інтэр'ер зальны. Прамежкавы аб'ём, у якім вылучаны хоры, і алтарная частка адкрываюцца ў асноўны аб'ём арачнымі праёмамі. Пераход ад прамавугольнага асноўнага аб'ёму да васьміграннага барабана ажыццёўлены з дапамогай кансольных ветразяў і ўсечанай васьміграннай пірамідальнай устаўкі. Сцены гарызантальна ашаляваны, вокны з разным абрамленнем.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн». *У. В. Алісейчык.*

**в. Александрова, Шкунціцкі сельсавет**

**2602. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1959 г.

**в. Амбросенкі, Буйкаўскі сельсавет**

**2603. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Л. М. Даватара. На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Астраўляне, Буйкаўскі сельсавет**

**2604. РАДЗІМА БУЙКО** Аляксандра Міхайлавіча (гіст.).

Прафесійны рэвалюцыянер, савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч А. М. Буйко нарадзіўся ў 1885 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1904 г. З 1897 г. рабочы Пуцілаўскага завода ў Пецярбургу. Актыўны ўдзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. Член Пецярбургскага камітэта РСДРП з 1906 г., у 1907—09 гг. член яго выканаўчай камісіі. У 1908 г. ўдзельнічаў у V Усе-



2601. *Успенская царква. План.*



2601. *Успенская царква. Бакавы фасад.*



2601. *Успенская царква. Фрагмент інтэр'ера.*

расійскай партыйнай канферэнцыі. У сакавіку 1909 г. арыштаваны царскімі ўладамі і сасланы на вечнае пасяленне ў Сібір. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. намеснік старшыні Савета ў Верхняўдзінску (з 1934 г. Улан-Удэ), з студзеня 1918 г. старшыня Рэўтрыбунала Прыбайкалля. Пасля захопу Забайкалля белагвардзейцамі перабраўся ў Манголію, потым у Кітай. Адзін з кіраўнікоў разгрому войск Унгерна. У 1920 г. кіраўнік прамысловасці Амурскай вобл. У 1921 г. эмісар Далёкаўсходняй рэспублікі ў Прыбайкаллі, сакратар Далёкаўсходняга бюро ЦК РКП(б). З 1922 г. старшыня Народнага сходу Далёкаўсходняй рэспублікі, потым намеснік наркома гандлю РСФСР. У 1933—41 гг. намеснік галоўнага арбітра РСФСР. Аўтар кнігі «Шлях рабочага» (1934 г.)

А. М. Буйко памёр 30.1.1941 г. ў Маскве. *Л. І. Шэйко.*

**в. Белы Двор, Германавіцкі сельсавет**

**2605. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Більдзюгі, цэнтр сельсавета**

**2606. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 25 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Боўкалы, Шкунціцкі сельсавет**

**2607. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ільіча. На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. на 3 пастаментах устаноўлены скульптурныя выявы галавы жанчыны і 2 воінаў.

**хутар Бялкова (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2608. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Бялкова знаходзіўся за 1,5 км на паўночны ўсход ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі (13 чалавек, 3 двары). Пасля вайны не адрадзіўся.

**в. Варонка, Ёдскі сельсавет**

**2609. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане зруб пад двухсхільным дахам з шатровай вежай над галоўным фасадам. Над алтарнай часткай устаноўлена невялікая васьміgranная вежа з цыбулепадобнай галоўкай. Царква — помнік драўлянага дойлідства.



2607. *Помнік землякам.*

**в. Верацеі 1-я, Лужкоўскі сельсавет**

**2610. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Верацеі». На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**хутар Вязовец (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2611. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Вязовец знаходзіўся за 1,2 км на паўночны ўсход ад в. Трабаўшчына. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі (44 чалавекі, 7 двароў). Пасля вайны не адрадзіўся.

**в. Вялікае Сяло, Германавіцкі сельсавет**

**2612. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Германавічы, цэнтр сельсавета**

**2613. БЛАГАВЕШЧАНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1787 г. з цэглы.

Храм з 2 чацверыковымі пяціяруснымі вежамі, аднанефавы, з выцягнутай закругленай алтарнай апсідай і 2 сакрысціямі. Неф накрыты двухсхільным дахам, больш нізкая апсіда — самастойным шматсхільным. На галоўным фасадзе тарэц даху закрыты высокім вузкім франтонам з валютамі. Верхнія ярусы вежаў скразныя з увагнутымі гранямі. Уваход аформлены порцікам. Пластыку фасадаў узбагачаюць прафіляваныя карнізы, плоскія пілястры, лучковыя сандрыкі і круглыя праёмы.



2613. *Благавешчанскі касцёл. План.*

У інтэр'еры неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. Фрыз антаблемента аздоблены рэльефнымі выявамі галовак пуцці ў абрамленні галінак. Алтарная частка ўнутры пяціgranная. У нартэксе размешчаны крывалінейныя ў плане хоры, агароджа якіх упрыгожана ляпным геральдычным картушам. Убранне інтэр'ера дапаўняе размалёўка верхняй часткі сцен і падпружных арак, у якой пераважаюць раслінныя матывы.

Касцёл — помнік манументальнай архітэктуры, у якім спалучаны рысы барока і ранняга класіцызму.

*У. В. Алісейчык, Т. В. Габрусь.*

**2614. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне па-



2613. *Благавешчанскі касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*



2613. *Благавешчанскі касцёл. Выгляд з боку апсіды.*



2614. *Помнік землякам.*

мяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1964 г. пастаўлена стэла.

**2615. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на беразе р. Дзісна. Пабудавана ў канцы 18 ст. Мае рэгулярную планіроўку, уключае мураваны дом, парк і гаспадарчыя пабудовы. Цяпер тут размешчана школа.

Сядзібны дом — прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак. Другі паверх галоўнага фасада вылучаны трохчвэртнай каланадай тасканскага ордэра, 1-ы — рустоўкай. Фасады фланкіраваны рызалітамі з трохвугольнымі франтонамі. У адным з рызалітаў — уваход у будынак, які аформлены двухкалонным прыстаўным порцікам. Такі ж порцік упрыгожвае процілеглы рызаліт. Вось сіметрыі галоўнага фасада адзначана прамавугольным атыкам. Цэнтр дваровага фасада вылучаны рызалітам.

Планіроўка будынка анфіладная. Паверхі злучаны тарцовымі трохмаршавымі лесвіцамі. Першапачатковае ўпрыгожанне інтэр'ера не захавалася.

У парку прамавугольныя ўчасткі сада, партэр, сажалкі. Групы дрэў і крывалінейныя алеі складаюць пейзажную зону. Гаспадарчыя пабудовы размешчаны на паўночны ўсход ад дома, мураваныя, дэкарыраваны утрыраванымі элементамі архітэктуры класіцызму.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Maliszewski E. Przewodnik po gubernji Wileńskiej.— Warszawa, 1919; Hedemann O. Historia powiatu Brasławskiego.— Wilno, 1930; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

**2616. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на правым беразе р. Дзісна. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане зруб пад двухсхільным дахам. Над галоўным фасадам, вылучаным ганкам, узвышаецца вежа-званіца (васьмярык на чацверыку), якую завяршае фігурная галоўка. Алтарная частка ўвянчана цыбулепадобным купалам на гранёным барабане. Помнік народнага драўлянага дойлідства.




2615. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2—4 — гаспадарчыя пабудовы.*



2615. *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*



2615. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



2615. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*

**в. Грыгараўшчына, Ручайскі сельсавет**

**2617. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дворнава, Лужкоўскі сельсавет**

**2618. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Дзіўная, Лужкоўскі сельсавет**

**2619. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Гарадзец. У вёсцы, на мысе правага берага р. Мнюта. Пляцоўка трохвугольная, плошчай 1 га. Вышыня пляцоўкі над узроўнем вады ў межанны перыяд ракі 20 м. З паўночнага боку ўмацавана валам даўжынёй 100 м, вышынёй 5 м. З паўночна-ўсходняга боку каля



2616. *Царква.*

вала ўваход на гарадзішча. Выявіў ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938 г. А. і У. Галубовічы, у 1949 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1972 г. Я. Г. Звяруга. Даследаваў у 1973 г. і 1981 г. Г. В. Штыхаў. Зроблены раскопы ў паўночна-ўсходняй частцы гарадзішча на плошчы 52 м² і ў паўночна-заходняй — на плошчы 56 м². Культурны пласт 0,3—1,3 м. Знойдзены значная колькасць ляпнога посуду 8—9 стагоддзяў, трапецападобная бронзавая падвеска, каменная форма для адліўкі жаночых упрыгожанняў, крыцы, шлакі, пацерка-лімонка, 2 вялікія бронзавыя крыціцкія кольцы, пласціністы бранзалет з арнаментам, ганчарны посуд 10—11 стагоддзяў, а таксама кераміка 15—17 стагоддзяў. Амаль на мацерыку знойдзены фрагменты арабскага сярэбранага дырхема Абасідаў, цэлая манета Саманідаў.

Каля ўвахода даследаваны вал. У насыпе выяўлены 2 падсыпкі і рэшткі згарэлага бярвення, каля якога знойдзена ляпная кераміка.

Раскопкі пацвердзілі, што ў 8—9 стагоддзях тут знаходзілася ўмацаванае паселішча полацкіх крывічоў, росквіт якога прыпадае на 10 — 1-ю палавіну 11 ст. У 15—17 стагоддзях на гарадзішчы знаходзілася феадальная сядзіба.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978.

*Я. Г. Звяруга, Г. В. Штыхаў.*

**2620. КАПЛІЦА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы (ніжні цокальны ярус з валуноў і драблёнага чорнага граніту). Уяўляе сабой квадратнае ў плане трох'яруснае збудаванне (вышыня 10 м). Два ніжнія ярусы — глухія, грані верхняга прарэзаны паўцыркульнымі арачнымі праёмамі, вуглы фланкіраваны паўкалонамі. Завершана развітым карнізам і чатырохсхільным дахам.

Прыклад архітэктуры малых форм.



2620. *Капліца.*




2621. *Помнік на магіле савецкіх ваеннапалонных і партызанкі.*

**2621. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І ПАРТЫЗАНКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 9 савецкіх ваеннапалонных, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г., і партызанская разведчыца А. Д. Бельская.

А. Д. Бельская нарадзілася ў 1923 г. ў в. Арэхаўна Полацкага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны працавала настаўніцай ва Ушацкім р-не. З пачатку вайны актыўна ўключылася ў барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, была партызанскай разведчыцай. Распаўсюджвала сярод насельніцтва лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, збірала і перадавала партызанам звесткі аб дыслакацыі і перамяшчэнні варожых вайсковых часцей, вяла дыверсійную работу ў тыле ворага, узарвала фашысцкую камендатуру ў Глыбокім. У красавіку 1944 г., выконваючы чарговае заданне, натрапіла на варожую засаду. Цяжка параненую патрыётку гітлераўцы захапілі ў палон і пасля катаванняў загубілі яе.

У 1957 г. на магіле пастаўлены стэла, 2 абеліскі, побач гармата.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*Г. І. Дулеба.*

**2622. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 49 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**2623. СЯДЗІБА** (архіт.). На былым хутары Гарадзец. Сфарміравалася на працягу 18—19 стагоддзяў. Уключае палац, парк, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, капліцу. Цяпер на тэрыторыі сядзібы знаходзіцца адміністрацыйна-гаспадарчы цэнтр саўгаса «Гарадзец».

Кампазіцыйным цэнтрам сядзібы з'яўляецца палац. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы ў стылі класіцызму. У пачатку 20 ст. часткова перабудаваны, зменены аздабленне фаса-




2622. *Помнік землякам.*

даў і ўнутраная планіроўка, але захавана агульная кампазіцыя. Выцягнуты аднапавярховы будынак мае двухпавярховую цэнтральную частку, вылучаную чатырохкалонным порцікам. Фасады аздоблены прафіляванымі ліштвамі аконных праёмаў, на 2-м паверсе — дадаткова пілястрамі і сандрыкамі. У цэнтральнай частцы 1-га паверха размяшчаліся вестыбюлі




2623. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — капліца; 3 — бровар; 4 — вадзяны млын; 5 — стайня; 6 — дрэваапрацоўчая майстэрня; 7 — птушнік і свінарнік; 8 — кузня; 9 — флігель; 10 — кароўнік; 11 — склад; 12, 13 — іншыя гаспадарчыя пабудовы; 14 — уязная брама.*



2623. *Сядзіба. Уязная брама.*

і парадная зала з выхадам на тэрасу, на 2-м — жылыя пакоі. Бакавыя часткі мелі калідорную планіроўку.

Тры крутыя выгіны ракі Мнюта ўдала выкарыстаны для стварэння пейзажнай кампазіцыі парку і штучных сажалак. За ракой па восі палаца — паляна з маляўнічымі групамі бяроз. Парк абсаджаны дрэвамі ліставых парод з паасобнымі елкамі. У дэндралагічным складзе трапляюцца елка калючая блакітная, вярба белая ніцая, лістоўніца еўрапейская і дэкаратыўныя кусты — спірэя, шыпшына, бэз і інш.

Гаспадарчыя будынкі зроблены ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю, аздоблены цаглянымі лапаткамі, ліштвамі. Арнаментальныя ўстаўкі з бутавага каменю ўпрыгожваюць уязную браму.

Сядзіба — помнік палацава-паркавага будаўніцтва, адметны арганічнай сувяззю архітэктуры і ландшафту.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *У. В. Алісейчык.*

**в. Жукоўшчына, Станіслававоўскі сельсавет**

**2624. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 72 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Запруддзе, Ручайскі сельсавет**

**2625. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 9 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зорка, Германавіцкі сельсавет**

**2626. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**хутар Ігнацэва (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2627. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Ігнацэва знаходзіўся



2623. *Сядзіба. Палац.*



2632. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі. Пасля вайны не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Каўшэлева, Ручайскі сельсавет**

**2628. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. В. Фрунзе. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Корніца, Ёдскі сельсавет**

**2629. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Камінтэрн». На ўшанаванне памяці 66 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Куялеўшчына (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2630. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Куялеўшчына знаходзі-



2623. *Сядзіба. План 1-га паверха палаца.*

лася за 1,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (24 чалавекі, 6 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Лонскія, Ёдскі сельсавет**

**2631. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 15 воінаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 248 мірных жыхароў вёсак Жураўоўшчына, Куштаlі, Куялеўшчына, Свілы, Строна, Трабаўшчына і хутароў Бялкова, Вязовец, Ігнацэва, Падрэзаўшчына, Пазава, Станіслававa, Сухаборац, Сцяпаніха, Сялібка Ёдскага сельсавета, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі 24.11. 1942 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе і 3 стэлы.

**в. Лужкі, цэнтр сельсавета**

**2632. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку. Пахаваны 63 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2633. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). Каля плаціны на правым беразе р. Мнюта. Пабудаваны ў 19 — пачатку 20 ст. Прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак пад высокім двухсхільным дахам. Цокальны паверх з бутавага каменю. Прафіляваны карніз аддзяляе 2 верхнія паверхі, надбудаваныя ў 1912 г. з цэглы. Унутры на кожным паверсе вылучаны 3 памяшканні: вялікае цэнтральнае і 2 вузкія тарцовыя. Унізе заходняй часткі будынка (у камеры) устаноўлены 2 турбіны. У цэнтральным памяшканні цокальнага паверха змантыраваны механізмы перадачы і рэгулявання руху турбін. На 2-м паверсе устаноўлены жорны і прыстасаванні для сарціроўкі мукі. Адсюль па транспарцёры мука падаецца на 3-і паверх.

Млын — помнік прамысловай архітэктуры. *У. В. Алісейчык.*



2633. *Вадзяны млын.*



2633. *Вадзяны млын. План цокальнага паверха.*

**2634. МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1744—56 гг. з цэглы пры кляштары піяраў. Часткова перабудаваны ў 1843 г.

Касцёл двухвежавы, аднанефавы, з выцягнутай закругленай апсідай, да якой па баках прылягаюць сіметрычныя сакрысціі. У плане блізкі да квадрата неф накрыты двухсхільным дахам з атыкавымі франтонамі на тарцах. Больш нізкая алтарная апсіда мае самастойны шматсхільны дах. Чатырох'ярусныя чацверыковыя вежы пастаўлены пад вуглом да цэнтральнай плоскасці галоўнага фасада, які па гарызанталі падзелены прафіляванымі цягамі на 2 ярусы, а па вертыкалі члянёны шматлікімі плоскімі пілястрамі. Разнастайныя праёмы з лучковымі, паўцыркульнымі і фігурнымі арачнымі завяршэннямі маюць тонка прафіляваныя ляпныя абрамленні. Дэкаратыўнае вырашэнне ўзбагачаецца двухколернай тынкоўкай сцен і ордэрнай пластыкай. У інтэр'еры неф і апсіда перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Над уваходам вылучаны хоры. Сцены раскрапаваны паўкалонамі на высокіх пастаментах і з капітэлямі, скампанаванымі з лісця аканта, валют і галовак пуцці. Нішы акон, прасценкі, скляпенні ўпрыгожаны арнаментальнай размалёўкай.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока. Вызначаецца дынамічнасцю кампазіцыі і багаццем дэкаратыўнай пластыкі.

*Літ.:* Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem.— Wilno, 1932; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 5.— Warszawa, 1884; Encyklopedja koscielna... T. 19.— Warszawa, 1893.

*У. В. Алісейчык, Т. В. Габрусь.*



2634. *Міхайлаўскі касцёл. Разрэз.*



2634. *Міхайлаўскі касцёл. План.*



2634. *Міхайлаўскі касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*



2634. *Міхайлаўскі касцёл.*

**2635. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на вул.

Дзісенскай. Пабудавана ў 1794 г. з цэглы. У 1831 і 1885 гг. пашкоджана пажарам. У 1934 г. прыбудаваны бабінец і двух'ярусная званіца над ім.

Будынак прамавугольны ў плане з трохграннай алтарнай часткай. Сцены знадворку і знутры апрацаваны пілястрамі і завершаны карнізамі, якія плаўна агінаюць зрэзаныя вуглы апсіды. Аконныя праёмы арачныя, размешчаны ў верхняй частцы сцен, дэкарыраваны сандрыкамі. Асноўнае памяшканне зальнае, з плоскай драўлянай столлю. Над бабінцам хоры, якія адкрываюцца ў асноўнае памяшканне арачным лучковым праёмам.

Царква — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**в. Мішуты, Станіславоўскі сельсавет**

**2636. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 12 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Наваселле, Буйкаўскі сельсавет**

**2637. ПОМНІК ГАГАРЫНУ** Юрыю Аляксеевічу (маст.). За 0,5 км на ўсход ад будынка праўлення калгаса імя Ю. А. Гагарына. Пастаўлены ў 1971 г. (скульпт. А. Паўлючук; бронза, бетон; агульная вышыня помніка 3,5 м, бюста 0,9 м).

Бюст першага ў свеце касманаўта, Героя Савецкага Саюза Ю. А. Гагарына ўстаноўлены на складанапрафіляваным пастаменце, які ўверсе пераходзіць у прамавугольны. Стылабат помніка квадратны ў плане (3× ×3 м). Аўтар акцэнтуе ўвагу на пластыцы твару, падкрэслівае мужны і валявы характар героя. На пастаменце надпіс: «Ю. А. Гагарын».

Помнік вылучаецца прастатой кампазіцыйнага вырашэння, дакладным партрэтным падабенствам, праўдзівасцю вобраза. *М. М. Яніцкая.*



2635. *Царква Раства багародзіцы. Бакавы фасад.*



2635. *Царква Раства багародзіцы. План.*

**2638. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ю. А. Гагарына. На ўшанаванне памяці 7 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**хутар Падрэзаўшчына (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2639. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Падрэзаўшчына знаходзіўся за 3 км на поўдзень ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі. Пасля вайны не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**хутар Падсосна (не існуе), Ручайскі сельсавет**

**2640. РАДЗІМА МАШАРЫ** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Міхась (Міхаіл Антонавіч) Машара нарадзіўся 5.11. 1902 г. на хутары Падсосна (знаходзіўся за 1 км на поўдзень ад в. Ручай, з 1957 г. не існуе) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. У 1920 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. Удзельнік савецка-польскай вайны 1920 г., нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Працаваў інструктарам Беларускай сялянска-рабочай грамады, рэдактарам газеты «Наша воля». За рэвалюцыйную дзейнасць у 1927 г. быў арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, засуджаны і зняволены на 4 гады ў віленскую турму на Лукішках. Пасля вызвалення (верасень 1939 г.) Чырвонай Арміяй Заходняй Беларусі актыўна ўдзельнічаў у будаўніцтве новага жыцця. Быў дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі, які адбыўся ў Беластоку (28—30.10.1939 г.). Працаваў загадчыкам Шаркоўшчынскага райана. У Вялікую Айчынную вайну эвакуіраваўся ў савецкі тыл, працаваў у газеце «Савецкая Беларусь» і на радыё, пасля вайны — у рэдакцыях часопіса «Полымя» (1945—47 гг.) і «Настаўніцкай газеты» (1947—49 гг.).

М. Машара пачаў друкавацца ў 1927 г. Пісаў вершы, паэмы, п'есы, апавяданні, нарысы, раманы. Аўтар зборнікаў паэзіі «Малюнкі» (1928 г.), «На сонечны бераг!» (1934 г.), «Направесні» (1935 г.), «З-пад стрэх саламяных» (1937 г.), «Беларусі» (1944 г.), «Выбраная лірыка» (1945 г.), «Праз навальніцы» (1948 г.), «Урачыстасць» (1952 г.), «Мая азёрная краіна» (1962 г.), «Вершы» (1971 г.) і інш. Асобнымі кнігамі былі выдадзены ў Вільні паэмы «Вяселле» (1933 г.), «Смерць Кастуся Каліноўскага» (1934 г.) і «Мамчына горка» (1936 г.), п'есы «Вось тут і зразумей» (1933 г.), «Лёгкі хлеб» (1936 г.) і «Чорт з падпечча» (1938 г.).



2637. *Помнік Ю. А. Гагарыну.*

Напісаў раманы «Крэсы змагаюцца» (1966 г.), «Сонца за кратамі» (1968 г.), «Лукішкі» (1970 г.), «Ішоў дванцаты год» (1973 г.), «І прыйдзе час...» (1975 г.), кнігу ўспамінаў «Старонкі летапісу» (1975 г.), кнігі для дзяцей «Зязюльчыны слёзы» (1961 г.), «Зелянушка і Кракатушка» (1964 г.). Раманы «Крэсы змагаюцца», «Сонца за кратамі», «Лукішкі» і «Ішоў дванцаты год» перакладзены на рускую мову.

У сваіх творах М. А. Машара адлюстроўваў цяжкі лёс і барацьбу працоўных Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, услаўляў высакароднасць рэвалюцыйных ідэалаў, гераізм савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну, славіў дружбу народаў, савецкі лад жыцця, радасць стваральнай працы.

М. Машара памёр 7.6.1976 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963. *Г. І. Дулеба.*

**хутар Пазава (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2641. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Пазава знаходзіўся за 1,5 км на паўночны захад ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі (9 чалавек, 2 двары). Пасля вайны не адрадзіўся.

**в. Пілаты, Ручайскі сельсавет**

**2642. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзец. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,3 км налева ад дарогі Пагост — Шаркоўшчына. Пляцоўка авальнай формы, памерам 60×38 м. На паўночным, паўночна-заходнім і часткова паўночна-ўсходнім схілах гарадзішча ёсць тэраса да 5 м шырынёй. З паўднёвага і паўднёва-заходняга бакоў умацавана 2 равамі і 2 валамі. Глыбіня першага рова каля 1 м, другога — 0,6—0,7 м. Вышыня першага вала прыкладна 1 м, шырыня 4 м, вышыня другога — 0,6—0,7 м, шырыня 5 м. Абследаваў у 1972 г. Я. Г. Звяруга. Па ўсёй плошчы гарадзішча прасочваецца культурны пласт 0,5—0,6 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Пялікі, Станіславоўскі сельсавет**

**2643. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Энгельса. На ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Радзюкі, Дулінаўскі сельсавет**

**2644. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса імя Ф. Р. Маркава. На ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сасноўцы, Буйкаўскі сельсавет**

**2645. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сталіца, Германавіцкі сельсавет**

**2646. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Свабода». На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**хутар Станіслававa (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2647. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Станіслававa знаходзіўся за 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі. Пасля вайны не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Станіслававa, цэнтр сельсавета**

**2648. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Шлях Леніна». На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Строна (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2649. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Строна знаходзілася за 1 км на поўнач ад в. Кушталі. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (42 чалавекі, 4 двары). Пасля вайны не адрадзілася.

**хутар Сухаборац (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2650. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Сухаборац знаходзіўся за 2,5 км на поўнач ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі (29 чалавек, 3 двары). Пасля вайны не адрадзіўся.



2653. *Ільінская царква.*



2653. *Ільінская царква. План.*



2654. *Помнік землякам.*

**хутар Сцяпаніха (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2651. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Сцяпаніха знаходзіўся за 0,8 км на паўднёвы захад ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі (18 чалавек, 3 двары). Пасля вайны не адрадзіўся.

**хутар Сялібка (не існуе), Ёдскі сельсавет**

**2652. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Сялібка знаходзіўся за 2 км на паўднёвы захад ад в. Свілы. У лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі хутар разам з жыхарамі. Пасля вайны не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Шкунцікі, цэнтр сельсавета**

**2653. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1825 г. з цэглы як касцёл. З 2-й палавіны 19 ст. царква. Прамавугольны ў плане аднанефавы будынак з 2 рызніцамі і званіцай над бабінцам. Сцены па перыметры апрацаваны пілястрамі, з паўднёвага боку алтарнай часткі ўмацаваны масіўнымі контрфорсамі. Унутры памяшканне перакрыта драўляным скляпеннем. Царква — помнік манументальнага дойлідства.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Юзафова, Германавіцкі сельсавет**

**2654. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.




# ШУМІЛІНСКІ РАЁН

Сураўні
Казьяны
Роўнае
Мішневічы
Старыновічы
Сіроціна
Гаравыя
Філіпенкі
Обаль
Грудзінава
Слабада
Добрына
Мікіціха
ШУМІЛІНА
Лявонава
Пабеда
Светласельская
Мясаедава
Кардон
Язвіна
Дабея
Мікалаева
Бярэзніца
Амбросавічы
Баранавіцкія
Мішкавічы

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і месцы воінскай славы

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

 Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, валы, крэпасці, форты і інш.)

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

## XXVIII. ШУМІЛІНА

Гарадскі пасёлак, цэнтр Шумілінскага р-на Віцебскай вобл. Размешчаны за 40 км на паўночны захад ад Віцебска. Чыгуначная і аўтобусная станцыі на лініі Віцебск — Полацк.

У 19 ст. Шуміліна — вёска ў Ловажскай воласці Полацкага павета Віцебскай губерні. У 1866 г. ў вёсцы было 5 гаспадарак, 13 пабудоў, 38 жыхароў. Пасля пабудовы Рыга-Арлоўскай чыгункі (1886 г.) вёска вырасла ў мястэчка, пабудавана чыгуначная станцыя. Станцыйныя пабудовы і царква былі адзінымі буйнымі будынкамі. У пачатку 20 ст. ў Шуміліне 50 жыхароў, якім належала больш за 76 дзесяцін зямлі, у т. л. больш за 28 дзесяцін непрыдатнай. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. Шуміліна — цэнтр раёна (да 23.11.1961 г. Сіроцінскага) Віцебскай акругі (1924—30 гг.), з 1938 г.— Віцебскай вобласці, з 1938 г.— гарадскі пасёлак. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 23.6.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне ў час акупацыі дзейнічалі Сіроцінскія падпольныя райкомы КП(б)Б (кастрычнік 1941 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.7.1942 г.— 2.7.1944 г.). Пасля вызвалення Шуміліна — цэнтр раёна (з снежня 1962 г. да ліпеня 1966 г. ў складзе Віцебскага р-на).

Сучаснае Шуміліна падзяляецца чыгункай на 2 часткі — паўночную і паўднёвую; кварталы і вуліцы маюць рэгулярную планіроўку. У паўднёвай частцы пасёлка праходзіць аўтамагістраль, з захаду паўднёвай часткі — чыгуначная ветка на торфапрадпрыемства «Дабееўскі Мох». Новы грамадска-адміністрацыйны цэнтр паводле генплана 1968 г., распрацаванага Віцебскай абласной праектнай майстэрняй інстытута «Белдзяржпраект», фарміруецца пры зліцці вуліц Луначарскага і Кароткіна. Жыллёвая забудова сучаснага тыпу вядзецца ў раёнах вуліц Сіпко, Кароткіна, пасёлка торфапрадпрыемства «Дабееўскі Мох». У пасёлку ў 1950—70 гг. узведзены будынкі Дома Саветаў, Дома культуры, школы, універмага, бальніцы, райкома ЛКСМБ і інш. У 1977 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам гарадабудаўніцтва распрацаваны новы генеральны план забудовы Шуміліна.



**XXVIII.** *Уезд у гарадскі пасёлак Шуміліна з боку Віцебскай шашы.*



**XXVIII.** *Дом культуры.*

У пасёлку дзейнічаюць: віназавод, сыраробны завод, хлебазавод, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, лясніцтва, міжкалгасбуд. Працуюць 2 сярэднія, рабочай моладзі, завочная агульнаадукацыйная, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, клуб, 2 бібліятэкі і 2 бальніцы. Выдаецца газета «Герой працы». Зона адпачынку — каля воз. Ляскавічы.





**2655.** *Помнік на брацкай магіле партызан і ахвяр фашызму.*



**2656.** *Вайсковыя могілкі.*

*Літ.:* Список населенных мест Витебской губернии.— Витебск, 1906. *Г. І. Барышаў.*

**2655. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На тэрыторыі раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. Пахаваны партызаны і іх сем'і, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2656. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На вул. Кароткіна, у гарадскім парку. Пахаваны 63 савецкія воіны, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксей Емяльянавіч Талмачоў.

А. Е. Талмачоў нарадзіўся 1.5. 1925 г. ў с. Новая Свініна Краснатуранскага р-на Краснаярскага краю. Член КПСС з 1944 г. Вызначыўся ў баях за вызваленне Віцебскай вобл. 24.6.1944 г. гвардыі радавы А. Е. Талмачоў з групай разведчыкаў пераправіўся на левы бераг Заходняй Дзвіны каля в. Буй Бешанковіцкага р-на. Асабіста знішчыў кулямётны разлік, узяў у палон 4 гітлераўцаў. Загінуў у баі 24.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

У пасляваенныя гады на могілках пахавана яшчэ 7 чалавек, сярод іх — камісар партызанскай брыгады імя У. І. Леніна, сакратар Сіроцінскага падпольнага райкома КП(б)Б Віцебскай вобл. Антон Уладзіміравіч Сіпко.

У 1956 г. на могілках пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**2657. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МІНЧУГОВУ** Дзмітрыю Міхайлавічу (гіст.). Вул. Ленінская, на будынку школы № 1.

Герой Савецкага Саюза Дз. М. Мінчугоў нарадзіўся 8.11.1911 г. ў г. Ульянаўск у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Севастопальскую школу ваенных лётчыкаў. У Чырвонай Арміі з 1932 г. У Айчынную вайну на фронце з 1941 г. ў складзе ВПС Чарнаморскага флоту, камандзір авіяэскадрыллі, маёр. Зрабіў 118 баявых вылетаў, з іх 41 ноччу. Эскадрылля бамбіла караблі, камунікацыі войск і тэхніку праціўніка на Адэскім, Перакопскім, Севастопальскім і Каўказскім участках фронту, знішчыла 15 батарэй, 11 катэраў, 15 самалётаў, 250 чыгуначных вагонаў, 148 аўтамашын. Загінуў у баі 14.5. 1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.7.1943 г.

У 1969 г. на будынку школы, у якой ён вучыўся ў 1920—27 гг., устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**2658. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). Вул. Леніна, на будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар вайсковых часцей, якія вызвалілі Шуміліна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У час Беларускай наступальнай аперацыі 1944 г. 6-я гвардзейская і 43-я арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту нанеслі ўдар па абароне нямецка-фашысцкіх войск у напрамку Сіроціна, Шуміліна, Бешанковіч. Жорсткія баі разгарэліся за апорны пункт ворага — г. п. Шуміліна. 23.6.1944 г. часці 179-й і 306-й стралковых дывізій 1-га стралковага корпуса 43-й арміі пайшлі на штурм пасёлка. Група воінаў 935-га стралковага палка 306-й стралковай дывізіі, якая вяла баі на ўсходняй ускраіне, прарвалася ў Шуміліна і ўзняла на адным з дамоў чырвоны сцяг.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. В. Кірэйшын.*

**2659. РАДЗІМА АКУЦЫЁНКА** Пятра Антонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. А. Акуцыёнак нарадзіўся 25.3.1923 г. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У 1939 г. скончыў сярэднюю школу. Працаваў масавіком у раённым Доме культуры. У Айчынную вайну на фронце з 1942 г. У 1943 г. скончыў ваеннае вучылішча. У кастрычніку 1943 г. ўзвод пад камандаваннем малодшага лейтэнанта П. А. Акуцыёнка захапіў плацдарм на правым беразе Дняпра каля г. п. Лоеў і ўтрымліваў яго да падыходу галоўных сіл. Загінуў у баі 15.10. 1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Пахаваны ў Лоеве.

У 1962 г. на будынку школы № 1 (вул. Ленінская), дзе ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка, яго імем названы вуліцы ў Шуміліне і Лоеве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Амбросавічы, Светласельскі сельсавет**

**2660. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 143 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**в. Андрэева, Мікалаеўскі сельсавет**

**2661. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на захад ад вёскі. Пахаваны мірныя жыхары, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Баёўка, Светласельскі сельсавет**

**2662. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бачканы (не існуе), Мішневіцкі сельсавет**

**2663. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Бачканы знаходзілася за 1 км на паўночны ўсход ад в. Старыновічы. У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 30 жыхароў і знішчылі вёску (17 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Башні, Язвінскі сельсавет**

**2664. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Валатоўкі, Мішневіцкі сельсавет**

**2665. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 94 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — Герой Савецкага Саюза Аляксандр Сямёнавіч Расказаў.

А. С. Расказаў нарадзіўся 17.10. 1912 г. ў в. Ігнацьева Мурамскага р-на Уладзімірскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1941 г. Вызначыўся пры вызваленні Віцебшчыны. Камандзіру сапёрнага аддзялення асобнага батальёна 51-й стралковай дывізіі А. С. Расказаву з 2 воі-




**2660.** *Помнік землякам.*

намі 22.6.1944 г. была пастаўлена задача забяспечыць праходы ў мінным полі і драцяной загародзе ворага. Пры выкананні задання байцы былі заўважаны і абстраляны. Два сапёры загінулі. А. С. Расказаў пад агнём гітлераўцаў дапоўз да драцяной загароды і выбухам зрабіў праход. У час выбуху загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Войлавічы, Дабейскі сельсавет**

**2666. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскі склад. За 1,2 км на поўдзень ад вёскі. 15 насыпаў вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 15 м. Частка курганоў пашкоджана. Выявіў і абследаваў у 1959 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1981 г. А. М. Гутоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Галі, Мікалаеўскі сельсавет**

**2667. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, на ўзгорку. Пляцоўка дыяметрам 50 м з поўначы і поўдня ўмацавана ровам глыбінёй 1,8 м і валам вышынёй 3 м, з захаду і ўсходу мае стромкія схілы. Выявіў у 1951 г. Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1972 г. М. М. Чарняўскі, у 1981 г. Э. М. Зайкоўскі. На краях умацаванай пляцоўкі культурны пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2668. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Гарадок. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка круглая дыяметрам каля 60 м. Умацавана валам вышынёй 2—2,5 м, з паўночнага боку 2 валамі, ровам і дадатковым валам, які, відавочна, прыкрываўся ўваход на гарадзішча. Вышыня валоў 2—3 м, глыбіня рова 2 м. На гары, што знаходзіцца непадалёку, таксама ёсць сляды ўмацаванняў. Выявіў у 1955 г. Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.— (Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции; [т.] 1). *М. М. Чарняўскі.*

**в. Гарадзішча (злілася з в. Ставіца), Казьянскі сельсавет**

**2669. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пляцоўка прадаўгаватая, памерам 45×22 м. Умацавана кальцавым валам вышынёй 3 м і ровам глыбінёй 2 м. Гарадзішча зарасло лесам і хмызняком, узвышаецца над наваколлем на 7 м. Абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. А. М. Гутоўскі. Культурны пласт каля 0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.



2673. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Гародна, Светласельскі сельсавет**

**2670. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, паміж азёрамі Гародна і Сасна, на ўзгорку. Вышыня над узроўнем вады 16 м. Памер 100×30 м. Па краі пляцоўкі прасочваюцца рэшткі вала. Выявіў і абследаваў у 1981 г. А. М. Гутоўскі. У паўднёва-заходняй частцы ў агаленнях культурны пласт 0,4 м. У ім знойдзены рэшткі ляпной керамікі ранняга жалезнага веку. На паверхні трапляюцца абпаленыя камяні. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. М. Гутоўскі.*

**в. Дабея, цэнтр сельсавета**

**2671. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 244 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Далуева, Мікалаеўскі сельсавет**

**2672. МАГІЛА СКОБАВА** Паўла Фаміча (гіст.). На могілках. Партызан П. Ф. Скобаў загінуў у 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дворышча, Сіроцінскі сельсавет**

**2673. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 1415 воінаў 234-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў каля вёскі. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Добрына, Лаўжанскі сельсавет**

**2674. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла з гарэльефнай выявай воіна.

**в. Дражакі (не існуе), Казьянскі сельсавет**

**2675. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Дражакі знаходзілася за 3 км на паўднёвы захад ад в. Казьяны, справа ад дарогі на в. Роўнае. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 39 жыхароў і знішчылі вёску (12 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Жданоўка, Мішневіцкі сельсавет**

**2676. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 148 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1959 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Заазер'е (не існуе), Казьянскі сельсавет**

**2677. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Заазер'е знаходзілася за 5 км на захад ад в. Гульбішча. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 28 жыхароў і знішчылі вёску (12 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Залессе (не існуе), Лаўжанскі сельсавет**

**2678. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Залессе знаходзілася за 0,5 км на паўночны ўсход ад в. Абалонне. У студзені 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 43 жыхары і знішчылі вёску (11 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1971 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Зуёва (не існуе), Казьянскі сельсавет**

**2679. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Зуёва знаходзілася за 3,5 км на захад ад в. Роўнае. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 37 жыхароў і знішчылі вёску (16 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Ілава, Мікалаеўскі сельсавет**

**2680. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Французская гара. На ўсходняй ускраіне вёскі, справа ад дарогі на в. Кардон. Вышыня 4 м, дыяметр 8 м. Выявіў у 1965 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1981 г. А. М. Гутоўскі.

**в. Казьяны, Казьянскі сельсавет**

**2681. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 72 воіны і парты-



2685. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

заны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2682. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 184 савецкія воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**2683. РАДЗІМА ДАЎГЯЛЫ** Дзмітрыя Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, археограф, крыніцазнавец Дз. І. Даўгяла нарадзіўся 20.10.1868 г. ў сялянскай сям'і. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1894 г.). У 1894—1908 гг. працаваў настаўнікам гімназіі ў Віцебску, загадваў Віцебскім цэнтральным архівам старажытных актаў. З 1903 г. ў Віленскім цэнтральным архіве старажытных актаў, з 1913 г. старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі. У 1910—15 гг. рэдагаваў «Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества». З 1921 г. загадчык Магілёўскага архіва, з 1925 г. супрацоўнік Інбелкульта. З 1929 г. дырэктар бібліятэкі АН БССР, з 1937 г. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і выданні «Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў...» (т. 27—32), «Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі» (т. 31—35, 38—39), «Археаграфічнага зборніка дакументаў...» (т. 14). Рэдагаваў археаграфічныя выданні «Беларускі архіў», двухтомны зборнік «Матэрыялы да гісторыі мануфактуры на Беларусі». Адзін з складальнікаў «Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах» (т. 1, 1936 г.). Займаўся вывучэннем гісторыі гарадоў, мястэчак і замкаў Беларусі і Літвы, якім прысвяціў свае працы: «Лепель, павятовы горад Віцебскай губ.»; «Заслаўе на Міншчыне»; «Места Свіслацкае ў 1560 г.», «Стары Мінск» і інш. Памёр у красавіку 1942 г.

*Літ.:* Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода.— М., 1973. *А. С. Ліс.*




2687а. *Крэпасць Казьян. З гравюры сярэдзіны 16 стагоддзя.*

**в. Камачына, Мікалаеўскі сельсавет**

**2684. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На поўдзень ад вёскі, на правым беразе Заходняй Дзвіны. Пахаваны 200 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кардон, Мікалаеўскі сельсавет**

**2685. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 178 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Леанід Леанідавіч Вінер.

Л. Л. Вінер нарадзіўся 4.3.1922 г. ў г. Херсон. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з кастрычніка 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на Паўночна-Каўказскім, 1-м Прыбалтыйскім франтах. Вызначыўся 24.6.1944 г. на Віцебшчыне. Аддзяленне аўтаматчыкаў на чале з Л. Л. Вінерам пад агнём ворага каля в. Мікалаева пераправілася цераз Заходнюю Дзвіну, захапіла плацдарм. У час гэтай аперацыі Л. Л. Вінер загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**2686. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка праўлення калгаса «Дзвіна». На ўшанаванне памяці 160 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Красамай, Казьянскі сельсавет**

**2687. ЗАМЧЫШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2687а.** Замчышча. За 2 км на поўнач ад вёскі, у лукавіне правага берага р. Обаль. Вядома з 1837 г., абследавала ў 1972 г. В. Б. Караткевіч. На прадаўгаватым мысе, выцягнутым з захаду на ўсход, захаваліся рэшткі земляных валоў, якія абкружаюць пляцоўку трохвугольнай формы (50×120×110 м). З захаду відаць рэшткі рова. Тут у 1563 г. рускія войскі збудавалі ўмацаваны «гарадок» Казьян, які меў 3 вежы. У Лівонскую вайну ўмацаванне разбурана (1579 г.).

**2687б.** Курганны могільнік. Побач з замчышчам, у лесе, абапал палявой дарогі. Больш за 40 насыпаў вышынёй 1,5—4 м, дыяметрам 10—15 м, вакол падножжа — раўкі. Насыпы пясчаныя, параслі лесам. Размешчаны блізка адзін да аднаго. Абследавала ў 1972 г. В. Б. Караткевіч. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны.— Вильня, 1933; Сапунов А. Рисунки крепостей, построенных по повелению Ивана Грозного после завоевания Полоцка в 1563 г.— Полоцко-Витебская старина, 1912, в. 2; Коркунов М. Карта военных действий между русскими и поляками в 1579 году и тогдашние планы города Полоцка и окрестных крепостей.— СПб., 1837. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Куракі (злілася з в. Добрына), Лаўжанскі сельсавет**

**2688. ПОМНІК ВОІНАМ-АРТЫЛЕРЫСТАМ** (гіст.). На вул. С. М. Кароткіна. У 1981 г. ў гонар воінаў-артылерыстаў 6-й гвардзейскай і 43-й армій 1-га Прыбалтыйскага фронту, якія летам 1944 г. ўдзельнічалі ў вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пастаўлены помнік — гармата на пастаменце.

**2689. ПОМНІК КАРОТКІНУ** Сямёну Міхайлавічу (гіст.). У скверы насупраць будынка канторы саўгаса імя С. М. Кароткіна. Пастаўлены ў 1965 г.

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. С. М. Кароткін нарадзіўся 15.3.1903 г. ў в. Барсу-



2687б. *Курганны могільнік. Адзін з насыпаў.*



2689. *Помнік С. М. Кароткіну.*

кі Аршанскага р-на Віцебскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. У 1934 г. скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. З 1929 г. працаваў на савецкай, партыйнай і журналісцкай рабоце. Удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне 1939—40 гг. З 1940 г. працаваў сакратаром Сіроцінскага райкома КП(б)Б. З сакавіка 1942 г. ў партызанах, з чэрвеня 1942 г. камандзір Сіроцінскай партызанскай брыгады. Сакратар Сіроцінскага падпольнага райкома КП(б)Б (6.7.1942—6.10. 1942 гг.). Загінуў 6.10.1942 г. ў авіяцыйнай катастрофе. Імя С. М. Кароткіна было прысвоена партызанскай брыгадзе. Яго імя носіць саўгас у Шумілінскім р-не. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Лескавічы, Светласельскі сельсавет**

**2690. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На тэрыторыі санаторна-лясной школы. Пахаваны 68 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1950 г. на могілках пастаўлены абеліск.



2692. *Сергіеўская царква.*

**2691. КУРГАН** (археал.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа ад дарогі ў г. п. Шуміліна. Даўжыня 8 м, шырыня 4,5 м, вышыня 0,9 м. Абследавалі ў 1959 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. А. М. Гутоўскі.

**2692. СЕРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы і бутавага каменю. Мае трохчасткавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю: двух'ярусная званіца, асноўны аб'ём, трохгранная апсіда з бакавымі алтарамі. Рознавялікія аб'ёмы са шматграннымі пакрыццямі ствараюць ярусную прасторава развітую кампазіцыю. Фасады дэкарыраваны аркатурай, калонамі, нішамі і іншымі элементамі старажытнарускага дойлідства.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Лявонава, цэнтр сельсавета**

**2693. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 163 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2694. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА, ПОМНІК ВОІНАМ-ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 2,7 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Корнае. Тут у чэрвені 1942 г. на базе ініцыятыўнай групы В. Р. Несцерава і з жыхароў Клётчынскага, Баранькаўскага і Мішкавіцкага сельсаветаў Сіроцінскага р-на (цяпер тэрыторыя Шумілінскага р-на) быў створаны партызанскі атрад імя К. Я. Варашылава (3-і). Да лютага 1943 г. дзейнічаў у складзе Сіроцінскай партызанскай брыгады, з лютага 1943 г.— у брыгадзе імя У. І. Леніна [камандзір атрада В. Р. Несцераў, камісары А. У. Сіпко (чэрвень 1942 г.— люты 1943 г.), Б. К. Маркіянаў (красавік 1943 г.— чэрвень 1944 г.)].

У 1977 г. на месцы дыслакацыі атрада створаны мемарыяльны комплекс. На невялікім пагорку ўзвышаецца 9-метровы бетонны стылізаваны сцяг з рэльефнымі выявамі галоў воіна і партызана. Злева ад яго — стэла з бутавага каменю. На ёй умацаваны металічныя пласцінкі з імёнамі 216 жыхароў вёсак Лявонаўскага сельсавета, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Побач са стэлай бетонны знак, які сімвалізуе партызанскі касцёр. Да помніка вядзе бетонная сцежка, у пачатку якой пастаўлена стэла. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Макаўе (злілася з в. Мішкавічы), Мікалаеўскі сельсавет**

**2695. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны.



2693. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Мікалаева, цэнтр сельсавета**

**2696. МАГІЛА ГУБАЙДУЛІНА** Аюты Сафуйдзінавіча (гіст.). На тэрыторыі школы. Савецкі воін А. Ю. Губайдулін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2697. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 79 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына з дзіцем.



2697. *Помнік землякам.*

**в. Мікіціха, цэнтр Лаўжанскага сельсавета**

**2698. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 633 воіны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2699. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы, не атынкавана. Аснову аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі складае прадаўгаваты прамавугольны ў плане аб'ём з трыма рознавялікімі гранёнымі апсідамі, накрыты двухсхільным дахам. Над галоўным фасадам выступае ярусная цыліндрычная вежа. Бакавыя фасады расчлянёны 5 аркамі, у кожнай па 2 вузкія арачныя праёмы і 1 люкарне. Фасады дэкарыраваны шматлікімі абломамі і профілямі. На чырвоным фоне сцен кантрастна вылучаюцца пабеленыя дэталі архітэктурнага дэкору (абломы і профілі, руст, ліштвы).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Мішкавічы, Мікалаеўскі сельсавет**

**2700. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 67 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

**2701. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 147 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — двухфігурная кампазіцыя: воіны са сцягам.

**в. Мішневічы, цэнтр сельсавета**

**2702. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2703. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 352 савецкія воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на могілках пастаўлены абеліск.



**2699.** *Успенская царква.*



**2707.** *Дом, дзе жыла З. М. Партнова.*




**2707.** *Мемарыяльная дошка на доме, дзе жыла З. М. Партнова.*

**2704. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 184 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мясаедава, Лаўжанскі сельсавет**

**2705. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 72 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**г. п. Обаль, цэнтр пасялковага Савета**

**2706. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры гарадскога пасёлка, на тэрыторыі школы. Пахаваны 272 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Мікалай Васілевіч Дунічаў.

М. В. Дунічаў нарадзіўся 25.2. 1919 г. ў г. Плаўск Тульскай вобл. ў сям'і рабочых. У Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Вызначыўся ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Сіроцінскага р-на. 25.6.1944 г. ў час разведкі каля в. Захарава знішчыў варожую самаходную гармату з разлікам. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск, у 1969 г. побач з абеліскам — стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. П. Кобля.*

**2707. ДОМ, ДЗЕ ЖЫЛА ПАРТНОВА** Зінаіда Мартынаўна (гіст.). Вул. Азолінай, 1.

Удзельнік камсамольскага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза З. М. Партнова нарадзілася 20.2.1926 г. ў Ленінградзе ў сям'і служачых. У 1941 г. ў час летніх канікул прыехала ў в. Зуі (злілася з г. п. Обаль), дзе яе застала Вялікая Айчынная вайна. У час нямецка-фашысцкай акупацыі член камсамольскага камітэта Обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі «Юныя мсціўцы», удзельніца баявой аперацыі, у выніку якой было знішчана каля 100 гітлераўцаў. Пасля правалу падпольнай арганізацыі — разведчыца партызанскага атрада імя К. Я. Варашылава брыгады імя У. І. Леніна. У снежні 1943 г. была накіравана ў в. Масцішча для высвятлення прычыны правалу падпольнай арганізацыі. Калі З. М. Партнова выканала заданне і вярталася ў атрад, натрапіла на засаду, была схоплена гітлераўцамі. На допыце застрэліла нямецкага афіцэра. Юную патрыётку завезлі ў в. Баравуха і ў студзені 1944 г. закатавалі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.7.1958 г.

У 1969 г. на доме, дзе ў 1941—43 гг. жыла З. М. Партнова, устаноўлена мемарыяльная дошка. Імем патрыёткі названа вуліца ў Ленінградзе, яе імя прысвоена школе ў г. п. Обаль, многім піянерскім атрадам і дружынам школ Беларусі і іншых рэспублік, цеплаходу.

*Літ.:* Аблова Р. Т. Это было в Белоруссии.— М., 1957; Память сердца.— Мн., 1973; Николаев В. Н., Щербаков А. Д. Когда смерть не страшна.— М., 1958; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Смирнов В. И. Зина Портнова.— М., 1980. *М. В. Кірэйшын.*

**2708. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 мірных жыхароў, якіх 2.6.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2709. МАГІЛА ВЯДЗЕНКІ** Віктара Антонавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза В. А. Вядзенка нарадзіўся 29.10.1910 г. ў с. Вісунск Беразнегаватскага р-на Мікалаеўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся ў баях за чыгуначную станцыю

Обаль Сіроцінскага р-на. Стралковая рота пад камандаваннем гвардыі лейтэнанта В. А. Вядзенкі 25.6.1944 г. першай уварвалася на станцыю і захапіла яе. У гэтых баях рота адбіла 5 контратак ворага. В. А. Вядзенка асабіста знішчыў 13 нямецкіх аўтаматчыкаў і 2 афіцэраў. Загінуў у баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. П. Кобля.*

**2710. МАГІЛА ЛУЗГІНЫХ** Марыі і Антаніны (гіст.). На могілках. Пахаваны члены Обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі «Юныя мсціўцы» сёстры М. і А. Лузгіны. У час нямецка-фашысцкай акупацыі раёна падпольшчыцы збіралі звесткі аб дыслакацыі войск ворага, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, савецкія перыядычныя выданні. 19.8. 1942 г. па даносу правакатара сёстры былі арыштаваны і пасля жорсткіх катаванняў расстраляны.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2711. ПОМНІК ДАЎМАНУ** Ансу Эрнеставічу (гіст., маст.). На вул. Піянерскай, каля школы. Пастаўлены ў 1969 г.

Актыўны дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Латвіі, герой Грамадзянскай вайны А. Э. Даўман нарадзіўся 14.11. 1885 г. на хутары Крэйпі Рыжскага павета ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1904 г. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. З 1914 г. на франтах 1-й сусветнай вайны. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. член Нарвенскага Савета, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі старшыня Нарвенскага ВРК. У час наступлення нямецкіх войск у лютым — сакавіку 1918 г. камандзір Нарвенскага партызанскага атрада, камісар Гатчынскай дывізіі. Удзельнік вызвалення Латвіі ад нямецкіх і белагвардзейскіх войск, быў членам РВС арміі Савецкай Латвіі. У жніўні — кастрычніку 1919 г. ўзначальваў абарону Дзвінскага ўмацаванага раёна. З кастрычніка 1919 г. член РВС 16-й арміі на Беларусі. З чэрвеня 1920 г. камандзір 10-й стралковай дывізіі, якая вызваляла ад войск буржуазнай Польшчы Чэрвень, Пухавічы, Клецк, Бярозу, Кобрын, Брэст.



2710. *Помнік на магіле Марыі і Антаніны Лузгіных.*



2711. *Помнік А. Э. Даўману.*

Загінуў у Брэсце 2.8.1920 г. Пахаваны ў Мінску ў Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Барысаве, Нарве, імя А. Э. Даўмана прысвоена торфапрадпрыемству ў Шумілінскім р-не.

Помнік А. Э. Даўману (скульпт. В. Доўнар; бетон; вышыня бюста 1,1 м, прафіляванага пастамента 2 м) пастаўлены ў 1969 г. Трактоўка вобраза абагульненая. Бюст быццам выразаны з суцэльнага каменю. Дэталі адзення (будзёнаўка, каўнер шчыльна зашпіленага шыняля) падкрэсліваюць характэрныя прыкметы часоў Грамадзянскай вайны, нагадваюць гераічныя дні барацьбы за Савецкую ўладу. Галоўная ўвага канцэнтруецца на суровым твары, які ўдала перадае партрэтнае падабенства героя. Асіметрычна трактаваныя, наўмысна буйныя, рэзкія застылыя зрэзы з'яўляюцца кантрастным фонам спакойнай пластыкі твару. У скульптуры адчуваецца стрыманая гармонія аб'ёмаў, выразнасць кампазіцыйнай задумы.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. П. Кобля, М. М. Яніцкая.*

**2712. ПОМНІК У ГОНАР ОБАЛЬСКАГА КАМСАМОЛЬСКАГА ПАДПОЛЛЯ** (гіст., маст.). У Вялікую Айчынную вайну з пачатку 1942 г. да жніўня 1943 г. дзейнічала Обальская падпольная камсамольская арганізацыя «Юныя мсціўцы» (каля 40 чалавек). Створана па ініцыятыве Сіроцінскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ з камсамольцаў і моладзі пасёлка Обаль, вёсак Ушалы, Зуі, Масціпіча, Ферма.

У чэрвені 1942 г. падпольшчыкамі быў выбраны камсамольскі камітэт: Е. С. Зянькова (сакратар), М. С. Дзяменцьева, У. І. Езавітаў, І. В. Езавітаў, Я. Я. Езавітаў, М. П. Лузгіна, З. М. Партнова, Н. А. Азоліна, В. М. Шашкова. Дзейнасцю «Юных мсціўцаў» кіравалі Сіроцінскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. За час існавання арганізацыі камсамольцы правялі 21 дыверсію: узарвалі вадакачку, 3 матавозы, пусцілі пад адхон некалькі эшалонаў, спалілі льнозавод, некалькі мастоў, знішчылі каля 10 аўтамашын. Падпольшчыкі здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, звесткі аб дыслакацыі варожых войск, вялі агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро. Летам 1943 г. арганізацыя налічвала 38 чалавек і была падзелена на 3 групы: Обальскую, Масціпчанскую, Ушальскую.

Гітлераўцы рабілі ўсё магчымае, каб натрапіць на след падпольшчыкаў. У жніўні 1942 г. яны арыштавалі і пасля катаванняў расстралялі А. П. і М. П. Лузгіных, потым —



2712. *Помнік у гонар Обальскага камсамольскага падполля.*

Н. М. Давыдаву. 26.8.1943 г. па даносу правакатара частка падпольшчыкаў была арыштавана і вывезена ў г. п. Шуміліна. Пасля жорсткіх катаванняў камсамольцаў перавезлі ў Баравуху (каля Полацка). Тут 5 лістапада былі расстраляны У. І. і Я. Я. Езавітавы, Ф. Ф. Слышанкоў, М. П. Аляксееў, Дз. С. і М. С. Хрыбценкі, 6 лістапада — Н. А. Азоліна, З. Дз. Лузгіна і маці Е. С. Зяньковай Марфа Аляксандраўна. Пазней загінулі М. С. і Н. С. Дзяменцьевы, З. М. Партнова, В. М. Шашкова. Падпольшчыкі, якія пазбеглі арышту, змагаліся ў партызанскіх атрадах да канца вайны. За адвагу і гераізм, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, многія падпольшчыкі камсамольскай арганізацыі «Юныя мсціўцы» ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, Е. С. Зяньковай і З. М. Партновай прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1968 г. ў г. п. Обаль, справа ад шашы Гарадок — Невель, у гонар падпольшчыкаў пастаўлены помнік (скульпт. Я. Печкін; бетон; вышыня 6 м) — стэла няправільнай формы, на якой размешчаны чатырохфігурны рэльеф з профільнымі выявамі юнакоў і дзяўчат. Разнастайныя адценні драматычных перажыванняў, рашучы і гнеўны выраз твараў перададзены выразнай лініяй. Вобразная кампазіцыя падкрэслівае сілу духу савецкай моладзі, якая стала на шлях барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1965 г. ў г. п. Обаль створаны музей камсамольскай славы.

*Літ.:* Аблова Р. Т. Это было в Белоруссии.— М., 1957; В памяти народной.— Мн., 1969.

*М. В. Кірэйшын, Л. Г. Лапцэвіч.*

**2713. РАДЗІМА ВЫШАЛЕСКАГА** Сяргея Мікалаевіча (гіст.).

Савецкі вучоны-эпізаатолаг, акадэмік АН БССР (з 1928 г.), ганаровы член УАСГНІЛ (з 1956 г.), заслужаны дзеяч навукі РСФСР (з 1940 г.) С. М. Вышалескі нарадзіўся 20.10.1874 г. У 1889 г. скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут. Да 1906 г. працаваў земскім ветэрынарным урачом, з 1906 г.— у вышэйшых навучальных установах і навукова-даследчых інстытутах. У 1928—30 гг. загадчык кафедры эпізааталогіі Віцебскага ветэрынарнага інстытута і адначасова дырэктар Беларускага дзяржаўнага ветэрынарна-бактэрыялагічнага інстытута ў Віцебску. У 1931—34 гг. працаваў у Казанскім і Маскоўскім навукова-даследчых ветэрынарных інстытутах, з 1934 г. прафесар Маскоўскага зоаветэрынарнага інстытута. Распрацаваў методыку прыгатавання проціязвавых вакцын, абгрунтаваў метад камбінаваных прышчэпак супраць сібірскай язвы, выявіў прыроду чумы, распрацаваў пытанні дыягностыкі туберкулёзу і бруцэлёзу жывёл, выявіў узбуджальніка інфекцыйнага энцэфаламіэліту коней, атрымаў вакцыну супраць паратыфу цялят. Асноўныя працы: «Вакцыны сібірскай язвы і супрацьсібіраязвавая сываратка» (1911 г.), «Прыватная эпізаагалогія» (2 выд., 1948 г.; Дзяржаўная прэмія СССР 1941 г.), «Прычыны паяўлення заразных хвароб жывёл» (2 выд., 1959 г.), «Выбраныя творы» (1977 г.).

Выбіраўся членам ЦВК БССР у 1929—1930 гг. Памёр 14.1.1958 г.

Устаноўлены Залаты медаль імя С. М. Вышалескага, які прысуджаецца УАСГНІЛ раз у 3 гады за выдатныя навуковыя работы і адкрыцці ў галіне агульнай і прыватнай эпізаагалогіі, стыпендыя яго імя для студэнтаў Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Імя С. М. Вышалескага прысвоена Беларускаму НДІ эксперыментальнай ветэрынарыі і Архангельскай абласной ветэрынарнай лабараторыі.

*Літ.:* Калугин В. И. Академик С. Н. Вышелесский.— М., 1954.

*Г. П. Кобля.*

**2714. СЯДЗІБА** (архіт., гіст.). У цэнтральнай частцы пасёлка, на высокім правым беразе р. Обаль. Забудавана ў 1-й палавіне 19 ст. Уключае жылы дом і парк. Цяпер тут знаходзіцца інтэрнат завода керамічных вырабаў.

Сядзібны дом — прамавугольны ў плане двухпавярховы мураваны будынак з вальмавым дахам. Галоўны ўваход вылучаны чатырохкалонным порцікам дарычнага ордэра з вялікім паўцыркульным праёмам на тымпане франтона. Калонам порціка адпавядаюць пілястры на фасаднай плоскасці. Неглыбокія бакавыя рызаліты руставаны і завершаны фрызам з трыгліфамі. З боку парку дом мае высокі цокальны паверх, над высунутай аркадай якога — цэнтральны калонны порцік. Над галоўным уваходам балкон на фігурных кранштэйнах з металічнай агароджай. Перад парадным уваходам 2 скульптуры львоў. Цэнтральнае месца ў інтэр'еры займаюць шырокі вестыбюль і парадная зала. На 2-м паверсе былі размешчаны жылыя пакоі. Гаспадарчыя памяшканні вынесены ў цокальны паверх. Пачатковая планіроўка дома некалькі зменена ў час рамонту ў 1905—07 гг.

Галоўным паўночным фасадам будынак выходзіць на невялікую плошчу з газонам. За домам, на беразе ракі, невялікі пейзажны парк, да якога ад тарцоў будынка вядуць шырокія мураваныя пліты-прыступкі. Маляўнічая ліпавая алея паўкругам апяразвае парк. Кампазіцыйны цэнтр парку — шырокі лужок з групамі дрэў ліСцевых парод (бяроза, ліпа, ясень) і астраўкамі кустоў.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму.

З 1920 г. ў сядзібным доме была школа. У 1938—41 гг. у ёй вучылася адважная партызанка-разведчыца А. П. Сураўнёва, закатаваная фашыстамі ў маі 1944 г. У гады Вялікай Айчыннай вайны на акупіраванай тэрыторыі Шумілінскага р-на з пачатку 1942 г. да жніўня 1943 г. дзейнічала Обальская падпольная камсамольская арганізацыя «Юныя мсціўцы», асноўную частку якой складалі вучні Обальскай школы.

У 1958 г. на будынку ў гонар былых вучняў-падпольшчыкаў устаноўлена мемарыяльная дошка, у 1969 г.— мемарыяльная дошка А. П. Сураўнёвай.

*Літ.:* Алексеев Л. В. По Западной Двине и Днепру в Белоруссии.— М., 1974.

*А. А. Міцянін.*

**в. Пабеда, Лаўжанскі сельсавет**

**2715. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 17 жыхароў в. Лоўжа, якіх 15.11.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Падмішнеўе, Сіроцінскі сельсавет**

**2716. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 160 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2714.** *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



**2714.** *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

